# Гарады і вёскі Беларусі

## Гомельская вобласць

кніга

II



энцыклапедыя

НАЦЫЯНАЛЬНАЯ АКАДЭМІЯ НАВУК БЕЛАРУСІ
ІНСТЫТУТ МАСТАЦТВАЗНАЎСТВА, ЭТНАГРАФІІ І ФАЛЬКЛОРУ
ВЫДАВЕЦТВА «БЕЛАРУСКАЯ ЭНЦЫКЛАПЕДЫЯ»
ІМЯ ПЕТРУСЯ БРОЎКІ

# ГОМЕЛЬСКАЯ ВОБЛАСЦЬ

## кніга
## II




Мінск
«БЕЛАРУСКАЯ ЭНЦЫКЛАПЕДЫЯ»
2005

УДК 908(476.2)
ББК 63.3 (4Беи)
Г20

Аўтар *С.В.Марцэлей*



Выпуск выдання ажыццёўлены па заказу і пры фінансавай падтрымцы Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь

Г 20 **Гарады і вёскі Беларусі:** Энцыклапедыя. Т. 2, кн. 2. Гомельская вобласць / С.В.Марцэлеў; Рэдкал.: Г.П.Пашкоў (гал. рэд.) і інш. — Мн.: БелЭн, 2005. — 520 с.: іл.

ISBN 985-11-0330-6.
ISBN 985-11-0302-0.

Шматтомнае энцыклапедычнае выданне, у якім на падставе навейшых архіўных і інш. крыніц адлюстраваны гісторыя і сучасны эканамічны і культурны стан усіх адміністрацыйна-тэрытарыяльных адзінак Беларусі: 6 абласцей, 118 раёнаў, а таксама ўсіх населеных пунктаў кожнага раёна, уключаючы і тыя, якія зараз перасталі існаваць. Другі том выдання прысвечаны населеным пунктам 10 раёнаў Гомельскай вобласці.

**УДК 908 (476.2)**
**ББК 63.3 (4Беи)**

**ISBN 985-11-0330-6 (т. 2, кн. 2)**
**ISBN 985-11-0302-0**



# ЛЕЛЬЧЫЦКІ РАЁН

Утвораны 17.7.1924 г. Размешчаны на ПдЗ Гомельскай вобл. Да 26.7.1930 г. і з 21.6.1935 г. да 20.2.1938 г. ў Мазырскай, з 20.2.1938 г. ў Палескай акругах, з 8.1.1954 г. ў Гомельскай вобл. 17.4.1962 г. да раёна далучаны Букчанскі, Дзяржынскі і Тонежскі сельсаветы ліквідаванага Тураўскага р-на. 25.12.1962 г. раён ліквідаваны, 6.1.1965 г. адноўлены. Цэнтр раёна — г.п. Лельчыцы. Уключае пасялковы і 13 сельскіх саветаў: Астражанскі, Бараўскі, Буйнавіцкі, Букчанскі, Глушкавіцкі, Грабянёўскі, Дзяржынскі, Дуброўскі, Мілашавіцкі, Сіманіцкі, Стадоліцкі, Тонежскі, Ударненскі; 76 населеных пунктаў. Плошча 3223 км$^2$, насельніцтва (без г.п. Лельчыцы) 28,9 тыс. чал. (2004 г.). У сувязі з радыяцыйным забруджаннем пасля катастрофы на Чарнобыльскай АЭС на працягу 1991—97 гг. 210 сямей (496 жыхароў) пераселены ў чыстыя месцы. На Пд мяжуе з Ровенскай і Житомірскай абласцямі Украіны, на У — з Ельскім і Мазырскім, на Пн — з Петрыкаўскім і Жыткавіцкім р-намі Гомельскай вобл., на З — са Столінскім р-нам Брэсцкай вобл. Тэрыторыя пераважна раўнінная. Многа балот і забалочаных участкаў. Цэнтр. і ўсх. часткі раёна ўзвышаныя. Частку тэрыторыі займае Нацыянальны парк «Прыпяцкі» (да 1996 Прыпяцкі ландшафтна-гідралагічны запаведнік) і Букчанскі біялагічны журавінны заказнік. Карысныя выкапні: 6 радовішчаў торфу з агульнымі запасамі 87,9 млн. т, 4 невялікія радовішчы цагельнай сыравіны — 266 м$^3$. Рэкі — Убарць з прытокам Балотніца, Каросцінка, Свінавод, Сцвіга, Плаў. Глебы сельгасугоддзяў дзярнова-падзолістыя, дзярнова-падзолістыя забалочаныя, дзярнова-балотныя, тарфяна-балотныя, алювіяльныя і інш. З мінеральных глеб 10,4% суглінкавых, 37,6% супясчаных, 52% пясчаных. Пад лесам 69% тэрыторыі раёна. Прадпрыемствы: агароднінасушыльны і пладова-агароднінны з-ды, маслазавод, камбінат быт. абслугоўвання, камбінат буд. матэрыялаў, 3 цагель-





*Лельчыцкі краявід.*

*Урочышча Вясліднае.*



*Раённы краязнаўчы музей у г.п. Лельчыцы. Фрагмент экспазіцыі.*

ныя з-ды, 2 лясгасы, раённыя аб'яднанні «Сельгастэхніка» і «Сельгасхімія». Пад с.-г. угоддзямі 16% тэрыторыі раёна. Асушана 18,9 тыс. га балот і забалочаных зямель. 19 калгасаў, 3 саўгасы. Праходзяць аўтадарогі Лельчыцы—Мазыр, Лельчыцы—Тураў і інш. Дзейнічаюць 17 сярэдніх, 11 дзевяцігадовых, 10 пач. школ, 25 дашкольных і 32 клубныя ўстановы, 34 масавыя б-кі, 209 спарт. збудаванняў, 122 магазіны, 5 бальніц, 22 фельч.-акушэрскія пункты.

**ЛЕЛЬЧЫЦЫ** — гар. пасёлак, цэнтр Лельчыцкага с/с і Лельчыцкага р-на, за 215 км ад Гомеля, 67 км ад чыг. ст. Ельск (на лініі Калінкавічы—Оўруч), 363 км ад Мінска, на левым беразе р. Убарць (прыток р. Прыпяць). Аўтадарогамі злучаны з Мазыром, Туравам, Глушкавічамі. 9,0 тыс. жыхароў (2004 г.).

Вядомы з 16 ст. як сяленне Мазырскага пав. ў Кіеўскім, з 1569 г. ў Мінскім ваяв. ВКЛ. З 1651 г. сяло ва Уборскай вол. Пінскага пав. Дзейнічала царква, апекуном якой быў віленскі біскуп Е.Тышкевіч. У царкве захоўваліся дакументы 1776 г. аб фінансавай падтрымцы яе віленскім біскупам кн. Масальскім. Працяглы час Лельчыцы належалі Віленскаму епіскапату і графу Салагубу. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1795 г. 64 двары. У 1854 г. 361 жыхар, дзейнічалі Свята-Троіцкая царква, яўр. малітоўная школа. У 1874 г. граф Тышкевіч меў у Лельчыцах і наваколлі 32 986 дзес. зямлі, 6 вадзяных млыноў, карчму. У 1884 г. адкрыта нар. вучылішча, якое ў 1922 г. пераўтворана ў 7-гадовую, а пазней — у сярэднюю школу. У 1886 г. цэнтр воласці, у склад яе ўваходзілі 25 сяленняў з 432 дварамі (17.7.1924 воласць ліквідавана, тэр. ўключана ў Мазырскую акругу). У 1892 г. пабудаваны новы драўляны будынак царквы. Паводле перапісу 1897 г. 164 двары, 897 жыхароў, малітоўная школа, фельчарскі пункт, млын, царква, нар. вучылішча, паштовае аддз., хлебазапасны магазін, 2 крамы, сінагога, карчма. Побач размяшчаўся аднайменны фальварак. У 1908 г. 170 двароў, 1216 жыхароў, у 1917 г. ў сяле 1506, у фальварку — 18 жыхароў. У 1909 г. пабудаваны драўляны касцёл. 3.2.1918 г. да пач. 1919 г. акупіраваны герм. войскамі, з сак. да ліп. 1920 г. — польскімі. У 1925 г. 279 двароў. З 20.8.1924 г. цэнтр Лельчыцка-



*Забудова вул. Савецкай у г.п. Лельчыцы.*



*Мастацкая размалёўка на дрэве з г.п. Лельчыцы.*





*Свята-Троіцкая царква ў г.п. Лельчыцы.*

*Касцёл Дзевы Марыі з Фацімы ў г.п. Лельчыцы.*

га с/с і Лельчыцкага р-на Мазырскай (да 26.7.1930 і з 21.6.1935 да 20.2.1938) акругі, з 20.2.1938 г. Палескай, з 8.1.1954 г. Гомельскай абласцей. У пач. 1930-х г. 2 населеныя пункты: Вялікія Лельчыцы і Малыя Лельчыцы. Мелася таварыства саматужнікаў (у 1926 — 65 чал.). Былі арганізаваны калгасы «Чырвоны барэц» і «Чырвоны араты». З 1932 г. працавала МТС. У 1934 г. дзейнічалі маслазавод, паравы млын, лесапільня, 2 цагельні, ганчарня, кравецкая, шавецкая і дрэваапрацоўчая майстэрні, хлебапякарня, 2 кузні, МТС і яе майстэрні. Вузкакалейная чыгунка звязвала Лельчыцы са ст. Буйнавічы. З 15.7.1935 г. мястэчка, з 27.9.1938 г. гар. пасёлак. У Вял. Айч. вайну на тэр. раёна дзейнічалі знішчальны батальён (камандзір Г.П.Лішафаеў). З ліку мабілізаваных у Лельчыцкім і Ельскім раёнах сфарміраваўся 407-ы артыл. полк. Пасля баёў 3—4.9.1941 г. фашысты занялі пасёлак, але былі блакіраваны і хутка пакінулі яго. З 23.9.1941 г. да 23.1.1944 г. акупіраваны ням. войскамі, якія загубілі тут 685 жыхароў Лельчыц і 750 жыхароў з інш. месц, спалілі гар. пасёлак. З канца жніўня 1941 г. да 15.5.1942 г. дзейнічала падпольная група (кіраўнік М.В.Кудзін). Падпольшчыкі былі раскрыты акупантамі і закатаваны. У ноч на 26.11.1942 г. партыз. злучэнне С.А.Каўпака (Шалыгінскі і Пуцілаўскі партыз. атрады) з удзелам мясц. партызан разграмілі варожы гарнізон, разбілі 2 бронемашыны, электрастанцыю, вузел сувязі, узарвалі 2 масты праз р. Убарць, вызвалілі каля 100 сав. грамадзян, над якімі акупанты рыхтавалі расправу. У 1962—65 гг. у складзе Мазырскага р-на, з 1965 г. зноў цэнтр Лельчыцкага р-на. У 1978 г. Беларускі дзярж. навукова-даследчы і праектны інстытут горадабудаўніцтва распрацаваў генеральны план, які прадугледжваў далейшае развіццё гар. пасёлка. Забудова





*Гасцініца «Убарць» у г.п. Лельчыцы.*

*Жылыя дамы па вул. Заходняй у г.п. Лельчыцы.*



*Помнік на брацкай магіле членаў аператыўнай групы ЦК ВЛКСМ, лётчыкаў і партызана ў г.п. Лельчыцы.*

квартальная, пераважна аднапавярховая, сядзібнага тыпу. У цэнтр. частцы ўзведзены 2—4-павярховыя дамы. У цэнтры, каля плошчы, размешчаны адміністрацыйныя і культ.-асветныя ўстановы, магазіны. Працуюць хлебазавод, маслазавод, вытв. ўчастак Калінкавіцкага вінна-кансервавага з-да, агароднінасушыльны з-д, камбінаты буд. матэрыялаў і быт. абслугоўвання насельніцтва, раённыя аб'яднанні «Аграпрамтэхніка» і «Сельгасхімія», хлебакамбінат, вузлы паштовай і электрычнай сувязі, ветстанцыя, аграхімлабараторыя, геалагічная экспедыцыя, лясгас, леспрамгас, гідраметэастанцыя. Дзейнічаюць 2 сярэднія, дзіцячая спартыўная і муз. школы, 5 дзіцячых садоў, Дом школьнікаў, краязнаўчы музей (створаны ў 1989), раённы Дом культуры, кінатэатр, 2 масавыя б-кі, школа мастацтваў, санэпідстанцыя, б-ца, аптэка. Цэнтр калгаса імя У.І.Леніна. Працуе мясц. радыёвяшчанне, выходзіць раённая газ. «Светлае жыццё» (з сак. 1931). Радзіма балетмайстра В.В.Варановіча, кампазітара У.В.Журовіча, рэжысёра М.Я.Коласа, ген.-м. А.А.Нікіціна, бел. вучоных К.І.Слабажанінай, А.Е.Лісейчыкава.

**АЛЬХОВАЯ** — вёска ў Грабянёўскім с/с, за 15 км на ПнУ ад Лельчыц, 75 км ад чыг. ст. Ельск (на лініі Калінкавічы—Оўруч), 175 км ад Гомеля, на 3 меліярацыйныя каналы, злучаныя са Жмурненскім каналам, цераз яго з р. Убарць (прыток р. Прыпяць), вакол лес. Транспартныя сувязі па мясцовай, потым аўтадарозе Лельчыцы—Валаўск. 7 гаспадарак, 10 жыхароў (2004 г.).

Паводле пісьмовых крыніц вядома з 19 ст. як сяленне ў Буйнавіцкай вол. Мазырскага пав. Мінскай губ. Паводле перапісу 1897 г. 16 двароў, 106 жыхароў. У 1908 г. хутар Альховая Старая (13 двароў, 51 жыхар) і хутар Альховая Новая (2 двары, 15 жыхароў). У 1921 г. 24 двары, 137 жыхароў. У 1940 г. 38 двароў, 162 жыхары. У Вял. Айч. вайну ў чэрв. 1943 г. ням. акупанты спалілі вёску і загубілі 3 жыхары. Паводле перапісу 1959 г. 123 жыхары. У складзе саўгаса імя І.У.Мічурына (цэнтр — в. Грабяні). Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ і забудаванай пераважна двухбакова драўлянымі сял. сядзібамі.

**АСТРАЖАНКА** — вёска, цэнтр Астражанскага с/с, за 37 км на ПнУ ад Лельчыц, 60 км ад чыг. ст. Мазыр (на лініі Лунінец—Гомель), 204 км ад Гомеля. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Лельчыцы—Мазыр. 183 гаспадаркі, 433 жыхары (2004 г.).

Паводле пісьмовых крыніц вядома з 18 ст. як сяло ў Мазырскім пав. Мінскага ваяв., у валоданні езуітаў, казны, а ў 1777 г. прададзена біскупу віленскаму І.Масальскаму. У 1779 г. пабудавана Свята-Пакроўская драўляная царква. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1795 г. 37 двароў. У 1866 г. 40 двароў, 269 жыхароў, царква. У 1873 г. ў вёсках Астражанка і Асавец граф Тышкевіч меў 45 780 дзес. зямлі, 4 карчмы, 6 млыноў. У 1885 г. 350 жыхароў. У 1887 г. ўзведзены новы драўляны будынак царквы. Дзейнічала царк.-прыходская школа. Паводле перапісу 1897 г. сяло (81 двор, 459 жыхароў, царква, хлебазапасны магазін, карчма) і сядзіба (2 двары, 25 жыхароў). Апрача земляробства вяскоўцы займаліся бандарным промыслам. У 1908 г.

613 жыхароў. У 1916 г. пачаў дзейнічаць тэлеграф і паштовы аддзел. У 1917 г. 722 жыхары, у 1921 г. 152 двары, 789 жыхароў. З 20.8.1924 г. цэнтр Астражанскага с/с Лельчыцкага, з 25.12.1962 г. Мазырскага, з 6.1.1965 г. зноў Лельчыцкага раёнаў Мазырскай (да 26.7.1930 і з 21.6. 1935 да 20.2.1938) акругі, з 20.2.1938 г. Палескай, з 8.1.1954 г. Гомельскай абласцей. У 1929 г. арганізаваны калгас «Чырвоная зорка», працавалі паравы млын і кузня. У 1940 г. 190 двароў, 820 жыхароў. У Вял. Айч. вайну ў ліст. 1942 г. ням. акупанты спалілі 189 двароў і загубілі 71 жыхара. У баях каля вёскі загінулі 54 воіны (пахаваны ў брацкай магіле на могілках). Вызвалена 23.1.1944 г. часцямі Сав. Арміі і партызанамі Лельчыцкай партыз. брыгады. На франтах і ў партыз. барацьбе загінулі 60 вяскоўцаў, у памяць аб якіх у 1975 г. ў цэнтры вёскі пастаўлена скульптура воіна. Паводле перапісу 1959 г. 1919 жыхароў. Цэнтр калгаса «Мірны». Размешчаны лясніцтва, сярэдняя школа, Дом культуры, б-ка, дзіцячы сад, б-ца, аддз. сувязі. Планіровачна складаецца з крывалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ, да якой з У і З далучаюцца 2 прамалінейныя вуліцы. Забудова двухбаковая, пераважна драўляная, сядзібнага тыпу. Радзіма аднаго з кіраўнікоў партыз. руху на Палессі ў Вял. Айч. вайну К.М.Дамброўскага (камандзір Лельчыцкай партыз. брыгады) і бел. пісьменніка М.Ф.Капыловіча.

**АСЯНСКОЕ** — вёска ў Бараўскім с/с, за 6 км на ПдЗ ад Лельчыц, 51 км ад чыг. ст. Мазыр (на лініі Калінкавічы—Оўруч), 183 км ад Гомеля, на аўтадарозе Лельчыцы—Глушкавічы, вакол лес, побач цячэ р. Убарць (прыток р. Прыпяць). 31 гаспадарка, 62 жыхары (2004 г.).

За 1,5 км на Пн ад вёскі, на пясчаным узгоне, выяўлена селішча жал. веку і эпохі Кіеўскай Русі. Паводле пісьмовых крыніц вёска вядома з 19 ст. як сяленне ў Лельчыцкай вол. Мазырскага пав. Мінскай губ. Паводле перапісу 1897 г. 20 двароў, 127 жыхароў. У 1917 г. 189 жыхароў. У 1925 г. 39 двароў. У 1930 г. арганізаваны калгас «КІМ», працавала кузня. У 1940 г. 42 двары, 136 жыхароў. У Вял. Айч. вайну ў ліп. 1943 г. ням. акупанты спалілі вёску і загубілі 25 жыхароў. На вясковых могілках пахаваны 2 сав. воіны і 10 партызан, якія загінулі ў баях супраць акупантаў. Паводле перапісу 1959 г. 169 жыхароў. У складзе калгаса імя М.І.Калініна (цэнтр — в. Маркоўскае). Планіровачна складаецца з 2 зігзагападобных вуліц, арыентаваных адна з ПдЗ на ПнУ, другая — амаль шыротная, злучаных на З каля аўтадарогі. Забудавана пераважна аднабакова драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**БАРАВОЕ** — вёска, цэнтр Бараўскага с/с, за 24 км на ПдЗ ад Лельчыц, 63 км ад чыг. ст. Мазыр (на лініі Калінкавічы—Оўруч), 239 км ад Гомеля, на аўтадарозе Лельчыцы—Глушкавічы, на Пд цячэ р. Літоша (прыток р. Убарць), на З і У мяжуе з лесам. 412 гаспадарак, 1114 жыхароў (2004 г.).

Паводле пісьмовых крыніц вядома з 16 ст. як сяло ў Мазырскім пав. Мінскага ваяв. ВКЛ. Доўгі час было ва ўладанні Віленскай капітулы, а затым графа Салагуба і памешчыка Вагнера. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1795 г. 25 двароў, у 1816 г. 29 двароў, 154 жыхары. Цэнтр аднайменнага маёнтка памешчыка Агаркава, які ў 1862 г. валодаў тут 428 дзес. зямлі. У 1865 г. ў зах. частцы вёскі ўзведзена драўляная царква. Да яе асноўнага ў плане зруба ў 1881 г. прыбудавана званіца. У 1885 г. 204 жыхары, млын. Па-



*Набіўныя дываны і карціны з в. Баравое.*





*Дом культуры ў в. Баравое.*

*Царква Успення Божай Маці ў в. Баравое.*

водле перапісу 1897 г. 68 двароў, 539 жыхароў, у Тонежскай вол. Мазырскага пав. Мінскай губ. Дзейнічалі царква, хлебазапасны магазін, вадзяны млын. У 1908 г. 108 двароў, 742 жыхары. У 1910 г. адкрыта школа, якая месцілася ў наёмнай сял. хаце. У 1917 г. 871 жыхар. З 20.8. 1924 г. да 22.12.1959 г. і з 1988 г. цэнтр Бараўскага с/с Лельчыцкага р-на Мазырскай (да 26.7.1930 і з 21.6.1935 да 20.2.1938) акругі, з 20.2.1938 г. Палескай, з 8.1.1954 г. Гомельскай абл. У 1925 г. 192 двары. У 1929 г. арганізаваны калгас «12 гадоў Кастрычніцкай рэвалюцыі», працавала кузня. У 1940 г. 252 двары, 1256 жыхароў. У Вял. Айч. вайну ў вер. 1943 г. ням. карнікі спалілі вёску і загубілі 33 жыхары. На вясковых могілках пахаваны 3 сав. воіны і 4 партызаны, якія загінулі ў баях супраць акупантаў. Паводле перапісу 1959 г. 1200 жыхароў. Цэнтр калгаса «Звязда». Размешчаны лясніцтва Мілашавіцкага лясгаса, участак Ельскага леспрамгаса, сярэдняя школа, Дом культуры, б-ка, фельч.-акушэрскі пункт, дзіцячы сад, аддз. сувязі, 4 магазіны. Планіровачна складаецца з амаль прамалінейнай шыротнай вуліцы, да якой з паўн. боку далучаюцца працяглая дугападобная вуліца і завулак. Забудавана двухбакова драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. У крас. 1999 г. ўзведзены новы будынак царквы.

**БУДА ЛЕЛЬЧЫЦКАЯ** — вёска ў Лельчыцкім с/с, за 5 км на Пн ад Лельчыц, 70 км ад чыг. ст. Ельск (на лініі Калінкавічы—Оўруч), 182 км ад Гомеля, на Пд, З і Пн меліярацыйныя каналы, у ліку якіх Канава Слепча, злучаныя з р. Убарць (прыток р. Прыпяць), на ПнЗ — урочышча Камень, на У — урочышча Бярэзавец. Побач аўтадарога Лельчыцы—Мазыр. 149 гаспадарак, 433 жыхары (2004 г.).

Паводле пісьмовых крыніц вядома з 19 ст. як вёска ў Лельчыцкай вол. Мазырскага пав. Мінскай губ. У 1834 г. в. Буда, 19 двароў. Паводле перапісу 1897 г. 49 двароў, 303 жыхары. У 1908 г. 54 двары, 359 жыхароў. У 1917 г. 508 жыхароў. У 1925 г. 89 двароў. У 1929 г. арганізаваны калгас. У 1940 г. 145 двароў. У Вял. Айч. вайну ў крас. 1943 г. ням. акупанты спалілі вёску і загубілі 15 жыхароў. На франтах і ў партыз. барацьбе загінулі 49 вяскоўцаў, памяць аб якіх ушаноўвае скульптура воіна, пастаўленая ў 1967 г. ў цэнтры вёскі. Паводле перапісу 1959 г. 653 жыхары. У складзе эксперыментальнай базы «Убарць» (цэнтр — в. Ліпляны). Размешчаны 9-гадовая школа, б-ка, фельч.-акушэрскі пункт, клуб. Планіровачна складаецца з 2 выгнутых вуліц з невялікімі адгалінаваннямі забудовы на З, Пд і Пн. Забудова двухбаковая, шчыльная, пераважна драўляная.

**БУДА-САФІЕЎКА** — вёска ў Буйнавіцкім с/с, за 28 км на ПнУ ад Лельчыц, 39 км ад чыг. ст. Ельск (на лініі Калінкавічы—Оўруч), 187 км ад Гомеля, на аўтадарозе Лельчыцы—Мазыр. 159 гаспадарак, 390 жыхароў (2004 г.).

Паводле пісьмовых крыніц вядома з 19 ст. як сяленне ў Буйнавіцкай вол. Мазырскага пав. Мінскай губ. Паводле пе-

рапісу 1897 г. 3 двары, 30 жыхароў. У 1908 г. 47 двароў, 301 жыхар, адкрыта земская школа, якая размясцілася ў наёмнай сял. хаце. У ліп. 1914 г. салдатамі запасной часці быў разгромлены маёнтак памешчыка Маркварта, што знаходзіўся побач. У 1917 г. ў вёсцы 473, у маёнтку 53 жыхары. У 1921 г. 107 двароў, 560 жыхароў. У 1930 г. арганізаваны калгас «Парыжская Камуна», працавала кузня. У 1940 г. 195 двароў. У Вял. Айч. вайну ў ліп. 1943 г. ням. акупанты спалілі вёску і загубілі 25 жыхароў. У баях за вызваленне вёскі загінулі 67 воінаў (пахаваны ў брацкай магіле за 1,5 км на Пд ад вёскі). У гады вайны загінулі 103 вяскоўцы, у памяць аб якіх у 1956 г. ў цэнтры вёскі пастаўлена скульптура воіна. Паводле перапісу 1959 г. 550 жыхароў. Цэнтр калгаса «Світанне». Размешчаны 9-гадовая школа, клуб, б-ка, аддз. сувязі, магазін, фельч.-акушэрскі пункт. Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ, да якой з Пд далучаюцца 2 і з Пн кароткая прамалінейная вуліцы. На ПнУ — адасоблены ўчастак забудовы. Будынкі пераважна драўляныя, сядзібнага тыпу.

**БУЙНАВІЧЫ** — вёска, цэнтр Буйнавіцкага с/с, за 22 км на ПнУ ад Лельчыц, 45 км ад чыг. ст. Ельск (на лініі Калінкавічы—Оўруч), 198 км ад Гомеля, на аўтадарозе Лельчыцы—Мазыр. 458 гаспадарак, 1039 жыхароў (2004 г.).

У 19 ст. каля вёскі была вял. група курганоў, якія сведчылі аб засяленні тутэйшых мясцін у глыбокай старажытнасці. Паводле пісьмовых крыніц вядома з 16 ст. як сяленне ў Мазырскім пав. Мінскага ваяводства ВКЛ, уласнасць царквы. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. Дзейнічала Раства-Багародзіцкая царква (у царк. архіве захоўваліся метрычныя кнігі з 1793). У 1795 г. 70 двароў. У 1803 г. пабудавана новая драўляная царква. У 1850 г. 76 двароў, цэнтр аднайменнага маёнтка. Праз сяло праходзіў тракт з Мазыра ў Пінск. У 1864 г. збудаваны школьны будынак і пачало дзейнічаць нар. вучылішча. У 1866 г. 77 двароў, 519 жыхароў. У 1874 г. ва ўладанні памешчыка Болатава. Цэнтр Буйнавіцкай вол. (да 17.7.1924), у склад якой у 1885 г. ўваходзілі 11 сяленняў з 299 дварамі. Паводле перапісу 1897 г. 102 двары, 825 жыхароў, царква, нар. вучылішча, хлебазапасны магазін, піцейны дом, 2 лаўкі. У 1900 г. апрача земляробства 12 сяльчан займаліся ганчарствам, 5 — вырабам калёс, 20 — вырабам колаў, абадоў, саней і бочак. Мелася паштовае аддзяленне. У 1908 г. 147 двароў, 981 жыхар. У 1914 г. салдаты запасной часці разграмілі вясковы вінны магазін. У 1917 г. 1188 жыхароў, у 1921 г. 268 двароў, 1477 жыхароў, у маёнтку 12 двароў, 43 жыхары. У барацьбе супраць польскіх акупантаў у 1920 г. загінулі 3 чырвонаармейцы (пахаваны ў цэнтры вёскі). З 20.8.1924 г. цэнтр Буйнавіцкага с/с Лельчыцкага, з 25.12.1962 г. Мазырскага, з 6.1.1965 г. Лельчыцкага р-наў Мазырскай (да 26.7.1930 і з 21.6.1935 да 20.2.1938) акругі, з 20.2.1938 г. Палескай, з 8.1.1954 г. Гомельскай абл. У 1930 г. арганізаваны калгас «Ударнік», працавалі вятрак, кузня, кравецкая і шавецкая майстэрні (з 1928). У 1940 г. 420 двароў. У Вял. Айч. вайну ў ліст. 1942 г. партызаны разграмілі апорны пункт, усталяваны акупантамі ў вёсцы. У 1943 г. ням. карнікі спалілі 419 двароў і загубілі 58 жыхароў.



*Абрад «Завіванне маладой» (вясельны) у в. Буда Лельчыцкая.*

Цяжкія баі за вёску вяліся ў пачатку 1944 г. Каля школы-інтэрната пахаваны 84, на могілках — 34 воіны. Вызвалена вёска 23.1.1944 г. Паводле перапісу 1959 г. 1525 жыхароў. Цэнтр саўгаса «Буйнавічы». Размешчаны камбінат быт. абслугоўвання, пякарня, сярэдняя школа, санаторная школа-інтэрнат, Дом культуры, б-ка, аптэка, аддз. сувязі, дзіцячы сад, б-ца, 6 магазінаў, сталовая, лясніцтва. Значную частку планіроўкі складаюць кварталы, утвораныя дзвюма паралельнымі паміж сабой вуліцамі, блізкімі да шыротнай арыентацыі, злучанымі завулкам. Да галоўных вуліц далучаюцца 2 кароткія прамалінейныя вуліцы з Пн і адна з Пд, а таксама вуліца з ПнЗ. Забудова мураваная, драўляная, сядзібнага тыпу. Непадалёку ёсць залежы жалезнякоў. У склад Буйнавіцкага с/с да 1993 г. ўваходзілі вёскі Даўгаўское і Лазнішча (не існуюць).

**БУКЧА** — вёска, цэнтр Букчанскага с/с, за 65 км на З ад Лельчыц, 280 км ад Гомеля, 55 км ад чыг. ст. Жыткавічы (на лініі Лунінец—Калінкавічы). На Пд мяжуе з Букчанскім біялагічным журавінным заказнікам, на Пн — урочышча Зачымерычча, на ПнУ — урочышча Гашчышча, на З меліярацыйныя каналы. Аўтадарога звязвае вёску з Лельчыцамі. 318 гаспадарак, 846 жыхароў (2004 г.).

Паводле пісьмовых крыніц вядома з 16 ст. як вёска ў Троцкім, з 1565 г. ў Берасцейскім ваяв., шляхецкая ўласнасць. Доўгі час была ва ўладанні Патоцкіх. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1795 г. 35 двароў, 274 жыхары. Паводле рэвізскіх матэрыялаў 1834 г. ва ўладанні графіні М.Мастоўскай. У 1866 г. 46 двароў, Васкрасенская царква. У 1875 г. дваранін Абуховіч меў у вёсцы і фальварку 31 014 дзес. зямлі і вадзяны млын. У 1885 г. сяло, 47 двароў. У 1894—1916 гг. у наваколлі дзейнічала Зах. меліярацыйная экспедыцыя. Паводле перапісу 1897 г. 103 двары, 618 жыхароў, царква, хлебазапасны магазін, кузня, карчма, у Тонежскай вол. Мазырскага пав. Мінскай губ. У 1908 г. 128 двароў, 815 жыхароў, у фальварку 5 двароў, 18 жыхароў. У 1910 г. адкрыта школа, якая размясцілася ў наёмнай сял. хаце, а ў пачатку 1920-х г. ёй быў выдзелены нацыяналізаваны будынак. Летам 1915 г. ад наўмыснага падпалу ў маёнтку Букча выгарэў вялікі лясны масіў, які належаў кн. М.А.Раманаву (брату цара Мікалая I). У 1917 г. 916 жыхароў. У 1925 г. 167 двароў. З 20.8.1924 г. цэнтр Букчанскага с/с Тураўскага, з 17.4.1962 г. Лельчыцкага, з 25.12.1962 г. Мазырскага, з 6.1.1965 г. Лельчыцкага раёнаў Мазырскай (да 26.7.1930 і з 21.6.1935 да 20.2.1938) акругі, з 20.2.1938 г. Палескай, з 8.1.1954 г. Гомельскай абласцей. У 1930 г. арганізаваны калгас «Праца», дзейнічалі ваўначоска, лясніцтва. У 1940 г. 220 двароў. У Вял. Айч. вайну ў раёне вёскі актыўна дзейнічалі партызаны, у іх ліку партыз. злучэнне С.А.Каўпака. 14 партызан гэтага злучэння загінулі ў баях з акупантамі, пахаваны ў брацкай магіле ў цэнтры вёскі. У студз. 1943 г. ням. карнікі спалілі вёску і загубілі 73 жыхароў. Паводле перапісу 1959 г. 1237 жыхароў. Цэнтр калгаса «Чырвоны памежнік». Размешчаны лясніцтва, аддз. хімлясгаса і леспрамгаса, швейная і шавецкая майстэрні, сярэдняя школа, Дом культуры, б-ка, фельч.-акушэрскі пункт, дзіцячыя яслі-сад, ветлячэбніца, аддз. сувязі, 5 магазінаў. Планіровачна складаецца з прамалінейнай амаль шыротнай вуліцы, да якой з Пн далучаецца кароткая вуліца. На У і ПдУ — адасобленыя ўчасткі вёскі. Забудавана двухбакова, пераважна драўлянымі сял. сядзібамі. Радзіма засл. настаўніка Беларусі В.П.Лукашэвіча.

У склад Букчанскага с/с да 1993 г. ўваходзіла в. Сінькоў (не існуе).

**ВЕЦВІЦА** — вёска ва Ударненскім с/с, за 15 км на ПнЗ ад Лельчыц, 40 км ад чыг. ст. Муляраўка (на лініі Лунінец—Калінкавічы), 198 км ад Гомеля, на Пн — Нацыянальны парк «Прыпяцкі» (да 1996 Прыпяцкі ландшафтна-гідралагіч-

ны запаведнік), на У р. Каросцінка (прыток р. Убарць). Транспартныя сувязі па мясцовай, потым аўтадарозе Лельчыцы—Замошша. 16 гаспадарак, 25 жыхароў (2004 г.).

Паводле пісьмовых крыніц вядома з 19 ст. як сяленне ў Лельчыцкай вол. Мазырскага пав. Мінскай губ. Паводле перапісу 1897 г. 6 двароў, 58 жыхароў. У 1917 г. 125 жыхароў, у 1925 г. 21 двор. У 1931 г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У 1940 г. 37 двароў, 161 жыхар. У Вял. Айч. вайну ў ліп. 1943 г. ням. акупанты спалілі 36 двароў і загубілі 4 жыхароў. На вясковых могілках у брацкай магіле пахаваны 32 воіны і 5 партызан, якія загінулі ў барацьбе супраць акупантаў. Вызвалена вёска 23.1.1944 г. Паводле перапісу 1959 г. 163 жыхары. У складзе саўгаса-камбіната «Ударны» (цэнтр — в. Ударная). Планіровачна складаецца з амаль шыротнай вуліцы, ад цэнтра якой адыходзіць невялікі завулак. Забудавана двухбакова драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**ВОРАНАЎ** — вёска ў Грабянёўскім с/с, за 25 км на ПдУ ад Лельчыц, 50 км ад чыг. ст. Славечна (на лініі Калінкавічы—Оўруч), 180 км ад Гомеля, вакол лес, на Пн — урочышча Печ, на З — урочышча Ельнік. Транспартныя сувязі па мясцовай, далей па аўтадарозе Лельчыцы—Валаўск. У сувязі з радыяцыйным забруджаннем пасля катастрофы на Чарнобыльскай АЭС 30 сямей перасялены ў чыстыя месцы.

Паводле пісьмовых крыніц вядома з пач. 20 ст. як сяленне ў Мазырскай акрузе Мінскай губ. У 1908 г. хутар, 17 двароў, 112 жыхароў. У 1917 г. 137 жыхароў, у Лельчыцкай вол. У 1921 г. 42 двары, 260 жыхароў. У 1929 г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У 1940 г. 54 двары. У Вял. Айч. вайну ў ліп. 1943 г. ням. акупанты спалілі вёску і загубілі 17 жыхароў. Паводле перапісу 1959 г. 259 жыхароў. Увайходзіла ў склад саўгаса імя І.У.Мічурына (цэнтр — в. Грабяні). Планіровачна складаецца з дугападобнай, мерыдыянальнай вуліцы, забудаванай пераважна аднабакова драўлянымі сял. сядзібамі. Радзіма ген.-м. М.М.Некрашэвіча.

**ВОСАЎ** — вёска ў Сіманіцкім с/с, за 30 км на ПнЗ ад Лельчыц, 48 км ад чыг. ст. Муляраўка (на лініі Лунінец—Калінкавічы), 207 км ад Гомеля, на З р. Свінавод (прыток р. Прыпяць), на У мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па мясцовай, потым аўтадарозе да Лельчыц. 9 гаспадарак, 17 жыхароў (2004 г.).

Курганны могільнік (38 насыпаў), выяўлены археолагамі за 3 км на З ад вёскі, сведчыць аб дзейнасці чалавека ў гэтых мясцінах у глыбокай старажытнасці. Паводле пісьмовых крыніц вядома з пач. 19 ст. У 1811 г. 4 двары, ва ўладанні Радзівілаў. У 1850 г. 7 двароў, у складзе маёнтка Дзякавічы. Паводле перапісу 1897 г. 11 двароў, 71 жыхар. У 1908 г. 13 двароў, 93 жыхары, у Лельчыцкай вол. У 1931 г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У 1940 г. 22 двары, 111 жыхароў. У Вял. Айч. вайну ў крас. 1943 г. ням. акупанты спалілі вёску і загубілі 2 жыхароў. Паводле перапісу 1959 г. 80 жыхароў. У складзе калгаса «Прагрэс» (цэнтр — в. Сіманічы). Драўляныя будынкі сядзібнага тыпу пастаўлены ўздоўж ракі.

**ВУГЛЫ** — вёска ў Буйнавіцкім с/с, за 37 км на У ад Лельчыц, 60 км ад чыг. ст. Ельск (на лініі Калінкавічы—Оўруч), на Пд меліярацыйныя каналы, на У, Пн і З — лес. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Мазыр—Глушкавічы. 15 гаспадарак, 25 жыхароў (2004 г.).

Паводле пісьмовых крыніц вядома з 2-й пал. 19 ст. Пад 1879 г. пазначана як хутар. Паводле перапісу 1897 г. 4 двары, 30 жыхароў. У 1908 г. 7 двароў, 50 жыхароў, у Буйнавіцкай вол. Мазырскага пав. Мінскай губ. У 1931 г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У складзе калгаса імя В.І.Чапаева (цэнтр — в. Першамайск). Планіровачна складаецца з амаль прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПнЗ на ПнУ і забудаванай драўлянымі сял. сядзібамі.

**ВУСАЎ** — вёска ў Грабянёўскім с/с, за 22 км на ПдУ ад Лельчыц, 50 км ад чыг. ст. Ельск (на лініі Калінкавічы—Оўруч), 244 км ад Гомеля. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Лельчыцы — Мазыр. 11 гаспадарак, 25 жыхароў (2004 г.).

Паводле пісьмовых крыніц вядома з пач. 20 ст. як сяленне ў Мазырскім пав. Мінскай губ. У 1908 г. 42 двары, 276 жыхароў. У 1917 г. 325 жыхароў. У 1921 г. 57 гаспадарак, 371 жыхар. У 1931 г. арганізаваны калгас. У 1940 г. 89 двароў, 430 жыхароў. У Вял. Айч. вайну ў ліп. 1943 г. ням. акупанты спалілі вёску і загубілі 6 жыхароў. Паводле перапісу 1959 г. 364 жыхары. Цэнтр калгаса «Радзіма». Размешчаны пач. школа, клуб, б-ка, фельч.-акушэрскі пункт, аддз. сувязі, магазін. Планіровачна складаецца з выгнутай шыротнай вуліцы, да якой з ПнУ далучаецца прамалінейная вуліца. Забудова драўляная, сядзібнага тыпу.



*Архіепіскап Аўгусцін (А.І.Маркевіч).*

**ВЯЗАВАЯ** — вёска ў Грабянёўскім с/с, за 21 км на ПдУ ад Лельчыц, 62 км ад чыг. ст. Ельск (на лініі Оўруч—Калінкавічы), 182 км ад Гомеля. Транспартныя сувязі па мясцовай, потым аўтадарозе Лельчыцы—Валаўск. 22 гаспадаркі, 35 жыхароў (2004 г.).

Паводле пісьмовых крыніц вядома з 19 ст. як сяленне ў Мазырскім пав. Мінскай губ. Паводле перапісу 1897 г. 11 двароў, 56 жыхароў, смалярня. У 1921 г. 25 двароў, 104 жыхары, у 1925 г. 31 двор. У 1930 г. арганізаваны калгас. У 1940 г. 40 двароў, 157 жыхароў. У Вял. Айч. вайну ў ліп. 1943 г. ням. акупанты спалілі вёску і загубілі 5 жыхароў. Паводле перапісу 1959 г. 221 жыхар. У складзе калгаса імя У.І.Леніна (цэнтр — г.п. Лельчыцы). Планіровачна складаецца з амаль прамалінейнай шыротнай вуліцы, забудаванай двухбакова драўлянымі сял. сядзібамі.

**ГЛУШКАВІЧЫ** — вёска, цэнтр Глушкавіцкага с/с, за 45 км на ПдЗ ад Лельчыц, 98 км ад чыг. ст. Муляраўка (на лініі Лунінец—Калінкавічы), 265 км ад Гомеля, за 1,5 км ад дзярж. мяжы з Украінай. Вакол сетка меліярацыйных каналаў, злучаных з рэкамі Убарць (прыток р. Прыпяць) і Канава Прыкардонная (прыток р. Убарць), на Пн — урочышча Панова Ніва, на Пд — урочышча Хацішын. Каля вёскі помнік прыроды рэспубліканскага значэння — выхад крышталічнай пароды, на Пн — Тапілаўскі тарфяны заказнік мясц. значэння. Транспартныя сувязі па аўтадарозе Глушкавічы—Лельчыцы. 725 гаспадарак, 2327 жыхароў (2004 г.).

Паводле пісьмовых крыніц вядома з 16 ст. як вёска ў Кіеўскім ваяв. Каралеўства Польскага. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1816 г. 419 жыхароў. Паводле рэвізскіх матэрыялаў 1834 г. сяло, 84 двары, 538 жыхароў, у складзе Тураўскага казённага маёнтка. Дзейнічала Свята-Троіцкая царква, якая ў 1867 г. згарэла, а ў 1873 г. на сродкі сяльчан адбудавана. Сярод царк. каштоўнасцей у ёй захоўваўся рукапіс «Апостал», пісаны Славячэўскім у 1574 г. У 1885 г. 126 двароў, 753 жыхары. Паводле перапісу 1897 г. 202 двары, 1325 жыхароў, царква, 2 часоўні, карчма, 2 крамы. У 1900 г. адкрыта царк.-прыходская школа, якая размясцілася ў наёмнай сял. хаце, а ў 1902 г. для школы ўзведзены свой будынак. У 1908 г. 230 двароў, 1470 жыхароў, у Тонежскай вол. Мазырскага пав. У выніку пажару 21.6. 1908 г. згарэла 28 двароў. У 1917 г. 1688 жыхароў, у 1925 г. 227 двароў. З 20.8.1924 г. цэнтр Глушкавіцкага с/с Лельчыцкага, з 25.12.1962 г. Мазырскага, з 6.1.1965 г. Лельчыцкага раёнаў Мазырскай (да 26.7.1930 і з 21.6.1935 да 20.2.1938) акругі, з 20.2.1938 г. Палескай, з 8.1.1954 г. Гомельскай абласцей. У 1929 г. арганізаваны калгас «Перамога», працавала кузня. У 1940 г. 365 двароў, 1987 жыхароў. У Вял. Айч. вайну 26—27.12.1942 г. ням. акупанты спалілі вёску, расстралялі і спалілі 290 вяскоўцаў (пахаваны ў магіле ахвяр фашызму каля Дома культуры), непадалёку брацкая магіла 11

партызан злучэння С.А.Каўпака, што загінулі ў ліст. 1942 г. ў баі супраць карнікаў. Паводле перапісу 1959 г. 2145 жыхароў. Цэнтр калгаса «Перамога». Размешчаны смалакурны і шчэбневы з-ды, лясніцтва, каменны кар'ер (адзіны на Беларусі, дзе крышталічны фундамент выходзіць на паверхню), швейная і шавецкая майстэрні, сярэдняя школа, Дом культуры, б-ца, дзіцячыя яслі-сад, б-ка, аддз. сувязі, 6 магазінаў. Планіровачна складаецца з працяглай прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ, да якой на Пн далучаецца амаль шыротнай арыентацыі кароткая вуліца, перакрыжаваная завулкам. Адна з вуліц носіць імя А.І.Бардзінай, кулямётчыцы партыз. злучэння С.А.Каўпака (загінула ў баі). Непадалёку знаходзіцца радовішча будаўнічага каменю з запасамі 63,7 млн. $м^3$. Радзіма архіепіскапа львоўскага і галіцкага Аўгусціна (А.І.Маркевіча), бел. вучонага К.І.Доўбана.

**ГРАБЯНІ** — вёска, цэнтр Грабянёўскага с/с, за 19 км на ПдУ ад Лельчыц, 60 км ад чыг. ст. Ельск (на лініі Оўруч—Калінкавічы), 234 км ад Гомеля, на З — урочышча Кашэвішча і меліярацыйныя каналы. Транспартныя сувязі па мясцовай, потым аўтадарозе Лельчыцы—Валаўск. 158 гаспадарак, 390 жыхароў (2004 г.).

Археолагі выявілі на зах. ускраіне вёскі, насупраць могілак, ва ўрочышчы Струбачы курганны могільнік (мясцовая назва Гурбаны). Паводле пісьмовых крыніц вядома з 19 ст. як сяленне ў Мазырскім пав. Мінскай губ. Пад 1879 г. упамінаецца як хутар. Паводле перапісу 1897 г. 20 двароў, 157 жыхароў. У 1908 г. 170 жыхароў. У 1917 г. 227 жыхароў, у 1921 г. ў вёсцы 60 двароў, 304 жыхары. З 20.8.1924 г. цэнтр Грабянёўскага с/с Лельчыцкага, з 25.12.1962 г. Мазырскага, з 6.1.1965 г. Лельчыцкага раёнаў Мазырскай (да 26.7.1930 і з 21.6.1935 да 20.2.1938) акругі, з 20.2.1938 г. Палескай, з 8.1.1954 г. Гомельскай абласцей. У 1930 г. арганізаваны калгас «Чырвоны партызан», працавала кузня. У 1940 г. 71 двор, 309 жыхароў. У Вял. Айч. вайну ў ліп. 1943 г. ням. акупанты спалілі вёску і загубілі 5 жыхароў. 143 вяскоўцы загінулі на франтах і ў партыз. барацьбе, у памяць аб якіх у 1968 г. ў цэнтры вёскі, у скверы, пастаўлена скульптура воіна. Паводле перапісу 1959 г. 500 жыхароў. Цэнтр саўгаса імя І.У.Мічурына. Размешчаны камбінат быт. абслугоўвання, сярэдняя школа, Дом культуры, б-ка, фельч.-акушэрскі пункт, аддз. сувязі, 2 магазіны. Планіровачна складаецца з 3 амаль паралельных паміж сабой дугападобных вуліц, злучаных паміж сабой і арыентаваных з ПдУ на ПнЗ. Забудова пераважна драўляная, сядзібнага тыпу. У паўн. частцы вёскі размешчана лясніцтва. Непадалёку ёсць залежы жалезнякоў.

**ДАНІЛЕВІЧЫ** — вёска ў Дуброўскім с/с, за 27 км на З ад Лельчыц, 94 км ад чыг. ст. Ельск (на лініі Калінкавічы—Оўруч), 204 км ад Гомеля. Транспартныя сувязі па мясцовай, потым аўтадарозе Сіманавічы—Лельчыцы. 77 гаспадарак, 137 жыхароў (2004 г.).

Паводле пісьмовых крыніц вядома з 16 ст. як сяленне ў Трокскім ваяв., з 1565 г. ў Пінскім пав. Берасцейскага ваяв., шляхецкая ўласнасць. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1811 г. сяло, 30 двароў, у Тонежскай вол. Паводле рэвізскіх матэрыялаў 1834 г. 139 жыхароў, у складзе Тураўскага казённага маёнтка. У 1886 г. 188 жыхароў. Паводле перапісу 1897 г. 54 двары, 351 жыхар, царква. У 1908 г.



*Ткацтва. (в. Данілевічы).*



*Славуты цар-дуб каля в. Данілевічы.*

57 двароў, 371 жыхар. У 1921 г. адкрыта школа, якая размясцілася ў наёмнай сял. хаце. У 1925 г. 68 двароў. У 1929 г. арганізаваны калгас. У 1940 г. 74 двары, 446 жыхароў. У Вял. Айч. вайну ў снеж. 1942 г. ням. акупанты спалілі вёску і загубілі 7 жыхароў. Паводле перапісу 1959 г. 764 жыхары. У складзе калгаса «Чырвоны кастрычнік» (цэнтр — в. Дуброва). Размешчаны фельч.-акушэрскі пункт, б-ка, клуб, аддз. сувязі. Планіровачна складаецца з дугападобнай шыротнай вуліцы, ад якой на Пн адыходзяць завулкі. Забудова пераважна двухбаковая, будынкі драўляныя, сядзібнага тыпу.

**ДЗЯРЖЫНСК** (да 11.2.1931 Радзілавічы) — вёска, цэнтр Дзяржынскага с/с, за 80 км на З ад Лельчыц, 295 км ад Гомеля, 70 км ад чыг. ст. Жыткавічы (на лініі Лунінец—Калінкавічы), на Пн і У сетка меліярацыйных каналаў, злучаных з каналам Плаў і р. Сцвіга (прыток р. Прыпяць), на У — Букчанскі біялагічны журавінны заказнік, на Пн — тарфяны заказнік мясц. значэння «Невіца». Транспартныя сувязі па аўтадарозе, якая злучае вёску з Туравам і Лельчыцамі. 346 гаспадарак, 970 жыхароў (2004 г.).

Паводле пісьмовых крыніц вядома з 15 ст. як вёска Радзілавічы ў Трокскім ваяв., з 1565 г. ў Пінскім пав. Берасцейскага ваяв. ВКЛ, у валоданні правасл. царквы. Князь Астрожскі перапісаў вёску ў 1520 г. Тураўскаму Успенскаму сабору. У 1777 г. пабудавана Уваскрасенская драўляная царква, а ў 1877 г. на яе месцы замест састарэлага ўзведзены новы будынак. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1816 г. 35 двароў. У 1866 г. 68 двароў, 302 жыхары. У 1873 г. памешчык Альшанскі меў у вёсках Радзілавічы і Ракітна (не існуе) 2800 дзес. зямлі. Паводле перапісу 1897 г. сяло, 76 двароў, 522 жыхары, царква, хлебазапасны магазін, у Тонежскай вол. Мазырскага пав. У 1922 г. адкрыта школа, памяшканне для якой збудавана на сродкі сяльчан. У 1925 г. 160 двароў. З 25.12.1930 г. цэнтр Радзілавіцкага, з 11.2.1931 г. Дзяржынскага с/с Тураўскага, з 17.4.1962 г. Лельчыцкага, з 25.12.1962 г. Мазырскага, з 6.1.1965 г. Лельчыцкага раёнаў Мазырскай (да 26.7.1930 і з 21.6.1935 да 20.2. 1938) акругі, з 20.2.1938 г. Палескай, з 8.1.1954 г. Гомельскай абласцей. У 1930 г. арганізаваны калгас «На варце», працавала кузня. У 1940 г. 187 двароў, 570 жыхароў. У Вял. Айч. вайну ў чэрв. 1943 г. ням. акупанты спалілі вёску. 5.1.1943 г. за 1 км на ПнЗ ад вёскі, па дарозе на Тураў, партызаны злучэння А.М.Сабурава разграмілі карны атрад акупантаў. У 1967 г. на месцы бою пастаўлены абеліск. Паводле перапісу 1959 г. 1038 жыхароў. Цэнтр калгаса «На варце». Размешчаны сярэдняя школа, Дом культуры, б-ка, фельч.-акушэрскі пункт, дзіцячыя яслі-сад, аддз. сувязі, магазін. Планіровачна складаецца з дугападобнай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнУ, уздоўж каналаў, да якой з ПдУ далучаюцца завулкі. Будынкі пераважна драўляныя, сядзібнага тыпу.

**ДУБНІЦКАЕ** — вёска ў Дуброўскім с/с, за 7 км на ПнЗ ад Лельчыц, 72 км ад чыг. ст. Ельск (на лініі Калінкавічы—Оўруч), 194 км ад Гомеля, на З — урочышча Бараўшчына, на У — урочышча Ляды. Побач аўтадарога Сярэднія Печы—Лельчыцы. 78 гаспадарак, 203 жыхары (2004 г.).

За 0,2 км на ПдЗ ад вёскі, ва ўрочышчы Дубіна, выяўлены курганны могільнік (8 курганоў). Паводле пісьмовых крыніц вядома з пач. 20 ст. як сяленне ў Лельчыцкай вол. Мазырскага пав. Мінскай губ. У 1908 г. хутар Дубніца, 8 двароў, 143 жыхары. У 1917 г. 266 жыхароў. У 1925 г. 45 двароў. У 1931 г. арганізаваны калгас. У 1940 г. 78 двароў, 468 жыхароў. У Вял. Айч. вайну ў сак. 1943 г. за 3 км на У ад вёскі быў створаны партыз. аэрадром, які забяспечваў партызанам Беларусі і Украіны сувязь з Вялікай зямлёй. З 1.3.1943 г. да 26.6.1943 г. прынята 65 самалётаў з грузамі для партызан, 64 самалёты скінулі грузы над аэрадромам на парашутах, у сав. тыл вывезена 46 параненых. У маі 1943 г. ням. акупанты спалілі 55 двароў. Паводле перапісу 1959 г. 400 жыхароў. У складзе калгаса «Чырвоны Кастрычнік» (цэнтр — в. Дуброва). Размешчаны пач. школа, б-ка, фельч.-акушэрскі пункт, клуб. Планіровачна складаецца з 2 паралельных паміж сабой вуліц, арыентаваных з ПдУ на ПнЗ і забудаваных двухбакова драўлянымі сял. сядзібамі.

**ДУБРАЎКІ** — вёска ў Сіманіцкім с/с, за 19 км на ПнЗ ад Лельчыц, 84 км ад чыг. ст. Ельск (на лініі Калінкавічы—Оўруч), 196 км ад Гомеля, на У прыток р. Каросцінка, на ПдЗ — урочышча Вялікія Дубраўкі. Транспартныя сувязі па мясцовай, потым аўтадарозе Сярэднія Печы — Лельчыцы. 13 гаспадарак, 18 жыхароў (2004 г.).

Паводле пісьмовых крыніц вядома з пач. 20 ст. як сяленне ў Мазырскім пав. Мінскай губ. У 1908 г. хутар, 6 двароў, 55 жыхароў. У 1917 г. 242 жыхары, у Лельчыцкай вол. У 1925 г. 46 гаспадарак. Побач быў хутар Дубраўка-2 (2 двары). У 1931 г. арганізаваны калгас. У 1940 г. 56 двароў, 298 жыхароў. У Вял. Айч. вайну ў ліст. 1942 г. ням. акупанты спалілі вёску і загубілі 1 жыхара. Паводле перапісу 1959 г. 189 жыхароў. У складзе падсобнай гаспадаркі «Чырвоная Дуброва» раённага аб'яднання «Сельгасхімія» (цэнтр — в. Сярэднія Печы). Планіровачна складаецца з 3 кароткіх, паралельных паміж сабой вуліц, арыентаваных амаль мерыдыянальна і забудаваных двухбакова (сярэдняя) і аднабакова (астатнія) драўлянымі сял. сядзібамі.

**ДУБРОВА** — вёска, цэнтр Дуброўскага с/с, за 14 км на З ад Лельчыц, 75 км ад чыг. ст. Ельск (на лініі Калінкавічы—Оўруч), 215 км ад Гомеля. 333 гаспадаркі, 853 жыхары (2004 г.).

Паводле пісьмовых крыніц вядома з 1551 г. як дзярж. сяло ў складзе ВКЛ. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі, у Лельчыцкай вол. Мазырскага пав. Мінскай губ. У 1886 г. сяло, 40 двароў, 243 жыхары, дзейнічала Міхайлаўская правасл. царква. На пач. 20 ст. сяло, 105 двароў, 670 жыхароў; маёнтак, двор, 12 жыхароў. Паводле перапісу 1917 г. 141 двор, 895 жыхароў; у маёнтку 76 жыхароў. У 1923 г. адкрыта працоўная школа 1-й ступені, у якой вучылася каля 50 дзяцей. Перад Вял. Айч. вайной вёска, 210 двароў, 1056 жыхароў. У ліст. 1942 г. ням.-фаш. захопнікі спалілі вёску і загубілі 23 жыхароў. У цэнтры вёскі, каля клуба, на ўшанаванне памяці 72 жыхароў, якія загінулі ў Вял. Айч. вайну ў барацьбе супраць ням.-фаш. захопнікаў, у 1967 г. пастаўлены помнік. З 23.12.1959 г. цэнтр сельсавета. У 1971 г. 410 двароў, 1556 жыхароў. Цэнтр камунальнага с.-г. прадпрыемства «Новая ніва». Размешчаны лясніцтва, механічныя майстэрні. Сярэдняя школа, клуб, б-ка, комплексны



*Дом культуры ў в. Дуброва.*

прыёмны пункт быт. абслугоўвання, аддз. сувязі, аўтаматычная тэлефонная станцыя, дзіцячы сад, фельч.-акушэрскі пункт, аддз. ашчаднага банка «Беларусбанк», 3 магазіны.

**ЖМУРНАЕ** — вёска ў Грабянёўскім с/с, за 9 км на Пд ад Лельчыц, 74 км ад чыг. ст. Ельск (на лініі Калінкавічы—Оўруч), 196 км ад Гомеля, на Пд, У і З — сетка меліярацыйных каналаў, злучаных з р. Убарць (прыток р. Прыпяць), на Пд — урочышча Сярэдні Востраў. Транспартныя сувязі па мясцовай, потым аўтадарозе Стадолічы—Лельчыцы. 69 гаспадарак, 115 жыхароў (2004 г.).

Паводле пісьмовых крыніц вядома з пач. 19 ст. як сяленне ў Мазырскім пав. Мінскай губ. У 1808 г. уладанне памешчыка Сіверса, з 1809 г. — памешчыка Гольста. Паводле перапісу 1897 г. вёска (22 двары, 178 жыхароў, млын, карчма) і выселак (2 двары, 21 жыхар), у Лельчыцкай вол. У 1908 г. 30 двароў, 199 жыхароў, у 1917 г. 55 двароў, 312 жыхароў. У 1930 г. арганізаваны калгас «XVII з'езд ВКП(б)», працаваў вадзяны млын. У 1940 г. 96 двароў, 320 жыхароў. У Вял. Айч. вайну ў чэрв. 1943 г. ням. акупанты спалілі вёску і загубілі 30 жыхароў. Паводле перапісу 1959 г. 409 жыхароў. У складзе калгаса імя І.У.Мічурына (цэнтр — в. Грабяні). Размешчаны пач. школа, б-ка, фельч.-акушэрскі пункт, клуб. Планіровачна складае паўкругавую вуліцу, арыентаваную з ПдЗ на ПнУ, да якой далучаюцца завулкі. Забудавана двухбакова драўлянымі сял. сядзібамі. Непадалёку ёсць залежы жалезнякоў.

**ЗАБАЛОЦЦЕ** — вёска ў Дуброўскім с/с, за 9 км на З ад Лельчыц, 74 км ад чыг. ст. Ельск (на лініі Калінкавічы—Оўруч), 196 км ад Гомеля, на Пн, У і З — меліярацыйныя каналы, злучаныя з р. Убарць (прыток р. Прыпяць). Транспартныя сувязі па мясцовай, потым аўтадарозе Дуброва—Лельчыцы. 34 гаспадаркі, 63 жыхары (2004 г.).

Паводле пісьмовых крыніц вядома з 18 ст. як вёска ў Мазырскім пав. Мінскага ваяв. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1795 г. 13 двароў, шляхецкая ўласнасць. У 1850 г. ва ўладанні Вішнявецкага. Пад 1879 г. упамінаецца ў ліку сяленняў Лельчыцкага царк. прыхода. У 1908 г. 28 двароў, 154 жыхары, у Лельчыцкай вол. У 1917 г. 48 двароў, 199 жыхароў. У 1930 г. арганізаваны калгас. У 1940 г. 48 двароў, 288 жыхароў. У Вял. Айч. вайну ў ліст. 1942 г. ням. акупанты поўнасцю спалілі вёску і загубілі 3 жыхароў. Паводле перапісу 1959 г. 285 жыхароў. У складзе калгаса «Чырвоны кастрычнік» (цэнтр — в. Дуброва). Планіровачна складаецца з мерыдыянальнай вуліцы, ад якой на Пн адыходзіць невялікая вуліца на У і на Пд — на З. Забудова пераважна аднабаковая, дамы драўляныя, сядзібнага тыпу.

**ЗАБЕРАЖНІЦА** — вёска ў Буйнавіцкім с/с, за 40 км на У ад Лельчыц, 63 км ад чыг. ст. Ельск (на лініі Калінкавічы—Славечна), 27 км ад Гомеля, вакол лес. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Мазыр—Глушкавічы. 16 гаспадарак, 26 жыхароў (2004 г.).

Паводле пісьмовых крыніц вядома з 19 ст. як сяленне ў Мазырскім пав. Мінскай губ. Пад 1879 г. пазначана як хутар. Паводле перапісу 1897 г. 10 двароў, 63 жыхары, смалярня. У 1908 г. 21 двор, 99 жыхароў, у Буйнавіцкай вол. У 1917 г. 258 жыхароў, у 1921 г. 58 двароў, 340 жыхароў. У 1931 г. арганізаваны калгас «Чырвоны баец», працавала кузня. У 1940 г. 68 двароў. У Вял. Айч. вайну ў ліп. 1943 г. ням. акупанты спалілі вёску і загубілі 13 жыхароў. Паводле перапісу 1959 г. 364 жыхары. У складзе калгаса імя В.І.Чапаева (цэнтр — в. Першамайск). Планіровачна складаецца з амаль прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ, да якой з Пн далучаецца кароткая прамалінейная вуліца. Забудова двухбаковая, драўляная, сядзібнага тыпу.

**ЗАБРОДДЗЕ** — вёска ў Стадоліцкім с/с, за 17 км на ПдУ ад Лельчыц, 65 км

ад чыг. ст. Ельск (на лініі Калінкавічы—Оўруч), 272 км ад Гомеля. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Лельчыцы—Мазыр. 32 гаспадаркі, 47 жыхароў (2004 г.).

Паводле пісьмовых крыніц вядома з 19 ст. як сяленне ў Буйнавіцкай вол. Мазырскага пав. Мінскай губ. Паводле перапісу 1897 г. 18 двароў, 150 жыхароў. У 1908 г. 27 двароў, 191 жыхар. У 1917 г. 255 жыхароў. У 1921 г. 41 двор, 278 жыхароў. У 1925 г. 53 двары. У Вял. Айч. вайну ў ліп. 1943 г. ням. акупанты спалілі вёску і загубілі 10 жыхароў. Паводле перапісу 1959 г. 187 жыхароў. У складзе калгаса «Шлях Ільіча» (цэнтр — в. Стадолічы). Планіровачна складаецца з крывалінейнай вуліцы, блізкай да шыротнай арыентацыі, да якой з Пн далучаецца кароткая крывалінейная вуліца. Забудова драўляная, няшчыльная, сядзібнага тыпу.

**ЗАМОШША** — вёска ва Ударненскім с/с, за 28 км на Пн ад Лельчыц, 67 км ад чыг. ст. Ельск (на лініі Калінкавічы—Оўруч), 243 км ад Гомеля, на З, Пд і Пн — меліярацыйныя каналы, злучаныя з пратокай Старая Убарць (басейн р. Прыпяць), на З — урочышча Беразняк, на Пд — урочышча Лясец. Транспартныя сувязі па аўтадарозе, якая злучае вёску з Лельчыцамі. 143 гаспадаркі, 334 жыхары (2004 г.).

Паводле пісьмовых крыніц вядома з 16 ст. як сяленне ў Трокскім ваяв., з 1565 г. ў Пінскім пав. Берасцейскага ваяв., шляхецкая ўласнасць. У 18 ст. ў валоданні езуітаў, затым казны, у 1777 г. прададзена біскупу віленскаму І.Масальскаму. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1795 г. 17 двароў, у 1811 г. 28 двароў. Паводле перапісу 1897 г. 38 двароў, 215 жыхароў, капліца. У 1908 г. 64 двары, 384 жыхары. Дзейнічала царк.-прыходская школа, якая размяшчалася ў наёмнай сял. хаце. У 1917 г. 474 жыхары, у 1921 г. 84 двары, 517 жыхароў. У 1925 г. 92 двары. З 20.8.1924 г. да 1988 г. цэнтр Замошскага с/с Лельчыцкага, з 25.12.1962 г. Мазырскага, з 6.1.1965 г. Лельчыцкага раёнаў Мазырскай (да 26.7.1930 і з 21.6.1935 да 20.2.1938) акругі, з 20.2.1938 г. Палескай, з 8.1.1954 г. Гомельскай абласцей. У 1930 г. арганізаваны калгас «Перамога», працавала кузня. У 1940 г. 142 двары, 614 жыхароў. У Вял. Айч. вайну ў ліп. 1943 г. ням. акупанты спалілі 139 двароў і загубілі 27 жыхароў. У баях супраць ням.-фаш. захопнікаў каля вёскі загінулі 154 воіны (пахаваны ў брацкай магіле на могілках). Разам з часцямі Чырв. Арміі ў баях за вызваленне вёскі ўдзельнічалі партызаны Лельчыцкай партыз. брыгады. Паводле перапісу 1959 г. 782 жыхары. У складзе саўгаса-камбіната «Ударны» (цэнтр — в. Ударная). Размешчаны лясніцтва, 9-гадовая школа, клуб, б-ка, фельч.-акушэрскі пункт, аддз. сувязі, магазін. Планіровачна складаецца з 4 паралельных паміж сабой вуліц, арыентаваных з ПдЗ на ПнУ. На ПнЗ і ПдУ адасобленыя ўчасткі вёскі. Забудова пераважна драўляная, двухбаковая, шчыльная. Радзіма Героя Сац. Працы П.І.Канопліча.

**ЗАПОЛЛЕ** — вёска ў Астражанскім с/с, за 39 км на ПнУ ад Лельчыц, 62 км ад чыг. ст. Мазыр (на лініі Лунінец—Гомель), 195 км ад Гомеля, вакол лес. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Лельчыцы—Мазыр. 5 гаспадарак, 7 жыхароў (2004 г.).

Паводле пісьмовых крыніц вядома з 19 ст. як сяленне ў Буйнавіцкай вол. Мазырскага пав. Мінскай губ. Паводле перапісу 1897 г. 11 двароў, 79 жыхароў. У 1908 г. 17 двароў, 82 жыхары. У 1917 г. 109 жыхароў, у 1921 г. 20 двароў, 129 жыхароў. У 1931 г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У 1940 г. 40 двароў, 185 жыхароў. У Вял. Айч. вайну ў ліст. 1942 г. ням. акупанты спалілі вёску і загубілі 3 жыхароў. Паводле перапісу 1959 г. 123 жыхары. У складзе саўгаса «Буйнавічы» (цэнтр — в. Буйнавічы). Планіровачна складаецца з кароткай прамалінейнай вуліцы,

арыентаванай з ПдЗ на ПнУ. Забудова драўляная, сядзібнага тыпу.

**ЗАПЯСОЧНАЕ** — вёска ў Грабянёўскім с/с, за 28 км на ПдУ ад Лельчыц, 52 км ад чыг. ст. Славечна (на лініі Калінкавічы—Оўруч), 182 км ад Гомеля. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Лельчыцы—Валаўск. 15 гаспадарак, 23 жыхары (2004 г.).

Паводле пісьмовых крыніц вядома з 19 ст. як сяленне ў Лельчыцкай вол. Мазырскага пав. Мінскай губ. Паводле перапісу 1897 г. хутар Запясочнае (ён жа Бор), 18 двароў, 124 жыхары, смалярня. У 1917 г. 192 жыхары. У 1925 г. 32 двары. У 1931 г. вяскоўцы ўступілі ў калгас, працаваў паравы млын. У 1940 г. 42 двары, 150 жыхароў. У Вял. Айч. вайну ў ліп. 1943 г. ням. акупанты спалілі вёску і загубілі 10 жыхароў. Паводле перапісу 1959 г. 238 жыхароў. У складзе калгаса імя У.І.Леніна (цэнтр — г.п. Лельчыцы). Размешчаны фельч.-акушэрскі пункт. Планіровачна складаецца з амаль прамалінейнай, кароткай, блізкай да шыротнай арыентацыі вуліцы, забудаванай драўлянымі сял. сядзібамі.

**ЗАРУБАНАЕ** — вёска ў Буйнавіцкім с/с, за 32 км на ПнУ ад Лельчыц, 55 км ад чыг. ст. Ельск (на лініі Калінкавічы—Оўруч), 208 км ад Гомеля, вакол лес. Транспартныя сувязі па мясцовай, потым аўтадарозе Лельчыцы—Мазыр. 24 гаспадаркі, 39 жыхароў (2004 г.).

Паводле пісьмовых крыніц вядома з 19 ст. як сяленне ў Буйнавіцкай вол. Мазырскага пав. Мінскай губ. Паводле перапісу 1897 г. хутар, 19 двароў, 133 жыхары, смалярня. У 1908 г. 52 двары, 267 жыхароў, у 1917 г. 418 чал. У 1921 г. 79 двароў. У 1923 г. адкрыта школа, якая размяшчалася ў наёмнай сял. хаце. У 1929 г. арганізаваны калгас. У 1940 г. 85 двароў. У Вял. Айч. вайну ў ліп. 1943 г. ням. акупанты спалілі вёску і загубілі 22 жыхароў. Вызвалена 23.1.1944 г. У складзе саўгаса «Буйнавічы» (цэнтр — в. Буйнавічы). Планіровачна складаецца з прамалінейнай шыротнай вуліцы, да якой з Пд далучаюцца 2 кароткія прамалінейныя вуліцы. На З — адасоблены ўчастак забудовы. Драўляныя сял. сядзібы пастаўлены рэдка, двухбакова.

**ЗАХОДЫ** — вёска ў Буйнавіцкім с/с, за 30 км на ПнУ ад Лельчыц, 41 км ад чыг. ст. Ельск (на лініі Калінкавічы—Славечна), 189 км ад Гомеля, на У меліярацыйныя каналы, на З і Пд — лес. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Лельчыцы—Мазыр. 14 гаспадарак, 25 жыхароў (2004 г.).

Паводле пісьмовых крыніц вядома з 19 ст. як сяленне ў Буйнавіцкай вол. Мазырскага пав. Мінскай губ. Пад 1879 г. упамінаецца як хутар. Паводле перапісу 1897 г. 15 двароў, 96 жыхароў. У 1917 г. 211 жыхароў, у 1921 г. 39 двароў. У 1930 г. арганізаваны калгас. У 1940 г. 50 двароў, 154 жыхары. У Вял. Айч. вайну ў ліп. 1943 г. ням. акупанты спалілі вёску і загубілі 31 жыхара. Паводле перапісу 1959 г. 238 жыхароў. У складзе калгаса «Світанне» (цэнтр — в. Буда-Сафіеўка). Планіровачна складаецца з прамалінейнай мерыдыянальнай вуліцы, якая на Пн раздвойваецца. Драўляныя сял. сядзібы пастаўлены рэдка, двухбакова.

**КАВЫЖАЎ** — вёска ў Грабянёўскім с/с, за 15 км на Пд ад Лельчыц, 80 км ад чыг. ст. Ельск (на лініі Калінкавічы—Оўруч), 257 км ад Гомеля, на Пн і У меліярацыйныя каналы, злучаныя з р. Убарць (прыток р. Прыпяць), на Пн тарфяны заказнік мясц. значэння «Лахніцкае», на З — тарфяны заказнік «Лугавое». Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Сіманічы—Валаўск. 16 гаспадарак, 24 жыхары (2000 г.).

Засн. ў пач. 20 ст. перасяленцамі з суседніх вёсак. У 1931 г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У 1940 г. 15 двароў, 54 жыхары. У Вял. Айч. вайну ў чэрв. 1943 г. ням. акупанты спалілі вёску і загубілі 10 жыхароў. Паводле перапісу 1959 г. 186 жыхароў. У складзе саўгаса імя І.У.Мічурына (цэнтр — в. Грабяні). Планіровачна складаецца з амаль мерыдыянальнай арыентацыі вуліцы, якая на Пн мае за-

гіб у паўн.-зах. накірунку. Забудова драўляная, няшчыльная, сядзібнага тыпу.

**КАЛІНІНА** — вёска ў Бараўскім с/с, за 17 км на ПдЗ ад Лельчыц, 82 км ад чыг. ст. Ельск (на лініі Калінкавічы—Оўруч), 194 км ад Гомеля, 1,5 км ад дзярж. мяжы з Украінай. На З, Пд і У сетка меліярацыйных каналаў, злучаных з рэкамі Убарць (прыток р. Прыпяць) і Дохніца (прыток р. Убарць), на Пн — урочышчы Круг і Дзярэнца. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Глушкавічы—Лельчыцы. 1 гаспадарка, 1 жыхар (2004 г.).

Засн. ў пач. 1920-х г. перасяленцамі з суседніх вёсак на былых памешчыцкіх землях. У 1932 г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. Паводле перапісу 1959 г. 170 жыхароў. У складзе калгаса імя М.І.Калініна (цэнтр — в. Маркоўскае). Забудова драўляная, сядзібнага тыпу.

**КАНАПЕЛЬКА** — вёска ў Астражанскім с/с, за 45 км на ПнУ ад Лельчыц, 68 км ад чыг. ст. Мазыр (на лініі Лунінец—Гомель), 212 км ад Гомеля, на р. Прыпяць, вакол лес. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Лельчыцы—Мазыр. 3 гаспадаркі, 5 жыхароў (2004 г.).

Паводле пісьмовых крыніц вядома з 19 ст. як сяленне ў Буйнавіцкай вол. Мазырскага пав. Мінскай губ. Паводле перапісу 1897 г. хутар, 13 двароў, 81 жыхар. У 1917 г. 144 жыхары. У 1921 г. 25, у 1925 г. 29 двароў. У 1931 г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. Паводле перапісу 1959 г. 125 жыхароў. У складзе саўгаса «Буйнавічы» (цэнтр — в. Буйнавічы). Планіровачна складаецца з кароткай крывалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ. Забудова рэдкая, драўляная, сядзібнага тыпу.

**КАРМА** — вёска ў Букчанскім с/с, за 55 км на З ад Лельчыц, 60 км ад чыг. ст. Жыткавічы (на лініі Лунінец—Калінкавічы), 132 км ад Гомеля, на Пд і З меліярацыйныя каналы, на Пн — урочышча Востраў Васільеў, на У — урочышча Зачымерычча. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Дзяржынск—Лельчыцы. 14 гаспадарак, 12 жыхароў (2004 г.).

Паводле пісьмовых крыніц вядома з 19 ст. як сяленне ў Тонежскай вол. Мазырскага пав. Мінскай губ. У 1850 г. 72 жыхары. Паводле перапісу 1897 г. 11 двароў. У 1908 г. 16 двароў, 108 жыхароў. У 1925 г. 26 двароў. У 1940 г. 30 двароў, 131 жыхар. У Вял. Айч. вайну ням. акупанты ў студз. 1943 г. спалілі вёску і загубілі 1 жыхара. Паводле перапісу 1959 г. 175 жыхароў. У складзе калгаса «Чырвоны памежнік» (цэнтр — в. Букча). Планіровачна складаецца з кароценькай шыротнай вуліцы, забудаванай драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**КАРТЫНІЧЫ** — вёска ў Бараўскім с/с, за 12 км на ПдЗ ад Лельчыц, 77 км ад чыг. ст. Ельск (на лініі Калінкавічы—Оўруч), 189 км ад Гомеля, побач цячэ р. Убарць (прыток р. Прыпяць), на Пд меліярацыйныя каналы і р. Свідовец (прыток р. Лохніца). Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Глушкавічы—Лельчыцы. 39 гаспадарак, 98 жыхароў (2004 г.).

Паводле пісьмовых крыніц вядома з 16 ст. як вёска ў Мазырскім пав. Мінскага ваяв. ВКЛ. Была ва ўладанні Віленскай капітулы, затым графа Салагуба. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1795 г. 23 двары, 170 жыхароў, царква. У 1850 г. 27 двароў. Паводле перапісу 1897 г. сяло, 52 двары, 366 жыхароў, капліца, вятрак. У 1917 г. 108 двароў, 527 жыхароў. З 20.8.1924 г. да 22.12.1959 г. цэнтр Картыніцкага с/с Лельчыцкага р-на Мазырскай (да 26.7.1930 і з 21.6.1935 да 20.2. 1938) акругі, з 20.2.1938 г. Палескай, з 8.1.1954 г. Гомельскай абласцей. У 1930 г. арганізаваны калгас. У 1940 г. 150 двароў, 536 жыхароў. У Вял. Айч. вайну некаторы час у вёсцы размяшчаліся штабы партыз. злучэння А.М.Сабурава і партыз. атрада чэхаў і славакаў на чале з Я.Налепкам. У ліп. 1943 г. ням. акупанты спалілі вёску і загубілі 46 жыхароў.



*І.А.Колас.*

Паводле перапісу 1989 г. 313 жыхароў. У складзе калгаса імя М.І.Калініна (цэнтр — в. Маркоўскае). Размешчаны клуб. Планіровачна складаецца з кароткай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ, да якой на У далучаецца кароткая вуліца, арыентаваная з ПдЗ на ПнУ. Забудавана двухбакова драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. Радзіма аднаго з арганізатараў партыз. руху на Палессі ў Вял. Айч. вайну, Героя Расіі І.А.Коласа, вучонага Л.Н.Сечкі.

**КРУПКА** — вёска ў Буйнавіцкім с/с, за 26 км на ПнУ ад Лельчыц, 202 км ад Гомеля, 49 км ад чыг. ст. Ельск (на лініі Калінкавічы—Оўруч), на У, Пн і З — лес, на зах. ускраіне невялікі вадаём. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Лельчыцы—Мазыр. 53 гаспадаркі, 88 жыхароў (2004 г.).

Паводле пісьмовых крыніц вядома з 19 ст. як сяленне ў Буйнавіцкай вол. Мазырскага пав. Мінскай губ. Пад 1879 г. пазначана як сяленне ў Буйнавіцкім царк. прыходзе. Паводле перапісу 1897 г. 21 двор, 122 жыхары. У 1921 г. 63 двары, 350 жыхароў. У 1923 г. адкрыта школа, якая размяшчалася ў наёмнай сял. хаце. У 1931 г. арганізаваны калгас «3-я пяцігодка», працавала кузня. У 1940 г. 110 двароў, 371 жыхар. У Вял. Айч. вайну ў ліп. 1943 г. ням. акупанты спалілі вёску і загубілі 26 жыхароў. Паводле перапісу 1959 г. ў в. Вялікая Крупка 276 жыхароў, у в. Малая Крупка 176 жыхароў. Крыху пазней гэтыя вёскі аб'ядналіся ў адзін населены пункт. У складзе саўгаса «Буйнавічы» (цэнтр — в. Буйнавічы). Размешчаны клуб. Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, блізкай да мерыдыянальнай арыентацыі, да якой на Пн далучаюцца з У, а на Пд — з З кароткія вуліцы. На Пн — адасоблены ўчастак забудовы. Драўляныя сял. сядзібы пастаўлены двухбакова.

*Народны фальклорны калектыў «Вяснянка» з в. Ліпляны.*



**ЛІПЛЯНЫ** — вёска ў Лельчыцкім с/с, за 3 км на ПнУ ад Лельчыц, 70 км ад чыг. ст. Ельск (на лініі Калінкавічы—Оўруч), 218 км ад Гомеля, на р. Убарць (прыток р. Прыпяць), на Пн і З меліярацыйныя каналы. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Лельчыцы—Мазыр. 278 гаспадарак, 740 жыхароў (2004 г.).

Паводле пісьмовых крыніц вядома з 16 ст. як вёска ў Мазырскім пав. Мінскага ваяв. ВКЛ, ва ўладанні правасл. царквы, а затым Віленскай капітулы і графа Салагуба. Дзейнічала Успенская царква, у якой захоўваліся запісы на фундуш ёй віленскага біскупа Юшкевіча (1651) і віленскага біскупа Масальскага (1776), абраз Маці Божай. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1795 г. 24 двары. У 1834 г. 31 двор. У 1856 г. замест састарэлага ўзведзены новы драўляны будынак царквы. У 1885 г. 39 двароў, 239 жыхароў. Паводле перапісу 1897 г. 65 двароў, 451 жыхар, царква, вадзяны млын, кузня. У 1908 г. 86 двароў, 592 жыхары, у 1917 г. 142 двары, 804 жыхары. У 1923 г. адкрыта школа. У 1930 г. арганізаваны калгас «Шлях сацыялізму», працавалі ганчарня і кузня. У 1940 г. 227 двароў. У Вял. Айч. вайну ў крас. 1943 г. ням. акупанты спалілі вёску і загубілі 15 жыхароў. 81 вясковец загінуў на франтах і ў партыз. барацьбе, памяць аб якіх увекавечвае скульптура воіна, пастаўленая ў 1967 г. ў цэнтры вёскі. Паводле перапісу 1959 г. 1045 жыхароў. Цэнтр эксперыменталь-

най базы «Убарць». Размешчаны 2 цагельні, сярэдняя школа, Дом культуры, б-ка, фельч.-акушэрскі пункт, дзіцячыя яслі-сад, аддз. сувязі, магазін. Планіровачна складаецца з 4 частак: заходняй (мерыдыянальная прамалінейная вуліца, да якой з У далучаюцца 2 кароткія вуліцы), цэнтральнай (мерыдыянальнай арыентацыі прамалінейная вуліца), паўднёвай (амаль прамалінейная вуліца, арыентаваная з ПдЗ на ПнУ, да якой далучаюцца 2 завулкі) і зарэчнай (кароткая выгнутая вуліца, арыентаваная з ПдЗ на ПнУ, на Пд ад ракі). Забудова пераважна двухбаковая, драўляная, сядзібнага тыпу. Ёсць радовішча торфу Печкі (0,9 млн. м$^3$).

**ЛІСНАЕ** — вёска ў Буйнавіцкім с/с, за 32 км на ПнУ ад Лельчыц, 52 км ад чыг. ст. Ельск (на лініі Калінкавічы—Оўруч), 204 км ад Гомеля, на З пойма і р. Убарць (прыток р. Прыпяць), на Пд меліярацыйныя каналы. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Лельчыцы—Мазыр. 20 гаспадарак, 34 жыхары (2004 г.).

Археалагічныя даследаванні сведчаць аб дзейнасці чалавека ў гэтых мясцінах у глыбокай старажытнасці. За 0,5 км на Пн ад вёскі, на дзюне, выяўлена селішча ранняга жал. веку і эпохі Кіеўскай Русі. Паводле пісьмовых крыніц вядома з 19 ст. як сяленне ў Буйнавіцкай вол. Мазырскага пав. Мінскай губ. Паводле перапісу 1897 г. 12 двароў, 64 жыхары. У 1908 г. 22 двары, 141 жыхар. У 1917 г. 187 жыхароў. У 1921 г. 29 двароў, 195 жыхароў, у 1925 г. 35 двароў. У 1931 г. арганізаваны калгас «Новае жыццё», працавала кузня. У 1940 г. 45 двароў. У Вял. Айч. вайну ў ліп. 1943 г. ням. акупанты спалілі вёску і загубілі 14 жыхароў. Паводле перапісу 1959 г. 207 жыхароў. У складзе калгаса імя В.І.Чапаева (цэнтр — в. Першамайск). Планіровачна складаецца з плаўна выгнутай вуліцы, блізкай да мерыдыянальнай арыентацыі. Забудавана рэдка драўлянымі сял. сядзібамі.

**ЛОХНІЦА** — вёска ў Грабянёўскім с/с, за 13 км на Пд ад Лельчыц, 78 км ад чыг. ст. Ельск (на лініі Калінкавічы—Оўруч), 200 км ад Гомеля, побач р. Лохніца (прыток р. Убарць), на У меліярацыйныя каналы, злучаныя са Жмурненскім каналам і р. Убарць, а таксама мясц. значэння тарфяны заказнік «Лахніцкае», на Пд — тарфяны заказнік «Лугавое». Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Стадолічы—Лельчыцы. 41 гаспадарка, 78 жыхароў (2004 г.).

Паводле пісьмовых крыніц вядома з пач. 19 ст. як вёска ў Лельчыцкай вол. Мазырскага пав. Мінскай губ. У 1808 г. вёску ў памешчыка Гальста купіў памешчык Сіверс. Паводле перапісу 1897 г. 38 двароў, 311 жыхароў. У 1908 г. 41 двор, 287 жыхароў. У 1917 г. 485 жыхароў. У 1925 г. 81 двор. У 1929 г. арганізаваны калгас. У 1940 г. 113 двароў. У Вял. Айч. вайну ў чэрв. 1943 г. ням. акупанты спалілі вёску і загубілі 17 жыхароў. Паводле перапісу 1959 г. 460 жыхароў. У складзе саўгаса імя І.У.Мічурына (цэнтр — в. Грабяні). Размешчаны пач. школа, б-ка, фельч.-акушэрскі пункт, клуб. Планіровачна складаецца з дугападобнай мерыдыянальна арыентаванай вуліцы, да якой з У далучаюцца 3 завулкі. Забудова пераважна двухбаковая, драўляная, сядзібнага тыпу.

**ЛЮБОЛЬ** — вёска ў Тонежскім с/с, за 45 км на З ад Лельчыц, 50 км ад чыг. ст. Жыткавічы (на лініі Калінкавічы—Лунінец), 122 км ад Гомеля, на ПнУ — урочышча Машкі, на ПдУ — урочышча Сцяпанаў Круг. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Дзяржынск—Сіманавічы.

Засн. ў пач. 1920-х г. перасяленцамі з суседніх вёсак на былых памешчыцкіх землях. У 1932 г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У 1940 г. 28 двароў, 164 жыхары. У Вял. Айч. вайну ў студз. 1943 г. ням. акупанты спалілі вёску. Паводле перапісу 1959 г. 182 жыхары. У складзе калгаса «Чырвонае Палессе» (цэнтр — в. Сла-

бада). Забудова двухбаковая, драўляная, сядзібнага тыпу.

**МАНЧЫЦЫ** — вёска ва Ударненскім с/с, за 19 км на ПнУ ад Лельчыц, 82 км ад чыг. ст. Ельск (на лініі Калінкавічы—Оўруч), 228 км ад Гомеля, на Пн меліярацыйныя каналы, на Пд і У — лес. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Лельчыцы—Мазыр. 65 гаспадарак, 156 жыхароў (2004 г.).

Паводле пісьмовых крыніц вядома з 18 ст. як сяленне ў Мазырскім пав. Мінскага ваяв. Была ва ўладанні езуітаў, затым казны, з 1777 г. перададзена віленскаму біскупу І.Масальскаму. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1795 г. 12 двароў. Паводле перапісу 1897 г. 23 двары, 156 жыхароў, капліца. У 1908 г. 32 двары, 212 жыхароў, у Буйнавіцкай вол. Мазырскага пав. Мінскай губ. У 1921 г. 50 двароў, 280 жыхароў. У 1929 г. арганізаваны калгас. У 1940 г. 72 двары. У Вял. Айч. вайну ў ліп. 1943 г. ням. акупанты спалілі вёску і загубілі 1 жыхара. Вызвалена 23.1.1944 г. Паводле перапісу 1959 г. 353 жыхары. У складзе калгаса «Лельчыцкі» (цэнтр — в. Чырвонабярэжжа). Размешчаны пач. школа, б-ка, клуб. Планіровачна складаецца з 2 крыху выгнутых вуліц блізкай да шыротнай арыентацыі, злучаных кароткай вуліцай. Забудова двухбаковая, драўляная, сядзібнага тыпу.

**МАРКОЎСКАЕ** (да 1940 Гарнавішча) — вёска ў Бараўскім с/с, за 12 км на ПдЗ ад Лельчыц, 77 км ад чыг. ст. Ельск (на лініі Калінкавічы—Оўруч), 227 км ад Гомеля, на аўтадарозе Глушкавічы—Лельчыцы, на Пд — р. Убарць (прыток р. Прыпяць), на З — урочышча Гарбатая Паляна. 156 гаспадарак, 365 жыхароў (2004 г.).



*Месца базіравання партызанскага злучэння А.М.Сабурава, партызанскага злучэння Я.Налепкі, Лельчыцкіх падпольных райкомаў КП(б)Б і ЛКСМБ, Лельчыцкай партызанскай брыгады ў в. Маркоўскае.*

Паводле пісьмовых крыніц вядома з 19 ст. як сяленне ў Лельчыцкай вол. Мазырскага пав. Мінскай губ. Паводле перапісу 1897 г. хутар, 7 двароў, 52 жыхары. У 1917 г. 71 жыхар. У 1932 г. вяскоўцы ўступілі ў калгас, працавалі кузня і ваўначоска. У 1940 г. 65 двароў, 310 жыхароў. У Вял. Айч. вайну ў вёсцы і наваколлі ў канцы 1942 г. — жн. 1943 г. базіравалася ўкраінскае партыз. злучэнне пад камандаваннем А.М.Сабурава. У маі 1943 г. да партызан гэтага злучэння перайшла група славакаў-антыфашыстаў і арганізавалі партыз. атрад на чале з Янам Налепкам. Тут жа базіраваліся Лельчыцкія падпольныя райкомы КП(б)Б і ЛКСМБ і Лельчыцкая партыз. брыгада. У іх гонар у 1980 г. каля будынка выканкома сельскага Савета ўстаноўлены мемарыяльны знак. У ліп. 1943 г. ням. акупанты спалілі вёску і загубілі 4 жыхароў. З 22.12.1959 г. да 1988 г. цэнтр Маркоўскага с/с Лельчыцкага, з 25.12.1962 г. Мазырскага, з 6.1.1965 г. Лельчыцкага раёнаў Гомельскай вобл. Паводле перапісу 1959 г. 409 жыхароў. Цэнтр калгаса імя М.І.Калініна. Размешчаны цагельня, 9-гадовая школа, б-ка, Дом культуры, дзіцячы сад, фельч.-акушэрскі пункт, аддз. сувязі. Планіровачна ўяўляе мерыдыянальнай арыентацыі вуліцу (абапал дарогі), да паўд. канца якой далучаецца з З кароткая дугападобная вуліца. Забудова пераважна драўляная, сядзібнага тыпу.

У склад Маркоўскага с/с да 1991 г. ўваходзіла в. Калінаўка (да 1948 Сівакі), зараз не існуе.

**МІЛАШАВІЧЫ** — вёска, цэнтр Мілашавіцкага с/с, за 35 км на ПдУ ад Лельчыц, 250 км ад Гомеля, 73 км ад чыг. ст. Мазыр (на лініі Калінкавічы—Оўруч), на аўтадарозе Глушкавічы—Лельчыцы, праз вёску праходзіць меліяра-

цыйны канал, на Пд і У — р. Убарць (прыток р. Прыпяць), на З — сетка меліярацыйных каналаў, злучаных з р. Убарць. 468 гаспадарак, 1172 жыхары (2004 г.).

Курганны могільнік (20 насыпаў), што за 1 км на У ад вёскі, ва ўрочышчы Сельская Ніўка, а таксама стаянка каменнага і бронзавага вякоў (0,5 км на ПдЗ ад вёскі), селішчы эпох Кіеўскай Русі (0,3 км на ПдЗ ад вёскі, на пясчанай дзюне) і зарубінецкай культуры (0,7 км на ПдЗ ад вёскі) сведчаць аб дзейнасці чалавека ў гэтых мясцінах у глыбокай старажытнасці. Паводле пісьмовых крыніц вядома з 16 ст. як вёска ў Мазырскім пав. Мінскага ваяв. ВКЛ, ва ўладанні правасл. царквы, затым езуітаў, казны і ген.-м. графа Салагуба. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1795 г. 45 двароў. Дзейнічала Успенская царква (у ёй захоўваліся метрычныя кнігі з 1798). У 1814 г. замест састарэлай пабудавана новая драўляная на мураваным фундаменце царква на сродкі ўладальніка вёскі М.Булгака. У 1816 г. 220 жыхароў. У 1876 г. гаспадар маёнтка Булгак-Флор валодаў 14 113 дзес. зямлі і вадзяным млыном. У 1885 г. 52 двары, 338 жыхароў. Паводле перапісу 1897 г. 92 двары, 594 жыхары, царква, капліца, хлебазапасны магазін. У 1908 г. 149 двароў, 943 жыхары, у Тонежскай вол. Мазырскага пав. Мінскай губ. У 1916 г. працавалі паштовае аддз. і тэлеграф. У сяле і 4 фальварках у 1917 г. 1049 жыхароў. У 1925 г. 204 двары. З 20.8.1924 г. цэнтр Мілашавіцкага с/с Лельчыцкага, з 25.12.1962 г. Мазырскага, з 6.1.1965 г. Лельчыцкага раёнаў Мазырскай (да 26.7.1930 і з 21.6.1935 да 20.2.1938) акругі, з 20.2.1938 г. Палескай, з 8.1.1954 г. Гомельскай абласцей. У 1929 г. арганізаваны калгас «Чырвоны дазор», працавалі кузня і паравы млын. У 1940 г. 300 двароў, 1250 жыхароў. У Вял. Айч. вайну ў снеж. 1942 г. ням. акупанты спалілі вёску і загубілі 127 жыхароў. За 0,3 км ад будынка выканкома сельскага Савета пахаваны 55 жыхароў, якіх 22.12. 1942 г. ням. карнікі расстралялі. 110 вяскоўцаў загінулі на франтах і ў партыз. барацьбе. У памяць аб іх у цэнтры вёскі ў 1967 г. пастаўлена скульптура воіна. Паводле перапісу 1959 г. 1543 жыхары. Цэнтр калгаса «Чырвоны дазор». Размешчаны лясніцтва, лясгас, сярэдняя школа, дзіцячыя яслі-сад, Дом культуры, б-ка, амбулаторыя, б-ца, аптэка, аддз. сувязі, швейная і шавецкая майстэрні, 4 магазіны. Планіровачна ўяўляе амаль прамалінейную вуліцу, арыентаваную з ПдЗ на ПнУ, да якой з ПнЗ далучаюцца 2 кароткія вуліцы і завулкі. Забудавана двухбакова, пераважна драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. У 1995 г. пабудавана новая драўляная Свята-Успенская царква.



*Свята-Успенская царква ў в. Мілашавічы.*

**МІРНАЕ** (да 30.7.1964 Магільнае) — вёска ў Астражанскім с/с, за 43 км на ПнУ ад Лельчыц, 66 км ад чыг. ст. Мазыр (на лініі Лунінец—Гомель), 210 км ад Гомеля, вакол лес. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Лельчыцы—Мазыр. 14 гаспадарак, 23 жыхары (2004 г.).

Паводле пісьмовых крыніц вядома з 2-й пал. 19 ст. як сяленне ў Буйнавіцкай вол. Мазырскага пав. Мінскай губ. Паводле перапісу 1897 г. хутар, 2 двары, 17 жыхароў. У 1908 г. 19 двароў. У 1917 г. 67 жыхароў. У 1921 г. 79 жыхароў. У 1931 г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У 1940 г. 50 двароў, 210 жыхароў. У Вял. Айч. вайну ў ліст. 1942 г. ням. акупанты спалілі вёску і загубілі 12 жыхароў. Паводле перапісу 1959 г. 131 жыхар. У складзе саў-

гаса «Буйнавічы» (цэнтр — в. Буйнавічы). Размешчаны клуб. Планіровачна складаецца з кароткай, блізкай да мерыдыянальнай арыентацыі вуліцы, да якой з З далучаецца завулак. Забудова драўляная, двухбаковая, сядзібнага тыпу.

**МЯХАЧ** — вёска ў Грабянёўскім с/с, у непасрэднай блізкасці ад дзярж. мяжы з Украінай, 42 км на Пд ад Лельчыц, 67 км ад чыг. ст. Славечна (на лініі Калінкавічы—Оўруч), 257 км ад Гомеля, на Пн — урочышча Таварыцкае. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Лельчыцы—Валаўск. 9 гаспадарак, 12 жыхароў (2004 г.).

Паводле пісьмовых крыніц вядома з 2-й пал. 19 ст. як сяленне ў Лельчыцкай вол. Мазырскага пав. Мінскай губ. Паводле перапісу 1897 г. хутар, 5 двароў, 30 жыхароў. У 1917 г. 60 жыхароў. У 1931 г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У 1940 г. 14 двароў. У Вял. Айч. вайну ў чэрв. 1943 г. ням. акупанты спалілі вёску і загубілі 23 жыхароў. Паводле перапісу 1959 г. 97 жыхароў. У складзе калгаса імя У.І.Леніна (цэнтр — г.п. Лельчыцы). Планіровачна ўяўляе сабой кароценькую мерыдыянальную вуліцу, забудаваную рэдка аднабакова драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**НОВАЕ ПАЛЕССЕ** (да 30.7.1964 Каросцін) — вёска ва Ударненскім с/с, за 40 км на Пн ад Лельчыц, 85 км ад чыг. ст. Ельск (на лініі Калінкавічы—Оўруч), 217 км ад Гомеля, на З — Нацыянальны парк «Прыпяцкі» (да 1996 Прыпяцкі ландшафтна-гідралагічны запаведнік), на ПдЗ — урочышча Заболь, на ПдУ — урочышча Воўчыя Балоты, на Пн меліярацыйны канал Каросцінка. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Замошша—Лельчыцы. 120 гаспадарак, 245 жыхароў (2004 г.).

*Абрад «Грамніцы» ў в. Новае Палессе.*



Паводле пісьмовых крыніц вядома з 19 ст. як сяленне ў Лельчыцкай вол. Мазырскага пав. Мінскай губ. У 1879 г. пазначана ў ліку сяленняў Сіманіцкага царк. прыхода. Паводле перапісу 1897 г. 41 двор, 304 жыхары, вадзяны млын. У 1908 г. 52 двары, 358 жыхароў. У 1925 г. 60 двароў. У 1932 г. арганізаваны калгас «Зрухі», працавалі кузня і паравы млын. У 1940 г. 96 двароў, 515 жыхароў. У Вял. Айч. вайну ў ліп. 1943 г. ням. акупанты спалілі вёску і загубілі 24 жыхароў. Паводле перапісу 1959 г. 621 жыхар. У складзе саўгаса-камбіната «Ударны» (цэнтр — в. Ударная). Размешчаны пач. школа, клуб. Планіровачна складаецца з крывалінейнай вуліцы мерыдыянальнай арыентацыі, злучанай з прамалінейнай вуліцай, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ. Забудова двухбаковая, пераважна драўляная, сядзібнага тыпу.

**ПАБЕДНАЯ** (да 30.7.1964 Стары Фальварак, другая назва Падварак) — вёска ў Лельчыцкім с/с, за 5 км на Пн ад Лельчыц, 70 км ад чыг. ст. Ельск (на лініі Калінкавічы—Оўруч), 210 км ад Гомеля, вакол меліярацыйныя каналы, злучаныя з р. Убарць (прыток р. Прыпяць). Побач аўтадарога Лельчыцы—Мазыр. 92 гаспадаркі, 244 жыхары (2004 г.).

Паводле пісьмовых крыніц вядома з 19 ст. як сяленне ў Лельчыцкай вол. Мазырскага пав. Мінскай губ. Пад 1879 г. пазначана ў ліку сяленняў Лельчыцкага царк. прыхода. У 1908 г. 17 двароў, 72 жыхары. У 1917 г. 32 двары, 193 жыхары. У 1925 г. 41 двор. У 1929 г. арганізаваны калгас. У 1940 г. 54 двары, 274 жыхары. У Вял. Айч. вайну ў лют. 1943 г.

аператыўная група, накіраваная ў Лельчыцкі р-н Цэнтр. штабам партыз. руху, сфарміравала каля вёскі 1-е Малдаўскае партыз. злучэнне, якое летам 1943 г. перадыслацыравалася ў Малдавію. У памяць аб гэтай падзеі ў 1972 г. за 1 км на З ад вёскі, каля шашы Лельчыцы—Мазыр, пастаўлена стэла. У крас. 1943 г. ням. акупанты спалілі вёску і загубілі 7 жыхароў. Паводле перапісу 1959 г. 338 жыхароў. У складзе эксперыментальнай базы «Убарць» (цэнтр — в. Ліпляны). Размешчаны пач. школа, клуб. Планіровачна складаецца з прамалінейнай шыротнай вуліцы, забудаванай двухбакова драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. Радзіма ген.-м. Дз.І.Маркоўскага.

**ПЕРШАМАЙСК** (да 1.5.1923 Засунне) — вёска ў Буйнавіцкім с/с, за 30 км на ПнУ ад Лельчыц, 50 км ад чыг. ст. Ельск (на лініі Калінкавічы—Оўруч), 202 км ад Гомеля, на Пн лес. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Лельчыцы—Мазыр. 79 гаспадарак, 182 жыхары (2004 г.).

Паводле пісьмовых крыніц вядома з 19 ст. як сяленне ў Буйнавіцкай вол. Мазырскага пав. Мінскай губ. У 1879 г. пазначана ў ліку сяленняў Буйнавіцкага царк. прыхода. Паводле перапісу 1897 г. 8 двароў, 74 жыхары. У 1908 г. 20 двароў, 116 жыхароў. У 1917 г. 167 жыхароў, у 1921 г. 22 двары, 173 жыхары. У 1931 г. вяскоўцы ўступілі ў калгас, працавала кузня. У 1940 г. 60 двароў, 213 жыхароў. У Вял. Айч. вайну ў ліп. 1943 г. ням. акупанты спалілі вёску і загубілі 11 жыхароў. Паводле перапісу 1959 г. 365 жыхароў. Цэнтр калгаса імя В.І.Чапаева. Размешчаны лесапільня, 9-гадовая школа, клуб, б-ка, фельч.-акушэрскі пункт, аддз. сувязі, магазін. Планіровачна складаецца з прамалінейнай шыротнай вуліцы, якая на З раздвойваецца. Забудова пераважна драўляная, двухбаковая, няшчыльная. Радзіма ген.-м. Р.І.Флёркі.

**ПРЫБАЛАВІЧЫ** — вёска ў Мілашавіцкім с/с, за 47 км на ПдЗ ад Лельчыц, 84 км ад чыг. ст. Мазыр (на лініі Калінкавічы—Оўруч), 262 км ад Гомеля, вакол урочышчы Пнікі, Пустая Гара, Марухна, Кулацін, Каўбоў Пень, Вярхоўскае і сетка меліярацыйных каналаў, злучаных з р. Убарць (прыток р. Прыпяць). На З — Букчанскі біялагічны журавінны заказнік. Транспартныя сувязі па мясцовай, потым аўтадарозе Глушкавічы—Лельчыцы. 349 гаспадарак, 961 жыхар (2004 г.).

Паводле пісьмовых крыніц вядома з 16 ст. як сяленне ў Трокскім ваяв., з 1565 г. ў Пінскім пав. Берасцейскага ваяв. ВКЛ, шляхецкая ўласнасць. У 1794 г. ў цэнтры вёскі пабудавана драўляная царква. У 19 ст. да яе асноўнага аб'ёму прыбудавана двух'ярусная званіца з шатровым верхам (помнік драўлянага дойлідства). Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1811 г. 32 двары. У 1816 г. 141 жыхар. Паводле рэвізскіх матэрыялаў 1834 г. 156 жыхароў, у складзе Тураўскага казённага маёнтка. У 1885 г. 38 двароў, 203 жыхары. Паводле перапісу 1897 г. 64 двары, 366 жыхароў, у Тонежскай вол. Мазырскага пав. Мінскай губ. У 1925 г. 131 двор. У 1931 г. вяскоўцы ўступілі ў калгас, працавала кузня. У 1940 г. 250 двароў, 1030 жыхароў. У Вял. Айч. вайну ў снеж. 1942 г. ням. акупанты спалілі вёску і загубілі 52 жыхароў. Паводле перапісу 1959 г. 1025 жыхароў. Цэнтр калгаса «Дружба». Размешчаны лясніцтва,

*Фальклорны гурт «Палескія напевы» з в. Новае Палессе.*





*Свята-Пакроўская царква ў в. Прыбалавічы (18 ст.).*

сярэдняя школа, Дом культуры, б-ка, фельч.-акушэрскі пункт, дзіцячыя яслі-сад, аддз. сувязі, 3 магазіны. Планіровачна складаецца з 4 частак: паўднёвай (дугападобная вуліца, арыентаваная з ПдЗ на ПнУ), паўночнай (да дугападобнай мерыдыянальнай вуліцы далучаюцца 2 невялікія завулкі), заходняй (да кароткай зігзагападобнай вуліцы з З далучаюцца 2 прамалінейныя кароткія вуліцы) і зарэчнай (кароткая прамалінейная мерыдыянальная вуліца аддзелена каналам ад астатніх частак вёскі). Забудова пераважна драўляная, двухбаковая, сядзібнага тыпу. Радзіма бел. фалькларыста А.Ю.Лозкі.

**РУБЕЖ** — вёска ў Дуброўскім с/с, за 15 км на З ад Лельчыц, 80 км ад чыг. ст. Ельск (на лініі Калінкавічы—Оўруч), 192 км ад Гомеля, на Пн — урочышча Гарадзецкае, на ПдЗ — урочышча Млынішча. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Сярэднія Печы—Лельчыцы. 15 гаспадарак, 23 жыхары (2004 г.).

Засн. ў канцы 19 ст. перасяленцамі з суседніх вёсак. У 1908 г. 4 двары, 27 жыхароў, у Лельчыцкай вол. Мазырскага пав. Мінскай губ. У 1917 г. 158 жыхароў. У 1931 г. вяскоўцы ўступілі ў калгас, працаваў паравы млын. У 1940 г. 26 двароў, 182 жыхары. У Вял. Айч. вайну ў снеж. 1942 г. ням. акупанты спалілі вёску і загубілі 2 жыхароў. Паводле перапісу 1959 г. 234 жыхары. У складзе калгаса «Чырвоны Кастрычнік» (цэнтр — в. Дуброва). Планіровачна складаецца з дугападобнай шыротнай вуліцы, забудаванай двухбакова драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**РУДНІШЧА** — вёска ў Бараўскім с/с, за 28 км на ПдЗ ад Лельчыц, 73 км ад чыг. ст. Мазыр (на лініі Калінкавічы—Оўруч), 232 км ад Гомеля, 2,5 км ад дзярж. мяжы з Украінай, побач р. Свідовец (прыток р. Лохніца), на З — урочышча Макеевы Горы. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Глушкавічы—Лельчыцы. 31 гаспадарка, 72 жыхары (2004 г.).

Паводле пісьмовых крыніц вядома з 19 ст. як сяленне ў Лельчыцкай вол. Мазырскага пав. Мінскай губ. У 1835 г. 10 двароў, 95 жыхароў. Паводле перапісу 1897 г. 13 двароў. У 1908 г. 16 двароў, 123 жыхары. У 1917 г. 162 жыхары, у 1925 г. 38 двароў. У 1931 г. арганізаваны калгас. У 1940 г. 46 двароў, 247 жыхароў. У Вял. Айч. вайну ў вер. 1943 г. ням. акупанты спалілі вёску і загубілі 8 жыхароў. Паводле перапісу 1959 г. 266 жыхароў. У складзе калгаса «Звязда» (цэнтр — в. Баравое). Размешчаны пач. школа, б-ка, фельч.-акушэрскі пункт. Планіровачна складаецца з 2 кароткіх вуліц, арыентаваных з ПдЗ на ПнУ. Забудавана двухбакова драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**РУДНЯ** — вёска ў Тонежскім с/с, за 49 км на З ад Лельчыц, 264 км ад Гомеля, 52 км ад чыг. ст. Жыткавічы (на лініі Лунінец—Калінкавічы), непадалёку ўрочышчы Малая Гараваха, Беразнякі, Мураўя, Жураўна, на зах. ускраіне р. Мутвіца, якая ўпадае ў меліярацыйны канал Канава Галоўная, на Пн — Нацыянальны парк «Прыпяцкі» (да 1996 Прыпяцкі ландшафтна-гідралагічны запаведнік). Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Дзяржынск—Лельчыцы. 15 гаспадарак, 24 жыхары (2004 г.).

Паводле пісьмовых крыніц вядома з 18 ст. як сяленне ў Пінскім пав. Брэсцка-

га ваяв. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1795 г. 5 двароў, у Тонежскай вол. Мазырскага пав. Мінскай губ. У 1850 г. 8 двароў, 54 жыхары. У 1879 г. ўпамінаецца як сяленне ў Тонежскім царк. прыходзе. Паводле перапісу 1897 г. в. Рудня Тонежская, 19 двароў, 115 жыхароў. У 1908 г. 23 двары, 140 жыхароў. У 1917 г. 165 жыхароў, у 1925 г. 32 двары. У 1932 г. вяскоўцы ўступілі ў калгас, працаваў вадзяны млын. Паводле перапісу 1959 г. 99 жыхароў. У складзе калгаса «Праца» (цэнтр — в. Тонеж). Планіровачна складаецца з кароткай, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ вуліцы, да якой на Пн далучаецца завулак. Забудова рэдкая, драўляная, сядзібнага тыпу.

**РУЧНОЕ** — вёска ў Стадоліцкім с/с, за 6 км на У ад Лельчыц, 51 км ад чыг. ст. Ельск (на лініі Калінкавічы—Оўруч), 210 км ад Гомеля, на Пд, У і Пн — сетка меліярацыйных каналаў, злучаных з р. Убарць (прыток р. Прыпяць). Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Лельчыцы—Валаўск. 30 гаспадарак, 46 жыхароў (2004 г.).

Паводле пісьмовых крыніц вядома з 19 ст. як сяленне ў Буйнавіцкай вол. Мазырскага пав. Мінскай губ. У 1879 г. пазначана як хутар. Паводле перапісу 1897 г. 7 двароў, 49 жыхароў. У 1908 г. 13 двароў, 66 жыхароў. У 1917 г. 104 жыхары. У 1921 г. 16 двароў, 114 жыхароў. У 1926 г. 24 двары. У 1931 г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У 1940 г. 36 двароў, 151 жыхар. У Вял. Айч. вайну ў снеж. 1942 г. ням. акупанты спалілі вёску і загубілі 5 жыхароў. Паводле перапісу 1959 г. 199 жыхароў. У складзе калгаса «Шлях Ільіча» (цэнтр — в. Стадолічы). Размешчаны клуб. Планіровачна складаецца з кароткай прамалінейнай мерыдыянальнай вуліцы, якая на Пн раздвойваецца. Забудова драўляная, сядзібнага тыпу.

**САЛАГУБАЎ** — вёска ў Дуброўскім с/с, за 31 км на З ад Лельчыц, 98 км ад чыг. ст. Ельск (на лініі Калінкавічы—Оўруч), 208 км ад Гомеля, на Пн — урочышча Карабельшчына, на Пд — урочышча Жалеза, на З — меліярацыйны канал, злучаны з сістэмай меліярацыйных каналаў, размешчаных паблізу в. Прыбалавічы. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Сярэднія Печы—Лельчыцы. 4 гаспадаркі, 6 жыхароў (2004 г.).

Паводле пісьмовых крыніц вядома з 19 ст. як сяленне ў Тонежскай вол. Мазырскага пав. Мінскай губ. У 1871 г. хутар Салагубаў належаў памешчыку Гарцэвічу, які меў тут 251 дзес. зямлі і 3 вадзяныя млыны. У 1908 г. 10 двароў, 59 жыхароў. У 1925 г. 12 двароў. У 1931 г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У 1940 г. 26 двароў, 182 жыхары. У Вял. Айч. вайну ў снеж. 1942 г. ням. акупанты спалілі вёску і загубілі 12 жыхароў. Паводле перапісу 1959 г. 229 жыхароў. У складзе калгаса «Чырвоны Кастрычнік» (цэнтр — в. Дуброва). Размешчаны фельч.-акушэрскі пункт. Планіровачна складаецца з кароценькай прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ. Забудова драўляная, сядзібнага тыпу.

**САЛАГУБАЎ** — пасёлак у Дуброўскім с/с, за 89 км на З ад Лельчыц, 96 км ад чыг. ст. Ельск (на лініі Калінкавічы—Оўруч), 246 км ад Гомеля, на Пн — урочышчы Сцяпанаў Кут і Бега. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Сярэднія Печы—Лельчыцы. 17 гаспадарак, 28 жыхароў (2004 г.).

Засн. ў пач. 20 ст. перасяленцамі з суседніх вёсак, у Тонежскай вол. Мазырскага пав. Мінскай губ. У 1908 г. 10 двароў. У 1931 г. пасялкоўцы ўступілі ў калгас. Паводле перапісу 1959 г. 433 жыхары. Размешчаны ўчастак Бураўскага леспрамгаса, 9-гадовая школа. Планіровачна складаецца з 2 кароткіх, паралельных паміж сабой мерыдыянальных вуліц, забудаваных двухбакова шчыльна драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**СВІДНАЕ** — вёска ва Ударненскім с/с, за 30 км на ПнУ ад Лельчыц, 25 км ад чыг. ст. Муляраўка (на лініі Лунінец—Калінкавічы), 183 км ад Гомеля, на аў-

тадарозе Лельчыцы—Замошша, на З і Пд мяжуе з лесам, на У пратока Старая Убарць. 28 гаспадарак, 47 жыхароў (2004 г.).

Паводле пісьмовых крыніц вядома з 19 ст. як сяленне ў Буйнавіцкай вол. Мазырскага пав. Мінскай губ. Паводле перапісу 1897 г. 9 двароў, 51 жыхар. У 1908 г. 21 двор, 125 жыхароў. У 1921 г. 32 двары, 217 жыхароў. У 1931 г. арганізаваны калгас «Прасвет», працавала кузня. У 1940 г. 48 двароў, 223 жыхары. У Вял. Айч. вайну ў ліп. 1943 г. ням. акупанты спалілі вёску і загубілі 3 жыхароў. Вызвалена 23.1.1944 г. Паводле перапісу 1959 г. 275 жыхароў. У складзе саўгаса «Лельчыцкі» (цэнтр — в. Чырвонабярэжжа). Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ і забудаванай двухбакова драўлянымі сял. сядзібамі.

**СІМАНІЦКАЯ РУДНЯ** — вёска ў Сіманіцкім с/с, за 31 км на ПнЗ ад Лельчыц, 94 км ад чыг. ст. Ельск (на лініі Калінкавічы—Оўруч), 246 км ад Гомеля, на р. Свінавод (прыток р. Прыпяць), на тэр. Нацыянальнага парка «Прыпяцкі» (да 1996 Прыпяцкі ландшафтна-гідралагічны запаведнік), на З — урочышча Выбрады, на Пн — урочышча Упіснае. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Сярэднія Печы—Лельчыцы. 29 гаспадарак, 49 жыхароў (2004 г.).

Паводле пісьмовых крыніц вядома з 19 ст. як сяленне ў Лельчыцкай вол. Мазырскага пав. Мінскай губ. У 1879 г. ўпамінаецца ў ліку вёсак Сіманіцкага царк. прыхода. Паводле перапісу 1897 г. 15 двароў, 111 жыхароў, вадзяны млын. У 1908 г. 16 двароў, 125 жыхароў. У 1917 г. 176 жыхароў. У 1925 г. 31 двор. У 1931 г. арганізаваны калгас «2-я пяцігодка», працавалі вадзяны млын і ваўначоска. У 1940 г. 49 двароў, 258 жыхароў. У Вял. Айч. вайну ў чэрв. 1943 г. ням. акупанты спалілі вёску. Паводле перапісу 1959 г. 207 жыхароў. У складзе калгаса «Прагрэс» (цэнтр — в. Сіманічы). Планіровачна складаецца з кароткай прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ, да якой на Пн далучаецца кароткая дугападобная мерыдыянальная вуліца. Забудавана пераважна двухбакова драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**СІМАНІЦКІ МЛЫНОК** — вёска ў Тонежскім с/с, за 38 км на ПнЗ ад Лельчыц, 101 км ад чыг. ст. Ельск (на лініі Калінкавічы—Оўруч), 253 км ад Гомеля, на р. Крушынная (прыток р. Канава Крушынная) і на аўтадарозе Тураў—Лельчыцы, на Пн — Нацыянальны парк «Прыпяцкі» (з 1996 Прыпяцкі ландшафтна-гідралагічны запаведнік) і ўрочышча Яміцы, на З — урочышча Воўчае. 28 гаспадарак, 62 жыхары (2004 г.).

Засн. ў пач. 20 ст. перасяленцамі з суседніх вёсак. Найбольш актыўнае засяленне адбылося ў 1920-я г. У 1932 г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У 1940 г. 38 двароў, 195 жыхароў. У Вял. Айч. вайну ў студз. 1943 г. ням. акупанты спалілі вёску і загубілі 8 жыхароў. Паводле перапісу 1959 г. 147 жыхароў. У складзе калгаса «Чырвонае Палессе» (цэнтр — в. Слабада). Планіровачна складаецца з кароткай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ і забудаванай бессістэмна драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**СІМАНІЧЫ** — вёска, цэнтр Сіманіцкага с/с, за 23 км на ПнЗ ад Лельчыц, 75 км ад чыг. ст. Ельск (на лініі Калінкавічы—Оўруч), 238 км ад Гомеля, на р. Свінавод (прыток р. Прыпяць) і аўтадарозе Тураў—Лельчыцы, на У — меліярацыйны канал, урочышча Заружжа і р. Шушэраўка (прыток р. Свінавод), на З — урочышчы Буда і Кадзета, на Пн — На-



*Дом культуры ў в. Сіманічы.*

цыянальны парк «Прыпяцкі» (да 1996 Прыпяцкі ландшафтна-гідралагічны запаведнік). 342 гаспадаркі, 852 жыхары (2004 г.).

Паводле пісьмовых крыніц вядома з 16 ст. як в. Сіманавічы ў Мазырскім пав. Мінскага ваяв. ВКЛ. З 1520 г. ў валоданні Тураўскай біскупскай кафедры. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. Дзейнічала Параскеўская царква (у ёй захоўваліся метрычныя кнігі з 1806). У 1824 г. замест састарэлага пабудаваны новы драўляны будынак царквы. У 1850 г. 53 двары, уладанне Вішнявецкага. У 1864 г. адкрыта нар. вучылішча. Пазначана на карце 1866 г., якой карысталася Зах. меліярацыйная экспедыцыя, што працавала на землях памешчыка В.Р.Рыбнікава ў 1890-х г. У 1885 г. 68 двароў, 376 жыхароў. Паводле перапісу 1897 г. 122 двары, 778 жыхароў, царк.-прыходская школа, хлебазапасны магазін, кузня, крама, карчма, у Лельчыцкай вол. Мазырскага пав. Мінскай губ. У 1908 г. 154 двары, 848 жыхароў. Побач быў фальварак. У 1917 г. ў сяле і фальварку 1072 жыхары. У 1925 г. 195 двароў. З 20.8.1924 г. цэнтр Сіманіцкага с/с Лельчыцкага, з 25.12. 1962 г. Мазырскага, з 6.1.1965 г. Лельчыцкага раёнаў Мазырскай (да 26.7.1930 і з 21.6.1935 да 20.2.1938) акругі, з 20.2.1938 г. Палескай, з 8.1.1954 г. Гомельскай абласцей. У 1930 г. арганізаваны калгас «Прагрэс», працавала кузня. У 1940 г. 245 двароў, 1206 жыхароў. У Вял. Айч. вайну ў студз. 1943 г. ням. акупанты спалілі вёску і загубілі 9 жыхароў. За час акупацыі карнікі загубілі 108 жыхароў. Вызвалена 23.1.1944 г. Разам з часцямі Чырв. Арміі ў вызваленні вёскі ўдзельнічала Лельчыцкая партыз. брыгада. У цэнтры каля будынка выканкома сельскага Савета пахаваны 10 воінаў, якія загінулі ў баях за вёску. Паводле перапісу 1959 г. 1275 жыхароў. Цэнтр калгаса «Прагрэс». Размешчаны лясніцтва, швейная і шавецкая майстэрні, сярэдняя школа, Дом культуры, б-ка, аптэка, б-ца, дзіцячыя яслі-сад, аддз. сувязі, вет. ўчастак, сталовая, 3 магазіны. Планіровачна складаецца з 2 падзеленых ракой частак: заходняй (да працяглай, амаль прамалінейнай, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ вуліцы далучаецца кароткая вуліца, арыентаваная з ПдУ на ПнЗ) і ўсходняй (дугападобная вуліца, арыентаваная з ПдЗ на ПнУ). Забудова пераважна драўляная, жылыя дамы сядзібнага тыпу.

**СІНІЦКАЕ ПОЛЕ** — вёска ў Буйнавіцкім с/с, за 35 км на У ад Лельчыц, 58 км ад чыг. ст. Ельск (на лініі Калінкавічы—Оўруч), 180 км ад Гомеля. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Глушкавічы—Мазыр. 130 гаспадарак, 392 жыхары (2004 г.).


*М.П.Сыдзько.*

Курганны могільнік (3 насыпы), выяўлены археолагамі за 1 км на Пн ад вёскі, ва ўрочышчы Рудкаў Лясок, сведчыць аб дзейнасці чалавека ў гэтых мясцінах у глыбокай мінуўшчыне. Паводле пісьмовых крыніц вядома з 19 ст. як сяленне ў Буйнавіцкай вол. Мазырскага пав. Мінскай губ. Пад 1879 г. пазначана ў ліку сяленняў Буйнавіцкага царк. прыхода. Паводле перапісу 1897 г. 32 двары, 198 жыхароў, капліца, хлебазапасны магазін. У 1900 г. пабудавана памяшканне і пачала дзейнічаць школа. У 1908 г. 37 двароў, 279 жыхароў. У 1917 г. 329 жыхароў. У 1921 г. 88 двароў, 534 жыхары. З 20.8.1924 г. да 16.7.1954 г. цэнтр Сініцкапольскага с/с. У 1931 г. арганізаваны калгас «Чырвонае Поле», працавала кузня. У 1940 г. 115 двароў. У Вял. Айч. вайну ў ліп. 1943 г. ням. акупанты спалілі вёску і загубілі 20 жыхароў, а ўсяго за час вайны — 30 жыхароў. Паводле перапісу 1959 г. 338 жыхароў. Цэнтр калгаса «Зара». Размешчаны 9-гадовая школа, клуб, б-ка, фельч.-акушэрскі пункт, дзіцячы сад, аддз. сувязі, швейная і шавецкая майстэрні, магазін. Планіровачна складаецца з крыху выгнутай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ, да якой на Пн далучаецца кароткая прамалінейная вуліца. Забудова двухбаковая, драўляная, сядзібнага тыпу. Радзіма Героя Сав. Са-

юза, ганаровага грамадзяніна г.п. Лельчыцы М.П.Сыдзько. Яго імя носяць вуліцы ў Лельчыцах і Рэчыцы.

**СЛАБАДА** — вёска ў Тонежскім с/с, за 45 км на З ад Лельчыц, 48 км ад чыг. ст. Жыткавічы (на лініі Лунінец—Калінкавічы), 122 км ад Гомеля, на У і ПнУ — урочышчы Мошкі, Заломы, Ніўкі, Гадоўкі, на ПнЗ — урочышча Таракатніца. Транспартныя сувязі па мясцовай, потым аўтадарозе Дзяржынск—Лельчыцы. 244 гаспадаркі, 551 жыхар (2004 г.).

Мясціны сучаснай вёскі асвойваліся чалавекам у глыбокай старажытнасці, аб чым сведчаць выяўленыя археолагамі 2 курганныя могільнікі (37 насыпаў, 0,8 км на З ад вёскі, ва ўрочышчы Курганы; 4 насыпы, 3 км на З ад вёскі). Паводле пісьмовых крыніц вядома з пач. 19 ст. як сяленне ў Тонежскай вол. Мазырскага пав. Мінскай губ. У 1811 г. 11 двароў, 59 жыхароў. Паводле рэвізскіх матэрыялаў 1834 г. 15 двароў, 99 жыхароў, у складзе Тураўскага казённага маёнтка. Пад 1879 г. пазначана як сяленне ў Тонежскім царк. прыходзе. Паводле перапісу 1897 г. 74 двары, 401 жыхар, кузня, у 1908 г. 85 двароў, 607 жыхароў. У 1913 г. адкрыта земская школа, якая размяшчалася ў наёмнай сял. хаце. У 1925 г. 118 двароў. У 1930 г. арганізаваны калгас. У 1940 г. 141 двор, 723 жыхары. У студз. 1943 г. ням. акупанты спалілі вёску і загубілі 9 жыхароў. Паводле перапісу 1959 г. 526 жыхароў. Цэнтр калгаса «Чырвонае Палессе». Размешчаны 9-гадовая школа, фельч.-акушэрскі пункт, Дом культуры, аддз. сувязі. Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ і забудаванай двухбакова драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. У цэнтры — невялікае вадасховішча і парк.

*Народны фальклорны калектыў «Журавінка» з в. Слабада.*



**СЛАБАДА** — пасёлак у Тонежскім с/с, за 43 км на ПнЗ ад Лельчыц, 106 км ад чыг. ст. Ельск (на лініі Калінкавічы—Оўруч), 258 км ад Гомеля, на З — урочышчы Ніўкі, Галоўкі, Заломы, на Пн — Воўчае, на У р. Крушынная (прыток р. Канава Крушынная), на Пн — Нацыянальны парк «Прыпяцкі» (да 1996 Прыпяцкі ландшафтна-гідралагічны запаведнік). Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Дзяржынск—Лельчыцы. 40 гаспадарак, 77 жыхароў (2004 г.).

Засн. ў пач. 20 ст. Найбольш актыўная забудова прыпадае на 1920-я г. У 1925 г. 26 двароў. У 1931 г. пасялкоўцы ўступілі ў калгас, працавала кузня. Паводле перапісу 1959 г. 526 жыхароў. У складзе ўчастка Тураўскага леспрамгаса. Размешчаны пач. школа, фельч.-акушэрскі пункт, клуб, аддз. сувязі. Планіровачна складаецца з кароткай прамалінейнай, мерыдыянальнай вуліцы, да якой далучаюцца 2 завулкі. Забудова драўляная, сядзібнага тыпу. Радзіма бел. мастака І.І.Караленкі.

**СЛАБОДКА** — вёска ў Бараўскім с/с, за 20 км на ПдЗ ад Лельчыц, 235 км ад Гомеля, 65 км ад чыг. ст. Мазыр (на лініі Калінкавічы—Оўруч), на Пд р. Убарць (прыток р. Прыпяць). Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Глушкавічы—Лельчыцы. 17 гаспадарак, 29 жыхароў (2004 г.).

Паводле пісьмовых крыніц вядома з 19 ст. як вёска ў Тонежскай вол. Мазырскага пав. Мінскай губ. Паводле перапісу 1897 г. вёска Слабодка (яна ж Убарць), 12 двароў, 81 жыхар. У 1932 г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У 1940 г. 22 двары, 132 жыхары. У Вял. Айч. вайну ў кастр. 1943

г. ням. акупанты спалілі вёску і загубілі 8 жыхароў. Паводле перапісу 1959 г. 137 жыхароў. У складзе калгаса «Звязда» (цэнтр — в. Баравое). Планіровачна складаецца з кароткай прамалінейнай, амаль мерыдыянальнай вуліцы, забудаванай двухбакова драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**СОМ** — вёска ў Астражанскім с/с, за 42 км на ПнУ ад Лельчыц, 65 км ад чыг. ст. Мазыр (на лініі Лунінец—Гомель), 209 км ад Гомеля. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Лельчыцы—Мазыр. 6 гаспадарак, 9 жыхароў (2004 г.).

Паводле пісьмовых крыніц вядома з 19 ст. як сяленне ў Буйнавіцкай вол. Мазырскага пав. Мінскай губ. Паводле перапісу 1897 г. хутар, 2 двары, 11 жыхароў, смалярня. У 1908 г. 6 двароў, 56 жыхароў. У 1917 г. 63 жыхары. У 1921 г. 15 двароў, 66 жыхароў. У 1931 г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. Паводле перапісу 1959 г. 62 жыхары. У складзе саўгаса «Буйнавічы» (цэнтр — в. Буйнавічы). Планіровачна складаецца з кароценькай, амаль шыротнай вуліцы, забудаванай рэдка драўлянымі сял. сядзібамі.

**СТАДОЛІЧЫ** — вёска, цэнтр Стадоліцкага с/с, за 14 км на ПдУ ад Лельчыц, 63 км ад чыг. ст. Ельск (на лініі Калінкавічы—Оўруч), 229 км ад Гомеля. Аўтадарога звязвае вёску з Лельчыцамі. 382 гаспадаркі, 847 жыхароў (2004 г.).

Паводле пісьмовых крыніц вядома з 16 ст. як вёска ў Мазырскім пав. Мінскага ваяв. ВКЛ, уладанне царквы. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1795 г. 46 двароў. У 1864 г. адкрыта нар. вучылішча. У 1866 г. 54 двары, 349 жыхароў, царква. Уваходзіла ў склад маёнтка, якім у 1874 г. валодаў памешчык Болатаў. У 1885 г. 443 жыхары. Паводле перапісу 1897 г. 99 двароў, 157 жыхароў. Вялася распрацоўка і продаж лесу. У 1908 г. 121 двор, 994 жыхары, у Буйнавіцкай вол. Мазырскага пав. Мінскай губ. Паралельна з вучылішчам дзейнічала царк.-прыходская школа, якая размяшчалася ў наёмнай сял. хаце. У 1917 г. 1198 жыхароў. У 1921 г. 247 двароў, 1294 жыхары. З 20.8.1924 г. цэнтр Стадоліцкага с/с Лельчыцкага, з 25.12.1962 г. Мазырскага, з 6.1.1965 г. Лельчыцкага раёнаў Мазырскай (да 26.7.1930 і з 21.6.1935 да 20.2.1938) акругі, з 20.2.1938 г. Палескай, з 8.1.1954 г. Гомельскай абласцей. У 1929 г. арганізаваны калгас «XV з'езд ВКП(б)Б», працавалі паравы млын і кузня. У 1940 г. 340 двароў. У Вял. Айч. вайну ў ліп. 1943 г. ням. акупанты спалілі вёску і загубілі 58 жыхароў. На ўшанаванне памяці 176 жыхароў вёсак Стадолічы, Заброддзе і Ручное, якія загінулі на франтах і ў партыз. барацьбе, на зах. ускраіне ў 1967 г. пастаўлены абеліск. Паводле перапісу 1959 г. 1215 жыхароў. Цэнтр калгаса «Шлях



*Сучасная забудова ў в. Стадолічы.*

Ільіча». Размешчаны лясніцтва, швейная майстэрня, сярэдняя школа, Дом культуры, б-ка, дзіцячы сад, фельч.-акушэрскі пункт, вет. ўчастак, аддз. сувязі, 3 магазіны. Планіровачна складаецца з працяглай, крывалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ, да якой далучаюцца з ПдЗ кароткія вуліцы. На Пд — бессістэмная забудова. Будынкі мураваныя і драўляныя, пастаўлены двухбакова, сядзібнага тыпу. Непадалёку ёсць залежы жалезнякоў. Радзіма бел. вучонага В.В.Шура.

**СЯРЭДНІЯ ПЕЧЫ** — вёска ў Сіманіцкім с/с, за 18 км на ПнЗ ад Лельчыц, 85 км ад чыг. ст. Ельск (на лініі Калінкавічы—Оўруч), 233 км ад Гомеля, на аўтадарозе Сіманічы—Лельчыцы, на Пн — Нацыянальны парк «Прыпяцкі» (да 1996 Прыпяцкі ландшафтна-гідралагічны запаведнік), на Пд — урочышча Плусішча, на У сетка меліярацыйных каналаў, звязаных з р. Каросцінка (прыток р. Убарць). 115 гаспадарак, 326 жыхароў (2004 г.).

Паводле пісьмовых крыніц вядома з пач. 20 ст. У 1908 г. 14 двароў, 75 жыхароў, у Лельчыцкай вол. Мазырскага пав. Мінскай губ. У 1917 г. 366 жыхароў. У 1925 г. 65 двароў. У 1930 г. арганізаваны калгас «Сярэднія Печы», працавала кузня. У 1940 г. 87 двароў, 468 жыхароў. У Вял. Айч. вайну ў ліст. 1942 г. ням. акупанты спалілі вёску. За час акупацыі карнікі загубілі 22 жыхароў. Паводле перапісу 1959 г. 381 жыхар. Цэнтр падсобнай гаспадаркі «Чырвоная дуброва» раённага аб'яднання «Сельгасхімія». Размешчаны 9-гадовая школа, клуб, б-ка, аддз. сувязі, магазін, фельч.-акушэрскі пункт, дзіцячы сад. Планіровачна складаецца з працяглай прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ, да сярэдзіны якой з Пн далучаецца прамалінейная вуліца, арыентаваная з ПдЗ на ПнУ. Забудова шчыльная, драўляная, сядзібнага тыпу. Радзіма бел. мастака М.Т.Бандарчука.

*Абрад «Чырачка, або Гуканне вясны» ў выкананні дзіцячага фальклорнага калектыву з в. Тонеж.*



**ТАРТАК** — вёска ў Бараўскім с/с, за 22 км на ПдЗ ад Лельчыц, 67 км ад чыг. ст. Мазыр (на лініі Калінкавічы—Оўруч), 240 км ад Гомеля, на З — р. Убарць (прыток р. Прыпяць), на Пд сетка меліярацыйных каналаў, злучаных з р. Убарць. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Глушкавічы—Лельчыцы. 39 гаспадарак, 76 жыхароў (2004 г.).

Выяўленыя археолагамі побач з вёскай селішчы ранняга жал. веку і раннефеадальнага часу сведчаць аб актыўнай дзейнасці чалавека ў гэтых мясцінах у далёкія старажытныя часы. Паводле пісьмовых крыніц вядома з 19 ст. як вёска ў Тонежскай вол. Мазырскага пав. Мінскай губ. Паводле рэвізскіх матэрыялаў 1834 г. слабада, 12 двароў. У 1850 г. ўладанне памешчыка Булгака. У 1879 г. пазначана ў ліку сяленняў Мілашавіцкага царк. прыхода. У 1908 г. 23 двары, 163 жыхары. У 1917 г. 185 жыхароў, у 1925 г. 39 двароў. У 1931 г. арганізаваны калгас. У 1940 г. 48 двароў, 258 жыхароў. У Вял. Айч. вайну ў вер. 1943 г. ням. акупанты спалілі вёску і загубілі 33 жыхароў. Паводле перапісу 1959 г. 325 жыхароў. У складзе калгаса «Звязда» (цэнтр — в. Баравое). Размешчана пач. школа. Планіровачна складаецца з 2 частак: паўднёвай (невялікая вуліца амаль мерыдыянальнай арыентацыі з 2 завулкамі) і паўночнай (вуліца мерыдыянальнай арыентацыі з завулкамі). Забудова пераважна двухбаковая, драўляная, сядзібнага тыпу.

**ТОНЕЖ** — вёска, цэнтр Тонежскага с/с, за 53 км на З ад Лельчыц, 58 км ад чыг. ст. Жыткавічы (на лініі Лунінец–Калінкавічы), 268 км ад Гомеля, на аўтадарозе Дзяржынск–Лельчыцы, на З — урочышча Дзякава Ніва, на ПнЗ — урочышча Ляскі, каля вёскі пачынаецца р. Мутвіца (прыток р. Канава Галоўная). 338 гаспадарак, 725 жыхароў (2004 г.).

Паводле пісьмовых крыніц вядома з 16 ст. як вёска ў Трокскім ваяв., з 1565 г. ў Пінскім пав. Берасцейскага ваяв. ВКЛ, шляхецкая ўласнасць. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1811 г. 64 двары, у Мазырскім пав. Мінскай губ. У 1834 г. 56 сямей, 314 жыхароў, у складзе Тураўскага казённага маёнтка. Дзейнічала Свята-Мікалаеўская царква (захоўваліся метрычныя кнігі з 1834). У 1859 г. замест састарэлай пабудавана новая драўляная на мураваным фундаменце царква. У 1863 г. ўзведзены будынак і дзейнічала школа. У 1866 г. 76 двароў, 428 жыхароў. Цэнтр Тонежскай вол., у якую ў 1885 г. ўваходзілі 19 сяленняў з 536 дварамі (з 29.8.1919 да 10.8.1920 воласць у складзе Гомельскай губ., 17.7.1924 ліквідавана і тэрыторыя ўключана ў Мазырскую акругу). Паводле перапісу 1897 г. 150 двароў, 894 жыхары, царква, нар. вучылішча, яўр. малітоўная школа, прыёмны пакой. У 1908 г. 177 двароў, 1063 жыхары. Мелася паштовае аддзяленне. У 1917 г. 1269 жыхароў. З 20.8.1924 г. цэнтр Тонежскага с/с Тураўскага, з 17.4.1962 г. Лельчыцкага, з 25.12.1962 г. Мазырскага, з 6.1.1965 г. Лельчыцкага раёнаў Мазырскай (да 26.7.1930 і з 21.8.1935 да 20.2.1938) акругі, з 20.2.1938 г. Палескай, з 8.1.1954 г. Гомельскай абласцей. У 1925 г. 232 двары. У 1930 г. арганізаваны калгас «Праца», дзейнічалі смалакурня, спірта-парашковы і дзягцярны з-ды, ваўначоска, кузня, сукнавальня, паравы млын, вятрак, лясніцтва, фельч.-акушэрскі пункт. У 1940 г. 375 двароў, 1350 жыхароў. У Вял. Айч. вайну ў 1943 г. ням. акупанты спалілі вёску, а 6.1.1943 г. 261 жыхара ў мясц. царкве. У брацкай магіле, што на рагу вуліц Савецкай і Калгаснай, пахаваны 3 чырвонаармейцы, якія загінулі ў 1922 г., і 12 сав. воінаў і 2 партызаны — у 1944 г. 101 вясковец загінуў на франтах і ў партыз. барацьбе. У памяць аб іх у мемарыяльным скверы ў 1967 г. пастаўлена скульптура воіна. Паводле перапісу 1959 г. 1325 жыхароў. Цэнтр калгаса «Праца». Размешчаны хлебапякарня, цэх безалкагольных напіткаў, 2 лесапільні, млын, швейная майстэрня, лясніцтва, сярэдняя школа, Дом культуры, дзіцячыя яслі-сад, б-ка, б-ца, аптэка, вет. ўчастак, аддз. сувязі, 4 магазіны. Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ. Да галоўнай з Пн далучаецца дугападобная вуліца амаль мерыдыяналь-





*Магіла ахвяр фашызму ў в. Тонеж.*

*Вышыўка з в. Тонеж.*



*Жанчына ў святочным убранні з в. Тонеж.*

най арыентацыі. Забудавана двухбакова, пераважна драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. Каля вёскі размешчана радовішча торфу Лyскі (1 млн. м$^3$). Радзіма вучоных М.П. і У.П. Дрынеўскіх, бел. харавога дырыжора М.П.Дрынеўскага.

**УБАРЦКАЯ РУДНЯ** — вёска ў Астражанскім с/с, за 44 км на ПнУ ад Лельчыц, 67 км ад чыг. ст. Мазыр (на лініі Лунінец—Гомель), 211 км ад Гомеля, на р. Убарць (прыток р. Прыпяць), на Пд — лес. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Лельчыцы—Мазыр. 93 гаспадаркі, 144 жыхары (2004 г.).

Паводле пісьмовых крыніц вядома з 19 ст. як сяленне ў Буйнавіцкай вол. Мазырскага пав. Мінскай губ. У 1850 г. ў архіўных звестках пазначана як вёска. У 1879 г. ўпамінаецца ў ліку сяленняў Астражанскага царк. прыхода. Паводле перапісу 1897 г. вёска (10 двароў, 65 жыхароў) і фальварак (14 двароў, 97 жыхароў, лесапільня, вадзяны млын). У 1908 г. 38 двароў, 177 жыхароў. У 1912 г. адкрыта школа, якая размяшчалася ў наёмнай сял. хаце, у 1923 г. для яе пабудавана сваё памяшканне. У 1917 г. 501 жыхар. У 1921 г. 99 двароў, 608 жыхароў. У 1930 г. арганізаваны калгас «Бальшавік», працавалі вадзяны млын і кузня. У 1940 г. 180 двароў, 540 жыхароў. У Вял. Айч. вайну ў ліст. 1942 г. ням. акупанты спалілі вёску і загубілі 5 жыхароў. Вызвалена 23.1.1944 г. Паводле перапісу 1959 г. 794 жыхары. У складзе саўгаса «Буйнавічы» (цэнтр — в. Буйнавічы). Размешчаны б-ка, фельч.-акушэрскі пункт, клуб. Планіровачна складаецца з амаль прамалінейнай вуліцы, блізкай да мерыдыянальнай арыентацыі. Забудова няшчыльная, драўляная, сядзібнага тыпу. Непадалёку невялікія залежы жалезнякоў.

**УДАРНАЯ** (да 30.7.1964 Асмаленік) — вёска, цэнтр Ударненскага с/с, за 34 км на Пн ад Лельчыц, 79 км ад чыг. ст. Ельск (на лініі Калінкавічы—Оўруч), 211 км ад Гомеля, на З — Нацыянальны парк «Прыпяцкі» (да 1996 Прыпяцкі ландшафтна-гідралагічны запаведнік). Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Замошша—Лельчыцы. 249 гаспадарак, 778 жыхароў (2004 г.).

Паводле пісьмовых крыніц вядома з 19 ст. як сяленне ў Буйнавіцкай вол. Мазырскага пав. Мінскай губ. Паводле перапісу 1897 г. 15 двароў, 107 жыхароў. У 1908 г. 23 двары, 141 жыхар. У 1917 г. 201 жыхар. У 1921 г. 39 двароў, 248 жыхароў. У 1925 г. 46 двароў. У 1930 г. арганізаваны калгас. У 1940 г. 51 двор, 253 жыхары. У Вял. Айч. вайну ў ліп. 1943 г. ням. акупанты спалілі вёску і загубілі 18 жыхароў. Паводле перапісу 1959 г. 390 жыхароў. З 1988 г. цэнтр Ударненскага с/с. Цэнтр саўгаса-камбіната «Ударны». Размешчаны сярэдняя школа, б-ка, фельч.-акушэрскі пункт, дзіцячыя яслі-сад, Дом культуры, аддз. сувязі. Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ, да якой з У далучаюцца 2 кароткія вуліцы. Забудова двухбаковая, драўляная, сядзібнага тыпу.

**ЧАМЯРНОЕ** — вёска ў Лельчыцкім с/с, за 3 км на Пд ад Лельчыц, 68 км ад чыг. ст. Ельск (на лініі Калінкавічы—Оўруч), 218 км ад Гомеля, на аўтадарозе Глушкавічы—Лельчыцы, на У р. Убарць (прыток р. Прыпяць), на З сетка меліярацыйных каналаў, на Пн невялікі вадаём, на Пд урочышча Ямніцы. 185 гаспадарак, 541 жыхар (2004 г.).

Паводле пісьмовых крыніц вядома з пач. 20 ст. як хутар у Лельчыцкай вол. Мазырскага пав. Мінскай губ. У 1908 г. 4 двары, 32 жыхары. У 1917 г. 79 жыхароў. У 1931 г. вяскоўцы ўступілі ў кал-

гас. У 1940 г. 66 двароў, 389 жыхароў. У Вял. Айч. вайну ў сак. 1943 г. ням. акупанты спалілі вёску і загубілі 11 жыхароў. У складзе калгаса імя У.І.Леніна (цэнтр — г.п. Лельчыцы). Размешчаны пач. школа, клуб. Планіровачна складаецца з 3 вуліц, арыентаваных з ПдЗ на ПнУ і перакрыжаваных 2 кароткімі вуліцамі. На Пн далучаецца невялікая адасобленая забудова каля вадаёма. Будынкі драўляныя, сядзібнага тыпу, пастаўлены шчыльна, двухбакова. Радзіма бел. вучоных А.С.Шуканава, У.П.Шуканава.

**ЧАПАЕЎСКІ** (да 21.1.1969 Берасцяны Завод) — пасёлак у Буйнавіцкім с/с, за 30 км на ПнУ ад Лельчыц, 53 км ад чыг. ст. Ельск (на лініі Калінкавічы—Оўруч), 206 км ад Гомеля, на У і Пн лес. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Лельчыцы—Мазыр. 26 гаспадарак, 61 жыхар (2004 г.).

Паводле пісьмовых крыніц вядомы з пач. 20 ст. як хутар у Буйнавіцкай вол. Мазырскага пав. Мінскай губ. У 1908 г. 10 двароў, 77 жыхароў. У 1917 г. 88 жыхароў. У 1921 г. 30 двароў, 238 жыхароў. У 1931 г. пасялкоўцы ўступілі ў калгас. Паводле перапісу 1959 г. 222 жыхары. У складзе калгаса імя В.І.Чапаева (цэнтр — в. Першамайск). Планіровачна складаецца з прамалінейнай кароткай вуліцы, блізкай да шыротнай арыентацыі і забудаванай двухбакова драўлянымі сял. сядзібамі.

**ЧЫРВОНАБЯРЭЖЖА** (да 30.7.1964 Злодзін) — вёска ва Ударненскім с/с, за 14 км на ПнУ ад Лельчыц, 200 км ад Гомеля, 50 км ад чыг. ст. Ельск (на лініі Калінкавічы—Оўруч), на р. Убарць (прыток р. Прыпяць) і аўтадарозе Мазыр—Лельчыцы, на Пд — урочышча Бярэзавец. 150 гаспадарак, 397 жыхароў (2004 г.).

Паводле пісьмовых крыніц вядома з 18 ст. як сяленне ў Мазырскім пав. Мінскага ваяв. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1795 г. 114 жыхароў, у Лельчыцкай вол. Мазырскага пав. Мінскай губ. У 1834 г. 21, у 1850 г. 23 двары. У 1908 г. 44 двары, 306 жыхароў. У 1925 г. 93 двары. У 1929 г. арганізаваны калгас «Х з'езд Саветаў», працавала кузня. У 1940 г. 96 двароў, 485 жыхароў. У Вял. Айч. вайну ў ліп. 1943 г. ням. акупанты спалілі вёску і загубілі 55 жыхароў. На вясковых могілках пахаваны 22 сав. воіны, якія загінулі ў студз.—лют. 1944 г. ў баях супраць акупантаў. Паводле перапісу 1959 г. 562 жыхары. Цэнтр саўгаса «Лельчыцкі». Размешчаны механічная майстэрня, 9-гадовая школа, клуб, б-ка, фельч.-акушэрскі пункт, дзіцячы сад, аддз. сувязі, сталовая, 2 магазіны. Планіровачна складаецца з дугападобнай вуліцы, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ, да якой далучаюцца 2 завулкі. Забудова двухбаковая, шчыльная. Жылыя дамы драўляныя, сядзібнага тыпу.

**ЧЫЯНЕ** — вёска ў Лельчыцкім с/с, за 4 км на ПнЗ ад Лельчыц, 69 км ад чыг. ст. Ельск (на лініі Калінкавічы—Оўруч), 219 км ад Гомеля, на З, Пн і У мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Сярэднія Печы—Лельчыцы. 71 гаспадарка, 146 жыхароў (2004 г.).

Засн. ў пач. 20 ст. перасяленцамі з суседніх вёсак. Найбольш актыўная забудова прыпадае на 1920-я г. У 1931 г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У 1940 г. 54 двары, 237 жыхароў. У Вял. Айч. вайну ў сак. 1943 г. ням. акупанты спалілі вёску і загубілі 4 жыхароў. 16 вяскоўцаў загінулі на франтах. На ўшанаванне іх памяці ў 1979 г. пастаўлена стэла. У складзе калгаса імя У.І.Леніна (цэнтр — г.п. Лельчыцы). Размешчаны пач. школа і клуб. Планіровачна складаецца з 3 кароткіх, амаль паралельных паміж сабой вуліц, арыентаваных з ПдУ на ПнЗ. На Пд да іх далучаецца Г-падобная вуліца. Забудавана пераважна аднабакова драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**ШУГАЛЕІ** — вёска ў Сіманіцкім с/с, за 31 км на ПнЗ ад Лельчыц, 96 км ад чыг. ст. Ельск (на лініі Калінкавічы—Оў-

руч), 246 км ад Гомеля, на З р. Крухавец (прыток р. Свінавод), на ПдУ — урочышча Гарадзецкае. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Сіманічы—Лельчыцы. 2 гаспадаркі, 3 жыхары (2004 г.).

Засн. ў пач. 20 ст. перасяленцамі з суседніх вёсак. У 1908 г. 5 двароў, 35 жыхароў, у Лельчыцкай вол. Мазырскага пав. Мінскай губ. У 1917 г. 309 жыхароў. У 1925 г. 55 двароў. У 1929 г. арганізаваны калгас «Ленінскі шлях», працавалі кузня і майстэрня па вырабе колаў. У 1940 г. 56 двароў, 231 жыхар. У Вял. Айч. вайну ў крас. 1943 г. ням. акупанты спалілі вёску і загубілі 3 жыхароў. Паводле перапісу 1959 г. 139 жыхароў. У складзе калгаса «Прагрэс» (цэнтр — в. Сіманічы). Забудова аднабаковая, драўляная, сядзібнага тыпу.

**КРЫНІЦЫ І ЛІТАРАТУРА**

Нацыянальны архіў Рэспублікі Беларусь, ф. 30, воп. 4, спр. 167; воп. 5, спр. 6755; ф. 42, воп. 2, спр. 956—963, 1729, 1731, 1732, 1734, 1735, 1809, 1811, 1812, 4598; ф. 332, воп. 1, спр. 919; ф. 333, воп. 9, спр. 553; ф. 338, воп. 1, спр. 919.
Нацыянальны гістарычны архіў Рэспублікі Беларусь, ф. 333, воп. 9, спр. 47, 54, 56, 60, 62, 63, 166, 174, 341, 347, 380, 472, 553, 555, 563, 583, 585; ф. 393, воп. 9, спр. 56; ф. 440, воп. 1, спр. 7; воп. 2, спр. 2; ф. 448, воп. 1, спр. 63, 67; ф. 834, воп. 1, спр. 3; ф. 859, воп. 1, спр. 2; ф. 869, воп. 1, спр. 2; ф. 879, воп. 1, спр. 1; ф. 1461, воп. 2, спр. 10, 18.
Расійскі дзяржаўны гістарычны архіў, ф. 1290, воп. 2, спр. 1318.
Акты, относящиеся к истории Западной России. Т. 2 (1506—1514). СПб., 1848.
Городские поселения Российской империи. Т. 3. СПб., 1863.
Труды Минского губернского статистического комитета. Вып. 1. Мн., 1870.
Список землевладельцев Гомельской губернии на 1876 г. Мн., 1877.
Список землевладельцев Минской губернии на 1876 г. Мн., 1877.
Описание церквей и приходов Минской епархии. Кн. 5. Мозырский уезд. Мн., 1879.
Волости и важнейшие селения Европейской России. Вып. 5. СПб., 1886.
Любавский М. Областное деление и местное управление Литовско-Русского государства ко времени издания первого Литовского Статута. М., 1892.
Памятная книжка Минской губернии на 1901 год. Мн., 1901.
Памятная книжка Минской епархии на 1901 год. Мн., 1901.
Акты Виленской археографической комиссии. Т. 23. Вильна, 1908.
Обзор Минской губернии за 1908 год. Мн., 1909.
Список населенных мест Минской губернии. Мн., 1909.
Список населенных мест БССР (б. Минской губернии). Мн., 1924.
Спіс прамысловых прадпрыемстваў БССР. Вып. 1—2. Мн., 1935.
Документы и материалы по истории Белоруссии. Т. 3 (1900—1917 гг.). Мн., 1953.
Нацистская политика геноцида и «выжженной земли» в Белоруссии. 1941—1944. Мн., 1984.
Всенародная борьба в Белоруссии против немецко-фашистских захватчиков. Т. 3. Мн., 1985.
Збор помнікаў гісторыі і культуры Беларусі: Гомельская вобласць. Мн., 1985.
Административно-территориальное устройство БССР. Т. 1. Мн., 1989.
Спиридонов М.Ф. Закрепощение крестьянства Беларуси (XV—XVI вв.). Мн., 1993.
Литовская метрика. Кн. 3 (1440—1498). Вильнюс, 1998.
Энцыклапедыя гісторыі Беларусі. Т. 5. Мн., 1999.



# ЛОЕЎСКІ РАЁН

Утвораны 8.12.1926 г. на ПдУ вобласці, у межах Прыдняпроўскай нізіны. Да 9.6.1927 г. ў Рэчыцкай, да 26.7.1930 г. ў Гомельскай акрузе, з 20.2.1938 г. ў Гомельскай вобл. Цэнтр — г.п. Лоеў. 4.8.1927 г. да раёна далучана частка ліквідаваных Дзятлавіцкага і Холмецкага раёнаў. 25.12.1962 г. раён ліквідаваны, 30.7.1966 г. — адноўлены. Мяжуе на Пд і У з Чарнігаўскай вобл. (Украіна), на Пн — з Гомельскім і Рэчыцкім, на З — з Хойніцкім і Брагінскім раёнамі. Плошча 1052 км$^2$, насельніцтва 17 тыс. чал. Праходзяць аўтадарогі Рэчыца—Лоеў—Брагін, Холмеч—Брагін і інш. Рака Дняпро з прытокамі Сож, Брагінка і Песачанка. Дняпро і Сож суднаходныя. 2 радовішчы вогнетрывалай гліны (31,9 млн. т), 2 радовішчы шкловых пяскоў (2,6 млн. т), 2 радовішчы цагельнай сыравіны (0,8 млн. т). Пад с.-г. угоддзямі каля 50% тэрыторыі раёна. Глебы с-г. угоддзяў дзярнова-падзолістыя, дзярнова-падзолістыя забалочаныя, дзярновыя забалочаныя, алювіяльна-дзярновыя, тарфяна-балотныя і інш. З мінеральных глеб 18,1% суглінкавых, 30% пясчаных. Асушана больш за 5 тыс. га забалочаных зямель. 34% тэрыторыі займае лес. Якасць ворных зямель складае 36 балаў, кармавых угоддзяў — 22, усіх угоддзяў — 29 балаў. Прамысловыя прадпрыемствы пераважна ў Лоеве. 6 калгасаў і 6 саўгасаў. Дзейнічаюць пед. вучылішча, 17 агульнаадук. школ, 81 спарт. збудаванне, 30 публічных бібліятэк, 28 клубных устаноў, 5 бальніц, 17 фельч.-акушэрскіх пунктаў, 73 магазіны і 32 прадпрыемствы грамадскага харчавання.

**ЛОЕЎ** — гарадскі пасёлак, цэнтр Лоеўскага пасялковага савета і Лоеўскага р-на, за 92 км ад Гомеля, 60 км ад чыг. ст. Рэчыца (на лініі Калінкавічы—Гомель), 329 км ад Мінска. На ўсх. ускраіне р. Дняпро, па якой праходзіць дзярж. мяжа з Украінай. Помнік прыроды рэспубліканскага значэння — геалагічнае агаленне. Аўтадарогі звязваюць Лоеў з Брагінам і Рэчыцай. Прыстань на правым беразе Дняпра. 7,4 тыс. чалавек (2004 г.).

Выяўленае археолагамі селішча 7 ст. да н.э. — 2 ст. н.э. (ва ўрочышчы Папова Гара) сведчыць аб засяленні тутэйшых мясцін у глыбокай старажытнасці. У 14—18 ст. на левым беразе Дняпра, на месцы старажытнага паселішча Лоева Гара, стаяў замак, які меў форму паўкруга дыяметрам каля 125 м, абведзены земляным валам і ровам. У 1505 г. татарскія загоны хана Меглі-Гірэя дашчэнту спалілі Лоеў. Падвяргаўся разбурэнням ад татарскіх набегаў таксама ў 1535 і 1539 гг. Пад 1580 г. упамінаецца як мяст. Ло-

*Жыхары Лоеўскага павета — удзельнікі грамадзянскай вайны.*





*Бітва пад Лоевам 1649. Гравюра 17 ст.*

ева Гара ў Кіеўскім пав. З 1646 г. ў складзе Старадубскага пав. Смаленскага ваяв. ВКЛ. У 1648 г. казацкае войска захапіла і апустошыла мястэчка. 31.7.1649 г. каля Лоева адбывалася самая буйная падчас антыфеадальнай вайны бітва, у якой удзельнічала шматтысячнае з абодвух бакоў войска, Я.Радзівіл разбіў казакаў. У выніку вайны Расіі з Рэччу Паспалітай 1654—67 гг. паводле Андрусаўскага перамір'я (1667) уключаны ў склад Рэчыцкага пав. Мінскага ваяв. Належаў вял. князю ВКЛ, доўгі час быў ва ўладанні роду Юдзіцкіх, потым Лашчаў і Нарушэвічаў. У 1746 г. пабудавана драўляная Свята-Троіцкая царква (у 1838 перабудавана, у 1864 г. да яе прыбудавана званіца). У 1759 г. ўзведзена драўляная Свята-Мікалаеўская царква, якая ў 1874 г. капітальна перабудоўвалася. У ёй

*Святкаванне 60-годдзя вызвалення г.п. Лоеў ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. 17.10.2003.*



*Троіцкая царква ў Лоеве.*







*Дом культуры ў г.п. Лоеў.*

*Экспазіцыйная пляцоўка Лоеўскага музея бітвы за Днянро.*

захоўваліся евангелле, выдадзенае ў Вільні ў 1644 г., і рэзалюцыя епіскапа бел. Георгія ад 1762 г., што дазваляла збіраць міласціну на патрэбы храма. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі, у Рэчыцкім пав. Мінскай губ. У 1795 г. 90 двароў, 316 жыхароў. У 1858 г. 1906 жыхароў. Праз мястэчка праходзіў паштовы тракт з Бабруйска ў Чарнігаў і Кіеў, дзейнічалі паромная пераправа і прыстань, будаваліся драўляныя рачныя судны (баркі). Шырока распаўсюджаны ганчарны промысел. У 1864 г. адкрыта нар. вучылішча. У 1866 г. 361 двор. У 1867—71 гг. жыхары актыўна ўдзельнічалі ў антыфеадальных выступленнях. Захаваўся пабудаваны з цэглы ў 1874 г. жылы дом (цяпер помнік архітэктуры, у якім размяшчаюцца муз. школа і раённая б-ка). У той час працавала аптэка. Цэнтр Лоеўскай воласці, у якую ў 1890 г. ўваходзілі 11 сяленняў з 1040 дварамі. Паводле перапісу 1897 г. ў Лоеве 508 двароў, 4171 жыхар, 2 царквы, яўр. малітоўны дом, нар. вучылішча, канатны з-д, 8 кузняў, цагельня, 89 крам, 4 заезныя двары, карчма, побач аднайменны фальварак. Дзейнічалі паштова-тэлеграфная кантора, аптэка, паштовая станцыя. Паблізу вялася распрацоўка вапнякоў. Вялізныя страты прыносілі мястэчку пажары: 16.6.1895 г. згарэлі 88 дамоў, 58 крам, 17.9.1909 г. — 106 двароў. У вер. 1904 г. ўзнікла мясц. арганізацыя РСДРП, якая ўваходзіла ў Палескі к-т РСДРП. Летам 1905 г. адбыліся мітынг і дэманстрацыя местачкоўцаў. У 1909 г. пабудаваны з-д «Фарбацвет», які выпускаў сухія мінеральныя фарбы: охра, сурык, умбра і інш. Лоеўская охра здабывалася на Ляхавай Гары (каля в. Ісакавічы), частка прадукцыі экспартавалася за мяжу. У сак. 1917 г. створаны Савет рабочых дэпутатаў. 6.12.1918 г. вызвалены ад кайзераўскіх акупантаў. У крас. 1919 г. за-

*Фальклорна-этнаграфічны ансамбль «Жывіца» Лоеўскага раённага Дома культуры.*

*Набярэжная г.п. Лоеў.*





*Парк адпачынку ў г.п. Лоеў.*



*Цэнтральная плошча г.п. Лоеў. Помнік савецкім воінам і партызанам.*



хоплены пятлюраўцамі, у маі—чэрвені 1920 г. — палякамі. Цэнтр Лоеўскай воласці, якая з 26.4.1919 г. ўваходзіла ў Гомельскую губ. РСФСР. З 8.12.1926 г. ў складзе БССР. З 8.12.1926 г. да 25.12.1962 г. і з 30.7.1966 г. адм. цэнтр Лоеўскага р-на. З 8.12.1926 г. да 30.12.1927 г. цэнтр Лоеўскага с/с Лоеўскага р-на Рэчыцкай, з 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. Гомельскай акруг, з 20.2.1938 г. Гомельскай вобл. У 1929 г. 4200 жыхароў. Дзейнічалі прыстань, урачэбны і вет. пункты, паштова-тэлеграфная кантора, аддз. спажывецкай кааперацыі, с.-г. крэдытнае таварыства, пач. і 7-гадовая школы, 2 хаты-чытальні, б-ца, нар. дом. У 1928 г. арганізаваны саўгас «Прагрэс». У 1934 г. працавалі з-д па вырабе фарбы (з 1909), маслазавод (з 1932), 2 кузні (1932—33), друкарня (з 1932), паравы млын з лесапільняй (з 1932), кавальская (з 1929), шавецкая (з 1930), кравецкая (з 1928) і кошыкавая (з 1933) майстэрні, хлебапякарня, з-д фруктовых водаў, 2 конныя млыны, 2 крупарушкі, вятрак. З 27.9.1938 г. гар. пасёлак.

У Вял. Айч. вайну ў першыя дні фаш. нашэсця быў створаны знішчальны батальён (камандзір Г.І.Сінякоў). 26.8. 1941 г. акупіраваны ням.-фаш. войскамі. У ліст. 1942 г. з бранскіх лясоў прыбылі ў раён партыз. злучэнні С.А.Каўпака і А.Н.Сабурава. Разам з бел. партызанамі яны раптоўным ударам разграмілі варожы гарнізон у Лоеве і захапілі пасёлак. 7.11.1942 г. тут адбыўся партыз. парад у гонар 25-й гадавіны Кастрычніка. У 1943 г. карнікі загубілі 87 жыхароў (пахаваны ў магіле ахвяр фашызму на могілках па вул. Камсамольскай). Стралковы корпус пад камандаваннем ген.-лейт. П.М.Чаракманава 16.10.1943 г. фарсіраваў Дняпро і 17.10.1943 г. ўварваўся ў Лоеў, захапіў шматлікія трафеі. У баях за Лоеў вызначылася дывізія пад камандаваннем палк. М.М.Уласава (удастоены звання Героя Сав. Саюза). У баях за гар. пасёлак загінулі 204 воіны і партызаны (пахаваны ў брацкай магіле па вул. Леніна). У ліку пахаваных Героі Сав. Саюза Х.Ш.Агліулін, П.А.Акуцыёнак, М.Р.Апарын, Е.Дз.Волкаў, І.М.Карачараў, Б.А.Царыкаў, М.А.Шавялёў. Некаторы час у 1943 г. ў Лоеве размяшчаўся камандны пункт 65-й арміі. Двойчы Герой Сав. Саюза генерал арміі П.І.Батаў з'яўляецца ганаровым грамадзянінам Лоева. У гар. пасёлку размешчаны маслазавод, камбінаты буд. матэрыялаў і быт. абслугоўвання, філіял Гомельскага швейнага вытворчага аб'яднання Камінтэрн, малочны з-д, раённыя аб'яднанні

*Раённая бібліятэка ў г.п. Лоеў. Помнік архітэктуры 19 ст.*





Помнік на брацкай магіле савецкіх воінаў і партызан.

«Сельгастэхніка» і «Сельгасхімія», аграхімлабараторыя, раённы цэнтр гігіены і эпідэміялогіі, педвучылішча, 2 сярэднія, спартыўная і муз. школы, Дом школьнікаў, раённыя вузлы паштовай і электроннай сувязі, Дом культуры, 2 масавыя б-кі, мемарыяльны музей «Бітва за Дняпро» (адкрыты ў 1985), 3 дашкольныя ўстановы, б-ца, аптэка. Выходзіць раённая газета «Серп і молат» (з 18.10. 1932). Цэнтр саўгаса «Лоеўскі». Забудова ўздоўж Дняпра, квартальная, пераважна драўляная, аднапавярховая. У цэнтры 3-павярховыя мураваныя жылыя і адміністрацыйныя будынкі. На зах. ускраіне — парк. Радзіма Герояў Сав. Саюза А.В.Казлова (яго імем названа вуліца ў Лоеве), А.П.Карпенкі, Р.С.Пінчука, тэрапеўта, доктара мед. навук, прафесара А.Дз.Адэнскага, доктара геагр. навук В.А.Жучкевіча, бел. мастака П.П.Бондара. Каля пасёлка ёсць залежы пяскоў.

**АБАКУМЫ** — вёска ў Карпаўскім с/с, за 7 км на ПнУ ад Лоева, 55 км ад чыг. ст. Рэчыца (на лініі Гомель—Калінкавічы), 78 км ад Гомеля. Побач помнікі прыроды мясц. значэння — дубровы Свіраж і Вербуж. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Лоеў—Рэчыца. 93 гаспадаркі, 148 жыхароў (1999 г.).

Выяўлены археолагамі курганны могільнік (23 насыпы, за 0,7 км на З ад вёскі, ва ўрочышчы Кардон) сведчыць аб засяленні тутэйшых мясцін у далёкай мінуўшчыне. Паводле пісьмовых крыніц вядома з 18 ст. як вёска ў Беліцкім пав. Магілёўскай губ. У 1788 г. 154 жыхары. У 1798 г. 172 жыхары. У 1816 г. 41 двор, 183 жыхары, у Хамінскай эканоміі Гомельскага маёнтка. Па перапісу 1897 г. 60 двароў, 374 жыхары, хлебазапасны магазін. У 1909 г. 69 двароў, 443 жыхары, 590 дзес. зямлі, у Дзятлавіцкай вол. Гомельскага пав. У 1926 г. 136 двароў, 709 жыхароў, паштовы пункт, школа, з 8.12.1926 г. да 30.12.1927 г. цэнтр Абакумаўскага с/с Дзятлаўскага р-на Гомельскай акругі. У 1930 г. арганізаваны калгас «Перамога», працавала кузня. У Вял. Айч. вайну ням. акупанты стварылі ў вёсцы гарнізон, які партызаны разграмілі. У кастр. 1943 г. карнікі спалілі 71 двор. Паводле перапісу 1959 г. 653 жыхары. У складзе саўгаса «Карпаўка» (цэнтр — в. Карпаўка). Размешчаны Першамайскае лясніцтва, клуб, б-ка, фельч.-акушэрскі пункт. Плніровачна складаецца з дугападобнай вуліцы, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ. Забудова двухбаковая, драўляная, сядзібнага тыпу.

**АБРАМАЎКА** — вёска ў Ручаёўскім с/с, за 19 км на ПдЗ ад Лоева, 79 км ад чыг. ст. Рэчыца (на лініі Гомель—Калінкавічы), 103 км ад Гомеля. На У мяжуе з лесам, на З меліярацыйны канал. Побач аўтадарога Брагін—Лоеў. 18 гаспадарак, 33 жыхары (1999 г.).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 18 ст. У 1816 г. хутар, 4 двары, 19 жыхароў, у Навікоўскай эканоміі Гомельскага маёнтка. Паводле перапісу 1897 г. 5 двароў, 32 жыхары, у Ручаёўскай вол. Гомельскага пав. Магілёўскай губ. Побач былі фальваркі Міхнева і Самуленкі. У 1908 г. 40 жыхароў. У 1926 г. 36 двароў, 224 жыхары у Баршчоўскім с/с Дзятлаўскага р-на Гомельскай акругі. Дзейнічаў паштовы пункт. 60% жыхароў складалі польскія сем'і. У 1930 г. арганізаваны калгас «Палеская праўда», працавала кузня. У Вял. Айч. вайну ў 1943 г. ням. акупанты спалілі 14 двароў. Паводле перапісу 1959 г. 65 жыхароў. У складзе саўгаса «Зара» (цэнтр — в. Ручаёўка). Планіровачна складаецца з кароткай прамалінейнай мерыдыянальнай вуліцы. Забудова драўляная, сядзібнага тыпу.







А.В.Казлоў.

А.П.Карпенка.

Р.С.Пінчук.

**АРОЛ** — пасёлак у Карпаўскім с/с, за 10 км на Пн ад Лоева, 58 км ад чыг. ст. Рэчыца (на лініі Гомель—Калінкавічы), 67 км ад Гомеля. На Пд, У і З мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Гомель—Чарнігаў. 36 гаспадарак, 81 жыхар (1999 г.).

Засн. ў 1920-я г. перасяленцамі з суседніх вёсак на былых памешчыцкіх землях. У 1931 г. пасялкоўцы ўступілі ў калгас. Паводле перапісу 1959 г. 162 жыхары. У складзе саўгаса «Карпаўка» (цэнтр — в. Карпаўка). Планіровачна складаецца з 2 вуліц: крывалінейнай працяглай і паралельнай (блізкай да мерыдыянальнай арыентацыі) кароткай. Забудова аднабаковая, драўляная, рэдкая, сядзібнага тыпу.

**АСТРАВЫ** — вёска ў Малінаўскім с/с, за 15 км на З ад Лоева, 55 км ад чыг. ст. Рэчыца (на лініі Гомель—Калінкавічы), 84 км ад Гомеля. На Пд, У і З мяжуе з лесам, на У — р. Песачанка (упадае ў воз. Лутаўскае, што ў пойме Дняпра). Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Лоеў—Рэчыца. 67 гаспадарак, 141 жыхар (1999 г.).

Выяўленае археолагамі гарадзішча (за 3 км на ПдУ ад вёскі, ва ўрочышчы Рудавец) сведчыць аб засяленні тутэйшых мясцін у далёкай мінуўшчыне. Па пісьмовых крыніцах вядома з 19 ст. як сяленне ў Лоеўскай вол. Рэчыцкага пав. Мінскай губ. Паводле перапісу 1897 г. 31 двор, 193 жыхары. У 1908 г. 63 двары, 317 жыхароў. З 8.12.1926 г. да 30.12.1927 г. цэнтр Астраўскага с/с Лоеўскага р-на Гомельскай акругі. У 1930 г. арганізаваны калгас, працавалі вятрак і кузня. У 1940 г. 114 двароў, 408 жыхароў. У Вял. Айч. вайну ням. акупанты ў 1943 г. спалілі 92 двары і загубілі 13 жыхароў. Паводле перапісу 1959 г. 398 жыхароў. У выніку катастрофы на Чарнобыльскай АЭС падверглася радыяцыйнаму забруджанню і аднесена да катэгорыі з правам на адсяленне. У складзе калгаса імя К.Маркса (цэнтр — в. Малінаўка). Размешчана б-ка. Планіровачна складаецца з дугападобнай вуліцы з завулкамі, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ. Забудова аднабаковая, драўляная, сядзібнага тыпу.

**БАРЭЦ** — пасёлак у Пярэдзелкаўскім с/с, за 11 км на ПнЗ ад Лоева, 50 км ад чыг. ст. Рэчыца (на лініі Гомель—Калінкавічы), 70 км ад Гомеля, на З мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Лоеў—Рэчыца. 35 гаспадарак, 65 жыхароў (1999 г.).

Засн. ў пач. 1920-х г. на былых памешчыцкіх землях перасяленцамі з суседніх вёсак. У 1930 г. арганізаваны калгас «Барэц», працавалі вятрак і кузня. У 1940 г. 46 двароў, 246 жыхароў. У Вял. Айч. вайну ў 1943 г. ням. акупанты поўнасцю спалілі пасёлак і загубілі 17 жыхароў. У баі каля вёскі 19.10.1943 г. вызначыўся камандзір танкавай роты лейт. М.Т.Лукінаў (удастоены звання Героя Сав. Саюза). Паводле перапісу 1959 г. 202 жыхары. У складзе саўгаса «Дняпроўскі» (цэнтр — в. Пярэдзелка). Планіровачна складаецца з крыху выгнутай мерыдыянальнай вуліцы, забудаванай двухбакова драўлянымі сял. сядзібамі.

**БЕЛЫ КАЛОДЗЕЖ** — вёска ў Малінаўскім с/с, за 23 км на ПнЗ ад Лоева, 62 км ад чыг. ст. Рэчыца (на лініі Гомель—Калінкавічы), 82 км ад Гомеля. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Хойнікі—Гомель. 12 гаспадарак, 28 жыхароў (1999 г.).

Па пісьмовых крыніцах вядома з пач. 20 ст. як вёска ў Холмецкай вол. Рэчыцкага пав. Мінскай губ. У 1908 г. 16 двароў, 217 жыхароў. У 1930 г. 28 двароў. У 1931 г. арганізаваны калгас. У Вял. Айч. вайну ў 1943 г. ням. карнікі поўнасцю спалілі вёску і загубілі 6 жыхароў. Паводле перапісу 1959 г. 73 жыхары. У выніку аварыі на Чарнобыльскай АЭС падверглася радыяцыйнаму забруджанню і аднесена да катэгорыі з правам на адсяленне. У складзе калгаса імя М.І.Калініна (цэнтр — в. Рудня-Бурыцкая). Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, арыен-

таванай з ПдУ на ПнЗ. Забудова рэдкая, драўляная, сядзібнага тыпу.

**БОДРЫ** — пасёлак у Малінаўскім с/с, за 20 км на ПнЗ ад Лоева, 60 км ад чыг. ст. Рэчыца (на лініі Гомель—Калінкавічы), 80 км ад Гомеля, на Пд меліярацыйны канал. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Брагін—Холмеч. 9 гаспадарак, 14 жыхароў (1999 г.).

Засн. ў пач. 1920-х г. перасяленцамі з суседніх вёсак на былых памешчыцкіх землях. У 1932 г. пасялкоўцы ўступілі ў калгас. У выніку аварыі на Чарнобыльскай АЭС падвергнуўся радыяцыйнаму забруджанню і аднесены да катэгорыі з правам на адсяленне. У складзе калгаса імя К.Маркса (цэнтр — в. Малінаўка). Планіровачна складаецца з кароткай прамалінейнай мерыдыянальнай вуліцы, забудаванай рэдка драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**БУДА-ПЕТРЫЦКАЯ** — вёска ў Малінаўскім с/с, за 25 км на З ад Лоева, 63 км ад чыг. ст. Рэчыца (на лініі Гомель—Калінкавічы), 76 км ад Гомеля. Побач аўтадарога Брагін—Холмеч. 18 гаспадарак, 29 жыхароў (1999 г.).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 18 ст. як сяленне ў Рэчыцкім пав. Мінскай губ. У 1811 г. ўладанне Ракіцкіх. У 1850 г. 9 двароў, 92 жыхары. З 1873 г. вялікі надзел вясковай зямлі ва ўладанні купца 1-й гільдыі Канапліна. Паводле перапісу 1897 г. 32 двары, 225 жыхароў, у Ручаёўскай вол. Рэчыцкага пав. У 1908 г. 42 двары, 282 жыхары. З 8.12.1926 г. да 30.12.1927 г. цэнтр Буда-Пятрыцкага с/с Лоеўскага р-на Рэчыцкай, з 9.6.1927 г. Гомельскай акруг. У 1930 г. арганізаваны калгас «Неперrepresentation», працавалі паравы млын, ваўначоска, кузня. У 1940 г. 70 двароў. У Вял. Айч. вайну ў 1943 г. ням. акупанты спалілі вёску і загубілі 11 жыхароў. Паводле перапісу 1959 г. 185 жыхароў. У выніку аварыі на Чарнобыльскай АЭС падверглася радыяцыйнаму забруджанню і аднесена да катэгорыі з правам на адсяленне. У складзе калгаса імя К.Маркса (цэнтр — в. Малінаўка). Планіровачна складаецца з крыху выгнутай вуліцы, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ. Забудова двухбаковая, драўляная, сядзібнага тыпу.

**БУДЗІШЧА** — вёска ў Бывалькаўскім с/с, за 18 км на ПдЗ ад Лоева, 78 км ад чыг. ст. Рэчыца (на лініі Гомель—Калінкавічы), 102 км ад Гомеля, вакол лес. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Брагін—Лоеў. 12 гаспадарак, 21 жыхар (1999 г.).

Па пісьмовых крыніцах вядома з пач. 20 ст. як сяленне ў Ручаёўскай вол. Рэчыцкага пав. Мінскай губ. У 1908 г. фальварак, 4 жыхары. Найбольш актыўная забудова прыпадае на 1920-я г. У 1932 г. пасялкоўцы ўступілі ў калгас. У 1940 г. 29 двароў, 145 жыхароў. У Вял. Айч. вайну ў 1943 г. ням. акупанты спалілі 23 двары і загубілі 4 жыхароў. Паводле перапісу 1959 г. 96 жыхароў. У складзе калгаса «Ленінскі сцяг» (цэнтр — в. Бывалькі). Планіровачна складаецца з кароткай прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ. Забудова драўляная, сядзібнага тыпу.

**БУШАЦІН** — вёска ў Страдубскім с/с, за 14 км на ПнЗ ад Лоева, 42 км ад чыг. ст. Рэчыца (на лініі Гомель—Калінкавічы), 64 км ад Гомеля. Побач аўтадарога Лоеў—Рэчыца. 20 гаспадарак, 32 жыхары (1999 г.).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 19 ст. як сяленне ў Холмецкай вол. Рэчыцкага пав. Мінскай губ. У 1834 г. 18 двароў. У 1850 г. 61 жыхар, уладанне памешчыка Міхайлава, з 1851 г. — двараніна Вішнеўскага, які ў гэтых мясцінах меў 842 дзес. зямлі. У 1879 г. сяленне Холмецкага царк. прыхода. Паводле перапісу 1897 г. 32 двары, 212 жыхароў, хлебазапасны магазін. У 1908 г. 39 двароў, 253 жыхары і фальварак (5 жыхароў). У 1930 г. арганізаваны калгас імя К.Я.Варашылава, працавалі 2 кузні і вятрак. У 1940 г. 52 двары. У Вял. Айч. вайну ў 1943 г. ням. акупанты спалілі 44 двары. Паводле перапісу 1959 г. 228 жыхароў. У складзе калгаса «Усход» (цэнтр — в.

Страдубка). Планіровачна складаецца з кароткай прамалінейнай вуліцы з завулкам, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ. Забудова драўляная, сядзібнага тыпу.

**БЫВАЛЬКІ** — вёска, цэнтр Бывалькаўскага с/с, за 18 км на ПдЗ ад Лоева, 65 км ад чыг. ст. Хойнікі (на ветцы Васілевічы—Хойнікі ад лініі Гомель—Калінкавічы), 118 км ад Гомеля, на У меліярацыйныя каналы. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Брагін—Лоеў. 318 гаспадарак, 802 жыхары (1999 г.).


К.Р.Сінілаў.

Выяўленыя археолагамі гарадзішча (за 1,5 км на ПнУ ад вёскі, ва ўрочышчы Катвіна) і селішча (1 км на Пд ад вёскі) ранняга жал. веку, селішча раннефеадальнага часу (за 1,5 км на ПнУ ад вёскі) сведчаць аб засяленні гэтых мясцін у глыбокай старажытнасці. Па пісьмовых крыніцах вядома з 16 ст. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1811 г. ўладанне графа Юдзіцкага, у Рэчыцкім пав. Мінскай губ. У 1850 г. 82 двары, уладанне Радзівілаў. Княгіня Любамірская ў 1876 г. мела ў вёсцы 257 дзес. зямлі. У 1885 г. в. Бывалькі-Міхайлаўка, 126 двароў, 689 жыхароў, млын. Паводле перапісу 1897 г. 190 двароў, 1054 жыхары, школа граматы, хлебазапасны магазін, карчма. У 1908 г. 254 двары, 1547 жыхароў, у Дзяражыцкай вол. З 8.12.1926 г. цэнтр Бывалькаўскага с/с Лоеўскага р-на, 16.7. 1954 г. ліквідаваны і тэрыторыя далучана да Дзяражыцкага с/с, які 25.3.1965 г. перайменаваны ў Бывалькаўскі с/с Рэчыцкага, з 30.7.1966 г. Лоеўскага р-наў. Уваходзіў у Рэчыцкую, з 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. ў Гомельскую акругі, з 20.2.1938 г. ў складзе Гомельскай вобл. У 1929 г. 1870 жыхароў. Дзейнічалі пач. школа, аддз. спажывецкай кааперацыі. У 1930 г. арганізаваны калгас «Чырвоны сцяг», працавалі кузня (з 1929) і 2 ветракі. У 1940 г. 360 двароў. У Вял. Айч. вайну партызаны разграмілі апорны пункт, які акупанты стварылі ў вёсцы. У 1943 г. гітлераўцы спалілі 330 двароў, загубілі 9 жыхароў. У баях каля вёскі 17—18.10.1943 г. вызначыліся камандзір аддзялення С.Д.Казанаў і малодшы сяржант А.І.Уладзіміраў (удастоены звання Героя Сав. Саюза). Тут таксама загінулі 433 воіны і партызаны, у іх ліку Героі Сав. Саюза Б.Е.Даўлетаў, Ф.А.Ермакоў, В.А.Карпенка (пахаваны ў брацкай магіле ў цэнтры вёскі). Паводле перапісу 1959 г. 1222 жыхары. Цэнтр калгаса «Ленінскі сцяг». Размешчаны сярэдняя і муз. школы, Дом культуры, б-ка, аптэка, б-ца, аддз. сувязі, 3 магазіны, дзіцячы сад. Планіровачна складаецца з крыху выгнутай вуліцы, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ, якую перакрыжоўвае крывалінейная вуліца. Забудова двухбаковая, пераважна драўляная, сядзібнага тыпу. У 1987 г. пабудавана 50 мураваных дамоў, у якіх размясціліся перасяленцы з забруджаных радыяцыяй месц пасля Чарнобыльскай катастрофы. Адна з вуліц носіць імя Героя Сав. Саюза К.П.Грыба (ураджэнец в. Сінск). Радзіма ген.-лейт. К.Р.Сінілава (з кастр. 1941 да 1953 быў камендантам Масквы).

**ВАЗОН** — вёска ва Уборкаўскім с/с, за 17 км на ПнЗ ад Лоева, 58 км ад чыг. ст. Рэчыца (на лініі Гомель—Калінкавічы), 78 км ад Гомеля, на У мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Брагін—Холмеч. 1 гаспадарка, 1 жыхар (1999 г.).

Засн. ў пач. 20 ст. Найбольш актыўная забудова прыпадае на 1920-я г. У 1931 г. арганізаваны калгас «Авангард», працавала кузня. У 1940 г. 57 двароў, 160 жыхароў. У Вял. Айч. вайну ў 1943 г. ням. акупанты спалілі вёску і загубілі 4 жыхароў. У баях каля вёскі ў кастр. 1943 г. загінуў 221 воін (пахаваны ў брацкай магіле на паўд. ускраіне вёскі). Паводле перапісу 1959 г. 155 жыхароў. У складзе калгаса імя У.І.Леніна (цэнтр — в. Уборак). Забудова драўляная, сядзібнага тыпу.

**ВАСХОД** — вёска ў Пярэдзелкаўскім с/с, за 12 км на ПнЗ ад Лоева, 49 км ад чыг. ст. Рэчыца (на лініі Гомель—Калінкавічы), 69 км ад Гомеля, на Пн і З мя-

жуе з лесам. Побач аўтадарога Лоеў—Рэчыца. 26 гаспадарак, 42 жыхары (1999 г.).

Засн. ў пач. 1920-х г. перасяленцамі з суседніх вёсак на былых памешчыцкіх землях. У 1930 г. арганізаваны калгас «Іскра ўсходу», працавалі конная крупарушка і кузня. У 1940 г. 70 двароў, 286 жыхароў. У Вял. Айч. вайну ў 1943 г. ням. акупанты спалілі вёску і загубілі 13 жыхароў. Паводле перапісу 1959 г. 259 жыхароў. У складзе саўгаса «Дняпроўскі» (цэнтр — в. Пярэдзелка). Планіровачна складаецца з кароткай прамалінейнай вуліцы, блізкай да мерыдыянальнай арыентацыі, да цэнтра якой пад прамым вуглом далучаецца з У ад аўтадарогі кароткая прамалінейная вуліца. Забудова двухбаковая, рэдкая, драўляная, сядзібнага тыпу.

**ВАЎКАШАНКА** — вёска ва Уборкаўскім с/с, за 20 км на ПнЗ ад Лоева, 55 км ад чыг. ст. Рэчыца (на лініі Гомель—Калінкавічы), 75 ад Гомеля, на р. Брагінка (прыток Дняпра), на У меліярацыйныя каналы. Побач аўтадарога Брагін—Холмеч. 6 гаспадарак, 6 жыхароў (1999 г.).

Выяўленае археолагамі гарадзішча ранняга жал. веку (за 1 км на ПнЗ ад вёскі) сведчыць аб засяленні гэтых месц у далёкай мінуўшчыне. Па пісьмовых крыніцах вядома з 19 ст. як вёска ў Холмецкай вол. Рэчыцкага пав. Мінскай губ. Паводле перапісу 1897 г. 34 двары, 204 жыхары. У 1908 г. 213 жыхароў. У 1930 г. арганізаваны калгас «13 гадоў Кастрычніка», працавалі вятрак і кузня. У 1940 г. 76 двароў, 301 жыхар. У Вял. Айч. вайну ням. акупанты ў 1943 г. спалілі 69 двароў. Паводле перапісу 1959 г. 106 жыхароў. У складзе саўгаса імя У.І.Леніна (цэнтр — в. Уборак). Планіровачна складаецца з кароткай, крыху выгнутай шыротнай вуліцы. Жылыя дамы драўляныя, сядзібнага тыпу.

**ВУЛКАН** — вёска ў Малінаўскім с/с, за 20 км на ПнЗ ад Лоева, 60 км ад чыг. ст. Рэчыца (на лініі Гомель—Калінкавічы), 80 км ад Гомеля, на Пд меліярацыйны канал. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Брагін—Холмеч. 53 гаспадаркі, 142 жыхары (1999 г.).

Засн. ў пач. 20 ст. перасяленцамі з суседніх вёсак. Найбольш актыўная забудова прыпадае на 1920-я г. У 1930 г. 29 двароў, 156 жыхароў. У 1930 г. арганізаваны калгас «Вулкан», працавалі вятрак і кузня. Паводле перапісу 1959 г. 154 жыхары. У выніку аварыі на Чарнобыльскай АЭС падверглася радыяцыйнаму забруджанню і аднесена да катэгорыі з правам на адсяленне. У складзе калгаса імя К.Маркса (цэнтр — в. Малінаўка). Планіровачна складаецца з прамалінейнай, блізкай да шыротнай арыентацыі вуліцы, забудаванай двухбакова рэдка драўлянымі сял. сядзібамі.

**ВЫШКАЎ-БУРЫЦКАЯ** — вёска ў Малінаўскім с/с, за 27 км на ПнЗ ад Лоева, 56 км ад чыг. ст. Рэчыца (на лініі Гомель—Калінкавічы), 66 км ад Гомеля, на З сетка меліярацыйных каналаў. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Хойнікі—Гомель. 2 гаспадаркі, 4 жыхары (1999 г.).

Засн. ў сярэдзіне 19 ст. перасяленцамі з суседніх вёсак, якія з дапамогай сял. крэдытнага банка купілі тут зямлю. Паводле перапісу 1897 г. 11 двароў, 75 жыхароў. У 1908 г. 32 двары, 237 жыхароў, у Холмецкай вол. Рэчыцкага пав. Мінскай губ. У 1930 г. 46 двароў, 240 жыхароў. У 1931 г. арганізаваны калгас. У 1940 г. 52 двары. У Вял. Айч. вайну ням. акупанты ў 1943 г. спалілі вёску і загубілі 12 жыхароў. Паводле перапісу 1959 г. 128 жыхароў. У выніку катастрофы на Чарнобыльскай АЭС падверглася радыяцыйнаму забруджанню і аднесена да катэгорыі з правам адсялення. У складзе калгаса імя М.І.Калініна (цэнтр — в. Рудня-Бурыцкая). Драўляныя сял. сядзібы пастаўлены ўздоўж прасёлачнай дарогі.

**ГАРАДОК** — вёска ў Пярэдзелкаўскім с/с, за 12 км на Пн ад Лоева, 51 км ад чыг. ст. Рэчыца (на лініі Гомель—Калінкавічы), 68 км ад Гомеля, на р. Дняп-

ро. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Лоеў—Рэчыца. 44 гаспадаркі, 78 жыхароў (1999 г.).

Выяўленае археолагамі гарадзішча 7—3 ст. да н.э. і 3 ст. да н.э. — 2 ст. н.э. (за 0,5 км на У ад вёскі, ва ўрочышчы Гарадзец) сведчыць аб засяленні тут у глыбокай старажытнасці. Сучасная вёска засн. ў пач. 20 ст. перасяленцамі з суседніх вёсак. У 1930 г. вяскоўцы ўступілі ў калгас; працавалі вятрак, крупарушка, кузня. У 1940 г. 38 двароў, 168 жыхароў. У Вял. Айч. вайну ў 1943 г. ням. акупанты спалілі 33 двары, загубілі 3 жыхароў. Паводле перапісу 1959 г. 251 жыхар. У складзе саўгаса «Дняпроўскі» (цэнтр — в. Пярэдзелка). Планіровачна складаецца з 2 паралельных паміж сабой і злучаных прасёлачнай дарогай мерыдыянальнай арыентацыі вуліц. Забудова двухбаковая, драўляная, сядзібнага тыпу. Недалёка знаходзяцца залежы вогнетрывалай гліны (31,5 млн. т).

**ГАРАДОК** — пасёлак у Бывалькаўскім с/с, за 16 км на ПдЗ ад Лоева, 76 км ад чыг. ст. Рэчыца (на лініі Гомель—Калінкавічы), 100 км ад Гомеля. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Брагін—Лоеў. 43 гаспадаркі, 90 жыхароў (1999 г.).

Выяўленыя археолагамі гарадзішча 7 ст. да н.э. — 2 ст. н.э., селішча 3—5 ст. н.э. і раннефеадальнага часу (за 1,8 км на ПдУ), курган (за 1,2 км на У ад пасёлка) сведчаць аб засяленні гэтых мясцін у глыбокай старажытнасці. Сучасны пасёлак засн. ў пач. 20 ст. перасяленцамі з суседніх вёсак. Найбольш актыўная забудова прыпадае на 1920-я г. У 1931 г. пасялкоўцы ўступілі ў калгас. Паводле перапісу 1959 г. 191 жыхар. У складзе калгаса «Ленінскі сцяг» (цэнтр — в. Бывалькі). Планіровачна складаецца з кароткай прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ і забудаванай двухбакова драўлянымі сял. сядзібамі.

*Курган каля в. Гарадок.*



**ГЛУШЭЦ** — вёска ў Сяўкоўскім с/с, за 27 км на ПдЗ ад Лоева, 84 км ад чыг. ст. Рэчыца (на лініі Гомель—Калінкавічы), 109 км ад Гомеля, за 1 км ад дзярж. мяжы з Украінай, на У воз. Колтаб. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Брагін—Лоеў. 36 гаспадарак, 54 жыхары (1999 г.).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 19 ст. як вёска ў Дзяражыцкай вол. Рэчыцкага пав. Мінскай губ. Гаспадар аднайменнага маёнтка, што знаходзіўся побач з вёскай, меў у 1846 г. 963 дзес. зямлі. Пад 1879 г. пазначана ў ліку сяленняў Дзяражыцкага царк. прыхода. Паводле перапісу 1897 г. 45 двароў, 286 жыхароў. Праз вёску праходзіла дарога з Мазыра ў Чарнігаў, дзейнічалі прыстань і паромная пераправа. У 1908 г. 56 двароў, 414 жыхароў. На сенапрасавальным з-дзе, што дзейнічаў у вёсцы, у 1913 г. працавалі 137 рабочых. З 8.12.1926 г. да 30.12.1927 г. цэнтр Глушэцкага с/с Лоеўскага р-на Рэчыцкай, з 9.6.1927 г. Гомельскай акруг. У 1930 г. 97 двароў, 520 жыхароў. У 1931 г. арганізаваны калгас «Прасвет», працавала кузня. У 1940 г. 102 двары, 427 жыхароў. У Вял. Айч. вайну ням. акупанты ў 1943 г. спалілі вёску і загубілі 5 жыхароў. У ноч на 2 кастр. 1943 г. воіны 61-й арміі Беларускага фронту каля вёскі фарсіравалі р. Дняпро і захапілі плацдарм. Вызначыліся ў гэтым баі воіны пад камандаваннем камандзіра батарэі капітана П.А.Чудзінава (удастоены звання Героя Сав. Саюза), а радавы Г.В.Майсурадзе закрыў сваім целам амбразуру варожага дзота (удастоены звання Героя Сав. Саюза). Паводле перапісу 1959 г. 238 жыхароў. У складзе калгаса «Дняпровец» (цэнтр — в. Сяўкі). Планіровачна скла-



Мемарыяльная стэла на месцы фарсіравання Дняпра воінамі 167-га стралковага палка ў в. Глушэц.

даецца з кароткай прамалінейнай шыротнай вуліцы. Забудова аднабаковая, рэдкая, драўляная, сядзібнага тыпу.

**ГРАМЫКІ** — вёска ва Уборкаўскім с/с, за 20 км на ПнЗ ад Лоева, 58 км ад чыг. ст. Рэчыца (на лініі Гомель—Калінкавічы), 78 км ад Гомеля, на Пд меліярацыйны канал, злучаны з р. Брагінка (прыток р. Дняпро). Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Брагін—Холмеч. 10 гаспадарак, 13 жыхароў (1999 г.).

Засн. ў 19 ст., калі жыхары з суседніх вёсак з дапамогай сял. крэдытнага банка купілі ў памешчыка зямлю і пасяліліся на ёй. Паводле перапісу 1897 г. 24 двары, 111 жыхароў, у Холмецкай вол. Рэчыцкага пав. Мінскай губ. У 1908 г. 33 двары, 170 жыхароў. У 1930 г. 40 двароў, 224 жыхары. У 1931 г. арганізаваны калгас. Паводле перапісу 1959 г. 134 жыхары. У складзе саўгаса імя У.І.Леніна (цэнтр — в. Уборак). Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ. Забудова рэдкая, драўляная, сядзібнага тыпу.

**ГРАМЫКІ** — вёска ў Пярэдзелкаўскім с/с, за 11 км на ПнЗ ад Лоева, 56 км ад чыг. ст. Рэчыца (на лініі Гомель—Калінкавічы), 75 км ад Гомеля, на З сістэма меліярацыйных каналаў, на Пн мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Лоеў—Рэчыца. 8 гаспадарак, 9 жыхароў (1999 г.).

Засн. ў пач. 1920-х г. перасяленцамі з суседніх вёсак на былых памешчыцкіх землях. У 1931 г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. Паводле перапісу 1959 г. 180 жыхароў. У складзе саўгаса «Дняпроўскі» (цэнтр — в. Пярэдзелка). Планіровачна складаецца з кароткай прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ і забудаванай драўлянымі сял. сядзібамі.

**ГРОХАЎ** — вёска ў Ручаёўскім с/с, за 24 км на З ад Лоева, 84 км ад чыг. ст. Рэчыца (на лініі Гомель—Лунінец), 108 км ад Гомеля, вакол лес. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Брагін—Лоеў. 45 гаспадарак, 80 жыхароў (1999 г.).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 19 ст. як вёска ў Ручаёўскай вол. Рэчыцкага пав. Мінскай губ. Памешчык Пандчулідзеў меў у 1876 г. ў вёсцы і наваколлі 2926 дзес. зямлі. Паводле перапісу 1897 г. 91 двор, 520 жыхароў. У 1908 г. 100 двароў, 667 жыхароў. З 8.12.1926 г. да 30.12.1927 г. цэнтр Грохаўскага с/с Лоеўскага р-на Рэчыцкай, з 9.6.1927 г. Гомельскай акруг. У 1930 г. 107 двароў, 605 жыхароў, арганізаваны калгас «Чырвоны авангард», працавалі вятрак і кузня. Паводле перапісу 1959 г. 388 жыхароў. У складзе калгаса «Камуніст» (цэнтр — в. Дзімамеркі ). Размешчаны клуб, б-ка. Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, блізкай да мерыдыянальнай арыентацыі, перакрыжаванай кароткай прамалінейнай вуліцай. Забудова двухбаковая, драўляная, сядзібнага тыпу.

**ДЗІМАМЕРКІ** — вёска ў Ручаёўскім с/с, за 24 км на ПдЗ ад Лоева, 50 км ад чыг. ст. Хойнікі (на ветцы Калінкавічы—Хойнікі ад лініі Гомель—Лунінец), 117 км ад Гомеля, на Пд сетка меліярацыйных каналаў, на ўсх. ускраіне р. Песачанка (упадае ў воз. Лутоўскае, што ў пойме

р. Дняпро). Побач аўтадарога Брагін—Лоеў. 87 гаспадарак, 226 жыхароў (1999 г.).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 16 ст. як вёска Дамамірка. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1834 г. 32 двары, у Ручаёўскай вол. Рэчыцкага пав. Мінскай губ. У 1850 г. 36 двароў, 249 жыхароў. Пад 1879 г. пазначана як сяло ў Ручаёўскім царк. прыходзе. Паводле перапісу 1897 г. 80 двароў, 601 жыхар; часоўня, карчма. У 1930 г. арганізаваны калгас «Чырвоная ніва», працавалі 2 ветракі і кузня. Паводле перапісу 1959 г. 301 жыхар. Цэнтр калгаса «Камуніст». Размешчаны пач. школа, Дом культуры, б-ка, фельч.-акушэрскі пункт, магазін, аддз. сувязі, дзіцячы сад. Планіровачна складаецца з прамалінейнай шыротнай вуліцы, да якой на У далучаецца кароткая вуліца. Забудова драўляная, сядзібнага тыпу. Радзіма акад. НАН Беларусі, доктара гіст. навук, прафесара І.М.Ігнаценкі.



*І.М.Ігнаценка.*

**ДЗЯРАЖЫЧЫ** – вёска ў Бывалькаўскім с/с, за 25 км на ПдЗ ад Лоева, 81 км ад чыг. ст. Рэчыца (на лініі Гомель—Калінкавічы), 125 км ад Гомеля, за 1 км ад дзярж. мяжы з Украінай, на З мяжуе з лесам, на У – р. Дняпро. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Брагін—Лоеў. 97 гаспадарак, 159 жыхароў (1999 г.).

Выяўленыя археолагамі паселішча (за 1 км на Пн ад вёскі) і бескурганны могільнік 2-й пал. 2 тыс. да н.э. (на тэрыторыі паселішча) сведчаць аб засяленні гэтых мясцін у глыбокай старажытнасці. Па пісьмовых крыніцах вядома з 18 ст. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі, у Рэчыцкім пав. Мінскай губ. Дзейнічала Свята-Мікалаеўская царква (у яе архіве захоўваліся метрычныя кнігі і спісы прыхаджан за 1794 г.). У 1828 г. пабудаваны новы драўляны будынак царквы, які ў 1848 г. і 1858 г. капітальна рамантаваўся. У царкве мелася евангелле, выдадзенае ў Маскве ў 1735 г. У 1850 г. 62 двары, 285 жыхароў. У 1864 г. адкрыта нар. вучылішча. Была цэнтрам Дзяражыцкай вол., у якую ў 1885 г. ўваходзілі 10 сяленняў з 690 дварамі (9.5.1923 воласць ліквідавана, а яе тэрыторыя ўключана ў Брагінскую і Лоеўскую валасці). У 1867—71 гг. адбыліся антыфеадальныя выступленні сялян Дзяражыцкай вол. У 1885 г. 71 двор, 325 жыхароў. Паводле перапісу 1897 г. 147 двароў, 632 жыхары; царква, нар. вучылішча, крама, карчма. Дзейнічалі прыстань і пераправа на Дняпры, паштовае аддз. У 1908 г. 174 двары, 920 жыхароў. З 8.12.1926 г. да 25.3.1965 г. цэнтр Дзяражыцкага с/с Лоеўскага, з 25.12.1962 г. Рэчыцкага, з 30.7.1966 г. Лоеўскага р-наў Рэчыцкай, з 9.6.1927 г. Гомельскай (да 26.7.1930) акруг, з 20.2.1938 г. ў Гомельскай вобл. У 1930 г. 194 двары, 910 жыхароў; школа, хата-чытальня, аддз. спажывецкай кааперацыі. У 1931 г. арганізаваны калгас Вялікая ніва, працавалі вятрак і кузня. У 1940 г. 227 двароў. У Вял. Айч. вайну ням. акупанты стварылі ў вёсцы свой гарнізон, які партызаны разграмілі. У кастр. 1943 г. карнікі спалілі 194 двары і загубілі 18 жыхароў. У баях за вёску і стварэнне плацдарма на правым беразе р. Дняпро ў кастр. 1943 г. загінулі 1259 воінаў 61-й арміі. У іх ліку Героі Сав. Саюза А.Дэханбаеў, А.П.Еўдакімаў, М.І.Міхайлаў, Ф.К.Папоў, І.С.Перахода, В.Р.Пічугоў, Б.В.Самсонаў, І.Ургенышбаеў, М.М.Яромушкін (пахаваны ў брац-

*Першы выпуск Дзяражыцкай няпоўнай сярэдняй школы. 1933—34.*



кай магіле на ўсх. ускраіне вёскі, на правым беразе р. Дняпро). Паводле перапісу 1959 г. 542 жыхары. У складзе калгаса Ленінскі сцяг (цэнтр — в. Бывалькі). Размешчаны 8-гадовая школа, клуб, б-ка, фельч.-акушэрскі пункт, аддз. сувязі, 2 магазіны. Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ, да якой з Пд пад вострым вуглом далучаецца другая вуліца. Забудова шчыльная, драўляная, сядзібнага тыпу. Радзіма доктара гіст. навук, прафесара Ф.М.Нячая.

**ДОБРЫ РОГ** — пасёлак у Бывалькаўскім с/с, за 19 км на ПдЗ ад Лоева, 79 км ад чыг. ст. Рэчыца (на лініі Гомель—Калінкавічы), 103 км ад Гомеля, на У і Пд мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Брагін—Лоеў. 8 гаспадарак, 11 жыхароў (1999 г.).

Засн. ў пач. 1920-х г. перасяленцамі з суседніх вёсак на былых памешчыцкіх землях. У 1931 г. пасялкоўцы ўступілі ў калгас. У 1940 г. 46 двароў, 158 жыхароў. У Вял. Айч. вайну ў 1943 г. ням. акупанты спалілі 10 двароў, загубілі 4 жыхароў. Паводле перапісу 1959 г. 139 жыхароў. У складзе калгаса Ленінскі сцяг (цэнтр — в. Бывалькі). Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ, да якой на Пн далучаецца другая прамалінейная вуліца. Забудова рэдкая, драўляная, сядзібнага тыпу. Радзіма лаўрэата Дзярж. прэміі Беларусі І.І.Музычэнкі.

**ДУБРОВА** — вёска ў Малінаўскім с/с, за 22 км на З ад Лоева, 63 км ад чыг. ст. Рэчыца (на лініі Гомель—Калінкавічы), 83 км ад Гомеля. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Лоеў—Рэчыца. 8 гаспадарак, 13 жыхароў (1999 г.).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 19 ст. як сяло ў Ручаёўскай вол. Рэчыцкага пав. Мінскай губ. Паводле перапісу 1897 г. пас. Вялікая Дуброва, 18 двароў, 117 жыхароў. У 1908 г. вёска, 30 двароў, 181 жыхар. З 8.12.1926 г. да 30.12.1927 г. цэнтр Вялікадуброўскага с/с Лоеўскага р-на Рэчыцкай, з 9.6.1927 г. Гомельскай акруг. У 1930 г. арганізаваны калгас «III Камінтэрн», працавала кузня. У 1940 г. 38 двароў, 173 жыхары. У Вял. Айч. вайну ням. акупанты ў 1943 г. спалілі 35 двароў, загубілі 1 жыхара. Паводле перапісу 1959 г. 88 жыхароў. У складзе калгаса імя К.Маркса (цэнтр — в. Малінаўка). Планіровачна складаецца з кароткай прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ. Забудавана драўлянымі сял. сядзібамі.

**ІВАНЬКАЎ** — вёска ў Малінаўскім с/с, за 22 км на З ад Лоева, 63 км ад чыг. ст. Рэчыца (на лініі Гомель—Калінкавічы), 74 км ад Гомеля, на Пд, У і Пн мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Лоеў—Рэчыца. 24 гаспадаркі, 45 жыхароў (1999 г.).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 19 ст. як сяло ў Ручаёўскай вол. Рэчыцкага пав. Мінскай губ. Паводле перапісу 1897 г. 20 двароў, 139 жыхароў. У 1908 г. 29 двароў, 189 жыхароў. У 1930 г. вяскоўцы ўступілі ў калгас, працавала кузня. Паводле перапісу 1959 г. 184 жыхары. У выніку катастрофы на Чарнобыльскай АЭС падверглася радыяцыйнаму забруджанню і аднесена да катэгорыі з правам адсялення. У складзе калгаса імя К.Маркса (цэнтр — в. Малінаўка). Размешчаны фельч.-акушэрскі пункт. Планіровачна складаецца з дугападобнай вуліцы, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ. Забудавана пераважна аднабакова драўлянымі сял. сядзібамі.

**ІСАКАВІЧЫ** — вёска ў Страдубскім с/с, за 17 км на ПнЗ ад Лоева, 46 км ад чыг. ст. Рэчыца (на лініі Гомель—Калінкавічы), 63 км ад Гомеля, на р. Дняпро. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Лоеў—Рэчыца. 50 гаспадарак, 86 жыхароў (1999 г.).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 16 ст. У 1640-х г. упамінаецца ў інвентары Гомельскага староства. У 1788 г. 164 жыхары. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1850



*Ф.М.Нячай.*



*Дз.К.Марозаў.*

г. 25 двароў, 164 жыхары, уладанне памешчыцы Рудзееўскай. У 1879 г. ў складзе Казіміравіцкага царк. прыхода. Праз вёску праходзіў тракт Якімава Слабада—Чарнігаў, мелася паштовая станцыя (6 экіпажаў). У 1885 г. 27 двароў, 171 жыхар. Паводле перапісу 1897 г. 40 двароў, 336 жыхароў, капліца, у Холмецкай вол. Рэчыцкага пав. Мінскай губ. У 1908 г. 62 двары, 413 жыхароў. На Ляхавай Гары, што за 2 км на Пд ад вёскі, здабывалася вохра, якая перапрацоўвалася на Лоеўскім з-дзе Фарбацвет. У 1929 г. тут пабудавана першая ў Беларусі шахта. Вяскоўцы ў 1930 г. ўступілі ў калгас. У 1940 г. 106 двароў, 464 жыхары. У Вял. Айч. вайну ням. акупанты ў 1943 г. спалілі 100 двароў, загубілі 8 жыхароў. У баях за вёску ў кастр. 1943 г. вызначыўся камандзір роты лейт. У.Ф.Уладзіміраў (удастоены звання Героя Сав. Саюза). Паводле перапісу 1959 г. 321 жыхар. У складзе саўгаса Усход (цэнтр — в. Страдубка). Планіровачна складаецца з 2 крывалінейных вуліц, арыентаваных з ПдЗ на ПнУ і злучаных на Пн. Забудова драўляная, сядзібнага тыпу. Каля вёскі ёсць залежы гліны.

**КАЗІМІРАЎКА** — вёска ў Пярэдзелкаўскім с/с, за 13 км на Пн ад Лоева, 50 км ад чыг. ст. Рэчыца (на лініі Гомель—Калінкавічы), 67 км ад Гомеля, на р. Дняпро. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Лоеў—Рэчыца. 41 гаспадарка, 72 жыхары (1999 г.).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 18 ст. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1795 г. 33 двары, 235 жыхароў, дзейнічала Мікалаеўская царква (у царк. архівах захоўваліся спісы прыхаджан за 1796 г.). У 1850 г. 66 двароў, вадзяны млын, уладанне памешчыцы Рудзееўскай. У 1862 г. 76 двароў, 222 жыхары мужчынскага полу. У 1872 г. ўзведзены новы будынак драўлянай царквы на мураваным фундаменце. У 1885 г. 106 двароў, 692 жыхары. Паводле перапісу 1897 г. 164 двары, 1123 жыхары; царква, царк.-прыходская школа, хлебазапасны магазін, 2 крамы, карчма, у Холмецкай вол. Рэчыцкага пав. Мінскай губ. У 1908 г. 222 двары, 1287 жыхароў. З 8.12.1926 г. да 30.12.1927 г. цэнтр Казіміраўскага с/с Холмецкага, з 4.8.1927 г. Лоеўскага р-наў Гомельскай акругі. У 1930 г. арганізаваны калгас Чырвоны партызан, працавалі вятрак, кузня, ваўначоска. У Вял. Айч. вайну ў 1943 г. ням. акупанты спалілі вёску і загубілі 6 жыхароў. Паводле перапісу 1959 г. 300 жыхароў. У складзе саўгаса Дняпроўскі (цэнтр — в. Пярэдзелка). Планіровачна складаецца з крыху выгнутай мерыдыянальнай арыентацыі вуліцы, забудаванай двухбакова драўлянымі сял. сядзібамі. Радзіма Героя Сав. Саюза Дз.К.Марозава.

**КАЗЯРОГІ** — вёска ў Каўпенскім с/с, за 8 км на ПнЗ ад Лоева, 54 км ад чыг. ст. Рэчыца (на лініі Гомель—Калінкавічы), 86 км ад Гомеля, на У мяжуе з лесам. Побач аўтадарога Лоеў—Рэчыца. 89 гаспадарак, 190 жыхароў (1999 г.).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 19 ст. як вёска ў Лоеўскай вол. Рэчыцкага пав. Мінскай губ. У 1850 г. 36 двароў, 216 жыхароў. Дваранін Кабылянскі меў тут у 1876 г. 976 дзес. зямлі. У 1879 г. сяло ў складзе Лоеўскага царк. прыхода. Паводле перапісу 1897 г. 85 двароў, 571 жыхар; школа граматы, хлебазапасны магазін. У 1908 г. 131 двор, 779 жыхароў. З 8.12.1926 г. да 17.7.1986 г. цэнтр Казярожскага с/с Лоеўскага, з 25.12.1962 г. Рэчыцкага, з 30.7.1966 г. Лоеўскага р-наў Рэчыцкай, з 9.6.1927 г. Гомельскай (да 26.7.1930) акруг, з 20.2.1938 г. Гомельскай вобл. У 1929 г. 1015 жыхароў, дзейнічала пач. школа. У 1930 г. арганізаваны калгас, працавалі 4 ветракі. У 1940 г. 185 двароў. У Вял. Айч. вайну ням. акупанты ў 1943 г. спалілі 166 двароў і загубілі 27 жыхароў. У баях за вёску 17.10.1943 г. вызначыўся камандзір роты М.І.Міхайлаў (удастоены звання Героя Сав. Саюза) і загінулі 276 воінаў 65-й арміі (пахаваны ў брацкай магіле ў скверы). У ліку пахаваных Героі Сав. Са-

юза У.В.Гусеў, І.А.Мардасаў, С.А.Папоў, М.К.Раманаў і ўзбекскі паэт Султан Джура. Паводле перапісу 1959 г. 607 жыхароў. У складзе калгаса «Дружба» (цэнтр — в. Каўпень). Размешчаны пач. школа, клуб, б-ка, фельч.-акушэрскі пункт, швейная майстэрня, магазін, аддз. сувязі. Планіровачна складаецца з 2 прамалінейных, паралельных паміж сабой вуліц, злучаных 2 дарогамі (арыентаваныя з ПдУ на ПнЗ). На Пн да дарогі, якая злучае гэтыя вуліцы, далучаецца кароткая прамалінейная вуліца. Забудова двухбаковая, драўляная, сядзібнага тыпу.

**КАРПАЎКА** — вёска, цэнтр Карпаўскага с/с, за 11 км на ПнУ ад Лоева, 45 км ад чыг. ст. Якімаўка (на лініі Гомель—Калінкавічы), 80 км ад Гомеля, за 0,5 км ад дзярж. мяжы з Украінай, на р. Сож (прыток р. Дняпро), на З мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Гомель—Чарнігаў (Украіна). 180 гаспадарак, 420 жыхароў (1999 г.).

Па пісьмовых крыніцах вядома з пач. 19 ст. як вёска ў Дзятлаўскай вол. Беліцкага пав. Магілёўскай губ. У 1816 г. 25 двароў, 140 жыхароў, у Хамінскай эканоміі Гомельскага маёнтка графа П.А.Румянцава-Задунайскага. З 1834 г. ў валоданні кн. І.Ф.Паскевіча. Паводле перапісу 1897 г. 77 двароў, 501 жыхар, хлебазапасны магазін, 2 ветракі, крупарушка. У 1926 г. 169 двароў, 870 жыхароў, пач. школа, паштовы пункт. З 8.12.1926 г. цэнтр Карпаўскага с/с Дзятлавіцкага, з 4.8.1927 г. Лоеўскага, з 25.12.1962 г. Рэчыцкага, з 30.7.1966 г. Лоеўскага р-наў Гомельскай (да 26.7.1930) акругі, з 20.2.1938 г. Гомельскай вобл. У 1930 г. арганізаваны калгас імя М.І.Калініна, працавалі 2 кузні і вятрак. У Вял. Айч. вайну ням. акупанты ў 1943 г. спалілі 38 двароў. У баях пры фарсіраванні р. Сож і за вызваленне вёскі 29.9.1943 г. вызначыўся старшы сяржант Д.Усманаў (удастоены звання Героя Сав. Саюза). Паводле перапісу 1959 г. 621 жыхар. Цэнтр саўгаса Карпаўка. Размешчаны кандытарскі цэх, швейная майстэрня, цэх безалкагольных напіткаў, сярэдняя школа, клуб, б-ка, аддз. сувязі, сталовая, 2 магазіны, дзіцячы сад, Першамайскае лясніцтва. Планіровачна складаецца з працяглай крывалінейнай мерыдыянальнай вуліцы, да якой з З далучаецца завулак, з Пд — кароткая прамалінейная вуліца. Забудова двухбаковая, драўляная, сядзібнага тыпу.

**КАРПАЎКА** — вёска ў Малінаўскім с/с за 22 км на ПнЗ ад Лоева, 60 км ад чыг. ст. Рэчыца, 80 км ад Гомеля.

У 1897 г. в. Карпаўка, у Холмецкай вол. Рэчыцкага пав. Мінскай губ., пры ваенна-камунікацыйнай дарозе з Рэчыцы ў Брагін, 15 двароў, 88 жыхароў. У 1909 г. 19 двароў, 132 жыхары. У 1917 г. 23 гаспадаркі, 159 жыхароў. З 26.4.1919 г. вёска ў складзе Гомельскай губ., з 8.12.1923 г. ў Гомельскай акрузе БССР, з 8.12.1926 г. ў Хаткаўскім с/с Холмецкага р-на Рэчыцкай, з 9.6.1927 г. Гомельскай акруг, з 4.8.1927 г. ў Лоеўскім р-не Гомельскай акругі (да 26.7.1930), з 20.2.1938 г. Гомельскай вобл. У 1927 г. в. Карпаўка, 32 двары, 182 жыхары, і хут. Карпаўскі, 2 гаспадаркі, 12 жыхароў. У 1930-я г. ў вёсцы створаны калгас імя Чарвякова, працавала кузня. З 25.12. 1962 г. да 30.7.1966 г. ў складзе Рэчыцкага р-на, з 29.1.1964 г. ў Новабаршчоўскім с/с. У 1959 г. 54 жыхары, у 1970 г. — 42 жыхары.

**КАРЧОМКА** — вёска ў Ручаёўскім с/с, за 20 км на З ад Лоева, 80 км ад чыг. ст. Рэчыца (на лініі Гомель—Калінкавічы), за 105 км ад Гомеля, на У мяжуе з лесам, на Пд меліярацыйныя каналы, на З р. Песачанка, якая ўпадае ў воз. Лутоўскае (пойма р. Дняпро). Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Лоеў—Рэчыца. 12 гаспадарак, 21 жыхар (1999 г.).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 18 ст. У 1811 г. вёска ў Рэчыцкім пав., ва ўладанні графа Юдзіцкага. У 1850 г. 14 двароў, 78 жыхароў, уладанне памешчыцы Быкоўскай. У 1879 г. сяленне ў Ру-

чаёўскім царк. прыходзе. Паводле перапісу 1897 г. 30 двароў, 216 жыхароў. У 1908 г. 37 двароў, 237 жыхароў, у Ручаёўскай вол. Рэчыцкага пав. Мінскай губ. З 8.12.1926 г. да 30.12.1927 г. цэнтр Карчомкаўскага с/с Лоеўскага р-на Рэчыцкай, з 9.6.1927 г. Гомельскай акруг. У 1929 г. арганізаваны калгас. У 1940 г. 41 двор. У Вял. Айч. вайну ням. акупанты спалілі ў 1943 г. 40 двароў і загубілі 2 жыхароў. Паводле перапісу 1959 г. 105 жыхароў. У складзе саўгаса «Зара» (цэнтр — в. Ручаёўка). Планіровачна складаецца з кароткай, крыху скрыўленай вуліцы, блізкай да мерыдыянальнай арыентацыі, забудаванай драўлянымі сял. сядзібамі.

**КАЎПЕНЬ** — вёска, цэнтр Каўпенскага с/с, за 7 км на З ад Лоева, 58 км ад чыг. ст. Рэчыца (на лініі Гомель—Калінкавічы), 95 км ад Гомеля, на Пд і З мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Лоеў—Рэчыца. 189 гаспадарак, 512 жыхароў (1999 г.).

Выяўленае археолагамі гарадзішча 3 ст. да н.э. — 5 ст. н.э. (за 3 км на З ад вёскі, ва ўрочышчы Рудавец) сведчыць аб засяленні тут у глыбокай старажытнасці. Па пісьмовых крыніцах вядома з 18 ст. як сяленне ў Рэчыцкім пав. Мінскага ваяв. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1811 г. вёска, у Рэчыцкім пав. Мінскай губ., ва ўладанні графа Юдзіцкага. У 1850 г. 55 двароў, 294 жыхары. У 1879 г. сяленне ў Лоеўскім царк. прыходзе. Паводле перапісу 1897 г. 113 двароў, 766 жыхароў, школа граматы, хлебазапасны магазін, у Лоеўскай вол. З 8.12.1926 г. да 30.12.1927 г. цэнтр Каўпенскага с/с Лоеўскага р-на Рэчыцкай, з 9.6.1927 г. Гомельскай акруг. У 1930 г. арганізаваны калгас Перамога, працавалі 2 ветракі, конная крупарушка, кузня. У 1940 г. 134 двары. У Вял. Айч. вайну ням. акупанты ў 1943 г. спалілі 128 двароў і загубілі 16 жыхароў. У баях каля вёскі 16.10.1943 г. вызначыўся малодшы лейт. І.А.Мардасаў (удастоены звання Героя Сав. Саюза). На франтах і ў партыз. барацьбе загінулі 168 жыхароў вёсак Казярогі, Каўпень, Пустая Града, памяць аб якіх увекавечвае скульптура салдата, пастаўленая ў 1972 г. ў цэнтры вёскі. Паводле перапісу 1959 г. 664 жыхары. Размешчаны 9-гадовая школа, Дом культуры, б-ка, фельч.-акушэрскі пункт, магазін, сталовая, аддз. сувязі, дзіцячы сад. Планіровачна складаецца з прамалінейнай шыротнай вуліцы, да якой на Пн далучаецца вуліца Г-падобнай канфігурацыі. Забудова двухбаковая, драўляная, сядзібнага тыпу.

*Мемарыяльны комплекс у гонар воінаў-землякоў у в. Каўпень.*



**КАШОВАЕ** — пасёлак у Пярэдзелкаўскім с/с, за 11 км на Пн ад Лоева, 52 км ад чыг. ст. Рэчыца (на лініі Гомель—Калінкавічы), 69 км ад Гомеля, на З меліярацыйныя каналы, злучаныя з р. Дняпро, на У мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Лоеў—Рэчыца. 34 гаспадаркі, 54 жыхары (1999 г.).

Засн. ў 1920-я г. на былых памешчыцкіх землях перасяленцамі з суседніх вёсак. У 1932 г. пасялкоўцы ўступілі ў калгас. У 1940 г. 80 двароў, 389 жыхароў. У Вял. Айч. вайну ням. акупанты спалілі ў 1943 г. 78 двароў і загубілі 3 жыхароў. У баях за вёску і наваколле ў кастр. 1943 г. загінулі 47 воінаў і партызан (пахаваны ў брацкай магіле на паўн. ускраіне). Паводле перапісу 1959 г. 314 жыхароў. У складзе саўгаса Дняпроўскі (цэнтр — в.

Пярэдзелка). Дзейнічае аддз. сувязі. Планіровачна складаецца з кароткай прамалінейнай мерыдыянальнай вуліцы, забудаванай двухбакова, драўлянымі сял. сядзібамі.

**КІРАВА** (да 1938 Зарэзаў) — пасёлак у Малінаўскім с/с, за 28 км на ПнЗ ад Лоева, 64 км ад чыг. ст. Рэчыца, 98 км ад Гомеля.

У 1897 г. в. Зарэзаў, 6 двароў, 41 жыхар, у Ручаёўскай вол. Рэчыцкага пав. Мінскай губ. У 1909 г. хутары той жа воласці, 16 двароў, 82 жыхары. У 1926 г. 29 гаспадарак, 151 жыхар, у складзе Вялікадубраўскага с/с Лоеўскага р-на Рэчыцкай акругі, з 9.6.1927 г. ў Гомельскай акрузе, з 30.12.1927 г. ў Баршчоўскім (з 30.7.1963 Новабаршчоўскі) с/с таго ж раёна і акругі (да 26.7.1930), з 20.2.1938 г. ў Гомельскай вобл. З 25.12.1962 г. да 30.7.1966 г. пас. Кірава ў складзе Рэчыцкага р-на. Паводле перапісу 1959 г. 52, 1970 г. — 35 жыхароў.

**КРУПЕЙКІ** — вёска ў Каўпенскім с/с, за 3 км на ПдЗ ад Лоева, 63 км ад чыг. ст. Рэчыца (на лініі Гомель—Калінкавічы), 89 км ад Гомеля, на аўтадарозе Брагін—Лоеў, на Пд і З мяжуе з лесам. 273 гаспадаркі, 583 жыхары (1999 г.).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 18 ст. як вёска ў Рэчыцкім пав. Мінскага ваяв. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1795 г. 51 двор, 292 жыхары, у Рэчыцкім пав. Мінскай губ. У 1811 г. ва ўладанні графа Юдзіцкага. У 1850 г. 96 двароў, 517 жыхароў. З 1875 г. дзейнічала царква. У 1885 г. 120 двароў, 750 жыхароў, 3 ветракі. Паводле перапісу 1897 г. 194 двары, 1161 жыхар, царк.-прыходская школа, хлебазапасны магазін. У 1908 г. 273 двары, 1542 жыхары, у Лоеўскай вол. Рэчыцкага пав. У выніку пажару 11.6.1909 г. згарэлі 100 двароў. З 8.12.1926 г. да 16.7.1954 г. цэнтр Крупейкаўскага с/с Лоеўскага р-на Гомельскай акругі, з 20.2.1938 г. Гомельскай вобл. У 1929 г. 1777 жыхароў, пач. школа, хата-чытальня. У 1930 г. арганізаваны калгас, працавалі 2 ветракі і кузня. У 1940 г. 415 двароў. У Вял. Айч. вайну партызаны разгамілі варожы гарнізон, які стварылі акупанты ў вёсцы. У 1943 г. карнікі спалілі 335 двароў і загубілі 27 жыхароў. 15.10.1943 г. за 1,5 км на Пд ад вёскі воіны 65-й арміі фарсіравалі р. Дняпро і захапілі плацдарм. У баях за вёску і наваколле загінулі 122 воіны (пахаваны ў брацкай магіле ў парку). У ліку пахаваных Героі Сав. Саюза Б.Ф.Баннікаў, А.І.Бруханаў, У.Ф.Латышаў, Р.П.Мясаедаў, М.Ф.Смірноў. Паводле перапісу 1959 г. 1075 жыхароў. У складзе саўгаса Лоеўскі (цэнтр — г.п. Лоеў). Размешчаны Прыдняпроўскае лясніцтва, аддз. сувязі, клуб, 9-гадовая школа, б-ка, фельч.-акушэрскі пункт, магазін, дзіцячы сад. Планіровачна складаецца з 2 прамалінейных вуліц, арыентаваных з ПдУ на ПнЗ і злучаных завулкамі. Забудова двухбаковая, драўляная, сядзібнага тыпу.



*Памятны знак на месцы фарсіравання Дняпра войскамі 65-й арміі ў в. Крупейкі.*

**ЛІПНЯКІ** — вёска ва Уборкаўскім с/с, за 36 км на ПнЗ ад Лоева, 42 км ад чыг. ст. Рэчыца (на лініі Гомель—Калінкавічы), 92 км ад Гомеля, на Пд і З сетка меліярацыйных каналаў. Побач аўтадарога Брагін—Холмеч. 114 гаспадарак, 219 жыхароў (1999 г.).

Выяўленае археолагамі гарадзішча (за 1 км на ПнЗ ад вёскі, ва ўрочышчы Гарадок) сведчыць аб засяленні гэтых мясцін у глыбокай старажытнасці. Па пісьмовых крыніцах вядома з 19 ст. як

вёска ў Холмецкай вол. Рэчыцкага пав. Мінскай губ. Працавала лесапільня С.Г.Гутнера (15 рабочых). У 1908 г. 130 двароў, 1045 жыхароў. З 8.12.1926 г. да 16.7.1954 г. цэнтр Ліпнякоўскага с/с Холмецкага, з 4.8.1927 г. Лоеўскага р-наў Рэчыцкай, з 9.6.1927 г. Гомельскай (да 26.7.1930) акруг, з 20.2.1938 г. Гомельскай вобл. Дзейнічала пач. школа. У 1930 г. арганізаваны калгас «12 гадоў Кастрычніка», працавалі кузня (з 1930) і шавецкая майстэрня (з 1933). У 1940 г. 320 двароў, 738 жыхароў. У Вял. Айч. вайну ням. акупанты 17.11.1943 г. спалілі 319 двароў, загубілі 5 жыхароў. У баі каля вёскі вызначыўся лейт. А.А.Раслікоў (удастоены звання Героя Сав. Саюза). Загінулі 356 воінаў (пахаваны ў брацкай магіле ў цэнтры вёскі). Паводле перапісу 1959 г. 505 жыхароў. У складзе саўгаса імя У.І.Леніна (цэнтр — в. Уборак). Размешчаны пач. школа, клуб, б-ка, фельч.-акушэрскі пункт, 3 магазіны, аддз. сувязі. Планіровачна складаецца з 2 частак: паўночнай (да прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ, далучаюцца на У і З кароткія прамалінейныя вуліцы) і паўднёвай (да 2 кароткіх прамалінейных вуліц, блізкіх да шыротнай арыентацыі, далучаецца на У кароткая дугападобная вуліца). Забудова двухбаковая, няшчыльная, драўляная, сядзібнага тыпу.

**МАЙСКІ** — пасёлак у Сяўкоўскім с/с, за 21 км на ПдЗ ад Лоева, 81 км ад чыг. ст. Рэчыца (на лініі Гомель—Калінкавічы), 105 км ад Гомеля. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Брагін—Лоеў. 30 гаспадарак, 64 жыхары (1999 г.).

Засн. ў пач. 1920-х г. перасяленцамі з суседніх вёсак на былых памешчыцкіх землях. У 1930 г. 19 двароў, 108 жыхароў. У 1932 г. пасялкоўцы ўступілі ў калгас. У 1940 г. 48 двароў. У Вял. Айч. вайну ням. акупанты ў кастр. 1943 г. спалілі 41 двор. Паводле перапісу 1959 г. 179 жыхароў. У складзе саўгаса Дняпроўскі (цэнтр — в. Пярэдзелка). Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, блізкай да мерыдыянальнай арыентацыі і забудаванай двухбакова драўлянымі сял. сядзібамі.

**МАЛІНАЎКА** — вёска, цэнтр Малінаўскага с/с, за 35 км на ПнЗ ад Лоева, 65 км ад чыг. ст. Рэчыца (на лініі Гомель—Калінкавічы), за 87 км ад Гомеля, на р. Брагінка (прыток р. Дняпро). Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Брагін—Холмеч. 117 гаспадарак, 355 жыхароў (1999 г.).

Засн. ў пач. 1920-х г. перасяленцамі з суседніх вёсак на былых памешчыцкіх землях. У 1930 г. 14 двароў, 62 жыхары. У 1931 г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У 1940 г. 22 двары, 74 жыхары. У Вял. Айч. вайну ням. акупанты ў 1943 г. спалілі вёску і загубілі 11 жыхароў. У баях за вёску і наваколле ў ліст. 1943 г. загінулі 599 воінаў (пахаваны ў брацкай магіле ў цэнтры вёскі). На франтах і ў партыз. барацьбе загінулі 112 жыхароў вёсак Удалёўка, Вулкан, Удалёўская Рудня, Карпаўка, Лесуны, Хаткі, Малінаўка, памяць аб якіх увекавечвае скульптура воіна, пастаўленая ў 1972 г. побач з брацкай магілай. У выніку катастрофы на Чарнобыльскай АЭС падверглася радыяцыйнаму забруджанню і аднесена да катэгорыі з правам адсялення. З 3.12.1981 г. цэнтр Малінаўскага (былы Новабаршчоўскі) с/с Лоеўскага р-на Гомельскай вобл. Цэнтр калгаса імя К.Маркса. Размешчаны камбінат быт. абслугоўвання, 9-гадовая школа, Дом культуры, б-ка, фельч.-акушэрскі пункт, сталовая, магазін, аддз. сувязі, дзіцячыя яслі-сад.



*Помнік воінам-землякам у в. Малінаўка.*

Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, блізкай да шыротнай арыентацыі, да якой з З пад вострым вуглом далучаецца кароткая прамалінейная вуліца. Забудова пераважна драўляная, сядзібнага тыпу.

У склад Малінаўскага с/с уваходзілі да 1976 г. пас. Вінаградаўка (да 1938 Гарадок), да 1993 г. — пас. Бодры, да 1998 г. — пас. Кірава (да 1938 г.п. Зарэзаў), вёскі Удалёўская Рудня, Карпаўка, Лесуны (зараз не існуюць).

**МАРС** — пасёлак у Страдубскім с/с, за 13 км на ПнЗ ад Лоева, 42 км ад чыг. ст. Рэчыца (на лініі Гомель—Калінкавічы), за 65 км ад Гомеля. Побач аўтадарога Лоеў—Рэчыца. 18 гаспадарак, 25 жыхароў (1999 г.).

Засн. ў пач. 1920-х г. перасяленцамі з суседніх вёсак на былых памешчыцкіх землях. У 1930 г. арганізаваны калгас «Марс», працавала кузня. Паводле перапісу 1959 г. 116 жыхароў. У складзе саўгаса «Усход» (цэнтр — в. Страдубка). Планіровачна складаецца з кароткай прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ і забудаванай двухбакова няшчыльна драўлянымі сял. сядзібамі.

**МІКАЛАЕЎКА** — вёска ў Ручаёўскім с/с, за 19 км на ПдЗ ад Лоева, 79 км ад чыг. ст. Рэчыца (на лініі Гомель—Калінкавічы), за 103 км ад Гомеля, вакол лес. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Брагін—Лоеў. 12 гаспадарак, 18 жыхароў (1999 г.).

Засн. ў пач. 1920-х г. перасяленцамі з суседніх вёсак на былых памешчыцкіх землях. У 1931 г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У 1940 г. 23 двары, 65 жыхароў. У Вял. Айч. вайну ням. акупанты ў 1943 г. спалілі 22 двары і загубілі 8 жыхароў. Паводле перапісу 1959 г. 77 жыхароў. У складзе саўгаса «Зара» (цэнтр — в. Ручаёўка). Планіровачна складаецца з кароткай прамалінейнай шыротнай вуліцы. Забудова рэдкая, драўляная, сядзібнага тыпу.

**МІХАЛЁЎКА** — вёска ва Уборкаўскім с/с, за 17 км на ПнЗ ад Лоева, 60 км ад чыг. ст. Рэчыца (на лініі Гомель—Калінкавічы), за 79 км ад Гомеля, вакол лес. Дуброва Міхалёўка, што побач з вёскай, — помнік прыроды мясц. значэння. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Брагін—Холмеч. 43 гаспадаркі, 78 жыхароў (1999 г.).




*Брацкая магіла савецкіх воінаў і партызан у в. Міхалёўка.*

Па пісьмовых крыніцах вядома з 19 ст. як сяленне ў Холмецкай вол. Рэчыцкага пав. Мінскай губ. У 1850 г. 8 двароў, уладанне памешчыцы Рудзееўскай. Паводле перапісу 1897 г. 18 двароў, 140 жыхароў. У 1908 г. 21 двор, 253 жыхары. У 1930 г. арганізаваны калгас імя В.М. Молатава, працавалі 2 кузні. У 1940 г. 82 двары, 213 жыхароў. У Вял. Айч. вайну ням. акупанты ў 1943 г. спалілі 52 двары і загубілі 4 жыхароў. У баях за вёску і наваколле ў кастр. 1943 г. загінулі 496 воінаў, у іх ліку Герой Сав. Саюза В.І.Кулікоў (пахаваны ў брацкіх магілах на ўсх. і паўн. ускраінах). Паводле перапісу 1959 г. 372 жыхары. У выніку катастрофы на Чарнобыльскай АЭС падверглася радыяцыйнаму забруджанню і аднесена да катэгорыі з правам на адсяленне. У складзе калгаса імя У.І.Леніна (цэнтр — в. Уборак). Размешчаны аддз. сувязі, б-ка, фельч.-акушэрскі пункт. Планіровачна складаецца з крывалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ, да якой з У далучаюцца 2 кароткія (адна прамалінейная, другая крывалінейная) вуліцы. Забудова двухбако-

вая, няшчыльная, драўляная, сядзібнага тыпу.

**МОХАЎ** — вёска ў Каўпенскім с/с, за 8 км на Пн ад Лоева, 56 км ад чыг. ст. Рэчыца (на лініі Гомель—Калінкавічы), 75 км ад Гомеля, на У воз. Мохава і пойма р. Дняпро. Побач аўтадарога Лоеў—Рэчыца. 187 гаспадарак, 359 жыхароў (1999 г.).

Выяўленыя археолагамі гарадзішча 7—3 ст. да н.э. (за 2 км на ПнУ ад вёскі, ва ўрочышчы Шолахаў Кут), гарадзішча 7 ст. да н.э. — 2 ст. н.э. (за 2,5—3 км на ПдУ ад вёскі), гарадзішча 7 ст. да н.э. — 5 ст. н.э. (за 2 км на Пн ад вёскі), бескурганны могільнік жал. веку (за 1 км на З ад гарадзішча), курганны могільнік (на ПнУ ад вёскі) сведчаць аб засяленні гэтых мясцін у глыбокай старажытнасці. Па пісьмовых крыніцах вядома з 16 ст. як в. Мохава, на тракце Бабруйск—Чарнігаў. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У архіўных крыніцах 1811 г. ўпамінаецца як уладанне графа Рафайлава, у Рэчыцкім пав. Мінскай губ. У 1850 г. 57 двароў, 235 жыхароў. У 1879 г. сяленне ў складзе Лоеўскага царк. прыхода. Паводле перапісу 1897 г. 66 двароў, школа граматы, у Лоеўскай вол. Рэчыцкага пав. Мінскай губ. У 1908 г. 112 двароў, 719 жыхароў. З 8.12.1926 г. да 30.12.1927 г. цэнтр Мохаўскага с/с Лоеўскага р-на Рэчыцкай, з 9.6.1927 г. Гомельскай акруг. У 1930 г. арганізаваны калгас «Герой працы», мелася кузня. У 1940 г. 148 двароў. У Вял. Айч. вайну ням. акупанты ў 1943 г. спалілі 10 двароў і загубілі 23 жыхароў. Паводле перапісу 1959 г. 930 жыхароў. У складзе саўгаса «Лоеўскі» (цэнтр — г.п. Лоеў). Размешчаны аддз. сувязі, клуб, пач. школа, б-ка, фельч.-акушэрскі пункт. На міжнародным конкурсе «Прыз Браціславы» ў 1897 г. трыо вясковага клуба атрымала бронз. медаль. Планіровачна складаецца з працяглай, крыху выгнутай вуліцы, блізкай да мерыдыянальнай арыентацыі, на У ад якой паралельна праходзіць кароткая вуліца, злучаная з гал. 2 завулкамі. Забудова двухбаковая, драўляная, сядзібнага тыпу.



*Гарадзішча-1 каля в. Мохаў.*

**НОВАКУЗНЕЧНАЯ** (да 1938 Шыя) — вёска ў Ручаёўскім с/с, за 21 км на З ад Лоева, 81 км ад чыг. ст. Рэчыца (на лініі Гомель—Калінкавічы), 105 км ад Гомеля, на У мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Брагін—Лоеў. 37 гаспадарак, 88 жыхароў (1999 г.).

Па пісьмовых крыніцах вядома з пач. 20 ст. як хутар у Ручаёўскай вол. Рэчыцкага пав. Мінскай губ. У 1908 г. 15 двароў, 83 жыхары. У 1930 г. 40 двароў, 228 жыхароў, 541 га зямлі. У 1931 г. арганізаваны калгас «Громкі», працавала кузня. У 1940 г. 69 двароў, 339 жыхароў. У Вял. Айч. вайну ням. акупанты ў 1943 г. спалілі 62 двары і загубілі 26 жыхароў. Паводле перапісу 1959 г. 199 жыхароў. У складзе саўгаса «Зара» (цэнтр — в. Ручаёўка). Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, блізкай да мерыядыянальнай арыентацыі, забудаванай двухбакова драўлянымі сял. сядзібамі. Радзіма засл. дзеяча культуры Беларусі В.Г.Рагоўскай.

**НОВАЯ АЛЕШКАЎКА** — вёска ў Ручаёўскім с/с, за 21 км на ПдЗ ад Лоева, 81 км ад чыг. ст. Рэчыца (на лініі Гомель—Калінкавічы), 105 км ад Гомеля, на Пд, У і Пн мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Брагін—Лоеў. 42 гаспадаркі, 98 жыхароў (1999 г.).

Засн. ў 2-й пал. 19 ст., калі перасяленцы з в. Алішэеўка засн. тут хутар, які пазней стаў звацца в. Новая Алішэеўка, а в.

Алішэеўка — Старая Алішэеўка. У 1908 г. 17 двароў, 101 жыхар, у Ручаёўскай вол. Рэчыцкага пав. Мінскай губ. У 1931 г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. Паводле перапісу 1959 г. 161 жыхар. У складзе калгаса «Камуніст» (цэнтр — в. Дзімамеркі). Планіровачна складаецца з 2 кароткіх вуліц, блізкіх да шыротнай арыентацыі, злучаных завулкам. Жылыя дамы драўляныя, сядзібнага тыпу.

**НОВАЯ БАРШЧОЎКА** (да 25.12. 1962 Баршчоўка) — вёска ў Малінаўскім с/с, за 24 км на ПнЗ ад Лоева, 60 км ад чыг. ст. Рэчыца (на лініі Гомель—Калінкавічы), 94 км ад Гомеля, на Пд мяжуе з лесам, на Пн і З меліярацыйныя каналы. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Лоеў—Рэчыца. 111 гаспадарак, 270 жыхароў (1999 г.).

Выяўленае археолагамі гарадзішча (за 2 км на У ад вёскі, ва ўрочышчы Камітэт) сведчыць аб засяленні тут у далёкай старажытнасці. Па пісьмовых крыніцах вядома з 2-й пал. 19 ст. У 1908 г. в. Баршчоўка (83 двары, 584 жыхары), у Ручаёўскай вол. Рэчыцкага пав. Мінскай губ. З 8.12.1926 г. цэнтр Баршчоўскага, з 30.7.1963 г. да 3.12.1981 г. Новабаршчоўскага сельсаветаў Лоеўскага, з 25.12.1962 г. Рэчыцкага, з 30.7.1966 г. Лоеўскага р-наў Рэчыцкай, з 9.6.1927 г. Гомельскай (да 26.7.1930) акруг, з 20.2. 1938 г. Гомельскай вобл. У 1926 г. 764 жыхары; дзейнічала пач. школа. У 1930 г. арганізаваны калгас Гомельскі пралетарый, працавалі цагельня (з 1933), паравы млын, кузня, лесапільня, сукнавальня. У 1940 г. 161 двор, 649 жыхароў. У Вял. Айч. вайну ням. акупанты стварылі ў вёсцы свой гарнізон, які партызаны разграмілі. У 1943 г. карнікі спалілі 104 двары і загубілі 3 жыхароў. У баях каля вёскі загінулі 413 воінаў 65-й арміі, у іх ліку Герой Сав. Саюза Д.Азізаў (пахаваны ў брацкай магіле ў цэнтры вёскі). На франтах і ў партыз. барацьбе загінулі 139 жыхароў з вёсак Новая Баршчоўка, Дуброва, Іванькаў, Бодры, Астравы, Вялікае Петрыцкае, пас. Кіраў, памяць аб якіх увекавечвае скульптура воіна, пастаўленая ў 1963 г. ў цэнтры вёскі. Паводле перапісу 1959 г. 450 жыхароў. У выніку катастрофы на Чарнобыльскай АЭС падверглася радыяцыйнаму забруджанню і аднесена да катэгорыі з правам на адсяленне. У складзе калгаса імя К.Маркса (цэнтр — в. Малінаўка). Размешчаны сярэдняя школа, клуб, б-ка, фельч.-акушэрскі пункт, магазін, аддз. сувязі. Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, блізкай да мерыдыянальнай арыентацыі, да якой з З далучаецца Г-падобная вуліца. Забудова пераважна двухбаковая, драўляная, сядзібнага тыпу.

**НОВАЯ ВЁСКА** — пасёлак у Карпаўскім с/с, за 12 км на Пн ад Лоева, 60 км ад чыг. ст. Рэчыца (на лініі Гомель—Калінкавічы), за 68 км ад Гомеля. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Гомель—Чарнігаў. 6 гаспадарак, 7 жыхароў (1999 г.).

Засн. ў пач. 1920-х г. перасяленцамі з суседніх вёсак на былых памешчыцкіх землях. У 1931 г. пасялкоўцы ўступілі ў калгас. Паводле перапісу 1959 г. 117 жыхароў. У складзе саўгаса Карпаўка (цэнтр — в. Карпаўка). Планіровачна складаецца з 2 кароткіх вуліц, блізкіх да мерыдыянальнай арыентацыі, забудаваных аднабакова рэдка драўлянымі сял. сядзібамі.

**НОВАЯ ЛУТАВА** — вёска ў Сяўкоўскім с/с, за 30 км на ПдЗ ад Лоева, 81 км ад чыг. ст. Рэчыца (на лініі Гомель—Калінкавічы), 106 км ад Гомеля. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Брагін—Лоеў. 12 гаспадарак, 20 жыхароў (1999 г.).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 1920-х г., калі в. Лутава падзялілася на дзве: Старая Лутава і Новая Лутава. У 1930 г. ў в. Новая Лутава 28 двароў, 155 жыхароў. У 1931 г. арганізаваны калгас Новая Беларусь, працаваў вятрак. У 1940 г. 45 двароў, 195 жыхароў. У Вял. Айч. вайну ням. акупанты ў 1943 г. спалілі 38 двароў і загубілі 5 жыхароў. Па-

водле перапісу 1959 г. 131 жыхар. У складзе калгаса Дняпровец (цэнтр — в. Сяўкі). Планіровачна складаецца з 2 кароткіх, паралельных паміж сабой вуліц, арыентаваных з ПдУ на ПнЗ. Забудова рэдкая, драўляная, сядзібнага тыпу.

**ПАБЯДЗІЦЕЛЬ** — пасёлак у Пярэдзелкаўскім с/с, за 10 км на ПнЗ ад Лоева, 53 км ад чыг. ст. Рэчыца (на лініі Гомель—Калінкавічы), 71 км ад Гомеля, на З мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Лоеў—Рэчыца. 32 гаспадаркі, 57 жыхароў (1999 г.).

Засн. ў пач. 1920-х перасяленцамі з суседніх вёсак на былых памешчыцкіх землях. У 1930 г. арганізаваны калгас Пабядзіцель, працавала кузня. У 1940 г. 39 двароў, 181 жыхар. У Вял. Айч. вайну ням. акупанты ў 1943 г. спалілі пасёлак і загубілі 9 жыхароў. Паводле перапісу 1959 г. 177 жыхароў. У складзе саўгаса Дняпроўскі (цэнтр — в. Пярэдзелка). Размешчаны аддз. сувязі, клуб, б-ка. Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, блізкай да шыротнай арыентацыі і забудаванай двухбакова драўлянымі сял. сядзібамі.

**ПАДРАЧЫЦКАЕ** — пасёлак у Пярэдзелкаўскім с/с, за 9 км на Пн ад Лоева, 53 км ад чыг. ст. Рэчыца (на лініі Гомель—Калінкавічы), 71 км ад Гомеля, на З меліярацыйныя каналы, на У мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Лоеў—Рэчыца. 19 гаспадарак, 40 жыхароў (1999 г.).

Засн. ў пач. 1920-х г. перасяленцамі з суседніх вёсак на былых памешчыцкіх землях. У 1931 г. пасялкоўцы ўступілі ў калгас. У 1940 г. 64 двары, 331 жыхар. У Вял. Айч. вайну ням. акупанты ў 1943 г. спалілі 61 двор і загубілі 7 жыхароў. Паводле перапісу 1959 г. 198 жыхароў. У складзе саўгаса Дняпроўскі (цэнтр — в. Пярэдзелка). Размешчана б-ка. Планіровачна складаецца з 2 прамалінейных кароткіх вуліц, блізкіх да мерыдыянальнай арыентацыі. Забудова рэдкая, драўляная, сядзібнага тыпу.

**ПЕРШАМАЙСК** (да 30.1.1938 Папоўка) — вёска ў Пярэдзелкаўскім с/с, за 12 км на Пн ад Лоева, 51 км ад чыг. ст. Рэчыца (на лініі Гомель—Калінкавічы), 68 км ад Гомеля, на З мяжуе з воз. Папоўскае, на Пн і Пд меліярацыйныя каналы. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Лоеў—Рэчыца. 39 гаспадарак, 68 жыхароў (1999 г.).

Выяўленае археолагамі гарадзішча (за 2 км на Пд ад вёскі, ва ўрочышчы Локаць) сведчыць аб засяленні тут у далёкай старажытнасці. Па пісьмовых крыніцах вядома з 18 ст. як вёска ў Рэчыцкім пав. Мінскага ваяв. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772 ) у складзе Рас. імперыі. У 1788 г. 217 жыхароў, у Беліцкім пав. Магілёўскай губ. У 1816 г. 31 двор, у Хомінскай эканоміі Гомельскага маёнтка графа Румянцава-Задунайскага. З 1834 г. ў валоданні графа І.Ф.Паскевіча. Паводле перапісу 1897 г. 94 двары, 673 жыхары; хлебазапасны магазін, карчма. У 1909 г. 100 двароў, 725 жыхароў, 1144 дзес. зямлі, школа, млын, у Дзятлавіцкай вол. Гомельскага пав. Магілёўскай губ. У 1926 г. 165 двароў, 922 жыхары; 4-гадовая школа, паштовы пункт. З 8.12.1926 г. да 4.7.1967 г. цэнтр Папоўскага (з 30.1.1938 Першамайскага) с/с Дзятлавіцкага, з 4.8.1927 г. Лоеўскага, з 25.12.1962 г. Рэчыцкага, з 30.7. 1966 г. Лоеўскага р-наў Гомельскай (да 26.7.1930) акругі, з 20.2.1938 г. Гомельскай вобл. У 1930 г. арганізаваны калгас. У Вял. Айч. вайну ням. акупанты ў 1943 г. спалілі 63 двары і загубілі 4 жыхароў. Паводле перапісу 1959 г. 231 жыхар. У складзе саўгаса Дняпроўскі (цэнтр — в. Пярэдзелка). Размешчаны клуб, фельч.-акушэрскі пункт. Планіровачна складаецца з дугападобнай вуліцы, блізкай да шыротнай арыентацыі. Забудова рэдкая, драўляная, сядзібнага тыпу.

**ПРАГРЭС** — пасёлак у Пярэдзелкаўскім с/с, за 10 км на ПнЗ ад Лоева, 54 км ад чыг. ст. Рэчыца (на лініі Гомель—Калінкавічы), 72 км ад Гомеля, на Пн мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па

прасёлачнай, потым аўтадарозе Лоеў—Рэчыца. 34 гаспадаркі, 63 жыхары (1999 г.).

Засн. ў пач. 1920-х г. перасяленцамі з суседніх вёсак на былых памешчыцкіх землях. У 1930 г. арганізаваны калгас Прагрэс, працавалі кузня і 2 крупарушкі. У 1940 г. 62 двары, 247 жыхароў. У Вял. Айч. вайну ням. акупанты ў ліст. 1943 г. спалілі пасёлак і загубілі 11 жыхароў. Паводле перапісу 1959 г. 192 жыхары. У складзе саўгаса Дняпроўскі (цэнтр — в. Пярэдзелка). Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, блізкай да мерыдыянальнай арыентацыі. Забудова двухбаковая, драўляная, сядзібнага тыпу.

**ПУСТАЯ ГРАДА** — вёска ў Каўпенскім с/с, за 12 км на ПнЗ ад Лоева, 58 км ад чыг. ст. Рэчыца (на лініі Гомель—Калінкавічы), за 77 км ад Гомеля, на У сетка меліярацыйных каналаў, на Пн і З мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Лоеў—Рэчыца. 24 гаспадаркі, 36 жыхароў (1999 г.).

Выяўленае археолагамі гарадзішча ранняга жал. веку (за 2 км на ПдЗ ад вёскі) сведчыць аб засяленні мясцін у глыбокай мінуўшчыне. Па пісьмовых крыніцах вядома з пач. 20 ст., калі тут размясціліся першыя перасяленцы з суседніх вёсак. У 1931 г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У 1940 г. 68 двароў. У Вял. Айч. вайну ням. акупанты ў 1943 г. спалілі 16 двароў. Паводле перапісу 1959 г. 236 жыхароў. У складзе калгаса «Дружба» (цэнтр — в. Каўпень). Планіровачна складаецца з крывалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ (уздоўж каналаў). Забудова двухбаковая, драўляная, сядзібнага тыпу.

**ПЯРЭДЗЕЛКА** — вёска, цэнтр Пярэдзелкаўскага с/с, за 15 км на ПнЗ ад Лоева, 45 км ад чыг. ст. Рэчыца (на лініі Гомель—Калінкавічы), 78 км ад Гомеля, на р. Дняпро. Побач аўтадарога Лоеў—Рэчыца. 181 гаспадарка, 444 жыхары (1999 г.).



*Сядзібны дом у в. Пярэдзелка.*

Па пісьмовых крыніцах вядома з 18 ст. як сяленне ў Рэчыцкім пав. Мінскага ваяв. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1795 г. 25 двароў, 166 жыхароў. У 1-й пал. 19 ст. пабудаваны мураваны сядзібны дом (цяпер у ім размяшчаецца школа). У 1862 г. 39 двароў, вялікі зямельны надзел ва ўладанні памешчыка Рудзееўскага. Дзейнічаў вадзяны млын. У 1879 г. ў складзе Казіміравіцкага царк. прыхода. У 2-й пал. 19 ст. пабудавана драўляная царква (помнік архітэктуры рэтраспектыўнага стылю). Паводле перапісу 1897 г. 95 двароў, 663 жыхары; часоўня, школа граматы, карчма. У 1908 г. 130 двароў, 732 жыхары, у Холмецкай вол. Рэчыцкага пав. З 8.12.1926 г. цэнтр Пярэдзелкаўскага с/с Холмецкага, з 4.8.1927 г. Лоеўскага, з 25.12.1962 г. Рэчыцкага, з 30.7.1966 г. Лоеўскага р-наў Гомельскай (да 26.7.1930) акругі, з 20.2.1938 г. Гомельскай вобл. У 1930 г. арганізаваны калгас, працавалі 2 кузні. У 1940 г. 100 двароў. У Вял. Айч. вайну ў 1943 г. ням. акупанты спалілі 30 двароў. У баях пры фарсіраванні Дняпра і вызваленні вёскі загінулі 435 воінаў і 2 партызаны, у іх ліку Герой Сав. Саюза Л.С.Лапцеў (пахаваны ў брацкіх магілах у парку, на зах. беразе р. Дняпро, і ў скверы, каля школы). На франтах і ў партыз. барацьбе загінулі 387 землякоў, памяць аб якіх увекавечвае абеліск на вяршыні кургана Славы (узведзены ў 1967 у парку). Паводле перапісу 1959 г. 632 жыхары. Цэнтр саўгаса «Дняпроўскі». Размешчаны крухмальны з-д, вінны цэх, швейная

майстэрня, лясніцтва, сярэдняя школа, Дом культуры, б-ка, дзіцячыя яслі-сад, б-ца, аптэка, аддз. сувязі, сталовая, 2 магазіны. Планіровачна складаецца з працяглай крывалінейнай вуліцы (уздоўж Дняпра), да якой з З далучаецца кароткая Г-падобная вуліца. Забудова двухбаковая, драўляная, сядзібнага тыпу. У 1987—91 гг. пабудаваны 88 мураваных, катэджнага тыпу дамоў, у якіх размясціліся перасяленцы з забруджаных радыяцыяй месц пасля Чарнобыльскай катастрофы. Каля вёскі ёсць залежы глін.

**РАЙСК** — пасёлак ва Уборкаўскім с/с, 18 км на ПнЗ ад Лоева, 58 км ад чыг. ст. Рэчыца (на лініі Гомель—Калінкавічы), 79 км ад Гомеля, на У мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Брагін—Холмеч. 5 гаспадарак, 9 жыхароў (1999 г.).

Выяўленыя археолагамі гарадзішча жал. веку (за 0,8 км на ПнЗ ад вёскі) і гарадзішча (за 1,5 км на ПдУ ад вёскі) сведчаць аб засяленні гэтых месц у далёкай старажытнасці. Сучасны пасёлак засн. ў пач. 1920-х г. перасяленцамі з суседніх вёсак на былых памешчыцкіх землях. У 1931 г. пасялкоўцы ўступілі ў калгас. У 1940 г. 17 двароў, 41 жыхар. У Вял. Айч. вайну ням. акупанты ў ліст. 1943 г. спалілі пасёлак. Паводле перапісу 1959 г. 57 жыхароў. У складзе саўгаса імя У.І.Леніна (цэнтр — в. Уборак). Планіровачна складаецца з кароткай прамалінейнай шыротнай вуліцы. Забудова рэдкая, драўляная, сядзібнага тыпу.

**РУДНЯ-БУРЫЦКАЯ** — вёска ў Малінаўскім с/с, за 38 км на ПнЗ ад Лоева, 57 км ад чыг. ст. Рэчыца (на лініі Гомель—Калінкавічы), 108 км ад Гомеля, на З сетка меліярацыйных каналаў. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Хойнікі—Гомель. 68 гаспадарак, 178 жыхароў (1999 г.).

Па пісьмовых крыніцах вядома з сярэдзіны 19 ст., калі сяляне з суседніх вёсак купілі тут зямлю з дапамогай сял. крэдытнага банка і пачалі яе асвойваць. Паводле перапісу 1897 г. 2 аднайменныя вёскі, 49 двароў, 284 жыхары, у Холмецкай вол. Рэчыцкага пав. Мінскай губ. З 8.12.1926 г. да 30.12.1927 г. цэнтр Бурыцкаруднянскага с/с Холмецкага, з 4.8. 1927 г. Лоеўскага р-наў Рэчыцкай, з 9.6.1927 г. Гомельскай акруг. У 1930 г. 89 двароў, 347 жыхароў. У 1931 г. арганізаваны калгас, працавала кузня. У Вял. Айч. вайну ням. акупанты ў чэрв. 1943 г. спалілі вёску і загубілі 27 жыхароў. У вёсцы і наваколлі базіравалася Лоеўская партыз. брыгада «За Радзіму». Паводле перапісу 1959 г. 357 жыхароў. У выніку катастрофы на Чарнобыльскай АЭС падверглася радыяцыйнаму забруджанню і аднесена да катэгорыі з правам на адсяленне. Цэнтр калгаса імя М.І.Калініна. Размешчаны 9-гадовая школа, клуб, б-ка, фельч.-акушэрскі пункт, аддз. сувязі, магазін. Планіровачна складаецца з крывалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ і забудаванай двухбакова, няшчыльна драўлянымі сял. сядзібамі.

**РУДНЯ-КАМЕНЕВА** (да 1924 Папоўская Рудня) — вёска ў Страдубскім с/с, за 14 км на ПнЗ ад Лоева; 47 км ад чыг. ст. Рэчыца (на лініі Гомель—Калінкавічы), 61 км ад Гомеля, на У меліярацыйныя каналы і мяжуе з лесам, на З — пойма р. Дняпро. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Лоеў—Рэчыца. 65 гаспадарак, 97 жыхароў (1999 г.).

Выяўленае археолагамі гарадзішча (за 2 км на ПдУ ад вёскі, ва ўрочышчы Лохаць) сведчыць аб засяленні тут у далёкай старажытнасці. Па пісьмовых крыніцах вядома з 18 ст. як вёска ў Беліцкім пав. Магілёўскай губ. У 1788 г. ўпамінаецца ў ліку сяленняў, якія ўваходзілі ў склад Гомельскага маёнтка. У 1798 г. 40 жыхароў. У 1816 г. 7 двароў, 53 жыхары. Паводле перапісу 1897 г. 36 двароў, 280 жыхароў, хлебазапасны магазін, у Дзятлавіцкай вол. Гомельскага пав. Магілёўскай губ. У 1926 г. 94 двары, 546 жыхароў, паштовы пункт, школа. У 1930 г. арганізаваны калгас «Звязда», працавала кузня. У 1940 г. 140 два-

роў, 700 жыхароў. У Вял. Айч. вайну ням. акупанты ў 1943 г. спалілі 135 двароў і загубілі 18 жыхароў. Паводле перапісу 1959 г. 478 жыхароў. У складзе саўгаса Усход (цэнтр — в. Страдубка). Размешчаны клуб, б-ка, фельч.-акушэрскі пункт. Планіровачна складаецца з прамалінейнай мерыдыянальнай вуліцы, да якой з У пад прамым вуглом далучаецца кароткая прамалінейная вуліца. На У і Пн невялікія адасобленыя ўчасткі забудовы. Жылыя дамы драўляныя, сядзібнага тыпу, пастаўлены рэдка.

**РУДНЯ-УДАЛЁЎСКАЯ** — вёска ў Малінаўскім с/с за 30 км на ПнЗ ад Лоева, 66 км ад чыг. ст. Рэчыца, 98 км ад Гомеля.

У 1897 г. в. Рудня-Удалёўская, у Ручаёўскай вол. Рэчыцкага пав. Мінскай губ., 36 двароў, 234 жыхары. У 1909 г. 41 двор, 240 жыхароў. У 1917 г. 52 гаспадаркі, 272 жыхары. З 26.4.1919 г. ў складзе Гомельскай губ., з 8.12.1923 г. ў Гомельскай акрузе БССР, з 8.12.1926 г. ва Удалёўскім с/с Холмецкага р-на Рэчыцкай, з 9.6.1927 г. Гомельскай акруг, з 4.8.1927 г. ў Лоеўскім р-не той жа акругі (да 26.7.1930), з 30.12.1927 г. ў Хаткаўскім с/с таго ж раёна, з 20.2.1938 г. ў Гомельскай вобл. У 1926 г. вёска, 53 двары, 284 жыхары, і лясная вартоўня Рудня-Удалая, 2 гаспадаркі, 15 жыхароў. У 1935 г. ў вёсцы працавала школа. З 25.12.1962 г. да 30.7.1966 г. ў складзе Рэчыцкага р-на, з 29.1.1964 г. ў Новабаршчоўскім с/с. У 1959 г. — 72, у 1970 г. — 39 жыхароў.

**РУЧАЁЎКА** — вёска, цэнтр Ручаёўскага с/с, за 25 км на ПдЗ ад Лоева, 63 км ад чыг. ст. Рэчыца (на лініі Гомель—Лунінец), 117 км ад Гомеля, на аўтадарозе Брагін—Лоеў, на Пд сетка меліярацыйных каналаў, на У р. Песачанка, якая ўпадае ў воз. Літоўскае, што ў пойме р. Дняпро. 133 гаспадаркі, 372 жыхары (1999 г.).

Па пісьмовых крыніцах вядома з пач. 19 ст. як вёска ў Рэчыцкім пав. Мінскай губ. У 1834 г. 23 двары. У 1850 г. 27 двароў, 177 жыхароў, уладанне памешчыцы Быкоўскай. У 1872 г. пабудавана драўляная 5-купальная Вазнясенская царква, у якой сярод кніг былі служэбнік, выдадзены ў Кіеве ў 1791 г., і евангеллі, выдадзеныя ў Маскве ў 1805 і 1863 гг. У 1885 г. 67 двароў, 469 жыхароў, цэнтр Ручаёўскай вол., у якую ўваходзілі 12 сяленняў з 438 дварамі. Паводле перапісу 1897 г. 66 двароў, 533 жыхары; нар. вучылішча, хлебазапасны магазін, карчма. У 1916 г. пачаў дзейнічаць тэлеграф. У 1908 г. 104 двары, 602 жыхары. З 26.4. 1919 г. ў Гомельскай губ. РСФСР. У выніку пагрому, які 7.2.1921 г. ўчыніла банда Галакі, загінулі 40 жыхароў. 9.5.1923 г. воласць ліквідавана, а тэрыторыя ўключана ў Лоеўскую і Холмецкую воласці. З 8.12.1926 г. ў складзе БССР, цэнтр Ручаёўскага с/с Лоеўскага, з 25.12.1962 г. Брагінскага, з 30.7.1966 г. Лоеўскага р-наў Рэчыцкай, з 9.6.1927 г. Гомельскай (да 26.7.1930) акруг, з 20.2. 1938 г. Гомельскай вобл. У 1930 г. 69 двароў, 399 жыхароў; пач. школа, хата-чытальня, аддз. спажывецкай кааперацыі. У 1931 г. арганізаваны калгас імя СНК БССР, працавала кузня. У 1940 г. 103 двары, 496 жыхароў. У Вял. Айч. вайну ням. акупанты стварылі ў вёсцы свой гарнізон, які 8.9.1942 г. разграмілі партызаны. Карнікі ў 1943 г. спалілі 93 двары і загубілі 8 жыхароў. У баях за вызваленне вёскі і наваколля загінулі 608 воінаў, у іх ліку Герой Сав. Саюза В.М. Лебедзеў (пахаваны ў брацкай магіле ў цэнтры вёскі). Паводле перапісу 1959 г. 420 жыхароў. Цэнтр саўгаса «Зара». Размешчаны сярэдняя школа, Дом культуры, б-ка, фельч.-акушэрскі пункт, вет. ўчастак, аддз. сувязі, шавецкая майстэрня, магазін, дзіцячыя яслі-сад. Планіровачна складаецца з амаль прамалінейнай вуліцы, блізкай да шыротнай арыентацыі, да якой з Пн далучаецца кароткая вуліца. Забудова двухбаковая, драўляная, сядзібнага тыпу. Радзіма Героя Сац. Працы, засл. заатэхніка БССР С.Дз.Лямешчанкі. Паблізу ёсць залежы гліны і торфу.

У склад Ручаёўскага с/с уваходзілі да 1938 г. пас. Грабяністае, да 1962 г. пас. Пагольнае (да 1938 в. Крывін), якія зараз не існуюць.

**РЭКОРД** — вёска ў Страдубскім с/с, за 12 км на ПнЗ ад Лоева, 52 км ад чыг. ст. Рэчыца (на лініі Гомель—Калінкавічы), 67 км ад Гомеля, на У і Пн мяжуе з лесам. Побач аўтадарога Лоеў—Рэчыца. 25 гаспадарак, 48 жыхароў (1999 г.).

Выяўленае археолагамі паселішча 5—4 тыс. да н.э. (за 0,5 км на У ад вёскі) сведчыць аб засяленні тут у глыбокай старажытнасці. Сучасная вёска засн. ў пач. 1920-х г. перасяленцамі з суседніх вёсак на былых памешчыцкіх землях. У 1930 г. арганізаваны калгас «Рэкорд», працавала кузня. Паводле перапісу 1959 г. 158 жыхароў. У складзе саўгаса «Усход» (цэнтр — в. Страдубка). Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, блізкай да мерыдыянальнай арыентацыі. Забудова двухбаковая, драўляная, сялянскага тыпу.

**СВІРЭЖА** — пасёлак у Карпаўскім с/с, за 9 км на ПнУ ад Лоева, за 55 км ад чыг. ст. Рэчыца (на лініі Гомель—Калінкавічы), за 77 км ад Гомеля, за 1 км ад дзярж. мяжы з Украінай. На Пн мяжуе з лесам, на ўсходзе — пойма р. Сож (прыток р. Дняпро). Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Гомель—Чарнігаў. 10 гаспадарак, 16 жыхароў (1999 г.).

Засн. ў пач. 20 ст. перасяленцамі з суседніх вёсак. У 1931 г. пасялкоўцы ўступілі ў калгас. Па перапісу 1959 г. 140 жыхароў. У складзе саўгаса «Карпаўка» (цэнтр — в. Карпаўка). Планіровачна складаецца з кароткай крывалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ. Забудавана аднабаковымі драўлянымі сял. сядзібамі.

**СІНСК** — вёска ў Бывалькаўскім с/с, за 12 км на ПдЗ ад Лоева, 72 км ад чыг. ст. Рэчыца (на лініі Гомель—Калінкавічы), 98 км ад Гомеля, на аўтадарозе Брагін—Лоеў, на Пд і Пн мяжуе з лесам. 60 гаспадарак, 102 жыхары (1999 г.).

Выяўлены археолагамі курганны могільнік эпохі Кіеўскай Русі (25 насыпаў, за 1 км ад вёскі, ва ўрочышчы Казлова Курганне) сведчыць аб засяленні тут у далёкай мінуўшчыне. Па пісьмовых крыніцах вядома з 18 ст. як сяленне ў Рэчыцкім пав. Мінскага ваяв. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1811 г. ўладанне графа Юдзіцкага. У 1850 г. 30 двароў, 190 жыхароў. У 1879 г. сяленне Лоеўскага царк. прыхода. Паводле перапісу 1897 г. 90 двароў, 444 жыхары; школа граматы, хлебазапасны магазін. У 1908 г. 104 двары, 728 жыхароў, у Лоеўскай вол. Рэчыцкага пав. З 8.12.1926 г. да 30.12.1927 г. цэнтр Сінскага с/с Лоеўскага р-на Рэчыцкай, з 9.6.1927 г. Гомельскай акруг. У 1930 г. арганізаваны калгас «Новы быт», працавалі кузня і вятрак. У 1940 г. 147 двароў, 700 жыхароў. У Вял. Айч. вайну ням. акупанты ў 1943 г. спалілі вёску і загубілі 4 жыхароў. На франтах і ў партыз. барацьбе загінулі 63 землякі, памяць аб якіх увекавечвае абеліск, пастаўлены ў 1966 г. на могілках. Паводле перапісу 1959 г. 308 жыхароў. У складзе калгаса «Ленінскі сцяг» (цэнтр — в. Бывалькі). Дзейнічае клуб. Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы. Забудова двухбаковая, драўляная, сядзібнага тыпу. Радзіма Героя Сав. Саюза К.П.Грыба (яго імем названа вуліца ў в. Бывалькі).

**СЛАВА** — пасёлак у Карпаўскім с/с, за 9 км на Пн ад Лоева, 58 км ад чыг. ст. Рэчыца (на лініі Гомель—Калінкавічы), 68 км ад Гомеля, на Пд і У мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Гомель—Чарнігаў. 12 гаспадарак, 20 жыхароў (1999 г.).

Засн. ў пач. 1920-х г. перасяленцамі з суседніх вёсак на былых памешчыцкіх землях. У 1931 г. пасялкоўцы ўступілі ў калгас. Паводле перапісу 1959 г. 64 жыхары. У складзе саўгаса «Карпаўка» (цэнтр — в. Карпаўка). Планіровачна складаецца з кароткай прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ. За-

будова аднабаковая, рэдкая, драўлянымі сял. сядзібамі.

**СМЕЛЫ** — пасёлак ва Уборкаўскім с/с, за 15 км на ПнЗ ад Лоева, 56 км ад чыг. ст. Рэчыца (на лініі Гомель—Калінкавічы), 72 км ад Гомеля, на Пд мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Брагін—Холмеч. 19 гаспадарак, 30 жыхароў (1999 г.).

Засн. ў пач. 1920-х г. перасяленцамі з суседніх вёсак на былых памешчыцкіх землях. У 1931 г. пасялкоўцы ўступілі ў калгас. У 1940 г. 60 двароў, 182 жыхары. У Вял. Айч. вайну ням. акупанты ў 1943 г. спалілі 58 двароў і загубілі 1 жыхара. Паводле перапісу 1959 г. 160 жыхароў. У складзе саўгаса імя У.І.Леніна (цэнтр — в. Уборак). Планіровачна складаецца з кароткай прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ, да цэнтра якой з З далучаецца кароткая прамалінейная вуліца. Забудаваны двухбакова шчыльна драўлянымі сял. сядзібамі.

**СТРАДУБКА** — вёска, цэнтр Страдубскага с/с, за 28 км на ПнЗ ад Лоева, 39 км ад чыг. ст. Рэчыца (на лініі Гомель—Калінкавічы), 72 км ад Гомеля, на р. Дняпро. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Лоеў—Рэчыца. 207 гаспадарак, 572 жыхары (1999 г.).

Выяўленае археолагамі селішча ранняга жал. веку (у паўн.-зах. частцы вёскі) сведчыць аб засяленні месца ў глыбокай старажытнасці. Па пісьмовых крыніцах вядома з 19 ст. як вёска ў Рэчыцкім пав. Мінскай губ. У 1850 г. 36 двароў, 160 жыхароў, уладанне графа Ракіцкага. У 1879 г. сяленне ў Казіміравіцкім царк. прыходзе. Паводле перапісу 1897 г. 58 двароў, 395 жыхароў, капліца, хлебазапасны магазін, крама, у Холмецкай вол. У 1920-я г. пачала дзейнічаць пач. школа. У 1930 г. арганізаваны калгас «Беларусь», працавалі вятрак і кузня. У 1940 г. 87 двароў, 448 жыхароў. У Вял. Айч. вайну ням. акупанты ў 1943 г. спалілі 84 двары і загубілі 18 жыхароў. У баі за вёску 20.10.1943 г. вызначыліся камандзір узвода малодшы лейт. А.П.Гура і салдат А.В.Плюшч (удастоены звання Героя Сав. Саюза). Загінулі 495 воінаў (пахаваны ў брацкай магіле). З 25.12. 1962 г. цэнтр Страдубскага с/с Рэчыцкага, з 30.7.1966 г. Лоеўскага р-наў Гомельскай вобл. Паводле перапісу 1959 г. 301 жыхар. Цэнтр саўгаса «Усход». Размешчаны Дом культуры, сярэдняя школа, б-ка, дзіцячы сад, фельч.-акушэрскі пункт, швейная майстэрня, сталовая, 2 магазіны, аддз. сувязі. Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ, да якой на У далучаецца забудаваная аднабакова вуліца (уздоўж ракі). Забудова драўляная, сядзібнага тыпу. У 1986—87 гг. узведзена 100 мураваных дамоў катэджнага тыпу, у якіх размясціліся перасяленцы з забруджаных радыяцыяй месц пасля Чарнобыльскай катастрофы. Каля вёскі ёсць залежы пяскоў.

У склад Страдубскага с/с да 1986 г. ўваходзіў пас. Ніва (не існуе).

**СТАРАЯ АЛЕШКАЎКА** — вёска ў Ручаёўскім с/с, за 22 км на ПдЗ ад Лоева, 82 км ад чыг. ст. Рэчыца (на лініі Гомель—Калінкавічы), 106 км ад Гомеля. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Брагін—Лоеў. 1 гаспадарка, 4 жыхары (1999 г.).

Па пісьмовых крыніцах вядома з пач. 19 ст. як в. Алішэеўка ў Ручаёўскай вол. Рэчыцкага пав. Мінскай губ. У 2-й пал. 19 ст. перасяленцы з гэтай вёскі заснавалі хутар, які хутка вырас і ператварыўся ў в. Новая Алішэеўка, а в. Алішэеўка стала называцца Старая Алішэеўка. У 1931 г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну ням. акупанты ў 1943 г. спалілі 107 двароў і загубілі 89 жыхароў. Паводле перапісу 1959 г. 80 жыхароў. У складзе калгаса «Камуніст» (цэнтр — в. Дзімамеркі). Забудова драўляная, сядзібнага тыпу.

**СТАРАЯ ЛУТАВА** — вёска ў Сяўкоўскім с/с, за 28 км на ПдЗ ад Лоева, 82 км ад чыг. ст. Рэчыца (на лініі Гомель—Калінкавічы), 107 км ад Гомеля, на У воз. Лутаўскае. Транспартныя су-

вязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Брагін—Лоеў. 26 гаспадарак, 47 жыхароў (1999 г.).

Выяўленае археолагамі паселішча позняга мезаліту (за 0,7 км на Пн ад вёскі) сведчыць аб засяленні мясцін у глыбокай старажытнасці. Па пісьмовых крыніцах вядома з 19 ст. як в. Лутава ў Дзяражыцкай вол. Рэчыцкага пав. Мінскай губ. У 1908 г. 60 двароў, 420 жыхароў. У 1920-я г. в. Лутава падзялілася на дзве: Старая Лутава і Новая Лутава. У 1930 г. ў в. Старая Лутава 47 двароў, 266 жыхароў. У 1931 г. арганізаваны калгас «Слава», працавалі кузня і вятрак. У 1940 г. 69 двароў, 341 жыхар. У Вял. Айч. вайну ням. акупанты ў 1943 г. спалілі вёску і загубілі 8 жыхароў. Паводле перапісу 1959 г. 165 жыхароў. У складзе калгаса «Дняпровец» (цэнтр — в. Сяўкі). Размешчаны б-ка, фельч.-акушэрскі пункт. Планіровачна складаецца з дугападобнай, блізкай да шыротнай арыентацыі вуліцы, да якой з У далучаецца кароткая прамалінейная вуліца. Забудова рэдкая, драўляная, сядзібнага тыпу.

**СУТКОВА** — пасёлак у Пярэдзелкаўскім с/с, за 11 км на Пн ад Лоева, 53 км ад чыг. ст. Рэчыца (на лініі Гомель—Калінкавічы), 72 км ад Гомеля. Побач аўтадарога Лоеў—Рэчыца. 145 гаспадарак, 406 жыхароў (1999 г.).

Вядомы з 18 ст. як сяленне ў Рэчыцкай вол. Мінскага ваяв. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1795 г. 68 жыхароў. Паводле перапісу 1897 г. 7 двароў, 140 жыхароў, б-ца, вінакурня і цагельня. У 1930 г. арганізаваны калгас «Дняпроўская камуна», працавалі кузня, паравы млын, крухмальны з-д. Паводле перапісу 1959 г. 312 жыхароў. У складзе саўгаса «Дняпроўскі» (цэнтр — в. Пярэдзелка). Размешчаны Лоеўскае лясніцтва, аптэка, 2 магазіны. Планіровачна складаецца з прамалінейнай мерыдыянальнай вуліцы, да якой з З ад аўтадарогі далучаецца кароткая прамалінейная вуліца. Забудова двухбаковая, няшчыльная, драўляная, сядзібнага тыпу.

*Курган Славы ў гонар воінаў-землякоў у пас. Суткова.*



**СЯЎКІ** — вёска, цэнтр Сяўкоўскага с/с, за 35 км на ПдЗ ад Лоева, 81 км ад чыг. ст. Рэчыца (на лініі Гомель—Калінкавічы), 127 км ад Гомеля, на Пд сетка меліярацыйных каналаў, на Пн і У р. Песачанка (упадае ў воз. Літаўскае, пойма р. Дняпро). Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Брагін—Лоеў. 123 гаспадаркі, 346 жыхароў (1999 г.).

Па пісьмовых крыніцах вядома з пач. 19 ст. як вёска ў Рэчыцкім пав. Мінскай губ. У 1850 г. 28 двароў. У 1879 г. сяленне ў Ручаёўскім царк. прыходзе. Паводле перапісу 1897 г. 62 двары, 381 жыхар, школа граматы. Побач быў аднайменны пасёлак, 9 двароў, 67 жыхароў. У 1908 г. 74 двары, 508 жыхароў. З 8.12.1926 г. да 30.12.1927 г. і з 4.7.1967 г. цэнтр Сяўкоўскага с/с Лоеўскага р-на Рэчыцкай, з 9.6.1927 г. Гомельскай (да 26.7.1930) акруг, з 20.2.1938 г. Гомельскай вобл. У 1931 г. арганізаваны калгас «Кастрычнік», працавалі 2 ветракі і кузня. У 1940 г. 87 двароў. У Вял. Айч. вайну ням. акупанты ў 1943 г. спалілі 85 двароў і загубілі 5 жыхароў. Паводле перапісу 1959 г. 275 жыхароў. Цэнтр калгаса «Дняпровец». Размешчаны 9-гадовая школа, Дом культуры, дзіцячы сад, б-ка, фельч.-акушэрскі пункт, вет. ўчастак, аддз. сувязі, магазін. Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, блізкай да мерыдыянальнай арыентацыі, да якой на Пн і Пд

далучаюцца кароткія прамалінейныя вуліцы. Забудова двухбаковая, драўляная, сядзібнага тыпу. Радзіма бел. гісторыка, публіцыста, вучонага ў галіне эканам. геаграфіі Я.С.Канчара. Побач ёсць тарфяныя залежы.

У склад Сяўкоўскага с/с да 1976 г. ўваходзіў пас. Ляскі (не існуе).

**ТРАСЦЯНЕЦ** — вёска ў Бывалькаўскім с/с, за 16 км на ПдЗ ад Лоева, 76 км ад чыг. ст. Рэчыца (на лініі Гомель—Калінкавічы), 100 км ад Гомеля, на З мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Брагін—Лоеў. 50 гаспадарак, 99 жыхароў (1999 г.).

Засн. ў пач. 20 ст. перасяленцамі з суседніх вёсак. У 1930 г. арганізаваны калгас Ударнік, працавала кузня. У 1940 г. 60 двароў, 295 жыхароў. У Вял. Айч. вайну ням. акупанты ў 1943 г. спалілі 53 двары, загубілі 12 жыхароў. Паводле перапісу 1959 г. 273 жыхары. У складзе калгаса «Ленінскі сцяг» (цэнтр — в. Бывалькі). Дзейнічае клуб. Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, блізкай да мерыдыянальнай арыентацыі. Забудова двухбаковая, драўляная, сядзібнага тыпу.

**ТУЧКІ** — вёска ва Уборкаўскім с/с, за 19 км на ПнЗ ад Лоева, 62 км ад чыг. ст. Рэчыца (на лініі Гомель—Калінкавічы), 81 км ад Гомеля, на р. Песачанка (прыток р. Дняпро), на У мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Брагін—Холмеч. 5 гаспадарак, 8 жыхароў (1999 г.).

Засн. ў пач. 20 ст. перасяленцамі з суседніх вёсак. У 1931 г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У 1940 г. 32 двары, 94 жыхары. У Вял. Айч. вайну ням. акупанты ў 1943 г. спалілі вёску. У баях каля вёскі ў кастр. 1943 г. загінулі 25 воінаў (пахаваны ў брацкай магіле ў цэнтры). Паводле перапісу 1959 г. 124 жыхары. У складзе саўгаса імя У.І.Леніна (цэнтр — в. Уборак). Забудова драўляная, рэдкая, сядзібнага тыпу.

**УБОРАК** — вёска, цэнтр Уборкаўскага с/с, за 29 км на ПнЗ ад Лоева, 42 км ад чыг. ст. Рэчыца (на лініі Гомель—Калінкавічы), за 83 км ад Гомеля, на Пн і З р. Брагінка (прыток р. Дняпро) і меліярацыйныя каналы. Побач аўтадарога Холмеч—Брагін. 265 гаспадарак, 716 жыхароў (1999 г.).

Выяўлены археолагамі курган (за 0,3 км на З ад вёскі) сведчыць аб засяленні тут у глыбокай старажытнасці. Сучасная вёска засн. ў пач. 19 ст. перасяленцамі з суседніх вёсак на землях, што купілі ў памешчыка. У 1892 г. пабудавана Раства-Багародзіцкая драўляная царква. Паводле перапісу 1897 г. 30 двароў, 188 жыхароў. У 1908 г. 44 двары, 372 жыхары, у Холмецкай вол. Рэчыцкага пав. З 8.6.1926 г. цэнтр Уборкаўскага с/с Холмецкага, з 4.8.1927 г. Лоеўскага, з 25.12. 1962 г. Рэчыцкага, з 30.7.1966 г. Лоеўскага р-наў Рэчыцкай, з 9.6.1927 г. Гомельскай (да 26.7.1930) акруг, з 20.2. 1938 г. Гомельскай вобл. У 1930 г. 55 двароў, 249 жыхароў; пач. школа, аддз. спажывецкай кааперацыі, машыннае таварыства. У 1930 г. арганізаваны калгас «Палеская праўда», працавалі кузня і нафтавы млын. У 1940 г. 83 двары, 340 жыхароў. У Вял. Айч. вайну ням. акупанты стварылі ў вёсцы свой гарнізон, які разграмілі партызаны. У 1943 г. карнікі спалілі 27 двароў і загубілі 11 жыхароў (пахаваны ў магіле ахвяр фашызму ў калгасным садзе). У баях за вёску і наваколле ў ліст. 1943 г. загінулі 540 воінаў, у іх ліку Героі Сав. Саюза К.Х.Ахметшын, А.П.Сухараў, К.К.Хайбулін (пахаваны ў брацкай магіле ў цэнтры вёскі). Паводле перапісу 1959 г. 288 жыхароў. Цэнтр саўгаса імя У.І.Леніна. Размешчаны швейная майстэрня, сярэдняя і муз. школы, Дом культуры, б-ка, дзіцячы сад, б-ца, амбулаторыя, аптэка, вет. ўчастак, аддз. сувязі, 2 магазіны. Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ, да якой на Пн далучаецца зігзагападобная шыротная вуліца. Забудова двухбаковая, драўляная, сядзібнага тыпу. Радзіма Героя Сац. Працы В.І.Жалезняка.

У склад Уборкаўскага с/с да 1982 г. ўваходзіла в. Дубраўка (не існуе).

**УДАЛЁЎКА** — вёска ў Малінаўскім с/с, за 23 км на ПнЗ ад Лоева, 62 км ад чыг. ст. Рэчыца (на лініі Гомель—Калінкавічы), за 83 км ад Гомеля, на р. Брагінка (прыток р. Дняпро), на У сетка меліярацыйных каналаў. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Брагін—Холмеч. 15 гаспадарак, 24 жыхары (1999 г.).

Выяўленае археолагамі гарадзішча (за 2 км на У ад вёскі) сведчыць аб засяленні тут у глыбокай старажытнасці. Па пісьмовых крыніцах вядома з 18 ст. як вёска ў Рэчыцкім пав. Мінскага ваяв. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. Недалёка ад вёскі працавала рудня па выплаўцы жалеза, каля якой паступова складвалася в. Удалёўская Рудня (існавала да 1998). Праз вёску праходзіла дарога з Брагіна ў Рэчыцу. У 1850 г. 29 двароў, у Ручаёўскай вол. Рэчыцкага пав. Мінскай губ. У 1879 г. сяленне ў Ручаёўскім царк. прыходзе. Паводле перапісу 1897 г. 48 двароў, 320 жыхароў, школа граматы. У 1908 г. 71 двор, 443 жыхары. З 8.12.1926 г. да 30.12.1927 г. цэнтр Удалёўскага с/с Холмецкага, з 4.8.1927 г. Лоеўскага р-наў Рэчыцкай, з 9.6.1927 г. Гомельскай акруг. У 1930 г. арганізаваны калгас імя У.Ільіча, працавалі вятрак і кузня. У Вял. Айч. вайну ням. акупанты ў 1943 г. спалілі вёску і загубілі 6 жыхароў. Паводле перапісу 1959 г. 216 жыхароў. У выніку катастрофы на Чарнобыльскай АЭС падверглася радыяцыйнаму забруджанню і аднесена да катэгорыі з правам на адсяленне. У складзе калгаса імя К.Маркса (цэнтр — в. Малінаўка). Планіровачна складаецца з дугападобнай кароткай вуліцы, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ. Забудова драўляная, няшчыльная, сядзібнага тыпу.

**ХАМІНКА** — вёска ў Карпаўскім с/с, за 14 км на ПнУ ад Лоева, 70 км ад Гомеля, 52 км ад чыг. ст. Рэчыца (на лініі Гомель—Калінкавічы), за 0,5 км ад дзярж. мяжы з Украінай, на Пд воз. Хамінскае, на Пн меліярацыйныя каналы. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Гомель—Чарнігаў. 158 гаспадарак, 282 жыхары (1999 г.).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 18 ст. як сяленне ў Рэчыцкім пав. Мінскага ваяв. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1798 г. 181 жыхар, пабудавана драўляная царква. У 1816 г. 41 двор, 268 жыхароў, цэнтр Хамінскай эканоміі Гомельскага маёнтка, графа П.А.Румянцава-Задунайскага, потым графа І.Ф.Паскевіча. У 1848 г. 50 двароў. У 2-й пал. 19 ст. адкрыта нар. вучылішча (у 1889 г. — 49 вучняў). У 1884 г. 100 двароў, 562 жыхары. Паводле перапісу 1897 г. 140 двароў, 811 жыхароў, хлебазапасны магазін, вятрак, кузня, вінная крама, у Дзятлавіцкай вол. Гомельскага пав. Магілёўскай губ. У 1907 г. згарэлі 69 двароў. У 1909 г. 152 двары, 1306 дзес. зямлі. У 1926 г. 235 двароў, 1249 жыхароў, 4-гадовая школа, паштовы пункт. З 8.12.1926 г. да 30.12. 1927 г. цэнтр Хамінскага с/с Дзятлавіцкага, з 4.8.1927 г. Лоеўскага р-наў Гомельскай акругі. У 1930 г. арганізаваны калгас «Рашучы», працавалі крупарушка і кузня. У Вял. Айч. вайну ням. акупанты ў 1943 г. спалілі 82 двары і загубілі 11 жыхароў. У баях за вёску і наваколле ў кастр. 1943 г. загінулі 154 воіны 65-й арміі (пахаваны ў брацкай магіле ў цэнтры вёскі, у скверы). Паводле перапісу 1959 г. 1002 жыхары. У складзе саўгаса «Карпаўка» (цэнтр — в. Карпаўка). Размешчаны аддз. сувязі, клуб, пач. школа, б-ка, б-ца, аптэка, магазін. Планіровачна складаецца з 2 кароткіх, паралельных паміж сабой вуліц, злучаных завулкамі і арыентаваных шыротна, да якіх з Пн далучаецца дугападобная вуліца. Забудова двухбаковая, драўляная, сядзібнага тыпу. Радзіма доктара гіст. навук, прафесара Г.Г.Герасіменкі.

**ХАТКІ** — вёска ў Малінаўскім с/с, за 22 км на ПнЗ ад Лоева, 60 км ад чыг. ст. Рэчыца (на лініі Гомель—Калінкавічы),



*Магіла ахвяр фашызму ў в. Хаткі.*

81 км ад Гомеля, на ўсх. ускраіне р. Брагінка (прыток р. Дняпро). Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Брагін—Холмеч. 8 гаспадарак, 19 жыхароў (1999 г.).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 19 ст. як вёска ў Холмецкай вол. Рэчыцкага пав. Мінскай губ. Паводле перапісу 1897 г. 33 двары, 219 жыхароў. У 1908 г. 50 двароў, 321 жыхар. З 8.12.1926 г. да 29.1.1964 г. цэнтр Хаткаўскага с/с Холмецкага, з 4.8.1927 г. Лоеўскага, з 25.12. 1962 г. Рэчыцкага р-наў Рэчыцкай, з 9.6.1927 г. Гомельскай (да 26.7.1930) акруг, з 20.2.1938 г. Гомельскай вобл. У 1930 г. 56 двароў, 302 жыхары. Побач быў аднайменны хутар. З 1920-х г. дзейнічала пач. школа. У 1931 г. арганізаваны калгас. У Вял. Айч. вайну ням. акупанты стварылі тут свой гарнізон, які разграмілі партызаны. У пач. 1943 г. ням. карнікі спалілі вёску і загубілі 13 жыхароў. У чэрв. 1943 г. акупанты расстралялі і спалілі 55 жыхароў з вёсак Хаткі, Рудня-Бурыцкая, Вышкаў-Бурыцкая (пахаваны ў магіле ахвяр фашызму за 250 м на Пд ад вёскі). Паводле перапісу 1959 г. 95 жыхароў. У выніку катастрофы на Чарнобыльскай АЭС падверглася радыяцыйнаму забруджанню і аднесена да катэгорыі з правам на адсяленне. У складзе калгаса імя К.Маркса (цэнтр — в. Малінаўка). Планіровачна складаецца з кароткай прамалінейнай шыротнай вуліцы. Забудова драўляная, сядзібнага тыпу.

**ЦЯСНЫ** — вёска ў Бывалькаўскім с/с, за 18 км на ПдЗ ад Лоева, 79 км ад чыг. ст. Рэчыца (на лініі Гомель—Калінкавічы), 102 км ад Гомеля, на паўн. ускраіне — воз. Востраў, на Пд мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Брагін— Лоеў. 82 гаспадаркі, 169 жыхароў (1999 г.).

Выяўленае археолагамі селішча ранняга жал. веку (за 2 км на Пн ад вёскі) сведчыць аб засяленні тут у далёкай старажытнасці. Па пісьмовых крыніцах вядома з 18 ст. як вёска ў Рэчыцкім пав. Мінскага ваяв. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1850 г. 87 двароў, 529 жыхароў. У 1879 г. сяленне Дзяражыцкага царк. прыхода. У 1885 г. 129 двароў, 628 жыхароў, у Дзяражыцкай вол. Рэчыцкага пав. Мінскай губ. Паводле перапісу 1897 г. 153 двары, 865 жыхароў, хлебазапасны магазін, карчма. Побач быў аднамейнны фальварак (2 двары, 22 жыхары). У 1930 г. арганізаваны калгас «Пралетарый», працавала кузня. У Вял. Айч. вайну ням. акупанты спалілі вёску. Паводле перапісу 1959 г. 434 жыхары. У складзе калгаса «Ленінскі сцяг» (цэнтр — в. Бывалькі). Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ. Жылыя дамы драўляныя, сядзібнага тыпу. Радзіма засл. работніка сельскай гаспадаркі БССР І.І.Савенкі.

**ЧАПЛІН** — вёска ў Страдубскім с/с, за 17 км на ПнЗ ад Лоева, 44 км ад чыг. ст. Рэчыца (на лініі Гомель—Калінкавічы), 61 км ад Гомеля, на р. Дняпро. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Лоеў—Рэчыца. 92 гаспадаркі, 185 жыхароў (1999 г.).

Выяўленыя археолагамі гарадзішча 2 ст. да н.э. — 2 ст. н.э. (за 0,15 км ад паўд. ускраіны вёскі, на правым беразе ракі), селішчы мілаградскай і зарубінецкай культур і раннеславянскага часу (побач з вёскай), селішча (на паўн. ускраіне) і бескурганны могільнік 2—5 ст. н.э. (на паўд. ускраіне) сведчаць аб засяленні гэтых мясцін у глыбокай старажытнасці. У цэнтр. музеі гісторыі Расіі (Масква) захоўваецца стараж. кераміка і прадметы побыту жыхароў гэтых месц. Па пісьмовых крыніцах вядома з 18 ст. як вёска ў Рэчыцкім пав. Мінскага ваяв. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1795 г. 63 двары. У 1850 г. 391 жыхар, вадзяны млын, уладанне графа Ракіцкага. У 1879 г. сяленне ў Холмецкім царк. прыходзе. Паводле перапісу 1897 г. 123 двары, 891 жыхар; капліца, школа граматы, хлебазапасны магазін, карчма. У 1908 г. 164 двары, 1010 жыхароў, цагельня, у Холмецкай вол. Рэчыцкага пав. Мінскай губ. З 8.12.1926 г. да 4.8.1927 г. цэнтр Чаплінскага с/с Холмецкага, з 4.8.1927 г. Лоеўскага р-наў Рэчыцкай, з 9.6.1927 г. Гомельскай акруг. У 1929 г. арганізаваны калгас «Чырвоны будаўнік», працавалі 2 цагельні, шавецкая майстэрня, вятрак, 2 нафтавыя млыны, 2 кузні. У Вял. Айч. вайну ў баях каля вёскі ў кастр.—ліст. 1943 г. загінулі 428 воінаў 65-й арміі, у іх ліку Героі Сав. Саюза С.Ф.Костычаў, І.Р.Махота, У.І.Чаркасаў (пахаваны ў брацкай магіле ў цэнтры вёскі). У 1957 г. ў вёску перасяліліся жыхары пас. Вінера (не існуе). Паводле перапісу 1959 г. 617 жыхароў. У складзе саўгаса «Усход» (цэнтр — в. Страдубка). Размешчаны дзіцячыя яслі-сад, магазін. Планіровачна складаецца з 2 паралельных паміж сабой і злучаных завулкамі вуліц, арыентаваных з ПдУ на ПнЗ і забудаваных двухбакова няшчыльна драўлянымі сял. сядзібамі. Каля вёскі ёсць залежы гліны.

*Гарадзішча каля в. Чаплін.*



**ШЧЫТЦЫ** — вёска ў Каўпенскім с/с, за 9 км на ПдЗ ад Лоева, 69 км ад чыг. ст. Рэчыца (на лініі Гомель—Калінкавічы), за 95 км ад Гомеля, на р. Дняпро, на Пд мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Брагін—Лоеў. 19 гаспадарак, 28 жыхароў (1999 г.).

Выяўленае археолагамі гарадзішча ранняга жал. веку (за 2 км на Пн ад вёскі, ва ўрочышчы Гарадок) сведчыць аб засяленні тут у далёкай старажытнасці. Па пісьмовых крыніцах вядома з 18 ст. як сяленне ў Рэчыцкім пав. Мінскага ваяв. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1795 г. 8 двароў, 42 жыхары. У 1850 г. 11 двароў, 52 жыхары, у Лоеўскай вол. Рэчыцкага пав. Мінскай губ. Побач знаходзіўся фальварак, уладальнік якога памешчык Кольба меў у гэтых мясцінах у 1872 г. 580 дзес. зямлі. У 1879 г. сяленне ў Лоеўскім царк. прыходзе. У 1908 г. 26 двароў, 181 жыхар, 10 вяскоўцаў працавалі на цагельні. У 1931 г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У 1940 г. 50 двароў. У Вял. Айч. вайну ням. акупанты ў 1943 г. спалілі 25 двароў і загубілі 8 жыхароў. У баі каля вёскі 16.10.1943 г. вызначыліся старшы разведчык яфрэйтар С.Я.Сухараў, дэсантная група на чале з старшым лейт. З.С.Гарэлікам, салдат С.У.Крывенка, падп. Р.П.Маналог (усе ўдастоены звання Героя Сав. Саюза). Паводле перапісу 1959 г. 178 жыхароў. Размешчана падсобная гаспадарка Гомельскага з-да вымяральных прыбораў. Планіровачна складаецца з кароткай прамалінейнай вуліцы мерыдыянальнай арыентацыі. Забудавана драўлянымі сял. сядзібамі.

**ЯСТРАБКА** – вёска ва Уборкаўскім с/с, за 19 км на ПнЗ ад Лоева, 59 км ад чыг. ст. Рэчыца (на лініі Гомель–Калінкавічы), за 79 км ад Гомеля. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Брагін–Холмеч. 38 гаспадарак, 60 жыхароў (1999 г.).

Выяўленае археолагамі гарадзішча 4–3 ст. да н.э. (за 1,3 км на ПнУ ад вёскі) сведчыць аб засяленні мясцін у глыбокай старажытнасці. Па пісьмовых крыніцах вядома з 19 ст. як вёска ў Ручаёўскай вол. Рэчыцкага пав. Мінскай губ. У 1850 г. 16 двароў. У 1879 г. сяленне ў Ручаёўскім царк. прыходзе. Паводле перапісу 1897 г. 42 двары, 365 жыхароў, школа граматы. У 1908 г. 76 двароў, 484 жыхары. З 8.12.1926 г. да 30.12.1927 г. цэнтр Ястрабскага с/с Холмецкага, з 4.8.1927 г. Лоеўскага р-наў Рэчыцкай, з 9.6.1927 г. Гомельскай акруг. У 1930 г. ў вёсцы 44 двары, 208 жыхароў, на хутарах 32 двары, 350 жыхароў. У 1930 г. арганізаваны калгас «Савецкая Беларусь», працавала кузня. У 1940 г. 159 двароў. У Вял. Айч. вайну ням. акупанты ў 1943 г. спалілі 152 двары. Паводле перапісу 1959 г. 289 жыхароў. У складзе саўгаса імя У.І.Леніна (цэнтр – в. Уборак). Дзейнічае б-ка. Планіровачна складаецца з крывалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ, да цэнтра якой з З далучаецца кароткая прамалінейная вуліца. Забудова няшчыльная, драўляная, сядзібнага тыпу. Радзіма бел. пісьменніка М.П.Даніленкі. Побач ёсць тарфяныя залежы.

**КРЫНІЦЫ І ЛІТАРАТУРА**


Нацыянальны архіў Рэспублікі Беларусь, ф. 34, воп. 1, спр. 807; ф. 30, воп. 5, спр. 6755, 6756; ф. 48, воп. 1, спр. 5047, 5048, 5049, 5106, 6047, 8106,

Нацыянальны гістарычны архіў Беларусі, ф. 333, воп. 9, спр. 58, 262, 347, 699, 701, 701а, 702, 804; ф. 834, воп. 1, спр. 3; ф. 448, воп. 1, спр. 65; ф. 834, воп. 1, спр. 3; ф. 947, воп. 1, спр. 1; ф. 959, воп. 1, спр. 1; ф. 2997, воп. 1, спр. 1; ф. 3013, воп. 1, спр. 359; ф. 3014, воп. 1, спр. 7, 12, 27.

Расійскі дзяржаўны гістарычны архіў, ф. 1290, воп. 2, 1332, 1344.

Военно-статистическое обозрение Российской империи. Т. 8. Ч. 3. Могилевская губерния. СПб., 1848.

Городские поселения Российской империи. Т. 3. СПб., 1863.

Труды Минского губернского статистического комитета. Вып. 1. Мн., 1870.

Список землевладельцев Минской губернии на 1876 год. Мн., 1877.

Памятная книжка Минской епархии на 1878 год. Ч. 2. Мн., 1878.

Описание церквей и приходов Минской епархии, составленное по официально затребованным от причтов сведениям. Вып. 5. Мн., 1879.

Опыт описания Могилевской губернии. Кн. 1–3. Могилев, 1884.

Акты Виленской археографической комиссии. Т. 13. Вильна, 1886.

Волости и важнейшие селения Европейской России. Вып. 5. СПб., 1886.

Памятная книжка Могилевской дирекции народных училищ на 1889/90 учебный год. Могилев, 1889.

Волости и гмины. Ч. XXII. Минская губерния. СПб., 1890.

Столетие Минской губернии. Мн., 1893.

Обзор Минской губернии за 1895 год. Мн., 1896.

Памятная книжка Минской губернии за 1901 год. Мн., 1901.

Памятная книжка Минской епархии на 1901 год. Мн., 1901.

Вся Россия. СПб., 1902.

Сборник докуменов, касающихся административного устройства Северо-Западного края при императрице Екатерине II (1792–1796). Вильна, 1903.

Россия: Полное географическое описание нашего Отечества. Т. 9. СПб., 1905.

Список населенных мест Минской губернии. Мн., 1909.
Обзор Минской губернии за 1909 год. Мн., 1910.
Список населенных мест Могилевской губернии. Могилев, 1910.
Статистический обзор Могилевской губернии по 1914 год. Могилев, 1915.
Могилев, 1915.
Список населенных мест Гомельского округа. Гомель, 1927.
Спіс прамысловых прадпрыемстваў БССР. Вып. 1—2. Мн., 1935.
Белоруссия в эпоху феодализма. Т. 2. Мн., 1961.
Болбас М.Ф. Развитие промышленности в Белоруссии (1795—1861 гг.). Мн., 1966.
В грозные годы. Мн., 1973.
Нацистская политика геноцида и выжженной земли в Белоруссии, 1941—1944. Мн., 1984.
Збор помнікаў гісторыі і культуры Беларусі: Гомельская вобласць. Мн., 1985.
Спиридонов М.Ф. Закрепощение крестьянства Беларуси (XV—XVI вв.). Мн., 1993.
Наш край-2. Мн., 1997.
Пинчуков В.П., Старовойтов М.И. Гомельщина многонациональная (20—30-е годы XX века). Вып. 1. Гомель, 1999.



# МАЗЫРСКІ РАЁН

Утвораны 17.7.1924 г. ў складзе Мазырскай акр., 5.10.1926 г. пераўтвораны ў Слабадскі р-н з цэнтрам у в. Слабада, 4.8.1927 г. скасаваны, населеныя пункты перададзены ў Калінкавіцкі, Караліпскі, Нараўлянскі і Петрыкаўскі р-ны. 27.9.1930 г. адноўлены. Размешчаны на ПдЗ Гомельскай вобл., на Пд мяжуе з Ельскім і Нараўлянскім, на У — з Хойніцкім, на Пн — з Калінкавіцкім і Петрыкаўскім, на З — з Лельчыцкім р-намі Гомельскай вобл. Пл. 1612 км$^2$, насельніцтва 20,9 тыс. чал. (2004 г.). Уключае 1 гарадскі і 10 сельскіх саветаў. Праходзіць чыгунка Калінкавічы—Оўруч, г. Мазыр — вузел аўтадарог на Калінкавічы, Бабруйск, Лельчыцы, Оўруч, Нароўлю, Петрыкаў. Суднаходства на р. Прыпяць. Карысныя выкапні: радовішча калійнай солі з запасамі 588,9 млн. т, 4 невялікія радовішчы цагельнай сыравіны — 1,5 млн. м$^3$, 2 невялікія радовішчы пясчана-жвіровага матэрыялу (0,2 млн. м$^3$), радовішча сілікатных пяскоў (11,9 млн. м$^3$). Рэкі — Прыпяць з прытокамі Іпа, Трэмля, Ненач, Мытва, на Пд Чэрцень — прыток р. Славечна. На тэрыторыі раёна ландшафтныя заказнікі: Мазырскія Яры (засн. 21.2.1986), рэсп. значэння Стрэльскі (засн. ў 1999, на тэр. Мазырскага і Калінкавіцкага р-наў). Глебы с.-г. угоддзяў дзярнова-падзолістыя, дзярнова-падзолістыя забалочаныя, дзярнова-балотныя, тарфяна-балотныя і алювіяльныя. З мінеральных глеб 8,3% суглінкавых, 49% супясчаных, 42,7% пясчаных. Пад с.-г. ўгоддзямі каля 30% тэрыторыі. Якасць ворных зямель 41, кармавых угоддзяў 22, усіх с.-г. угоддзяў 33 балы. Пад лесам 52,4% тэрыторыі раёна. Асн. прадпрыемствы размешчаны ў Мазыры. 13 калгасаў, 8 саўгасаў. У раёне (без Мазыра) 11 сярэдніх, 9 васьмігадовых, 5 пач. школ, школа сельскай моладзі, 21 дашкольная ўстанова, 33 масавыя б-кі, 36 клубаў, Мазырскі краязнаўчы музей, 62 спарт. збудаванні, 6 бальніц, 18 фельч.-акушэрскіх пунктаў, 2 урачэбныя амбулаторыі, 109 магазінаў, 37 прадпрыемстваў грамадскага харчавання.

**МАЗЫР** — горад абл. падпарадкавання, цэнтр Мазырскага р-на, чыг. ст. (на лініі Калінкавічы—Оўруч), за 133 км на ПдЗ ад Гомеля, 289 км ад Мінска. Каля горада праходзіць Мазырская града (208 м над узроўнем мора, самая высокая на Беларускім Палессі), у зоне ландшафтнага заказніка Мазырскія Яры. На ПнУ р. Прыпяць (прыток р. Дняпро). Аўтадарогамі звязаны з Гомелем, Бабруйскам, Оўручам і інш. гарадамі. Найб. ў Беларусі порт (да 1985 порт



*Копія плана Мазыра. 1769.*



*Дом дзіцячай творчасці ў Мазыры (будынак узведзены ў 1907).*

Пхоў) на левым беразе Прыпяці. Насельніцтва 111,8 тыс. чал. (1999 г.).

Выяўленыя археолагамі гарадзішча 8—11 ст. (на месцы былой в. Кімбараўка, на правым беразе р. Прыпяць), селішча і бескурганны могільнік мілаградскай культуры, стаянка каменнага веку, селішча зарубінецкай культуры (у наваколлі былой в. Баравікі), селішча 8—11 ст. (на З ад гарадзішча) сведчаць аб засяленні гэтых мясцін у глыбокай мінуўшчыне.

Па пісьмовых крыніцах вядомы з 1155 г. Некаторы час горад складаў асобны ўдзел, затым належаў Кіеўскаму княству. Князь Юрый Далгарукі перадаў яго кн. чарнігаўскаму Святаславу Ольгавічу, потым Мазыром валодаў кіеўскі кн. Ізяслаў Давыдавіч. Працяглы час належаў Тураўскаму княству, князі і епіскапы якога называліся Тураўскімі і Мазырскімі. Існавалі Петрапаўлаўскі мужчынскі і Параскеўскі жаночы манастыры (у 1720 у падпарадкаванні Брагінска-Сялецкага манастыра). У 1240—41 гг. разбураўся татарамі. Акрамя земляробства жыхары займаліся рознымі промысламі, пра што сведчаць рэшткі выяўленай тут каменярэзнай майстэрні 2-й пал. 12 — пач. 13 ст., прадукцыя якой і інш. вырабы накіроўваліся ў Кіеў, Суздаль, Мінск. Дзякуючы раскопкам выяўлены і вырабы са шкла мясц. майстроў. У 1413 г. Мазыр з наваколлем у складзе ВКЛ. Упамінаецца ў 1453 г., а таксама ў грамаце ад 5.5.1480 г. караля польскага Казіміра IV купцу Цярэшкавічу аб дазволе яму на бяспошлінны гандаль у гарадах ВКЛ. У 1497, 1521 і 1534 гг. крымскія татары трымалі Мазыр у аблозе, потым спалілі і разрабавалі яго. У 1500 г. ўтвораны Мазырскі павет, а г. Мазыр стаў яго цэнтрам у Мінскім ваяв. (узнікла ў 1413 шляхам выдзялення з Трокскага ваяв., у 1500 падзелена на паветы). Пад 1503 г. упамінаецца ў дакументах аб спрэчных землях паміж Літвой і Маскоўскай дзяржавай. У 1506 г. праз Мазыр татары накіроўваліся да Клецка, Мінска, Ліды, Ашмян, Ваўкавыска, Гродна, пакуль войска ВКЛ не разграміла іх каля Клецка. У 1534 г. горадам авалодалі рус. войскі на чале з кн. Міхаілам Глінскім. Горад меў даволі шырокія гандл. сувязі. Як сведчыць дакумент 1516 г., мазырцы са сваім таварам хадзілі ў Люблін, Познань, Варшаву, Гнезна, на Валынь. Пад 1534 г. пазначаны ў кнізе судных спраў ВКЛ. У 1561 г. ўпамінаецца ў сувязі са зборам сродкаў на будаўніцтва замка ў Кіеве, а ў пісьме 1562 г. паведамляецца, што Мазырская вол. павінна накіраваць для будаўніцтва гэтага замка 100 коп драўніны даўжынёй па 4 сажні, 200 коп дранкі і 80 чалавек. У 1566 г. Мазырскі павет у складзе Кіеўскага ваяв., а пасля 1569 г. (стварэнне Рэчы Паспалітай) зноў у Мінскім ваяв. Паводле попісу войска ВКЛ 1567—68 гг. павет выдзяляў для фарміравання харугваў 24 кані і 6 калёс. У 1571 г. 550 да-

*Від на плошчу Леніна і вул. Савецкую ў Мазыры з боку гарадзішча і замчышча — гістарычных помнікаў 12—17 ст.*



моў, 44 крамы, 5 цэркваў, шпіталь, каля 2 тыс. жыхароў. 28.1.1577 г. кароль Рэчы Паспалітай Стафан Баторый падпісаў грамату аб наданні Мазыру магдэбургскага права. У 1609 г. пажар спустошыў горад, але за кошт асобага збору сродкаў ужо ў 1613 г. быў адбудаваны і абведзены валам з 7 вежамі і фартамі. У 1610 г. кароль польскі Жыгімонт III Ваза зацвердзіў герб Мазыра — на блакітным фоне чорны арол з распасцёртымі крыламі. У паўвальным замку (вядомы з пач. 1480-х г., канчатковая адбудова адносіцца да 1543) меліся 3 вежы з гароднямі, а ў 1576 г. — 5 вежаў. У 1519 г. кароль Жыгімонт III аддаў замак разам з воласцю А.М.Гаштольду. У 18 ст. замак складаўся з драўлянага палаца ў цэнтры і гасп. зоны. У 1615 г. кароль выдаў фундуш на першы ў Мазыры касцёл, а ў 1616 г. намаганнямі Б.Стравінскага яго будаўніцтва было завершана. Пры касцёле дзейнічала езуіцкая місія, а з 1726 г. — і школа. У кастр. 1615 г. гар. насельніцтва ўзняло бунт супраць замкавай адміністрацыі, а ў 1616 г. — супраць прыняцця Брэсцкай уніі. У 1648 г. казакі разам з мясц. насельніцтвам (больш за 400 чал.) на чале з мешчанінам Іванам Сталяром авалодалі Мазыром. У 1654 г. горад узялі рус. войскі. У выніку ваен. дзеянняў 1648—67 гг. Мазырскі павет страціў 56,3% дымоў і 59% насельніцтва. У 1670 г. кароль Міхал Вішнявецкі пацвердзіў дараванае ў 1577 г. магдэбургскае права, а ў 1776 г. яно пацверджана Варшаўскім сеймам. Гандл. сувязі пастаянна пашыраліся, аб чым сведчаць знойдзеныя тут манетныя скарбы: 350 адзінак 1661 г. — дынары ВКЛ, соліды Рэчы Паспалітай, манеты Прусіі і Прыбалтыкі (1807), залаты дукат Галандыі (1913), манеты 1647 г. Чэхіі, ВКЛ і Польшчы (1960).

У 1645 г. ўзведзены Бернардзінскі кляштар, яго асн. фундатарамі былі Аскеркі. Пазней пабудаваны Марыявіцкі і Тэрыянцаў кляштары (мужчынскі і



*Мазырскі драматычны тэатр імя І.Мележа (будынак узведзены ў 1930-я г.).*

жаночы). Закрыты Бернардзінскі і Марыявіцкі кляштары ў 1832 г., мужчынскі Тэрыянцаў — у 1864 г. У 1760—75 гг. на месцы драўлянага храма ўзведзены мураваны касцёл пры кляштары бернардзінцаў (у 19 ст. перададзены праваслаўным). Для планіроўкі горада таго часу характэрна веерная сістэма — вуліцы разыходзіліся ад рыначнай плошчы ў розных напрамках. У інвентары 1724 г. ўпамінаюцца вуліцы Кіеўская, Оўруцкая, Свідаўская, Нагорная, Гончая. У 1743—45 гг. замест састарэлага драўлянага пабудаваны мураваны касцёл св. Міхаіла Архангела (у 1990-я г. рэстаўрыраваны). Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі, у 1793—96 гг. — у Мінскім намесніцтве, затым у Мінскай губ. (да 1921). У 1812 г. ў час наступлення войск Напалеона ў Мазыры размяшчаліся рус. войскі ген. Ф.Ф. Эртэля, які правёў шэраг аперацый супраць французаў, што займалі паўн. час-

*Від на сабор св. Міхаіла (помнік архітэктуры 17—19 ст.) з боку вул. Савецкай; злева — жылы дом (пабудаваны ў 1931), справа — будынак мазырскай гарадской паліклінікі № 2.*



*Малітоўны дом Новаапостальскай царквы і жылыя дамы на вул. Ульянаўскай у Мазыры.*



*Тэракотавая скульптура «Паляшук» каля ўваходу ў Беларусбанк на вул. Савецкай у Мазыры.*



тку Мінскай губ. У 1825 г. больш за 2900 жыхароў, 530 драўляных і 3 мураваныя дамы, 2 манастыры, 22 крамы, карчма, 26 піцейных дамоў. 30.4.1828 г. горад наведаў імператар Мікалай І. У 1834 г. адкрыта дваранскае вучылішча, ператворанае ў 1859 г. ў прагімназію, потым — у гімназію. У сярэдзіне 18 ст. езуіты адкрылі сваю школу, якую ў 1733 г. перабудавалі ў свецкае 3-класнае вучылішча. У час паўстання 1863—64 гг. у горадзе адбыліся беспарадкі, цэнтрам якіх стала гімназія. Часта цярпеў Мазыр ад пажараў. У 1839 г. згарэлі Спаская, Мікалаеўская, Міхайлаўская цэрквы і Бернардзінскі касцёл (у 1865 адрамантаваны), у 1861 г. 26, а ў 1864 г. 127 дамоў. У 1862 г. дзейнічалі мураваная і 3 драўляныя цэрквы, касцёл, 2 яўр. малітоўныя дамы, меліся 491 дом і 71 крама. У 1866 г. 5899 жыхароў. Мазыру належалі 4734 дзес. зямлі. Штогод з 6 да 27 студзеня і з 6 да 28 жніўня праводзіліся кірмашы.

*Вул. Кіеўская (цяпер вул. Савецкая) у Мазыры. 1910.*



Мяшчане займаліся таксама рыбалоўствам і апрацоўкай скуры. Паблізу вялося будаўніцтва драўляных рачных суднаў — б[illegible]арак. Праз Мазыр праходзіў т.зв. Валынскі тракт з Рагачова на Валынь, мелася паштовая станцыя (8 экіпажаў), дзейнічала прыстань на р. Прыпяць. Плошча горада ў 1876 г. складала 860 дзес., шчыльнасць насельніцтва павета — 7 чал. на 1 вярсту$^2$. З 1877 г. працавала метэаралагічная абсерваторыя, якая вяла назіранні за кліматычнымі асаблівасцямі Палесся. Мелася тэлеграфная сувязь з Мінскам. У 1885 г. заснавана запалкавая ф-ка «Маланка», на хут. Целепуны (цяпер у межах горада) функцыяніравала фанерная ф-ка «Прыма» А.Лур'е.

Пасля здачы ў эксплуатацыю ў 1916 г. чыг. лініі Калінкавічы—Оўруч пачала дзейнічаць чыг. станцыя. Паводле перапісу 1897 г. 628 двароў, 7339 жыхароў, 4 царквы, 2 капліцы, 4 яўр. малітоўныя дамы, сінагога, б-ца, паштова-тэлеграфная кантора, прыстань, прагімназія, 1-класнае прыходскае і прыватнае жаночае 2-класнае вучылішчы, піваварны з-д, майстэрня па апрацоўцы скур, 170 крам, 3 крупадзёркі, маслабойня, 13 заезных дамоў, 8 корчмаў, 3 вінныя крамы. У 1904 г. 1210 жылых будынкаў, у т.л. 102 мураваныя. Горад асвятлялі 50 газавых ліхтароў, дзейнічалі водаправод, 2 друкарні, аптэка, 2 б-кі, паштова-тэлеграфная кантора, лясніцтва. Пажары наносілі гаспадарцы горада вялікія страты. У 1889 г. яны склалі 46 590 руб. 9.1.1899 г. згарэла запалкавая ф-ка, 10.12.1899 г. —





*Гасцініца «Прыпяць» у Мазыры.*

*Будынак Галоўпаштамта ў Мазыры.*

27 двароў, 12.1.1907 г. — другая запалкавая ф-ка, 10.8.1908 г. — піваварны з-д, 17.5.1925 г. — 68 пабудоў. 26.10.1902 г. створаны Мазырскі гар. к-т РСДРП. У час рэвалюцыі 1905—07 гг. з 30.10 да 7.11.1905 г. ўлада фактычна належала рэв. к-ту. У 1907 г. адкрыта жаночая гімназія на базе жаночага вучылішча (засн. ў 1860). У 1908 г. 10 395 жыхароў. У маі 1913 г. адбылася забастоўка рабочых запалкавай ф-кі «Маланка». У ліп. 1915 г. баставалі рабочыя фанернай ф-кі, дабіваючыся павышэння заработнай платы. З 4(17).5.1917 г. да лют. 1918 г. выходзіла газ. «Известия Мозырского совета рабочих и солдатских депутатов». У выніку забастоўкі ў чэрв. 1917 г. рабочыя лесапільна-фанернага з-да дабіліся задавальнення шэрагу эканам. патрабаванняў. У лют. 1918 г. горад акупіраваны кайзераўскімі войскамі і вызвалены 12.1.1919 г. З 6.3 да 29.6.1920 г. — пад акупацыяй польскіх войск. Пятлюраўцы 29.3.1919 г. ўчынілі пагром, у выніку якога загінулі 9 чал. 10.11.1920 г. ў Мазыр уварваліся атрады С.Н.Булак-Балаховіча. У выніку ўчыненых імі пагромаў (10.6.1920 і 10.11.1920) загінулі 53 чал. 20.11.1920 г. горад быў вызвалены. З 5.10.1926 г. да 4.8.1927 г. ў складзе Слабадскога р-на. З 17.7.1924 г. да 26.7.1930 г. і з 21.6.1935 г. да 20.2.1938 г. цэнтр Мазырскай акр. 61,3% насельніцтва ў 1926 г. складалі яўрэі.

Аднаўленне гаспадаркі адбывалася даволі хутка. У 1921 г. працавалі лесапільны, фанерны і гарбарны з-ды, друкарня. Развівалася саматужная прамысловасць. У 1926 г. дзейнічалі 2 т-вы саматужнікаў (160 чал.). У 1929—32 гг. узведзены будынак Дома культуры (помнік архітэктуры канструктывізму). У 1932 г. адкрылася першая ў Беларусі авіялінія Мінск—Глуск—Парычы—Мазыр. У 1935 г. працавалі адноўленыя і ў апошнія дзесяцігоддзі новазбудаваныя



*Каля старога моста цераз р. Прыпяць у Мазыры.*

*Кафэ «Рачное» ў Мазыры. Від з боку вул. Савецкай.*

*Будынак Белпрамбудбанка ў Мазыры.*





электрастанцыя (1920), лесапільня (1918), шпала-гантарэзны (1932) і фанерны з-ды (1901), мэблевая ф-ка (1930), мясакамбінат (1932), друкарня (1930), з-д фруктовых вод (1918), паравы млын (1917), кавальская, кравецкая, шавецкая, панчошная арцелі, маслазавод, хлебазавод, аўтарамонтная майстэрня, кузня, стальмашня, 2 б-цы і 2 дыспансеры. 25.3.1935 г. адкрыўся калгасна-саўгасны тэатр (у 1938—41 Палескі абл. драм. тэатр, у 1939 прысвоена імя Я.Купалы). З 27.9.1938 г. горад абл. падпарадкавання. З 15.1.1938 г. да 8.1.1954 г. цэнтр Палескай вобл. У 1939 г. 17,6 тыс. жыхароў.

У Вял. Айч. вайну ў час абарончых баёў прамысловая арцель «Молат» наладзіла выраб ручных гранат. У першыя месяцы вайны ў горадзе працаваў філіял Цэнтр. партыз. школы. Была сфарміравана кавалерыйская група (каля 1000 чал.), якая перададзена затым 63-му стралк. корпусу і 13—15 ліп. выступала ў напрамку Жлобін—Рагачоў. Мужна змагаўся супраць ням.-фаш. захопнікаў мясц. знішчальны батальён. Некаторы час у ліп.—жн. 1941 г. ў Мазыры размяшчаліся парт. і дзярж. органы Пінскай вобл. У раёне горада пры падтрымцы мясц. насельніцтва на ўсім шляху праходу з варожага тылу выходзілі многія падраздзяленні і групы воінаў Чырв. Арміі, што апынуліся ў акружэнні. Сярод іх і камандуючы 3-й арміяй ген.-лейт. В.І.Кузняцоў з групай байцоў колькасцю 500 чал. З 23.8.1941 г. да 14.1.1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. З восені 1941 г. да студз. 1944 г. дзейнічала падп. патрыятычная арг-цыя. Першую падп. групу стварылі ў вер. 1941 г. В.І.Крыцкі, М.Ю.Майсееў, А.І.Савіц. У кастр. 1941 г. склалася група на чале з Дз.А.Казлоўскім і С.П.Ракіцкім, а ў ліп. 1943 г. — група на чале з настаўнікам А.С.Мураўёвым. Падпольшчыкі наладзілі сувязь з Калінкавіцкім падполлем, здабывалі і перадавалі партызанам зброю і боепрыпасы, вялі паліт. агітацыю сярод насельніцтва. Многія падпольшчыкі загінулі (пахаваны ў брацкай магіле па вул. Крупскай, на тэр. сярэдняй школы). З вер. 1941 г. да вясны 1942 г. працавала перакладчыцай у гебітскамісарыяце і выконвала даручэнні падполля партыз. разведчыца, настаўніца ням. мовы А.Г.Папрацінская. Фашысцкія спецслужбы выявілі падпольшчыцу і 9.3.1942 г. пакаралі смерцю. За перыяд акупацыі было загублена 4730 жыхароў. У баях за вызваленне Мазыра загінулі 252 воіны і 2 партызаны, у іх ліку Героі

*Уваход у гарадскі парк культуры і адпачынку «Перамога» з боку плошчы Горкага ў Мазыры.*







*Будынак упраўлення па працы і сацыяльнай абароне і Свята-Мікалаеўская царква на вул. Савецкай у Мазыры.*

*Жылы дом на бульвары Дружбы ў Мазыры.*

Сав. Саюза К.Ф.Захараў, Дж.Калдыкараеў, М.М.Катаеў, В.С.Няжноў, А.А.Рыжкоў, Р.М.Ціханаў, М.І.Шмаргун (пахаваны ў брацкай магіле па вул. Рыжкова). 13.1.1944 г. камандзір эскадрыллі капітан К.Ф.Захараў накіраваў свой падбіты самалёт на варожую калону. 14.1.1944 г. Мазыр вызвалены. 18 вайсковым часцям і злучэнням прысвоена ганаровае найменне «Мазырскіх». Пасля вызвалення хутка аднаўлялася і развівалася гаспадарка, сетка навуч. і культ.-асветных устаноў. 23.2.1944 г. пачаў дзейнічаць настаўніцкі ін-т (26.7.1952 пераствораны ў педагагічны). У 1948 г. аднавіў працу краязнаўчы музей (дзейнічаў у 1929—37), а 7.11.1949 г. адкрыта яго экспазіцыя. У снеж. 1958 г. пачаўся рух на жалезабетонным мосце цераз р. Прыпяць, 11.11.1963 г. створаны філіял абл. Дзярж. архіва. У 1949—53 гг. пабудаваны рамонтна-экскаватарны з-д, у 1959—63 гг. — кабельны з-д, у снеж. 1964 г. закончана рэканструкцыя рачнога порта. У 1969 г. ў раёне в. Міхалкі пачалося будаўніцтва Мазырскага нафтаперапрацоўчага з-да і рабочага гарадка, а 30.1.1975 г. адбыўся пуск яго 1-й чаргі. У жн. 1988 г. пачаўся рэгулярны трамвайны рух.

Да пач. 20 ст. ў Мазыры пераважала аднапавярховая забудова. У 1939 г. складзены ген. план (арх. П.Кірыленка), які карэкціраваўся ў 1953 і 1966 гг. (арх. В.Кудраўцава). Развіццё горада прадугледжвалася з улікам складанага рэльефу, а будынкі ў пасляваен. час узводзіліся пераважна шматпавярховыя, акрамя прыватнага сектара. Новы раён жылой забудовы — верхняе плато, што прылягае да Оўруцкай аўтадарогі. На Пд са значным адрывам ад гіст. забудовы ўзведзены прамысл. вузел. Горад хутка рос за кошт далучэння суседніх тэрыторый і населеных пунктаў. Так, у 1924 г. ў яго склад уключаны в. Дразды з яе землямі, у 1959 г. — в. Целепуны, у 1961 г. — в. Салаўёўка, у 1962 г. — вёскі Бабры, Баравая, Баравікі, Кімбараўка, Майская (да 1954 Лапці). Павялічвалася і насельніцтва: у 1959 г. — 25,7 тыс., у 1970 г. — 48,8 тыс. жыхароў. Пасля Чарнобыльскай катастрофы 1986 г. горад прыняў частку перасяленцаў, для якіх пабудавана 600 кватэр.

У Мазыры размешчаны з-ды (нафтаперапрацоўчы, «Беларуськабель», меліярацыйных машын, «Мазырдрэў», мэблевае аб'яднанне, жалезабетонных вырабаў і зборнага жалезабетону, «Мазырсельмаш», аўтарэмзавод), прадпрыемствы

*Адкрыццё III Міжнароднага фестывалю юных талентаў «Зямля пад белымі крыламі» ў Мазыры. Красавік 2002.*





*Палац культуры ААТ «Мазырскі нафтаперапрацоўчы завод».*

лёгкай (трыкатажная фірма «Славянка», «Мазырабутак», «Мазыркераміка», ф-ка маст. вырабаў), харч. прам-сці (хлебазавод, кармавых дражджэй, піваварны і малочны з-ды), салевыварны камбінат (працуе з 2.12.1982 на базе радовішча каменнай солі, што за 5 км на Пд ад Мазыра), а таксама «Мазырпрамбуд», «Мазырсельбуд», 7 будаўнічых арг-цый. Дзейнічаюць рачны порт, нафтаразведачная экспедыцыя глыбокага свідравання, лесправгас, парк культуры і адпачынку (4,9 га), вучылішча алімпійскага рэзерву, педінстытут, дашкольны дзіцячы дом, палітэхнікум, мед. вучылішча, раённыя вузлы паштовай і электрычнай сувязі, дом-інтэрнат для псіханеўралагічных хворых, ін-т «Палеспраект», «Сельбудпраект», спарт. школа і футбольны клуб, занальны дзярж. архіў, 14 сярэдніх школ, у т.л. гімназія, лясная школа, 31 дашкольная ўстанова, 7 клубаў, лясгас, «Сельгасхімія», маст. школа,



*Адна з дзіцячых пляцовак 5-га жылога мікрараёна ў Мазыры.*

4 муз. школы, краязнаўчы музей (працаваў у 1929—37, адноўлены ў 1949), муз. вучылішча, на базе якога дзейнічае філіял ун-та культуры, раённая і 12 гар. б-к, раённая б-ца, 3 паліклінікі, 10 аптэк, 2 гар. і дзіцячая б-цы, раддом, 35 дзетсадоў, 12 аддз. сувязі, грамадскі музей Я.Купалы ў сярэдняй школе № 3 і грамадскі музей 61-й арміі 1-га Бел. фронту ў сярэдняй школе № 4, 234 магазіны, 50 прадпрыемстваў грамадскага харчавання, гідраметэастанцыя. Ёсць мясц. радыёвяшчанне, выдаецца газ. «Жыццё Палесся».

Мазыр — радзіма засл. дзеяча мастацтваў БССР А.В.Ярмолінай, доктара гіст. навук, прафесара Д.Б.Мельцэра, прафесара, засл. дзеяча навукі БССР І.Р.Некрашэвіча, доктара мед. навук, прафесара, засл. дзеяча навукі БССР Л.Я.Сітэрмана, доктара с.-г. навук С.І.Трызны, бел. мастакоў засл. дзеяча мастацтваў Беларусі П.С.Дурчына, В.М.Калацэя, М.П.Няхайчыка, пісьменнікаў С.М.Басуматравай, С.І.Дубаўца, засл. артысткі БССР Ю.С.Гальперынай, кавалера ордэна Славы 3 ступеней К.С.Куркевіча, засл. трэнера СССР і БССР Л.А.Дзеравянкі, засл. трэнера БССР У.У.Старавойтава, лаўрэата Дзярж. прэміі БССР У.Я.Карымана, засл. работніка лясной прам-сці БССР Л.С.Краўцова. Паблізу Мазыра залежы каменнай солі, фасфарытаў і жалезняку.

**АКУЛІНКА** — вёска ў Крынічным с/с, за 17 км на Пд ад Мазыра, 14 км ад Гомеля, 12 км ад чыг. ст. Козенкі (на лініі Калінкавічы—Оўруч), на р. Прыпяць (прыток р. Дняпро). Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Мазыр—Новая Рудня. 62 гаспадаркі, 83 жыхары (2004 г.).

Выяўленыя археолагамі гарадзішча ранняга жал. веку (на ўсх. ускраіне) і 2 могільнікі (за 0,5—1 км на ПдУ ад вёскі) сведчаць пра засяленне тутэйшых мясцін у далёкай старажытнасці. Пацвярджае гэта і знойдзены тут у 1890 г. манетны скарб, які адносіцца да 3-й чвэрці

17 ст. Па пісьмовых крыніцах вядома з пач. 19 ст. У 1834 г. 13 двароў, 74 жыхары, у Мазырскім пав. Мінскай губ. Час ад часу ў вяскоўцаў складваліся напружаныя адносіны з памешчыкам Горватам, землі якога межавалі з землямі сялян. Асабліва вострыя сутычкі адбываліся ў сувязі з парубкамі лесу. Пад 1879 г. пазначана як сяленне ў Мазырскім царк. прыходзе. У 1894 г. адкрыта школа, якая размяшчалася ў наёмнай сял. хаце. Паводле перапісу 1897 г. 41 двор, 227 жыхароў. Дзейнічала прыстань на р. Прыпяць. У 1908 г. 72 двары, 360 жыхароў, у Міхалкаўскай вол. Мазырскага пав. У 1917 г. 423 жыхары. У 1925 г. 91 двор. У 1930 г. арганізаваны калгас імя М.І.Калініна, працавала кузня. У Вял. Айч. вайну 11.1.1944 г. вызвалена ад ням.-фаш. акупацыі. 39 вяскоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 435 жыхароў. У складзе эксперыментальнай базы «Крынічная» (цэнтр — пас. Крынічны); працуе б-ка. Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ з 3 завулкамі. Забудова драўляная, сядзібнага тыпу. Паблізу вёскі жалезарудныя залежы.

**АНТОНАЎКА** — вёска ў Каменкаўскім с/с, за 23 км на ПдЗ ад Мазыра, 153 км ад Гомеля, 9 км ад чыг. ст. Козенкі (на лініі Калінкавічы—Оўруч), на р. Мытва (прыток р. Прыпяць). Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Мазыр—Махнавічы. 20 гаспадарак, 31 жыхар (2004 г.).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 19 ст. як сяло ў Мялешкавіцкай вол. Мазырскага пав. Памешчык Пржыбора меў тут у 1846 г. 280 дзес. зямлі. Паводле перапісу 1897 г. 35 двароў, 199 жыхароў, хлебазапасны магазін. Побач былі 2 аднайменныя сядзібы. У 1908 г. 230 жыхароў. У 1917 г. 282 жыхары. Дзейнічала школа, якая размяшчалася ў наёмнай сял. хаце. У 1925 г. 40 двароў. Побач Антонаўскія хутары (22 двары). У 1930 г. арганізаваны калгас «Шырокая ніва», працавала кузня. У Вял. Айч. вайну 29 вяскоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 242 жыхары. У складзе саўгаса «Мазырская агародніцкая фабрыка» (цэнтр — в. Каменка); фельч.-акушэрскі пункт. Планіровачна складаецца з дугападобнай, блізкай да шыротнай арыентацыі вуліцы, забудаванай нячыльна драўлянымі сял. сядзібамі.

**АСАВЕЦ** — вёска, цэнтр Асавецкага с/с, за 45 км на З ад Мазыра, 24 км ад чыг. ст. Муляраўка (на лініі Гомель—Лунінец), 179 км ад Гомеля, на р. Крапіўная (прыток р. Скалодзіна), на У і Пн мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Гомель—Лунінец. 225 гаспадарак, 610 жыхароў (2004 г.).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 17 ст., ва ўладанні езуітаў, потым казны, а ў 1770 г. прададзена віленскаму біскупу І.Масальскаму. Пазначана на карце Мінскага ваяв. канца 17 — пач. 18 ст. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1795 г. — 18, у 1834 г. — 23 двары. Граф О.Д.Цішкевіч меў тут у 1889 г. 18 324 дзес. зямлі. Паводле перапісу 1897 г. 66 двароў, 420 жыхароў, хлебазапасны магазін, заезны дом. У 1908 г. ў вёсцы 445, у фальварку 19 жыхароў, у Слабода-Скрыгалаўскай вол. Мазырскага пав. У 1917 г. 584 жыхары, у 1925 г. 133 двары. З 20.8.1924 г. цэнтр Асавецкага с/с Мазырскага, з 5.10.1926 г. Слабадскога, з 4.8.1927 г. Петрыкаўскага, з 25.12.1962 г. Мазырскага р-наў Мазырскай (да 26.7.1930 і з 21.6.1935 да 20.2.1938) акругі, з 20.2.1938 г. Палескай, з 8.1.1954 г. Гомельскай абл. У 1929 г. арганізаваны калгас. У Вял. Айч. вайну партызаны разграмілі валасную ўправу, створаную акупантамі ў вёсцы. У чэрв. 1943 г. карнікі поўнасцю спалілі вёску і загубілі 73 жыхароў. У баях за вёску і яе наваколле загінулі 115 воінаў Чырв. Арміі (пахаваны ў брацкай магіле ў цэнтры), 42 вяскоўцы — на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 624 жыхары. Цэнтр саўгаса «Асавец». Дзейнічаюць сярэдняя школа, Дом культуры, б-ка, дзіця-

чыя яслі-сад, аптэка, б-ца, аддз. сувязі, 4 магазіны. Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, блізкай да мерыдыянальнай арыентацыі, якую перакрыжоўваюць кароткія прамалінейная і дугападобная вуліцы. Забудова двухбаковая, пераважна драўляная, сядзібнага тыпу. У 1987 г. збудаваны мураваныя дамы на 80 сямей, у якіх размясціліся перасяленцы з забруджаных радыяцыяй месц пасля Чарнобыльскай катастрофы 1986 г. Каля вёскі праходзіць нафтаправад «Дружба».

У склад Асавецкага с/с да Вял. Айч. вайны ўваходзіла в. Скрымачоў, якую спалілі гітлераўскія акупанты (не аднавілася).

**АСАВЕЦКАЯ БУДА** — вёска ў Асавецкім с/с, за 41 км на З ад Мазыра, 15 км ад чыг. ст. Пціч (на лініі Гомель—Лунінец), 171 км ад Гомеля, на Пд і З мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Гомель—Лунінец. 9 гаспадарак, 18 жыхароў (2004 г.).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 18 ст. як вёска ў валоданні езуітаў, потым казны, з 1777 г. — віленскага біскупа І.Масальскага. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1795 г. 6 двароў, у 1834 г. — 13. Паводле перапісу 1897 г. 83 жыхары, у Слабода-Скрыгалаўскай вол. Мазырскага пав. У 1908 г. 21 двор, 142 жыхары. У 1925 г. 26 двароў. У 1931 г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У 1940 г. 31 двор, 133 жыхары. У Вял. Айч. вайну ў ліп. 1943 г. фашысты поўнасцю спалілі вёску і загубілі 9 жыхароў. 14 вяскоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 141 жыхар. У складзе саўгаса «Асавец» (цэнтр — в. Асавец). Планіровачна складаецца з крыху выгнутай вуліцы, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ і забудаванай няшчыльна драўлянымі сял. сядзібамі.

**БАБРАНЯТЫ** — вёска ў Козенскім с/с, за 6 км на Пд ад Мазыра, 5 км ад чыг. ст. Козенкі (на лініі Калінкавічы—Оўруч), 140 км ад Гомеля, на тэр. ландшафтнага заказніка Мазырскія Яры. Паміж вёскай і Мазыром вышэйшы ў раёне пункт (220 м над узроўнем мора). Транспартныя сувязі па прасёлачнай і далей аўтадарогах, якія адыходзяць ад Мазыра. 126 гаспадарак, 347 жыхароў (2004 г.).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 19 ст. як хутар у Мазырскім пав. Пад 1879 г. пазначана як сяленне ў Мазырскім царк. прыходзе. Паводле перапісу 1897 г. 25 двароў, 159 жыхароў. З 1910 г. дзейнічала школа, якая размяшчалася ў наёмнай сял. хаце. У 1925 г. 52 двары. З 2.1.1925 г. да 16.7.1954 г. цэнтр Бабраняцкага с/с Слабадскога, з 4.8.1927 г. Калінкавіцкага, з 27.9.1930 г. Мазырскага р-наў Мазырскай (да 26.7.1930 і з 21.6. 1935 да 20.2.1938) акругі, з 20.2.1938 г. Палескай, з 8.1.1954 г. Гомельскай абл. У 1930 г. арганізаваны калгас імя М.І.Калініна, працавала кузня. Дзейнічала пач. школа (у 1935 — 93 вучні). У Вял. Айч. вайну 28 вяскоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 327 жыхароў. Цэнтр калгаса імя М.І.Калініна. Функцыяніруюць 9-гадовая школа, Дом культуры, б-ка, фельч.-акушэрскі пункт, дзіцячыя яслі-сад, аддз. сувязі, магазін. Планіровачна складаецца з 2 паралельных паміж сабой вуліц, арыентаваных з ПдУ на ПнЗ, якія перакрыжаваны 2 кароткімі вуліцамі. Забудова двухбаковая, пераважна драўляная, сядзібнага тыпу. Частку вёскі займае новая мураваная забудова для перасяленцаў з забруджаных радыяцыяй месц пасля Чарнобыльскай катастрофы 1986 г. Радзіма І.С.Баброва, аднаго з арганізатараў калгаснага ладу на Гомельшчыне, загінуў у пач. Вял. Айч. вайны, яго імем названа вуліца ў в. Юшкі Калінкавіцкага р-на.

**БАЛАЖЭВІЧЫ** — вёска ў Скрыгалаўскім с/с, за 40 км на З ад Мазыра, 10 км ад чыг. ст. Пціч (на лініі Гомель—Лунінец), 180 км ад Гомеля, на р. Прыпяць (прыток р. Дняпро), побач воз. Алексіна, на Пд, У і З мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Гомель—Ганцавічы. 76 гаспадарак, 159 жыхароў (2004 г.).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 16 ст. У 1528 г. сяло ў Мінскім ваяв. ВКЛ. Была ва ўладанні езуітаў, затым казны, у 1777 г. прададзена віленскаму біскупу графу І.Масальскаму. Пазначана на карце Мінскага ваяв. канца 17 — пач. 18 ст. У 1725 г. ўпамінаецца ў сувязі з пабудовай тут царквы. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1795 г. 20 двароў. Побач у 1826 г. размяшчаўся аднайменны фальварак. У 1834 г. 24 двары. Дзейнічала прыстань. У 1886 г. 171 жыхар. Паводле перапісу 1897 г. 51 двор, 348 жыхароў. У 1908 г. 59 двароў, 471 жыхар, у Скрыгалаўскай вол. Мазырскага пав. Мінскай губ. У 1910 г. адкрыта школа, якая размяшчалася ў наёмнай сял. хаце, а ў пач. 1920-х г. для яе быў выдзелены нацыяналізаваны будынак. У 1925 г. 138 двароў. У 1930 г. вяскоўцы аб'яднаціся ў калгас. У 1940 г. 165 двароў, 727 жыхароў. У Вял. Айч. вайну ў студз. 1943 г. карнікі поўнасцю спалілі вёску і загубілі 17 жыхароў. 73 вяскоўцы загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 582 жыхары. У складзе калгаса «Дружба» (цэнтр — в. Скрыгалаў). Існуюць цэх Мазырскага прамкамбіната па перапрацоўцы драўніны, 9-гадовая школа, клуб, б-ка. Планіровачна складаецца з дугападобнай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ, да якой з Пд далучаюцца 4 завулкі. Забудова пераважна драўляная, сядзібнага тыпу.

**БАРБАРОЎ** — вёска, цэнтр Барбароўскага с/с, за 31 км на ПдУ ад раённага цэнтра і чыг. ст. Мазыр (на лініі Калінкавічы—Оўруч), за 166 км ад Гомеля, на р. Прыпяць (прыток р. Дняпро). Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Гомель—Лунінец. Прыстань на р. Прыпяць. 102 гаспадаркі, 261 жыхар (2004 г.).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 1432 г. як маленькая вёска ў ВКЛ. У пач. 16 ст. сяло Барбароў (яно ж Бабічы) дарвана вял. кн. ВКЛ і каралём польскім Жыгімонтам І Старым двараніну А.Б.Гаецкаму. У зборы дакументаў Віленскай вучэбнай акругі (т. 1, Вільня, 1867) упамінаецца пад 1558 г. Пазначана на карце ВКЛ 1613 г. Захаваліся дакументы 1761 г. на царк. фундуш Р.Аскеркі. У Барбарове былі яго сядзіба і палац. Апісваючы пасяленні Беларускага Палесся, А.К.Кіркор у выданні «Живописная Россия» пазначыў наяўнасць у Барбарове руін вялікага замка з вежамі, валамі і равамі. Замест састарэлай у 1779 г. пабудавана новая драўляная на мураваным фундаменце Успенская царква (згарэла ад удару маланкі ў 1896) і затым адбудавана. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1793 г. маёнтак ад Аскеркаў перададзены з 1396 г. прыгоннымі тайнаму саветніку Сіверу. У 1795 г. мястэчка, 85 двароў. З 1808 г. паводле купчай маёнтак і вёска перайшлі да Гольста, потым ва ўладанне двараніна А.І.Горвата, які ў 1833 г. меў тут 10 671 дзес. зямлі, карчму, 4 вадзяныя млыны і паромную пераправу. У 1821 г. ў маёнтку адкрыта школа для дзяцей сялян. Паводле рэвізскіх матэрыялаў 1834 г. 91 двор. Сяляне часта скардзіліся на абцяжарванне паншчынай. У сярэдзіне 19 ст. на беразе ракі склалася сядзіба — палац (не збярогся), флігель і пейзажны парк (5 дзес.). Мелася капліца. Значная частка зямель належала Е.Л.Горвату. Драўніна з суседніх лясоў сплаўлялася на Украіну. На Прыпяці была паромная пераправа. У 1863 г. адкрыта школа, якая размяшчалася ў наёмнай сял. хаце, у пач. 1920-х г. пад школу перададзены нацыяналізаваны будынак. Праз мястэчка праходзілі тракты з Мі-



*М.Я.Мацапура.*



*Палац Горватаў у в. Барбароў. Пач. 20 ст.*

халак у Чарнобыль і Хойнікі. Паводле перапісу 1897 г. 108 двароў, 584 жыхары, хлебазапасны магазін, 2 крамы. Побач былі аднайменныя фальваркі (16 двароў, 82 жыхары) і сядзіба з вінакурняй. Акрамя земляробства і сплаву лесу вяскоўцы займаліся бандарным промыслам. З цягам часу ў мясц. сялян ускладняліся адносіны з памешчыкам Горватам, землі якога межавалі з іх землямі. З 20.8.1924 г. цэнтр Барбароўскага с/с Нараўлянскага, з 25.12.1962 г. Ельскага, з 19.9.1963 г. Мазырскага р-на Мазырскай (да 26.7.1930 і з 21.6.1935 да 20.2.1938) акругі, з 20.2.1938 г. Палескай, з 8.1.1954 г. Гомельскай абласцей. У крас. 1924 г. на былых памешчыцкіх землях арганізаваны калгас «Серп і молат», у 1930 г. калгас «Новы Барбароў», працавалі 2 кузні. У Вял. Айч. вайну ў наваколлі дзейнічаў славацкі партыз. атрад. Вёску спалілі акупанты. Вызвалена 11.1.1944 г. У баях за вёску загінулі 17 воінаў (пахаваны ў брацкай магіле ў цэнтры), на фронце — 68 вяскоўцаў. Паводле перапісу 1959 г. 520 жыхароў. Цэнтр калгаса «Серп і молат». Размешчаны цагельня, камбінат быт. абслугоўвання, 9-гадовая школа, Дом культуры, б-ка, фельч.-акушэрскі пункт, дзіцячыя яслі-сад, аддз. сувязі. Планіровачна складаецца з прамалінейнай, бессістэмна забудаванай вуліцы, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ. Жылыя дамы драўляныя, сядзібнага тыпу. Радзіма бел. вучонага ў галіне механізацыі сельскай гаспадаркі, акадэміка АН БССР, УАСГНІЛ, Акадэміі с.-г. навук БССР, доктара тэхн. навук, прафесара, засл. дзеяча навукі і тэхнікі БССР, лаўрэата Ленінскай прэміі і Дзярж. прэмій СССР М.Я.Мацапуры. Яго імя носіць адна з вясковых вуліц. Побач валуннажвіровыя залежы.



*Уязная брама сядзібы ў в. Барбароў. Сярэдзіна 19 ст.*

**БАРЫСКАВІЧЫ** — вёска ў Прудкоўскім с/с, за 6 км на З ад Мазыра, 2 км ад чыг. ст. Козенкі (на лініі Калінкавічы—Оўруч), 139 км ад Гомеля, на р. Тур (прыток р. Прыпяць). Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарогах, якія адыходзяць ад Мазыра. 130 гаспадарак, 228 жыхароў (2004 г.).

Выяўленыя археолагамі курганны могільнік 10—12 ст. (15 насыпаў, на зах. ускраіне) і курганны могільнік (12 насыпаў, на ўсх. ускраіне) сведчаць пра засяленне гэтых месц у глыбокай старажытнасці. Манетны скарб, знойдзены тут у 1890 г., утрымліваў 148 манет Расіі, ВКЛ, Прусіі і Прыбалтыкі і адносіўся да 3-й чвэрці 15 ст. Па пісьмовых крыніцах вядома з 16 ст. як вёска Барысавічы ў Мазырскім пав. Мінскага ваяв. ВКЛ. У попісе войска ВКЛ упамінаецца пад 1567 г. Пазначана на карце Мінскага ваяв. канца 17 — пач. 18 ст. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1795 г. 32 двары, 222 жыхары, драўляная царква. У 1834 г. 67 двароў, цэнтр старосства. У сяле і наваколлі здабываўся камень, які выкарыстоўваўся ў гасп. мэтах. У 1866 г. — 314, у 1886 г. — 361 жыхар. Пад 1879 г. пазначана як сяленне ў Мазырскім царк. прыходзе. Паводле перапісу 1897 г. 98 двароў, 550 жыхароў, хлебазапасны магазін. У 1908 г. 118 двароў, 735 жыхароў, у Слабода-Скрыгалаўскай вол. Мазырскага пав. Мінскай губ. У 1917 г. ў сяле 797, на аднайменным хутары — 9 жыхароў. У 1930 г. арганізаваны калгас. Дзейнічала пач. школа (у 1935 — 116 вучняў). У Вял. Айч. вайну 84 вяскоўцы загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 851 жыхар. У складзе Мазырскай дзярж. занальнай сортавыпрабавальнай станцыі «Прудок» (цэнтр — в. Прудок). Размешчаны пач. школа, б-ка. Планіровачна

складаецца з прамалінейнай шыротнай вуліцы, да якой на У і З далучаюцца 2 кароткія вуліцы. Забудова двухбаковая, драўляная, сядзібнага тыпу. Побач радовішча сілікатных пяскоў (11,9 млн. м³).

**БЕЛАЯ** — вёска ў Скрыгалаўскім с/с, за 28 км на З ад Мазыра, 14 км ад чыг. ст. Пціч (на лініі Гомель—Лунінец), 162 км ад Гомеля. Мясцовасць лясіста-балоцістая. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Мазыр—Лельчыцы. 126 гаспадарак, 299 жыхароў (2004 г.).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 19 ст. як вёска ў Слабода-Скрыгалаўскай вол. Мазырскага пав. У 1869 г. 54 жыхары. Пад 1879 г. пазначана як сяленне ў Скрыгалаўскім царк. прыходзе. Паводле перапісу 1897 г. 19 двароў, 125 жыхароў, вадзяны млын, заезны дом. Акрамя земляробства частка вяскоўцаў займалася вырабам снасцей для рыбнай лоўлі. У 1917 г. 243 жыхары. У 1918 г. адкрыта школа, якая размяшчалася ў нацыяналізаваным будынку. У 1925 г. 57 двароў. У 1929 г. арганізаваны калгас «Новы свет», працаваў вадзяны млын. Дзейнічала пач. школа (у 1935 — 85 вучняў). У Вял. Айч. вайну на франтах і ў партыз. барацьбе загінулі 40 вяскоўцаў, на ўшанаванне памяці якіх у 1971 г. пастаўлены абеліск у цэнтры вёскі. Паводле перапісу 1959 г. 431 жыхар. Цэнтр калгаса «Беларусь». Працуюць 9-гадовая школа, Дом культуры, б-ка, фельч.-акушэрскі пункт, аддз. сувязі. Планіровачна складаецца з бессістэмнай забудовы каля прасёлачнай дарогі, на Пн невялікі адасоблены ўчастак. Жылыя дамы драўляныя, сядзібнага тыпу.

**БІБІКІ** — вёска ў Крынічным с/с, за 15 км на Пд ад Мазыра, 152 км ад Гомеля, 10 км ад чыг. ст. Козенкі (на лініі Калінкавічы—Оўруч). Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Мазыр—Новая Рудня. 117 гаспадарак, 211 жыхароў (2004 г.).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 18 ст. як сяло ў Мазырскім пав. Мінскага ваяв. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1870 г. 87 рэвізскіх душ. Пад 1879 г. пазначана як сяленне ў Мазырскім царк. прыходзе. Паводле перапісу 1897 г. 77 двароў, 448 жыхароў. Акрамя земляробства вяскоўцы (21 чал.) займаліся бандарным промыслам. У 1904 г. адкрыта школа, якая размяшчалася ў наёмнай сял. хаце, у 1905 г. для яе пабудавана ўласнае памяшканне. У 1917 г. 523 жыхары. У выніку пагрому, учыненага вайскоўцамі С.Н.Булак-Балаховіча 25.11.1920 г., загінулі 16 жыхароў. У 1925 г. 109 двароў. З 20.8.1924 г. да 11.6.1980 г. цэнтр Бібікаўскага с/с Мазырскага, з 5.10.1926 г. Слабадскога, з 4.8.1927 г. Нараўлянскага, з 5.4.1935 г. Мазырскага р-наў Мазырскай (да 26.7.1930 і з 5.4.1935 да 20.2.1938) акругі, з 20.2.1938 г. Палескай, з 8.1.1954 г. Гомельскай абл. У 1930 г. арганізаваны калгас «Звязда», працавала кузня. У Вял. Айч. вайну ў баях каля вёскі загінулі 12 воінаў (пахаваны ў брацкай магіле на могілках), 83 вяскоўцы — на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 723 жыхары. У складзе эксперыментальнай базы «Крынічная» (цэнтр — пас. Крынічны). Працуюць лясніцтва, клуб, б-ка, фельч.-акушэрскі пункт, дзіцячы сад, аддз. сувязі, сталовая, магазін. Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ, да якой на Пн далучаецца кароткая шыротная вуліца. На Пд адасоблены ўчастак забудовы, які складаецца з дзвюх кароткіх, паралельных паміж сабой мерыдыянальных вуліц, злучаных завулкам. Жылыя дамы драўляныя, сядзібнага тыпу. Радзіма засл. настаўніка Беларусі Я.Ц.Кардаша. Паблізу вёскі залежы пяскоў.

**БУДА КАЗІМІРАЎСКАЯ** — вёска ў Слабадскім с/с, за 28 км на ПдЗ ад Мазыра, 22 км ад чыг. ст. Козенкі (на лініі Калінкавічы—Оўруч), 161 км ад Гомеля, на У меліярацыйны канал. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Махнавічы—Мазыр. 9 гаспадарак, 14 жыхароў (2004 г.).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 19 ст. як сяло ў Слабода-Скрыгалаўскай вол. Мазырскага пав. Паводле перапісу 1897 г. 11 двароў, 80 жыхароў, смалакурня. У 1908 г. 15 двароў, 126 жыхароў. У 1925 г. 28 двароў. У 1930 г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У 1940 г. 32 двары, 228 жыхароў. У Вял. Айч. вайну ў вёсцы і наваколлі базіраваліся Мазырскія падп. райкомы КП(б)Б і ЛКСМБ, Мазырская партыз. брыгада імя А.Неўскага. Ням. акупанты ў сак. 1943 г. выгналі з хат і расстралялі жыхароў (175 чал. пахаваны ў магіле ахвяр фашызму паўд. ускраіне), а вёску поўнасцю спалілі. 14 вяскоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 135 жыхароў. У складзе калгаса імя Н.К.Крупскай (цэнтр — в. Раманаўка). Планіровачна складаецца з прамалінейнай мерыдыянальнай вуліцы, забудаванай драўлянымі сял. сядзібамі.



А.М.Федарэнка.

**БУЛАЎКІ** — вёска ў Козенскім с/с, за 4 км на Пд ад Мазыра, 5 км ад чыг. ст. Козенкі (на лініі Калінкавічы—Оўруч). Транспартныя сувязі па прасёлачнай і аўтадарогах, якія адыходзяць ад Мазыра. 108 гаспадарак, 269 жыхароў (2004 г.).

Па пісьмовых крыніцах вядома з пач. 19 ст. як сяло ў Мазырскім пав. Мінскай губ. Па атласе 1800 г. значыцца як хутар каля Мазыра. Пад 1879 г. пазначана як сяленне ў Мазырскім царк. прыходзе. Паводле перапісу 1897 г. 21 двор, 144 жыхары. У 1925 г. 40 двароў, у Бабраняцкім с/с. У 1930 г. арганізаваны калгас, працавала кузня. У Вял. Айч. вайну 11.1.1944 г. вызвалена ад ням.-фаш. акупацыі. 54 вяскоўцы загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 314 жыхароў. У складзе калгаса імя М.І.Калініна (цэнтр — в. Бабраняты). Забудова бессістэмная, каля прасёлачнай дарогі. Жылыя дамы драўляныя, сядзібнага тыпу.

**БЯРОЗАЎКА** — вёска ў Каменкаўскім с/с, за 21 км на ПдЗ ад Мазыра, 151 км ад Гомеля, 7 км ад чыг. ст. Козенкі (на лініі Калінкавічы—Оўруч), на р. Мытва (прыток р. Прыпяць), на Пд, У і Пн мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Мазыр—Махнавічы. 25 гаспадарак, 29 жыхароў (2004 г.).

Па пісьмовых крыніцах вядома з пач. 18 ст. (пазначана на карце Мінскага ваяв. таго часу). Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1795 г. 8 двароў, 85 жыхароў, у Мялешкавіцкай вол. Мазырскага пав. Мінскай губ. У 1834 г. 12 двароў, 108 жыхароў. Пад 1879 г. пазначана як сяленне ў Мазырскім царк. прыходзе. Паводле перапісу 1897 г. 49 двароў, 299 жыхароў, хлебазапасны магазін. У 1910 г. адкрыта школа, якая размяшчалася ў наёмнай сял. хаце, а ў 1912 г. для яе ўзведзены ўласны будынак. У 1917 г. ў вёсцы 409, у аднайменным фальварку 71 жыхар. У 1925 г. 75 двароў. У 1930 г. арганізаваны калгас «Мытва», працавалі кузня і паравы млын. У Вял. Айч. вайну ў баі за вёску і наваколле загінулі 15 воінаў (пахаваны ў брацкай магіле на ўсх. ускраіне). 30 вяскоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 258 жыхароў. У складзе саўгаса «Мазырская агароднінная фабрыка» (цэнтр — в. Каменка). Планіровачна складаецца з дугападобнай вуліцы, блізкай да шыротнай арыентацыі, да якой на У далучаецца кароткая прамалінейная вуліца. Забудова двухбаковая, драўляная, няшчыльная, сядзібнага тыпу. Радзіма бел. пісьменніка А.М.Федарэнкі. Паблізу залежы торфу.

**ВАСЬКАЎКА** — вёска ў Каменкаўскім с/с, за 23 км на ПдЗ ад Мазыра, 156 км ад Гомеля, 9 км ад чыг. ст. Козенкі (на лініі Калінкавічы—Оўруч). Праз вёску праходзіць меліярацыйны канал, вакол лес. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Мазыр—Махнавічы. 48 гаспадарак, 64 жыхары (2004 г.).

Па пісьмовых крыніцах вядома з пач. 18 ст. як вёска ў Мялешкавіцкай вол. Мазырскага пав. Мінскай губ. У 1811 г. 4 двары. У 1850 г. 9 двароў. У 1866 г. 17 двароў, 145 жыхароў, царква, у якой зна-

ходзіўся мясцова паважаны абраз Маці Божай. Паводле перапісу 1897 г. 40 двароў, 174 жыхары, царк.-прыходская школа, вадзяны млын. У 1908 г. 50 двароў, 300 жыхароў. У 1909 г. адкрыта нар. вучылішча, якое размяшчалася ў наёмнай сял. хаце. У 1917 г. 406 жыхароў. У 1925 г. ў сяле 73, на аднайменных хутарах, што знаходзіліся побач, — 4 двары. У 1931 г. арганізаваны калгас «Беларуская вёска», працавала кузня. У Вял. Айч. вайну 28 вяскоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 351 жыхар. У 1990-я г. пабудавана мураваная царква. У складзе саўгаса «Мазырская агароднінная фабрыка» (цэнтр — в. Каменка). Планіровачна складаецца з 2 раздзеленых каналам прамалінейных вуліц мерыдыянальнай арыентацыі, да заходняй далучаецца кароткая вуліца. Забудова двухбаковая, драўляная, сядзібнага тыпу. Са свідравін каля вёскі атрыманы прамысл. прыток нафты.

**ВЕРХНІ МЛЫНОК** — вёска ў Барбароўскім с/с, за 27 км на Пд ад Мазыра, 159 км ад Гомеля, 22 км ад чыг. ст. Козенкі (на лініі Калінкавічы—Оўруч), на р. Салакуча (прыток р. Прыпяць). Побач аўтадарога Мазыр—Нароўля. 5 гаспадарак, 7 жыхароў (2004 г.).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 18 ст. як вёска ў Мазырскім пав. Мінскага ваяв. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1795 г. 8 двароў, у Мазырскім пав. Мінскай губ. У 1834 г. 13 двароў. У 1850 г. 16 двароў, уладанне памешчыка Горвата. Пад 1879 г. ўпамінаецца ў ліку сёл Барбароўскага царк. прыхода. Паводле перапісу 1897 г. 18 двароў, 164 жыхары, у Нараўлянскай вол. Рэчыцкага пав. Мінскай губ. У 1931 г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну 17 жыхароў вёскі загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 78 жыхароў. У складзе калгаса «Серп і молат» (цэнтр — в. Барбароў). Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, блізкай да шыротнай арыентацыі і забудаванай драўлянымі сял. сядзібамі. Побач залежы пясчана-жвіровага матэрыялу.

**ВЯЛІКІ БОКАЎ** — вёска ў Каменкаўскім с/с, за 12 км на ПдЗ ад Мазыра, 6 км ад чыг. ст. Козенкі (на лініі Калінкавічы—Оўруч), 145 км ад Гомеля. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарогах, якія адыходзяць ад Мазыра. 70 гаспадарак, 154 жыхары (2004 г.).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 16 ст. як в. Бакава на дарозе Мазыр—Тураў, уласнасць казны, у Мазырскім пав. Мінскага ваяв. ВКЛ. У попісе войска ВКЛ — в. Бокаўшчына, уладанне К.Хадычыча, пазначана пад 1567 г. У 18 ст. з утварэннем в. Малы Бокаў за в. Бокаўшчына замацавалася назва Вялікі Бокаў. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1795 г. сяло, 22 двары, 194 жыхары, драўляная царква ў імя Іаана Багаслова. Цэнтр аднайменнага маёнтка, гаспадыня якога Беразоўская мела тут у 1866 г. 269 дзес. зямлі. Мешчаніну Паўловічу належаў аднайменны фальварак, што знаходзіўся побач, а мешчанін Марцынкевіч меў тут у 1876 г. 756 дзес. зямлі. Вялікія зямельныя ўчасткі ў 1880-я г. знаходзіліся ва ўладанні памешчыкаў Рымшаў. Паводле перапісу 1897 г. 27 двароў, 134 жыхары; у аднайменнай сядзібе — 3 двары, 13 жыхароў. У 1908 г. 29 двароў, 193 жыхары, у Мялешкавіцкай вол. Мазырскага пав. Мінскай губ. У 1914 г. салдаты запасной роты разграмілі маёнтак і частку гаспадарак вяскоўцаў. У 1919 г. адкрыта школа, якая размяшчалася ў наёмнай сял. хаце. У 1925 г. ў вёсцы 51, у фальварку — 3 двары. З 20.8.1924 г. да 1.4.1931 г. цэнтр Бокаўскага с/с Мазырскага, з 5.10.1926 г. Слабадскога, з 4.8.1927 г. Каралінскага, з 5.2.1931 г. Ельскага р-наў Мазырскай акр. (да 26.7.1930). У 1930 г. арганізаваны калгас «Новы Бокаў», працавала кузня. У Вял. Айч. вайну 21 вясковец загінуў на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 281 жыхар. У складзе саўгаса «Мазырская агароднінная фабрыка» (цэнтр — в. Ка-

менка). Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ, да якой з З далучаецца кароткая вуліца. Забудова двухбаковая, драўляная, сядзібнага тыпу.

**ВЯЛІКІЯ ЗІМОВІШЧЫ** — вёска ў Слабадскім с/с, за 16 км на З ад Мазыра, 9 км ад чыг. ст. Козенкі (на лініі Калінкавічы—Оўруч), 146 км ад Гомеля. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарогах, якія адыходзяць ад Мазыра. 114 гаспадарак, 287 жыхароў (2004 г.).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 16 ст. як в. Зімовішчы, шляхецкая ўласнасць, у Мазырскім пав. Мінскага ваяв. ВКЛ. У попісе войска ВКЛ пазначана пад 1567 г. Аб эканам. сувязях вёскі з інш. сёламі сведчыць знойдзены ў 1890 г. скарб 1600—26 гг. — 307 сярэбраных і медных манет (Рэч Паспалітая, Прусія, Прыбалтыка). У пач. 18 ст. в. Зімовішчы падзялілася на дзве — Вялікія Зімовішчы і Малыя Зімовішчы. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1795 г. 26 двароў, 67 жыхароў, драўляная царква, ва ўладанні дваран Вольбека і Яленскай. Пад 1879 г. пазначана як сяло ў Скрыгалаўскім царк. прыходзе. Паводле перапісу 1897 г. вёска (39 двароў, 263 жыхары) і сядзіба (2 двары, 13 жыхароў, вадзяны млын). У 1908 г. 42 двары, 338 жыхароў, у Слабода-Скрыгалаўскай



Запаведнік «Мазырскія кручы».

вол. Мазырскага пав. У 1925 г. 77 двароў. У 1929 г. арганізаваны калгас. Дзейнічала пач. школа (у 1935 — 80 вучняў). У 1940 г. 96 двароў. У Вял. Айч. вайну ў кастр. 1942 г. ням. карнікі поўнасцю спалілі вёску і загубілі 9 жыхароў. 39 вяскоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 504 жыхары. Цэнтр калгаса імя М.В.Фрунзе. Размешчаны 9-гадовая школа, Дом культуры, б-ка, фельч.-акушэрскі і вет. пункты, дзіцячы сад, аддз. сувязі, магазін. Планіровачна складаецца з дугападобнай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ і забудаванай драўлянымі сял. сядзібамі. На Пн адасоблены ўчастак забудовы. Частку вёскі займае новая мураваная забудова для перасяленцаў з забруджаных радыяцыяй месц пасля Чарнобыльскай катастрофы 1986 г.

**ГІНЕВІЧАЎ ГРУД** — вёска ў Асавецкім с/с, за 39 км на З ад Мазыра, 16 км ад чыг. ст. Пціч (на лініі Гомель—Лунінец), 169 км ад Гомеля, на У і З мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Гомель—Лунінец. 3 гаспадаркі, 4 жыхары (2004 г.).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 2-й пал. 19 ст. як сяло ў Слабода-Скрыгалаўскай вол. Мазырскага пав. У 1908 г. 31 двор, 192 жыхары. У 1917 г. 254 жыхары. У 1925 г. 62 двары. У 1932 г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну ў чэрв. 1943 г. ням. акупанты поўнасцю спалілі вёску і загубілі 1 жыхара. 18 вяскоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 159 жыхароў. У складзе саўгаса «Асавец» (цэнтр — в. Асавец). Размешчана падсобная гаспадарка «Мазырпрамбуда». Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ. Забудова драўляная, сядзібнага тыпу.

**ГЛІНІЦА** — вёска ў Асавецкім с/с, за 50 км на З ад Мазыра, 20 км ад чыг. ст. Муляраўка (на лініі Калінкавічы—Лунінец), 184 км ад Гомеля, мяжуе з вадасховішчам Глініцкае (на р. Скалодзіна), на З — з лесам. Транспартныя сувязі па

прасёлачнай, потым аўтадарозе Гомель—Лунінец. 174 гаспадаркі, 414 жыхароў (2004 г.).

Выяўленыя археолагамі гарадзішча (1,5 км на ПнУ ад вёскі, на паўд. беразе вадасховішча Глініцкае) і гарадзішча (2 км на ПдЗ ад вёскі, на беразе воз. Святое) сведчаць пра засяленне тутэйшых мясцін у далёкай мінуўшчыне. Па пісьмовых крыніцах вядома з канца 17 ст. (пазначана на карце Мінскага ваяв. канца 17 — пач. 18 ст.). Была ва ўладанні езуітаў, затым казны, а ў 1777 г. прададзена віленскаму біскупу І.Масальскаму. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1834 г. 35 двароў. Пад 1879 г. пазначана як сяло ў Скрыгалаўскім царк. прыходзе. Паводле перапісу 1897 г. 59 двароў, 368 жыхароў. У 1906 г. адкрыта школа, якая размяшчалася ў наёмнай сял. хаце. У 1908 г. 428 жыхароў, у Слабода-Скрыгалаўскай вол. Мазырскага пав. У 1917 г. 514 жыхароў. У 1925 г. 84 двары. З 26.7.1930 г. да 16.7.1954 г. цэнтр Глініцкага с/с Петрыкаўскага р-на Мазырскай (да 26.7. 1930 і з 21.6.1935 да 20.2.1938) акругі, з 20.2.1938 г. Палескай, з 8.1.1954 г. Гомельскай вобл. У 1929 г. арганізаваны калгас. У 1940 г. 144 двары, 722 жыхары. У Вял. Айч. вайну ў снеж. 1942 г. ням. акупанты поўнасцю спалілі вёску. 44 вяскоўцы загінулі на фронце, 10 — у партыз. барацьбе. Паводле перапісу 1959 г. 595 жыхароў. У складзе саўгаса «Асавец» (цэнтр — в. Асавец). Дзейнічаюць лясніцтва Петрыкаўскага лясгаса, сярэдняя школа, Дом культуры, б-ка, фельч.-акушэрскі пункт, дзіцячы сад, аддз. сувязі, магазін. Планіровачна складаецца з працяглай прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ, да якой з Пд далучаюцца крывалінейная вуліца і 3 завулкі. Забудова двухбаковая, пераважна драўляная, сядзібнага тыпу. У 1986—94 гг. узведзены мураваныя дамы на 50 сямей, у якіх размясціліся перасяленцы з забруджаных радыяцыяй месц пасля Чарнобыльскай катастрофы 1986 г.

**ГЛІНІЦКІ** — пасёлак у Асавецкім с/с, за 49 км на З ад Мазыра, 33 км ад чыг. ст. Муляраўка (на лініі Калінкавічы—Лунінец), 183 км ад Гомеля, на р. Крапіўная (прыток р. Скалодзіна). Транспартныя сувязі па прасёлачнай і далей аўтадарозе Гомель—Лунінец. 22 гаспадаркі, 38 жыхароў (2004 г.).

Засн. ў пач. 20 ст. перасяленцамі з суседніх вёсак на былых памешчыцкіх землях. У 1931 г. пасялкоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну 10 жыхароў пасёлка загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 114 жыхароў. У складзе саўгаса «Асавец» (цэнтр — в. Асавец). Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, блізкай да шыротнай арыентацыі і забудаванай няшчыльна драўлянымі сял. сядзібамі.

**ГОРНАЯ** (да 30.7.1964 Капліца) — вёска ў Барбароўскім с/с, за 30 км на ПдУ ад раённага цэнтра і чыг. ст. Мазыр (на лініі Калінкавічы—Оўруч), 121 км ад Гомеля. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Гомель—Лунінец. 9 гаспадарак, 13 жыхароў (2004 г.).

Засн. ў пач. 20 ст. перасяленцамі з суседніх вёсак. У 1925 г. 17 двароў. Пач. школа ў 1930-я г. пераўтворана ў 7-гадовую (у 1935 — 248 вучняў). У 1931 г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну 15 вяскоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 94 жыхары. У складзе калгаса «Серп і молат» (цэнтр — в. Барбароў). Планіровачна складаецца з кароткай шыротнай вуліцы, забудаванай драўлянымі сял. сядзібамі.

**ГОСТАЎ** — вёска ў Каменкаўскім с/с, за 27 км на ПдЗ ад Мазыра, 156 км ад Гомеля, 6 км ад чыг. ст. Мытва (на лініі Калінкавічы—Оўруч). Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Мазыр—Махнавічы. 13 гаспадарак, 20 жыхароў (2004 г.).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 19 ст. як пасёлак у Мялешкавіцкай вол. Мазырскага пав. Паводле перапісу 1897 г. 2 двары, 3 жыхары. У 1908 г. 14 двароў, 52 жыхары. У 1917 г. 168 жыхароў. Дзейні-

чала школа, якая размяшчалася ў наёмнай сял. хаце. У 1925 г. 34 двары. У 1930 г. арганізаваны калгас імя Т.Р.Шаўчэнкі, працавала кузня. У Вял. Айч. вайну 24 вяскоўцы загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 187 жыхароў. У складзе саўгаса «Мазырская агароднінная фабрыка» (цэнтр — в. Каменка). Планіровачна складаецца з крыху скрыўленай шыротнай вуліцы, да якой з Пд далучаецца кароткая вуліца. Забудова драўляная, сядзібнага тыпу.

**ГУРЫНЫ** — вёска ў Крынічным с/с, за 10 км на Пд ад Мазыра, 9 км ад чыг. ст. Козенкі (на лініі Калінкавічы—Оўруч), 143 км ад Гомеля, на р. Прыпяць (прыток р. Дняпро). Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарогах, якія адыходзяць ад Мазыра. 129 гаспадарак, 236 жыхароў (2004 г.).

Па пісьмовых крыніцах вядома з пач. 19 ст. як сяло ў Мазырскім пав. Пазначана на карце Мінскага ваяв. таго часу. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1862 г. пабудавана драўляная царква ў імя св. Васіля Вялікага. У 1885 г. 22 двары, 176 жыхароў, прыстань на Прыпяці. Паводле перапісу 1897 г. 38 двароў, 245 жыхароў, у Міхалкаўскай вол. Мазырскага пав. Мінскай губ. У былым маёнтку Сядзельнікі ў 1924 г. створана калектыўная гаспадарка «Наперад». У 1925 г. 57 двароў, у Бібікаўскім с/с Мазырскага р-на Мазырскай акр. У 1929 г. арганізаваны калгас. У Вял. Айч. вайну 21 вясковец загінуў на фронце. У 1962 г. да вёскі далучана в. Сядзельнікі (вядома па матэрыялах метрыкі караля Жыгімонта II Аўгуста з 1568). У будынку школы ў 1976 г. адкрыта Мазырская карцінная галерэя — філіял Бел. дзярж. маст. музея. Цэнтр эксперыментальнай базы «Крынічная». Дзейнічаюць клуб, б-ка, раённая карцінная галерэя. Планіровачна складаецца з амаль прамалінейнай, блізкай да шыротнай арыентацыі вуліцы, якая на З раздвойваецца. На Пд і У адасобленыя ўчасткі забудовы. Будынкі пераважна драўляныя, сядзібнага тыпу.

**ДЗЯРБІНКА** — вёска ў Махнавіцкім с/с, за 42 км на ПдЗ ад Мазыра, 175 км ад Гомеля, 32 км ад чыг. ст. Ельск (на лініі Калінкавічы—Оўруч), на У меліярацыйныя каналы. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Махнавічы—Мазыр. 43 гаспадаркі, 85 жыхароў (2004 г.).

Выяўленыя археолагамі курганныя могільнікі (43 і 23 насыпы, 1—1,5 км на З ад вёскі) сведчаць пра засяленне тутэйшых мясцін у далёкай старажытнасці. Па пісьмовых крыніцах вядома з 19 ст. як сяло ў Мялешкавіцкай вол. Мазырскага пав. У 1908 г. 21 двор, 85 жыхароў. У 1917 г. 157 жыхароў. У 1930 г. арганізаваны калгас «Чырвоны барацьбіт», працавала кузня. У 1940 г. 63 два-

*Рака Прыпяць на Мазыршчыне.*



ры, 281 жыхар. У Вял. Айч. вайну ў ліп. 1943 г. ням. акупанты поўнасцю спалілі вёску і загубілі 22 жыхароў. 43 вяскоўцы загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 212 жыхароў. У складзе калгаса «Прамень Кастрычніка» (цэнтр — в. Махнавічы). Працуе клуб. Планіровачна складаецца з прамалінейнай шыротнай вуліцы, якая перакрыжоўваецца ў цэнтры кароткай вуліцай, а на У да яе далучаецца завулак. Забудова двухбаковая, драўляная, сядзібнага тыпу.

**ДРАЗДЫ** — вёска ў Козенскім с/с, за 3 км на З ад Мазыра, 2 км ад чыг. ст. Козенкі (на лініі Калінкавічы—Оўруч). Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарогах, якія адыходзяць ад Мазыра. 163 гаспадаркі, 393 жыхары (2004 г.).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 19 ст. як сяло ў Слабода-Скрыгалаўскай вол. Мазырскага пав. У 1870 г. 8 рэвізскіх душ. Паводле перапісу 1897 г. 13 двароў, 44 жыхары. У 1908 г. 56, у 1917 г. 73 жыхары, у Слабадской вол. У 1922 г. адкрыта школа, якая размяшчалася ў наёмнай сял. хаце. У 1930 г. арганізаваны калгас імя М.В.Фрунзе, працавала кузня, дзейнічала пач. школа (у 1935 — 42 вучні). У Вял. Айч. вайну 34 вяскоўцы загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 402 жыхары. У складзе калгаса «Радзіма» (цэнтр — в. Козенкі). Працуюць пач. школа, фельч.-акушэрскі пункт. Планіровачна складаецца з кароткай вуліцы, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ і забудаванай двухбакова, шчыльна, пераважна драўлянымі сял. сядзібамі. На Пд невялікі адасоблены ўчастак забудовы.

**ЖАХАВІЧЫ** — вёска ў Скрыгалаўскім с/с, за 20 км на ПнЗ ад Мазыра, 17 км ад чыг. ст. Козенкі (на лініі Калінкавічы—Оўруч), 180 км ад Гомеля, на р. Прыпяць (прыток р. Дняпро). Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Гомель—Лунінец. 85 гаспадарак, 123 жыхары (2004 г.).

Па пісьмовых крыніцах вядома з пач. 16 ст. як сяло ў шляхецкай уласнасці, у Мазырскім пав. Мінскага ваяв. ВКЛ. У 1505 г. польскі кароль Аляксандр дараваў сяло двараніну С.Палазовічу. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1795 г. 39 двароў, у 1816 г. 182 жыхары. Памешчык Маеўскі меў у вёсцы ў 1861 г. 3320 дзес. зямлі. Пад 1879 г. пазначана як сяло ў Скрыгалаўскім царк. прыходзе. Паводле перапісу 1897 г. 736 жыхароў, заезны дом. У 1908 г. 122 двары, 915 жыхароў, у Слабода-Скрыгалаўскай вол. Мазырскага пав. У 1917 г. 1013 жыхароў. Дзейнічала школа, якая размяшчалася ў наёмнай сял. хаце. У 1925 г. 169 двароў. У 1929 г. арганізаваны калгас. У 1940 г. 200 двароў, 1000 жыхароў. У Вял. Айч. вайну 30.7.1943 г. ням. акупанты поўнасцю спалілі вёску і загубілі 23 жыхароў. 94 вяскоўцы загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 601 жыхар. У складзе калгаса «Дружба» (цэнтр — в. Скрыгалаў). Дзейнічаюць 9-гадовая школа, клуб, б-ка, фельч.-акушэрскі пункт, аддз. сувязі, магазін. Планіровачна складаецца з працяглай крывалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ і забудаванай двухбакова, пераважна драўлянымі сял. сядзібамі.

**ЗАБАЛАЦЦЕ** — вёска ў Махнавіцкім с/с, за 43 км на ПдЗ ад Мазыра, 27 км ад чыг. ст. Ельск (на лініі Калінкавічы—Оўруч), за 176 км ад Гомеля. На Пн меліярацыйны канал. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Махнавічы—Мазыр. 51 гаспадарка, 84 жыхары (2004 г.).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 19 ст. У 1870 г. 35 рэвізскіх душ. Найб. актыўная забудова прыходзіцца на 1920-я г. У 1930 г. арганізаваны калгас. У 1940 г. 67 двароў, 320 жыхароў. У Вял. Айч. вайну 28.7.1943 г. ням. акупанты спалілі 61 двор і загубілі 54 жыхароў (пахаваны ў магіле ахвяр фашызму каля клуба). 40 вяскоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 313 жыхароў. У складзе калгаса «Прамень Кастрычніка» (цэнтр — в. Махнавічы). Дзейнічаюць клуб, б-ка,

фельч.-акушэрскі пункт, аддз. сувязі, магазін. Планіровачна складаецца з прамалінейнай шыротнай вуліцы, якая на У перакрыжоўваецца пад прамым вуглом кароткай прамалінейнай вуліцай. Забудова двухбаковая, драўляная, сядзібнага тыпу. Радзіма бел. пісьменніка І.І.Капыловіча.

**ЗАВОДНЫ ВОСТРАЎ** — вёска ў Махнавіцкім с/с, за 44 км на ПдЗ ад Мазыра, 28 км ад чыг. ст. Ельск (на лініі Калінкавічы—Оўруч), 177 км ад Гомеля. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Махнавічы—Мазыр. 34 гаспадаркі, 48 жыхароў (2004 г.).



*І.І.Капыловіч.*

Па пісьмовых крыніцах вядома з 19 ст. як сяло ў Мялешкавіцкай вол. Мазырскага пав. У 1870 г. 18 рэвізскіх душ. У 1908 г. 22 двары, 108 жыхароў, у 1917 г. 281 жыхар. У 1919 г. адкрыта школа, якая размяшчалася ў наёмнай сял. хаце. У 1925 г. 53 двары. У 1930 г. арганізаваны калгас імя Р.Люксембург, працавала кузня. У 1940 г. 76 двароў, 396 жыхароў. У Вял. Айч. вайну партызаны 10.2.1942 г. разграмілі ў вёсцы апорны пункт, створаны акупантамі. У гэтай аперацыі ролю ням. афіцэра паспяхова сыграў партыз. доктар І.І.Галіцкі. У ліп. 1943 г. немцы поўнасцю спалілі вёску і загубілі 26 жыхароў. 32 вяскоўцы загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 234 жыхары. У складзе калгаса «Прамень Кастрычніка» (цэнтр — в. Махнавічы). Планіровачна складаецца з прамалінейнай шыротнай вуліцы, да якой на З далучаецца завулак. Забудова драўляная, сядзібнага тыпу. Паблізу вёскі залежы жалезнякоў.

**ЗАГОРЫНЫ** — вёска ў Прудкоўскім с/с, за 7 км на ПнЗ ад раённага цэнтра і чыг. ст. Мазыр (на лініі Калінкавічы—Оўруч), 140 км ад Гомеля, на р. Прыпяць (прыток р. Дняпро). Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарогах, якія адыходзяць ад Мазыра. 72 гаспадаркі, 121 жыхар (2004 г.).

Выяўленыя археолагамі гарадзішча эпохі Кіеўскай Русі (0,6 км на З ад вёскі) і паселішча позняга неаліту і бронз. веку (0,3 км на ПдУ ад вёскі) сведчаць аб засяленні тутэйшых мясцін у глыбокай старажытнасці. Па пісьмовых крыніцах вядома з пач. 18 ст. як сяло ў Мазырскім пав. Мінскага ваяв. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1795 г. 31 двор, 199 жыхароў. Дзейнічала Троіцкая драўляная царква. На Прыпяці мелася паромная пераправа. Паводле перапісу 1897 г. 38 двароў, 274 жыхары, лесапільня. У 1908 г. вёска і аднайменны фальварак, у Слабода-Скрыгалаўскай вол. Мазырскага пав. У 1917 г. 378 жыхароў. У 1921 г. адкрыта школа, якая размяшчалася ў наёмнай сял. хаце (у 1935 — 107 вучняў). У 1925 г. 75 двароў. У 1930 г. арганізаваны калгас «Новае жыццё», працавала кузня. У Вял. Айч. вайну 12.1.1944 г. вызвалена ад ням. акупацыі. 41 вясковец загінуў на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 426 жыхароў. У складзе сортавыпрабавальнай станцыі «Прудок» (цэнтр — в. Прудок). Дзейнічаюць клуб, б-ка, фельч.-акушэрскі пункт. Планіровачна складаецца з крыху выгнутай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ з невялікімі на Пн і Пд адасобленымі ўчасткамі забудовы. Жылыя дамы драўляныя, сядзібнага тыпу.

**ЗІМОВАЯ БУДА** — вёска ў Асавецкім с/с, за 47 км на З ад Мазыра, 38 км ад чыг. ст. Муляраўка (на лініі Калінкавічы—Лунінец), 178 км ад Гомеля, вакол лес. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Мазыр—Лельчыцы. 27 гаспадарак, 41 жыхар (2004 г.).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 19 ст. як сяло ў Слабода-Скрыгалаўскай вол. Мазырскага пав. Паводле перапісу 1897 г. 11 двароў, 87 жыхароў. У 1908 г. 21 двор, 142 жыхары. У 1925 г. 48 двароў. У 1929 г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У 1940 г. 57 двароў, 253 жыхары. У Вял. Айч. вайну ў ліст. 1942 г. ням. акупанты поўнасцю спалілі вёску і загубілі 5 жыхароў. 39 вяскоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 318

жыхароў. У складзе саўгаса «Асавец» (цэнтр — в. Асавец). Планіровачна складаецца з крывалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ, якая перакрыжоўваецца 3 завулкамі. Забудова двухбаковая, драўляная, сядзібнага тыпу.

**ЗЯЛЁНКА** — вёска ў Каменкаўскім с/с, за 34 км на ПдЗ ад Мазыра, 161 км ад Гомеля, 20 км ад чыг. ст. Козенкі (на лініі Калінкавічы—Оўруч), на Пн меліярацыйныя каналы, на Пд мяжуе з лесам. Побач аўтадарога Мазыр—Махнавічы. 12 гаспадарак, 18 жыхароў (2004 г.).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 2-й пал. 19 ст. як сяло ў Мялешкавіцкай вол. Мазырскага пав. Мінскай губ. У 1908 г. 5 двароў, 35 жыхароў. У 1917 г. 42 жыхары. У 1925 г. 18 двароў. У 1931 г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. Паводле перапісу 1959 г. 75 жыхароў. У складзе саўгаса «Мазырская агароднінная фабрыка» (цэнтр — в. Каменка). Планіровачна складаецца з кароткай прамалінейнай шыротнай вуліцы, забудаванай драўлянымі сял. сядзібамі.

**ЗЯЛЁНЫ МОХ** — вёска ў Махнавіцкім с/с, за 40 км на ПдЗ ад Мазыра, 35 км ад чыг. ст. Козенкі (на лініі Калінкавічы—Оўруч), 173 км ад Гомеля. Мясцовасць балоціста-лясістая, на У з меліярацыйнай канавы пачынаецца р. Чэрцень (прыток р. Славечна). Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Махнавічы—Мазыр. 11 гаспадарак, 13 жыхароў (2004 г.).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 2-й пал. 19 ст. як сяло ў Мазырскім пав. Заснавана мясц. памешчыкам у цэнтры лясного масіву. Паводле перапісу 1897 г. 3 двары, 20 жыхароў. У 1908 г. ў Мялешкавіцкай вол. Мазырскага пав. Мінскай губ. У 1917 г. на хутары 78, у аднайменным фальварку — 15 жыхароў. У 1925 г. 23 двары. У 1929 г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. Дзейнічаў спірта-парашковы з-д. У 1940 г. 54 двары, 221 жыхар. У Вял. Айч. вайну ў ліп. 1943 г. ням. акупанты поўнасцю спалілі вёску і загубілі 11 жыхароў. 21 вясковец загінуў на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 373 жыхары. У складзе калгаса «Прамень Кастрычніка» (цэнтр — в. Махнавічы). Планіровачна складаецца з кароткай прамалінейнай вуліцы, блізкай да шыротнай арыентацыі. Жылыя дамы драўляныя, сядзібнага тыпу.

**ІВАНКАЎШЧЫНА** — вёска ў Каменкаўскім с/с, за 31 км на ПдЗ ад Мазыра, 160 км ад Гомеля, 16 км ад чыг. ст. Козенкі (на лініі Калінкавічы—Оўруч), на Пд, Пн і З меліярацыйныя каналы, на Пд і Пн мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Мазыр—Махнавічы. 79 гаспадарак, 128 жыхароў (2004 г.).

Па пісьмовых крыніцах вядома з канца 19 ст. як сяло ў Мялешкавіцкай вол. Мазырскага пав. Мінскай губ. У 1908 г. 5 двароў, 26 жыхароў. У 1917 г. 36 жыхароў. У 1925 г. 19 двароў. У 1931 г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну 8.1.1944 г. вызвалена ад ням. акупантаў часцямі 7-га гв. кавалерыйскага корпуса Чырв. Арміі з удзелам Мазырскай партыз. брыгады імя Аляксандра Неўскага. 46 вяскоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 576 жыхароў. У складзе саўгаса «Мазырская агароднінная фабрыка» (цэнтр — в. Каменка). Працуюць клуб, б-ка. Планіровачна складаецца з прамалінейнай шыротнай вуліцы, перакрыжаванай дугападобнай і прамалінейнай вуліцамі. На ПдУ адасобленая кароткая вуліца. Забудова двухбаковая, драўляная, сядзібнага тыпу. Радзіма бел. вучоных-братоў А.А.Гусака (кандыдат фізіка-матэм. навук, прафесар), М.А.Гусака (доктар фізіка-матэм. навук), С.А.Гусака (кандыдат філал. навук).

**КАЗІМІРАЎКА** — вёска ў Слабадскім с/с, за 25 км на ПдЗ ад Мазыра, 21 км ад чыг. ст. Козенкі (на лініі Калінкавічы—Оўруч), 158 км ад Гомеля, на У меліярацыйны канал, на Пд і З мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Мазыр—Лельчыцы. 1 гаспадарка, 1 жыхар (2004 г.).







*А.А.Гусак.*

*М.А.Гусак.*

*С.А.Гусак.*

Па пісьмовых крыніцах вядома з пач. 18 ст. як сяло ў Мазырскім пав. Мінскага ваяв. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1795 г. 11 двароў. Паводле інвентару 1848 г. ў складзе маёнтка Скрыгалаў, уладанне памешчыцы Снядэцкай. У 1850 г. 14 двароў, у 1869 г. 119 жыхароў. Пад 1879 г. пазначана ў ліку сёл Скрыгалаўскага царк. прыхода. Паводле перапісу 1897 г. 43 двары, 254 жыхары. Апрача земляробства вяскоўцы займаліся бандарным промыслам. У 1908 г. 344 жыхары, у Слабода-Скрыгалаўскай вол. Мазырскага пав. Мінскай губ. У 1912 г. адкрыта школа, якая размяшчалася ў наёмнай сял. хаце, а ў 1924 г. для яе збудавана ўласнае памяшканне. У 1917 г. 398 жыхароў, у Слабадской вол. У 1925 г. 95 двароў. З 20.8.1924 г. да 16.7.1954 г. цэнтр Казіміраўскага с/с Мазырскага, з 5.10.1926 г. Слабадскога, з 4.8.1927 г. Петрыкаўскага, з 27.9.1930 г. Мазырскага р-наў Мазырскай (да 26.7.1930 і з 21.6.1935 да 20.2.1938) акругі, з 20.2.1938 г. Палескай, з 8.1.1954 г. Гомельскай вобл. У 1929 г. арганізаваны калгас імя Ф.Энгельса, працавала кузня. У пач. школе ў 1935 г. 71 вучань. У Вял. Айч. вайну ням. акупанты ў сак. 1943 г. загубілі 249 вяскоўцаў (пахаваны ў магіле ахвяр фашызму ў цэнтры вёскі) і поўнасцю спалілі вёску. 57 вяскоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 116 жыхароў. У складзе калгаса імя Н.К.Крупскай (цэнтр — в. Раманаўка). Планіровачна складаецца з амаль прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ, да якой на З далучаецца кароткая вуліца. Будынкі драўляныя, сядзібнага тыпу.

**КАМЕНКА** — вёска, цэнтр Каменкаўскага с/с, за 20 км на ПдЗ ад Мазыра, 6 км ад чыг. ст. Козенкі (на лініі Калінкавічы—Оўруч), 153 км ад Гомеля, непадалёку штучны вадаём. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарогах, якія адыходзяць ад Мазыра. 241 гаспадарка, 684 жыхары (2004 г.).

Знойдзены ў вёсцы ў 1890 г. скарб з сярэбраных манет і вырабаў адносіцца да 4-й чвэрці 17 ст. і сведчыць пра дзейнасць чалавека ў гэты час. Па пісьмовых крыніцах вядома з 18 ст. як вёска ў Мазырскім пав. Мінскага ваяв. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1795 г. 19 двароў, 110 жыхароў. У 1811 г. памешчыцкае ўладанне. У 1850 г. 114 жыхароў. Цэнтр аднайменнага маёнтка, гаспадар якога палк. Бок меў у 1872 г. 507 дзес. зямлі і 3 вадзяныя млыны. Пад 1879 г. пазначана як сяло ў Мазырскім царк. прыходзе. Паводле перапісу 1897 г. 57 двароў, 361 жыхар, вадзяны млын. У 1908 г. 62 двары, 419 жыхароў, у Слабода-Скрыгалаўскай вол. Мазырскага пав. У 1925 г. 108 двароў. З 1.4.1931 г. цэнтр Каменкаўскага с/с Ельскага, з 5.4.1935 г. Мазырскага р-наў Мазырскай (з 21.6.1935 да 20.2.1938) акругі, з 20.2.1938 г. Палескай, з 8.1.1954 г. Гомельскай вобл. У 1931 г. арганізаваны калгас «Новая Каменка», працаваў вадзяны млын. У Вял. Айч. вайну ў ліп. 1943 г. ням. акупанты поўнасцю спалілі вёску і загубілі 5 жыхароў. На франтах і ў партыз. барацьбе загінулі 310 жыхароў з вёсак Каменкаўскага с/с, памяць аб якіх ушаноўваюць скульптурная кампазіцыя і стэла з імёнамі загінуўшых, пастаўленыя ў 1975 г. на паўд. ускраіне. Паводле перапісу 1959 г. 433 жыхары. Цэнтр саўгаса «Мазырская агароднінная фабрыка». Дзейнічаюць мех. майстэрня, сярэдняя школа, Дом культуры, б-ка, фельч.-акушэрскі пункт, дзіцячыя яслі-сад, аддз. сувязі, сталовая, магазін. Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы з завулкамі, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ і забудаванай двухбакова, драўлянымі сял. сядзібамі.

У склад Каменскага с/с уваходзіў да 1975 г.п. Сасновы (не існуе).

**КАМЕНЬ** — вёска ў Асавецкім с/с, за 44 км на З ад Мазыра, 38 км ад чыг. ст. Муляраўка (на лініі Гомель—Лунінец), 175 км ад Гомеля, на р. Скалодзіна (прыток р. Прыпяць). Транспартныя су-

вязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Гомель—Лунінец. 8 гаспадарак, 16 жыхароў (2004 г.).

Знойдзеныя археолагамі ў наваколлі стараж. прылады вытворчасці сведчаць пра дзейнасць чалавека ў гэтай мясцовасці ў глыбокай мінуўшчыне. Па пісьмовых крыніцах вядома з 19 ст. як сяло ў Слабода-Скрыгалаўскай вол. Мазырскага пав. Паводле перапісу 1897 г. 5 двароў, 30 жыхароў. У 1908 г. 34 жыхары. Найб. актыўная забудова прыпадае на 1920-я г. У 1931 г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У 1940 г. 34 двары, 169 жыхароў. У Вял. Айч. вайну ў чэрв. 1942 г. ням. акупанты поўнасцю спалілі вёску і загубілі 28 жыхароў. У баях за вёску і наваколле загінулі 75 воінаў і партызан (пахаваны ў брацкай магіле на ўсх. ускраіне). 14 вяскоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 134 жыхары. У складзе саўгаса «Асавец» (цэнтр — в. Асавец). Планіровачна складаецца з крыху выгнутай вуліцы, блізкай да шыротнай арыентацыі. Забудова двухбаковая, няшчыльная, драўляная, сядзібнага тыпу.

**КАСЦЮКОВІЧЫ** — вёска ў Слабадскім с/с, за 14 км на ПнЗ ад раённага цэнтра, 13 км ад чыг. ст. Козенкі (на лініі Калінкавічы—Оўруч), 147 км ад Гомеля. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарогах, якія адыходзяць ад Мазыра. 57 гаспадарак, 82 жыхары (2004 г.).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 16 ст. як сяло ва ўладанні казны, у Мінскім ваяв. ВКЛ. Па матэрыялах метрыкі Жыгімонта II Аўгуста ў 1568 г. сяло, 6 дымоў, у Мазырскай вол. Знойдзены ў вёсцы ў 1963 г. манетны скарб адносіцца да 1651 г. і сведчыць пра дзейнасць тут чалавека ў гэты час. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1795 г. сяло, 36 двароў, 237 жыхароў, драўляная царква. У 1811 г. 38 двароў. У 1866 г. 23 двары, 214 жыхароў. Памешчык Снядэцкі меў у вёсцы і наваколлі 4000 дзес. зямлі, 3 карчмы і вінакурню. У 1886 г. 261 жыхар, прыстань на Прыпяці. Паводле перапісу 1897 г. 71 двор, 433 жыхары, хлебазапасны магазін, заезны дом. Побач была сядзіба. 10 вяскоўцаў апрача земляробства займаліся вырабам кашолак, кашалёў і сетак для рыбнай лоўлі. У 1908 г. ў вёсцы 509, у памешчыцкай сядзібе 11 жыхароў, у Слабода-Скрыгалаўскай вол. Мазырскага пав. У 1912 г. адкрыта школа, якая размяшчалася ў наёмнай сял. хаце. У 1917 г. 604 жыхары, у Слабадской вол. Мазырскага пав. У 1925 г. 110 двароў. У 1930 г. арганізаваны калгас. Дзейнічала пач. школа (у 1935 — 82 вучні). У 1940 г. 150 двароў, 468 жыхароў. У Вял. Айч. вайну ням. акупанты 30.7.1943 г. сагналі ў адно месца жыхароў, адных расстралялі, другіх жывымі пакідалі ў калодзежы (149 чалавек пахаваны ў магіле ахвяр фашызму ў цэнтры вёскі) і поўнасцю спалілі вёску. 49 вяскоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 449 жыхароў. У складзе калгаса імя У.І.Леніна (цэнтр — в. Слабада). Працуюць б-ка, фельч.-акушэрскі пункт. Планіровачна складаецца з дугападобнай шыротнай вуліцы, забудаванай няшчыльна драўлянымі сял. сядзібамі.

**КОЗЕНКІ** — вёска, цэнтр Козенскага с/с, чыг. ст. (на лініі Калінкавічы—Оўруч), за 10 км на ПдЗ ад Мазыра, 143 км ад Гомеля, на У і Пн мяжуе з ландшафтным заказнікам Мазырскія Яры. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарогах, якія адыходзяць ад Мазыра. 1289 гаспадарак, 3862 жыхары (2004 г.).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 18 ст. як сяло ў Мазырскім пав. Мінскага



*Узорны ансамбль «Чыпаліна» Козенскай дзіцячай музычнай школы.*



Будынак Козенскай дзіцячай музычнай школы.



А.М.Бароўскі.

ваяв. Інвентар 1724 г. называе засценак Казакенкі каля Мазыра (сучасная в. Козенкі). Пад 1776 г. пазначаны хут. Казакенкі. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. На атласе 1800 г. пазначана як засценак каля Мазыра. Пад 1879 г. значыцца ў ліку сёл Мазырскага царк. прыхода. Паводле перапісу 1897 г. 85 двароў, 497 жыхароў. З уводам у дзеянне ў 1916 г. чыгункі Жлобін—Оўруч пачала дзейнічаць чыг. станцыя. У 1925 г. 127 двароў. У 1930 г. арганізаваны калгас «Чырвоная зара», працавала кузня. Мелася пач. школа (у 1935 — 88 вучняў). У Вял. Айч. вайну ў 1942 г. склалася падп. патрыятычная арганізацыя, якая аб'ядноўвала 10 чал. і вяла актыўную прапагандысцкую і дыверсійную работу. Вызвалена 11.1.1944 г. У баях за вёску загінулі 24 воіны (пахаваны ў брацкай магіле на могілках). На франтах і ў партыз. барацьбе загінулі 193 жыхары вёсак Козенскага с/с, памяць аб якіх увекавечвае стэла, пастаўленая ў 1982 г. ў цэнтры вёскі. Паводле перапісу 1959 г. 1096 жыхароў. Цэнтр калгаса «Радзіма». Дзейнічаюць райаграпрамтэхніка, райаграпрамэнерга, аграхімлабараторыя, сярэдняя, спарт. і муз. школы, клуб, б-ка, дзіцячы сад, раённая дзіцячая б-ка, аддз. сувязі, магазін. У 1997 г. пабудаваны фізкультурна-спарт. комплекс (футбольнае поле, валейбольная і баскетбольная пляцоўкі, гумавая бегавая дарожка 400 м, спарт. і атлетычныя залы). Планіровачна складаецца з 3 крывалінейных кароткіх вуліц блізкай да мерыдыянальнай арыентацыі, перакрыжаваных 2 кароткімі, крыху выгнутымі вуліцамі. Забудова двухбаковая, мураваная і драўляная, сядзібнага тыпу. Узводзяцца і шматпавярховыя жылыя дамы. Адна з вуліц носіць імя Героя Сав. Саюза М.В.Мураўёва (ураджэнца в. Нароўшчына). Побач з вёскай залежы пясчана-жвіровага матэрыялу.

**КРУШНІКІ** — вёска ў Асавецкім с/с, за 43 км на З ад Мазыра, 40 км ад чыг. ст. Муляраўка (на лініі Калінкавічы—Лунінец), 175 км ад Гомеля, на р. Скалодзіна (прыток р. Прыпяць). Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Мазыр—Лельчыцы. 59 гаспадарак, 117 жыхароў (2004 г.).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 19 ст. як вёска ў Слабода-Скрыгалаўскай вол. Мазырскага пав. Паводле перапісу 1897 г. 20 двароў, 181 жыхар. У 1908 г. 44 двары, 290 жыхароў. У 1917 г. 397 жыхароў. У 1923 г. адкрыта школа, якая размяшчалася ў наёмнай сял. хаце. У 1931 г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У 1940 г. 72 двары. У Вял. Айч. вайну ў чэрв. 1943 г. ням. акупанты поўнасцю спалілі вёску і загубілі 5 жыхароў. 31 вясковец загінуў на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 497 жыхароў. У складзе саўгаса «Асавец» (цэнтр — в. Асавец). Дзейнічаюць Зялёнамохаўскае лясніцтва, клуб, пач. школа, б-ка, фельч.-акушэрскі пункт. Планіровачна складаецца з 2 крывалінейных, паралельных паміж сабой вуліц, арыентаваных шыротна. Забудова двухбаковая, драўляная, сядзібнага тыпу. Радзіма бел. пісьменніка А.М.Бароўскага.

**КРЫНІЧНАЯ ГРАДА** — вёска ў Асавецкім с/с, за 53 км на З ад Мазыра, 20 км ад чыг. ст. Муляраўка (на лініі Калінкавічы—Лунінец), 187 км ад Гомеля. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Петрыкаў—Пціч. 4 гаспадаркі, 6 жыхароў (2004 г.).

Па пісьмовых крыніцах вядома з пач. 20 ст. У 1917 г. 15 двароў. У 1931 г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У 1940 г. 29 двароў, 88 жыхароў. У Вял. Айч. вайну ў

снеж. 1942 г. ням. акупанты поўнасцю спалілі вёску. У баях каля вёскі ў 1941 і 1944 гг. загінулі 36 воінаў (пахаваны ў брацкай магіле на паўд.-зах. ускраіне). 8 вяскоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 101 жыхар. У складзе саўгаса «Асавец» (цэнтр — в. Асавец). Забудова бессістэмная. Сял. драўляныя сядзібы пастаўлены каля прасёлачнай дарогі.

**КРЫНІЧНЫ** — пасёлак, цэнтр Крынічнага с/с, за 9 км на Пд ад Мазыра, 8 км ад чыг. ст. Козенкі (на лініі Калінкавічы—Оўруч), 142 км ад Гомеля. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарогах, якія адыходзяць ад Мазыра. 519 гаспадарак, 1560 жыхароў (2004 г.).

З'явіўся ў 1970-я г. ў сувязі з узвядзеннем прамысл. вузла і перасяленнем жыхароў вёсак Кустаўніца (1978) і Міхалкі (1992) на новае месца жыхарства. У 1976 г. сюды з Калінкавіцкага р-на перабазіравалася і Палеская с.-г. доследная станцыя. З 11.6.1980 г. цэнтр Крынічнага с/с. Цэнтр эксперыментальнай базы «Крынічная» і саўгаса-камбіната «Зара». Працуюць клуб, сярэдняя і муз. школы, фельч.-акушэрскі пункт, дзіцячы сад-яслі, Палеская с.-г. доследная станцыя, аддз. сувязі. Планіровачна складаецца з кароткіх вуліц шыротнай і блізкіх да мерыдыянальнай арыентацый. Забудова двухбаковая, мураваная. На паўн.-зах. ускраіне 3 вял. валуны ледніковага паходжання — «Каменныя быкі», якія з'яўляюцца помнікамі прыроды мясц. значэння. Радзіма акадэміка Нац. АН Беларусі, доктара біял. навук, прафесара, засл. дзеяча навук Беларусі П.Ф.Ракіцкага (былая в. Кустаўніца).



У склад Крынічнага с/с (былога Бібікаўскага) уваходзілі да 1962 г. вёскі Малая Лубня, Сядзельнікі (не існуюць).



*П.Ф.Ракіцкі.*

**ЛЕТАВІШЧА** — вёска ў Асавецкім с/с, за 47 км на З ад Мазыра, 24 км ад чыг. ст. Муляраўка (на лініі Гомель—Лунінец), 180 км ад Гомеля, на р. Крапіўная (прыток р. Скалодзіна). Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Астражанка—Скрыгалава. 12 гаспадарак, 20 жыхароў (2004 г.).

Па пісьмовых крыніцах вядома з канца 19 ст. як сяло ў Мазырскім пав. Паводле перапісу 1897 г. 3 двары, 15 жыхароў. У 1917 г. 29 жыхароў, у Скрыгалаўскай вол. Мазырскага пав. У 1932 г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У 1940 г. 19 двароў, 80 жыхароў. У Вял. Айч. вайну ў ліп. 1943 г. ням. акупанты поўнасцю спалілі вёску і загубілі 12 жыхароў. 5 вяскоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 133 жыхары. У складзе саўгаса «Асавец» (цэнтр — в. Асавец). Планіровачна складаецца з прамалінейнай мерыдыянальнай вуліцы, да якой на Пн далучаецца завулак. Забудова драўляная, сядзібнага тыпу.

*Каменныя валы каля пас. Крынічны.*

**ЛЕШНЯ** — вёска ў Скрыгалаўскім с/с, за 37 км на З ад Мазыра, 14 км ад чыг. ст. Пціч (на лініі Гомель—Лунінец), 168 км ад Гомеля, непадалёку штучны вадаём, на поўдні мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Гомель—Лунінец. 104 гаспадаркі, 208 жыхароў (2004 г.).

Выяўлены археолагамі курганны могільнік 10—12 ст. (40 насыпаў, 1,5 км на У ад вёскі) сведчыць пра засяленне тутэйшых мясцін у далёкай старажытнасці, а знойдзены ў вёсцы ў 1907 г. манетны скарб датуецца 1651 г. Па пісьмовых

крыніцах вядома з пач. 18 ст. як вёска ў Мазырскім пав. Мінскага ваяв. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1795 г. 48 двароў, 338 жыхароў. Пад 1799 г. упамінаецца ў сувязі з дзейнасцю Скрыгалаўскай царквы. Паводле інвентару 1848 г. вёска і фальварак у складзе маёнтка Скрыгалаў, уладанне памешчыцы Снядэцкай. У 1883 г. пабудавана капліца. Паводле перапісу 1897 г. 87 двароў, 545 жыхароў, капліца. У фальварку працавала лесапільня. У 1905 г. збудавана памяшканне і пачала дзейнічаць школа. Мелася цагельня. У 1917 г. 876 жыхароў, у Скрыгалаўскай вол. Мазырскага пав. Мінскай губ. У выніку пагрому, які ўчынілі польскія акупанты 31.7.1920 г., загінулі 11 жыхароў. У 1923 г. арганізавана с.-г. арцель «Чырвоная зорка». У 1925 г. 150 двароў. У 1930 г. арганізаваны калгас, працавалі вадзяны млын і ваўначоска. У 1940 г. 245 двароў. У Вял. Айч. вайну ў ліп. 1943 г. ням. акупанты спалілі 233 двары і загубілі 21 жыхара. 121 вясковец загінуў на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 748 жыхароў. У 1962 г. далучана в. Лясная. У складзе калгаса «Дружба» (цэнтр — в. Скрыгалаў). Працуюць цагельня, лясніцтва, 9-гадовая школа, клуб, б-ка, дзіцячы сад, фельч.-акушэрскі пункт, аддз. сувязі. Планіровачна складаецца з 2 прамалінейных, паралельных паміж сабой вуліц блізкай да мерыдыянальнай арыентацыі, забудаваных двухбакова драўлянымі сял. сядзібамі. Радзіма генералаў С.І.Ганчара і В.С.Пузана. Побач прамысл. залежы цагельнай сыравіны (0,8 млн. м$^3$).

**ЛУБНЯ** — вёска ў Крынічным с/с, за 4 км на У ад раённага цэнтра і чыг. ст. Мазыр (на лініі Калінкавічы—Оўруч), 133 км ад Гомеля, на р. Закаванка (прыток р. Прыпяць). Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Гомель—Лунінец. 22 гаспадаркі, 32 жыхары (2004 г.).

Выяўленыя археолагамі паселішчы эпохі мезаліту (за 1 км на ПнУ ад вёскі, ва ўрочышчы Лысая Гара) і паселішча эпохі неаліту і бронз. веку (за 0,5 км на З ад вёскі) сведчаць пра засяленне тутэйшых мясцін у глыбокай старажытнасці. Па пісьмовых крыніцах вядома з 19 ст. як вёска ў Мазырскім пав. Мінскай губ. Пад 1879 г. пазначана як хутар у Мазырскім царк. прыходзе. Паводле перапісу 1897 г. хут. Лубня (ён жа Слабодка), 24 двары, 157 жыхароў. У 1925 г. 56 двароў. У 1930 г. арганізаваны калгас «Чырвоны жывёлавод», працавала кузня. Дзейнічала пач. школа (у 1935 — 32 вучні). У 1940 г. 60 двароў, 320 жыхароў. У Вял. Айч. вайну ў чэрв. 1943 г. ням. акупанты спалілі 59 двароў і загубілі 3 жыхароў. Вызвалена 12.1.1944 г. 21 вясковец загінуў на фронце. Паводле перапісу 1959 г. ў в. Вялікая Лубня 145, у в. Малая Лубня 19 жыхароў. У 1962 г. гэтыя вёскі аб'ядналіся ў адну — в. Лубня. У складзе эксперыментальнай базы «Крынічная» (цэнтр — пас. Крынічны). Планіровачна складаецца з кароткай прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ і забудаванай аднабакова, рэдка драўлянымі сял. сядзібамі.

**ЛУЧАЖЭВІЧЫ** — вёска ў Козенскім с/с, за 3 км на ПнЗ ад раённага цэнтра і чыг. ст. Мазыр (на лініі Калінкавічы—Оўруч), 135 км ад Гомеля. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарогах, якія адыходзяць ад Мазыра. 106 гаспадарак, 295 жыхароў (2004 г.).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 18 ст. як вёска ў Мазырскім старостве. Пад 1724 г. пазначана ў інвентары г. Мазыр. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1795 г. 22 двары. У 1879 г. сяло ў Скрыгалаўскім царк. прыходзе. Паводле перапісу 1897 г. 25 двароў, 145 жыхароў, хлебазапасны магазін. У 1901 г. пачала дзейнічаць паравая лесапільня. У 1908 г. 30 двароў, 222 жыхары, у Слабода-Скрыгалаўскай вол. Мазырскага пав. Мінскай губ. У 1925 г. 49 двароў. У 1932 г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. Дзейнічала пач. школа (у 1935 — 67 вучняў). У Вял. Айч.

вайну 32 вяскоўцы загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 429 жыхароў. У складзе калгаса «Радзіма» (цэнтр — в. Козенкі). Працуюць клуб, б-ка, пач. школа, фельч.-акушэрскі пункт. Планіровачна складаецца з крыху выгнутай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ, уздоўж ракі, ад якой на Пд адыходзяць 5 завулкаў. Забудова драўляная, сядзібнага тыпу.

**ЛЯХАЎЦЫ** — вёска ў Міхалкаўскім с/с, за 29 км на Пд ад Мазыра, 159 км ад Гомеля, 2 км ад чыг. ст. Мытва (на лініі Калінкавічы—Оўруч), на Пд мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, затым аўтадарозе Мазыр—Новая Рудня. 14 гаспадарак, 21 жыхар (2004 г.).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 19 ст. як вёска ў Мазырскім пав. Мінскай губ. У 1870 г. 25 рэвізскіх душ. Паводле перапісу 1897 г. 24 двары, 137 жыхароў. У 1908 г. 27 двароў, 184 жыхары, у Міхалкаўскай вол. У 1925 г. 37 двароў. У 1931 г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну 19 вяскоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 118 жыхароў. Цэнтр Мазырскай птушкафабрыкі, у складзе саўгаса «Мазырскі» (цэнтр — в. Рудня). Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ, да цэнтра якой далучаецца з З кароткая прамалінейная вуліца. Забудова двухбаковая, рэдкая, драўляная, сядзібнага тыпу.

**МАЙСЕЕЎКА** — вёска ў Слабадскім с/с, за 19 км на У ад Мазыра, 13 км ад чыг. ст. Козенкі (на лініі Калінкавічы—Оўруч), 152 км ад Гомеля, непадалёку невял. вадаём. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, затым аўтадарозе Мазыр—Лельчыцы. 102 гаспадаркі, 210 жыхароў (2004 г.).

Выяўленае археолагамі гарадзішча мілаградскай культуры і эпохі Кіеўскай Русі (за 2 км на З ад вёскі) сведчыць аб засяленні тутэйшых мясцін у глыбокай старажытнасці. Па пісьмовых крыніцах вядома з пач. 19 ст. Пазначана на карце Мінскай губ. таго часу. У 1834 г. 23 двары, 151 жыхар. У 1847 г. ў складзе маёнтка Прудок, уладанне Ляневічаў. У 1869 г. 167 жыхароў. Паводле перапісу 1897 г. 55 двароў, 383 жыхары, капліца, заезны дом. Апрача земляробства 15 вяскоўцаў займаліся бандарным промыслам. У 1908 г. 64 двары, 454 жыхары, у Слабада-Скрыгалаўскай вол. Мазырскага пав. У 1917 г. 554 жыхары, у Слабадской вол. У 1924 г. 103 двары. У 1930 г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У 1940 г. 109 двароў. У Вял. Айч. вайну ў жн. 1943 г. ням. акупанты поўнасцю спалілі вёску і загубілі 62 жыхароў. 53 вяскоўцы загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 700 жыхароў. У складзе калгаса імя У.І.Леніна (цэнтр — в. Слабада). Дзейнічаюць лясніцтва, швейная майстэрня, 9-гадовая школа, Дом культуры, б-ка, дзіцячы сад, аддз. сувязі, магазін. Планіровачна складаецца з 2 паралельных паміж сабой вуліц мерыдыянальнай арыентацыі, да якіх з ПнУ далучаецца кароткая вуліца. Забудова двухбаковая, драўляная, сядзібнага тыпу. На Пн у 1990-я г. муравамі дамамі забудавана новая вуліца для перасяленцаў з радыяцыйна забруджаных месц. Побач маюцца залежы торфу.

**МАЛЫ БОКАЎ** — вёска ў Міхалкаўскім с/с, за 26 км на ПдЗ ад Мазыра, 156 км ад Гомеля, 1 км ад чыг. ст. Мытва (на лініі Калінкавічы—Оўруч), на р. Мытва (прыток р. Прыпяць). Транспартныя су-



*Хата, накрытая чаротам, у в. Бокаў. Пач. 20 ст.*

вязі па прасёлачнай, затым аўтадарозе Мазыр—Новая Рудня. 49 гаспадарак, 101 жыхар (2004 г.).

Па пісьмовых крыніцах вядома з пач. 18 ст., калі перасяленцы з в. Бокаўшчына заснавалі новае сяло і назвалі яго Малы Бокаў. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1795 г. 15 двароў, 152 жыхары. Побач была рудня Малога Бокава. У 1834 г. 23 двары, 140 жыхароў. Дваранін Лянкевіч меў у вёсцы ў 1864 г. 2560 дзес. зямлі і карчму. Паводле перапісу 1897 г. вёска (52 двары, 297 жыхароў, хлебазапасны магазін) і сядзіба (1 двор, 27 жыхароў, вадзяны млын, майстэрня па апрацоўцы скур), у Каралінскай вол. Мазырскага пав. Мінскай губ. У 1905 г. адкрыта школа, якая размяшчалася ў наёмнай сял. хаце, а ў пач. 1920-х г. ёй быў выдзелены нацыяналізаваны будынак. У 1908 г. 56 двароў, 336 жыхароў, у Міхалкаўскай вол. Мазырскага пав. У 1925 г. 94 двары. У 1930 г. арганізаваны калгас «Крыніца камунізму», працавала кузня. Паводле перапісу 1959 г. 303 жыхары. У складзе саўгаса «Мазырскі» (цэнтр — в. Рудня). Працуе клуб. Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ, да якой з З далучаюцца 2 кароткія прамалінейныя вуліцы. Забудова двухбаковая, драўляная, сядзібнага тыпу.

**МАЛЫЯ ЗІМОВІШЧЫ** — вёска ў Слабадскім с/с, за 15 км ад Мазыра, 1 км ад чыг. ст. Козенкі (на лініі Калінкавічы—Оўруч), за 148 км ад Гомеля. Транспартныя сувязі па прасёлачнай і далей аўтадарозе Калінкавічы—Лельчыцы. 131 гаспадарка, 339 жыхароў (2004 г.).

Па пісьмовых крыніцах вядома з пач. 18 ст., калі в. Зімовішчы падзялілася на 2 — Вялікія Зімовішчы і Малыя Зімовішчы, у Мазырскім пав. Мінскага ваяв. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1795 г. 22 двары, 102 жыхары. Побач была капліца. У 1834 г. 29 двароў. У 1850 г. 36 двароў, уладанне Яленскіх. У 1869 г. 199 жыхароў. Дваранін Наркускі ў 1874 г. меў тут 1508 дзес. зямлі і вадзяны млын. Вялікі зямельны ўчастак мелі ў 1880-я г. памешчыкі Крукоўскія. Пад 1879 г. пазначана як сяло ў Скрыгалаўскім царк. прыходзе. Паводле перапісу 1897 г. вёска (67 двароў, 413 жыхароў, хлебазапасны магазін) і сядзіба (2 двары, 11 жыхароў, вадзяны млын). У 1908 г. 446 жыхароў, у Слабода-Скрыгалаўскай вол. Мазырскага пав. У 1917 г. 552 жыхары, у Слабадской вол. Дзейнічала школа, якая размяшчалася ў наёмнай сял. хаце. У 1925 г. 109 двароў. У 1930 г. арганізаваны калгасы «Кастрычніцкая Беларусь» і імя С.М.Будзённага, працавала кузня. У пач. школе ў 1935 г. было 180 вучняў. У 1940 г. 126 двароў. У Вял. Айч. вайну ў чэрв. 1943 г. ням. акупанты поўнасцю спалілі вёску і загубілі 19 жыхароў. 36 вяскоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 586 жыхароў. У складзе калгаса імя М.В.Фрунзе (цэнтр — в. Вялікія Зімовішчы). Працуюць клуб, б-ка. Планіровачна складаецца з дугападобнай, працяглай і амаль паралельнай да яе кароткай вуліц, арыентаваных з ПдЗ на ПнУ і забудаваных двухбакова драўлянымі сял. сядзібамі.



*Этнаграфічны музей у сельскім клубе ў в. Малыя Зімовішчы.*

**МАТРУНКІ** — вёска ў Крынічным с/с, за 7 км на Пд ад Мазыра, 5 км ад чыг. ст. Козенкі (на лініі Калінкавічы—Оўруч), 140 км ад Гомеля. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, затым аўтадарогах, якія адыходзяць ад Мазыра. 46 гаспадарак, 79 жыхароў (2004 г.).

Знойдзены ў вёсцы манетны скарб адносіцца да 1789 г., што сведчыць пра

дзейнасць тут чалавека ў гэты час. Па пісьмовых крыніцах вядома з пач. 19 ст. як сяло ў Мазырскім пав. На атласе 1800 г. пазначана як хутар непадалёку ад Мазыра. У 1870 г. 43 рэвізскія душы. Пад 1879 г. сяло ў Мазырскім царк. прыходзе. У 1885 г. адкрыта царк.-прыходская школа, якая размяшчалася ў наёмнай сял. хаце. Паводле перапісу 1897 г. 70 двароў, 439 жыхароў. У 1925 г. 105 двароў. У 1930 г. арганізаваны калгас «Камінтэрн», працавала кузня. Дзейнічала пач. школа (у 1935 — 73 вучні). У Вял. Айч. вайну 58 вяскоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 465 жыхароў. У складзе калгаса імя Ф.Э. Дзяржынскага (цэнтр — в. Тварычаўка). Працуе 9-гадовая школа. Планіровачна складаецца з дугападобнай мерыдыянальнай вуліцы, да якой на Пн далучаецца невял. ўчастак забудовы. Жылыя дамы драўляныя, сядзібнага тыпу.

**МАХНАВІЧЫ** — вёска, цэнтр Махнавіцкага с/с, за 40 км на ПдЗ ад Мазыра, 30 км ад чыг. ст. Ельск (на лініі Калінкавічы—Оўруч), 173 км ад Гомеля, на аўтадарозе Лельчыцы—Мазыр, на У і Пн Высока-Махнавіцкі канал і штучны вадаём. 308 гаспадарак, 752 жыхары (2004 г.).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 16 ст. Пазначана ў попісе войска ВКЛ пад 1567 г. Некаторы час была ва ўладанні езуітаў, затым казны і ў 1777 г. прададзена віленскаму біскупу І.Масальскаму. Пазначана на карце Мінскага ваяв. пач. 18 ст. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1834 г. 40 двароў, уладанне памешчыка Рудзеўскага. Сяляне часта скардзіліся ў розныя ўстановы на абцяжарванне паншчынай. У 1866 г. 397 жыхароў, царква. У 1886 г. 61 двор, 467 жыхароў, у Буйнавіцкай вол. Праз сяло праходзіў тракт з Мазыра ў Пінск. Побач у 1880 г. была збудавана вузкакалейка (цяглавая сіла — коні) для вывазу лесу на прыстань Балажэвічы. Паводле перапісу 1897 г. 114 двароў, 589 жыхароў, хлебазапасны магазін, карчма. Апрача земляробства вяскоўцы займаліся бандарным промыслам. У 1904 г. адкрыта школа, для якой у 1905 г. ўзведзены ўласны будынак. У 1908 г. 118 двароў, 1019 жыхароў, у Мялешкавіцкай вол. Мазырскага пав. 21.11. 1920 г. ў баі каля вёскі часці Чырв. Арміі разграмілі атрады С.Н.Булак-Балаховіча і ўзялі ў палон 300 легіянераў. На працягу 1917—20 гг. сяло было расселена і ўтварыліся хутары Нічыпараўшчына, Казлы, Палетак, Хацемля, Калодніца, Рубезкі, Слінцы, Гарохаўка, Кірылаўка, Верхулессе, Гарадзец, Ягаднае, Анісімаўка, Навусце, Гараваха, Халява, Вуські Брод, Гай, Рэчыца, Забалоцце, Гліннае, Цёмныя Грады, Загрузкае Балота, Горнае, Падкружэнне, Слепча. З 20.8.1924 г. цэнтр Махнавіцкага с/с Мазырскага, з 5.10.1926 г. Слабадскога, з 4.8.1927 г. Каралінскага, з 5.2.1931 г. Ельскага, з 25.12.1962 г. Мазырскага р-наў Мазырскай (да 26.7.1930 і з 21.6.1935 да 20.2. 1938) акругі, з 20.2.1938 г. Палескай, з 8.1.1954 г. Гомельскай вобл. У 1930 г. арганізаваны калгас «Прамень Кастрычніка», працавала кузня. У 1940 г. 197 двароў. У Вял. Айч. вайну ў жн. 1941 г. быў створаны Махнавіцкі партыз. атрад (камандзір Я.Ф.Ганчарэнка, камісар Д.Д. Пярлоў). Ням. акупанты 12.6.1943 г. спалілі вёску і загубілі 67 жыхароў з вёсак Махнавічы і Дзярбінка (пахаваны ў магіле ахвяр фашызму за 0,5 км на У ад вёс-



*Школьны этнаграфічны музей у в. Махнавічы.*

кі). У баях каля вёскі загінулі 9 воінаў і партызан (пахаваны ў брацкай магіле на могілках). На франтах і ў партыз. барацьбе загінулі 365 жыхароў Махнавіцкага с/с, памяць аб якіх увекавечвае стэла, пастаўленая ў 1976 г. каля Дома культуры. Паводле перапісу 1959 г. 717 жыхароў. Цэнтр калгаса «Прамень Кастрычніка». Дзейнічаюць лясніцтва, лесапільня, млын, швейная і шавецкая майстэрні, сярэдняя школа, Дом культуры, б-ка, фельч.-акушэрскі пункт, аптэка, дзіцячы сад, вет. пункт, аддз. сувязі, сталовая, 2 магазіны, школьны этнагр. музей. Планіровачна складаецца з 2 прамалінейных шыротных вуліц, перакрыжаваных 2 крывалінейнымі вуліцамі. Забудова двухбаковая, драўляная, сядзібнага тыпу. Паблізу вёскі залежы гліны і суглінкаў.

**МЕРАБЕЛЬ** — вёска ў Прудкоўскім с/с, за 6 км на ПнЗ ад раённага цэнтра і чыг. ст. Мазыр (на лініі Калінкавічы—Оўруч), 139 км ад Гомеля, на р. Тур (прыток р. Прыпяць). Транспартныя сувязі па прасёлачнай, затым аўтадарогах, якія адыходзяць ад Мазыра. 22 гаспадаркі, 28 жыхароў (2004 г.).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 18 ст. як в. Мірабелі ў Мінскім ваяв. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1795 г. 6 двароў, 33 жыхары. У 1816 г. 8 двароў. У 1847 г. ў складзе маёнтка Прудок. У 1869 г. 56 жыхароў. Паводле перапісу 1897 г. 26 двароў, 156 жыхароў, вадзяны млын, заезны дом. У 1925 г. 44 двары. У 1930 г. арганізаваны калгас «Праўда», працавалі вадзяны (з 1915) і нафтавы (з 1929) млыны. У Вял. Айч. вайну 24 вяскоўцы загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 234 жыхары. У складзе сортавыпрабавальнай станцыі «Прудок» (цэнтр — в. Прудок). Планіровачна складаецца з крывалінейнай мерыдыянальнай вуліцы, забудаванай двухбакова, няшчыльна драўлянымі сял. сядзібамі.

**МІЦЬКІ** — вёска ў Міхалкаўскім с/с, за 22 км на Пд ад Мазыра, 154 км ад Гомеля, 17 км ад чыг. ст. Козенкі (на лініі Калінкавічы—Оўруч), на аўтадарозе Мазыр—Нароўля, на Пн бярэ пачатак р. Салакуча (прыток р. Прыпяць). 54 гаспадаркі, 82 жыхары (2004 г.).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 16 ст. як сяло ў Мазырскім пав. Мінскага ваяв. ВКЛ. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1795 г. 3 двары. На плане 1864 г. адна вуліца, 28 двароў. Дваранка С.Г.Яблонская мела тут у 1889 г. 575 дзес. зямлі. Паводле перапісу 1897 г. в. Міцькі (76 двароў, 437 жыхароў, хлебазапасны магазін), хут. Малыя Міцькі (4 двары, 20 жыхароў) і сядзіба Міцькі (1 двор, 22 жыхары, вадзяны млын). У 1908 г. 460 жыхароў, у Міхалкаўскай вол. Мазырскага пав. У 1914 г. адкрыта школа, якая размяшчалася ў наёмнай сял. хаце. У 1917 г. ў в. Міцькі 50 жыхароў, у ваколіцы Міцькі Малыя 39, у сядзібе — 9 жыхароў. Няпростыя адносіны часам складваліся ў вяскоўцаў з памешчыкам Горватам, землі якога межавалі з землямі вяскоўцаў. У 1925 г. ў в. Вялікія Міцькі 110, на хут. Малыя Міцькі — 9 двароў. У 1926 г. арганізавана сельгасарцель. У канцы 1920-х г. гэтыя населеныя пункты аб'ядналіся ў адзін — в. Міцькі. У 1930 г. арганізаваны калгас «Новыя Міцькі», працавалі кузня і ваўначоска. У Вял. Айч. вайну 11.1.1944 г. вызвалена ад ням. акупацыі. 50 вяскоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 299 жыхароў. У складзе саўгаса «Мазырскі» (цэнтр — в. Рудня). Дзейнічаюць клуб, фельч.-акушэрскі пункт. Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ (па абодва бакі дарогі) і забудаванай драўлянымі сял. сядзібамі.

**МЛЫНОК** — вёска ў Каменкаўскім с/с, за 35 км на ПдЗ ад Мазыра, 162 км ад Гомеля, 21 км ад чыг. ст. Козенкі (на лініі Калінкавічы—Оўруч), на З меліярацыйны канал, на Пд і У мяжуе з лесам. Побач аўтадарога Мазыр—Лельчыцы. 14 гаспадарак, 28 жыхароў (2004 г.).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 19 ст. як сяло ў Мялешкавіцкай вол. Мазырскага пав. У 1870 г. 15 рэвізскіх душ. Паводле перапісу 1897 г. 3 двары, 28 жыхароў, конны млын. У 1908 г. 8 двароў, 38 жыхароў. У 1917 г. 49 жыхароў. У 1925 г. 16 двароў. У 1930 г. арганізаваны калгас «Новы будаўнік», працавала кузня. У 1940 г. 23 двары, 79 жыхароў. У Вял. Айч. вайну ў ліп. 1943 г. ням. акупанты поўнасцю спалілі вёску і загубілі 4 жыхароў. Вызвалена 11.1.1944 г. 9 вяскоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 75 жыхароў. У складзе саўгаса «Мазырская агародніннная фабрыка» (цэнтр — в. Каменка). Планіровачна складаецца з кароценькай вуліцы, блізкай да мерыдыянальнай арыентацыі. Забудова драўляная, сядзібнага тыпу.

**МОЛАЖАВА** — хутар у Крынічным с/с, за 15 км на Пд ад Мазыра, 147 км ад Гомеля, 10 км ад чыг. ст. Козенкі (на лініі Калінкавічы—Оўруч). Транспартныя сувязі па прасёлачнай, затым аўтадарозе Мазыр—Новая Рудня. 2 гаспадаркі, 6 жыхароў (2004 г.).

Засн. ў пач. 20 ст. перасяленцамі з суседніх вёсак. У 1917 г. 27 жыхароў, у Міхалкаўскай вол. Мазырскага пав. У 1932 г. хутаране ўступілі ў калгас. Паводле перапісу 1959 г. 47 жыхароў. У складзе эксперыментальнай базы «Крынічная» (цэнтр — пас. Крынічны). Драўляныя сял. сядзібы пастаўлены каля прасёлачнай дарогі.

**МЯЛЕШКАВІЧЫ** — вёска ў Каменкаўскім с/с, за 33 км на ПдЗ ад Мазыра, 162 км ад Гомеля, 18 км ад чыг. ст. Козенкі (на лініі Калінкавічы—Оўруч), на аўтадарозе Мазыр—Махнавічы, побач меліярацыйныя каналы. 223 гаспадаркі, 574 жыхары (2004 г.).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 1432 г. як маленькае сяло ў ВКЛ. У 16 ст. вёска на дарозе Мазыр—Тураў, уласнасць царквы. Па матэрыялах метрыкі караля Жыгімонта II Аўгуста ў 1568 г. сяло, 14 службаў, у Мазырскай вол. Пазначана на карце Мінскага ваяв. канца 17 — пач. 18 ст. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1795 г. 95 двароў, 620 жыхароў, Раства-Багародзіцкая царква (захоўваліся метрычныя кнігі з 1799). У 1820—30 гг. дзейнічала паташнае прадпрыемства. Праз сяло праходзіў тракт з Мазыра ў Пінск. У 1866 г. 749 жыхароў. У 1869 г. замест састарэлага збудаваны новы будынак царквы. У 1863 г. адкрыта нар. вучылішча, якое размяшчалася ў наёмнай сял. хаце, а ў 1897 г. для яго збудавана ўласнае памяшканне. Памешчык Шапелер меў тут у 1874 г. 22 706 дзес. зямлі і млын. Вялікім зямельным участкам валодала ў 1880-я г. графіня Е.Л.Ігнацьева. У 1885 г. 860 жыхароў, запалкавая фабрыка. Была цэнтрам воласці, у якую ў 1886 г. ўваходзілі 11 сёл з 226 дварамі. Паводле перапісу 1897 г. 292 двары, царква, малітоўны дом, нар. вучылішча, хлебазапасны магазін, конны млын, карчма. Мелася аддзяленне паштовай сувязі. У 1908 г. 1730 жыхароў. У чэрв. 1920 г. вёска была абрабавана і спалена польскімі легіянерамі. З 20.8.1924 г. да 6.2.1964 г. цэнтр Мялешкавіцкага с/с Мазырскага, з 5.10.1926 г. Слабадскога, з 4.8.1927 г. Каралінскага, з 5.2.1931 г. Ельскага, з 3.7.1939 г. Мазырскага р-наў Мазырскай (да 26.7.1930 і з 21.6.1935 да 20.2.1938) акругі, з 20.2.1938 г. Палескай, з 8.1.1954 г. Гомельскай вобл. У 1928 г. ЦВК Беларусі за актыўны ўдзел у грамадз. вайне і аднаўленні нар. гаспадаркі ўзнагародзіў вёску ордэнам Працоўнага Чырв. Сцяга БССР. У 1930 г. арганізаваны калгас «Пралетарый», працавалі ваўначоска,




*Мемарыяльная дошка на будынку сярэдняй школы ў в. Мялешкавічы аб узнагароджанні вёскі ордэнам Працоўнага Чырвонага Сцяга БССР у 1929.*

кузня, паравы млын, крупарушка. У 1940 г. 252 двары, 860 жыхароў. У Вял. Айч. вайну ў сак. 1943 г. ням. акупанты поўнасцю спалілі вёску і загубілі 80 жыхароў. У баях каля вёскі загінулі 17 воінаў і партызан (пахаваны ў брацкай магіле на могілках). З вайны не вярнуліся 155 вяскоўцаў. Паводле перапісу 1959 г. 970 жыхароў. Цэнтр саўгаса «Чырвоны сцяг». Дзейнічаюць сярэдняя школа, бальніца, клуб, б-ка, 3 магазіны, аддз. сувязі, дзіцячы сад, лясніцтва, падсобная гаспадарка Мазырскай трыкатажнай ф-кі імя Н.К.Крупскай. Планіровачна складаецца з 2 падзеленых аўтадарогай частак: заходняй (прамалінейная вуліца, раздвоеная на Пн і арыентаваная з ПдУ на ПнЗ) і ўсходняй (прамалінейная вуліца, блізкая да мерыдыянальнай арыентацыі з 2 завулкамі, якія далучаюцца з З). Забудова двухбаковая, драўляная, сядзібнага тыпу. Радзіма аднаго з арганізатараў і кіраўнікоў партыз. руху ў Вял. Айч. вайну ў Палескай вобл. А.Л. Жыльскага (быў камандзірам Мазырскай партыз. брыгады імя Аляксандра Неўскага).

**НАВІКІ** — вёска ў Козенскім с/с, за 6 км на Пд ад Мазыра, 6 км ад чыг. ст. Козенкі (на лініі Калінкавічы—Оўруч), 139 км ад Гомеля, на тэр. заказніка Мазырскія Яры, на р. Прыпяць (прыток р. Дняпро). Транспартныя сувязі па прасёлачнай, затым аўтадарогах, якія адыходзяць ад Мазыра. 151 гаспадарка, 370 жыхароў (2004 г.).

Знойдзены ў вёсцы ў 1961 г. манетны скарб адносіцца да 1-й чвэрці 18 ст., што сведчыць пра дзейнасць тут чалавека ў гэты час. Па пісьмовых крыніцах вядома з пач. 19 ст. як сяло ў Мазырскім пав. Мінскай губ. На атласе 1800 г. хутар паблізу Мазыра. У 1834 г. 19 двароў. Паводле перапісу 1897 г. 36 двароў, 187 жыхароў, хлебазапасны магазін. У 1908 г. 52 двары, 261 жыхар, у Міхалкаўскай вол. Мазырскага пав. Земская школа размяшчалася ў наёмнай сял. хаце. У 1925 г. 75 двароў. У 1930 г. арганізаваны калгас «Чырвоныя Навікі», працавала кузня. Дзейнічала пач. школа (у 1935 — 80 вучняў). У Вял. Айч. вайну 33 вяскоўцы загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 410 жыхароў. У складзе калгаса імя М.І.Калініна (цэнтр — в. Бабраняты). Працуюць станцыя па барацьбе з захворваннямі жывёлы, пач. школа, фельч.-акушэрскі пункт. Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ і забудаванай двухбакова, драўлянымі сял. сядзібамі.

**НАГОРНЫЯ** — вёска ў Козенскім с/с, за 6 км на Пд ад Мазыра, 6 км ад чыг. ст. Козенкі (на лініі Калінкавічы—Оўруч), 139 км ад Гомеля, на тэр. ландшафтнага заказніка Мазырскія Яры, на р. Прыпяць (прыток р. Дняпро). Транспартныя сувязі па прасёлачнай, затым аўтадарогах, якія адыходзяць ад Мазыра. 173 гаспадаркі, 443 жыхары (2004 г.).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 19 ст. як сяло ў Мазырскім пав. Мінскай губ. Паводле перапісу 1897 г. 11 двароў, 73 жыхары. У 1925 г. 28 двароў. У 1930 г. арганізаваны калгас «Чырвоная Беларусь», працавалі цагельня і кузня. У Вял. Айч. вайну 16 вяскоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 245 жыхароў. У складзе калгаса імя М.І.Калініна (цэнтр — в. Бабраняты). Дзейнічае рэабілітацыйна-аздараўляльны цэнтр Міністэрства надзвычайных сітуацый Рэспублікі Беларусь. Планіровачна складаецца з прамалінейнай мерыдыянальнай вуліцы, да якой з З далучаецца завулак. Забудова драўляная, шчыльная, сядзібнага тыпу. Паблізу вёскі залежы гліны.

**НАДАТКІ** — вёска ў Скрыгалаўскім с/с, за 33 км на З ад Мазыра, 16 км ад чыг. ст. Пціч (на лініі Гомель—Лунінец), 163 км ад Гомеля, на Пд і З мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, затым аўтадарозе Гомель—Лунінец. 47 гаспадарак, 78 жыхароў (2004 г.).

Выяўлены археолагамі курганны могільнік 10—11 ст. (12 насыпаў, за 2 км на

ПдЗ ад вёскі, ва ўрочышчы Мяшчанскае) сведчыць пра засяленне тутэйшых мясцін у далёкай старажытнасці. Па пісьмовых крыніцах вядома з пач. 20 ст. як сяло ў Скрыгалаўскай вол. Мазырскага пав. Мінскай губ. У 1917 г. 34 жыхары. Найб. актыўная забудова адносіцца да 1920-х г. У 1932 г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну 30 вяскоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 364 жыхары. У складзе калгаса «Дружба» (цэнтр — в. Скрыгалаў). Працуе клуб. Планіроўка квартальная, утворана 3 паралельнымі паміж сабой прамалінейнымі вуліцамі мерыдыянальнай арыентацыі, перакрыжаванымі 2 кароткімі прамалінейнымі шыротнымі вуліцамі. Забудова драўляная, сядзібнага тыпу.

**НАРОЎШЧЫЗНА** — вёска ў Козенскім с/с, за 4 км на З ад Мазыра, 137 км ад Гомеля, 1 км ад чыг. ст. Козенкі (на лініі Калінкавічы—Оўруч). Транспартныя сувязі па прасёлачнай, затым аўтадарогах, якія адыходзяць ад Мазыра. 73 гаспадаркі, 187 жыхароў (2004 г.).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 19 ст. як сяло ў Мазырскім пав. Мінскай губ. У 1870 г. 14 рэвізскіх душ. Паводле перапісу 1897 г. 16 двароў, 53 жыхары. У 1917 г. 120 жыхароў, у Слабадской вол. Мазырскага пав. У 1925 г. 24 двары. У 1929 г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. Дзейнічала пач. школа (у 1935 — 20 вучняў). У Вял. Айч. вайну 3 вяскоўцы загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 63 жыхары. У складзе калгаса «Радзіма» (цэнтр — в. Козенкі). Драўляныя сял. сядзібы пастаўлены каля прасёлачнай дарогі. Радзіма Герояў Савецкага Саюза М.У.Барысава і М.В.Мураўёва (яго імя носіць адна з вуліц в. Козенкі).

**НІЖНІ МЛЫНОК** — вёска ў Барбароўскім с/с, за 28 км на Пд ад раённага цэнтра, 31 км ад чыг. ст. Мазыр (на лініі Калінкавічы—Оўруч), 118 км ад Гомеля, на У мяжуе з воз. Старык. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, затым аўтадарозе Гомель—Лунінец. 9 гаспадарак, 13 жыхароў (2004 г.).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 18 ст. як вёска ў Мазырскім пав. Мінскага ваяв. У 1792 г. 9 дымоў. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1834 г. 11 двароў. Пад 1879 г. упамінаецца ў ліку сёл Барбароўскага царк. прыхода. У Вял. Айч. вайну 9 вяскоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1897 г. 15 двароў, 77 жыхароў. У 1930 г. арганізаваны калгас «Новы Млынок», працавала кузня. Паводле перапісу 1959 г. 111 жыхароў. У складзе калгаса «Серп і молат» (цэнтр — в. Барбароў). Планіровачна складаецца з бессістэмнай забудовы драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**НОВАЯ НІВА** — пасёлак у Барбароўскім с/с, за 28 км на ПдУ ад раённага цэнтра, 30 км ад чыг. ст. Мазыр (на лініі Гомель—Лунінец), 118 км ад Гомеля, на р. Прыпяць (прыток р. Дняпро), на З дуброва і хвойнік, якія з'яўляюцца помнікамі прыроды мясц. значэння. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, затым аўтадарозе Гомель—Лунінец. 6 гаспадарак, 7 жыхароў (2004 г.).

Знойдзены ў вёсцы ў 1957 г. манетны скарб (150 адзінак) адносіцца да 1654 г. і сведчыць пра дзейнасць тут чалавека ў старажытныя часы. Сучасны пасёлак засн. ў пач. 1920-х г. перасяленцамі з суседніх вёсак на былых памешчыцкіх землях. У 1932 г. пасялкоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну 11.1.1944 г. вызвалены ад ням. акупацыі. 9 пасялкоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 95 жыхароў. У складзе калгаса «Серп і молат» (цэнтр — в. Барбароў). Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ і забудаванай няшчыльна драўлянымі сял. сядзібамі.

**ПАДЛЯДЗІЧЫ** — вёска ў Махнавіцкім с/с, за 46 км на ПдЗ ад Мазыра, 25 км ад чыг. ст. Ельск (на лініі Калінкавічы—Оўруч), на У і З меліярацыйныя каналы. Транспартныя сувязі па прасёлач-





*М.У.Барысаў.*

*М.В.Мураўёў.*

най, затым аўтадарозе Лельчыцы—Мазыр. 16 гаспадарак, 36 жыхароў (2004 г.).

Па пісьмовых крыніцах вядома з пач. 20 ст. як сяло ў Мялешкавіцкай вол. Мазырскага пав. У 1908 г. 1 двор, 4 жыхары. На 1920-я г. прыходзіцца найб. актыўная забудова вёскі. У 1932 г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У 1940 г. 35 двароў, 158 жыхароў. У Вял. Айч. вайну ў ліп. 1943 г. ням. акупанты поўнасцю спалілі вёску і загубілі 3 жыхароў. 16 вяскоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 88 жыхароў. У складзе калгаса «Прамень Кастрычніка» (цэнтр — в. Махнавічы). Планіровачна складаецца з кароткай шыротнай вуліцы, да якой з Пд далучаецца крыху выгнутая вуліца.



*М.І.Шляга.*

**ПЕРАДАВЫ** — пасёлак у Барбароўскім с/с, за 30 км на ПдУ ад раённага цэнтра і чыг. ст. Мазыр (на лініі Гомель—Лунінец), 121 км ад Гомеля, на У мяжуе з воз. Бергут. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, затым аўтадарозе Гомель—Лунінец. 58 гаспадарак, 198 жыхароў (2004 г.).

Засн. ў пач. 1920-х г. перасяленцамі з суседніх вёсак на былых памешчыцкіх землях. У 1932 г. пасялкоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну 11.1.1944 г. вызвалены ад ням. акупацыі. 5 вяскоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 60 жыхароў. У складзе калгаса «Серп і молат» (цэнтр — в. Барбароў). Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, арыентаванай амаль мерыдыянальна і забудаванай двухбакова драўлянымі сял. сядзібамі.

**ПЕРАДРЭЙКА** — вёска ў Асавецкім с/с, за 38 км на З ад Мазыра, 14 км ад чыг. ст. Пціч (на лініі Гомель—Лунінец), 172 км ад Гомеля. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, затым аўтадарозе Гомель—Лунінец. 31 гаспадарка, 47 жыхароў (2004 г.).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 19 ст. як сяло ў Слабода-Скрыгалаўскай вол. Мазырскага пав. Мінскай губ. Пад 1879 г. упамінаецца ў складзе Скрыгалаўскага царк. прыхода. Паводле перапісу 1897 г. 26 двароў, 163 жыхары, вадзяны млын. У 1917 г. 243 жыхары. Дзейнічала школа, якая размяшчалася ў наёмнай сял. хаце. У 1925 г. 53 двары. У 1930 г. арганізаваны калгас «Чырвоная Перадрэйка», працавалі вадзяны млын і кузня. У 1940 г. 60 двароў, 285 жыхароў. У Вял. Айч. вайну ў ліп. 1943 г. ням. акупанты поўнасцю спалілі вёску і загубілі 42 жыхароў. 15.1.1944 г. партызаны вызвалілі вёску і ўтрымлівалі яе да падыходу часцей Чырв. Арміі. 21 вясковец загінуў на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 246 жыхароў. У складзе саўгаса «Асавец» (цэнтр — в. Асавец). Планіровачна складаецца з крывалінейнай шыротнай вуліцы. Забудова драўляная, сядзібнага тыпу. Радзіма ген.-палк. М.І.Шлягі.

**ПРАГРЭС** — пасёлак у Барбароўскім с/с, за 29 км на ПдУ ад раённага цэнтра і чыг. ст. Мазыр (на лініі Калінкавічы—Оўруч), 118 км ад Гомеля, на р. Прыпяць і мяжуе з воз. Доўгае. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, затым аўтадарозе Гомель—Лунінец. 18 гаспадарак, 32 жыхары (2004 г.).

Засн. ў 1920-я г. перасяленцамі з суседніх вёсак на былых памешчыцкіх землях. У 1932 г. пасялкоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну 11.1.1944 г. вызвалены ад ням. акупацыі. 12 пасялкоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 94 жыхары. У складзе калгаса «Серп і молат» (цэнтр — в. Барбароў). Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ, да якой на Пд далучаецца кароткая вуліца. Забудова двухбаковая, драўляная, сядзібнага тыпу.

**ПРАНЬКІ** — вёска ў Козенскім с/с, за 2 км на ПнЗ ад раённага цэнтра і чыг. ст. Мазыр (на лініі Калінкавічы—Оўруч), 135 км ад Гомеля, на р. Прыпяць (прыток р. Дняпра). Транспартныя сувязі па аўтадарогах, якія адыходзяць ад Мазыра. 58 гаспадарак, 125 жыхароў (2004 г.).

Вядома з пач. 19 ст. У атласе 1800 г. значыцца як хутар каля Мазыра. У 1875 г. 4 рэвізскія душы. У 1925 г. 32 двары. У 1931 г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну 16 вяскоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 214 жыхароў. У складзе калгаса «Радзіма» (цэнтр — в. Козенкі). Планіровачна складаецца з бессістэмнай забудовы каля прасёлачнай дарогі. Жылыя дамы драўляныя, сядзібнага тыпу.

**ПРОЎЦЮКІ** — вёска ў Міхалкаўскім с/с, за 23 км на Пд ад Мазыра, 18 км ад чыг. ст. Козенкі (на лініі Калінкавічы—Оўруч), 155 км ад Гомеля, на р. Салакуча (прыток р. Прыпяць) і аўтадарозе Мазыр—Нароўля. 22 гаспадаркі, 31 жыхар (2004 г.).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 18 ст. як вёска ў Мазырскім пав. Мінскага ваяв. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1795 г. 41 двор. У 1850 г. ва ўладанні памешчыка Горвата. Паводле перапісу 1897 г. 45 двароў, 216 жыхароў. Апрача земляробства 20 вяскоўцаў займаліся бандарным промыслам. У 1908 г. 47 двароў, 355 жыхароў. У 1921 г. адкрыта школа, якой быў перададзены нацыяналізаваны будынак. У 1930 г. арганізаваны калгас «Савецкі колас», працавала кузня. Паводле перапісу 1959 г. 220 жыхароў. У складзе саўгаса «Мазырскі» (цэнтр — в. Рудня). Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ і забудаванай рэдка драўлянымі сял. сядзібамі.

**ПРУДОК** — вёска, цэнтр Прудкоўскага с/с, за 9 км на З ад Мазыра, 6 км ад чыг. ст. Козенкі (на лініі Калінкавічы—Оўруч), 142 км ад Гомеля, на р. Тур (прыток р. Прыпяць). Транспартныя сувязі па прасёлачнай, затым аўтадарогах, якія адыходзяць ад Мазыра. 313 гаспадарак, 820 жыхароў (2004 г.).

Па пісьмовых крыніцах вядома з пач. 16 ст. як вёска ў Мазырскім пав. Мінскага ваяв. ВКЛ. Пад 1515 г. паведамляецца аб вёсцы ў «Геаграфічным слоўніку Каралеўства Польскага». Пазначана на геаграфічнай карце Мінскага ваяв. канца 17 — пач. 18 ст. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1795 г. 32 двары, 126 жыхароў. У 1834 г. 43 двары, 228 жыхароў. З 1869 г. дзейнічала царква. У 1876 г. дваранін Жудро меў у вёсках Прудок і Шарэйкі 443 дзес. зямлі, памешчык Кнобендорф — 180 дзес. зямлі, а дваранін Лянкевіч у вёсках Прудок і Хамічкі — 2985 дзес. зямлі і 2 карчмы. У 1885 г. 250 жыхароў, 2 вадзяныя млыны. Паводле перапісу 1897 г. 59 двароў, 384 жыхары, царква, хлебазапасны магазін, заезны двор. Побач была сядзіба (5 двароў, 20 жыхароў, царква, вадзяны млын). У 1905 г. адкрыта школа, якая размяшчалася ў наёмнай сял. хаце, а ў 1908 г. для яе збудаваны ўласны будынак. У 1908 г. ў вёсцы 62 двары, 466 жыхароў, у сядзібе 44 жыхары, у Слабода-Скрыгалаўскай вол. Мазырскага пав. У выніку пажару 28.4. 1909 г. згарэла 28 двароў. Салдаты запаснога палка ў 1914 г. разграмілі сядзібу памешчыцы Лянкевіч. У 1917 г. 577 жыхароў, у Слабадской вол. Мазырскага пав. У 1922 г. створана працоўная с.-г. арцель «Сілач». У 1925 г. 99 двароў. З 20.8.1924 г. цэнтр Прудкоўскага с/с Мазырскага, з 5.10.1926 г. Слабадскога, з 4.8.1927 г. Калінкавіцкага, з 27.9.1930 г. Мазырскага р-наў Мазырскай (да 26.7. 1930 і з 21.6.1935 да 20.2.1938) акругі, з 20.2.1938 г. Палескай, з 8.1.1954 г. Гомельскай вобл. У 1929 г. арганізаваны калгасы «Праўда» і «Х з'езд Саветаў», працавалі крухмальны з-д (з 1927), вятрак, крупарушка (з 1929), 2 кузні, кравецкая майстэрня. Пач. школа ў 1930-я г. ператворана ў 7-гадовую (у 1935 — 195 вучняў). У Вял. Айч. вайну 10.1.1944 г. вызвалена ад ням. акупацыі. У баях каля вёскі загінулі 59 воінаў (пахаваны ў брацкай магіле на могілках). 101 вясковец загінуў на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 837 жыхароў. Цэнтр Мазырскай дзярж. занальнай сортавыпрабавальнай станцыі «Прудок» і падсобнай

гаспадаркі дома-інтэрната інвалідаў. Дзейнічаюць падсобная гаспадарка «Сельгасхіміі», пладова-агароднінны з-д, млын, лесапільня, сярэдняя школа, Дом культуры, б-ка, дзіцячыя яслі-сад, фельч.-акушэрскі пункт, вет. ўчастак, аддз. сувязі, магазін. Планіровачна складаецца з працяглай прамалінейнай вуліцы, блізкай да мерыдыянальнай арыентацыі. Забудова двухбаковая, пераважна драўляная, сядзібнага тыпу. Паблізу вёскі залежы жалезняку і бурага вугалю.

**ПЯНЬКІ** — вёска ў Крынічанскім с/с, за 17 км на Пд ад Мазыра, 11 км ад чыг. ст. Козенкі (на лініі Калінкавічы—Оўруч), 150 км ад Мазыра, на Пд — 2 невял. вадаёмы. Побач аўтадарога Мазыр—Новая Рудня. 6 гаспадарак, 8 жыхароў (2004 г.).

Па пісьмовых крыніцах вядома з пач. 18 ст. як вёска ў Міхалкаўскай вол. Мазырскага пав. Пазначана на карце Мінскага ваяв. таго часу. Памешчыца Франкоўская мела ў вёсцы ў 1862 г. 40 дзес. зямлі. У 1870 г. 16 рэвізскіх душ. Пад 1879 г. упамінаецца ў ліку сёл Міхалкаўскага царк. прыхода. Паводле перапісу 1897 г. 31 двор, 166 жыхароў. У 1919 г. адкрыта школа, якая размяшчалася ў нацыяналізаваным будынку. У 1925 г. 44 двары. У 1930 г. арганізаваны калгас, працавала кузня. Дзейнічала пач. школа (у 1935 — 26 вучняў). У Вял. Айч. вайну 11.1.1944 г. вызвалена ад ням. акупацыі. 18 вяскоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 90 жыхароў. У складзе калгаса імя Ф.Э.Дзяржынскага (цэнтр — в. Тварычаўка). Планіровачна складаецца з кароткай шыротнай вуліцы, забудаванай рэдка драўлянымі сял. сядзібамі.

**РАЕЎСКІЯ** — вёска ў Козенскім с/с, за 6 км на Пд ад Мазыра, 7 км ад чыг. ст. Козенкі (на лініі Калінкавічы—Оўруч), 140 км ад Гомеля. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, затым аўтадарогах, якія адыходзяць ад Мазыра. 18 гаспадарак, 33 жыхары (2004 г.).

Па пісьмовых крыніцах вядома з пач. 18 ст. як сяло ў Мазырскім пав. Мінскай губ. Пазначана на карце Мінскага ваяв. 1800 г. У 1879 г. сяло ў Мазырскім царк. прыходзе. Паводле перапісу 1897 г. 15 двароў, 108 жыхароў. У 1925 г. 31 двор. У 1930 г. арганізаваны калгас «XIII Кастрычнік», працавала кузня. Дзейнічала пач. школа (у 1935 — 39 вучняў). У Вял. Айч. вайну 11.1.1944 г. вызвалена ад ням. акупацыі. 23 вяскоўцы загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 147 жыхароў. У складзе калгаса імя М.І.Калініна (цэнтр — в. Бабраняты). Працуе клуб. Планіровачна складаецца з кароткай прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ і забудаванай драўлянымі сял. сядзібамі. Радзіма аднаго з арганізатараў і кіраўнікоў партыз. руху на Гомельшчыне ў Вял. Айч. вайну ген.-м. І.М.Дзікана (быў камандзірам і камісарам 10-й Журавіцкай партыз. брыгады). Каля вёскі залежы каменнай солі (больш за 600 млн. т).



*І.М.Дзікан.*

**РАМАНАЎКА** — вёска ў Слабадскім с/с, за 26 км на ПдЗ ад Мазыра, 18 км ад чыг. ст. Козенкі (на лініі Калінкавічы—Оўруч), за 159 км ад Гомеля. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, затым аўтадарозе Мазыр—Лельчыцы. 155 гаспадарак, 335 жыхароў (2004 г.).

Знойдзены ў вёсцы ў 1962 г. манетны скарб 1-й чвэрці 19 ст. сведчыць аб дзейнасці тут чалавека з даўніх часоў. Пісьмовыя крыніцы паведамляюць пра існаванне вёскі з 18 ст., у Мазырскім пав. Мінскага ваяв. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1795 г. 26 двароў. У 1816 г. 84 жыхары. Паводле перапісу 1897 г. 58 двароў, 366 жыхароў, капліца, хлебазапасны магазін. У 1907 г. ўзведзены школьны будынак і пачала дзейнічаць школа. У 1908 г. 75 двароў, 430 жыхароў, у Мялешкавіцкай вол. У 1917 г. 535 жыхароў. У 1925 г. 104 двары. У 1930 г. арганізаваны калгас «Чырвоная Раманаўка». Дзейнічала пач. школа (у 1935 — 89 вучняў). У Вял. Айч. вайну ў вёсцы і навакольных лясах дыслацыравалася Мазырская партыз. брыгада імя Аляксандра Неўскага. У чэрв. 1942 г. ням. акупанты поўнасцю спалілі вёску і загубілі

23 жыхароў. Вызвалена 10.1.1944 г. 49 вяскоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 607 жыхароў. Цэнтр калгаса імя Н.К.Крупскай. Працуюць 9-гадовая школа, клуб, б-ка, фельч.-акушэрскі пункт, дзіцячы сад, аддз. сувязі, магазін, Музей партыз. славы. Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ, да якой на Пн далучаецца кароткая скрыўленая вуліца. Забудова двухбаковая, сядзібнага тыпу. У 1987 г. збудаваны мураваныя дамы на 50 сямей, у якіх размясціліся перасяленцы з забруджаных радыяцыяй месц пасля Чарнобыльскай катастрофы 1986 г., пераважна з в. Дворышча Нараўлянскага р-на.

**РУДНЯ** — вёска ў Слабадскім с/с, за 16 км на ПдЗ ад раённага цэнтра і чыг. ст. Мазыр (на лініі Калінкавічы—Оўруч), 149 км ад Гомеля. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, затым аўтадарозе Лельчыцы—Мазыр. 38 гаспадарак, 60 жыхароў (2004 г.).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 18 ст. як вёска ў Мазырскім пав. Мінскага ваяв. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1795 г. 17 двароў. Пад 1879 г. пазначана як сяло ў Мазырскім царк. прыходзе. Памешчык К.Б.Фон-Бок меў тут у 1889 г. 500 дзес. зямлі. Паводле перапісу 1897 г. в. Каменская Рудня, 28 двароў, 167 жыхароў, у Слабода-Скрыгалаўскай вол. Мазырскага пав. Мінскай губ. Са здачай у эксплуатацыю ў 1916 г. чыгункі Жлобін—Калінкавічы—Оўруч пачала дзейнічаць чыг. станцыя. У 1917 г. 104 жыхары, у Скрыгалаўскай вол. У чэрв. 1917 г. вяскоўцы прынялі рашэнне — «бясплатна забраць памешчыцкія, манастырскія, царкоўныя і іншыя землі». У 1925 г. 39 двароў. У 1929 г. арганізаваны калгас «Камінтэрн», працаваў вадзяны млын. Паводле перапісу 1959 г. 212 жыхароў. У 1962 г. да вёскі далучана в. Чарамашня. У складзе калгаса імя М.В. Фрунзе (цэнтр — в. Вялікія Зімовішчы). Планіровачна складаецца з прамалінейнай мерыдыянальнай вуліцы, да якой з Пд далучаецца кароткая, крыху выгнутая вуліца. Забудова рэдкая, драўляная, сядзібнага тыпу.




*Помнік расстраляным на дарозе Міхалкі—Рудня.*

**РУДНЯ** — вёска ў Скрыгалаўскім с/с, за 34 км на З ад Мазыра, 12 км ад чыг. ст. Пціч (на лініі Гомель—Лунінец), 167 км ад Гомеля, на У меліярацыйны канал, на З мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, затым аўтадарозе Гомель—Лунінец. 38 гаспадарак, 60 жыхароў (2004 г.).

Па пісьмовых крыніцах вядома з пач. 19 ст. як хут. Рудня Скрыгалаўская ў Мазырскім пав. Мінскай губ. Упамінаецца пад 1802 г. у сувязі з апісаннем дзейнасці Скрыгалаўскай царквы. Паводле перапісу 1897 г. 16 двароў, 76 жыхароў, вадзяны млын. У 1908 г. 108 жыхароў, у Слабода-Скрыгалаўскай вол. Мазырскага пав. У 1925 г. 28 двароў. У 1931 г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У 1940 г. 35 двароў, 125 жыхароў. У Вял. Айч. вайну ў чэрв. 1943 г. ням. акупанты

поўнасцю спалілі вёску і загубілі 8 жыхароў. 13 вяскоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 240 жыхароў. У складзе калгаса «Дружба» (цэнтр — в. Скрыгалаў). Працуюць вопытны лясгас і цагельна-чарапічны з-д. Планіровачна складаецца з кароткай вуліцы, блізкай да шыротнай арыентацыі, з 2 завулкамі. Забудова двухбаковая, драўляная, сядзібнага тыпу. Каля вёскі разведаныя запасы прамысл. гліны.

**РУДНЯ** — вёска ў Міхалкаўскім с/с, за 27 км на Пд ад Мазыра, 160 км ад Гомеля, на р. Мытва (прыток р. Прыпяць), чыг. ст. Мытва (на лініі Калінкавічы—Оўруч). Транспартныя сувязі па прасёлачнай, затым аўтадарозе Мазыр—Новая Рудня. 429 гаспадарак, 1116 жыхароў (2004 г.).

Па пісьмовых крыніцах вядома з пач. 19 ст. як вёска ў Мазырскім пав. У 1834 г. 4 сям'і. У 1870 г. 20 рэвізскіх душ. Паводле перапісу 1897 г. в. Новая Рудня (29 двароў, 199 жыхароў, школа граматы) і аднайменны фальварак (1 двор, 13 жыхароў, вадзяны млын, сукнавальня). У 1908 г. адкрыта царк.-прыходская школа, якая размяшчалася ў наёмнай сял. хаце. У 1925 г. 56 двароў. У 1931 г. арганізаваны калгас. У Вял. Айч. вайну 34 вяскоўцы загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 225 жыхароў. У сувязі з будаўніцтвам Мазырскага прамысл. комплексу ў в. Рудня ў 1992 г. былі пераселены жыхары з в. Міхалкі. Цэнтр саўгаса «Мазырскі». Дзейнічаюць лесапільня, млын, сярэдняя і муз. школы, Дом культуры, б-ка, дзіцячы сад, амбулаторыя, аддз. сувязі, магазін. Планіровачна складаецца з прамалінейных вуліц, арыентаваных з ПдУ на ПнЗ і забудаваных мураванымі і драўлянымі сядзібамі.

**РЭДЗЬКА** — вёска ў Прудкоўскім с/с, за 5 км ад раённага цэнтра і чыг. ст. Мазыр (на лініі Калінкавічы—Оўруч), 49 км ад Гомеля, на р. Тур (прыток р. Прыпяць). Транспартныя сувязі па прасёлачнай, затым аўтадарогах, якія адыходзяць ад Мазыра. 17 гаспадарак, 12 жыхароў (2004 г.).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 19 ст. як вёска ў Мазырскім пав. Мінскай губ. У 1850 г. 7 двароў. У 1970 г. 44 рэвізскія душы. Паводле перапісу 1897 г. 33 двары, 195 жыхароў, малітоўны дом, у Слабадской вол. У 1920 г. адкрыта школа, якая размяшчалася ў наёмнай сял. хаце. У 1925 г. 57 двароў. У 1931 г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну 11 вяскоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 62 жыхары. У складзе сортавыпрабавальнай станцыі «Прудок» (цэнтр — в. Прудок). Драўляныя сял. сядзібы пастаўлены рэдка ўздоўж прасёлачнай дарогі. Паблізу вёскі залежы жалезнякоў.

**САСНОВЫ** — пасёлак, з 19.3.1975 г. ў Каменкаўскім с/с. 232 гаспадаркі, 692 жыхары (2004 г.). Засн. ў 1960-я г. як пасёлак геолагаў. З 1967 г. тут працуе геафізічная экспедыцыя. Размешчаны клуб, фельч.-акушэрскі пункт, аддз. сувязі. Забудова мураваная.

**СВІРЫНАЎКА** — вёска ў Каменкаўскім с/с, за 24 км на ПдЗ ад Мазыра, 154 км ад Гомеля, 10 км ад чыг. ст. Козенкі (на лініі Калінкавічы—Оўруч), на У і З мяжуе з лесам, на Пд пачынаецца безымянная рака (прыток р. Мытва). Транспартныя сувязі па прасёлачнай, затым аўтадарозе Мазыр—Махнавічы. 20 гаспадарак, 41 жыхар (2004 г.).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 19 ст. як хут. Свірнішча ў Мялешкавіцкай вол. Мазырскага пав. Паводле перапісу 1897 г. 4 двары, 16 жыхароў. У 1925 г. 26 двароў. У 1931 г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну 15 вяскоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 155 жыхароў. У складзе саўгаса «Мазырская агародніннная фабрыка» (цэнтр — в. Каменка). Планіровачна складаецца з кароткай прамалінейнай мерыдыянальнай вуліцы, да якой на Пд далучаецца другая кароткая вуліца. Забудова двухбаковая, няшчыльная, драўляная, сядзібнага тыпу.

**СКАЛОДЗІН** — вёска ў Асавецкім с/с, за 50 км на З ад Мазыра, 20 км ад чыг. ст. Муляраўка (на лініі Калінкавічы—Лунінец), 181 км ад Гомеля, на р.

Скалодзіна (прыток р. Прыпяць), на Пд і З мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, затым аўтадарозе Гомель—Лунінец. 35 гаспадарак, 50 жыхароў (2004 г.).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 19 ст. як вёска ў Слабода-Скрыгалаўскай вол. Мазырскага пав. Пад 1879 г. упамінаецца ў ліку сёл Астражанскага царк. прыхода. Паводле перапісу 1897 г. 21 двор, 164 жыхары. У 1909 г. 188 жыхароў. У 1917 г. 265 жыхароў. У 1931 г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У 1940 г. 59 двароў. У Вял. Айч. вайну ў снеж. 1942 г. ням. акупанты поўнасцю спалілі вёску. 36 вяскоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 441 жыхар. У складзе саўгаса «Асавец» (цэнтр — в. Асавец). Працуе клуб. Планіровачна складаецца з крывалінейнай шыротнай вуліцы з завулкамі. Забудова двухбаковая, драўляная, сядзібнага тыпу. Каля вёскі залежы жалезнякоў.

**СКРЫГАЛАЎ** — вёска, цэнтр Скрыгалаўскага с/с, за 33 км на З ад Мазыра, 10 км ад чыг. ст. Пціч (на лініі Гомель—Лунінец), 166 км ад Гомеля. Праз вёску праходзіць меліярацыйны канал, злучаны на Пн з воз. Рэчышча. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, затым аўтадарозе Гомель—Лунінец. 313 гаспадарак, 747 жыхароў (2004 г.).

Выяўленыя археолагамі два курганныя могільнікі 10—13 ст. (11 насыпаў, за 2 км на Пд ад вёскі і 13 насыпаў, за 2 км ад вёскі, ва ўрочышчы Забуклявечча) сведчаць аб засяленні тутэйшых месц у далёкай старажытнасці. Па пісьмовых крыніцах вядома з 13 ст. 7.5.1497 г. крымскія татары забілі мітрапаліта кіеўскага і ўсяе Русі Макарыя, які ехаў праз вёску ў Кіеў (у 1794 пасвячоны ў сан святых, яго астанкі пакояцца ў Сафійскім саборы ў Кіеве, у 1897 г. да 400-годдзя яго гібелі ў цэнтры вёскі ўзведзена капліца, ва ўрочышчы Падселіца — абеліск). У «Геаграфічным слоўніку Каралеўства Польскага» пазначана пад 1515 г. як вёска ў Мазырскім пав. Мінскага ваяв. ВКЛ, велікакняжацкая ўласнасць. У 1552 г. 31 жыхар, у 1590 г. 14 дымоў. У 17 ст. належала Аскеркам. Знойдзены ў вёсцы ў 1925 г. манетны скарб (каля 200 манет Рэчы Паспалітай) адносіцца да 3-й чвэрці 17 ст. і сведчыць пра значныя гандл. сувязі жыхароў гэтых месц. Да 18 ст. каралеўскае ўладанне. З 1702 г. побач з вёскай працавала жал. рудня К.Аскеркі. 28.5.1782 г. граматай польскага караля Станіслава Аўгуста Панятоўскага дазволены 2 штогадовыя кірмашы і штотыднёвыя таргі. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1795 г. 70 двароў. З 1799 г. дзейнічала Мікалаеўская царква, якая ў 1872 г. згарэла і ў 1877 г. нанава адбудавана (драўляная, на мураваным падмурку), у 1885 г. перабудавана. Праз в. Скрыгалаў праходзіў тракт з Мазыра ў Давыд-Гарадок. Мелася паштовая станцыя. У 19 ст. непадалёку было с. Скрыгалаўская Слабада (у 1816 — 65 двароў), якое пазней аб'ядналася з мяст. Скрыгалаў. У 1847 г. 109 двароў, ва ўладанні графа Тышкевіча. Дзейнічалі прыстань і пераправа на р. Прыпяць. У 1858 г. ўзведзены школьны будынак і адкрыта школа. Была цэнтрам воласці (да 17.7.1924) Мазырскага пав., у якую ў 1885 г. ўваходзілі 26 сёл з 681 дваром. У 1863 г. каля вёс-



*Капліца ў гонар кіеўскага мітрапаліта свяшчэннамучаніка Макарыя ў в. Скрыгалаў.*

кі дзейнічалі паўстанцкія ўзбр. атрады. Вяскоўцы затрымалі выкладчыка Мазырскай гімназіі ксяндза Выганоўскага і былога вучня гімназіі Бародзіча, якія былі актыўнымі ўдзельнікамі паўстання. У 1866 г. 609 жыхароў. Памешчык Шаперлер меў у мястэчку і наваколлі ў 1874 г. 15 155 дзес. зямлі і паром. Вялікі зямельны ўчастак мела тут у 1880-я г. графіня Е.Л.Ігнацьева. Працавала паштова-тэлеграфная кантора. У выданні «Живописная Россия» характарызуецца яе беднае мястэчка. Паводле перапісу 1897 г. 137 двароў, 816 жыхароў, царква, малітоўны дом, нар. вучылішча, 8 крам, карчма, сельская б-ца. У 1908 г. 204 двары, 1284 жыхары. У маёнтку 12 жыхароў. З 1910 г. працавала лесапільня. У 1917 г. 1908 жыхароў. 9.11.1920 г. в. Скрыгалаў занялі атрады С.Н.Булак-Балаховіча і ўчынілі пагром, у выніку якога загінулі 8 жыхароў. У 1925 г. 359 двароў. З 20.8.1924 г. цэнтр Скрыгалаўскага с/с Мазырскага, з 5.10.1926 г. Слабадскога, з 4.8.1927 г. Петрыкаўскага, з 3.7.1939 г. Мазырскага р-наў Мазырскай (да 26.7.1930 і з 21.6.1936 да 20.2.1938) акругі, з 20.2.1938 г. Палескай, з 8.1.1954 г. Гомельскай вобл. У 1928 г. створаны саўгас «Ударнік», калгас «Праца», дзейнічалі цагельня (з 1927), кузня, кравецкая, шавецкая і кошыкавая майстэрні, паравы млын.



*М.П.Катлавец.*

У Вял. Айч. вайну ў ноч на 4.5.1943 г. партызаны разграмілі варожы гарнізон, які акупанты размясцілі ў вёсцы. Вызвалена 11.1.1944 г. У баі за вёску вызначыліся матросы Дняпроўскай ваен. флатыліі М.А.Сікорскі, Г.Г.Музафараў (удастоены звання Героя Сав. Саюза). 180 вяскоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 1294 жыхары. Цэнтр калгаса «Дружба». Дзейнічаюць хлебазавод, швейная і шавецкая майстэрні, сярэдняя школа, Дом культуры, 2 б-кі, дзіцячыя яслі-сад, б-ца, аптэка, вет. ўчастак, аддз. сувязі, сталовая, 3 магазіны, этнагр. музей. Планіровачна складаецца з 2 падзеленых каналам частак: паўночнай (прамалінейная вуліца, арыентаваная з ПдУ на ПнЗ) і паўднёвай (дугападобная вуліца шыротнай арыентацыі). Забудова двухбаковая, сядзібнага тыпу. У 1987—95 гг. узведзены мураваныя дамы на 110 сямей, у якіх размясціліся перасяленцы з забруджаных радыяцыяй месц пасля Чарнобыльскай катастрофы 1986 г. Новым вуліцам перасяленцы далі найменні сваіх былых вёсак Белы Бераг і Белабярэжская Рудня (Нараўлянскі р-н). Радзіма ген.-м. М.К.Пашкоўскага і Героя Сав. Саюза М.П.Катлаўца. Са свідравін каля вёскі атрыманы прамысл. прыток нафты.

У склад Скрыгалаўскага с/с уваходзіла да 1962 г. в. Лясная (не існуе).

**СЛАБАДА** — вёска, цэнтр Слабадскога с/с, за 19 км на З ад Мазыра, 13 км ад чыг. ст. Козенкі (на лініі Калінкавічы—Оўруч), 152 км ад Гомеля. На З дуброва, якая з'яўляецца помнікам прыроды мясц. значэння. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, затым аўтадарозе Лельчыцы—Мазыр. 365 гаспадарак, 843 жыхары (2004 г.).

Выяўлены археолагамі курганны могільнік 10—11 ст. (19 насыпаў, за 2 км на З ад вёскі, ва ўрочышчы Гарадок) сведчыць пра засяленне тутэйшых месц у далёкай старажытнасці. У 1961 г. ў вёсцы знойдзены манетны скарб (манеты Візантыі 11 ст., Чэхіі і Рэчы Паспалітай). Па пісьмовых крыніцах вядома з 17 ст. як вёска ў Мазырскім пав. Мінскага ваяв. Упамінаецца пад 1640 г. як казённая слабада. У 1755 г. на сродкі памешчыка Аскеркі пабудавана царква. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1795 г. сяло, 102 двары. Праз вёску праходзіў тракт з Мазыра ў Давыд-Гарадок. Мелася паштовая станцыя. Сяляне часта скардзіліся ў розныя інстанцыі на абцяжарванне паншчынай. У 1869 г. 519 жыхароў. У 1874 г. адкрыта школа, для якой у тым жа горадзе ўзведзены будынак. Побач была сядзіба памешчыка Снядэцкага, які валодаў тут у 1876 г. 4245 дзес. зямлі. У 1880 г. ўзведзены новы драўляны будынак царквы. Цэнтр воласці да 17.7.1924 г., у якую ў 1885 г. ўваходзілі 36 сёл з 681 дваром. Паводле перапісу 1897 г. 132

двары, 836 жыхароў, капліца, хлебазапасны магазін. З верасня 1900 г. дзейнічаў вінакурны з-д А.Снядэцкага. У 1908 г. 156 двароў, 1172 жыхары. У 1917 г. сяло (1218 жыхароў), в. Слабада Малая (308 жыхароў) і фальварак (137 жыхароў). На былых памешчыцкіх землях у 1919 г. быў створаны саўгас «Слабада». З 20.8.1924 г. цэнтр Слабадскога с/с Мазырскага, з 4.8.1927 г. Калінкавіцкага, з 27.9.1930 г. Мазырскага р-наў Мазырскай (да 26.7.1930 і з 21.6.1935 да 20.2. 1938) акругі, з 20.2.1938 г. Палескай, з 8.1.1954 г. Гомельскай вобл. У 1925 г. 218 двароў. З 3.10.1926 г. да 4.8.1927 г. цэнтр Слабадскога р-на, дзейнічала 7-гадовая школа (у 1935 — 475 вучняў). У 1929 г. арганізаваны калгасы «Слабада», «Чырвоны партызан», «Калгаснік Мазыршчыны». У 1930 г. побач з вёскай, у былым маёнтку, пачала дзейнічаць машынна-трактарная станцыя, працавалі 3 кузні, стальмашня, маслазавод. У Вял. Айч. вайну ў ліп. 1943 г. ням. карнікі часткова спалілі вёску і загубілі 25 жыхароў. У ноч на 30.8.1943 г. партызаны разграмілі гарнізон, які заснавалі акупанты ў вёсцы. Вызвалена 10.1.1944 г. У баях за вёску і наваколле загінулі 316 воінаў і партызан (пахаваны ў брацкай магіле на могілках). На франтах і ў партыз. барацьбе загінулі 169 вяскоўцаў, памяць аб якіх увекавечваюць скульптура воіна і стэла, пастаўленая ў 1970 г. на зах. ускраіне. У лютым 1944 г. адкрыты дзіцячы дом для дзяцей-сірот. Паводле перапісу 1959 г. 1409 жыхароў. Цэнтр калгаса імя У.І.Леніна. Размешчаны падсобная гаспадарка Мазырскай электрычнай сеткі, лясніцтва, лесапільня, млын, швейная і шавецкая майстэрні, сярэдняя школа, Дом культуры, б-ка, дзіцячы сад, б-ца, аптэка, вет. ўчастак, аддз. сувязі, сталовая, 4 магазіны. Планіровачна складаецца з 2 амаль паралельных паміж сабой вуліц шыротнай арыентацыі, якія далучаюцца на У да кароткай мерыдыянальнай вуліцы. Забудова двухбаковая, пераважна драўляная, сядзібнага тыпу. Частку вёскі займае новая мураваная забудова для перасяленцаў з забруджаных радыяцыяй месц пасля Чарнобыльскай катастрофы 1986 г. На паўн. ускраіне размешчаны гай карэльскай бярозы (каля 2 га, помнік прыроды). Радзіма акадэміка Нац. АН Беларусі, доктара фізіка-матэм. навук, прафесара, засл. дзеяча навук Беларусі У.А.Піліповіча, аднаго з арганізатараў і кіраўнікоў партыз. руху на Беларусі ў Вял. Айч. вайну І.Б.Гнядзько (быў камандзірам Асіповіцкай партыз. брыгады Магілёўскай вобл.), члена-карэспандэнта Нац. АН Беларусі, доктара тэхн. навук, прафесара Л.І.Калыхана. Паблізу вёскі залежы жалезняку.

У склад Слабадскога с/с уваходзіла да 1962 г. в. Чарамашня (не існуе).

**СЛАБОДКА** — вёска ў Слабадскім с/с, за 17 км на З ад Мазыра, 11 км ад чыг. ст. Козенкі (на лініі Калінкавічы—Оўруч), 150 км ад Гомеля. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, затым аўтадарозе Лельчыцы—Мазыр. 52 гаспадаркі, 84 жыхары (2004 г.).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 18 ст. як сяло ў Мазырскім пав. Мінскага ваяв. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. З 1795 г. дзейнічала Міхайлаўская царква. У 1816 г. 10 двароў. У 1870 г. 30 рэвізскіх душ. У 1931 г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. Планіровачна складаецца з амаль прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ. Забудова драўляная, сядзібнага тыпу.

**СТАРАСЕЛЛЕ** — вёска ў Міхалкаўскім с/с, за 23 км на Пд ад Мазыра, 155 км ад Гомеля, 2 км ад чыг. ст. Мытва (на лініі Калінкавічы—Оўруч), на р. Мытва (прыток р. Прыпяць), на Пд мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, затым аўтадарозе Мазыр—Новая Рудня. 39 гаспадарак, 84 жыхары (2004 г.).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 19 ст. як сяло ў Міхалкаўскай вол. Мазырскага пав. У 1834 г. 4 двары, 40 жыхароў. Дзейнічала Мікалаеўская царква. Паводле перапісу 1897 г. 25 двароў, 64 жыхары, майстэрня па апрацоўцы скур. У 1908 г. 42 двары, 311 жыхароў. У 1932 г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну 21 вясковец загінуў на фронце. Паводле





*Л.І.Калыхан.*

*У.А.Піліповіч.*

перапісу 1959 г. 150 жыхароў. Цэнтр птушкафабрыкі. Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ і забудаванай двухбакова драўлянымі сял. сядзібамі.

**СТРЭЛЬСК** — вёска ў Крынічным с/с, за 29 км на Пд ад Мазыра, 152 км ад Гомеля, 15 км ад чыг. ст. Козенкі (на лініі Калінкавічы—Оўруч), на р. Прыпяць (прыток р. Дняпро), на Пд і Пн мяжуе з лесам. Побач размешчаны дзярж. ландшафтны заказнік (15 га). Транспартныя сувязі па прасёлачнай, затым аўтадарозе Мазыр—Новая Рудня. 31 гаспадарка, 45 жыхароў (2004 г.).

Выяўленае археолагамі гарадзішча (у цэнтры вёскі) сведчыць пра засяленне тутэйшых мясцін у далёкай старажытнасці. Па пісьмовых крыніцах вядома з 16 ст. як вёска ў Мазырскім пав. Мінскага ваяв. ВКЛ. Пазначана на карце Мінскага ваяв. канца 17 ст. як в. Стрэлкі. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1795 г. сяло, 29 двароў, 255 жыхароў, царква (драўляная). У 1834 г. 43 двары. На Прыпяці мелася прыстань. Паводле перапісу 1897 г. 226 жыхароў, хлебазапасны магазін. У 1908 г. 372 жыхары. У вяскоўцаў час ад часу складваліся напружаныя адносіны з памешчыкам Горватам, землі якога межавалі з землямі сялян. У 1930 г. арганізаваны калгас «Новы Стрэльск», працавала кузня. У Вял. Айч. вайну 45 вяскоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 306 жыхароў. У 1962 г. да вёскі далучана суседняя в. Стрэльская Горка. У складзе эксперыментальнай базы «Крынічная» (цэнтр — пас. Крынічны). Дзейнічае фельч.-акушэрскі пункт. Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ, уздоўж ракі. Да гал. вуліцы з З далучаюцца 2 крывалінейныя вуліцы. Забудова драўляная, сядзібнага тыпу. Каля вёскі залежы пяскоў, вапняку і каменнажвіровых дарожных матэрыялаў.

**ТВАРЫЧАЎКА** — вёска ў Крынічным с/с, за 18 км на Пд ад Мазыра, 9 км ад чыг. ст. Козенкі (на лініі Калінкавічы—Оўруч), 151 км ад Гомеля, на аўтадарозе Мазыр—Новая Рудня, на Пд і У мяжуе з лесам, на Пн і У — невял. вадаёмы. 103 гаспадаркі, 303 жыхары (2004 г.).



*Зона адпачынку ў в. Тварычаўка.*

Па пісьмовых крыніцах вядома з 16 ст. як сяло ў Мазырскім пав. Мінскага ваяв. ВКЛ. Згодна попісу войска ВКЛ 1567 г. маёнтак Тварычаў павінен быў выдзяляць сваіх апалчэнцаў для фарміравання ўзбр. атрадаў ВКЛ. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1795 г. 5 двароў. Паводле перапісу 1897 г. 29 двароў. У 1917 г. 169 жыхароў, у Міхалкаўскай вол. Мазырскага пав. У 1925 г. 35 двароў. У 1931 г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. Дзейнічала пач. школа (у 1935 — 71 вучань). У Вял. Айч. вайну 14 вяскоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 153 жыхары. Цэнтр калгаса імя Ф.Э.Дзяржынскага. Працуюць клуб, б-ка, фельч.-акушэрскі пункт, дзіцячы сад, аддз. сувязі, магазін. Планіровачна складаецца з 2 кароткіх вуліц, блізкай да мерыдыянальнай арыентацыі, якія на Пд злучаны ў адну. Забудова двухбаковая, драўляная, сядзібнага тыпу. Радзіма аднаго з кіраўнікоў партыз. руху на Палессі С.П.Ракіцкага (быў камісарам 99-й Калінкавіцкай партыз. брыгады Палескай вобл.).

**ТУРБІНКА** — вёска ў Асавецкім с/с, за 33 км на ПдЗ ад Мазыра, 29 км ад чыг. ст. Козенкі (на лініі Калінкавічы—Оўруч), 166 км ад Гомеля, на р. Любіна (прыток р. Скалодзіна). Транспартныя сувязі па прасёлачнай, затым аўтадарозе Лельчыцы—Мазыр. 7 гаспадарак, 10 жыхароў (2004 г.).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 19 ст. як сяло ў Мазырскім пав. Мінскай

губ. Пад 1879 г. пазначана як хутар у Скрыгалаўскім царк. прыходзе. Паводле перапісу 1897 г. 12 двароў, 129 жыхароў. У 1908 г. 18 двароў, 164 жыхары, у Слабода-Скрыгалаўскай вол. Мазырскага пав. У 1925 г. 36 двароў. У 1932 г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У 1940 г. 196 жыхароў. У Вял. Айч. вайну ў наваколлі дзейнічаў партыз. атрад. У чэрв. 1943 г. ням. акупанты поўнасцю спалілі вёску і загубілі 1 жыхара. 19 вяскоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 281 жыхар. У складзе саўгаса «Асавец» (цэнтр – в. Асавец). Планіровачна складаецца з крывалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ, да якой далучаюцца з Пд 2 завулкі. Забудова няшчыльная, драўляная, сядзібнага тыпу.

**ХАМІЧКІ** – вёска ў Слабадскім с/с, за 14 км на З ад раённага цэнтра і чыг. ст. Мазыр (на лініі Калінкавічы–Оўруч), 147 км ад Гомеля. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, затым аўтадарогах, якія адыходзяць ад Мазыра. 115 гаспадарак, 272 жыхары (2004 г.).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 18 ст. як вёска ў Мазырскім пав. Мінскага ваяв. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1795 г. в. Хамічок, 16 двароў, 84 жыхары. У 1869 г. 121 жыхар. Дваранін Лянкевіч меў у 1876 г. ў вёсках Хамічкі і Прудок 2985 дзес. зямлі і 2 карчмы. Пад 1879 г. пазначана як сяло ў Скрыгалаўскім царк. прыходзе. Паводле перапісу 1897 г. вёска (36 двароў, 204 жыхары) і сядзіба (2 двары, 14 жыхароў). У 1908 г. 39 двароў, 218 жыхароў, у Слабода-Скрыгалаўскай вол. Мазырскага пав. У 1917 г. ў вёсцы 288, у фальварку – 80 жыхароў. З пач. 1920-х г. дзейнічала школа, якая размяшчалася ў наёмнай сял. хаце. У 1923 г. арганізавана камуна. У 1925 г. 76 двароў. У 1931 г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну 40 вяскоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 494 жыхары. У складзе калгаса імя У.І.Леніна (цэнтр – в. Слабада). Працуе клуб. Планіровачна складаецца з 2 паралельных паміж сабой вуліц (адна працяглая, другая кароткая) шыротнай арыентацыі, забудаваных драўлянымі сял. сядзібамі. Частку вёскі складае новая мураваная забудова для перасяленцаў з радыяцыйна забруджаных месц пасля Чарнобыльскай катастрофы 1986 г.

**ЧЫРВОНАЯ ГОРКА** (да 1932 Двор Левандоўскага) – пасёлак у Барбароўскім с/с, за 29 км на ПдУ ад раённага цэнтра і чыг. ст. Мазыр (на лініі Калінкавічы–Оўруч), 121 км ад Гомеля, на р. Прыпяць (прыток р. Дняпро). Транспартныя сувязі па прасёлачнай, затым аўтадарозе Гомель–Лунінец. 7 гаспадарак, 10 жыхароў (2004 г.).

Засн. ў пач. 20 ст. Найб. актыўная забудова прыпадае на 1920-я г. У 1932 г. пасялкоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну 11.1.1944 г. вызвалены ад ням. акупацыі. 7 пасялкоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 84 жыхары. У складзе калгаса «Серп і молат» (цэнтр – в. Барбароў). Планіровачна складаецца з кароткай прамалінейнай мерыдыянальнай вуліцы. Забудова драўляная, сядзібнага тыпу.

**ШЧАКАТАВА** – вёска ў Слабадскім с/с, за 9 км на З ад Мазыра, 6 км ад чыг. ст. Козенкі (на лініі Калінкавічы–Оўруч), 142 км ад Гомеля, на р. Тур (прыток р. Прыпяць). Транспартныя сувязі па прасёлачнай, затым аўтадарогах, якія адыходзяць ад Мазыра. 12 гаспадарак, 13 жыхароў (2004 г.).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 18 ст. як вёска ў Мазырскім пав. Мінскага ваяв. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1795 г. 17 двароў, 110 жыхароў. У 1834 г. ў складзе маёнтка Прудок. Пад 1879 г. пазначана як сяло ў Скрыгалаўскім царк. прыходзе. Паводле перапісу 1897 г. 24 двары, 160 жыхароў. У 1908 г. 202 жыхары, у Слабода-Скрыгалаўскай вол. Мазырскага пав. У 1925 г. 42 двары. У 1931 г. арганізаваны калгас. У 1940 г. 68 двароў, 177 жыхароў. Ням. акупанты ў Вял. Айч. вайну стварылі ў вёсцы свой гарнізон, які 30.8.1943 г. партызаны разграмілі. Карнікі поўнасцю спалілі вёску і загубілі 12 жыхароў. 23 вяскоўцы загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 171

жыхар. У складзе калгаса імя М.В.Фрунзе (цэнтр — в. Вялікія Зімовішчы). Планіровачна складаецца з выгнутай мерыдыянальнай вуліцы, забудаванай рэдка драўлянымі сял. сядзібамі.

**ЯСЯНЕЦ** — вёска ў Скрыгалаўскім с/с, за 22 км на З ад Мазыра, 19 км ад чыг. ст. Козенкі (на лініі Калінкавічы—Оўруч), 155 км ад Гомеля. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, затым аўтадарозе Гомель—Лунінец. 21 гаспадарка, 26 жыхароў (2004 г.).

Выяўленыя археолагамі гарадзішчы 7—6 ст. да н.э. (за 1 км на Пд ад вёскі; за 1 км на ПдЗ ад вёскі, ва ўрочышчы Вал Скрыгалаўскі) і стаянка эпохі неаліту і бронз. веку (за 1 км на Пн ад вёскі) сведчаць пра засяленне гэтых мясцін у глыбокай старажытнасці. Па пісьмовых крыніцах вядома з пач. 20 ст., калі тут пачалі будаваць сваё жыллё перасяленцы з суседніх вёсак. Найб. актыўная забудова разгарнулася ў 1920-я г. У 1925 г. 34 двары. У 1932 г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну 17 вяскоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 271 жыхар. У складзе калгаса «Дружба» (цэнтр — в. Скрыгалаў). Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ, да якой з Пн далучаюцца 2 паралельныя паміж сабой і злучаныя дарогай вуліцы. Забудова драўляная, нячшыльная.

**КРЫНІЦЫ І ЛІТАРАТУРА**


Нацыянальны архіў Рэспублікі Беларусь, ф. 30, воп. 4, спр. 167; воп. 5, спр. 6755; ф. 31, воп. 1, спр. 856; ф. 34, воп. 1, спр. 433; ф. 42, воп. 2, спр. 1755, 1801, 1995, 2007, 4510—4515, 4517—4525, 4527—4531, 4535—4540, 4542, 4544—4545; ф. 516, воп. 1, спр. 454.
Нацыянальны гістарычны архіў Беларусі, ф. 333, воп. 2, спр. 476, 553; воп. 9, спр. 7, 47, 476, 48, 53—54, 58, 60—62, 166, 347, 381—382, 476, 553—555, 583, 703; ф. 834, воп. 1, спр. 3; воп. 7, спр. 3; ф. 849, воп. 1, спр. 1, 97; ф. 850, воп. 1, спр. 1; ф. 854, воп. 1, спр. 3; ф. 1477, воп. 1, спр. 1759.
Расійскі дзяржаўны гістарычны архіў, ф. 1290, воп. 2, спр. 1318, 1332.
Городские поселения Российской империи. Т. 3. СПб., 1863.
Труды Минского губернского статистического комитета. Вып. 1. Мн., 1870.
Список землевладельцев Минской губернии за 1876 год. Мн., 1877.
Описание церквей и приходов Минской епархии, составленное по официально затребованным от причтов сведениям. Вып. 5. Мн., 1879.
Волости и важнейшие селения Европейской России. Вып. 5. СПб., 1886.
Любавский М. Областное деление и местное управление Литовско-Русского государства. М., 1893.
Памятная книжка Минской епархии на 1901 г. Мн., 1901.
Список населенных мест Минской губернии. Мн., 1909.
Обзор Могилевской губ. за 1909 г. Могилев, 1910.
Литовская метрика: Книга публичных дел. Петроград, 1915.
Солдатская правда. 1917. 30 июня.
Список населенных мест БССР (б. Минской губернии). Мн., 1924.
Спіс прамысловых прадпрыемстваў БССР. Вып. 1—2. Мн., 1935.
Гісторыя Беларусі ў дакументах і матэрыялах. Т. 1. Мн., 1936.
Документы и материалы по истории Белоруссии (1900—1917). Т. 3. Мн., 1953.
Белоруссия в эпоху феодализма. Т. 2. Мн., 1960.
Болбас М.Ф. Развитие промышленности в Белоруссии (1795—1861 гг.). Мн., 1966.
Нацистская политика геноцида и «выжженной земли» в Белоруссии, 1941—1944. Мн., 1984.
Збор помнікаў гісторыі і культуры Беларусі: Гомельская вобласць. Мн., 1985.
Спиридонов М.Ф. Закрепощение крестьянства Беларуси (XV—XVI вв.). Мн., 1993 (карта).
Литовская метрика. Кн. 7. Вильнюс, 1996; Кн. 8. Вильнюс, 1999; Кн. 51. Вильнюс, 2000.
Матэрыялы да гісторыі мануфактуры Беларусі. Т. 1. Мн., 1997.
Памяць: Мазырскі раён. Мн., 1997.
Пинчуков В.П., Старовойтов М.И. Гомельщина многонациональная (20—30-е годы XX века). Вып. 1. Гомель, 1999.



МАЗЫРСКІ РАЁН
ЕЛЬСКІ РАЁН
ХОЙНІЦКІ РАЁН
ЖЫТКАВІЦКІ РАЁН
КІЕЎСКАЯ ВОБЛАСЦЬ
УКРАІНА
НАРОЎЛЯ
Ельск
Прыпяць
Мазур
Вільча
51°50'
51°40'
29°30'
29°45'
Палаўкоўскі Млынок*
Гута
Заракітнае
Раманаўка*
Завайць
Калінічы
Фізінкі
Канатоп
Лінаў
п.Перамога
Буда-Галоўчыцкая
п.Чырв.Змагар*
Смалегаў
Смалегаўская Рудня*
Грыдні*
Карпавічы*
Будкі
Галоўчыцы
п.Чырв.Прамень
п.Чырв.Востраў
Вербавічы
п.Чэхі
Дворышча*
Цешкаў*
Белы Бераг*
Белабярэжская Рудня*
Антонаў
Грушаўка
Гамарня*
Гажын
Дзямідаў
Ліхаўня*
Вяжышча*
Данілеевка*
Свяча
Чапаеўка*
Дзернавічы*
Міхайлаўка*
Хільчыха
Мальцы
п.Леніна*
Антонаўка*
Лубень
Новы Майдан*
Бярозаўка*
Вяпры*
Радамля*
Вуглы*
Надтачаеўка*
Асіпоўка*
Ражава*
Масклеўка
Нічыпараўка
Лісава*
Дуброва*
Цізін*
Дайляды*
Хамянкі
Кіраў
Белая Сарока*
Дзяржынск
Ясянок*
Акопы*
Буда-Красноўская
Хатка*
Хутар-Лес*
Хутар Сяргееў*
Баравічы*
Красноўка
Брацкая
Габрылееўка
Аляксандраўка
Дзятлік
Бук*
Маштаб 1:350 000



# НАРАЎЛЯНСКІ РАЁН

Размешчаны на Пд Гомельскай вобл., у межах Мазырскага Палесся, усх. частка — у даліне р. Прыпяць. Цэнтр — г. Нароўля. Утвораны 17.7.1924 г. ў складзе Мазырскай акругі (да 26.7.1930). 20.8.1924 г. падзелены на 13 сельсаветаў: Барбароўскі, Бярозаўскі, Вербавіцкі, Вуглоўскі, Галоўчыцкі, Даўлядоўскі, Дзёрнавіцкі, Дзямідаўскі, Красноўскі, Махаедскі, Нараўлянскі, Хаткаўскі, Цешкаўскі. 4.8.1927 г. далучаны Бібікаўскі (у 1935 перададзены ў Мазырскі р-н) і Кустаўніцкі (ліквідаваны 23.8.1937), Міхалкаўскі і Тварычаўскі (у 1930 перададзены ў Мазырскі р-н) нац. польскія сельсаветы скасаванага Слабадскога р-на. З 21.6. 1935 г. Нараўлянскі р-н зноў у Мазырскай акрузе, з 20.2.1938 — у Палескай вобл., з 8.1.1954 г. — у Гомельскай вобл. 25.12. 1962 г. скасаваны, тэрыторыя раёна перададзена ў Ельскі р-н. Адноўлены 6.1.1965 г. ў складзе 8 сельсаветаў: Вербавіцкага, Вуглоўскага, Галоўчыцкага, Даўлядоўскага, Дзёрнавіцкага, Завайцянскага, Кіраўскага, Красноўскага. Раён пацярпеў у выніку катастрофы на Чарнобыльскай АЭС, размешчанай на тэр. Украіны ў непасрэднай блізкасці ад яго межаў. У 1987 г. скасаваны Вуглоўскі, Даўлядоўскі і Дзёрнавіцкі сельсаветы. Жыхары вёсак гэтых сельсаветаў перaселены ў інш. раёны. Толькі ў 1991—97 гг. у чыстыя месцы з Нараўлянскага р-на былі пераселены 2711 сямей (6498 чал.). Усяго ж за 1985—97 гг. ў выніку міграцыі, звязанай пераважна з Чарнобыльскай катастрофай, колькасць навельніцтва ў раёне скарацілася на 18 тыс. чал. Мяжуе на Пд з Кіеўскай вобл. Украіны, на У з Хойніцкім, на Пн з Мазырскім, на З з Ельскім р-намі і Жытомірскай вобл. Украіны. Пл. 1586 км$^2$, насельніцтва 12,6 тыс. чал., у т.л. гар. 8,2 тыс., сельскага — 4,4 тыс. У склад раёна ўваходзіць 1 гар. і 5 сельскіх саветаў. Паверхня раўнінная, значна забалочаная. Па тэрыторыі раёна цячэ р. Прыпяць з прытокамі Мытва, Славечна, Мухаедаўскі канал. Суднаходства па Прыпяці. Карысныя выкапні: цагельная сыравіна, каменны вугаль, мінеральная вада, торф, балотная руда, будаўнічыя пяскі і інш. На мяжы Нараўлянскага і Ельскага р-наў у 1953 г. пры разведавальным свідраванні быў атрыманы прыток нафты. Пад с.-г. ўгоддзямі 27,6% тэрыторыі раёна. Глебы іх угоддзяў дзярнова-падзолістыя, дзярнова-падзолістыя забалочаныя, дзярнова-балотныя, тарфяна-балотныя і алювіяльныя. З мінеральных глеб 54,8% пясчаных, 44,5% супясчаных, 0,7% суглінкавых. Якасць ворных зямель 34, кармавых угоддзяў 21, усіх с.-г. угоддзяў 28 балаў. Пад лесам 54% тэрыторыі, частку яе займае Палескі дзяр-

*Нараўлянскі краявід.*



жаўны радыяцыйна-экалагічны запаведнік. Асноўныя прамысл. прадпрыемствы размешчаны ў Нароўлі. Дзейнічаюць 5 калгасаў і 2 саўгасы, 6 сярэдніх, пяць 9-гадовых школ, сельскае прафес.-тэхн. вучылішча механізацыі сельскай гаспадаркі, 7 дашкольных, 55 клубных устаноў, 22 масавыя б-кі, музей «Палессе», 4 бальніцы, 19 фельч.-акушэрскіх пунктаў, 31 спарт. збудаванне, 69 магазінаў і 19 прадпрыемстваў грамадскага харчавання.

**НАРОЎЛЯ** — горад раённага падпарадкавання, цэнтр Нараўлянскага р-на, за 25 км ад чыг. ст. Ельск (на лініі Калінкавічы—Оўруч), 178 км на ПдЗ ад Гомеля, 340 км ад Мінска. Аўтадарогамі звязаны з Мазыром, Ельскам, Аляксандраўкай. Прыстань на правым беразе р. Прыпяць. На ўсх. ускраіне р. Прыпяць (прыток р. Дняпро), праз горад цячэ яе прыток — р. Нараўлянка. 8,2 тыс. жыхароў (2004 г.). У сувязі з радыяцыйным забруджаннем пасля катастрофы на Чарнобыльскай АЭС у горадзе праведзена дэзактывацыя, а тыя з жыхароў,



Альтанка-маяк у сядзібна-паркавым ансамблі 19 ст. ў г. Нароўля.



Сядзібны дом у г. Нароўля. 1-я палавіна 19 ст.

якія выказалі жаданне, перaселены ў чыстыя месцы.

Выяўленае археолагамі паселішча (0,3 км на ПдУ ад горада) і шэраг іншых археалагічных помнікаў сведчаць аб засяленні гэтых мясцін у далёкай старажытнасці. Па пісьмовых крыніцах вядомы з 18 ст. як прыватнаўласніцкае мястэчка. У 1750—51 гг. местачкоўцы ўдзельнічалі ў антыфеадальных выступленнях. З 1764 г. уладанне Аскеркаў. Дзейнічала Іаана-Багаслоўская царква, у якой захоўваліся метрычныя кнігі з 1772 г. У 1810 г. на беразе Прыпяці замест састарэлага ўзведзены новы будынак царквы, але ў 1840 г. ў сувязі з рэальнай пагрозай падмыву берага ракі царква была перанесена ў лепшае для яе месца, у 1869 г. капітальна адрамантавана. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1795 г. 37 двароў, 139 жыхароў. Каля мястэчка ў 1800 г. працавалі гута і вінакурня. У 1811 г. ў валоданні Гольста, затым — Горватаў, у Рэчыцкім пав. Мінскай губ. У 1839 г. 81 двор. У сярэдзіне 19 ст. на паўн.-ўсх. ускраіне, на правым беразе р. Прыпяць, узведзены сядзібна-паркавы ансамбль — двухпавярховы мураваны будынак з гаспадарчымі пабудовамі і пейзажным паркам (8,2 га, зараз тут размяшчаецца школа). У 1834 г. 49 двароў. У 1850-х г. пачала працаваць вінакурня (у 1890 — 13 рабочых). У 1858 г. ў мястэчку 284 жыхары. У 1864 г. адчынена нар. вучылішча. У 1866 г. 99 двароў. Цэнтр Нараўлянскай вол. (да 17.7.1924), у якую ў 1885 г. ўваходзілі 29 паселішчаў





*Фрагмент фантана ў сядзібна-паркавым ансамблі 19 ст. ў г. Нароўля.*

*Будынак кандытарскай фабрыкі «Чырвоны мазыранін» у г. Нароўля.*

з 748 дварамі. Дваранін Горват меў у Нароўлі і наваколлі ў 1876 г. 19 210 дзес. зямлі, 2 млыны і 4 карчмы. Паводле перапісу 1897 г. ў мястэчку 160 двароў, 1205 жыхароў; сінагога, 7 малітоўных школ, паштова-тэлегр. аддз., паромная пераправа, 2 майстэрні па апрацоўцы скуры, 35 крам, карчма; у аднайменным сяле 68 двароў, 285 жыхароў, царква, прыёмны пакой, царк.-прыходская школа, прыстань на р. Прыпяць, хлебазапасны магазін. Побач быў маёнтак з вінакурняй і капліцай. Сярод пабудоў 2-й пал. 19 ст. вылучаецца жылы аднапавярховы драўляны дом з мезанінам па вул. Кастрычніцкай (зараз у ім Дом школьнікаў). У канцы 19 ст. пракладзена вузкакалейка, якая звязвала Нароўлю з в. Красноўка. Па чыгунцы вывозіўся лес, які затым сплаўляўся па Прыпяці. На беразе былі майстэрні і баракі для жылля. Працавалі конскі з-д Горвата, аптэка. Частка местачкоўцаў займалася бандарным промыслам. З 1904 г. дзейнічала с.-д. група. У 1905 г. створаны сял. саюз. У 1908 г. мястэчка (162 двары, 1528 жыхароў), сяло (110 двароў, 486 жыхароў) і маёнтак (14 двароў, 150 жыхароў), царква, сінагога, школа. У 1913 г. дала першую прадукцыю цукерачная ф-ка Горватаў. З 1914 г. працавала б-ца. У студз. 1918 г. пачаў дзейнічаць Нараўлянскі валасны Савет рабочых, сял. і салдацкіх дэпутатаў. У хуткім часе Нароўля была занята герм. войскамі і далучана да Украіны. Вызвалена ў студз. 1919 г. З 26.4.1919 г. ў Гомельскай губ. РСФСР, з 3.7.1924 г. ў складзе Беларускай ССР. Дняпроўскае рачное параходства ў 1921 г. змантціравала ў Нароўлі тэлеф. падстанцыю на 10 нумароў. З 17.7.1924 г. да 25.12.1962 г. і з 6.1.1965 г. цэнтр Нараўлянскага р-на Мазырскай (да 26.7.1930 і з 21.6.1935 да 20.2.1938) акругі, з 20.2.1938 г. Палескай, з 8.1.1954 г. Гомельскай абл. У 1925 г. 342 двары, 2775

*Помнік на брацкай магіле савецкіх воінаў, партызан і мірных жыхароў у г. Нароўля (па вул. Кастрычніцкай).*

*Выступление народнага калектыву «Вясёлка» Нараўлянскага раённага Дома культуры на фестывалі «Спявай, маё Палессе!» (мяжа з Украінай, 1997 г.).*







Цэнтральная плошча ў Нароўлі.



Сучасная забудова цэнтра г. Нароўля.

жыхароў. Значную частку жыхароў складала яўр. насельніцтва (у 1926 — 54%). У 1926 г. дзейнічала рамеснае таварыства (64 чал.), арганізавана с.-г. арцель «Чырвоны маяк». У 1927 г. адкрыты дзіцячыя яслі, краязнаўчы музей (спыніў сваё існаванне ў 1930-я г.). У 1930-я г. склаліся як значныя прадпрыемствы суднаверф і кандытарская ф-ка «Чырвоны мазыранін». Працавалі шпларэзны з-д (з 1931), кузня, друкарня (з 1932), кравецкая (з 1928), шавецкая (з 1925), суднабудаўнічая (з 1931) майстэрні, хлебапякарня (з 1931), нафтавы млын, крупарушка. Быў арганізаваны калгас «Прагрэс». З 1934 г. дзейнічала МТС. З 27.9.1939 г. гар. пасёлак. У 1940 г. 4770 жыхароў.

У Вял. Айч. вайну 25—26.6.1941 г. створаны знішчальныя батальён і атрады, якія вялі барацьбу супраць дыверсантаў, удзельнічалі ў абарончых баях. 27.8.1941 г. Нароўля адным з апошніх райцэнтраў Беларусі акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія загубілі тут 173 жыхароў, у т.л. 23.3.1943 г. расстралялі 26 чалавек (пахаваны ў магіле па вул. Кастрычніцкай). Партызаны ў ноч на 30.8.1943 г. разграмілі варожы гарнізон, асн. сілы якога размяшчаліся ў замку. Дзейнічалі падп. патрыят. групы (кіраўнікі І.Сіўчанка, А.А.Садоўскі). Вызвалена 30.11.1943 г. У баях 29—30.11.1943 г. загінулі 24 воіны і партызаны (пахаваны ў брацкіх магілах па вул. Кастрычніцкай і Дзяржынскага). 324 жыхары загінулі на франтах і ў партыз. барацьбе. Са снеж. 1962 г. да студз. 1965 г. ў Ельскім р-не. У 1970 г. 6,6 тыс. жыхароў. З 3.11.1971 г. горад раённага падпарадкавання. Размешчаны з-ды буддэталей, малочны, гідраапаратуры, кандытарская ф-ка «Чырвоны мазыранін», дрэваапрацоўчы к-т, прамкамбінат, «Аграпрамтэхніка», лясгас, хлебазавод, насенная інспекцыя, вет. станцыя, аграхімлабара-



Вуліца Леніна і частка Цэнтральнай плошчы ў г. Нароўля.

торыя, «Райсельгастэхніка», «Райсельгасхімія», раённы вузел паштовай і электрычнай сувязі, цэнтр гігіены і эпідэміялогіі, спарт.-тэхн. клуб, паліклініка, дыспансер, камбінат быт. абслугоўвання, аптэка, санэпідстанцыя, школа мастацтваў, этнагр. музей (з сак. 1993), 3 сярэднія школы, раённая і дзіцячая б-кі, раённая б-ца, 4 дашкольныя ўстановы, раённы Дом культуры, 2 аддз. сувязі, парк (помнік прыроды мясц. значэння), выходзіць раённая газ. «Прыпяцкая праўда» (з 1932). У 1998 г. пабудаваны мураваны касцёл Святога Крыжа. Ген. план забудовы распрацаваны ў 1967 г. гомельскімі абл. праектнымі майстэрнямі ін-та «Белдзяржпраект». Планіровачна складаецца з двух раёнаў, падзеленых р. Нараўлянка. Забудова пераважна аднапавярховая, драўляная, сядзібнага тыпу, у цэнтры 2—5-павярховыя дамы. Радзіма бел. батаніка, акадэміка НАН Беларусі і акадэміка АН Таджыкістана, доктара біял. навук, прафесара, засл. дзеяча навукі БССР, лаўрэата Дзярж. прэміі БССР М.У.Смольскага, Героя Сав. Саюза М.Л.Співака (яго імя носіць адна з гар. вуліц), бел. паэта Д.Р.Сімановіча, доктара псіхалаг. навук, прафесара Я.Л.Каламінскага, доктара эканам. навук, прафесара Г.У.Кулажанкі. Побач залежы каменнай солі.

**АКОПЫ** — вёска ў Кіраўскім с/с, за 33 км на Пд ад Нароўлі, 58 км ад чыг. ст. Ельск (на лініі Калінкавічы—Оўруч), 211 км ад Гомеля, побач дзярж. мяжа з Украінай, на р. Верасожка [прыток р. Жалонь (Мухаедаўскі канал)], на тэр. Палескага радыяцыйна-экалагічнага запаведніка. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, затым аўтадарозе Вуглы—Чапаеўка. У сувязі з радыяцыйным забруджаннем пасля Чарнобыльскай катастрофы жыхары (51 сям'я) пераселены ў 1986 г. ў чыстыя месцы, пераважна ў в. Старая Рудня Жлобінскага р-на.

Засн. ў пач. 20 ст. перасяленцамі з суседніх вёсак у выніку ажыццяўлення сталыпінскіх рэформ. Найбольш актыўная забудова прыпадае на 1920-я г. З 21.2.1929 г. да 16.7.1954 г. цэнтр Акопскага с/с Нараўлянскага р-на Мазырскай (да 26.7.1930 і з 21.6.1935 да 20.2.1938) акругі, з 20.2.1938 г. Палескай, з 8.1.1954 г. Гомельскай абл. З 1925 г. дзейнічалі малочная арцель, цагельня. У 1930 г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У 1938 г. ў вёску пераселены хутары Зіняўіцкі, Кулакоўскі, Сеўрукоўскі, Чарапанскі. Дзейнічалі пач. школа, хата-чытальня, кузня. У Вял. Айч. вайну 24 вяскоўцы загінулі на фронце. У 1986 г. 51 двор, 116 жыхароў. Уваходзіла ў склад саўгаса «Партызанскі» (цэнтр — в. Вуглы). Меліся 8-гадовая школа, аддз. сувязі, фельч.-акушэрскі пункт, магазін. Планіровачна складаецца з крыху выгнутай мерыдыянальнай вуліцы, забудаванай двухбакова рэдка драўлянымі сял. сядзібамі. Паблізу ў 1975 г. знойдзены залежы бантаніту (адна з рэдкіх і каштоўных глін, што выкарыстоўваецца для ачысткі нафтапрадуктаў, тлушчаў і вырабу форм для ліцця металу).

**АЛЯКСАНДРАЎКА** — вёска ў Кіраўскім с/с, за 41 км на Пд ад Нароўлі, 44 км ад чыг. ст. Ельск (на лініі Калінкавічы—Оўруч), за 219 км ад Гомеля, вакол лес, на Пн урочышча Сухі Мох і р. Ілля (прыток р. Уж). За 1,5 км ад дзярж. мяжы з Украінай. Аўтадарога звязвае вёску з Нароўляй. 52 гаспадаркі, 80 жыхароў (2004 г.).

Па пісьмовых крыніцах вядома з пач. 19 ст. як вёска ў Дзёрнавіцкай вол. Рэчыцкага пав. Мінскай губ. У 1825 г. вёску ў Гольстаў купіў С.І.Горват. Паводле перапісу 1897 г. 54 двары, 321 жыхар. З 1925 г. да 21.8.1937 г. цэнтр Аляксандраўскага с/с. У 1929 г. арганізаваны калгас «1 жніўня». У Вял. Айч. вайну ням.-фаш. акупанты ў чэрв. 1942 г. загубілі 21 жыхара вёсак Аляксандраўка і Габрылееўка (пахаваны ў магіле ахвяр фашызму). 33 вяскоўцы загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 474 жыхары. У складзе падсобнай гаспадаркі «Сельгасхімія» (цэнтр — в. Кіраў).







*М.У.Смольскі.*

*Д.Р.Сімановіч.*

*М.Л.Співак.*

Размешчаны б-ка, фельч.-акушэрскі пункт, клуб, аддз. сувязі. Планіровачна складаецца з падзеленых ракой дзвюх частак: паўд. (прамалінейная вуліца з 2 завулкамі, арыентаваная з ПдЗ на ПнУ) і паўн. (2 кароткія вуліцы з завулкам утвараюць А-падобную канфігурацыю). Забудова двухбаковая, драўляная, сядзібнага тыпу. Побач залежы жалезнякоў.

**АНТОНАЎ** – вёска ў Вербавіцкім с/с, за 15 км на ПдЗ ад Нароўлі, 20 км ад чыг. ст. Ельск (на лініі Калінкавічы—Оўруч), 193 км ад Гомеля, на р. Славечна (прыток р. Прыпяць). Транспартныя сувязі па прасёлачнай, затым аўтадарозе да Нароўлі. 84 гаспадаркі, 160 жыхароў (2004 г.).

Выяўленае археолагамі гарадзішча жал. веку (за 0,5 км на З ад вёскі) сведчыць аб засяленні тут у глыбокай старажытнасці. Па пісьмовых крыніцах вядома з 16 ст. як мяст. Антонавічы ў Мазырскім пав. Мінскага ваяв. ВКЛ. Упершыню названа пад 1595 г. Пазначана на карце ВКЛ 1613 г. Каля сяла ў 1751 г. знайшлі ратунак рэшткі разбітага ўрадавымі войскамі атрада гайдамакаў і паўстанцаў. З 1764 г. ў валоданні Аскеркаў. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1795 г. 26 двароў, 140 жыхароў, драўляная царква ў імя Свяціцеля Мікалая. Побач была в. Слабада Антонаўская, 5 двароў, 40 жыхароў. Вёска была аддадзена правадзейнаму тайнаму саветніку Я.Сіверсу, а з 1825 г. ва ўладанні С.І.Горвата. У 1834 г. 16 двароў. Пад 1879 г. пазначана ў ліку паселішчаў Дзямідаўскага царк. прыхода. Паводле перапісу 1897 г. 73 двары, 439 жыхароў, хлебазапасны магазін, у Нараўлянскай вол. Рэчыцкага пав. Мінскай губ. У 1908 г. 87 двароў, 657 жыхароў. З 1917 г. працавала нар. вучылішча. У 1931 г. арганізаваны калгас, меліся вадзяны млын і цагельня. У 1940 г. 124 двары, 369 жыхароў. У Вял. Айч. вайну дзейнічала маладзёжная патрыят. група (кіраўнік Т.Цалка). У жн. 1943 г. ням.-фаш. акупанты поўнасцю спалілі вёску. 79 вяскоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 934 жыхары. У складзе калгаса імя М.В.Фрунзе (цэнтр — в. Грушаўка). Размешчаны 9-гадовая школа, клуб. Планіровачна складаецца з паўвыгнутай, амаль шыротнай арыентацыі вуліцы, да цэнтра якой з Пн далучаецца завулак. Забудова двухбаковая, драўляная, сядзібнага тыпу.

**АНТОНАЎКА** – вёска ў Вербавіцкім с/с, за 25 км на ПдУ ад Нароўлі, 50 км ад чыг. ст. Ельск (на лініі Калінкавічы—Оўруч), 203 км ад Гомеля, на тэр. Палескага радыяцыйна-экалагічнага запаведніка, на паўн. ускраіне безыменны прыток Мухаедаўскага канала. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, а затым аўтадарозе Дзёрнавічы—Нароўля. У сувязі з радыяцыйным забруджаннем пасля Чарнобыльскай катастрофы жыхары (14 сямей) пераселены 1.11.1986 г. ў чыстыя месцы, пераважна ў Жлобінскі і Светлагорскі р-ны.

Засн. ў канцы 19 ст. як ням. калонія. У сувязі з пачаткам у 1914 г. першай сусветнай вайны ўсе жыхары ням. нацыянальнасці былі выселены ў глыбокі тыл. Найбольш актыўная забудова прыходзіцца на 1920-я г. У 1931 г. арганізаваны калгас, працавала кузня. У Вял. Айч. вайну дзейнічала патрыят. маладзёжная група (кіраўнік Цімашэнка). 6 вяскоўцаў загінулі на фронце. Паводле 1959 г. 104 жыхары, у 1986 г. 15 двароў, 137 жыхароў. Уваходзіла ў склад саўгаса «Дзёрнавічы» (цэнтр — в. Дзёрнавічы). Планіровачна складаецца з прамалінейнай, шыротнай арыентацыі вуліцы, забудаванай двухбакова рэдка драўлянымі сял. сядзібамі.

**АСІПОЎКА** – вёска ў Вербавіцкім с/с, за 31 км на ПдУ ад Нароўлі, 56 км ад чыг. ст. Ельск (на лініі Калінкавічы—Оўруч), 209 км ад Гомеля, на тэр. Палескага радыяцыйна-экалагічнага запаведніка. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, а затым аўтадарозе Дзёрнавічы—Нароўля. У сувязі з радыяцыйным

забруджаннем пасля Чарнобыльскай катастрофы жыхары (47 сямей) пераселены ў 1986 г. ў чыстыя месцы, пераважна ў в. Крукавічы Калінкавіцкага р-на.

Засн. ў канцы 20 ст. перасяленцамі з суседніх вёсак у выніку ажыццяўлення сталыпінскіх рэформ. Найбольш актыўная забудова прыпадае на 1920-я г. З 1927 г. працаваў паравы млын. У 1931 г. арганізаваны калгас «Чырвоная калонія», мелася кузня. У Вял. Айч. вайну 9 вяскоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 263 жыхары, у 1986 г. 47 двароў, 116 жыхароў. Уваходзіла ў склад саўгаса «Прыпяць» (цэнтр — в. Даўляды). Планіровачна складаецца з крыху выгнутай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ. Забудова двухбаковая, няшчыльная, драўляная, сядзібнага тыпу.

**БАРАВІЧЫ** (да 30.7.1964 Гразліва) — вёска ў Кіраўскім с/с, за 35 км на Пд ад Нароўлі, 60 км ад чыг. ст. Ельск (на лініі Калінкавічы—Оўруч), 203 км ад Гомеля, на тэр. Палескага радыяцыйна-экалагічнага запаведніка, 0,5 км ад дзярж. мяжы з Украінай. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, а затым аўтадарозе Вуглы—Чапаеўка. У сувязі з радыяцыйным забруджаннем пасля Чарнобыльскай катастрофы жыхары (51 сям'я) пераселены ў 1986 г. ў чыстыя месцы, пераважна ў Жлобінскі р-н.

Засн. ў пач. 20 ст. перасяленцамі з суседніх вёсак у выніку ажыццяўлення сталыпінскіх рэформ. Найбольш актыўная забудова прыходзіцца на 1920-я г. У 1931 г. арганізаваны калгас «Перамога», працавала кузня. У 1938 г. ў вёску пераселены хутары Валёры, Сакеркі, Знайды, Ваўчкоўцы, Львінскія, Рудзянцова, у 1964 г. — в. Гразліва. У Вял. Айч. вайну 22 вяскоўцы загінулі на фронце, дзейнічала маладзёжная патрыят. група (кіраўнік А.Макаранка). Паводле перапісу 1959 г. 251 жыхар, у 1986 г. 51 двор, 117 жыхароў. Уваходзіла ў склад саўгаса «Партызанскі» (цэнтр — в. Вуглы). Мелася пач. школа, магазін. Планіровачна складаецца з крыху выгнутай вуліцы, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ і забудаванай двухбакова няшчыльна драўлянымі сял. сядзібамі.

**БЕЛАБЯРЭЖСКАЯ РУДНЯ** — вёска ў Вербавіцкім с/с, за 15 км на Пд ад Нароўлі, 40 км ад чыг. ст. Ельск (на лініі Калінкавічы—Оўруч), 196 км ад Гомеля, на тэр. Палескага радыяцыйна-экалагічнага запаведніка, на р. Славечна (прыток р. Прыпяць). Транспартныя сувязі па прасёлачнай, а затым аўтадарозе Кіраў—Нароўля. У сувязі з радыяцыйным забруджаннем пасля Чарнобыльскай катастрофы жыхары (124 сям'і) пераселены ў 1986 г. ў чыстыя месцы, пераважна ў в. Скрыгалаў Мазырскага р-на.

Па пісьмовых крыніцах вядома з 18 ст. як вёска ў Мазырскім пав. Мінскага ваяв. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1795 г. 4 двары, 34 жыхары. Працавалі млын і рудаплавільня, у валоданні памешчыка Бразіна. У 1850 г. 48 жыхароў. Пад 1879 г. упамінаецца ў ліку паселішчаў Вербавіцкага царк. прыхода. Паводле перапісу 1897 г. 48 двароў, 335 жыхароў. У пач. 20 ст. працаваў паравы млын. У 1908 г. 62 двары, 518 жыхароў, у Нараўлянскай вол. Рэчыцкага пав. У 1913 г. адкрыта школа, якая размяшчалася ў наёмнай сял. хаце, а ў 1921 г. вяскоўцы на свае сродкі пабудавалі школьнае памяшканне. У 1930 г. арганізаваны калгас «Беларускі баец», працавала кузня. У Вял. Айч. вайну дзейнічала маладзёжная патрыятычная група (кіраўнік Е.Малуха). 10.12.1942 г. партызаны разграмілі варожы апорны пункт, які размяшчаўся ў мураваным будынку школы. 57 вяскоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 475 жыхароў. У 1986 г. 124 двары, 300 жыхароў. Была цэнтрам калгаса «Усход». Дзейнічалі 9-гадовая школа, клуб, б-ка, фельч.-акушэрскі пункт, вет. ўчастак, дзіцячы сад, лясніцтва, швейная майстэрня, аддз. сувязі, магазін. Планіровачна складаецца з 2 паралельных паміж сабой і арыентаваных з ПдУ на ПнЗ



*А.М.Кулажанка.*

вуліц, злучаных 2 завулкамі і перакрыжаваных кароткай вуліцай. Забудова двухбаковая, пераважна драўляная, сядзібнага тыпу. Радзіма Героя Сац. Працы А.М.Кулажанкі.

**БЕЛАЯ САРОКА** — вёска ў Вербавіцкім с/с, за 43 км на ПдУ ад Нароўлі, 68 км ад чыг. ст. Ельск (на лініі Калінкавічы—Оўруч), 221 км ад Гомеля, на тэр. Палескага радыяцыйна-экалагічнага запаведніка, на паўд. ускраіне меліярацыйны канал, па якім ідзе дзярж. мяжа з Украінай. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, а затым аўтадарозе Даўляды—Бабчын. У сувязі з радыяцыйным забруджаннем пасля Чарнобыльскай катастрофы (83 сям'і) перасělены ў 1986 г. ў чыстыя месцы, пераважна ў в. Бабоўка Жлобінскага р-на.

Выяўленае археолагамі паселішча эпохі мезаліту (за 1—1,5 км на ПнЗ ад вёскі) сведчыць аб засяленні тут у далёкай старажытнасці. Па пісьмовых крыніцах вядома з 15 ст. як сяло ў Мазырскім пав. Мінскага ваяв. ВКЛ. У 1486 г. вял. кн. Казімір дараваў сяло ключніку кіеўскаму Гарнастаю. У 1516 г. цэнтр Беласароцкай вол., ва ўладанні А.Неміровіча. У 1648—51 гг. каля вёскі адбыліся сутычкі харугваў ВКЛ і паўстанцкіх атрадаў. У 18 ст. дзейнічаў манастыр, падпарадкаваны Кіева-Пячорскай лаўры (знішчаны ў выніку пажару). У 1750 г. пабудавана Свята-Мікалаеўская царква, якая ў 1876 г. перанесена на месца былога манастыра. Гэта месца стала звацца Нова-Сарокі. У царкве мелася евангелле 1733 г. выдання. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У нашчадкаў графа Г.Г.Арлова памешчык Горват набыў у 1-й пал. 19 ст. маёнтак Белая Сарока. У 1834 г. мястэчка, праз якое праходзіў тракт з Міхалак у Чарнобыль. У 1863 г. адкрыта школа, для якой у 1866 г. збудавана ўласнае памяшканне. У 1869 г. на месцы састарэлага пабудаваны новы драўляны будынак царквы, у якой быў мясцова шанаваны абраз Божай Маці. Памешчык Увараў меў тут і ў наваколлі 24 293 дзес. зямлі, 2 вадзяныя млыны, 5 корчмаў. У 1885 г. 212 жыхароў, працавалі вінакурня і 2 смалярні. Паводле перапісу 1897 г. сяло, 39 двароў, царква, нар. вучылішча, хлебазапасны магазін, карчма, у Дзёрнавіцкай вол. Рэчыцкага пав. Мінскай губ. У 1930 г. арганізаваны калгас «Пераможца», дзейнічала кузня. У Вял. Айч. вайну ням.-фаш. акупанты абсталявалі ў вясковай царкве турму, дзе праводзіліся катаванні і забойствы. 21 вяскоўец загінуў на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 294 жыхары, у 1986 г. 83 двары, 201 жыхар. Уваходзіла ў склад саўгаса «Прыпяць» (цэнтр — в. Даўляды). Дзейнічалі пач. школа і магазін. Планіровачна складаецца з крыху выгнутай, амаль мерыдыянальнай вуліцы, забудаванай двухбакова драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**БЕЛЫ БЕРАГ** — вёска ў Вербавіцкім с/с, за 12 км на Пд ад Нароўлі, 37 км ад чыг. ст. Ельск (на лініі Калінкавічы—Оўруч), 192 км ад Гомеля, на тэр. Палескага радыяцыйна-экалагічнага запаведніка, на р. Славечна (прыток р. Прыпяць) і аўтадарозе Новая Радча—Нароўля, на Пн меліярацыйны канал, злучаны з р. Славечна. У сувязі з радыяцыйным забруджаннем пасля Чарнобыльскай катастрофы жыхары (66 сямей) перасělены ў 1986 г. ў чыстыя месцы, пераважна ў в. Скрыгалаў Мазырскага р-на, дзе новую вуліцу перасяленцы назвалі Белы Бераг, у гонар сваёй ранейшай вёскі. Частка жыхароў перасělена ў в. Скароднае Ельскага р-на.

Па пісьмовых крыніцах вядома з 17 ст. З 1610 г. фальварак. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1795 г. 14 двароў, 95 жыхароў. У 1850 г. 18 двароў, уладанне памешчыка Бразіна. З 1858 г. ва ўладанні дваранiна Вішнеўскага, які меў тут 4077 дзес. зямлі. Пад 1879 г. пазначана ў ліку паселішчаў Вербавіцкага царк. прыхода. Паводле перапісу 1897 г. 31 двор, 170 жыхароў. У 1908 г. 49 двароў, 335 жыха-

роў, у Нараўлянскай вол. Рэчыцкага пав. У 1930 г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну 52 вяскоўцы загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 290 жыхароў, у 1986 г. 66 двароў, 166 жыхароў. Уваходзіла ў склад калгаса «Усход» (цэнтр — в. Белабярэжская Рудня). У сувязі з радыяцыйнай забруджанасцю лясоў спыніла сваю дзейнасць Белабярэжскае лясніцтва. Планіровачна складаецца з забудовы па абодва бакі аўтадарогі, арыентаванай шыротна. Забудова драўляная, сядзібнага тыпу. Радзіма бел. мастака М.Г.Цімошанкі. Каля вёскі залежы жалезнякоў.



*Калектыў мастацкай самадзейнасці в. Буда-Галоўчыцкая.*

**БРАЦКАЯ** (да 21.1.1969 Шпалзавод) — вёска ў Кіраўскім с/с, за 39 км на Пд ад Нароўлі, 42 км ад чыг. ст. Ельск (на лініі Калінкавічы—Оўруч), 217 км ад Гомеля, на аўтадарозе Аляксандраўка—Нароўля, на У — урочышча Сухі Мох, вакол лес. 24 гаспадаркі, 35 жыхароў (2004 г.).

Населены пункт пастунова складваўся з 1920-х г. каля з-да па вырабе шпал для чыгункі, Указам Прэзідыума Вярх. Савета БССР ад 21.1.1969 г. яму была нададзена назва Брацкая. Размешчаны Кіраўскі лесапункт, фельч.-акушэрскі пункт і клуб. Планіроўка кампактная, блізкая да чатырохвугольнага квартала. Жылыя драўляныя дамы размешчаны непадалёку ад вытв. збудаванняў.

**БУДА-ГАЛОЎЧЫЦКАЯ** — вёска ў Галоўчыцкім с/с, за 16 км на ПдЗ ад Нароўлі, 21 км ад чыг. ст. Ельск (на лініі Калінкавічы—Оўруч), 192 км ад Гомеля, на Пн і У меліярацыйныя каналы, злучаныя з р. Мытва (прыток р. Прыпяць), побач аўтадарога Ельск—Нароўля. 137 гаспадарак, 333 жыхары (2004 г.).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 18 ст. як вёска ў Мазырскім пав. Мінскага ваяв. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1795 г. 16 двароў. У 1834 г. 27 двароў, уладанне Горватаў. Пад 1879 г. пазначана ў ліку паселішчаў Дзямідаўскага царк. прыхода. Паводле перапісу 1897 г. 43 двары, 259 жыхароў, у Нараўлянскай вол. Рэчыцкага пав. Мінскай губ. У 1908 г. 50 двароў, 343 жыхары. У 1930 г. арганізаваны калгас «Новая Буда», працавала кузня, з 1936 г. — пач. школа. У Вял. Айч. вайну дзейнічала патрыят. група (кіраўнік Р.Рудзько). У баях каля вёскі загінулі 7 воінаў і 3 партызаны (пахаваны ў брацкай магіле на ПнУ ад вёскі). Паводле перапісу 1959 г. 438 жыхароў. Цэнтр калгаса «Савецкая Беларусь». Размешчаны 9-гадовая школа, б-ка, Дом культуры, фельч.-акушэрскі пункт, дзіцячыя яслі-сад, аддз. сувязі, магазін. Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ, да якой з паўн. і паўд. бакоў далучаюцца па 2 завулкі. Забудавана двухбакова драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. У 1988—95 гг. збудавана 46 мураваных, катэджнага тыпу дамоў, у якіх размясціліся перасяленцы з забруджаных радыяцыяй месцаў у выніку Чарнобыльскай катастрофы.

**БУДА-КРАСНОЎСКАЯ** — вёска ў Красноўскім с/с, за 45 км на ПдЗ ад Нароўлі, 40 км ад чыг. ст. Ельск (на лініі Калінкавічы—Оўруч), 221 км ад Гомеля, на р. Ханя (прыток р. Жалонь, Мухаедаўскі канал), на У і З мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, а затым аўтадарозе Габрылееўка—Нароўля. 21 гаспадарка, 33 жыхары (2004 г.).

Засн. ў пач. 20 ст. перасяленцамі з суседніх вёсак. Найбольш актыўная забу-

дова прыходзіцца на 1920-я г. Мелася пач. школа, якая ў 1922 г. пераведзена ў в. Красноўка. У 1929 г. арганізаваны калгас. У 1940 г. 88 двароў, 462 жыхары. У Вял. Айч. вайну дзейнічала маладзёжная патрыят. група (кіраўнік В.Музычэнка). У жн. 1943 г. ням.-фаш. карнікі поўнасцю спалілі вёску і загубілі 2 жыхароў. 63 вяскоўцы загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 544 жыхары. У складзе саўгаса «Дзяржынскі» (цэнтр — в. Дзяржынск). Размешчаны клуб. Планіровачна складаецца з падзеленых ракой дзвюх частак: усх. (працяглая, амаль прамалінейная, арыентаваная з ПдЗ на ПнУ вуліца) і зах. (кароткая з 2 завулкамі вуліца з той жа арыентацыяй). Забудова двухбаковая, драўляная, сядзібнага тыпу.



*Г.К.Васіленка.*

**БУДКІ** — вёска ў Галоўчыцкім с/с, за 10 км на ПдЗ ад Нароўлі, 25 км ад чыг. ст. Ельск (на лініі Калінкавічы—Оўруч), 188 км ад Гомеля, на Пн, З і Пд меліярацыйныя каналы. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, а затым аўтадарозе Ельск—Нароўля. 92 гаспадаркі, 196 жыхароў (2004 г.).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 19 ст. як сяло ў складзе маёнтка Галоўчыцы, які належаў Горватам, у Нараўлянскай вол. Рэчыцкага пав. Мінскай губ. Пад 1879 г. пазначана ў Дзямідаўскім царк. прыходзе. Паводле перапісу 1897 г. в. Галоўчыцкія Будкі, 41 двор, 284 жыхары. У 1931 г. арганізаваны калгас «Чырвоны змагар», працавала кузня. У 1940 г. 112 двароў. У Вял. Айч. вайну ў чэрв. 1943 г. ням.-фаш. акупанты спалілі 110 двароў і загубілі 77 жыхароў. На франтах і ў партыз. барацьбе загінулі 98 землякоў з вёсак калгаса, памяць аб якіх увекавечвае мемарыяльная пліта, пастаўленая ў 1967 г. ў цэнтры вёскі. Паводле перапісу 1959 г. 521 жыхар. У складзе калгаса «Галоўчыцы». Размешчаны б-ка, дзіцячы сад, клуб. Планіровачна складаецца з крывалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ, ад якой у цэнтры адыходзяць на У дзве кароткія вуліцы. Забудова двухбаковая, драўляная, сядзібнага тыпу. У 1987 г. збудавана 50 мураваных, катэджнага тыпу дамоў, у якіх размясціліся перасяленцы з забруджаных радыяцыяй у выніку Чарнобыльскай катастрофы месцаў. Радзіма Героя Сац. Працы Г.К.Васіленка. Каля вёскі залежы суглінку.

**БУК** — вёска ў Кіраўскім с/с, за 43 км на ПдЗ ад Нароўлі, 68 км ад чыг. ст. Ельск (на лініі Калінкавічы—Оўруч), 221 км ад Гомеля, 1 км ад дзярж. мяжы з Украінай, на р. Мядзведак (прыток р. Радча). Транспартныя сувязі па прасёлачнай і далей аўтадарозе Кіраў—Нароўля. У сувязі з радыяцыйным забруджаннем пасля Чарнобыльскай катастрофы жыхары (95 сямей) пераселены ў 1986 г. ў чыстыя месцы.

Па пісьмовых крыніцах вядома з 19 ст. як вёска ў Дзёрнавіцкай вол. Рэчыцкага пав. Мінскай губ. Паводле перапісу 1897 г. 33 двары, 170 жыхароў. У 1908 г. 42 двары, 249 жыхароў. У 1930 г. арганізаваны калгас «Новы Бук». У Вял. Айч. вайну на франтах і ў партыз. барацьбе загінулі 52 жыхары вёсак Бук і Дзятлік, памяць аб якіх увекавечвае абеліск, пастаўлены ў 1967 г. ў цэнтры вёскі. Паводле перапісу 1959 г. 486 жыхароў. Уваходзіла ў склад саўгаса «Кіраўскі» (цэнтр — в. Кіраў). Планіровачна складаецца з крывалінейнай, амаль мерыдыянальнай вуліцы, да якой з З далучаюцца кароткая вуліца і 3 завулкі. Забудова двухбаковая, няшчыльная, жылыя дамы драўляныя, сядзібнага тыпу.

**БЯРОЗАЎКА** (да 1926 Клёсін і Стары Майдан) — вёска ў Вербавіцкім с/с, за 26 км на ПдУ ад Нароўлі, 51 км ад чыг. ст. Ельск (на лініі Калінкавічы—Оўруч), 204 км ад Гомеля, на тэр. Палескага радыяцыйна-экалагічнага запаведніка, на паўн. ускраіне меліярацыйны канал, злучаны з Мухаедаўскім каналам. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, а затым аўтадарозе Дзёрнавічы—Нароўля. У сувязі з радыяцыйным забруджаннем пасля Чарнобыльскай катастрофы жыхары (34 сям'і) пераселены ў 1986 г. ў чыстыя

месцы, пераважна ў в. Палессе Светлагорскага р-на.

Выяўленыя археолагамі рэшткі двух пасяленняў (за 2 км на З і побач з вёскай) і стаянкі каменнага веку (за 0,5 км і 2 км на У ад вёскі) сведчаць аб засяленні тутэйшых мясцін у глыбокай старажытнасці. Па пісьмовых крыніцах вядома з 19 ст. як вёскі Клёсін і Стары Майдан у Дзёрнавіцкай вол. Рэчыцкага пав. Мінскай губ. Паводле перапісу 1897 г. 31 двор, 83 жыхары, дзейнічала смалакурня. У 1908 г. 90 двароў, 571 жыхар. У сувязі з пачаткам у 1914 г. першай сусветнай вайны ўсе жыхары ням. нацыянальнасці, якіх у вёсцы было даволі многа, былі выселены ў глыбокі тыл. З 20.8. 1924 г. да 1937 г. цэнтр Бярозаўскага с/с. У 1930 г. арганізаваны калгас імя Р.Люксембург, працавалі паравы млын і кузня. У 1936 г. дзейнічалі Дом культуры, медпункт, лазня, ветлячэбніца, 7-гадовая школа. У Вял. Айч. вайну 6 вяскоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 198 жыхароў, у 1986 г. 34 двары, 75 жыхароў. Уваходзіла ў склад саўгаса «Дзёрнавічы» (цэнтр — в. Дзёрнавічы). Меліся пач. школа і магазін. Планіровачна складаецца з шыротнай вуліцы, якая далучаецца да амаль мерыдыянальнай вуліцы з 2 завулкамі. Забудова драўляная, сядзібнага тыпу, няшчыльная. Каля вёскі залежы суглінку і жалезняку.

**ВЕРБАВІЧЫ** — вёска, цэнтр Вербавіцкага с/с, за 10 км на Пд ад Нароўлі, 27 км ад чыг. ст. Ельск (на лініі Калінкавічы—Оўруч), 188 км ад Гомеля, на р. Мытва (прыток р. Прыпяць), на У меліярацыйныя каналы і мяжуе з Палескім радыяцыйна-экалагічным запаведнікам. Транспартныя сувязі па аўтадарозе Кіраў—Нароўля, якая праходзіць праз вёску. 101 гаспадарка, 276 жыхароў (2004 г.).

Выяўленыя археолагамі паблізу вёскі рэшткі стараж. пасялення і групы курганоў часоў Кіеўскай Русі сведчаць аб засяленні тутэйшых мясцін у далёкай старажытнасці. Па пісьмовых крыніцах вядома з 16 ст. як в. Вербкавічы ў Мазырскім пав. Мінскага ваяв. ВКЛ. У 1750—51 гг. вяскоўцы ўдзельнічалі ў антыфеадальным паўстанні. З 1764 г. уладанне Аскеркаў, з пач. 19 ст. — Горватаў. З 18 ст. дзейнічала Параскеўская царква. 17.4.1847 г. царква згарэла і ў 1853 г. збудавана новая, мураваная (з'яўляецца помнікам архітэктуры позняга барока). Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1795 г. сяло, 26 двароў. У 1850 г. 28 двароў, 161 жыхар, уладанне палк. Бразіна. У 1864 г. адкрыта нар. вучылішча, якое размяшчалася ў наёмнай сял. хаце. У 1885 г. 32 двары, 266 жыхароў. Паводле перапісу 1897 г. сяло, царква, нар. вучылішча, хлебазапасны магазін, карчма, у Нараўлянскай вол. Рэчыцкага пав. Мінскай губ. У 1908 г. 86 двароў, 572 жыхары. З 20.8.1924 г. цэнтр Вербавіцкага с/с Нараўлянскага, з 25.12.1962 г. Ельскага, з 6.1.1965 г. Нараўлянскага р-на Мазырскай (да 26.7.1930 і з 21.6.1935 да 20.2. 1938) акругі, з 20.2.1938 г. Палескай, з 8.1.1954 г. Гомельскай абл. У пач. 1925 г. адкрыта паштовае аддз. У 1930 г. арганізаваны калгасы «Камунар» і «Новыя Вербавічы», працавалі вятрак (з 1922) і кузня. У 1932 г. да вёскі далучаны пасёлкі Буглакі, Меляхі, Нідзеічы, у 1939 г. — хутары Свіркі і Меляхі. У 1936 г. пач. школа ператворана ў 7-гадовую. У Вял. Айч. вайну дзейнічала патрыят. падп.



*Царква святой Параскевы ў в. Вербавічы. 1853 г.*

група (кіраўнік Н.Кулажанка). У баі за вёску і наваколле ў ліст. 1943 г. загінуў 21 воін (пахаваны ў брацкай магіле ў цэнтры вёскі). 179 вяскоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 1150 жыхароў. Цэнтр калгаса «Кастрычнік». Размешчаны майстэрня камбіната быт. абслугоўвання, сярэдняя школа, Дом культуры, б-ка, фельч.-акушэрскі пункт, аддз. сувязі, 3 магазіны, дзіцячы сад. Планіровачна складаецца з працяглай крывалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ, да цэнтра якой далучаецца кароткая вуліца. Забудова двухбаковая, пераважна драўляная, сядзібнага тыпу. Радзіма доктара біял. навук С.В. Кахненкі, бел. пісьменніка, засл. работніка культуры Беларусі В.М.Шчадрынай, засл. настаўніка БССР Н.М.Белайчука. Каля вёскі залежы мергелю.

**ВУГЛЫ** — вёска ў Кіраўскім с/с, за 25 км на Пд ад Нароўлі, 50 км ад чыг. ст. Ельск (на лініі Калінкавічы—Оўруч), 203 км ад Гомеля, на тэр. Палескага радыяцыйна-экалагічнага запаведніка. Праз вёску і на ўсх. ускраіне праходзяць меліярацыйныя каналы, злучаныя з Мухаедаўскім каналам, на З мяжуе з лесам. Аўтадарога звязвае вёску з в. Чапаеўка. У сувязі з радыяцыйным забруджаннем пасля Чарнобыльскай катастрофы жыхары (292 сям'і) пераселены ў 1986 г. ў чыстыя месцы, пераважна ў в. Верхняя Алба Жлобінскага р-на.

Па пісьмовых крыніцах вядома з 18 ст. як вёска ў Рэчыцкім пав. Мінскага ваяв. З 1764 г. ва ўладанні Аскеркаў. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. Вёска была секвестравана, аддадзена правадзейнаму тайнаму саветніку Я.Сіверсу, а затым у валоданне Горватаў. У 1834 г. 2 вёскі: Старыя Вуглы (14 двароў) і Новыя Вуглы (25 двароў). У 1850 г. 48 двароў, у Дзёрнавіцкай вол. Рэчыцкага пав. Мінскай губ. Паводле перапісу 1897 г. 75 двароў, 430 жыхароў, царк.-прыходская школа (з 1890), хлебазапасны магазін, смалакурня. У 1908 г. 91 двор, 570 жыхароў. Вялікія страты панесла вёска ў выніку пажару 15.4.1925 г., калі згарэлі пабудовы ў 65 дварах. З 20.8.1924 г. да 1987 г. цэнтр Вуглоўскага с/с Нараўлянскага, з 25.12. 1962 г. Ельскага, з 6.1.1965 г. Нараўлянскага р-на Мазырскай (да 28.7.1930 з 21.6.1935 да 20.2.1938) акругі, з 20.2.1938 г. Палескай, з 8.1.1954 г. Гомельскай абл. У канцы 1920-х г. узведзены школьны будынак. У 1930 г. арганізаваны калгас «Чырвоны Кастрычнік», працавалі цагельня, паравы млын, кузня, ваўначоска. У 1940 г. 225 двароў, 1125 жыхароў. У Вял. Айч. вайну дзейнічала маладзёжная патрыят. група (кіраўнік Н.Антоненка). Ням.-фаш. акупанты спалілі ў ліп. 1943 г. 224 двары і загубілі 19 жыхароў (пахаваны ў магіле ахвяр фашызму ў цэнтры вёскі). У баях каля вёскі загінулі 6 воінаў і 2 партызаны (пахаваны ў брацкай магіле). Вызвалена 30.11.1943 г. На фронце загінулі 110 вяскоўцаў. Паводле перапісу 1959 г. 941 жыхар, у 1986 г. 292 двары, 806 жыхароў. Была цэнтрам саўгаса «Партызанскі». Размяшчаліся сярэдняя школа, б-ка, Дом культуры, агароднінасушыльны з-д, аддз. сувязі, фельч.-акушэрскі пункт, 2 магазіны, Вуглоўскае лясніцтва. Планіровачна складаецца з дзвюх падзеленых меліярацыйным каналам частак: зах. (прамалінейная вуліца, арыентаваная з ПдУ на ПнЗ, ад якой на Пд адыходзіць кароткая вуліца, якая злучае ў адзінае цэлае абедзве часткі вёскі) і ўсх. (крывалінейная, амаль паралельная да асн. вуліцы першай часткі вёскі, ад якой на У адыходзяць завулкі). Забудова пераважна аднабаковая, драўляная, сядзібнага тыпу. Каля вёскі залежы жалезнякоў.

У склад Вуглоўскага с/с уваходзілі да 1932 г. пасёлкі Буглакі, Меляхі, Нідзеічы, да 1938 г. хутары Буда, Барашоўцы, Валёры, Ваўчкоўцы, Зінявецкі, Знайды, Каліноўнік, Львінскія, Рудзянцова, Сеўрукоўскі, Чарапанскі, да 1939 г. хут. Свіркі (не існуюць).

**ВЯЖЫШЧА** — вёска ў Вербавіцкім с/с, за 18 км на ПдУ ад Нароўлі, 43 км ад

чыг. ст. Ельск (на лініі Калінкавічы—Оўруч), 196 км ад Гомеля, на р. Славечна (прыток р. Прыпяць), на тэр. Палескага радыяцыйна-экалагічнага запаведніка. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, а затым аўтадарозе Дзёрнавічы—Нароўля. У сувязі з радыяцыйным забруджаннем пасля Чарнобыльскай катастрофы жыхары (83 сям'і) пераселены ў 1986 г. ў чыстыя месцы, пераважна ў Светлагорскі р-н.

Па пісьмовых крыніцах вядома з пач. 19 ст. як вёска ў Нараўлянскай вол. Рэчыцкага пав. Гомельскай губ. У 1811 г. ўладанне Гольста, пазней ва ўладанні А.Горвата, у складзе маёнтка Нароўля. Дзейнічала прыстань. Паводле перапісу 1897 г. 39 двароў, 176 жыхароў. У 1908 г. 43 двары, 319 жыхароў. У 1931 г. арганізаваны калгас «Вольная праца», меліся млын і кузня. У Вял. Айч. вайну вызвалена 28.11.1943 г. часцямі 418-й стралк. дывізіі разам з партызанамі. 21 вясковец загінуў на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 342 жыхары, у 1986 г. 85 двароў, 183 жыхары. Уваходзіла ў склад саўгаса «Дзёрнавічы» (цэнтр — в. Дзёрнавічы). Планіровачна складаецца з шыротнай вуліцы, да якой на У далучаецца вуліца мерыдыянальнай арыентацыі. Забудова двухбаковая, драўляная, сядзібнага тыпу.

**ВЯПРЫ** — вёска ў Вербавіцкім с/с, за 33 км на ПдУ ад Нароўлі, 58 км км ад чыг. ст. Ельск (на лініі Калінкавічы—Оўруч), 211 км ад Гомеля, на тэр. Палескага радыяцыйна-экалагічнага запаведніка, на ўсх. ускраіне — воз. Плоскае. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, а затым аўтадарозе Дзёрнавічы—Нароўля. У сувязі з радыяцыйным забруджаннем пасля Чарнобыльскай катастрофы жыхары (98 сямей) пераселены ў 1986 г. ў чыстыя месцы, пераважна ў г.п. Даманавічы і в. Савічы Калінкавіцкага р-на.

Выяўленыя археолагамі рэшткі пасяленняў бронз. веку (0,3 км на З ад вёскі) і бронз. і жалезнага вякоў (2 км на ПнЗ ад вёскі) сведчаць аб засяленні тутэйшых мясцін у глыбокай старажытнасці. Па пісьмовых крыніцах вядома з 17 ст. Пад 1610 г. пазначана як сяло ў маёнтку Белы Бераг. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1834 г. 17 двароў, у Дзёрнавіцкай вол. Рэчыцкага пав. Мінскай губ., уладанне двараніна Горвата. У 1908 г. 70 двароў, 592 жыхары, земская школа. У 1929 г. арганізаваны калгас «Чырвоны ўсход». У Вял. Айч. вайну ў сак. 1942 г. ням.-фаш. карнікі поўнасцю спалілі вёску і загубілі 17 жыхароў. 97 вяскоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 483 жыхары, у 1986 г. 99 двароў, 205 жыхароў. Уваходзіла ў склад саўгаса «Прыпяць» (цэнтр — в. Даўляды). Мелася пач. школа, магазін. Планіровачна складаецца з крыху выгнутай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ, з 2 завулкамі і 2 маленькімі ўчасткамі адасобленай забудовы. Жылыя дамы драўляныя, сядзібнага тыпу, пастаўлены пераважна аднабакова. Побач з вёскай — залежы пяскоў і цагельнай сыравіны (0,4 млн. $м^3$).

**ГАБРЫЛЕЕЎКА** — вёска ў Кіраўскім с/с, за 44 км на Пд ад Нароўлі, 41 км ад чыг. ст. Ельск (на лініі Калінкавічы—Оўруч), 222 км ад Гомеля, на р. Ілля (прыток р. Уж), на З — урочышча Краснае, на Пд — урочышча Дубрава. Аўтадарога злучае вёску з Нароўляй. 25 гаспадарак, 37 жыхароў (2004 г.).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 19 ст. як вёска ў Дзёрнавіцкай вол. Рэчыцкага пав. Мінскай губ. Паводле перапісу 1897 г. 22 двары, 112 жыхароў. У 1908 г. 29 двароў, 180 жыхароў. У 1931 г. арганізаваны калгас, працавала кузня. У Вял. Айч. вайну дзейнічала патрыят. маладзёжная група (кіраўнік Неўмяржыцкая). Ням.-фаш. акупанты загубілі 15 жыхароў. 22 вяскоўцы загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 189 жыхароў. У складзе саўгаса «Кіраўскі» (цэнтр — в. Кіраў). Планіровачна складаецца з крыху выгнутай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ і перпендыкулярна перакрыжаванай кароткай мерыдыянальнай



*Уязныя вароты сядзібы 19 ст. ў в. Галоўчыцы.*

вуліцай. Забудавана двухбакова драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**ГАЖЫН** — вёска ў Галоўчыцкім с/с, за 13 км ад чыг. ст. Ельск (на лініі Калінкавічы—Оўруч), 196 км ад Гомеля, на р. Славечна (прыток р. Прыпяць), на У, Пн і З меліярацыйныя каналы. Транспартныя сувязі па аўтадарозе, якая звязвае вёску з Нароўляй. 113 гаспадарак, 235 жыхароў (2004 г.).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 19 ст. як вёска ў Рэчыцкім пав. Мінскай губ. У 1811 г. уладанне Гольста. У 1825 г. вёску купіў С.І.Горват. У 1834 г. 22 двары, у 1850 г. 29 двароў. Пад 1879 г. пазначана ў ліку паселішчаў Дзямідавіцкага царк. прыхода. Паводле перапісу 1897 г. 47 двароў, 292 жыхары, у Нараўлянскай вол. Рэчыцкага пав. У 1908 г. 65 двароў, 408 жыхароў. У Вял. Айч. вайну дзейнічала маладзёжная патрыят. група (кіраўнік Навуменка). У баях каля вёскі загінулі 24 воіны (пахаваны ў брацкай магіле на могілках). 53 вяскоўцы загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 675 жыхароў. У складзе калгаса «Дружба» (цэнтр — в. Дзямідаў). Размешчаны б-ка, фельч.-акушэрскі пункт, Дом культуры. Планіровачна складаецца з крыху выгнутай вуліцы, да якой з Пд і Пн далучаюцца завулкі. Забудова двухбаковая, пераважна драўляная, сядзібнага тыпу.

**ГАЛОЎЧЫЦЫ** — вёска, цэнтр Галоўчыцкага с/с, за 20 км на ПдЗ ад Нароўлі, 25 км ад чыг. ст. Ельск (на лініі Калінкавічы—Оўруч), 196 км ад Гомеля, на З меліярацыйны канал. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, а затым аўтадарозе Ельск—Нароўля. 168 гаспадарак, 419 жыхароў (2004 г.).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 18 ст. як вёска ў Рэчыцкім пав. Мінскага ваяв., уласнасць казны. З 1764 г. ў валоданні Аскеркаў. Была цэнтрам староства, якое ў 1765 г. аб'ядноўвала 4 вёскі з 37 гаспадаркамі. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. Вёска была секвестравана і перададзена праўдзейнаму тайнаму саветніку Я.Сіверсу. У 1795 г. 22 двары, у 1816 г. 32 двары. У 1825 г. вёску купіў С.І.Горват, які ў 1844 г. заснаваў тут вінакурню (14 рабочых). У 1850 г. 41 двор. Пазначана на карце 1866 г., якой карысталася Зах. меліярацыйная экспедыцыя, што працавала ў гэтых месцах у 1890-я г. Дваранін Горват меў у вёсках Галоўчыцы і Дудзічы ў 1876 г. 44 688 дзес. зямлі, 2 вадзяныя млыны, 3 карчмы. Пад 1879 г. пазначана ў ліку паселішчаў Дзямідавіцкага царк. прыхода. У 1885 г. 42 двары, 380 жыхароў, царква, у Камаровіцкай вол. Паводле перапісу 1897 г. 66 двароў, хлебазапасны магазін, 3 крамы, карчма. Памешчык Горват заклаў каля вёскі сады агульнай плошчай больш 80 га. У пач. 20 ст. меліся конскі і спіртаачышчальны з-ды. У 1908 г. ў вёсцы 87 двароў, 573 жыхары, у фальварку 6 двароў, 67 жыхароў, у Нараўлянскай вол. Рэчыцкага пав. У 1913 г. адкрыта школа, якая размяшчалася ў наёмнай сял. хаце, а ў пач. 1920-х г. у нацыяналізаваным будынку. У пач. 20 ст. адбыліся выступленні сялян супраць прыгнёту памешчыка. З 20.8.1924 г. цэнтр Галоўчыцкага с/с Нараўлянскага, з 25.12.1962 г. Ельскага, з 6.1.1965 г. Нараўлянскага р-на Мазырскай (да 26.7.1930 і з 21.6.1935 да 20.2.1938) акругі, з 20.2.1938 г. Палескай, з 8.1.1954 г. Гомельскай абл. Дзейнічаў саўгас «Камунар». У 1930 г. арганізаваны калгасы «Рашучы» і «Чырвоны прамень», працавалі 3 кузні, сталярная і шорная майстэрні. У 1930 г. пач. школа пераўтворана ў 7-гадовую. У Вял. Айч. вайну дзейні-

чалі 3 маладзёжныя патрыят. групы (кіраўнікі А.Васілеўская, Н.Васілеўская, В.Горбелеў). У баі каля вёскі ў ліст. 1943 г. загінулі 3 воіны і 4 партызаны (пахаваны ў брацкай магіле каля школы). Вызвалена 28.11.1943 г. На фронце загінулі 135 вяскоўцаў. Паводле перапісу 1959 г. 708 жыхароў. У 1969 г. да вёскі далучана в. Маёнтак. Цэнтр калгаса «Галоўчыцы». Размешчаны цагельня (з 1947), лясніцтва, швейная і шавецкая майстэрні, сярэдняя школа (у парку), санаторна-лясная школа, Дом культуры, б-ка, б-ца, аптэка, вет. пункт, дзіцячыя яслі-сад, аддз. сувязі, 5 магазінаў. Планіровачна складаецца з дзвюх падзеленых паркам частак: зах. (2 кароткія мерыдыянальнай арыентацыі, паралельныя паміж сабой вуліцы, да ўсх. з якіх перпендыкулярна далучаюцца 2 кароткія вуліцы) і ўсх. (прамалінейная мерыдыянальнай арыентацыі вуліца). Жылыя дамы драўляныя, сядзібнага тыпу. Радзіма бел. мастака І.І.Данільчанкі. Побач з вёскай — залежы пяскоў і цагельнай сыравіны (1,2 млн. м$^3$), суглінкаў і мергелю.

**ГАМАРНЯ** — вёска ў Вербавіцкім с/с, за 16 км на Пд ад Нароўлі, 41 км ад чыг. ст. Ельск (на лініі Калінкавічы—Оўруч), 196 км ад Гомеля, на тэр. Палескага радыяцыйна-экалагічнага запаведніка. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, а затым аўтадарозе Кіраў—Нароўля. У сувязі з радыяцыйным забруджаннем пасля Чарнобыльскай катастрофы жыхары (6 сямей) перасялены ў 1986 г. ў чыстыя месцы, пераважна ў в. Валаўск Ельскага р-на.

Па пісьмовых крыніцах вядома з 19 ст. як сяло ў Нараўлянскай вол. Рэчыцкага пав. Мінскай губ. У 1908 г. 16 двароў, 117 жыхароў. У 1931 г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну 11 вяскоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 76 жыхароў, у 1986 г. 6 двароў, 13 жыхароў. Уваходзіла ў склад калгаса «Усход». У сувязі з надзвычай высокай радыяцыйнай забруджанасцю ўсе будынкі разбураны і пахаваны пад тоўстым слоем зямлі. Каля вёскі ёсць залежы жалезнякоў.

**ГРУШАЎКА** — вёска ў Вербавіцкім с/с, за 20 км на ПдЗ ад Нароўлі, 35 км ад чыг. ст. Ельск (на лініі Калінкавічы—Оўруч), 198 км ад Гомеля, на р. Славечна (прыток р. Прыпяць), на Пн і У меліярацыйныя каналы. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, а затым аўтадарозе Кіраў—Нароўля. 116 гаспадарак, 292 жыхары (2004 г.).

Па пісьмовых крыніцах вядома з пач. 19 ст. як вёска ў Нараўлянскай вол. Рэчыцкага пав. Мінскай губ. У 1811 г. ва ўладанні Гольста. У 1825 г. вёску купіў С.І.Горват. У 1834 г. 12 двароў, у 1850 г. 16 двароў. Паводле перапісу 1897 г. 48 двароў, 314 жыхароў. У 1908 г. 62 двары, 501 жыхар. У 1931 г. арганізаваны калгас «Камінтэрн», працавалі кузня і ваўначоска. У 1940 г. 147 двароў, 1440 жыхароў. У Вял. Айч. вайну ў жн. 1943 г. ням.-фаш. акупанты поўнасцю спалілі вёску і загубілі 4 жыхароў. 43 вяскоўцы загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 748 жыхароў. Цэнтр калгаса імя М.В.Фрунзе. Размешчаны пач. школа, Дом культуры, б-ка, фельч.-акушэрскі пункт, магазін, аддз. сувязі. Планіровачна складаецца з дугападобнай вуліцы, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ і забудаванай двухбакова драўлянымі сял. сядзібамі.

**ГРЫДНІ** — вёска ў Вербавіцкім с/с, за 8 км на Пд ад Нароўлі, 32 км ад чыг. ст. Ельск (на лініі Калінкавічы—Оўруч), 187 км ад Гомеля, на р. Мытва (прыток р. Прыпяць). Транспартныя сувязі па прасёлачнай, а затым аўтадарозе Новая Радча—Нароўля. У сувязі з радыяцыйным забруджаннем пасля Чарнобыльскай катастрофы ў 1986 г. жыхары перасялены ў чыстыя месцы, пераважна ў в. Валаўск Ельскага р-на. У апошнія гады тут размясцілася невял. колькасць самасёлаў.

Па пісьмовых крыніцах вядома з 18 ст. як вёска ў Рэчыцкім пав. Мінскага ваяв. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1795 г.

12 двароў, 113 жыхароў, уладанне Кавальскіх, дзейнічала царква. У 1850 г. 34 двары, ва ўладанні палк. Бразіна. Пад 1879 г. пазначана ў ліку сяленняў Вербавіцкага царк. прыхода. Паводле перапісу 1897 г. 65 двароў, 395 жыхароў, хлебазапасны магазін. У 1908 г. 75 двароў, 519 жыхароў, у Нараўлянскай вол. Рэчыцкага пав. Мінскай губ. У 1931 г. арганізаваны калгас «Новыя Грыдні», працавала кузня. У 1933 г. адкрыта пач. школа. У Вял. Айч. вайну 65 вяскоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 489 жыхароў. Уваходзіла ў склад калгаса «Кастрычнік» (цэнтр — в. Вербавічы). Планіровачна складаецца з 2 дугападобных вуліц. Злучыўшыся, яны ўтварылі авалападобную канфігурацыю, у сярэдзіне якой кароткая мерыдыянальная вуліца. Забудова двухбаковая, драўляная, сядзібнага тыпу.

**ГУТА** — вёска, падпарадкавана Нараўлянскаму раённаму савету, за 4 км на Пн ад Нароўлі, 29 км ад чыг. ст. Ельск (на лініі Калінкавічы—Оўруч), 182 км ад Гомеля, 4 км ад пристані Нароўля (на р. Прыпяць), на У пойма і р. Прыпяць. Побач аўтадарога Барбароў—Нароўля. 3 гаспадаркі, 5 жыхароў (2004 г.).

Выяўленыя археолагамі на правай надпоймавай тэрасе Прыпяці, каля паўд. ускраіны вёскі, рэшткі пасялення бронз. веку і пазнейшых часоў сведчаць аб засяленні тутэйшых месц у глыбокай старажытнасці. Па пісьмовых крыніцах вядома з 18 ст. як в. Нараўлянская Гута ў Мазырскім пав. Мінскага ваяв. З 1790 г. працаваў з-д па вырабе шкла. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1795 г. 4 двары. Належала правадзейнаму тайнаму саветніку Я.Сіверсу. Пад 1879 г. пазначана ў ліку сяленняў Барбароўскага царк. прыхода. Паводле перапісу 1897 г. 10 двароў, 56 жыхароў. У 1908 г. 15 двароў, 145 жыхароў, у Нараўлянскай вол. Рэчыцкага пав. Мінскай губ. У 1932 г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У 1940 г. 31 двор, 97 жыхароў. У Вял. Айч. вайну ў ліст. 1943 г. ням.-фаш. акупанты поўнасцю спалілі вёску і загубілі 30 жыхароў. 14 вяскоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 86 жыхароў. У складзе вучгаса СПТВ-7 (цэнтр — г. Нароўля). Планіровачна складаецца з кароткай шыротнай вуліцы, абодва канцы якой загнуты на Пд. Забудова двухбаковая, драўляная, сядзібнага тыпу. Побач залежы каменнай солі.

**ДАНІЛЕЕЎКА** — вёска ў Вербавіцкім с/с, за 18 км на ПдУ ад Нароўлі, 43 км ад чыг. ст. Ельск (на лініі Калінкавічы—Оўруч), 196 км ад Гомеля, на тэр. Палескага радыяцыйна-экалагічнага запаведніка, побач аўтадарога Дзёрнавічы—Нароўля. У сувязі з радыяцыйным забруджаннем пасля Чарнобыльскай катастрофы жыхары (7 сямей) пераселены ў 1986 г. ў чыстыя месцы, пераважна ў Светлагорскі р-н.

Па пісьмовых крыніцах вядома з 19 ст. як сяло ў Нараўлянскай вол. Рэчыцкага пав. Мінскай губ. Паводле перапісу 1897 г. 13 двароў, 85 жыхароў. У 1908 г. 22 двары, 118 жыхароў. У 1931 г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. Паводле перапісу 1959 г. 134 жыхары, у 1986 г. 7 двароў, 28 жыхароў. Уваходзіла ў склад саўгаса «Дзёрнавічы». Планіровачна складаецца з кароткай, прамалінейнай, шыротнай вуліцы. У сувязі з надзвычай высокай радыяцыйнай забруджанасцю будынкі разбураны і пахаваны пад тоўстым слоем зямлі.

**ДАЎЛЯДЫ** — вёска ў Вербавіцкім с/с, за 52 км на ПдУ ад Нароўлі, 65 км ад чыг. ст. Ельск (на лініі Калінкавічы—Оўруч), 160 км ад Гомеля, на тэр. Палескага радыяцыйна-экалагічнага запаведніка, на У — пойма і р. Прыпяць (прыток р. Дняпро). Аўтадарога звязвае вёску з Хойнікамі. У сувязі з радыяцыйным забруджаннем пасля Чарнобыльскай катастрофы жыхары (183 сям'і) пераселены ў 1986 г. ў чыстыя месцы, пераважна ў в. Варатын Калінкавіцкага р-на.

Выяўленыя археолагамі рэшткі стаянкі бронз. веку і селішча жалез. веку і

пазнейшага часу (за 1,5 км на Пн ад вёскі) сведчаць аб дзейнасці чалавека ў гэтых месцах у глыбокай старажытнасці. Па пісьмовых крыніцах вядома з 17 ст. як вёска ў Мазырскім пав. Мінскага ваяв. У 1648—51 гг. каля вёскі адбываліся сутычкі харугваў ВКЛ з паўстанцкімі атрадамі. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1834 г. 64 двары, ва ўладанні двараніна Горвата. З 1897 г. дзейнічала паромная пераправа і смалакурня. У 1908 г. 74 двары, 544 жыхары і прыстань на Прыпяці, у Дзёрнавіцкай вол. Рэчыцкага пав. Мінскай губ. З 20.8.1924 да 1927 г. цэнтр Даўлядоўскага с/с Нараўлянскага, з 25.12.1962 г. Ельскага, з 6.1.1965 г. Нараўлянскага р-на Мазырскай (да 26.7. 1930 і з 21.6.1935 да 20.2.1938) акругі, з 20.2.1938 г. Палескай, з 8.1.1954 г. Гомельскай вобл. У 1929 г. арганізаваны калгас, працавала школа, паштовае аддзяленне. У Вял. Айч. вайну ням.-фаш. акупанты загубілі 28 жыхароў. У баях за вёску ў ліст. 1943 г. загінулі 10 воінаў (пахаваны ў брацкай магіле ў цэнтры вёскі). Вызвалена 30.11.1943 г. На фронце загінулі 70 вяскоўцаў. Паводле перапісу 1959 г. 498 жыхароў, у 1986 г. 183 двары, 474 жыхары. Была цэнтрам саўгаса «Прыпяць». Размяшчаліся 8-гадовая школа, Дом культуры, б-ка, фельч.-акушэрскі пункт, аддз. сувязі, швейная майстэрня, магазін. Планіроўка радыяльная — ад цэнтра ў розныя бакі адыходзяць кароткія вуліцы. На ПнЗ кароткая дугападобная вуліца. Забудова двухбаковая, драўляная, сядзібнага тыпу.

**ДВОРЫШЧА** — вёска ў Вербавіцкім с/с, за 12 км на Пд ад Нароўлі, 29 км ад чыг. ст. Ельск (на лініі Калінкавічы—Оўруч), 170 км ад Гомеля, на тэр. Палескага радыяцыйна-экалагічнага запаведніка. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, а затым аўтадарозе Новая Радча—Нароўля. У сувязі з радыяцыйным забруджаннем пасля Чарнобыльскай катастрофы жыхары (51 сям'я) перасялены ў 1986 г. ў чыстыя месцы, пераважна ў в. Раманаўка Мазырскага р-на.

Выяўленае археолагамі гарадзішча сведчыць аб засяленні гэтых мясцін у глыбокай старажытнасці. Па пісьмовых крыніцах вядома з пач. 19 ст. У 1811 г. пазначана як вёска ў Рэчыцкім пав. Мінскай губ., ва ўладанні Прозара. У 1834 г. 12 двароў. У 1908 г. 15 двароў, 100 жыхароў, у Нараўлянскай вол. Рэчыцкага пав. З 1925 г. дзейнічала малочная арцель. У 1931 г. арганізаваны калгас «Іскра», працавалі паравы млын (з 1925), кузня, сукнавальня. У Вял. Айч. вайну 21 вясковец загінуў на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 178 жыхароў, у 1986 г. 41 двор, 97 жыхароў. Уваходзіла ў склад калгаса «Усход». Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ, забудавана двухбакова драўлянымі сял. сядзібамі. У сувязі з надзвычай высокай радыяцыйнай забруджанасцю будынкі разбураны і пахаваны пад тоўстым слоем зямлі.

**ДЗЁРНАВІЧЫ** — вёска ў Вербавіцкім с/с, за 35 км на ПдУ ад Нароўлі, 50 км ад чыг. ст. Ельск (на лініі Калінкавічы—Оўруч), 218 км ад Гомеля, на тэр. Палескага радыяцыйна-экалагічнага запаведніка. Аўтадарога звязвае вёску з Нароўляй. У сувязі з радыяцыйным забруджаннем пасля катастрофы на Чарнобыльскай АЭС жыхары (308 сямей) перасялены ў чыстыя месцы, пераважна ў Светлагорскі р-н.

Выяўленая археолагамі стаянка каменнага веку (за 0,5—1,2 км на ПнУ ад вёскі) сведчыць аб засяленні тут у глыбокай старажытнасці. Па пісьмовых крыніцах вядома з 18 ст. як вёска ў Мазырскім пав. Мінскага ваяв. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1795 г. сяло ў Рэчыцкім пав. Мінскай губ., памешчыцкая ўласнасць. З 1838 г. дзейнічала царква. У 1850 г. 40 двароў, 330 жыхароў. Цэнтр Дзёрнавіцкай вол., у склад якой у 1885 г. ўваходзілі 30 сяленняў з 578 дварамі. Памешчык Ю.Е.Рэвут меў у 1876 г. ў ся-

ле і наваколлі 3685 дзес. зямлі і карчму. У 1885 г. 63 двары, 445 жыхароў, царква, смалакурня, прыстань на р. Прыпяць. Паводле перапісу 1897 г. 126 двароў, 680 жыхароў, школа граматы (з 1884), хлебазапасны магазін, карчма. У 1906 г. адкрыта земская школа, для якой у 1909 г. пабудавана памяшканне. У 1908 г. 158 двароў, 1070 жыхароў. У 1914 г. адкрыты медыцынскі пункт. З 20.8.1924 г. да 1987 г. цэнтр Дзёрнавіцкага с/с Нараўлянскага, з 25.12.1962 г. Ельскага, з 6.1.1965 г. Нараўлянскага р-на Мазырскай (да 26.7.1930 і з 21.6.1935 да 20.2. 1938) акругі, з 20.2.1938 г. Палескай, з 8.1.1954 г. Гомельскай абл. У 1926 г. створаны саўгас «Дзёрнавічы». У 1930 г. арганізаваны калгасы «Новы шлях» і «Чырвоны ўсход», працавалі 3 кузні, 2 стальмашні, ваўначоска, маслазавод. У сярэдзіне 1930-х г. створана Дзёрнавіцкая МТС. У 1939 г. да вёскі далучаны хут. Красілаўка. У Вял. Айч. вайну дзейнічала падп. маладзёжная група (кіраўнік В.Аксёнаў). Ням.-фаш. акупанты стварылі ў вёсцы свой апорны пункт, які разграмілі партызаны. У 1943 г. карнікі часткова спалілі вёску. Вызвалена 30.11. 1943 г. У баі каля вёскі восенню 1943 г. вызначыўся наводчык станковага кулямёта І.М.Анціпін (удастоены звання Героя Сав. Саюза). 78 вяскоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 1016 жыхароў, у 1986 г. 303 двары, 732 жыхары. Была цэнтрам саўгаса «Дзёрнавічы» (створаны ў пач. 1959 г. на вытв. базе Дзёрнавіцкай МТС). Размяшчаліся сярэдняя школа, клуб, б-ка, б-ца, фельч.-акушэрскі пункт, аптэка, аддз. сувязі, лясніцтва, 2 магазіны. Планіровачна складаецца з 2 працяглых прамалінейных і 1 кароткай вуліц мерыдыянальнай арыентацыі, якія злучаны папярочнымі вуліцамі. Да працяглых вуліц далучаюцца 3 завулкі. Забудова драўляная, пераважна двухбаковая, сядзібнага тыпу. Каля вёскі залежы гліны.

У склад Дзёрнавіцкага с/с уваходзіў да 1939 г. хут. Красілаўка (не існуе).

**ДЗЯМІДАЎ** – вёска ў Галоўчыцкім с/с, за 29 км на ПдЗ ад Нароўлі, 28 км ад чыг. ст. Ельск (на лініі Калінкавічы–Оўруч), 207 км ад Гомеля, на р. Славечна (прыток р. Прыпяць) і аўтадарозе Гажын–Нароўля, на Пн – урочышча Згонскі лес, на У – урочышча Гарадзішча. 121 гаспадарка, 284 жыхары (2004 г.).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 16 ст. як в. Дзямідавічы ў Мазырскім пав. Мінскага ваяв. ВКЛ, шляхецкая ўласнасць. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. Дзейнічала руданлавільня, якая давала 7–9 пудоў металу ў дзень. У 1795 г. 36 двароў. У канцы 18 ст. збудавана драўляная Раства-Багародзіцкая царква (у ёй захоўваліся метрычныя кнігі з 1800). Працавалі млын і рудаплавільня. У 1825 г. вёску ў Гольстаў купіў С.І.Горват. У 1864 г. адчынена нар. вучылішча. У 1885 г. 158 жыхароў, царква, жалезны з-д, вадзяны млын. Паводле перапісу 1897 г. 59 двароў, 232 жыхары, царква, царк.-прыходская школа, хлебазапасны магазін. У 1908 г. 85 двароў, 614 жыхароў, у Нараўлянскай вол. Рэчыцкага пав. Мінскай губ. З 20.8.1924 г. да 16.7.1954 г. цэнтр Дзямідаўскага с/с Нараўлянскага р-на Мазырскай (да 26.7.1930 і з 21.6.1935 да 20.2.1938) акругі, з 20.2.1938 г. Палескай, з 8.1.1954 г. Гомельскай абл. У 1930 г. арганізаваны калгас «Ударнік», працаваў вадзяны млын (з 1914). Пач. школа ў 1930-х г. ператворана ў 7-гадовую. У 1940 г. 130 двароў. У Вял. Айч. вайну дзейнічала маладзёжная патрыят. група (кіраўнік І.Смыкоўскі). У ліп. 1943 г. ням.-фаш. акупанты спалілі 129 двароў і загубілі 7 жыхароў. 76 вяскоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 538 жыхароў. Цэнтр саўгаса «Дружба». Размешчаны лясніцтва, швейная майстэрня, 9-гадовая школа, клуб, б-ка, дзіцячы сад, фельч.-акушэрскі і вет. пункты, аддз. сувязі, 2 магазіны. Планіровачна складаецца з працяглай крывалінейнай, шыротнай вуліцы, да якой у цэнтры з Пд і Пн далучаюцца будынкі,

не аформленыя ў асобныя вуліцы. Забудова двухбаковая, драўляная, сядзібнага тыпу. Радзіма доктара мед. навук, прафесара І.У.Дуды. Каля вёскі залежы жалезняку.

**ДЗЯРЖЫНСК** (да 20.4.1939 Святоцк) — вёска, цэнтр Красноўскага с/с, за 45 км на ПдЗ ад Нароўлі, 40 км ад чыг. ст. Ельск (на лініі Калінкавічы—Оўруч), 223 км ад Гомеля, на р. Ханя [прыток р. Жалонь (Мухаедаўскі канал)]. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, а затым аўтадарозе Кіраў—Нароўля. 39 гаспадарак, 89 жыхароў (2004 г.).

Па пісьмовых крыніцах вядома з пач. 20 ст., калі тут пачыналі размяшчацца перасяленцы з суседніх вёсак. Найбольш актыўная забудова прыпадае на 1920-я г. У 1930 г. арганізаваны калгас. У 1940 г. 49 двароў, 202 жыхары. У Вял. Айч. вайну ў жн. 1943 г. ням.-фаш. акупанты поўнасцю спалілі вёску і загубілі 3 жыхароў. 22 вяскоўцы загінулі на франтах, памяць аб якіх увекавечвае абеліск, пастаўлены ў 1967 г. ў цэнтры вёскі. 23 вяскоўцы загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 275 жыхароў. Са снеж. 1986 г. цэнтр Красноўскага с/с Нараўлянскага р-на. Цэнтр саўгаса «Дзяржынскі». Размешчаны 9-гадовая школа, Дом культуры, б-ка, фельч.-акушэрскі пункт, швейная майстэрня, магазін, аддз. сувязі. Планіровачна складаецца з працяглай, амаль прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ і забудаванай двухбакова драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**ДЗЯТЛІК** — вёска ў Кіраўскім с/с, за 47 км на ПдУ ад Нароўлі, 47 км ад чыг. ст. Ельск (на лініі Калінкавічы—Оўруч), 225 км ад Гомеля, 1 км ад дзярж. мяжы з Украінай, вакол лес. Транспартныя сувязі па прасёлачнай і далей аўтадарозе Кіраў—Нароўля. 8 гаспадарак, 12 жыхароў (2004 г.).

Засн. ў пач. 1920-х гг. перасяленцамі з суседніх вёсак на былых памешчыцкіх землях. У 1929 г. пачаў працаваць паравы млын. У 1932 г. арганізаваны калгас «Чырвоны шлях». У Вял. Айч. вайну на франтах і ў партыз. барацьбе загінулі 52 жыхары вёсак Дзятлік і Бук, памяць аб якіх ушаноўвае абеліск, пастаўлены ў 1967 г. ў цэнтры в. Бук. Паводле перапісу 1950 г. 227 жыхароў. У складзе падсобнай гаспадаркі «Кіраўскае» (цэнтр — в. Кіраў). Планіровачна складаецца з амаль прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ і забудаванай двухбакова драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**ДУБРОВА** — вёска ў Кіраўскім с/с, за 31 км на Пд ад Нароўлі, 56 км ад чыг. ст. Ельск (на лініі Калінкавічы—Оўруч), 209 км ад Гомеля, на тэр. Палескага радыяцыйна-экалагічнага запаведніка, за 1 км ад дзярж. мяжы з Украінай. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, а затым аўтадарозе Вуглы—Нароўля. У сувязі з радыяцыйным забруджаннем пасля Чарнобыльскай катастрофы жыхары (94 сям'і) перасялены ў 1986 г. ў чыстыя месцы, пераважна ў в. Папаратнае Жлобінскага р-на.



*А.Р.Корзун.*

Засн. ў канцы 19 ст. як ням. калонія. У 1908 г. хутар (2 двары, 15 жыхароў), у Крукавіцкай вол. Рэчыцкага пав. Мінскай губ. У сувязі з пачаткам у 1914 г. першай сусветнай вайны ўсе жыхары ням. нацыянальнасці былі выселены ў глыбокі тыл. Праз некаторы час паселішча пачало хутка расці. У 1922 г. адкрыта школа, якая размяшчалася ў наёмнай сял. хаце, а ў канцы 1920-х г. для яе ўзведзены свой будынак. У 1931 г. арганізаваны калгас «Чырвоны сцяг», працавала кузня. У 1938 г. ў вёску перасялены хутары Баршчоўцы, Каліноўнік і в. Буда. У Вял. Айч. вайну 43 вяскоўцы загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 407 жыхароў, у 1986 г. 94 двары, 230 жыхароў. Уваходзіла ў склад саўгаса «Партызанскі» (цэнтр — в. Вуглы). Планіровачна складаецца з 2 працяглых і 1 кароткай, паралельных паміж сабой вуліц мерыдыянальнай арыентацыі, злучаных на Пд шыротнай вуліцай. Забудова двухбаковая, драўляная, сядзібнага тыпу. Радзіма Героя Сав. Саюза А.Р.Корзу-

на. Яго імя нададзена вуліцы ў г. Нароўля. Каля вёскі ёсць залежы суглінкаў.

**ЗАВАЙЦЬ** – вёска, цэнтр Завайцянскага с/с, за 8 км на З ад Нароўлі, 20 км ад чыг. ст. Ельск (на лініі Калінкавічы–Оўруч), 186 км ад Гомеля, на У лес і меліярацыйныя каналы, злучаныя з р. Мытва (прыток р. Прыпяць). Транспартныя сувязі па прасёлачнай, а затым аўтадарозе Ельск–Нароўля. 127 гаспадарак, 305 жыхароў (2004 г.).

Знойдзены ў вёсцы скарб стараж. сярэбраных манет сведчыць аб дзейнасці чалавека ў гэтых месцах у далёкай старажытнасці. Па пісьмовых крыніцах вядома з 16 ст. як сяло ў Мазырскім пав. Мінскага ваяв. ВКЛ. У 1750–51 гг. вяскоўцы ўдзельнічалі ў антыфеадальным паўстанні. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1795 г. 40 двароў, 275 жыхароў. З 1800 г. працаваў з-д па вырабе паташу, які належаў Я.Сіверсу, а з 1813 г. — Горвату. У 1811 г. вёска ў Рэчыцкім пав. У 1834 г. 53 двары. Паводле перапісу 1897 г. 59 двароў, 315 жыхароў, хлебазапасны магазін. У 1908 г. 68 двароў, 449 жыхароў, у Нараўлянскай вол. Рэчыцкага пав. У 1916 г. адкрыта школа, якая размяшчалася ў наёмнай сял. хаце, а ў жн. 1925 г. для яе ўзведзены ўласны будынак. У 1930 г. арганізаваны калгас «Новая Завайць». У Вял. Айч. вайну дзейнічала маладзёжная патрыят. група (кіраўнік З.Жалудзь). У баях каля вёскі загінуў 31 воін (пахаваны ў брацкай магіле каля Дома культуры). 66 вяскоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 713 жыхароў. З 14.4.1962 г. цэнтр Завайцянскага с/с. Цэнтр калгаса «Чырвоны баец». Размешчаны 9-гадовая школа, Дом культуры, б-ка, фельч.-акушэрскі пункт, дзіцячы сад, аддз. сувязі, магазін. Планіровачна складаецца з прамалінейнай, мерыдыянальнай вуліцы, забудаванай шчыльна драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. Паблізу ёсць жалезарудныя залежы.

**ЗАРАКІТНАЕ** — вёска, падпарадкавана Нараўлянскаму раённаму савету, за 3 км на Пн ад Нароўлі, 29 км ад чыг. ст. Ельск (на лініі Калінкавічы–Оўруч), 182 км ад Гомеля, побач аўтадарога Барбароў–Нароўля. 7 гаспадарак, 13 жыхароў (2004 г.).

Выяўленае археолагамі гарадзішча (за 2 км на ПдЗ ад вёскі, ва ўрочышчы Акоп) сведчыць аб засяленні тутэйшых мясцін у далёкай старажытнасці. Па пісьмовых крыніцах вядома з 18 ст. як вёска ў Мазырскім пав. Мінскага ваяв. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1795 г. 14 двароў, 90 жыхароў. Паводле перапісу 1897 г. 27 двароў, 124 жыхары, хлебазапасны магазін. У 1908 г. 32 двары, 224 жыхары, у Нараўлянскай вол. Рэчыцкага пав. Мінскай губ. Час ад часу ў вяскоўцаў складваліся няпростыя адносіны з памешчыкам Горватам, землі якога суседнічалі з сял. надзеламі. У 1929 г. арганізаваны калгас. У 1940 г. 53 двары, 173 жыхары. У Вял. Айч. вайну ў ліст. 1943 г. ням.-фаш. акупанты поўнасцю спалілі вёску і загубілі 3 жыхароў. 28 вяскоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 194 жыхары. У складзе гаспадаркі СПТВ-7 (цэнтр — г. Нароўля). Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ і забудаванай двухбакова няшчыльна драўлянымі сял. сядзібамі. Побач залежы каменнай солі.

**КАЛІНІЧЫ** (да 30.7.1964 Кныроўка) — вёска ў Завайцянскім с/с, за 4 км на З ад Нароўлі, 18 км ад чыг. ст. Ельск (на лініі Калінкавічы–Оўруч), 182 км ад Гомеля, на аўтадарозе Ельск–Нароўля, на З і Пн меліярацыйныя каналы, злучаныя з р. Прыпяць, за ПдЗ — урочышча Смалегаўскае Гало. 31 гаспадарка, 55 жыхароў (2004 г.).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 18 ст. У 1811 г. вёска ў Рэчыцкім пав., уладанне Гольста. У 1834 г. 9 двароў, ва ўладанні двараніна Горвата. Паводле перапісу 1897 г. 20 двароў, 79 жыхароў. У 1908 г. 25 двароў, 187 жыхароў, у Нараўлянскай вол. Рэчыцкага пав. У 1931 г.

вяскоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну вызвалена ад ням.-фаш. акупантаў 29.11.1943 г. часцямі 415-й стралк. дывізіі. 16 вяскоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 254 жыхары. У складзе калгаса «Чырвоны баец» (цэнтр — в. Завайць). Планіровачна складаецца з прамалінейнай шыротнай вуліцы, да якой з ПдЗ далучаецца прамалінейная вуліца з завулкам. Забудова драўляная, няшчыльная, сядзібнага тыпу.

**КАНАТОП** — вёска ў Вербавіцкім с/с, за 5 км на ПдУ ад Нароўлі, 30 км ад чыг. ст. Ельск (на лініі Калінкавічы—Оўруч), 183 км ад Гомеля, на р. Прыпяць (прыток р. Дняпро) і аўтадарозе Дзёрнавічы—Нароўля, на Пд і У мяжуе з Палескім радыяцыйна-экалагічным запаведнікам. 69 гаспадарак, 157 жыхароў (2004 г.).

Выяўленыя археолагамі рэшткі паселішчаў бронз. веку (0,3 км на З і 1,5 м на ПдУ ад вёскі), а таксама стаянка каменнага веку і селішча мілаградскай культуры (на ПдЗ ад вёскі) сведчаць аб засяленні гэтых мясцін у глыбокай старажытнасці. Па пісьмовых крыніцах вядома з 16 ст. як паселішча ў Мазырскім пав. Мінскага ваяв. ВКЛ. У 1-й пал. 18 ст. ў валоданні езуітаў. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1795 г. 50 двароў, 300 жыхароў, драўляная царква. Ад Аскеркаў вёска перайшла да правадзейнага стацкага саветніка Ражарсона. Паводле рэвізскіх матэрыялаў 1850 г. 377 жыхароў. Была цэнтрам аднайменнага маёнтка, гаспадар якога памешчык Бразін у 1876 г. валодаў 6 тыс. дзес. зямлі, 2 корчмамі і 2 вадзянымі млынамі. У 1885 г. 59 двароў, 394 жыхары. Паводле перапісу 1897 г. 109 двароў, 596 жыхароў, царква, хлебазапасны магазін. Побач была памешчыцкая сядзіба. У 1906 г. адкрыта земская школа, якая размяшчалася ў наёмнай сял. хаце. У 1908 г. 138 двароў, 797 жыхароў, у Нараўлянскай вол. Рэчыцкага пав. Мінскай губ. У студз. 1911 г. вяскоўцы (да 300 чал.) аказалі супраціўленне валасному старшыні пры спагнанні збораў за зямлю, якую купіла сельскае таварыства ў памешчыка Бразіна. У канцы 1920-х г. узведзены школьны будынак, дзейнічала цагельня. У 1929 г. арганізаваны калгас «Новы Канатоп», працавалі вятрак і кузня. У 1939 г. да вёскі далучаны хут. Поспех. У Вял. Айч. вайну вызвалена ад ням.-фаш. акупантаў 29.11.1943 г. 415-й стралк. дывізіяй. 117 вяскоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 911 жыхароў. У складзе калгаса «Кастрычнік» (цэнтр — в. Вербавічы). Размешчаны б-ка, фельч.-акушэрскі пункт, клуб. Планіровачна складаецца з амаль прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ, да якой на У далучаецца прамалінейная вуліца. Забудова шчыльная, двухбаковая, драўляная, сядзібнага тыпу. Радзіма засл. настаўніцы БССР А.К.Бяглюк.

**КАРПАВІЧЫ** — вёска ў Вербавіцкім с/с, за 9 км на ПдУ ад Нароўлі, 34 км ад чыг. ст. Ельск (на лініі Калінкавічы—Оўруч), 187 км ад Гомеля, на тэр. Палескага радыяцыйна-экалагічнага запаведніка, на Пд і З меліярацыйныя каналы, злучаныя з р. Прыпяць. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, а затым аўтадарозе Дзёрнавічы—Нароўля. У сувязі з радыяцыйным забруджаннем пасля Чарнобыльскай катастрофы жыхары (62 сям'і) пераселены з 1986 г. ў чыстыя месцы, пераважна ў вёскі Бацвінава і Меркулавічы Чачэрскага р-на.

Выяўленыя археолагамі рэчы бронз. веку (0,3 км на З ад вёскі) і стаянка каменнага веку (на ПдЗ) сведчаць аб засяленні тутэйшых мясцін у глыбокай старажытнасці. Па пісьмовых крыніцах вядома з 18 ст. як вёска ў Рэчыцкім пав. Мінскага ваяв. ВКЛ. З 1764 г. ва ўладанні Аскеркаў. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. Вёска была секвестравана і перададзена правадзейнаму тайнаму саветніку Я.Сіверсу, а з 1825 г. ў валоданні С.І.Горвата. У 1795 г. 23 двары, у 1834 г. 28 двароў, 137 жыхароў. У 1850 г. 35 двароў, 145

жыхароў. У 1908 г. 37 двароў, 243 жыхары, цэнтр Карпавіцкай вол. (да 9.5.1923) Рэчыцкага пав. Мінскай губ. У 1929 г. арганізаваны калгас «Новы шлях», працавалі вятрак, конная крупарушка, кузня. У Вял. Айч. вайну вызвалена ад ням.-фаш. акупантаў 29.11.1943 г. 415-й стралк. дывізіяй. 60 вяскоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 298 жыхароў, у 1986 г. 62 двары, 189 жыхароў. Меліся клуб, магазін. Планіровачна складалася з прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ, да якой з Пд далучалася кароткая вуліца. Была забудавана двухбакова рэдка драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. У сувязі з надзвычай высокім радыяцыйным забруджаннем уся забудова разбурана і пахавана пад тоўстым слоем зямлі.



*С.Л.Садоўскі.*

**КІРАЎ** (да 20.4.1939 Махаеды) — вёска, цэнтр Кіраўскага с/с, за 38 км на Пд ад Нароўлі, 35 км ад чыг. ст. Ельск (на лініі Калікавічы—Оўруч), 216 км ад Гомеля, на аўтадарозе Габрылееўка—Нароўля, вакол лес, на У мяжуе з Палескім радыяцыйна-экалагічным запаведнікам. 159 гаспадарак, 388 жыхароў (2004 г.).

Выяўленае археолагамі гарадзішча (за 1,5 км на У ад вёскі) сведчыць аб засяленні тут у глыбокай старажытнасці. Па пісьмовых крыніцах вядома з 16 ст. як вёска ў Польскім каралеўстве. У адрозненне ад падняпроўскіх воласцей, дзе ў выніку правядзення агр. рэформы 1560 г. даннікі былі ператвораны ў чыншавікоў, вяскоўцы працягвалі плаціць памешчыку даніну, што было абумоўлена пераважна значнай аддаленасцю ад буйных гандл. цэнтраў. Пад 1566 г. пазначана ў матэрыялах па вызначэнні межаў новых паветаў, створаных па рэформе 1565—66 гг. З 1764 г. ва ўладанні Аскеркаў. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. Маёнтак Махаеды быў секвестраваны і ў 1802 г. перададзены казной памешчыку Гольсту, што выклікала рэзкія пратэсты сялян, якія не жадалі выконваць указ Мінскай казённай палаты аб перадачы вёскі новаму гаспадару. У 1830—31 гг. вяскоўцы ўдзельнічалі ў паўстанні, якое ў той час адбывалася на Беларусі і ў Літве. У 1850 г. 56 двароў, 393 жыхары, уласнасць казны. У 1852 г. адкрыта школа для дзяцей дзярж. сялян, якая размяшчалася ў наёмнай сял. хаце, а ў пач. 1920-х гг. ёй перададзены нацыяналізаваны будынак. У 1854 г. пабудавана Крыжаўзвіжанская царква. У 1885 г. 425 жыхароў. З 1914 г. працаваў медыцынскі пункт. У 1920 г. польскія інтэрвенты закатавалі трох сельскіх актывістаў, у памяць аб якіх у 1978 г. ў цэнтры вёскі пастаўлены абеліск. З 20.8.1924 г. цэнтр Махаедаўскага, з 20.4.1939 г. Кіраўскага с/с Нараўлянскага, з 25.12.1962 г. Ельскага, з 6.1.1965 г. Нараўлянскага р-на Мазырскай (да 26.7.1930 і з 21.6. 1935 да 20.2.1938) акругі, з 20.2.1938 г. Палескай, з 8.1.1954 г. Гомельскай абл. У пач. 1925 г. адкрыта паштовае аддз. У 1930 г. арганізаваны калгас «Заветы Леніна», працавала кузня, з 1934 г. б-ца і сярэдняя школа. У 1940 г. 327 двароў, 1119 жыхароў. У Вял. Айч. вайну дзейнічала патрыят. маладзёжная група (кіраўнік С.Л.Садоўскі). Партызаны 10.1. 1943 г. разграмілі гарнізон, які паставілі акупанты ў вёсцы. У ліп. 1943 г. ням.-фаш. карнікі спалілі 321 двор і загубілі 21 жыхара. Каля вёскі загінулі 8 воінаў і 3 партызаны (пахаваны ў брацкай магіле ў цэнтры вёскі). 141 вясковец загінуў на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 1295 жыхароў. Цэнтр падсобнай гаспадаркі раённага аб'яднання «Сельгасхімія». Размешчаны смаляны з-д, лясніцтва, камбінат быт. абслугоўвання, сярэдняя школа, дзіцячыя яслі-сад, Дом культуры, б-ка, б-ца, аптэка, аддз. сувязі, 4 магазіны. Планіровачна складаецца з працяглай, скрыўленай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ, да цэнтра якой далучаюцца кароткая і працяглая вуліцы. За

1 км на З ад асн. вуліц — адасоблены ўчастак забудовы. Жылыя дамы, пастаўленыя ўздоўж аўтадарогі, драўляныя, сядзібнага тыпу.

**КРАСНОЎКА** — вёска ў Красноўскім с/с, за 44 км на ПдЗ ад Нароўлі, 41 км ад чыг. ст. Ельск (на лініі Калінкавічы—Оўруч), 222 км ад Гомеля, на р. Ханя [прыток р. Жалонь (Мухаедаўскі канал)], вакол лес. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, а затым аўтадарозе Габрылееўка—Нароўля. 75 гаспадарак, 143 жыхары (2004 г.).

Выяўленыя археолагамі могільнік (9 насыпаў, за 1,5 км на ПдЗ ад вёскі, ва ўрочышчы Імхі) і могільнік (3 насыпы, за 1,5 км на ПдЗ ад вёскі) сведчаць аб засяленні тутэйшых мясцін у далёкай старажытнасці. Па пісьмовых крыніцах вядома з пач. 19 ст. У 1825 г. вёску ў Гольстаў купіў С.І.Горват. У 1834 г. 15 двароў, у Рэчыцкім пав. Паводле перапісу 1897 г. 60 двароў, 329 жыхароў, хлебазапасны магазін, у Дзёрнавіцкай вол. Рэчыцкага пав. Мінскай губ. У канцы 19 ст. збудавана вузкакалейка, якая звязвала вёску з Нароўляй. Па ёй перавозіўся лес, які затым сплаўляўся па Прыпяці. У фальварку Красноўка, які належаў Горватам, дзейнічала лесапільня (з 1898). У 1908 г. вёска (76 двароў, 509 жыхароў) і фальварак (17 жыхароў). У 1922 г. з в. Буда-Красноўская пераведзена ў в. Красноўка пач. школа. З 20.8.1924 г. да 17.12.1986 г. цэнтр Красноўскага с/с Нараўлянскага, з 25.12.1962 Ельскага, з 6.1.1965 Нараўлянскага р-наў Мазырскай (да 26.7. 1930 і з 21.6.1935 да 20.2.1938) акругі, з 20.2.1938 г. Палескай, з 8.1.1954 г. Гомельскай абл. У 1930 г. арганізаваны калгасы «Колас» і «Парыжская камуна», працавалі 2 кузні. У 1936 г. пач. школаператворана ў 7-гадовую. У Вял. Айч. вайну дзейнічала маладзёжная патрыят. група (кіраўнік С.Прэдчанка). Каля вёскі загінулі 9 воінаў і партызан (пахаваны ў брацкай магіле ў цэнтры вёскі). На франтах і ў партыз. барацьбе загінулі 106 вяскоўцаў, памяць аб якіх увекавечвае скульптура воіна, пастаўленая ў 1957 г. ў цэнтры вёскі. Паводле перапісу 1959 г. 710 жыхароў. У складзе саўгаса «Дзяржынскі» (цэнтр — в. Дзяржынск). Размешчаны камбінат быт. абслугоўвання, 9-гадовая школа, клуб, б-ка, фельч.-акушэрскі пункт, аддз. сувязі, магазін. Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ, якую па цэнтры перакрыжоўвае працяглая, крыху загнутая вуліца, а паралельна да яе з зах. боку праходзіць аддзеленая ракой трэцяя, карацейшая па памерах вуліца. Забудова двухбаковая, драўляная, сядзібнага тыпу.

**ЛЕНІНА** (да 1926 Пасёлак) — пасёлак у Кіраўскім с/с, за 22 км на Пд ад Нароўлі, 47 км ад чыг. ст. Ельск (на лініі Калінкавічы—Оўруч), 200 км ад Гомеля, на паўд. ускраіне Мухаеўдаўскі канал. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, а затым аўтадарозе Вуглы—Чапаеўка. У сувязі з радыяцыйным забруджаннем пасля Чарнобыльскай катастрофы жыхары (61 сям'я) перасялены ў 1986 г. ў чыстыя месцы.

Засн. ў 1920 г. перасяленцамі з суседніх вёсак на былых памешчыцкіх землях. У 1931 г. пасялкоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну дзейнічала патрыят. маладзёжная група (кіраўнік Н.Міхайлаў). Вызвалена 27.11.1943 г. 12 вяскоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 240 жыхароў. Уваходзіла ў склад саўгаса «Партызанскі» (цэнтр — в. Вуглы). Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, арыентаванай шыротна і забудаванай двухбакова драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**ЛІНАЎ** — вёска ў Галоўчыцкім с/с, за 18 км на З ад Нароўлі, 10 км ад чыг. ст. Ельск (на лініі Калінкавічы—Оўруч), 196 км ад Гомеля, на р. Мытва (прыток р. Прыпяць) і аўтадарозе Ельск—Нароўля, на Пд і У меліярацыйныя каналы, на

Пн мяжуе з лесам — урочышча Тарчыцы. 42 гаспадаркі, 89 жыхароў (2004 г.).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 18 ст. як паселішча ў Рэчыцкім пав. Мінскага ваяв. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1811 г. пазначана як вёска ва ўладанні Гольста. У 1825 г. вёску купіў С.І.Горват. У 1834 г. 9 двароў. У 1908 г. 21 двор, 159 жыхароў, у Нараўлянскай вол. Рэчыцкага пав. У аднайменным фальварку (былы фальварак Атолік) працавала лесапільня, а ў 1909 г. створана яшчэ адна лесапільня. У 1926 г. арганізавана с.-г. арцель. У 1931 г. створаны калгас «Адраджэнне», працавала кузня. У Вял. Айч. вайну 41 вясковец загінуў на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 307 жыхароў. У складзе калгаса «Савецкая Беларусь» (цэнтр — в. Буда-Галоўчыцкая). Размешчаны клуб. Планіровачна складаецца з крывалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ, дзе яна раздвойваецца. Забудова двухбаковая, драўляная, сядзібнага тыпу. Паблізу невялікія вугальныя залежы.

**ЛІСАВА** — вёска ў Кіраўскім с/с, за 29 км на Пд ад Нароўлі, 54 км ад чыг. ст. Ельск (на лініі Калінкавічы—Оўруч), 207 км ад Гомеля, на тэр. Прыпяцкага радыяцыйна-экалагічнага запаведніка, на р. Стрэлка (прыток р. Жалонь, Мухаедаўскі канал), вакол лес, на Пд урочышча Круг, на З урочышча Вялікі Сукман. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, а затым аўтадарозе Вуглы—Чапаеўка. У сувязі з радыяцыйным забруджаннем пасля Чарнобыльскай катастрофы жыхары (11 сямей) перaселены ў 1986 г. ў чыстыя месцы.

Па пісьмовых крыніцах вядома з 18 ст. як вёска ва ўладанні графа Юдзіцкага. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1795 г. 21 двор, у Рэчыцкім пав. Мінскай губ. У 1931 г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну 5 вяскоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 106 жыхароў. У складзе саўгаса «Партызанскі» (цэнтр — в. Вуглы). Планіровачна складаецца з кароткай вуліцы ўздоўж прасёлачнай дарогі, забудаванай хаатычна драўлянымі сял. сядзібамі.

**ЛІХАЎНЯ** — вёска ў Вербавіцкім с/с, за 17 км на Пд ад Нароўлі, 42 км ад чыг. ст. Ельск (на лініі Калінкавічы—Оўруч), 197 км ад Гомеля, на тэр. Палескага радыяцыйна-экалагічнага запаведніка, на р. Славечна (прыток р. Прыпяць). Транспартныя сувязі па прасёлачнай, а затым аўтадарозе Дзёрнавічы—Нароўля. У сувязі з радыяцыйным забруджаннем пасля Чарнобыльскай катастрофы (24 сям'і) перaселены ў 1986 г. ў чыстыя месцы, пераважна ў в. Васілёўка Светлагорскага р-на.

Па пісьмовых крыніцах вядома з пач. 19 ст. як паселішча ў Нараўлянскай вол. Рэчыцкага пав. Мінскай губ. Пад 1879 г. пазначана як паселішча ў Цебашкаўскім царк. прыходзе. У 1890 г. адкрыта школа граматы. Паводле перапісу 1897 г. 30 двароў, 190 жыхароў. У 1908 г. 40 двароў, 249 жыхароў. У 1931 г. арганізаваны калгас «Чырвоная пчолка», працавала кузня. У Вял. Айч. вайну дзейнічала патрыятыч. маладзёжная група (кіраўнік А.Война). Вызвалена 27.11.1943 г. 24 вяскоўцы загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 189 жыхароў, у 1986 г. 24 двары, 43 жыхары. Уваходзіла ў склад саўгаса «Дзёрнавічы». У сувязі з вельмі высокай забруджанасцю будынкі разбураны і пахаваны пад тоўстым слоем зямлі. Радзіма доктара мед. навук, прафесар Э.І.Збароўскага.

**ЛУБЕНЬ** — вёска ў Галоўчыцкім с/с, за 52 км на ПдЗ ад Нароўлі, 28 км ад чыг. ст. Ельск (на лініі Калінкавічы—Оўруч), 225 км ад Гомеля, вакол лес, на Пн сетка меліярацыйных каналаў, злучаных з р. Славечна (прыток р. Прыпяць). Побач аўтадарога Маскалёўка—Буда. 13 гаспадарак, 22 жыхары (2004 г.).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 19 ст. як вёска ў Нараўлянскай вол. Рэчыцкага пав. Мінскай губ. У 1890 г. адкрыта нар. вучылішча. Паводле перапісу 1897 г. 32 двары, 230 жыхароў. У 1908 г. 42 двары, 371 жыхар. У 1931 г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. Меліся пач. школа, дзіцячы сад. У 1940 г. 84 двары. У Вял. Айч. вайну дзейнічала маладзёжная патрыят. група (кіраўнік Адаменка). Ням.-фаш. акупанты 12.7.1943 г. спалілі вёску і загубілі 103 жыхары (пахаваны ў магіле ахвяр фашызму каля будынка школы). 42 вяскоўцы загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 382 жыхары. У складзе калгаса імя М.В.Фрунзе (цэнтр — в. Грушаўка). Размешчаны камбінат быт. абслугоўвання, 9-гадовая школа, клуб, фельч.-акушэрскі пункт, магазін. Планіровачна складаецца з прамалінейнай, мерыдыянальнай арыентацыі вуліцы, да якой на Пн далучаецца кароткая вуліца. Забудова двухбаковая, драўляная, сядзібнага тыпу.

**МАЛЬЦЫ** — вёска ў Галоўчыцкім с/с, за 57 км на ПдЗ ад Нароўлі, 33 км ад чыг. ст. Ельск (на лініі Калінкавічы—Оўруч), 235 км ад Гомеля, за 1 км ад дзярж. мяжы з Украінай, на р. Гразіва (прыток р. Славечна), на Пд і У мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, а затым аўтадарозе Маскалёўка—Дзямідаў. 13 гаспадарак, 32 жыхары (2004 г.).

Па пісьмовых крыніцах вядома з пач. 19 ст., калі тут працавала рудаплавільня, у Нараўлянскай вол. Рэчыцкага пав. Мінскай губ. У 1908 г. 46 двароў, 276 жыхароў. У 1929 г. арганізаваны калгас. У 1940 г. 98 двароў, 345 жыхароў. У Вял. Айч. вайну ва ўрочышчы Лысая Гара, што непадалёку ад вёскі, дыслацыраваліся партыз. атрады. У жн. 1943 г. ням.-фаш. акупанты поўнасцю спалілі вёску і загубілі 62 жыхароў (пахаваны ў магіле ахвяр фашызму). 34 вяскоўцы загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 226 жыхароў. У складзе калгаса імя М.В. Фрунзе (цэнтр — в. Грушаўка). Планіровачна складаецца з 3 кароткіх мерыдыянальнай арыентацыі вуліц, злучаных на Пд кароткай шыротнай вуліцай. Забудова двухбаковая, шчыльная, драўляная, сядзібнага тыпу.

**МАСКАЛЁЎКА** — вёска ў Красноўскім с/с, за 57 км на ПдЗ ад Нароўлі, 33 км ад чыг. ст. Ельск (на лініі Калінкавічы—Оўруч), 235 км ад Гомеля, вакол лес. Аўтадарога злучае вёску з в. Буда. 22 гаспадаркі, 35 жыхароў (2004 г.).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 18 ст. як вёска ў Мазырскім пав. Мінскага ваяв. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. Каля вёскі 5.5.1863 г. паўстанцы пад кіраўніцтвам Вішнеўскага трымалі жорсткі бой і былі разбіты. Паводле перапісу 1897 г. 20 двароў, 117 жыхароў. У 1908 г. 28 двароў, 219 жыхароў, у Нараўлянскай вол. Рэчыцкага пав. У 1929 г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну на франтах загінулі 16 вяскоўцаў, памяць аб якіх увекавечвае абеліск, пастаўлены ў 1970 г. каля клуба. Паводле перапісу 1959 г. 325 жыхароў. У складзе саўгаса «Дзяржынскі» (цэнтр — в. Дзяржынск). Размешчаны фельч.-акушэрскі пункт, клуб, аддз. сувязі. Планіровачна складаецца з прамалінейнай мерыдыянальнай вуліцы, на Пд да якой далучаецца кароткая прамалінейная вуліца. Забудова двухбаковая, няшчыльная, драўляная, сядзібнага тыпу.

**МІХАЙЛАЎКА** — вёска ў Кіраўскім с/с, за 21 км на Пд ад Нароўлі, 46 км ад чыг. ст. Ельск (на лініі Калінкавічы—Оўруч), 199 км ад Гомеля, на тэр. Палескага радыяцыйна-экалагічнага запаведніка, на аўтадарозе Вуглы—Чапаеўка, на У, Пн і З мяжуе з лесам. У сувязі з радыяцыйным забруджаннем пасля Чарнобыльскай катастрофы жыхары (57 сямей) пераселены ў 1986 г. ў чыстыя месцы, пераважна ў в. Прыбудак Жлобінскага р-на.

Па пісьмовых крыніцах вядома з 18 ст. як паселішча ў Мазырскім пав. Мінскага ваяв. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1795 г. 3 двары, 20 жыхароў. У 1850 г. 19 двароў, 136 жыхароў, ва ўладанні памешчыцы Ванчэўскай. У 1908 г. 32 двары, 252 жыхары, у Дзёрнавіцкай вол. Рэчыцкага пав. Мінскай губ. У 1931 г. арганізаваны калгас, працавала кузня. У Вял. Айч. вайну вызвалена 27.11.1943 г. 40 вяскоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 290 жыхароў, у 1986 г. 57 двароў, 109 жыхароў. Была ў складзе саўгаса «Партызанскі» (цэнтр — в. Вуглы). Меліся клуб і магазін. Планіровачна складаецца з дугападобнай вуліцы, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ. Забудова двухбаковая, шчыльная, драўляная, сядзібнага тыпу. Каля вёскі залежы жалезнякоў.

**НАДТАЧАЕЎКА** — вёска ў Вербавіцкім с/с, за 35 км на ПнУ ад Нароўлі, 60 км ад чыг. ст. Ельск (на лініі Калінкавічы—Оўруч), 213 км ад Гомеля, на тэр. Палескага радыяцыйна-экалагічнага запаведніка, на ўсх. ускраіне — воз. Старая Рэчка. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, а затым аўтадарозе Дзёрнавічы—Нароўля. У сувязі з радыяцыйным забруджаннем пасля Чарнобыльскай катастрофы жыхары (85 сямей) пераселены ў 1986 г. ў чыстыя месцы, пераважна ў в. Гарочычы Калінкавіцкага р-на.

Выяўленыя археолагамі знаходкі каменнага і жал. вякоў (за 0,5 км на Пд ад вёскі) сведчаць аб засяленні гэтых мясцін у глыбокай старажытнасці. Па пісьмовых крыніцах вядома з пач. 19 ст. як вёска ў Рэчыцкім пав. Мінскай губ., ва ўладанні двараніна Горвата. У 1834 г. 19 двароў. Пад 1879 г. упамінаецца ў ліку сяленняў Беласарокаўскага царк. прыхода. Паводле перапісу 1897 г. 26 двароў, 194 жыхары. У 1908 г. 47 двароў, 233 жыхары, у Дзёрнавіцкай вол. Рэчыцкага пав. У 1931 г. арганізаваны калгас імя В.М.Молатава, працавала кузня. У Вял. Айч. вайну 49 вяскоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 336 жыхароў, у 1986 г. 85 двароў, 186 жыхароў. Была ў складзе саўгаса «Прыпяць» (цэнтр — в. Даўляды). Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы амаль мерыдыянальнай арыентацыі, якая на Пн разгаліноўваецца на 3 кароткія вуліцы. Забудова двухбаковая, драўляная, сядзібнага тыпу.

**НІЧЫПАРАЎКА** — вёска ў Красноўскім с/с, за 42 км на ПдЗ ад Нароўлі, 42 км ад чыг. ст. Ельск (на лініі Калінкавічы—Оўруч), 220 км ад Гомеля, на р. Ханя [прыток р. Жалонь (Мухаедаўскі канал)], на З і Пн мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, а затым аўтадарозе Маскалёўка—Буда. 9 гаспадарак, 16 жыхароў (2004 г.).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 19 ст. як вёска ў Дзёрнавіцкай вол. Рэчыцкага пав. Мінскай губ. Паводле перапісу 1897 г. 26 двароў, 153 жыхары. У 1908 г. 32 двары, 240 жыхароў. У 1931 г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У 1940 г. 65 двароў, 125 жыхароў. У Вял. Айч. вайну дзейнічала маладзёжная патрыят. група (кіраўнік Б.Цалка). У жн. 1943 г. ням.-фаш. акупанты поўнасцю спалілі вёску і загубілі 14 жыхароў. 31 вясковец загінуў на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 220 жыхароў. У складзе саўгаса «Дзяржынскі» (цэнтр — в. Дзяржынск). Планіровачна складаецца з кароткай, крывалінейнай, амаль шыротнай арыентацыі вуліцы, забудаванай двухбакова драўлянымі сял. сядзібамі.

**НОВЫ МАЙДАН** — вёска ў Вербавіцкім с/с, за 25 км на ПдУ ад Нароўлі, 50 км ад чыг. ст. Ельск (на лініі Калінкавічы—Оўруч), 203 км ад Гомеля, на тэр. Палескага радыяцыйна-экалагічнага запаведніка, на Пн і праз вёску праходзіць меліярацыйны канал, злучаны з р. Жалонь (Мухаедаўскі канал). Транспартныя сувязі па прасёлачнай, а затым аў-

тадарозе Дзёрнавічы—Нароўля. У сувязі з радыяцыйным забруджаннем пасля Чарнобыльскай катастрофы жыхары (21 сям'я) перaселены ў 1986 г. ў чыстыя месцы.

Засн. ў пач. 20 ст. перасяленцамі з суседніх вёсак. Найбольш актыўная забудова прыпадае на 1920-я г. У 1931 г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну дзейнічала маладзёжная патрыят. група (кіраўнік П.Пракапчук). Паводле перапісу 1959 г. 133 жыхары. Уваходзіла ў склад саўгаса «Дзёрнавічы» (цэнтр — в. Дзёрнавічы). Планіровачна складаецца з крыху скрыўленай шыротнай вуліцы, забудаванай двухбакова няшчыльна драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**ПЕРАМОГА** — пасёлак у Галоўчыцкім с/с, за 19 км на З ад Нароўлі, 9 км ад чыг. ст. Ельск (на лініі Калінкавічы—Оўруч), 197 км ад Гомеля, на З і У меліярацыйныя каналы, злучаныя з р. Мытва (прыток р. Прыпяць). Транспартныя сувязі па прасёлачнай, а затым аўтадарозе Ельск—Нароўля. 13 гаспадарак, 23 жыхары (2004 г.).

Засн. ў пач. 1920-х г. перасяленцамі з суседніх вёсак на былых памешчыцкіх землях. У 1932 г. пасялкоўцы ўступілі ў калгас. Паводле перапісу 1959 г. 172 жыхары. У складзе калгаса «Савецкая Беларусь» (цэнтр — в. Буда-Галоўчыцкая). Планіровачна складаецца з прамалінейнай шыротнай вуліцы, забудаванай двухбакова драўлянымі сял. сядзібамі.

**РАДАМЛЯ** (да 30.7.1964 Каўбасы) — вёска ў Кіраўскім с/с, за 27 км на Пд ад Нароўлі, 52 км ад чыг. ст. Ельск (на лініі Калінкавічы—Оўруч), 205 км ад Гомеля, вакол лес. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, а затым аўтадарозе Дзёрнавічы—Нароўля. У сувязі з радыяцыйным забруджаннем пасля Чарнобыльскай катастрофы жыхары (13 сямей) перaселены ў 1986 г. ў чыстыя месцы, пераважна ў в. Лукі Жлобінскага р-на.

Па пісьмовых крыніцах вядома з 19 ст. як хутар у Дзёрнавіцкай вол. Рэчыцкага пав. Мінскай губ. Паводле перапісу 1897 г. 5 двароў. У 1908 г. 42 жыхары. У 1931 г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. Паводле перапісу 1959 г. 116 жыхароў, у 1986 г. 14 двароў, 27 жыхароў. Была ў складзе саўгаса «Партызанскі» (цэнтр — в. Вуглы). Планіровачна складаецца з кароткай вуліцы, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ, да якой далучаюцца 2 завулкі. Будынкі драўляныя, сядзібнага тыпу, па абодва бакі вуліцы.

**РАЖАВА** — вёска ў Вербавіцкім с/с, за 35 км на ПдУ ад Нароўлі, 60 км ад чыг. ст. Ельск (на лініі Калінкавічы—Оўруч), 214 км ад Гомеля, на тэр. Палескага радыяцыйна-экалагічнага запаведніка, на р. Ражава (прыток р. Прыпяць). Транспартныя сувязі па прасёлачнай, а затым аўтадарозе Дзёрнавічы—Нароўля. У сувязі з радыяцыйным забруджаннем пасля Чарнобыльскай катастрофы жыхары (54 сям'і) перaселены ў 1986 г. ў чыстыя месцы, пераважна ў в. Крукавічы Калінкавіцкага р-на.

Выяўленае археолагамі каля вёскі мезалітычнае паселішча, якое датуецца 8—7 ст. да н.э., сведчыць аб засяленні тутэйшых мясцін у глыбокай старажытнасці. Па пісьмовых крыніцах вядома з пач. 19 ст., калі тут працавала рудаплавільня, якая належала правадзейнаму тайнаму саветніку Я.Сіверсу. У 1825 г. вёску купіў С.І.Горват. У 1834 г. 18 двароў, у Дзёрнавіцкай вол. Рэчыцкага пав. Мінскай губ. У 1908 г. 41 двор, 263 жыхары. У 1918 г. адкрыта школа, якая размяшчалася ў наёмнай сял. хаце. У 1931 г. арганізаваны калгас «Шлях Ільіча», працавала кузня. У Вял. Айч. вайну ням.-фаш. акупанты загубілі 10 жыхароў. 24 вяскоўцы загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 196 жыхароў, у 1986 г. 54 двары, 115 жыхароў. Была ў складзе саўгаса «Прыпяць» (цэнтр — в. Даўляды). Планіровачна складаецца з кароткай ву-

ліцы, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ, да якой з Пд далучаецца кароткая вуліца. На Пн, уздоўж прасёлачнай дарогі, — невялікі адасоблены ўчастак забудовы. Будынкі драўляныя, сядзібнага тыпу. Каля вёскі залежы гліны і жалезнякоў.

**РАМАНАЎКА** — вёска ў Завайцянскім с/с, за 11 км на З ад Нароўлі, 14 км ад чыг. ст. Ельск (на лініі Калінкавічы—Оўруч), 189 км ад Гомеля. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, а затым аўтадарозе Ельск—Нароўля. У сувязі з радыяцыйным забруджаннем пасля Чарнобыльскай катастрофы жыхары (83 сям'і) перасялены ў 1990—92 гг. у чыстыя месцы.

Па пісьмовых крыніцах вядома з 19 ст. як фальварак у Нараўлянскай вол. Рэчыцкага пав. У 1850 г. М.Д.Горват заснаваў тут спіртзавод (8 рабочых). Паводле перапісу 1897 г. 8 двароў, 103 жыхары. У 1908 г. 137 жыхароў. У 1921 г. арганізаваны саўгас, а ў 1931 г. — калгас «Чырвоны маяк», працавалі гантарэзка (з 1932), паравы млын, кузня. У 1939 г. ў вёску пераселены хут. Чэхі. У Вял. Айч. вайну дзейнічала маладзёжная патрыят. група (кіраўнік Якімчук). 9 вяскоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 298 жыхароў. Уваходзіла ў склад калгаса «Чырвоны баец» (цэнтр — в. Завайць). Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ, да цэнтра якой перпендыкулярна далучаецца з Пн кароткая вуліца. Забудавана двухбакова драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**СВЯЧА** — вёска ў Галоўчыцкім с/с, за 28 км на ПдЗ ад Нароўлі, 17 км ад чыг. ст. Ельск (на лініі Калінкавічы—Оўруч), 200 км ад Гомеля, на Пд, У і Пн меліярацыйныя каналы, злучаныя з р. Жалонь (Мухаедаўскі канал). Транспартныя сувязі па прасёлачнай, а затым аўтадарозе Гажын—Буда. 28 гаспадарак, 66 жыхароў (2004 г.).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 19 ст. як вёска ў Нараўлянскай вол. Рэчыцкага пав. Мінскай губ. Паводле перапісу 1897 г. 73 жыхары. У 1908 г. 14 двароў. У 1931 г. вяскоўцы ўступілі ў калгас, працавала кузня. У Вял. Айч. вайну 25 вяскоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 203 жыхары. У складзе саўгаса «Дружба» (цэнтр — в. Дзямідаў). Размешчаны клуб, участак па здабычы торфу. Планіровачна складаецца з прамалінейнай шыротнай вуліцы. Забудавана двухбакова драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**СМАЛЕГАЎ** — вёска ў Завайцянскім с/с, за 13 км на ПдЗ ад Нароўлі, 17 км ад чыг. ст. Ельск (на лініі Калінкавічы—Оўруч), 191 км ад Гомеля, на р. Мытва (прыток р. Прыпяць), на У, Пд і З мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, а затым аўтадарогах Дзямідаў—Буда і Ельск—Нароўля. 6 гаспадарак, 8 жыхароў (2004 г.).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 16 ст. як в. Смалегавічы ў Мазырскім пав. Мінскага ваяв. ВКЛ, шляхецкая ўласнасць. У 1750—51 гг. вяскоўцы ўдзельнічалі ў антыфеадальным паўстанні. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1795 г. 28 двароў, 187 жыхароў, царква. У 1825 г. вёску купіў у Гольстаў памешчык С.І.Горват. У 1834 г. 42 двары. Паводле перапісу 1897 г. 49 двароў, 199 жыхароў, хлебазапасны магазін, у Нараўлянскай вол. Рэчыцкага пав. Мінскай губ. У 1908 г. 65 двароў, 406 жыхароў. У 1931 г. арганізаваны калгас «Шлях сацыялізму», працавала кузня. З 1934 г. дзейнічала школа. У Вял. Айч. вайну ў баях за вёску загінулі 10 воінаў (пахаваны ў брацкай магіле на могілках). 43 вяскоўцы загінулі на фронце. Паводле 1959 г. 620 жыхароў. У складзе калгаса «Чырвоны баец» (цэнтр — в. Завайць). Размешчаны фельч.-акушэрскі пункт, клуб. Планіровачна складаецца з прамалінейнай, амаль шыротнай вуліцы, да якой з Пн далучаецца ка-

роткая вуліца, арыентаваная з ПдУ на ПнЗ. Забудова двухбаковая, драўляная, сядзібнага тыпу. Побач з вёскай залежы жалезнякоў.

**СМАЛЕГАЎСКАЯ РУДНЯ** — вёска ў Завайцянскім с/с, за 15 км на ПдЗ ад Нароўлі, 27 км ад чыг. ст. Ельск (на лініі Калінкавічы—Оўруч), 193 км ад Гомеля, на р. Мытва (прыток р. Прыпяць), на Пд і Пн мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, а затым аўтадарогах Дзямідаў—Буда і Ельск—Нароўля. У сувязі з радыяцыйным забруджаннем пасля Чарнобыльскай катастрофы жыхары (82 сям'і) у 1990—92 гг. адселены ў чыстыя месцы.

Па пісьмовых крыніцах вядома з 18 ст. як вёска ў Мазырскім пав. Мінскага ваяв. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1795 г. 16 двароў, працавалі млын і рудаплавільня, належала правадзейнаму тайнаму саветніку Я.Сіверсу. У 1825 г. вёску купіў С.І.Горват. У 1834 г. 20 двароў. Паводле перапісу 1897 г. 32 двары, 219 жыхароў. У 1908 г. 42 двары, 296 жыхароў, у Нараўлянскай вол. Рэчыцкага пав. Мінскай губ. У 1931 г. арганізаваны калгас імя С.М.Будзённага, працавала кузня. У Вял. Айч. вайну ў лесе, непадалёку ад вёскі, каля двух месяцаў базіраваўся партыз. атрад Корасценьскага р-на Украіны. У вёсцы дзейнічала патрыят. падполле (кіраўнік М.А.Фалейчук). Вызвалена 28.11.1943 г. 34 вяскоўцы загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 397, у 1986 г. 217 жыхароў. Была цэнтрам саўгаса «Нараўлянскі». Размяшчаліся пач. школа, клуб, б-ка, дзіцячы сад, фельч.-акушэрскі пункт, вет. ўчастак, магазін. Планіровачна складаецца з прамалінейнай, шыротнай вуліцы, да якой з Пн далучаюцца 2 кароткія, шчыльна забудаваныя вуліцы. Забудова драўляная, двухбаковая, сядзібнага тыпу.

**ФІЗІНКІ** — вёска, падпарадкавана Нараўлянскаму раённаму савету, за 2 км на ПдЗ ад Нароўлі, 27 км ад чыг. ст. Ельск (на лініі Калінкавічы—Оўруч), 180 км ад Гомеля, вакол меліярацыйныя каналы, злучаныя з р. Прыпяць. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, а затым аўтадарогах, якія адыходзяць ад Нароўлі. 45 гаспадарак, 115 жыхароў (2004 г.).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 19 ст., калі памешчык А.Горват у 1872 г. прывёз з Курляндскай губ. групу латышоў, якія засн. сваё паселішча. Размяшчаліся тут і перасяленцы з суседніх вёсак. Паводле перапісу 1897 г. 36 двароў, 151 жыхар, у Нараўлянскай вол. Рэчыцкага пав. Мінскай губ. У пач. 20 ст. адбыліся выступленні вяскоўцаў супраць памешчыка, які пачаў высяляць перасяленцаў. 15 сямей перасяліліся ў в. Родзін Хойніцкага р-на. Многія з іх у 1920-х г. вярнуліся зноў у в. Фізінкі. У 1926 г. створана с.-г. арцель. У 1931 г. вяскоўцы ўступілі ў калгас «Фізінка». У Вял. Айч. вайну 12 вяскоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 222 жыхары. У складзе саўгаса «Чырвоны баец» (цэнтр — в. Завайць). Размешчаны б-ка і клуб. Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ і забудаванай двухбакова драўлянымі сял. сядзібамі.

**ХАМЯНКІ** — вёска ў Красноўскім с/с, за 41 км на ПдЗ ад Нароўлі, 39 км ад чыг. ст. Ельск (на лініі Калінкавічы—Оўруч), 219 км ад Гомеля, на р. Ханя [прыток р. Жалонь (Мухаедаўскі канал)]. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, а затым аўтадарозе Кіраў—Нароўля. 24 гаспадаркі, 54 жыхары (2004 г.).

Засн. ў пач. 20 ст. перасяленцамі з суседніх вёсак. Найбольш актыўная забудова прыпадае на 1920-я г. У 1931 г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У 1940 г. 30 двароў, 139 жыхароў. У Вял. Айч. вайну ў жн. 1943 г. ням.-фаш. акупанты поўнасцю спалілі вёску. 14 вяскоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 193 жыхары. У складзе саўгаса «Дзяржын-

скі» (цэнтр — в. Дзяржынск). Размешчаны клуб. Планіровачна складаецца з кароткай прамалінейнай мерыдыянальнай вуліцы, забудаванай двухбакова драўлянымі сял. сядзібамі.

**ХАТКІ** — вёска ў Вербавіцкім с/с, за 52 км на ПдУ ад Нароўлі, 77 км ад чыг. ст. Ельск (на лініі Калінкавічы—Оўруч), 230 км ад Гомеля, на тэр. Палескага радыяцыйна-экалагічнага запаведніка, вакол лес. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, а затым аўтадарозе Даўляды—Хойнікі. У сувязі з радыяцыйным забруджаннем пасля Чарнобыльскай катастрофы жыхары (92 сям'і) перасялены ў чыстыя месцы, пераважна ў вёскі Хамічы і Ляскі Калінкавіцкага р-на.

Па пісьмовых крыніцах вядома з 19 ст. як ням. калонія, у Холмецкай вол. Рэчыцкага пав. Мінскай губ. У 1908 г. 50 двароў, 321 жыхар. У сувязі з пачаткам у 1914 г. першай сусветнай вайны ўсе жыхары ням. нацыянальнасці былі выселены ў глыбокі тыл. З 20.8.1924 г. да 16.7.1954 г. цэнтр Хаткаўскага с/с Нараўлянскага р-на Мазырскай (да 26.7. 1930 і з 21.6.1935 да 20.2.1938) акругі, з 20.2.1938 г. Палескай, з 8.1.1954 г. Гомельскай абл. У 1930 г. арганізаваны калгас «Новая іскра», працавала кузня. У 1934 г. дзейнічалі 7-гадовая школа, дзіцячы сад, хата-чытальня, паштовае аддзяленне. У Вял. Айч. вайну 27 вяскоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 494 жыхары, у 1986 г. 92 двары, 189 жыхароў. Уваходзіла ў склад саўгаса «Прыпяць» (цэнтр — в. Вяпры). Меліся 8-гадовая школа, аддз. сувязі, фельч.-акушэрскі пункт, магазін. Планіровачна складаецца з працяглай і 3 кароткіх, паралельных паміж сабой вуліц, арыентаваных мерыдыянальна. Забудова двухбаковая, драўляная, сядзібнага тыпу. Каля вёскі залежы гліны і суглінкаў.

**ХІЛЬЧЫХА** — вёска ў Кіраўскім с/с, за 23 км на Пд ад Нароўлі, 48 км ад чыг. ст. Ельск (на лініі Калінкавічы—Оўруч), 203 км ад Гомеля, на р. Жалонь — Мухаедаўскі канал (прыток р. Прыпяць), на У мяжуе з Палескім радыяцыйна-экалагічным запаведнікам. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, а затым аўтадарозе Кіраў—Нароўля. 13 гаспадарак, 30 жыхароў (2004 г.).

Выяўлены археолагамі курганны могільнік (2 насыпы, за 2 км на ПдЗ ад вёскі) сведчыць аб засяленні тут у далёкай старажытнасці. Па пісьмовых крыніцах вядома з 19 ст. як паселішча ў Рэчыцкім пав. Мінскай губ. У 1931 г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну ў снеж. 1942 г. ням.-фаш. карнікі расстралялі 19 жыхароў. У вёсцы і навакольных лясах базіраваліся Нараўлянскі падп. райком КП(б)Б і 27-я Нараўлянская партыз. брыгада імя С.М.Кірава. 5.8. 1943 г. каля вёскі сав. самалёт упершыню ў час вайны скінуў у гэтым рэгіёне 6 мяшкоў боепрыпасаў для партызан. Вызвалена 27.11.1943 г. 6 вяскоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 245 жыхароў. У складзе саўгаса «Кіраўскі» (цэнтр — в. Кіраў). Размешчаны фельч.-акушэрскі пункт, клуб. Планіровачна складаецца з амаль мерыдыянальнай вуліцы, да якой на Пд далучаецца з З кароткая вуліца. Забудова шчыльная, драўляная, сядзібнага тыпу.

**ХУТАР-ЛЕС** — вёска ў Вербавіцкім с/с, за 45 км на ПдУ ад Нароўлі, 70 км ад чыг. ст. Ельск (на лініі Калінкавічы—Оўруч), 223 км ад Гомеля, на тэр. Палескага радыяцыйна-экалагічнага запаведніка, на З і Пд мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, а затым аўтадарозе Даўляды—Хойнікі. У сувязі з радыяцыйным забруджаннем пасля Чарнобыльскай катастрофы жыхары (42 сям'і) перасялены ў 1986 г. ў чыстыя месцы.

Вядома з пач. 20 ст., калі тут пачалі размяшчаць свае сялібы перасяленцы з суседніх вёсак, а найбольш інтэнсіўная

забудова прыпадае на 1920-я г. У 1931 г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну 6 вяскоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 193 жыхары. Уваходзіла ў склад саўгаса «Прыпяць» (цэнтр — в. Вяпры). Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ, да якой далучаецца з ПнЗ прамалінейная, рэдка забудаваная вуліца. Жылыя дамы драўляныя, сядзібнага тыпу.

**ХУТАР СЯРГЕЕЎ** — вёска ў Кіраўскім с/с. З 20.8.1924 г. хутар Сяргееў у Махаеўдаўскім, з 20.4.1939 г. Кіраўскім с/с. Паводле перапісу 1926 17 гаспадарак, 85 жыхароў. У 1959 г. вёска Хутар Сяргееў, 78 жыхароў; у 1970 г. 68 жыхароў. Уваходзіла ў саўгас «Кіраўскі».

**ЦЕШКАЎ** — вёска ў Вербавіцкім с/с, за 15 км на ПдУ ад Нароўлі, 40 км ад чыг. ст. Ельск (на лініі Калінкавічы—Оўруч), 193 км ад Гомеля, на тэр. Палескага радыяцыйна-экалагічнага запаведніка. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, а затым аўтадарозе Дзёрнавічы—Нароўля. У сувязі з радыяцыйным забруджаннем пасля Чарнобыльскай катастрофы жыхары (178 сямей) пераселены ў 1986 г. ў чыстыя месцы, пераважна ў Чачэрскі р-н.

Выяўленыя археолагамі 3 паселішчы канца 3 — пач. 2 тыс. да н.э., 5—4 тыс. да н.э. і 8—5 тыс. да н.э. (2 км на ПнЗ, 1 км на ПдЗ і 2 км на ПдУ ад вёскі) сведчаць аб засяленні гэтых месц у глыбокай старажытнасці. Па пісьмовых крыніцах вядома з 18 ст. як вёска ў Рэчыцкім пав. Мінскага ваяв. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1795 г. сяло, 50 двароў, 223 жыхары, Раства-Багародзіцкая царква (драўляная). У 1797 г. замест састарэлай пабудавана новая драўляная царква, а ў 1872 г. праведзены яе капітальны рамонт. У 1811 г. ў валоданні Гольста. У 1834 г. 60 двароў, уладанне Горвата. У 1884 г. адкрыта цjudge.-прыходская школа, якая размяшчалася ў наёмнай сял. хаце, а ў 1895 г. для яе збудавана ўласнае памяшканне. Паводле перапісу 1897 г. 89 двароў, 444 жыхары, царква, царк.-прыходская школа, хлебазапасны магазін, у Нараўлянскай вол. Рэчыцкага пав. Мінскай губ. У 1908 г. 105 двароў, 635 жыхароў. 16.10.1924 г. ў выніку пажару згарэла 25 пабудоў у 15 дварах. З 20.8.1924 г. да 29.10.1959 г. цэнтр Цешкаўскага с/с Нараўлянскага р-на Мазырскай (да 26.7.1930 і з 21.6.1935 да 20.2.1938) акругі, з 20.2.1938 г. Палескай, з 8.1.1954 г. Гомельскай абл. У пач. 1925 г. адкрыта паштовае аддз. У 1929 г. арганізаваны калгас «Чырвоны Цешкаў», працавалі школа, хата-чытальня, кузня і сталярня. У Вял. Айч. вайну дзейнічала патрыят. маладзёжная група (кіраўнік А.Пігулеўская). Вызвалена 28.11.1943 г. 415-й стралк. дывізіяй разам з партызанамі. 83 вяскоўцы загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 723 жыхары, у 1986 г. 178 двароў, 418 жыхароў. Была цэнтрам калгаса імя У.І.Леніна. Размяшчаліся сярэдняя школа, Дом культуры, фельч.-акушэрскі пункт, аддз. сувязі, кантрольны пункт па назіранні пасля 1986 г. за мясцовасцю, з якой жыхары пераселены ў чыстыя месцы. Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ, з 4 завулкамі. Забудавана двухбакова, няшчыльна, драўлянымі сял. сядзібамі.

**ЦІХІН** — вёска ў Кіраўскім с/с, за 33 км на Пд ад Нароўлі, 58 км ад чыг. ст. Ельск (на лініі Калінкавічы—Оўруч), 211 км ад Гомеля, 1 км ад дзярж. мяжы з Украінай, вакол лес. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, а затым аўтадарозе Вуглы—Чапаеўка. У сувязі з радыяцыйным забруджаннем пасля Чарнобыльскай катастрофы жыхары (63 сям'і) пераселены ў 1986 г. ў чыстыя месцы.

Засн. ў пач. 20 ст. перасяленцамі з суседніх вёсак у выніку ажыццяўлення сталыпінскай рэформы. Найбольш ін-

тэнсіўная забудова прыпадае на 1920-я г. У 1931 г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну 30 вяскоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 245 жыхароў. Уваходзіла ў склад саўгаса «Партызанскі» (цэнтр — в. Вуглы). Планіровачна складаецца з прамалінейнай мерыдыянальнай вуліцы, да якой з ПнЗ далучаецца кароткая прамалінейная вуліца. Забудова двухбаковая, драўляная, сядзібнага тыпу. Каля вёскі ёсць залежы суглінкаў.

**ЧАПАЕЎКА** (да 30.7.1964 Вараўка) — вёска ў Кіраўскім с/с, за 17 км на Пд ад Нароўлі, 42 км ад чыг. ст. Ельск (на лініі Калінкавічы—Оўруч), 197 км ад Гомеля, на тэр. Палескага радыяцыйнаэкалагічнага запаведніка, вакол лес. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, а затым аўтадарозе Кіраў—Нароўля. У сувязі з радыяцыйным забруджаннем пасля Чарнобыльскай катастрофы жыхары (37 сямей) у 1986 перaселены ў чыстыя месцы, пераважна ў в. Новыя Маркавічы Жлобінскага р-на.

Па пісьмовых крыніцах вядома з 19 ст. як хутар у Дзёрнавіцкай вол. Рэчыцкага пав. Мінскай губ. Паводле перапісу 1897 г. 7 двароў, 42 жыхары, смалакурня. У 1908 г. 9 двароў, 51 жыхар. У 1931 г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну вызвалена ад ням.-фаш. акупантаў 27.11.1943 г. 12 вяскоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 179 жыхароў, у 1986 г. 37 двароў, 66 жыхароў. Уваходзіла ў склад саўгаса «Партызанскі» (цэнтр — в. Вуглы). Дзейнічалі клуб, магазін. Планіровачна складаецца з амаль прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ, да цэнтра якой далучаецца кароткая вуліца. Забудова двухбаковая, драўляная, сядзібнага тыпу.

**ЧЫРВОНЫ ВОСТРАЎ** — пасёлак у Галоўчыцкім с/с, за 16 км на ПдЗ ад Нароўлі, 16 км ад чыг. ст. Ельск (на лініі Калінкавічы—Оўруч), 194 км ад Гомеля. Транспартныя сувязі па мясцовай, а затым аўтадарозе Ельск—Нароўля. 12 гаспадарак, 18 жыхароў (2004 г.).

Засн. ў пач. 1920-х г. перасяленцамі з суседніх вёсак на былых памешчыцкіх землях. У 1932 г. пасялкоўцы ўступілі ў калгас. Паводле перапісу 1959 г. 116 жыхароў. У складзе калгаса «Галоўчыцы» (цэнтр — в. Галоўчыцы). Планіровачна складаецца з прамалінейнай, амаль мерыдыянальнай вуліцы, забудаванай двухбакова драўлянымі сял. сядзібамі.

**ЧЫРВОНЫ ЗМАГАР** — пасёлак у Галоўчыцкім с/с, за 20 км на З ад Нароўлі, 10 км ад чыг. ст. Ельск (на лініі Калінкавічы—Оўруч), 198 км ад Гомеля. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, а затым аўтадарозе Ельск—Нароўля. У сувязі з радыяцыйным забруджаннем пасля Чарнобыльскай катастрофы жыхары (13 сямей) перaселены ў 1990—92 гг. у чыстыя месцы.

Засн. ў 1920-я г. перасяленцамі з суседніх вёсак на былых памешчыцкіх землях. У 1931 г. пасялкоўцы ўступілі ў калгас. Паводле перапісу 1959 г. 85 жыхароў. Уваходзіў у склад калгаса «Савецкая Беларусь» (цэнтр — в. Буда-Галоўчыцкая). Кароткая вуліца арыентавана з ПдЗ на ПнУ, уздоўж прасёлачнай дарогі. Забудова драўляная, сядзібнага тыпу.

**ЧЫРВОНЫ ПРАМЕНЬ** — пасёлак у Галоўчыцкім с/с, за 18 км на ПдЗ ад Нароўлі, 18 км ад чыг. ст. Ельск (на лініі Калінкавічы—Оўруч), 196 км ад Гомеля, побач аўтадарогі Будкі—Галоўчыцы і Лубень—Буда. 3 гаспадаркі, 5 жыхароў (2004 г.).

Засн. ў 1920-х г. перасяленцамі з суседніх вёсак на былых памешчыцкіх землях. У 1931 г. пасялкоўцы ўступілі ў калгас. У складзе калгаса «Галоўчыцы» (цэнтр — в. Галоўчыцы). Драўляныя сял. сядзібы пастаўлены побач з аўтадарогай.

**ЧЭХІ** — пасёлак у Галоўчыцкім с/с, за 17 км на ПдЗ ад Нароўлі, 17 км ад чыг.

ст. Ельск (на лініі Калінкавічы—Оўруч), 195 км ад Гомеля, на аўтадарозе Маскалёўка—Буда, на Пд мяжуе з лесам. 10 гаспадарак, 22 жыхары (2004 г.).

Па пісьмовых крыніцах вядомы з 18 ст. У 1811 г. паселішча, у Рэчыцкім пав. Мінскай губ., ва ўладанні Ракіцкага. Пад 1879 г. упамінаецца ў ліку паселішчаў Бабчынскага царк. прыхода. Паводле перапісу 1897 г. хут. Чэхі Галоўчынскія, 6 двароў, 74 жыхары, у Нараўлянскай вол. Рэчыцкага пав. У 1931 г. пасялкоўцы ўступілі ў калгас. Паводле перапісу 1959 г. 109 жыхароў. У складзе калгаса «Галоўчыцы» (цэнтр — в. Галоўчыцы). Планіровачна складаецца з кароткай, прамалінейнай, мерыдыянальнай вуліцы, забудаванай двухбакова драўлянымі сял. сядзібамі.

**ЯСЯНОК** — вёска ў Кіраўскім с/с, за 29 км на Пд ад Нароўлі, 54 км ад чыг. ст. Ельск (на лініі Калінкавічы—Оўруч), 207 км ад Гомеля, на тэр. Палескага радыяцыйна-экалагічнага запаведніка, вакол лес. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, а затым аўтадарозе Вуглы—Чапаеўка. У сувязі з радыяцыйным забруджаннем пасля Чарнобыльскай катастрофы жыхары (59 сямей) пераселены ў 1986 г. ў чыстыя месцы, пераважна ў в. Кабанаўка Жлобінскага р-на.

Засн. ў пач. 20 ст. перасяленцамі з суседніх вёсак. Найбольш актыўная забудова прыпадае на 1920-я г. У 1930 г. арганізаваны калгас «Новае жыццё», працавала кузня. У 1940 г. 66 двароў, 396 жыхароў. У Вял. Айч. вайну дзейнічала патрыят. маладзёжная група (кіраўнік В.Казакевіч). У ліп. 1943 г. ням.-фаш. акупанты спалілі 57 двароў. 41 вясковец загінуў на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 371 жыхар, у 1986 г. 58 двароў, 133 жыхары. Уваходзіла ў склад саўгаса «Партызанскі» (цэнтр — в. Вуглы). Планіровачна складаецца з 2 невял. мерыдыянальных вуліц, злучаных кароткай шыротнай вуліцай. Забудова двухбаковая, драўляная, сядзібнага тыпу.

**КРЫНІЦЫ І ЛІТАРАТУРА**

Нацыянальны архіў Рэспублікі Беларусь, ф. 30, воп. 5, спр. 6755; ф. 42, воп. 2, спр. 1996—1998, 2000—2005, 2008—2010; ф. 141, воп. 1, спр. 206; ф. 516, воп. 1, спр. 454.
Нацыянальны гістарычны архіў Беларусі, ф. 30, воп. 9, спр. 716; ф. 333, воп. 9, спр. 33, 47, 48, 53, 58, 62, 262, 347, 382, 701, 703, 716, 729; ф. 834, воп. 1, спр. 3, 145; ф. 1461, воп. 2, спр. 19.
Расійскі дзяржаўны архіў старажытных актаў, ф. 389, воп. 1, спр. 206.
Расійскі дзяржаўны гістарычны архіў, ф. 389, воп. 1, спр. 76; ф. 1290, воп. 11, спр. 1294, 1332.
Беларуская Савецкая Энцыклапедыя. Т. 12. Мн., 1975.
Болбас М.Ф. Развитие промышленности в Белоруссии (1795—1861). Мн., 1966.
Виленский временник. Кн. 6. Вильна, 1915.
Волости и важнейшие селения Европейской России. Вып. 5. СПб., 1886.
Всенародная борьба в Белоруссии против немецко-фашистских захватчиков. Т. 2. Мн., 1984.
Вся Россия. СПб., 1901.
Вяртанне. Мн., 1996.
Городские поселения Российской империи. Т. 3. СПб., 1863.
Документы и материалы по истории Белоруссии (1900—1917). Т. 3. Мн., 1953.
Збор помнікаў гісторыі і культуры Беларусі: Гомельская вобл. Мн., 1985.
Исаенко В.Ф. Археологическая карта Беларуси. Вып. 3. Памятники бронзового века. Мн., 1976.
Литовская метрика. Ч. 1. СПб., 1900.
Литовская метрика. Т. 1. Юрьев, 1914.

Мелешко В.И. Очерки аграрной истории восточной Белоруссии. Мн., 1975.
Нацистская политика геноцида... Мн., 1984.
Наш край — 2. Мн., 1997.
Описание церквей и приходов Минской епархии. Кн. 5, 8. Мн., 1879.
Памятная книжка Минской губернии на 1901 г. Мн., 1901.
Пинчуков В.П., Старовойтов М.И. Гомельщина многонациональная (20—30-е годы 20 века). Вып. 1. Гомель, 1999.
Поболь Л.Д. Археологические памятники Белоруссии: Железный век. Мн., 1983.
Спиридонов М.Ф. Закрепощение крестьянства Беларуси (15—16 вв.). Мн., 1993.
Спіс прамысловых прадпрыемстваў БССР. Вып. 2. Мн., 1930.
Спіс прамысловых прадпрыемстваў БССР. Вып. 1—2. Мн., 1935.
Список землевладельцев Минской губернии за 1876 г. Мн., 1877.
Список населенных мест Минской губернии. Мн., 1909.
Труды Минского губернского статистического комитета. Мн., 1870.
Энцыклапедыя літаратуры і мастацтва Беларусі. Т. 3. Мн., 1986.



# ПЕТРЫКАЎСКІ РАЁН

Утвораны 17.7.1924 г. на З Гомельскай вобл. 25.12.1962 г. да раёна далучаны г.п. Капаткевічы і 10 сельсаветаў скасаванага Капаткевіцкага р-на. На Пд мяжуе з Лельчыцкім і Мазырскім, на У — з Калінкавіцкім, на З — з Жыткавіцкім, на Пн — з Акцябрскім р-намі Гомельскай вобл. і Любанскім р-нам Мінскай вобл. Цэнтр — г. Петрыкаў. Уключае г.п. Капаткевічы, 125 сельскіх населеных пунктаў, Капаткевіцкі пасялковы Савет, 16 сельсаветаў: Бабуніцкі, Галубіцкі, Грабаўскі, Камаровіцкі, Капцэвіцкі, Колкаўскі, Конкавіцкі, Лучыцкі, Ляскавіцкі, Муляраўскі, Мышанскі, Навасёлкаўскі, Петрыкаўскі, Пціцкі, Снядзінскі і Чалюшчавіцкі. Пл. 2828 км$^2$, насельніцтва 38,7 тыс. чал. (2004 г.). Паверхня тэрыторыі раёна плоская і забалочаная. Працякае р. Прыпяць з прытокамі Пціч, Бобрык 2-і, Трэмля, Убарць. Найб. — воз. Дзікае. Пракладзены меліярацыйныя каналы: Міхедава-Грабаўскі, Лукіч, Курыцікі, Галоўчыцкі. Пераважаюць глебы: дзярнова-падзолістыя забалочаныя (31,1%), тарфяна-балотныя (29,6%), поймавыя (алювіяльныя, 19,1%), дзярнова-падзолістыя (13,2%). Лясы займаюць 52,4% тэрыторыі раёна. Праходзяць чыгункі Гомель—Брэст, аўтадарогі Петрыкаў—Капаткевічы—Акцябрскі, Калінкавічы—Жыткавічы і інш. Суднаходства на Прыпяці. Карысныя выкапні: калійная соль, нафта, буры вугаль, торф, пяскі, гліны і суглінкі. У межах раёна частка Нац. парку «Прыпяцкі», біялагічныя заказнікі мясц. значэння: Камаровіцкі, Бобрыкаўскі, Возера Белеў. Помнікі прыроды: рэспубліканскага значэння — геалагічнае агаленне Дарашэвічы, мясц. значэння — паркі Дарашэвічы, І.Шклярэўскага, дубровы ў Капаткевіцкім, Петрыкаўскім, Кашэвіцкім лясніцтвах. Пад с.-г. ўгоддзямі 31,3% тэрыторыі. Прадпрыемствы машынабудаўнічай і металаапрацоўчай (Петрыкаўскі суднабудаўніча-суднарамонтны з-д), будаўнічых матэрыялаў (керамзіт, сценавыя блокі, цэгла, сталярныя вырабы і інш.), дрэваапрацоўчай (мэбля, сувеніры), камбікормавай, харчовай (цэльнамалочныя прадукты, сухое і абястлушчанае малако, масла, казеін, кансервы), кааператыўнай (каўбасныя, хлебабулачныя, кандытарскія, макаронныя вырабы) прамысловасці. У раёне 23 сярэднія, 11 дзевяцігадовых, 9 пач., 7 дашкольных устаноў, 42 клубы, 50 бібліятэк, 123 спартыўныя збудаванні, 5 бальніц, 33 фельч.-акушэрскія пункты, 208 магазінаў і 31 прадпрыемства грамадскага харчавання.

**ПЕТРЫКАЎ** — горад, цэнтр Петрыкаўскага раёна, за 190 км ад Гомеля, 13 км ад чыг. ст. Муляраўка (на лініі Луні-



*Рака Прыпяць каля г. Петрыкаў.*





*Царква Ушэсця ў г. Петрыкаў.*

*Паромная пераправа цераз р. Прыпяць.*



*В.І.Талаш.*

нец—Калінкавічы), 287 км ад Мінска, на р. Прыпяць (прыток р. Дняпро), на У — азёры Васавулічы, Бык, Крывая Рэчка, на Пн і З мяжуе з лесам. Аўтадарогамі злучаны з Мазыром, Калінкавічамі, Жыткавічамі. Прыстань на р. Прыпяць. 10,7 тыс. жыхароў (2004 г.).

Выяўленае археолагамі селішча славян 6—7 ст. (на зах. ускраіне горада) сведчыць пра засяленне гэтых мясцін у далёкай старажытнасці. Паводле падання, засн. ў 10 ст. яцвяжскім кн. Петрыкам. У пісьмовых крыніцах вядомы з 15 ст. У 16 ст. належаў Алелькавічам, якія мелі тут замак, з 17 ст. — Хадкевічам. У 1506 г. праз Петрыкаў татары накіроўваліся да Клецка, Мінска, Ашмян, Ваўкавыска, Гродна, пакуль 5.8.1506 г. войска ВКЛ на чале з М.Глінскім не разграміла іх каля Клецка. Да 1535 г. існавала крэпасць, якая была разбурана ў час вайны Маскоўскай дзяржавы з ВКЛ 1534—37 гг. рускім ваяводам Аўчынай. Пазначаны на карце 1560 г. Восенню 1595 г. захоплены казацкімі атрадамі С.Налівайкі. У 1638 г. К.Хадкевіч пабудаваў тут драўляны касцёл. Паводле інвентару 1700 г. 21 дым. У 1772 г. пабудавана Мікалаеўская, у 1816 г. Васкрасенская царква (на сродкі прыхаджан і купца Карульскага), якая ў 1894 г. згарэла. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1795 г. 272, у 1811 г. 375 двароў. Трактам звязаны з





*Помнік на брацкай магіле савецкіх воінаў, партызан і падпольшчыкаў у г. Петрыкаў.*

*Помнік вызваліцелям у г. Петрыкаў.*





*Будынак Петрыкаўска-га раённага выканаўча-га камітэта.*

*Фізкультурна-аздараў-ленчы комплекс у г. Пет-рыкаў.*

Піншчынай; паштовая станцыя. У 1830 г. пабудавана мураваная (замест драўлянай) Мікалаеўская царква. У 1836 г. на Петрыкаўскія могілкі перанесена драўляная царква з в. Сотнічы (пабудавана ў канцы 17 — пач. 18 ст.). Паводле рашэння сената 1848 г. жыхары вызвалены ад прыгоннай залежнасці і пераведзены ў статут мяшчан г. Мазыр. У 1860 г. ў Мазырскім пав. Мінскай губ., 2720 жыхароў. У 2-й пал. 19 ст. ўзведзена мураваная царква ў псеўдавізантыйскім стылі. Цэнтр Петрыкаўскай вол. (да 17.7. 1924), у склад якой у 1885 г. ўваходзілі 19 сяленняў. У 1862 г. магнаты Хадкевічы мелі ў мястэчку і наваколлі 14 420 дзес. зямлі, 2 млыны, пераправу і карчму. У 1864 г. адкрыта нар. вучылішча (з 1923 сямігодка). У 1866 г. 530 двароў, 2287 жыхароў, 3 царквы, 2 сінагогі, 2 вадзяныя млыны. Штогод праводзіліся 2 кірмашы. Развіваўся шавецкі промысел і апрацоўка аўчын. У 1877 г. адкрыта друкарня. Паводле перапісу 1897 г. 1006 двароў, 5916 жыхароў, 2 царквы, капліца, касцёл, 3 яўр. малітоўныя дамы, прыстань, паштова-тэлегр. аддз., аптэка, 134 крамы, вятрак, 2 майстэрні па апрацоўцы скур, 3 карчмы, вінная крама. У склад мястэчка ўваходзілі сядзіба і вёскі Каленікі і Сялко. Дзейнічалі прыстань, паромная пераправа цераз р. Прыпяць, аптэка. У 1908 г. 8882 жыхары. Жыхары займаліся будаўніцтвам барак і лодак,





*Помнік дзеду Талашу ў г. Петрыкаў.*

*Мікалаеўская царква ў г. Петрыкаў.*



*Пакроўская царква ў г. Петрыкаў.*

вырабам абутку, які прадаваўся на кірмашах і развозіўся па суседніх вёсках. У час ням. акупацыі летам 1918 г. дзейнічаў партызанскі атрад (300 чал., камандзір В.І.Талаш). У сак.—ліп. і ліст. 1920 г. акупіраваны войскамі Польшчы. 8.11.1920 г. Петрыкаў занялі атрады Булак-Балаховіча. У 1920-я гг. створаны саўгас «Петрыкаў». З 17.7.1924 г. цэнтр раёна ў Мазырскай (да 26.7.1930 і з 21.6.1935 да 20.2.1938) акругі, з 20.2.1938 г. Палескай, з 8.1.1954 г. Гомельскай абласцей. У 1925 г. 1063 двары, аграпункт і лясніцтва. Дзейнічала рамеснае таварыства (у 1926 — 59 чал.). З 3.7.1925 г. горад, 27.9.1938 г. Указам Прэзідыума Вярх. Савета БССР аднесены да гарадоў раённага падпарадкавання. Працавалі цагельня (з 1932, 81 рабочы), маслазавод (з 1932), паравы млын з лесапільняй (з 1926), кравецкая (з 1928), шавецкая (з 1926), суднабудаўнічая (з 1927) майстэрні, хлебапякарня (з 1928), 2 кузні, ваўначоска, леспрамгас, рыбгас. У 1929 г. арганізаваны калгас. Старшынёй райвыканкома ў 2-й пал. 1930-х г. працаваў Ц.П.Бумажкоў — адзін з арганізатараў і кіраўнікоў партыз. руху на Палессі ў Вял. Айч. вайну, Герой Сав. Саюза. Яго імя носіць адна з вуліц Петрыкава. У жн. 1941 — 30.6.1944 гг. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. З крас. 1942 г. дзейнічала патрыят. падполле (кіраўнік Ф.В. Кляўцоў). Падпольшчыкі здабывалі звесткі пра варожы гарнізон, аб карных экспедыцыях і засылцы фаш. агентуры ў партыз. атрады, узарвалі будынак гебітскамісарыята (29.1.1943), знішчылі 12 рухавікоў для бранякатэраў, 3 аўтамашыны, сапсавалі 2 зенітныя гарматы, потым разам з сем'ямі пайшлі ў партыз. атрад М.Ф.Бабкова. У баях за Петрыкаў 29.6.1944 г. вызначылася аддзяленне дэсантнікаў на чале з М.Н.Панамаровым,



*Дзіцячы хор «Ластаўка» Петрыкаўскай музычнай школы.*



*Будынак пошты ў г. Петрыкаў.*



*Раённыя спаборніцтвы «Беларуская лыжня — 2005».*

а таксама малодшы лейт. Н.П.Чалы, матрос Л.Д.Кукалеўскі, старшына 2-й стацці В.Г.Канарэеў (удастоены звання Героя Сав. Саюза). 69 воінаў, партызан і падпольшчыкаў загінулі ў баях за горад (пахаваны ў брацкай магіле на могілках). 478 жыхароў загінулі на фронце.

Дзейнічаюць цагельны і суднарамонтны з-ды, камбінат буд. матэрыялаў, з-д масла і сухога малака, хлебазавод, раённае аб'яднанне «Сельгастэхніка», камбінат бытавога абслугоўвання, 9 малых прадпрыемстваў, лясгас, аграхімлабараторыя, ветсанстанцыя, 2 сярэднія школы, муз. і дзіцячая спарт. школы, 5 дашкольных устаноў, цэнтр гігіены і эпідэміялогіі, б-ца, аптэка, паліклініка, Дом культуры, Дом школьнікаў, 3 масавыя б-кі, аддз. сувязі. У 1974 г. званне народнага прысвоена хору Петрыкаўскага раённага Дома культуры, аркестру нар. інструментаў. Выходзіць раённая газ. «За новыя рубяжы». Цэнтр саўгаса «Петрыкаўскі». У 1959 г. да горада далучаны вёскі Чырвоны Агароднік і Белка. Забудова пераважна драўляная, аднапавярховая, сядзібнага тыпу. Цэнтр забудаваны 2-павярховымі адм. і гандл. будынкамі. На высокай тэрасе Прыпяці парк. Забудова вядзецца паводле ген. плана, распрацаванага ў 1974 г. Мінскім навукова-даследчым ін-там горадабудаўніцтва. Радзіма нар. героя, удзельніка грамадз. вайны В.І.Талаша (былая в. Белка), нар. артысткі РСФСР В.Д.Пальвінскай, ген.-м. інжынерна-тэхн. войск І.Х. Рудзько, засл. дзеяча мастацтваў БССР Л.М.Лейтмана, доктара фізіка-матэм. навук, прафесара А.Х.Турэцкага, бел. мастакоў М.І.Кебеца і П.А.Серады, засл. настаўнікаў Беларусі М.М.Марцынкевіч, С.Ф. Серапіна і Ф.С.Скеп'ян, засл. работнікаў медыцыны М.П.Лапеты і Г.Т.Несцер. Паблізу радовішча калійных і каменных солей, а таксама залежы буд. пяскоў.

**АГОЛІЦКАЯ РУДНЯ** — вёска ў Петрыкаўскім с/с, за 9 км на Пн ад Петрыкава, 9 км ад чыг. ст. Муляраўка (на лініі Лунінец—Калінкавічы), 184 км ад Гомеля, на р. Бобрык (прыток р. Прыпяць). Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Лунінец—Гомель. 49 гаспадарак, 110 жыхароў (2004 г.).



*Камень над магілай удзельніка казацкага паўстання пад кіраўніцтвам Севярына Налівайкі ў г. Петрыкаў.*

*Раённая выстаўка дзіцячых работ дэкаратыўна-прыкладного мастацтва.*



Па пісьмовых крыніцах вядома з 19 ст. як вёска ў Мазырскім пав. Мінскай губ. У 1811 г. 7 двароў. Па рэвізскіх матэрыялах 1850 г. 8 двароў, 73 жыхары, у валоданні памешчыка Пуляноўскага. Дваранін Навіцкі меў у вёсцы ў 1860 г. 160 дзес. зямлі, млын і сукнавальню. Пазначана на карце 1866 г., якой карысталася Зах. меліярацыйная экспедыцыя, што працавала тут у 1890-я г. У 1879 г. сяленне ў Петрыкаўскім царк. прыходзе. Паводле перапісу 1897 г. 28 двароў, 166 жыхароў, вадзяны млын. У 1908 г. 186 жыхароў. У 1917 г. 233 жыхары, у Петрыкаўскай вол. Мазырскага пав. У 1921 г. адкрыта школа, якая размяшчалася ў сял. хаце, у 1924 г. пабудавалі для яе асобны будынак. У 1925 г. 47 двароў. У 1931 г. арганізаваны калгас «Ленінец», працавала кузня. 30 вяскоўцаў загінулі на франтах Вял. Айч. вайны. Паводле перапісу 1959 г. 209 жыхароў. У складзе саўгаса «Петрыкаўскі» (цэнтр — г. Петрыкаў). Дзейнічае пач. школа. Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, да якой на З далучаецца кароткая вуліца. Забудова шчыльная, драўляная, сядзібнага тыпу. Радзіма засл. настаўніцы Беларусі Я.П.Дусь. Каля вёскі ёсць залежы жалезнякоў.

**АГОЛІЧЫ** — вёска ў Петрыкаўскім с/с, за 13 км на ПнЗ ад Петрыкава, 4 км ад чыг. ст. Капцэвічы (на лініі Лунінец—Калінкавічы), 181 км ад Гомеля, на р. Бобрык (прыток р. Прыпяць), на У мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Лунінец—Калінкавічы. 81 гаспадарка, 150 жыхароў (2004 г.).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 18 ст. як сяленне ў Мазырскім пав. Мінскага ваяв. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1811 г. 34 двары, належала графу Хадкевічу. Была цэнтрам аднайменнага маёнтка, гаспадар якога Брадовіч валодаў у 1847 г. 848 дзес. зямлі і карчмой. Дваранін Пальчыкаў у 1860 г. меў тут 200 дзес. зямлі. Пазначана на карце 1866 г., якой карысталася Зах. меліярацыйная экспедыцыя, што працавала ў гэтых месцах у 1890-я г. У 1879 г. сяленне ў Петрыкаўскім царк. прыходзе. Паводле перапісу 1897 г. 95 двароў, 508 жыхароў, фальварак і сядзіба. У 1908 г. 97 двароў, у Петрыкаўскай вол. Мазырскага пав. Мінскай губ. У 1908 г. пачала працаваць школа. У 1917 г. 953 жыхары. У 1925 г. 115 двароў. У 1930 г. арганізаваны калгас. У Вял. Айч. вайну ў студз. 1943 г. ням. акупанты спалілі 101 двор і загубілі 11 жыхароў. На франтах і ў партыз. барацьбе загінулі 85 вяскоўцаў, памяць аб якіх увекавечвае стэла, пастаўленая ў 1979 г. ў цэнтры вёскі. Паводле перапісу 1959 г. 341 жыхар. У складзе саўгаса «Петрыкаўскі» (цэнтр — г. Петрыкаў). Размешчаны клуб, б-ка, пач. школа. Планіровачна складаецца з выгнутай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ і забудаванай драўлянымі сял. сядзібамі.

**АДАСІ** — вёска ў Конкавіцкім с/с, за 15 км на ПнУ ад Петрыкава, 5 км ад чыг. ст. Муляраўка (на лініі Лунінец—Калінкавічы), 172 км ад Гомеля, на р. Бобрык (прыток р. Прыпяць), на У мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Лунінец—Гомель. 27 гаспадарак, 37 жыхароў (2004 г.).

Засн. ў пач. 20 ст. перасяленцамі з суседніх вёсак. У 1908 г. хутар, 8 двароў, 79 жыхароў. У 1925 г. 21 двор. У 1931 г. арганізаваны калгас. У Вял. Айч. вайну

15 вяскоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 172 жыхары. У складзе калгаса імя У.І.Леніна (цэнтр — в. Конкавічы). Планіровачна складаецца з амаль прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ (уздоўж ракі). На Пн адасобленая кароткая вуліца. Забудова драўляная, сядзібнага тыпу.

**АКРЫЁНЫ** — вёска ў Конкавіцкім с/с, за 22 км на ПнУ ад Петрыкава, 6 км ад чыг. ст. Муляраўка (на лініі Лунінец—Калінкавічы), 168 км ад Гомеля, на Пн — канал Лукіч, на У і З мяжуе з лесам. Побач аўтадарога Лунінец—Гомель. 16 гаспадарак, 24 жыхары (2004 г.).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 19 ст. як сяленне ў Петрыкаўскай вол. Мазырскага пав. Мінскай губ. Пазначана на карце 1866 г., якой карысталася Зах. меліярацыйная экспедыцыя, што працавала ў гэтых месцах у 1890-я г. Паводле перапісу 1897 г. 7 двароў, 33 жыхары. У 1908 г. 56, у 1917 г. — 72 жыхары. У 1931 г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну 9 вяскоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 128 жыхароў. У складзе калгаса імя У.І.Леніна (цэнтр — в. Конкавічы). Планіровачна складаецца з 2 кароткіх, паралельных паміж сабой шыротных вуліц, злучаных 2 завулкамі. Забудова пераважна аднабаковая, драўляная, сядзібнага тыпу.

**АНОСАВІЧЫ** — вёска ў Навасёлкаўскім с/с, за 43 км на Пн ад Петрыкава, 32 км ад чыг. ст. Муляраўка (на лініі Лунінец—Калінкавічы), 193 км ад Гомеля, на Пн і З мяжуе з лесам. Побач аўтадарога Навасёлкі—Калінкавічы. 14 гаспадарак, 24 жыхары (2004 г.).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 18 ст. як сяленне ў валоданні Абуховічаў. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1795 г. 6 двароў, у Камаровіцкай вол. Мазырскага пав. Мінскай губ. У 1834 г. 7 двароў. Пазначана на карце 1866 г., якой карысталася Зах. меліярацыйная экспедыцыя, што працавала ў гэтых месцах у 1890-я г. У 1908 г. 13 двароў, 110 жыхароў. У 1921 г. 21 двор, 149 жыхароў. У 1931 г. арганізаваны калгас, працавала смалакурня. У Вял. Айч. вайну 10 вяскоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 112 жыхароў. У складзе саўгаса «Навасёлкі» (цэнтр — в. Навасёлкі). Планіровачна складаецца з 2 кароткіх, шчыльна пастаўленых паміж сабой шыротных вуліц, да якіх на У далучаецца прамалінейная кароткая вуліца. Жылыя дамы драўляныя, сядзібнага тыпу.

**АЦІРКІ** — вёска ў Конкавіцкім с/с, за 14 км на У ад Петрыкава, 11 км ад чыг. ст. Муляраўка (на лініі Лунінец—Калінкавічы), 190 км ад Гомеля, на р. Бобрык (прыток р. Прыпяць). Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Лунінец—Гомель. 36 гаспадарак, 57 жыхароў (2004 г.).

Па пісьмовых крыніцах вядома з канца 17 ст. У інвентары 1700 г. пазначана ў Мазырскім пав. Мінскага ваяв. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1795 г. 11 двароў. Мешчанін Матусевіч у 1825 г. меў у вёсцы 60 дзес. зямлі. У 1834 г. 15 двароў, 84 жыхары, у складзе маёнтка Петрыкаў. Афіцэры Ген. штаба рас. арміі, якія наведалі гэтыя месцы ў 1860-я г., адзначалі адасобленасць і непрыкметнасць гэтага сялення. У 1917 г. 264 жыхары, у Петрыкаўскай вол. У 1930 г. арганізаваны калгас. У Вял. Айч. вайну 25 вяскоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 250 жыхароў. У складзе калгаса імя У.І.Леніна (цэнтр — в. Конкавічы). Планіровачна складаецца з кароткай шыротнай вуліцы, перакрыжаванай 2 кароткімі вуліцамі. Жылыя дамы драўляныя, сядзібнага тыпу.

**БАБРЭЧЧА** — вёска ў Пціцкім с/с, за 29 км на ПнУ ад Петрыкава, 4 км ад чыг. ст. Пціч (на лініі Лунінец—Калінкавічы), 161 км ад Гомеля, на паўн. ускраіне — канал Курыццкі, на З мяжуе з лесам. Побач аўтадарога Лунінец—Гомель. 55 гаспадарак, 96 жыхароў (2004 г.).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 19 ст. як сяленне ў Капаткевіцкай вол. Ма-

зырскага пав. Мінскай губ. У 1834 г. 13 двароў, 106 жыхароў. Паводле перапісу 1858 г. 19 двароў, 136 жыхароў, уласнасць казны. Пазначана на карце 1866 г., якой карысталася Зах. меліярацыйная экспедыцыя, што працавала ў гэтых месцах у 1890-я г. У 1879 г. ўпамінаецца ў складзе Капаткевіцкага царк. прыхода. Паводле перапісу 1897 г. 59 двароў, 405 жыхароў, хлебазапасны магазін, вятрак. У 1917 г. 674 жыхары. У 1921 г. 105 двароў. У 1921 г. адкрыта школа, якая размяшчалася ў сял. хаце. У 1930 г. арганізаваны калгас. 35 вяскоўцаў загінулі на франтах Вял. Айч. вайны. Паводле перапісу 1959 г. 459 жыхароў. У складзе калгаса «40 гадоў Кастрычніка» (цэнтр — в. Пціч). Планіровачна складаецца з прамалінейнай шыротнай вуліцы, да якой на З і ў цэнтры далучаюцца кароткія вуліцы. На Пд адасобленая кароткая шыротная вуліца. Забудова двухбаковая, драўляная, сядзібнага тыпу.



*В.С.Палтаран.*

**БАБУНІЧЫ** — вёска, цэнтр Бабуніцкага с/с, за 22 км на Пн ад Петрыкава, 14 км ад чыг. ст. Муляраўка (на лініі Лунінец—Калінкавічы), 215 км ад Гомеля, на З меліярацыйныя каналы, на У мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Лунінец—Гомель. 246 гаспадарак, 656 жыхароў (2004 г.).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 17 ст. як сяленне ў Мазырскім пав. Мінскага ваяв. У 1700 г. пазначана як в. Бабынічы, 8 цяглых і 1 пустая службы. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1795 г. 16, у 1811 г. — 27 двароў. Паводле рэвізскіх матэрыялаў 1850 г. 31 двор, 193 жыхары, да 1835 г. ў валоданні А.Хадкевіча, потым — Пікусавых. Пазначана на карце 1866 г., якой карысталася Зах. меліярацыйная экспедыцыя, што працавала ў гэтых мясцінах у 1890-я г. Па звестках 1886 г. 296 жыхароў. Паводле перапісу 1897 г. 89 двароў, 583 жыхары, царква, хлебазапасны магазін. З 1904 г. дзейнічала школа. У 1908 г. 750, у 1917 г. — 820 жыхароў. У 1925 г. 99 двароў. З 20.8.1924 г. цэнтр Бабуніцкага с/с Петрыкаўскага р-на Мазырскай (да 26.7.1930 і з 21.6.1935 да 20.2.1938), акругі, з 20.2.1938 г. Палескай, з 8.1.1954 г. Гомельскай абласцей. У 1930 г. арганізаваны калгас. У 1940 г. 186 двароў, 520 жыхароў. У Вял. Айч. вайну 2.11.1942 г. ням. карнікі загубілі 20 жыхароў (пахаваны ў магіле ахвяр фашызму, за 2 км на У ад вёскі, у лесе). 26.5.1943 г. атрад карнікаў напаў на вёску, дзе размяшчалася партыз. застава 125-й Капаткевіцкай брыгады. Партызаны прынялі бой, але вымушаны былі адступіць. Побач, у лесе, нар. мсціўцы зрабілі засаду і, пры спробе акупантаў адыйсці з вёскі, разграмілі іх. Карнікі страцілі 56 салдат і афіцэраў забітымі і параненымі. Гітлераўцы поўнасцю спалілі вёску і загубілі 60 жыхароў. У баях каля вёскі загінулі 4 воіны (пахаваны ў брацкай магіле на могілках). На франтах і ў партыз. барацьбе загінулі 132 землякі — жыхары вёсак Бабуніцкага с/с, памяць аб якіх увекавечвае скульптура воіна на п'едэстале, пастаўленая ў 1968 г. ў цэнтры вёскі. Паводле перапісу 1959 г. 316 жыхароў. Цэнтр саўгаса «Запаветы Ільіча». Дзейнічаюць сярэдняя школа, Дом культуры, б-ка, фельч.-акушэрскі пункт, аддз. сувязі, дзіцячы сад. Планіровачна складаецца з 2 кароткіх, амаль паралельных паміж сабой вуліц, арыентаваных з ПдЗ на ПнУ. Адасоблена на У размешчана кароткая шыротная вуліца. Забудова драўляная, сядзібнага тыпу. Радзіма бел. пісьменніцы, засл. работніка культуры Беларусі, лаўрэата Дзярж. прэміі БССР В.С.Палтаран, бел. мастака А.А.Панцюк-Жукоўскага, аднаго з арганізатараў і кіраўнікоў партыз. руху на Беларусі ў Вял. Айч. вайну І.Н.Глушко (быў камісарам 130-й партызанскай брыгады Палескай вобл.).

**БАГРЫМАВІЧЫ** — вёска ў Пціцкім с/с, за 25 км на У ад Петрыкава, 4 км ад чыг. ст. Пціч (на лініі Лунінец—Калінкавічы), 162 км ад Гомеля, на р. Пціч (прыток р. Прыпяць), на Пд — азёры Верхмач і Мужол. Транспартныя сувязі

па прасёлачнай, потым аўтадарозе Лунінец—Гомель. 83 гаспадаркі, 130 жыхароў (2004 г.).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 16 ст. як вёска ў Мазырскім пав. Мінскага ваяв. ВКЛ. На карце 1560 г. вясковыя землі аднесены да шляхецкай уласнасці, цэнтр Багрымавіцкага староства. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1795 г. 19 двароў, 154 жыхары. У 1816 г. 22 двары. У 1834 г. 141 жыхар. Паводле перапісу 1858 г. 29 двароў, цэнтр казённага маёнтка. У 1885 г. ў Капаткевіцкай вол. Мазырскага пав., 40 двароў, 298 жыхароў, царква. Паводле перапісу 1897 г. 71 двор, 466 жыхароў, хлебазапасны магазін, прыстань, карчма. У 1908 г. 90 гаспадарак, 692 жыхары. У 1921 г. 117 гаспадарак, 698 жыхароў. У 1930 г. арганізаваны калгас. У Вял. Айч. вайну ням. акупанты спалілі 119 будынкаў, загубілі 58 жыхароў. У баях за вёску і наваколле загінуў 81 воін (пахаваны ў брацкай магіле на паўн. ускраіне). 45 вяскоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 720 жыхароў. У складзе калгаса «40 гадоў Кастрычніка» (цэнтр — в. Пціч). Працуюць сплаўны ўчастак, б-ка, фельч.-акушэрскі пункт, 2 магазіны. Планіровачна складаецца з 2 вуліц блізкай да шыротнай арыентацыі, да якіх далучаюцца кароткія вуліцы. На З адасоблена размешчаны вуліца, арыентаваная з ПдЗ на ПнУ. Забудова пераважна аднабаковая, драўляная, сядзібнага тыпу.

**БАКЛАНЬ** — вёска ў Ляскавіцкім с/с, за 29 км на З ад Петрыкава, 25 км ад чыг. ст. Капцэвічы (на лініі Лунінец—Калінкавічы), 219 км ад Гомеля, на аўтадарозе Жыткавічы—Петрыкаў, на З мяжуе з лесам. 50 гаспадарак, 78 жыхароў (2004 г.).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 18 ст. як сяло ва ўладанні Хадкевіча. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1795 г. 6 двароў, уладанне Радзівілаў. У 1816 г. 7 двароў. У 1850 г. 37 жыхароў, уладанне Каневічаў. Паводле перапісу 1897 г. 21 двор, 132 жыхары. У 1917 г. 205 жыхароў, у Ляскавіцкай вол. Мазырскага пав. Мінскай губ. У 1930 г. арганізаваны калгас. У Вял. Айч. вайну 42 вяскоўцы загінулі на фронце. У 1940 г. 62 двары. Паводле перапісу 1959 г. 330 жыхароў. У складзе саўгаса «Брынёў» (цэнтр — в. Брынёў). Дзейнічаюць клуб, піянерскі лагер «Палессе». Планіровачна складаецца з кароткай шыротнай вуліцы. Жылыя дамы драўляныя, сядзібнага тыпу.

**БАРЫЧАЎ** — вёска ў Бабуніцкім с/с, за 18 км на Пн ад Петрыкава, 10 км ад чыг. ст. Муляраўка (на лініі Лунінец—Калінкавічы), 210 км ад Гомеля, вакол меліярацыйныя каналы, на У мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Лунінец—Гомель. 15 гаспадарак, 28 жыхароў (2004 г.).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 19 ст. як сяленне ў Петрыкаўскай вол. Мазырскага пав. Мінскай губ. У 1857 г. дваранін Некрашэвіч меў у вёсцы 175 дзес. зямлі. Пазначана на карце 1866 г., якой карысталася Зах. меліярацыйная экспедыцыя, што працавала ў гэтых месцах у 1890-я г. У 1879 г. сяленне ў Петрыкаўскім царк. прыходзе. Паводле перапісу 1897 г. 17 двароў, 116 жыхароў. У 1908 г. 26 двароў, 174 жыхары. У 1925 г. 37 двароў. У 1930 г. арганізаваны калгас. У 1940 г. 48 двароў, 186 жыхароў. У Вял. Айч. вайну ў маі 1943 г. ням. карнікі спалілі вёску і загубілі 5 жыхароў. У баях каля вёскі загінулі 3 воіны (пахаваны ў брацкай магіле на ўсх. ускраіне). 15 вяскоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 120 жыхароў. У складзе саўгаса «Запаветы Ільіча» (цэнтр — в. Бабунічы). Працуюць пач. школа, магазін. Планіровачна складаецца з крыху выгнутай вуліцы, блізкай да шыротнай арыентацыі. Забудова двухбаковая, нячшыльная, драўляная, сядзібнага тыпу. Радзіма засл. настаўніка Беларусі П.Р. Тышкевіча.

**БАЯНАЎ** — вёска ў Мышанскім с/с, за 38 км на ПнУ ад Петрыкава, 7 км ад

чыг. ст. Мышанка (на лініі Лунінец—Калінкавічы), 167 км ад Гомеля, на ўсх. ускраіне — канава Плясецкая. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Лунінец—Калінкавічы. 18 гаспадарак, 23 жыхары (2004 г.).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 18 ст. як сяленне ў Мазырскім пав. Мінскага ваяв. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1795 г. в. Баяніч, 27 двароў. У 1931 г. арганізаваны калгас. У Вял. Айч. вайну ў баях за вёску і наваколле загінулі 124 воіны (пахаваны ў брацкай магіле ў цэнтры вёскі). У маі 1944 г. жыхары вёскі, якая знаходзілася ў прыфрантавой паласе, у мэтах іх бяспекі былі часова перасяленыя ў в. Ігнат-Фабіянаўка (Калінкавіцкі р-н), дзе яны размяшчаліся да пачатку аперацыі «Баграціён». 21 вясковец загінуў на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 218 жыхароў. У складзе саўгаса «Мышанка» (цэнтр — в. Мышанка). Планіровачна складаецца з кароткай прамалінейнай мерыдыянальнай вуліцы, да якой з З далучаецца завулак. Забудавана рэдка драўлянымі сял. сядзібамі.

**БЕЛАЛЕСКАЕ** — пасёлак у Петрыкаўскім с/с, за 10 км ад Петрыкава, 8 км ад чыг. ст. Капцэвічы (на лініі Лунінец—Калінкавічы), 178 км ад Гомеля. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Лунінец—Калінкавічы. 1 гаспадарка, 1 жыхар (2004 г.).

Заснаваны як пасёлак торфапрадпрыемства. У 1959 г. ў складзе Капцэвіцкага с/с, 88 жыхароў. Паводле перапісу 1970 г. 51 жыхар. У складзе саўгаса «Петрыкаўскі».

**БЕЛІН** — вёска ў Снядзінскім с/с, за 16 км на ПдЗ ад Петрыкава, 30 км ад чыг. ст. Муляраўка (на лініі Лунінец—Калінкавічы), 211 км ад Гомеля, на У — канава Язовіцкая, на Пд мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Лунінец—Калінкавічы. 22 гаспадаркі, 32 жыхары (2004 г.).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 19 ст. як хутар у Мазырскім пав. Мінскай губ. Паводле перапісу 1897 г. 7 двароў, 46 жыхароў. У 1931 г. арганізаваны калгас. У 1940 г. 52 двары, 178 жыхароў. У Вял. Айч. вайну ў чэрв. 1943 г. ням. карнікі поўнасцю спалілі вёску і загубілі 29 жыхароў. 26 вяскоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 202 жыхары. У складзе саўгаса «Галубіцкі» (цэнтр — в. Галубіца). Планіровачна складаецца з 2 плаўна выгнутых, паралельных паміж сабой вуліц, блізкай да шыротнай арыентацыі, да якіх з Пн далучаецца кароткая прамалінейная вуліца. Забудова двухбаковая, няшчыльная, драўляная, сядзібнага тыпу.

**БЕЛЫ ПЕРАЕЗД** — вёска ў Камаровіцкім с/с, за 58 км на ПнЗ ад Петрыкава, 45 км ад чыг. ст. Муляраўка (на лініі Лунінец—Калінкавічы), 212 км ад Гомеля, вакол лес. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Капцэвічы—Навасёлкі. 13 гаспадарак, 20 жыхароў (2004 г.).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 19 ст. як сяленне ў Камаровіцкай вол. Мазырскага пав. Мінскай губ. Пазначана на карце 1866 г., якой карысталася Зах. меліярацыйная экспедыцыя, што працавала ў гэтых месцах у 1890-я г. Паводле перапісу 1897 г. 14 двароў, 127 жыхароў. У 1917 г. 205 жыхароў. У 1921 г. вёска (26 двароў, 136 жыхароў) і засценак (13 двароў, 61 жыхар), якія пазней аб'ядналіся і склалі адзін населены пункт. У 1931 г. арганізаваны калгас. У Вял. Айч. вайну 11 вяскоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 167 жыхароў. У складзе саўгаса «Камаровічы» (цэнтр — в. Камаровічы). Дзейнічае фельч.-акушэрскі пункт. Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ, да якой на Пд далучаецца кароткая прамалінейная вуліца. Забудова двухбаковая, няшчыльная, драўляная, сядзібнага тыпу.

**БЕРАЗНЯКІ** — вёска ў Петрыкаўскім с/с, за 10 км на ПнЗ ад Петрыкава, 8 км ад чыг. ст. Капцэвічы (на лініі Лунінец—Калінкавічы), 178 км ад Гомеля,

на Пд, У і З мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Лунінец—Калінкавічы. 2 гаспадаркі, 5 жыхароў (2004 г.).

Засн. ў пач. 20 ст. перасяленцамі з суседніх вёсак. У 1917 г. хутар, 6 жыхароў, у Грабоўскай вол. Мазырскага пав. Мінскай губ. Найбольш актыўная забудова адносіцца да 1920-х г. У 1925 г. 21 двор. У 1931 г. арганізаваны калгас. У 1940 г. 53 двары, 247 жыхароў. У Вял. Айч. вайну 27.12.1942 г. ням. акупанты загубілі 168 вяскоўцаў (пахаваны ў магіле ахвяр фашызму на паўд. ускраіне) і поўнасцю спалілі вёску. 7 вяскоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 60 жыхароў. У складзе саўгаса «Петрыкаўскі» (цэнтр — г. Петрыкаў). Жылыя дамы драўляныя, сядзібнага тыпу, каля прасёлачнай дарогі.

**БЕСЕДКІ** — вёска ў Мышанскім с/с, за 40 км на У ад Петрыкава, 2 км ад чыг. ст. Мышанка (на лініі Лунінец—Калінкавічы), 154 км ад Гомеля. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Лунінец—Калінкавічы. 73 гаспадаркі, 115 жыхароў (2004 г.).

Па пісьмовых крыніцах вядома з пач. 18 ст. як сяленне ў Мазырскім пав. Мінскага ваяв. У 1772 г. пабудавана Дзімітравіцкая драўляная царква, перабудавана ў 1854 г., у 1876 г. капітальна адрамантавана. У царк. архіве ёсць дакументы, падпісаныя Аскеркам, на права карыстання царквой часткай яго зямельнага надзелу ва ўрочышчах Плізнава і Загалле, а таксама мясц. возерам. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1811 г. 40 двароў. У 1816 г. 157 жыхароў. У 1865 г. адкрыта нар. вучылішча. Па звестках 1885 г. 45 двароў, 311 жыхароў, у Капаткевіцкай вол. Мазырскага пав. Мінскай губ. Паводле перапісу 1897 г. 81 двор, 472 жыхары, хлебазапасны магазін. Складаныя адносіны вяскоўцаў з памешчыкам прывялі ў крас. 1906 г. да ўзброенага супраціўлення сялян паліцыі, якая дапамагала судоваму приставу ў спагнанні штрафу на карысць памешчыка. У выніку 1 вясковец быў забіты, 1 паранены і 4 арыштаваны. У 1908 г. 94 двары, 604 жыхары. У 1917 г. 682 жыхары. У 1921 г. 198 двароў, 830 жыхароў. З 20.8.1924 г. да 18.11.1967 г. цэнтр Беседкаўскага с/с Капаткевіцкага, з 25.12.1962 г. Петрыкаўскага раёнаў Мазырскай (да 26.7.1930 і з 12.2.1935 да 20.2.1938) акругі, з 20.2. 1938 г. Палескай, з 8.1.1954 г. Гомельскай абласцей. У 1929 г. арганізаваны калгас. У 1930 г. пач. школа ператворана ў сямігадовую (у 1935 г. 184 вучні). У Вял. Айч. вайну ў маі 1944 г. жыхары з вёскі, якая была ў прыфрантавой паласе, у мэтах бяспекі пераселены ў в. Гулевічы (Калінкавіцкі р-н), дзе яны размяшчаліся да пач. ваен. аперацыі «Баграціён». У баях за вёску і наваколле загінулі 247 воінаў і партызан (пахаваны ў брацкай магіле каля школы). 62 вяскоўцы загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 816 жыхароў. У складзе саўгаса «Мышанка» (цэнтр — в. Мышанка). Працуюць фельч.-акушэрскі пункт, б-ка. Планіровачна складаецца з крывалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ, да якой на Пн далучаюцца 2 прамалінейныя вуліцы. Забудавана шчыльна драўлянымі сял. сядзібамі.

**БЕСЕДЫ** — вёска ў Лучыцкім с/с, за 53 км на ПнУ ад Петрыкава, 30 км ад чыг. ст. Пціч (на лініі Лунінец—Калінкавічы), 192 км ад Гомеля, на р. Альхоўка (прыток р. Пціч), на З мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Навасёлкі—Капаткевічы. 17 гаспадарак, 24 жыхары (2004 г.).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 19 ст. як сяленне ў Капаткевіцкай вол. Мазырскага пав. Мінскай губ. Паводле перапісу 1897 г. 10 двароў, 69 жыхароў. У 1925 г. 18 двароў. У 1930 г. арганізаваны калгас «Новыя Беседы», працавала кузня. 13 вяскоўцаў у Вял. Айч. вайну загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 178 жыхароў. У складзе калгаса «Шлях да камунізму» (цэнтр — в. Лучыцы). Планіровачна складаецца з прамалінейнай мерыды-



А.П.Даніліцкі.

янальнай вуліцы, перакрыжаванай на Пн другой прамалінейнай вуліцай. Забудова драўляная сядзібнага тыпу.

**БОБРЫК** — вёска ў Камаровіцкім с/с, за 44 км на Пн ад Петрыкава, 29 км ад чыг. ст. Капцэвічы (на лініі Лунінец—Калінкавічы), 240 км ад Гомеля, на аўтадарозе Капцэвічы—Навасёлкі, на У меліярацыйныя каналы, на Пд, Пн і З мяжуе з лесам. 75 гаспадарак, 138 жыхароў (2004 г.).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 16 ст. як вёска ў Мазырскім пав. Мінскага ваяв. ВКЛ. На карце 1560 г. вясковыя землі аднесены да велікакняжацкіх. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1795 г. 10 двароў, 83 жыхары. У 1816 г. 39 двароў, 206 жыхароў, уладанне Яленскіх. У 1834 г. 40 двароў. Па рэвізскіх матэрыялах 1850 г. 44 двары, 293 жыхары. Пазначана на карце 1866 г., якой карысталася Зах. меліярацыйная экспедыцыя, што працавала ў гэтых месцах у 1890-я г. У 1879 г. ў Камаровіцкім царк. прыходзе. Паводле перапісу 1897 г. 74 двары, 532 жыхары, царква, хлебазапасны магазін, карчма. Побач аднайменны фальварак (65 жыхароў). Уваходзіла ў Камаровіцкую вол. Мазырскага пав. Мінскай губ. У пач. 20 ст. ў фальварку пачаў дзейнічаць бандарна-лесапільны з-д. У 1907 г. адкрыта школа, якая размяшчалася ў наёмнай сял. хаце. У 1908 г. 107 двароў, 637 жыхароў. У 1921 г. 137 двароў, 891 жыхар, у засценку — 32 двары, 242 жыхары. З 20.8.1924 г. да 14.11.1974 г. цэнтр Бобрыкаўскага с/с Петрыкаўскага, з 12.2. 1935 г. Капаткевіцкага, з 25.12.1962 г. Петрыкаўскага раёнаў Мазырскай (да 26.7.1930 і з 12.2.1935 да 20.2.1938) акругі, з 20.2.1938 г. Палескай, з 8.1.1954 г. Гомельскай абласцей. У 1925 г. 183 двары. У 1930 г. арганізаваны калгас. У Вял. Айч. вайну ў сак. 1943 г. ням. карнікі поўнасцю спалілі вёску і загубілі 60 жыхароў. У баях за вёску і наваколле загінулі 28 воінаў і партызан (пахаваны ў брацкай магіле на паўн.-зах. ускраіне). 75 вяскоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 150 жыхароў. У складзе саўгаса «Камаровічы» (цэнтр — в. Камаровічы). Працуюць лясніцтва, клуб, б-ка, фельч.-акушэрскі пункт, аддз. сувязі. Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ. На Пн прамалінейная шыротная вуліца, злучаная з галоўнай. На Пд адасобленая прамалінейная вуліца блізкай да мерыдыянальнай арыентацыі. Забудова двухбаковая, няшчыльная, драўляная, сядзібнага тыпу. Радзіма Герояў Сав. Саюза С.Я.Сцяпука і А.П.Даніліцкага (удзельнік Парада Перамогі 1945).

**БОРКІ** — вёска ў Камаровіцкім с/с, за 59 км на Пн ад Петрыкава, 47 км ад чыг. ст. Муляраўка (на лініі Лунінец—Калінкавічы), 209 км ад Гомеля, на З і Пн меліярацыйныя каналы, на Пд мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Камаровічы—Капаткевічы. 31 гаспадарка, 62 жыхары (2004 г.).

Засн. ў пач. 20 ст. У 1908 г. фальварак, 1 двор, 9 жыхароў, у Камаровіцкай вол. Мазырскага пав. Мінскай губ. Актыўная забудова адносіцца да 1920-х г. У 1931 г. арганізаваны калгас. У 1940 г. 35 двароў, 140 жыхароў. У Вял. Айч. вайну ў сак. 1943 г. ням. карнікі поўнасцю спалілі вёску і загубілі 10 жыхароў. Паводле перапісу 1959 г. 150 жыхароў. У складзе саўгаса «Камаровічы» (цэнтр — в. Камаровічы). Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ. Забудова драўляная, няшчыльная, сядзібнага тыпу.

**БРАДЫ** — вёска ў Колкаўскім с/с, за 53 км на ПнУ ад Петрыкава, 34 км ад чыг. ст. Пціч (на лініі Лунінец—Калінкавічы), 187 км ад Гомеля, на Пд, У і З меліярацыйныя каналы, на Пн мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Лунінец—Гомель. 19 гаспадарак, 32 жыхары (2004 г.).

Засн. ў пач. 20 ст. У 1917 г. хутар, 7 жыхароў, у Камаровіцкай вол. Мазырскага пав. Мінскай губ. На 1920-я г. прыпадае час найбольш актыўнай забудовы. У 1931 г. арганізаваны калгас. У Вял. Айч. вайну 19 вяскоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 150 жыхароў. У складзе калгаса імя У.І.Леніна (цэнтр — в. Колкі). Планіровачна складаецца з прамалінейнай мерыдыянальнай вуліцы, забудаванай двухбакова, рэдка, драўлянымі сял. сядзібамі.

**БРЫНЁЎ** — вёска ў Ляскавіцкім с/с, за 27 км на ПнЗ ад Петрыкава, 10 км ад чыг. ст. Капцэвічы (на лініі Лунінец—Калінкавічы), 214 км ад Гомеля, на У і З мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Лунінец—Калінкавічы. 254 гаспадаркі, 605 жыхароў (2004 г.).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 16 ст. як вёска ў Мазырскім пав. Мінскага ваяв. ВКЛ. Па інвентару 1700 г. ў вёсцы 11 цяглых і 21 пустая службы. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1811 г. 18, у 1850 г. — 36 двароў, уладанне Кіневічаў. Праз вёску праходзіў тракт Мазыр—Давыд-Гарадок. Мелася паштовая станцыя. У 1851—55 гг. у фальварку, што быў побач, дзейнічала вытворчасць па вырабе цукру. Па рэвізскіх матэрыялах 1850 г. 167 жыхароў. У вёсках Брынёў і Дарашэвічы іх уладальнік дваранін Кіневіч меў 8317 дзес. зямлі, вінакурню, 2 карчмы, млын. Паводле перапісу 1897 г. 72 двары, 387 жыхароў, хлебазапасны магазін, карчма. Побач былі фальварак з вінакурняй і калонія Брынёўская, 19 двароў, 48 жыхароў, у Петрыкаўскай вол. Мазырскага пав. Мінскай губ. Каля фальварка знаходзілася лесапільня Старушка, 7 двароў, 81 жыхар. На рубяжы 19—20 ст. на ўсх. ускраіне закладзены прысядзібны парк (каля 5 га). У яго паўн. частцы існуе і зараз мураваны лямус. За межамі парку на ПдУ захаваліся 2 жылыя мураваныя дамы і стайня, пабудаваныя ў пач. 20 ст. З 1901 г. дзейнічала школа, якая размяшчалася ў наёмнай сял. хаце, у пач. 1920-х г. школе выдзелены нацыяналізаваны будынак. У 1908 г. 77 двароў, 490 жыхароў, у Ляскавіцкай вол. Мазырскага пав. У 1917 г. ў вёсцы 520, у маёнтку 84 жыхары. З 20.8.1924 г. да 24.5.1978 г. цэнтр Брынёўскага с/с Петрыкаўскага р-на Мазырскай (да 26.7. 1930 і з 21.6.1935 да 20.2.1938) акругі, з 20.2.1938 г. Палескай, з 8.1.1954 г. Гомельскай абласцей. У 1925 г. 121 двор. У 1930 г. арганізаваны калгасы «Перамога» і «Чырвоны сцяг», працавалі паравы млын, 2 кузні, ваўначоска, сукнавальня. У 1934 г. да вёскі далучаны пас. Слянзакі. У Вял. Айч. вайну ў баях за вёску і наваколле 3.7.1944 г. загінуў 21 воін (пахаваны ў брацкай магіле ў парку). 103 вяскоўцы загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 686 жыхароў. Цэнтр саўгаса «Брынёў». Дзейнічаюць лясніцтва, вытв. ўчасткі леспрамгаса і хімлясгаса, сярэдняя школа, Дом культуры, б-ка, б-ца, дзіцячы сад, аддз. сувязі, сталовая, 3 магазіны. Планіровачна складаецца з плаўна выгнутай шыротнай вуліцы, да якой з Пд далучаюцца 2 кароткія прамалінейныя і кароткая дугападобная вуліцы. Забудова двухбаковая, драўляная, сядзібнага тыпу. Радзіма бел. пісьменніка Міколы (Мікалая Іванавіча) Гамолкі. Непадалёку радовішча бурага вугалю.



*М.І.Гамолка.*

**БЯЛАНАВІЧЫ** — вёска ў Петрыкаўскім с/с, за 6 км на У ад Петрыкава, 9 км ад чыг. ст. Муляраўка (на лініі Лунінец—Калінкавічы), 195 км ад Гомеля, на р. Прыпяць (прыток р. Дняпро). Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Лунінец—Гомель. 103 гаспадаркі, 190 жыхароў (2004 г.).

Па пісьмовых крыніцах вядома з канца 17 ст. У інвентары 1700 г. ў Мазырскім пав. Мінскага ваяв.; 10 цяглых і 5 пустых службаў. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1811 г. ва ўладанні Хадкевічаў, 39 двароў. Пад 1879 г. пазначана як сяленне ў Петрыкаўскім царк. прыходзе. Паводле перапісу 1897 г. 77 двароў, 642 жыхары, карчма. У 1908 г. 81 двор, 564 жыхары, у Петрыкаўскай вол. Мазырскага пав. Мінскай губ. У 1913 г. адкрыта земская школа, якая размяшчалася ў наёмнай сял. хаце. У 1917 г. 667 жыхароў. У 1925 г. 114 двароў. У 1929 г. арганізаваны калгас. 51 вясковец загінуў на франтах Вял. Айч. вайны. Паводле перапісу 1959 г. 442 жыхары. Цэнтр саўгаса «Бяланавічы». Працуюць аддз. сувязі, Дом культуры, пач. школа, б-ка, фельч.-акушэрскі пункт. Планіровачна складаецца з прамалінейнай шыротнай вуліцы, да якой далучаюцца 3 завулкі. Жылыя дамы драўляныя, сядзібнага тыпу. Радзіма кавалера ордэнаў Славы 3-х ступеней У.І.Мотуза.

**БЯРОЗАЎКА** — вёска ў Грабаўскім с/с, за 41 км на ПнЗ ад Петрыкава, 21 км ад чыг. ст. Капцэвічы (на лініі Лунінец—Калінкавічы), 212 км ад Гомеля, на Пд і З меліярацыйны канал, на У і Пн мяжуе з лесам. Побач аўтадарога Капцэвічы—Навасёлкі. 31 гаспадарка, 43 жыхары (2004 г.).

Засн. ў пач. 19 ст. перасяленцамі з суседніх вёсак. Па рэвізскіх матэрыялах 1850 г. 11 двароў, ва ўладанні памешчыка С.Ф.Лянкевіча. У 1917 г. 83 жыхары, у Грабаўскай вол. Мазырскага пав. Мінскай губ. У 1931 г. арганізаваны калгас. У 1940 г. 51 двор, 211 жыхароў. У Вял. Айч. вайну ў лют. 1943 г. ням. акупанты поўнасцю спалілі вёску і загубілі 13 жыхароў. 24 вяскоўцы загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 255 жыхароў. У складзе калгаса «Перамога» (цэнтр — в. Грабаў). Планіровачна складаецца з крывалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ і забудаванай няшчыльна драўлянымі сял. сядзібамі.

**ВАНЮЖЫЧЫ** — вёска ў Навасёлкаўскім с/с, за 42 км на Пн ад Петрыкава, 31 км ад чыг. ст. Муляраўка (на лініі Лунінец—Калінкавічы), 192 км ад Гомеля, на аўтадарозе Навасёлкі—Капаткевічы, на Пд і З меліярацыйны канал. 83 гаспадаркі, 150 жыхароў (2004 г.).

Выяўлены археолагамі курганны могільнік 11 ст. (32 насыпы, за 2 км на Пн ад вёскі) сведчыць пра засяленне гэтых месц з далёкай старажытнасці. Па пісьмовых крыніцах вядома з 16 ст. як вёска ў Мазырскім пав. Мінскага ваяв. ВКЛ. Пад 1567 г. пазначана ў метрыцы караля Жыгімонта Аўгуста як сяленне ў Мазырскай вол., перададзенае ў валоданне Ю.Д.Кашкарову. У 1568 г. ў валоданні Ф.Ф.Аскеркі. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1816 г. 18 двароў. У 1823 г. пабудавана Раства-Багародзіцкая царква, якая ў канцы 19 ст. згарэла. Была цэнтрам аднайменнага маёнтка, гаспадар якога дваранін Вянцкевіч меў у 1852 г. 806 дзес. зямлі. У 1866 г. 23 двары, 196 жыхароў. Пазначана на карце 1866 г., якой карысталася Зах. меліярацыйная экспедыцыя, што працавала ў гэтых месцах у 1890-я г. Паводле перапісу 1897 г. 381 жыхар. У 1908 г. 70 двароў, 434 жыхары, у Камаровіцкай вол. Мазырскага пав. Мінскай губ. У 1912 г. адкрыта школа, якая размяшчалася ў наёмнай сял. хаце. У 1921 г. 106 двароў, 619 жыхароў. У 1931 г. арганізаваны калгас. У 1940 г. 120 двароў, 612 жыхароў. У Вял. Айч. вайну ў чэрв. 1943 г. ням. акупанты поўнасцю спалілі вёску і загубілі 9 жыхароў. 82 жыхары загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 541 жыхар. У складзе саўгаса «Навасёлкі» (цэнтр — в. Навасёлкі). Працуюць клуб, б-ка. Планіровачна складаецца з 2 прамалінейных, паралельных паміж сабой вуліц мерыдыянальнай арыентацыі, да якіх на Пд далучаецца перакрыжаваная на З кароткай крывалінейная шыротная вуліца. Забудова пераважна аднабаковая, драўляная, сядзібнага тыпу.

**ВОСТРАЎ** — вёска ў Муляраўскім с/с, за 20 км на ПнУ ад Петрыкава, 7 км ад чыг. ст. Муляраўка (на лініі Лунінец—Капаткевічы), 182 км ад Гомеля, на паўд. і ўсх. ускраінах меліярацыйныя каналы. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Лунінец—Гомель. 31 гаспадарка, 40 жыхароў (2004 г.).

Засн. ў пач. 20 ст. перасяленцамі з суседніх вёсак. У 1917 г. 18 жыхароў, у Грабаўскай вол. Мазырскага пав. Мінскай губ. У 1931 г. арганізаваны калгас. У Вял. Айч. вайну 4 вяскоўцы загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 365 жыхароў. У складзе калгаса «Бальшавік» (цэнтр — в. Курыцічы). Планіровачна складаецца з 2 прамалінейных вуліц блізкай да мерыдыянальнай арыентацыі, злучаных 2 завулкамі. Забудова пераважна аднабаковая, рэдкая, драўляная, сядзібнага тыпу.

**ВЫШАЛАЎ** — вёска ў Галубіцкім с/с, за 13 км на З ад Петрыкава, 25 км ад чыг. ст. Муляраўка (на лініі Лунінец—Калінкавічы), 203 км ад Гомеля, на р. Прыпяць (прыток р. Дняпро), на Пд — азёры Максімава і Рэчышча. Побач аўтадарога Жыткавічы—Петрыкаў. 95 гаспадарак, 159 жыхароў (2004 г.).

Выяўленае археолагамі паселішча 3-га тысячагоддзя да н.э. (на зах. ускраіне) сведчыць пра засяленне гэтых мясцін з глыбокай старажытнасці. Па пісьмовых крыніцах вядома з 16 ст. як в. Вішалгаў. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1811 г. 61 двор, уладанне Кіневічаў. Паводле перапісу 1897 г. 353 жыхары, капліца, хлебазапасны магазін. У 1908 г. 63 двары, 386 жыхароў, у Ляскавіцкай вол. Мазырскага пав. Мінскай губ. У 1913 г. адкрыта царк.-прыходская школа, якая размяшчалася ў наёмнай сял. хаце. У 1917 г. 466 жыхароў. У 1925 г. 84 двары. У 1930 г. арганізаваны калгас «Чырвоны будаўнік», працавалі вятрак і кузня. У Вял. Айч. вайну 57 вяскоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 582 жыхары. У складзе саўгаса «Галубіцкі» (цэнтр — в. Галубіца). Дзейнічаюць аддз. сувязі, клуб, б-ка. Планіровачна складаецца з дугападобнай шыротнай вуліцы, на Пн — кароткая прамалінейная шыротная вуліца з завулкам. Забудова двухбаковая, драўляная, сядзібнага тыпу.

**ВЯЛАЎСК** — вёска ў Петрыкаўскім с/с, за 10 км на ПдУ ад Петрыкава, 24 км ад чыг. ст. Муляраўка (на лініі Лунінец—Калінкавічы), 200 км ад Гомеля, на Пн — пойма і безымянная рака (прыток р. Прыпяць). Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарогах, якія адыходзяць ад Петрыкава. 177 гаспадарак, 380 жыхароў (2004 г.).

Выяўленыя археолагамі курганны могільнік (7 насыпаў, за 2 км на ПнЗ ад вёскі, ва ўрочышчы Прыбітуха) і 2 паселішчы 3-га тысячагоддзя да н.э. (за 0,3—1 км на ПдУ ад вёскі) сведчаць пра засяленне гэтых месц з глыбокай старажытнасці. Па пісьмовых крыніцах вядома з 16 ст. як вёска ў каралеўстве Польскім, шляхецкая ўласнасць. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. Даволі хутка вёска пашырылася па колькасці двароў і жыхароў. У 1930 г. арганізаваны калгас. 70 вяскоўцаў загінулі на франтах Вял. Айч. вайны. Паводле перапісу 1959 г. 714 жыхароў. Цэнтр саўгаса «Прыпяцкі». Дзейнічаюць сярэдняя школа, клуб, дзіцячы сад, б-ка, фельч.-акушэрскі пункт, сталовая, аддз. сувязі, магазін. Планіровачна складаецца з дробных кварталаў, утвораных 3 крывалінейнымі вуліцамі блізкай да шыротнай арыентацыі, перакрыжаваных кароткімі вуліцамі. Жылыя дамы пераважна драўляныя сядзібнага тыпу.

**ВЯЛІКАЕ ПОЛЕ** — вёска ў Чалюшчавіцкім с/с, за 45 км на ПдУ ад Петрыкава, 28 км ад чыг. ст. Пціч (на лініі Лунінец—Калінкавічы), 190 км ад Гомеля, на Пд і У мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Камаровічы—Капаткевічы. 29 гаспадарак, 46 жыхароў (2004 г.).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 19 ст. як сяленне ў Капаткевіцкай вол. Ма-

зырскага пав. Мінскай губ. Паводле перапісу 1897 г. 16 двароў, 82 жыхары. У 1925 г. 18 двароў. У 1932 г. арганізаваны калгас. У Вял. Айч. вайну ў баях за вёску і наваколле загінулі 14 воінаў і 3 партызаны (пахаваны ў брацкай магіле на могілках), 9 вяскоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 166 жыхароў. У складзе саўгаса «Чалюшчавічы» (цэнтр — в. Чалюшчавічы). Планіроўачна складаецца з прамалінейнай, амаль мерыдыянальнай вуліцы, забудаванай двухбакова, шчыльна драўлянымі сял. сядзібамі.

**ВЯЛІКІЯ СЯЛЮЦІЧЫ** — вёска ў Грабаўскім с/с, за 33 км на ПнЗ ад Петрыкава, 13 км ад чыг. ст. Капцэвічы (на лініі Лунінец—Калінкавічы), 203 км ад Гомеля, на р. Бобрык (прыток р. Прыпяць), на У і З мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Лунінец—Калінкавічы. 98 гаспадарак, 234 жыхары (2004 г.).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 16 ст. як в. Сялюцічы ў Мазырскім пав. Мінскага ваяв. ВКЛ. Па інвентару 1700 г. 14 цяглых і 2 пустыя службы. Захаваліся звесткі аб удакладненні межаў паміж вёскамі Сялюцічы, Міхедавічы і Грабава, якое праводзілася ў 1769 г. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1811 г. ва ўладанні графа Хадкевіча, 45 двароў. Пазначана на карце 1866 г., якой карысталася Зах. меліярацыйная экспедыцыя, што працавала ў гэтых месцах у 1890-я г. Непадалёку складвалася сяленне Сялюцічы Малыя. Паводле перапісу 1897 г. в. Сялюцічы (яна ж Гаюшаўка), у Грабаўскай вол. Мазырскага пав. Мінскай губ.; 61 двор, 473 жыхары, капліца, крама, карчма. У 1906 г. ў в. Сялюцічы-1 адкрыта школа, якая размяшчалася ў наёмнай сял. хаце. У 1908 г. 126 двароў, 900 жыхароў. У 1917 г. 1063 жыхары. У 1921 г. 157 двароў. У 1930 г. арганізаваны калгас. У 1940 г. 172 двары. У Вял. Айч. вайну ням. акупанты 17.11.1942 г. сагналі 387 жыхароў у некалькі хат і спалілі іх, поўнасцю была спалена і вёска. 77 жыхароў вёсак Вялікія Сялюцічы і Малыя Сялюцічы загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 464 жыхары. Цэнтр калгаса «Зара». Дзейнічаюць клуб, аддз. сувязі, 9-гадовая школа, бібліятэка, фельч.-акушэрскі пункт. Планіровачна складаецца з кароткай мерыдыянальнай вуліцы, да якой з У і З далучаюцца прамалінейныя шыротныя вуліцы. Забудова двухбаковая, драўляная, сядзібнага тыпу.

**ГАЛУБІЦА** — вёска, цэнтр Галубіцкага с/с, за 20 км на З ад Петрыкава, 15 км ад чыг. ст. Капцэвічы (на лініі Лунінец—Калінкавічы), 198 км ад Гомеля, на р. Прыпяць (прыток р. Дняпро) і аўтадарозе Жыткавічы—Петрыкаў. 239 гаспадарак, 589 жыхароў (2004 г.).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 18 ст. як вёска ў валоданні езуітаў, казны, у 1777 г. прададзена віленскаму біскупу І.Масальскаму. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1795 г. 47 двароў. Па рэвізскіх матэрыялах 1816 г. 191 жыхар, ва ўладанні Кіневічаў. У 1834 г. 219 жыхароў. Дзейнічала прыстань на р. Прыпяць. У запісах афіцэраў Ген. штаба Рас. арміі, якія знаёміліся з гэтымі мясцінамі ў сярэдзіне 19 ст., вёска характарызавалася як непрывабнае сяленне. Паводле перапісу 1897 г. 102 двары, 610 жыхароў, капліца. У 1908 г. 119 двароў, 668 жыхароў, у Ляскавіцкай вол. Мазырскага пав. Мінскай губ. У 1913 г. адкрыта земская школа, якая размяшчалася ў наёмнай сял. хаце. У 1917 г. 786 жыхароў. У 1925 г. 127 двароў. У 1930 г. арганізаваны калгас «Камунар», працаваў паравы млын. У Вял. Айч. вайну на франтах і ў партыз. барацьбе загінулі 77 вяскоўцаў, памяць аб якіх ушаноўваюць абеліск і 2 мармуровыя пліты з імёнамі загінуўшых, пастаўленыя ў 1975 г. каля будынка выканкома сельсавета. Паводле перапісу 1959 г. 664 жыхары. Цэнтр саўгаса «Галубіцкі». Дзейнічаюць сярэдняя школа, клуб, б-ка, дзіцячы сад, фельч.-

акушэрскі пункт, 2 магазіны, аддз. сувязі. Планіровачна складаецца з дугападобнай шыротнай вуліцы, якая на З раздвойваецца. Забудова двухбаковая, драўляная, сядзібнага тыпу.

У склад Галубіцкага с/с да 1972 г. ўваходзіў пас. Слянзакі (не існуе).

**ГАРАДЗІШЧА** — вёска ў Капаткевіцкім пасялковым Савеце, за 42 км на ПнЗ ад Петрыкава, 13 км ад чыг. ст. Пціч (на лініі Лунінец—Калінкавічы), 157 км ад Гомеля, на З — вадаёмы рыбгаса, на Пд, У і Пн мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Лунінец—Гомель. 20 гаспадарак, 30 жыхароў (2004 г.).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 18 ст. як вёска ў Капаткевіцкай вол. Мазырскага пав. Мінскай губ. У 1795 г. 17 двароў, уладанне Яленскіх. Па рэвізскіх матэрыялах 1816 г. 71 жыхар. У 1834 г. 81 жыхар, у складзе маёнтка Капаткевічы. Пазначана на карце 1866 г., якой карысталася Зах. меліярацыйная экспедыцыя, што працавала ў гэтых месцах у 1890-я г. Паводле перапісу 1897 г. 23 двары, 157 жыхароў, капліца. У 1908 г. 44 двары. У 1917 г. 303 жыхары. У 1921 г. 68 двароў, 383 жыхары, працавала школа, якая размяшчалася ў наёмнай сял. хаце. У 1931 г. арганізаваны калгас. У Вял. Айч. вайну ў баях каля вёскі зімой 1944 г. загінулі 1113 воінаў (пахаваны ў брацкай магіле ў цэнтры вёскі). 19 вяскоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 170 жыхароў. У складзе саўгаса «Капаткевічы» (цэнтр — г.п. Капаткевічы). Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ (уздоўж вадаёма) і забудаванай драўлянымі сял. сядзібамі. Радзіма Героя Сав. Саюза С.Я.Сцяпука і засл. настаўніка Беларусі С.М.Сцяпука.

**ГЛІНКА** — вёска ў Ляскавіцкім с/с, за 31 км на ПнЗ ад Петрыкава, 10 км ад чыг. ст. Капцэвічы (на лініі Лунінец—Калінкавічы), 220 км ад Гомеля, на У і З мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Лунінец—Калінкавічы. 3 гаспадаркі, 4 жыхары (2004 г.).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 18 ст. як сяленне ў Мазырскім пав. Мінскага ваяв. У канцы 18 ст. тут працавала рудня па выплаўцы жалеза. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1801 г. ўпамінаецца як сяло ў Ляскавіцкай вол. Мазырскага пав. Мінскай губ. Паводле перапісу 1897 г. 10 двароў, 62 жыхары. У 1908 г. 11 двароў, 73 жыхары. У 1917 г. 102 жыхары. У 1925 г. 23 двары. У 1931 г. арганізаваны калгас. У Вял. Айч. вайну 7 вяскоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 144 жыхары. У складзе саўгаса «Брынёў» (цэнтр — в. Брынёў). Планіровачна складаецца з кароткай прамалінейнай шыротнай вуліцы. Жылыя дамы драўляныя сядзібнага тыпу.

**ГРАБАЎ** — вёска, цэнтр Грабаўскага с/с, за 43 км на ПнЗ ад Петрыкава, 20 км ад чыг. ст. Капцэвічы (на лініі Лунінец—Калінкавічы), 216 км ад Гомеля, на аўтадарозе Капцэвічы—Навасёлкі. Праз вёску праходзіць Міхедава-Грабаўскі канал, на Пд мяжуе з лесам. 186 гаспадарак, 467 жыхароў (2004 г.).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 16 ст. як сяленне ў Мінскім ваяв. ВКЛ. На карце 1560 г. вясковыя землі аднесены да велікакняжацкіх. Інвентар 1721 г. сведчыць, што вёска ў гэты час была цэнтрам ключа. У 1731 г. цэнтр староства, уладанне Радзівілаў. Захаваліся архіўныя матэрыялы 1769 г. аб удакладненні межаў в. Грабаў з суседнімі сяленнямі. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. Дзейнічала Міхайлаўская царква (у ёй захоўваліся метрычныя кнігі з 1793), якая згарэла, у 1803 г. нанова адбудавана, у 1870 г. перабудавана. Праз вёску праходзіў тракт са Слуцка ў Столін. Мелася паштовая станцыя. У 1811 г. 16 двароў, ва ўладанні графа Чапскага. У 1834 г. 25 двароў, у Мазырскім пав. Мінскай губ. Па рэвізскіх матэрыялах 1850 г. 173 жыхары. Дваранін Абуховіч меў у вёсцы ў



*С.Я.Сцяпук.*

1876 г. 3826 дзес. зямлі. У 1884 г. адкрыта царк.-прыходская школа. Была цэнтрам воласці (да 17.7.1924), у склад якой у 1885 г. ўваходзілі 7 сяленняў з агульнай колькасцю 159 двароў. У 1886 г. 29 двароў, 270 жыхароў. Паводле перапісу 1897 г. ў сяле 54 двары, 406 жыхароў, царква, 2 крамы, карчма, у в. Грабаў (яна ж Старынкі, Губары) 69 двароў, 505 жыхароў, хлебазапасны магазін. У 1908 г. сяло і вёска аб'ядналіся ў адзін населены пункт, 191 двор, 1264 жыхары, лесапільня. У 1921 г. 280 двароў, 1451 жыхар. З 20.8.1924 г. цэнтр Грабаўскага с/с Петрыкаўскага р-на Мазырскай (да 26.7.1930 і з 21.6.1935 да 20.2.1938) акругі, з 20.2.1938 г. Палескай, з 8.1.1954 г. Гомельскай абласцей. У 1930 г. арганізаваны калгас «Перамога», працавалі цагельня (з 1926), паравы млын, кузня. У 1940 г. 320 двароў. У Вял. Айч. вайну ў канцы жн. 1941 г. ням. акупанты расстралялі 3 воінаў, якія выходзілі з акружэння (пахаваны ў брацкай магіле на паўд.-ўсх. ускраіне). У лют. 1943 г. карнікі поўнасцю спалілі вёску і загубілі 86 жыхароў. 115 вяскоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 840 жыхароў. Цэнтр калгаса «Перамога». Працуюць лясніцтва, сярэдняя школа, Дом культуры, б-ка, аптэка, фельч.-акушэрскі і вет. пункты, аддз. сувязі, 2 магазіны. Планіровачна складаецца з падзеленых каналам дзвюх частак: усх. (прамалінейная вуліца, блізкая да мерыдыянальнай арыентацыі, да якой на Пд далучаецца кароткая прамалінейная вуліца) і зах. (прамалінейная вуліца, блізкая да мерыдыянальнай арыентацыі, перакрыжаваная на Пд кароткай вуліцай). Забудова драўляная, двухбаковая, няшчыльная, сядзібнага тыпу. У 1987 г. пабудаваны мураваныя дамы на 50 кватэр, у якіх размясціліся перасяленцы з забруджаных радыяцыяй месц пасля Чарнобыльскай катастрофы.

**ГРАБНІКІ** — пасёлак у Навасёлкаўскім с/с, за 52 км на Пн ад Петрыкава, 41 км ад чыг. ст. Муляраўка (на лініі Лунінец—Калінкавічы), 203 км ад Гомеля, на З мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Камаровічы—Капаткевічы. 17 гаспадарак, 32 жыхары (2004 г.).

Засн. ў пач. 1920-х г. перасяленцамі з суседніх вёсак. У 1931 г. арганізаваны калгас. У Вял. Айч. вайну партызаны разграмілі апорны пункт, які быў створаны акупантамі ў пасёлку. 14 пасялкоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 120 жыхароў. У складзе саўгаса «Навасёлкі» (цэнтр — в. Навасёлкі). Планіровачна складаецца з прамалінейнай мерыдыянальнай вуліцы, забудаванай драўлянымі сял. сядзібамі.

**ДАРАШЭВІЧЫ** — вёска ў Ляскавіцкім с/с, за 22 км на З ад Петрыкава, 19 км ад чыг. ст. Капцэвічы (на лініі Лунінец—Калінкавічы), 212 км ад Гомеля, на р. Прыпяць (прыток р. Дняпро) і аўтадарозе Жыткавічы—Петрыкаў. Каля вёскі ёсць геалагічнае агаленне, якое з'яўляецца помнікам прыроды рэспубліканскага значэння. 86 гаспадарак, 154 жыхары (2004 г.).

Выяўленыя археолагамі стаянка 7—6-га тысячагоддзяў да н.э. (за 1—1,5 км на З ад вёскі) і стаянка 3-га тысячагоддзя да н.э. (за 0,3 км на З ад вёскі) сведчаць пра засяленне тутэйшых месц з глыбокай старажытнасці. Па пісьмовых крыніцах вядома з 18 ст. як сяло ў валоданні езуітаў, потым казны, а ў 1777 г. прададзена біскупу віленскаму І.Масальскаму. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1795 г. 29 двароў. Па рэвізскіх матэрыялах 1816 г. 138 жыхароў, ва ўладанні Кіневічаў. У 1834 г. 36 двароў, 201 жыхар. Праз вёску праходзіла ваенна-камунікацыйная дарога са Слуцкага пав. ў Петрыкаў. У запісах афіцэраў Ген. штаба рас. арміі, якія знаёміліся з гэтымі мясцінамі ў сярэдзіне 19 ст., вёска характарызуецца як малапрывабнае сяленне. У 1877 г. пачала працаваць метэаралагічная абсерваторыя, якая вяла пагодныя назіранні ў гэтым рэгіёне Палесся. Дзейнічала пры-

стань на р. Прыпяць. У канцы 19 — пач. 20 ст. за 1 км на ПдУ ад вёскі, на стромкім беразе ракі быў закладзены з мясц. і экзатычных парод дрэў парк пейзажнага тыпу (8 га), які з'яўляецца помнікам прыроды мясц. значэння. У цэнтры парку размяшчаўся сядзібны дом (не захаваўся). Паводле перапісу 1897 г. 102 двары, 599 жыхароў, у Ляскавіцкай вол. Мазырскага пав. Мінскай губ. Дзейнічалі капліца, хлебазапасны магазін, вятрак, карчма. Побач былі аднайменная сядзіба (7 двароў, 64 жыхары, капліца, спіртаачышчальны з-д) і хут. Калонія Дарашэвічы (8 двароў, 53 жыхары). У 1908 г. 125 двароў, 799 жыхароў. У 1917 г. 1104 жыхары. Вясковая школа размяшчалася ў наёмнай сял. хаце. У 1925 г. 146 двароў. У сярэдзіне 1920-х г. створаны саўгас «Дарашэвічы». У 1930 г. арганізаваны калгас імя В.М.Молатава, працавалі вінзавод (з 1932), 2 кузні, ваўначоска, хлебапякарня, стальмашня. У Вял. Айч. вайну ў баях за вёску ў 1944 г. загінулі 18 воінаў і партызан, у т.л. Герой Сав. Саюза М.П.Чалы (пахаваны ў брацкай магіле ў парку). 114 вяскоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 610 жыхароў. У складзе саўгаса «Брынёў» (цэнтр — в. Брынёў). Працуюць пачатковая школа, клуб, б-ка. Планіровачна складаецца з 2 крывалінейных шыротных вуліц, шчыльна пастаўленых паміж сабой і злучаных завулкамі. На У да іх далучаецца кароткая вуліца. Забудова двухбаковая, драўляная, сядзібнага тыпу. Радзіма засл. настаўніка Беларусі Р.Ф.Ганчара.

**ДЗЕМЕНКА** — вёска ў Лучыцкім с/с, за 67 км на ПнУ ад Петрыкава, 44 км ад чыг. ст. Пціч (на лініі Лунінец—Калінкавічы), 207 км ад Гомеля, на р. Пціч (прыток р. Прыпяць), на Пн мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Навасёлкі—Капаткевічы. 53 гаспадаркі, 98 жыхароў (2004 г.).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 19 ст. як вёска ў Лучыцкай вол. Мазырскага пав. Мінскай губ. У 1908 г. 28 двароў, 178 жыхароў. У 1917 г. 2 вёскі: Дземенка Вялікая (224 жыхары) і Дземенка Малая (60 жыхароў). У 1918 г. адкрыта школа, якая размяшчалася ў наёмнай сял. хаце. У 1921 г. 41 двор, 248 жыхароў (у в. Дземенка Новая 9 двароў). У 1930 г. арганізаваны калгас. 35 вяскоўцаў у Вял. Айч. вайну загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 342 жыхары. У складзе калгаса «40 гадоў Кастрычніка» (цэнтр — в. Пціч). Планіровачна складаецца з 2 прамалінейных, паралельных паміж сабой вуліц, арыентаваных з ПдЗ на ПнУ, да якіх на У далучаецца і злучае іх кароткая прамалінейная вуліца. Забудова нятчыльная, драўляная, сядзібнага тыпу.

**ДРУГАЯ СЛАБОДКА** — вёска ў Чалюшчавіцкім с/с, за 44 км на ПнУ ад Петрыкава, 25 км ад чыг. ст. Пціч (на лініі Лунінец—Калінкавічы), 183 км ад Гомеля, на р. Пціч (прыток р. Прыпяць). Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Навасёлкі—Капаткевічы. 106 гаспадарак, 222 жыхары (2004 г.).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 19 ст. як в. Слабодка ў Капаткевіцкай вол. Мазырскага пав. Мінскай губ. У 1834 г. 14 двароў, 66 жыхароў. Паводле перапісу 1897 г. 60 двароў, 430 жыхароў, капліца, хлебазапасны магазін. У 1908 г. 77 двароў, 540 жыхароў. У 1919 г. адкрыта школа, якая размяшчалася ў наёмнай сял. хаце. У 1921 г. 106 двароў, 571 жыхар. У 1925 г. 111 двароў. У 1930 г. арганізаваны калгас. 43 вяскоўцы загінулі на франтах Вял. Айч. вайны. Паводле перапісу 1959 г. 372 жыхары. У складзе саўгаса «Чалюшчавічы» (цэнтр — в. Чалюшчавічы). Дзейнічаюць пач. школа, б-ка. Планіровачна складаецца з крыху выгнутай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ і забудаванай двухбакова драўлянымі сял. сядзібамі.

**ДУБРОВА** — вёска ў Колкаўскім с/с, за 62 км на ПнУ ад Петрыкава, 38 км ад чыг. ст. Пціч (на лініі Лунінец—Калінкавічы), 191 км ад Гомеля, на р. Трэмля (прыток р. Прыпяць), на У сет-

ка меліярацыйных каналаў. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Камаровічы—Пціч. 7 гаспадарак, 11 жыхароў (1999 г.).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 19 ст. як сяленне ў Капаткевіцкай вол. Мазырскага пав. Мінскай губ. Пад 1879 г. пазначана як хутар. Паводле перапісу 1897 г. 23 двары, 156 жыхароў. Побач быў дзягцярны з-д. У 1921 г. 49 двароў, 276 жыхароў, у Лучыцкай вол. У 1931 г. арганізаваны калгас «Чырвоны барэц», працавала кузня. У Вял. Айч. вайну 41 вясковец загінуў на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 177 жыхароў. У складзе калгаса імя У.І.Леніна (цэнтр — в. Колкі). Планіровачна складаецца з прамалінейнай мерыдыянальнай вуліцы, да якой на Пн далучаецца з З кароткая шыротная вуліца. Забудова рэдкая, драўляная, сядзібнага тыпу.

**ДУБРОВА** — вёска ў Чалюшчавіцкім с/с, за 50 км на ПнУ ад Петрыкава, 38 км ад чыг. ст. Муляраўка (на лініі Лунінец—Калінкавічы), 195 км ад Гомеля, вакол лес. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Лунінец—Гомель. 24 гаспадаркі, 35 жыхароў (2004 г.).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 19 ст. як вёска ў Мазырскім пав. Мінскай губ. У 1850 г. 37 двароў, памешчыцкае ўладанне. Пазначана на карце 1866 г., якой карысталася Зах. меліярацыйная экспедыцыя, што працавала ў гэтых месцах у 1890-я г. У 2-й пал. 1920-х г. арганізаваны саўгас «Дуброва» (944 га зямлі). 42 вяскоўцы загінулі на франтах Вял. Айч. вайны. Паводле перапісу 1959 г. 313 жыхароў. У складзе калгаса імя М.І.Калініна (цэнтр — в. Залессе). Планіровачна складаецца з амаль прамалінейнай, блізкай да шыротнай арыентацыі вуліцы, перакрыжаванай кароткай прамалінейнай вуліцай. Забудова двухбаковая, драўляная сядзібнага тыпу.

**ЗАБАЛАЦЦЕ** — вёска ў Муляраўскім с/с, за 25 км на ПнУ ад Петрыкава, 11 км ад чыг. ст. Муляраўка (на лініі Лунінец—Калінкавічы), 184 км ад Гомеля, на Пд — сетка меліярацыйных каналаў, на У і Пн мяжуе з лесам. Побач аўтадарога Залессе—Петрыкаў. 51 гаспадарка, 126 жыхароў (2004 г.).

Па пісьмовых крыніцах вядома з пач. 19 ст. як сяленне ў Камаровіцкай вол. Мазырскага пав. Мінскай губ. У 1816 г. 5 двароў, 30 жыхароў. У 1917 г. пазначана як хутар. 1920-я г. адзначаны даволі актыўнай забудовай вёскі. У 1931 г. арганізаваны калгас. У 1940 г. 42 двары, 180 жыхароў. У Вял. Айч. вайну ў жн. 1943 г. ням. акупанты поўнасцю спалілі вёску і загубілі 5 жыхароў. 23 вяскоўцы загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 199 жыхароў. У складзе калгаса «Бальшавік» (цэнтр — в. Курыцічы). Дзейнічае пач. школа. Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, блізкай да шыротнай арыентацыі, да якой з Пд далучаюцца 2 кароткія прамалінейныя вуліцы. Забудова драўляная сядзібнага тыпу.

**ЗАБРОДДЗЕ** — вёска ў Навасёлкаўскім с/с, за 32 км на Пн ад Петрыкава, 7 км ад чыг. ст. Пціч (на лініі Лунінец—Калінкавічы), 162 км ад Гомеля, на Пд, У і З мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Навасёлкі—Капаткевічы. 45 гаспадарак, 94 жыхары (2004 г.).

Па пісьмовых крыніцах вядома з пач. 20 ст. як сяленне, утворанае перасяленцамі з суседніх вёсак, у Камаровіцкай вол. Мазырскага пав. Мінскай губ. У 1917 г. 118 жыхароў, у 1921 г. 45 двароў, 202 жыхары. У 1930 г. арганізаваны калгас. 19 вяскоўцаў загінулі ў Вял. Айч. вайну. Паводле перапісу 1959 г. 190 жыхароў. У складзе саўгаса «Навасёлкі» (цэнтр — в. Навасёлкі). Дзейнічаюць аддз. сувязі, клуб, пач. школа, фельч.-акушэрскі пункт. Планіровачна складаецца з прамалінейнай мерыдыянальнай вуліцы, да цэнтра якой з У далучаецца кароткая вуліца з завулкам. Жылыя дамы драўляныя сядзібнага тыпу.

**ЗАЛЕССЕ** — вёска ў Чалюшчавіцкім с/с, за 32 км на ПнУ ад Петрыкава, 18



*Жывы куток Залескай сярэдняй школы.*

км ад чыг. ст. Муляраўка (на лініі Лунінец—Калінкавічы), 186 км ад Гомеля. Побач аўтадарога Камаровічы—Капаткевічы. 188 гаспадарак, 444 жыхары (2004 г.).

Па пісьмовых крыніцах вядома з пач. 19 ст. як вёска ў Капаткевіцкай вол. Мазырскага пав. Мінскай губ. У 1811 г. 11 двароў, ва ўладанні графа Хадкевіча. Пазначана на карце 1866 г., якой карысталася Зах. меліярацыйная экспедыцыя, што працавала ў гэтых месцах у 1890-я г. Пад 1879 г. пазначана як сяленне ў Чалюшчавіцкім царк. прыходзе. Паводле перапісу 1897 г. вёска (52 двары, 313 жыхароў, капліца, хлебазапасны магазін) і аднайменны засценак (14 двароў, 80 жыхароў). У 1905 г. адкрыта царк.-прыходская школа, якая размяшчалася ў наёмнай сял. хаце. У 1908 г. 60 двароў, 320 жыхароў. У 1907 г. ў вёсцы 418, у засценку 140 жыхароў. У 1921 г. ў вёсцы — 97 двароў, 458 жыхароў, у засценку — 29 двароў, 148 жыхароў. У 1931 г. арганізаваны калгас, вёска і засценак склалі адзін населены пункт. У Вял. Айч. вайну партызаны разграмілі апорны пункт, які стварылі тут акупанты. У 1943 г. карнікі часткова спалілі вёску і загубілі 92 жыхароў. 85 вяскоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 647 жыхароў. Цэнтр калгаса імя М.І.Калініна. Працуюць камбінат быт. абслугоўвання, лясніцтва, сярэдняя школа, Дом культуры, дзіцячы сад, б-ка, аддз. сувязі, фельч.-акушэрскі пункт, магазін. Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы блізкай да мерыдыянальнай арыентацыі, якую ў цэнтры перакрыжоўвае прамалінейная і да якой далучаюцца 3 кароткія вуліцы. Забудова двухбаковая, драўляная, сядзібнага тыпу. У 1987 г. пабудаваны мураваныя дамы на 50 сямей, у якіх размясціліся перасяленцы з забруджаных радыяцыяй месц пасля Чарнобыльскай катастрофы.

**ЗАМОСЦЕ** — вёска ў Камаровіцкім с/с, за 61 км на Пн ад Петрыкава, 48 км ад чыг. ст. Муляраўка (на лініі Лунінец—Калінкавічы), 215 км ад Гомеля, вакол лес. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Камаровічы—Капаткевічы. 8 гаспадарак, 8 жыхароў (2004 г.).

Засн. ў пач. 20 ст. перасяленцамі з суседніх вёсак. У 1917 г. 190 жыхароў, у Камаровіцкай вол. Мазырскага пав. Мінскай губ. У 1921 г. 34 двары, 219 жыхароў. У 1923 г. адкрыта школа, для якой у тым жа годзе вяскоўцы за свае сродкі пабудавалі памяшканне. У 1931 г. арганізаваны калгас. У Вял. Айч. вайну 20 вяскоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 162 жыхары. У складзе саўгаса «Камаровічы» (цэнтр — в. Камаровічы). Планіровачна складаецца з прамалінейнай мерыдыянальнай вуліцы, забудаванай двухбакова, няшчыльна драўлянымі сял. сядзібамі.

**ЗУБЛІШЧА** — вёска ў Колкаўскім с/с, за 56 км на ПнУ ад Петрыкава, 35 км ад чыг. ст. Пціч (на лініі Лунінец—Калінкавічы), 188 км ад Гомеля, вакол лес. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Лунінец—Гомель. 33 гаспадаркі, 63 жыхары (2004 г.).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 19 ст. як вёска ў Крукавіцкай вол. Мазырскага пав. Мінскай губ. Пазначана на карце 1866 г., якой карысталася Зах. меліярацыйная экспедыцыя, што працавала ў гэтых месцах у 1890-я г. Пад 1879 г. упамінаецца як сяленне ў Колкаўскім царк. прыходзе. Паводле перапісу 1897 г. 10 двароў, 142 жыхары, хлебазапасны магазін. У 1908 г. 20 двароў, 204 жыхары. У 1919 г. адкрыта школа, якая раз-

мяшчалася ў наёмнай сял. хаце. У 1925 г. 60 двароў. У 1930 г. арганізаваны калгас. У 1940 г. 120 двароў, 546 жыхароў. У Вял. Айч. вайну ў чэрв. 1944 г. ням. акупанты спалілі 113 двароў, загубілі 45 жыхароў. 21 вясковец загінуў на фронце. У баях каля вёскі загінулі 3 воіны (пахаваны ў брацкай магіле на могілках). Паводле перапісу 1959 г. 182 жыхары. У складзе калгаса імя У.І.Леніна (цэнтр — в. Колкі). Планіровачна складаецца з 3 кароткіх, паралельных паміж сабой вуліц мерыдыянальнай арыентацыі, якія на Пн злучаюцца шыротнай вуліцай. Забудова рэдкая, драўляная, сядзібнага тыпу.

**ІВАШКАВІЧЫ** — вёска ў Капаткевіцкім пасялковым Савеце, за 30 км на ПнУ ад Петрыкава, 13 км ад чыг. ст. Пціч (на лініі Лунінец—Калінкавічы), 170 км ад Гомеля, на р. Пціч (прыток р. Прыпяць), на Пд і З меліярацыйныя каналы. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Капаткевічы—Пціч. 89 гаспадарак, 150 жыхароў (2004 г.).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 18 ст. як вёска ў Мазырскім пав. Мінскага ваяв. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1975 г. 11 двароў. Па рэвізскіх матэрыялах 1816 г. 329 жыхароў, у складзе маёнтка Капаткевічы, ва ўладанні памешчыка П.І.Яленскага. У 1834 г. 68 двароў. Пазначана на карце 1866 г., якой карысталася Зах. меліярацыйная экспедыцыя, што працавала ў гэтых месцах у 1890-я г. У 1879 г. сяленне ў Капаткевіцкім царк. прыходзе. Паводле перапісу 1897 г. 112 двароў, 662 жыхары, капліца, хлебазапасны магазін, вятрак, карчма, у Капаткевіцкай вол. Мазырскага пав. Мінскай губ. Дзейнічала паромная пераправа цераз р. Пціч. У 1908 г. 160 двароў, 844 жыхары. У 1912 г. адкрыта школа, якая размяшчалася ў наёмнай сял. хаце, а ў 1918 г. для яе выдзелена нацыяналізаванае памяшканне. У 1921 г. ў вёсцы і на суседніх хутарах 180 двароў, 927 жыхароў. У 1925 г. 197 двароў. У 1930 г. арганізаваны калгас. У Вял. Айч. вайну 131 вясковец загінуў на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 746 жыхароў. У складзе саўгаса «Капаткевічы» (цэнтр — г.п. Капаткевічы). Дзейнічаюць аддз. сувязі, клуб, б-ка, фельч.-акушэрскі пункт. Планіровачна складаецца з 2 прамалінейных шыротных вуліц, да адной з якіх далучаецца з Пд участак шчыльнай жылой забудовы. Будынкі пераважна драўляныя сядзібнага тыпу.

**ІВАШКАВІЧЫ** — пасёлак у Капаткевіцкім пасялковым Савеце, за 31 км на ПнУ ад Петрыкава, 14 км ад чыг. ст. Пціч (на лініі Лунінец—Калінкавічы), 171 км ад Гомеля, на р. Пціч (прыток р. Прыпяць). Побач аўтадарога Капаткевічы—Пціч. 26 гаспадарак, 41 жыхар (2004 г.).

Засн. ў пач. 1920-х г. перасяленцамі з суседніх вёсак на былых памешчыцкіх землях. У 1931 г. пасялкоўцы ўступілі ў калгас. У складзе саўгаса «Капаткевічы» (цэнтр — г.п. Капаткевічы). Планіровачна складаецца з прамалінейнай шыротнай вуліцы, забудаванай двухбакова драўлянымі сял. сядзібамі.

**ІЛЬЫЧ** — вёска ў Петрыкаўскім с/с, за 9 км на З ад Петрыкава, 21 км ад чыг. ст. Муляраўка (на лініі Лунінец—Калінкавічы), 199 км ад Гомеля. Побач аўтадарога Жыткавічы—Петрыкаў. 57 гаспадарак, 142 жыхары (2004 г.).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 18 ст. як сяленне ў Мазырскім пав. Мінскага ваяв. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1795 г. в. Буды ў Мазырскім пав., 7 двароў. У 1850 г. ў складзе маёнтка Асавец. У пач. 1920-х г. перасяленцы з в. Буды засн. побач вёскі Батрак і Ільыч. У 1930 г. арганізаваны калгас. 11 вяскоўцаў загінулі на франтах Вял. Айч. вайны. Паводле перапісу 1959 г. ў в. Батрак — 35, у в. Буды — 87, у в. Ільыч — 39 жыхароў. У 1964 г. гэтыя вёскі аб'ядналіся і склалі адзін населены пункт — в. Ільыч. У складзе саўгаса «Петрыкаўскі» (цэнтр — г. Петрыкаў). Планіровачна складаецца з 9 прамалінейных, паралельных паміж

сабой вуліц блізкай да мерыдыянальнай арыентацыі, забудаваных двухбакова драўлянымі сял. сядзібамі. На Пд — невялікі адасоблены ўчастак забудовы.

**КАМАРОВІЧЫ** — вёска, цэнтр Камаровіцкага с/с, за 56 км на Пн ад Петрыкава, 46 км ад чыг. ст. Муляраўка (на лініі Лунінец—Калінкавічы), 224 км ад Гомеля, на У і праз вёску праходзяць меліярацыйныя каналы. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе, якая звязвае вёску з Капаткевічамі. 319 гаспадарак, 761 жыхар (2004 г.).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 16 ст. як вёска ў Мазырскім пав. Мінскага ваяв. ВКЛ. Дзейнічала драўляная Свята-Троіцкая царква (у ёй захоўваліся метрычныя кнігі з 1756), у фальварку — мураваны касцёл. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1795 г. 50 двароў, 401 жыхар. У 1801 г. замест састарэлага ўзведзены новы будынак царквы. У 1816 г. 54 двары, 309 жыхароў, ва ўладанні Яленскіх. Пазначана на карце 1866 г., якой карысталася Зах. меліярацыйная экспедыцыя, што працавала ў гэтых месцах у 1890-я г. У 1868 г. 74 двары, 459 жыхароў, у складзе аднайменнага маёнтка, уласнасць дваранкі Яленскай, якая мела ў 1876 г. ў вёсках Камаровічы і Галоўчыцы 721 дзес. зямлі. Дзейнічала вінакурня. Вёска Заполле (далучана ў 1974 да в. Камаровічы, зараз не існуе), была цэнтрам Камаровіцкай (да 17.7.1924) вол., у якую ў 1885 г. ўваходзілі 14 сялянняў з 390 дварамі, у Мазырскім пав. Мінскай губ. Паводле перапісу 1897 г. 495 жыхароў, паштовае аддз. У 1908 г. 86 двароў, 530 жыхароў. У 1917 г. 685 жыхароў. У 1917 г. адкрыта школа. У 1921 г. 130 двароў, 694 жыхары. У 1923 г. для школы выдзелены нацыяналізаваны будынак. У маёнтку ў 1920-я г. быў створаны саўгас «Камаровічы» (1335 га зямлі). З 20.8.1924 г. цэнтр Камаровіцкага с/с Петрыкаўскага, з 12.2.1935 г. Капаткевіцкага, з 25.12.1962 г. Петрыкаўскага раёнаў Мазырскай (да 26.7.1930 і з 21.6.1935 да 20.2.1938) акругі, з 20.2.1938 г. Палескай, з 8.1.1954 г. Гомельскай абласцей. У 1930 г. арганізаваны калгас «Новае жыццё», працавалі вінзавод (з 1905), паравы млын, кузня. У 1940 г. 295 двароў, 832 жыхары. У Вял. Айч. вайну ў 1943 г. ў вёсцы і навакольных лясах базіраваліся Палескі падпольны абком КП(б)Б, штаб партыз. злучэння Палескай вобл. і падп. друкарня. 8.3.1943 г. ням. акупанты спалілі вёску і загубілі 112 жыхароў. На брацкіх могілках пахаваны 53 воіны і партызаны, якія загінулі ў баях супраць акупантаў. 136 вяскоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 421 жыхар. Цэнтр саўгаса «Камаровічы». Дзейнічаюць лясніцтва, швейная майстэрня, пякарня, сярэдняя школа, Дом культуры, б-ка, дзіцячы сад, амбулаторыя, аддз. сувязі, сталовая, 3 магазіны, музей баявой славы. Планіровачна складаецца з працяглай крывалінейнай мерыдыянальнай вуліцы, да якой з З далучаюцца 2 прамалінейныя вуліцы і 2 завулкі. Забудова двухбаковая, драўляная, сядзібнага тыпу. Радзіма Героя Сав. Саюза Ф.А.Малышава (былая в. Заполле), польскай пісьменніцы Э.Яленскай, лаўрэата Дзярж. прэміі СССР С.І.Корж.



*Ф.А.Малышаў.*



*Мемарыяльны комплекс у памяць землякоў, якія загінулі ў гады Вялікай Айчыннай вайны, в. Камаровічы.*

У склад Камаровіцкага с/с уваходзілі вёскі: да 1974 г. — Заполле, да 1981 г. — Забінне (не існуюць).

**КАПАТКЕВІЧЫ** — гарадскі пасёлак, за 35 км на ПнУ ад Петрыкава, 18 км ад чыг. ст. Пціч (на лініі Лунінец—Калінкавічы), 179 км ад Гомеля, на р. Пціч (прыток р. Прыпяць), на аўтадаро-





*Дзіцячы рэабілітацыйна-аздараўленчы цэнтр у г.п. Капаткевічы.*

*Народны ансамбль песні, танца і музыкі Капаткевіцкага гарадскога Дома культуры.*

гах, якія звязваюць гарадскі пасёлак з вёскамі Камаровічы і Пціч. 3,9 тыс. жыхароў (2004 г.).

Выяўленыя археолагамі могільнік (17 насыпаў, за 1 км на Пд ад пасёлка) і могільнік (15 насыпаў, за 2 км на З ад пасёлка) сведчаць пра засяленне тутэйшых мясцін з далёкай старажытнасці. Па пісьмовых крыніцах вядома з 16 ст. як в. Капатковічы ў Мазырскім пав. Мінскага ваяв. ВКЛ. На карце 1560 г. вясковыя землі аднесены да велікакняжацкіх. У 1568 г. па матэрыялах метрыкі караля Жыгімонта Аўгуста 16 службаў аддана ў валоданне Д.С.Руцкаму. Пазней належала Яленскім. Пад 1693 г. упамінаецца Пакроўская царква. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1795 г. мястэчка, 55 двароў. Побач з такой жа назвай складвалася вёска. У 1796 г. пабудаваны касцёл, у канцы 19 ст. — малельня і сінагога. У 1816 г. ў мястэчку — 31, у сяле — 75 двароў, цэнтр маёнтка, у валоданні памешчыка П.І.Яленскага. У 1858 г. 1062 жыхары. У 1864 г. адкрыта нар. вучылішча. Пазначана на карце 1866 г., якой карысталася Зах. меліярацыйная экспедыцыя, што працавала ў гэтых месцах у 1890-я г. Генерал Цылаў меў тут у 1860-х г. 1862 дзес. зямлі, вадзяны млын, 3 карчмы і паромную пераправу цераз р. Пціч. Мястэчка было цэнтрам Капаткевіцкай вол., у якую ў 1885 г. ўваходзілі 18 сяленняў з 705 дварамі. Апісваючы пасяленні Беларускага Палесся, А.К.Кіркор у выданні «Живописная Россия» пазначаў «даволі значны» штогадовы кірмаш, які праводзіўся 1 верасня. Паводле перапісу 1897 г. ў мястэчку — 285 двароў, 2081 жыхар, царква, касцёл, 2 яўр. малітоўныя дамы, нар. вучылішча, паштова-тэлегр. кантора, аптэка, 13 крам, вятрак, карчма, у вёсцы — 97 двароў, 644 жыхары. Побач былі 2 вёскі: Малыя Капаткевічы і Старыя Капаткевічы. У 1918 г. ў мястэчку адкрыта прагімназія, ператвораная ў 1922 г. ў 7-гадовую школу, і выдзелены для яе нацыяналізаваны будынак. Летам 1918 г. ў час герм. акупацыі (працягвалася да 2.12.1918), быў створаны партыз. атрад, які вызначаўся актыўнымі баявымі дзеяннямі. У 1921 г. ў мястэчку, сяле і на суседніх хутарах 712 гаспадарак. У выніку пагрому 10.6.1921 г. загінулі 118 жыхароў. З 17.7.1924 г. да 8.7.1931 г. і з 12.2.1935 г. да 25.12.1962 г. цэнтр Капаткевіцкага р-на. З 20.9.1924 г. цэнтр Капаткевіцкага с/с Капаткевіцкага, з 8.7.1931 г. Петрыкаўскага, з 12.2.1935 г. Капаткевіцкага раёнаў Мазырскай (да 26.7.1930 і з 21.6.1935 да 20.2.1938) акругі, з 20.2.1938 г. Палескай, з 8.1.1954 г. Гомельскай абласцей. Дзейнічалі ашчаднае і 2 рамесныя т-вы (у 1926 — 59 чал.). З пач. 1930-х г. працавалі саўгас імя М.І.Калініна, калгасы «Чырвоны Кастрычнік», і «Чырвонае сяло», шорная, шавецкая і кравецкая майстэрні, 3 кузні, паравы млын, хлебапякарня. З 27.9.1938 г. гарадскі пасёлак.

У Вял. Айч. вайну з байцоў Капаткевіцкага знішчальнага батальёна 17.8. 1941 г. быў створаны партыз. атрад. 17.1.1942 г. партыз. атрады Ф.І.Паўлоўскага, А.І.Далідовіча, Дз.Ц.Гуляева рап-

тоўным нападам разграмілі Капаткевіцкі варожы гарнізон. За 4 гадзіны бою былі забіты 6 гітлераўцаў, захоплена вял. колькасць зброі і боепрыпасаў. З крас. 1942 г. да студз. 1943 г. дзейнічала падп. патрыят. група. Акупанты спалілі пасёлак і загубілі 112 жыхароў. На франтах і ў партыз. барацьбе загінулі 287 жыхароў, памяць аб якіх увекавечвае стэла, пастаўленая ў 1968 г. па вул. Інтэрнацыянальнай. Вызвалены 30.6.1944 г. войскамі 1-га Бел. фронту. З 25.12.1962 г. ў Петрыкаўскім р-не. У 1974 г. да гар. пасёлка далучаны вёскі Вялікае сяло і Усходняя. Цэнтр саўгаса «Капаткевічы». Размешчаны маслазавод, цэх раённага камбіната буд. матэрыялаў, камбінат быт. абслугоўвання, рыбгас «Трэмля», спецыялізаванае аддз. «Сельгастэхніка», лясгас, сярэдняя і муз. школы, дзіцячыя сад і яслі, Дом школьнікаў, клуб, кінатэатр, 2 б-кі, б-ца, аддз. сувязі, дом-інтэрнат для састарэлых, школа-інтэрнат. У Капаткевіцкай сярэдняй школе ў 1988 г. адкрыты гіст.-краязнаўчы музей. У 1987 г. самадзейнаму тэатру Капаткевіцкага Дома культуры прысвоена званне народнага. Планіровачна складаецца з 3 прамалінейных, амаль паралельных паміж сабой вуліц, арыентаваных з ПдЗ на ПнУ і злучаных кароткімі вуліцамі. Да іх з З далучаюцца 2 прамалінейныя шыротнай арыентацыі вуліцы. Забудова пераважна драўляная сядзібнага тыпу. Радзіма чл.-кар. НАН Беларусі, доктара юрыд. навук, праф., засл. юрыста Беларусі В.Г.Ціхіні, доктара эканам. навук, праф. Н.Е.Рагозіна, арганізатараў і кіраўнікоў падполля і партыз. руху ў Палескай вобл. ў Вял. Айч. вайну А.А.Жыгара і Ф.І.Самбука, ген.-м. авіяцыі А.Л.Рудзені, Герояў Сац. Працы В.П.Булавай і Н.П.Якубовіч, удзельніка грамадз. вайны І.С.Кузьміча, засл. настаўнікаў Беларусі Р.М.Макарэвіча і Ф.Н. Чаўновіка.



Рака Пціч каля г.п. Капаткевічы.

У склад Капаткевіцкага пасялковага Савета да 1981 г. ўваходзіў пас. Кастрычніцкі (вядомы да 1935 пад назвай Дзікае, не існуе). Паблізу ёсць залежы жалезнякоў.

**КАПЦЭВІЧЫ** — пасёлак і чыг. станцыя (на лініі Лунінец—Калінкавічы), цэнтр Капцэвіцкага с/с, за 21 км на ПнЗ ад Петрыкава, 191 км ад Гомеля, вакол лес. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Лунінец—Калінкавічы. 539 гаспадарак, 1567 жыхароў (2004 г.).



*В.Г.Ціхіня.*

Выяўленыя археолагамі курганны могільнік (33 насыпы, за 3,5 км на З ад вёскі, ва ўрочышчы Дзявочыя магілы) і курганны могільнік (2 насыпы, 2 км на ПнЗ) сведчаць пра засяленне тутэйшых месц з далёкай старажытнасці. Па пісьмовых крыніцах вядома з 16 ст. як в. Далёкія Кацэевічы, у Мазырскім пав. Мінскага ваяв. ВКЛ. На карце 1560 г. вясковыя землі аднесены да шляхецкіх, ва ўладанні Абуховічаў. Пазначана пад 1567 г. у попісе войска Літоўскага. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1795 г. 28 двароў, 194 жыхары, Спаса-Прэабражэнская царква (драўляная). У 1834 г. сяло, 37 двароў, 216 жыхароў, уладанне Кіневічаў, у Капаткевіцкай вол. Мазырскага пав. Мінскай губ. У 1866 г. 279 жыхароў. У 1885 г. 49 двароў, 310 жыхароў, царква, вінакурня. У 1884 г. адкрыта царк.-прыходская школа. Пасля здачы ў эксплуатацыю 15.2.1886 г. чыг. лініі Лунінец—Гомель пачала дзейнічаць чыг.

станцыя. Паводле перапісу 1897 г. 72 двары, 462 жыхары, царква, хлебазапасны магазін, у Ляскавіцкай вол. Мазырскага пав. Побач быў аднайменны фальварак, 2 двары, 18 жыхароў, вінакурня, паравы і вадзяны млыны. На чыг. станцыі 5 двароў, 36 жыхароў. З 1903 г. працаваў фанерна-лесапільны з-д братоў Кенічаў (у 1907—76 рабочых). У 1908 г. 97 двароў, 611 жыхароў. Дзейнічала паштовае аддз. У 1909 г. адкрыта школа, якая размяшчалася ў наёмнай сял. хаце, а ў 1920 г. ёй быў выдзелены нацыяналізаваны будынак. У ліп. 1915 г. баставалі рабочыя фанерна-лесапільнага з-да, якія патрабавалі павышэння зарплаты і паляпшэння ўмоў працы. У 1917 г. ў вёсцы — 550, на чыг. станцыі — 203 жыхары. У 1920 г. ў баях супраць польскіх войскаў загінулі 5 чырвонаармейцаў (пахаваны ў брацкай магіле на У ад станцыі). З 20.8.1924 г. цэнтр Капцэвіцкага с/с Петрыкаўскага р-на Мазырскай (да 26.7.1930 і з 21.6.1935 да 20.2.1938) акругі, з 20.2.1938 г. Палескай, з 8.1.1954 г. Гомельскай абласцей. У 1930 г. арганізаваны калгас «Пралетарый», працавалі фанерна-лесапільны з-д, 2 кузні, сталярня. З 15.7.1935 г. да 24.8.1951 г. рабочы пасёлак. У Вял. Айч. вайну партызаны разграмілі варожы гарнізон, які тут размяшчаўся. У вер. 1942 г. і ў 1943 г. карнікі загубілі 63 жыхароў. У баях каля вёскі загінулі 32 воіны (пахаваны ў брацкай магіле каля Дома культуры). 63 пасялкоўцы загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 2095 жыхароў. Размешчаны агароднінасушыльны з-д, цэх Петрыкаўскага лясгаса па перапрацоўцы драўніны, лясніцтва, швейнае атэлье, прафес.-тэхн. вучылішча, сярэдняя школа, Дом культуры, 2 б-кі, дзіцячы сад, амбулаторыя, аптэка, аддз. сувязі, 2 сталовыя, 6 магазінаў, псіханеўралагічны інтэрнат. Планіроўка квартальная. Чыгунка падзяляе вёску на дзве часткі: паўн. і паўд. Жылыя дамы ў асноўным драўляныя сядзібнага тыпу. Мураваныя будынкі складаюць невял. частку забудовы.

**КАПЦЭВІЧЫ** — вёска ў Капцэвіцкім с/с, за 19 км на ПнЗ ад Петрыкава, 194 км ад Гомеля, вакол лес. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Лунінец—Калінкавічы. 65 гаспадарак, 121 жыхар (2004 г.).

Засн. ў пач. 20 ст. перасяленцамі з суседняй в. Капцэвічы. У 1908 г. 2 двары, 31 жыхар, у Ляскавіцкай вол. Мазырскага пав. Мінскай губ. У 1917 г. 215 жыхароў. У 1930 г. арганізаваны калгас. У Вял. Айч. вайну 48 вяскоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 506 жыхароў. У складзе саўгаса «Ляскавічы» (цэнтр — в. Ляскавічы). Планіровачна складаецца з крывалінейнай, блізкай да шыротнай арыентацыі вуліцы з 3 завулкамі. Забудова двухбаковая, драўляная, сядзібнага тыпу.

**КАПЦЭВІЧЫ** — вёска ў Лучыцкім с/с, за 52 км на ПнУ ад Петрыкава, 33 км ад чыг. ст. Пціч (на лініі Лунінец—Калінкавічы), 197 км ад Гомеля. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Лунінец—Калінкавічы. 72 гаспадаркі, 137 жыхароў (2004 г.).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 16 ст. як сяленне ў Мазырскім пав. Мінскага ваяв. ВКЛ. У 1516 г. сяло даравана каралём двараніну М.Замарэнку. У інвентары 1588 г. пазначана як цэнтр маёнтка. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1811 г. 40 двароў. Па рэвізскіх матэрыялах 1834 г. 216 жыхароў. Пазначана на карце 1866 г., якой карысталася Зах. меліярацыйная экспедыцыя, што працавала ў гэтых месцах у 1890-я г. На паўд. ускраіне размяшчаўся вінакурны з-д. Дваранін Лянкевіч меў у вёсцы ў 1876 г. 4000 дзес. зямлі, вінакурню і 2 карчмы. Пад 1879 г. пазначана як сяленне ў Чалюшчавіцкім царк. прыходзе. Паводле перапісу 1897 г. 74 двары, 445 жыхароў, царква, хлебазапасны магазін, вятрак, у Лучыцкай вол. У 1908 г. 92 двары, 633 жыхары. У 1917 г. ў вёсцы — 642, у аднайменным фальварку 106 — жыхароў. З пач. 1920-х г. працавала школа, якая размяшчалася

ў наёмнай сял. хаце. У 1930 г. арганізаваны калгас «Чырвоны колас», працавалі паравы млын, 2 кузні, стальмашня. У Вял. Айч. вайну каля вёскі загінулі 35 воінаў (пахаваны ў брацкай магіле ў парку). 56 вяскоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 601 жыхар. У складзе калгаса «Шлях да камунізму» (цэнтр — в. Лучыцы). Працуюць клуб, б-ка, магазін, аддз. сувязі. Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ, да якой з Пн далучаецца кароткая вуліца. Забудавана двухбакова, рэдка драўлянымі сял. сядзібамі.

**КАСШЧА** — вёска ў Бабуніцкім с/с, за 15 км на Пн ад Петрыкава, 8 км ад чыг. ст. Муляраўка (на лініі Лунінец—Калінкавічы), 193 км ад Гомеля, на З і Пд меліярацыйныя каналы, на У мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Лунінец—Гомель. 16 гаспадарак, 22 жыхары (2004 г.).

Засн. ў пач. 20 ст. перасяленцамі з суседніх вёсак. У 1925 г. 9 двароў. У 1931 г. арганізаваны калгас. У Вял. Айч. вайну 12 вяскоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 168 жыхароў. У складзе саўгаса «Запаветы Ільіча» (цэнтр — в. Бабунічы). Планіровачна складаецца з крыху выгнутай вуліцы, блізкай да мерыдыянальнай арыентацыі, да цэнтра якой з У далучаецца завулак. Забудова двухбаковая, драўляная, сядзібнага тыпу.

**КАШЭВІЧЫ** — вёска ў Лучыцкім с/с, за 62 км на ПнУ ад Петрыкава, 45 км ад чыг. ст. Пціч (на лініі Лунінец—Калінкавічы), 208 км ад Гомеля, вакол лес. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Камаровічы—Капаткевічы. 197 гаспадарак, 472 жыхары (2004 г.).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 16 ст. У 1515 г. кн. Яраславіч дараваў вёску В.Фурсанаву. У «Літоўскай Метрыцы» пад 1561 г. упамінаецца маёнтак Касевіцкае (Кашэвіцкае). Да 16 ст. адносіцца заснаванне і суседняй в. Яўсеевічы. У 1642 г. на зямельным участку паміж гэтымі вёскамі пабудавана драўляная Успенская царква. У 1868 г. да асн. яе зруба прыбудавана званіца. Вёска была ва ўладанні езуітаў, казны, з 1777 г. віленскага біскупа І.Масальскага. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1795 г. 40 двароў. Па рэвізскіх матэрыялах 1816 г. 153 жыхары, уладанне Ф.Яленскага. Пазначана на карце 1866 г., якой карысталася Зах. меліярацыйная экспедыцыя, што працавала ў гэтых месцах у 1890-я г. Паводле перапісу 1897 г. 66 двароў, 408 жыхароў. У 1908 г. 90 двароў, 579 жыхароў. У 1908 г. адкрыта школа, якая размяшчалася ў наёмнай сял. хаце. У 1921 г. 138 двароў, 713 жыхароў. З 20.8.1924 г. да 16.7.1954 г. цэнтр Кашэвіцкага с/с Капаткевіцкага, з 8.7.1931 г. Петрыкаўскага, з 12.2.1935 г. Капаткевіцкага р-на Мазырскай (да 26.7.1930 і з 21.6.1935 да 20.2.1938) акругі, з 20.2.1938 г. Палескай, з 8.1.1954 г. Гомельскай абласцей. У 1931 г. арганізаваны калгас. У Вял. Айч. вайну ў 1941 г. ням. акупанты спалілі вёску і загубілі 37 жыхароў. У баях каля вёскі загінулі 52 воіны і партызаны (пахаваны ў брацкай магіле ў цэнтры вёскі). 78 вяскоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 557 жыхароў. У 1974 г. далучана суседняя в. Яўсеевічы. Цэнтр калгаса «Новы шлях». Дзейнічаюць агароднінасушыльны камбінат, сярэдняя школа, клуб, б-ка, фельч.-акушэрскі пункт, 3 магазіны, аддз. сувязі. Планіровачна складаецца з прамалінейнай мерыдыянальнай вуліцы, перакрыжаванай кароткай вуліцай на Пд, да якой з З далучаюцца 2 прамалінейныя вуліцы. Забудова двухбаковая, драўляная, сядзібнага тыпу. У 1987 г. пабудаваны мураваныя дамы на 50 кватэр, у якіх размясціліся перасяленцы з забруджаных радыяцыяй месц пасля Чарнобыльскай катастрофы. Радзіма доктара філалагічных навук, засл. дзеяча навукі Беларусі, праф., лаўрэата Дзярж. прэміі БССР А.С.Фядосіка і доктара гіст. навук В.П.Рамаnоўскага.

**КЛЯСАЎ** — вёска ў Навасёлкаўскім с/с, за 32 км на Пн ад Петрыкава, 7 км ад чыг. ст. Пціч (на лініі Лунінец—Калінкавічы), 164 км ад Гомеля, на Пд, У і Пн мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Навасёлкі—Капаткевічы. 7 гаспадарак, 24 жыхары (2004 г.).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 19 ст. як сяленне ў Камаровіцкай вол. Мазырскага пав. Мінскай губ. У 1885 г. дзейнічала школа граматы. Пазначана як засценак на карце 1866 г., якой карысталася Зах. меліярацыйная экспедыцыя, што працавала ў гэтых месцах у 1890-я г. У 1908 г. 26 двароў, 163 жыхары. У 1917 г. 219 жыхароў. У 1921 г. 46 двароў, 247 жыхароў. У 1929 г. арганізаваны калгас. 22 вяскоўцы загінулі на фронце ў Вял. Айч. вайну. Паводле перапісу 1959 г. 140 жыхароў. У складзе саўгаса «Навасёлкі» (цэнтр — в. Навасёлкі). Планіровачна складаецца з прамалінейнай шыротнай вуліцы, забудаванай драўлянымі сял. сядзібамі.

**КОЛКІ** — вёска, цэнтр Колкаўскага с/с, за 59 км на ПнУ ад Петрыкава, 36 км ад чыг. ст. Пціч (на лініі Лунінец—Калінкавічы), 204 км ад Гомеля, на р. Трэмля (прыток р. Прыпяць). Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Камаровічы—Пціч. 251 гаспадарка, 677 жыхароў (2004 г.).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 16 ст. як вёска ў Мазырскім пав. Мінскага ваяв. ВКЛ. У 1518 г. кароль Жыгімонт I дараваў сяло ў пажыццёвае карыстанне ваяводу полацкаму А.Краштольту. Да шляхецкай уласнасці аднесены землі сяла на карце 1560 г. У 1668 г. ў валоданні Радзівілаў. У 1766 г. цэнтр маёнтка Колкі. Пад 1774 г. пазначана ў дакументах аб размежаванні з суседнімі сяленнямі. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. Дзейнічала Раства-Багародзіцкая царква (у ёй захоўваліся метрычныя кнігі з 1802). У 1879 г. будынак царквы капітальна адрамантаваны. У 1834 г. 24 двары, 159 жыхароў. У 1859 г. адкрыта школа, якая размяшчалася ў наёмнай сял. хаце, у 1901 г. для яе пабудавана асобнае памяшканне. Як сяло пазначана на карце 1866 г. У 1885 г. 52 двары, 462 жыхары. Паводле перапісу 1897 г. 590 жыхароў, нар. вучылішча, хлебазапасны магазін, карчма, у Крукавіцкай вол. Рэчыцкага пав. Мінскай губ. У 1908 г. 94 двары, 789 жыхароў. У 1925 г. 204 двары. З 20.8.1924 г. цэнтр Колкаўскага с/с Капаткевіцкага, з 8.7.1931 г. Петрыкаўскага, з 12.2.1935 г. Капаткевіцкага, з 25.12.1962 г. Петрыкаўскага раёнаў Мазырскай (да 26.7. 1930 і з 21.6.1935 да 20.2.1938) акругі, з 20.2.1938 г. Палескай, з 8.1.1954 г. Гомельскай абласцей. У 1930 г. арганізаваны калгас «Чырвоны араты», працавалі вадзяны млын і кузня. У 1936 г. ў вёску перасяліліся жыхары суседніх хутароў Загрэбля, Замошша, Замосарск, Ліпнікі, Роўбічы. У 1940 г. 257 двароў, 875 жыхароў. У Вял. Айч. вайну партызаны разграмілі гарнізон, створаны тут акупантамі. У лют. 1944 г. ням. карнікі спалілі вёску і 50 жыхароў. У баях каля вёскі загінулі 67 воінаў і партызан (пахаваны ў брацкай магіле ў цэнтры). 77 вяскоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 572 жыхары. Цэнтр саўгаса імя У.І.Леніна. Працуюць сярэдняя школа, Дом культуры, б-ка, дзіцячыя яслі-сад, амбулаторыя, аддз. сувязі, швейная і шавецкая майстэрні, магазін. Планіровачна складаецца з прамалінейнай шыротнай вуліцы, да якой на Пд далучаецца дугападобная вуліца. Маецца адасоблены ўчастак забудовы. Жылыя дамы драўляныя сядзібнага тыпу. У 1987 г. збудаваны мураваныя дамы на 50 кватэр, у якіх размясціліся перасяленцы з забруджаных радыяцыяй месц пасля Чарнобыльскай катастрофы.

У склад Колкаўскага с/с да 1936 г. ўваходзілі хутары Загрэбля, Замосарск, Замошша, Заямнае, Ліпнікі, Ляды, Роўбічы, Томары, пас. Хутар (не існуюць).

**КОНКАВІЧЫ** — вёска, цэнтр Конкавіцкага с/с, за 16 км на У ад Петрыка-

ва, 11 км ад чыг. ст. Пціч (на лініі Лунінец—Калінкавічы), 173 км ад Гомеля, на р. Бобрык (прыток р. Прыпяць), на У — канал Лукіч, злучаны з р. Прыпяць. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Лунінец—Гомель. 286 гаспадарак, 641 жыхар (2004 г).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 16 ст. як сяло ў Мазырскім пав. Мінскага ваяв. ВКЛ. Згодна інвентару 1700 г. ў сяле было 9 цяглых службаў. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1795 г. 49 двароў, ва ўладанні Хадкевічаў. У 1796 г. пабудавана царква. Па рэвізскіх матэрыялах 1850 г. 39 двароў, 221 жыхар, уладанне Плікусаў. Прадстаўнікі павета, якія знаёміліся з сялом у 1857 г., адзначалі, што многія хаты вельмі старыя, разбураныя і непрыгодныя для жылля, адсутнічалі харчы, цёплае адзенне і ўмовы для вядзення гаспадаркі. У 1866 г. 51 двор. Памешчык Саўшкоўскі ў 1876 г. меў у сяле 207 дзес. зямлі, а дваранін Плікус — 2306 дзес. зямлі, вадзяны млын, карчму. Пад 1879 г. пазначана як сяленне Петрыкаўскага царк. прыхода. Па звестках 1886 г. 54 двары, 358 жыхароў. Паводле перапісу 1897 г. 112 двароў, 749 жыхароў, хлебазапасны магазін, у Петрыкаўскай вол. Мазырскага пав. Мінскай губ. Побач былі 4 фальваркі. У 1907 г. адкрыта школа, якая размяшчалася ў наёмнай сял. хаце. У 1908 г. 146 двароў, 880 жыхароў, маёнтак Хракава і фальваркі Дабрынскага, Жаладкоўскага, Плікуса. У вер. 1914 г. адбыліся сутычкі сяльчан з паліцыяй, якая абараняла інтарэсы памешчыка. У 1917 г. 1128 жыхароў. З 20.8.1924 г. цэнтр Конкавіцкага с/с Петрыкаўскага р-на Мазырскай (да 26.7.1930 і з 21.6.1935 да 20.2.1938) акругі, з 20.2.1938 г. Палескай, з 8.1.1954 г. Гомельскай абласцей. У 1930 г. арганізаваны калгас. У Вял. Айч. вайну партызаны разграмілі валасную ўправу, якую ў вёсцы стварылі акупанты. Ням. карнікі ў 1944 г. часткова спалілі вёску і загубілі 53 жыхароў. У баі за вёску 28.6.1944 г. вызначыліся чырванафлотцы Дняпроўскай ваен. флатыліі А.А.Сікярэня і Р.А.Тупіцын (удастоены звання Героя Сав. Саюза). У баях каля вёскі загінулі 26 воінаў (пахаваны ў брацкай магіле недалёка ад будынка сельсавета). 86 вяскоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 1153 жыхары. Цэнтр калгаса імя У.І.Леніна. Размешчаны сярэдняя школа, Дом культуры, б-ка, дзіцячы сад, аддз. сувязі, амбулаторыя, швейная майстэрня, 3 магазіны. Пры сярэдняй школе дзейнічае краязнаўчы музей. Планіровачна складаецца з трох падзеленых меліярацыйным каналам частак: зах. (дугападобная вуліца, блізкая да мерыдыянальнай арыентацыі, з завулкамі на Пн), паўн. (да шыротнай вуліцы з Пн далучаюцца 2 крывалінейныя вуліцы) і паўд. (3 крывалінейныя, амаль паралельныя паміж сабой шыротныя вуліцы, злучаныя 4 кароткімі вуліцамі). Забудова няшчыльная, пераважна драўляная, сядзібнага тыпу.

**КОРЖАЎКА** — вёска ў Муляраўскім с/с, за 14 км на ПнУ ад Петрыкава, 2 км ад чыг. ст. Муляраўка (на лініі Лунінец—Калінкавічы), 176 км ад Гомеля, на У і Пн мяжуе з лесам, на Пд — чыгунка. Побач аўтадарога Лунінец—Гомель. 23 гаспадаркі, 41 жыхар (2004 г.).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 19 ст. як хутар у Петрыкаўскай вол. Мазырскага пав. Мінскай губ. Пазначана на карце 1866 г., якой карысталася Зах. меліярацыйная экспедыцыя, што працавала ў гэтых месцах у 1890-я г. Пад 1879 г. значыцца ў Петрыкаўскім царк. прыходзе. У 1908 г. 6 двароў, 91 жыхар. Непадалёку аднайменны чыгун. раз'езд. У 1917 г. на хутары і раз'ездзе 172 жыхары. У 1931 г. арганізаваны калгас. У Вял. Айч. вайну 16 вяскоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 137 жыхароў. У складзе калгаса імя У.І.Леніна (цэнтр — в. Конкавічы). Планіровачна складаецца з крывалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ. Забудова двухбаковая, драўляная, сядзібнага тыпу.

**КУРЫЦІЧЫ** — вёска ў Мулўскім с/с, за 22 км на ПнУ ад Петрыкава, 8 км ад чыг. ст. Муляраўка (на лініі Лунінец—Калінкавічы), 184 км ад Гомеля, на Пн і У сетка меліярацыйных каналаў (у т.л. Курыцкі канал, злучаны з р. Пціч). Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Лунінец—Гомель. 341 гаспадарка, 868 жыхароў (2004 г.).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 18 ст. як вёска ў Мазырскім пав. Мінскага ваяв., ва ўладанні графа Хадкевіча. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1795 г. 59 двароў, царква. Па рэвізскіх матэрыялах 1816 г. 60 двароў. У 1866 г. 72 двары, 444 жыхары. Пад 1879 г. значыцца ў Петрыкаўскім царк. прыходзе. У 1885 г. адкрыта школа, якая размяшчалася ў наёмнай сял. хаце, у пач. 1920-х г. для яе быў выдзелены нацыяналізаваны будынак. Па звестках 1886 г. 490 жыхароў. Паводле перапісу 1897 г. в. Курацічы (39 двароў, 228 жыхароў, хлебазапасны магазін, карчма), в. Курацічы (яна ж Карзуны) — 30 двароў, 189 жыхароў, в. Курацічы (яна ж Ціханавічы) — 18 двароў, 112 жыхароў, в. Курацічы (яна ж Сапонава) — 28 двароў, 154 жыхары, в. Курацічы (яна ж Мікіцічы) — 38 двароў, 210 жыхароў, у Петрыкаўскай вол. Мазырскага пав. Мінскай губ. Пазней гэтыя вёскі склалі адзін населены пункт. У 1908 г. 169 двароў, 1099 жыхароў. У 1917 г. 1607 жыхароў. З 20.8.1924 г. да 16.7.1954 г. цэнтр Курыцкага с/с Петрыкаўскага р-на Мазырскай (да 26.7.1930 і з 21.6.1935 да 20.2. 1938) акругі, з 20.2.1938 г. Палескай, з 8.1.1954 г. Гомельскай абласцей. У 1925 г. 233 двары. У 1930 г. арганізаваны калгас «Шлях да сацыялізму», працавалі смалакурня і вятрак. У 1940 г. 430 двароў. У Вял. Айч вайну ў маі 1943 г. ням. акупанты спалілі 385 двароў, загубілі 73 жыхароў. У баях каля вёскі загінулі 41 воін і партызан (пахаваны ў брацкай магіле ў цэнтры вёскі). 141 вясковец загінуў на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 1443 жыхары. Цэнтр калгаса «Бальшавік». Працуюць аддз. сувязі, Дом культуры, сярэдняя школа, б-ка, амбулаторыя, дзіцячы сад. У 1992 г. фалькл. ансамблю «Спадчына» Дома культуры прысвоена званне народнага. Планіровачна складаецца з 3 крывалінейных вуліц блізкай да шыротнай арыентацыі, злучаных паміж сабой 6 завулкамі. На З да іх далучаецца прамалінейная вуліца, арыентаваная з ПдЗ на ПнУ, і паралельна да яе праходзіць крывалінейная вуліца. Забудова двухбаковая, драўляная, сядзібнага тыпу. Радзіма Герояў Сац. Працы Г.І.Буднік, А.С.Рудаўскога, І.В.Сітніцы, удзельніка партыз. руху ў Палескай вобл. ў Вял. Айч. вайну В.В. Сітніцы (закатаваны акупантамі, яго імя дадзена вясковай школе) і бел. мастака Р.С.Сітніцы.

**ЛУЧЫЦЫ** — вёска, цэнтр Лучыцкага с/с, за 59 км на ПнУ ад Петрыкава, 38 км ад чыг. ст. Пціч (на лініі Лунінец—Калінкавічы), 201 км ад Гомеля, на р. Пціч (прыток р. Прыпяць). Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Навасёлкі—Капаткевічы. 247 гаспадарак, 582 жыхары (2004 г.).

Выяўлены археолагамі курганны могільнік (4 насыпы, за 0,4 км на Пн ад вёскі, на могілках) сведчыць пра засяленне гэтых мясцін з далёкай старажытнасці. Па пісьмовых крыніцах вядома з 16 ст. як в. Лучычы, у Мазырскім пав. Мінскага ваяв. ВКЛ. У 1548 г. вяскоўцы скардзіліся каралеве Боне на вялікія паборы, што ўчыняў яе Рагачоўскі кіраўнік. Пад 1567 г. пазначана ў метрыцы караля Жыгімонта II Аўгуста як сяленне ў вол. Мазырскай, перададзенае ў валоданне Ю.Д.Кашкарову. Дзейнічала Свята-Мікалаеўская царква (у ёй захоўваліся метрычныя кнігі з 1739), у 1795 г. замест састарэлага ўзведзены новы драўляны будынак царквы. У 1762 г. маёнтак Лучыцкі пераходзіць да Ф.Яленскага. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1795 г. 41 двор. Па рэвізскіх матэрыялах 1816 г. 310 жыхароў, цэнтр маёнтка, у склад якога ўва-

ходзілі 7 населеных пунктаў. У 1834 г. 50 двароў, 247 жыхароў. У 1862 г. адкрыта школа, якая размяшчалася ў наёмнай сял. хаце, у пач. 1920-х г. ёй перададзены нацыяналізаваны будынак. Пазначана на карце 1866 г., якой карысталася Зах. меліярацыйная экспедыцыя, што працавала ў гэтых месцах у 1890-я г. Памешчык Шахаў у 1876 г. меў тут 17 832 дзес. зямлі, карчму, млын і сукнавальню. Дзейнічала паромная пераправа на р. Пціч і часовая прыстань. У 1884 г. 61 двор, 435 жыхароў, царква, школа. Была цэнтрам воласці, у якую ўваходзілі 4 сялленні з 163 дварамі. Паводле перапісу 1897 г. сяло (119 двароў, 733 жыхары, хлебазапасны магазін, лаўка, карчма) і фальварак (2 двары, 23 жыхары, вінакурня, вятрак), паштовае аддз. У пач. 20 ст. на ПдЗ ад вёскі быў закладзены парк (каля 5 га) і ўзведзена сядзіба (не захавалася). У 1908 г. 142 двары, 853 жыхары. У 1917 г. 1111 жыхароў. У выніку пагрому, які ўчынілі 23.10.1920 г. банды Булак-Балаховіча, загінулі 28 жыхароў. У 1921 г. 230 двароў, 1188 жыхароў. З 20.8.1924 г. цэнтр Лучыцкага с/с Капаткевіцкага, з 8.7.1931 г. Петрыкаўскага, з 12.2.1935 г. Капаткевіцкага, з 25.12.1962 г. Петрыкаўскага раёнаў Мазырскай (да 26.7.1930 і з 21.6.1935 да 20.2.1938) акругі, з 20.2.1938 г. Палескай, з 8.1.1954 г. Гомельскай абласцей. Дзейнічаў саўгас (145 га зямлі). У 1930 г. арганізаваны калгас, працавалі цагельня (з 1931), маслабойня, паравы млын. У Вял. Айч. вайну ў створаным акупантамі лагеры ўтрымліваліся 130 дзяцей, якіх выкарыстоўвалі ў якасці донараў. Партызаны разграмілі размешчаны ў вёсцы ням. гарнізон. Карнікі часткова спалілі вёску і загубілі 24 жыхароў. 87 вяскоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 1178 жыхароў. Цэнтр калгаса «Шлях да камунізму». Працуюць сярэдняя школа, школа-інтэрнат для дзяцей з фізічнымі недахопамі, дзіцячы сад, Дом культуры, б-ка, амбулаторыя, аптэка, швейная майстэрня, аддз. сувязі, 3 магазіны. Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ, да якой з З і Пд далучаюцца 2 кароткія прамалінейныя вуліцы, з Пн — працяглая прамалінейная вуліца блізкай да мерыдыянальнай арыентацыі. Забудова двухбаковая, пераважна драўляная, сядзібнага тыпу. Радзіма вядомага бел. казачніка І.П.Азёмшы: з 80 твораў, змешчаных у зборніку А.К.Сержпутоўскага «Казкі і апавяданні беларусаў-палешукоў», 32 запісаны ад яго.

У склад Лучыцкага с/с да 1974 г. ўваходзіла в. Яўсеевічы (не існуе).

**ЛЮДЗВІНОЎ** — вёска ў Муляраўскім с/с, за 18 км на ПнУ ад Петрыкава, 4 км ад чыг. ст. Муляраўка (на лініі Лунінец—Калінкавічы), 180 км ад Гомеля, вакол лес і меліярацыйныя каналы. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Лунінец—Гомель. 35 гаспадарак, 52 жыхары (2004 г.).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 19 ст. як фальварак у Петрыкаўскай вол. Мазырскага пав. Мінскай губ. Пазначана на карце 1866 г., якой карысталася Зах. меліярацыйная экспедыцыя, што працавала ў гэтых месцах у 1890-я г. Па-



*Помнік ахвярам фашысцкага генацыду ў в. Людзвіноў.*

водле перапісу 1897 г. 3 двары, 59 жыхароў. У 1917 г. 79 жыхароў. У 1931 г. арганізаваны калгас. У 1940 г. 56 двароў, 290 жыхароў. У Вял. Айч. вайну ням. акупанты ў сак. 1943 г. спалілі жывымі 125 жыхароў у калгасным хляве (пахаваны ў магіле ахвяр фашызму на паўд.-ўсх. ускраіне вёскі) і 7 двароў. 34 вяскоўцы загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 220 двароў. У складзе калгаса «Бальшавік» (цэнтр — в. Курыцічы). Планіровачна складаецца з 2 шчыльна пастаўленых паміж сабой прамалінейных вуліц мерыдыянальнай арыентацыі, забудаваных двухбакова драўлянымі сял. сядзібамі. На ўскраіне размешчаны помнік нар. дойлідства — свіран 19 — пач. 20 ст. Непадалёку ёсць залежы жалезнякоў.

**ЛЯСКАВІЧЫ** — вёска, цэнтр Ляскавіцкага с/с, за 24 км на З ад Петрыкава, 22 км ад чыг. ст. Капцэвічы (на лініі Лунінец—Калінкавічы), 214 км ад Гомеля, на аўтадарозе Жыткавічы—Петрыкаў, на Пд — пойма р. Прыпяць і воз. Ветвіца, на Пн меліярацыйныя каналы, на З мяжуе з лесам. 301 гаспадарка, 684 жыхары (2004 г.).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 16 ст. як сяло ў Мазырскім пав. Мінскага ваяв. ВКЛ. У 1626 г. на сродкі памешчыка Зябкі збудавана царква ў імя Прачыстай Багародзіцы. Па інвентары 1700 г. 27 двароў. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1795 г. 29 двароў, уладанне Хадкевічаў. У 1811 г. 34 двары. У 1850 г. 54 двары, 287 жыхароў, уладанне Кіневічаў. Афіцэры Ген. штаба рас. арміі, якія знаёміліся з гэтай мясцовасцю, адзначалі адасобленасць вёскі з выглядам непрыкметнага засценка. Па рэвізскіх матэрыялах 1861 г. адкрыта школа, а ў 1910 г. — яшчэ адна школа. Дзейнічала часовая прыстань. Па звестках 1885 г. 60 двароў, 361 жыхар, вінакурня. Цэнтр воласці, у якую ў 1885 г. ўваходзілі 11 сяленняў з 381 дваром. У 1895 г. ўзведзены новы будынак царквы. Паводле перапісу 1897 г. 112 двароў, 693 жыхары, карчма. Паблізу прыстань Кабачок на р. Прыпяць; паштовае аддз. У 1908 г. 147 двароў, 1137 жыхароў. З 20.8.1924 г. да 2.4.1975 г. і з 24.5.1978 г. цэнтр Ляскавіцкага с/с Петрыкаўскага р-на Мазырскай (да 26.7.1930 і з 21.6.1935 да 20.2.1938) акругі, з 20.2.1938 г. Палескай, з 8.1.1954 г. Гомельскай абласцей. У 1925 г. 175 двароў. У 1929 г. арганізаваны калгас. У Вял. Айч. вайну ў 1944 г. ням. акупанты часткова спалілі вёску. 100 вяскоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 1143 жыхары. Цэнтр саўгаса «Ляскавічы». Дзейнічаюць турысцкая база «Палессе», сярэдняя школа, Дом культуры, б-ка, антэка, б-ца, аддз. сувязі, сталовая, 4 магазіны, швейная майстэрня. Планіровачна складаецца з 3 амаль паралельных паміж сабой вуліц, арыентаваных шыротна і забудаваных шчыльна драўлянымі сял. сядзібамі. Радзіма ген.-м. міліцыі М.М.Серады. Каля вёскі ёсць залежы торфу і сапрапелей.

У склад Ляскавіцкага с/с да 1934 г. ўваходзіў пас. Брынёў (не існуе).

**МАЙСЕЕВІЧЫ** — вёска ў Петрыкаўскім с/с, за 6 км на Пд ад Петрыкава, 19 км ад чыг. ст. Муляраўка (на лініі Лунінец—Калінкавічы), 196 км ад Гомеля, на Пн — воз. Глушыца, на З—р. Убарць (прыток р. Прыпяць). Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарогах, якія адыходзяць ад Петрыкава. 80 гаспадарак, 115 жыхароў (2004 г.).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 16 ст. як в. Масцевічы ў Мазырскім пав. Мінскага ваяв. ВКЛ. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі, у Мазырскім пав. Мінскай губ. У 1811 г. 26 двароў, уладанне памешчыка. Паводле перапісу 1897 г. 33 двары, капліца, заезны дом. У 1897 г. ўзведзена драўляная царква. У 1914 г. адкрыта школа, якая размяшчалася ў наёмнай сял. хаце. У 1917 г. 207 жыхароў, у Петрыкаўскай вол. У 1925 г. 76 двароў. У 1931 г. арганізаваны калгас. У 1940 г. 145 двароў, 507 жыхароў. У Вял. Айч. вайну ў студз. 1942 г. ням. акупанты поўнасцю

спалілі вёску і загубілі 15 жыхароў. 50 вяскоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 518 жыхароў. У складзе саўгаса «Петрыкаўскі» (цэнтр — г. Петрыкаў). Працуе фельч.-акушэрскі пункт. Планіровачна складаецца з 3 кароткіх вуліц, блізкіх да шыротнай арыентацыі, перакрыжаваных 2 мерыдыянальнымі вуліцамі. Забудова драўляная, шчыльная, сядзібнага тыпу.

**МАКАРЫЧЫ** — вёска ў Петрыкаўскім с/с, за 5 км на З ад Петрыкава, 17 км ад чыг. ст. Муляраўка (на лініі Лунінец—Калінкавічы), 195 км ад Гомеля, на р. Прыпяць (прыток р. Дняпро). Транспартныя сувязі па аўтадарозе Жыткавічы—Калінкавічы. 272 гаспадаркі, 608 жыхароў (2004 г.).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 18 ст. як сяло ў валоданні езуітаў, потым казны, у 1777 г. перададзена біскупу віленскаму І.Масальскаму. Дзейнічала Свята-Троіцкая царква (царк. дакументы захаваліся з 1815). Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1795 г. 45 двароў, у складзе маёнтка Любча. Па рэвізскіх матэрыялах 1816 г. 250 жыхароў, ва ўладанні Кіневічаў. У 1834 г. 65 двароў, 307 жыхароў. У запісах афіцэраў Ген. штаба рас. арміі, якія знаёміліся з гэтымі мясцінамі ў сярэдзіне 19 ст., вёска характарызуецца як малапрывабнае сяленне. У 1864 г. адкрыта нар. вучылішча. Па звестках 1886 г. 421 жыхар, у Петрыкаўскай вол. Мазырскага пав. Мінскай губ. Паводле перапісу 1897 г. 130 двароў, 784 жыхары, хлебазапасны магазін, карчма. У 1908 г. пачала дзейнічаць царк.-прыходская школа, для якой у тым жа годзе пабудавана памяшканне. У 1908 г. 147 двароў, 895 жыхароў. У 1917 г. 1064 жыхары. З 20.8.1924 г. да 29.1.1964 г. цэнтр Макарыцкага с/с Петрыкаўскага р-на Мазырскай (да 26.7.1930 і з 21.6.1935 да 20.2.1938) акругі, з 20.2.1938 г. Палескай, з 8.1.1954 г. Гомельскай абласцей. У 1925 г. 190 двароў. У 1930 г. арганізаваны калгас «Ленінскі шлях», працавалі 2 кузні і ваўначоска. У Вял. Айч. вайну партызаны разграмілі валасную ўправу, якую стварылі тут акупанты. У баях каля вёскі загінулі 5 воінаў (пахаваны ў брацкай магіле на могілках). 113 вяскоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 1217 жыхароў. У складзе саўгаса «Петрыкаўскі» (цэнтр — г. Петрыкаў). Дзейнічаюць аддз. сувязі, 9-гадовая школа, фельч.-акушэрскі пункт. Планіровачна складаецца з прамалінейнай шыротнай вуліцы, да якой з Пн далучаюцца 3 паралельныя паміж сабой кароткія вуліцы. На Пд ад асноўнай праходзіць прамалінейная шыротная вуліца. Забудова шчыльная, драўляная, сядзібнага тыпу. Непадалёку радовішча гліны і суглінкаў Браварышча (3,5 млн. $м^3$).

**МАЛЫЯ СЯЛЮЦІЧЫ** — вёска ў Грабаўскім с/с, за 30 км на ПнЗ ад Петрыкава, 10 км ад чыг. ст. Капцэвічы (на лініі Лунінец—Калінкавічы), 200 км ад Гомеля, на Пд канал Азёрны. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Лунінец—Калінкавічы. 28 гаспадарак, 40 жыхароў (2004 г.).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 19 ст., калі перасяленцы з в. Сялюцічы засн. тут сяленне, якое атрымала назву Сялюцічы Малыя. Пазначана на карце 1866 г., якой карысталася Зах. меліярацыйная экспедыцыя, што працавала ў гэтых мясцах у 1890-я г. Паводле перапісу 1897 г. в. Сялюцічы (яна ж Кучка), 24 двары, 166 жыхароў. У 1921 г. 52 двары, 325 жыхароў. У 1921 г. дзейнічала школа, якая размяшчалася ў наёмнай сял. хаце. У 1930 г. арганізаваны калгас. У 1940 г. 69 двароў. У Вял. Айч. вайну ў ліст. 1942 г. ням. акупанты поўнасцю спалілі вёску і загубілі 17 жыхароў. 77 жыхароў вёсак Малыя і Вялікія Сялюцічы загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 261 жыхар. У складзе калгаса «Перамога» (цэнтр — в. Грабаў). Планіровачна складаецца з крывалінейнай шыротнай вуліцы, да цэнтра якой з Пд далучаецца кароткая прамалінейная вуліца. Забудова двухбаковая, драўляная, сядзібнага тыпу.

**МАРДЗВІН** — вёска ў Снядзінскім с/с, за 13 км на ПдЗ ад Петрыкава, 27 км ад чыг. ст. Муляраўка (на лініі Лунінец—Калінкавічы), 208 км ад Гомеля, на Пн — пойма р. Прыпяць і воз. Падзароўе, на Пд мяжуе з Прыпяцкім ландшафтна-гідралагічным запаведнікам. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Лунінец—Калінкавічы. 65 гаспадарак, 103 жыхары (2004 г.).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 16 ст. як в. Мардзвінава ў Троцкім ваяв., з 1565 г. ў Пінскім пав. Берасцейскага ваяв. ВКЛ, шляхецкая ўласнасць. Была ў валоданні езуітаў, казны, у 1777 г. перададзена біскупу віленскаму І.Масальскаму. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1795 г. 31 двор. Па рэвізскіх матэрыялах 1816 г. 191 жыхар, ва ўладанні Кіневічаў. У 1834 г. 38 двароў, 179 жыхароў, у Петрыкаўскай вол. Мазырскага пав. Мінскай губ. Паводле перапісу 1897 г. 50 двароў, 384 жыхары. У 1908 г. 75 двароў, 443 жыхары. У 1910 г. адкрыта школа, якая размяшчалася ў наёмнай сял. хаце. У 1917 г. 517 жыхароў. У 1931 г. арганізаваны калгас «Чырвоны араты», працавалі кузня і ваўначоска. У 1940 г. 98 двароў. У Вял. Айч. вайну ў чэрв. 1943 г. ням. акупанты поўнасцю спалілі вёску і загубілі 90 жыхароў. 63 вяскоўцы загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 488 жыхароў. У складзе саўгаса «Галубіцкі» (цэнтр — в. Галубіца). Працуюць клуб, фельч.-акушэрскі пункт. Планіровачна складаецца з кароткай прамалінейнай шыротнай вуліцы, да якой з Пн далучаецца дугападобная кароткая вуліца. Забудова драўляная, сядзібнага тыпу.

**МІХЕДАВІЧЫ** — вёска ў Бабуніцкім с/с, за 29 км на ПнЗ ад Петрыкава, 16 км ад чыг. ст. Муляраўка (на лініі Лунінец—Калінкавічы), 192 км ад Гомеля, на Пд меліярацыйныя каналы, на У, Пн і З мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Лунінец—Калінкавічы. 255 гаспадарак, 558 жыхароў (2004 г.).

Першае пісьмовае ўпамінанне аб вёсцы адносіцца да 1447 г., калі ў ёй было 14 жыхароў. На карце 1560 г. вясковыя землі аднесены да велікакняжацкіх. Па інвентары 1700 г. 5 цяглых і 2 пустыя службы. Захаваліся сведчанні аб удакладненні межаў паміж в. Міхедавічы і суседнімі пасяленнямі, якое праводзілася ў 1769 г. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1795 г. 21 двор, уладанне Хадкевічаў. У 1811 г. 30 двароў, цэнтр аднайменнага маёнтка, гаспадар якога дваранін Біскупскі ў 1858 г. меў 1734 дзес. зямлі, памешчык Ізмайльскі ў 1876 г. — 2528 дзес. зямлі. Пазначана на карце 1866 г., якой карысталася Зах. меліярацыйная экспедыцыя, што працавала ў гэтых месцах у 1890-я г. У 1885 г. 40 двароў, 324 жыхары. Паводле перапісу 1897 г. вёскі Міхедавічы-1 (57 двароў, 351 жыхар, хлебазапасны магазін) і Міхедавічы-2 (яна ж Сасолы, 28 двароў, 189 жыхароў, царква, хлебазапасны магазін). Побач аднайменны фальварак, 99 жыхароў. У 1908 г. 116 двароў, 766 жыхароў. У засценку — 36 двароў, 230 жыхароў. У 1917 г. ў в. Міхедавічы-1 — 614, у в. Міхедавічы-2 — 262, у засценку — 267 жыхароў. У 1910 г. адкрыта школа ў в. Міхедавічы-1, а ў 1923 г. пачала працаваць школа і ў в. Міхедавічы-2. Размяшчаліся школы ў наёмных сял. хатах. У выніку пагрому, які ўчыніла 8.11.1920 г. банда Булак-Балаховіча, загінулі 16 жыхароў. У 1921 г. ў вёсках і засценку 235 двароў, 1172 жыхары. У хуткім часе 2 вёскі і засценак склалі адзін населены пункт — Міхедавічы. У 1930 г. арганізаваны калгас. У 1940 г. 340 двароў, 1290 жыхароў. У Вял. Айч. вайну ў ліп. 1943 г. ням. акупанты поўнасцю спалілі вёску і загубілі 90 жыхароў. На франтах і ў партыз. барацьбе загінулі 105 землякоў, памяць аб якіх ушаноўвае скульптура воіна, пастаўленая ў 1974 г. каля будынка школы. Паводле перапісу 1959 г. 994 жыхары. У складзе саўгаса «Запаветы Ільіча» (цэнтр — в. Бабунічы). Дзейнічаюць аддз. сувязі, Дом куль-

туры, 9-гадовая школа, б-ка, фельч.-акушэрскі пункт, дзіцячыя яслі-сад. Планіровачна складаецца з прамалінейнай, амаль мерыдыянальнай вуліцы, да якой з З далучаецца прамалінейная шыротная вуліца, на іх скрыжаванні ўтворана плошча. На У і З ад гал. вуліцы — невял. адасобленыя ўчасткі забудовы. Жылыя дамы драўляныя сядзібнага тыпу.

**МІЦУРЫ** — вёска ў Конкавіцкім с/с, за 15 км на У ад Петрыкава, 11 км ад чыг. ст. Муляраўка (на лініі Лунінец—Калінкавічы), 189 км ад Гомеля, на р. Бобрык (прыток р. Прыпяць). Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Лунінец—Гомель. 45 гаспадарак, 60 жыхароў (2004 г.).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 19 ст. як сяленне ў Петрыкаўскай вол. Мазырскага пав. Мінскай губ. У 1850 г. 7 двароў. У запісах афіцэраў Ген. штаба рас. арміі, якія знаёміліся з гэтымі мясцінамі ў сярэдзіне 19 ст., вёска характарызуецца як нязначнае, непрывабнае сяленне. Пад 1879 г. пазначана як сяленне ў Петрыкаўскім царк. прыходзе. Паводле перапісу 1897 г. 24 двары, 172 жыхары, хлебазапасны магазін. У 1908 г. 27 двароў, 276 жыхароў. У 1931 г. арганізаваны калгас. У Вял. Айч. вайну 20 вяскоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 277 жыхароў. У складзе калгаса імя У.І.Леніна (цэнтр — в. Конкавічы). Планіровачна складаецца з кароткай дугападобнай шыротнай вуліцы, на Пд ад якой два невял. адасобленыя ўчасткі забудовы. Жылыя дамы драўляныя сядзібнага тыпу.

**МЛЫНОК** — вёска ў Навасёлкаўскім с/с, за 28 км на Пн ад Петрыкава, 20 км ад чыг. ст. Муляраўка (на лініі Лунінец—Калінкавічы), 205 км ад Гомеля, на зах. ускраіне — Курыціцкі канал, на У, Пн і З мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Навасёлкі—Пціч. 19 гаспадарак, 30 жыхароў (2004 г.).

Па пісьмовых крыніцах вядома з канца 18 ст. У 1795 г. 2 двары, уладанне Хадкевічаў, у Мазырскім пав. Мінскай губ. Паводле перапісу 1897 г. 5 двароў, 65 жыхароў, у Камаровіцкай вол. У 1908 г. 16 двароў, 101 жыхар. У 1917 г. 136 жыхароў. У 1918 г. адкрыта школа, якая размяшчалася ў наёмнай сял. хаце. У 1931 г. арганізаваны калгас. 17 вяскоўцаў загінулі на франтах Вял. Айч. вайны. Паводле перапісу 1959 г. 187 жыхароў. У складзе саўгаса «Навасёлкі» (цэнтр — в. Навасёлкі). Планіровачна складаецца з прамалінейнай мерыянальнай вуліцы, да цэнтра якой з З далучаюцца 2 завулкі. Забудова двухбаковая, драўляная, сядзібнага тыпу.

**МЛЫНОК** — вёска ў Пціцкім с/с, за 30 км на ПнУ ад Петрыкава, 5 км ад чыг. ст. Пціч (на лініі Лунінец—Калінкавічы), 160 км ад Гомеля, на паўд. ускраіне безымянная рака ад Курыціцкага канала (прыток р. Пціч). Побач аўтадарога Лунінец—Гомель. 29 гаспадарак, 55 жыхароў (2004 г.).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 2-й пал. 18 ст. як невял. сяленне ў Мазырскім пав. Мінскага ваяв. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1795 г. 3 двары, уладанне Хадкевічаў. У 1834 г. в. Слабодскі Млынок, 4 двары, 36 жыхароў. Паводле перапісу 1858 г. 5 двароў, уладанне казны. Пазначана на карце 1866 г., якой карысталася Зах. меліярацыйная экспедыцыя, што працавала ў гэтых месцах у 1890-я г. Пад 1879 г. значыцца ў Капаткевіцкім царк. прыходзе. Па звестках 1886 г. 7 двароў, 50 жыхароў, царква, у Капаткевіцкай вол. У 1917 г. 257 жыхароў. У 1918 г. адкрыта школа, якая размяшчалася ў наёмнай сял. хаце. У 1925 г. 30 двароў. У 1931 г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. 13 вяскоўцаў загінулі на франтах Вял. Айч. вайны. Паводле перапісу 1959 г. 182 жыхары. У складзе калгаса «40 гадоў Кастрычніка» (цэнтр — в. Пціч). Планіровачна складаецца з крывалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ, да цэнтра якой з Пн далучаецца завулак. Забудова драўляная, няшчыльная, сядзібнага тыпу.

**МОЛАТ** — вёска ў Ляскавіцкім с/с, за 33 км на ПнЗ ад Петрыкава, 14 км ад чыг. ст. Капцэвічы (на лініі Лунінец—Калінкавічы), 224 км ад Гомеля, на З мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Лунінец—Калінкавічы. 16 гаспадарак, 34 жыхары (2004 г.).

Засн. ў пач. 20 ст. перасяленцамі з суседніх вёсак. У 1925 г. 25 двароў. У 1931 г. арганізаваны калгас. У Вял. Айч. вайну 6 вяскоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 115 жыхароў. У складзе саўгаса «Брынёў» (цэнтр — в. Брынёў). Планіровачна складаецца з кароткай шыротнай вуліцы, перакрыжаванай кароткай мерыдыянальнай вуліцай. Забудавана рэдка драўлянымі сял. сядзібамі.

**МУЛЯРАЎКА** — пасёлак, цэнтр Муляраўскага с/с, чыг. станцыя на лініі Лунінец—Калінкавічы, за 13 км на ПнУ ад Петрыкава, 177 км ад Гомеля, на Пн мяжуе з лесам. Побач аўтадарога Лунінец—Гомель. 204 гаспадаркі, 572 жыхары (2004 г.).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 19 ст. як невял. сяленне ў Петрыкаўскай вол. Мазырскага пав. Мінскай губ. З уводам у эксплуатацыю 15.2.1886 г. чыгункі Лунінец—Гомель пачала дзейнічаць чыг. станцыя. Назву пасёлак і чыг. станцыя атрымалі ад урочышча, што размешчана побач. У выніку пажару 10.11.1896 г. згарэў лесапільны з-д. Паводле перапісу 1897 г. 9 двароў, 57 жыхароў. Побач быў аднайменны выселак, 3 двары, 20 жыхароў. У 1917 г. на чыг. станцыі 130 жыхароў. У Вял. Айч. вайну 22.2.1942 г. партызаны разграмілі створаны тут акупантамі гарнізон. Гэта была адна з першых баявых партыз. аперацый на варожых чыг. камунікацыях. У 1943 г. ням. карнікі часткова спалілі пасёлак. Паводле перапісу 1959 г. ў пасёлку 100, на чыг. станцыі — 73 жыхары. З 8.1.1986 г. цэнтр Муляраўскага с/с. Размешчаны Петрыкаўскі адкормачны пункт, раённыя аб'яднанні «Сельгастэхніка» і «Сельгасхімія», керамзітавы з-д, фельч.-акушэрскі пункт, пач. школа, б-ка, дзіцячы сад, клуб, аддз. сувязі, магазін. Планіровачна складаецца з кароткай шыротнай вуліцы, забудаванай драўлянымі гаспадарчымі і жылымі будынкамі.



*Чыгуначная станцыя Мулраўка.*

**МЫШАНКА** — вёска, цэнтр Мышанскага с/с, чыг. станцыя на лініі Лунінец—Калінкавічы, за 44 км на ПнУ ад Петрыкава, 150 км ад Гомеля, на р. Трэмля (прыток р. Прыпяць). Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Лунінец—Калінкавічы. 664 гаспадаркі, 1691 жыхар (2004 г.).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 19 ст. як невял. сяленне ў Мазырскім пав. Мінскай губ. Уваходзіла ў склад аднайменнага маёнтка, гаспадар якога дваранін Кірхнер меў у 1876 г. ў розных месцах 13 214 дзес. зямлі, 2 карчмы, вадзяны млын, сукнавальню. З уводам у эксплуатацыю ў лют. 1886 г. чыг. лініі Лунінец—Гомель пачала дзейнічаць чыг. станцыя. У 1908 г. 10 двароў, 41 жыхар, у Капаткевіцкай вол. У 1917 г. ў вёсцы — 226, у фальварку —11 жыхароў. У 1921 г. 43 двары, 225 жыхароў. У 1931 г. арганізаваны калгас «Чырвоны сцяг», працавалі вадзяны млын, кузня, ваўначоска. Дзейнічала пач. школа (у 1935 г. — 62 вучні). У Вял. Айч. вайну ў баях каля вёскі загінулі 44 воіны і партызаны (пахаваны ў брацкай магіле, за 0,7 км на ПдЗ ад вёскі). У маі 1944 г. жыхары вёс-

кі, якая знаходзілася ў прыфрантавой паласе, у мэтах іх бяспекі былі пераселены ў г. Калінкавічы, дзе яны размяшчаліся да пачатку аперацыі «Баграціён». 40 вяскоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 1610 жыхароў. З 18.11.1967 г. цэнтр Мышанскага с/с. Цэнтр саўгаса «Мышанка». Працуюць сярэдняя і муз. школы, клуб, б-ка, амбулаторыя, 2 дзіцячыя сады, аддз. сувязі, сталовая, 2 магазіны. Планіровачна складаецца з дзвюх частак: усх. (2 прамалінейныя вуліцы, арыентаваныя з ПдУ на ПнЗ і перакрыжаваныя 4 кароткімі вуліцамі блізкай да мерыдыянальнай арыентацыі) і зах. (крывалінейная вуліца мерыдыянальнай арыентацыі, да якой далучаюцца 4 завулкі). Забудова пераважна драўляная сядзібнага тыпу. Радзіма бел. мастака Т.І.Карэлкінай.

**НАВАСЁЛКІ** — вёска ў Петрыкаўскім с/с, за 8 км на У ад Петрыкава, 11 км ад чыг. ст. Муляраўка (на лініі Лунінец—Калінкавічы), 197 км ад Гомеля, на р. Прыпяць (прыток р. Дняпро). Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Лунінец—Гомель. 45 гаспадарак, 68 жыхароў (2004 г.).

Выяўленыя археолагамі 2 паселішчы 3-га тысячагоддзя да н.э. (за 1 і 2,5 км на У ад вёскі) сведчаць пра засяленне тутэйшых мясцін з глыбокай старажытнасці. Па пісьмовых крыніцах вядома з 18 ст. як сяленне ў Мазырскім пав. Мінскім ваяв. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1816 г. сяло, 27 двароў, шляхецкая ўласнасць. Па рэвізскіх матэрыялах 1850 г. казённае сяленне. У запісах афіцэраў Ген. штаба рас. арміі, якія знаёміліся з гэтымі мясцінамі ў сярэдзіне 19 ст., вёска характарызуецца як непрывабнае сяленне. Пад 1879 г. пазначана ў Петрыкаўскім царк. прыходзе. Паводле перапісу 1897 г. 33 двары, 210 жыхароў, царква, хлебазапасны магазін. Дзейнічала прыстань на р. Прыпяць. У 1908 г. 42 двары, 216 жыхароў. У 1917 г. 279 жыхароў. У 1921 г. адкрыта школа, якая размяшчалася ў наёмнай сял. хаце. У 1925 г. 62 двары. У 1929 г. арганізаваны калгас. 25 вяскоўцаў загінулі на франтах Вял. Айч. вайны. Паводле перапісу 1959 г. 272 жыхары. У складзе саўгаса «Петрыкаўскі» (цэнтр — г. Петрыкаў). Планіровачна складаецца з крывалінейнай шыротнай вуліцы, да якой з Пн далучаюцца завулкі. Забудова двухбаковая, драўляная, сядзібнага тыпу. Радзіма бел. паэта Алеся Дудара (сапр. А.А.Далідовіч).

**НАВАСЁЛКІ** — вёска, цэнтр Навасёлкаўскага с/с, за 45 км на Пн ад Петрыкава, 34 км ад чыг. ст. Муляраўка (на лініі Лунінец—Калінкавічы), 196 км ад Гомеля, на аўтадарозе Камаровічы—Капаткевічы, на Пд і Пн меліярацыйныя каналы. 489 гаспадарак, 1250 жыхароў (2004 г.).

Выяўленае археолагамі гарадзішча (за 2 км на З ад вёскі, ва ўрочышчы Рымшава Гара) сведчыць пра засяленне тутэйшых мясцін з далёкай старажытнасці. Па пісьмовых крыніцах вядома з 16 ст. як сяленне ў Мінскім ваяв. У 1568 г. 3 службы, у Мазырскай вол., у валоданні Д.К.Аскеркі. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. Па рэвізскіх матэрыялах 1816 г. 12 двароў, у Мазырскім пав. Мінскай губ. У 1834 г. 45 двароў, 288 жыхароў. Гаспадар маёнтка, што размяшчаўся побач, дваранін Богуш у 1858 г. меў 6 тыс. дзес. зямлі. У 1866 г. 82 двары, 510 жы-



*А.Дудар.*



*Мемарыяльны комплекс «Загінуўшым і жывым» у в. Навасёлкі.*

хароў. У 1869 г. пабудавана драўляная Свята-Мікалаеўская царква. У 1888 г. адкрыта царк.-прыходская школа. Паводле перапісу 1897 г. 102 двары, 684 жыхары, хлебазапасны магазін, карчма, у Камаровіцкай вол. У 1900 г. адкрыта школа ў пабудаваным для яе будынку. У 1908 г. 107 двароў. У 1921 г. 203 двары. З 20.8.1924 г. цэнтр Навасёлкаўскага с/с Капаткевіцкага, з 8.7.1931 г. Петрыкаўскага, з 12.2.1935 г. Капаткевіцкага, з 25.12.1962 г. Петрыкаўскага раёна ў Мазырскай (да 26.7.1930 і з 12.2.1935 да 20.2.1938) акругі, з 20.2.1938 г. Палескай, з 8.1.1954 г. Гомельскай абласцей. У 1930 г. арганізаваны калгас. У 1940 г. 230 двароў, 1150 жыхароў. У Вял. Айч. вайну партызаны разграмілі ў вёсцы апорны пункт. У 1944 г. ням. карнікі спалілі 215 двароў і загубілі 70 жыхароў. У баях каля вёскі загінулі 29 воінаў і партызан (пахаваны ў брацкай магіле па вул. Леніна). На франтах і ў партыз. барацьбе загінулі 520 жыхароў Навасёлкаўскага с/с, памяць аб якіх ушаноўвае мемарыяльны комплекс, узведзены ў 1975 г. каля будынка школы. Паводле перапісу 1959 г. 1092 жыхары. У 1974 г. да вёскі далучана суседняя в. Гурыны. Цэнтр саўгаса «Навасёлкі». Дзейнічаюць камбінат быт. абслугоўвання, лясніцтва, сярэдняя і муз. школы, Дом культуры, дом-музей дзеда Талаша (адкрыты 7.10.1989), б-ка, дзіцячы сад, б-ца, аптэка, аддз. сувязі, 2 сталовыя, 4 магазіны. Пры сярэдняй школе створаны гіст.-краязнаўчы музей. У 1995 г. на сродкі жыхароў Навасёлкаўскага с/с збудавана Свята-Вазнясенская царква. Планіровачна складаецца з працяглай крывалінейнай шыротнай вуліцы, да якой далучаюцца з Пд — крывалінейная, з Пн — крыху выгнутая вуліцы. У апошнія гады праведзена вял. работа па ўпарадкаванні планіроўкі і забудовы. Па выніках Усесаюзнага агляду-конкурсу вёска ў 1972 г. адзначана граматай журы. Радзіма засл. настаўніка Беларусі С.Ц.Пігулеўскага.

*Сядзіба дзеда Талаша ў Навасёлках.*



У склад Навасёлкаўскага с/с да 1974 г. ўваходзіла в. Гурыны (не існуе).

**НОВЫЯ ГАЛОЎЧЫЦЫ** — вёска ў Навасёлкаўскім с/с, за 53 км на Пн ад Петрыкава, 42 км ад чыг. ст. Муляраўка (на лініі Лунінец—Калінкавічы), 204 км ад Гомеля, вакол лес. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Камаровічы—Капаткевічы. 119 гаспадарак, 375 жыхароў (2004 г.).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 19 ст., калі перасяленцы з в. Галоўчыцы засн. тут хутары. У 1908 г. 35 двароў, 263 жыхары, у Камаровіцкай вол. Мазырскага пав. Мінскай губ. У 1918 г. адкрыта школа, якая размяшчалася ў наёмнай сял. хаце. У 1921 г. 61 двор, 383 жыхары. З 21.8.1925 г. да 5.9.1929 г. цэнтр Галоўчыцкага, потым да 8.4.1965 г. Новагалоўчыцкага с/с Капаткевіцкага, з 8.7.1931 г. Петрыкаўскага, з 12.2.1935 г. Капаткевіцкага, з 25.12.1962 г. Петрыкаўскага раёнаў Мазырскай (да 26.7.1930 і з 21.6. 1935 да 20.2.1938) акругі, з 20.2.1938 г. Палескай, з 8.1.1954 г. Гомельскай абласцей. У 1929 г. в. Галоўчыцы падзелена на дзве: Старыя Галоўчыцы і Новыя Галоўчыцы (былыя хутары). У 1930 г. арганізаваны калгас «Новы араты», працавала кузня. У Вял. Айч. вайну партызаны разграмілі гарнізон, які стварылі тут акупанты. Зімой 1943 г. ў вёсцы размяшчаўся штаб 125-й Капаткевіцкай партыз. брыгады. У баях каля вёскі загінулі 19 воінаў і партызан (пахаваны ў брацкай магіле на паўн.-зах. ускраіне). 43 вяскоўцы загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 279 жыхароў. Цэнтр калгаса «Прагрэс». Працуюць аддз. сувязі, клуб,

сярэдняя школа, б-ка, фельч.-акушэрскі пункт, дзіцячы сад. Планіровачна складаецца з прамалінейнай мерыдыянальнай вуліцы, перакрыжаванай другой прамалінейнай вуліцай. Забудавана рэдка, пераважна драўлянымі сял. сядзібамі. У 1992 г. збудаваны мураваныя дамы на 50 кватэр, у якіх размясціліся перасяленцы з забруджаных радыяцыяй месц пасля Чарнобыльскай катастрофы.

**НОВЫЯ КАЦУРЫ** — вёска ў Мышанскім с/с, за 45 км на У ад Петрыкава, 4 км ад чыг. ст. Мышанка (на лініі Лунінец—Калінкавічы), 165 км ад Гомеля. На зах. ускраіне канава Плясецкая. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Лунінец—Калінкавічы. 58 гаспадарак, 85 жыхароў (2004 г.).

Засн. ў пач. 1920-х г. перасяленцамі з в. Кацуры на былых памешчыцкіх землях. У 1931 г. арганізаваны калгас. У Вял. Айч. вайну 22 вяскоўцы загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 310 жыхароў. У складзе саўгаса «Мышанка» (цэнтр — в. Мышанка). Планіровачна складаецца з прамалінейнай, блізкай да мерыдыянальнай арыентацыі вуліцы. Забудова драўляная сядзібнага тыпу.

**ПАДОЗБІН** — вёска ў Бабуніцкім с/с, за 22 км на Пн ад Петрыкава, 10 км ад чыг. ст. Капцэвічы (на лініі Лунінец—Калінкавічы), 186 км ад Гомеля, на Пн — Міхедава-Грабаўскі канал, на Пд мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Лунінец—Калінкавічы. 1 гаспадарка, 2 жыхары (1999 г.).

Засн. ў пач. 20 ст. перасяленцамі з суседніх вёсак. У 1908 г. ўрочышча Падозбін, 6 двароў, 47 жыхароў, у Петрыкаўскай вол. Мазырскага пав. Мінскай губ. У 1925 г. 16 двароў. У 1931 г. арганізаваны калгас. У 1940 г. 24 двары, 72 жыхары. У Вял. Айч. вайну ў маі 1943 г. ням. акупанты поўнасцю спалілі вёску і загубілі 15 жыхароў. 16 вяскоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 86 жыхароў. У складзе саўгаса «Запаветы Ільіча» (цэнтр — в. Бабунічы). Планіровачна складаецца з кароткай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ. Жылыя дамы драўляныя сядзібнага тыпу.

**ПАЛЕССЕ** (да 1964 Падканаплішча) — вёска ў Бабуніцкім с/с, з 16 км на Пн ад Петрыкава, 16 км ад чыг. ст. Муляраўка (на лініі Лунінец—Калінкавічы), 191 км ад Гомеля, на зах. ускраіне — Міхедава-Грабаўскі канал, на Пн мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Лунінец—Калінкавічы. 14 гаспадарак, 18 жыхароў (2004 г.).

Засн. ў пач. 20 ст. як хутар у Мазырскім пав. Мінскай губ. Найбольш актыўная забудова прыпадае на 1920-я г. У 1931 г. арганізаваны калгас. У 1940 г. 37 двароў, 127 жыхароў. У Вял. Айч. вайну ў маі 1943 г. ням. акупанты поўнасцю спалілі вёску і загубілі 9 жыхароў. 17 вяскоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 129 жыхароў. У складзе саўгаса «Запаветы Ільіча» (цэнтр — в. Бабунічы). Планіровачна складаецца з крывалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ і забудаванай няшчыльна драўлянымі сял. сядзібамі.

**ПАЛЯЖАЧ-ГАРА** — вёска ў Ляскавіцкім с/с, за 25 км на ПнЗ ад Петрыкава, 12 км ад чыг. ст. Капцэвічы (на лініі Лунінец—Калінкавічы), 217 км ад Гомеля, на Пд, У і Пн мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Жыткавічы—Петрыкаў. 18 гаспадарак, 26 жыхароў (2004 г.).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 19 ст. як вёска ў Мазырскім пав. Мінскай губ. Паводле перапісу 1897 г. 16 двароў, 106 жыхароў. У 1917 г. 151 жыхар, у Ляскавіцкай вол. У 1925 г. 27 двароў. У 1931 г. арганізаваны калгас. У Вял. Айч. вайну 19 вяскоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 161 жыхар. У складзе саўгаса «Брынёў» (цэнтр — в. Брынёў). Планіровачна складаецца з дугападобнай вуліцы, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ, да якой з Пн далучаецца прамалінейная вуліца. Забудова двухбаковая, няшчыльная, драўляная, сядзібнага тыпу.

**ПЕРШАМАЙ** (да 30.7.1964 Гаравaха) — вёска ў Петрыкаўскім с/с, за 8 км на ПнЗ ад Петрыкава, 11 км ад чыг. ст. Капцэвічы (на лініі Лунінец—Калінкавічы), 190 км ад Гомеля, вакол лес. Побач аўтадарога Капцэвічы—Петрыкаў. 11 гаспадарак, 16 жыхароў (2004 г.).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 19 ст. як вёска ў Петрыкаўскай вол. Мазырскага пав. Мінскай губ. Паводле перапісу 1897 г. 5 двароў, 35 жыхароў. У 1908 г. 7 двароў, 53 жыхары. У 1917 г. 65 жыхароў. У 1921 г. 20 двароў, 93 жыхары. У 1931 г. арганізаваны калгас. 8 вяскоўцаў загінулі на франтах Вял. Айч. вайны. Паводле перапісу 1959 г. 113 жыхароў. У складзе саўгаса «Петрыкаўскі» (цэнтр — г. Петрыкаў). Планіровачна складаецца з кароткай прамалінейнай вуліцы блізкай да мерыдыянальнай арыентацыі. Забудова драўляная, няшчыльная, сядзібнага тыпу.

**ПЕРШАЯ СЛАБОДКА** — вёска ў Капаткевіцкім пасялковым Савеце, за 37 км на ПнУ ад Петрыкава, 16 км ад чыг. ст. Пціч (на лініі Лунінец—Калінкавічы). 173 км ад Гомеля, на р. Пціч (прыток р. Прыпяць). Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Лунінец—Гомель. 106 гаспадарак, 256 жыхароў (2004 г.).

Па пісьмовых крыніцах вядома з пач. 19 ст. як вёска ў Мазырскім пав. Мінскай губ. У 1834 г. 24 двары, 134 жыхары. Паводле перапісу 1897 г. 74 двары, 456 жыхароў, капліца, хлебазапасны магазін. У 1908 г. 90 двароў, 796 жыхароў, у Капаткевіцкай вол. У 1914 г. адкрыта школа, якая размяшчалася ў наёмнай сял. хаце. У 1921 г. — 127, у 1925 г. — 161 двор. У 1930 г. арганізаваны калгас. У 1940 г. 210 двароў, 670 жыхароў. У Вял. Айч. вайну ў ліп. 1943 г. ням. акупанты спалілі 205 двароў і загубілі 50 жыхароў. 77 вяскоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 467 жыхароў. У складзе саўгаса «Капаткевічы» (цэнтр — г.п. Капаткевічы). Планіровачна складаецца з 2 прамалінейных, шчыльна пастаўленых паміж сабой вуліц, арыентаваных з ПдУ на ПнЗ, да якіх на Пн далучаюцца 4 кароткія вуліцы. Забудова пераважна драўляная сядзібнага тыпу.

**ПІЛІПОНЫ** — вёска ў Ляскавіцкім с/с, за 28 км на ПнЗ ад Петрыкава, 14 км ад чыг. ст. Капцэвічы (на лініі Лунінец—Калінкавічы), 224 км ад Гомеля, на Пд, Пн і З мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Жыткавічы—Петрыкаў. 26 гаспадарак, 39 жыхароў (2004 г.).

Засн. ў пач. 20 ст. перасяленцамі з суседніх вёсак. Найбольш актыўная забудова прыпадае на 1920-я г. У 1925 г. 26 двароў. У 1931 г. арганізаваны калгас. У Вял. Айч. вайну 18 вяскоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 272 жыхары. У складзе саўгаса «Брынёў» (цэнтр — в. Брынёў). Планіровачна складаецца з прамалінейнай мерыдыянальнай вуліцы, да якой з З далучаецца кароткая вуліца з завулкам. Забудова драўляная сядзібнага тыпу.

**ПРАХОДЫ** — вёска ў Навасёлкаўскім с/с, за 55 км на ПнУ ад Петрыкава, 44 км ад чыг. ст. Муляраўка (на лініі Лунінец—Калінкавічы), 206 км ад Гомеля, на Пн меліярацыйныя каналы, на Пд і У мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Камаровічы—Капаткевічы. 40 гаспадарак, 85 жыхароў (2004 г.).

Засн. ў пач. 20 ст. перасяленцамі з суседніх вёсак, у Камаровіцкай вол. Мазырскага пав. Мінскай губ. У 1917 г. 26 жыхароў. На 1920-я г. прыпадае найбольш актыўная забудова. У 1931 г. арганізаваны калгас. У Вял. Айч. вайну партызаны разграмілі апорны пункт, які стварылі тут акупанты. У 1943 г. ў вёсцы некаторы час размяшчаўся штаб партыз. злучэння Палескай вобл. 42 вяскоўцы загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 349 жыхароў. У складзе саўга-

са «Навасёлкі» (цэнтр — в. Навасёлкі). Планіровачна складаецца з 2 амаль паралельных паміж сабой шыротных вуліц, злучаных завулкам. Забудова двухбаковая, няшчыльная, драўляная, сядзібнага тыпу.

**ПЦІЧ** — вёска, цэнтр Пціцкага с/с, за 26 км на ПнУ ад Петрыкава, 161 км ад Гомеля, на р. Пціч (прыток р. Прыпяць), чыг. станцыя на лініі Лунінец—Калінкавічы, на Пд, У і З мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Лунінец—Гомель. 370 гаспадарак, 1040 жыхароў (2004 г.).

Па пісьмовых крыніцах вядома з пач. 16 ст. як сяленне ў Рэчыцкім пав. Мінскага ваяв. ВКЛ. Пад 1507 г. пазначана як цэнтр Бчыцкай вол. У пісьме ад 1540 г. падданы Бчыцкай вол. просіць аб вызваленні яго ад падаткаў, накладзеных нябожчыкам памешчыкам Гольштальтам. Пад 1567 г. пазначана ў перапісе ВКЛ. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. З уводам у эксплуатацыю 15.2.1886 г. чыгункі Лунінец—Гомель пачала дзейнічаць чыг. станцыя, на якой у пач. 20 ст. штогод грузілася да 700 тыс. пудоў лясных і збожжавых грузаў. Паводле перапісу 1897 г. 54 жыхары, заезны дом, карчма. На станцыі працавала лесапільня Берманаў (21 рабочы). У 1908 г. 70 двароў, 135 жыхароў, у Капаткевіцкай вол. Мелася паштовае аддз. У выніку пажару 19.5.1909 г. згарэла 12 дамоў і 15 гаспадарчых пабудоў. У 1917 г. 663 жыхары. У чэрв. 1917 г. адбылася забастоўка на лесапільна-фанерным з-дзе Бермана. Рабочыя патрабавалі 40-працэнтнага павелічэння зарплаты, стварэння бальнічнай касы, выплаты грошай за час забастоўкі. Гаспадары завода вымушаны былі пайсці на здавальненне гэтых патрабаванняў. У 1920 г. пачала дзейнічаць школа на чыг. станцыі, а ў 1922 г. — і ў пасёлку. У 1921 г. 100 двароў. З 20.8.1924 г. цэнтр Пціцкага с/с Капаткевіцкага, з 8.7.1931 г. Петрыкаўскага, з 12.2.1935 г. Капаткевіцкага, з 25.12.1962 г. Петрыкаўскага раёнаў Мазырскай (да 26.7.1930 і з 21.6.1935 да 20.2.1938) акругі, з 20.2.1938 г. Палескай, з 8.1.1954 г. Гомельскай абласцей. У 1931 г. арганізаваны калгас, працавалі смалакурня і дрэваапрацоўчая майстэрня. З 15.7.1935 г. да 27.9.1938 г. рабочы пасёлак. У 1940 г. 260 двароў, 1010 жыхароў. У Вял. Айч. вайну партызаны 3.11.1942 г. ўзарвалі чыг. мост цераз р. Пціч і спынілі рух на ўчастку Жыткавічы—Калінкавічы на 18 сутак. Восенню 1942 г. акупанты загубілі 68 жыхароў з вёсак Пціч і Багрымавічы (пахаваны ў брацкай магіле ў Прывакзальным скверы). 78 вяскоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 937 жыхароў. Цэнтр калгаса «40 гадоў Кастрычніка». Размешчаны цэх Калінкавіцкага камбікормавага з-да, швейная майстэрня, лясніцтва, сярэдняя школа (у 1996 узведзены мураваны будынак), клуб, б-ка, дзіцячы сад, амбулаторыя, аддз. сувязі, сталовая, 6 магазінаў. Планіровачна складаецца з дзвюх падзеленых чыгункай частак: паўн. (2 амаль прамалінейныя вуліцы мерыдыянальнай арыентацыі, да якіх з З далучаюцца кароткія вуліцы) і паўд. (прамалінейная вуліца блізкай да шыротнай арыентацыі, да якой з Пд далучаюцца 4 кароткія вуліцы). Забудова двухбаковая, пераважна драўляная сядзібнага тыпу. У 1991—92 гг. пабудаваны мураваныя дамы на 144 кватэры, у якіх размясціліся перасяленцы з забруджаных радыяцыяй месц пасля Чарнобыльскай катастрофы. Радзіма бел. пісьменніка М.І.Дзегцяра, аднаго з кіраўнікоў партыз. руху ў Мінскай вобл. ў Вял. Айч. вайну К.Ф.Пушчына (быў камандзірам партыз. брыгады 121-й імя А.Ф.Брагіна), доктара тэхн. навук З.П. Шульмана, аднаго з арганізатараў і кіраўнікоў Мінскага падполля ў Вял. Айч. вайну Н.Я.Герасіменкі (яго імя нададзена адной з вуліц г. Мінск).



*Н.Я.Герасіменка.*

**РАБКА** — вёска ў Грабаўскім с/с, за 30 км на ПнЗ ад Петрыкава, 10 км ад чыг. ст. Капцэвічы (на лініі Лунінец—Калінкавічы), 198 км ад Гомеля, вакол лес. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Лунінец—Калінкавічы. 10 гаспадарак, 14 жыхароў (2004 г.).

Засн. ў пач. 20 ст. перасяленцамі з суседніх вёсак, у Грабаўскай вол. Мазырскага пав. Мінскай губ. У 1917 г. 78 жыхароў, у 1921 г. 12 двароў. У 1931 г. арганізаваны калгас. У 1940 г. 31 двор, 124 жыхары. У Вял. Айч. вайну ў ліст. 1942 г. ням. акупанты поўнасцю спалілі вёску і загубілі 9 жыхароў. 13 вяскоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 141 жыхар. У складзе калгаса «Перамога» (цэнтр — в. Грабаў). Планіровачна складаецца з кароткай прамалінейнай вуліцы блізкай да мерыдыянальнай арыентацыі, забудаванай драўлянымі сял. сядзібамі.


*І.Е.Самбук.*

**РАДКАВА** — вёска ў Пціцкім с/с, за 20 км на ПнУ ад Петрыкава, 3 км ад чыг. ст. Пціч (на лініі Лунінец—Калінкавічы), 160 км ад Гомеля. Побач аўтадарога Лунінец—Калінкавічы. 38 гаспадарак, 95 жыхароў (2004 г.).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 19 ст. як сяленне ў Мазырскім пав. Мінскай губ. У 1834 г. 2 двары. У 1931 г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У 1940 г. 39 двароў, 193 жыхары. У Вял. Айч. вайну ў сак. 1943 г. ням. акупанты поўнасцю спалілі вёску і загубілі 72 жыхароў. 7 вяскоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 180 жыхароў. У складзе калгаса «40 гадоў Кастрычніка» (цэнтр — в. Пціч). Планіровачна складаецца з крыху выгнутай вуліцы блізкай да шыротнай арыентацыі, да якой з Пд далучаецца дугападобная вуліца. Забудова нязшчыльная, драўляная, сядзібнага тыпу.

**РОГ** — вёска ў Пціцкім с/с, за 22 км на ПнУ ад Петрыкава, 10 км ад чыг. ст. Пціч (на лініі Лунінец—Калінкавічы), 162 км ад Гомеля, на Пн і З меліярацыйныя каналы, на Пд мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Лунінец—Гомель. 120 гаспадарак, 285 жыхароў (2004 г.).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 18 ст. як сяленне ў Мазырскім пав. Мінскага ваяв. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1811 г. 24 двары, уладанне Аскеркаў. У 1834 г. 27 двароў, 186 жыхароў. Паводле перапісу 1858 г. 32 двары, 205 жыхароў, уласнасць казны. Пазначана на карце 1866 г., якой карысталася Зах. меліярацыйная экспедыцыя, што працавала ў гэтых месцах у 1890-я г. Пад 1879 г. пазначана ў Капаткевіцкім царк. прыходзе. Паводле перапісу 1897 г. 83 двары, 525 жыхароў, капліца, хлебазапасны магазін. У 1910 г. адкрыта школа, якая размяшчалася ў наёмнай сял. хаце. У 1917 г. 706 жыхароў, у Капаткевіцкай вол. Мазырскага пав. У 1921 г. ў вёсцы і на суседніх хутарах 133 двары, 756 жыхароў. У 1930 г. арганізаваны калгас. У 1940 г. 195 двароў. У Вял. Айч. вайну ням. акупанты ў сак. 1943 г. спалілі 121 двор і загубілі 56 жыхароў. 74 вяскоўцы загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 765 жыхароў. У складзе калгаса «40 гадоў Кастрычніка» (цэнтр — в. Пціч). Дзейнічаюць аддз. сувязі, клуб, 9-гадовая школа, б-ка, фельч.-акушэрскі пункт. Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ, да якой далучаюцца 3 кароткія выгнутыя вуліцы. Забудова драўляная сядзібнага тыпу, пераважна аднабаковая. Радзіма Героя Сав. Саюза І.Е.Самбука.

**РУБЧА** — вёска ў Галубіцкім с/с, за 12 км на З ад Петрыкава, 23 км ад чыг. ст. Муляраўка (на лініі Лунінец—Калінкавічы), 202 км ад Гомеля, на У і З мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Жыткавічы—Петрыкаў. 66 гаспадарак, 129 жыхароў (2004 г.).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 19 ст. як вёска ў Ляскавіцкай вол. Мазырскага пав. Мінскай губ. Паводле перапісу 1897 г. 30 двароў, 196 жыхароў, капліца. У 1908 г. 41 двор, 265 жыхароў. У 1923 г. адкрыта школа, якая размяшчалася ў наёмнай сял. хаце. У 1925 г. 54 двары. У 1930 г. арганізаваны калгас імя М.І.Калініна, працавала ваўначоска. У Вял. Айч. вайну 43 вяскоўцы загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 419 жыхароў. У складзе саўгаса «Галубіцкі» (цэнтр — в. Галубіца). Працуюць клуб, фельч.-акушэрскі пункт. Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ і забудаванай няшчыльна драўлянымі сял. сядзібамі.

**РЭКОРД** — пасёлак у Навасёлкаўскім с/с, за 46 км на Пн ад Петрыкава, 35 км ад чыг. ст. Муляраўка (на лініі Лунінец—Калінкавічы), 197 км ад Гомеля, на З меліярацыйны канал, на У мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Камаровічы—Капаткевічы. 23 гаспадаркі, 41 жыхар (2004 г.).

Засн. ў пач. 1920-х г. на былых памешчыцкіх землях перасяленцамі з суседніх вёсак. У 1931 г. арганізаваны калгас. 17 пасялкоўцаў загінулі на фронце ў Вял. Айч. вайну. Паводле перапісу 1959 г. 196 жыхароў. У складзе саўгаса «Навасёлкі» (цэнтр — в. Навасёлкі). Планіровачна складаецца з бессістэмнай забудовы ўздоўж прасёлачнай дарогі. Жылыя дамы драўляныя сядзібнага тыпу.

**САСНАВЕЦ** (да 30.7.1964 Манастыр) — вёска ў Бабуніцкім с/с, за 12 км на Пн ад Петрыкава, 12 км ад чыг. ст. Муляраўка (на лініі Лунінец—Калінкавічы), 187 км ад Гомеля, на У меліярацыйны канал, на Пд, Пн і З мяжуе з лесам. Побач аўтадарога Лунінец—Калінкавічы. 9 гаспадарак, 13 жыхароў (2004 г.).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 18 ст. як сяленне ў Мазырскім пав. Мінскага ваяв. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1795 г. 6 двароў. Паводле перапісу 1897 г. 10 двароў, 59 жыхароў, у Петрыкаўскай вол. У 1908 г. 71 жыхар. У 1925 г. 17 двароў. У 1932 г. арганізаваны калгас. У Вял. Айч. вайну 12 вяскоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 60 жыхароў. У складзе саўгаса «Запаветы Ільіча» (цэнтр — в. Бабунічы). Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы блізкай да шыротнай арыентацыі, забудаванай рэдка драўлянымі сял. сядзібамі.

**СВАБОДА** — вёска ў Петрыкаўскім с/с, за 12 км на ПнЗ ад Петрыкава, 6 км ад чыг. ст. Капцэвічы (на лініі Лунінец—Калінкавічы), 180 км ад Гомеля, на Пд мяжуе з лесам, на Пн праходзіць чыгунка. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Лунінец—Калінкавічы. 26 гаспадарак, 50 жыхароў (2004 г.).

Засн. ў пач. 1920-х г. на былых памешчыцкіх землях перасяленцамі з суседніх вёсак. У 1931 г. арганізаваны калгас. 15 вяскоўцаў загінулі на франтах Вял. Айч. вайны. У складзе саўгаса «Петрыкаўскі» (цэнтр — г. Петрыкаў). Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ, да якой з У далучаецца кароткая прамалінейная шыротная вуліца. Забудова драўляная, няшчыльная, сядзібнага тыпу.

**СЕРП** — вёска ў Ляскавіцкім с/с, за 34 км на ПнЗ ад Петрыкава, 13 км ад чыг. ст. Капцэвічы (на лініі Лунінец—Калінкавічы), 223 км ад Гомеля, на У, Пн і З мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Лунінец—Калінкавічы. 4 гаспадаркі, 9 жыхароў (2004 г.).

Засн. ў пач. 20 ст. на былых памешчыцкіх землях перасяленцамі з суседніх вёсак. У 1925 г. 25 двароў. У 1931 г. арганізаваны калгас. У Вял. Айч. вайну 6 вяскоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 55 жыхароў. У скла-

дзе саўгаса «Брынёў» (цэнтр — в. Брынёў). Планіровачна складаецца з кароткай прамалінейнай шыротнай вуліцы, забудаванай рэдка драўлянымі сял. сядзібамі.

**СЛАБАДА** — вёска ў Муляраўскім с/с, за 9 км на Пн ад Петрыкава, 5 км ад чыг. ст. Мулярайка (на лініі Лунінец—Калінкавічы), 192 км ад Гомеля, на р. Бобрык (прыток р. Прыпяць), на З мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Лунінец—Гомель. 71 гаспадарка, 216 жыхароў (2004 г.).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 18 ст. як сяленне ў Мазырскім пав. Мінскага ваяв. Пасля 2-гападзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1795 г. 5 двароў. У 1834 г. 14 двароў, 66 жыхароў, уладанне Абуховічаў. Паводле перапісу 1897 г. 53 двары, 321 жыхар. У 1917 г. 492 жыхары, у Петрыкаўскай вол. У 1925 г. 70 двароў. У 1931 г. арганізаваны калгас. У Вял. Айч. вайну ням. акупанты загубілі 18 жыхароў. Паводле перапісу 1959 г. 274 жыхары. Цэнтр калгаса «Чырвоны будаўнік» (цэнтр — в. Слабада). Працуюць 9-гадовая школа, клуб, б-ка, фельч.-акушэрскі пункт, дзіцячы сад. Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ. Забудова двухбаковая, драўляная, сядзібнага тыпу.

**СЛАБАДА** — пасёлак у Муляраўскім с/с, за 8 км на Пн ад Петрыкава, 4 км ад чыг. ст. Муляраўка (на лініі Лунінец—Калінкавічы), 182 км ад Гомеля, на р. Бобрык (прыток р. Прыпяць). Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Лунінец—Гомель. 28 гаспадарак, 68 жыхароў (2004 г.).

Засн. ў пач. 1920-х г. перасяленцамі з суседніх вёсак на былых памешчыцкіх землях. У 1931 г. арганізаваны калгас. У Вял. Айч. вайну 50 пасялкоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 203 жыхары. У складзе калгаса «Чырвоны будаўнік» (цэнтр — в. Слабада). Планіровачна складаецца з кароткай дугападобнай шыротнай вуліцы, забудаванай двухбакова драўлянымі сял. сядзібамі.

**СЛАВІНСК** — вёска ў Галубіцкім с/с, за 18 км на З ад Петрыкава, 19 км ад чыг. ст. Капцэвічы (на лініі Лунінец—Калінкавічы), 208 км ад Гомеля, на Пн і З мяжуе з лесам. Побач аўтадарога Жыткавічы—Петрыкаў. 31 гаспадарка, 53 жыхары (2004 г.).

Пачатак вёсцы паклаў фальварак памешчыка Кіневіча. Пасля рэформы 1861 г. яго землі па выканаўчых актах адышлі да сялян вёсак Гялены, Галубіца, Дарашэвічы, Снядзін, якія пачалі тут сяліцца. У 1931 г. арганізаваны калгас. Паводле перапісу 1959 г. 199 жыхароў. У 1972 г. да вёскі далучаны суседні пас. Слянзакі. У складзе саўгаса «Галубіцкі» (цэнтр — в. Галубіца). Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ. Забудова драўляная сядзібнага тыпу.

**СЛАВІНСК** — пасёлак у Галубіцкім с/с, за 19 км на З ад Петрыкава, 20 км ад чыг. ст. Капцэвічы (на лініі Лунінец—Калінкавічы), 209 км ад Гомеля, на р. Прыпяць (прыток р. Дняпро). Побач аўтадарога Петрыкаў—Жыткавічы. 19 гаспадарак, 33 жыхары (2004 г.).

Пачатак пасёлку паклаў гаспадарчы дом памешчыка Кіневіча (разбураны ў Вял. Айч. вайну) і парк (каля 8 га) пейзажнай планіроўкі. Тут, на былых памешчыцкіх землях, у пач. 1920-х г. сталі сяліцца перасяленцы з суседніх вёсак. У 1932 г. арганізаваны калгас. У Вял. Айч. вайну ў парку ням. акупанты стварылі ўмацаваны раён, які ў 1944 г. штурмаваў дэсант Прыпяцкай рачной флатыліі. 23 вяскоўцы загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 89 жыхароў. У складзе саўгаса «Галубіцкі» (цэнтр — в. Галубіца). Працуе клуб. Забудова бессістэмная, драўляная, сядзібнага тыпу.

**СЛІНКІ** — вёска ў Конкавіцкім с/с, за 15 км на У ад Петрыкава, 7 км ад чыг. ст. Муляраўка (на лініі Лунінец—Калінкавічы), 172 км ад Гомеля, на р. Бобрык (прыток р. Прыпяць), на Пн і З мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Лунінец—Гомель. 39 гаспадарак, 58 жыхароў (2004 г.).

Па пісьмовых крыніцах вядома з пач. 19 ст. як сяленне ў Петрыкаўскай вол. Мазырскага пав. Мінскай губ. Памешчык Прашынскі ў 1876 г. меў у вёсцы і наваколлі 1790 дзес. зямлі, млын і сукнавальню. Пад 1879 г. пазначана як сяленне ў Петрыкаўскім царк. прыходзе. Паводле перапісу 1897 г. 20 двароў, 122 жыхары. Побач быў аднайменны фальварак, 3 двары, 13 жыхароў. У 1917 г. ў вёсцы і фальварку 168 жыхароў. У 1925 г. 28 двароў. У 1930 г. арганізаваны калгас. У Вял. Айч. вайну 16 вяскоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 183 жыхары. У складзе калгаса імя У.І.Леніна (цэнтр — в. Конкавічы). Дзейнічаюць клуб, б-ка, фельч.-акушэрскі пункт. Планіровачна складаецца з выгнутай вуліцы блізкай да мерыдыянальнай арыентацыі, да якой з У далучаюцца 3, з З — 2 завулкі. Забудова пераважна аднабаковая, няшчыльная, драўляная, сядзібнага тыпу.

**СЛЯНЗАКІ** — вёска ў Петрыкаўскім с/с, за 9 км на З ад Петрыкава, 20 км ад чыг. ст. Муляраўка (на лініі Лунінец—Калінкавічы), 199 км ад Гомеля. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Жыткавічы—Петрыкаў. 12 гаспадарак, 12 жыхароў (2004 г.).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 19 ст. як сяленне ў Мазырскім пав. Мінскай губ. У 1908 г. засценак, 14 двароў, 88 жыхароў. Найбольш актыўная забудова прыпадае на 1920-я г. У 1932 г. арганізаваны калгас. У складзе саўгаса «Петрыкаўскі» (цэнтр — г. Петрыкаў). Жылыя дамы драўляныя сядзібнага тыпу.

**СМЯТАНІЧЫ** — вёска ў Муляраўскім с/с, за 16 км на Пн ад Петрыкава, 3 км ад чыг. ст. Муляраўка (на лініі Лунінец—Калінкавічы), 181 км ад Гомеля, на аўтадарозе Лунінец—Петрыкаў, на Пд меліярацыйныя каналы, у т. л. канава Лукіч, на Пн мяжуе з лесам. 155 гаспадарак, 352 жыхары (2004 г.).

Па пісьмовых крыніцах вядома з канца 17 ст. як сяленне ў Мазырскім пав. Мінскага ваяв. У інвентары 1700 г. ўпамінаецца ў ліку іншых вёсак павета. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1795 г. 24 двары, уладанне Хадкевічаў. У 1816 г. 26 двароў, у Петрыкаўскай вол. Пазначана на карце 1866 г., якой карысталася Зах. меліярацыйная экспедыцыя, што працавала ў гэтых месцах у 1890-я г. Пад 1879 г. упамінаецца ў Петрыкаўскім царк. прыходзе. Паводле перапісу 1897 г. 85 двароў, 508 жыхароў, царква, хлебазапасны магазін. У 1917 г. 683 жыхары. З 1923 г. дзейнічала школа. З 20.8.1924 г. да 3.1.1986 г. цэнтр Смятаніцкага с/с Петрыкаўскага р-на Мазырскай (да 26.7. 1930 і з 21.6.1935 да 20.2.1938) акругі, з 20.2.1938 г. Палескай, з 8.1.1954 г. Гомельскай абласцей. У 1930 г. арганізаваны калгас. У Вял. Айч. вайну ням. акупанты часткова спалілі вёску і загубілі 18 жыхароў. 62 вяскоўцы загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 596 жыхароў. У складзе калгаса «Бальшавік» (цэнтр — в. Курыцічы). Дзейнічаюць лясніцтва, сярэдняя школа, клуб, Дом рамёстваў, б-ка, фельч.-акушэрскі пункт, магазін. Планіровачна складаецца з 2 блізкіх да шыротнай арыентацыі вуліц, злучаных паміж сабой 3 завулкамі. Забудова двухбаковая, няшчыльная, драўляная сядзібнага тыпу.

**СНЯДЗІН** — вёска, цэнтр Снядзінскага с/с, за 15 км на ПдЗ ад Петрыкава, 27 км ад чыг. ст. Муляраўка (на лініі Лунінец—Калінкавічы), 205 км ад Гомеля, на р. Прыпяць (прыток р. Дняпро), праз

вёску праходзіць канава Залеская стрэлка, на Пд і З мяжуе з Прыпяцкім ландшафтна-экалагічным запаведнікам. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Жыткавічы—Калінкавічы. 118 гаспадарак, 218 жыхароў (2004 г.).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 15 ст. як в. Снядынь. Пазначана ў спісе рус. гарадоў дальніх і блізкіх за 1406 г. Была ва ўладанні езуітаў, казны, а ў 1777 г. прададзены біскупу віленскаму І.Масальскаму. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі, у Мазырскім пав. Мінскай губ. У 1795 г. Раства-Багародзіцкая царква пераўтворана з уніяцкай у праваслаўную. У сяле ў гэты час былі 54 двары. Па рэвізскіх матэрыялах 1816 г. 63 двары, 353 жыхары, у валоданні Кіневічаў. У 1834 г. 71 двор, 370 жыхароў. Кіневічы ў 1876 г. мелі 852 дзес. зямлі і млын. Дзейнічала прыстань на р. Прыпяць. Паводле перапісу 1897 г. 79 двароў, 589 жыхароў. З 1898 г. пачала працаваць школа. У 1908 г. 126 двароў, 785 жыхароў, у Ляскавіцкай вол. Мазырскага пав. У 1917 г. 870 жыхароў. З 20.8.1924 г. цэнтр Снядзінскага с/с Петрыкаўскага р-на Мазырскай (да 26.7. 1930 і з 21.6.1935 да 20.2.1938) акругі, з 20.2.1938 г. Палескай, з 8.1.1954 г. Гомельскай абласцей. У 1930 г. арганізаваны калгас «Новае жыццё», працаваў вадзяны млын. У 1940 г. 140 двароў. У Вял. Айч. вайну ў чэрв. 1943 г. ням. акупанты поўнасцю спалілі вёску і загубілі 60 жыхароў. У баях каля вёскі загінулі 19 воінаў і партызан (пахаваны ў брацкай магіле ў парку). 96 вяскоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 777 жыхароў. У складзе саўгаса «Галубіцкі» (цэнтр — в. Галубіца). Дзейнічаюць лясніцтва, швейная майстэрня, 9-гадовая школа, клуб, б-ка, аддз. сувязі, фельч.-акушэрскі пункт, 3 магазіны. Планіровачна складаецца з падзеленых канавай Залеская стрэлка дзвюх частак: усх. (3 кароткія, шчыльна паміж сабой пастаўленыя шыротныя вуліцы) і зах. (дугападобная мерыдыянальная вуліца з 2 завулкамі). Забудова двухбаковая, драўляная, сядзібнага тыпу.

**СОТНІЧЫ** — вёска ў Бабуніцкім с/с, за 11 км на Пн ад Петрыкава, 11 км ад чыг. ст. Муляраўка (на лініі Лунінец—Калінкавічы), 186 км ад Гомеля, на Пн меліярацыйныя каналы, на З мяжуе з лесам. Побач аўтадарога Лунінец—Калінкавічы. 32 гаспадаркі, 68 жыхароў (2004 г.).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 17 ст. як сяленне ў Мазырскім пав. Мінскага ваяв. У канцы 17 — пач. 18 ст. пабудавана царква, якая ў 1836 г. перанесена ў Петрыкаў, на могілкі. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. Пазначана на карце 1866 г., якой карысталася Зах. меліярацыйная экспедыцыя, што працавала ў гэтых мясцах у 1890-я г. Паводле перапісу 1897 г. 20 двароў, 155 жыхароў, хлебазапасны магазін. У 1908 г. 25 двароў, 211 жыхароў, у Петрыкаўскай вол. Мазырскага пав. У 1917 г. 278 жыхароў. У 1931 г. арганізаваны калгас. У Вял. Айч. вайну 27 вяскоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 164 жыхары. У складзе саўгаса «Запаветы Ільіча» (цэнтр — в. Бабунічы). Працуе фельч.-акушэрскі пункт. Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ, да якой на Пн далучаецца завулак. Жылыя дамы драўляныя сядзібнага тыпу.

**СТАРЫНА** — вёска ў Лучыцкім с/с, за 53 км на ПнУ ад Петрыкава, 42 км ад чыг. ст. Муляраўка (на лініі Лунінец—Калінкавічы), 204 км ад Гомеля, вакол лес. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Камаровічы—Капаткевічы. 9 гаспадарак, 13 жыхароў (2004 г.).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 19 ст. як сяленне ў Мазырскім пав. Мінскай губ. Пазначана як фальваркі Старына і Старынка на карце 1866 г., якой карыс-

талася Зах. меліярацыйная экспедыцыя, што працавала ў гэтых месцах у 1890-я г. Па рэвізскіх матэрыялах 1850 г. 10 двароў, 78 жыхароў, уладанне Абуховічаў. Пад 1879 г. упамінаецца як засценак. Паводле перапісу 1897 г. 13 двароў, 89 жыхароў, у Капаткевіцкай вол. У 1921 г. 15 двароў, 96 жыхароў. У 1917 г. адкрыта школа, якая размяшчалася ў наёмнай сял. хаце. У 1931 г. арганізаваны калгас «Рухавік», працавалі 2 кузні. У Вял. Айч. вайну 24 вяскоўцы загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 204 жыхары. У складзе калгаса «Новы шлях» (цэнтр — в. Кашэвічы). Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ і забудаванай рэдка драўлянымі сял. сядзібамі. Радзіма ген.-палк. П.Р.Чавуса.

**СТАРЫЯ ГАЛОЎЧЫЦЫ** — вёска ў Навасёлкаўскім с/с, за 53 км на Пн ад Петрыкава, 42 км ад чыг. ст. Муляраўка (на лініі Лунінец—Калінкавічы), 204 км ад Гомеля, на З сетка меліярацыйных каналаў, на У мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Камаровічы—Капаткевічы. 60 гаспадарак, 105 жыхароў (2004 г.).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 18 ст. як в. Галоўчыцы ў Мазырскім пав. Мінскага ваяв. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. Вёска хутка расла. У 1908 г. 114 двароў, 704 жыхары, у Камаровіцкай вол. Мазырскага пав. Мінскай губ. У 1910 г. адкрыта школа, якая размяшчалася ў наёмнай сял. хаце. У 1930 г. арганізаваны калгас. У Вял. Айч. вайну партызаны разграмілі апорны пункт, які ў вёсцы стварылі ням. акупанты. 62 вяскоўцы загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 416 жыхароў. У складзе саўгаса «Навасёлкі» (цэнтр — в. Навасёлкі). Планіровачна складаецца з прамалінейнай шыротнай вуліцы. На З — невял. адасоблены ўчастак забудовы. Жылыя дамы драўляныя сядзібнага тыпу.

**СТАРЫЯ КАЦУРЫ** — вёска ў Мышанскім с/с, за 43 км на У ад Петрыкава, 2 км ад чыг. ст. Мышанка (на лініі Калінкавічы—Лунінец), 152 км ад Гомеля, на р. Старая Пціч (прыток р. Прыпяць). Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Гомель—Лунінец. 30 гаспадарак, 41 жыхар (2004 г.).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 19 ст. як вёска ў Мазырскім пав. Мінскай губ. У 1908 г. 46 двароў, 289 жыхароў, у Слабода-Скрыгалаўскай вол. У 1930 г. арганізаваны калгас. У Вял. Айч. вайну 24 вяскоўцы загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 314 жыхароў. У складзе саўгаса «Мышанка» (цэнтр — в. Мышанка). Планіровачна складаецца з кароткай прамалінейнай мерыдыянальнай вуліцы, забудаванай няшчыльна драўлянымі сял. сядзібамі.

**СУДЗІБАР** — вёска ў Снядзінскім с/с, за 26 км на ПнЗ ад Петрыкава, 40 км ад чыг. ст. Муляраўка (на лініі Лунінец—Калінкавічы), 216 км ад Гомеля, вакол лес, на тэр. Прыпяцкага ландшафтна-экалагічнага запаведніка. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Жыткавічы—Петрыкаў. 1 гаспадарка, 3 жыхары (2004 г.).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 19 ст. як сяленне ў Ляскавіцкай вол. Мазырскага пав. Мінскай губ. Паводле перапісу 1897 г. 2 двары, 9 жыхароў. У 1908 г. — 35, у 1917 г. — 81 жыхар. У 1931 г. арганізаваны калгас. У 1940 г. 26 двароў, 107 жыхароў. У Вял. Айч. вайну ў чэрв. 1943 г. ням. акупанты поўнасцю спалілі вёску і загубілі 2 жыхароў. 14 вяскоўцаў загінулі на франтах Вял. Айч. вайны. Паводле перапісу 1959 г. 117 жыхароў. У складзе саўгаса «Галубіцкі» (цэнтр — в. Галубіца). Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы блізкай да шыротнай арыентацыі. Забудова драўляная сядзібнага тыпу.

**СЯКЕРЫЧЫ** — вёска ў Колкаўскім с/с, за 62 км на ПнУ ад Петрыкава, 38 км

ад чыг. ст. Пціч (на лініі Лунінец—Калінкавічы), 191 км ад Гомеля, на Пн і З меліярацыйныя каналы, на Пд мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Камаровічы—Пціч. 97 гаспадарак, 219 жыхароў (2004 г.).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 16 ст. як сяло ў Мазырскім пав. Мінскага ваяв. ВКЛ, велікакняжацкая ўласнасць. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1795 г. 26 двароў, у Мазырскім пав. Мінскай губ. Пазначана на карце 1866 г., якой карысталася Зах. меліярацыйная экспедыцыя, што працавала ў гэтых месцах у 1890-я г. Пад 1879 г. пазначана ў Колкаўскім царк. прыходзе. У 1908 г. 57 двароў, 552 жыхары, у Крукавіцкай вол. Рэчыцкага пав. У 1925 г. 146 двароў. У 1930 г. арганізаваны калгас «Чырвоная вёска», працавала кузня. У 1936 г. ў вёску пераселены жыхары суседніх хутароў Заямнае, Ляды, Томары і пас. Хутар. У Вял. Айч. вайну 80 жыхароў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 467 жыхароў. У складзе калгаса імя У.І.Леніна (цэнтр — в. Колкі). Дзейнічаюць 9-гадовая школа, фельч.-акушэрскі пункт. Планіровачна складаецца з выгнутай вуліцы, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ, да якой з Пд далучаюцца 2 кароткія вуліцы. Забудова двухбаковая, драўляная, сядзібнага тыпу. Радзіма засл. настаўніка Беларусі А.І.Цалко.

**СЯРЭДНЯЯ РУДНЯ** — вёска ў Муляраўскім с/с, за 10 км на Пн ад Петрыкава, 2 км ад чыг. ст. Муляраўка (на лініі Лунінец—Калінкавічы), 180 км ад Гомеля, на р. Бобрык (прыток р. Прыпяць). Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Лунінец—Гомель. 67 гаспадарак, 160 жыхароў (2004 г.).

Па пісьмовых крыніцах вядома з пач. 19 ст. як вёска ў Мазырскім пав. Мінскай губ. У 1816 г. 10 двароў, уладанне графа Хадкевіча. Пазначана на карце 1866 г., якой карысталася Зах. меліярацыйная экспедыцыя, што працавала ў гэтых месцах у 1890-я г. Пад 1879 г. пазначана ў Петрыкаўскай царк. прыходзе. Паводле перапісу 1897 г. 25 двароў, 129 жыхароў. У 1908 г. 27 двароў, 160 жыхароў, у Петрыкаўскай вол. Мазырскага пав. У 1917 г. 177 жыхароў. У 1925 г. 29 двароў. У 1931 г. арганізаваны калгас. У Вял. Айч. вайну 20 вяскоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 228 жыхароў. У складзе калгаса «Чырвоны будаўнік» (цэнтр — в. Слабада). Размешчаны клуб. Планіровачна складаецца з дугападобнай мерыдыянальнай вуліцы, да цэнтра якой з У далучаецца кароткая прамалінейная вуліца. Забудова двухбаковая, няшчыльная, драўляная, сядзібнага тыпу.

**ТАРГАШЫН** — вёска ў Снядзінскім с/с, за 23 км на ПдЗ ад Петрыкава, 35 км ад чыг. ст. Муляраўка (на лініі Лунінец—Калінкавічы), 213 км ад Гомеля, вакол лес, на Пд і З мяжуе з Прыпяцкім ландшафтна-гідралагічным запаведнікам. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Жыткавічы—Петрыкаў. 6 гаспадарак, 11 жыхароў (2004 г.).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 19 ст. як сяленне ў Ляскавіцкай вол. Мазырскага пав. Мінскай губ. Паводле перапісу 1897 г. хутар, 4 двары, 26 жыхароў. У 1908 г. 7 двароў, 45 жыхароў, у 1917 г. 62 жыхары. У 1932 г. арганізаваны калгас. У 1940 г. 27 двароў, 89 жыхароў. У Вял. Айч. вайну ням. акупанты ў чэрв. 1943 г. поўнасцю спалілі вёску і загубілі 11 жыхароў. 18 вяскоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 97 жыхароў. У складзе саўгаса «Галубіцкі» (цэнтр — в. Галубіца). Планіровачна складаецца з кароткай, крыху выгнутай, шыротнай вуліцы, забудаванай драўлянымі сял. сядзібамі.

**ТРЭМЛЯ** — вёска ў Капаткевіцкім пасялковым Савеце, за 41 км на ПнУ ад Петрыкава, 12 км ад чыг. ст. Пціч (на лі-

ніі Лунінец—Калінкавічы), 157 км ад Гомеля, на Пн і Пд вадаёмы рыбгаса, на У і З мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Лунінец—Гомель. 30 гаспадарак, 68 жыхароў (2004 г.).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 2-й пал. 19 ст. як сяленне ў Рудабельскай вол. Бабруйскага пав. Паводле перапісу 1897 г. 4 двары, 17 жыхароў, вадзяны млын. У 1917 г. 109 жыхароў. У 1931 г. арганізаваны калгас. У 1940 г. 50 двароў, 167 жыхароў. У Вял. Айч. вайну ў ліп. 1943 г. ням. акупанты спалілі 47 двароў і загубілі 7 жыхароў. У баях за вёску і наваколле загінулі 202 воіны і партызаны (пахаваны ў брацкіх магілах каля адм. будынка рыбкамбіната «Трэмля», за 1 км на З і ў цэнтры вёскі). 6 вяскоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 131 жыхар. Размешчана рыбная гаспадарка «Трэмля». Планіровачна складаецца з дугападобнай мерыдыянальнай вуліцы, да якой з З далучаюцца кароткія вуліцы, злучаныя паміж сабой завулкамі. Гаспадарчыя і жылыя будынкі пераважна драўляныя сядзібнага тыпу.

**ТУРОК** — вёска ў Галубіцкім с/с, за 11 км на З ад Петрыкава, 23 км ад чыг. ст. Муляраўка (на лініі Лунінец—Калінкавічы), 201 км ад Гомеля, на Пд пойма р. Прыпяць і возера Загроба. Побач аўтадарога Жыткавічы—Петрыкаў. 134 гаспадаркі, 269 жыхароў (2004 г.).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 18 ст. як сяло ў валоданні езуітаў, казны, у 1777 г. прададзена віленскаму біскупу І.Масальскаму. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1795 г. 32 двары. Па рэвізскіх матэрыялах 1816 г. 158 жыхароў, уладанне Кіневічаў. У 1834 г. 36 двароў, 175 жыхароў. Афіцэры Ген. штаба рас. арміі, якія наведвалі гэтыя месцы ў 1860-я г., у сваіх запісах адзначалі непрыкметнасць і нязначнасць гэтай вёскі. Паводле перапісу 1897 г. 61 двор, 428 жыхароў, капліца. У 1908 г. 78 двароў, 486 жыхароў, у Ляскавіцкай вол. Мазырскага пав. З 1908 г. дзейнічала школа, якая размяшчалася ў наёмнай сял. хаце. У 1917 г. 562 жыхары. У 1925 г. 93 двары. У 1931 г. арганізаваны калгас «Чырвоны прамень», працавала кузня. У Вял. Айч. вайну 67 вяскоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 812 жыхароў. У складзе саўгаса «Галубіцкі» (цэнтр — в. Галубіца). Працуюць клуб, падсобная гаспадарка нац. парку «Прыпяцкі», пач. школа, б-ка, фельч.-акушэрскі пункт. Планіровачна складаецца з прамалінейнай шыротнай вуліцы, да якой на З далучаецца кароткая прамалінейная вуліца. На Пн да цэнтра асн. вуліцы далучаецца кароткая прамалінейная вуліца. Забудова двухбаковая, драўляная, сядзібнага тыпу. Радзіма кавалера ордэна Славы 3-х ступеней Р.Я.Караля.

**ФАСТАВІЧЫ** — вёска ў Камаровіцкім с/с, за 62 км на Пн ад Петрыкава, 49 км ад чыг. ст. Муляраўка (на лініі Лунінец—Калінкавічы), 212 км ад Гомеля, на паўд. ускраіне старое русла р. Арэса, на З і У сетка меліярацыйных каналаў. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Камаровічы—Капаткевічы. 88 гаспадарак, 174 жыхары (2004 г.).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 16 ст. як в. Хвастовічы ў Мазырскім пав. Мінскага ваяв. ВКЛ. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1834 г. ў Тураўскім казённым маёнтку, 19 двароў, 89 жыхароў, цэнтр староства. У 1850 г. 101 жыхар, уласнасць казны. Пазначана на карце 1866 г., якой карысталася Зах. меліярацыйная экспедыцыя, што працавала ў гэтых месцах у 1890-я г. Пад 1879 г. пазначана ў Камаровіцкім царк. прыходзе. У 1885 г. 176 жыхароў, царква, 2 вадзяныя млыны, у Камаровіцкай вол. Мазырскага пав. Мінскай губ. У 1908 г. 61 двор, 415 жыхароў, у 1917 г. 547 жыха-

роў. У 1921 г. 122 двары, 597 жыхароў. У 1923 г. адкрыта школа, якая размяшчалася ў наёмнай сял. хаце. У 1930 г. арганізаваны калгас «Савецкая Беларусь», працавалі паравы млын і кузня. У 1940 г. 150 двароў, 604 жыхары. У Вял. Айч. вайну тут базіраваліся партызаны і падп. друкарня. У сак. 1943 г. ням. акупанты поўнасцю спалілі вёску і загубілі 20 жыхароў. 55 вяскоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 612 жыхароў. У складзе саўгаса «Камаровічы» (цэнтр — в. Камаровічы). Дзейнічаюць аддз. сувязі, 9-гадовая школа, б-ка, фельч.-акушэрскі пункт. Планіровачна складаецца з 2 крывалінейных вуліц (адна працяглая, другая кароткая), амаль паралельных паміж сабой і арыентаваных з ПдЗ на ПнУ. Забудова двухбаковая, няшчыльная, драўляная, сядзібнага тыпу.



*А.Я.Ліпуной.*

**ФІЛАТАЎКА** — вёска ў Лучыцкім с/с, за 51 км на ПнУ ад Петрыкава, 40 км ад чыг. ст. Муляраўка (на лініі Лунінец—Калінкавічы), 202 км ад Гомеля, на У і З мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Камаровічы—Капаткевічы. 6 гаспадарак, 10 жыхароў (2004 г.).

Засн. ў пач. 1920-х г. перасяленцамі з суседніх вёсак на былых памешчыцкіх землях. У 1931 г. арганізаваны калгас. У Вял. Айч. вайну партызаны разграмілі апорны пункт, які ў вёсцы стварылі ням. акупанты. 7 вяскоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 103 жыхары. У складзе калгаса «Новы шлях» (цэнтр — в. Кашэвічы). Драўляныя сял. сядзібы пастаўлены каля прасёлачнай дарогі. Радзіма засл. настаўніка Беларусі В.А.Тарасевіча.

**ФІЛІПАВІЧЫ** — вёска ў Навасёлкаўскім с/с, за 49 км на Пн ад Петрыкава, 38 км ад чыг. ст. Муляраўка (на лініі Лунінец—Калінкавічы), 200 км ад Гомеля, на Пд і Пн мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Камаровічы—Капаткевічы. 59 гаспадарак, 121 жыхар (2004 г.).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 16 ст. як сяленне ў Мінскім ваяв. У 1568 г. сяло, 5 службаў, у Мазырскай вол. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1816 г. 18 двароў, 98 жыхароў, уладанне памешчыка Л.Е.Богуша. Пазначана на карце 1866 г., якой карысталася Зах. меліярацыйная экспедыцыя, што працавала ў гэтых месцах у 1890-я г. Паводле перапісу 1897 г. 51 двор, 327 жыхароў, капліца, хлебазапасны магазін. У 1908 г. 82 двары, 433 жыхары, у Камаровіцкай вол. Мазырскага пав. У 1917 г. ў вёсцы — 491, у фальварку — 102 жыхары. У 1925 г. ў вёсцы і двух фальварках 99 двароў. У 1931 г. арганізаваны калгас «Камінтэрн», працавалі лесазавод (з 1908), ваўначоска. 64 вяскоўцы загінулі на франтах Вял. Айч. вайны. Паводле перапісу 1959 г. 492 жыхары. У складзе саўгаса «Навасёлкі» (цэнтр — в. Навасёлкі). Працуюць пач. школа, б-ка, школа-сад. Планіровачна складаецца з амаль прамалінейнай вуліцы блізкай да шыротнай арыентацыі, на Пн ад якой праходзіць кароткая прамалінейная вуліца, злучаная з асноўнай завулкам. Забудова драўляная сядзібнага тыпу.

**ХВОЙНЯ** — вёска ў Лучыцкім с/с, за 65 км на ПнУ ад Петрыкава, 42 км ад чыг. ст. Пціч (на лініі Лунінец—Калінкавічы), 205 км ад Гомеля, у сутоку р. Пціч і яе прытока р. Няслаўка. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Навасёлкі—Капаткевічы. 28 гаспадарак, 40 жыхароў (2004 г.).

Выяўленыя археолагамі гарадзішчы (за 1 км на ПдУ і 2 км на У ад вёскі) сведчаць пра засяленне тутэйшых мясцін з глыбокай старажытнасці. Па пісьмовых крыніцах вядома з 16 ст. як сяло ў Мазырскім пав. Мінскага ваяв. ВКЛ, велікакняжацкая ўласнасць. Пад 1567 г. пазначана ў метрыцы караля Жыгімонта II

Аўгуста як сяленне ў Мазырскай вол., перададзенае ў валоданне Ю.Д.Кашкарову. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. Па рэвізскіх матэрыялах 1816 г. 195 жыхароў, у складзе маёнтка Лучыцы, уладанне памешчыка Ф.Яленскага. У 1834 г. 34 двары, 237 жыхароў. Пазначана на карце 1866 г., якой карысталася Зах. меліярацыйная экспедыцыя, што працавала ў гэтых месцах у 1890-я г. Дзейнічала царква. У 1907 г. адкрыта царк.-прыходская школа, якая размяшчалася ў наёмнай сял. хаце. У 1908 г. 147 двароў, 858 жыхароў, у Лучыцкай вол. Мазырскага пав. У 1917 г. 984 жыхары. У 1921 г. ў вёсцы і на суседніх хутарах 205 двароў, 1015 жыхароў. У 1930 г. арганізаваны калгас. У 1940 г. 284 двары, 1485 жыхароў. У Вял. Айч. вайну 29.3.1942 г. ням. акупанты загубілі 2078 жыхароў, у т. л. 1412 жыхароў з в. Хвойня (пахаваны ў 3 магілах ахвяр фашызму — на ўсх. ускраіне і 2 магілах на паўд. ускраіне). У баях каля вёскі загінулі 9 воінаў і партызан (пахаваны ў брацкай магіле на могілках). 19 вяскоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 212 жыхароў. У складзе калгаса «Шлях да камунізму» (цэнтр — в. Лучыцы). Дзейнічае фельч.-акушэрскі пункт. Планіровачна складаецца з крывалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ і забудаванай няшчыльна драўлянымі сял. сядзібамі. Радзіма Героя Сав. Саюза А.Я.Ліпунова. Яго імя носіць адна з вуліц у г. Петрыкаў.

**ХУСНАЕ** — вёска ў Пціцкім с/с, за 33 км на ПнУ ад Петрыкава, 3 км ад чыг. ст. Пціч (на лініі Лунінец—Калінкавічы), 157 км ад Гомеля, на У безымянная рака, утвораная Старым і Новым рыбгаснымі каналамі (упадае ў р. Пціч), на З мяжуе з лесам. Побач аўтадарога Лунінец—Гомель. 64 гаспадаркі, 118 жыхароў (2004 г.).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 18 ст. як сяленне ў Мазырскім пав. Мінскага ваяв. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1811 г. 17 двароў, уладанне Аскеркаў. У 1834 г. 20 двароў, 145 жыхароў. Па рэвізскіх матэрыялах 1858 г. 26 двароў, 170 жыхароў, уласнасць казны. Пазначана на карце 1866 г., якой карысталася Зах. ме-





*Помнік на магіле ахвяр фашызму ў в. Хвойня.*

*Помнік на брацкай магіле савецкіх воінаў і партызан у в. Хуснае.*

ліярацыйная экспедыцыя, што працавала ў гэтых месцах у 1890-я г. Пад 1879 г. пазначана ў Капаткевіцкім царк. прыходзе. Паводле перапісу 1897 г. 84 двары, 505 жыхароў. У 1908 г. 100 двароў, 663 жыхары, у Капаткевіцкай вол. Мазырскага пав. Мінскай губ. У 1910 г. адкрыта земская школа, для якой у тым жа годзе пабудаваны будынак. У 1921 г. 130 двароў, 845 жыхароў. У 1930 г. арганізаваны калгас. У 1940 г. 195 двароў. У Вял. Айч. вайну ў чэрв. 1942 г. ням. акупанты поўнасцю спалілі вёску і загубілі 99 жыхароў. У маі 1944 г. жыхары вёскі, якая знаходзілася ў прыфрантавой паласе, у мэтах бяспекі былі пераселены ў в. Аляксандраўка (Калінкавіцкі р-н), дзе яны размяшчаліся да пачатку ваен. аперацыі «Баграціён». У баях за вёску і наваколле загінулі 866 воінаў і партызан (пахаваны ў брацкай магіле ў цэнтры). 84 вяскоўцы загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 604 жыхары. У складзе калгаса «40 гадоў Кастрычніка» (цэнтр — в. Пціч). Дзейнічаюць аддз. сувязі, клуб, пач. школа, б-ка. Планіровачна складаецца з дробных кварталаў, утвораных 2 працяглымі вуліцамі, арыентаванымі з ПдУ на ПнЗ і перакрыжаванымі пад прамым вуглом кароткімі прамалінейнымі вуліцамі. Забудова пераважна драўляная сядзібнага тыпу.

**ЦЕРАБАЎ** — вёска ў Мышанскім с/с, за 36 км на ПнУ ад Петрыкава, 10 км ад чыг. ст. Мышанка (на лініі Лунінец—Калінкавічы), 170 км ад Гомеля, на р. Трэмля (прыток р. Прыпяць). Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Лунінец—Калінкавічы. 187 гаспадарак, 334 жыхары (2004 г.).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 18 ст. як вёска ў Мазырскім пав. Мінскага ваяв. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1795 г. 45 двароў, дзейнічала царква. У 1816 г. 271 жыхар. Пазначана на карце 1866 г., якой карысталася Зах. меліярацыйная экспедыцыя, што працавала ў гэтых месцах у 1890-я г. Непадалёку, на Пд, было сяленне Малы Церабаў. У 1871 г. будынак царквы перабудаваны. На могілках мелася капліца. Паводле перапісу 1897 г. 83 двары, 546 жыхароў. У 1906 г. вяскоўцы (да 300 чал.) аказалі ўзброенае супраціўленне паліцыі, якая, абараняючы інтарэсы памешчыка Ісакава, не дазваляла сялянам пасвіць сваю жывёлу на спрэчных участках лугоў. У 1908 г. 116 двароў, 690 жыхароў, у Капаткевіцкай вол. Мазырскага пав. У 1912 г. адкрыта земская школа, якая размяшчалася ў наёмнай сял. хаце. У 1917 г. 887 жыхароў. У 1921 г. 165 двароў, 985 жыхароў. З 20.8.1924 г. да 16.7.1954 г. цэнтр Церабаўскага с/с Капаткевіцкага, з 8.7.1931 г. Мазырскага, з 12.2.1935 г. Капаткевіцкага раёнаў Мазырскай (да 26.7.1930 і з 21.6.1935 да 20.2.1938) акругі, з 20.2.1938 г. Палескай, з 8.1.1954 г. Гомельскай абласцей. У 1930 г. арганізаваны калгас. Дзейнічала пач. школа (у 1935 — 158 вучняў). У Вял. Айч. вайну 17.8.1941 г. з байцоў Капаткевіцкага знішчальнага батальёна створаны Капаткевіцкі партыз. атрад. У баях каля вёскі загінулі 144 воіны (пахаваны ў брацкай магіле каля школы). У маі 1944 г. жыхары вёскі, якая знаходзілася ў прыфрантавой паласе, у мэтах іх бяспекі былі пераселены ў в. Сырод (Калінкавіцкі р-н) да пачатку аперацыі «Баграціён». 124 вяскоўцы загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 895 жыхароў. У складзе саўгаса «Мышанка» (цэнтр — в. Мышанка). Дзейнічаюць адз. сувязі, клуб, 9-гадовая школа, б-ка, фельч.-акушэрскі пункт. Планіровачна складаецца з падзеленых ракой дзвюх частак: усх. (выгнутая мерыдыянальная вуліца ўздоўж ракі) і зах. (2 выгнутыя, шчыльна паміж сабой пастаўленыя, блізкай да мерыдыянальнай арыентацыі вуліцы). Забудова драўляная сядзібнага тыпу.

**ЦЕРАБЕНЬ** — вёска ў Грабаўскім с/с, за 25 км на ПнЗ ад Петрыкава, 12 км ад

чыг. ст. Капцэвічы (на лініі Лунінец—Калінкавічы), 190 км ад Гомеля, на У Міхедава-Грабаўскі канал, на Пд, Пн і З мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Лунінец—Калінкавічы. 1 гаспадарка, 1 жыхар (2004 г.).

Па пісьмовых крыніцах вядома з пач. 20 ст. як сяленне ў Грабаўскай вол. Мазырскага пав. Мінскай губ. У 1908 г. 8 двароў, 51 жыхар. Побач было аднайменнае ўрочышча, 1 двор, 21 жыхар. У 1921 г. 14 двароў, 84 жыхары. У 1931 г. арганізаваны калгас. У 1940 г. 19 двароў. У Вял. Айч. вайну ў ліст. 1942 г. ням. акупанты поўнасцю спалілі вёску і загубілі 5 жыхароў. 6 вяскоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 64 жыхары. У складзе калгаса «Перамога» (цэнтр — в. Грабаў). Забудова драўляная сядзібнага тыпу. Радзіма засл. настаўніка Беларусі А.Дз.Крукоўскага.

**ЧАЛЮШЧАВІЧЫ** — вёска, цэнтр Чалюшчавіцкага с/с, за 40 км на ПнУ ад Петрыкава, 23 км ад чыг. ст. Пціч (на лініі Лунінец—Калінкавічы), 184 км ад Гомеля, на аўтадарозе Камаровічы—Капаткевічы. Праз вёску праходзіць меліярацыйны канал, злучаны з р. Пціч. 286 гаспадарак, 643 жыхары (2004 г.).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 16 ст. як сяло на дарозе Петрыкаў—Бабруйск, у Мазырскім пав. Мінскага ваяв. ВКЛ. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1816 г. 30 двароў. У 1834 г. 130 жыхароў, уладанне памешчыка Левандоўскага, які ў 1876 г. валодаў 795 дзес. зямлі. Дзейнічала Міхайлаўская царква (у ёй захоўваліся метрычныя кнігі з 1830). У 1838 г. замест састарэлага пабудаваны новы драўляны (на мураваным фундаменце) будынак царквы (згарэла ў 1900). Сярод царк. рэчаў звяртаў на сябе ўвагу перламутравы крыж, прывезены з Палесціны. Па рэвізскіх матэрыялах 1850 г. 213 жыхароў. У 1886 г. 32 двары, 276 жыхароў, у 1886 г. 47 двароў, 324 жыхары, дзягцярны з-д. Паводле перапісу 1897 г. 108 двароў, 513 жыхароў, хлебазапасны магазін. Па суседстве знаходзіўся аднайменны фальварак з вінакурняй. У 1905 г. адкрыта школа, якая размяшчалася ў наёмнай сял. хаце, а ў 1907 г. для яе пабудавана ўласнае памяшканне. У 1908 г. 593 жыхары, у Капаткевіцкай вол. Мазырскага пав. Мінскай губ. У 1917 г. 684 жыхары. У 1921 г. 153 двары, 815 жыхароў. З 20.8.1924 г. цэнтр Чалюшчавіцкага с/с Капаткевіцкага, з 8.7.1931 г. Петрыкаўскага, з 12.2.1935 г. Капаткевіцкага, з 25.12. 1962 г. Петрыкаўскага раёнаў Мазырскай (да 26.7.1930 і з 21.6.1935 да 20.2.1938) акругі, з 20.2.1938 г. Палескай, з 8.1.1954 г. Гомельскай абласцей. У 1930 г. арганізаваны калгас, працавалі кузня і вінакурня. У 1940 г. 268 двароў, 1210 жыхароў. У Вял. Айч. вайну партызаны разграмілі апорны пункт, які стварылі ў вёсцы ням. акупанты. У чэрв. 1942 г. карнікі поўнасцю спалілі вёску і загубілі 203 жыхары. 149 вяскоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 327 жыхароў. У 1974 г. да вёскі далучана в. Зарэчка. Цэнтр саўгаса «Чалюшчавічы». Працуюць сярэдняя школа, Дом культуры, б-ка, дзіцячыя сад-яслі, фельч.-акушэрскі пункт, аддз. сувязі, швейная і шавецкая майстэрні, дзіцячы сад, сталовая, 2 магазіны. Планіровачна складаецца з 3 прамалінейных блізкай да шыротнай арыентацыі вуліц, злучаных завулкамі і забудаваных двухбакова пераважна драўлянымі сял. сядзібамі. Радзіма дзярж. дзеяча Беларусі Н.М.Мазай (была нам. Старшыні Савета Міністраў БССР, нам. міністра замежных спраў Рэспублікі Беларусь, паслом Беларусі ў Францыі і Канадзе).

У склад Чалюшчавіцкага с/с уваходзілі вёскі да 1974 г. — Зарэчка, да 1995 г. — Перабітая Гара (не існуюць).

**ЧАРНОЦКАЕ** — вёска ў Петрыкаўскім с/с, за 13 км на У ад Петрыкава, 14

км ад чыг. ст. Муляраўка (на лініі Лунінец—Калінкавічы), 204 км ад Гомеля, на Пн р. Прыпяць (прыток р. Дняпро), на Пд мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарогах, якія адыходзяць ад Петрыкава. 17 гаспадарак, 46 жыхароў (2004 г.).

Засн. ў пач. 20 ст. перасяленцамі з суседніх вёсак. У 1925 г. 26 двароў. У 1932 г. арганізаваны калгас. 21 вясковец загінуў на франтах Вял. Айч. вайны. Паводле перапісу 1959 г. 164 жыхары. У складзе саўгаса «Прыпяцкі» (цэнтр — в. Вялаўск). Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ. Забудавана рэдка драўлянымі сял. сядзібамі.

**ЧЫРВОНАЯ ГОРКА** (да 1932 Двор Левандоўскага) — вёска ў Чалюшчавіцкім с/с, за 40 км на ПнУ ад Петрыкава, 23 км ад чыг. ст. Пціч (на лініі Лунінец—Калінкавічы), 180 км ад Гомеля. Побач аўтадарога Камаровічы—Капаткевічы. 31 гаспадарка, 64 жыхары (2004 г.).

Засн. ў 19 ст., калі памешчык Левандоўскі пабудаваў тут сваю сядзібу. Актыўная забудова адносіцца да 1920-х г. У 1931 г. арганізаваны калгас, працавалі кузня і стальмашня. У 1940 г. 50 двароў, 173 жыхары. У Вял. Айч. вайну ў чэрв. 1942 г. ням. акупанты поўнасцю спалілі вёску і загубілі 25 жыхароў. У складзе саўгаса «Чалюшчавічы» (цэнтр — в. Чалюшчавічы). Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ, якая пад прамым вуглом далучаецца да цэнтра кароткай прамалінейнай вуліцы. Забудова няшчыльная, драўляная, сядзібнага тыпу.

**ЧЫРВОНЫ** — пасёлак у Лучыцкім с/с, за 60 км на ПнУ ад Петрыкава, 37 км ад чыг. ст. Пціч (на лініі Лунінец—Калінкавічы), 199 км ад Гомеля. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Навасёлкі—Капаткевічы. 6 гаспадарак, 9 жыхароў (2004 г.).

Засн. ў пач. 1920-х г. перасяленцамі з суседніх вёсак на былых памешчыцкіх землях. У 1931 г. арганізаваны калгас. Паводле перапісу 1959 г. 85 жыхароў. У складзе калгаса «Шлях да камунізму» (цэнтр — в. Лучыцы). Планіровачна складаецца з кароткай вуліцы блізкай да шыротнай арыентацыі. Жылыя дамы драўляныя сядзібнага тыпу.

**ШАСТОВІЦКІ** — пасёлак у Петрыкаўскім с/с, за 18 км на ПдУ ад Петрыкава, 20 км ад чыг. ст. Муляраўка (на лініі Лунінец—Калінкавічы), 208 км ад Гомеля, на Пд і Пн мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Лунінец—Гомель. 45 гаспадарак, 58 жыхароў (2004 г.).

Засн. ў пач. 1920-х г. перасяленцамі з суседніх вёсак (пераважна з в. Шастовічы) на былых памешчыцкіх землях. У 1932 г. арганізаваны калгас. 9 пасялкоўцаў загінулі на франтах Вял. Айч. вайны. У складзе саўгаса «Прыпяцкі» (цэнтр — в. Вялаўск). Планіровачна складаецца з 2 крыху выгнутых вуліц, злучаных 2 завулкамі і арыентаваных з ПдУ на ПнЗ. Забудавана двухбакова, рэдка драўлянымі сял. сядзібамі.

**ШАСТОВІЧЫ** — вёска ў Петрыкаўскім с/с, за 17 км на ПдУ ад Петрыкава, 18 км ад чыг. ст. Муляраўка (на лініі Лунінец—Калінкавічы), 206 км ад Гомеля, на р. Скалодзіна (прыток р. Прыпяць), на Пд мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Лунінец—Гомель. 55 гаспадарак, 85 жыхароў (2004 г.).

Выяўлены археолагамі курганны могільнік (19 насыпаў, за 2 км на ПнЗ ад вёскі) сведчыць пра засяленне тутэйшых мясцін з далёкай старажытнасці. Па пісьмовых крыніцах вядома з пач. 16 ст. як сяло, якое кароль Жыгімонт I дараваў кн. К.І.Астрожскаму, уваходзіла ў Мазырскі пав. Мінскага ваяв. ВКЛ. Пазней была ў валоданні езуітаў, казны, у 1777 г. прададзена біскупу віленскаму

І.Масальскаму. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1795 г. — 27, у 1834 г. — 32 двары. Пад 1879 г. пазначана ў Скрыгалаўскім царк. прыходзе. Паводле перапісу 1897 г. 78 двароў, 488 жыхароў. У 1905 г. адкрыта школа, якая размяшчалася ў наёмнай сял. хаце. У 1908 г. 92 двары, 586 жыхароў, у Слабода-Скрыгалаўскай вол. Мазырскага пав. У 1917 г. 684 жыхары. У 1925 г. 135 двароў. У 1930 г. арганізаваны калгас. У Вял. Айч. вайну ў 1943 г. ням. акупанты загубілі 25 жыхароў (пахаваны ў магіле ахвяр фашызму на могілках). У баях каля вёскі загінулі 18 воінаў і партызан (пахаваны ў брацкай магіле каля клуба). 67 вяскоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 601 жыхар. У складзе саўгаса «Прыпяцкі» (цэнтр — в. Вялаўск). Размешчаны фельч.-акушэрскі пункт. Планіровачна складаецца з 2 выгнутых вуліц амаль шыротнай і мерыдыянальнай арыентацыі, да якіх на З далучаецца шчыльна забудаваны ўчастак. Жылыя дамы драўляныя сядзібнага тыпу. Радзіма супрацоўніка міліцыі г. Мазыр М.А.Марціновіча, які загінуў пры затрыманні небяспечных злачынцаў, яго імем названа вуліца ў Мазыры.

**КРЫНІЦЫ І ЛІТАРАТУРА**


Дзяржаўны архіў Мінскай вобласці, ф. 311, спр. 249.
Нацыянальны архіў Рэспублікі Беларусь, ф. 30, воп. 2, спр. 991; воп. 4, спр. 167; воп. 5, спр. 6755; ф. 31, воп. 1, спр. 856; ф. 42, воп. 1, спр. 1737; воп. 2, спр. 985, 986, 989, 994, 996, 999, 1000, 1003, 1004, 1710, 1718, 1725, 1726, 1740, 1741, 1742, 1744, 1747, 1748, 1781, 1785, 1799, 4487, 4490, 4494, 4501, 4508, 4546, 4547, 4549, 4550, 4554, 4555, 4556, 4557, 4559, 4560, 4561, 4563, 4564, 4565, 4567, 4569, 4570, 4571, 4572, 4574, 4577, 4578, 4579, 4581, 4585, 4586; ф. 43, воп. 2, спр. 1739; ф. 141, воп. 1, спр. 206; ф. 332, воп. 1, спр. 919; воп. 9, спр. 381.
Нацыянальны гістарычны архіў Беларусі, ф. 163, воп. 1, спр. 1250; ф. 333, воп. 9, спр. 30, 47, 48, 54, 56, 60, 61, 62, 63, 166, 166а, 380, 381, 481, 533, 553, 554, 555, 583, 585; ф. 440, воп. 1, спр. 7; воп. 2, спр. 2; ф. 694, воп. 2, спр. 842, 1501, 3713; ф. 834, воп. 1, спр. 3, 5; ф. 867, воп. 1, спр. 1, 26; ф. 871, воп. 1, спр. 2; ф. 1461, воп. 2, спр. 19; ф. 1728, воп. 1, спр. 4, 16; КМФ-5, воп. 1, спр. 1070/1, 1073, 1727, 1742.
Расійскі дзяржаўны гістарычны архіў, ф. 1290, воп. 11, спр. 1318.
Городские поселения Российской империи. СПб., 1863.
Материалы для географии и статистики России. Минская губерния. СПб., 1864.
Труды Минского губернского статистического комитета. Мн., 1870.
Список землевладельцев Минской губернии на 1876 г. Мн., 1877.
Описание церквей и приходов Минской епархии. Мн., 1879.
Живописная Россия. СПб.; М., 1882.
Акты Виленской археографической комиссии. Т. 13, 15. Вильна, 1886–88.
Волости и важнейшие селения Европейской России. СПб., 1886.
Любавский М. Областное деление и местное управление Литовско-Русского государства ко времени издания первого Литовского статута. М., 1892.
Обзор Минской губернии за 1896 г. Мн., 1897.
Памятная книжка Минской губернии на 1901 г. Мн., 1900.
Памятная книжка Минской епархии на 1901 г. Мн., 1901.
Вся Россия. СПб., 1902.
Довнар-Запольский М. Очерки по организации Западно-Русского крестьянства в XVI веке. Киев, 1905.
Россия. Полное географическое описание. СПб., 1905.

Список населенных мест Минской губернии. Мн., 1909.
Обзор Минской губернии за 1909 г. Мн., 1910.
Литовская метрика. Книга публичных дел. Петроград, 1915.
Список населенных мест БССР бывшей Минской губернии. Мн., 1924.
Спіс прамысловых прадпрыемстваў БССР. Вып. 1—2. Мн., 1935.
Документы и материалы по истории Белоруссии (1900—1917 гг.). Мн., 1953.
Пад сцягам партыі. Гомель, 1959.
Болбас М.Ф. Развитие промышленности в Белоруссии (1795—1861 гг.). Мн., 1966.
В грозные годы. Мн., 1973.
Сборник законов Белорусской ССР. Т. 1. Мн., 1974.
Павлов Я.С. Народная война в тылу интервентов и белогвардейцев. Мн., 1983.
Мазуров К.Т. Незабываемое. Мн., 1984.
Нацистская политика геноцида и «выжженной земли» в Белоруссии, 1941—1944. Мн., 1984.
Збор помнікаў гісторыі і культуры Беларусі. Гомельская вобласць. Мн., 1985.
Всенародная борьба в Белоруссии против немецко-фашистских захватчиков. Мн., 1985.
Павлов Я.С. В суровом сорок первом. Мн., 1985.
Спиридонов М.Ф. Закрепощение крестьянства Беларуси (XV—XVI вв.). Мн., 1993.
Литовская метрика. Кн. 8 (1499—1514); кн. 51 (1566—1574). Вильнюс, 1995—2000.
Памяць: Гіст.-дакум. хроніка Калінкавіцкага раёна. Мн., 1999.
Пинчуков В.П., Старовойтов М.И. Гомельщина многонациональная (20—30-е годы XX века). Вып. 1. Гомель, 1999.






1. п.Гумнішча
2. п.Завідаўка
3. п.Задвор'е
4. Нов.Алешня
5. п.Малінаўка
6. Нов.Пахар
7. Церахоўка
8. п.Загрэб'е
9. п.Асінаўка
10. п.Ленінскі
11. п.Ёўня
12. п.Восаў
13. п.Лясное
14. п.Лук'янаўка
15. Рудня Бронская
16. Ліскаўская Слабада
17. Смольнае
18. Ямнае
19. Ясёнаўка
20. п.Дварэцкая Слабада
21. Пласкіня
22. п.Доўбцы
23. п.Казацкі
24. п.Камень
25. п.Алейнікаў
26. п.Масткі
27. Яскіня
28. п.Шырокі Рог
29. п.Нов.Вострай
30. Вострай



# РАГАЧОЎСКІ РАЁН

Утвораны 17.7.1924 г. на Пн вобласці, абапал р. Дняпро. 17.12. 1956 г. ў сувязі са скасаваннем Журавіцкага р-на значная частка яго тэрыторыі ўвайшла ў Рагачоўскі р-н. Пл. 2070 км², насельніцтва 66,9 тыс. чал. Цэнтр — г. Рагачоў. Мяжуе на Пд са Жлобінскім, на ПдУ — з Буда-Кашалёўскім, на У — з Чачэрскім і Кармянскім р-намі Гомельскай вобл., на Пн — са Слаўгарадскім, Быхаўскім, Кіраўскім, на З — з Бабруйскім р-намі Магілёўскай вобл. Карысныя выкапні складаюцца з 4 радовішчаў торфу (запасы 16,8 млн. т) і 5 радовішчаў цагельнай сыравіны (1,3 млн.³ м). Апрача р. Дняпро па тэрыторыі раёна цякуць яе прытокі Друць (з Дабрыцай), Добасна, Гутлянка, Вузлянка, Ракатун, Ржаўка. На Пн воз. Крушынаўскае. Глебы с.-г. угоддзяў дзярнова-падзолістыя, забалочаныя, тарфяна-балотныя і алювіяльныя. З мінеральных глеб суглінкавыя складаюць 42%, супясчаныя 39%, пясчаныя 19%. Пад лесам 32% тэрыторыі, большая частка якога размешчана на ПнЗ раёна. Асн. прадпрыемствы ў Рагачове, Беліцы, Доўску, Ціхінічах і Журавічах. 17 калгасаў і 8 саўгасаў, абласная с.-г. доследная станцыя. Пад с.-г. угоддзямі 54% тэрыторыі. Па раёне праходзяць чыгунка Магілёў—Жлобін і аўтадарогі Магілёў—Гомель, Рагачоў—Жлобін—Рэчыца, Мінск—Гомель. Суднаходства па Дняпры. Дзейнічаюць пед. вучылішча, вышэйшае вучылішча будаўнікоў, 23 сярэднія, 10 васьмігадовых, 4 пач. школы, 22 дашкольныя і 45 клубных установаў, 42 масавыя б-кі, 142 спарт. пабудовы, 10 бальніц, 9 амбулаторый, 27 фельч.-акушэрскіх пунктаў, 222 магазіны, 63 прадпрыемствы грамадскага харчавання.

**РАГАЧОЎ** — горад абласнога падпарадкавання, чыг. станцыя на лініі Магілёў—Жлобін, цэнтр Рагачоўскага р-на, за 121 км ад Гомеля, 205 км ад Мінска, у сутоку рэк Дняпро і Друць, на Пн мяжуе з лесам. Назва ад месца знаходжання — злучэнне 2 рэк утварае вугал, па мясцоваму — рог. Аўтадарогі звязваюць Рагачоў з Магілёвам, Жлобінам, Гомелем, Бабруйскам, Доўскам. Пл. 18 км², насельніцтва 34,7 тыс. чал. (2004 г.).

Выяўленыя археолагамі гарадзішча 6 ст. да н.э. — 2 ст. н.э. (мясц. назва Замкавая Гара, на месцы ўпадзення р. Друць у Дняпро), селішчы ранняга жал. веку і 11—13 ст. (за 50—60 м на Пн ад гарадзішча) сведчаць аб засяленні гэтых мяс-



*Капліца на старых могілках у г. Рагачоў. 2-я пал. 19 ст.*



Завод «Дыяпраектар» у г. Рагачоў.



Дом культуры ў г. Рагачоў.

цін у глыбокай старажытнасці. Па пісьмовых крыніцах вядома з 1142 г., калі вял. князь кіеўскі Усевалад Ольгавіч аддаў яго свайму брату Ігару, уваходзіў у Чарнігаўскае княства. З канца 13 ст. ў складзе ВКЛ, цэнтр Рагачоўскай вол. У 1399 г. ўпамінаецца ў даравальнай грамаце кн. Вітаўта віленскім канонікам на Бярэзінскія землі, вылучаныя з Рагачоўскай вобл. Да 1780 г. існаваў замак, пабудаваны на месцы гарадзішча. Пад 1406 г. згадваецца ў «Спісе рускіх гарадоў дальніх і бліжніх». У 1440 г. ўпамінаецца як цэнтр Рагачоўскай вол. У 1446 г. кароль Казімір IV падараваў Рагачоў кн. Івану Бароўскаму, сын якога Фёдар па спадчыне валодаў гэтым горадам 17 гадоў. У 1480 г. ўпамінаецца ў сувязі з вызваленнем мінскага мешчаніна Л.Церашковіча ад уплаты мытнай пошліны. У 1491 г. маскоўскія ваяводы В.Лапін і А.Істома захапілі Рагачоў, але ў пач. 16 ст. ён зноў у ВКЛ, належаў Хадкевічам.



Цэнтральная бібліятэка ў г. Рагачоў. Помнік архітэктуры 20 ст.

У 1509 г. пінскі кн. Фёдар Ярановіч і яго жонка Алена атрымалі Рагачоў у ліку іншых гарадоў ад караля Сігізмунда I (Старога), а з 1524 г. ўладанне каралевы Боны. Для яе тут быў пабудаваны невялікі рэнесансавы палац (не збярогся). Вялікія страты наносілі гораду войны. У 1535 г. ён быў разбураны ў выніку вайны Маскоўскай дзяржавы з ВКЛ, а ў 1562 г. — крымскімі татарамі. У 1561 г. ўпамінаецца ў сувязі са зборам сродкаў на будаўніцтва замка ў Кіеве, у пісьме ад 1562 г. паведамляецца, што Рагачоў павінен выдзеліць 15 коп дрэва і 30 чалавек для будаўніцтва кіеўскага замка. Горад меў стратэгічнае значэнне і разам з іншымі гарадамі ўваходзіў у сістэму пагранічнай абароны па Дняпры. Пазначаны на карце ВКЛ 1613 г. У канцы 16 — пач. 17 ст. ў ваколіцах Рагачова дзейнічалі казацка-сял. атрады Налівайкі і Дубіны. У 1649 г. для процідзеяння казацкім набегам каля Рагачова некаторы час размяшчаўся полк Гансеўскага, які ўваходзіў у войска Я.Радзівіла. На паўн. ускраіне ў 1730 г. пачалося будаўніцтва слабады, дзе ў 1743 г. прасвітару замкавай царквы было дазволена пабудаваць царкву св. Міхаіла Архангела. Цэнтр староства, якое ў 1765 г. аб'ядноўвала 27 вёсак з 609 дварамі, належала Пацам; узведзены касцёл св. Антонія. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) у складзе Рас. імперыі, у Магілёўскім намесніцтве (1778–96), Беларускай (1796–1802) і Магілёўскай (1772–78, 1802–1919) губернях, цэнтр павета. У 1778 г. зацверджаны план яго забудовы, асно-





*Помнік Вызвалення ў г. Рагачоў.*

*Чыгуначны вакзал у г. Рагачоў.*

ву якога складала прамалінейная сетка вуліц з 2 плошчамі. У 1781 г. зацверджаны герб (на залатым полі барані рог), дзейнічала мытня. У канцы 18 ст. ўзведзены мураваны будынак пав. канцылярыі, праект якога ўяўляў паменшаную і спрошчаную копію дома губернатарскага праўлення ў Магілёве. У 1788 г. пачала працаваць паштовая кантора. 16.7. 1812 г. горад занялі войскі Напалеона, аднак актыўныя дзеянні рас. войск пад камандаваннем Ф.Ф.Эртэля вымусілі французаў 4.9.1812 г. вывесці свае атрады з горада. У 1826 г. 2093 жыхары. Дзейнічала пераправа на Дняпры, якая ў 1833—35 гг. добраўпарадкавана і лічылася лепшай у Магілёўскай губ. (пад'ёмнасць да 1000 пудоў). Паміж Друцкай і Дняпроўскай пераправамі была насыпана плаціна (даўжыня 1320 сажняў, шырыня 4 сажні, 6 мастоў). У 1850 г. 3112 жыхароў, 18 вуліц і завулкаў, 375 дамоў, у т.л. 6 казённых, 3 царквы, 2 пошты, 46 крам, 23 карчмы, 1 харчэўня. У 1864 г. працавалі 24 мануфактуры, 5 гарбарняў, 5 маслабоень, 4 цагельні, ганчарны з-д, 4 бровары, 5 крупарушак, 132 рамеснікі. У 1801 г. адкрыта павятовае, у 1819 г. — прыходскае вучылішчы, якія пазней аб'ядналіся (у 1826 г. — 46 навучэнцаў). У 1879 г. адкрыта дзіцячая б-ка, у 1881 г. гар. бальніца (у 1887 на аднаго ўрача ў Рагачоўскім пав. прыходзілася 12 378 жыхароў). У Рагачоўскім дваранскім пав. вучылішчы ў 1865 г. былі 64 навучэнцы, б-ка (1458 тамоў). У 1889 г. працавалі нар. вучылішчы для хлопчыкаў і дзяўчынак, а таксама 2-класнае прыватнае вучылішча, кніжны магазін. У 1909—19 гг. дзейнічала настаўніцкая семінарыя, на гастролі прыязджалі перасоўныя тэатры і цыркавыя трупы. Праз Рагачоў праходзіла дарога з Магілёва на Пд Беларусі, працавала паштовая станцыя. У 1896 г. 948 двароў. У 2-й пал. 19 ст. на старых могілках пабудавана мураваная капліца. Упрыгожаннем горада быў 2-павярховы дом з вежай, што знаходзіўся ў цэнтры і належаў прадвадзіцелю дваранства В.В.Іолшыну, а таксама мураваныя будынкі паштовай станцыі і харчовага магазіна. Развіццю Рагачова спрыяла будаўніцтва Варшаўскай шашы (1-я пал. 19 ст.), развіваліся гандл. сувязі і па Дняпры. Гал. таварамі гандлю былі лес і вырабы з яго, хлеб, шкіпінар, смала. Вясной 1873 г. закладзены гар. сад. Пасля пажару 13.8.1881 г. з 120 крам на гар. плошчы засталіся толькі 32, згарэла 3/4 гасцінага двара. У 1884 г. дзейнічалі б-ца і аптэка. У 1886 г. горад упрыгожыў

*Мемарыял Славы ў г. Рагачоў.*



*Помнік воінам-інтэрнацыялістам у г. Рагачоў.*

*Курган Славы ў г. Рагачоў.*





манументальны 5-купальны храм Аляксандра Неўскага. 5 разоў у год праводзіліся кірмашы, гал. таварам на якіх былі бочкі, рашоты, цацкі, абразы, кнігі. Хутка расло насельніцтва: калі ў 1866 г. было 6136 жыхароў, то ў 1897 г. — 9038, з якіх 42,5% былі пісьменныя. Дзейнічала прыстань (у 1883 прычаліла 70 суднаў і 300 плытоў), будаваліся рачныя драўляныя судны — бярлінцы. На прадажу па рацэ сплаўляліся лясныя вырабы, а ў Рыгу — ільняны алей, пянька, ільняная саломка. У 1900 г. 11733 жыхары (у іх ліку 520 рамеснікаў), 5 канатных фабрык, 2 друкарні, аптэка, б-ка, жаночая гімназія, з 1909 г. настаўніцкая семінарыя, 2 кніжныя крамы, 1157 жылых будынкаў, 210 газавых ліхтароў. У 1904 г. ўзведзены мураваны 2-павярховы Г-падобны будынак дваранскага вучылішча (зараз сярэдняя школа). У 1909 г. пабудаваны мураваны будынак зямельнай управы (цяпер Дом моладзі). Значна ажывіла эканам. жыццё горада чыгунка Віцебск—Жлобін, здадзеная ў эксплуатацыю 24.12. 1902 г. За чыг. лініяй, у сасновым бары, пачалася забудова новага ўчастка, які ў гараджан атрымаў назву Залінейнага. Дзейнічала вышэйшае пач. вучылішча. У 1904 г. ў горадзе працавалі 857 рамеснікаў, 6 вінакурняў. 1.6.1909 г. адкрыта настаўніцкая семінарыя з бібліятэкай пры ёй, дзейнічала пазыка-ашчадная каса. У 1912 г. быў пабудаваны новы мураваны касцёл у стылі неаготыкі (не захаваўся), працавала аддз. паштовай сувязі.

Пасля Лютаўскай рэвалюцыі 1917 г. створаны Савет рабочых і сял. дэпутатаў, стаў выходзіць друкаваны орган Рагачоўскага Савета салдацкіх, рабочых і сял. дэпутатаў (№1—31.3.1917). 13—30.1.1918 г. заняты легіянерамі Доўбар-Мусніцкага, з лютага да 22.11.1918 г. акупіраваны кайзераўскімі войскамі, у баях супраць якіх разам з Чырвонай Арміяй змагаўся і мясц. добраахвотны атрад. З мая 1919 г. ў Гомельскай губ. РСФСР, з 1924 г. ў складзе БССР, з 17.7.1924 г. цэнтр раёна Бабруйскай (да 26.7.1930) акругі, з 20.2.1938 г. Гомельскай вобл. Значныя страты прычыніў гораду пажар 17.5.1925 г., які знішчыў 243 пабудовы ў 93 дварах. Аднаўленне, хаця і з вял. цяжкасцямі, адбывалася даволі хутка. У 1934 г. працавалі лесапільня (з 1901), кардонная ф-ка (1913), ільнозавод (1932), электрастанцыя (1918), цагельня (1912), друкарня, электрычны млын, кавальская (1930), кравецкая (1927) і шавецкая (1928), бандарная, кошыкавая і сталярна-мэблевая майстэрні, цукерачная арцель (1931), смалакурня (1929), хлебапякарня, 2 конныя крупарушкі, слясарня, МТС (1931) і яе майстэрні (у 1932 — 63 рабочыя). У вер. 1936 г. на базе мясц. драмгуртка быў створаны тэатр (з 1.1.1937 калгасна-саўгасны, які ў пач. 1940 рэарганізаваны ў Баранавіцкі рас. драм. тэатр). Працавалі настаўніцкі ін-т (у 1940 — 610 студэнтаў), школа медсясцёр, 4 сярэднія і 7-гадовая школы, б-ца, паліклініка, 2 аптэкі. Пастановай ЦВК і СНК БССР ад 3.7.1925 г. пацверджаны статус горада. Указам

Прэзідыума Вярх. Савета ад 27.9.1938 г. аднесены да гарадоў раённага падпарадкавання, з 27.2.1978 г. — горад абласнога падпарадкавання.

У Вял. Айч. вайну ў баях супраць ням. войск разам з сав. войскамі вызначыўся мясц. знішчальны батальён, які быў створаны ў першыя дні вайны (камандзір Н.І.Калінковіч). 3.7.1941 г. Рагачоў заняты ням. войскамі. Аднак раніцай 13.7.1941 г. пасля артыл. падрыхтоўкі 63-і стралк. корпус з удзелам Жлобінскага і Рагачоўскага знішчальных батальёнаў пад камандаваннем ген.-лейт. Л.Р.Пятроўскага перайшоў у наступленне і вызваліў горад. Вораг быў адкінуты на 20—30 км. 14.8.1941 г. горад другі раз быў заняты ням. войскамі. 6.11.1941 г. акупанты загубілі каля 3 тыс. жыхароў (пахаваны ў магіле ахвяр фашызму па вул. Друцкай). У 10 магілах на старых могілках пахаваны 932 жыхары, расстраляныя акупантамі за час акупацыі. Дзейнічала патрыят. падполле. Вызначылася актыўнасцю падп. група на льнозаводзе (кіраўнік К.К.Гардзіеўскі). Партызаны разам з падпольшчыкамі правялі шэраг вельмі адчувальных для ворага дыверсійных актаў. Вызвалены 24.2.1944 г. ў выніку Рагачоўскай наступальнай аперацыі войск Бел. фронту. Пры вызваленні горада вызначыўся ўзвод процітанкавых ружжаў на чале з Я.П.Зайцавым (прысвоена званне Героя Сав. Саюза). 13 часцям і злучэнням нададзена найменне «Рагачоўскіх». У баях за горад загінулі 257 воінаў і партызан (пахаваны ў брацкіх магілах на старых могілках, што ў парку па вул. Леніна). У ліку пахаваных Героі Сав. Саюза В.А.Віхараў, С.Р.Дрынь, В.М.Калеснікаў, А.П.Сярогін, В.С.Уткін. На франтах і ў партыз. барацьбе загінулі 4823 жыхары раёна, у памяць аб якіх у парку па вул. Леніна ў 1977 г. ўзведзены Курган Славы.

Пасляваен. развіццё Рагачова адзначана шырокімі маштабамі жыллёвага і прамысл. будаўніцтва. Як і прадугле-



*Тэатралізаванае шэсце ў Дзень Незалежнасці і Дзень горада ў Рагачове.*

джвалася ген. планамі 1946 і 1959 гг., дакладна захоўвалася прамавугольная сетка вуліц, вызначаная яшчэ першым рэгулярным планам 1778 г. Адначасова выпраўляліся недахопы яго функцыянальнай і прасторавай арганізацыі, вырашаліся задачы транспартных сувязей. Цэнтральная, Залінейная і Задруцкая часткі горада былі звязаны магістралямі. Жылая забудова размешчана пераважна ў цэнтры і ў Задруцці, прамысл. і складскія памяшканні — у паўн. і паўд.-зах. частках. Выцягнутая па напрамку 2 абгінаючых горад рэк, структура плана Рагачова садзейнічала фарміраванню гар. цэнтра ўздоўж цэнтр. магістралі. На цэнтр. плошчы — адм. будынкі, клуб, гасцініца. Ген. план 1971 г. прадугледжваў строгае размежаванне жылой і прамысл. забудовы і перамяшчэнне гар. цэнтра бліжэй да Дняпра. У горадзе больш за 130 вуліц. Будынкі пераважна мураваныя. Эканоміку і культуру характарызуюць такія прадпрыемствы і ўстановы культуры, як малочнакансервавы камбінат, мэблевая ф-ка, лясгас, камбінат будматэрыялаў, кансервава-піваварны камбінат, з-ды жалезабетонных вырабаў, «Дыяпраектар», агароднінакансервавы, хлебазавод, райаграпрамтэхніка, камбінат быт. абслугоўвання, швейная ф-ка «Вяснянка», друкарня, вузел паштовай электрасувязі, райветстанцыя, райаграпрамэнерга, камбікормавы з-д, сельгасхімія, спарт. школа алімпійскага рэзерву, занальны цэнтр гігіены і эпідэміялогіі, аптэка, аўташкола, педвучылішча, 7 магазінаў, Дом культуры, 6 клубаў, шко-

ла мастацтваў, музей нар. славы (засн. ў 1962 як краязнаўчы), 7 сярэдніх школ, школа-сад, 4 б-кі, раённая б-ца, дзіцячая б-ца, радзільны дом, тубдыспансер, паліклініка, 12 дашкольных устаноў, 5 аддз. сувязі. Працуе мясцовае радыёвяшчанне, выходзіць раённая газ. «Свабоднае слова» (са снеж. 1918). У 1956 г. адкрыта дзіцяча-юнацкая спарт. школа, выхаванец якой М.Гарбачоў у 1972 г. стаў алімпійскім чэмпіёнам па веславанні на байдарках каноэ, быў прызёрам і пераможцам на чэмпіянатах свету і СССР. Радзіма прафес. рэвалюцыянера, былога старшыні Массавета, члена ЦКК РКП(б) П.Г.Смідовіча (яго імя носіць адна з гар. вуліц), пісьменнікаў Н.Я.Гублера, лаўрэата Дзярж. прэміі Беларусі У.Л.Няхамкіна, Э.М.Карпачова, С.З.Галкіна, Герояў Сав. Саюза В.М.Калеснікава (яго імем названа вуліца ў Рагачове), М.П.Пацеева, аднаго з кіраўнікоў партыз. руху на Беларусі (быў камісарам партыз. брыгады), Героя Сац. Працы А.Я.Андрэева, засл. артыста БССР У.М.Говар-Бандарэнкі, бел. мастакоў К.І.Завішы і Б.М.Кузняцовай, нар. артыста БССР, прафесара К.М.Саннікава, ген.-м. С.У.Вішнеўскага, доктара фізікаматэм. навук Р.Г.Жбанкова, прафесара, доктара гіст. навук, засл. дзеяча навукі РСФСР Г.Г.Фрумянкова, ген.-м. танкавых войск А.Л.Шымковіча, доктара вет. навук, прафесара Я.Р.Губарэвіча, партыйнага і дзярж. дзеяча БССР У.Г.Кудраева. Паблізу ёсць залежы суглінкаў і крэйды.


*В.М.Калеснікаў.*

**АЗЯРАНЫ** — вёска, цэнтр Азяранскага с/с, за 34 км на ПнЗ ад раённага цэнтра і чыг. ст. Рагачоў (на лініі Магілёў—Жлобін), 155 км ад Гомеля, на рэках Друць (прыток р. Дняпро) і Зазер'е (прыток р. Друць). Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Бабруйск—Рагачоў. 219 гаспадарак, 517 жыхароў (2004 г.).

Выяўленыя археолагамі гарадзішча 8 ст. да н.э. — 2 ст. н.э. (на паўн. ускраіне), курганны могільнік 11—12 ст. (56 насыпаў, за 1 км на З ад вёскі) і курганны могільнік (39 насыпаў, за 1,5 км на Пд ад вёскі) сведчаць аб засяленні тутэйшых мясцін у глыбокай старажытнасці. Па пісьмовых крыніцах вядома з 15 ст. як сяленне ў Рэчыцкім пав. Мінскага ваяв. ВКЛ. З 1464 г. маёнтак Азяраны, уласнасць І.Астрожскага, у 1556 г. належала Кіева-Пячорскаму манастыру. У 1584 г. ўпамінаецца ў сувязі з «наездамі» вяскоўцаў на суседнюю в. Фалевічы. У 1599 г. ўладанне Свята-Мікалаеўскай царквы. У 1773 г. пабудаваны кляштар канонікаў латэранскіх (існаваў да 1844 не захаваўся). У 1791 г. пры каталіцкім кляштары адкрыта 1-класная школа. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі, уласнасць казны. З 1828 г. дзейнічаў касцёл. У 1836—37 гг. узведзены новы школьны будынак. У 1849 г. 64 двары і 22 незанятыя ўчасткі. Гаспадар аднайменнага маёнтка ў 1874 г. меў тут 233 дзес. зямлі. У 1881 г. 107 двароў, 795 жыхароў, у Ціхініцкай вол. Рагачоўскага пав. Магілёўскай губ. Дзейнічала царква (будынак драўляны), хлебазапасны магазін. Паводле перапісу 1897 г. 158 двароў, 208 жыхароў, прыходскае вучылішча, хлебазапасны магазін, 2 крамы, піцейны дом, вінная крама, побач былі фальварак і ферма (3 двары, 22 жыхары). У 1909 г. 167 двароў, 1141 жыхар, у 1910 г. адкрыта крэдытнае т-ва, у 1911 г. б-ка пры школе, у 1912 г. спажывецкае т-ва. З 20.8. 1924 г. цэнтр Азяранскага с/с Рагачоўскага р-на Бабруйскай акругі (да 26.7. 1930), з 20.2.1938 г. Гомельскай вобл. У 1925 г. 225 двароў. У 1930 г. арганізаваны калгас «Друць», працавалі паравы млын і кузня. У 1940 г. 330 двароў, 1810 жыхароў. У Вял. Айч. вайну дзейнічала патрыят. падп. група (кіраўнік А.К.Мальцаў). Арганізатарам і кіраўніком маладзёжнай патрыят. групы (дзейнічала з ліст. 1941 да вер. 1942) быў В.А.Гаўрыленка, потым В.А.Янава. У 1942 г. ням. акупанты спалілі 282 двары, загубілі 62 жыхароў. У 1944 г. карнікі другі раз спа-



*Вясковая хата ў в. Азяраны.*

лілі вёску і загубілі 115 жыхароў. У баі за вёску 24.6.1944 г. вызначыліся старшы сяржант аддз. аўтаматчыкаў М.М. Хрыкаў і старшына В.С.Грышко (абодва ўдастоены звання Героя Сав. Саюза). Каля вёскі загінулі 876 воінаў, у іх ліку герой Сав. Саюза А.П.Кулясаў (пахаваны ў брацкай магіле ў цэнтры вёскі). На франтах і ў партыз. барацьбе загінулі 284 землякі, памяць аб якіх ушаноўвае скульптура воіна, пастаўленая ў 1966 г. ў скверы. Вызвалена 24.2.1944 г. Паводле перапісу 1959 г. 1139 жыхароў. Цэнтр калгаса імя Н.К.Крупскай. Размешчаны лясніцтва, сярэдняя школа, клуб, б-ка, амбулаторыя, аптэка, дзіцячыя яслі-сад, вет. пункт, аддз. сувязі, магазін, пякарня, музей баявой і прац. славы (у школе). Планіровачна складаецца з працяглай, крыху выгнутай мерыдыянальнай вуліцы (уздоўж ракі), перакрыжаванай 2 кароткімі прамалінейнымі вуліцамі. Забудова двухбаковая, драўляная, сядзібнага тыпу. Радзіма бел. мастака М.П.Куляша. Паблізу ёсць залежы суглінкаў.

**АЗЯРЫШЧЫ** — вёска ў Кісцянёўскім с/с, за 6 км на ПнУ ад раённага цэнтра і чыг. ст. Рагачоў (на лініі Магілёў—Жлобін), 127 км ад Гомеля, на р. Дняпро, на Пн і З мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Рагачоў—Старое Сяло. 39 гаспадарак, 59 жыхароў (2004 г.).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 18 ст. як вёска ў Рэчыцкім пав. Мінскага ваяв. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) у складзе Рас. імперыі. Па рэвізіі 1816 г. 24 двары, 159 жыхароў, уладанне памешчыка Ланеўскага, у Рагачоўскім пав. Магілёўскай губ. З 1880 г. дзейнічаў хлебазапасны магазін. Паводле перапісу 1897 г. 51 двор, 393 жыхары, капліца. У 1909 г. 63 двары, 509 жыхароў, 1044 дзес. зямлі, млын, у Кісцянёўскай вол. Рагачоўскага пав. У 1925 г. 90 двароў. У 1931 г. арганізаваны калгас. У 1940 г. 103 двары, 509 жыхароў. У Вял. Айч. вайну ў лют. 1944 г. ням. акупанты спалілі 29 двароў, загубілі 21 жыхара. У баях за вёску загінулі 26 сав. воінаў (пахаваны ў брацкай магіле на могілках). Паводле перапісу 1959 г. 388 жыхароў. У складзе саўгаса «Кісцяні» (цэнтр — в. Кісцяні). Планіровачна складаецца з прамалінейнай шыротнай вуліцы, да якой на У далучаецца прамалінейная кароткая вуліца. Забудова шчыльная, драўляная, сядзібнага тыпу.

**АЛЕЙНІКАЎ** — пасёлак у Гадзілавіцкім с/с, за 17 км на ПдУ ад раённага цэнтра і чыг. ст. Рагачоў (на лініі Магілёў—Жлобін), 119 км ад Гомеля, на Пд і З меліярацыйныя каналы. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Рагачоў—Доўск. 14 гаспадарак, 22 жыхары (2004 г.).

Засн. ў пач. 1920-х г. перасяленцамі з суседніх вёсак на былых памешчыцкіх землях. У 1931 г. пасялкоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну 11 пасялкоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 138 жыхароў. У складзе калгаса «Савецкая Беларусь» (цэнтр — в. Гадзілавічы). Планіровачна складаецца з прамалінейнай, амаль мерыдыянальнай арыентацыі вуліцы, забудаванай двухбакова драўлянымі сял. сядзібамі.

**АЛЬСАГОРКА** — пасёлак і чыг. ст. Лукская на лініі Магілёў—Жлобін, у Лучынскім с/с, за 10 км на Пд ад Рагачова, 115 км ад Гомеля, на У р. Дняпро і яго пойма, побач аўтадарога Рагачоў—Жлобін. 15 гаспадарак, 33 жыхары (2004 г.).

Засн. ў пач. 1920-х г. перасяленцамі з суседніх вёсак на былых памешчыцкіх землях. У 1931 г. пасялкоўцы ўступілі ў

калгас. У 1940 г. 8 двароў, 39 жыхароў. У Вял. Айч. вайну ў чэрв. 1944 г. ням. акупанты спалілі пасёлак. Паводле перапісу 1959 г. 97 жыхароў. У складзе калгаса «Запаветы Ільіча» (цэнтр — в. Лучын). Жылыя будынкі драўляныя, сядзібнага тыпу, на ўсх. баку аўтадарогі.

**АЛЯКСАНДРАЎКА** — вёска ў Старасельскім с/с, за 17 км на Пн ад раённага цэнтра і чыг. ст. Рагачоў (на лініі Магілёў—Жлобін), 138 км ад Гомеля, на З меліярацыйныя каналы, на У мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Старое Сяло—Рагачоў. 2 гаспадаркі, 2 жыхары (2004 г.).

Па пісьмовых крыніцах вядома з канца 19 ст. як сяленне ў Кісцянёўскай вол. Рагачоўскага пав. Магілёўскай губ. У 1909 г. 13 двароў, 97 жыхароў, 465 дзес. зямлі. Найбольш актыўная забудова вялася ў 1920-я г. У 1925 г. 37 двароў. У 1931 г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. Паводле перапісу 1959 г. 89 жыхароў. У складзе саўгаса «Прагрэс» (цэнтр — в. Шчыбрын). Планіровачна складаецца з кароткай прамалінейнай вуліцы, блізкай да мерыдыянальнай арыентацыі. Драўляныя сял. сядзібы пастаўлены рэдка, па адзін бок вуліцы.

**АМЕЛЬНА** — вёска ў Побалаўскім с/с, за 25 км на ПдЗ ад раённага цэнтра і чыг. ст. Рагачоў (на лініі Магілёў—Жлобін), 146 км ад Гомеля. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Бабруйск—Гомель. 82 гаспадаркі, 172 жыхары (2004 г.).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 18 ст. як сяленне ў Рэчыцкім пав. Мінскага ваяв. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. З 1901 г. дзейнічала царква. У 1904 г. адкрыта школа, якая размяшчалася ў наёмнай сял. хаце, а ў 1913 г. для яе пабудавана памяшканне. У 1925 г. 152 двары. У выніку пажару 31.5.1925 г. згарэла 30 пабудоў. У 1931 г. арганізаваны калгас. У Вял. Айч. вайну 71 вясковец загінуў на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 565 жыхароў. У складзе калгаса «Чырвоная Армія» (цэнтр — в. Востраў). Размешчаны фельч.-акушэрскі пункт, клуб. Планіровачна складаецца з амаль прамалінейнай шыротнай вуліцы, забудаванай двухбакова, шчыльна, драўлянымі сял. сядзібамі.

**АННАЎКА** — вёска ў Дварэцкім с/с, за 16 км на ПдЗ ад раённага цэнтра і чыг. ст. Рагачоў (на лініі Магілёў—Жлобін), 136 км ад Гомеля. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Бабруйск—Гомель. 27 гаспадарак, 54 жыхары (2004 г.).

Засн. ў пач. 20 ст. перасяленцамі з суседніх вёсак. У 1909 г. фальварак, 15 жыхароў, 1828 дзес. зямлі, у Лукаўскай вол. Рагачоўскага пав. Магілёўскай губ. З 1910 г. працавала вінакурня. У пач. 1920-х г. у фальварку быў створаны калгас «Равенства». У 1931 г. арганізаваны калгас імя М.І.Калініна, працавалі кузня і ваўначоска. У 1940 г. 42 двары, 212 жыхароў. У Вял. Айч. вайну ням. акупанты ў 1944 г. спалілі 11 двароў, загубілі 3 жыхароў. 13 вяскоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 264 жыхары. У складзе калгаса «Ленінскае жыццё» (цэнтр — в. Кашара). Планіровачна складаецца з прамалінейнай шыротнай вуліцы, да якой на З далучаецца кароткая прамалінейная вуліца. Забудова двухбаковая, шчыльная, драўляная, сядзібнага тыпу.

**АНТУШЫ** — вёска ў Побалаўскім с/с, за 24 км на ПдЗ ад раённага цэнтра і чыг. ст. Рагачоў (на лініі Магілёў—Жлобін), 135 км ад Гомеля. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Бабруйск—Гомель. 18 гаспадарак, 39 жыхароў (2004 г.).

Выяўлены археолагамі курганны могільнік (6 насыпаў, каля сучасных могілак) сведчыць аб засяленні гэтых мясцін у далёкай старажытнасці. Па пісьмовых крыніцах вядома з 18 ст. як сяленне ў Мазырскім пав. Мінскага ваяв. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У пач. 19 ст. на

паўд.-ўсх. ускраіне пабудаваны з дрэва касцёл (зараз помнік драўлянага дойлідства з рысамі класіцызму). Па інвентару 1848 г. вёска ў складзе аднайменнага памешчыцкага маёнтка. У 1868 г. 13 двароў, 69 жыхароў. Паводле перапісу 1897 г. 24 двары, 135 жыхароў. У 1909 г. 140 жыхароў, 386 дзес. зямлі, у Лукаўскай вол. Рагачоўскага пав. Магілёўскай губ. У 1925 г. 34 двары. У 1931 г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну 3 вяскоўцы загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 226 жыхароў. У складзе калгаса «Чырвоная Армія» (цэнтр — в. Востраў). Размешчаны дзіцячы дом. Планіровачна складаецца з прамалінейнай кароткай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ і забудаванай аднабакова, няшчыльна драўлянымі сял. сядзібамі.

**АСІНАЎКА** — пасёлак у Балатнянскім с/с, за 47 км на ПнУ ад раённага цэнтра і чыг. ст. Рагачоў (на лініі Магілёў—Жлобін), 108 км ад Гомеля. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Доўск—Слаўгарад. 7 гаспадарак, 10 жыхароў (2004 г.).

Засн. ў пач. 20 ст. як хутар, потым ператвораны ў пасёлак, у Рагачоўскім пав. Магілёўскай губ. У 1931 г. пасялкоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну 12 пасялкоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 72 жыхары. У складзе калгаса імя У.І.Леніна (цэнтр — в. Балотня). Планіровачна складаецца з кароткай прамалінейнай мерыдыянальнай вуліцы. Забудова драўляная, сядзібнага тыпу.

**АСІНАЎКА** — вёска ў Старасельскім с/с, за 18 км на Пн ад раённага цэнтра і чыг. ст. Рагачоў (на лініі Магілёў—Жлобін), 139 км ад Гомеля, на З меліярацыйныя каналы, на У мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Старое Сяло — Рагачоў. 1 гаспадарка, 1 жыхар (2004 г.).

Засн. ў пач. 1920-х г. перасяленцамі з суседніх вёсак на былых памешчыцкіх землях. У 1932 г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. Паводле перапісу 1959 г. 48 жыхароў. У складзе саўгаса «Прагрэс» (цэнтр — в. Шчыбрын). Забудова драўляная, сядзібнага тыпу, уздоўж прасёлачнай дарогі.

**АСІННІКІ** — вёска ў Забалацкім с/с, за 2 км на ПдЗ ад раённага цэнтра і чыг. ст. Рагачоў (на лініі Магілёў—Жлобін), 133 км ад Гомеля. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Бабруйск—Гомель. 23 гаспадаркі, 35 жыхароў (2004 г.).

Засн. ў пач. 20 ст. перасяленцамі з суседніх вёсак. Найбольш актыўная забудова вялася ў 1920-я г. У 1925 г. 19 двароў. У 1931 г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну 11 вяскоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 130 жыхароў. У 1966 г. да вёскі далучаны пас. Вясёлае. У складзе калгаса імя М.І.Калініна (цэнтр — в. Забалацце). Планіровачна складаецца з прамалінейнай мерыдыянальнай вуліцы, забудаванай двухбакова, няшчыльна драўлянымі сял. сядзібамі.

**АСМОЛАВІЧЫ** — вёска ў Курганскім с/с, за 25 км на У ад раённага цэнтра і чыг. ст. Рагачоў (на лініі Магілёў—Жлобін), 121 км ад Гомеля, на р. Ракатун (прыток р. Дняпро). Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Рагачоў—Доўск. 19 гаспадарак, 29 жыхароў (2004 г.).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 16 ст. як вёска ў Рэчыцкім пав. Мінскага ваяв. ВКЛ. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) у складзе Рас. імперыі. Па рэвізіі 1816 г. 36 двароў, 204 жыхары, у Рагачоўскім пав. Магілёўскай губ. У 1858 г. 209 жыхароў, уладанне памешчыка Варварына. З 1880 г. дзейнічаў хлебазапасны магазін. У 1897 г. 64 двары, 357 жыхароў, 2 ветракі. У 1909 г. 70 двароў, 457 жыхароў, 179 дзес. зямлі, у Доўскай вол. Рагачоўскага пав. Магілёўскай губ. У 1931 г. арганізаваны калгас «Чырвоная паляна», працавалі кузня і вятрак. 4 вяскоўцы загінулі ў сав.-фінляндскую, 32 — у Вял. Айч. вайну. Паводле перапісу 1959 г. 237 жыхароў. У складзе саўга-

*Вышывальшчыца А.І.Пазднякова з в. Балотня.*



са «1 Мая» (цэнтр — в. Курганне). Планіровачна складаецца з 2 амаль прамалінейных, паралельных паміж сабой вуліц, арыентаваных з ПдЗ на ПнУ і забудаваных двухбакова драўлянымі сял. сядзібамі.

**БАЛАБА** — вёска ў Старасельскім с/с, за 15 км на Пн ад раённага цэнтра і чыг. ст. Рагачоў (на лініі Магілёў—Жлобін), 136 км ад Гомеля, на Пд, У і З мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Старое Сяло—Рагачоў. 12 гаспадарак, 22 жыхары (2004 г.).

Засн. ў пач. 20 ст. перасяленцамі з суседніх вёсак. У 1930 г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну 8 вяскоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 136 жыхароў. У складзе саўгаса «Прагрэс» (цэнтр — в. Шчыбрын). Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, блізкай да мерыдыянальнай арыентацыі, забудаванай двухбакова, рэдка, драўлянымі сял. сядзібамі.

**БАЛОТНЯ** — вёска, цэнтр Балатнянскага с/с, за 48 км на ПнУ ад раённага цэнтра і чыг. ст. Рагачоў (на лініі Магілёў—Жлобін), 108 км ад Гомеля, на р. Гутлянка (прыток р. Дняпро). Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Доўск—Слаўгарад. 202 гаспадаркі, 607 жыхароў (2004 г.).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 18 ст. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) у складзе Рас. імперыі, у Беліцкім пав. Магілёўскай губ. У 1838 г. 32 двары. У 1847 г. вёскі Балотня і Новая Балотня, 3525 дзес. зямлі, у Рагачоўскім пав. Магілёўскай губ. Па рэвізіі 1858 г. 97 двароў. У 1860 г. памешчык меў тут 1261 дзес. зямлі, млын і 2 карчмы. З 1880 г. дзейнічаў хлебазапасны магазін. У 1877 г. заснавана нар. вучылішча, у якім у 1889 г. навучаліся 19 хлопчыкаў і 1 дзяўчынка. У 1886 г. 578 жыхароў. Дзейнічала Свята-Пакроўская царква (драўляная) у Доўскай вол. Рагачоўскага пав. Паводле перапісу 1897 г. 124 двары, 822 жыхары, вятрак, карчма, побач аднайменны фальварак. У 1909 г. 159 двароў, 1021 жыхар, 1437 дзес. зямлі, у фальварку — 5 жыхароў, 920 дзес. зямлі. У крас. 1920 г. на былых памешчыцкіх землях створана калектыўная гаспадарка. З 20.8.1924 г. цэнтр сельсавета Журавіцкага, з 8.7.1931 г. Кармянскага, з 12.3.1935 г. Доўскага, з 5.4.1935 г. Журавіцкага, з 17.12.1956 г. Рагачоўскага р-наў, з 20.2. 1938 г. ў Гомельскай вобл. У 1930 г. арганізаваны калгас імя У.І.Леніна; працавалі лесапільня, кузня, нафтавы млын. У Вял. Айч. вайну ням. карнікі загубілі ў 1943 г. 12 жыхароў (пахаваны ў магіле ахвяр фашызму на паўд. ускраіне вёскі). У баях за Балотню ў 1943 г. загінулі 193 воіны (пахаваны ў брацкай магіле каля клуба). 46 вяскоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 555 жыхароў. Цэнтр калгаса імя У.І.Леніна. Размешчаны сярэдняя школа, б-ка, Дом культуры, фельч.-акушэрскі пункт, дзіцячы сад, магазін, аддз. сувязі, цагельня. Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ, да якой з Пд далучаюцца 2 прамалінейныя, злучаныя кароткай вуліцы. Забудова двухбаковая, драўляная, сядзібнага тыпу. У 1986—87 гг. пабудаваны мураваныя дамы на 50 сямей, у якіх размясціліся перасяленцы з забруджаных радыяцыяй месц.

У склад Балатнянскага с/с уваходзілі да 1979 г. пас. Карчаваха, да 1996 г. пас. Зялёная Рошча (не існуюць).

**БАРСУКІ** — вёска ў Дварэцкім с/с, за 24 км на З ад раённага цэнтра і чыг. ст. Рагачоў (на лініі Магілёў—Жлобін),

145 км ад Гомеля, на З меліярацыйны канал, злучаны з р. Добасна (прыток р. Друць). 24 гаспадаркі, 35 жыхароў (1999 г.).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 19 ст. як вёска ў Ціхініцкай вол. Рагачоўскага пав. Магілёўскай губ. Па інвентару 1848 г. ў складзе аднайменнага маёнтка. З 1880 г. дзейнічаў хлебазапасны магазін. У 1881 г. 22 двары, 155 жыхароў. Паводле перапісу 1897 г. 37 двароў, 280 жыхароў. Побач былі аднайменныя фальварак і хутар (3 гаспадаркі, 40 жыхароў). У 1909 г. 247 жыхароў, 338 дзес. зямлі. У 1934 г. вяскоўцы пабудавалі памяшканне школы. У 1925 г. 55 двароў, у Дварэцкім с/с Рагачоўскага р-на Бабруйскай акругі. У 1930 г. арганізаваны калгас «Ніва Кастрычніка», працавалі вятрак і кузня. У 1940 г. 60 двароў. У Вял. Айч. вайну ням. акупанты ў 1944 г. спалілі 6 двароў і загубілі 3 жыхароў. 29 вяскоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 247 жыхароў. У складзе саўгаса «Дварэц» (цэнтр — в. Дварэц). Планіровачна складаецца з крывалінейнай, шыротнай вуліцы, забудаванай двухбакова драўлянымі сял. сядзібамі. Радзіма Героя Сац. Працы М.А.Дзмітрыева, засл. работніка сельскай гаспадаркі Беларусі А.Я.Каліноўскага.

**БЕЛІЦК** — рабочы пасёлак, цэнтр пасялковага Савета, за 33 км на ПдУ ад Рагачова, 17 км ад чыг. ст. Салтанаўка (на лініі Жлобін—Гомель), 104 км ад Гомеля, на У меліярацыйныя каналы. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Стоўпня—Гадзілавічы. 700 жыхароў (1999 г.).

Засн. ў 1951 г. як пасёлак торфапрадпрыемства «Беліцкае», дзе вяліся торфараспрацоўкі з 1949 г. Прадпрыемства хутка нарошчвала свае магутнасці, інтэнсіўна вялося і будаўніцтва пасёлка. Паводле перапісу 1959 г. 1267 жыхароў. 12.1.1960 г. нададзены статус рабочага пасёлка. У складзе калгаса «12 гадоў Кастрычніка» (цэнтр — в. Журавічы). Размешчаны торфапрадпрыемства «Беліцкае» і яго падсобная гаспадарка, паўбрыкетны з-д, механічныя майстэрні па рамонту торфаздабываючай тэхнікі, электрацэх, камбінат быт. абслугоўвання, сярэдняя школа, дзіцячыя сад-яслі, б-ка, клуб, б-ца, аддз. сувязі, гіст.-краязнаўчы музей (у школе). Планіровачна складаецца з 3 кароткіх, шчыльна забудаваных, блізкай да мерыдыянальнай арыентацыі вуліц, да якіх з З далучаецца кароткая прамалінейная вуліца. Забудова мураваная і драўляная, 1—2-павярховая, шчыльная, сядзібнага тыпу.



*Свята г.п. Беліцк.*

**БІРЧАНСКАЯ СЛАБАДА** — вёска ў Дварэцкім с/с, за 28 км на З ад раённага цэнтра і чыг. ст. Рагачоў (на лініі Магілёў—Жлобін), за 151 км ад Гомеля, на З меліярацыйны канал. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Бабруйск—Гомель. 30 гаспадарак, 52 жыхары (2004 г.).

Засн. ў пач. 20 ст. перасяленцамі з суседніх вёсак як сяленне ў Бабруйскім пав. Найбольш актыўная забудова вялася ў 1920-я г. У 1931 г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. Паводле перапісу 1959 г. 229 жыхароў. У складзе саўгаса «Дварэц» (цэнтр — в. Дварэц). У Вял. Айч. вайну 19 вяскоўцаў загінулі на фронце. Планіровачна складаецца з крыху выгнутай, блізкай да шыротнай арыентацыі вуліцы, на З да якой далучаецца з Пн завулак. Забудова двухбаковая, няшчыльная, драўляная, сядзібнага тыпу.

**БЛІЗНЯЦЫ** — вёска ў Старасельскім с/с, за 5 км на ПнЗ ад раённага цэнтра і чыг. ст. Рагачоў (на лініі Магілёў—Жлобін), 126 км ад Гомеля, на р. Друць

(прыток р. Дняпро), на Пд, У і Пн мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Рагачоў—Старое Сяло. 35 гаспадарак, 70 жыхароў (2004 г.).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 19 ст. як сяленне ў Кісцянёўскай вол. Рагачоўскага пав. Магілёўскай губ. Паводле рэвізскіх матэрыялаў 1859 г. вёска, уладанне памешчыка І.Я.Пячкоўскага. У 1908 г. 54 двары, 351 жыхар, 1030 дзес. зямлі. У 1930 г. створаны калгас. У 1940 г. 63 двары, 361 жыхар. У Вял. Айч. вайну ў лют. 1944 г. ням. акупанты спалілі 61 двор. У баях за вёску і наваколле загінуў 741 воін, у іх ліку Герой Сав. Саюза А.Г.Сафонаў (пахаваны ў брацкай магіле за 1 км на У ад вёскі). 20 вяскоўцаў загінулі на фронце. У складзе саўгаса «Прагрэс» (цэнтр — в. Шчыбрын). Планіровачна складаецца з кароткай прамалінейнай вуліцы мерыдыянальнай арыентацыі, да якой з Пд і Пн далучаюцца кароткія выгнутыя вуліцы. Забудова двухбаковая, рэдкая, сядзібнага тыпу. Побач ёсць залежы валуноў.

**БЛЮЕЎ** — пасёлак у Журавіцкім с/с, за 44 км на ПнУ ад раённага цэнтра і чыг. ст. Рагачоў (на лініі Магілёў—Жлобін), 105 км ад Гомеля. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Доўск—Слаўгарад. 17 гаспадарак, 30 жыхароў (1999 г.).

Засн. ў пач. 20 ст. перасяленцамі з суседніх вёсак. Найбольш актыўная забудова вялася ў 1920-х г. У 1931 г. пасялкоўцы ўступілі ў калгас. У 1940 г. 45 двароў, 176 жыхароў. У Вял. Айч. вайну ў 1943 г. ням. карнікі спалілі 8 двароў. 34 вяскоўцы загінулі на фронце. 29.6.1957 г. пераведзены з Веліказімніцкага с/с Быхаўскага р-на ў Журавіцкі с/с Рагачоўскага р-на. Паводле перапісу 1959 г. 199 жыхароў. У 1977 г. ў пасёлак перасяліліся жыхары суседняга пас. Міхайлаўка. У складзе калгаса «12 гадоў Кастрычніка» (цэнтр — в. Журавічы). Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ і забудаванай двухбакова драўлянымі сял. сядзібамі.

**БОРХАЎ** — вёска ў Званецкім с/с, за 30 км на ПнУ ад раённага цэнтра і чыг. ст. Рагачоў (на лініі Магілёў—Жлобін), 94 км ад Гомеля. Праз вёску праходзіць меліярацыйны канал. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Рагачоў—Доўск. 17 гаспадарак, 25 жыхароў (2004 г.).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 19 ст. як сяленне ў Доўскай вол. Рагачоўскага пав. Магілёўскай губ. Па рэвізіі 1858 г. 10 двароў, 53 жыхары, уладанне памешчыка Д.П.Турчанінава, які меў у 1869 г. ў вёсках Святое і Борхаў 4680 дзес. зямлі і з-д па вырабе дзёгцю. З 1880 г. працаваў хлебазапасны магазін. Паводле перапісу 1897 г. 17 двароў, 136 жыхароў. У 1909 г. 143 жыхары, 259 дзес. зямлі. У 1930 г. арганізаваны калгас «Чырвоная праца», дзейнічаў вятрак. Паводле перапісу 1959 г. 245 жыхароў. У складзе саўгаса «Бальшавік» (цэнтр — в. Званец). Планіровачна складаецца з дугападобнай шыротнай вуліцы, да якой з Пн далучаецца завулак. На Пд, па другі бок меліярацыйнага канала, — ка-



*А.Макаёнак на Рагачоўшчыне. 1950-я г.*

роткая шыротная вуліца. Забудова пераважна двухбаковая, няшчыльная, драўляная, сядзібнага тыпу. Радзіма бел. драматурга, нар. пісьменніка БССР, лаўрэата Дзярж. прэміі БССР імя Я.Коласа А.Я.Макаёнка.

**БРОД** — пасёлак у Гадзілавіцкім с/с, за 14 км на ПдУ ад раённага цэнтра і чыг. ст. Рагачоў (на лініі Магілёў—Жлобін), 115 км ад Гомеля, на Пд і У меліярацыйныя каналы. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Рагачоў—Доўск. 15 гаспадарак, 23 жыхары (2004 г.).

Засн. ў пач. 20 ст. перасяленцамі з суседніх вёсак. У 1931 г. пасялкоўцы ўступілі ў калгас. У 1940 г. 30 двароў, 212 жыхароў. У Вял. Айч. вайну ням. карнікі ў снеж. 1943 г. спалілі пасёлак і загубілі жыхара. 20 пасялкоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 149 жыхароў. У складзе калгаса «Савецкая Беларусь» (цэнтр — в. Гадзілавічы). Планіровачна складаецца з кароткай прамалінейнай вуліцы, блізкай да мерыдыянальнай арыентацыі, да якой з У далучаецца кароткая выгнутая вуліца. Забудова пераважна аднабаковая, драўляная, сядзібнага тыпу.

**БРОННАЕ** — вёска ў Запольскім с/с, за 9 км на З ад раённага цэнтра і чыг. ст. Рагачоў (на лініі Магілёў—Жлобін), 130 км ад Гомеля, на р. Дабрыца (прыток р. Друць). Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Бабруйск—Гомель. 29 гаспадарак, 55 жыхароў (2004 г.).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 19 ст. як вёска ў Ціхініцкай вол. Рагачоўскага пав. Магілёўскай губ. У 1881 г. 58 двароў, 365 жыхароў. З 1882 г. дзейнічаў хлебазапасны магазін, працаваў млын. Паводле перапісу 1897 г. 71 двор, 512 жыхароў, школа граматы, піцейны дом. У 1909 г. 83 двары, 569 жыхароў, 1146 дзес. зямлі. У 1930 г. арганізаваны калгас «Красін», працавала кузня. У Вял. Айч. вайну ў чэрв. 1944 г. ням. акупанты спалілі вёску і загубілі жыхара. 29 вяскоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 242 жыхары. У 1975 г. ў вёску перасялілася частка жыхароў в. Манькі (не існуе). У складзе калгаса «Кастрычнік» (цэнтр — в. Стрэнькі). Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ і забудаванай двухбакова, няшчыльна, драўлянымі сял. сядзібамі.

Радзіма засл. работніка гандлю і грамадскага харчавання Я.Е.Крэза.

**БУДА** — вёска ў Гарадзецкім с/с, за 20 км на ПдУ ад раённага цэнтра і чыг. ст. Рагачоў (на лініі Магілёў—Жлобін), 115 км ад Гомеля, на паўд. ускраіне безымянная рака (прыток р. Ржаўка). Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Рагачоў—Доўск. 34 гаспадаркі, 75 жыхароў (2004 г.).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 18 ст. як сяленне ў Рэчыцкім пав. Мінскага ваяв. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) у складзе Рас. імперыі. У 1816 г. 30 двароў. Паводле рэвізскіх матэрыялаў 1859 г. ва ўладанні І.Чарнышова-Круглікава. З 1880 г. дзейнічаў хлебазапасны магазін, у Староруднянскай вол. Рагачоўскага пав. Магілёўскай губ. У 1930 г. створаны калгас, працавала кузня. У 1940 г. 76 двароў, 287 жыхароў. У Вял. Айч. вайну ў снеж. 1943 г. ням. карнікі спалілі вёску і загубілі 2 вяскоўцаў. У баях за вёску і наваколле загінулі 3424 воіны (пахаваны на брацкіх могілках за 1 км на ПнЗ ад вёскі). 30 вяскоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 282 жыхары. У складзе калгаса «Світанне» (цэнтр — в. Гарадзец). Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ, якая ў цэнтры перакрыжоўваецца другой прамалінейнай вуліцай. Забудова двухбаковая, драўляная, сядзібнага тыпу.

**БЯРОЗАВЫ ГАЙ** — вёска ў Курганскім с/с, за 52 км на У ад раённага цэнтра і чыг. ст. Рагачоў (на лініі Магілёў—Жлобін), 77 км да Гомеля, на зах. ускраіне — р. Дулепа (прыток р. Чачора) і мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па

прасёлачнай дарозе, потым па шашы Доўск—Гомель. 5 гаспадарак, 15 жыхароў (2004 г.).

Засн. ў пач. 20 ст. як сяленне ў Рагачоўскім пав. Магілёўскай губ. У 1931 г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну 18 вяскоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 168 жыхароў. У складзе саўгаса «1 Мая» (цэнтр — в. Курганне). Планіровачна складаецца з прамалінейнай мерыдыянальнай вуліцы, забудаванай двухбакова, няшчыльна, драўлянымі сял. сядзібамі.

**ВАЛОКІ** — вёска ў Азяранскім с/с, за 34 км на ПнУ ад раённага цэнтра і чыг. ст. Рагачоў (на лініі Магілёў—Жлобін), 154 км ад Гомеля. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Бабруйск—Гомель. 13 гаспадарак, 20 жыхароў (2004 г.).

Засн. ў пач. 20 ст. перасяленцамі з суседніх вёсак. Найбольш актыўная забудова вялася ў 1920-я г. У 1932 г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У 1940 г. 40 двароў, 218 жыхароў. У Вял. Айч. вайну ў кастр. 1943 г. ням. акупанты спалілі вёску і загубілі 43 жыхароў. 14 вяскоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 172 жыхары. У складзе калгаса «XVII партз'езд» (цэнтр — в. Вялікая Крушынаўка). Планіровачна складаецца з прамалінейнай мерыдыянальнай вуліцы, да якой з З далучаецца завулак. Забудова драўляная, двухбаковая, няшчыльная, сядзібнага тыпу.

**ВАЛОСАВІЧЫ** — вёска ў Журавіцкім с/с, за 39 км на ПнУ ад раённага цэнтра і чыг. ст. Рагачоў (на лініі Магілёў—Жлобін), 97 км ад Гомеля, на р. Доўгая (прыток р. Гутлянка), на Пн і З мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Доўск—Слаўгарад. 8 гаспадарак, 13 жыхароў (2004 г.).

Выяўлены археолагамі курганны могільнік (54 насыпы, за 1,5 км на Пн ад вёскі) сведчыць аб засяленні гэтых мясцін у глыбокай старажытнасці. Па пісьмовых крыніцах вядома з 18 ст., калі тут пачало працаваць шкларобнае прадпрыемства. У 1824 г. адбыліся хваляванні сялян супраць уладальніка вёскі памешчыка Барткевіча. У 1838 г. 44 двары, у Доўскай вол. Рагачоўскага пав. Магілёўскай губ. У 1878 г. мясц. памешчык меў у вёсцы 575 дзес. зямлі. У 1931 г. арганізаваны калгас «Дружба». У Вял. Айч. вайну 16 вяскоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 327 жыхароў. Планіровачна складаецца з прамалінейнай мерыдыянальнай вуліцы, на З ад якой, за ракой, кароткая мерыдыянальная і больш працяглая шыротная вуліцы. Забудова двухбаковая, няшчыльная, драўляная, сядзібнага тыпу.

**ВЕТАЧКА** — вёска ў Гарадзецкім с/с, за 24 км на ПдУ ад раённага цэнтра і чыг. ст. Рагачоў (на лініі Магілёў—Жлобін), 102 км ад Гомеля, на р. Ржача (прыток р. Ржаўка). Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Стоўпня—Гадзілавічы. 30 гаспадарак, 159 жыхароў (2004 г.).

Выяўленыя археолагамі курганныя могільнікі 11—12 ст. (47 насыпаў, за 0,5 км на ПдУ і 32 насыпы, за 150 м на Пд ад вёскі) сведчаць аб засяленні гэтых мясцін у далёкай старажытнасці. Па пісьмовых крыніцах вядома з 19 ст. як сяленне ў Рагачоўскім пав. Магілёўскай губ. З 1870 г. ў фальварку працавала сукнавальня. У 1879 г. мясц. памешчык валодаў тут 160 дзес. зямлі, вадзяным млыном і сукнавальняй. Паводле перапісу 1897 г. 10 двароў, 77 жыхароў, у Гарадзецкай вол. У 1909 г. ў вёсцы 13 двароў, 81 жыхар, 134 дзес. зямлі, у фальварку — 5 жыхароў, 140 дзес. зямлі. У 1925 г. ў вёсцы 20 і ў аднайменнай аколіцы 5 двароў. Пазней аколіца далучылася да вёскі. У 1931 г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У 1940 г. 89 двароў, 267 жыхароў. У Вял. Айч. вайну ў снеж. 1943 г. ням. акупанты спалілі 80 двароў і загубілі 4 жыхароў. 43 вяскоўцы загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 305 жыхароў. У складзе калгаса «Дружба» (цэнтр — в. Высокае). Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдЗ на Пн,

да якой далучаецца крыху выгнутая шыротная і 2 кароткія прамалінейныя вуліцы. Забудова двухбаковая, драўляная, няшчыльная, сядзібнага тыпу.

**ВІКОЎ** — вёска ў Збароўскім с/с, за 4 км на У ад раённага цэнтра і чыг. ст. Рагачоў (на лініі Магілёў—Жлобін), 120 км ад Гомеля, на паўн. ускраіне меліярацыйны канал, вакол лес. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Рагачоў—Жлобін. 70 гаспадарак, 371 жыхар (2004 г.).

Засн. ў пач. 1920-х г. перасяленцамі з суседніх вёсак на былых памешчыцкіх землях. У 1931 г. арганізаваны калгас. У Вял. Айч. вайну ў баях за вёску і наваколле загінулі 143 воіны (пахаваны ў брацкай магіле, за 0,4 км на ПнУ ад вёскі). 21 вясковец загінуў на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 434 жыхары. У складзе калгаса «Новы шлях» (цэнтр — в. Збароў). Размешчаны Рагачоўскае лясніцтва, дом-інтэрнат і яго падсобная гаспадарка. Планіровачна складаецца з кароткай прамалінейнай шыротнай вуліцы. На Пн — адасоблены ўчастак забудовы. Жылыя дамы драўляныя, сядзібнага тыпу.

**ВІРЫЧАЎ** — вёска ў Ціхініцкім с/с, за 14 км на ПнЗ ад раённага цэнтра і чыг. ст. Рагачоў (на лініі Магілёў—Жлобін), 135 км ад Гомеля, на Пд і У меліярацыйны канал. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Бабруйск—Гомель. 38 гаспадарак, 72 жыхары (2004 г.).

Выяўленыя археолагамі стаянка ранняга мезаліту (за 2 км на У ад вёскі), стаянка эпохі неаліту (за 0,5 км ад вёскі) і гарадзішча ранняга жал. веку (побач з вёскай) сведчаць аб засяленні гэтых мясцін у глыбокай старажытнасці. Па пісьмовых крыніцах вядома з 19 ст. як вёска ў Ціхініцкай вол. Рагачоўскага пав. Магілёўскай губ. У 1881 г. 58 двароў, 415 жыхароў. Паводле перапісу 1897 г. 82 двары, 54 жыхары; школа граматы, хлебазапасны магазін, млын. У 1909 г. 86 двароў, 589 жыхароў, 973 дзес. зямлі. У 1913 г. адкрыта школа, якая размяшчалася ў наёмнай сял. хаце. У 1930 г. арганізаваны калгас «Полымя рэвалюцыі», працавала кузня. У Вял. Айч. вайну ў чэрв. 1944 г. ням. акупанты спалілі вёску і загубілі 5 жыхароў. 51 вясковец загінуў на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 341 жыхар. У складзе саўгаса «Ціхінічы» (цэнтр — в. Ціхінічы). Планіровачна складаецца з прамалінейнай мерыдыянальнай вуліцы, да цэнтра якой з З далучаецца другая прамалінейная вуліца. Забудавана двухбакова, няшчыльна, драўлянымі сял. сядзібамі. Каля вёскі ёсць залежы гліны.

**ВІТЛІН** — вёска ў Побалаўскім с/с, за 26 км на ПдЗ ад раённага цэнтра і чыг. ст. Рагачоў (на лініі Магілёў—Жлобін), 147 км ад Гомеля. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Бабруйск—Гомель. 23 гаспадаркі, 43 жыхары (2004 г.).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 16 ст. як сяленне ў Рэчыцкім пав. Мінскага ваяв. ВКЛ. Па інвентары Бабруйскага староства 1639 г. вёска, 14 валок зямлі (8 пуставалі). Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1919 г. адкрыта школа, якая размяшчалася ў наёмнай сял. хаце. У 1925 г. 55 двароў. У 1931 г. арганізаваны калгас «Аганёк», працавала кузня. У Вял. Айч. вайну 23 вяскоўцы загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 207 жыхароў. У складзе калгаса «Чырвоная Армія» (цэнтр — в. Востраў). Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ, да якой далучаецца кароткая прамалінейная вуліца. Забудова двухбаковая, драўляная, сядзібнага тыпу.

**ВІШАНЬКА** — вёска ў Гарадзецкім с/с, за 25 км на ПдУ ад раённага цэнтра і чыг. ст. Рагачоў (на лініі Магілёў—Жлобін), за 104 км ад Гомеля, на р. Ржаўка (прыток р. Дняпро), на Пн мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Стоўпня—Гадзілавічы. 37 гаспадарак, 74 жыхары (2004 г.).

Выяўленыя археолагамі 6 курганоў 11—12 ст. і стаянка грэнскай культуры сведчаць аб засяленні гэтых мясцін у далёкай старажытнасці. Па пісьмовых крыніцах вядома з 19 ст. як сяленне ў Гарадзецкай вол. Рагачоўскага пав. Магілёўскай губ. Па рэвізіі 1858 г. 19 двароў, 140 жыхароў, уладанне памешчыка Сенажэцкага, які ў 1872 г. меў тут 998 дзес. зямлі, вадзяны млын і сукнавальню. У 2-й пал. 19 ст. (не пазней 1884) пачалі дзейнічаць школа граматы і хлебазапасны магазін. Паводле перапісу 1897 г. 43 двары, 302 жыхары, вятрак. З 1907 г. працавала нар. вучылішча (20 вучняў). У 1909 г. 46 двароў, 389 жыхароў, 454 дзес. зямлі, у фальварку — 13 жыхароў, 7733 дзес. зямлі. У 1925 г. 76 двароў. З 20.8. 1924 г. да 16.7.1954 г. цэнтр Вішанскага с/с. У 1930 г. арганізаваны калгас. У Вял. Айч. вайну ў снеж. 1943 г. ням. акупанты спалілі 20 двароў. У баях за вёску і наваколле загінулі 63 воіны (пахаваны на брацкіх могілках у цэнтры вёскі). 32 вяскоўцы загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 298 жыхароў. У складзе калгаса «Дружба» (цэнтр — в. Высокае). Планіровачна складаецца з выгнутай шыротнай вуліцы, забудаванай двухбакова драўлянымі сял. сядзібамі.

**ВІШЧЫН** — вёска ў Кісцянёўскім с/с, за 16 км на ПнУ ад раённага цэнтра і чыг. ст. Рагачоў (на лініі Магілёў—Жлобін), 103 км ад Гомеля, на р. Дняпро. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Рагачоў—Старое Сяло. 55 гаспадарак, 78 жыхароў (2004 г.).

На правым беразе Дняпра археолагамі выяўлена гарадзішча 11—13 ст., дзе знаходзіўся замак, які ў сярэдзіне 13 ст. разбураны і спалены. Каля вёскі знойдзена свінцовая пячатка Мсціслава Расціславіча Храбрага. Аб даволі шырокіх сувязях Вішчына з інш. рэгіёнамі сведчыць і знойдзены тут у 1979 г. скарб канца 12 — пач. 13 ст. Па пісьмовых крыніцах вядома з 13 ст. У Іпацьеўскім летапісе ўпамінаецца пад 1258 г. Пазней у Рэчыцкім пав. Мінскага ваяв. ВКЛ. Па дакументах 1567 г. вёска павінна была выдзяляць сваіх аналчэнцаў для ўзброеных атрадаў ВКЛ. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) у складзе Рас. імперыі. Па рэвізіі 1816 г. 33 двары, 246 жыхароў, у Рагачоўскім пав. Магілёўскай губ., ва ўладанні Ланеўскіх. У 1881 г. 75 двароў, 502 жыхары, хлебазапасны магазін. Паводле перапісу 1897 г. 113 двароў, 832 жыхары, капліца, 2 ветракі, піцейны дом. На пач. 20 ст. дзейнічалі школа і млын, у Кісцянёўскай вол. У 1909 г. 858 жыхароў, 1206 дзес. зямлі. У 1925 г. 117 двароў. У 1930 г. арганізаваны калгас «Чырвоны маяк», працавалі вятрак і кузня. У Вял. Айч. вайну ням. карнікі ў 1943 г. спалілі 27 двароў, загубілі 2 жыхароў. У баі каля вёскі 20.2. 1944 г. вызначыўся камандзір роты, ст. лейтэнант І.І.Хмель (пасмяротна ўдастоены звання Героя Сав. Саюза), а 21.2.1944 г. — гарматны разлік на чале з А.І.Громавым і ўзвод пад камандаваннем М.Р.Маладзікова (абодва ўдастоены звання Героя Сав. Саюза). Вызвалена 24.2.1944 г. Загінулі ў баях за вёску і наваколле 89 воінаў. 44 вяскоўцы загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 421 жыхар. У складзе саўгаса «Кісцяні» (цэнтр — в. Кісцяні). Планіровачна складаецца з крывалінейнай працяглай вуліцы, блізкай да мерыдыяльнай арыентацыі (узлоўж поймы Дняпра) і забудаванай двухбакова драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**ВОСАЎ** — пасёлак у Балатнянскім с/с, за 44 км на ПнУ ад раённага цэнтра і чыг. ст. Рагачоў (на лініі Магілёў—Жлобін), 105 км ад Гомеля, на У, Пн і З меліярацыйныя каналы. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Доўск—Слаўгарад. 13 гаспадарак, 30 жыхароў (2004 г.).

Па пісьмовых крыніцах вядомы з 19 ст. як невял. пасяленне ў Доўскай вол. Рагачоўскага пав. Магілёўскай губ. З 1880 г. дзейнічаў хлебазапасны магазін. Паводле перапісу 1897 г. 29 двароў, 201 жыхар, вятрак. У 1909 г. 254 жыхары,

379 дзес. зямлі. У 1931 г. пасялкоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну 8 пасялкоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 100 жыхароў. У складзе калгаса імя У.І.Леніна (цэнтр — в. Балотня). Планіровачна складаецца з кароткай прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ і забудаванай драўлянымі сял. сядзібамі.

**ВОСТРАЎ** — вёска ў Побалаўскім с/с, за 22 км на ПдЗ ад Рагачова, 6 км ад чыг. ст. Чырвоны Бераг (на лініі Бабруйск—Жлобін), 150 км ад Гомеля, на р. Добасна (прыток р. Друць). Транспартныя сувязі на прасёлачнай, потым аўтадарозе Бабруйск—Гомель. 244 гаспадаркі, 717 жыхароў (2004 г.).

Засн. ў пач. 20 ст. перасяленцамі з суседніх вёсак. У баі з польскімі легіянерамі 30.11.1917 г. каля вёскі загінулі 19 чырвонаармейцаў (пахаваны ў брацкай магіле). У 1925 г. 124 двары. У 1930 г. арганізаваны калгас «Полымя», працавала кузня. У Вял. Айч. вайну ням. карнікі ў 1944 г. спалілі 26 двароў і загубілі 2 жыхароў. У баях каля вёскі загінулі 28 сав. воінаў (пахаваны ў брацкай магіле). На франтах і ў партыз. барацьбе загінулі 208 землякоў, памяць аб якіх увекавечвае абеліск, пастаўлены ў 1961 г. 60 вяскоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 431 жыхар. Цэнтр калгаса «Чырвоная Армія». Размешчаны з-д сяннoй мукі, Дом культуры, б-ка, дзіцячыя яслі-сад, аддз. сувязі. Планіровачна складаецца з прамалінейнай працяглай вуліцы, блізкай да мерыдыянальнай арыентацыі, да якой далучаецца завулак. Забудова двухбаковая, шчыльная, драўляная і мураваная, сядзібнага тыпу. Пасля аварыі на Чарнобыльскай АЭС у вёсцы размясцілася частка перасяленцаў з Кармянскага р-на. Радзіма чл.-кар. Нац. АН Беларусі, доктара с.-г. навук, прафесара Р.І.Лашкевіча і бел. пісьменніка Я.М.Гаварушкі.

**ВУГЛЫ** — вёска ў Стаўпнянскім с/с, за 36 км на ПдУ ад Рагачова, 23 км ад чыг. ст. Салтанаўка (на лініі Жлобін—Гомель), 103 км ад Гомеля, на 3 меліярацыйныя каналы. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Стоўпня—Гадзілавічы. 54 гаспадаркі, 90 жыхароў (2004 г.).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 18 ст. як вёска ў Гарадзецкай вол. Рагачоўскага пав. Магілёўскай губ. Па рэвізіі 1816 г. 15 двароў, уладанне памешчыка Макавецкага. У 1858 г. 22 двары, 152 жыхары, уладанне Хадкевічаў. З 1880 г. дзейнічаў хлебазапасны магазін. Паводле перапісу 1897 г. 51 двор, 334 жыхары, школа граматы, кузня, вінная крама, млын. У 1909 г. 53 двары, 461 жыхар, 747 дзес. зямлі. У 1925 г. 101 двор. У 1930 г. арганізаваны калгас «Ударнік», працаваў вятрак. У Вял. Айч. вайну 58 вяскоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 490 жыхароў. Планіровачна складаецца з прамалінейнай мерыдыянальнай вуліцы, да якой у цэнтры далучаюцца 2 кароткія паралельныя вуліцы. Забудова двухбаковая, няшчыльная, драўляная, сядзібнага тыпу.

**ВУЗЕНЬКІ** — пасёлак у Азяранскім с/с, за 37 км на ПнУ ад раённага цэнтра і чыг. ст. Рагачоў (на лініі Магілёў—Жлобін), 158 км ад Гомеля. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Бабруйск—Гомель. 6 гаспадарак, 97 жыхароў (2004 г.).

Засн. ў пач. 1920-х г. на былых памешчыцкіх землях перасяленцамі з суседніх вёсак. У 1925 г. 7 двароў. У 1932 г. пасялкоўцы ўступілі ў калгас. У 1940 г. 16 двароў, 104 жыхары. У Вял. Айч. вайну ням. карнікі спалілі 10 двароў, загубілі 7 жыхароў. 5 пасялкоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 79 жыхароў. У складзе калгаса «XVII партз'езд» (цэнтр — в. Вялікая Крушынаўка). Планіровачна складаецца з кароткай прамалінейнай мерыдыянальнай вуліцы. Забудова драўляная, сядзібнага тыпу.

**ВЫСОКАЕ**— вёска ў Гарадзецкім с/с, за 30 км на ПдУ ад раённага цэнтра і чыг. ст. Рагачоў (на лініі Магілёў—Жлобін), 120 км ад Гомеля, на р. Ржаўка (прыток

р. Дняпро). Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Стоўпня—Гадзілавічы. 160 гаспадарак, 461 жыхар (2004 г.).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 18 ст. як сяленне ў Рэчыцкім пав. Мінскага ваяв. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) у складзе Рас. імперыі. Па інвентару 1778 г. маёнтак і вёска, 17 двароў, у Рагачоўскай правінцыі Магілёўскай губ. У 1822 г. ў вёсцы было 1535 дзес. зямельных угоддзяў, якія належалі сялянам і памешчыку. У 1847 г. 28 двароў, 297 жыхароў. Гаспадар аднаго фальварка меў у 1874 г. 562 дзес. зямлі, другога ў 1877 г. — 393 дзес. зямлі, карчму і 2 млыны. Паводле перапісу 1897 г. 110 двароў, 642 жыхары, школа граматы. У 1909 г. 750 жыхароў. У пач. 1920-х г. у фальварку быў створаны калгас «Вернае». У 1925 г. 176 двароў. У 1930 г. арганізаваны калгас «Новы свет», працавалі вятрак і кузня. У Вял. Айч. вайну ў снеж. 1943 г. ням. акупанты спалілі 39 двароў і загубілі 11 жыхароў. У баях за вёску і наваколле загінулі 274 воіны і 2 партызаны (пахаваны на вайсковых могілках у цэнтры вёскі). 99 вяскоўцаў не вярнуліся з фронту. Паводле перапісу 1959 г. 652 жыхары. Цэнтр калгаса «Дружба». Размешчаны цагельня, ільноапрацоўчы з-д, сярэдняя школа, Дом культуры, б-ка, дзіцячыя яслі-сад, фельч.-акушэрскі пункт, аддз. сувязі, магазін. Планіровачна складаецца з крываліне йнай вуліцы, блізкай да мерыдыянальнай арыентацыі, да якой з У далучаюцца 3 кароткія прамалінейныя вуліцы. На З ад галоўнай праходзіць кароткая, блізкая да мерыдыянальнай арыентацыі вуліца. Да асн. забудовы з Пд далучаецца кароткая, рэдка забудаваная вуліца. Жылыя дамы драўляныя, сядзібнага тыпу. У 1987 г. пабудаваны мураваныя дамы на 50 сямей, у якіх размясціліся перасяленцы з забруджаных радыяцыяй месц. Радзіма Героя Сав. Саюза А.Ф.Самусёва.



*А.Ф.Самусёў.*



*Сад у в. Высокае.*

**ВЯЛІКАЕ ЛЯДА** — пасёлак у Азяранскім с/с, за 36 км на ПнУ ад раённага цэнтра і чыг. ст. Рагачоў (на лініі Магілёў—Жлобін), 157 км ад Гомеля. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Бабруйск—Гомель. 17 гаспадарак, 31 жыхар (2004 г.).

Засн. ў пач. 20 ст. перасяленцамі з суседніх вёсак. У 1925 г. 22 двары. У 1931 г. пасялкоўцы ўступілі ў калгас. У 1940 г. 33 двары, 138 жыхароў. У Вял. Айч. вайну ням. карнікі ў 1944 г. спалілі 20 двароў, загубілі 19 жыхароў. У баі за вёску 25.6.1944 г. пры адбіцці варожых контратак вызначыўся кулямётчык Ф.М.Стралец (удастоены звання Героя Сав. Саюза). Непадалёку ад пасёлка артыл. батарэя, якой камандаваў І.В.Індракоў, апынулася ў акружэнні, але камандзір батарэі арганізаваў контратаку, прарваў акружэнне, і яго падраздзяленне вызваліла пасёлак (удастоены звання Героя Сав. Саюза). 9 пасялкоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 136 жыхароў. У складзе калгаса «XVII партз'езд» (цэнтр — в. Вялікая Крушынаўка). Планіровачна складаецца з кароткай прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ і забудаванай двухбакова драўлянымі сял. сядзібамі.

**ВЯЛІКАЯ КРУШЫНАЎКА** — вёска ў Азяранскім с/с, за 35 км на ПнЗ ад раённага цэнтра і чыг. ст. Рагачоў (на лініі Магілёў—Жлобін), 156 км ад Гомеля, на З — Фалевіцкі канал. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Магілёў—Гомель. 140 гаспадарак, 390 жыхароў (2004 г.).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 18 ст. як вёска ў Рэчыцкім пав. Мінскага ваяв., належала царкве. Пад 1790 г. пазначана ў інвентары маёнтка Азяраны як в. Крушынаўка. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1849 г. 34 двары і 8 незаселеных участкаў. Побач быў аднайменны фальварак (18 двароў і 3 незаселеныя ўчасткі). У 2-й пал. 19 ст. каля вёскі пачала складвацца аколіца, якая затым ператварылася ў в. Малая Крушынаўка, а в. Крушынаўка стала называцца Вялікая Крушынаўка. У 1881 г. 58 двароў, 445 жыхароў, у Ціхініцкай вол. Рагачоўскага пав. Магілёўскай губ. Паводле перапісу 1897 г. 89 двароў, 712 жыхароў, школа граматы. У 1907 г. адкрыта нар. вучылішча, якое размяшчалася ў наёмнай сял. хаце (57 вучняў), дзейнічаў млын. У 1909 г. 92 двары, 804 жыхары, 1252 дзес. зямлі. У 1925 г. 101 двор. З 20.8. 1924 г. да 16.7.1954 г. цэнтр Крушынаўскага с/с Рагачоўскага р-на Бабруйскай (да 26.7.1930) акругі, з 20.2.1938 г. Гомельскай вобл. У 1930 г. арганізаваны калгас. У 1940 г. 130 двароў. У Вял. Айч. вайну партызаны разграмілі створаны тут варожы гарнізон. У кастр. 1943 г. ням. карнікі спалілі частку вёскі, а ў чэрв. 1944 г. — яшчэ 106 двароў і загубілі 62 жыхароў. У баях за вёску і наваколле загінулі 300 воінаў (пахаваны ў брацкай магіле ў цэнтры вёскі). 28 вяскоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 522 жыхары. Цэнтр калгаса «XVII партз'езд». Размешчаны сярэдняя школа, Дом культуры, б-ка, фельч.-акушэрскі пункт, дзіцячыя яслі-сад, вет. ўчастак, аддз. сувязі, шавецкая майстэрня, 2 магазіны. Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы блізкай да шыротнай арыентацыі, да якой на З і У далучаюцца кароткія прамалінейныя вуліцы мерыдыянальнай арыентацыі. Забудова двухбаковая, драўляная, сядзібнага тыпу. У 1987 г. тут пабудаваны мураваныя дамы на 50 сямей, у якіх размясціліся перасяленцы з забруджаных радыяцыяй месц. Радзіма Герояў Сав. Саюза ген.-м. Г.П.Ісакава і Р.С.Кавалёва (яго імя носіць вясковая сярэдняя школа).

**ВЯЛІКІЯ СТРАЛКІ** — вёска ў Гарадзецкім с/с, за 28 км на ПдУ ад раённага цэнтра і чыг. ст. Рагачоў (на лініі Магілёў—Жлобін), 106 км ад Гомеля, на р. Ржаўка (прыток р. Дняпро). Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Рагачоў—Доўск. 134 гаспадаркі, 369 жыхароў (2004 г.).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 18 ст. як в. Стралкі ў Рэчыцкім пав. Мінскага ваяв. У сярэдзіне 18 ст. з вёскі вылучылася аколіца Малыя Стралкі, а в. Стралкі стала называцца Вялікія Стралкі. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) у складзе Рас. імперыі. Па рэвізіі 1816 г. 55 двароў, 255 жыхароў. Памешчык меў тут у 1846 г. 359 дзес. зямлі. З 1850 г. працавалі сукнавальня, з 1880 г. — школа граматы, млын, хлебазапасны магазін, у Гарадзецкай вол. Рагачоўскага пав. Магілёўскай губ. Паводле перапісу 1897 г. 111 двароў, 674 жыхары, школа граматы, хлебазапасны магазін, вятрак, 3 кузні, карчма. Непадалёку была в. Новыя Стралкі — 20 гаспадарак, 163 жыхары, вятрак, вадзяны млын, пазней далучылася да Вялікіх Стралкоў. У 1909 г. 109 двароў, 859 жыхароў, 1134 дзес. зямлі, побач аднайменныя хутары і фальварак (31 двор, 219 жыхароў, 655 дзес. зямлі). У 1925 г. ў вёсцы — 170, у фальварку — 39 двароў. У 1930 г. арганізаваны калгас «Молат», працавала кузня. У Вял. Айч. вайну ням. акупанты ў 1943 г. спалілі 8 двароў. У баях за вёску і наваколле загінулі 35 воінаў (пахаваны ў брацкай магіле ў цэнтры вёскі). 70 вяскоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 640 жыхароў. Цэнтр калгаса «Радзіма». Размешчаны 9-гадовая школа, Дом культуры, б-ка, фельч.-акушэрскі пункт, дзіцячыя яслі-сад, аддз. сувязі, музей нар. славы. Планіроўка квартальная — 4 прамалінейныя вуліцы, арыентаваныя з ПдУ на ПнЗ і злучаныя незабудаванымі вуліцамі. На Пд, уздоўж прасёлачнай дарогі,





*Р.С.Кавалёў.*

*Г.П.Ісакаў.*

праходзіць крывалінейная вуліца. Забудова двухбаковая, драўляная, сядзібнага тыпу. Радзіма доктара філал. навук, прафесара Ф.І.Куляшова.

**ВЯЛІКІЯ ФІЛІПКАВІЧЫ** — вёска ў Дварэцкім с/с, за 27 км на З ад раённага цэнтра і чыг. ст. Рагачоў (на лініі Магілёў—Жлобін), 148 км ад Гомеля, на У і Пн меліярацыйны канал. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Бабруйск—Гомель. 73 гаспадаркі, 183 жыхары (2004 г.).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 19 ст. як вёска ў Рэчыцкім пав. Мінскай губ. У 1925 г. былі 2 вёскі: Вялікія Філіпкавічы (68 двароў) і Малыя Філіпкавічы (19 двароў), якія пазней сталі называцца Новыя Філіпкавічы. У 1930 г. арганізаваны калгас імя М.В.Фрунзе, працавалі нафтавы млын і кузня. У Вял. Айч. вайну ў вёсцы з мая 1942 г. дзейнічала падп. патрыят. група (кіраўнік Р.П.Лукашэвіч), меліся 2 явачныя кватэры. Падпольшчыкі перадалі партызанам 31 вінтоўку, 2 пісталеты, шмат патронаў і гранат. Партызаны з удзелам падпольшчыкаў разграмілі створаны тут акупантамі апорны пункт. 61 вясковец загінуў на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 210 жыхароў. У 1980 г. да вёскі далучана в. Новыя Філіпкавічы. У складзе саўгаса «Дварэц» (цэнтр — в. Дварэц). Размешчана пач. школа. Планіровачна складаецца з крыху выгнутай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ, да якой далучаюцца 3 кароткія вуліцы. Забудова двухбаковая, пераважна драўляная, сядзібнага тыпу.

**ГАДЗІЛАВІЧЫ** — вёска, цэнтр Гадзілавіцкага с/с, за 15 км на У ад раённага цэнтра і чыг. ст. Рагачоў (на лініі Магілёў—Жлобін), 107 км ад Гомеля, на р. Дняпро і яе прытоку р. Вуглянка, на Пд і У меліярацыйны канал. Транспартныя сувязі па аўтадарозе Рагачоў—Доўск. 269 двароў, 641 жыхар (2004 г.).

Выяўлены археолагамі курганны могільнік 10—12 ст. (124 насыпы, за 1,5 км на ПнЗ ад вёскі) сведчыць аб засяленні гэтых мясцін у далёкай старажытнасці. Па пісьмовых крыніцах вядома з 16 ст. як вёска ў Рэчыцкім пав. Мінскага ваяв. ВКЛ. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) у складзе Рас. імперыі. У Айч. вайну 1812 г. каля вёскі адбываліся сутычкі франц. войск з атрадамі рас. ген. Ф.Ф.Эртэля. Праз вёску праходзілі паштовыя дарогі, размяшчалася паштовая станцыя (5 коней), дзейнічала паромная пераправа цераз р. Дняпро пад'ёмнасцю да 400 пудоў. Па рэвізіі 1858 г. 72 двары, 550 жыхароў, уладанне Сенажэцкіх. У спісе 1884 г. пазначаны Свята-Міхайлаўская мураваная царква, паштовае аддз., вінная крама, школа (у 1889 г. — 55, у 1907 — 102 вучні), млын, хлебазапасны магазін, у Гарадзецкай вол. Рагачоўскага пав. Магілёўскай губ. У царкве быў абраз, які напісаны ў 1723 г. Кузьмой Гарой. У 1886 г. 106 двароў, 764 жыхары. Паводле перапісу 1897 г. 180 двароў, 1409 жыхароў, 2 крамы, 3 ветракі, крупарушка, 5 кузняў, карчма, нар. вучылішча, паштовае аддз., якое ў 1907 г. адкрыла прыём тэлеграм. У 1909 г. 204 двары, 1736 жыхароў, працавала б-ка пры школе, 2532 дзес. зямлі. З 20.8.1924 г. цэнтр Гадзілавіцкага с/с Рагачоўскага р-на Бабруйскай (да 26.7.1930) акругі, з 20.2.1938 г. Гомельскай вобл. У 1930 г. арганізаваны калгас «13 гадоў Кастрычніка», працавалі нафтавы млын, кузня, ваўначоска. У 1940 г. 235 двароў. У Вял. Айч. вайну дзейнічала патрыят. падп. група (кіраўнік І.В.Гранкова). У кастр. 1942 г. партызаны разграмілі створаны ням. акупантамі гарнізон і вызвалілі з лагера групу сав. ваеннапалонных. У снеж. 1943 г. карнікі спалілі 200 двароў і загубілі 9 жыхароў. Непадалёку ў лесе дзейнічаў лагер, дзе вяскоўцы шукалі прытулак ад праследаванняў акупантаў. У баях за вёску і наваколле загінулі 220 воінаў (пахаваны ў брацкай магіле ў цэнтры вёскі). Вызвалена 28.11.1943 г. На франтах і ў партыз. барацьбе загінулі 214 жыхароў Гадзілавіцкага с/с, памяць аб якіх увекавечваюць абеліск і 2 стэлы з

імёнамі загінуўшых, пастаўленыя ў скверы ў 1967 г. Паводле перапісу 1959 г. 1084 жыхары. Цэнтр калгаса «Савецкая Беларусь». Размешчаны цагельня, ільнозавод, млын, сярэдняя школа, Дом культуры, б-ка, дзіцячы сад, фельч.-акушэрскі і вет. пункты, аддз. сувязі, сталовая, 2 магазіны. Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ (уздоўж аўтадарогі), да якой далучаюцца з Пд крывалінейная вуліца з завулкамі і з Пн — 2 прамалінейныя вуліцы. Радзіма Герояў Сац. Працы Н.І.Сафонавай і Н.А.Філіпавай, аднаго з арганізатараў і кіраўнікоў партыз. руху ў Быхаўскім р-не ў Вял. Айч. вайну С.Я.Падольцава, актыўнага ўдзельніка Вял. Айч. вайны В.П.Казлова (яго імем названа адна з вуліц вёскі), засл. настаўніка М.Р.Ярашэвіч.

У склад Гадзілавіцкага с/с уваходзілі да 1966 г. пасёлкі Турск, Шышоў (не існуюць).

**ГАЙДУКОЎКА** — вёска ў Старасельскім с/с, за 14 км на Пн ад раённага цэнтра і чыг. ст. Рагачоў (на лініі Магілёў—Жлобін), 135 км ад Гомеля, на У і Пн мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Старое Сяло—Рагачоў. 7 гаспадарак, 8 жыхароў (2004 г.).

Засн. ў пач. 20 ст. перасяленцамі з суседніх вёсак. Найбольш актыўная забудова вялася ў 1920-я г. У 1931 г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну 6 вяскоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 60 жыхароў. У складзе падсобнай гаспадаркі Рагачоўскага вытв. аб'яднання «Сельгасхімія» (цэнтр — в. Станькаў). Планіровачна складаецца з кароткай прамалінейнай мерыдыянальнай вуліцы, забудаванай няшчыльна драўлянымі сял. сядзібамі.

**ГАРАДЗЕЦ** — вёска, цэнтр Гарадзецкага с/с, за 28 км на ПдУ ад раённага цэнтра і чыг. ст. Рагачоў (на лініі Магілёў—Жлобін), 106 км ад Гомеля, на р. Ржаўка (прыток р. Дняпро) і аўтадарозе Хімы—Гадзілавічы. 384 гаспадаркі, 1056 жыхароў (2004 г.).

Па пісьмовых крыніцах вядома з пач. 18 ст. як вёска ў Рэчыцкім пав. Мінскага ваяв. У 1760 г. пабудавана драўляная царква, а ў 1838 г. — драўляная званіца. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) у складзе Рас. імперыі. У статыстычным апісанні Магілёўскай губ. 1784 г. названа сялом, а ў канцы 18 ст. атрымала статус мястэчка. У Айч. вайну 1812 г. каля мястэчка адбываліся сутычкі франц. войск з атрадамі расійскага ген. Ф.Ф.Эртэля. Па рэвізіі 1816 г. 24 двары, уладанне памешчыка Зяньковіча, у Рагачоўскім пав. Магілёўскай губ. У 1838 г. 106 двароў. У 1858 г. уладанне памешчыцы А.М.Акінчыц. У 1860 г. 524 жыхары, належала памешчыкам Багдановічу, Гадзеніусу, Драбышэўскім і Акінчыцу. У 1884 г. 66 двароў, 484 жыхары, школа, яўр. малітоўны дом, 18 крам, Свята-Успенская царква (будынак драўляны), хлебазапасны магазін. Цэнтр Гарадзецкай вол. (да 17.7.1924), у склад якой у 1890 г. ўваходзілі 50 сяленняў з 1835 дварамі. Паводле перапісу 1897 г. 183 двары, 1306 жыхароў, 2 ветракі, 2 крупарушкі, 2 разы на год (9 мая і 15 жн.) праводзіліся кірмашы, аддз. паштовай сувязі, вінная крама. У снеж. 1917 г. легіянеры корпуса Доўбар-Мусніцкага занялі і разрабавалі Гарадзец. У студз. 1918 г. ў баі каля вёскі партыз. атрад разгра-



*Парк у в. Гарадзец.*



М.М.Слюнькоў.

міў польскае вайск. падраздзяленне, захапіў яго канцылярыю, шмат зброі і ваеннапалонных. 23.12.1920 г. дала ток вясковая электрастанцыя. З 1920 г. дзейнічаў вет. пункт. У маёнтку быў створаны калгас «Самадапамога». З 26.4.1919 г. да 17.7.1924 г. цэнтр воласці Гомельскай губ. РСФСР, з 3.3.1924 г. ў складзе БССР, цэнтр Гарадзецкага р-на (да 4.8.1927) Бабруйскай (да 26.7.1930) акругі, з 20.2.1938 г. Гомельскай вобл. У 1929 г. арганізаваны калгас, працавалі нафтавы млын, торфаздабываючая арцель, кузня, кравецкая і шавецкая майстэрні. У 1940 г. 379 двароў. У Вял. Айч. вайну 30.11.1942 г. партызаны разграмілі варожы гарнізон, асн. частка якога размяшчалася ў мураваным будынку вясковай школы. У снеж. 1943 г. ням. карнікі спалілі 83 двары, загубілі 181 жыхара. Вызвалена 4.12.1943 г. У баях за вёску і наваколле загінулі 290 воінаў (пахаваны ў брацкіх магілах у цэнтры і на паўд. ускраіне вёскі). 226 вяскоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 1149 жыхароў. У 1980 г. да вёскі далучана суседняя в. Сямінаўка. Цэнтр калгаса «Світанне». Размешчаны малочны з-д, камбінат быт. абслугоўвання, сярэдняя школа, школа-інтэрнат, Дом культуры, б-ка, дзіцячы сад, бальніца, аптэка, вет. пункт, аддз. сувязі, сталовая, 3 магазіны, гіст.-краязнаўчы музей (у школе). Планіровачна складаецца з дзвюх падзеленых ракой частак: паўн. (да 2 прамалінейных, паралельных вуліц мерыдыянальнай арыентацыі далучаецца з У кароткая; усе 3 вуліцы на Пд злучаюцца прамалінейнай шыротнай вуліцай, на Пд ад якой праходзіць кароткая вуліца) і паўд. (да амаль прамалінейнай мерыдыянальнай вуліцы далучаюцца на Пн прамалінейная шыротная вуліца, з У — 2 кароткія і з З — 3 амаль мерыдыянальнай арыентацыі і злучаныя паміж сабой завулкамі кароткія вуліцы). Забудова двухбаковая, пераважна драўляная, сядзібнага тыпу. Радзіма парт. і дзярж. дзеяча, Героя Сац. Працы, лаўрэата Дзярж. прэміі СССР, засл. работніка прамысловасці БССР М.М.Слюнькова, бел. мастака М.А.Аўчыннікава, лаўрэата Дзярж. прэміі СССР І.М.Якушава.

У склад Гарадзецкага с/с уваходзіла да 1980 г. в. Сямінаўка (не існуе).

**ГРАБАВА** — пасёлак у Старасельскім с/с, за 10 км на Пн ад раённага цэнтра і чыг. ст. Рагачоў (на лініі Магілёў—Жлобін), вакол лес. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Старое Сяло—Рагачоў. 1 гаспадарка,1 жыхар (2004 г.).

Па пісьмовых крыніцах вядомы з пач. 19 ст. як фальварак у Рагачоўскім пав. Магілёўскай губ., да якога ў 1876 г. адносіліся 151 дзес. зямлі. У 1931 г. пасялкоўцы ўступілі ў калгас. У 1940 г. 15 двароў, 91 жыхар. У Вял. Айч. вайну ў снеж. 1943 г. ням. акупанты спалілі пасёлак. 3 пасялкоўцы загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 101 жыхар. У складзе падсобнай гаспадаркі раённага аб'яднання «Сельгасхімія» (цэнтр — в. Станькаў). Жылыя дамы драўляныя, сядзібнага тыпу, каля прасёлачнай дарогі.

**ГРАБАЎ** — пасёлак у Гадзілавіцкім с/с, за 11 км на У ад раённага цэнтра і чыг. ст. Рагачоў (на лініі Магілёў—Жлобін), 114 км ад Гомеля, на Пн мяжуе з лесам. Побач аўтадарога Рагачоў—Доўск. 12 гаспадарак, 22 жыхары (2004 г.).

Засн. ў пач. 20 ст. перасяленцамі з суседніх вёсак. У 1932 г. пасялкоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну 7 пасялкоўцаў не вярнуліся з фронту. Паводле перапісу 1959 г. 75 жыхароў. У складзе калгаса «Савецкая Беларусь» (цэнтр — в. Гадзілавічы). Планіровачна складаецца з кароткай прамалінейнай шыротнай вуліцы, забудаванай аднабакова драўлянымі сял. сядзібамі.

**ГУМНІШЧА** — пасёлак у Званецкім с/с, за 41 км на ПнУ ад раённага цэнтра і чыг. ст. Рагачоў (на лініі Магілёў—Жлобін), 97 км ад Гомеля. Побач шаша Магілёў—Гомель. 13 гаспадарак, 23 жыхары (2004 г.).

Па пісьмовых крыніцах вядомы з 2-й пал. 19 ст. як пасёлак у Гарадзецкай вол. Рагачоўскага пав. Магілёўскай губ. Паводле перапісу 1897 г. 5 двароў, 39 жыхароў. У 1909 г. 7 двароў, 47 жыхароў, 143 дзес. зямлі. У 1941 г. пасялкоўцы ўступілі ў калгас. Паводле перапісу 1959 г. 89 жыхароў. У складзе саўгаса «Бальшавік» (цэнтр — в. Званец). Планіровачна складаецца з кароткай прамалінейнай, амаль шыротнай арыентацыі вуліцы, забудаванай рэдка драўлянымі сял. сядзібамі.

**ГУСАРАЎКА** — вёска ў Дварэцкім с/с, за 14 км на З ад раённага цэнтра і чыг. ст. Рагачоў (на лініі Магілёў—Жлобін), 135 км ад Гомеля, на аўтадарозе Бабруйск—Гомель. 58 гаспадарак, 123 жыхары (2004 г.).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 19 ст. як сяленне ў Лукаўскай вол. Рагачоўскага пав. Магілёўскай губ. Паводле перапісу 1897 г. 21 двор, 73 жыхары. У 1909 г. пас. Гусараўка (ён жа Гусараў Лог), 25 двароў, 145 жыхароў, 340 дзес. зямлі. У 1925 г. 34 двары. У 1931 г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У 1940 г. 50 двароў, 297 жыхароў. У Вял. Айч. вайну ў чэрв. 1944 г. ням. акупанты спалілі 18 двароў і загубілі 20 жыхароў. 33 вяскоўцы загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 285 жыхароў. У 1945 г. ў вёску перасялілася частка жыхароў пас. Лучынскі, у 1980 г. далучаны пас. Забалацкі. У складзе калгаса «Ленінскае жыццё» (цэнтр — в. Кашара). Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы блізкай да шыротнай арыентацыі, да якой на У далучаецца кароткая прамалінейная мерыдыянальная вуліца. Забудова двухбаковая, драўляная, сядзібнага тыпу.

**ГУТА** — вёска ў Журавіцкім с/с, за 42 км на ПнУ ад раённага цэнтра і чыг. ст. Рагачоў (на лініі Магілёў—Жлобін), 178 км ад Гомеля, на р. Гутлянка (прыток р. Дняпро). Транспартныя сувязі па прасёлачнай дарозе, потым па шашы Магілёў—Доўск. 39 гаспадарак, 64 жыхары (2004 г.).

Выяўлены археолагамі курганны могільнік 11—13 ст. (14 насыпаў, за 1 км на У ад вёскі) сведчыць аб засяленні гэтых мясцін у далёкай мінуўшчыне. Па пісьмовых крыніцах вядома з 18 ст. як сяленне ў Рагачоўскім пав. Магілёўскай губ. Па рэвізіі 1816 г. 16 двароў, 91 жыхар. У склад маёнтка Гута ўваходзілі 2 вёскі і фальварак з агульнай колькасцю 465 жыхароў. У 1824 г. адбылося хваляванне сялян супраць прыгняценняў уладальніка маёнтка памешчыка Барысевіча. У 1858 г. 17 двароў, 100 жыхароў. У 1860 г. памешчык меў тут 2908 дзес. зямлі, вінакурны з-д, 4 карчмы, 3 млыны, сукнавальню і цагельны з-д. З 1876 г. працаваў цукровы з-д. У 1902 г. ў маёнтку дзейнічаў конскі з-д. У 1931 г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У 1940 г. 104 двары, 397 жыхароў. У Вял. Айч. вайну ням. карнікі ў 1943 г. спалілі 12 двароў. У баях за вёску і наваколле загінулі 60 воінаў (пахаваны ў брацкай магіле, за 0,7 км на З ад вёскі). Вызвалена 24.11.1943 г. 36 вяскоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 467 жыхароў. У складзе калгаса «XVII партз'езд» (цэнтр — в. Вялікая Крушынаўка). Планіровачна складаецца з дугападобнай шыротнай вуліцы, да якой на Пн далучаецца кароткая вуліца. Забудова двухбаковая, драўляная, сядзібнага тыпу. Радзіма бел. паэта В.Ю.Ткачова і Героя Сав. Саюза П.Е.Жгірова.

**ГУЦІШЧА** — вёска ў Балатнянскім с/с, за 39 км на ПнУ ад раённага цэнтра і чыг. ст. Рагачоў (на лініі Магілёў—Жлобін), 103 км ад Гомеля, на р. Гутлянка (прыток р. Дняпро). Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Доўск—Слаўгарад. 36 гаспадарак, 73 жыхары (2004 г.).

Па пісьмовых крыніцах вядома з пач. 19 ст. як сяленне ў Доўскай вол. Рагачоўскага пав. Магілёўскай губ. У 1858 г. 17 двароў, уладанне памешчыцы Хуцікавай. У 1873 г. памешчык тут меў 513 дзес. зямлі і вадзяны млын. Паводле перапісу 1897 г. 38 двароў, 239 жыхароў, хле-

базапасны магазін. У 1909 г. ў вёсцы — 45 двароў, 286 жыхароў, 353 дзес. зямлі, у фальварку — 13 жыхароў, 534 дзес. зямлі. У 1930 г. арганізаваны калгас імя Р.Люксембург, працавалі 2 ветракі, кузня. У 1940 г. 73 двары. У Вял. Айч. вайну ў 1943 г. ням. карнікі спалілі 10 двароў. 23 вяскоўцы не вярнуліся з фронту. Паводле перапісу 1959 г. 302 жыхары. У складзе калгаса імя У.І.Леніна (цэнтр — в. Балотня). Планіровачна складаецца з 2 паралельных паміж сабой вуліц, блізкіх да шыротнай арыентацыі і злучаных кароткай вуліцай. Забудова драўляная сядзібнага тыпу.

**ДВАРЭЦ** — вёска, цэнтр Дварэцкага с/с, за 29 км на З ад раённага цэнтра і чыг. ст. Рагачоў (на лініі Магілёў—Жлобін), 150 км ад Гомеля, на р. Добасна (прыток р. Дняпро) і аўтадарозе Бабруйск—Гомель. 229 гаспадарак, 649 жыхароў (2004 г.).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 18 ст. як сяленне ў Рэчыцкім пав. Мінскага ваяв. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1816 г. 19 двароў, 114 жыхароў, у Рагачоўскім пав. Магілёўскай губ. Памешчык меў тут у 1826 г. 104 дзес. зямлі. Крыху пазней была цэнтрам аднайменнага маёнтка, гаспадар якога дваранін Быкоўскі валодаў у 1858 г. 1319 дзес. зямлі. У 2-й пал. 19 ст. ў цэнтры вёскі пабудавана драўляная Троіцкая царква. З 1880 г. дзейнічаў хлебазапасны магазін, паштовая станцыя, у Ціхініцкай вол. Паводле перапісу 1897 г. 42 двары, 3 фальваркі, школа граматы, вінная крама, млын, тэлеграф. У 1907 г. дзейнічала нар. вучылішча (52 вучні). З 20.8.1924 г. цэнтр Дварэцкага с/с Рагачоўскага р-на Бабруйскай (да 26.7.1930) акругі, з 20.2.1938 г. Гомельскай вобл. У 1930 г. арганізаваны калгас «Камунар», працаваў вятрак. У Вял. Айч. вайну акупанты стварылі ў вёсцы свой апорны пункт, які разграмілі партызаны. У баях за вёску і наваколле 26.6.1944 г. загінулі 56 воінаў і 8 партызан, у іх ліку Герой Сав. Саюза Ф.І. Ульянін (пахаваны ў брацкай магіле ў цэнтры вёскі). 21 вясковец не вярнуўся з фронту. Паводле перапісу 1959 г. 218 жыхароў. У 1969 г. да вёскі далучаны пас. Хурэеўка, у 1980 г. — в. Мыза і пас. Новы Дварэц. Цэнтр саўгаса «Дварэц». Размешчаны камбінат быт. абслугоўвання, сярэдняя школа, Дом культуры, б-ка, б-ца, аптэка, дзіцячы сад, вет. пункт, аддз. сувязі, сталовая, магазін. Планіровачна складаецца з 3 прамалінейных мерыдыянальных вуліц, злучаных прамалінейнай шыротнай вуліцай. Забудова пераважна двухбаковая, драўляная і мураваная, сядзібнага тыпу. У 1986 г. пабудаваны 108 дамоў катэджнага тыпу, у якіх размясціліся перасяленцы з забруджаных радыяцыяй месц.

У склад Дварэцкага с/с уваходзілі да 1943 г. пас. Сухое Балота (ням. карнікі 26.5.1943 г. спалілі, не адрадзіўся), да 1969 г. — пасёлкі Марс, Хурэеўка, да 1975 г. пас. Лучынскі, да 1980 г. — пасёлкі Забалацкі, Новы Дварэц, вёскі Мыза, Новыя Філіпкавічы, да 1983 г. — пас. Зацішша (не існуюць).

**ДВАРЭЦКАЯ СЛАБАДА** (да 1937 Куцая Слабада) — пасёлак у Дварэцкім с/с, за 23 км на З ад раённага цэнтра і чыг. ст. Рагачоў (на лініі Магілёў—Жлобін), 144 км ад Гомеля, на Пд меліярацыйны канал, злучаны з р. Добасна (прыток р. Друць). Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Бабруйск—Гомель. 8 гаспадарак, 14 жыхароў (2004 г.).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 1-й пал. 19 ст. як сяленне ў Ціхініцкай вол. Рагачоўскага пав. Магілёўскай губ. У інвентары 1847 г. пазначаны як сяленне ў складзе маёнтка Мазалава. У 1880 г. 17 двароў, 111 жыхароў. У 1909 г. 22 двары, 187 жыхароў, 84 дзес. зямлі, працаваў млын. У 1925 г. 26 двароў, у Дварэцкім с/с Рагачоўскага р-на Бабруйскай акругі. У 1931 г. арганізаваны калгас. У 1940 г. 56 двароў, 255 жыхароў. У Вял. Айч. вайну ў 1944 г. ням. карнікі спалілі 26 двароў і загубілі 3 жыхароў. З пасялкоў-

цы загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 76 двароў. У складзе саўгаса «Дварэц» (цэнтр — в. Дварэц). Планіровачна складаецца з кароткай шыротнай арыентацыі вуліцы. Жылыя дамы драўляныя, сядзібнага тыпу.

**ДЗЯТЛАЎШЧЫНА** — пасёлак у Азяранскім с/с, за 34 км на ПнЗ ад раённага цэнтра і чыг. ст. Рагачоў (на лініі Магілёў—Жлобін), 155 км ад Гомеля. Транспартныя сувязі па прасёлачнай дарозе, потым па шашы Магілёў—Гомель. 22 гаспадаркі, 47 жыхароў (2004 г.).

Засн. ў пач. 1920-х г. перасяленцамі з суседніх вёсак, пераважна з вёсак Вялікая Крушынаўка і Вялікае Ляда, на былых памешчыцкіх землях. У 1931 г. пасялкоўцы ўступілі ў калгас. У 1940 г. 32 двары, 136 жыхароў. У Вял. Айч. вайну ням. карнікі ў 1944 г. спалілі 22 двары, загубілі 19 жыхароў. 12 пасялкоўцаў загінулі на фронце. У складзе калгаса «XVII партз'езд» (цэнтр — в. Вялікая Крушынаўка). Планіровачна складаецца з кароткай прамалінейнай вуліцы, блізкай да шыротнай арыентацыі. Забудова драўляная, сядзібнага тыпу.

**ДНЯПРОЎСКІ** — пасёлак у Кісцянёўскім с/с, за 22 км на ПнУ ад раённага цэнтра і чыг. ст. Рагачоў (на лініі Магілёў—Жлобін), 113 км ад Гомеля, на р. Дняпро. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Рагачоў—Доўск. 6 гаспадарак, 12 жыхароў (2004 г.).

Засн. ў пач. 1920-х г. перасяленцамі з суседніх вёсак на былых памешчыцкіх землях. У 1931 г. пасялкоўцы ўступілі ў калгас. У 1940 г. 20 двароў, 109 жыхароў. У Вял. Айч. вайну дзейнічала патрыят. падп. група (кіраўнік Г.А.Фядосава). Каля пасёлка мелася партыз. пераправа. Акупанты ў 1944 г. спалілі 12 двароў. 4 пасялкоўцы загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 51 жыхар. У складзе саўгаса «Кісцяні» (цэнтр — в. Кісцяні). Будынкі драўляныя, сядзібнага тыпу, размешчаны ўздоўж ракі.

**ДОЎБЦЫ** — пасёлак у Гадзілавіцкім с/с, за 18 км на ПдУ ад раённага цэнтра і чыг. ст. Рагачоў (на лініі Магілёў—Жлобін), 120 км ад Гомеля, на У меліярацыйны канал. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Рагачоў—Доўск. 37 гаспадарак, 83 жыхары (2004 г.).

Засн. ў пач. 20 ст. перасяленцамі з суседніх вёсак на былых памешчыцкіх землях. У 1931 г. пасялкоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну 19 пасялкоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 271 жыхар. У складзе калгаса «Савецкая Беларусь» (цэнтр — в. Гадзілавічы). Планіровачна складаецца з прамалінейнай шыротнай вуліцы, забудаванай двухбакова, няшчыльна, драўлянымі сял. сядзібамі.

**ДОЎСК** — вёска, цэнтр Доўскага с/с, за 31 км на ПнУ ад раённага цэнтра і чыг. ст. Рагачоў (на лініі Магілёў—Жлобін), 90 км ад Гомеля, на У і З мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па шашы Магілёў—Гомель і аўтадарозе Рагачоў—Слаўгарад, якія перакрыжоўваюцца ў вёсцы. 731 гаспадарка, 1841 жыхар (2004 г.).

Выяўлены археолагамі курганны могільнік (27 насыпаў, на паўд.-зах. ускраіне) сведчыць аб засяленні гэтых мясцін з далёкай старажытнасці. Па пісьмовых крыніцах вядома з 18 ст. як вёска ў Рэчыцкім пав. Мінскага ваяв. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) у складзе Рас. імперыі. У 1850 г. праз вёску прайшла шаша Пецярбург—Кіеў. Па рэ-



*Свята-Пакроўская царква ў в. Доўск (пач. 20 ст.).*

візіі 1858 г. 26 двароў, 180 жыхароў, уладанне памешчыка Д.П.Турчанінава. У 1864 г. ў цэнтры вёскі на месцы старой царквы (вядома з 1836) пабудавана мураваная Свята-Пакроўская царква (цяпер помнік архітэктуры). З 1876 г. дзейнічала прадпрыемства па вырабе цукру. Памешчык валодаў тут 829 дзес. зямлі і карчмой. З 1879 г. працавалі крупарушка і хлебазапасны магазін. Цэнтр Доўскай вол. (да 9.5.1923), у склад якой у 1890 г. ўваходзілі 52 сяленні з 1966 дварамі, а ў 1910 г. — 91 населены пункт з 2766 дварамі. У 1898 г. Рагачоўскае пав. с.-г. таварыства арганізавала ў Доўску выставу жарабцоў (170 экзэмпляраў, 50 з якіх адзначаны медалямі). У 1909 г. 62 двары, 489 жыхароў, 918 дзес. зямлі. Непадалёку быў хут. Доўск (ён жа Мініна), 4 двары, 10 жыхароў, 180 дзес. зямлі, а таксама паштовая станцыя (32 двары, 192 жыхары, 252 дзес. зямлі) і сядзіба Новы Свет, дзе размяшчалася Доўскае валаснoе ўпраўленне. Дзейнічалі 4 вінакурні, паштова-тэлегр. пункт, школа, прыёмны пакой, вінная крама. 7.6.1918 г. агульны сход Доўскай вол. прыняў пастанову аб арганізацыі рэв. палка для абароны рэвалюцыі. У баі супраць польскіх войск у 1920 г. загінулі 12 чырвонаармейцаў (пахаваны ў 2 брацкіх магілах на могілках). З 3.3.1924 г. ў Магілёўскай акрузе БССР. З 20.8.1924 г. цэнтр Доўскага с/с Журавіцкага, з 8.7.1931 г. Рагачоўскага, з 12.2.1935 г. Доўскага, з 5.4.1935 г. Журавіцкага, з 17.12.1956 г. Рагачоўскага р-наў Магілёўскай (да 26.7.1930) акругі, з 20.2.1938 г. Гомельскай вобл. У 1930 г. арганізаваны калгас імя К.Я.Варашылава, працавала кузня. 14.8.1941 г. ням. акупанты захапілі вёску. Яны стварылі 2 лагеры ваеннапалонных, а ў будынку былой МТС размясцілі перыферыйную каманду тайнай паліцыі. Партызаны вызвалілі рабочую каманду лагера ваеннапалонных у Новым Доўску, а ў баі супраць гарнізона Старога Доўска захапілі 3 кулямёты, 26 вінтовак і вызвалілі 48 палонных. Карнікі ў сак. 1943 г. загубілі 59 жыхароў Доўска і суседніх вёсак (пахаваны на могілках ахвяр фашызму ў цэнтры вёскі), а ў ліст. 1943 г. спалілі 12 двароў, загубілі 116 жыхароў. У баях за вёску і наваколле загінулі 138 воінаў, у іх ліку Герой Сав. Саюза П.А.Данілаў (пахаваны ў брацкай магіле ў цэнтры вёскі). 46 вяскоўцаў не вярнуліся з фронту. У 1975 г. ў вёску перасяліліся жыхары суседняга пас. Янаўка. Цэнтр Гомельскай абласной с.-г. доследнай станцыі з эксперыментальнай базай «Доўск». Размешчаны Рагачоўская міжраённая станцыя штучнага асемянення жывёлы, асфальтабітумны, цагельны і малочны з-ды, хлебазавод, цэх безалкагольных напіткаў Доўскага спажывецкага т-ва, аўтазапраўчная станцыя, швейная і шавецкая майстэрні, сярэдняя школа (пры ёй дзейнічае гіст.-краязнаўчы музей), муз. школа, абласная школа кухараў, Дом культуры, 2 б-кі, дзіцячыя яслі-сад, б-ца, аптэка, 3 аддз. сувязі, 8 магазінаў, 3 сталовыя, 2 кафэ, рэстаран, гасцініца. Планіровачна складаецца з двухбаковай, пераважна драўлянай забудовы. Больш шчыльна забудаваны ўчастак уздоўж аўтадарогі Доўск—Рагачоў. Каля вёскі ёсць залежы гліны.

У склад Доўскага с/с уваходзілі да 1969 г. в. Старая Серабранка, да 1975 г.— г.п. Янаўка (не існуюць).

**ДРАГУНСК** — вёска ў Журавіцкім с/с, за 46 км на ПнУ ад раённага цэнтра і чыг. ст. Рагачоў (на лініі Магілёў—Жлобін), 107 км ад Гомеля, на У меліярацыйны канал. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Доўск—Слаўгарад. 79 гаспадарак, 184 жыхары (2004 г.).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 19 ст. як вёска ў Рагачоўскім пав. Магілёўскай губ. У 1896 г. 121 двор. У 1900 г. пабудавана школьнае памяшканне і пачала працаваць школа. У 1931 г. арганізаваны калгас. У 1940 г. 161 двор, 575 жыхароў. 2 вяскоўцы загінулі ў сав.-фінляндскую вайну. У Вял. Айч. вайну ў

ліст. 1943 г. ням. акупанты спалілі 52 двары. Вызвалена 25.11.1943 г. 83 вяскоўцы загінулі на фронце. 29.6.1957 г. пералічаны з Веліказімніцкага с/с Быхаўскага р-на ў Журавіцкі с/с Рагачоўскага р-на. Паводле перапісу 1959 г. 671 жыхар. У складзе калгаса «12 гадоў Кастрычніка» (цэнтр — в. Журавічы). Размешчаны 9-гадовая школа, б-ка, фельч.-акушэрскі пункт, аддз. сувязі. Планіровачна складаецца з працяглай, плаўна выгнутай мерыдыянальнай вуліцы, забудаванай двухбакова драўлянымі сял. сядзібамі.

**ДРУЖБА** — вёска ў Званецкім с/с, за 46 км на ПнУ ад раённага цэнтра і чыг. ст. Рагачоў (на лініі Магілёў—Жлобін), 105 км ад Гомеля. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Рагачоў—Доўск. 17 гаспадарак, 23 жыхары (2004 г.).

Засн. ў пач. 1920-х г. перасяленцамі з суседніх вёсак на былых памешчыцкіх землях. У 1932 г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. Паводле перапісу 1959 г. 243 жыхары. У складзе саўгаса «Бальшавік» (цэнтр — в. Званец). Планіровачна складаецца з 2 паралельных вуліц мерыдыянальнай арыентацыі, злучаных кароткай вуліцай. Забудова няшчыльная, драўляная, сядзібнага тыпу.

**ДУБРАВА** — вёска ў Гадзілавіцкім с/с, за 14 км на ПдУ ад раённага цэнтра і чыг. ст. Рагачоў (на лініі Магілёў—Жлобін), 115 км ад Гомеля, на Пд і З меліярацыйныя каналы. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Рагачоў—Доўск. 24 гаспадаркі, 40 жыхароў (2004 г.).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 19 ст. як сяленне ў Лукаўскай вол. Рагачоўскага пав. Магілёўскай губ. У 1909 г. аколіца, 20 двароў, 140 жыхароў, 423 дзес. зямлі. У 1931 г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У 1940 г. 41 двор, 220 жыхароў. У Вял. Айч. вайну ў Буднянскім лесе (за 0,5 км ад вёскі) 14.8.1941 г. адбылося першае пасяджэнне Рагачоўскага падп. райкома КП(б)Б і было прынята рашэнне аб стварэнні партыз. атрада. У снеж. 1943 г. ням. акупанты загубілі 5 жыхароў і спалілі вёску. 14 вяскоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 131 жыхар. У 1966 г. да вёскі далучаны пас. Шышоў. У складзе калгаса «Савецкая Беларусь» (цэнтр — в. Гадзілавічы). Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ. Забудова драўляная, двухбаковая, няшчыльная, сядзібнага тыпу.

**ДУБРОЎШЧЫНА** — вёска ў Запольскім с/с, за 11 км на З ад раённага цэнтра і чыг. ст. Рагачоў (на лініі Магілёў—Жлобін), 132 км ад Гомеля, на У меліярацыйны канал і р. Дабрыца (прыток р. Друць). Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Бабруйск—Гомель. 1 гаспадарка, 1 жыхар (1999 г.).

Засн. ў пач. 1920-х г. перасяленцамі з суседніх вёсак на былых памешчыцкіх землях. У 1931 г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну ў чэрв. 1944 г. ням. акупанты спалілі вёску. 8 вяскоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 95 жыхароў. У 1975 г. ў вёску перасялілася частка жыхароў в. Манькі (не існуе). У складзе калгаса імя С.М.Кірава (цэнтр — в. Заполле). Планіровачна складаецца з кароткай прамалінейнай мерыдыянальнай вуліцы, забудаванай двухбакова, няшчыльна драўлянымі сял. сядзібамі.

**ЕЛКІ** — вёска ў Забалацкім с/с, за 16 км на ПдЗ ад раённага цэнтра і чыг. ст. Рагачоў (на лініі Магілёў—Жлобін), 137 км ад Гомеля. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Бабруйск—Гомель. 37 гаспадарак, 68 жыхароў (2004 г.).

Засн. ў пач. 20 ст. перасяленцамі з суседніх вёсак. У 1925 г. 20 двароў. У 1930 г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну многія жыхары змагаліся супраць акупантаў на франтах і ў партыз. атрадах. Разам з Матронай Святцавай у партызанах былі яе муж, 2 дачкі, зяць, брат і пляменнік. 24 вяскоўцы загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959

*Помнік народнаму пісьменніку Беларусі А.Макаёнку ў в. Журавічы.*



г. 148 жыхароў. У 1966 г. да вёскі далучаны пас. Прыстой. У складзе калгаса імя М.І.Калініна (цэнтр — в. Забалацце). Планіровачна складаецца з крыху выгнутай мерыдыянальнай вуліцы, забудаванай двухбакова, няшчыльна драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**ЁЎНЯ** — пасёлак у Балатнянскім с/с, за 44 км на ПнУ ад раённага цэнтра і чыг. ст. Рагачоў (на лініі Магілёў—Жлобін), 105 км ад Гомеля, на р. Гутлянка (прыток р. Дняпро). Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Доўск—Слаўгарад. 10 гаспадарак, 17 жыхароў (2004 г.).

Засн. ў пач. 1920-х г. перасяленцамі з суседніх вёсак на былых памешчыцкіх землях. У 1931 г. пасялкоўцы ўступілі ў калгас. Паводле перапісу 1959 г. 55 жыхароў. У складзе калгаса імя У.І.Леніна (цэнтр — в. Балотня). Забудова драўляная, сядзібнага тыпу.

**ЖАВІННІК** — пасёлак у Балатнянскім с/с, за 39 км на ПнУ ад раённага цэнтра і чыг. ст. Рагачоў (на лініі Магілёў—Жлобін), 101 км ад Гомеля, на Пд мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Доўск—Слаўгарад. 9 гаспадарак, 15 жыхароў (2004 г.).

Засн. ў пач. 1920-х г. перасяленцамі з суседніх вёсак на былых памешчыцкіх землях. У 1931 г. пасялкоўцы ўступілі ў калгас. У 1940 г. 24 двары, 160 жыхароў. У Вял. Айч. вайну ў ліст. 1943 г. ням. акупанты спалілі пасёлак і загубілі 4 жыхароў. 12 пасялкоўцаў не вярнуліся з фронту. Паводле перапісу 1959 г. 131 жыхар. У складзе калгаса імя У.І.Леніна (цэнтр — в. Балотня). Планіровачна складаецца з кароткай прамалінейнай шыротнай вуліцы, забудаванай няшчыльна драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**ЖУРАВІЧЫ** (яна ж Старыя Журавічы) — вёска, цэнтр Журавіцкага с/с, за 55 км на ПнУ ад раённага цэнтра і чыг. ст. Рагачоў (на лініі Магілёў—Жлобін), 102 км ад Гомеля. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Доўск—Слаўгарад. 361 гаспадарка, 992 жыхары (2004 г.).

Выяўленыя паблізу курганы жал. веку сведчаць аб засяленні гэтых мясцін з далёкай старажытнасці. Па пісьмовых крыніцах вядома з 15 ст. як вёска Журавічы ў Рэчыцкім пав. Мінскага ваяв. ВКЛ, шляхецкая ўласнасць. У мясц. касцёле быў абраз Маці Божай, на паклон да якога ў 1651 г. прыязджаў Ян II Казімір. У 1720 г. пабудаваны драўляны касцёл (у канцы 18 ст. перабудаваны, не захаваўся). Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) у складзе Рас. імперыі. У 1799 г. ва ўладанні Дзерналовічаў, потым Вішчынскіх. У Айч. вайну 1812 г. каля Журавіч адбываліся сутычкі франц. войск з атрадамі расійскага ген. Ф.Ф.Эртэля. У 19 ст. мястэчка, штогод праводзіліся 4 кірмашы, на якіх у 1861 г. было прададзена тавараў на 54 000 рублёў. Праз вёску праходзіла паштовая дарога з Кармы ў Новы Быхаў. У 1826 г. 1066 жыхароў, уладанне памешчыцы Пузаноўскай. У 1838 г. 114 двароў. З 1848 г. дзейнічала 1-класнае прыходскае вучылішча. У 1860 г. 185 двароў, 1203 жыхары, царква, касцёл, 2 яўр. малітоўныя школы, у Быхаўскім пав. Магілёўскай губ. Побач складвалася сяленне Новыя Журавічы (7 двароў, 47 жыхароў), уладанне памешчыцы Хмызоўскай. З 1872 г. дзейнічала крупарушка. У 1880 г. 220 двароў, 2179 жыхароў. У фальварку працавала сукнавальня (з 1880). У 1883 г. адкрыта аптэка. З 1884 г. дзейнічала нар. вучылішча, якое ў 1901 г. на Мінскай юбілейнай выставе ўдастоена пахваль-

нага ліста. У 1896 г. 356 двароў, у 1892 і 1900 гг. пабудаваны 2 вінакурні. У 1907 г. паштовае аддз. адкрыла прыём тэлеграм, з 1908 г. дзейнічала пазыка-ашчадная каса. У 1911 г. адкрыта бібліятэка пры школе. З 1924 г. працаваў вет. пункт. З 17.7.1924 г. да 8.7.1931 г. і з 5.4.1935 г. да 17.12.1956 г. цэнтр Журавіцкага, з 12.2.1935 г. да 5.4.1935 г. Доўскага р-наў. З 20.8.1924 г. цэнтр сельсавета Журавіцкага, з 8.7.1931 г. Кармянскага, з 12.2. 1935 г. Доўскага, з 5.4.1935 г. Журавіцкага, з 17.12.1956 г. Рагачоўскага р-наў Магілёўскай (да 26.7.1930 г.) акругі, з 20.2.1938 г. Гомельскай вобл. У 1930 г. арганізаваны калгас «12 гадоў Кастрычніка», потым — калгас «XVI партз'езд», працавалі 3 кузні, шавецкая, кравецкая і торфаздабываючая арцелі, нафтавы млын, гантарэзка, вятрак, 4 крупарушкі, ваўначоска і сукнавальня. У 1940 г. 434 двары, 1646 жыхароў. У першыя дні Вял. Айч. вайны быў сфарміраваны знішчальны батальён (180 чал.), які далучыўся да часцей Чырвонай Арміі. 14.8. 1941 г. вёска занята ням. войскамі. У ліст. 1941 г. акупанты расстралялі тут 400 ваеннапалонных. У 1941 г. і ліст. 1943 г. карнікі спалілі 167 двароў і загубілі 130 жыхароў. Вызвалена 26.11. 1943 г. На франтах і ў партыз. барацьбе загінулі 133 землякі. Паводле перапісу 1959 г. 1627 жыхароў. Цэнтр калгаса «12 гадоў Кастрычніка». Размешчаны ільнозавод, малочны з-д, млын, нафтабаза, пякарня, мех. майстэрня, камбінат быт. абслугоўвання, сярэдняя школа, Дом культуры, б-ка, б-ца, аптэка, дзіцячыя яслі-сад, аддз. сувязі, сталовая, 7 магазінаў. У лют. 1986 г. ў Доме культуры адкрыты музей драматурга, нар. пісьменніка БССР А.Макаёнка. Планіровачна складаецца з 7 крыху выгнутых вуліц шыротнай арыентацыі, перакрыжаваных мерыдыянальнымі вуліцамі. Забудова пераважна драўляная, сядзібнага тыпу.

У склад Журавіцкага с/с да 1977 г. ўваходзіў пас. Міхалаўка (не існуе).

**ЗААЗЕР'Е** — пасёлак у Журавіцкім с/с, за 46 км на ПнУ ад раённага цэнтра і чыг. ст. Рагачоў (на лініі Магілёў—Жлобін), 104 км ад Гомеля, на ўсх. ускраіне безымянная рэчка (прыток р. Гутлянка). Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Доўск—Слаўгарад. 18 гаспадарак, 45 жыхароў (2004 г.).

Засн. ў пач. 1920-х г. перасяленцамі з суседніх вёсак на былых памешчыцкіх землях. У 1931 г. пасялкоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну загінулі 4 пасялкоўцы. Паводле перапісу 1959 г. 140 жыхароў. У складзе калгаса «XVII партз'езд» (цэнтр — в. Вялікая Крушынаўка). Планіровачна складаецца з кароткай крывалінейнай вуліцы, блізкай да мерыдыянальнай арыентацыі і забудаванай двухбакова, няшчыльна драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**ЗААЗЕР'Е** — пасёлак у Азяранскім с/с, за 37 км на ПнУ ад раённага цэнтра і чыг. ст. Рагачоў (на лініі Магілёў—Жлобін), 158 км ад Гомеля, на р. Зазер'е (прыток р. Друць). Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Магілёў—Гомель. 14 гаспадарак, 25 жыхароў (2004 г.).

Засн. ў пач. 1920-х г. перасяленцамі з суседніх вёсак на былых памешчыцкіх землях. У 1925 г. 9 двароў. У 1931 г. пасялкоўцы ўступілі ў калгас. У 1940 г. 30 двароў, 125 жыхароў. У Вял. Айч. вайну ў пасёлку і навакольных лясах базіраваліся Рагачоўскі падп. райком КП(б)Б і 8-я Рагачоўская партыз. брыгада. Ням. карнікі ў 1944 г. спалілі 17 двароў, загубілі 18 жыхароў. 13 пасялкоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 113 жыхароў. У складзе калгаса «XVII партз'езд» (цэнтр — в. Вялікая Крушынаўка). Планіровачна складаецца з кароткай, крыху выгнутай вуліцы, блізкай да мерыдыянальнай арыентацыі і забудаванай двухбакова, няшчыльна драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**ЗАБАЛАЦЦЕ** — вёска, цэнтр Забалацкага с/с, за 12 км на ПнЗ ад раённага

цэнтра і чыг. ст. Рагачоў (на лініі Магілёў—Жлобін), 130 км ад Гомеля, на У меліярацыйныя каналы. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Бабруйск—Гомель. 233 гаспадаркі, 565 жыхароў (2004 г.).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 16 ст. як сяленне ў ВКЛ. У 1696 г. сяленне ў прыходзе Рагачоўскай замкавай царквы. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. З 1792 г. дзейнічала царква. У 1848 г. цэнтр аднайменнага маёнтка, у які ўваходзілі 2 вёскі і фальварак, што належаў памешчыку Д.П.Турчанінаву. Па рэвізіі 1858 г. сяло, 84 двары, 587 жыхароў. На паўд.-ўсх. ускраіне ў 2-й пал. 19 ст. ўзведзены ансамбль сядзібных пабудоў (не захаваўся) і закладзены парк, які зараз з'яўляецца помнікам садова-паркавага мастацтва. З 1880 г. дзейнічала нар. вучылішча, у якім у 1889 г. навучаліся 36 хлопчыкаў. У 1881 г. 107 двароў, 711 жыхароў, у Лукаўскай вол. З 1900 г. працавала вінакурня. У 1909 г. 222 гаспадаркі, 1554 жыхары, б-ка пры школе, 11 764 дзес. зямлі. Побач быў аднайменны маёнтак, 55 жыхароў, 1780 дзес. зямлі. У крас. 1917 г. батракі маёнтка Забалацце патрабавалі ў памешчыка скарачэння рабочага дня і павышэння заработнай платы. У снеж. 1917 г. ў вёску ўварваліся легіянеры Доўбар-Мусніцкага і ўчынілі грабеж. Вясной 1920 г. ў вёсцы арганізавана першая ў Рагачоўскім пав. с.-г. арцель, з 1930 г. вядомая як калгас імя М.І.Калініна. З 20.8.1924 г. цэнтр сельсавета Рагачоўскага р-на Бабруйскай (да 26.7. 1930) акругі, з 20.2.1938 г. Гомельскай вобл. У 1930 г. працавалі торфаздабываючая арцель, 3 ветракі, кузня, сталярня, ваўначоска. У Вял. Айч. вайну дзейнічала патрыят. падп. група (кіраўнік В.К. Парфёнава). Партызаны ў снеж. 1942 г. разграмілі створаны тут жа варожы гарнізон. Ням. акупанты двойчы (1941, 1944) палілі вёску (згарэла 150 двароў, загублена 19 жыхароў). У баях за вёску і наваколле загінуў 181 воін (пахаваны ў 2 брацкіх магілах у цэнтры вёскі і на могілках); вызначыўся механік-вадзіцель самаходнай установкі М.М.Кліменка, удастоены звання Героя Сав. Саюза. На франтах і ў партыз. барацьбе загінулі 260 жыхароў Забалацкага с/с, памяць аб якіх ушаноўвае стэла, пастаўленая ў 1967 г. на могілках. 93 вяскоўцы загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. ў вёсцы 805, на сядзібе саўгаса — 89 жыхароў. У 1977 г. да вёскі далучаны суседні пас. Забалацкі. Цэнтр калгаса імя М.І.Калініна. Размешчаны сярэдняя школа, Дом культуры, б-ка, дзіцячыя яслі-сад, фельч.-акушэрскі пункт, аддз. сувязі, сталовая, магазін. Планіровачна складаецца з 2 крыху выгнутых, паралельных паміж сабой вуліц блізкай да мерыдыянальнай арыентацыі, якія ў цэнтры перакрыжаваны прамалінейнай вуліцай, на Пн да іх далучаецца каротказя вуліца, блізкая да шыротнай арыентацыі. Забудова двухбаковая, драўляная і мураваная, сядзібнага тыпу. У 1994 г. пабудаваны мураваныя дамы на 50 сямей, у якіх размясціліся перасяленцы з забруджаных радыяцыяй месц. Адна з вуліц носіць імя героя грамадз. вайны, камкора, у 1937 г. камандуючага войскамі Забайкальскага і Уральскага ваен. акругоў, ураджэнца вёскі Б.С.Гарбачова. Радзіма Героя Сав. Саюза А.Ц.Краўцова.

У склад Забалацкага с/с уваходзілі да 1996 г. пас. Прыстой, да 1977 г. — пас. Забалацкі, да 1981 г. пас. Вясёлае, да 1995 г. — в. Садовая (да 30.7.1964 Маёнтак), якія зараз не існуюць.

**ЗАВІДАЎКА** — пасёлак у Балатнянскім с/с, за 40 км на ПнУ ад раённага цэнтра і чыг. ст. Рагачоў (на лініі Магілёў—Жлобін), 104 км ад Гомеля, на р. Гутлянка (прыток р. Дняпро), побач аўтадарога Доўск—Слаўгарад. 3 гаспадаркі, 4 жыхары (2004 г.).

Засн. ў пач. 1920-х г. перасяленцамі з суседніх вёсак на былых памешчыцкіх землях. У 1931 г. пасялкоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну 4 пасялкоўцы загінулі на фронце. Паводле перапісу

1959 г. 44 жыхары. У складзе калгаса імя У.І.Леніна (цэнтр — в. Балотня). Забудова драўляная, сядзібнага тыпу.

**ЗАГРЭБ'Е** — пасёлак у Балатнянскім с/с, за 46 км на ПнУ ад раённага цэнтра і чыг. ст. Рагачоў (на лініі Магілёў—Жлобін), 107 км ад Гомеля, на р. Гутлянка (прыток р. Дняпро). Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Доўск—Слаўгарад. 12 гаспадарак, 27 жыхароў (2004 г.).

Засн. ў пач. 1920-х г. перасяленцамі з суседніх вёсак на былых памешчыцкіх землях. У 1932 г. пасялкоўцы ўступілі ў калгас. Паводле перапісу 1959 г. 64 жыхары. У складзе калгаса імя У.І.Леніна (цэнтр — в. Балотня). Планіровачна складаецца з кароткай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ. Жылыя дамы драўляныя, сядзібнага тыпу, пастаўленыя рэдка.

**ЗАДВОР'Е** — пасёлак у Балатнянскім с/с, за 46 км на ПнУ ад раённага цэнтра і чыг. ст. Рагачоў (на лініі Магілёў—Жлобін), 107 км ад Гомеля, на р. Гутлянка (прыток р. Дняпро), на Пн мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Доўск—Слаўгарад. 14 гаспадарак, 31 жыхар (2004 г.).

Засн. ў пач. 1920-х г. перасяленцамі з суседніх вёсак на былых памешчыцкіх землях. У 1931 г. пасялкоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну 13 пасялкоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 88 жыхароў. У складзе калгаса імя У.І.Леніна (цэнтр — в. Балотня). Планіровачна складаецца з кароткай прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ. Жылыя дамы драўляныя, сядзібнага тыпу.

**ЗАЕЗЗЕ** — пасёлак у Кісцянёўскім с/с, за 21 км на ПнУ ад раённага цэнтра і чыг. ст. Рагачоў (на лініі Магілёў—Жлобін), 112 км ад Гомеля, на р. Дняпро. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Рагачоў—Доўск. 4 гаспадаркі, 6 жыхароў (2004 г.).

Засн. ў пач. 1920-х г. перасяленцамі з суседніх вёсак на былых памешчыцкіх землях. У 1925 г. 12 двароў. У 1931 г. пасялкоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну 12 пасялкоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 71 жыхар. У складзе саўгаса «Кісцяні» (цэнтр — в. Кісцяні). Планіровачна складаецца з кароткай прамалінейнай вуліцы, блізкай да мерыдыянальнай арыентацыі і забудаванай рэдка драўлянымі сял. сядзібамі.

**ЗАЛОЗЗЕ** — пасёлак у Кісцянёўскім с/с, за 26 км на ПнУ ад раённага цэнтра і чыг. ст. Рагачоў (на лініі Магілёў—Жлобін), 117 км ад Гомеля, на Пн мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Рагачоў—Доўск. 11 гаспадарак, 17 жыхароў (2004 г.).

Засн. ў пач. 20 ст. перасяленцамі з суседніх вёсак. Найбольш актыўная забудова вялася ў 1920-я г. У 1925 г. 31 двор. У 1931 г. пасялкоўцы ўступілі ў калгас. У 1940 г. 36 двароў, 176 жыхароў. У Вял. Айч. вайну ням. карнікі ў 1944 г. спалілі 6 двароў, загубілі 5 жыхароў. 25 пасялкоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 127 жыхароў. У складзе саўгаса «Кісцяні» (цэнтр — в. Кісцяні). Планіровачна складаецца з кароткай зігзагападобнай вуліцы, блізкай да шыротнай арыентацыі. Забудова драўляная, рэдкая, сядзібнага тыпу.

**ЗАМОКРАЎЕ** — вёска ў Гарадзецкім с/с, за 29 км на ПдУ ад раённага цэнтра і чыг. ст. Рагачоў (на лініі Магілёў—Жлобін), 103 км ад Гомеля, на Пд і З меліярацыйныя каналы. Транспартныя сувязі па прасёлачнай дарозе, потым па шашы Доўск—Гомель. 34 гаспадаркі, 80 жыхароў (2004 г.).

Паводле пісьмовых крыніц вядома з 19 ст. як сяленне ў Гарадзецкай вол. Рагачоўскага пав. Магілёўскай губ. Памешчык меў у вёсцы ў 1876 г. 187 дзес. зямлі. У 1909 г. 25 жыхароў, 494 дзес. зямлі. У 1929 г. жыхары вёскі ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну 30 вяскоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 328 жыхароў. У складзе калгаса «Сві-

танне» (цэнтр — в. Гарадзец). Планіровачна складаецца з 2 паралельных паміж сабой вуліц, блізкіх да мерыдыянальнай арыентацыі, злучаных завулкамі. Забудова пераважна аднабаковая, драўляная, сядзібнага тыпу.

**ЗАПОЛЛЕ** — вёска, цэнтр Запольскага с/с, за 8 км на ПнЗ ад раённага цэнтра і чыг. ст. Рагачоў (на лініі Магілёў—Жлобін), 132 км ад Гомеля, на р. Дабрыца (прыток р. Друць), на З меліярацыйны канал. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Бабруйск—Гомель. 205 гаспадарак, 588 жыхароў (2004 г.).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 17 ст. як сяленне ў Рэчыцкім пав. Мінскага ваяв. У 1696 г. ў складзе прыхода Рагачоўскай царквы Казьмы і Дзям'яна. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) у складзе Рас. імперыі. Паводле рэвізіі 1858 г. 50 двароў, 298 жыхароў, у Рагачоўскім пав. Магілёўскай губ. У 1864 г. адкрыта школа, якая размяшчалася ў наёмнай сял. хаце, а ў 1902 г. для яе быў узведзены будынак. У 1880 г. дзейнічалі хлебазапасны магазін, Свята-Мікалаеўская царква. У 1881 г. 64 двары, 508 жыхароў, у Ціхініцкай вол. Рагачоўскага пав. Паводле перапісу 1897 г. 100 двароў, 682 жыхары, царква, школа, хлебазапасны магазін. У 1909 г. 787 жыхароў, 1418 дзес. зямлі. У 1925 г. 152 двары. У 1930 г. арганізаваны калгас, працавалі нафтавы млын і кузня. З 20.8.1924 г. цэнтр Запольскага с/с Рагачоўскага р-на Бабруйскай (да 26.7.1930) акругі, з 20.2.1938 г. Гомельскай вобл. 2 вяскоўцы загінулі ў сав.-фінляндскую вайну. У Вял. Айч. вайну ў чэрв. 1944 г. ням. акупанты спалілі вёску. У баях за вёску і наваколле загінулі 446 воінаў, у іх ліку Герой Сав. Саюза П.С.Прыходзька (пахаваны ў брацкіх магілах у цэнтры вёскі), вызначыўся батальён пад камандаваннем маёра Ф.І.Ульяніна (удастоены звання Героя Сав. Саюза, пахаваны ў в. Дварэц). На франтах і ў партыз. барацьбе загінулі 143 жыхары Запольскага с/с, памяць аб якіх увекавечваюць скульптура воіна, стэла і дошкі з імёнамі загінуўшых, пастаўленыя ў 1969 г. ў цэнтры вёскі. Паводле перапісу 1959 г. 497 жыхароў. У 1975 г. ў вёску перасялілася частка жыхароў в. Манькі (не існуе). Цэнтр калгаса імя С.М.Кірава. Размешчаны сярэдняя школа, Дом культуры, б-ка, фельч.-акушэрскі пункт, дзіцячыя яслі-сад, аддз. сувязі, 2 магазіны. Планіровачна складаецца з працяглай прамалінейнай мерыдыянальнай вуліцы, забудаванай двухбакова драўлянымі і мураванымі сял. сядзібамі. У 1987 г. пабудаваны мураваныя дамы на 50 сямей, у якіх размясціліся перасяленцы з забруджаных радыяцыяй месц у выніку Чарнобыльскай катастрофы.

У склад Запольскага с/с уваходзілі да 1975 г. в. Манькі, да 1987 г. — в. Сяменькавічы (не існуюць).

**ЗАРЭЧЧА** — вёска ў Старасельскім с/с, за 13 км на Пн ад Рагачова, 2 км ад чыг. ст. Старасельская (на лініі Магілёў—Жлобін), 134 км ад Гомеля, на р. Дабрыца (прыток р. Дняпро). Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Старое Сяло—Рагачоў. 304 гаспадаркі, 906 жыхароў (2004 г.).

Паводле пісьмовых крыніц вядома з 19 ст. як сяленне ў Кісцянёўскай вол. Рагачоўскага пав. Магілёўскай губ. У 1930 г. арганізаваны калгас. У Вял. Айч. вайну 6 вяскоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 84 жыхары. У складзе падсобнай гаспадаркі раённага аб'яднання «Сельгасхімія» (цэнтр — в. Станькаў). Размешчаны б-ка, дзіцячыя яслі-сад, Дом культуры. Планіровачна складаецца з прамалінейнай мерыдыянальнай вуліцы, забудаванай драўлянымі і мураванымі сял. сядзібамі. У 1986 г. пабудавана 50 мураваных, катэджнага тыпу дамоў, у якіх размясціліся перасяленцы з забруджаных радыяцыяй месц.

**ЗБАРОЎ** — вёска, цэнтр Збароўскага с/с, за 12 км на У ад раённага цэнтра і чыг. ст. Рагачоў (на лініі Магілёў—Жлобін), 133 км ад Гомеля, на р. Дняпро.

Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Рагачоў—Доўск. 202 гаспадаркі, 495 жыхароў (2004 г.).

Выяўленыя археолагамі гарадзішча ранняга жал. веку, эпохі бронзы і Кіеўскай Русі (за 1 км на У ад вёскі) і курганны могільнік (5 насыпаў, за 2,5—3 км на У ад вёскі) сведчаць аб засяленні гэтых мясцін з глыбокай старажытнасці. У 1968 г. ў час с.-г. работ каля вёскі знойдзены каралі, якія складаюцца з 14 паперак і 6 сярэбр. падвесак, падобныя сустракаюцца ў стараж.-рускіх курганоў 11 ст. Па пісьмовых крыніцах вядома з 16 ст. У 1682 г. маёнтак Збароў належаў Радзівілам. У 1696 г. сяленне ў прыходзе Рагачоўскай замкавай царквы. У 1749 г. пабудавана драўляная царква. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) у складзе Рас. імперыі. З 1880 г. дзейнічаў хлебазапасны магазін. У 1881 г. 114 двароў, 634 жыхары. Паводле перапісу 1897 г. 156 двароў, 1083 жыхары, царква, школа граматы, хлебазапасны магазін, 2 ветракі, піцейны дом. У 1905 г. адкрыта нар. вучылішча (у 1907 — 47 вучняў), якое размяшчалася ў наёмнай сял. хаце, а ў 1912 г. для яе пабудавана памяшканне. У 1909 г. 170 двароў, 1322 жыхары, 2148 дзес. зямлі, у Кісцянёўскай вол. Рагачоўскага пав. У выніку пажару ў 1910 г. згарэлі 84 двары. У 1925 г. 200 двароў. З 20.8.1924 г. цэнтр Збароўскага с/с Рагачоўскага р-на Бабруйскай (да 26.7.1930) акругі, з 20.2.1938 г. Гомельскай вобл. У 1930 г. арганізаваны калгас. 2 вяскоўцы загінулі ў савецка-фінляндскую вайну. У Вял. Айч. вайну ў баях за вёску і наваколле загінулі 69 воінаў (пахаваны ў брацкай магіле каля школы). На франтах і ў партыз. барацьбе загінуў 161 жыхар з вёсак Збароўскага с/с, памяць аб якіх увекавечвае абеліск, пастаўлены ў 1965 г. ў цэнтры вёскі. Вызвалена 24.2. 1944 г. 77 вяскоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 944 жыхары. Цэнтр калгаса «Новы шлях». Размешчаны мех. майстэрня, 9-гадовая школа, Дом культуры, б-ка, дзіцячы сад, фельч.-акушэрскі пункт, магазін, аддз. сувязі. Планіровачна складаецца з дугападобнай вуліцы, блізкай да шыротнай арыентацыі, да якой з Пд далучаюцца 3 і з Пн — 2 завулкі. Забудова двухбаковая, няшчыльная, пераважна драўляная, сядзібнага тыпу. Радзіма Героя Сав. Саюза К.Н.Осіпава (яго імя нададзена адной з вуліц Гомеля).



*К.Н.Осіпаў.*



*Помнік на месцы спаленай в. Адраджэнне (не існуе).*

У склад Збароўскага с/с уваходзіла да 1943 г. в. Адраджэнне, якую ням. карнікі 23.9.1943 г. спалілі (25 двароў), загінуў 61 жыхар, не адрадзілася, увекавечана ў мемарыяльным комплексе «Хатынь».

**ЗВАНЕЦ** — вёска, цэнтр Званецкага с/с, за 40 км на ПнУ ад раённага цэнтра і чыг. ст. Рагачоў (на лініі Магілёў—Жлобін), 97 км ад Гомеля, на шашы Магілёў—Гомель. 252 гаспадаркі, 638 жыхароў (2004 г.).

Паводле пісьмовых крыніц вядома з 16 ст. як вёска ў Рэчыцкім пав. Мінскага ваяв. ВКЛ, шляхецкая ўласнасць. У 1696 г. сяленне ў прыходзе Рагачоўскай замкавай царквы. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) у складзе Рас. імперыі. У 1824 г. адбылося хваляванне сялян у сувязі з прыцясненнямі ўладаль-

ніка вёскі памешчыка Барысевіча. У 1850 г. побач з вёскай прайшла шаша Пецярбург—Кіеў. Паводле рэвізскіх матэрыялаў 1859 г. ўладанне памешчыка Е.Д.Барыковіча. У 1886 г. 109 двароў, 542 жыхары, у Доўскай вол. Рагачоўскага пав. У 1896 г. 146 двароў, дзейнічалі хлебазапасны магазін (з 1880) і школа. У 1909 г. 1100 жыхароў, 2502 дзес. зямлі, царк.-прыходская школа (размяшчалася ў наёмнай сял. хаце). З 20.8.1924 г. цэнтр Званецкага с/с Журавіцкага, з 8.7.1931 г. Быхаўскага, з 5.12.1931 г. Рагачоўскага, з 12.2.1935 г. Доўскага, з 5.4.1935 г. Журавіцкага, з 17.12.1956 г. Рагачоўскага р-наў Магілёўскай (да 26.7.1930) акругі, з 20.2.1938 г. Гомельскай вобл. У 1929 г. арганізаваны калгас. У 1940 г. 331 двор, 1303 жыхары. 5 вяскоўцаў загінулі ў сав.-фінляндскую вайну. У Вял. Айч. вайну ў 1942 г. вёску часткова спалілі ням. акупанты. У ліст. 1943 г. яны спалілі яшчэ 44 двары і загубілі 12 жыхароў. На франтах і ў партыз. барацьбе загінулі 178 жыхароў, памяць аб якіх увекавечвае скульптурная кампазіцыя, пастаўленая ў 1968 г. ў цэнтры вёскі. Вызвалена 24.11.1943 г. Паводле перапісу 1959 г. 993 жыхары. Цэнтр саўгаса «Бальшавік». Размешчаны 9-гадовая школа, Дом культуры, б-ка, дзіцячыя яслі-сад, аддз. сувязі, магазін. Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, блізкай да мерыдыянальнай арыентацыі (па абодва бакі шашы), на З ад якой праходзяць 2 выгнутыя, амаль паралельныя паміж сабой вуліцы, злучаныя з галоўнай кароткай прамалінейнай вуліцай. Забудова двухбаковая, драўляная, сядзібнага тыпу. Адна з вуліц носіць імя вяскоўца У.А.Захарава, актыўнага ўдзельніка барацьбы за сав. ўладу (забіты бандытамі), другая — імя М.А.Шчарбакова (быў старшынёй калгаса, закатаваны ням.-фаш. акупантамі).

У склад Званецкага с/с уваходзіў да 1966 г. пас. Лубзавод (не існуе).

**ЗЯЛЁНАЯ РУНЬ** — пасёлак у Дварэцкім с/с, за 24 км на З ад раённага цэнтра і чыг. ст. Рагачоў (на лініі Магілёў—Жлобін), 145 км ад Гомеля, на паўн. ускраіне меліярацыйны канал. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, а затым аўтадарозе Бабруйск—Гомель. 21 гаспадарка, 31 жыхар (1999 г.).

Засн. ў пач. 20 ст. перасяленцамі з суседніх вёсак. Найбольш актыўная забудова вялася ў 1920-я г. У 1925 г. 12 двароў. У 1930 г. пасялкоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну 17 пасялкоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 135 жыхароў. У складзе саўгаса «Дварэц» (цэнтр — в. Дварэц). Планіровачна складаецца з кароткай, крыху выгнутай, блізкай да шыротнай арыентацыі вуліцы, забудаванай двухбакова, няшчыльна драўлянымі сял. сядзібамі.

**ЗЯЛЁНЫ ДУБ** — пасёлак у Забалацкім с/с, за 13 км на ПдЗ ад раённага цэнтра і чыг. ст. Рагачоў (на лініі Магілёў—Жлобін), 134 км ад Гомеля. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Бабруйск—Гомель. 25 гаспадарак, 38 жыхароў (2004 г.).

Засн. ў пач. 20 ст. перасяленцамі з суседніх вёсак. Найбольш актыўная забудова вялася ў 1920-я г. У 1925 г. 34 двары. У 1940 г. 48 двароў, 251 жыхар. У 1931 г. пасялкоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну 24 пасялкоўцы змагаліся супраць ням. акупантаў у складзе партыз. атрада. Партызанам было перададзена 19 вінтовак, 60 гранат і 12 тыс. патронаў. У 1944 г. ням. карнікі спалілі 9 двароў. Паводле перапісу 1959 г. 200 жыхароў. У складзе калгаса імя М.І.Калініна (цэнтр — в. Забалацце). Планіровачна складаецца з прамалінейнай мерыдыянальнай вуліцы, забудаванай двухбакова, няшчыльна драўлянымі сял. сядзібамі.

**ІЛЬІЧ** — пасёлак у Званецкім с/с, за 38 км на ПнУ ад раённага цэнтра і чыг. ст. Рагачоў (на лініі Магілёў—Жлобін), 40 км ад Гомеля, на р. Дняпро, на У мяжуе з лесам, побач шаша Магілёў—Гомель. 401 гаспадарка, 1966 жыхароў (2004 г.).

Засн. ў пач. 1920-х г. перасяленцамі з суседніх вёсак на былых памешчыцкіх землях. У 1930 г. пасялкоўцы ўступілі ў калгас. У 1940 г. 16 двароў, 53 жыхары. У Вял. Айч. вайну ў ліст. 1943 г. ням. акупанты спалілі 13 двароў і загубілі жыхара. У баях каля вёскі ў 1943 г. загінулі 3 воіны (пахаваны на магілках). 11 пасялкоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 99 жыхароў. У 1966 г. да пасёлка далучаны пас. Лубзавод. У складзе саўгаса «Бальшавік» (цэнтр — в. Званец). Дзейнічае фабрыка пач. апрацоўкі воўны, філіял Рагачоўскага музея нар. славы, сярэдняя школа, б-ца, дзіцячыя яслі-сад, аддз. сувязі. Планіровачна складаецца з квартальнай забудовы, да якой на Пн і З далучаюцца 2 кароткія прамалінейныя вуліцы. Забудова пераважна драўляная, сядзібнага тыпу.

**КАВАЛЁЎКА** — вёска ў Доўскім с/с, за 38 км на ПнУ ад раённага цэнтра і чыг. ст. Рагачоў (на лініі Магілёў—Жлобін), 96 км ад Гомеля, на р. Доўгая (прыток р. Гутлянка). Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Доўск—Слаўгарад. 6 гаспадарак, 7 жыхароў (2004 г.).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 19 ст. як сяленне ў Доўскай вол. Рагачоўскага пав. Магілёўскай губ. У 1897 г. хутар, 4 двары, 40 жыхароў. У 1909 г. ў вёсцы 150 дзес. зямлі. У 1931 г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. Паводле перапісу 1959 г. 94 жыхары. У складзе эксперыментальнай базы «Доўск» (цэнтр — в. Доўск). Планіровачна складаецца з кароткай вуліцы, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ і забудаванай рэдка драўлянымі сял. сядзібамі.

**КАЗАЦКІ** — пасёлак у Гадзілавіцкім с/с, за 16 км на ПдУ ад раённага цэнтра і чыг. ст. Рагачоў (на лініі Магілёў—Жлобін), 119 км ад Гомеля, на р. Вуглянка (прыток р. Дняпро). Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Рагачоў—Доўск. 22 гаспадаркі, 43 жыхары (2004 г.).

Засн. ў пач. 1920-х г. перасяленцамі з суседніх вёсак на былых памешчыцкіх землях. У 1932 г. пасялкоўцы ўступілі ў калгас. У 1940 г. 36 двароў, 217 жыхароў. У Вял. Айч. вайну ў снеж. 1943 г. ням. акупанты спалілі 7 двароў. 11 пасялкоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 146 жыхароў. У складзе калгаса «Савецкая Беларусь» (цэнтр — в. Гадзілавічы). Планіровачна складаецца з кароткай прамалінейнай вуліцы, блізкай да шыротнай арыентацыі, да якой на З далучаецца з Пд кароткая вуліца. Забудова рэдкая, двухбаковая, драўляная, сядзібнага тыпу.

**КАЛАСЫ** — вёска ў Запольскім с/с, за 2 км на З ад раённага цэнтра і чыг. ст. Рагачоў (на лініі Магілёў—Жлобін), 124 км ад Гомеля, на р. Друць (прыток р. Дняпро). Транспартныя сувязі па аўтадарогах, якія адыходзяць ад Рагачова. 54 гаспадаркі, 99 жыхароў (2004 г.).

Выяўлены археолагамі курганны могільнік 11—12 ст. (76 насыпаў, за 1 км на ПнЗ ад вёскі, на правым беразе ракі) сведчыць аб засяленні гэтых мясцін з далёкай старажытнасці. Па пісьмовых крыніцах вядома з 19 ст. як сяленне ў Ціхініцкай вол. Рагачоўскага пав. Магілёўскай губ. Гаспадар маёнтка, што быў побач, меў тут у 1875 г. 2700 дзес. зямлі, карчму і прыстань на р. Друць. З 1880 г. дзейнічаў хлебазапасны магазін. Паводле перапісу 1897 г. 36 двароў, 295 жыха-



*Вакальны ансамбль «Асалода» Ільіцкага Дома культуры.*



Ц.А.Пачтароў.

роў, школа граматы. Побач быў фальварак, 2 двары, 15 жыхароў. У 1909 г. 45 двароў, 353 жыхары. У 1910 г. адкрыта царк.-прыходская школа, якая размяшчалася ў наёмнай сял. хаце. У 1925 г. 60 двароў. У 1930 г. арганізаваны калгас «Новае жыццё», працавалі 2 кузні, нафтавы млын, вятрак. У 1940 г. 73 двары, 365 жыхароў. У Вял. Айч. вайну ў чэрв. 1944 г. ням. акупанты спалілі вёску і загубілі 10 жыхароў. У баях каля вёскі 24.6.1944 г. вызначыліся старшына, механік-вадзіцель самаходнай артыл. устаноўкі М.К.Чупілка і ўраджэнец в. Сцяпы (Жлобінскі р-н) С.П.Анішчанка, якія быў удастоены звання Героя Сав. Саюза. 39 вяскоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 224 жыхары. У складзе калгаса імя С.М.Кірава (цэнтр — в. Заполле). Планіровачна складаецца з прамалінейнай мерыдыянальнай вуліцы (уздоўж ракі), забудаванай двухбакова, няшчыльна драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. Радзіма Героя Сав. Саюза Ц.А.Пачтарова.

**КАМЕНКА** — вёска ў Гарадзецкім с/с, за 30 км на ПдУ ад раённага цэнтра і чыг. ст. Рагачоў (на лініі Магілёў—Жлобін), 106 км ад Гомеля, на р. Ржаўка (прыток р. Дняпро). Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Рагачоў—Доўск. 9 гаспадарак, 13 жыхароў (2004 г.).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 18 ст. як сяленне ў Рэчыцкім пав. Мінскага ваяв. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) у складзе Рас. імперыі. У 1816 г. 27 двароў, у Рагачоўскім пав. Магілёўскай губ. У 1858 г. 123 жыхары. З 1880 г. дзейнічаў хлебазапасны магазін. Паводле перапісу 1897 г. 43 двары, 255 жыхароў, школа граматы, 2 хлебазапасныя магазіны, вятрак, крупарушка. У 1909 г. в. Каменка Стралкоўская, 50 двароў, 274 жыхары, 375 дзес. зямлі, у Гарадзецкай вол. Рагачоўскага пав. У 1925 г. 67 двароў. У 1930 г. арганізаваны калгас. У 1940 г. 71 двор, 217 жыхароў. У Вял. Айч. вайну ням. акупанты 12.6.1943 г. спалілі вёску, загубілі 51 жыхара (пахаваны ў магіле ахвяр фашызму ў цэнтры вёскі). 22 вяскоўцы загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 123 жыхары. У складзе калгаса «Світанне» (цэнтр — в. Гарадзец). Планіровачна складаецца з 2 кароткіх, паралельных паміж сабой вуліц шыротнай арыентацыі, забудаваных драўлянымі сял. сядзібамі.

**КАМЕНКА** — вёска ў Курганскім с/с, за 31 км на ПдУ ад раённага цэнтра і чыг. ст. Рагачоў (на лініі Магілёў—Жлобін), 105 км ад Гомеля, на р. Ржаўка (прыток р. Дняпро), на Пд і У мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Рагачоў—Доўск. 27 гаспадарак, 39 жыхароў (2004 г.).

Выяўленыя археолагамі гарадзішча 6 ст. да н.э. — 1 ст. н.э. (за 1,5 км на ПнУ ад вёскі, ва ўрочышчы Гарадок), селішча 6 ст. да н.э. — 1 ст. н.э. (на У і Пд ад гарадзішча), могільнік 11—12 ст. (102 насыпы, за 1,4 км на ПнУ ад вёскі) і могільнік (12 насыпаў, за 0,2—0,3 км на Пд і ПдУ ад вёскі) сведчаць аб засяленні гэтых мясцін з глыбокай старажытнасці. Па пісьмовых крыніцах вядома з 1788 г. як фальварак у Рагачоўскім пав. Магілёўскай губ. Паводле рэвізіі 1816 г. 27 двароў. Па рэвізскіх матэрыялах 1859 г. ўладанне Ю.У.Малафеева. З 1880 г. дзейнічалі школа, млын, хлебазапасны магазін. Паводле перапісу 1897 г. 46 двароў, 337 жыхароў, 2 хлебазапасныя магазіны, вадзяны млын, вятрак. У 1909 г. в. Каменка-Раскаў (яна ж Хватаўка), 58 двароў, 494 жыхары, 404 дзес. зямлі, у Гарадзецкай вол. У 1925 г. 106 двароў. У 1930 г. арганізаваны калгас, працавалі кравецкая і шавецкая майстэрні. У 1940 г. 274 жыхары. У Вял. Айч. вайну ў вёсцы дыслацыраваліся партызаны. 5.6.1943 г. карнікі спалілі вёску з 153 жыхарамі (пахаваны ў магіле ахвяр фашызму ў цэнтры вёскі), 54 вяскоўцы загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 293 жыхары. У складзе саўгаса «1 Мая» (цэнтр — в. Курганне). Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдЗ

на ПнУ і забудаванай двухбакова драўлянымі сял. сядзібамі. Радзіма самадзейнага разьбяра па дрэве, засл. работніка культуры Беларусі Дз.У.Сталярова.

**КАМЕНЬ** — пасёлак у Гадзілавіцкім с/с, за 16 км на ПдУ ад раённага цэнтра і чыг. ст. Рагачоў (на лініі Магілёў—Жлобін), 104 км ад Гомеля, на р. Вуглянка (прыток р. Дняпро), побач аўтадарога Хімы—Гадзілавічы. 15 гаспадарак, 22 жыхары (2004 г.).

Паводле пісьмовых крыніц вядомы з 19 ст. Упамінаецца пад 1858 г. як сяленне ў Рагачоўскім пав. Магілёўскай губ. Найбольш актыўная забудова вялася ў 1920-я г. У 1931 г. пасялкоўцы ўступілі ў калгас. У 1940 г. 20 двароў, 120 жыхароў. У Вял. Айч. вайну ў снеж. 1943 г. ням. акупанты спалілі 17 двароў, загубілі жыхара. 10 пасялкоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 113 жыхароў. У складзе калгаса «Савецкая Беларусь» (цэнтр — в. Гадзілавічы). Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, блізкай да мерыдыянальнай арыентацыі (уздоўж ракі), забудаванай аднабакова драўлянымі сял. сядзібамі.

**КАНАВА** — вёска ў Журавіцкім с/с, за 40 км на ПнУ ад раённага цэнтра і чыг. ст. Рагачоў (на лініі Магілёў—Жлобін), 102 км ад Гомеля, на р. Гутлянка (прыток р. Дняпро). Транспартныя сувязі па прасёлачнай дарозе, потым па шашы Магілёў—Доўск. 35 гаспадарак, 56 жыхароў (2004 г.).

Выяўлены археолагамі курганны могільнік (38 насыпаў, на ўсх. ускраіне) сведчыць аб засяленні гэтых месц з далёкай старажытнасці. Па пісьмовых крыніцах вядома з 19 ст. як вёска ў Навабыхаўскай вол. Магілёўскай губ. У 1881 г. 50 двароў, 310 жыхароў. У 1896 г. 72 двары. У 1909 г. адкрыта школа, якая размяшчалася ў наёмнай сял. хаце, у пач. 1920-х г. для яе быў выдзелены нацыяналізаваны будынак. У 1930 г. арганізаваны калгас. У 1940 г. 141 двор, 504 жыхары. У Вял. Айч. вайну дзейнічала патрыят. падполле (кіраўнік С.Ф.Шакараў). У 1943 г. ням. карнікі спалілі 17 двароў. Вызвалена 27.11.1943 г. 34 вяскоўцы загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 568 жыхароў. У складзе калгаса «XVII партз'езд» (цэнтр — в. Вялікая Крушынаўка). Планіровачна складаецца з 2 падзеленых ракой крывалінейных вуліц, арыентаваных з ПдУ на ПнЗ. Забудова двухбаковая, драўляная, сядзібнага тыпу.

**КАНАПЛІЦЫ** — вёска ў Азяранскім с/с, за 35 км на Пн ад раённага цэнтра і чыг. ст. Рагачоў (на лініі Магілёў—Жлобін), 155 км ад Гомеля, на р. Друць (прыток р. Дняпро). Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Бабруйск—Гомель. 21 гаспадарка, 31 жыхар (2004 г.).

Упершыню ўпамінаецца ў 1556 г. як вёска ў складзе Ціхініцкага маёнтка, а ў 1584 г. — у сувязі з «наездамі» сялян в. Азяраны. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) у складзе Рас. імперыі. Гаспадар маёнтка меў тут у 1859 г. 180 дзес. зямлі. З 1880 г. дзейнічаў хлебазапасны магазін. У 1881 г. 48 двароў, 339 жыхароў, у Ціхініцкай вол. Паводле перапісу 1897 г. 66 гаспадарак, 456 жыхароў, школа граматы, хлебазапасны магазін, піцейная ўстанова, у Кісцянёўскай вол. Рагачоўскага пав. У 1909 г. 74 двары, 528 жыхароў, 1023 дзес. зямлі. У 1921 г. адкрыта школа, якая размяшчалася ў наёмнай сял. хаце. У выніку пажару 1.6.1911 г. згарэлі 34 двары. У 1925 г. 120 двароў. У 1930 г. арганізаваны калгас. У 1940 г. 110 двароў. У 1940 г. 9 вяскоўцаў загінулі ў сав.-фінляндскую вайну. У



*Месца абароны плацдарма ў 1944 г. каля в. Канапліцы.*

Вял. Айч. вайну ў лют. 1944 г. ням. акупанты спалілі вёску і загубілі 3 жыхароў. 24.2.1944 г. вызвалена воінамі 3-й арміі 1-га Бел. фронту. 16 вяскоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 249 жыхароў. Размешчаны падсобная гаспадарка раённага аб'яднання «Сельгасхімія», фельч.-акушэрскі пункт. Планіровачна складаецца з прамалінейнай мерыдыянальнай вуліцы (уздоўж ракі), забудаванай двухбакова, няшчыльна драўлянымі сял. сядзібамі. Каля вёскі ёсць залежы суглінкаў.

**КАСЦЯШОЎ** — вёска ў Запольскім с/с, за 9 км на ПнЗ ад раённага цэнтра і чыг. ст. Рагачоў (на лініі Магілёў—Жлобін), 130 км ад Гомеля, на р. Друць (прыток р. Дняпро). Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Бабруйск—Гомель. 1 гаспадарка, 1 жыхар (2004 г.).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 16 ст. Упамінаецца ў попісе войска ВКЛ 1567 г. Пад 1696 г. пазначана як сяленне ў прыходзе Рагачоўскай царквы Казьмы і Дзям'яна. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) у складзе Рас. імперыі. У 1858 г. 19 двароў, 108 жыхароў. Паводле перапісу 1897 г. 29 двароў, 221 жыхар, у Ціхініцкай вол. Рагачоўскага пав. Магілёўскай губ. У 1909 г. 34 двары, 266 жыхароў, 307 дзес. зямлі. У 1923 г. адкрыта школа, для якой у тым жа годзе пабудавана памяшканне. У 1925 г. 31 двор. У 1931 г. арганізаваны калгас «Шлях Леніна», працавала кузня. У 1940 г. 63 двары, 315 жыхароў. У Вял. Айч. вайну ў 1944 г. ням. акупанты спалілі вёску і загубілі 21 жыхара. 17 вяскоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 104 жыхары. У складзе калгаса імя С.М.Кірава (цэнтр — в. Заполле). Планіровачна складаецца з кароткай, блізкай да мерыдыянальнай арыентацыі вуліцы. Жылыя дамы драўляныя, сядзібнага тыпу, пастаўлены рэдка.

**КАШАРА** — вёска ў Дварэцкім с/с, за 18 км на З ад раённага цэнтра і чыг. ст. Рагачоў (на лініі Магілёў—Жлобін), 139 км ад Гомеля, на аўтадарозе Бабруйск—Гомель. 162 гаспадаркі, 441 жыхар (2004 г.).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 19 ст. як сяленне ў Ціхініцкай вол. Рагачоўскага пав. Магілёўскай губ. Па рэвізскіх матэрыялах 1858 г. ў складзе маёнтка Ціхінічы, уладанне памешчыка І.Аскеркі. У 1868 г. 5 двароў, 49 жыхароў. У 1880 г. побач працаваў смаляны з-д. Паводле перапісу 1897 г. 26 двароў, 189 жыхароў. У аднайменным фальварку 2 двары, 5 жыхароў. У 1910 г. адкрыта царк.-прыходская школа, якая размяшчалася ў наёмнай сял. хаце. У 1924 г. для школы пабудавана памяшканне. У 1930 г. арганізаваны калгас «Ленінскае жыццё», працавалі кузня, сталярня, ваўначоска і вятрак. У Вял. Айч. вайну на франтах і ў партыз. барацьбе загінулі 140 землякоў з вёсак Дварэцкага с/с, памяць аб якіх увекавечвае стэла, пастаўленая ў 1977 г. каля Дома культуры. Цэнтр калгаса «Ленінскае жыццё». Размешчаны лясніцтва, сярэдняя школа, Дом культуры, б-ка, фельч.-акушэрскі пункт, дзіцячыя яслі-сад, аддз. сувязі, магазін. Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, блізкай да шыротнай арыентацыі, да якой далучаюцца з Пн 2 завулкі. Забудова двухбаковая, драўляная і мураваная, сядзібнага тыпу. У 1986—87 гг. пабудаваны мураваныя дамы на 50 сямей, у якіх размясціліся перасяленцы з



*Помнік землякам у в. Кашара.*





*Дом культуры ў в. Кашара.*

*Рака Дняпро каля в. Кісцяні.*

забруджаных радыяцыяй месц. Каля вёскі ёсць залежы суглінкаў.

**КІСЦЯНІ** – вёска, цэнтр Кісцянёўскага с/с, за 21 км на ПнУ ад раённага цэнтра і чыг. ст. Рагачоў (на лініі Магілёў–Жлобін), 140 км ад Гомеля, на р. Днепро. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Старое Сяло–Рагачоў. 221 гаспадарка, 554 жыхары (2004 г.).

Выяўленыя археолагамі гарадзішча 6 ст. да н.э. – 6–7 ст. н.э. (у цэнтр. частцы вёскі) і селішча мілаградскай і зарубінецкай культур сведчаць аб засяленні гэтых мясцін з далёкай старажытнасці. Паводле пісьмовых крыніц вядома з 16 ст. У 1567 г. маёнтак Касцяневічы пазначаны ў попісе войска ВКЛ. У 1696 г. сяленне Касцян00і ўваходзіла ў прыход Рагачоўскай замкавай царквы. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) у складзе Рас. імперыі. У канцы 18 – пач. 19 ст. на правым беразе Дняпра закладзены ландшафтны парк (6 га, захаваліся невял. рэшткі планіроўкі і рэдкіх дрэў), меўся сядзібны дом (не збярогся). Па рэвізіі 1817 г. сяло ў Рагачоўскім пав. Магілёўскай губ., 87 двароў, 439 жыхароў, уладанне памешчыка Ланеўскага. З 1861 г. дзейнічала вінакурня. У 1864 г. адкрыта школа, для якой сяльчане на ўласныя сродкі пабудавалі памяшканне (у 1889 – 39 вучняў). Гаспадар маёнтка меў у 1875 г. 12 548 дзес. зямлі, 2 карчмы, вадзяны млын, вінакурню, дзягцярны з-д, дзейнічаў хлебазапасны магазін. У 1881 г. 543 жыхары, 2 царквы (адна мураваная). Па статыстычных звестках 1886 г. 543 жыхары. Цэнтр воласці (да 9.5.1923), у склад якой у 1890 г. ўваходзілі 29 сяленняў з агульнай колькасцю 1021 двор, а ў 1910 г. 39 населеных пунктаў, 1415 двароў. Паводле перапісу 1897 г. 130 двароў, 843 жыхары, прыстань на Дняпры, 3 ветракі, вінная крама, карчма. Побач знаходзіўся фальварак (17 двароў, 40 жыхароў, царква, лесапільня, вінакурны з-д). У 1909 г. 130 двароў, 985 жыхароў, 1767 дзес. зямлі. У фальварку 688 дзес. зямлі. У 1911 г. пры школе пачала працаваць б-ка, мелася аддз. паштовай сувязі. З 20.8.1924 г. да 14.4.1960 г. і з 19.9.1963 г. цэнтр Кісцянёўскага с/с Рагачоўскага р-на Бабруйскай (да 26.7. 1930) акругі, з 20.2.1938 г. Гомельскай вобл. У 1925 г. 143 двары. Дзейнічала пач. школа, а вясковая хата-чытальня ў 1928 г. арганізавала 6 пунктаў ліквідацыі непісьменнасці сярод дарослых. У 1930 г. арганізаваны калгасы «Іскра» і імя К.Я.Варашылава, працавалі цагельня, нафтавы млын, вятрак, 2 кузні. У Вял. Айч. вайну ням. акупанты ў 1941 г. і ў лют. 1944 г. часткова спалілі вёску і загубілі 38 жыхароў. Вызвалена 24.2. 1944 г. У баях за вёску і наваколле загінулі 339 воінаў (пахаваны ў брацкай магіле каля будынка выканкома сельсавета). 52 вяскоўцы загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 486 жыхароў. Цэнтр саўгаса «Кісцяні». Размешчаны малочны з-д, цагельня, камбінат быт. абслугоўвання, рамонтныя майстэрні, дзіцячыя яслі-сад, сярэдняя школа, 2 магазіны. Забудова двухбаковая, драўляная і мураваная, сядзібнага тыпу. У 1986 г.

пабудавана 50 мураваных дамоў, у якіх размясціліся перасяленцы з забруджаных радыяцыяй месц. Радзіма бел. літаратуразнаўца і крытыка, доктара філалагічных навук, прафесара, засл. дзеяча навукі БССР, лаўрэата Дзярж. прэміі БССР Ю.С.Пшыркова. Каля вёскі ёсць залежы крэйды.

У склад Кісцянёўскага с/с да 1995 г. ўваходзіў пас. Ніжаў (не існуе).

**КЛЮЧЫ** — пасёлак у Забалацкім с/с, за 14 км на ПдЗ ад раённага цэнтра і чыг. ст. Рагачоў (на лініі Магілёў—Жлобін), 135 км ад Гомеля, на Пд і У меліярацыйныя каналы. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, а затым аўтадарозе Бабруйск—Гомель. 7 гаспадарак, 12 жыхароў (2004 г.).

Засн. ў пач. 20 ст. перасяленцамі з суседніх вёсак. У 1925 г. 13 двароў. У 1931 г. пасялкоўцы ўступілі ў калгас. У 1940 г. 19 двароў, 101 жыхар. У Вял. Айч. вайну ў чэрв. 1944 г. ням. акупанты спалілі 17 двароў. 12 пасялкоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 60 жыхароў. У складзе калгаса імя М.І.Калініна (цэнтр — в. Забалацце). Планіровачна складаецца з кароткай прамалінейнай вуліцы шыротнай арыентацыі, забудаванай драўлянымі сял. сядзібамі.

**КЛЯЦІШЧА** — вёска ў Доўскім с/с, за 35 км на ПнУ ад раённага цэнтра і чыг. ст. Рагачоў (на лініі Магілёў—Жлобін), 95 км ад Гомеля, на У і Пн меліярацыйны канал. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Доўск—Слаўгарад. 6 гаспадарак, 8 жыхароў (2004 г.).

Засн. ў пач. 1920-х г. перасяленцамі з суседніх вёсак на былых памешчыцкіх землях. У 1931 г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну 25 вяскоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 95 жыхароў. У складзе эксперыментальнай базы «Доўск» (цэнтр — в. Доўск). Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ і забудаванай няшчыльна драўлянымі сял. сядзібамі.

**КНЯЖЫНКА** — вёска ў Гадзілавіцкім с/с, за 19 км на ПдУ ад раённага цэнтра і чыг. ст. Рагачоў (на лініі Магілёў—Жлобін), 119 км ад Гомеля, на У і З меліярацыйныя каналы. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Рагачоў—Доўск. 26 гаспадарак, 44 жыхары (2004 г.).

Засн. ў пач. 20 ст. перасяленцамі з суседніх вёсак. У 1931 г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У 1940 г. 47 двароў, 195 жыхароў. У Вял. Айч. вайну ў снеж. 1943 г. ням. акупанты спалілі 13 двароў. 22 вяскоўцы загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 192 жыхары. У складзе калгаса «Савецкая Беларусь» (цэнтр — в. Гадзілавічы). Планіровачна складаецца з плаўна выгнутай вуліцы, блізкай да мерыдыянальнай арыентацыі, забудаванай двухбакова, няшчыльна драўлянымі сял. сядзібамі.

**КОКАТАВА** — вёска ў Старасельскім с/с, за 11 км на Пн ад раённага цэнтра і чыг. ст. Рагачоў (на лініі Магілёў—Жлобін), 132 км ад Гомеля, на р. Дабрыца (прыток р. Дняпро). Транспартныя сувязі па прасёлачнай, а затым аўтадарозе Старое Сяло—Рагачоў. 7 гаспадарак, 16 жыхароў (2004 г.).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 18 ст. як сяленне ў Мінскім ваяв. ВКЛ. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) у складзе Рас. імперыі. У 1773 г. 20 двароў, у складзе маёнтка Высокае. У 1930 г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. Паводле перапісу 1959 г. 75 жыхароў. У складзе падсобнай гаспадаркі раённага аб'яднання «Сельгасхімія» (цэнтр — в. Станькаў). Планіровачна складаецца з кароткай прамалінейнай вуліцы, блізкай да мерыдыянальнай арыентацыі, забудаванай драўлянымі сял. сядзібамі.

**КРАСНАГОРКА** — вёска ў Журавіцкім с/с, за 40 км на ПнУ ад раённага цэнтра і чыг. ст. Рагачоў (на лініі Магілёў—Жлобін), 98 км ад Гомеля, на р. Гутлянка (прыток р. Дняпро). Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадаро-

зе Доўск—Слаўгарад. 14 гаспадарак, 29 жыхароў (2004 г.).

Паводле пісьмовых крыніц вядома з 18 ст. як сяленне ў Рагачоўскім пав. Магілёўскай губ. У 1816 г. 8 двароў, побач быў фальварак. У 1930 г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну 8 вяскоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 205 жыхароў. У складзе калгаса «12 гадоў Кастрычніка» (цэнтр — в. Журавічы). Планіровачна складаецца з кароткай прамалінейнай вуліцы, блізкай да мерыдыянальнай арыентацыі, забудаванай двухбакова драўлянымі сял. сядзібамі.

**КРАСНІЦА** — вёска ў Гадзілавіцкім с/с, за 25 км на ПдУ ад раённага цэнтра і чыг. ст. Рагачоў (на лініі Магілёў—Жлобін), 115 км ад Гомеля, на З меліярацыйны канал. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Рагачоў—Доўск. 153 гаспадаркі, 410 жыхароў (2004 г.).

Засн. ў пач. 19 ст. Паводле перапісу 1897 г. 50 двароў, 350 жыхароў, млын. У 1909 г. 53 двары, 419 жыхароў, 1539 дзес. зямлі. У 1925 г. 96 двароў. У 1930 г. арганізаваны калгас «Перамога», дзейнічаў саўгас «Красніца», працавалі 2 кузні, трактарны млын, цагельня, 2 ветракі, 2 сталярні, ваўначоска. З 1939 г. да 16.7. 1954 г. цэнтр Маластралкоўскага с/с. У 1940 г. 115 двароў, 326 жыхароў. У Вял. Айч. вайну дзейнічала патрыят. падп. група (кіраўнік А.І.Шукевіч). У 1942 г. партызаны разграмілі нарыхтоўчы пункт акупантаў, які знаходзіўся ў вёсцы. Ням. карнікі ў 1943 г. спалілі 13 двароў. 58 вяскоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 376 жыхароў. У складзе калгаса «Савецкая Беларусь» (цэнтр — в. Гадзілавічы). Размешчаны падсобная гаспадарка раённага аб'яднання «Аграпрамтэхніка», млын, сярэдняя школа, Дом культуры, б-ка, фельч.-акушэрскі пункт, дзіцячыя яслі-сад, аддз. сувязі, магазін. Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ, да якой далучаюцца 2 завулкі. Забудова двухбаковая, драўляная і мураваная, сядзібнага тыпу. У 1986 г. пабудавана 50 мураваных, катэджнага тыпу дамоў, у якіх размясціліся перасяленцы з забруджаных радыяцыяй месц.

**КРУЧПОЛЛЕ** — пасёлак у Дварэцкім с/с, за 16 км на З ад раённага цэнтра і чыг. ст. Рагачоў (на лініі Магілёў—Жлобін), 137 км ад Гомеля. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Бабруйск—Гомель. 2 гаспадаркі, 2 жыхары (2004 г.).

Засн. ў пач. 1920-х г. перасяленцамі з суседніх вёсак на былых памешчыцкіх землях. У 1931 г. пасялкоўцы ўступілі ў калгас. Паводле перапісу 1959 г. 56 жыхароў. У складзе калгаса «Ленінскае жыццё» (цэнтр — в. Кашара). Драўляныя сял. сядзібы пастаўлены каля прасёлачнай дарогі. Радзіма доктара юрыд. навук, прафесара, пісьменніка М.М.Расолава.

**КРЫСТАПОЛЛЕ** — пасёлак у Балатнянскім с/с, за 40 км на ПнУ ад раённага цэнтра і чыг. ст. Рагачоў (на лініі Магілёў—Жлобін), 101 км ад Гомеля, на З меліярацыйны канал і мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па аўтадарозе Доўск—Слаўгарад. 19 гаспадарак, 33 жыхары (2004 г.).

Паводле пісьмовых крыніц вядомы з 19 ст. як сяленне ў Доўскай вол. Рагачоўскага пав. Магілёўскай губ. Па рэвізіі 1858 г. 15 двароў, 71 жыхар. Памешчык Радзевіч у 1865 г. меў тут 230 дзес. зямлі. У другім фальварку ў 1840 г. было 478 дзес. зямлі і карчма. Побач былі паштовая станцыя, каталіцкая капліца. З 1907 г. паштовае аддз. пачало прымаць тэлеграмы. У 1930 г. пасялкоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну 10 пасялкоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 184 жыхары. У складзе калгаса імя У.І.Леніна (цэнтр — в. Балотня). Планіровачна складаецца з кароткай прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ, да якой на Пд далучаецца аднабаковая забудова ўздоўж аўтадарогі. Жылыя дамы драўляныя, сядзібнага тыпу.

**КРЫЎКА** — вёска ў Побалаўскім с/с, за 22 км на ПдЗ ад раённага цэнтра і чыг. ст. Рагачоў (на лініі Магілёў—Жлобін), 143 км ад Гомеля. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Бабруйск—Гомель. 26 гаспадарак, 45 жыхароў (2004 г.).

Паводле пісьмовых крыніц вядома з 19 ст. як невял. сяленне. Паводле рэвізскіх матэрыялаў 1859 г. ўладанне памешчыка Быкоўскага. У пач. 1920-х г. у маёнтку Крыўка быў створаны калгас «Праца». У 1925 г. 20 гаспадарак. У 1940 г. 59 жыхароў. У Вял. Айч. вайну ням. карнікі ў 1944 г. спалілі 9 двароў. У баях каля вёскі загінулі 13 воінаў і партызан (пахаваны ў 3 магілах на могілках). 9 вяскоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 190 жыхароў. У складзе калгаса «Чырвоная Армія» (цэнтр — в. Востраў). Планіровачна складаецца з кароткай, блізкай да мерыдыянальнай арыентацыі вуліцы, забудаванай аднабакова драўлянымі сял. сядзібамі.

**КУРГАННЕ** — вёска, цэнтр Курганскага с/с, за 46 км на У ад раённага цэнтра і чыг. ст. Рагачоў (на лініі Магілёў—Жлобін), 89 км ад Гомеля. Транспартныя сувязі па прасёлачнай дарозе, потым па шашы Доўск—Гомель. 218 гаспадарак, 567 жыхароў (2004 г.).

Выяўлены археолагамі курганны могільнік 11—12 ст. (26 насыпаў, за 0,5—0,6 км на У ад вёскі) сведчыць аб засяленні гэтых мясцін з далёкай старажытнасці. Паводле пісьмовых крыніц вядома з 18 ст. як сяленне ў Рэчыцкім пав. Мінскага ваяв. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772 г.) у складзе Рас. імперыі. Паводле рэвізіі 1816 г. 24 двары, 118 жыхароў, у Доўскай вол. Рагачоўскага пав. Магілёўскай губ. У 1858 г. 127 жыхароў, уладанне Д.П.Турчанінава. Памешчык меў тут у 1870 г. 150 дзес. зямлі. Дзейнічаў хлебазапасны магазін. У 1896 г. 32 двары. У 1909 г. 34 двары, 266 жыхароў, 271 дзес. зямлі. З 20.8.1924 г. да 1939 г. і з 16.7.1954 г. цэнтр Курганскага с/с Гарадзецкага, з 4.8.1927 г. Рагачоўскага, з



*Фальклорны калектыў в. Кургание.*

12.2.1935 г. Доўскага, з 26.5.1935 г. Журавіцкага, з 17.12.1956 г. Рагачоўскага р-наў Бабруйскай (да 26.7.1930) акругі, з 20.2.1938 г. Гомельскай вобл. У 1925 г. 48 двароў. У 1930 г. арганізаваны калгас «1 Мая», працавала кузня. У 1940 г. 120 двароў, 430 жыхароў. У Вял. Айч. вайну ням. карнікі спалілі ў 1943 г. 7 двароў, загубілі 3 жыхароў. У баях за вёску і наваколле загінулі 176 воінаў і партызан (пахаваны ў брацкай магіле ў цэнтры вёскі). У ліку пахаваных камандзір 10-й Журавіцкай партыз. брыгады С.М.Белых, які загінуў 29.4.1943 г. Вызвалена 26.11.1943 г. 22 вяскоўцы загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 512 жыхароў. У 1975 г. да вёскі далучана в. Дзедлава. Цэнтр саўгаса «1 Мая». Размешчаны спіртзавод, камбінат быт. абслугоўвання, мех. майстэрні, сярэдняя школа, Дом культуры, б-ка, фельч.-акушэрскі пункт, дзіцячыя яслі-сад, аддз. сувязі, сталовая, магазін. Планіровачна складаецца з крыху выгнутай працяглай вуліцы, блізкай да мерыдыянальнай арыентацыі, да якой на Пн далучаюцца 3 прамалінейныя вуліцы, злучаныя паміж сабой 3 кароткімі вуліцамі. Забудова двухбаковая, месцамі няшчыльная, пераважна драўляная, сядзібнага тыпу.

У склад Курганскага с/с уваходзіла да 1975 г. в. Дзедлава (не існуе).

**КУСТАВІЦА** — вёска ў Гадзілавіцкім с/с, за 22 км на ПдУ ад раённага цэнтра і чыг. ст. Рагачоў (на лініі Магілёў—Жлобін), 120 км ад Гомеля, на З меліярацыйны канал, на У мяжуе з лесам.

Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Рагачоў—Доўск. 16 гаспадарак, 25 жыхароў (2004 г.).

Паводле пісьмовых крыніц вядома з пач. 20 ст. У 1930 г. арганізаваны калгас. Паводле перапісу 1959 г. 219 жыхароў. У Вял. Айч. вайну 44 вяскоўцы загінулі на фронце. У складзе калгаса «Савецкая Беларусь» (цэнтр — в. Гадзілавічы). Планіровачна складаецца з 3 кароткіх прамалінейных, паралельных паміж сабой мерыдыянальных вуліц, злучаных завулкамі. Забудова няшчыльная, драўляная, сядзібнага тыпу.

**ЛАВЫ** — пасёлак у Старасельскім с/с, за 13 км на Пн ад раённага цэнтра і чыг. ст. Рагачоў (на лініі Магілёў—Жлобін), 134 км ад Гомеля, на З мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Старое Сяло—Рагачоў. 8 гаспадарак, 9 жыхароў (2004 г.).

Засн. ў пач. 20 ст. перасяленцамі з суседніх вёсак. Найбольш актыўная забудова прыпадае на 1920-я г. У 1931 г. пасялкоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну дзейнічала патрыят. падполле (кіраўнік Ф.Р.Сідарэнка). 5 пасялкоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 64 жыхары. У складзе саўгаса «Прагрэс» (цэнтр — в. Шчыбрын). Планіровачна складаецца з кароткай прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ і забудаванай рэдка драўлянымі сял. сядзібамі.

**ЛЕНІНСКІ** — пасёлак у Балатнянскім с/с, за 48 км на ПнУ ад раённага цэнтра і чыг. ст. Рагачоў (на лініі Магілёў—Жлобін), 109 км ад Гомеля. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Доўск—Слаўгарад. 4 гаспадаркі, 8 жыхароў (2004 г.).

Засн. ў пач. 1920-х г. перасяленцамі з суседніх вёсак на былых памешчыцкіх землях. У 1930 г. пасялкоўцы ўступілі ў калгас. Паводле перапісу 1959 г. 54 жыхары. У складзе калгаса імя У.І.Леніна (цэнтр — в. Балотня). Жылыя дамы драўляныя, сядзібнага тыпу, пастаўлены рэдка, уздоўж прасёлачнай дарогі.

**ЛІСКІ** — вёска ў Побалаўскім с/с, за 19 км на ПдЗ ад раённага цэнтра і чыг. ст. Рагачоў (на лініі Магілёў—Жлобін), 140 км ад Гомеля. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Бабруйск—Гомель. 55 гаспадарак, 70 жыхароў (2004 г.).

Паводле пісьмовых крыніц вядома з 16 ст. як вёска ў Рэчыцкім пав. Мінскага ваяв. ВКЛ. У 1567 г. пазначана ў попісе войска ВКЛ. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) у складзе Рас. імперыі. У 1850 г. 21 двор, у Лукаўскай вол. Рагачоўскага пав. Магілёўскай губ. У 1869 г. памешчык меў тут 217 дзес. зямлі і вадзяны млын, з 1880 г. дзейнічаў хлебазапасны магазін. Паводле перапісу 1897 г. 54 двары, 414 жыхароў, хлебазапасны магазін. У 1909 г. 63 двары, 440 жыхароў, 560 дзес. зямлі. У гэтым жа годзе была адкрыта школа, якая размяшчалася ў наёмнай сял. хаце, а ў пач. 1920-х г. для яе быў выдзелены нацыяналізаваны будынак. У 1925 г. 90 двароў. У 1929 г. арганізаваны калгас. У 1940 г. 102 двары. У Вял. Айч. вайну ням. карнікі ў 1944 г. спалілі 6 двароў, загубілі 2 жыхароў. 48 вяскоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 463 жыхары. У складзе калгаса «Чырвоная Армія» (цэнтр — в. Востраў). Планіровачна складаецца з 2 амаль шыротных вуліц, якія на У злучаюцца. На Пд і Пн да іх далучаюцца кароткія вуліцы. Забудова двухбаковая, драўляная, сядзібнага тыпу.

**ЛІСКАЎСКАЯ СЛАБАДА** (да 1924 Казённая Слабада) — вёска ў Дварэцкім с/с, за 21 км на З ад раённага цэнтра і чыг. ст. Рагачоў (на лініі Магілёў—Жлобін), 142 км ад Гомеля, на аўтадарозе Бабруйск—Гомель, на зах. ускраіне меліярацыйны канал. 40 гаспадарак, 92 жыхары (2004 г.).

Паводле пісьмовых крыніц вядома з пач. 19 ст. як сяленне ў Ціхініцкай вол. Рагачоўскага пав. Магілёўскай губ. У 1850 г. 19 двароў, 137 жыхароў, частку жыхароў складалі стараверы. З 1880 г. дзейнічаў хлебазапасны магазін. У 1881

г. 30 двароў, 212 жыхароў. Паводле перапісу 1897 г. 46 двароў, 381 жыхар, школа граматы, млын, піцейны дом. У 1909 г. 496 дзес. зямлі. У 1925 г. 54 двары, у Дварэцкім с/с Рагачоўскага р-на Бабруйскай акругі. У 1930 г. арганізаваны калгас «Чырвоны пуцілавец», працавала кузня. У 1940 г. 58 двароў. У Вял. Айч. вайну ням. акупанты ў 1944 г. спалілі вёску. 15 вяскоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 223 жыхары. У складзе саўгаса «Дварэц» (цэнтр — в. Дварэц). Планіровачна складаецца з прамалінейнай шыротнай вуліцы, да якой на З далучаецца прамалінейная мерыдыянальная вуліца. Забудова двухбаковая, драўляная, сядзібнага тыпу.

**ЛУК'ЯНАЎКА** (да 1934 Лук'янаў Рог) — пасёлак у Дварэцкім с/с, за 17 км на З ад раённага цэнтра і чыг. ст. Рагачоў (на лініі Магілёў—Жлобін), 138 км ад Гомеля. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Бабруйск—Гомель. 5 гаспадарак, 5 жыхароў (2004 г.).

Засн. ў пач. 1920-х г. перасяленцамі з суседніх вёсак на былых памешчыцкіх землях. У 1932 г. пасялкоўцы ўступілі ў калгас. У 1940 г. 19 двароў, 145 жыхароў. У Вял. Айч. вайну ням. карнікі ў 1944 г. спалілі 13 двароў. 9 пасялкоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 74 жыхары. У складзе калгаса «Ленінскае жыццё» (цэнтр — в. Кашара). Драўляныя сял. сядзібы пастаўлены каля прасёлачнай дарогі.

*Від на р. Дняпро каля в. Лучын.*



**ЛУЧЫН** — вёска, цэнтр Лучынскага с/с, за 8 км на Пд ад Рагачова, 2 км ад чыг. ст. Лукская (на лініі Рагачоў—Жлобін), 113 км ад Гомеля, на р. Дняпро і аўтадарозе Рагачоў—Жлобін. 350 гаспадарак, 854 жыхары (2004 г.).

Некаторыя даследчыкі лічаць, што тут размяшчаўся старажытны г. Лучын, які ўпершыню ўпамінаецца ў грамаце смаленскага кн. Расціслава Мсціславіча ў 1136 г. Бясспрэчным з'яўляецца тое, што гэтыя мясціны былі заселены ў глыбокай старажытнасці, аб чым сведчаць выяўленыя археолагамі гарадзішчы і селішча мілаградскай, зарубінецкай культур і эпохі Кіеўскай Русі, курганныя могільнікі (5 насыпаў, побач з гарадзішчам), а таксама 6 паселішчаў эпохі неаліту і бронз. веку. Паводле пісьмовых крыніц вядома з 15 ст. як сяленне ў ВКЛ. Упамінаецца ў грамаце Казіміра IV ад 15.5.1480 г., выдадзенай купцу Л.Цярэшкавічу аб дазволе на бяспошлінны гандаль у гарадах ВКЛ. У пісьме каралевы Боны ад 1548 г. паведамлялася дзяржаўцу Рагачоўскаму аб скаргах жыхароў в. Лучын. У 1593 г. ўпамінаецца як сяло са Свята-Мікалаеўскай царквой, пры якім былі могілкі Качыцкіх. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. Паводле рэвізіі 1858 г. 102 двары, 569 жыхароў, у складзе маёнтка Забалацце памешчыка Д.П.Турчанінава. З 1871 г. дзейнічала прадпрыемства па вырабе цукру, з 1880 г. — хлебазапасны магазін. У 1881 г. 118 двароў, 662 жыхары, пабудавана памяшканне нар. вучылішча (у 1889 — 86 вучняў). Паводле перапісу 1897 г. 178 двароў, 1383 жыхары, 5 ветракоў, 2 крупарушкі, цагельня, 4 крамы, піцейны дом, у Лукаўскай вол. Рагачоўскага пав. Магілёўскай губ. Паміж вяскоўцамі і памешчыкам нярэдка ўзнікалі канфлікты ў сувязі з забаронай вяскоўцам карыстацца пашай, якую яны лічылі агульнай. У 1909 г. 227 двароў,



Помнік савецкім воінам і аднавяскоўцам у в. Лучын.

1362 жыхары, б-ка пры школе, 605 дзес. зямлі. З 20.8.1924 г. цэнтр Лучынскага с/с Рагачоўскага р-на Бабруйскай (да 26.7.1930) акругі, з 20.2.1938 г. Гомельскай вобл. У 1925 г. 308 двароў. У 1930 г. арганізаваны калгас «Шлях селяніна». У 1940 г. 1413 жыхароў. У Вял. Айч. вайну ням. акупанты ў 1941 г. спалілі часткова вёску, а ў 1944 г. яшчэ 282 двары і загубілі 15 жыхароў. 125 вяскоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 1410 жыхароў. У 1975 г. ў вёску перасяліліся жыхары пас. Шлях Селяніна (не існуе). Цэнтр калгаса «Запаветы Ільіча». Размешчаны сярэдняя школа, клуб, б-ка, фельч.-акушэрскі пункт, дзіцячыя яслі-сад, аддз. сувязі, 2 магазіны. Планіровачна складаецца з 4 прамалінейных, паралельных паміж сабой вуліц мерыдыянальнай арыентацыі, якія злучаюць 4 шыротныя вуліцы і ўтвараюць квартальную структуру. Забудова пераважна драўляная, двухбаковая, сядзібнага тыпу. Радзіма Героя Сав. Саюза П.А.Пілютава і ген.-лейт. М.Р.Брылёва. Каля вёскі ёсць залежы гліны.

У склад Лучынскага с/с уваходзіў да 1975 г. пас. Шлях Селяніна (не існуе)

**ЛЯСНОЕ** — пасёлак у Балатнянскім с/с, за 45 км на ПнУ ад раённага цэнтра і чыг. ст. Рагачоў (на лініі Магілёў—Жлобін), 106 км ад Гомеля, на Пд мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Доўск—Слаўгарад. 7 гаспадарак, 10 жыхароў (2004 г.).

Засн. ў пач. 1920-х г. перасяленцамі з суседніх вёсак на былых памешчыцкіх землях. У 1931 г. пасялкоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну 5 пасялкоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 69 жыхароў. У складзе калгаса імя У.І.Леніна (цэнтр — в. Балотня). Планіровачна складаецца з кароткай прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ і забудаванай драўлянымі сял. сядзібамі.

**МАДОРА** — вёска ў Кісцянёўскім с/с, за 11 км на ПнУ ад раённага цэнтра і чыг. ст. Рагачоў (на лініі Магілёў—Жлобін), 130 км ад Гомеля, на р. Мадорка (прыток р. Дняпро), на Пд мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Рагачоў—Старое Сяло. 136 гаспадарак, 252 жыхары (2004 г.).

Выяўленыя археолагамі каля вёскі курганныя могільнікі 11—12 ст. сведчаць аб засяленні гэтых мясцін з далёкай мінуўшчыны. Па пісьмовых крыніцах вядома з 18 ст. як сяленне ў Рэчыцкім пав. Мінскага ваяв. ВКЛ. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) у складзе Рас. імперыі. Па рэвізіі 1816 г. 37 двароў, 235 жыхароў, уладанне памешчыка Ланеўскага, у Кісцянёўскай вол. Рагачоўскага пав. Магілёўскай губ. У 1880 г. адкрыта школа граматы, пераўтвораная ў 1893 г. ў царк.-прыходскую, у 1911 г. для яе пабудавана памяшканне. З 1880 г. дзейнічаў хлебазапасны магазін. У 1881 г. 116 двароў, 786 жыхароў. Паводле перапісу 1897 г. 171 двор, 1195 жыхароў, капліца, 5 ветракоў, вадзяны млын, піцейны дом. У 1909 г. 180 двароў, 1390 жыхароў, 2638 дзес. зямлі. З 20.8.1924 г. да 16.7.1954 г. цэнтр Мадорскага с/с. У



П.А.Лучын.



*Фальклорны калектыў з в. Мадора.*

1925 г. 228 двароў. У 1930 г. арганізаваны калгас імя В.М.Молатава, працавалі бандарная арцель і 2 ветракі. У Вял. Айч. вайну 6.11.1942 г. партызаны разграмілі валасную ўправу ням. акупантаў. У баях за вёску і наваколле загінулі больш за 200 воінаў (пахаваны ў 2 брацкіх магілах на могілках). На франтах і ў партыз. барацьбе загінулі 206 жыхароў вёсак Кісцянёўскага с/с. Памяць аб іх увекавечвае скульптура воіна на пастаменце, пастаўленая ў 1967 г. ў цэнтры вёскі. Вызвалена 24.2.1944 г. Паводле перапісу 1959 г. 998 жыхароў. Размешчаны б-ка, фельч.-акушэрскі пункт, аддз. сувязі. Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ, да якой далучаюцца з Пн кароткая прамалінейная, з З — крывалінейная вуліцы. Забудова двухбаковая, драўляная, сядзібнага тыпу. Радзіма доктара мед. навук, прафесара Р.П.Мацвяйкова і засл. настаўніка БССР Л.А.Драздовай.

**МАЗАЛАЎ** (да 1935 Глінск) — вёска ў Старасельскім с/с, за 18 км на Пн ад раённага цэнтра і чыг. ст. Рагачоў (на лініі Магілёў—Жлобін), 139 км ад Гомеля, на З мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Старое Сяло—Рагачоў. 11 гаспадарак, 19 жыхароў (1999 г.).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 16 ст. як сяленне ў ВКЛ. У 1567 г. пазначана ў попісе войска ВКЛ. У 1593 г. ўпамінаецца маёнтак Мазалаўскі, які належаў Качыцкаму. У 1763 г. пабудавана невял. драўляная царква. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) у складзе Рас. імперыі. Па рэвізіі 1816 г. 44 двары, 220 жыхароў. У інвентары 1847 г. ўпамінаецца як уладанне памешчыка Ціхвінскага, у 1858 г. — памешчыка Клячкоўскага, у Кісцянёўскай вол. Рагачоўскага пав. Магілёўскай губ. У 1930 г. арганізаваны калгас «Садавод», працавалі кузня, бровар. Паводле перапісу 1959 г. 116 жыхароў. У складзе падсобнай гаспадаркі раённага аб'яднання «Сельгасхімія» (цэнтр — в. Станькаў). Планіровачна складаецца з кароткай прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ, да якой далучаецца кароткая прамалінейная вуліца. Забудова двухбаковая, рэдкая, драўляная, сядзібнага тыпу.

**МАЛАШКАВІЧЫ** — вёска ў Курганскім с/с, за 25 км на У ад раённага цэнтра і чыг. ст. Рагачоў (на лініі Магілёў—Жлобін), 115 км ад Гомеля, на р. Ракатун (прыток р. Дняпро). Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Рагачоў—Доўск. 66 гаспадарак, 150 жыхароў (2004 г).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 18 ст. як сяленне ў Доўскай вол. Рагачоўскага пав. Магілёўскай губ. У 1824 г. адбылося хваляванне сялян у сувязі з прыцясненнямі ўладальніка вёскі памешчыка Барысевіча. Дзейнічалі Свята-Пакроўская царква (у 1864 згарэла), з 1880 г. — хлебазапасны магазін, школа граматы. Паводле перапісу 1897 г. 90 двароў, 630 жыхароў, хлебазапасны магазін, вятрак, маслабойня, карчма. У 1909 г. 827 жыхароў, 1450 дзес. зямлі. У 1925 г. 140 двароў. У 1930 г. арганізаваны калгас «Бальшавік». Працавалі 2 кузні. 2 вяскоўцы загінулі ў сав.-фінляндскую, 68 — у Вял. Айч. вайны. Паводле перапісу 1959 г. 565 жыхароў. У складзе саўгаса «1 Мая» (цэнтр — в. Курганне). Размешчаны клуб. Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, блізкай да шыротнай арыентацыі з 3 завулкамі. Забудова двухбаковая, драўляная, сядзібнага тыпу. Радзіма Героя Сац. Працы М.В.Арцёменкі.

**МАЛАЯ КРУШЫНАЎКА** — вёска ў Азяранскім с/с, за 35 км на ПнУ ад раённага цэнтра і чыг. ст. Рагачоў (на лініі Магілёў—Жлобін), 156 км ад Гомеля, на ўсх. ускраіне Фалевіцкі канал. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Бабруйск—Гомель. 35 гаспадарак, 55 жыхароў (2004 г.).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 19 ст., калі побач з в. Крушынаўка ўзнікла аколіца. У 1868 г. 1 двор, 10 жыхароў. Паводле перапісу 1897 г. 40 двароў, 305 жыхароў. У 1909 г. в. Крушынаўка Малая (яна ж Крушынаўская Буда), 46 двароў, 367 жыхароў, 714 дзес. зямлі, у Ціхініцкай вол. Рагачоўскага пав. Магілёўскай губ. У 1925 г. 89 двароў. У 1930 г. арганізаваны калгасы імя С.М. Будзённага і «Шлях да сацыялізму», працавалі 2 кузні, ваўначоска. У 1940 г. 110 двароў, 584 жыхары. У Вял. Айч. вайну ням. карнікі ў 1944 г. спалілі 32 двары і загубілі 2 жыхароў. 49 вяскоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 415 жыхароў. У складзе калгаса «XVII партз'езд» (цэнтр — в. Вялікая Крушынаўка). Планіровачна складаецца з прамалінейнай мерыдыянальнай вуліцы, перакрыжаванай у цэнтры кароткай прамалінейнай шыротнай вуліцай. Забудова драўляная, двухбаковая, сядзібнага тыпу.

**МАЛІНАЎКА** — вёска ў Доўскім с/с, за 37 км на ПнУ ад раённага цэнтра і чыг. ст. Рагачоў (на лініі Магілёў—Жлобін), 96 км ад Гомеля, на р. Доўгая (прыток р. Гутлянка). Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Доўск—Слаўгарад. 7 гаспадарак, 8 жыхароў (2004 г.).

Засн. ў пач. 20 ст. перасяленцамі з суседніх вёсак. Найбольш актыўная забудова вялася ў 1920-я г. У 1931 г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну 14 вяскоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 172 жыхары. У складзе эксперыментальнай базы «Доўск» (цэнтр — в. Доўск). Жылыя дамы драўляныя, сядзібнага тыпу, пастаўленыя ўздоўж кароткай, падзеленай ракой шыротнай вуліцы.

**МАЛІНАЎКА** — вёска ў Стаўпнянскім с/с, за 45 км на ПдУ ад Рагачова, за 12 км ад чыг. ст. Салтанаўка (на лініі Жлобін—Гомель), 62 км ад Гомеля. Транспартныя сувязі па прасёлачнай дарозе, потым па шашы Гомель—Доўск. 7 гаспадарак, 11 жыхароў (1999 г.).

Засн. ў пач. 1920-х г. перасяленцамі з суседніх вёсак на былых памешчыцкіх землях. У 1930 г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну 18 вяскоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 109 жыхароў. У складзе калгаса «Светлы шлях» (цэнтр — в. Стоўпня). Планіровачна складаецца з кароткай прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ і забудаванай рэдка драўлянымі сял. сядзібамі.

**МАЛІНАЎКА** — пасёлак у Старасельскім с/с, за 15 км на Пн ад раённага цэнтра і чыг. ст. Рагачоў (на лініі Магілёў—Жлобін), 136 км ад Гомеля, на р. Дабрыца (прыток р. Дняпро), на Пн мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Старое Сяло—Рагачоў. 3 гаспадаркі, 4 жыхары (1999 г.).

Засн. ў пач. 1920-х г. перасяленцамі з суседніх вёсак на былых памешчыцкіх землях. У 1931 г. пасялкоўцы ўступілі ў калгас. У 1940 г. 65 двароў, 248 жыхароў. У Вял. Айч. вайну ў 1943 г. ням. карнікі спалілі 45 двароў. Паводле перапісу 1959 г. 53 жыхары. У складзе падсобнай гаспадаркі раённага аб'яднання «Сельгасхімія» (цэнтр — в. Станькаў). Забудова драўляная, сядзібнага тыпу.

**МАЛЫЯ КАНАПЛІЦЫ** — вёска ў Старасельскім с/с, за 36 км на ПнУ ад раённага цэнтра і чыг. ст. Рагачоў (на лініі Магілёў—Жлобін), 156 км ад Гомеля, на р. Друць (прыток р. Дняпро). Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Старое Сяло—Рагачоў. 44 гаспадаркі, 85 жыхароў (2004 г.).

Вядома з 19 ст., калі перасяленцы з суседніх вёсак, пераважна з в. Канапліцы, заснавалі тут сяленне. У 1909 г. 50

двароў, 269 жыхароў, 701 дзес. зямлі, у Кісцянёўскай вол. Рагачоўскага пав. Магілёўскай губ. У 1913 г. адкрыта школа, якая размяшчалася ў наёмнай сял. хаце. У 1930 г. арганізаваны калгас. У 1940 г. 103 двары, 492 жыхары. У Вял. Айч. вайну ням. акупанты ў лют. 1944 г. спалілі вёску. Вызвалена 24.2.1944 г. 29 вяскоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 224 жыхары. У складзе падсобнай гаспадаркі раённага аб'яднання «Сельгасхімія» (цэнтр — в. Станькаў). Размешчана б-ка. Планіровачна складаецца з прамалінейнай мерыдыянальнай вуліцы (уздоўж ракі і яе поймы), забудаванай двухбакова, няшчыльна драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**МАЛЫЯ СТРАЛКІ** — вёска ў Гарадзецкім с/с, за 27 км на ПдУ ад раённага цэнтра і чыг. ст. Рагачоў (на лініі Магілёў—Жлобін), 105 км ад Гомеля, на р. Ржаўка (прыток р. Дняпро). Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Рагачоў—Доўск. 25 гаспадарак, 57 жыхароў (2004 г.).

Па пісьмовых крыніцах вядома з сярэдзіны 18 ст., калі з в. Стралкі вылучылася в. Малыя Стралкі. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) у складзе Рас. імперыі. Па рэвізіі 1816 г. 41 двор, 207 жыхароў, у Гарадзецкай вол. Рагачоўскага пав. Магілёўскай губ. У 1858 г. 239 жыхароў, уладанне Ю.У.Малафеева. У 1879 г. памешчык меў тут 129 дзес. зямлі, 2 млыны, сукнавальню і карчму, дзейнічалі хлебазапасны магазін, 3 ветракі. У 1909 г. 90 двароў, 731 жыхар, 1374 дзес. зямлі. У 1925 г. 125 двароў. З 20.8.1924 г. да 14.4.1960 г. цэнтр Маластралкоўскага с/с. У 1930 г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну 35 вяскоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 259 жыхароў. У складзе калгаса «Світанне» (цэнтр — в. Гарадзец). Планіровачна складаецца з 2 кароткіх прамалінейных, амаль паралельных паміж сабой вуліц, блізкіх да мерыдыянальнай арыентацыі. Забудова драўляная, няшчыльная, сядзібнага тыпу.

**МАРУСІНА** — пасёлак у Запольскім с/с, за 10 км на ПдЗ ад раённага цэнтра і чыг. ст. Рагачоў (на лініі Магілёў—Жлобін), 131 км ад Гомеля, на Пд мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Бабруйск—Гомель. 6 гаспадарак, 7 жыхароў (2004 г.).

Засн. ў пач. 20 ст. У 1909 г. фальварак, 1 гаспадарка, 9 жыхароў, 160 дзес. зямлі, у Лукаўскай вол. Рагачоўскага пав. Магілёўскай губ. Найбольш актыўная забудова вялася ў 1920-я г. У 1925 г. 13 двароў. У 1932 г. пасялкоўцы ўступілі ў калгас. У 1940 г. 53 жыхары. У Вял. Айч. вайну ў 1944 г. ням. акупанты спалілі пасёлак і загубілі 2 жыхароў. 26 пасялкоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 88 жыхароў. У складзе калгаса імя С.М.Кірава (цэнтр — в. Заполле). Планіровачна складаецца з кароткай прамалінейнай мерыдыянальнай вуліцы, забудаванай рэдка драўлянымі сял. сядзібамі.

**МАСТКІ** — пасёлак у Гадзілавіцкім с/с, за 16 км на ПдУ ад раённага цэнтра і чыг. ст. Рагачоў (на лініі Магілёў—Жлобін), 116 км ад Гомеля, на р. Вуглянка (прыток р. Дняпро), на Пд мяжуе з лесам, побач аўтадарога Хімы—Гадзілавічы. 28 гаспадарак, 40 жыхароў (2004 г.).

Засн. ў пач. 20 ст. перасяленцамі з суседніх вёсак. У 1925 г. 10 двароў. У 1931 г. пасялкоўцы ўступілі ў калгас. У 1940 г. 24 двары, 155 жыхароў. У Вял. Айч. вайну дзейнічала патрыят. падп. група (кіраўнік М.С.Філіпаў). У снеж. 1943 г. ням. акупанты спалілі 23 двары. 13 пасялкоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 199 жыхароў. У складзе калгаса «Савецкая Беларусь» (цэнтр — в. Гадзілавічы). Планіровачна складаецца з кароткай прамалінейнай мерыдыянальнай вуліцы (уздоўж ракі), да якой з З далучаецца завулак. Жылыя дамы драўляныя, сядзібнага тыпу.

**МАХАВАЯ** — вёска ў Балатнянскім с/с, за 46 км на ПнУ ад раённага цэнтра і чыг. ст. Рагачоў (на лініі Магілёў—

Жлобін), 107 км ад Гомеля. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Доўск—Слаўгарад. 22 гаспадаркі, 35 жыхароў (2004 г.).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 19 ст. як сяленне ў Доўскай вол. Рагачоўскага пав. Магілёўскай губ. З 1880 г. працавалі хлебазапасны магазін і вятрак. У 1909 г. 32 двары, 238 жыхароў, 239 дзес. зямлі. У 1932 г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У 1940 г. 40 двароў. У Вял. Айч. вайну ў ліст. 1943 г. ням. акупанты спалілі вёску і загубілі 3 жыхароў. 19 вяскоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 166 жыхароў. У складзе калгаса імя У.І.Леніна (цэнтр — в. Балотня). Планіровачна складаецца з прамалінейнай шыротнай вуліцы, забудаванай двухбакова драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. Радзіма Героя Сац. Працы У.А.Сцепчанкі.

**МІЖДЗЕРАЎ** — вёска ў Старасельскім с/с, за 16,5 км на Пд ад Рагачова, 6 км ад чыг. ст. Старасельская (на лініі Магілёў—Жлобін), 137,5 км ад Гомеля.

У канцы 19 — пач. 20 ст. вёска ў Кісцянёўскай вол. Рагачоўскага пав. Магілёўскай губ. У 1909 г. ў Лукаўскай сельскай грамадзе; 60 жыхароў, 8 двароў, 68 дзес. зямлі, 50 дзес. лесу. Уваходзіла ў Старасельскі правасл. прыход. З 20.8. 1924 г. ў складзе Станькаўскага с/с Рагачоўскага р-на Бабруйскай (да 26.7. 1930) акругі, з 20.2.1938 г. Гомельскай вобл. У 1926 г. 13 двароў, 89 жыхароў. У Вял. Айч. вайну 10 вяскоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 — 40, у 1979 г. — 39 жыхароў. Уваходзіла ў склад саўгаса «Станькаўскі» (цэнтр — в. Станькаў).

**МІНЬКАЎ** — вёска ў Забалацкім с/с, за 15 км на ПдЗ ад раённага цэнтра і чыг. ст. Рагачоў (на лініі Магілёў—Жлобін), 136 км ад Гомеля, на Пн і З меліярацыйныя каналы. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, а затым аўтадарозе Бабруйск—Гомель. 34 гаспадаркі, 65 жыхароў (2004 г.).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 19 ст. як сяленне ў Лукаўскай вол. Рагачоўскага пав. Магілёўскай губ. У 1850 г. 22 двары, 148 жыхароў. У 1881 г. 28 двароў, 206 жыхароў, хлебазапасны магазін. Паводле перапісу 1897 г. 66 двароў, 465 жыхароў, школа граматы. У 1909 г. ў вёсцы было 522 дзес. зямлі. У пач. 1930 г. арганізаваны калгас «Чырвоны Мінькаў», працавалі 2 ветракі. У 1940 г. 82 двары, 412 жыхароў. У Вял. Айч. вайну ням. карнікі спалілі ў 1944 г. 25 двароў і загубілі 8 жыхароў. 30 вяскоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 332 жыхары. У складзе калгаса імя М.І.Калініна (цэнтр — в. Забалацце). Планіровачна складаецца з прамалінейнай мерыдыянальнай вуліцы, а па другі бок канала — яшчэ адна вуліца. Забудова драўляная, сядзібнага тыпу.

**МІРНАЯ** (да 29.12.1977 Раманаўка) — вёска ў Стаўпнянскім с/с, за 42 км на ПдУ ад Рагачова, 12 км ад чыг. ст. Салтанаўка (на лініі Жлобін—Гомель), за 65 км ад Гомеля. Транспартныя сувязі па прасёлачнай дарозе, потым па шашы Доўск—Гомель. 14 гаспадарак, 25 жыхароў (1999 г.).

Засн. ў пач. 20 ст. перасяленцамі з суседніх вёсак. Найбольш актыўная забудова вялася да 1920-х г. У 1932 г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. Паводле перапісу 1959 г. 154 жыхары. 3 вяскоўцы загінулі ў сав.-фінляндскую, 14 — у Вял. Айч. войны. У складзе калгаса «Светлы шлях» (цэнтр — в. Стоўпня). Планіровачна складаецца з кароткай прамалінейнай мерыдыянальнай вуліцы, забудаванай рэдка драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**НАВАСЕЛЛЕ** (да 1935 Падувінск) — вёска ў Запольскім с/с, за 10 км на З ад раённага цэнтра і чыг. ст. Рагачоў (на лініі Магілёў—Жлобін), 131 км ад Гомеля, на Пд меліярацыйны канал. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Бабруйск—Гомель. 19 гаспадарак, 23 жыхары (1999 г.).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 19 ст. як сяленне ў Лукаўскай вол. Рагачоўскага пав. Магілёўскай губ. Паводле пе-

рапісу 1897 г. 18 двароў, 128 жыхароў, хлебазапасны магазін. У 1909 г. 23 двары, 161 жыхар, 208 дзес. зямлі. У 1925 г. 35 двароў. У 1931 г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У 1940 г. 45 двароў, 225 жыхароў. У Вял. Айч. вайну ням. акупанты спалілі 37 двароў і загубілі 10 жыхароў. Паводле перапісу 1959 г. 186 жыхароў. У складзе калгаса «Кастрычнік» (цэнтр — в. Стрэнькі). Планіровачна складаецца з кароткай прамалінейнай вуліцы, блізкай да шыротнай арыентацыі. Забудова двухбаковая, драўляная, сядзібнага тыпу.



*В.В.Скрыганаў.*

**НАВАСЁЛКІ** — вёска ў Ціхініцкім с/с, за 21 км на ПнЗ ад раённага цэнтра і чыг. ст. Рагачоў (на лініі Магілёў—Жлобін), 142 км ад Гомеля, на р. Дабрыца (прыток р. Друць). Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Бабруйск—Гомель. 87 гаспадарак, 186 жыхароў (2004 г.).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 19 ст. як сяленне ў Ціхініцкай вол. Рагачоўскага пав. Магілёўскай губ. У 1854 г. пабудавана царква. Паводле перапісу 1897 г. 56 двароў, 349 жыхароў, школа граматы, хлебазапасны магазін, млын. У 1909 г. 65 двароў, 451 жыхар, 678 дзес. зямлі. У 1912 г. адкрыта школа, якая размяшчалася ў наёмнай сял. хаце. У 1931 г. арганізаваны калгас. У 1940 г. 126 двароў, 441 жыхар. У Вял. Айч. вайну ням. акупанты ў 1944 г. спалілі вёску і загубілі 3 жыхароў. 54 вяскоўцы загінулі на фронце. У складзе саўгаса «Ціхінічы» (цэнтр — в. Ціхінічы). Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ, да якой на У далучаецца кароткая шыротная вуліца з завулкам. Забудова двухбаковая, пераважна драўляная, сядзібнага тыпу.

**НАДЗЕЙКАВІЧЫ** — вёска ў Дварэцкім с/с, за 25 км на З ад раённага цэнтра і чыг. ст. Рагачоў (на лініі Магілёў—Жлобін), 146 км ад Гомеля, на Пд і З меліярацыйны канал. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Бабруйск—Гомель. 14 гаспадарак, 27 жыхароў (2004 г.).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 19 ст. як сяленне ў Ціхініцкай вол. Рагачоўскага пав. Магілёўскай губ. Па размежаванні 1842 г. 255 дзес. зямлі. У 1847 г. побач з вёскай знаходзіўся гаспадарскі дом. Па рэвізіі 1858 г. уладанне памешчыка Орды. Побач было сяльцо Надзейкавіцкае Зацішша (2 двары). Памешчык меў у 1862 г. 630 дзес. зямлі. У 1880 г. 33 двары, хлебазапасны магазін. Паводле перапісу 1897 г. 38 двароў, 285 жыхароў, школа граматы. Побач 4 фальваркі, 6 гаспадарак, 19 жыхароў. У 1909 г. 40 двароў, 253 дзес. зямлі, непадалёку знаходзіўся хут. Горкі (ён жа Новыя Надзейкавічы), 3 двары, 27 жыхароў, 112 дзес. зямлі. У 1930 г. арганізаваны калгас «Камунар», працавала кузня. У 1940 г. 75 двароў, 327 жыхароў. У Вял. Айч. вайну ў чэрв. 1944 г. ням. акупанты спалілі 40 двароў і загубілі 3 жыхароў. У складзе саўгаса «Дварэц» (цэнтр — в. Дварэц). Планіровачна складаецца з крывалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ і забудаванай няшчыльна драўлянымі сял. сядзібамі. Радзіма Героя Сав. Саюза, ген.-м. В.В.Скрыганава. Яго імя носяць вуліцы ў вёсцы і Мінску.

**НОВАЯ АЛЕШНЯ** — вёска ў Балатнянскім с/с, за 49 км на ПнУ ад раённага цэнтра і чыг. ст. Рагачоў (на лініі Магілёў—Жлобін), 110 км ад Гомеля, на р. Гутлянка (прыток р. Дняпро). Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Доўск—Слаўгарад. 31 гаспадарка, 53 жыхары (2004 г.).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 18 ст. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) у складзе Рас. імперыі. Па інвентары 1788 г. 37 двароў, у Доўскай вол. Рагачоўскага пав. Магілёўскай губ. У 1858 г. 40 двароў, уладанне памешчыка Хмызоўскага. З 1880 г. дзейнічаў хлебазапасны магазін. Паводле перапісу 1897 г. 57 двароў, 396 жыхароў, вятрак. У 1909 г. 63 двары, 518 жыхароў, 597 дзес. зямлі. У 1931 г. арганізаваны калгас. У 1940 г. 69 двароў. У Вял. Айч. вайну ням. кар-

нікі ў 1943 г. спалілі 16 двароў і загубілі 5 жыхароў. 39 вяскоўцаў не вярнуліся з фронту. Паводле перапісу 1959 г. 200 жыхароў. У складзе калгаса імя У.І.Леніна (цэнтр — в. Балотня). Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, перакрыжаванай у цэнтры кароткай прамалінейнай мерыдыянальнай вуліцай. Забудова двухбаковая, драўляная, сядзібнага тыпу.

**НОВАЯ КАШАРА** — вёска ў Дварэцкім с/с, за 18 км на З ад раённага цэнтра і чыг. ст. Рагачоў (на лініі Магілёў—Жлобін), 139 км ад Гомеля. Побач аўтадарога Бабруйск—Гомель. 18 гаспадарак, 39 жыхароў (2004 г.).

Засн. ў пач. 1920-х г., калі хутары вёскі Кашары вылучыліся ў асобны населены пункт пад назвай Новая Кашара. У 1925 г. 23 двары. У 1931 г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У 1940 г. 48 двароў, 242 жыхары. У Вял. Айч. вайну ням. карнікі ў 1944 г. спалілі 20 двароў, загубілі жыхара. 7 вяскоўцаў не вярнуліся з фронту. Паводле перапісу 1959 г. 92 жыхары. У складзе калгаса «Ленінскае жыццё» (цэнтр — в. Кашара). Планіровачна складаецца з кароткай вуліцы, блізкай да мерыдыянальнай арыентацыі і забудаванай драўлянымі сял. сядзібамі.

**НОВЫ ВОСТРАЎ** — пасёлак у Пабалаўскім с/с, за 25 км на ПдЗ ад раённага цэнтра і чыг. ст. Рагачоў (на лініі Магілёў—Жлобін), 146 км ад Гомеля. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Бабруйск—Гомель. 4 гаспадаркі, 9 жыхароў (2004 г.).

Засн. ў пач. 1920-х г. перасяленцамі з суседніх вёсак, пераважна з в. Востраў, на былых памешчыцкіх землях. У 1931 г. пасялкоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну 8 пасялкоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 50 жыхароў. У складзе калгаса «Чырвоная Армія» (цэнтр — в. Востраў). Забудова рэдкая, драўляная, сядзібнага тыпу.

**НОВЫ КРЫЎСК** — вёска ў Курганскім с/с, за 41 км на У ад раённага цэнтра і чыг. ст. Рагачоў (на лініі Магілёў—Жлобін), 84 км ад Гомеля, на шашы Доўск—Гомель, на З мяжуе з лесам. 130 гаспадарак, 237 жыхароў (2004 г.).

Выяўлены археолагамі курганны могільнік 10—12 ст. (44 насыпы, за 1,5 км на У ад вёскі) сведчыць аб засяленні гэтых мясцін з далёкай старажытнасці. Сучасная вёска засн. перасяленцамі з в. Крыўск у пач. 20 ст. У 1925 г. 57 гаспадарак. У 1930 г. арганізаваны калгас «Камунар», працавала кузня. У 1940 г. 208 двароў, 1049 жыхароў. 2 вяскоўцы загінулі ў сав.-фінляндскую вайну. У Вял. Айч. вайну ў ноч на 4.6.1943 г. партызаны атрада А.П.Шастакова зрабілі тут засаду і знішчылі 6 ням. машын з салдатамі, захапілі 2 гарматы, 2 мінамёты, 3 кулямёты, 2 аўтаматы, 25 вінтовак, больш за 300 камбінезонаў. У ліст. 1943 г. ням. акупанты спалілі 19 двароў і загубілі 35 жыхароў. У баях за вёску і яе наваколле загінулі 57 сав. воінаў (пахаваны ў брацкай магіле на могілках). 54 вяскоўцы загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 671 жыхар. У складзе саўгаса «1 Мая» (цэнтр — в. Курганне). Размешчаны клуб, аддз. сувязі. Планіровачна складаецца з працяглай, прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ (па абодва бакі шашы), да якой з У далучаецца крыху выгнутая, з З — прамалінейная вуліцы. Забудова пераважна драўляная, двухбаковая, сядзібнага тыпу.

**НОВЫ ПАХАР** — вёска ў Старасельскім с/с, за 12 км на Пн ад раённага цэнтра і чыг. ст. Рагачоў (на лініі Магілёў—Жлобін), 133 км ад Гомеля. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Старое Сяло—Рагачоў. 2 гаспадаркі, 3 жыхары (2004 г.).

Засн. ў пач. 1920-х г. перасяленцамі з суседніх вёсак на былых памешчыцкіх землях. У 1931 г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. Паводле перапісу 1959 г. 29 жыхароў. У складзе падсобнай гаспадаркі раённага аб'яднання «Сельгасхімія» (цэнтр — в. Станькаў). Забудова драўляная, сядзібнага тыпу.

**НОВЫЯ ЖУРАВІЧЫ** — вёска ў Журавіцкім с/с, за 46 км на ПнУ ад раённага цэнтра і чыг. ст. Рагачоў (на лініі Магілёў—Жлобін), 98 км ад Гомеля, на аўтадарозе Доўск—Слаўгарад. 46 гаспадарак, 82 жыхары (2004 г.).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 2-й пал. 19 ст., калі перасяленцы з мяст. Журавічы засн. каля паштовага тракта сяленне, якое атрымала назву Новыя Журавічы. У 1853—59 гг. збудавана драўляная царква. У 1931 г. арганізаваны калгас. У 1940 г. 120 двароў, 465 жыхароў. У Вял. Айч. вайну ў ліст. 1943 г. ням. акупанты спалілі 6 двароў і загубілі 6 жыхароў. У баях за вёску і яе наваколле загінуў 151 воін (пахаваны ў брацкай магіле ў цэнтры вёскі). 82 вяскоўцы загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 484 жыхары. У складзе калгаса «12 гадоў Кастрычніка» (цэнтр — в. Журавічы). Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ, да цэнтра якой з У далучаецца пад прамым вуглом прамалінейная вуліца і з Пн — кароткая вуліца шыротнай арыентацыі. Забудова рэдкая, драўляная, сядзібнага тыпу.

**НОВЫЯ КАЛАСЫ** — пасёлак у Запольскім с/с, за 2 км на З ад раённага цэнтра і чыг. ст. Рагачоў (на лініі Магілёў—Жлобін), 123 км ад Мінска, на р. Друць (прыток р. Дняпро). Транспартныя сувязі па аўтадарогах, якія адыходзяць ад Рагачова. 45 гаспадарак, 99 жыхароў (2004 г.).

Засн. ў пач. 20 ст. перасяленцамі з суседніх вёсак. У 1925 г. 18 двароў. Побач былі хутары, 4 двары. У 1931 г. пасялкоўцы ўступілі ў калгас. У 1940 г. 54 двары, 270 жыхароў. У Вял. Айч. вайну ў 1944 г. ням. акупанты спалілі пасёлак і загубілі 7 жыхароў. Паводле перапісу 1959 г. 169 жыхароў. У складзе калгаса імя С.М.Кірава (цэнтр — в. Заполле). Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы мерыдыянальнай арыентацыі, забудаванай двухбакова пераважна драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**НОВЫЯ КАНАПЛІЦЫ** — вёска ў Старасельскім с/с, за 35 км на ПнУ ад раённага цэнтра і чыг. ст. Рагачоў (на лініі Магілёў—Жлобін), 155 км ад Гомеля, на р. Дняпро, на Пд і Пн мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Старое Сяло—Рагачоў. 8 гаспадарак, 14 жыхароў (2004 г.).

Засн. ў пач. 1920-х г. перасяленцамі з суседніх вёсак, пераважна з в. Канапліцы, на былых памешчыцкіх землях. У 1931 г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. Паводле перапісу 1959 г. 72 жыхары. У складзе падсобнай гаспадаркі раённага аб'яднання «Сельгасхімія» (цэнтр — в. Станькаў). Планіровачна складаецца з кароткай прамалінейнай вуліцы мерыдыянальнай арыентацыі, забудаванай двухбакова, рэдка драўлянымі сял. сядзібамі.

**ПАБЕДА** — пасёлак у Балатнянскім с/с, за 48 км на ПнУ ад раённага цэнтра і чыг. ст. Рагачоў (на лініі Магілёў—Жлобін), 109 км ад Гомеля. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Доўск—Слаўгарад. 6 гаспадарак, 7 жыхароў (2004 г.).

Засн. ў пач. 1920-х г. на былых памешчыцкіх землях перасяленцамі з суседніх вёсак. У 1931 г. пасялкоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну 5 пасялкоўцаў не вярнуліся з фронту. Паводле перапісу 1959 г. 68 жыхароў. У складзе калгаса імя У.І.Леніна (цэнтр — в. Балотня). Забудова драўляная, сядзібнага тыпу, уздоўж прасёлачнай дарогі.

**ПАДБУДДЗЕ** — пасёлак у Стаўпнянскім с/с, за 42 км на ПдУ ад Рагачова, 13 км ад чыг. ст. Салтанаўка (на лініі Жлобін—Гомель), 64 км ад Гомеля. Транспартныя сувязі па прасёлачнай дарозе, потым па шашы Доўск—Гомель. 9 гаспадарак, 15 жыхароў (2004 г.).

Засн. ў пач. 20 ст. перасяленцамі з суседніх вёсак на былых памешчыцкіх землях. У пач. 1931 г. пасялкоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну 24 пасялкоўцы загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 144 жыхары. У складзе калга-

са «Светлы шлях» (цэнтр — в. Стоўпня). Планіровачна складаецца з кароткай прамалінейнай шыротнай вуліцы, да якой з Пн пад прамым вуглом далучаецца завулак. Жылыя дамы драўляныя, сядзібнага тыпу.

**ПАДДУБ'Е** — пасёлак у Журавіцкім с/с, за 43 км на ПнУ ад раённага цэнтра і чыг. ст. Рагачоў (на лініі Магілёў—Жлобін), 101 км ад Гомеля, на Пн і З мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, а затым аўтадарозе Доўск—Слаўгарад. 19 гаспадарак, 35 жыхароў (2004 г.).

Засн. ў пач. 20 ст. перасяленцамі з суседніх вёсак на былых памешчыцкіх землях. У 1931 г. пасялкоўцы ўступілі ў калгас. У складзе калгаса «XXII партз'езд» (цэнтр — в. Хатоўня). Планіровачна складаецца з кароткай прамалінейнай вуліцы, блізкай да шыротнай арыентацыі. Забудова двухбаковая, няшчыльная, драўляная, сядзібнага тыпу.

**ПАДЗЕЛЫ** — пасёлак у Стаўпнянскім с/с, за 44 км на ПдУ ад Рагачова, 12 км ад чыг. ст. Салтанаўка (на лініі Жлобін—Гомель), 63 км ад Гомеля. Транспартныя сувязі па прасёлачнай дарозе, потым па шашы Доўск—Гомель. 5 гаспадарак, 18 жыхароў (2004 г.).

Засн. ў сярэдзіне 1920-х г. на былых памешчыцкіх землях перасяленцамі з суседніх вёсак. У 1932 г. пасялкоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну 11 пасялкоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 90 жыхароў. У складзе калгаса «Светлы шлях» (цэнтр — в. Стоўпня). Забудова рэдкая, драўляная, сядзібнага тыпу.

**ПАПОЎЦЫ** — вёска ў Побалаўскім с/с, за 27 км на ПдЗ ад раённага цэнтра і чыг. ст. Рагачоў (на лініі Магілёў—Жлобін), 148 км ад Гомеля, на р. Добасна (прыток р. Друць). Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Бабруйск—Гомель. 43 гаспадаркі, 67 жыхароў (2004 г.).

Па пісьмовых крыніцах вядома з пач. 19 ст. як сяленне ў Рагачоўскім пав. Магілёўскай губ. Па рэвізіі 1816 г. 6 двароў. У 1858 г. 32 двары, 199 жыхароў. У 1925 г. існавалі в. Папоўцы (39 двароў) і пасёлкі Папоўцы-1 (13 двароў), Папоўцы-2 (10 двароў). У 1931 г. арганізаваны калгас імя К.Я.Варашылава, працаваў вятрак. У 1940 г. 92 двары, 354 жыхары. У Вял. Айч. вайну ў 1944 г. ням. карнікі спалілі 25 двароў. 46 вяскоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 422 жыхары. У складзе калгаса «Чырвоная Армія» (цэнтр — в. Востраў). Размешчаны фельч.-акушэрскі пункт. Планіровачна складаецца з крыху выгнутай вуліцы, блізкай да мерыдыянальнай арыентацыі і забудаванай двухбакова драўлянымі сял. сядзібамі. Радзіма бел. літ. крытыка С.М.Марчанкі.

**ПАРТЫЗАНЫ** (да 30.7.1964 Сіпораўка) — вёска ў Доўскім с/с, за 23 км на ПнУ ад раённага цэнтра і чыг. ст. Рагачоў (на лініі Магілёў—Жлобін), 96 км ад Гомеля, вакол лес, каля вёскі бярэ пачатак р. Струменка (прыток р. Дняпро). Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Рагачоў—Доўск. 1 гаспадарка, 1 жыхар (1999 г.).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 19 ст. як сяленне ў Доўскай вол. Рагачоўскага пав. Магілёўскай губ. У 1850 г. ў складзе маёнтка памешчыка Янткевіча. Па рэвізіі 1858 г. 18 двароў, 113 жыхароў, цэнтр маёнтка, уладанне памешчыка Д.П.Турчанінава. У вёсках Сіпораўка, Свержань, Серабранка і Янаўка гэты памешчык меў у 1872 г. 3854 дзес. зямлі, 2 карчмы і 3 млыны. З 1880 г. дзейнічаў хлебазапасны магазін, з 1889 г. — вінакурня. У 1909 г. 55 двароў, 409 жыхароў, 408 дзес. зямлі. Непадалёку быў аднайменны маёнтак, які належаў двараніну Эрдману, 3 двары, 5 жыхароў, 2820 дзес. зямлі. У 1910 г. адкрыта школа, якая размяшчалася ў наёмнай сял. хаце. У 1929 г. арганізаваны калгас. У Вял. Айч. вайну ў снеж. 1942 г. ва ўрочышчы Свержанская лясная дача, што за 1 км на З ад вёскі, быў створаны партыз. атрад на аснове арганізацыйнай групы І.М.Дзікана—С.М.Белых. Ням. карнікі ў 1943 г. спалілі

13 двароў, загубілі 5 жыхароў. 20 вяскоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 194 жыхары. У складзе эксперыментальнай базы «Доўск» (цэнтр — в. Доўск). Планіровачна складаецца з прамалінейнай шыротнай вуліцы з 2 завулкамі, да якой з Пн далучаецца кароткая прамалінейная вуліца, перакрыжаваная другой кароткай прамалінейнай вуліцай. Забудова двухбаковая, пераважна драўляная, рэдкая, сядзібнага тыпу.

**ПАРХІМКАЎСКАЯ СЛАБАДА** — вёска ў Дварэцкім с/с, за 30 км на З ад раённага цэнтра і чыг. ст. Рагачоў (на лініі Магілёў—Жлобін), 151 км ад Гомеля, на У меліярацыйны канал. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Бабруйск—Гомель. 22 гаспадаркі, 35 жыхароў (2004 г.).

Засн. ў пач. 20 ст. перасяленцамі з суседніх вёсак. У 1925 г. 55 двароў. У 1930 г. арганізаваны калгас. Паводле перапісу 1959 г. 215 жыхароў. У складзе саўгаса «Дварэц» (цэнтр — в. Дварэц). У Вял. Айч. вайну 15 вяскоўцаў загінулі на фронце. Планіровачна складаецца з кароткай прамалінейнай вуліцы мерыдыянальнай арыентацыі, забудаванай двухбакова, няшчыльна драўлянымі сял. сядзібамі.

**ПАХАР** — пасёлак у Гадзілавіцкім с/с, за 19 км на ПдУ ад раённага цэнтра і чыг. ст. Рагачоў (на лініі Магілёў—Жлобін), 119 км ад Гомеля, на Пд і У меліярацыйны канал. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Рагачоў—Доўск. 6 гаспадарак, 10 жыхароў (2004 г.).

Засн. ў пач. 1920-х г. перасяленцамі з суседніх вёсак на былых памешчыцкіх землях. У 1925 г. 16 двароў, у Маластралкоўскім с/с Гарадзецкага р-на Бабруйскай акругі. У 1930 г. арганізаваны калгас. У 1940 г. 78 жыхароў. У Вял. Айч. вайну ў снеж. 1942 г. ням. акупанты спалілі 9 двароў і загубілі 2 жыхароў. 4 пасялкоўцы загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 59 жыхароў. У складзе калгаса «Савецкая Беларусь» (цэнтр — в. Гадзілавічы). Дзейнічае спіртзавод. Планіровачна складаецца з кароткай мерыдыянальнай вуліцы. Жылыя дамы драўляныя, сядзібнага тыпу, пастаўлены рэдка.

**ПАХАР** — пасёлак у Журавіцкім с/с, за 46 км на ПнУ ад раённага цэнтра і чыг. ст. Рагачоў (на лініі Магілёў—Жлобін), 104 км ад Гомеля, на зах. ускраіне безымянная рака (прыток р. Гутлянка). Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Доўск—Слаўгарад. 50 гаспадарак, 329 жыхароў (2004 г.).

Выяўлены археолагамі курганны могільнік (22 насыпы, на ўсх. ускраіне) сведчыць аб засяленні гэтых мясцін з далёкай старажытнасці. Сучасны пасёлак засн. ў пач. 1920-х г. перасяленцамі з суседніх вёсак на былых памешчыцкіх землях. У 1930 г. арганізаваны калгас. У Вял. Айч. вайну 12.1.1943 г. каля пасёлка адбыўся бой партызан з акупантамі, у выніку якога былі забіты 3 немцы і 3 паліцэйскія. 35 пасялкоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 330 жыхароў. У складзе калгаса «XXII партз'езд» (цэнтр — в. Хатоўня). Размешчаны Журавіцкі дзіцячы дом-інтэрнат і яго падсобная гаспадарка. Планіровачна складаецца з прамалінейнай шыротнай вуліцы, забудаванай двухбакова, рэдка драўлянымі сял. сядзібамі.

**ПЕРАДАВАЯ** (да 30.7.1964 засценак Дуброва) — вёска ў Пабалаўскім с/с, за 23 км на ПдЗ ад раённага цэнтра і чыг. ст. Рагачоў (на лініі Магілёў—Жлобін), 144 км ад Гомеля. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Бабруйск—Гомель. 50 гаспадарак, 102 жыхары (2004 г.).

Засн. ў пач. 20 ст. перасяленцамі з суседніх вёсак. Найбольш актыўная забудова вялася ў 1920-я г. У 1931 г. арганізаваны калгас «Чырвоная Армія», працавалі кузня і ваўначоска. У Вял. Айч. вайну 23 вяскоўцы загінулі на фронце. У складзе калгаса «Чырвоная Армія» (цэнтр — в. Востраў). Планіровачна складаецца з крывалінейнай шыротнай

вуліцы, да якой на У далучаецца кароткая прамалінейная вуліца мерыдыянальнай арыентацыі. Забудова двухбаковая, драўляная, сядзібнага тыпу.

**ПЕРАКОП** — вёска ў Курганскім с/с, за 32 км на ПдУ ад раённага цэнтра і чыг. ст. Рагачоў (на лініі Магілёў—Жлобін), на р. Ржаўка (прыток р. Дняпро). Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Рагачоў—Доўск. 7 гаспадарак, 8 жыхароў (2004 г.).

Засн. ў пач. 1920-х г. перасяленцамі з суседніх вёсак. У 1930 г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У 1940 г. 32 двары, 85 жыхароў. У Вял. Айч. вайну ў вёсцы некаторы час дыслацыраваліся партызаны. У ліст. 1943 г. ням. акупанты спалілі вёску і загубілі 4 жыхароў. У баях за вёску і наваколле загінулі 2 воіны і 5 партызан (пахаваны ў брацкай магіле на могілках). 23 вяскоўцы загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 133 жыхары. У складзе саўгаса «1 Мая» (цэнтр — в. Курганне). Планіровачна складаецца з кароткай прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ. Забудова драўляная, сядзібнага тыпу.

**ПЕРАСЕКА** — пасёлак у Дварэцкім с/с, за 25 км на З ад раённага цэнтра і чыг. ст. Рагачоў (на лініі Магілёў—Жлобін), 146 км ад Гомеля, на аўтадарозе Бабруйск—Гомель, на Пд меліярацыйны канал. 19 гаспадарак, 65 жыхароў (2004 г.).

Засн. ў пач. 20 ст. перасяленцамі з суседніх вёсак. Найбольш актыўная забудова вялася ў 1920-х г. У 1925 г. 13 двароў. У 1931 г. пасялкоўцы ўступілі ў калгас. Паводле перапісу 1959 г. 43 жыхары. У складзе саўгаса «Дварэц» (цэнтр — в. Дварэц). Планіровачна складаецца з кароткай прамалінейнай вуліцы мерыдыянальнай арыентацыі, забудаванай драўлянымі сял. сядзібамі.

**ПЛАСКІНЯ** — вёска ў Дварэцкім с/с, за 24 км на З ад раённага цэнтра і чыг. ст. Рагачоў (на лініі Магілёў—Жлобін), 145 км ад Гомеля, на р. Добасна (прыток р. Друць). Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Бабруйск—Гомель. 18 гаспадарак, 30 жыхароў (2004 г.).

Па пісьмовых крыніцах вядома з пач. 19 ст. як сяленне ў Рагачоўскім пав. Магілёўскай губ. Па рэвізіі 1816 г. в. Пласкіня Дварэцкая, 9 двароў, 40 жыхароў. У 1925 г. 51 двор, у Дварэцкім с/с Рагачоўскага р-на Бабруйскай акругі. У 1929 г. арганізаваны калгас. У Вял. Айч. вайну 15 вяскоўцаў не вярнуліся з фронту. Паводле перапісу 1959 г. 126 жыхароў. У складзе саўгаса «Дварэц» (цэнтр — в. Дварэц). Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, блізкай да мерыдыянальнай арыентацыі і забудаванай драўлянымі сял. сядзібамі.

**ПЛАСКІНЯ** — пасёлак у Побалаўскім с/с, за 26 км на ПдЗ ад раённага цэнтра і чыг. ст. Рагачоў (на лініі Магілёў—Жлобін), 147 км ад Гомеля. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Бабруйск—Гомель. 6 гаспадарак, 14 жыхароў (2004 г.).

Па пісьмовых крыніцах вядомы з пач. 19 ст. як сяленне ў Рагачоўскім пав. Магілёўскай губ. Па рэвізскіх матэрыялах 1859 г. ўладанне памешчыка Маліноўскага. У 1932 г. пасялкоўцы ўступілі ў калгас. Паводле перапісу 1959 г. 34 жыхары. У складзе калгаса «Чырвоная Армія» (цэнтр — в. Востраў). Забудова драўляная, рэдкая, сядзібнага тыпу.

**ПОБАЛАВА** — вёска, цэнтр Побалаўскага с/с, за 24 км на ПдЗ ад Рагачова, 7 км ад чыг. ст. Чырвоны Бераг (на лініі Бабруйск—Жлобін), 145 км ад Гомеля, на р. Добасна (прыток р. Друць). Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Бабруйск—Гомель. 264 гаспадаркі, 668 жыхароў (2004 г.).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 16 ст. як сяленне ў Рэчыцкім пав. Мінскага ваяв. ВКЛ. У 1567 г. пазначана ў попісе войска ВКЛ. Прывілеем Жыгімонта III у 1595 г. ў мястэчку дазвалялася праводзіць таргі, які быў пацверджаны каралём Станіславам Панятоўскім у 1788 г. Пазначана на карце ВКЛ 1613 г. Нале-



Свята ў в. Побалава. Выступленне ўзорнага ансамбля танца «Медуніца».



Дом культуры ў в. Побалава.

жала Занковічам, Варанецкім, Жукоўскім, Маліноўскім. У сярэдзіне 18 ст. 2 вёскі: Старое Побалава і Новае Побалава (яна ж Узнага). У 1771 г. Гал. Літоўскі трыбунал разглядаў скаргу ўладальнікаў Побалава князей Варанецкіх на дзеянні рагачоўскіх базыльян, якія імкнуліся захапіць маёнтак Ліскі. З 1792 г. дзейнічала Петра-Паўлаўская царква (у 1887 узведзены новы драўляны будынак). Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1812 г. занята франц. войскамі, тут размяшчалася 17-я польская дывізія Напалеона. Праз вёску праходзіў тракт з Глуска ў Рагачоў, мелася паштовая станцыя. У 1848 г. 46 двароў, у 1858 г. 248 жыхароў. З 1866 г. дзейнічала нар. вучылішча, якое размяшчалася ў наёмнай сял. хаце, у 1898 г. для яго пабудавана памяшканне. У студз. 1918 г. занята легіянерамі Доўбар-Мусніцкага, якіх выбілі з вёскі партызаны. У баях каля вёскі загінулі 12 чырвонаармейцаў (пахаваны ў брацкай магіле на могілках). З 20.8.1924 г. цэнтр сельсавета Рагачоўскага р-на Бабруйскай (да 26.7.1930) акругі, з 20.2.1938 г. Гомельскай вобл. У 1925 г. 104 двары. Дзейнічалі вадзяны млын, шавецкая майстэрня, кузня, сталярня. У Вял. Айч. вайну партызаны ў снеж. 1942 г. і лют. 1943 г. разграмілі створаны тут акупантамі апорны пункт. У баі каля вёскі 24.6.1944 г. вызначыўся старшына, механік-вадзіцель самаходнай установкі М.К.Чупілка (удастоены звання Героя Сав. Саюза). У баях загінулі 189 воінаў і партызан, у іх ліку Герой Сав. Саюза М.М.Кліменка (пахаваны ў магілах каля будынка выканкома сельсавета і на могілках). 20 вяскоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 520 жыхароў. У складзе калгаса «Чырвоная Армія» (цэнтр — в. Востраў). Размешчаны мех. майстэрня, камбінат быт. абслугоўвання, сярэдняя і муз. школы, б-ка, дзіцячы сад, амбулаторыя, аптэка, аддз. сувязі, сталовая, 3 магазіны. Планіровачна складаецца з вуліцы, блізкай да мерыдыянальнай арыентацыі і забудаванай шчыльна. Жылыя дамы драўляныя і мураваныя, сядзібнага тыпу. У 1986 г. пабудавана 50 мураваных, катэджнага тыпу дамоў, у якіх размясціліся перасяленцы з забруджаных радыяцыяй месц.

**ПРЫДНЯПРОЎСКІ** — пасёлак у Збароўскім с/с, за 11 км на ПдУ ад раённага цэнтра і чыг. ст. Рагачоў (на лініі Магілёў—Жлобін), 131 км ад Гомеля, вакол лес, на У — р. Днязро. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Рагачоў—Доўск. 297 гаспадарак, 736 жыхароў (2004 г.).

Засн. ў пач. 20 ст. перасяленцамі з суседніх вёсак. У 1925 г. 16 гаспадарак. У 1931 г. пасялкоўцы ўступілі ў калгас. У складзе калгаса «Новы шлях» (цэнтр — в. Збароў). Размешчаны санаторый «Прыдняпроўскі» (адкрыты 13.9.1977), пач. школа, дзіцячыя яслі-сад. Забудова мураваная і драўляная, пераважна сядзібнага тыпу.

**ПРЫЛЁПАЎКА** — пасёлак у Жураўіцкім с/с, за 45 км на ПнУ ад раённага цэнтра і чыг. ст. Рагачоў (на лініі Магілёў—Жлобін), 106 км ад Гомеля, на Пд і

У меліярацыйны канал. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Доўск—Слаўгарад. 21 гаспадарка, 54 жыхары (2004 г.).

Засн. ў пач. 20 ст. перасяленцамі з суседніх вёсак. У 1931 г. пасялкоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну 14 пасялкоўцаў загінулі на фронце. 29.6.1957 г. пералічана з Веліказімніцкага с/с Быхаўскага р-на ў Журавіцкі с/с Рагачоўскага р-на. Паводле перапісу 1959 г. 199 жыхароў. У складзе калгаса «12 гадоў Кастрычніка» (цэнтр — в. Журавічы). Планіровачна складаецца з прамалінейнай шыротнай вуліцы, забудаванай двухбакова драўлянымі сял. сядзібамі.

**РАКУЦІНА** — вёска ў Доўскім с/с, за 19 км на ПнУ ад раённага цэнтра і чыг. ст. Рагачоў (на лініі Магілёў—Жлобін), 97 км ад Гомеля, на р. Ракатун (прыток р. Дняпро), на Пд і У мяжуе з лесам, побач аўтадарога Рагачоў—Доўск. 7 гаспадарак, 12 жыхароў (2004 г.).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 19 ст. як сяленне ў Доўскай вол. Рагачоўскага пав. Магілёўскай губ. Паводле перапісу 1897 г. 11 двароў, 52 жыхары. У 1909 г. 99 жыхароў, 309 дзес. зямлі. У 1925 г. 15 двароў. У 1931 г. арганізаваны калгас. У Вял. Айч. вайну 7 вяскоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 86 жыхароў. У складзе калгаса «Зара» (цэнтр — в. Серабранка). За 1 км на Пд размешчана Свержанскае лясніцтва. Планіровачна складаецца з кароткай прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ і забудаванай двухбакова, няшчыльна драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**РАМАНАЎКА** (да 1937 Хапаны) — вёска ў Запольскім с/с, за 6 км на З ад раённага цэнтра і чыг. ст. Рагачоў (на лініі Магілёў—Жлобін), 127 км ад Гомеля, на З меліярацыйны канал. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Бабруйск—Гомель. 20 гаспадарак, 34 жыхары (2004 г.).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 19 ст. як сяленне ў Ціхініцкай вол. Рагачоўскага пав. Магілёўскай губ. З 1880 г. дзейнічаў хлебазапасны магазін. Паводле перапісу 1897 г. 52 двары, 351 жыхар, школа граматы, млын. У 1902 г. адкрыта царк.-прыходская школа, якая размяшчалася ў наёмнай сял. хаце. У 1909 г. 57 двароў, 413 жыхароў, 590 дзес. зямлі. У 1925 г. 62 двары. У 1930 г. арганізаваны калгас. У 1940 г. 89 двароў. У Вял. Айч. вайну ў чэрв. 1944 г. ням. акупанты спалілі вёску і загубілі 17 жыхароў. Пры вызваленні вёскі 26.6.1944 г. вызначыўся батальён пад камандаваннем маёра Ф.І.Ульяніна (пасмяротна ўдастоены звання Героя Сав. Саюза). 24 вяскоўцы загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 298 жыхароў. У складзе калгаса імя С.М.Кірава (цэнтр — в. Заполле). Планіровачна складаецца з 2 прамалінейных, злучаных паміж сабой дарогай вуліц мерыдыянальнай арыентацыі, забудаваных двухбакова, няшчыльна драўлянымі сял. сядзібамі.

**РОШЧЫНА** (да 30.7.1964 Кусочак) — вёска ў Доўскім с/с, за 23 км на У ад раённага цэнтра і чыг. ст. Рагачоў (на лініі Магілёў—Жлобін), 118 км ад Гомеля, на р. Ракатун (прыток р. Дняпро). Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Рагачоў—Доўск. 8 гаспадарак, 12 жыхароў (2004 г.).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 19 ст. як сяленне ў Доўскай вол. Рагачоўскага пав. Магілёўскай губ. Паводле перапісу 1897 г. 7 двароў, 62 жыхары. У 1909 г. 8 двароў, 177 дзес. зямлі. У 1931 г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну 6 вяскоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 60 жыхароў. У складзе калгаса «Зара» (цэнтр — в. Серабранка). Планіровачна складаецца з кароткай вуліцы, хаатычна забудаванай драўлянымі сял. сядзібамі.

**РУБАНАЕ** (да 1935 Кустар) — пасёлак у Балатнянскім с/с, за 42 км на ПнУ ад раённага цэнтра і чыг. ст. Рагачоў (на лініі Магілёў—Жлобін), 104 км ад Гомеля, на У і Пн меліярацыйныя каналы. Транспартныя сувязі па прасёлачнай,

потым аўтадарозе Доўск—Слаўгарад. 4 гаспадаркі, 5 жыхароў (2004 г.).

Засн. ў пач. 1920-х г. на былых памешчыцкіх землях перасяленцамі з суседніх вёсак. У 1932 г. пасялкоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну 17 пасялкоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 124 жыхары. У складзе калгаса імя У.І.Леніна (цэнтр — в. Балотня). Забудова драўляная, няшчыльная, сядзібнага тыпу.



Р.І.Шалушкоў.

**РУДНЯ БРОНСКАЯ** — вёска ў Запольскім с/с, 8 км на З ад раённага цэнтра і чыг. ст. Рагачоў (на лініі Магілёў—Жлобін), 129 км ад Гомеля, на р. Дабрыца (прыток р. Друць). Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Бабруйск—Гомель. 3 гаспадаркі, 3 жыхары (2004 г.).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 19 ст. як сяленне ў Рагачоўскім пав. Магілёўскай губ. З 1967 г. працавала сукнавальня. Паводле перапісу 1897 г. 11 двароў, 74 жыхары. У 1931 г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У 1940 г. 17 двароў, 84 жыхары. У Вял. Айч. вайну ў чэрв. 1944 г. ням. акупанты спалілі вёску і загубілі жыхара. Паводле перапісу 1959 г. 71 жыхар. У складзе калгаса «Кастрычнік» (цэнтр — в. Стрэнькі). Планіровачна складаецца з кароткай прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ і забудаванай рэдка драўлянымі сял. сядзібамі. Радзіма Героя Сав. Саюза Р.І.Шалушкова.

**РЫСКОВА** — вёска ў Курганскім с/с, за 49 км на У ад раённага цэнтра і чыг. ст. Рагачоў (на лініі Магілёў—Жлобін), 82 км ад Гомеля, на Пд мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па прасёлачнай дарозе, потым па шашы Доўск—Гомель. 46 гаспадарак, 102 жыхары (2004 г.).

Па пісьмовых крыніцах вядома з пач. 17 ст. як сяленне ў Рэчыцкім пав. Мінскага ваяв. Пазначана ў інвентары Чачэрскага староства 1704 г. як вёска з 12 дымамі. У 1720 г. ўпамінаецца ў інвентары Меркулавіцкага староства. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) у складзе Рас. імперыі. У Айч. вайну 1812 г. каля вёскі адбываліся сутычкі франц. войск з атрадамі рас. ген. Ф.Ф.Эртэля. Праз вёску праходзіла паштовая дарога Неглюбка—Рагачоў. Па рэвізіі 1858 г. 42 двары, 198 жыхароў, у Гарадзецкай вол. Рагачоўскага пав. Магілёўскай губ. У 1884 г. 240 жыхароў, Свята-Мікалаеўская царква, 2 ветракі. Паводле перапісу 1897 г. 58 двароў, 436 жыхароў, школа граматы, млын, хлебазапасны магазін, 3 ветракі, кузня, побач фальварак. У 1909 г. 70 двароў, 545 жыхароў, у фальварку — 3010 дзес. зямлі. У 1930 г. арганізаваны калгас «Перадавік», працавалі вятрак і кузня. З 1939 г. да 16.7.1954 г. цэнтр Курганскага с/с Журавіцкага, з 17.12. 1956 г. Рагачоўскага р-наў Гомельскай вобл. У 1940 г. 96 двароў. У Вял. Айч. вайну ў ліст. 1943 г. ням. акупанты спалілі вёску і загубілі 23 жыхароў. 57 вяскоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 378 жыхароў. У складзе саўгаса «1 Мая» (цэнтр — в. Курганне). Размешчаны б-ка, фельч.-акушэрскі пункт, аддз. сувязі. Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ, да якой з Пн далучаюцца 2 прамалінейныя кароткія вуліцы. Забудова двухбаковая, драўляная, сядзібнага тыпу. Радзіма ген.-лейт. Б.К.Ермашкевіча.

**РЭКТА** — вёска ў Азяранскім с/с, за 27 км на Пн ад раённага цэнтра і чыг. ст. Рагачоў (на лініі Магілёў—Жлобін), 158 км ад Гомеля, на р. Друць (прыток р. Дняпро). Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Бабруйск—Рагачоў. 71 гаспадарка, 139 жыхароў (2004 г.).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 19 ст. як сяленне ў Ціхініцкай вол. Рагачоўскага пав. Магілёўскай губ. У 1849 г. 14 двароў і 5 незаселеных участкаў. Паводле перапісу 1897 г. 42 двары, 262 жыхары. У 1909 г. 44 двары, 477 дзес. зямлі. У пач. 1920-х г. адкрыта школа, якая размяшчалася ў наёмнай сял. хаце. У 1925 г. 79 двароў. У 1931 г. арганізаваны калгас. У 1940 г. 90 двароў, 418 жыхароў. У

Вял. Айч. вайну ням. акупанты стварылі ў вёсцы свой апорны пункт, які партызаны ў жн. 1943 г. разграмілі. У чэрв. 1941 г. карнікі спалілі 80 двароў, загубілі 6 жыхароў. 66 вяскоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 484 жыхары. У складзе калгаса імя Н.К. Крупскай (цэнтр — в. Азяраны). Планіровачна складаецца з прамалінейнай мерыдыянальнай вуліцы, забудаванай двухбакова, няшчыльна драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. Радзіма поўнага кавалера ордэна Славы Р.Ц.Кротава. Каля вёскі ёсць залежы суглінкаў.

**РЭПКІ** — вёска ў Побалаўскім с/с, за 26 км на ПдЗ ад раённага цэнтра і чыг. ст. Рагачоў (на лініі Магілёў—Жлобін), 148 км ад Гомеля, на р. Добасна (прыток р. Друць). Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Бабруйск—Гомель. 55 гаспадарак, 105 жыхароў (2004 г.).

Выяўлены археолагамі курганны могільнік (62 насыпы, за 0,4 км на У ад вёскі) сведчыць аб засяленні гэтых мясцін з далёкай старажытнасці. Па пісьмовых крыніцах вядома з 18 ст. Пад 1769 г. у актах Трыбунала ВКЛ упамінаецца як маёнтак у Рэчыцкім пав. Мінскага ваяв. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1850 г. 23 двары, 178 жыхароў. У 1882 г. адкрыта царк.-прыходская школа, якая размяшчалася ў наёмнай сял. хаце, а ў 1900 г. для яе пабудавана памяшканне. З 1880 г. дзейнічала правасл. царква. У 1884 г. 36 двароў, 265 жыхароў, у Лукаўскай вол. Рагачоўскага пав. Магілёўскай губ. Паводле перапісу 1897 г. 61 двор, 394 жыхары, школа граматы, вятрак. У 1909 г. 69 двароў, 428 жыхароў, 539 дзес. зямлі. У 1925 г. 95 двароў. У выніку пажару 13.9.1925 г. згарэла 30 пабудоў. У 1931 г. арганізаваны калгас. У Вял. Айч. вайну карнікі спалілі 16 двароў. У баях за вёску і наваколле загінулі 28 воінаў і партызан (пахаваны ў брацкай магіле на могілках). 36 вяскоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 396 жыхароў. У складзе калгаса «Чырвоная Армія» (цэнтр — в. Востраў). Размешчана б-ка. Планіровачна складаецца з прамалінейнай мерыдыянальнай вуліцы, да якой на Пн далучаецца кароткая прамалінейная вуліца. Забудова двухбаковая, драўляная, сядзібнага тыпу.

**САДОВАЯ** (да 30.7.1964 Маёнтак) — вёска ў Забалацкім с/с, за 17 км на ПдЗ ад раённага цэнтра і чыг. ст. Рагачоў (на лініі Магілёў—Жлобін), 138 км ад Гомеля.

У пач. 20 ст. маёнтак у Рагачоўскім пав. Магілёўскай губ. З 20.8.1924 г. пасёлак у Забалацкім с/с Рагачоўскага р-на Бабруйскай (да 26.7.1930) акругі, з 20.2.1938 г. Гомельскай вобл. У 1926 г. 4 двары, 20 жыхароў. Паводле перапісу 1959 г. — 22, у 1970 г. — 18 жыхароў. У складзе калгаса імя М.І.Калініна (цэнтр — в. Забалацце).

**СВЕРЖАНЬ** — вёска ў Доўскім с/с, за 20 км на ПнУ ад раённага цэнтра і чыг. ст. Рагачоў (на лініі Магілёў—Жлобін), 104 км ад Гомеля, на р. Ракатун (прыток р. Дняпро), на У, Пн і З мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Рагачоў—Доўск. 29 гаспадарак, 56 жыхароў (2004 г.).

У наваколлі ў 19 ст. знаходзіліся курганы, якія былі разрыты сялянамі, а знойдзеныя імі рэчы (тапары, стрэлы і г.д.) каменнага часу захоўваліся ў фальварку Сіпораўка, які належаў Эрдману (згарэлі ў час пажару). Па пісьмовых крыніцах вядома з 15 ст. Пад 1473 г. пазначана як вёска ў ВКЛ. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) у складзе Рас. імперыі дзейнічаў касцёл. У 1795 г. мелася 3-класная базыльянская школа. У статыстычным апісанні Магілёўскай губ. 1784 г. названа мястэчкам, пазней да яго была далучана суседняя в. Зладзееўка. Уладальнік Свержаня памешчык Сулістроўскі пабудаваў у 1835 г. драўляную Раства-Багародзіцкую царкву (у 1864 знесена і на яе месцы пабудавана мураваная царква), паблізу знаходзіўся мураваны палац (згарэў у 1829). У 1848 г. 69 двароў. Па рэвізскіх матэрыялах

1859 г. ўладанне Д.П.Турчанінава. Памешчык меў тут і ў суседніх вёсках Сіпораўка, Серабранка і Янаўка 3854 дзес. зямлі, 2 карчмы і млын. З 1864 г. працавала школа (26 вучняў). Дзейнічалі хлебазапасны магазін, крупарушка (з 1872). У 1880 г. 87 двароў, 610 жыхароў, 7 крам, царква, вадзяны млын, малітоўная школа. Паводле перапісу 1897 г. мястэчка, 177 двароў, 847 жыхароў, малітоўная школа, хлебазапасны магазін, капліца, нар. вучылішча, 17 крам, вадзяны млын, карчма, 1 раз у год праводзіўся кірмаш. З 1911 г. пры школе працавала б-ка, на мясц. глінах дзейнічала цагельня. Паштовае аддз.ператворана ў 1911 г. ў паштова-тэлеграфнае. З 20.8.1924 г. да 16.7.1954 г. цэнтр Свержанскага с/с. У 1925 г. 205 двароў. У Вял. Айч. вайну з вер. 1941 г. да кастр. 1942 г. (да адыходу ў партызаны) дзейнічала падп. патрыят. арганізацыя (кіраўнік Т.Ф.Карніленка). 27.12.1941 г. ням. акупанты расстралялі 260 жыхароў (пахаваны ў магіле ахвяр фашызму, за 0,6 км на Пд ад вёскі). 14.2.1943 г. карнікі напалі на партызан, якія знаходзіліся ў вёсцы, завязаўся жорсткі бой, які не быў для партызан нечаканасцю. Гітлераўцы страцілі 48 салдат забітымі, былі захоплены гармата, 7 кулямётаў, 37 вінтовак і іншыя трафеі. У ліст. 1943 г. карнікі спалілі 68 двароў і загубілі 207 жыхароў. У баях каля вёскі загінулі 113 воінаў і партызан (пахаваны ў брацкай магіле ў цэнтры вёскі). 48 вяскоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 368 жыхароў. У складзе калгаса «Зара» (цэнтр — в. Серабранка). Размешчаны пач. школа, клуб, б-ка, магазін. Планіровачна складаецца з 2 паралельных паміж сабой шыротных вуліц, злучаных 2 завулкамі. Забудова двухбаковая, няшчыльная, драўляная, сядзібнага тыпу. Радзіма актыўных удзельнікаў партыз. руху на Гомельшчыне ў Вял. Айч. вайну М.А.Шаройкі (яго імем названа вуліца ў г. Масты) і М.П. Жураўлёва (быў камандзірам атрада 10-й Журавіцкай брыгады).

**СВЕРКАЎ** — пасёлак і чыг. станцыя на лініі Рагачоў—Жлобін, у Лучынскім с/с, за 3 км на Пд ад Рагачова, 118 км ад Гомеля, побач аўтадарога Рагачоў—Жлобін. 2 гаспадаркі, 3 жыхары (2004 г.).

Засн. ў пач. 20 ст. пасля адкрыцця 24.12.1902 г. чыгункі Віцебск—Жлобін, калі тут пачаў працаваць чыг. раз'езд. У 1932 г. пасялкоўцы ўступілі ў калгас. У 1940 г. 9 двароў, 33 жыхары. У Вял. Айч. вайну ў чэрв. 1944 г. ням. акупанты спалілі пасёлак. Паводле перапісу 1959 г. 76 жыхароў. У складзе калгаса «Запаветы Ільіча» (цэнтр — в. Лучын). Складаецца з хаатычна пастаўленых каля чыгункі будынкаў.

**СЕНАЖАТКІ** — вёска ў Побалаўскім с/с, за 29 км на ПдЗ ад раённага цэнтра і чыг. ст. Рагачоў (на лініі Магілёў—Жлобін), 140 км ад Гомеля, на Пд і У меліярацыйныя каналы, злучаныя з р. Добасна (прыток р. Друць). Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Бабруйск—Гомель. 29 гаспадарак, 57 жыхароў (2004 г.).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 16 ст. як сяленне ў Мінскім ваяв. ВКЛ. У 1765 г. 6 дымоў. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1795 г. 17 двароў, у Мазырскім пав. Мінскай губ. Па рэвізіі 1816 г. ўладанне памешчыка Караткевіча. У 1848 г. 87 двароў. Частку жыхароў складалі старавеpы. Паводле перапісу 1897 г. ў вёсцы і аколіцы 110 двароў, 597 жыхароў, вятрак і 2 піцейныя дамы. У 1909 г. вёска, аколіца і слабада, у Лукаўскай вол. Рагачоўскага пав. Магілёўскай губ. З 20.8.1924 г. да 14.8.1937 г. цэнтр Сенажаткаўскага с/с Жлобінскага р-на Бабруйскай (да 26.7.1930) акругі. У 1929 г. арганізаваны калгас. У Вял. Айч. вайну 31 вясковец загінуў на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 289 жыхароў. У складзе калгаса «Чырвоная Армія» (цэнтр — в. Востраў). Планіровачна складаецца з крыху выгнутай шыротнай вуліцы, забудаванай двухбакова драўлянымі сял. сядзібамі. Радзіма актывіста калгаснага бу-

даўніцтва ў Кіраўскім р-не Я.А.Жызнеўскага. Яго імя нададзена вуліцам у г.п. Кіраўск і в. Борчыцы Кіраўскага р-на.

**СЕРАБРАНКА** – вёска ў Доўскім с/с, за 25 км на У ад раённага цэнтра і чыг. ст. Рагачоў (на лініі Магілёў–Жлобін), за 96 км ад Гомеля, на р. Ракатун (прыток р. Дняпро) і аўтадарозе Рагачоў–Доўск. 205 гаспадарак, 571 жыхар (2004 г.).

Выяўлены археолагамі курганны могільнік 11–12 ст. (14 насыпаў, за 1 км на ПдЗ ад вёскі) сведчыць аб засяленні гэтых мясцін з далёкай старажытнасці. Па пісьмовых крыніцах вядома з 19 ст. як вёска ў Доўскай вол. Рагачоўскага пав. Магілёўскай губ. У 1850 г. вёска і фальварак, працавала сукнавальня. Па рэвізіі 1858 г. 13 двароў, 146 жыхароў, уладанне памешчыка Д.П.Турчанінава. У 1872 г. гаспадар фальварка меў у вёсках Серабранка, Сіпораўка, Свержань і Янаўка 3854 дзес. зямлі, вадзяны млын, сукнавальню, 2 карчмы і 3 млыны. З 1884 г. працаваў хлебазапасны магазін. Паводле перапісу 1897 г. ў вёсцы 19 двароў, 161 жыхар, у пас. Новая Серабранка 18 двароў, 118 жыхароў. У 1909 г. ў вёсцы 21 двор, 187 жыхароў, 242 дзес. зямлі, у пасёлку 40 двароў, 380 жыхароў, 522 дзес. зямлі. Побач знаходзіўся заезны двор Серабранка. У 1930 г. арганізаваны калгас «Чырвоны партызан», працаваў вятрак. У Вял. Айч. вайну з 1.9.1941 г. да 23.12.1943 г. дзейнічала патрыят. падполле (кіраўнікі М.А.Дзмітрыеў, Н.І.Левянкова, М.Ц.Патапенка). 59 вяскоўцаў загінулі на фронце. З 16.7. 1954 г. да 14.4.1960 г. цэнтр Серабранскага с/с Журавіцкага, з 17.12.1956 г. Рагачоўскага р-наў Гомельскай вобл. Паводле перапісу 1959 г. 608 жыхароў. У 1969 г. вёскі Старая Серабранка і Новая Серабранка аб'ядналіся ў адну — Серабранка. Цэнтр калгаса «Зара». Размешчаны лясніцтва, швейная майстэрня, сярэдняя школа, Дом культуры, б-ка, дзіцячая школа-сад, фельч.-акушэрскі пункт, вет. ўчастак, аддз. сувязі, магазін. Планіровачна складаецца з амаль прамалінейнай мерыдыянальнай вуліцы, да якой на Пд далучаецца кароткая прамалінейная вуліца. На Пн да галоўнай далучаецца прамалінейная, перакрыжаваная кароткай вуліца. У 1986–87 гг. пабудаваны мураваныя дамы на 50 сямей, у якіх размясціліся перасяленцы з забруджаных радыяцыяй месц. Радзіма ген.-м. інжынерных войск М.Ф.Кірчэўскага.

**СЛАБАДА** — вёска ў Старасельскім с/с, за 20 км на ПнЗ ад раённага цэнтра і чыг. ст. Рагачоў (на лініі Магілёў–Жлобін), 160 км ад Гомеля, вакол лес. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Старое Сяло–Рагачоў. 5 гаспадарак, 7 жыхароў (2004 г.).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 16 ст. У 1567 г. пазначана ў попісе войска ВКЛ. У 1771 г. ўпамінаецца ў матэрыялах аб спрэчках паміж кн. Варанецкім, уладальнікам аколіцы Слабада, і базыльянамі з Рагачова. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) у складзе Рас. імперыі. У 1816 г. вёска называлася Слабада Рагачоўская, 18 двароў, 93 жыхары, у Рагачоўскім пав. Магілёўскай губ. З сярэдзіны 19 ст. мелася капліца. У 1886 г. вядома пад назвай Царская Слабада, 24 двары, 97 жыхароў. У 1931 г. арганізаваны калгас. У 1940 г. 60 двароў, 298 жыхароў. У Вял. Айч. вайну вясковая маладзёжная патрыят. група (кіраўнік А.А.Канавалава) передала партызанам 2 ручныя кулямёты, 2 вінтоўкі, 12 гранат. 12 вяскоўцаў далучыліся да партыз. атрада. У лют. 1944 г. ням. акупанты спа-



*Краявіды Рагачоўшчыны.*

лілі вёску. У баях за вёску і наваколле загінулі 68 воінаў (пахаваны ў брацкай магіле, за 4 км на Пн ад вёскі). 15 вяскоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 156 жыхароў. У складзе падсобнай гаспадаркі раённага аб'яднання «Сельгасхімія» (цэнтр — в. Станькаў). Планіровачна складаецца з крыху выгнутай, амаль мерыдыянальнай вуліцы, да якой на Пн далучаецца ўчастак шыротнай забудовы. Жылыя дамы драўляныя, сядзібнага тыпу, пастаўлены рэдка.

**СЛАБАДА** — вёска ў Доўскім с/с, за 28 км на ПнУ ад раённага цэнтра і чыг. ст. Рагачоў (на лініі Магілёў—Жлобін), 92 км ад Гомеля, на З мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Рагачоў—Доўск. 72 гаспадаркі, 159 жыхароў (2004 г.).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 19 ст. як в. Сіпораўская Слабада ў Рагачоўскім пав. Магілёўскай губ. З 1880 г. дзейнічаў хлебазапасны магазін. У 1925 г. 54 двары. У 1931 г. арганізаваны калгас. Паводле перапісу 1959 г. 406 жыхароў. У складзе эксперыментальнай базы «Доўск» (цэнтр — в. Доўск). Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, блізкай да шыротнай арыентацыі, якая перакрыжоўваецца 2 кароткімі вуліцамі. Забудова двухбаковая, драўляная, сядзібнага тыпу. Радзіма паэта М.М.Сурначова.

**СМОЛЬНАЕ** — вёска ў Дварэцкім с/с, за 20 км на З ад раённага цэнтра і чыг. ст. Рагачоў (на лініі Магілёў—Жлобін), 141 км ад Гомеля, на аўтадарозе Бабруйск—Гомель. 14 гаспадарак, 20 жыхароў (2004 г.).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 19 ст. як сяленне ў Ціхініцкай вол. Рагачоўскага пав. Магілёўскай губ. У 1909 г. фальварак, 47 дзес. зямлі, 10 жыхароў. У 1925 г. 8 двароў, у Дварэцкім с/с Рагачоўскага р-на Бабруйскай акругі. У 1931 г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. Паводле перапісу 1959 г. 68 жыхароў. У складзе саўгаса «Дварэц» (цэнтр — в. Дварэц). Планіровачна складаецца з прамалінейнай кароткай вуліцы, блізкай да шыротнай арыентацыі і забудаванай двухбакова, рэдка драўлянымі сял. сядзібамі.

**СТАНЬКАЎ** — вёска ў Старасельскім с/с, за 16 км на Пн ад Рагачова, 6 км ад чыг. ст. Старасельская (на лініі Магілёў—Жлобін), 137 км ад Гомеля, на р. Дабрыца (прыток р. Дняпро). Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Старое Сяло—Рагачоў. 72 гаспадаркі, 152 жыхары (2004 г.).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 17 ст. як сяленне ў Кісцянёўскай вол. Рагачоўскага пав. Магілёўскай губ. Пад 1696 г. пазначана як сяленне ў прыходзе Рагачоўскай замкавай царквы. У 1704—1832 гг. дзейнічаў кляштар кармелітаў. Па рэвізскіх матэрыялах 1859 г. ўладанне памешчыцы А.К.Пячкоўскай. З 1880 г. дзейнічаў хлебазапасны магазін. Паводле перапісу 1897 г. 63 двары, 452 жыхары, капліца, млын. У 1909 г. 72 двары, 587 жыхароў, 1587 дзес. зямлі. У 1912 г. ўзведзены школьны будынак. З 20.8. 1924 г. да 14.4.1960 г. цэнтр Станькаўскага с/с. У 1925 г. 157 двароў. У 1930 г. арганізаваны калгас. У Вял. Айч. вайну вясковая моладзь (кіраўнік патрыят. падп. групы У.Я.Крапіцкая) перадала партызанам 2 кулямёты, 9 вінтовак, 17 гранат, 900 патронаў, 60 дэтанатараў. Да партызанаў далучыліся 30 юнакоў і дзяўчат. Ням. акупанты загубілі 15 жыхароў. У баях за вёску і наваколле загінулі 405 воінаў (пахаваны ў брацкай магіле ў цэнтры вёскі). 34 вяскоўцы загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 350 жыхароў. Цэнтр саўгаса-камбіната «Зарэчча» і падсобнай гаспадаркі раённага аб'яднання «Сельгасхімія». Размешчаны 9-гадовая школа, клуб, б-ка, амбулаторыя, вет. ўчастак, аддз. сувязі, сталовая, магазін. Планіровачна складаецца з амаль прамалінейнай мерыдыянальнай вуліцы, да якой далучаюцца з З адзін, з У — 2 завулкі. Забудова драўляная, двухбаковая, сядзібнага тыпу.

**СТАРАСЕЛЛЕ** — вёска ў Балатнянскім с/с, за 42 км на ПнУ ад раённага цэнтра і чыг. ст. Рагачоў (на лініі Магілёў—Жлобін), 105 км ад Гомеля, на р. Гутлянка (прыток р. Дняпро). Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Доўск—Слаўгарад. 80 гаспадарак, 157 жыхароў (2004 г.).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 17 ст. як вёска ў Рэчыцкім пав. Мінскага ваяв. ВКЛ. З 1700 г. працавала сукнавальня. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) у складзе Рас. імперыі. Памешчык меў тут у 1867 г. 391 дзес. зямлі, вадзяны млын і сукнавальню. З 1880 г. дзейнічаў хлебазапасны магазін. У 2-й пал. 19 ст. адкрыта нар. вучылішча (у 1889 — 20 вучняў). Паводле перапісу 1897 г. 74 двары, 476 жыхароў, царква, 3 ветракі, у Доўскай вол. Рагачоўскага пав. Магілёўскай губ. Дзейнічала царк.-прыходская школа, якая размяшчалася ў наёмнай сял. хаце, побач аднайменны фальварак. Аддз. паштовай сувязі ў 1911 г. ператворана ў паштова-тэлеграфнае. У выніку пажару 10.4.1925 г. згарэлі 52 пабудовы. У 1930 г. арганізаваны калгас. У 1940 г. 118 двароў, 710 жыхароў. У Вял. Айч. вайну ў ліст. 1943 г. ням. акупанты спалілі 41 двор і загубілі 4 жыхароў. 46 вяскоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 558 жыхароў. У 1979 г. ў вёску перасяліліся жыхары пас. Карчаваха. У складзе калгаса імя У.І.Леніна (цэнтр — в. Балотня). Размешчаны б-ка, фельч.-акушэрскі пункт. Планіровачна складаецца з прамалінейнай шыротнай вуліцы, да цэнтра якой з Пн далучаецца кароткая прамалінейная вуліца. Забудова драўляная, двухбаковая, сядзібнага тыпу.

**СТАРАЯ АЛЕШНЯ** — вёска ў Балатнянскім с/с, за 49 км на ПнУ ад раённага цэнтра і чыг. ст. Рагачоў (на лініі Магілёў—Жлобін), 110 км ад Гомеля, на р. Гутлянка (прыток р. Дняпро). Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Доўск—Слаўгарад. 104 гаспадаркі, 257 жыхароў (2004 г.).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 19 ст. як сяленне ў Доўскай вол. Рагачоўскага пав. Магілёўскай губ. Па рэвізіі 1858 г. 111 двароў, 737 жыхароў, уладанне баранесы Фітгенгоф. З 1880 г. дзейнічаў хлебазапасны магазін. Паводле перапісу 1897 г. 171 двор, 1115 жыхароў, 3 ветракі, карчма. У 1900 г. адкрыта царк.-прыходская школа, якая размяшчалася ў наёмнай сял. хаце. У 1909 г. 213 двароў, 1504 жыхары, 1664 дзес. зямлі. У 1930 г. арганізаваны калгас «Новае жыццё», працавалі 2 ветракі. 70 вяскоўцаў у Вял. Айч. вайну загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 707 жыхароў. У складзе калгаса імя У.І.Леніна (цэнтр — в. Балотня). Размешчаны 9-гадовая школа, б-ка, фельч.-акушэрскі пункт, Дом культуры, аддз. сувязі. Планіровачна складаецца з прамалінейнай шыротнай вуліцы, да яе на З далучаецца кароткая прамалінейная вуліца. Забудова двухбаковая, драўляная, сядзібнага тыпу. Радзіма бел. пісьменніка М.П.Гроднева і Героя Сав. Саюза Р.А.Гусарава.

**СТАРАЯ КАШАРА** — вёска ў Дварэцкім с/с, за 17 км на З ад раённага цэнтра і чыг. ст. Рагачоў (на лініі Магілёў—Жлобін), 140 км ад Гомеля. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Бабруйск—Гомель. 16 гаспадарак, 47 жыхароў (2004 г.).

Засн. ў пач. 1920-х г., калі з в. Кашары выдзеліўся ў асобны населены пункт, які атрымаў назву Старыя Кашары. У 1925 г. 14 двароў. У 1932 г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну 14 вяскоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 126 жыхароў. У складзе калгаса «Ленінскае жыццё» (цэнтр — в. Кашара). Планіровачна складаецца з прамалінейнай мерыдыянальнай вуліцы, забудаванай двухбакова драўлянымі сял. сядзібамі.

**СТАРОЕ СЯЛО** — вёска, цэнтр Старасельскага с/с, за 10 км на Пн ад Рагачова, 4 км ад чыг. ст. Старасельская (на лініі Магілёў—Рагачоў), 131 км ад Гомеля, на р. Дабрыца (прыток р. Дняпро),

на Пд і З мяжуе з лесам. Аўтадарога звязвае вёску з Рагачовам. 193 гаспадаркі, 539 жыхароў (2004 г.).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 16 ст. як вёска ў Рэчыцкім пав. Мінскага ваяв. ВКЛ, велікакняжацкая ўласнасць. У 1567 г. павінна была выдзяляць сваіх апалчэнцаў для войска ВКЛ. У 1696 г. ўпамінаецца як сяленне ў прыходзе Рагачоўскай замкавай царквы. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) у складзе Рас. імперыі. У 1832 г. ўзведзены будынак школы (у 1864 — 16, у 1889 — 20 вучняў). У 1881 г. 60 двароў, 355 жыхароў, у Кісцянёўскай вол. Рагачоўскага пав. Магілёўскай губ. Паводле перапісу 1897 г. 84 двары, царква, капліца, хлебазапасны магазін. У аднайменным фальварку 4 двары. З 1903 г. працавала вінакурня. У 1909 г. 102 двары, 695 жыхароў, б-ка пры школе, 1242 дзес. зямлі, у фальварку 664 дзес. зямлі. З 20.8.1924 г. цэнтр Старасельскага с/с Рагачоўскага р-на Бабруйскай (да 26.7.1930) акругі, з 20.2.1938 г. Гомельскай вобл. У 1925 г. 105 двароў. У 1930 г. арганізаваны калгас. У Вял. Айч. вайну ням. акупанты стварылі ў вёсцы свой апорны пункт, які партызаны разграмілі і захапілі багатыя трафеі. У раёне вёскі, дзе працяглы час вяліся цяжкія баі, загінулі 6307 воінаў (пахаваны ў 3 брацкіх магілах у цэнтры вёскі і 2 магілах на могілках). Вызвалена 24.2.1944 г. 20 вяскоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 462 жыхары. У 1977 г. ў вёску перасяліліся жыхары пас. Парня, у 1979 г. — в. Сіняе Мора. Цэнтр птушкафабрыкі «Рагачоўская». Размешчаны Старасельскае лясніцтва, млын, швейная майстэрня, сярэдняя школа, Дом культуры, б-ка, дзіцячыя яслі-сад, фельч.-акушэрскі пункт, вет. ўчастак, аддз. сувязі, 2 магазіны. Планіровачна складаецца з працяглай прамалінейнай вуліцы, блізкай да мерыдыянальнай арыентацыі. На У ад ракі — кароткая прамалінейная вуліца. Забудова двухбаковая, драўляная, сядзібнага тыпу. Радзіма бел. паэта Р.Ц.Лынькова.

У склад Старасельскага с/с уваходзілі да Вял. Айч. вайны в. Румок, якую ням. карнікі спалілі (не адрадзілася), да 1977 г. — пас. Парня, да 1979 г. — в. Сіняе Мора, да 1987 г. — вёскі Блізняцы, Руднецкі Лес і Міждзераў (не існуюць).

**СТАРЫ ДОЎСК** — вёска ў Доўскім с/с, за 33 км на ПнУ ад раённага цэнтра і чыг. ст. Рагачоў (на лініі Магілёў—Жлобін), 93 км ад Гомеля, на р. Доўгая (прыток р. Гутлянка) і шашы Магілёў—Гомель. 86 гаспадарак, 174 жыхары (2004 г.).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 19 ст. як сяленне ў Рагачоўскім пав. Магілёўскай губ. У 1898 г. адкрыта школа, якая размяшчалася ў наёмнай сял. хаце, а ў 1921 г. вяскоўцы на свае сродкі ўзвялі для яе будынак. У 1931 г. арганізаваны калгас. У 1940 г. 86 двароў, 473 жыхары. У Вял. Айч. вайну ням. акупанты стварылі ў вёсцы лагер ваеннапалонных. Партызаны 21.2.1943 г. ліквідавалі ням. ахову і вызвалілі ваеннапалонных. У ліст. 1943 г. акупанты спалілі 12 двароў і загубілі 16 жыхароў. 33 вяскоўцы загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. ў в. Стары Доўск 357, у в. Новы Доўск 821 жыхар. У складзе эксперыментальнай базы «Доўск» (цэнтр — в. Доўск). Планіровачна складаецца з працяглай прамалінейнай вуліцы, блізкай да мерыдыянальнай арыентацыі (па абодва бакі шашы), да якой з З далучаюцца 2 кароткія вуліцы. Забудова двухбаковая, пераважна драўляная, сядзібнага тыпу.

**СТАРЫ КРЫЎСК** — вёска ў Курганскім с/с, за 38 км на У ад раённага цэнтра і чыг. ст. Рагачоў (на лініі Магілёў—Жлобін), 87 км ад Гомеля, на шашы Доўск—Гомель. 80 гаспадарак, 148 жыхароў (2004 г.).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 19 ст. як в. Крыўск у Доўскай вол. Рагачоўскага пав. Магілёўскай губ. У 1884 г. 90 двароў, 612 жыхароў, валавы млын. Дзейнічала земская школа, якая размяшчалася ў наёмнай сял. хаце. У 1920-х г., пасля заснавання в. Новы Крыўск, атрымала назву Стары Крыўск. У 1930 г. арганізаваны калгас «Чырвоная Беларусь», працавалі 2 ветракі, кузня, ваўначоска. 2 вяскоўцы загінулі ў сав.-фін-

ляндскую, 61 — у Вял. Айч. вайну. Паводле перапісу 1959 г. 624 жыхары. У складзе саўгаса «1 Мая» (цэнтр — в. Курганне). Размешчана б-ка. Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ (па абодва бакі шашы), да якой далучаюцца з У адна кароткая прамалінейная, з З — 2 такія вуліцы. Забудова драўляная, сядзібнага тыпу. Радзіма засл. настаўніка Рэспублікі Беларусь Дз.П.Усава.

**СТАРЫ МАЗАЛАЎ** — вёска ў Забалацкім с/с, за 16 км на ПдЗ ад раённага цэнтра і чыг. ст. Рагачоў (на лініі Магілёў—Жлобін), 137 км ад Гомеля, на У і Пн меліярацыйныя каналы. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Бабруйск—Гомель. 16 гаспадарак, 22 жыхары (2004 г.).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 19 ст. як сяленне ў Лукаўскай вол. Рагачоўскага пав. Магілёўскай губ. Паводле рэвізіі 1858 г. 3 двары, уладанне памешчыка Ціхінскага. Паводле перапісу 1897 г. 17 двароў, 121 жыхар. Побач былі 4 фальваркі. У 1909 г. 230 дзес. зямлі. У 1929 г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У 1940 г. 34 двары, 171 жыхар. У Вял. Айч. вайну ням. карнікі спалілі ў 1944 г. 25 двароў, загубілі 3 жыхароў. 8 вяскоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 181 жыхар. У складзе калгаса імя М.І.Калініна (цэнтр — в. Забалацце). Планіровачна складаецца з кароткай прамалінейнай мерыдыянальнай вуліцы, забудаванай аднабакова, няшчыльна драўлянымі сял. сядзібамі. Радзіма ген.-лейт. А.К.Акуліча.

**СТОЎПНЯ** — вёска, цэнтр Стаўпнянскага с/с, за 37 км на ПдУ ад Рагачова, 16 км ад чыг. ст. Салтанаўка (на лініі Жлобін—Гомель), 82 км ад Гомеля. Аўтадарога звязвае вёску з в. Гадзілавічы. 152 гаспадаркі, 483 жыхары (2004 г.).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 18 ст. як сяленне ў Рэчыцкім пав. Мінскага ваяв. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) у складзе Рас. імперыі. Паводле рэвізіі 1816 г. 32 двары, уладанне памешчыка Макавецкага. Па інвентары 1848 г. ў складзе аднайменнага маёнтка



*Фалькорны калектыў Стаўпнянскага Дома культуры.*

Хадкевічаў, у Гарадзецкай вол. Рагачоўскага пав. Магілёўскай губ. У 1858 г. 43 двары, 311 жыхароў. Памешчык меў у 1876 г. ў вёсках Стоўпня і Багухваль 3802 дзес. зямлі і 2 млыны. У 1880 г. дзейнічалі школа, млын, хлебазапасны магазін. Паводле перапісу 1897 г. 82 двары, 540 жыхароў, кузня, карчма. З 1902 г. працавала вінакурня. У чэрв. 1905 г. вяскоўцы вымусілі памешчыка Панкіна аддаць ім у арэнду луг. У 1909 г. ў вёсцы — 84 двары, 659 жыхароў, 1183 дзес. зямлі і ў фальварку — 1147 дзес. зямлі. З 20.8.1924 г. цэнтр Стаўпнянскага с/с Гарадзецкага, з 4.8.1927 г. Рагачоўскага р-наў Бабруйскай акругі (да 26.7.1930), з 20.8.1938 г. Гомельскай вобл. У 1930 г. арганізаваны калгас «1 Мая», працавалі кузня, нафтавы млын. У Вял. Айч. вайну ў баях за вёску і наваколле ў 1943 г. загінулі 35 воінаў (пахаваны ў брацкай магіле ў цэнтры вёскі). Вызвалена 2.12.1943 г. 32 вяскоўцы загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 399 жыхароў. Цэнтр калгаса «Светлы шлях». Размешчаны мех. майстэрні, сярэдняя школа, Дом культуры, б-ка, фельч.-акушэрскі пункт, дзіцячы сад, вет. ўчастак, аддз. сувязі, сталовая, магазін. Планіровачна складаецца з крывалінейнай, амаль шыротнай вуліцы, перакрыжаванай мерыдыянальнай вуліцай. Да гал. вуліцы з Пн далучаецца завулак. Забудова двухбаковая, драўляная і мураваная, месцамі няшчыльная, сядзібнага тыпу. У 1986 г. пабудавана 50 мураваных дамоў катэджнага тыпу, у якіх размясціліся перасяленцы з забруджаных радыяцыяй месц.

**СТРЭНЬКІ** — вёска ў Запольскім с/с, за 8 км на З ад раённага цэнтра і чыг. ст. Рагачоў (на лініі Магілёў—Жлобін), 129 км ад Гомеля, на аўтадарозе Бабруйск—Гомель. 225 гаспадарак, 620 жыхароў (2004 г.).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 17 ст. як сяленне ў Рэчыцкім пав. Мінскага ваяв. У 1696 г. Стрэнькі ў складзе прыхода Рагачоўскай царквы Казьмы і Дзям'яна. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі, у Рагачоўскім пав. Магілёўскай губ. У 1880 г. 26 двароў, 248 жыхароў, хлебазапасны магазін. У 1895 г. адкрыта царк.-прыходская школа, якая размяшчалася ў наёмнай сял. хаце. Паводле перапісу 1897 г. 46 двароў, 371 жыхар, вятрак. У 1909 г. 66 двароў, 594 жыхары, 536 дзес. зямлі. У 1925 г. 78 двароў. У 1929 г. арганізаваны калгас. У 1940 г. 118 двароў. У Вял. Айч. вайну партызаны разграмілі створаны ням. акупантамі апорны пункт. У чэрв. 1944 г. карнікі спалілі 100 двароў і загубілі 10 жыхароў. 52 вяскоўцы загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 575 жыхароў. Цэнтр калгаса «Кастрычнік». Размешчаны пач. школа, Дом культуры, б-ка, фельч.-акушэрскі пункт, аддз. сувязі. Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, блізкай да шыротнай арыентацыі, да якой з Пд далучаюцца 3 кароткія прамалінейныя вуліцы. Забудова двухбаковая, драўляная і мураваная, сядзібнага тыпу. У 1986—87 гг. пабудаваны 74 мураваныя, катэджнага тыпу дамы, у якіх размясціліся перасяленцы з забруджаных радыяцыяй месц.

**СЫЧМАН** — вёска ў Доўскім с/с, за 36 км на ПнУ ад раённага цэнтра і чыг. ст. Рагачоў (на лініі Магілёў—Жлобін), 98 км ад Гомеля, на У мяжуе з лесам, побач аўтадарога Доўск—Слаўгарад. 70 гаспадарак, 158 жыхароў (2004 г.).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 19 ст. як сяленне ў Доўскай вол. Рагачоўскага пав. Магілёўскай губ. Памешчык меў тут у 1842 г. 237 дзес. зямлі, у другім фальварку ў 1840 г. было 232 дзес. зямлі. Па рэвізіі 1858 г. 8 двароў. З 1880 г. дзейнічаў хлебазапасны магазін. Паводле перапісу 1897 г. 37 двароў, 231 жыхар, крупарушка. У 1909 г. 43 двары, 331 жыхар, 567 дзес. зямлі. Дзейнічала школа, якой у пач. 1920-х г. быў выдзелены нацыяналізаваны будынак. У 1929 г. арганізаваны калгас. У 1940 г. 83 двары. У Вял. Айч. вайну ў ліст. 1943 г. ням. акупанты спалілі 7 двароў і загубілі 10 жыхароў. 30 вяскоўцаў загінулі на фронце. У складзе эксперыментальнай базы «Доўск» (цэнтр — в. Доўск). Планіровачна складаецца з крывалінейнай мерыдыянальнай вуліцы. На У і З невял. адасобленыя ўчасткі забудовы. Жылыя дамы драўляныя сядзібнага тыпу.

**СЯЛЕЦ** — вёска ў Старасельскім с/с, за 21 км на Пн ад раённага цэнтра і чыг. ст. Рагачоў (на лініі Магілёў—Жлобін), 142 км ад Гомеля, на У і З мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Старое Сяло—Рагачоў. 17 гаспадарак, 31 жыхар (2004 г.).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 19 ст. як сяленне ў Кісцянёўскай вол. Рагачоўскага пав. Магілёўскай губ. З 1880 г. дзейнічаў хлебазапасны магазін. У 1892 г. адкрыта школа, якая размяшчалася ў наёмнай сял. хаце, а ў 1924 г. для яе пабудавана ўласнае памяшканне. Паводле перапісу 1897 г. 24 двары, 171 жыхар. У 1907 г. паштовае аддз. пачало прымаць тэлеграмы. У 1909 г. 30 двароў, 235 жыхароў, 220 дзес. зямлі. У 1925 г. 53 двары. У 1930 г. арганізаваны калгас «3-ці рашаючы», працавала кузня. У 1940 г. 67 двароў, 296 жыхароў. У Вял. Айч. вайну 1.2.1943 г. ў памяшканні вясковай школы адбылася канферэнцыя Рагачоўскай падп. парт. арганізацыі. Ням. акупанты 2.11.1943 г. спалілі вёску і 212 жыхароў (пахаваны ў магіле ахвяр фашызму на паўд. ускраіне, у скверы). Вызвалена 24.2.1944 г. 19 вяскоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 165 жыхароў. У складзе падсобнай гаспадаркі раённага 00аб'яднання «Сельгасхімія» (цэнтр — в. Станькаў). Планіровачна складаецца з 2 прамалінейных, паралельных паміж сабой мерыдыянальных вуліц, злучаных па цэнтры дарогай. Забудова двухбаковая, няшчыльная, ся-

дзібнага тыпу. Радзіма дзярж. дзеяча Беларусі Е.Т.Гуцянковай (з 1938 да 1959 г. міністр сац. забеспячэння БССР).

**ТАЛОЧКАЎ** – вёска ў Ціхініцкім с/с, за 31 км на ПнУ ад раённага цэнтра і чыг. ст. Рагачоў (на лініі Магілёў–Жлобін), 152 км ад Гомеля, на Пд меліярацыйны канал. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Бабруйск–Гомель. 8 гаспадарак, 13 жыхароў (2004 г.).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 19 ст. як вёска ў Ціхініцкай вол. Рагачоўскага пав. Магілёўскай губ. З 1880 г. дзейнічаў хлебазапасны магазін. У 1881 г. 34 двары, 199 жыхароў. Паводле перапісу 1897 г. 42 двары, 237 жыхароў, школа граматы, хлебазапасны магазін. У 1909 г. 46 двароў, 328 жыхароў, 479 дзес. зямлі. У гэтым жа годзе была адкрыта школа, якая размяшчалася ў наёмнай сял. хаце, а ў 1910 г. спецыяльна для яе быў узведзены будынак. У 1931 г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У 1940 г. 61 двор, 260 жыхароў. У Вял. Айч. вайну ням. карнікі 13.10.1943 г. поўнасцю спалілі вёску і загубілі 208 жыхароў (пахаваны ў магіле ахвяр фашызму ў цэнтры вёскі). 4 вяскоўцы загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 169 жыхароў. У 1979 г. ў вёску перасялілася частка жыхароў пас. Новая Аляксандраўка (не існуе). У складзе саўгаса «Ціхінічы» (цэнтр – в. Ціхінічы). Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, блізкай да шыротнай арыентацыі, да якой з У далучаецца кароткая мерыдыянальная вуліца. Забудова драўляная, рэдкая, сядзібнага тыпу.

**ТУРСК** – вёска ў Гадзілавіцкім с/с, за 11 км на ПдУ ад раённага цэнтра і чыг. ст. Рагачоў (на лініі Магілёў–Жлобін), 114 км ад Гомеля, на зах. ускраіне – воз. Святое, на Пн і З мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Рагачоў–Доўск. 140 гаспадарак, 302 жыхары (2004 г.).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 19 ст. як сяленне старавераў у Рагачоўскім пав. Магілёўскай губ. У 1858 г. 36 двароў, 261 жыхар, капліца, уладанне Войніч-Сенажэцкага. У 1866 г. памешчык меў 8142 дзес. зямлі, вінакурню і 3 карчмы. У 1880 г. дзейнічалі стараверская малельня, млын, хлебазапасны магазін. У 1884 г. ў рэвізскіх матэрыялах упамінаецца як вёска ў Гарадзецкай вол. У 1886 г. 63 двары, 410 жыхароў, вінакурня. Паводле перапісу 1897 г. 128 двароў, 881 жыхар, 2 хлебазапасныя магазіны, малітоўны стараверскі дом, кузня, 3 ветракі, крупарушка, карчма. Побач быў аднайменны фальварак, дзе з 1877 г. працаваў вінакурны з-д. У 1903 г. ўзведзены школьны будынак. У 1909 г. ў вёсцы 113 двароў, 1054 жыхары, 1375 дзес. зямлі, у фальварку – 84 двары, 649 жыхароў, 4614 дзес. зямлі. У 1930 г. арганізаваны калгас «Пераможац», працавалі кузня, шорная майстэрня. У 1940 г. 165 двароў, 699 жыхароў. У Вял. Айч. вайну дзейнічала падп. патрыят. група (кіраўнікі А.А.Ганчароў, В.Ф.Ярмоленка, Л.А.Кудраўцава). Вясковая моладзь у крас.–маі 1943 г. перадала партызанам 11 вінтовак, 2 мінамёты, 100 гранат, 90 кг узрыўчаткі, 20 тыс. патронаў, у партызаны перайшлі 50 чалавек. У снеж. 1943 г. ням. акупанты спалілі 158 двароў, загубілі 12 жыхароў. У баях каля вёскі ў 1941 г. і пры яе вызваленні загінулі 298 воінаў (пахаваны ў брацкай магіле ў цэнтры вёскі). Вызвалена 24.2.1944 г. 131 вясковец загінуў на фронце. Размешчаны газаразмеркавальная станцыя, 9-гадовая школа, Дом культуры, б-ка, фельч.-акушэрскі пункт, дзіцячыя яслі-сад, аддз. сувязі. Планіровачна складаецца з працяглай прамалінейнай вуліцы амаль мерыдыянальнай арыентацыі. На З па-



*Магіла ахвяр фашызму ў в. Талочкаў.*

ралельна да яе праходзіць кароткая вуліца. Забудова двухбаковая, пераважна драўляная, сядзібнага тыпу.

**ТУРСКАВЫ** — пасёлак у Гадзілавіцкім с/с, за 12 км на ПдУ ад раённага цэнтра і чыг. ст. Рагачоў (на лініі Магілёў—Жлобін), 133 км ад Гомеля. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Рагачоў—Доўск. 105 гаспадарак, 277 жыхароў (2004 г.).

Засн. ў пач. 20 ст. на былых памешчыцкіх землях перасяленцамі з в. Турск. У пач. 1930-х г. пасялкоўцы ўступілі ў калгас. У 1940 г. 82 двары, 411 жыхароў. У Вял. Айч. вайну ў снеж. 1943 г. ням. акупанты спалілі 57 двароў і загубілі 12 жыхароў. У аколіцах пасёлка загінулі 264 воіны (пахаваны ў брацкай магіле). Вызвалены 26.11.1943 г. 30 пасялкоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 235 жыхароў. У 1966 г. да пасёлка далучаны суседні пас. Турск. Цэнтр эксперыментальнай базы Гомельскай абласной с.-г. доследнай станцыі Турск (дзейнічае з 1922). Размешчаны лесапільня, клуб, б-ка, фельч.-акушэрскі пункт, дзіцячыя яслі-сад, магазін. Планіровачна складаецца з 2 кароткіх паралельных паміж сабой шыротных вуліц, да якіх на З далучаецца прамалінейная мерыдыянальнай арыентацыі вуліца. На У, за дарогай, адасоблены ўчастак забудовы. Жылыя дамы драўляныя сядзібнага тыпу.

**УХВАТАЎКА** — вёска ў Побалаўскім с/с, за 28 км на ПдЗ ад Рагачова, 6 км ад чыг. ст. Чырвоны Бераг (на лініі Бабруйск—Жлобін), 125 км ад Гомеля, на Пн — р. Добасна (прыток р. Друць), побач аўтадарога Бабруйск—Гомель. 15 гаспадарак, 22 жыхары (2004 г.).



*Краявіды Рагачоўшчыны.*

Па пісьмовых крыніцах вядома з 19 ст. як сяленне ў Лукаўскай вол. Рагачоўскага пав. Магілёўскай губ. У 1848 г. вёска, у складзе аднайменнага маёнтка. У 1850 г. 6 двароў, 37 жыхароў, 150 дзес. зямлі. Паводле перапісу 1897 г. 34 двары, 211 жыхароў, вятрак. У 1909 г. 36 двароў, 239 дзес. зямлі. У 1931 г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну 23 вяскоўцы загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 158 жыхароў. У складзе калгаса «Чырвоная Армія» (цэнтр — в. Астраў). Планіровачна складаецца з шыротнай вуліцы, да цэнтра якой далучаецца кароткая вуліца. Забудова двухбаковая, няшчыльная, драўляная, сядзібнага тыпу.

**ХАМІЧЫ** — вёска ў Запольскім с/с, за 9 км на ПнЗ ад раённага цэнтра і чыг. ст. Рагачоў (на лініі Магілёў—Жлобін), 130 км ад Гомеля, на р. Дабрыца (прыток р. Друць). Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Бабруйск—Гомель. 46 гаспадарак, 82 жыхары (2004 г.).

Выяўленае археолагамі гарадзішча плямён мілаградскай і зарубінецкай культур, ранняга жал. веку (за 1,5 км на Пн ад вёскі) сведчыць аб засяленні гэтых мясцін з глыбокай старажытнасці. Па пісьмовых крыніцах вядома з 17 ст. як сяленне ў Рэчыцкім пав. Мінскага ваяв. У 18 ст. належала Азяранскай царкве. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) у складзе Рас. імперыі. У 1849 г. 42 двары і 12 незаселеных участкаў. З 1880 г. дзейнічаў хлебазапасны магазін. У 1881 г. 47 двароў, 416 жыхароў, у Ціхініцкай вол. Рагачоўскага пав. Магілёўскай губ. У 1896 г. жыхары аказалі ўзброенае супраціўленне атраду паліцыі пры правядзенні вопісу сял. маёмасці за даўгі памешчыку. З пач. 20 ст. дзейнічалі школа і млын. У 1909 г. ў вёсцы 214 дзес. зямлі. У 1925 г. 58 двароў. У 1931 г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У 1940 г. 94 двары, 470 жыхароў. У Вял. Айч. вайну ў чэрв. 1944 г. ням. акупанты спалілі вёску і загубілі 17 жыхароў. 20 вяскоўцаў загіну-

лі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 246 жыхароў. У складзе калгаса імя С.М.Кірава (цэнтр — в. Заполле). Планіровачна складаецца з прамалінейнай мерыдыянальнай вуліцы (уздоўж ракі), забудаванай двухбакова драўлянымі сял. сядзібамі.

**ХАТОЎНЯ** — вёска ў Журавіцкім с/с, за 51 км на ПнУ ад раённага цэнтра і чыг. ст. Рагачоў (на лініі Магілёў—Жлобін), 106 км ад Гомеля. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Доўск—Слаўгарад. 288 гаспадарак, 814 жыхароў (2004 г.).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 18 ст. як сяленне ў Рэчыцкім пав. Мінскага ваяв. У 1758 г. 55 двароў і 19 незанятых участкаў. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) у складзе Рас. імперыі. У 1881 г. 103 двары, 636 жыхароў. У 1896 г. 151 двор. У 1903 г. пабудавана школьнае памяшканне для царк.-прыходскай школы. З 20.8.1924 г. да 16.7.1954 г. цэнтр Хатаўнянскага с/с. У 1930 г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну дзейнічала патрыят. група (кіраўнік Я.П.Аніськоў). У баях каля вёскі загінулі 206 воінаў (пахаваны ў брацкай магіле ў цэнтры вёскі). Вызвалена 26.11.1943 г. На франтах і ў партыз. барацьбе загінулі 189 жыхароў з вёсак калгаса «XXII партз’езд». Паводле перапісу 1959 г. 953 жыхары. У 1976 г. ў вёску пераселены жыхары суседніх пасёлкаў Боркі і Старына. Цэнтр калгаса «XXII партз’езд». Размешчаны сярэдняя школа, Дом культуры, б-ка, дзіцячы сад-яслі, фельч.-акушэрскі пункт, аддз. сувязі, магазін. Планіровачна складаецца з 2 амаль прамалінейных, падзеленых ракой вуліц, да якіх на Пд далучаюцца 2 шыротныя, шчыльна забудаваныя вуліцы. Будынкі пераважна драўляныя, сядзібнага тыпу. У 1987 г. пабудаваны мураваныя дамы на 50 сямей, у якіх размясціліся перасяленцы з забруджаных радыяцыяй месц. Радзіма ген.-палк. П.А.Маркава (яго імя носіць вуліца ў вёсцы) і бел. паэтэсы А.П.Маркавай.

**ХВОЙНІК** — пасёлак у Балатнянскім с/с, за 45 км на ПнУ ад раённага цэнтра і чыг. ст. Рагачоў (на лініі Магілёў—Жлобін), 106 км ад Гомеля, на Пд мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Доўск—Слаўгарад. 7 гаспадарак, 39 жыхароў (2004 г.).

Засн. ў 1920-х г. перасяленцамі з суседніх вёсак на былых памешчыцкіх землях. У 1925 г. 7 двароў. У 1932 г. пасялкоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну ў вёсцы загінулі ў 1941 г. 8 камандзіраў падраздзяленняў 63-га стралк. корпуса. 4 пасялкоўцы загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 58 жыхароў. У складзе калгаса імя У.І.Леніна (цэнтр — в. Балотня). Жылыя дамы драўляныя, сядзібнага тыпу, каля прасёлачнай дарогі.

**ХІМЫ** — вёска ў Стаўпнянскім с/с, за 36 км на ПдУ ад Рагачова, 20 км ад чыг. ст. Салтанаўка (на лініі Жлобін—Гомель), 105 км ад Гомеля. Аўтадарога звязвае вёску з в. Гадзілавічы. 69 гаспадарак, 131 жыхар (2004 г.).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 18 ст. як сяленне ў Гарадзецкай вол. Рагачоўскага пав. Магілёўскай губ. Па рэвізіі 1816 г. 12 двароў, уладанне памешчыка Макавецкага. У 1858 г. 27 двароў, 204 жыхары. З 1880 г. дзейнічаў хлебазапасны магазін. Паводле перапісу 1897 г. 60 гаспадарак, 382 жыхары, школа граматы, кузня, млын, карчма. У 1909 г. 70 двароў, 516 жыхароў, 880 дзес. зямлі. У 1925 г. 122 двары. У 1931 г. арганізаваны калгас. У Вял. Айч. вайну ў баях за вёску і наваколле загінуў 21 воін (пахаваны ў брацкай магіле ў цэнтры вёскі). 59 вяскоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 599 жыхароў. У складзе калгаса «Светлы шлях» (цэнтр — в. Стоўпня). Планіровачна складаецца з 3 паралельных паміж сабой, амаль мерыдыянальнай арыентацыі вуліц, злучаных шыротнымі вуліцамі. Забудова драўляная сядзібнага тыпу.

**ХМЕЛІНО** — вёска ў Старасельскім с/с, за 13 км на Пн ад раённага цэнтра і чыг. ст. Рагачоў (на лініі Магілёў—Жлобін), 135 км ад Гомеля, на З мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па прасёлач-

най, потым аўтадарозе Старое Сяло—Рагачоў. 4 гаспадаркі, 5 жыхароў (2004 г.).

Засн. ў пач. 20 ст. перасяленцамі з суседніх вёсак. У 1930 г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У 1940 г. 22 двары, 98 жыхароў. У Вял. Айч. вайну ням. карнікі ў 1944 г. спалілі 9 двароў і загубілі 8 жыхароў. 11 вяскоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 96 жыхароў. У складзе падсобнай гаспадаркі раённага аб'яднання «Сельгасхімія» (цэнтр — в. Станькаў). Забудова рэдкая, драўляная, сядзібнага тыпу.

**ХМЕЛЯНЕЦ** — вёска ў Доўскім с/с, за 27 км на ПнУ ад раённага цэнтра і чыг. ст. Рагачоў (на лініі Магілёў—Жлобін), 90 км ад Гомеля, на З невял. вадасховішча, побач аўтадарога Рагачоў—Доўск. 34 гаспадаркі, 75 жыхароў (2004 г.).

Выяўленае археолагамі гарадзішча мілаградскай і зарубінецкай культур 7 ст. да н.э. — 1 ст. н.э. (за 0,3 км на З ад вёскі, ва ўрочышчы Гарадок) сведчыць аб засяленні гэтых мясцін з глыбокай старажытнасці. Па пісьмовых крыніцах вядома з 19 ст. як сяленне ў Доўскай вол. Рагачоўскага пав. Магілёўскай губ. Мясцовы памешчык меў у 1880 г. 1641 дзес. зямлі. У 1909 г. фальварак, 2 двары, 7 жыхароў, 585 дзес. зямлі. У пач. 1920-х г. у фальварку быў створаны калгас «Аб'яднанне». У 1930 г. арганізаваны калгас «Інтэрнацыянал», працаваў паравы млын. У Вял. Айч. вайну 13 вяскоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 184 жыхары. У складзе эксперыментальнай базы «Доўск» (цэнтр — в. Доўск). Планіровачна складаецца з прамалінейнай мерыдыянальнай вуліцы, да якой на Пн далучаецца кароткая прамалінейная шыротная вуліца. Забудова двухбаковая, няшчыльная, драўляная, сядзібнага тыпу.

**ХОДАСАВІЧЫ** — вёска ў Збароўскім с/с, за 9 км на ПдУ ад раённага цэнтра і чыг. ст. Рагачоў (на лініі Магілёў—Жлобін), 113 км ад Гомеля, на зах. ускраіне меліярацыйны канал, вакол лес. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Рагачоў—Жлобін. 64 гаспадаркі, 102 жыхары (2004 г.).

Выяўленыя археолагамі курганны могільнік 11—12 ст. (12 насыпаў, за 3 км на ПдЗ ад вёскі) і могільнік эпохі неаліту і бронз. веку (за 2,8 км на ПдЗ ад вёскі) сведчаць аб засяленні гэтых мясцін з глыбокай старажытнасці. Па пісьмовых крыніцах вядома з 16 ст. як вёска ў Рэчыцкім пав. Мінскага ваяв. ВКЛ. Па звестках 1567 г. вёска павінна была выдзяляць сваіх апалчэнцаў для войска ВКЛ. У 1696 г. ўпамінаецца як сяленне Фядосавічы ў прыходзе Рагачоўскай царквы Казьмы і Дзям'яна. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) у складзе Рас. імперыі. Памешчык меў тут у 1845 г. 250 дзес. зямлі і вятрак. У 1868 г. 83 двары. З 1880 г. працавалі школа, млын, хлебазапасны магазін. Побач у 19 ст. была аднайменная аколіца (у 1868 — 11 двароў, 82 жыхары). Паводле перапісу 1897 г. ў вёсцы і аколіцы 103 двары, 714 жыхароў, капліца, кузня, 3 ветракі, крупарушка, у Гарадзецкай вол. Рагачоўскага пав. Магілёўскай губ. У 1909 г. ў вёсцы і аколіцы 106 двароў, 937 жыхароў, 1579 дзес. зямлі. У 1907 г. адкрыта нар. вучылішча, якое размяшчалася ў наёмнай сял. хаце (48 вучняў). У 1925 г. 200 двароў. У 1930 г. арганізаваны калгас. У Вял. Айч. вайну ў вёсцы мелася партыз. явачная кватэра. Вызвалена 24.2.1944 г. 81 вясковец загінуў на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 639 жыхароў. У складзе калгаса «Новы шлях» (цэнтр — в. Збароў). Размешчаны б-ка, фельч.-акушэрскі пункт. Планіровачна складаецца з 2 прамалінейных, паралельных паміж сабой вуліц, арыентаваных з ПдУ на ПнЗ і перакрыжаваных кароткай мерыдыянальнай вуліцай. Забудова двухбаковая, пераважна драўляная, сядзібнага тыпу. Радзіма поўнага кавалера ордэна Славы А.М.Белавусава.

**ФАЛЕВІЧЫ** — вёска ў Азяранскім с/с, за 34 км на ПнЗ ад раённага цэнтра і чыг. ст. Рагачоў (на лініі Магілёў—Жлобін), 154 км ад Гомеля, на З — Фалевіцкі канал. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Бабруйск—Гомель. 36 гаспадарак, 55 жыхароў (2004 г.).



Краявіды Рагачоўшчыны.

Упершыню ўпамінаецца ў пісьмовых крыніцах пад 1584 г., калі сяляне з в. Азяраны рабілі «наезды» на в. Фалевічы (уваходзіла ў Ціхініцкі маёнтак). Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. З 1880 г. дзейнічаў хлебазапасны магазін. У 1881 г. 32 двары, 260 жыхароў, у Ціхініцкай вол. Рагачоўскага пав. Магілёўскай губ. Паводле перапісу 1897 г. 49 двароў, 335 жыхароў, школа граматы. У 1909 г. 401 жыхар, 749 дзес. зямлі. У 1910 г. адкрыта школа, якая размяшчалася ў наёмнай сял. хаце. У 1925 г. 96 двароў. У 1931 г. арганізаваны калгас. У 1940 г. 120 двароў, 593 жыхары. У Вял. Айч. вайну ням. акупанты стварылі ў вёсцы свой апорны пункт, які партызаны ў снеж. 1942 г. разграмілі. Ням. карнікі 13.10.1943 г. спалілі вёску і 235 жыхароў. Паводле перапісу 1959 г. 333 жыхары. У складзе калгаса «XVII партз'езд» (цэнтр — в. Вялікая Крушынаўка). Планіровачна складаецца з крыху выгнутай шыротнай вуліцы, да якой на З далучаецца кароткая мерыдыянальная вуліца. Забудова двухбаковая, няшчыльная, драўляная, сядзібнага тыпу. Каля вёскі ёсць залежы гліны.

**ФЁДАРАЎКА** — вёска ў Доўскім с/с, за 21 км на У ад раённага цэнтра і чыг. ст. Рагачоў (на лініі Магілёў—Жлобін), 118 км ад Гомеля, на У — р. Ракатун (прыток р. Дняпро). Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Рагачоў—Доўск. 12 гаспадарак, 19 жыхароў (2004 г.).

Па пісьмовых крыніцах вядома з сярэдзіны 19 ст. як сяленне ў Доўскай вол. Рагачоўскага пав. Магілёўскай губ. Па рэвізіі 1858 г. 2 двары, уладанне памешчыка Радзевіча, які ў 1865 г. меў 2063 дзес. зямлі, ветраны млын і сукнавальню, дзейнічала царква. У 1909 г. 4 двары, 16 жыхароў. У 1925 г. 23 двары. У 1930 г. арганізаваны калгас. У Вял. Айч. вайну 12 вяскоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 104 жыхары. У складзе калгаса «Зара» (цэнтр — в. Серабранка). Планіровачна складаецца з прамалінейнай, блізкай да шыротнай арыентацыі вуліцы. За 1 км на ПдУ адасоблены ўчастак забудовы. Жылыя дамы драўляныя сядзібнага тыпу. Каля вёскі ёсць залежы гліны.

**ЦАГЕЛЬНЯ** — пасёлак у Балатнянскім с/с, за 44 км на ПнУ ад раённага цэнтра і чыг. ст. Рагачоў (на лініі Магілёў—Жлобін), 105 км ад Гомеля, побач аўтадарога Доўск—Слаўгарад. 13 гаспадарак, 26 жыхароў (2004 г.).

Выяўленае археолагамі гарадзішча ранняга жал. веку (за 2 км на ПнУ ад вёскі) сведчыць аб засяленні гэтых мясцін з далёкай старажытнасці. Сучасны пасёлак засн. ў пач. 1920-х г. на былых памешчыцкіх землях. У 1932 г. пасялкоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну 15 пасялкоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 170 жыхароў. У складзе калгаса імя У.І.Леніна (цэнтр — в. Балотня). Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ, якая на Пн раздвойваецца. Забудова няшчыльная, драўляная, сядзібнага тыпу.

**ЦАГЕЛЬНЯ** — вёска ў Пабалаўскім с/с, за 26 км на ПдЗ ад раённага цэнтра і чыг. ст. Рагачоў (на лініі Магілёў—Жлобін), 137 км ад Гомеля. Транспартныя су-

вязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Бабруйск—Гомель. 2 гаспадаркі, 7 жыхароў (2004 г.).

Выяўлены археолагамі курганны могільнік (54 насыпы, за 0,6 км на ПдЗ ад вёскі) сведчыць аб засяленні гэтых мясцін з далёкай старажытнасці. Сучасная вёска засн. ў пач. 1920-х г. перасяленцамі з суседніх вёсак на былых памешчыцкіх землях. У 1931 г. арганізаваны калгас. У Вял. Айч. вайну 18 вяскоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 95 жыхароў. У складзе калгаса «Чырвоная Армія» (цэнтр — в. Востраў). Забудова драўляная сядзібнага тыпу.

**ЦЕРАХОЎКА** — вёска ў Старасельскім с/с, за 11 км на Пн ад раённага цэнтра і чыг. ст. Рагачоў (на лініі Магілёў—Жлобін), 132 км ад Гомеля, на р. Дабрыца (прыток р. Дняпро), на паўд. ускраіне чыгунка. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Старое Сяло—Рагачоў. 7 гаспадарак, 13 жыхароў (2004 г.).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 19 ст. як сяленне ў Кісцянёўскай вол. Рагачоўскага пав. Магілёўскай губ. Паводле перапісу 1897 г. ў в. Церахоўка (яна ж Селішча) 31 двор, 97 жыхароў. У 1930 г. арганізаваны калгас. У Вял. Айч. вайну дзейнічала патрыят. падп. група (кіраўнік У.Ф.Мазепіна). Вясковая моладзь перадала партызанам 17 вінтовак, 6 гранат, 500 патронаў. 6 вяскоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 90 жыхароў. У складзе падсобнай гаспадаркі раённага аб'яднання «Сельгасхімія» (цэнтр — в. Станькаў). Складаецца з кароткай прамалінейнай мерыдыянальнай вуліцы, забудаванай рэдка драўлянымі сял. сядзібамі.

**ЦЕСНАВОЕ** — вёска ў Старасельскім с/с, за 16 км на Пн ад раённага цэнтра і чыг. ст. Рагачоў (на лініі Магілёў—Жлобін), 137 км ад Гомеля, на Пд і З мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Старое Сяло—Рагачоў. 50 гаспадарак, 116 жыхароў (2004 г.).

Па пісьмовых крыніцах вядома з пач. 20 ст. як сяленне ў Кісцянёўскай вол. Рагачоўскага пав. Магілёўскай губ. У 1909 г. 20 двароў, 144 жыхары, 600 дзес. зямлі. У 1917 г. адкрыта школа, якая размяшчалася ў наёмнай сял. хаце. У 1930 г. арганізаваны калгас «Барацьбіт», працавала кузня. У 1940 г. 61 двор, 368 жыхароў. У Вял. Айч. вайну ў 1944 г. ням. карнікі спалілі 9 двароў і загубілі 2 жыхароў. 16 вяскоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 266 жыхароў. У складзе падсобнай гаспадаркі раённага аб'яднання «Сельгасхімія» (цэнтр — в. Станькаў). Размешчана Друцкае лясніцтва. Планіровачна складаецца з прамалінейнай мерыдыянальнай вуліцы, да цэнтра якой з З далучаецца шыротная кароткая вуліца. Забудова двухбаковая, няшчыльная, драўляная, сядзібнага тыпу.

**ЦІХІНІЧЫ** — вёска, цэнтр Ціхініцкага с/с, за 20 км на ПнЗ ад раённага цэнтра і чыг. ст. Рагачоў (на лініі Магілёў—Жлобін), 141 км ад Гомеля, на р. Дабрыца (прыток р. Друць). Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Бабруйск—Гомель. 584 гаспадаркі, 1490 жыхароў (2004 г.).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 15 ст. У 1440-я г. маёнтак Ціхінічы аддзелены ад Рагачоўскай вол. Пад 1493 г. упамінаецца ў Метрыцы ВКЛ як маёнтак Ціханцы паблізу Рагачова. У 1556 г. цэнтр маёнтка, у Рэчыцкім пав. Мінскага ваяв. У 1567 г. пазначана ў попісе войска ВКЛ. Пасля 1784 г. атрымала статус

*Краявіды Рагачоўшчыны.*



мястэчка. З 1792 г. дзейнічала Свята-Міхайлаўская царква. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1826 г. 556 жыхароў. Па інвентары 1848 г. ўладанне памешчыка І.Аскеркі. У 1860 г. 944 жыхары, 92 драўляныя хаты, малітоўная школа, вінакурня. У 1868 г. ўладанне А.М.Клятко. Штогод у мястэчку праводзіліся кірмашы, якія былі вядомы гандлем дубленымі і простымі сял. шубамі і кажухамі. У 1880 г. 126 двароў, 837 жыхароў, 6 крам, мураваная царква, паштовая кантора, прыёмны лячэбны пакой, малітоўная школа. З 1864 г. дзейнічала школа, у якой у першы год яе працы навучаліся 51, а ў 1889 г. 58 хлопчыкаў і дзяўчынак. Да 17.7.1924 г. цэнтр воласці, у склад якой у 1890 г. ўваходзілі 92 сяленні з агульнай колькасцю 2008 двароў, а ў 1910 г. 114 населеных пунктаў (2714 двароў). Паводле перапісу 1897 г. ў мястэчку 246 двароў, 988 жыхароў, царква, 2 малітоўныя дамы, 3 б-кі, хлебазапасны магазін, 13 крам, піцейная ўстанова. У аднайменным суседнім фальварку 13 двароў, 274 жыхары, вінакурны з-д. Мелася аддз. паштовай сувязі. З 3.3.1924 г. ў складзе БССР. З 20.8.1924 г. цэнтр сельсавета Рагачоўскага р-на Бабруйскай (да 26.7. 1930) акругі, з 20.2.1938 г. Гомельскай вобл. У 1930 г. дзейнічаў саўгас «Ціхінічы», арганізаваны калгас імя Л.Б.Красіна, спіртзавод (з 1890), цагельня (з 1921), маслазавод, 2 кузні, вятрак, шавецкая майстэрня. У Вял. Айч. вайну ў ліст. 1941 г. ням. акупанты загубілі 44 вяскоўцы. Партызаны некалькі разоў грамілі створаны ў вёсцы гарнізон акупантаў. У чэрв. 1944 г. ням. захопнікі спалілі 130 двароў і загубілі 32 жыхароў. У баях каля вёскі загінуў 531 воін (пахаваны ў брацкай магіле ў цэнтры вёскі). Вызвалена 25.6.1944 г. На франтах і ў партыз. барацьбе загінулі 112 вяскоўцаў, памяць аб якіх увекавечвае скульптурная кампазіцыя, пастаўленая ў 1965 г. ў цэнтры вёскі. Паводле перапісу 1959 г. ў вёсцы 593, у пасёлку саўгаса 281 жыхар. У 1975 г. да вёскі далучаны вёскі Лейчыцы, Слапішча, у 1979 г. ў вёску перасялілася частка жыхароў пас. Новая Аляксандраўка (не існуе). Цэнтр саўгаса «Ціхінічы». Размешчаны камбінат быт. абслугоўвання, мех. майстэрня, цагельны і вінакурны з-ды, сярэдняя школа, Дом культуры, б-ка, дзіцячыя сад-яслі, фельч.-акушэрскі пункт, аддз. сувязі, 2 сталовыя, 6 магазінаў. Планіровачна складаецца з працяглай прамалінейнай вуліцы мерыдыянальнай арыентацыі, да цэнтра якой з У далучаюцца 2 шчыльна забудаваныя кароткія вуліцы. Забудова двухбаковая, мураваная і драўляная, сядзібнага тыпу. У 1989—91 гг. пабудавана 200 мураваных, катэджнага тыпу дамоў, у якіх размясціліся перасяленцы з забруджаных радыяцыяй месц. Радзіма бел. пісьменніка А.Т.Калубовіча і ваен. дзеяча, былога нам. камандуючага Далёкаўсходняга флоту, члена ваен. савета пры Наркамаце абароны СССР Р.С.Акунёва.

У склад Ціхініцкага с/с уваходзілі да Вял. Айч. вайны в. Морткаў, якую ням. карнікі спалілі, да 1975 г. — вёскі Лейчыцы, Слапішча, да 1979 г. — пас. Новая Аляксандраўка, да 1990 г. — в. Цагельня (не існуюць).

**ШАПЧЫЦЫ** — вёска ў Званецкім с/с, за 32 км на ПнУ ад раённага цэнтра і чыг. ст. Рагачоў (на лініі Магілёў—Жлобін), 97 км ад Гомеля, на р. Дняпро, на У і З мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па прасёлачнай дарозе, потым па шашы Магілёў—Гомель. 204 гаспадаркі, 494 жыхары (2004 г.).

Выяўленае археолагамі гарадзішча 6—2 ст. да н.э. (за 1,2 км на З ад вёскі) сведчыць аб засяленні гэтых мясцін з далёкай старажытнасці. Па пісьмовых крыніцах вядома з 16 ст. як в. Шапчычы ў Рэчыцкім пав. Мінскага ваяв. ВКЛ. Па звестках 1567 г. вёска павінна была выдзяляць апалчэнцаў для войска ВКЛ. У 1696 г. ўпамінаецца як сяленне ў прыходзе Рагачоўскай замкавай царквы. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) у складзе Рас. імперыі. З 1792 г. дзейнічала Раства-Багародзіцкая царква. Па рэвізіі 1816 г. сяло, 78 двароў, 561 жыхар, у Доўскай вол. Рагачоўскага пав.

Магілёўскай губ. У 1838 г. 96 двароў. У 1850 г. 717 жыхароў, у складзе маёнтка памешчыка Жукоўскага, які меў у вёсках Лесавая Буда і Шапчыцы ў 1864 г. 3341 дзес. зямлі, млын і карчму. З 1880 г. дзейнічаў хлебазапасны магазін. За 2 вярсты ад сяла, уніз па цячэнні Дняпра, размяшчалася пераправа пад'ёмнасцю да 500 пудоў. У 1884 г. 147 двароў, 1102 жыхары, у Доўскай вол. У 1886 г. адкрыта царк.-прыходская школа, якая размяшчалася ў наёмнай сял. хаце, а ў 1892 г. пабудавана ўласнае памяшканне. Апрача земляробства многія вяскоўцы займаліся рознымі промысламі, у т.л. вырабам карунак, якімі абшывалі ручнікі, абрусы і інш. Узоры гэтых карунак экспанаваліся ў Магілёўскім губернскім музеі. Паводле перапісу 1897 г. 195 двароў, 1457 жыхароў, царква, царк.-прыходская школа, хлебазапасны магазін, вятрак, 2 маслабойні, 2 крамы, карчма. У 1909 г. 202 гаспадаркі, 1410 жыхароў, 2676 дзес. зямлі. Непадалёку знаходзіўся фальварак Весялёва, які належаў С.А.Жукоўскаму, 24 жыхары, 2852 дзес. зямлі. У 1930 г. арганізаваны калгас «Чырвоны дняпровец», працаваў вятрак. У 1940 г. 286 двароў, 1141 жыхар. У Вял. Айч. вайну ў ліст. 1943 г. ням. акупанты спалілі 98 двароў і загубілі 27 жыхароў. У баях за вёску і наваколле загінулі 1102 воіны (пахаваны ў брацкай магіле ў цэнтры вёскі). Вызвалена 24.11.1943 г. 93 вяскоўцы загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 1178 жыхароў. У складзе саўгаса «Бальшавік» (цэнтр — в. Званец). Размешчаны 9-гадовая школа, клуб, б-ка, фельч.-акушэрскі пункт, дзіцячыя яслі-сад, аддз. сувязі. Планіровачна складаецца з 2 амаль паралельных паміж сабой вуліц, блізкіх да мерыдыянальнай арыентацыі, злучаных 3 завулкамі. Забудова двухбаковая, драўляная, сядзібнага тыпу. Радзіма Героя Сац. Працы Ф.К.Самусёва. Побач залежы мергелю і сумесі вапняку з гліназёмам і пяском.

**ШЧЫБРЫН** — вёска ў Кісцянёўскім с/с, за 5 км на ПнУ ад раённага цэнтра і чыг. ст. Рагачоў (на лініі Магілёў—Жлобін), 126 км ад Гомеля, на р. Дабрыца (прыток р. Дняпро), на Пн мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Рагачоў—Старое Сяло. 138 гаспадарак, 462 жыхары (2004 г.).

Выяўленае археолагамі селішча ранняга жал. веку і эпохі Кіеўскай Русі (за 1 км на Пд ад вёскі) сведчыць аб засяленні гэтых мясцін з далёкай старажытнасці. Па пісьмовых крыніцах вядома з 19 ст. як слабада ў Кісцянёўскай вол. Рагачоўскага пав. Магілёўскай губ. З 1859 г. працавалі сукнавальня і млын. Памешчык Пячкоўскі меў тут у 1880 г. 1889 дзес. зямлі, вадзяны млын і сукнавальню. Дзейнічаў хлебазапасны магазін. У 1881 г. 22 двары, 135 жыхароў. Паводле перапісу 1897 г. 27 двароў, 213 жыхароў, капліца, школа, млын. У 1909 г. 32 двары, 227 жыхароў, 249 дзес. зямлі. У маёнтку 11 жыхароў, 1884 дзес. зямлі. У 1930 г. арганізаваны калгас, працавала цагельня. У Вял. Айч. вайну ў лют. 1944 г. ням. акупанты спалілі 30 двароў. 16 вяскоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 256 жыхароў. Цэнтр саўгаса «Прагрэс». Размешчаны пач. школа, б-ка, фельч.-акушэрскі пункт, дзіцячыя яслі-сад. Планіровачна складаецца з крыху выгнутай вуліцы, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ, да якой з З далучаюцца 2 завулкі і з Пн — крывалінейная вуліца. Забудова двухбаковая, драўляная, сядзібнага тыпу.

**ШЫРОКАЕ** — пасёлак у Забалацкім с/с, за 13 км на ПдЗ ад раённага цэнтра і чыг. ст. Рагачоў (на лініі Магілёў—Жлобін), 134 км ад Гомеля. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Бабруйск—Жлобін. 11 гаспадарак, 17 жыхароў (2004 г.).

Засн. ў пач. 20 ст. перасяленцамі з суседніх вёсак. Найбольш актыўная забудова вялася ў 1920-я г. У 1925 г. 14 двароў. У 1930 г. пасялкоўцы ўступілі ў калгас. У 1940 г. 19 двароў, 103 жыхары. У Вял. Айч. вайну ў 1944 г. ням. карнікі спалілі 16 двароў. 4 пасялкоўцы загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 94 жыхары. У складзе калгаса імя М.І. Калініна (цэнтр — в. Забалацце). Пла-

ніровачна складаецца з кароткай прамалінейнай мерыдыянальнай вуліцы, забудаванай драўлянымі сял. сядзібамі.

**ШЫРОКАЕ** — пасёлак у Стаўпнянскім с/с, за 40 км на ПдУ ад Рагачова, 18 км ад чыг. ст. Салтанаўка (на лініі Жлобін—Гомель), 101 км ад Гомеля. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Стоўпня—Гадзілавічы. 1 гаспадарка, 1 жыхар (1999 г.).

Па пісьмовых крыніцах вядомы з 19 ст. як сяленне ў Меркулавіцкай вол. Рагачоўскага пав. Магілёўскай губ. З 1880 г. дзейнічаў хлебазапасны магазін. У 1931 г. пасялкоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну 12 пасялкоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 76 жыхароў. У складзе калгаса «Светлы шлях» (цэнтр — в. Стоўпня). Будынкі драўляныя сядзібнага тыпу.

**ШЫРОКІ РОГ** — пасёлак у Забалацкім с/с, за 14 км на ПдЗ ад раённага цэнтра і чыг. ст. Рагачоў (на лініі Магілёў—Жлобін), 135 км ад Гомеля. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Бабруйск—Гомель. 10 гаспадарак, 11 жыхароў (2004 г.).

Засн. ў пач. 20 ст. як сяленне ў Рагачоўскім пав. Магілёўскай губ. У 1925 г. 12 двароў. у 1931 г. пасялкоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну 7 пасялкоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 59 жыхароў. У складзе калгаса імя М.І.Калініна (цэнтр — в. Забалацце). Планіровачна складаецца з кароткай прамалінейнай вуліцы, блізкай да мерыдыянальнай арыентацыі і забудаванай драўлянымі сял. сядзібамі.

**ЮДЗІЧЫ** — вёска ў Доўскім с/с, за 26 км на ПнУ ад раённага цэнтра і чыг. ст. Рагачоў (на лініі Магілёў—Жлобін), 92 км ад Гомеля, на Пд і Пн мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Рагачоў—Доўск. 78 гаспадарак, 163 жыхары (2004 г.).

Выяўленыя археолагамі курганны могільнік 10—11 ст. (62 насыпы, за 0,5 км на Пд ад вёскі), курганны могільнік (40 насыпаў, за 0,5 км на ПдУ) і селішча эпохі Кіеўскай Русі (за 0,5 км на ПдУ ад вёскі) сведчаць аб засяленні гэтых мясцін з далёкай старажытнасці. Па пісьмовых крыніцах вядома з 16 ст. як вёска ў Рэчыцкім пав. Мінскага ваяв. ВКЛ. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) у складзе Рас. імперыі. Па рэвізіі 1858 г. 67 двароў, 368 жыхароў, уладанне памешчыка Д.П.Турчанінава. З 1880 г. дзейнічаў хлебазапасны магазін. Паводле перапісу 1897 г. 103 двары, 600 жыхароў, вятрак, карчма, школа граматы, у Доўскай вол. Рагачоўскага пав. У 1909 г. 688 жыхароў, 1104 дзес. зямлі. У 1917 г. адкрыта школа, якая размяшчалася ў наёмнай сял. хаце. У 1931 г. вяскоўцы аб'ядналіся ў калгас. У Вял. Айч. вайну дзейнічала падп. патрыят. група (кіраўнік С.С.Троцкая). Падпольшчыкі перадалі партызанам 7 вінтовак, 1 аўтамат, 2 скрыні гранат і 2 скрыні патронаў. У 1943 г. ням. карнікі спалілі 8 двароў. 34 вяскоўцы не вярнуліся з фронту. Паводле перапісу 1959 г. 423 жыхары. У складзе эксперыментальнай базы «Доўск» (цэнтр — в. Доўск). Размешчаны 9-гадовая школа, б-ка, клуб, аддз. сувязі. Планіровачна складаецца з 2 прамалінейных, паралельных паміж сабой вуліц мерыдыянальнай арыентацыі. Забудова двухбаковая, драўляная, сядзібнага тыпу.

**ЯЛЕНАЎ** — пасёлак у Кісцянёўскім с/с, за 15 км на ПнУ ад раённага цэнтра і чыг. ст. Рагачоў (на лініі Магілёў—Жлобін), 135 км ад Гомеля, на Пн і З мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па пра-

*Краявіды Рагачоўшчыны.*



сёлачнай, потым аўтадарозе Рагачоў—Старое Сяло. 11 гаспадарак, 15 жыхароў (2004 г.).

Па пісьмовых крыніцах вядомы з 19 ст. як сяленне ў Кісцянёўскай вол. Рагачоўскага пав. Магілёўскай губ. Паводле перапісу 1897 г. 10 двароў, 40 жыхароў. У 1925 г. 23 двары. У 1931 г. пасялкоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну вызвалены 24.2.1944 г. 11 пасялкоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 146 жыхароў. У складзе саўгаса «Кісцяні» (цэнтр — в. Кісцяні). Планіровачна складаецца з кароткай мерыдыянальнай вуліцы. Забудова рэдкая, драўляная, сядзібнага тыпу.

**ЯМНАЕ** — вёска ў Дварэцкім с/с, за 19 км на З ад раённага цэнтра і чыг. ст. Рагачоў (на лініі Магілёў—Жлобін), 140 км ад Гомеля, на аўтадарозе Бабруйск—Гомель. 41 гаспадарка, 82 жыхары (2004 г.).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 19 ст. як сяленне ў Ціхініцкай вол. Рагачоўскага пав. Магілёўскай губ. З 1880 г. дзейнічаў хлебазапасны магазін. У 1909 г. побач з вёскай быў фальварак, 390 дзес. зямлі. У 1932 г. арганізаваны калгас, працавалі вятрак і кузня. У 1940 г. 50 двароў, 246 жыхароў. У Вял. Айч. вайну ў 1944 г. ням. акупанты спалілі 7 двароў і загубілі 5 жыхароў. 22 вяскоўцы не вярнуліся з фронту. У 1945 г. ў вёску перасялілася частка жыхароў пас. Лучынкі (не існуе). Паводле перапісу 1959 г. 217 жыхароў. У складзе калгаса «Ленінскае жыццё» (цэнтр — в. Кашара). Планіровачна складаецца з прамалінейнай шыротнай вуліцы, забудаванай двухбакова драўлянымі сял. сядзібамі.

**ЯМНАЕ** — вёска ў Доўскім с/с, за 35 км на У ад раённага цэнтра і чыг. ст. Рагачоў (на лініі Магілёў—Жлобін), 100 км ад Гомеля, на р. Ракатун (прыток р. Дняпро) і шашы Доўск—Гомель. 94 гаспадаркі, 194 жыхары (2004 г.).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 18 ст. як сяленне ў Мінскім ваяв. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) у складзе Рас. імперыі. У 1799 г. 43 двары, у Доўскай вол. Рагачоўскага пав. Магілёўскай губ. Паводле перапісу 1897 г. 83 двары, 571 жыхар, вятрак, маслабойня. У 1907 г. пабудавана школьнае памяшканне. У 1909 г. 91 двор, 670 жыхароў, 936 дзес. зямлі. У 1930 г. арганізаваны калгас. У 1940 г. 97 двароў, 488 жыхароў. У Вял. Айч. вайну ням. карнікі ў ліст. 1943 г. спалілі 13 двароў, загубілі 2 жыхароў. 46 вяскоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 408 жыхароў. У складзе эксперыментальнай базы «Доўск» (цэнтр — в. Доўск). Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ (па абодва бакі шашы), да якой з З далучаецца кароткая прамалінейная вуліца. Забудова пераважна драўляная, сядзібнага тыпу. Радзіма бел. паэта М.С.Купрэева.

**ЯНКАЎ ЛОГ** — пасёлак у Кісцянёўскім с/с, за 18 км на ПнУ ад раённага цэнтра і чыг. ст. Рагачоў (на лініі Магілёў—Жлобін), 125 км ад Гомеля, на р. Дняпро. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Рагачоў—Старое Сяло. 13 гаспадарак, 22 жыхары (2004 г.).

Засн. ў пач. 20 ст. перасяленцамі з суседніх вёсак. Найбольш актыўная забудова вялася ў 1920-я г. У 1931 г. пасялкоўцы ўступілі ў калгас. Паводле перапісу 1959 г. 103 жыхары. У Вял. Айч. вайну 14 пасялкоўцаў загінулі на фронце. У складзе саўгаса «Кісцяні» (цэнтр — в. Кісцяні). Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, блізкай да мерыдыянальнай арыентацыі (уздоўж ракі) і забудаванай няшчыльна драўлянымі сял. сядзібамі.

**ЯСЁНАЎКА** — вёска ў Запольскім с/с, за 12 км на З ад раённага цэнтра і чыг. ст. Рагачоў (на лініі Магілёў—Жлобін), 133 км ад Гомеля. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Бабруйск—Гомель. 2 гаспадаркі, 4 жыхары (2004 г.).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 19 ст. як сяленне ў Рагачоўскім пав. Магілёўскай губ. Паводле перапісу 1897 г. 1 гаспадарка, 6 жыхароў, заезны двор. Актыўная забудова вялася ў 1920-я г. У

1931 г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У 1940 г. 20 двароў, 71 жыхар. У Вял. Айч. вайну ў чэрв. 1944 г. ням. акупанты спалілі вёску і загубілі жыхара. Паводле перапісу 1959 г. 48 жыхароў. У складзе калгаса «Кастрычнік» (цэнтр — в. Стрэнькі). Драўляныя сял. сядзібы каля прасёлачнай дарогі.

**ЯСКІНЯ** — вёска ў Побалаўскім с/с, за 29 км на ПдЗ ад раённага цэнтра і чыг. ст. Рагачоў (на лініі Магілёў—Жлобін), 150 км ад Гомеля, на р. Добасна (прыток р. Друць). Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Бабруйск—Гомель. 6 гаспадарак, 7 жыхароў (2004 г.).

Па пісьмовых крыніцах вядома з пач. 20 ст. як сяленне ў Рагачоўскім пав. Магілёўскай губ. У 1925 г. 11 двароў. У 1931 г. арганізаваны калгас імя К.Я.Варашылава, працавала кузня. Паводле перапісу 1959 г. 77 жыхароў. У складзе калгаса «Чырвоная Армія» (цэнтр — в. Востраў). Планіровачна складаецца з кароткай прамалінейнай мерыдыянальнай вуліцы. Забудавана драўлянымі сял. сядзібамі.

**КРЫНІЦЫ І ЛІТАРАТУРА**


Нацыянальны архіў Рэспублікі Беларусь, ф. 30, воп. 4, спр. 167; воп. 5, спр. 6755; ф. 42, воп. 2, спр. 2320, 2321, 2322, 2323, 2324, 2329, 2331, 2333, 2334, 2335, 2337, 2338, 2339, 2340, 2341, 2343, 2345, 2347, 2349, 2350, 2353, 2354, 2355, 2356, 2359, 2360, 2362, 2363, 2364, 4062, 4066, 4067, 4069, 4076, 4077, 4078, 4079, 4080, 4081, 4082, 4083; ф. 48, воп. 1, спр. 744, 2490; ф. 516, воп. 1, спр. 454, 1186; ф. 1297, воп. 1, спр. 18715; ф. 2151, воп. 1, спр. 159.

Нацыянальны гістарычны архіў Беларусі, ф. 146, воп. 2, спр. 226; ф. 201, воп. 1, спр. 81; ф. 225, воп. 1, спр. 30; ф. 333, воп. 9, спр. 48; ф. 694, воп. 2, спр. 2958; ф. 1245, воп. 1, спр. 1; ф. 1251, воп. 1, спр. 65, 159; ф. 1297, воп. 1, спр. 10436, 10446, 18715, 21390; ф. 2001, воп. 1, спр. 17, 81, 239, 389, 448, 490, 731, 908, 981, 1218, 1673; ф. 2151, воп. 1, спр. 65, 75, 84, 159, 161, 163, 164, 165, 167, 193; ф. 2189, воп. 1, спр. 262, 263; ф. 2254, воп. 1, спр. 14, 20, 48, 66; воп. 2, спр. 96; воп. 4, спр. 14; ф. 2367, воп. 1, спр. 1; ф. 2368, воп. 1, спр. 1; ф. 2436, воп. 1, спр. 1; ф. 2471, воп. 1, спр. 14; ф. 3363, воп. 1, спр. 438; ф. 3387, воп. 1, спр. 1.

Расійскі дзяржаўны гістарычны архіў, ф. 1290, воп. 2, спр. 1366; воп. 2, спр. 1366.

Военно-статистическое обозрение Российской империи. Т. 8. Ч. 3.

Могилевская губерния. СПб., 1848.

Без-Корнилович М.О. Исторические сведения о примечательнейших местах в Белоруссии с присовокуплением и других сведений, к ней же относящихся. СПб., 1855.

Памятная книжка Могилевской губернии на 1861 год. Могилев, 1861.

Городские поселения Российской империи. Т. 3. СПб., 1863.

Акты, относящиеся к истории Южной и Западной России. Т. 1. СПб., 1863.

Труды Минского губернского статистического комитета. Вып. 1. Мн., 1870.

Список землевладельцев Минской губернии за 1876 год. Мн., 1877.

Памятная книжка Минской епархии на 1878 год. Ч. 2. Мн., 1878.

Акты Виленской археографической комиссии. Т. 12. Вильна, 1883.

Обзор Могилевской губернии за 1883 год. Могилев, 1884.

Опыт описания Могилевской губернии. Кн. 1—3. Могилев, 1884.

Акты Виленской археографической комиссии. Т. 13. Вильна, 1886.

Волости и важнейшие селения Европейской России. Вып. 5. СПб., 1886.

Памятная книжка Могилевской дирекции народных училищ на 1889/90 учеб. год. Могилев, 1889.

Акты Виленской археографической комиссии. Т. 25. Вильна, 1889.

Волости и гмины. Ч. XXIII. Могилевская губерния. СПб., 1890.

Любавский М. Областное деление и местное управление Литовско-Русского государства ко времени издания первого Литовского Статута. М., 1892.

Историко-юридические материалы. Вып. 28. Витебск, 1900.

Памятная книжка Минской епархии на 1901 год. Мн., 1901.

Обзор Могилевской губернии за 1901 год. Могилев, 1902.

Вся Россия. СПб., 1902.
Историко-юридические материалы. Вып. 21. Витебск, 1903.
Довнар-Запольский М. Очерки по организации западно-русского крестьянства в XVI веке. Киев, 1905.
Россия. Полное географическое описание нашего Отечества. Т. 9. СПб., 1905.
Акты Виленской археографической комиссии. Т. 33. Вильна, 1908.
Историко-юридические материалы. Вып. 21. Витебск, 1908.
Обзор Могилевской губернии за 1907 год. Могилев, 1908.
Памятная книжка Могилевской дирекции народных училищ на 1907/08 учеб. год. Могилев, 1908.
Обзор Могилевской губернии за 1908 год. Могилев, 1909.
Акты Виленской археографической комиссии. Т. 35. Вильна, 1910.
Русская историческая библиотека. Т. 27. Литовская метрика. Отд. 1. Ч. 1.
Книга записей. Т. 1. СПб., 1910.
Список населенных мест Могилевской губернии. Могилев, 1910.
Обзор Могилевской губернии за 1910 год. Могилев, 1911.
Памятная книжка Могилевской губернии на 1911 год. Могилев, 1912.
Обзор Минской губернии за 1911 год. Мн., 1912.
Обзор Могилевской губернии за 1911 год. Могилев, 1912.
Акты Виленской археографической комиссии. Т. 38. Вильна, 1914.
Памятная книжка Могилевской губернии на 1914 год. Могилев, 1914.
Статистический обзор Могилевской губернии на 1914 год. Могилев, 1916.
Литовская метрика. Книга публичных дел. Петроград, 1915.
Литовская метрика. Т. 33. Ч. 3. Петроград, 1915.
Спіс прамысловых прадпрыемстваў БССР. Вып. 1—2. Мн., 1935.
Гісторыя Беларусі ў дакументах і матэрыялах. Т. 1. Мн., 1936.
Дакументы і матэрыялы па гісторыі Беларусі. Т. 2. Мн., 1940.
Документы и материалы по истории Белоруссии. Т. 3 (1900—1917 гг.). Мн., 1953.
Из истории установления советской власти в Белоруссии и образования БССР. Мн., 1954.
Трудящиеся Гомельщины в борьбе за власть Советов (1917—1920 гг.). Хроника событий. Гомель, 1958.
Белоруссия в эпоху феодализма. Т. 1. Мн., 1959.
Пад сцягам партыі. Гомель, 1959.
Полки идут на запад. М., 1964.
Болбас М.Ф. Развитие промышленности в Белоруссии (1795—1861 гг.). Мн., 1966.
В едином строю: Воспоминания участников партизанского движения в Белоруссии. 1941—1944. Мн., 1970.
Зуевич И. Райком в подполье. Мн., 1972.
Сборник законов Белорусской ССР. Т. 1. Мн., 1974.
Мелешко В.И. Очерки аграрной истории Восточной Белоруссии. Мн., 1975.
Белоруссия в эпоху капитализма. Т. 1. Мн., 1983.
Нацистская политика геноцида и «выжженной земли» в Белоруссии, 1941—1944. Мн., 1984.
Збор помнікаў гісторыі і культуры Беларусі: Гомельская вобл. Мн., 1985.
Белоруссия в эпоху капитализма. Т. 2. Мн., 1990.
Спиридонов М.Ф. Закрепощение крестьянства Беларуси (XV—XVI вв.). Мн., 1993.
Археалогія і нумізматыка: Энцыклапедыя. Мн., 1993.
Памяць: Гіст.-дак. хроніка Рагачоўскага раёна. Мн., 1994.
Литовская метрика (1553—1567). Кн. 7. Вильнюс, 1996.
З глыбіні вякоў: Наш край. Вып. 2. Мн., 1997.






Маштаб 1:450 000

1. Бугрымаўка
2. Маўчаны
3. п.Падроўнае
4. п.Калінін
5. п.Стражынскі
6. п.Краснаселле
7. п.Бярозаўка
8. п.Сокал
9. Яноўка
10. п.Вострай
11. п.Вясёлы
12. Казанаўка



# РЭЧЫЦКІ РАЁН

Размешчаны ў цэнтры Гомельскай вобл. Утвораны 8.12.1926 г. З 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. ў Гомельскай акрузе, з 20.2.1938 г. ў Гомельскай вобл. 16.9.1959 г. да раёна далучаны Бабіцкі, Васілевіцкі, Дуброўскі, Першамайскі сельсаветы і г.п. Васілевічы скасаванага Васілевіцкага р-на. На Пд мяжуе з Хойніцкім і Лоеўскім, на У — з Гомельскім, на Пн — з Буда-Кашалёўскім і Жлобінскім, на З — Светлагорскім і Калінкавіцкім р-намі. Цэнтр — г. Рэчыца. Уключае г. Васілевічы, г.п. Зарэчча, 184 населеныя пункты, Васілевіцкі гарадскі Савет, Зарэцкі пасялковы Савет, 20 сельсаветаў: Азершчынскі, Артукоўскі, Бабіцкі, Баршчоўскі, Белабалоцкі, Вышамірскі, Глыбаўскі, Дземяхоўскі, Дуброўскі, Жмураўскі, Заспенскі, Камсамольскі, Капараўскі, Караваціцкі, Ліскаўскі, Новабарсуцкі, Перасвятоўскі, Ровенскаслабодскі, Свірыдавіцкі, Холмецкі. Пл. 2723 км$^2$, насельніцтва 109,5 тыс. чал. (2004). Тэрыторыя раёна знаходзіцца ў межах Прыдняпроўскай нізіны Гомельскага Палесся. Рэльеф раўнінны, шмат балот. Найб. р. Дняпро з прытокамі Бярэзіна і Ведрыч з Днепрыкам. Каналы: Кербіцкі, Нізавы, Рэчыцкі (усе часткова), Ветхінскі, Перавалоцкі, Бонда і інш. Праходзіць чыгунка і аўтадарога Гомель—Калінкавічы, ад Васілевіч чыгунка на Хойнікі. Суднаходства па Дняпры і Бярэзіне. Карысныя выкапні: нафта і спадарожны гаручы газ (асн. раён здабычы на Беларусі), торф, пяскі, пясчана-жвіровы матэрыял, гліны і суглінкі. Працуюць нафтагазаздабываючае ўпраўленне «Рэчыцанафта», нафтаразведачная экспедыцыя глыбокага свідравання, прамысл. геафізічная экспедыцыя і інш. Глебы с.-г. угоддзяў дзярнова-падзолістыя, дзярнова-падзолістыя забалочаныя, дзярнова-балотныя, тарфяна-балотныя і алювіяльныя. 44,2% тэрыторыі займаюць лясы. Пад с.-г. ўгоддзямі 42,5% тэрыторыі. Асушана 40,5 тыс. га забалочаных зямель, у т.л. 19,9 га тарфянікаў. Сельская гаспадарка спецыялізуецца на малочна-мясной жывёлагадоўлі, ільнаводстве, вырошчванні збожжавых, кармавых і пладова-ягадных культур, бульбы, агародніны. Прадпрыемствы харчовай, першаснай апрацоўкі лёну, металаапрацоўчай прамысловасці, аблспажыўсаюза; Васілевіцкі і Рэчыцкі лясгасы, ААТ «Буравая кампанія «Дэльта» (свідравіны на ваду). У раёне 27 сярэдніх, 11 базавых, 5 пач., 4 муз., 2 спарт. школы, дзіцячая школа мастацтваў, школа-інтэрнат, 2 спецшколы, Дом дзіцячай творчасці, ПТВ, с.-г. тэхнікум, 32 дашкольныя ўстановы, 59 сельскіх дамоў культуры і клубаў, 56 бібліятэк, 6 бальніц, 44 фельч.-акушэрскія пункты, 3 са-

*Восень у Рэчыцы.*



наторыі-прафілакторыі, 175 магазінаў. Выдаецца газ. «Дняпровец».

**РЭЧЫЦА** — горад абл. падпарадкавання і чыг. станцыя на лініі Гомель—Калінкавічы, цэнтр Рэчыцкага р-на і саўгаса «10 гадоў Кастрычніка», за 50 км на З ад Гомеля, 278 км ад Мінска, на р. Дняпро, у якую на Пн упадае р. Ведрыч. Пл. 32 км$^2$. Аўтадарогамі звязана з Гомелем, Калінкавічамі, Светлагорскам, Жлобінам, Лоевам, Хойнікамі. Рачны порт на р. Дняпро. Насельніцтва 66,2 тыс. чал. (2004 г.).

Выяўленыя археолагамі ў гар. парку, на правым беразе р. Дняпро, гарадзішча ранняга жал. веку і эпохі Кіеўскай Русі (у 13 ст. тут быў дзядзінец) і паселішча эпохі мезаліту (на паўн.-усх. ускраіне горада) сведчаць пра засяленне гэтых мясцін з глыбокай старажытнасці. Па пісьмовых крыніцах вядома паводле Густынскага летапісу з 1213 г., паводле 1-га Наўгародскага — з 1214 г. як «чарнігаўскі» горад. У 1214 г. разгромлены наўгародскім кн. Мсціславам. У 1-й пал. 14 ст. далучана да ВКЛ. У 1387 г. кароль Ягайла выдаў свайму брату Скіргайлу прывілей на маёнтак Рэчыца, з 1392 г. ў валоданні вял. кн. ВКЛ Вітаўта. Упамінаецца ў 1457 г., а таксама ў грамаце польскага караля Казіміра IV Ягелончыка ад 5.5.1480 г. аб дазволе купцу Цярэшкавічу на бяспошлінны гандаль у гарадах ВКЛ. З памятнага запісу 1482 г. вядома, што «Рэчыцкае намесніцтва ўзяў Ковач». Пад 1503 г. упамінаецца ў дакументах аб спрэчных землях паміж Літвой і Маскоўскай дзяржавай. Цэнтр воласці, на тракце Бабруйск—Чарнігаў. Была звязана трактам і з Мазыром. У 1500 г. створаны Рэчыцкі пав., а Рэчыца стала яго цэнтрам (у Мінскім ваяв.). Пад 1508 г. упамінаецца ў перапісцы вял. кн. маскоўскага Васіля з каралём Жыгімонтам I Старым. Да 1569 г. падвяргаўся нападу крымскіх татараў. У 1511 г. кароль Жыгімонт I Стары, каб пазбегнуць дадатковых пабораў мясц. чыноўнікаў, даў права Рэчыцы ўносіць свае падаткі адразу ў казну, падцверджанае ў 1561 г. каралём Жыгімонтам II Аўгустам. Ва «Уставе на валокі» 1557 г. пазначана Рэчыцкая вол. З 1561 г. горад меў магдэбургскае права (няпоўнае). Пад 1578 і 1579 гг. ўпамінаецца ў актах Магілёўскага магістрата. Пад 1592 і 1600 гг. пазначана ў Баркулабаўскім летапісе. У 1634 г. мінскі ваявода А.Слушка засн. тут кляштар дамініканцаў. У снеж. 1595 г. пры падтрымцы мясц. жыхароў, абураных феадальным прыгнётам, захоплена казацкімі атрадамі С.Налівайкі. У 1648 г. горадам зноў авалодалі ўкр. казакі і бел. сяляне. Каля Рэчыцы былі разбіты харугвы пад камандаваннем пісара ВКЛ Валовіча. У 1649 г. Рэчыцай авалодаў Я.Радзівіл, аднак у наступным годзе горад апынуўся ў руках казацкага палк. М.Нябабы, які не змог яго ўтрымаць, быў разбіты і сам загінуў. Наколькі стратным для Рэчыцкага пав. былі ваен. дзеянні 1648—67 гг., сведчыць знішчэн-



*Будынак Рэчыцкага райвыканкома.*



*Свята-Успенскі сабор і касцёл Святой Тройцы ў г. Рэчыца.*





*Новы будынак раённай бібліятэкі ў г. Рэчыца.*

*Забудова вул. Фрунзе ў г. Рэчыца.*

не 58,2% дымоў і 60,8% насельніцтва. Горад разам з Оршай, Шкловам, Магілёвам, Старым Быхавам і Рагачовам уваходзіў у сістэму пагранічнай абароны па Дняпры. Паводле плана сярэдзіны 17 ст. ён меў 3 лініі абароны. На вале стаялі 14 прамавугольных у плане драўляных вежаў. Драўляна-земляныя ўмацаванні дапаўняліся 7 бастыёнападобнымі вежамі ў прыбярэжнай частцы горада. Трэцяя лінія складалася з комплексу бастыённай фартыфікацыі (11 бастыёнаў рознай канфігурацыі і памераў). У 1779 г. пабудавана Уваскрасенская царква (не захавалася). У 1795 г. ўзведзена драўляная царква св. Мікалая, у якой знаходзіўся абраз Маці Божай. Замак, гандл. плошча і культавыя збудаванні складалі цэнтр горада.

Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. 29.10.1796 г. атрымала статус павятовага горада і далучана да Чарнігаўскага намесніцтва, з 31.12.1796 г. ў Мінскай губ. У 1800 г. адкрыта нар. вучылішча. У пачатку ліп. 1812 г. ў сувязі з набліжэннем войск Напалеона ў Рэчыцу з Мінска былі перапраўлены грашовыя сродкі казны. У Рэчыцу пераехаў і губернатар, адкуль ён да вызвалення Мінска ажыццяўляў кіраванне незанятымі французамі паветамі — Рэчыцкім, Мазырскім і часткай Бабруйскага. У 1825 г. 325 двароў, 2440 жыхароў, 4 царквы, 12 піцейных дамоў. У 1841 г. купцам і мяшчанам, якія перасяляліся сюды з губерняў, даваліся льготы. У 1845 г. зацверджаны герб. У 1848 г. 445 двароў. У 1858 г. 4596 жыхароў, 4844 дзес. зямлі. У 1862 г. 2 мураваныя і 588 драўляных дамоў, 2 царквы, касцёл, сінагога, 4 яўр. малітоўныя дамы, 22 крамы; 2-класная жаночая царк.-прыходская школа. Праз Рэчыцу праходзіў тракт з Рагачова ў Чарнігаў, мелася паштовая станцыя (15 коней). Дзейнічала прыстань і паромная пераправа цераз Днепро, будаваліся невял. рачныя судны. Штогод па Дняпры адпраўлялася больш за 160 тыс. пудоў грузаў. У 1872 г. пабудавана мураваная Саборная Успенская царква. У ёй была даразахавальніца вагой 2 фунты і 24 залатнікі, дараваная наследнікам прастола Аляксандрам Аляксандравічам. У 1878 г. 6492 жыхары, 3 царквы (1 мураваная), касцёл, сінагога, павятовае і царк.-прыходскае вучылішчы, б-ца, аптэка. Шчыльнасць насельніцтва ў павеце складала 11 чал. на 1 кв. вярсту. Значна пашырыліся сувязі Рэчыцы з інш. гарадамі і мястэчкамі пасля адкрыцця ў 1881 г. паштова-

*Цэнтральная плошча ў г. Рэчыца.*



га тракту Гомель—Рэчыца. Мелася тэлеграфная сувязь з Мінскам. Апрача земляробства жыхары займаліся рыбалоўствам, сплавам лесу і лясных матэрыялаў, дробным гандлем. З уводам 15.2.1886 г. ў эксплуатацыю чыгункі Лунінец—Гомель пачала працаваць чыг. станцыя. Паводле перапісу 1897 г. 9280 жыхароў, у т.л. 640 рамеснікаў. Штогод праводзіліся 2 кірмашы, мелася паштова-тэлегр. кантора. У 1903 г. пабудаваны мураваны касцёл Прасвятой Тройцы. У 1904 г. 1414 жылых будынкаў, у т.л. 4 мураваныя, 70 газавых ліхтароў для асвятлення горада, 3 б-цы, аптэка. У пач. 20 ст. працавалі тыпалітаграфія, 2 лесапільні (20 і 23 рабочыя), аптэка, казённы вінны склад, кніжны магазін. У 1910 г., калі перавозіліся па Дняпры з Кіева-Пячэрскай лаўры мошчы Ефрасінні, кн. Полацкай у Полацкі Спаса-Ефрасіннеўскі жаночы манастыр, у Рэчыцы 25 і 26 красавіка ў мясц. Успенскім саборы праводзіўся доступ жыхароў да святых мошчаў. На беразе Дняпра ў сувязі з гэтай падзеяй быў пастаўлены драўляны крыж. У 1995 г. на гэтым месцы ўзведзена капліца святой Ефрасінні (па праекту Э.Агуновіча).

Вял. страты гораду наносілі пажары. 5.10.1908 г. згарэў лесапільны з-д, 14.10. 1908 г. — 2 крамы на гар. рынку. У 1914 г. дзейнічалі 8 прамысл. прадпрыемстваў, у т.л. запалкавая ф-ка «Дняпро» і 5 лесапільняў. Фабрыка мех. апрацоўкі драўніны вырабляла фанеру (у 1910 — 138 рабочых). У крас. 1917 г. быў створаны Рэчыцкі Савет рабочых і салдацкіх дэпутатаў. У крас.—жн. 1917 г. выдавалася штодзённая грамадска-палітычная газ. «Голос Полесья». У ліп. 1917 г. адбылася забастоўка на фанерным і лесапільным заводах. Рабочыя дабіліся выканання сваіх патрабаванняў. 14.11. 1917 г. Рэчыцкі савет, у які ўваходзілі прадстаўнікі Дудзіцкай, Круковіцкай, Аўцюцевіцкай і Юравіцкай валасцей, прыняў рашэнне аб пераходзе ўлады ў рукі Саветаў. У ліст. 1917 г. пачала выходзіць газ. «Известия Речицкого Совета». З лют. 1918 г. да 18.12. 1918 г. акупіравана герм. войскамі, з 8.5 да 29.6.1920 г. — войскамі Польшчы. Супраць акупантаў актыўна дзейнічаў мясц. партыз. атрад (больш 300 чал.). Перакінуўся ў Рэчыцу і стракапытаўскі мяцеж, які пачаўся 24.3.1919 г. Мяцежнікі захапілі Рэчыцу 26.3.1919 г., учынілі пагромы дзярж. устаноў, расстрэлы актывістаў. 29.3.1919 г. мяцеж быў падаўлены.

З 29.8.1919 г. ў Гомельскай губ. РСФСР. З 8.12.1926 г. ў складзе БССР, цэнтр Рэчыцкай акругі, з 9.6.1927 г. ў Гомельскай акрузе (да 26.7.1930), з 15.1. 1938 г. ў Гомельскай вобл. Насельніцтва горада складалася з прадстаўнікоў многіх нацыянальнасцей. Паводле перапісу



*Новы будынак аддзела ЗАГС у г. Рэчыца.*



*Помнік воінам-інтэрнацыяналістам у г. Рэчыца.*





*Вучэбны цэнтр рэспубліканскага унітарнага прадпрыемства «Вытворчае аб'яднанне «Беларуснафта» ў г. Рэчыца.*

*Капліца ў гонар св. Ефрасінні Полацкай.*

1926 г. 44,6% жыхароў горада — яўрэі. Хутка аднаўлялася гаспадарка. На працягу 1921 г. кожны тыдзень праводзіліся масавыя суботнікі. Набіралі тэмпы ў сваёй дзейнасці дарэвалюцыйныя прадпрыемствы, узнікалі новыя. У 1934 г. на поўную магутнасць працавалі цвіковавінтавы з-д (з 1908), запалкавая ф-ка і фанерны з-д (з 1909), фанерная ф-ка «Дняпро», лесазавод (з 1923), шпаларэзны з-д, тарная майстэрня, пладова-ягадны з-д, паравы млын, кузня (з 1932), рамонтная майстэрня, лакапалітурны з-д, электрастанцыя (з 1921), 2 цагельні (1915, 1918), друкарня (1919), паравы млын з ваўначоскай і маслабойняй (1916), металаапрацоўчая (з 1921), панчошна-вязальная, абутковая, кравецкая, бандарная, мэблевая, абручна-копшыкавая, каўбасная, сталярная, кравецкая майстэрні, хлебапякарня, маслазавод, верф, МТС і яе майстэрня. У 1933 г. засн. парк (10,4 га). Са снеж. 1934 г. да сак. 1937 г. ў Рэчыцы жыў выдатны ваен. дзеяч, будучы Маршал Сав. Саюза І.С.Конеў. У 1939 г. 29,8 тыс. жыхароў. У студз. 1940 — чэрв. 1941 г. дзейнічаў калгасна-саўгасны тэатр.

У Вял. Айч. вайну ў сувязі з рэальнай пагрозай акупацыі ў сав. тыл было вывезена шмат абсталявання, у т.л. дубільна-экстрактавы і дротава-цвіковы з-ды. У час абарончых баёў супраць ням. войск мужна змагаўся мясц. знішчальны батальён (844 чалавекі, кіраўнік Смоліч). З 23.8.1941 г. да 17.11.1943 г. акупіравана ням. войскамі. Паводле ваенна-адм. падзелу акупіраванай тэрыторыі ў складзе рэйхскамісарыята «Украіна». З жн. 1941 г. да ліст. 1943 г. дзейнічала патрыят. падполле (5 груп, 40 чалавек, кіраўнікі І.Дз.Усхопаў, Д.В.Мыткін, М.І. Жыленка, П.М.Маркаль). Акупанты стварылі канцэнтрацыйны лагер, у якім загубілі каля 3 тыс. чал. Апрача гэтага загублена больш за 1190 жыхароў (пахаваны ў магілах ахвяр фашызму на могілках па вул. Луначарскага і вул. Фрунзе, за 0,6 км і 1,5 км на Пн ад горада). У баях за вызваленне Рэчыцы загінулі 1455 воінаў і партызан (пахаваны ў брацкіх магілах па вул. Вакзальнай, у двары бальніцы № 1 і на брацкіх могілках па вул. Савецкай, у парку Перамогі, у парку санаторыя «Рэчыца»). У ліку пахаваных





*Святкаванне дня горада ў г. Рэчыца.*

*Святочнае шэсце ў г. Рэчыца.*

Героі Сав. Саюза К.І.Навумаў, І.К.Двадненка, А.В.Красікаў, Ф.А.Трыфанаў, Дз.Д.Валенцік. 22 вайск. часцям і злучэнням, якія вызначыліся пры вызваленні горада, было нададзена ганаровае найменне «Рэчыцкіх». 18.11.1943 г. ў гонар вызвалення Рэчыцы ў сталіцы Сав. Саюза Маскве адбыўся салют. 983 жыхары Рэчыцы загінулі на фронце. Былы камандуючы 65-й арміяй двойчы Герой Сав. Саюза П.І.Батаў з'яўляецца ганаровым грамадзянінам Рэчыцы.

Першы рэгулярны ген. план Рэчыцы створаны ў 1800 г. Ген. план 1968 г. (арх. А.Лебедзеў, Я.Казлоў, Е.Усцюгаў і інш.) захаваў старую планіроўку цэнтр. часткі горада, разбіў горад на 6 жылых раёнаў. Жылая забудова размешчана ўздоўж вуліц Савецкай, Леніна, Вакзальнай, Чапаева, Набярэжнай, Авіяцыйнай, Светлагорскай шашы, адм. будынкі — на пл. Кастрычніка. Мікраараёны 1—3 забудаваны шматпавярховымі дамамі, прамысл. прадпрыемствы — ва ўсх. і паўд. частках Рэчыцы.

Рэчыца — цэнтр нафтаздабываючага раёна, які ўключае Рэчыцкае (за 10 км на ПдЗ ад горада, адкрыта 17.10.1964), Асташкавіцкае, Давыдаўскае, Вішанскае, Цішкаўскае радовішчы нафты. У Рэчыцы размешчана значная частка ўстаноў «Беларусьнафты», будаўнічае ўпраўленне «Саюзгазпрамбуд», нафтаразведачная экспедыцыя глыбокага свідравання, прамысл. геафіз. экспедыцыя і інш. 29.4.1965 г. рэчыцкая нафта падключана да нафтаправода «Дружба». Асн. галіны прамысловасці: маш.-буд. і металаапрацоўчая, харчовая, хімічная, дрэваапрацоўчая, тэкстыльная, буд. матэрыялаў. Прадпрыемствы: метызны з-д (засн. ў 1912, з 1927 вядомы пад назвай Дзярж. камбінаванае дротава-цвікова прадпрыемства «Інтэрнацыянал», у 1945 аднавіў сваю дзейнасць, з 1959 працуе як метызны з-д), рачны порт, судна-

*Від на набярэжную ў г. Рэчыца.*

*Святкаванне дня Незалежнасці ў г. Рэчыца.*









*Будынак ліцэя ў г. Рэчыца.*

*Помнік-танк у парку Перамогі.*

будаўнічы-суднарамонтны з-д, будаўніча-мантажнае ўпраўленне «Беларусьнафта», млынкамбінат, кансервавы і садавіна-агародніінны з-ды, з-д «Рэчыцкая кераміка», вінзавод, хлебазавод, маслазавод, гідролізна-дрожджавы з-д, гарпрамкамбінат, вытворчае дрэваапрацоўчае аб'яднанне, ільнозавод, вытворчае ткацкае аб'яднанне, філіял Гомельскага швейнага аб'яднання «Камінтэрн», філіял Гомельскага абутковага аб'яднання «Праца», газаперапрацоўчы, керамікатрубны і жалезабетонных вырабаў з-ды, 88 малых прадпрыемстваў, лясгас, раённыя аб'яднанні «Сельгастэхніка» і «Сельгасхімія» і Прыдняпроўскае спецыялізаванае аддз. «Сельгастэхнікі», 15 магазінаў. Цэнтр саўгаса «10 гадоў Кастрычніка». Размешчаны педагагічны каледж, саўгас-тэхнікум, парк культуры і адпачынку, зоаветтэхнікум, ПТВ нафтавікоў, 11 сярэдніх школ, 9-гадовая і пач. школы, 4 школы-інтэрнаты, дзіцячая спарт. і 2 муз. школы, мастацкая школа, 27 дашкольных устаноў, Дом моладзі, 9 масавых б-к, 2 Дамы культуры, 4 клубы, 2 кінатэатры, 213 спарт. збудаванняў, 125 магазінаў, 4 б-цы, 2 палiклінікі, санаторый, аптэка, гіст.-краязнаўчы музей (адкрыты 5.11.1954), філіял дзярж. архіва Гомельскай вобл., 12 аддз. сувязі. У 1959 г. самадзейны тэатр, у 1963 г. ансамбль песні і танца «Дняпро» гар. Дома культуры, у 1967 г. ансамбль песні і танца фанерна-мэблевага камбіната ўдастоены звання народных. Працуюць мясц. радыёвяшчанне і студыя тэлебачання, выходзіць раённая газ. «Дняпровец» (з 1917). Радзіма юрыста, публіцыста, праф. Пецярбургскага ун-та У.Д.Спасовіча, бел. гісторыка, фалькларыста, этнографа і археолага, доктара гіст. навук, праф. М.В.Доўнар-Запольскага (у 1997 у Рэчыцы пастаўлены помнік), Героя Сав. Саюза У.Р.Масальскага (яго імя носіць адна з вуліц горада), поўнага кава-

*Помнік на брацкіх могілках савецкіх воінаў, партызан і падпольшчыкаў у г. Рэчыца.*

*Улюбёнае месца адпачынку гараджан.*









*Будынак Нафтагаза-здабыўнога ўпраўлення ў г. Рэчыца.*

*Добраўпарадкаванне тэрыторыі рэспубліканскага унітарнага прадпрыемства «Вытворчае аб'яднанне «Беларусьнафта» ў г. Рэчыца.*

лера ордэна Славы А.К.Васільева, ген.-м. артылерыі І.Я.Баброўнікава, аднаго з арганізатараў і кіраўнікоў камсамольска-маладзёжнага падполля і партыз. руху ў Пінскай вобл. ў Айчынную вайну, ген.-м. Э.Б.Нордмана, актыўнага ўдзельніка Вял. Айч. вайны П.І.Васільева (быў камісарам, а потым камандзірам партыз. атрада імя К.Я.Варашылава), засл. архітэктара Беларусі М.Н.Ліўшыца, бел. геадэзіста, праф. І.В.Зубрыцкага, нар. артыста СССР Я.З.Капеляна, засл. артыста БССР М.П.Красоўскага, бел. кампазітара Г.Д.Ермачэнкі, доктара гіст. навук, праф. М.І.Злотніка, доктара тэхн. навук, праф. М.П.Бірукова, доктара фізіка-матэм. навук Б.М.Бяркоўскага, бел. мастакоў Э.К.Агуновіча, Я.К.Іванешкі, С.М. Адамовіч, А.А.Агафоненкі, У.М.Капшая, І.Д.Дзмітрыевіча, В.М.Смаляка, Л.В.Хобатава, доктара с.-г. навук, праф. А.А.Атрошчанкі, засл. майстра спорту СССР па вольнай барацьбе С.М.Смоля, майстра спорту міжнар. класа па лёгкай атлетыцы А.П.Атрошчанкі, засл. работніка культуры Беларусі Я.А.Румакоўскага, засл. настаўніка Беларусі Т.М.Юрковай (Патапавай). Каля Рэчыцы ёсць залежы нафты і гліны.

**АБРАМАЎКА** — вёска ў Баршчоўскім с/с, за 27 км на У ад Рэчыцы, 7 км ад чыг. ст. Якімаўка (на лініі Калінкавічы—Гомель), 23 км ад Гомеля, побач аўтадарога Калінкавічы—Гомель, вакол лес. 36 гаспадарак, 66 жыхароў (2004 г.).

Паводле пісьмовых крыніц вядома з 19 ст. як сяленне ў Целяшоўскай вол. Рэчыцкага пав. Мінскай губ. У 1876 г. памешчык Гурыновіч меў тут 340 дзес. зямлі. У 1881 г. 8 двароў, 84 жыхары. У 1909 г. 19 двароў, 119 жыхароў. У 1926 г. 36 двароў, 224 жыхары, у Баршчоўскім с/с Дзятлавіцкага р-на Гомельскай акругі. У 1930 г. арганізаваны калгас. Паводле перапісу 1959 г. 201 жыхар. У складзе саўгаса «Баршчоўка» (цэнтр — в. Баршчоў-



*Рэчыцкі народны ансамбль «Дняпро».*

ка). Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ і забудаванай двухбакова драўлянымі сял. сядзібамі.

**АДАМАЎКА** — вёска ў Заспенскім с/с, за 16 км на Пд ад раённага цэнтра і чыг. ст. Рэчыца (на лініі Калінкавічы—Гомель), 66 км ад Гомеля, на У меліярацыйны канал. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Лоеў—Рэчыца. 18 гаспадарак, 23 жыхары (2004 г.).

Выяўленыя археолагамі і даследаваныя ў 1890 г. 19 курганоў 10—12 ст. (за 1,5 км на У ад вёскі) сведчаць пра засяленне тутэйшых мясцін з далёкай старажытнасці. Паводле пісьмовых крыніц вядома з 19 ст. як сяленне ў Заспенскай вол. Рэчыцкага пав. Мінскай губ. У 1834 г. — 11, у 1850 г. — 12 двароў. Пад 1879 г. пазначана як сяленне ў Свірыдавіцкім царк. прыходзе. Паводле перапісу 1897 г. 45 двароў, 243 жыхары, капліца, хлебазапасны магазін. У 1909 г. 422 жыхары. З 8.12.1926 г. да 30.12.1927 г. цэнтр Адамаўскага с/с Рэчыцкага р-на Рэчыцкай акругі. У 1931 г. арганізаваны калгас. 32 вяскоўцы загінулі на франтах Вял. Айч. вайны. Паводле перапісу 1959 г. 252 жыхары. У складзе калгаса «Савецкая Беларусь» (цэнтр — в. Заспа). Планіровачна складаецца з амаль прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ і забудаванай драўлянымі сял. сядзібамі.

**АЗЕРШЧЫНА** — вёска, цэнтр Азершчынскага с/с, за 4 км на ПнЗ да раённага цэнтра і чыг. ст. Рэчыца (на лініі Калінкавічы—Гомель), 54 км ад Гомеля, на паўд. ускраіне — р. Ведрыч (прыток р. Дняпро), на ўсх. — р. Дняпро, азёры Вялікае і Святое. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Светлагорск—Рэчыца. 1691 гаспадарка, 4707 жыхароў (2004 г.).

Выяўленае археолагамі паселішча каменнага веку (за 0,3 км на З ад вёскі) сведчыць пра засяленне тутэйшых мясцін з далёкай старажытнасці. Паводле пісьмовых крыніц вядома з пач. 18 ст. як сяленне ў Рэчыцкім пав. Мінскага ваяв., уласнасць казны. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1795 г. 31 двор. У 1850 г. 50 двароў, 437 жыхароў. Пад 1879 г. пазначана як сяленне ў Рэчыцкім царк. прыходзе. У 1885 г. 80 двароў, 626 жыхароў. Паводле перапісу 1897 г. 173 двары, 1139 жыхароў, царк.-прыходская школа, хлебазапасны магазін, карчма. 20 вяскоўцаў займаліся вырабам карзін, кашалёў і сетак для рыбнай лоўлі. У 1908 г. 242 двары, 1335 жыхароў, у Ровенскаслабодскай вол. Рэчыцкага пав. З лютага да 6.12. 1918 г. пад акупацыяй герм. войск. З 8.12.1926 г. цэнтр Азершчынскага с/с Рэчыцкага р-на Рэчыцкай, з 9.6.1927 г. Гомельскай акруг, з 20.2.1938 г. Гомельскай вобл. Каля вёскі ў 1929 г. пачалося будаўніцтва суднаверфі, пад якую адышла і тэрыторыя мясц. прыстані. У 1930 г. 313 двароў, 1512 жыхароў, школа, цагельня. У 1931 г. арганізаваны калгас. У 1938 г. створана машынна-трактарная станцыя. У Вял. Айч. вайну ў баях за вёску і наваколле загінулі 16 воінаў (пахаваны ў 2 брацкіх магілах на могілках). Вызвалена 17.11.1943 г. На франтах і ў партыз. барацьбе загінулі 234 вяскоўцы, памяць аб якіх увекавечвае Курган Славы, узведзены ў 1965 г. каля школы. Паводле перапісу 1959 г. 1671 жыхар. У 1962 г. да вёскі далучаны пасёлкі Гарадок і Пагарэлец. Цэнтр падсобнай гаспадаркі вучылішча механізацыі СПТВ-178. Размешчаны суднаверф, будаўніча-мантажнае ўпраўленне меліярацыі, вучэбная гаспадарка Рэчыцкага зооветтэхнікума, 2 сярэднія, муз. і коннаспарт. школы, 3 клубы, б-ка, цэнтр культуры, амбулаторыя, дзіцячыя сад-яслі, аптэка, 5 магазінаў, 3 сталовыя, 2 аддз. сувязі. Вялікую папулярнасць набыў не толькі ў Беларусі, але і далёка за яе межамі створаны ў 1936 г. Т.К.Лапацінай Азершчынскі нар. хор. Планіровачна складаецца з працяглай крывалінейнай вуліцы, блізкай да мерыдыянальнай





*М.Н.Ліўшыц.*

*У.Р.Масальскі.*

арыентацыі (уздоўж поймы р. Дняпро і азёр). На Пн — невял. адасоблены ўчастак забудовы. Жылыя дамы пераважна драўляныя сядзібнага тыпу. Радзіма чл.-кар. НАН Беларусі, доктара тэхн. навук, праф., лаўрэата Дзярж. прэміі СССР Г.П.Лапато, засл. дзеяча мастацтваў БССР Т.К.Лапацінай, засл. работніка культуры Беларусі Р.Я.Лазарэвіча.

У Азершчынскі с/с уваходзілі да 1930-х г. хут. Лясная Стража, пас. Пагарэлец, да 1962 г. — пас. Гарадок, да 1982 г. — пас. Барэц (не існуюць). Каля вёскі ёсць залежы гліны.



*Г.П.Лапато.*

**АКОЛІЦА** — пасёлак у Камсамольскім с/с, за 45 км на ПнЗ ад раённага цэнтра і чыг. ст. Рэчыца (на лініі Калінкавічы—Гомель), 95 км ад Гомеля. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Светлагорск—Рэчыца. 31 гаспадарка, 75 жыхароў (2004 г.).

Паводле пісьмовых крыніц вядома з 19 ст. як сяленне ў Рэчыцкім пав. Мінскай губ. У 1872 г. хутар. Тут і ў в. Кустоўніца памешчык Дзерангоўскі меў 50 дзес. зямлі. У 1930 г. пасялкоўцы аб'ядналіся ў калгас. У 1940 г. 18 двароў, 91 жыхар. У Вял. Айч. вайну ў чэрв. 1943 г. ням. акупанты поўнасцю спалілі пасёлак і загубілі жыхара. 5 вяскоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 73 жыхары. У складзе саўгаса «Камсамольскі» (цэнтр — в. Камсамольск). Планіровачна складаецца з кароткай прамалінейнай вуліцы, блізкай да мерыдыянальнай арыентацыі і забудаванай драўлянымі сял. сядзібамі.

**АКЦЯБР** (да 29.11.1962 Задзярэеўка) — пасёлак у Камсамольскім с/с, за 54 км на ПнЗ ад Рэчыцы, 25 км ад чыг. ст. Бабічы (на лініі Калінкавічы—Гомель), 104 км ад Гомеля. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Светлагорск—Рэчыца. 5 гаспадарак, 6 жыхароў (2004 г.).

Выяўленае археолагамі гарадзішча (за 1 км на ПнЗ ад пасёлка) сведчыць пра засяленне тутэйшых мясцін з далёкай старажытнасці. Паводле пісьмовых крыніц вядомы з пач. 19 ст. як сяленне ў Рэчыцкім пав. Мінскай губ. Упамінаецца пад 1828 г. як сяленне ў прыходзе Свядскай царквы. У 1850 г. 9 двароў. У 1930 г. 13 двароў, 66 жыхароў, 47 га зямлі. У 1932 г. арганізаваны калгас. У 1940 г. 29 двароў, 148 жыхароў. У Вял. Айч. вайну ў чэрв. 1943 г. ням. акупанты поўнасцю спалілі пасёлак і загубілі жыхара. 12 пасялкоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 179 жыхароў. У складзе саўгаса «Камсамольскі» (цэнтр — в. Камсамольск). Планіровачна складаецца з кароткай шыротнай вуліцы. Жылыя дамы драўляныя сядзібнага тыпу.

**АЛЯКСАНДРАЎКА** — вёска ў Баршчоўскім с/с, за 18 км на ПдУ ад Рэчыцы, 9 км ад чыг. ст. Якімаўка (на лініі Калінкавічы—Гомель), 35 км ад Гомеля, на р. Дняпро, на З і Пн меліярацыйныя каналы. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Калінкавічы—Гомель. 46 гаспадарак, 116 жыхароў (2004 г.).

Засн. ў пач. 20 ст. перасяленцамі з суседніх вёсак. У 1908 г. 10 двароў, 48 жыхароў, у Якімаваслабодскай вол. Рэчыцкага пав. Мінскай губ. У 1926 г. 33 двары, 176 жыхароў, паштовы пункт, у Гранаўскім с/с Дзятлавіцкага р-на Гомельскай акругі. У 1930 г. арганізаваны калгас «Іскра Ільіча», працаваў вятрак. У Вял. Айч. вайну 19 вяскоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 164 жыхары. У складзе саўгаса «Баршчоўка» (цэнтр — в. Баршчоўка). Размешчаны 9-гадовая школа, фельч.-акушэрскі пункт, аддз. сувязі. Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, блізкай да шыротнай арыентацыі, забудаванай драўлянымі сял. сядзібамі. У 1976 г. каля вёскі пабудавана база адпачынку нафтавікоў.

**АНДРЭЕЎКА** — вёска ў Ровенскаслабодскім с/с, за 22 км на Пд ад раённага цэнтра і чыг. ст. Рэчыца (на лініі Калінкавічы—Гомель), 72 км ад Гомеля, на аўтадарозе Хойнікі—Рэчыца. 65 гаспадарак, 108 жыхароў (2004 г.).

Паводле пісьмовых крыніц вядома з 19 ст. як сяленне ў Маладушскай вол. Рэчыцкага пав. Мінскай губ. У 1850 г. 29 двароў. Пад 1879 г. пазначана ў Свірыдавіцкім царк. прыходзе. Паводле перапісу 1897 г. 71 двор, 456 жыхароў, школа граматы, хлебазапасны магазін. У 1908 г. 93 двары, 576 жыхароў. З 8.12.1926 г. да 30.12.1927 г. цэнтр Андрэеўскага с/с. У 1930 г. 96 двароў. У карыстанні вяскоўцаў былі 675 га зямлі. У 1931 г. арганізаваны калгас «Калгасная праца», мелася кузня. У Вял. Айч. вайну дзейнічала падп. патрыят. група (кіраўнікі Рыгор Іванавіч Васілец і Рыгор Ісакавіч Васілец). 49 вяскоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 429 жыхароў. У складзе калгаса імя Ф.Э.Дзяржынскага (цэнтр — в. Ровенская Слабада). Размешчаны фельч.-акушэрскі пункт, клуб. Планіровачна складаецца з крыху скрыўленай шыротнай вуліцы, да якой з Пд далучаецца прамалінейная вуліца. Забудова двухбаковая, драўляная, сядзібнага тыпу.

У склад Андрэеўскага с/с у 1920-х г. уваходзілі хутары Блішчы і Велікаднішча, да сярэдзіны 1930-х г. хут. Дубоўскія (не існуюць).

**АНТОПАЛЬ** — пасёлак у Дземяхоўскім с/с, за 18 км на З ад Рэчыцы, 2 км ад чыг. ст. Дземяхі (на лініі Калінкавічы—Гомель), 68 км ад Гомеля, на р. Ведрыч (прыток р. Дняпро). Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Калінкавічы—Гомель. 22 гаспадаркі, 29 жыхароў (2004 г.).

Засн. ў 19 ст. як фальварак, гаспадар якога паручык Будзяноўскі ў 1876 г. меў тут 647 дзес. зямлі. У 1908 г. 18 жыхароў, у Ровенскаслабодскай вол. Рэчыцкага пав. Мінскай губ. У 1930 г. 23 двары, 114 жыхароў. У 1931 г. арганізаваны калгас. 6 пасялкоўцаў загінулі на франтах Вял. Айч. вайны. Паводле перапісу 1959 г. 140 жыхароў. У складзе саўгаса «Дземяхі» (цэнтр — в. Салтанова). Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, блізкай да шыротнай арыентацыі. Забудавана драўлянымі сял. сядзібамі. Каля пасёлка ёсць залежы жалезняку.

**АРОЛ** — пасёлак у Свірыдавіцкім с/с, за 19 км на Пд ад раённага цэнтра і чыг. ст. Рэчыца (на лініі Калінкавічы—Гомель), 69 км ад Гомеля. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Лоеў—Рэчыца. 22 гаспадаркі, 53 жыхары (2004 г.).

Засн. ў пач. 1920-х г., калі з в. Янаўка быў вылучаны пасёлак, у якім у 1930 г. былі 23 двары, 65 жыхароў, 281 га зямлі. У 1931 г. арганізаваны калгас. У Вял. Айч. вайну 14.11.1943 г. вызвалены ад ням. акупантаў. 23 пасялкоўцы загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 122 жыхары. У складзе калгаса імя С.М.Кірава (цэнтр — в. Свірыдавічы). Планіровачна складаецца з 2 паралельных паміж сабой кароткіх прамалінейных вуліц, арыентаваных з ПдЗ на ПнУ і забудаваных рэдка драўлянымі сял. сядзібамі.

**АРТУКІ** — вёска, цэнтр Артукоўскага с/с, за 27 км на ПдУ ад раённага цэнтра і чыг. ст. Рэчыца (на лініі Калінкавічы—Гомель), 60 км ад Гомеля. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Лоеў—Рэчыца. 143 гаспадаркі, 397 жыхароў (2004 г.).

Паводле пісьмовых крыніц вядома з 16 ст. як в. Арцюховічы Рэчыцкага пав. Мінскага ваяв. ВКЛ. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1795 г. 49 двароў. У 1850 г. 266 жыхароў, у валоданні графа Ракіцкага. Пад 1879 г. пазначана ў Холмецкім царк. прыходзе. У 1908 г. 106 двароў, 704 жыхары, у Холмецкай вол. Рэчыцкага пав. Мінскай губ. Працавала цагельня. З 8.12.1926 г. цэнтр Артукоўскага с/с Холмецкага, з 4.8.1927 г. Рэчыцкага р-наў Рэчыцкай, з 9.6.1927 г. да 26.7.1939 г. Гомельскай акругі, з 20.2.1938 г. Гомельскай вобл. У 1930 г. арганізаваны калгас «3-ці рашаючы», працавалі вятрак, кузня, школа, хата-чытальня. У 1939—40 гг. у вёску перасяліліся жыхары пасёлкаў Дабраволец, Дубіна, Залоўскі, Іванішча.

У Вял. Айч. вайну ў баях каля вёскі загінулі 120 воінаў і 2 партызаны (пахаваны ў брацкай магіле каля школы). 68 вяскоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 584 жыхары. Цэнтр калгаса «Чырвоны сцяг». Дзейнічаюць сярэдняя школа, Дом культуры, б-ка, фельч.-акушэрскі пункт, дзіцячы сад, аддз. сувязі. Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ, да якой з З далучаецца прамалінейная вуліца. Забудова двухбаковая, няшчыльная, пераважна драўляная сядзібнага тыпу. У апошняе 10-годдзе праведзена работа па добраўпарадкаванні вёскі.

У склад Артукоўскага с/с уваходзілі: да 1940 г. — пасёлкі Барок, Бярозаўка, Ветка, Вясёлы, Дабраволец, Дубавец, Дубіна, Валаўскі, Зялёны Май (Дзюрдзеў), Іванішча, Іскра, Лясок, Новы сад, да 1946 г. — пас. Дворышча, да 1969 г. — пас. Паўднёвы Колас (не існуюць).

**АСАВЕЦ** — вёска ў Перасвятоўскім с/с, за 11 км на ПдЗ ад раённага цэнтра і чыг. ст. Рэчыца (на лініі Калінкавічы—Гомель), 61 км ад Гомеля. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Васілевічы—Рэчыца. 1 гаспадарка, 1 жыхар (2004 г.).

Паводле пісьмовых крыніц вядома з 19 ст. як фальварак двараніна Любічанкоўскага, які меў тут у 1876 г. 261 дзес. зямлі. У 1908 г. 23 жыхары, у Ровенскаслабодскай вол. Рэчыцкага пав. Мінскай губ. У 1930 г. 24 двары, 139 жыхароў. У 1931 г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. 12 вяскоўцаў загінулі на франтах Вял. Айч. вайны. Паводле перапісу 1959 г. 128 жыхароў. У складзе саўгаса «10 гадоў Кастрычніка» (цэнтр — в. Перасвятое). Планіровачна складаецца з кароткай прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ і забудаванай рэдка драўлянымі сял. сядзібамі.

**АСАВОК** — вёска ў Ліскаўскім с/с, за 23 км на ПдЗ ад Рэчыцы, 6 км ад чыг. ст. Дземяхі (на лініі Калінкавічы—Гомель), 73 км ад Гомеля, на У — канава Цішкоўская, на З — р. Катынь (прыток р. Ведрыч). Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Калінкавічы—Гомель. 15 гаспадарак, 22 жыхары (2004 г.).

Засн. ў пач. 1920-х г. перасяленцамі з суседніх вёсак на былых памешчыцкіх землях. У 1929 г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. 14 вяскоўцаў загінулі на франтах Вял. Айч. вайны. Паводле перапісу 1959 г. 184 жыхары. У складзе калгаса «Новы шлях» (цэнтр — в. Ліскі). Планіровачна складаецца з крывалінейнай вуліцы, блізкай да мерыдыянальнай арыентацыі, на Пн — невял. адасоблены ўчастак забудовы. Жылыя дамы драўляныя сядзібнага тыпу.

**БАБІЧЫ** — вёска і чыг. станцыя (на лініі Калінкавічы—Гомель), цэнтр Бабіцкага с/с, за 28 км на ПдЗ ад Рэчыцы, 78 км ад Гомеля, на аўтадарозе Васілевічы—Рэчыца, на Пн і З меліярацыйныя каналы. 420 гаспадарак, 1154 жыхары (2004 г.).

Паводле пісьмовых крыніц вядома з пач. 16 ст. як сяло ў Рэчыцкім пав. Мінскага ваяв. ВКЛ. Пад 1503 г. упамінаецца ў матэрыялах аб канфліктах паміж



*Помнік землякам у в. Бабічы.*

Літвой і Маскоўскай дзяржавай. У 17 ст. ўпамінаецца пры апісанні войнаў Б.Хмяльніцкага. З'яўлялася вотчынай Аскеркаў, якія мелі тут свой умацаваны замак. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1795 г. 17 двароў, у валоданні графа Юдзіцкага. Мелася паштовая станцыя, праз вёску праходзіў тракт Бабруйск—Брагін. Пад 1825 г. пазначана ў Васілевіцкім царк. прыходзе. У 1858 г. мястэчка, 27 двароў, 244 жыхары, уласнасць казны. З уводам у эксплуатацыю 15.2. 1886 г. чыгункі Лунінец—Гомель пачаў працаваць чыг. паўстанак. Паводле перапісу 1897 г. 84 двары, 605 жыхароў, царк.-прыходская школа, хлебазапасны магазін, карчма, піўная крама, паштовае аддз. У 1908 г. ў вёсцы — 749 жыхароў, на чыг. станцыі — 4 двары, 28 жыхароў, на ферме — 7 жыхароў, у Васілевіцкай вол. Рэчыцкага пав. Мінскай губ. З 8.12.1926 г. цэнтр Бабіцкага с/с Васілевіцкага, з 4.8.1927 г. Рэчыцкага, з 20.2. 1938 г. Васілевіцкага, з 16.9.1959 г. Рэчыцкага р-наў Рэчыцкай, з 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. Гомельскай акруг, з 20.2.1938 г. Палескай, з 8.1.1954 г. Гомельскай абласцей. У 1930 г. арганізаваны калгасы «Чырвоны шлях» і «Парыжская Камуна», працавалі 2 кузні, 2 смалакурні, дрэваапрацоўчая майстэрня, паравы млын, школа, аддз. спажывецкай каапарацыі. У Вял. Айч. вайну дзейнічала патрыят. падполле (кіраўнік П.А.Астапенка). У баях за вызваленне вёсак Бабічы, Ліскі і Галоўкі загінулі 57 воінаў (пахаваны ў брацкай магіле ў цэнтры вёскі). У ліку пахаваных Герой Сав. Саюза М.Т.Маструкоў. На франтах і ў партыз. барацьбе загінулі 142 землякі, памяць аб якіх увекавечвае курган са скульптурай воіна на вяршыні, узведзены ў 1958 г. ў цэнтры вёскі. Паводле перапісу 1959 г. 2263 жыхары. Цэнтр саўгаса «Звязда». Працуюць лясніцтва Васілевіцкага лясгаса, сярэдняя школа, Дом культуры, б-ка, фельч.-акушэрскі пункт, дзіцячыя яслі-сад, аддз. сувязі, 7 магазінаў. Планіровачна складаецца з 2 крывалінейных працяглых вуліц мерыдыянальнай арыентацыі, злучаных кароткімі крывалінейнымі шыротнымі вуліцамі. На У паралельна да галоўных праходзіць крывалінейная мерыдыянальнай арыентацыі вуліца. Забудова пераважна драўляная сядзібнага тыпу. Радзіма чл.-кар. НАН Беларусі, акадэміка Акадэміі агр. навук Рэспублікі Беларусь, доктара с.-г. навук, праф. М.І.Смяяна, Героя Сац. Працы С.Дз.Фешчанкі.

У склад Бабіцкага с/с да канца 1930-х г. уваходзілі хутары Валасач, Васілеўшчына, Дварыцы, Дубавое, Лясная Стража, Нехарань, Падкоззе, Паляшына, Парня Жалязкога, Смалакурны Завод, пас. Выбедзі (не існуюць).

**БАБІЧЫ** — хутар у Бабіцкім с/с, за 40 км на ПдЗ ад Рэчыцы, 3 км ад чыг. ст. Бабічы (на лініі Калінкавічы—Гомель), 90 км ад Гомеля, на У меліярацыйныя каналы. Паблізу аўтадарога Васілевічы—Рэчыца. 14 гаспадарак, 25 жыхароў (2004 г.).

Засн. ў 2-й пал. 19 ст. як сяленне ў Васілевіцкай вол. Рэчыцкага пав. Мінскай губ. Паводле перапісу 1897 г. 13 двароў, 75 жыхароў, вятрак. У 1908 г. 15 двароў, 118 жыхароў. У 1932 г. арганізаваны калгас. Паводле перапісу 1959 г. 157 жыхароў. У складзе саўгаса «Звязда» (цэнтр — в. Бабічы). Планіровачна складаецца з кароткай дугападобнай вуліцы, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ, да якой з Пд далучаецца завулак. Забудова двухбаковая, драўляная, сядзібнага тыпу.

**БАБРЫ** — пасёлак у Баршчоўскім с/с, за 37 км на ПнУ ад Рэчыцы, 6 км ад чыг. ст. Якімаўка (на лініі Калінкавічы—Гомель), 47 км ад Гомеля, на Пд і У мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Калінкавічы—Гомель. 6 гаспадарак, 12 жыхароў (2004 г.).

Засн. ў пач. 1920-х г. перасяленцамі з в. Борхаў на былых памешчыцкіх землях. У 1929 г. арганізаваны калгас. Па-

водле перапісу 1959 г. 67 жыхароў. У складзе саўгаса «Баршчоўка» (цэнтр — в. Баршчоўка). Забудова драўляная, сядзібнага тыпу, каля прасёлачнай дарогі.

**БАГДАНАЎКА** — пасёлак у Капараўскім с/с, за 22 км на ПдЗ ад Рэчыцы, 9 км ад чыг. ст. Дземяхі (на лініі Калінкавічы—Гомель), 72 км ад Гомеля, на З меліярацыйны канал. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Калінкавічы—Гомель. 28 гаспадарак, 79 жыхароў (2004 г.).

Засн. ў 1920-х г. на былых памешчыцкіх землях перасяленцамі з суседніх вёсак. У 1930 г. 12 двароў, 79 жыхароў. У 1931 г. арганізаваны калгас. 12 пасялкоўцаў загінулі на франтах Вял. Айч. вайны. Паводле перапісу 1959 г. 53 жыхары. У складзе калгаса «Камунар» (цэнтр — в. Будка). Планіровачна складаецца з кароткай мерыдыянальнай вуліцы, забудаванай драўлянымі сядзібнымі дамамі.

**БАЛАШАЎКА** — вёска ў Камсамольскім с/с, за 30 км на ПнЗ ад раённага цэнтра і чыг. ст. Рэчыца (на лініі Калінкавічы—Гомель), 80 км ад Гомеля, на р. Крапівінка (прыток р. Бярэзіна). Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Светлагорск—Рэчыца. 15 гаспадарак, 18 жыхароў (2004 г.).

Засн. ў 2-й пал. 19 ст., у Горвальскай вол. Рэчыцкага пав. Мінскай губ. У 1885 г. хутар, дзе былі вінакурня і вятрак, у складзе маёнтка Горваль (валоданне Р.Ф.Менгдэна). Паводле перапісу 1897 г. 25 двароў, 201 жыхар. У 1908 г. 38 двароў, 222 жыхары. З 8.12.1926 г. да 1935 г. цэнтр Балашаўскага с/с. Дзейнічалі школа, хата-чытальня. У 1930 г. арганізаваны калгас, працавала кузня. У 1940 г. 41 двор, 203 жыхары. У Вял. Айч. вайну тут базіраваліся партызаны, пераважна атрада «За Радзіму». У чэрв. 1943 г. ням. карнікі поўнасцю спалілі вёску і загубілі 11 жыхароў. 30 вяскоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 185 жыхароў. У складзе саўгаса «Камсамольскі» (цэнтр — в. Камсамольск). Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ і забудаванай драўлянымі сял. сядзібамі.

**БАРАНАЎКА** — пасёлак у Камсамольскім с/с, за 31 км на ПнЗ ад раённага цэнтра і чыг. ст. Рэчыца (на лініі Калінкавічы—Гомель), 81 км ад Гомеля. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Светлагорск—Рэчыца. 4 гаспадаркі, 4 жыхары (2004 г.).

Засн. ў 1920-х г. на былых памешчыцкіх землях перасяленцамі з суседніх вёсак. У 1930 г. 9 двароў, 47 жыхароў. У 1931 г. арганізаваны калгас. У 1940 г. 12 двароў, 57 жыхароў. У Вял. Айч. вайну ў чэрв. 1943 г. ням. карнікі поўнасцю спалілі пасёлак. 3 пасялкоўцы загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 40 жыхароў. У складзе саўгаса «Камсамольскі» (цэнтр — в. Камсамольск). Забудова аднабаковая, жылыя дамы драўляныя сядзібнага тыпу.

**БАРБАРЫ** — пасёлак у Артукоўскім с/с, за 40 км на ПдУ ад раённага цэнтра і чыг. ст. Рэчыца (на лініі Калінкавічы—Гомель), 90 км ад Гомеля, на р. Брагінка (прыток р. Дняпро). Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Лоеў—Рэчыца. 12 гаспадарак, 20 жыхароў (2004 г.).

Засн. ў 1920-х г. на былых памешчыцкіх землях перасяленцамі з суседніх вёсак. У 1930 г. 14 двароў, 84 жыхары. У 1931 г. арганізаваны калгас. У 1940 г. 23 двары, 89 жыхароў. У Вял. Айч. вайну ў ліст. 1943 г. ням. карнікі спалілі 20 двароў і загубілі 4 жыхароў. Паводле перапісу 1959 г. 125 жыхароў. У складзе калгаса «Шлях да камунізму» (цэнтр — в. Пракісель). Планіровачна складаецца з плаўна выгнутай кароткай вуліцы, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ і забудаванай рэдка драўлянымі сял. сядзібамі.

**БАРШЧОЎКА** — вёска, цэнтр Баршчоўскага с/с, за 25 км на У ад Рэчыцы, 5 км ад чыг. ст. Якімаўка (на лініі Калінкавічы—Гомель), 25 км ад Гомеля, на аўтадарозе Калінкавічы—Гомель, на Пд, У і З мяжуе з лесам, праз вёску праходзіць

меліярацыйны канал. 235 гаспадарак, 735 жыхароў (2004 г.).

Выяўлены археолагамі курганны могільнік (65 насыпаў, за 1,5 км на У ад вёскі) сведчыць пра засяленне тутэйшых мясцін з глыбокай старажытнасці. Паводле пісьмовых крыніц вядома з 18 ст. як сяленне ў Беліцкім пав. Магілёўскай губ. Дзейнічала правасл. Спаса-Праабражэнская царква (у ёй захоўваліся метрычныя кнігі з 1803). У 1834 г. 36 двароў, у валоданні памешчыка Жудры. У 1860 г. мяшчанка Пятроўская мела ў вёсцы 142 дзес. зямлі. У 1872 г. на месцы старой пабудавана новая на мураваным фундаменце драўляная царква. У 1881 г. 635 жыхароў. Дзейнічала царк.-прыходская школа. Уваходзіла ў склад аднайменнага маёнтка, уладальніца якога дваранка Яленская мела ў 1876 г. 250 дзес. зямлі. Паводле перапісу 1897 г. сяло (161 двор, 1093 жыхары, царк.-прыходская школа, хлебазапасны магазін, 3 ветракі, крама, кузня, карчма) і фальварак (4 двары, 12 жыхароў, капліца), у Целяшоўскай вол. Гомельскага пав. Магілёўскай губ. У 1908 г. 192 двары, 1280 жыхароў, 1341 дзес. зямлі. Да 9.5.1923 г. цэнтр воласці. У 1926 г. 279 двароў, 1457 жыхароў, урачэбны і вет. пункты, крама, хата-чытальня, паравы млын, паштовы пункт, пач. школа. З 8.12.1926 г. цэнтр Дзятлавіцкага с/с, з 4.8.1927 г. Гомельскага, з 10.2.1931 г. Рэчыцкага р-наў Гомельскай акругі (да 26.7.1930), з 20.2. 1938 г. Гомельскай вобл. У 1930 г. арганізаваны калгас «Мудрэц», працавалі гантарэзна-клёпачны з-д, паравы млын, смалакурня, кузня. У Вял. Айч. вайну 19.8.1941 г. рэчыцкія апалчэнцы вялі тут цяжкі бой супраць гітлераўскіх захопнікаў, каб затрымаць прасоўванне ням. войск і даць магчымасць часцям 3-й арміі выйсці з акружэння. 7.2.1943 г. партызаны разграмілі ў вёсцы ням. гарнізон. У баях 11—12.11.1943 г. за вызваленне вёсак Баршчоўка і Капань загінулі 57 воінаў і 3 партызаны (пахаваны ў брацкай магіле ў цэнтры вёскі). 101 вясковец загінуў на фронце. У 1962 г. далучана в. Сямёнаўка. Цэнтр саўгаса «Баршчоўка». Размешчаны сярэдняя школа, Дом культуры, б-ка, дзіцячыя яслі-сад, фельч.-акушэрскі пункт, аддз. сувязі, сталовая, 2 магазіны, швейная майстэрня. Планіровачна складаецца з дзвюх падзеленых меліярацыйным каналам частак: паўн. (да прамалінейнай, амаль шыротнай арыентацыі вуліцы, каля аўтадарогі, далучаюцца з Пн 2 прамалінейныя вуліцы і з Пд — завулак) і паўдн. (крыху выгнутая вуліца, арыентаваная з ПдЗ на ПнУ, уздоўж меліярацыйнага канала). Забудова двухбаковая, няшчыльная, пераважна драўляная, сядзібнага тыпу. Вял. работа ў апошняе 10-годдзе праведзена па добраўпарадкаванні вёскі.

У склад Баршчоўскага с/с да сярэдзіны 1930-х г. уваходзілі вёскі Баравая, Гарадок, пас. Падкапенне, хут. Дварыцкае, да 1956 г. — пас. Гарадзішча, да 1962 г. — в. Сямёнаўка (не існуюць).

**БАРЭЦ** — пасёлак у Перасвятоўскім с/с, за 9 км на З ад раённага цэнтра і чыг. ст. Рэчыца (на лініі Калінкавічы—Гомель), 59 км ад Гомеля, на У канава Рабуска, на Пн чыгунка. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Калінкавічы—Гомель. 8 гаспадарак, 21 жыхар (2004 г.).

Засн. ў 1920-х г. перасяленцамі з суседніх вёсак на былых памешчыцкіх землях. У 1929 г. арганізаваны калгас. У 1940 г. 10 двароў, 47 жыхароў. У Вял. Айч. вайну ў ліп. 1943 г. ням. карнікі поўнасцю спалілі пасёлак. Вызвалены 16.11. 1943 г. У складзе саўгаса «10 гадоў Кастрычніка» (цэнтр — в. Перасвятое). Складаецца з кароткай мерыдыянальнай вуліцы. Забудавана драўлянымі сял. сядзібамі.

**БЕЛАЕ БАЛОТА** — вёска, цэнтр Белабалоцкага с/с, за 8 км на ПнУ ад Рэчыцы, 7 км ад чыг. ст. Сеназавод (на лініі Калінкавічы—Гомель), 50 км ад Гомеля, на У і Пн урочышча Белае Балота і сетка меліярацыйных каналаў, на Пд меліярацыйныя каналы і воз. Пагарэлец.

Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Калінкавічы—Гомель. 219 гаспадарак, 560 жыхароў (2004 г.).

Засн. ў пач. 1920 ст. перасяленцамі з суседніх вёсак. У 1929 г. арганізаваны калгас. 9 вяскоўцаў загінулі на франтах Вял. Айч. вайны. Паводле перапісу 1959 г. 631 жыхар. Цэнтр саўгаса «Рэчыца». Дзейнічаюць сярэдняя школа, Дом культуры, б-ка, дзіцячыя сад-яслі, фельч.-акушэрскі пункт, аддз. сувязі. Планіроўвачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, блізкай да шыротнай арыентацыі, да якой з Пд далучаюцца прамалінейная і кароткая крывалінейная вуліцы. Забудова няшчыльная, драўляная, сядзібнага тыпу. У 1986 г. пабудавана 50 мураваных дамоў катэджнага тыпу, у якіх размясціліся перасяленцы з забруджаных радыяцыяй месц у выніку Чарнобыльскай катастрофы.

У склад Белабалоцкага с/с уваходзілі да 1932 г. — в. Белае, да 1995 г. — в. Старaселле (не існуюць).

**БЕРАГАВАЯ СЛАБАДА** — вёска ў Глыбаўскім с/с, за 26 км на ПнЗ ад раённага цэнтра і чыг. ст. Рэчыца (на лініі Калінкавічы—Гомель), 76 км ад Гомеля, на р. Дняпро, у які на Пн упадае р. Бярэзіна. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Светлагорск—Рэчыца. 66 гаспадарак, 102 жыхары (2004 г.).

Выяўленыя археолагамі курганны могільнік (4 насыпы, за 0,5 км на ПнЗ ад вёскі) і паселішча 6—5 тыс. да н.э. (на зах. ускраіне) сведчаць пра засяленне тутэйшых мясцін з далёкай старажытнасці. Паводле пісьмовых крыніц вядома з 18 ст. як сяленне ва ўладанні Патоцкіх, потым Масальскіх. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1795 г. в. Берагавая, 30 двароў, у Рэчыцкім пав. У 1850 г. 34 двары, у складзе маёнтка Горваль. Ад прыстані рачныя судны адпраўляліся па Бярэзіне да Бабруйска, па Дняпры — да Магілева, Оршы, Кіева і Адэсы. Пад 1879 г. упамінаецца ў Горвальскім царк. прыходзе. Паводле перапісу 1897 г. 55 двароў, 271 жыхар, капліца, школа граматы, прыстань, крама, карчма. У 1908 г. 72 двары, 391 жыхар, у Горвальскай вол. 26.4.1910 г. вяскоўцы на беразе Дняпра сустракалі мошчы Прападобнай Ефрасінні, якія на параходзе «Галавачоў» перавозіліся з Кіева ў Полацк. У жн. 1918 г. ў час герм. акупацыі Горвальскі партыз. атрад вызваліў вёску і аднавіў сав. уладу. З 8.12.1926 г. да 30.12.1927 г. цэнтр Берагаслабодскага с/с Горвальскага р-на Рэчыцкай акругі. У 1930 г. арганізаваны калгас. У 1940 г. 103 двары, 461 жыхар. У Вял. Айч. вайну ў ліп. 1943 г. ням. карнікі поўнасцю спалілі вёску і загубілі 5 жыхароў. У вызваленні вёскі разам з сав. воінамі ўдзельнічалі партызаны брыгады Рэчыцкая імя К.Я.Варашылава. 45 вяскоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 416 жыхароў. У складзе саўгаса «Падалессе» (цэнтр — в. Мілаград). Дзейнічаюць б-ка, клуб. Планіроўвачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ (уздоўж ракі) і забудаванай двухбакова, няшчыльна драўлянымі сял. сядзібамі.

**БОРХАЎ** — вёска ў Азершчынскім с/с, за 12 км на ПнЗ ад раённага цэнтра і чыг. ст. Рэчыца (на лініі Калінкавічы—Гомель), 62 км ад Гомеля, на Пн р. Дняпро. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Светлагорск—Рагачоў. 2 гаспадаркі, 3 жыхары (2004 г.).

Паводле пісьмовых крыніц вядома з 19 ст. як сяленне ў Горвальскай вол. Рэчыцкага пав. Мінскай губ. У 1847 г. памешчык меў тут 9342 дзес. зямлі. Паводле перапісу 1897 г. 5 двароў, 42 жыхары. У 1908 г. 7 двароў, 79 жыхароў, у Горвальскай вол. Рэчыцкага пав. Мінскай губ. У 1930 г. 18 двароў, 89 жыхароў. У 1930 г. арганізаваны калгас. У 1940 г. 22 двары, 110 жыхароў. У Вял. Айч. вайну ў ліп. 1943 г. ням. карнікі поўнасцю спалілі вёску і загубілі 110 жыхароў. У баях каля вёскі загінулі 10 воінаў (пахаваны ў брацкай магіле каля школы). 10 вяскоўцаў загінулі на фронце. Паводле пе-

рапісу 1959 г. 55 жыхароў. У складзе саўгаса «Азершчына» (цэнтр — в. Азершчына). Жылыя дамы драўляныя сядзібнага тыпу.

**БОРХАЎ** — вёска ў Баршчоўскім с/с, за 36 км на ПнУ ад Рэчыцы, 7 км ад чыг. ст. Якімаўка (на лініі Калінкавічы—Гомель), 48 км ад Гомеля, вакол лес. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Калінкавічы—Гомель. 51 гаспадарка, 82 жыхары (2004 г.).

Выяўленае археолагамі гарадзішча 7—3 ст. да н.э. (за 3 км на Пд ад вёскі) сведчыць пра засяленне тутэйшых мясцін з далёкай старажытнасці. Паводле пісьмовых крыніц вядома з 15 ст. як сяленне ў Рэчыцкім пав. Мінскага ваяв. ВКЛ. У 1499 г. ўладальнік Гомельскай вол. С.І.Мажайскі перайшоў на бок Масквы, часова прыхапіўшы разам з іншымі і в. Борхаў. Упамінаецца ў матэрыялах 1526—27 гг. аб канфліктах паміж Літвой і Маскоўскай дзяржавай. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) у складзе Рас. імперыі. З 1880 г. дзейнічаў хлебазапасны магазін. У 1887 г. 108 двароў, 836 жыхароў, капліца, 3 ветракі, вадзяны млын. Паводле перапісу 1897 г. 192 двары, 1223 жыхары, школа граматы, вінная крама, кузня. Побач быў аднайменны фальварак. У 1909 г. 203 двары, 1170 жыхароў, прыёмны пакой, 1593 дзес. зямлі, у Целяшоўскай вол. Гомельскага пав. Магілёўскай губ. У 1926 г. 269 двароў, 1386 жыхароў, ва Уваравіцкім р-не Гомельскай акругі. З 8.12.1926 г. да 1987 г. цэнтр Борхаўскага с/с Уваравіцкага, з 6.10.1960 г. Рэчыцкага р-наў Гомельскай акругі (да 26.7.1930), з 20.2. 1938 г. Гомельскай вобл. Дзейнічалі пач. школа, крама, магазін. У 1931 г. арганізаваны калгас «Змагар пяцігодкі», працавалі гантарэзна-клёпачная майстэрня, вятрак, 2 кузні. Частка вяскоўцаў займалася падсочкай смалы. У Вял. Айч. вайну ў жн. 1941 — ліп. 1943 г. актыўна дзейнічала падп. патрыят. група, якая складалася ў асноўным з медыцынскіх работнікаў (кіраўнік М.Я.Доўгая). У ліп. 1943 г. ням. акупанты поўнасцю спалілі вёску і загубілі 99 жыхароў. 118 вяскоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 663 жыхары. У складзе саўгаса «Баршчоўка» (цэнтр — в. Баршчоўка). Дзейнічаюць лясніцтва, 8-гадовая школа, клуб, б-ка, фельч.-акушэрскі пункт, магазін, аддз. сувязі. Планіровачна складаецца з 2 крывалінейных вуліц, арыентаваных з ПдЗ на ПнУ, да цэнтра адной з якіх далучаецца кароткая прамалінейная вуліца. Забудова двухбаковая, няшчыльная, драўляная, сядзібнага тыпу.

У склад Борхаўскага с/с да 1981 г. ўваходзіў пас. Капцы (не існуе).

**БРОННАЕ** — вёска ў Жмураўскім с/с, за 8 км на Пд ад раённага цэнтра і чыг. ст. Рэчыца (на лініі Калінкавічы—Гомель), 58 км ад Гомеля, на аўтадарозе Лоеў—Рэчыца, на ўсх. ускраіне — р. Дняпро. 607 гаспадарак, 148 жыхароў (2004 г.).

Паводле пісьмовых крыніц вядома з 16 ст. як сяленне ў Рэчыцкім пав. Мінскага ваяв. ВКЛ, велікакняжацкая ўласнасць. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1795 г. 38 двароў. У 1850 г. 60 двароў, 494 жыхары, уласнасць казны. Пад 1879 г. пазначана ў Рэчыцкім царк. прыходзе. У 1885 г. 102 двары, 705 жыхароў, у Заспенскай вол. Рэчыцкага пав. Мінскай губ. Дзейнічала паромная пераправа цераз Дняпро. Паводле перапісу 1897 г. 161 двор, 1069 жыхароў, капліца, школа граматы, хлебазапасны магазін, 2 крамы. Апрача земляробства вяскоўцы займаліся вырабам колаў, абадоў, саней. У 1908 г. 193 двары, 1269 жыхароў. З 8.12.1926 г. да 30.12.1927 г. цэнтр Бронскага с/с Рэчыцкага р-на Рэчыцкай акругі. У 1930 г. 309 двароў, 1605 жыхароў. У валоданні вяскоўцаў было 1888 га зямлі. У пач. 1931 г. арганізаваны калгас «Чырвонае Дняпро», працаваў вятрак. 195 жыхароў загінулі на франтах Вял. Айч. вайны. Паводле перапісу 1959 г. 1708 жыхароў. Цэнтр калгаса «40 гадоў

Кастрычніка». Працуюць сярэдняя школа, б-ка, фельч.-акушэрскі пункт, дзіцячыя яслі-сад, аддз. сувязі. Планіровачна складаецца з 2 паралельных паміж сабой прамалінейных вуліц, арыентаваных з ПдУ на ПнЗ і перакрыжаваных 3 караткімі вуліцамі. На У да галоўных далучаецца кароткая прамалінейная вуліца мерыдыянальнай арыентацыі. Забудова двухбаковая, пераважна драўляная, сядзібнага тыпу.

**БУГРЫМАЎКА** — вёска ў Перасвятоўскім с/с, за 16 км на З ад Рэчыцы, 4 км ад чыг. ст. Дземяхі (на лініі Калінкавічы—Гомель), 66 км ад Гомеля. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Васілевічы—Рэчыца. 14 гаспадарак, 18 жыхароў (2004 г.).

Паводле пісьмовых крыніц вядома з 19 ст. як сяленне ў Ровенскаслабодскай вол. Рэчыцкага пав. Мінскай губ. Засн. сялянамі на купленых імі землях. Паводле перапісу 1897 г. 3 двары, 39 жыхароў, цагельня. У 1908 г. 6 двароў, 51 жыхар. У 1930 г. арганізаваны калгас, працавалі 2 ветракі і кузня. У Вял. Айч. вайну 5 вяскоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 96 жыхароў. У складзе саўгаса «10 гадоў Кастрычніка» (цэнтр — в. Перасвятое). Забудова драўляная, бессістэмная, сядзібнага тыпу.

**БУДКА** — вёска ў Капараўскім с/с, за 18 км на ПдЗ ад Рэчыцы, 6 км ад чыг. ст. Дземяхі (на лініі Калінкавічы—Гомель), 68 км ад Гомеля, побач аўтадарога Калінкавічы—Гомель, на зах. ускраіне канава Іўня-Бонда, на У меліярацыйныя каналы. 109 гаспадарак, 266 жыхароў (2004 г.).

Паводле пісьмовых крыніц вядома з 19 ст. як сяленне ў Ровенскаслабодскай вол. Рэчыцкага пав. Мінскай губ. Пад 1879 г. пазначана ў Салтаноўскім царк. прыходзе. Паводле перапісу 1897 г. 74 двары, 490 жыхароў. У 1908 г. 87 двароў, 579 жыхароў. З 8.12.1926 г. да 30.12.1927 г. цэнтр Будкаўскага с/с Рэчыцкага р-на Рэчыцкай, з 9.6.1927 г. Гомельскай акругі. У 1930 г. 92 двары. У 1931 г. арганізаваны калгас «Дабраволец», працавалі вятрак і кузня. 74 вяскоўцы загінулі на франтах Вял. Айч. вайны. Паводле перапісу 1959 г. 506 жыхароў. Цэнтр калгаса «Камунар». Дзейнічаюць пач. школа, Дом культуры, б-ка, дзіцячы сад, аддз. сувязі. Планіровачна складаецца з дугападобнай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ. Жылыя дамы драўляныя сядзібнага тыпу. Радзіма Героя Сац. Працы П.С.Гарбача.

**БУДКА-ШЫБЕНКА** — вёска ў Дземяхоўскім с/с, за 25 км на ПнЗ ад раённага цэнтра і чыг. ст. Рэчыца (на лініі Калінкавічы—Гомель), 75 км ад Гомеля, на р. Шыбенка (прыток р. Днепрык), побач аўтадарога Светлагорск—Рэчыца. 22 гаспадаркі, 28 жыхароў (2004 г.).

Паводле пісьмовых крыніц вядома з 19 ст. як сяленне ў Горвальскай вол. Рэчыцкага пав. Мінскай губ., у складзе маёнтка Горваль, ва ўладанні ген.-м. Г.Ф. Менгдэна. Апрача земляробства вяскоўцы займаліся бандарным промыслам. Паводле перапісу 1897 г. 17 двароў, 92 жыхары. У 1908 г. 25 двароў, 141 жыхар. У 1930 г. 40 двароў, 220 жыхароў. У 1931 г. арганізаваны калгас. У 1940 г. 71 двор, 350 жыхароў. У Вял. Айч. вайну ў вёсцы часта дыслацыраваліся партызаны, у т.л. штаб Рэчыцкай партыз. брыгады імя К.Я.Варашылава. У чэрв. 1943 г. ням. карнікі спалілі 70 двароў. 34 вяскоўцы загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 287 жыхароў. У складзе падсобнай гаспадаркі сельгастэхнікума (цэнтр — в. Воўчая Гара). Планіровачна складаецца з амаль прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ, якая на З паварочвае на Пн. Забудова драўляная, двухбаковая, сядзібнага тыпу.

**БУШАЎКА** — вёска ў Дуброўскім с/с, за 41 км на З ад Рэчыцы, 11 км ад чыг. ст. Бабічы (на лініі Калінкавічы—Гомель), 91 км ад Гомеля, на З меліярацыйны канал. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Светлагорск—Рэчыца. 17 гаспадарак, 26 жыхароў (2004 г.).

Засн. ў пач. 20 ст. перасяленцамі з суседніх вёсак. Найбольш актыўная забудова прыпадае на 1920-я г. У 1931 г. вяскоўцы ўступілі ў калгас, працавала кузня. У 1940 г. 64 двары, 354 жыхары. У Вял. Айч. вайну ням. акупанты 18.4.1943 г. спалілі жывымі ў калгасным клубе 80 вяскоўцаў і 2 жыхароў в. Елізаравічы (пахаваны ў магіле ахвяр фашызму ў цэнтры вёскі). Была поўнасцю спалена вёска. 14 вяскоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 169 жыхароў. У складзе калгаса «12 гадоў Кастрычніка» (цэнтр — в. Васількоў). Планіровачна складаецца з кароткай шыротнай вуліцы, забудаванай няшчыльна драўлянымі сял. сядзібамі.

**БЯЗУЕЎ** — вёска ў Ровенскаслабодскім с/с, за 10 км на Пд ад раённага цэнтра і чыг. ст. Рэчыца (на лініі Калінкавічы—Гомель), 60 км ад Гомеля, на У меліярацыйныя каналы. Побач аўтадарога Рэчыца—Хойнікі. 57 гаспадарак, 127 жыхароў (2004 г.).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 18 ст. як сяленне ў Рэчыцкай вол. Мінскага ваяв. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1795 г. 7 двароў, у 1850 г. — 15 двароў, 68 жыхароў, уласнасць казны, у Ровенскаслабодскай вол. Рэчыцкага пав. Мінскай губ. Пад 1879 г. пазначана ў Ровенскаслабодскім царк. прыходзе. Паводле перапісу 1897 г. 35 двароў, 234 жыхары. У 1908 г. 48 двароў, 328 жыхароў. З 8.12. 1926 г. да 16.7.1954 г. цэнтр Бязуеўскага с/с Рэчыцкага р-на Гомельскай (да 26.7.1930) акругі, з 20.2.1938 г. Гомельскай вобл. У 1930 г. 57 двароў, школа. У 1929 г. вяскоўцы ўступілі ў калгас, працавалі кузня і вятрак. У 1940 г. 70 двароў. У Вял. Айч. вайну ў жн. 1942 г. ням. карнікі спалілі 68 двароў і загубілі 45 жыхароў. Вызвалена 16.11.1943 г. 59 вяскоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 266 жыхароў. Працавалі цагельня, гантарэзка, цыркулярка. У складзе калгаса імя Ф.Э.Дзяржынскага (цэнтр — в. Ровенская Слабада). Дзейнічаюць фельч.-акушэрскі пункт, аддз. сувязі. Планіровачна складаецца з амаль прамалінейнай мерыдыянальнай вуліцы, забудаванай двухбакова драўлянымі сял. сядзібамі. Радзіма засл. настаўніка БССР Н.І.Сляпчук.

У склад Бязуеўскага с/с да сярэдзіны 1930-х г. уваходзілі хутары Ігар, Старая Унеча, Востраў (не існуюць).

**БЯРОЗАЎКА** — пасёлак у Ровенскаслабодскім с/с, за 19 км на Пд ад раённага цэнтра і чыг. ст. Рэчыца (на лініі Калінкавічы—Гомель), 69 км ад Гомеля, на Пд меліярацыйны канал. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Хойнікі—Рэчыца. 13 гаспадарак, 19 жыхароў (2004 г.).

Засн. ў пач. 20 ст. перасяленцамі з суседніх вёсак. У 1908 г. 2 двары, 7 жыхароў, у Маладушскай вол. Рэчыцкага пав. Мінскай губ. У 1930 г. пас. Бярозаўка № 1, 13 двароў, 74 жыхары. У 1931 г. арганізаваны калгас. У Вял. Айч. вайну вызвалены 14.11.1943 г. 6 пасялкоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 167 жыхароў. У складзе калгаса імя Ф.Э.Дзяржынскага (цэнтр — в. Ровенская Слабада).Планіровачна складаецца з прамалінейнай шыротнай вуліцы, забудаванай рэдка драўлянымі сял. сядзібамі. Каля пасёлка ёсць залежы гліны.

**ВАЗНЯСЕНСК** (да 21.5.1963 пасёлак імя Варашылава) — пасёлак у Артукоўскім с/с, за 28 км на Пд ад раённага цэнтра і чыг. ст. Рэчыца (на лініі Калінкавічы—Гомель), 78 км ад Гомеля, на Пд меліярацыйны канал. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Лоеў—Рэчыца. 7 гаспадарак, 10 жыхароў (2004 г.).

Засн. ў пач. 1920-х г. на былых памешчыцкіх землях перасяленцамі з суседніх вёсак. У 1930 г. 12 двароў, 85 жыхароў. У 1931 г. арганізаваны калгас. 8 пасялкоўцаў загінулі на франтах Вял. Айч. вайны. У складзе калгаса «Чырвоны сцяг» (цэнтр — в. Артукі). Планіровачна складаецца з кароткай прамалінейнай

шыротнай вуліцы, забудаванай драўлянымі сял. сядзібамі.

**ВАЛАДАРСК** (да 15.2.1935 Гавенавічы) — вёска ў Глыбаўскім с/с, за 21 км на ПнЗ ад раённага цэнтра і чыг. ст. Рэчыца (на лініі Калінкавічы—Гомель), 71 км ад Гомеля. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Светлагорск—Рэчыца. 42 гаспадаркі, 79 жыхароў (2004 г.).

Выяўленыя археолагамі гарадзішча 7—3 ст. да н.э. (за 2 км на Пд ад вёскі) і курганны могільнік (70 насыпаў, за 1,5 км на Пд ад вёскі, ва ўрочышчы Усобіна) сведчаць пра засяленне тутэйшых мясцін з далёкай старажытнасці. Па пісьмовых крыніцах вядома з 18 ст. як сяленне ў Рэчыцкім пав. Мінскага ваяв. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1795 г. 62 двары. У 1850 г. 89 двароў, у складзе маёнтка Горваль, ва ўладанні ген.-м. Г.Ф.Менгдэна, у Горвальскай вол. Рэчыцкага пав. Мінскай губ. Пад 1879 г. пазначана ў Горвальскім царк. прыходзе. Паводле перапісу 1897 г. 390 жыхароў, капліца, школа граматы, хлебазапасны магазін, карчма. У 1908 г. 563 жыхары. З 8.12.1926 г. да 16.7.1954 г. цэнтр Гавенавіцкага, з 15.2.1935 г. Валадарскага сельсаветаў Горвальскага, з 4.8.1927 г. Рэчыцкага р-наў Рэчыцкай, з 9.6.1927 г. Гомельскай (да 26.7.1930) акруг, з 20.2.1938 Гомельскай вобл. У 1930 г. 131 двор, 616 жыхароў, пач. школа, хата-чытальня, аддз. спажывецкай кааперацыі, машыннае таварыства. У 1931 г. арганізаваны калгас, працавала кузня. У Вял. Айч. вайну ў вёсцы і наваколлі часта базіраваліся партызаны. У ліп. 1943 г. ням. акупанты поўнасцю спалілі вёску і загубілі 12 жыхароў. У 1941—43 гг. у раёне вёсак Балашоўка, Валадарск, Святое загінулі 34 воіны і 14 партызан (пахаваны ў брацкай магіле на могілках). 125 вяскоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 494 жыхары. У складзе саўгаса «Падалессе» (цэнтр — в. Мілаград). Размешчаны фельч.-акушэрскі пункт і клуб. Планіровачна складаецца з 2 прамалінейных, паралельных паміж сабой вуліц шыротнай арыентацыі, на У злучаных завулкам, а на З да іх далучаецца мерыдыянальная вуліца. Забудова двухбаковая, няшчыльная, драўляная, сядзібнага тыпу. Радзіма поўнага кавалера ордэна Славы А.Я.Кастрамы. Каля вёскі ёсць залежы гліны.

**ВАСІЛЕВІЧЫ** — горад раённага падпарадкавання і чыг. станцыя (на ветцы Васілевічы—Хойнікі ад лініі Калінкавічы—Гомель), 54 км на З ад Рэчыцы, 86 км ад Гомеля, на Пн і У сетка меліярацыйных каналаў. Транспартныя сувязі па прасёлачных і аўтадарозе, якая звязвае горад з Рэчыцай і Калінкавічамі. 4,4 тыс. жыхароў (2004 г.).

Тэр. сучаснага горада была заселена яшчэ ў бронз. веку. Паводле падання, калодзежы, названыя «зоўжнымі» або «іоўжынамі», былі выкапаны па загаду кн. Вольгі, у час паходаў на драўлян. Па пісьмовых крыніцах вядомы з 15 ст. як вёска ў Мінскім ваяв. ВКЛ, шляхецкая ўласнасць. Як сведчыць Літоўскай метрыка, у 1466 г. вёска ў валоданні памешчыцы Івановай. Па рэвізіі Рэчыцкай вол. за 1560 г. 17 дымоў і 7 службаў. Праходзіў тракт Рэчыца—Мазыр. Некаторы час у валоданні Патоцкіх, потым Масальскіх. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1795 г. сяло, 57 двароў, у Рэчыцкім пав., уладанне графа Юдзіцкага. Дзейнічала Свята-Мікалаеўская царква (у ёй захоўваліся спавядальныя ведамасці з 1800 і метрычныя кнігі з 1822). У 1825 г. замест састарэлага пабудаваны новы драўляны будынак царквы. У 1847 г. 92 двары, 956 жыхароў. У 1866 г. адкрыта нар. вучылішча, дзейнічала таксама царк.-прыходская школа. У 1878 г. ў ваколіцы сяла, дзе залягае самы глыбокі на Палессі тарфянік, засн. метэаралагічная станцыя для вывучэння клімату Палесся. Апісваючы пасяленні Беларускага Палесся, А.К.Кіркор у выданні «Живописная Россия» заўважыў, што Васілевічы «ка-

зённая вёска... на мяжы непраходных балот, называемых Хмяльніцкімі». У 1885 г. 116 двароў, 1057 жыхароў. Забудова сяла значна павялічылася пасля пракладання чыг. Лунінец—Гомель і адкрыцця чыг. станцыі (15.2.1886). Цэнтр воласці, у склад якой у 1890 г. ўваходзілі 17 сяленняў з 1085 дварамі. Працавала паштова-тэлегр. кантора. Паводле перапісу 1897 г. 294 двары, 1704 жыхары, яўр. малітоўны дом, хлебазапасны магазін, 5 крам, 2 ветракі, 2 конныя млыны, 2 кузні, 2 карчмы. Побач аднайменны пасёлак (4 двары, 20 жыхароў). У 1904—13 гг. працаваў дрэваапрацоўчы з-д з паравым рухавіком, прадукцыя якога экспанавалася на Міжнароднай выстаўцы 1905 г. ў Бруселі і адзначана Вял. Залатым медалём. У 1909 г. ў сяле 460 двароў, 2564 жыхары, на чыг. станцыі 7 будынкаў, 31 жыхар. 23.9.1911 г. пачала дзейнічаць чыг. Васілевічы—Хойнікі. У 1914 г. дала першую прадукцыю фабрыка па вырабе шпуль. У пач. 1918 г. занята герм. войскамі. У жн. 1918 г. партызаны разграмілі ням. гарнізон, які размяшчаўся ў Васілевічах. Каля сяла 30.3. 1919 г. былі разгромлены стракапытаўскія фарміраванні, якія адступалі з Гомеля і спрабавалі прарвацца праз фронт у Польшчу. У пач. сак. 1920 г. мястэчка захоплена палякамі, вызвалена ў пач. чэрв. 1920 г. У выніку пагрому, які ўчыніла 16.4.1921 г. банда Галакі, загінулі 13 жыхароў. З 26.4.1919 г. цэнтр воласці Гомельскай губ. РСФСР. З 8.12.1926 г. ў складзе БССР. З 8.12.1926 г. да 4.8.1927 г. і з 20.2.1938 г. да 16.9.1959 г. цэнтр Васілевіцкага р-на. У 1927—38 гг. і з 1959 г. ў Рэчыцкім р-не. У 1925—27 гг. працаваў лясны тэхнікум (да гэтага размяшчаўся ў Гомелі, потым у Буда-Кашалёве). У 1929 г. арганізаваны калгас, працавалі торфазавод, 2 кузні, слясарня, паравы млын, цагельня, смалакурня, дрэваапрацоўчая майстэрня, 7-гадовая школа, хата-чытальня, аддз. спажывецкай кааперацыі, с.-г. крэдытнае таварыства, бальніца. У 1934 г. створана МТС. У Вял. Айч. вайну ў ліп. 1941 г. тут была сфарміравана кавалерыйская група пад кіраўніцтвам палк. А.І.Бацкалевіча, якая некаторы час вяла ваен. дзеянні ў тыле наступаючых ням. войск. З 24.8.1941 г. да ліст. 1943 г. дзейнічала патрыят. падполле (кіраўнікі Л.П.Курганская-Сакалова, Ц.М.Астапенка, А.І.Белы). Вясной 1942 г. налічвалася 5 падп. груп. Загінулі 32 падпольшчыкі (пахаваны ў брацкай магіле па вул. Камсамольскай, у скверы). Акупанты расстралялі 41 жыхара (пахаваны ў магіле ахвяр фашызму, за 2,5 км на З ад горада). Вызвалена 18.11.1943 г. часцямі 65-й арміі Бел. фронту. Разам з воінамі Сав. Арміі ў вызваленні Васілевіч удзельнічалі партызаны, сярод якіх камандзір кавалерыйскага эскадрона лейт. М.Т.Маструкоў (пасмяротна прысвоена званне Героя Сав. Саюза). 428 жыхароў загінулі на фронце. З 15.7.1935 г. мястэчка, з 29.4.1950 г.



*Помнік на могілках ахвяр фашызму ў г. Васілевічы.*

гарадскі пасёлак, з 19.11.1971 г. горад раённага падпарадкавання. Размешчаны мэблевая ф-ка, з-д масла і сухога малака, цагельня, хлебазавод, філіял Рэчыцкага камбіната быт. абслугоўвання, майстэрні па рамонце сельгастэхнікі, цэхі па вырабе безалкагольных напіткаў і каўбас, цэх прапітвання слупоў, лясгас, лесаўчастак Хойніцкага леспрамгаса. Дзейнічаюць сярэдняя і мастацкая школы, школа-інтэрнат, гідраметэастанцыя, 2 б-кі, Дом культуры, кінатэатр, Дом школьнікаў, б-ца і паліклініка, 2 дзіцячыя сады, аддз. сувязі. Планіровачна складаецца з кароткіх, шчыльна пастаўленых шыротных вуліц, звязаных 2 магістральнымі вуліцамі. Забудова мураваная і драўляная. Радзіма Героя Сац. Працы Е.А.Кухаравай, акадэміка НАН Беларусі, нар. пісьменніка Рэспублікі Беларусь, доктара філалагічных навук, праф., засл. дзеяча навукі БССР, лаўрэата Дзярж. прэміі БССР Т.П.Заранок, доктара філалагічных навук, літаратуразнаўцы і крытыка С.С.Лаўшука, доктара гіст. навук, праф. Х.Ю.Бейлькіна, праф., засл. работніка вышэйшай школы БССР У.Я.Навуменкі, засл. настаўнікаў Беларусі І.І.Міхалкі і Ю.І.Джасавай. Паблізу горада знаходзіцца радовішча торфу Васілевічы-2.



*С.С.Лаўшук.*

У склад Васілевіцкага с/с уваходзілі хутары: да сярэдзіны 1930-х г. — Будзішчы, Вязвінскі, Гарадзянка, Гардыянка, Глыбока, Града, Дварэцкі, Еўня, Закрашан, Залескі, Каланін, Кішынец, Кончэсь, Лужанка, Лысец, Лясная Стража (2 хутары), Мядзведка, Падніўкі, Перадзвінскі, Уласнюк, Япроўка, Корч, Ляды, да 1950-х г. — Асавок, Дуброва, Запечча, Капашын, Ключэеў, Кротава паляна, Нехарань, Пасуж, Печкі, Праход, Прыстань, Ратгалаў, Рубанікі, Скрывалка (не існуюць).



*Новы будынак чыгуначнага вакзала ў г. Васілевічы.*

**ВАСІЛЬКОЎ** — вёска ў Дуброўскім с/с, за 34 км на ПнЗ ад Рэчыцы, 10 км ад чыг. ст. Бабічы (на лініі Калінкавічы—Гомель), 85 км ад Гомеля. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Светлагорск—Рэчыца. 86 гаспадарак, 185 жыхароў (2004 г.).

Выяўлены археолагамі курганны могільнік (19 насыпаў, за 1 км на У ад вёскі) сведчыць пра засяленне тутэйшых мясцін з далёкай старажытнасці. Па пісьмовых крыніцах вядома з 16 ст. як сяленне ў Рэчыцкім пав. Мінскага ваяв. ВКЛ. Першае ўпамінанне адносіцца да 1523 г. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1795 г. 16 двароў. У 1850 г. 26 двароў, 113 жыхароў, у складзе маёнтка Горваль. Апрача земляробства вяскоўцы выконвалі шмат іншых работ для памешчыка — пілавалі лес, выраблялі драўнінны вугаль, збіралі смалу, гналі дзёгаць, рамантавалі палац і гаспадарчыя будынкі. Пад 1879 г. пазначана ў Кукуевіцкім царк. прыходзе. Паводле перапісу 1897 г. в. Васількоў (яна ж Паліванава Слабада), 32 двары, 200 жыхароў. У 1908 г. 48 двароў, 275 жыхароў, у Горвальскай вол. Рэчыцкага пав. Мінскай губ. З 8.12.1926 г. цэнтр Васількоўскага с/с Горвальскага, з 4.8.1927 г. Рэчыцкага р-наў Рэчыцкай акругі. Дзейнічалі школа, аддз. спажывецкай кааперацыі. У 1930 г. арганізаваны калгас «XIII Кастрычнік», працавалі кузня і паравы млын. У 1940 г. 133 двары, 545 жыхароў. У Вял. Айч. вайну ў чэрв. 1943 г. ням. акупанты поўнасцю спалілі вёску і загубілі 29 жыхароў. 66 вяскоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 402 жыхары. Цэнтр калгаса «12 гадоў Кастрычніка». Працуюць пач. школа, клуб, б-ка, магазін, аддз. сувязі. Планіровачна складаецца з кры-

валінейнай вуліцы, блізкай да шыротнай арыентацыі, да цэнтра якой з Пн далучаюцца працяглая крывалінейная і 2 кароткія прамалінейныя вуліцы. Забудова двухбаковая, драўляная, сядзібнага тыпу.

**ВАСТОК** — пасёлак у Свірыдавіцкім с/с, за 17 км на Пд ад раённага цэнтра і чыг. ст. Рэчыца (на лініі Калінкавічы—Гомель), 67 км ад Гомеля. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Лоеў—Рэчыца. 39 гаспадарак, 124 жыхары (2004 г.).

Засн. ў пач. 1920-х г. на былых памешчыцкіх землях перасяленцамі з суседніх вёсак. У 1930 г. 20 двароў, 97 жыхароў. У 1931 г. арганізаваны калгас. Паводле перапісу 1959 г. 161 жыхар. У складзе калгаса імя С.М.Кірава (цэнтр — в. Свірыдавічы). Планіровачна складаецца з дугападобнай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ і забудаванай драўлянымі сял. сядзібамі.

**ВЕДРЫЧ** — вёска ў падпарадкаванні Васілевіцкага гарсавета, за 54 км на З ад Рэчыцы, 5 км ад чыг. ст. Васілевічы (на лініі Калінкавічы—Гомель), 104 км ад Гомеля, на р. Ведрыч (прыток р. Дняпро), на Пд і З меліярацыйныя каналы. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Васілевічы—Рэчыца. 358 гаспадарак, 960 жыхароў (2004 г.).

Засн. ў 1920 г., калі польскія войскі спалілі в. Васілевічы і некаторыя з яе жыхароў (5 сямей) вырашылі асвоіць за 6 км ад Васілевіч невял. пясочную граду сярод балот. Паступова хутаране і моладзь, што прыехала сюды па закліку маладзёжных арганізацый, вялі асушэнне балот. Урадлівай зямлі станавілася больш. 1.12.1930 г. пастановай СНК БССР быў створаны саўгас «Ведрыч». Яго дзейнасць і развіццё спрыялі інтэнсіўнаму росту вёскі. У 1932 г. саўгас ператвораны ў лугавую гаспадарку, галоўнай задачай якой з'яўлялася нарыхтоўка сена для патрэб Чырв. Арміі. Узводзіліся жылыя, гаспадарчыя і сац.-культурнага прызначэння будынкі. У Вял. Айч. вайну ням. акупанты стварылі ў вёсцы буйны гарнізон, які партызаны разграмілі 23.8.1943 г. Адразу пасля вызвалення ў вёсцы размясціліся армейскія курсы малодшых лейтэнантаў. Сярод курсантаў было 18 Герояў Сав. Саюза. 52 вяскоўцы загінулі на фронце. У 1944 г. створана Ведрыцкае міжгаспадарчае ўпраўленне асушальных сістэм. У 1970 г. 411 двароў, 1395 жыхароў. Цэнтр племзавода «Ведрыч». Працуюць сярэдняя школа, Дом культуры, б-ка, фельч.-акушэрскі пункт, дзіцячыя яслі-сад, камбінат быт. абслугоўвання, сталовая, 2 магазіны, аддз. сувязі. Планіровачна складаецца з 5 амаль паралельных паміж сабой шыротных вуліц, злучаных кароткімі вуліцамі і завулкамі. Падзелена на 3 асн. зоны. У цэнтры — адм. будынкі, Палац культуры, школа, гасцініца, дзіцячы сад, кафэ, сталовая; паблізу парк. Жылую зону складаюць драўляныя і мураваныя 2- і 3-павярховыя будынкі. Вытворчая зона вынесена за межы вёскі і ўключае 2 фермы, рамонтна-мех. майстэрні, зернясховішча, нафтабазу. Вял. работа ў апошняе 10-годдзе праведзена па добраўпарадкаванні вёскі. Радзіма Героя Сац. Працы К.А.Мятлушкі.



*Т.П.Заранок.*

**ВІШНЁЎКА** — пасёлак у Свірыдавіцкім с/с, за 19 км на Пд ад раённага цэнтра і чыг. ст. Рэчыца (на лініі Калінкавічы—Гомель), 69 км ад Гомеля. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Хойнікі—Рэчыца. 7 гаспадарак, 9 жыхароў (2004 г.).

Засн. ў пач. 20 ст. перасяленцамі з суседніх вёсак. Найбольш актыўная забудова прыпадае на 1920-я г. У 1930 г. 20 двароў, 100 жыхароў. У 1931 г. пасялкоўцы ўступілі ў калгас. У 1940 г. 25 двароў, 98 жыхароў. У Вял. Айч. вайну ў ліст. 1943 г. ням. акупанты поўнасцю спалілі вёску. У баях каля вёскі ў ліст. 1943 г. загінулі 466 воінаў (пахаваны ў брацкай магіле на паўд. ускраіне). 5 пасялкоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 111 жыхароў. У складзе калгаса

імя С.М.Кірава (цэнтр — в. Свірыдавічы). Планіровачна складаецца з крывалінейнай шыротнай вуліцы, забудаванай рэдка драўлянымі сял. сядзібамі.

**ВОЛІН** — вёска ў Заспенскім с/с, за 20 км на ПдУ ад раённага цэнтра і чыг. ст. Рэчыца (на лініі Калінкавічы—Гомель), 70 км ад Гомеля, на У — р. Дняпро, на Пн меліярацыйныя каналы. Побач аўтадарога Лоеў—Рэчыца. 51 гаспадарка, 127 жыхароў (2004 г.).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 19 ст. як сяленне ў Холмецкай вол. Рэчыцкага пав. Мінскай губ. У 1850 г. 30 двароў, 162 жыхары, ва ўладанні графа Ракіцкага. Пад 1879 г. пазначана ў Холмецкім царк. прыходзе. Паводле перапісу 1897 г. 42 двары, 328 жыхароў, хлебазапасны магазін. У 1908 г. 58 двароў, 360 жыхароў. У 1930 г. 98 двароў, 509 жыхароў, 539 га зямлі. У 1930 г. арганізаваны калгас «Чырвонае Дняпро», працаваў вятрак. 42 вяскоўцы загінулі на франтах Вял. Айч. вайны. Паводле перапісу 1959 г. 299 жыхароў. У складзе калгаса «50 гадоў Кастрычніка» (цэнтр — в. Левашы). Планіровачна складаецца з дугападобнай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ і забудаванай рэдка драўлянымі сял. сядзібамі.

**ВОСАЎ** — вёска ў Дуброўскім с/с, за 45 км на ПнЗ ад Рэчыцы, 20 км ад чыг. ст. Васілевічы (на лініі Калінкавічы—Гомель), 95 км ад Гомеля, на Пд урочышча Хадыншчына. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Светлагорск—Рэчыца. 73 гаспадаркі, 183 жыхары (2004 г.).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 18 ст. як вёска ў Рэчыцкім пав. Мінскага ваяв. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1811 г. ўладанне Ракіцкіх. У 1930 г. арганізаваны калгас імя А.Р.Чарвякова, працавалі кузня і паравы млын. У 1939 г. далучаны суседнія вёскі Бежкаў, Стража. У 1940 г. 105 двароў, 481 жыхар. У Вял. Айч. вайну ў чэрв. 1943 г. ням. акупанты спалілі 103 двары і загубілі 8 жыхароў. 57 вяскоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 483 жыхары. У складзе калгаса «Шлях Леніна» (цэнтр — в. Заходы). Планіровачна складаецца з прамалінейнай мерыдыянальнай вуліцы, адасоблена ад якой на Пн праходзіць кароткая шыротная вуліца і размяшчаецца невял. ўчастак забудовы. Жылыя дамы драўляныя сядзібнага тыпу.

**ВОСТРАЎ** — пасёлак у Баршчоўскім с/с, за 14 км на ПдУ ад Рэчыцы, 12 км ад чыг. ст. Якімаўка (на лініі Калінкавічы—Гомель), 35 км ад Гомеля, на З сетка меліярацыйных каналаў. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Калінкавічы—Гомель. 23 гаспадаркі, 38 жыхароў (2004 г.).

Засн. ў 1920-х г. перасяленцамі з суседніх вёсак на былых памешчыцкіх землях. У 1931 г. пасялкоўцы ўступілі ў калгас. 19 пасялкоўцаў загінулі на франтах Вял. Айч. вайны. Паводле перапісу 1959 г. 180 жыхароў. У складзе саўгаса «Баршчоўка» (цэнтр — в. Баршчоўка). Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ і забудаванай рэдка драўлянымі сядзібамі.

**ВОСТРАЎ** — пасёлак у Свірыдавіцкім с/с, за 19 км на Пд ад раённага цэнтра і чыг. ст. Рэчыца (на лініі Калінкавічы—Гомель), 69 км ад Гомеля. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Лоеў—Рэчыца. 1 гаспадарка, 2 жыхары (2004 г.).

Засн. ў 1920-х г. перасяленцамі з суседніх вёсак на былых памешчыцкіх землях. У 1930 г. 13 двароў, 65 жыхароў. У карыстанні пасялкоўцаў былі 93 га зямлі. У 1931 г. арганізаваны калгас. У Вял. Айч. вайну 3 вяскоўцы загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 70 жыхароў. У складзе калгаса імя С.М.Кірава (цэнтр — в. Свірыдавічы). Жылыя дамы драўляныя сядзібнага тыпу, пастаўлены рэдка.

**ВОЎЧАЯ ГАРА** — вёска ў Жмураўскім с/с, за 9 км на Пд ад раённага цэнтра і чыг. ст. Рэчыца (на лініі Калінкавічы—Гомель), 59 км ад Гомеля, побач аў-

тадарога Калінкавічы—Гомель, на Пн меліярацыйны канал. 71 гаспадарка, 134 жыхары (2004 г.).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 19 ст. як сяленне ў Ровенскаслабодскай вол. Рэчыцкага пав. Мінскай губ. Пад 1879 г. пазначана ў Ровенскаслабодскім царк. прыходзе. Паводле перапісу 1897 г. 33 двары, 160 жыхароў. У 1908 г. 42 двары, 171 жыхар. 8.5.1920 г. паблізу вёскі вялі цяжкі 4-гадзінны бой супраць палякаў байцы 57-й дывізіі і Рэчыцкага пралетарскага батальёна. Большасць байцоў батальёна загінула (пахаваны ў брацкай магіле на могілках). У 1930 г. 60 двароў. У 1931 г. арганізаваны калгас. 27 вяскоўцаў загінулі на франтах Вял. Айч. вайны. Паводле перапісу 1959 г. 310 жыхароў. Цэнтр падсобнай гаспадаркі «Дземяхі» Рэчыцкага сельгастэхнікума». Працуе пач. школа. Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы з завулкам, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ, да якой на Пн далучаецца кароткая прамалінейная вуліца. Забудова двухбаковая, драўляная, сядзібнага тыпу.

**ВУЗНАЖ** — вёска ў Камсамольскім с/с, за 37 км на ПнЗ ад Рэчыцы, 21 км ад чыг. ст. Бабічы (на лініі Калінкавічы—Гомель), 87 км ад Гомеля, побач аўтадарога Светлагорск—Рэчыца, на Пн урочышча Высокая Гара. 120 гаспадарак, 215 жыхароў (2004 г.).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 18 ст. як вёска ў Рэчыцкім пав. Мінскага ваяв. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1795 г. — 20, у 1850 г. — 34 двары. Пад 1879 г. пазначана ў Сведскім царк. прыходзе. Паводле перапісу 1897 г. 42 двары, 305 жыхароў, школа граматы. У 1909 г. 60 двароў, у Горвальскай вол. Рэчыцкага пав. Мінскай губ. З 8.12.1926 г. да 16.7.1954 г. цэнтр Вузнажскага с/с Горвальскага, з 4.8.1927 г. Рэчыцкага, з 20.2.1938 г. Васілевіцкага р-наў Рэчыцкай, з 9.6.1927 г. Гомельскай (да 26.7. 1930) акруг, з 20.2.1938 г. Палескай, з 8.1.1954 г. Гомельскай абласцей. У 1930 г. 136 двароў, 663 жыхары. У карыстанні вяскоўцаў было 726 га зямлі. У 1930 г. арганізаваны калгас «Бальшавік», працавалі кузня, смалакурня, спірта-парашковы і дзягцярны з-ды, пач. школа, аддз. спажывецкай кааперацыі. У 1940 г. 153 двары, 708 жыхароў. У Вял. Айч. вайну ням. акупанты стварылі ў вёсцы свой апорны пункт, які 12.10.1943 г. быў разгромлены партызанамі. 15.7.1942 г. ням. карнікі загубілі 13 жыхароў (пахаваны ў магіле ахвяр фашызму на У ад вёскі, у лесе) і спалілі вёску. 13.6.1943 г. ў раёне вёскі партызаны ўвесь дзень вялі бой супраць карнікаў і нанеслі ім вялікія страты. У чэрв. 1943 г. акупанты другі раз поўнасцю спалілі вёску і загубілі 20 жыхароў. 133 вяскоўцы загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 708 жыхароў. У складзе саўгаса «Камсамольскі» (цэнтр — в. Камсамольск). Дзейнічаюць 9-гадовая школа, б-ка, фельч.-акушэрскі пункт, аддз. сувязі, клуб. Планіровачна складаецца з працяглай выгнутай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ і забудаванай двухбакова драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**ВЫШАМІР** — вёска, цэнтр Вышамірскага с/с, за 50 км на Пд ад раённага цэнтра і чыг. ст. Рэчыца (на лініі Калінкавічы—Гомель), 90 км ад Гомеля. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Хойнікі—Рэчыца. 176 гаспадарак, 491 жыхар (2004 г.).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 19 ст. як сяленне ў Холмецкай вол. Рэчыцкага пав. Мінскай губ. У 1862 г. 14 двароў, 51 жыхар мужчынскага полу. У 1876 г. дваранін Ясінскі меў у вёсцы і наваколлі 760 дзес. зямлі. Паводле перапісу 1897 г. 34 двары, 240 жыхароў, капліца, хлебазапасны магазін. У 1908 г. 43 двары, 305 жыхароў. З 8.12.1926 г. цэнтр Вышамірскага с/с Холмецкага, з 4.8.1927 г. Рэчыцкага р-наў Гомельскай (да 26.7. 1930) акругі, з 20.2.1938 г. Гомельскай вобл. У 1930 г. 99 двароў, 542 жыхары, школа. У 1930 г. арганізаваны калгас імя К.Я.Варашылава, працавалі вятрак і куз-



*Помнік на брацкай магіле савецкіх воінаў у в. Вышамір.*

ня. У 1940 г. 120 двароў, 580 жыхароў. У Вял. Айч. вайну 6.2.1943 г. ням. акупанты поўнасцю спалілі вёску і закатавалі 103 жыхароў. У ліст. 1943 г. пры вызваленні вёсак Вышамір і Сямёнаўка загінулі 187 воінаў, у іх ліку Герой Сав. Саюза Т.Ніязмамедаў (пахаваны ў брацкай магіле каля будынка выканкома сельсавета). 46 вяскоўцаў загінулі на фронце. У 1962 г. да вёскі далучана суседняя в. Грушаўка. Паводле перапісу 1959 г. 544 жыхары. Цэнтр калгаса імя XXII з'езда КПСС. Дзейнічаюць сярэдняя школа, Дом культуры, б-ка, фельч.-акушэрскі і вет. пункты, сталовая, магазін, дзіцячыя яслі-сад, аддз. сувязі. Планіровачна складаецца з крывалінейнай вуліцы, блізкай да шыротнай арыентацыі, да якой з Пн далучаюцца 2 кароткія вуліцы. Забудова драўляная, няшчыльная, сядзібнага тыпу. У 1986 г. пабудавана 50 мураваных, катэджнага тыпу дамоў, у якіх размясціліся перасяленцы з забруджаных радыяцыяй месц у выніку Чарнобыльскай катастрофы. Вялікая работа ў апошняе 10-годдзе праведзена па добраўпарадкаванні вёскі. Радзіма доктара эканам. навук, праф., засл. работніка вышэйшай школы БССР І.Дз.Праханкі.

У склад Вышамірскага с/с уваходзілі: да сярэдзіны 1930-х г. — в. Заскор'е, хутары Каданаў, Коззе, у першыя пасляваенныя гады — пасёлкі Грушаўка, Дуброва, да 1968 г. — хут. Гараднякі, да 1983 г. — пас. Беражыстае (не існуюць).

**ВЯСЁЛЫ** — пасёлак у Свірыдавіцкім с/с, за 25 км на Пд ад раённага цэнтра і чыг. ст. Рэчыца (на лініі Калінкавічы—Гомель), 75 км ад Гомеля. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Лоеў—Рэчыца. 1 гаспадарка, 2 жыхары (2004 г.).

Засн. ў пач. 1920-х г. перасяленцамі з суседніх вёсак на былых памешчыцкіх землях. У 1930 г. 17 двароў, 113 жыхароў. У 1931 г. арганізаваны калгас. У 1940 г. 22 двары. У Вял. Айч. вайну ў ліст. 1943 г. ням. акупанты спалілі 20 двароў. 10 пасялкоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 83 жыхары. У складзе калгаса імя С.М.Кірава (цэнтр — в. Свірыдавічы). Забудова драўляная сядзібнага тыпу.

**ВЯТХІНЬ** — вёска ў Артукоўскім с/с, за 27 км на Пд ад раённага цэнтра і чыг. ст. Рэчыца (на лініі Калінкавічы—Гомель), 77 км ад Гомеля. Праз вёску праходзіць меліярацыйны канал, на З — гара Воўчая (145,8 м над узроўнем мора). Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Лоеў—Рэчыца. 88 гаспадарак, 175 жыхароў (2004 г.).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 18 ст. як сяленне ў Рэчыцкім пав. Мінскага ваяв. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. Дзейнічала царква, якая ў 1811 г. была перанесена ў в. Холмеч. У 1862 г. 37 двароў, 118 жыхароў мужчынскага полу, ва ўладанні графа Ракіцкага. Пад 1879 г. пазначана ў Свірыдавіцкім царк. прыходзе. Паводле перапісу 1897 г. 93 двары, 645 жыхароў, капліца, хлебазапасны магазін. У 1908 г. 114 двароў, 780 жыхароў, у Холмецкай вол. Рэчыцкага пав. Мінскай губ. З 8.12.1926 г. да

30.12.1927 г. цэнтр Вятхінскага с/с Холмецкага р-на Рэчыцкай, з 9.6.1927 г. Гомельскай акруг. У 1930 г. 117 двароў, 672 жыхары. У 1931 г. арганізаваны калгас. У 1939—40 гг. у вёску перасяліліся жыхары пасёлкаў Зялёны Май (Дзюрдзеў), Лясок (не існуюць). У Вял. Айч. вайну дзейнічала патрыят. падп. група (кіраўнік М.Л.Саламаха), якая ў жн. 1942 г. была раскрыта, і яе ўдзельнікі загублены. У ліст. 1943 г. ў баях за вёску загінулі 34 воіны і партызаны (пахаваны ў брацкай магіле на могілках). Вызвалена 14.11.1943 г. 106 вяскоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 708 жыхароў. У складзе калгаса «Чырвоны сцяг» (цэнтр — в. Артукі). Працуюць б-ка, клуб. Планіровачна складаецца з крыху скрыўленай вуліцы, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ, якая на З раздвойваецца. Да гал. вуліцы з Пд і Пн далучаюцца кароткія вуліцы. Адасоблена на Пн і Пд размешчаны кароткія вуліцы. Забудова няшчыльная, драўляная, сядзібнага тыпу. Радзіма бел. мастака Л.Ф.Панамарэнкі, лаўрэата Дзярж. прэміі СССР М.С.Сіліча.

**ГАГАЛІ** — пасёлак у Камсамольскім с/с, за 51 км на ПнЗ ад раённага цэнтра і чыг. ст. Рэчыца (на лініі Калінкавічы—Гомель), 101 км ад Гомеля, на р. Бярэзіна (прыток р. Дняпро). Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Светлагорск—Рэчыца. 2 гаспадаркі, 4 жыхары (2004 г.).

Выяўленае археолагамі паселішча 2-га—1-га тысячагоддзяў да н.э. ( за 0,5 км на ПдЗ ад вёскі) сведчыць пра засяленне тутэйшых мясцін з далёкай старажытнасці. Сучасны пасёлак засн. ў 1920-я г. перасяленцамі з суседніх вёсак на былых памешчыцкіх землях. Каля вёскі прыстань на Бярэзіне. У 1931 г. арганізаваны калгас. У 1940 г. 13 двароў, 54 жыхары. У Вял. Айч. вайну ў чэрв. 1943 г. ням. акупанты поўнасцю спалілі пасёлак і загубілі  жыхара. Паводле перапісу 1959 г. 68 жыхароў. У складзе саўгаса «Камсамольскі» (цэнтр — в. Камсамольск). Забудова драўляная сядзібнага тыпу, уздоўж ракі.

**ГАЛОЎКІ** — вёска ў Бабіцкім с/с, за 42 км на ПдЗ ад Рэчыцы, 5 км ад чыг. ст. Бабічы (на лініі Калінкавічы—Гомель), 92 км ад Гомеля, на р. Ведрыч (прыток р. Дняпро), на З — канава Корч (упадае ў р. Ведрыч). Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Васілевічы—Рэчыца. 200 гаспадарак, 478 жыхароў (2004 г.).

Па пісьмовых крыніцах вядома з пач. 19 ст. як сяленне ў Васілевіцкай вол. Рэчыцкага пав. Мінскай губ. Пад 1825 г. пазначана ў Васілевіцкім царк. прыходзе. У 1858 г. 18 двароў, 215 жыхароў, уласнасць казны. Паводле перапісу 1897 г. 76 двароў, 554 жыхары, царк.-прыходская школа, хлебазапасны магазін, вятрак і конны млын. У 1908 г. 103 двары, 739 жыхароў. З 8.12.1926 г. да 30.12.1927 г. цэнтр Галоўкаўскага с/с Васілевіцкага, з 4.8.1927 г. Рэчыцкага р-наў Гомельскай акругі. У 1930 г. арганізаваны калгас. У Вял. Айч. вайну ням. акупанты ў чэрв. 1943 г. расстралялі 40 жыхароў. 124 вяскоўцы загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 1217 жыхароў. У складзе саўгаса «Звязда» (цэнтр — в. Бабічы). Размешчаны школа-сад, б-ка, фельч.-акушэрскі пункт, аддз. сувязі. Планіровачна складаецца з крывалінейнай вуліцы з завулкамі, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ, да якой на Пд далучаецца крыху выгнутая шыротная вуліца. Забудова двухбаковая, няшчыльная, драўляная, сядзібнага тыпу.

**ГАНЧАРОЎКА** (да 1973 Ганчароў Падзел) — вёска ў Вышамірскім с/с, за 40 км на Пд ад раённага цэнтра і чыг. ст. Рэчыца (на лініі Калінкавічы—Гомель), 90 км ад Гомеля. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Лоеў—Рэчыца. 23 гаспадаркі, 71 жыхар (2004 г.).

Выяўлены каля вёскі і даследаваны археолагамі курганны могільнік сведчыць пра засяленне тутэйшых мясцін з далёкай старажытнасці. Па пісьмовых крыніцах вядома з 19 ст. як сяленне ў

Холмецкай вол. Рэчыцкага пав. Мінскай губ. У 1908 г. 30 двароў, 102 жыхары. З 8.12.1926 г. да 30.12.1927 г. цэнтр Ганчаровападзельскага с/с Холмецкага, з 4.8.1927 г. Рэчыцкага р-наў Рэчыцкай, з 9.6.1927 г. Гомельскай акруг. У 1931 г. арганізаваны калгас, працавала кузня. У 1940 г. 80 двароў, 320 жыхароў. У Вял. Айч. вайну ў чэрв. 1943 г. ням. акупанты поўнасцю спалілі вёску і загубілі 3 жыхароў. У ліст. 1943 г. ў баях за вызваленне вёсак Кузьмінка і Ганчароў Падзел загінулі 273 воіны (пахаваны ў брацкай магіле ў цэнтры вёскі). 20 вяскоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 208 жыхароў. У 1983 г. ў вёску перасяліліся жыхары хут. Беражыстае. У складзе калгаса імя XXII з'езда КПСС (цэнтр — в. Вышамір). Планіровачна складаецца з кароткай мерыдыянальнай вуліцы, да якой на Пд і Пн далучаюцца кароткія прамалінейныя, шыротнай арыентацыі вуліцы. Забудова драўляная сядзібнага тыпу.

**ГАРАДОК** — пасёлак у Камсамольскім с/с, за 30 км на ПнЗ ад раённага цэнтра і чыг. ст. Рэчыца (на лініі Калінкавічы—Гомель), 80 км ад Гомеля. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Светлагорск—Рэчыца. 2 гаспадаркі, 3 жыхары (2004 г.).

Засн. ў пач. 1920-х г. перасяленцамі з суседніх вёсак на былых памешчыцкіх землях. У 1930 г. 10 двароў, 67 жыхароў. У 1931 г. арганізаваны калгас. У Вял. Айч. вайну ў чэрв. 1943 г. ням. акупанты поўнасцю спалілі пасёлак. 3 пасялкоўцы загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 66 жыхароў. У складзе саўгаса «Камсамольскі» (цэнтр — в. Камсамольск). Драўляныя сял. сядзібы пастаўлены ўздоўж прасёлачнай дарогі.

**ГАРНОЎКА** — вёска ў Глыбаўскім с/с, за 17 км на ПнЗ ад раённага цэнтра і чыг. ст. Рэчыца (на лініі Калінкавічы—Гомель), 67 км ад Гомеля. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Светлагорск—Рэчыца. 18 гаспадарак, 25 жыхароў (2004 г.).

Па пісьмовых крыніцах вядома з пач. 19 ст. як сяленне ў Горвальскай вол. Рэчыцкага пав. Мінскай губ. У 1850 г. 17 двароў, у складзе аднайменнага маёнтка, уладальнік якога памешчык Жытнікаў у 1876 г. меў 419 дзес. зямлі. Пад 1879 г. пазначана ў Рэчыцкім царк. прыходзе. Паводле перапісу 1897 г. 19 двароў, 116 жыхароў, школа граматы, хлебазапасны магазін. У 1908 г. 22 двары, 151 жыхар. У 1930 г. 51 двор, 296 жыхароў, 345 га зямлі. У 1930 г. арганізаваны калгас імя В.М.Молатава, працавала кузня. У 1940 г. 55 двароў. У Вял. Айч. вайну з жн. 1941 г. дзейнічала падп. патрыят. група, касцяк якой складала сям'я Рацыборскіх. У вёсцы і навакольных лясах базіраваліся Гомельскі падп. абком КП(б)Б, Рэчыцкі падп. райком КП(б)Б, Рэчыцкая партыз. брыгада імя К.Я.Варашылава. У ліп. 1943 г. ням. акупанты поўнасцю спалілі вёску і загубілі 5 жыхароў. 36 вяскоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 193 жыхары. У складзе саўгаса «Падалессе» (цэнтр — в. Мілаград). Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ. Забудова драўляная сядзібнага тыпу.

**ГАРОШКАЎ** — вёска ў Заспенскім с/с, за 11 км на Пд ад раённага цэнтра і чыг. ст. Рэчыца (на лініі Калінкавічы—Гомель), 61 км ад Гомеля, на У меліярацыйныя каналы, злучаныя з р. Дняпро. Побач аўтадарога Лоеў—Рэчыца. 185 гаспадарак, 464 жыхары (2004 г.).

Выяўленыя археолагамі гарадзішча 4—1 ст. да н.э. (у вёсцы), могільнік мілаградскай культуры (каля гарадзішча) і могільнік зарубінецкай культуры ( за 0,1 км на Пн ад гарадзішча) сведчаць пра засяленне тутэйшых мясцін з глыбокай старажытнасці. Па пісьмовых крыніцах вядома з 18 ст. як сяленне ў Рэчыцкім пав. Мінскага ваяв. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1811 г. ва ўладанні Шышковых. У 1850 г. 37 двароў, 231 жыхар. Пад 1879 г. пазначана ў Заспенскім царк. прыходзе. Паводле перапісу 1897 г. 61

двор, 458 жыхароў, хлебазапасны магазін. У 1908 г. 89 двароў, 487 жыхароў, у Заспенскай вол. Рэчыцкага пав. Мінскай губ. З 8.12.1926 г. да 30.12.1927 г. цэнтр Гарошкаўскага с/с Хойніцкага р-на Рэчыцкай, з 9.6.1927 г. Гомельскай акруг. У 1930 г. арганізаваны калгас. У Вял. Айч. вайну ў баях за вызваленне вёсак Гарошкаў, Велін, Адамаўка, Сцяпанаўка, Май загінулі 25 воінаў (пахаваны ў брацкай магіле ў цэнтры вёскі). 81 вясковец загінуў на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 518 жыхароў. У 1962 г. да вёскі далучаны пас. Красны Бор. У складзе калгаса «Савецкая Беларусь» (цэнтр — в. Заспа). Ёсць б-ка. Планіровачна складаецца з працяглай крывалінейнай мерыдыянальнай вуліцы, забудаванай двухбакова, няшчыльна драўлянымі сял. сядзібамі. Радзіма бел. паэта А.Ц.Сыса.

**ГАРЫВАДА** — вёска ў Перасвятоўскім с/с, за 10 км на ПдЗ ад раённага цэнтра і чыг. ст. Рэчыца (на лініі Калінкавічы—Гомель), 60 км ад Гомеля. Побач аўтадарога Калінкавічы—Гомель, на У і З меліярацыйныя каналы. 92 гаспадаркі, 191 жыхар (2004 г.).

Выяўленыя і даследаваныя археолагамі 8 курганоў 10—12 ст. сведчаць пра засяленне тутэйшых мясцін з далёкай старажытнасці. Па пісьмовых крыніцах вядома з 19 ст. як сяленне ў Ровенскаслабодскай вол. Рэчыцкага пав. Мінскай губ. У 1834 г. 5 двароў. У 1850 г. 20 двароў, 193 жыхары, уладанне Івашкевічаў, якія мелі тут у 1876 г. 533 дзес. зямлі. Пад 1879 г. пазначана ў Рэчыцкім царк. прыходзе. Паводле перапісу 1897 г. 69 двароў, 444 жыхары, царк.-прыходская школа, хлебазапасны магазін. Побач была аднайменная сядзіба. Частка вяскоўцаў апрача земляробства займаліся вырабам колаў і бандарным промыслам. У 1908 г. 106 двароў, 531 жыхар. З 8.12.1926 г. да 30.12.1927 г. цэнтр Гарывадскага с/с Рэчыцкага р-на Гомельскай акругі. У 1930 г. 158 двароў, 793 жыхары. У 1930 г. арганізаваны калгас, працавалі 2 ветракі. У Вял. Айч. вайну са жн. 1941 г. да 16.11.1943 г. акупіравана ням. войскамі. 81 вясковец загінуў на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 583 жыхары. У складзе саўгаса «10 гадоў Кастрычніка» (цэнтр — в. Перасвятое). Планіровачна складаецца з прамалінейнай мерыдыянальнай вуліцы, да якой на Пн далучаецца кароткая прамалінейная вуліца. Забудова двухбаковая, драўляная, сядзібнага тыпу. Каля вёскі ёсць залежы пяскоў.

**ГАСЦІВЕЛЬ** — вёска ў Свірыдавіцкім с/с, за 16 км на Пд ад раённага цэнтра і чыг. ст. Рэчыца (на лініі Калінкавічы—Гомель), 66 км ад Гомеля. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Лоеў—Рэчыца. 30 гаспадарак, 48 жыхароў (2004 г.).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 18 ст. як сяленне ў Рэчыцкім пав. Мінскага ваяв. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1811 г. вёска, уладанне Шышковых. У 1834 г. — 16, у 1850 г. — 20 двароў. Пад 1879 г. пазначана ў Свірыдавіцкім царк. прыходзе. Паводле перапісу 1897 г. 45 двароў, 305 жыхароў. Апрача земляробства вяскоўцы займаліся вырабам колаў. У 1908 г. 390 жыхароў, у Заспенскай вол. Рэчыцкага пав. Мінскай губ. У 1920—30-х г. 2 вёскі: Стары Гасцівель і Новы Гасцівель. У 1930 г. ў в. Стары Гасцівель — 25 двароў, 129 жыхароў, у в. Новы Гасцівель — 24 двары, 116 жыхароў. У канцы 1930-х г. яны аб'ядналіся. У 1930 г. арганізаваны калгас. У 1940 г. 62 двары, 258 жыхароў. У Вял. Айч. вайну ў ліст. 1943 г. ням. акупанты спалілі 12 двароў. 32 вяскоўцы загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 276 жыхароў. У складзе калгаса імя С.М.Кірава (цэнтр — в. Свірыдавічы). Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ і забудаванай двухбакова драўлянымі сял. сядзібамі.

**ГЛІННАЯ СЛАБАДА** — вёска, падпарадкавана Васілевіцкаму гар. Савету, за 64 км на ПдЗ ад Рэчыцы, 9 км ад чыг. ст. Нахаў (на лініі Калінкавічы—Гомель), 114 км ад Гомеля, на У сетка ме-

ліярацыйных каналаў, на Пн — урочышча Забалацце, побач аўтадарога Калінкавічы—Гомель. 203 гаспадаркі, 439 жыхароў (2004 г.).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 18 ст. як сяленне ў Мазырскім пав. Мінскага ваяв. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1795 г. 16 двароў, уладанне Яленскіх. У 1885 г. 38 двароў, 263 жыхары, у Аўцюцевіцкай вол. Рэчыцкага пав. Мінскай губ. Паводле перапісу 1897 г. 40 двароў, 501 жыхар, царква, школа граматы, хлебазапасны магазін. У 1908 г. 94 двары, 703 жыхары. З 8.12.1926 г. да 30.12.1927 г. цэнтр Гліннаслабодскага с/с Васілевіцкага, з 4.8.1927 г. Рэчыцкага р-наў Рэчыцкай, з 9.6.1927 г. Гомельскай акруг. У 1930 г. 151 двор, 898 жыхароў. У 1931 г. арганізаваны калгас «Чырвоны камунар», працавала кузня. 127 вяскоўцаў загінулі на франтах Вял. Айч. вайны. Паводле перапісу 1959 г. 1054 жыхары. У складзе саўгаса «Васілевічы» (цэнтр — г. Васілевічы). Размешчаны 9-гадовая школа, б-ка, фельч.-акушэрскі пункт, аддз. сувязі, Дом культуры. Планіровачна складаецца з дугападобнай мерыдыянальнай вуліцы з завулкамі. Забудова драўляная сядзібнага тыпу. Радзіма Героя Сац. Працы І.Р.Пырко.

**ГЛУШЭЦ** — вёска ў Белабалоцкім с/с, за 17 км на Пн ад раённага цэнтра і чыг. ст. Рэчыца (на лініі Калінкавічы—Гомель), 67 км ад Гомеля, на зах. ускраіне р. Дняпро і ў яго пойме — воз. Тута. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Рэчыца—Светлагорск. 30 гаспадарак, 41 жыхар (2004 г.).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 19 ст. як сяленне ў Чабатовіцкай вол. Гомельскага пав. Магілёўскай губ. Праз вёску праходзіла дарога з Мазыра ў Чарнігаў, дзейнічала паромная пераправа цераз Дняпро. Паводле перапісу 1897 г. 30 двароў, 172 жыхары, вадзяны млын. Побач быў фальварак, 3 двары, 13 жыхароў. У жн. 1918 г., у час герм. акупацыі, Горвальскі партыз. атрад заняў вёску і аднавіў сав. уладу. У 1926 г. 44 двары, 242 жыхары, ва Уваравіцкім р-не Гомельскай акругі. У 1931 г. арганізаваны калгас «Прагрэс», працавала кузня. У 1940 г. 66 двароў, 224 жыхары. У Вял. Айч. вайну ў чэрв. 1943 г. ням. акупанты спалілі 63 двары і загубілі 3 жыхароў. 41 вясковец загінуў на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 218 жыхароў. У складзе саўгаса «Рэчыцкі» (цэнтр — в. Белае Балота). Планіровачна складаецца з плаўна выгнутай вуліцы, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ, да якой з ПдУ далучаюцца 2 кароткія вуліцы. Забудова няшчыльная, драўляная, сядзібнага тыпу.

**ГЛЫБАЎ** — вёска, цэнтр Глыбаўскага с/с, за 16 км на ПнЗ ад раённага цэнтра і чыг. ст. Рэчыца (на лініі Калінкавічы—Гомель), 70 км ад Гомеля, на ўсх. ускраіне — р. Дняпро і яе пойма. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Светлагорск—Рэчыца. 82 гаспадаркі, 222 жыхары (2004 г.).

Выяўленыя археолагамі гарадзішча мілаградскай і зарубінецкай культур (на паўд.-усх. ускраіне), курганны могільнік 12—13 ст. (4 насыпы, на тэр. сучасных могілак), курганны могільнік 12 ст. (3 насыпы, за 0,2 км на Пн ад гарадзішча) сведчаць пра засяленне тутэйшых мясцін з далёкай старажытнасці. Па пісьмовых крыніцах вядома з 16 ст. як в. Глубава ў Рэчыцкім пав. Мінскага ваяв. ВКЛ. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. Па рэвізскіх матэрыялах 1850 г. 11 двароў, 72 жыхары. Памешчык Пестржэцкі меў тут у 1863 г. 1076 дзес., дваранін Крукоўскі — 303 дзес., у 1876 г. мешчанін Вераб'ёў — 178 дзес., памешчык Трацэўскі — 110 дзес., памешчык Нагорскі — 60 дзес. зямлі. Пад 1879 г. упамінаецца ў Горвальскім царк. прыходзе. Паводле перапісу 1897 г. вёска і аднайменная сядзіба, 80 жыхароў, карчма. У 1908 г. 11 двароў, у Горвальскай вол. Рэчыцкага пав. Мінскай губ. У вер. 1918 г. Горвальскі партыз. атрад вызваліў вёску ад герм. войск і аднавіў сав. уладу. У 1930 г. 31 двор, 159



*Курган Славы ў в. Глыбаў.*

жыхароў. У пач. 1931 г. арганізаваны калгас «Чырвоны маяк», працавала цагельня. У 1940 г. 64 двары, 336 жыхароў. У Вял. Айч. вайну ў ліп. 1943 г. ням. акупанты поўнасцю спалілі вёску і загубілі 6 жыхароў. На франтах і ў партыз. барацьбе загінулі 33 жыхары, памяць аб якіх увекавечваюць Курган Славы і мемарыяльны парк у цэнтры вёскі. Паводле перапісу 1959 г. 232 жыхары. З 2.4. 1959 г. цэнтр Глыбаўскага с/с. У складзе саўгаса «Падалессе» (цэнтр — в. Мілаград). Працуюць камбінат быт. абслугоўвання, сярэдняя школа, Дом культуры, б-ка, дзіцячыя яслі-сад, музей баявой, рэв. і прац. славы, фельч.-акушэрскі пункт, сталовая, магазін, аддз. сувязі. Планіровачна складаецца з прамалінейнай, блізкай да мерыдыянальнай арыентацыі вуліцы з 2 завулкамі. Забудова двухбаковая, драўляная, сядзібнага тыпу. Радзіма аднаго з кіраўнікоў партыз. руху на Беларусі ў Вял. Айч. вайну І.І.Бандарэнкі (быў камандзірам партыз. брыгады імя П.К.Панамарэнкі Гомельскай вобл.).

**ГОРВАЛЬ** — вёска ў Глыбаўскім с/с, за 30 км на ПнЗ ад раённага цэнтра і чыг. ст. Рэчыца (на лініі Калінкавічы—Гомель), 81 км ад Гомеля, на ўсх. ускраіне і З — р. Бярэзіна (прыток р. Дняпро), на Пн — яе пойма. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Светлагорск—Рэчыца. 101 гаспадарка, 161 жыхар (2004 г.).

Выяўленыя археолагамі гарадзішча мілаградскай і зарубінецкай культур і эпохі Кіеўскай Русі (за 1,5 км на Пд ад вёскі), курганны могільнік (30 насыпаў, за 0,3 км на У ад вёскі) і стаянка эпохі неаліту (у цэнтры вёскі) сведчаць пра засяленне тутэйшых мясцін з глыбокай старажытнасці. Па пісьмовых крыніцах вядома з 15 ст. як сяленне літ. князёў. З 1413 г. ў складзе Мінскага ваяв. ВКЛ, у валоданні віленскага ваяводы В.Манівіда і яго нашчадкаў, потым уласнасць казны. У 1503 г. ў пагадненні паміж Маскоўскай дзяржавай і ВКЛ названа мястэчкам. Пад 1510 г. пазначана як цэнтр Горвальскай вол. на тракце Бабруйск—Чарнігаў. У 1528 г. перададзена ў карыстанне дзяржаўцы горвальскаму Б.Г.Шалуху, потым каралеве Боне. У 1535 г. разбурана і спалена ў час ваен. дзеянняў. У 16—18 ст. на ўсх. ускраіне, на правым беразе ракі, размяшчаўся замак. З 1543 г. ў валоданні Сангушкаў. Упамінаецца ў дакументах аб складзе і межах новых паветаў ВКЛ, створаных паводле рэформ 1565—68 гг. Пазначана на карце ВКЛ 1613 г. У 1648 г. казакі ўкр. гетмана І.Залатарэнкі разбілі каля мястэчка буйны атрад літ. стражніка Мірскага, штурмам авалодалі замкам і спалілі яго. Пазней у валоданні Віленскай капітулы, у 1698 г. ўпамінаецца замак, які пасля аднаўлення праіснаваў да Паўночнай вайны 1700—21 гг. і быў канчаткова знішчаны. У 1731 г. ў маёнтку Горваль 294 дымы. У 1736—61 гг. адбываліся антыфеадальныя выступленні сялян. Здаўна тут дзейнічалі пераправа і прыстань на Бярэзіне, праходзілі кірмашы. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. Канфіскаваны ў ліку маёнткаў каталіцкай царквы, з 1835 г. належаў Халадоўскім. Дзейнічалі драўляная Свята-Троіцкая царква (у ёй захоўваліся метрычныя кнігі з 1792), у 1851 г. капітальна адрамантавана на сродкі ўладальніцы мястэчка Халадоўскай. У 1864 г. адкрыта нар. вучылішча. У 1882 г. маёнтак набыў граф, ген.-лейт. Г.Ф.Менгдэн, а праз 6 гадоў — граф Зубаў. У 1866 г. 126 двароў. У 1885 г. ў Горвальскую вол. уваходзілі 15 сяленняў (471 двор).





*А.Я.Варанчук.*

*А.Ф.Дзюбко.*

Працавала паштовая кантора. Паводле перапісу 1897 г. 1589 жыхароў, царква, 2 малітоўныя дамы, нар. вучылішча, прыстань, хлебазапасны магазін, 21 крама, гандлёвы рад, заезны дом, карчма. На стромкім беразе Бярэзіны размяшчалася сядзіба, якую ад мястэчка аддзялялі парк і фруктовы сад. У снеж. 1905 г. адбылося выступленне сялян супраць памешчыка. Дзейнічаў тэлеграф. У 1908 г. 1673 жыхары, у Рэчыцкім пав. Мінскай губ. У выніку пажару ў 1909 г. згарэла лесапільня. Летам 1918 г. ў час герм. акупацыі жыхары стварылі партыз. атрад (150 чал., кіраўнік Дубовік), які разам з рэчыцкімі партызанамі разграмілі гарнізон акупантаў і захапілі шмат зброі. У маі 1920 г. мястэчка захапілі палякі, але ў хуткім часе яны вымушаны былі адступіць. З 26.4.1919 г. да 9.5.1923 г. цэнтр воласці Рэчыцкага пав., з 26.4.1919 г. ў Гомельскай губ. РСФСР. З 9.5.1923 г. ў Рэчыцкай вол., 8.12.1926 г. далучана да БССР. З 8.12.1926 г. да 4.8.1927 г. цэнтр Горвальскага р-на, у склад якога ўваходзілі 20 сельсаветаў з 56 сяленнямі. З 8.12.1926 г. да 2.4.1959 г. цэнтр Горвальскага с/с Горвальскага, з 4.8.1927 г. Рэчыцкага р-наў Рэчыцкай, з 9.6.1927 г. Гомельскай (да 26.7.1930) акруг, з 20.2. 1938 г. Гомельскай вобл. Дзейнічалі пач. школа і школа-сямігодка, хата-чытальня, б-ца, аддз. спажывецкай кааперацыі, с.-г. крэдытнае таварыства, паравы млын. У 1929 г. арганізаваны калгас «Чырвоны Кастрычнік», працавалі шпалярэзны з-д, кравецкая і шавецкая майстэрні, нафтавы млын, кузня. У 1940 г. 360 двароў, 1563 жыхары. У Вял. Айч. вайну ў жн. 1941 г. ням. захопнікі сканцэнтравалі каля мястэчка вялікія сілы, прарвалі абарону сав. войск і стварылі складаную сітуацыю, у т. л. і для Гомеля. Цяжкія абарончыя баі вялі тут байцы Жыткавіцкага пагранічнага атрада, каб даць магчымасць 3-й арміі выйсці з акружэння. Акупанты стварылі ў мястэчку свой гарнізон, які быў разгромлены партызанамі 18.10.1942 г. 12.6.1943 г. карнікі загубілі 69 жыхароў (пахаваны ў магіле ахвяр фашызму, на ўсх. ускраіне), а ўсяго за час акупацыі яны загубілі 102 жыхароў. У ліп. 1943 г. акупанты спалілі 93 двары. У 1943 г. партызаны захапілі пераправу цераз Бярэзіну і ўтрымлівалі яе да падыходу часцей Чырвонай Арміі. У баях каля вёскі загінулі 105 сав. воінаў (пахаваны ў 2 брацкіх магілах — за 2 км на Пд ад вёскі і ў 26 квартале Горвальскага лясніцтва). 106 вяскоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 759 жыхароў. У складзе саўгаса «Падалессе» (цэнтр — в. Мілаград). Размешчаны б-ка, фельч.-акушэрскі пункт, аддз. сувязі, клуб. Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы з 3 завулкамі, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ (уздоўж ракі) і забудаванай драўлянымі сял. сядзібамі. Радзіма Герояў Сав. Саюза А.Я.Варанчука і А.Ф.Дзюбко. Каля вёскі ёсць залежы жалезняку.

**ГРАНАЎКА** — вёска ў Баршчоўскім с/с, за 20 км на ПдУ ад Рэчыцы, 11 км ад чыг. ст. Якімаўка (на лініі Калінкавічы—Гомель), 38 км ад Гомеля, на Пд і Пн мяжуе з лесам, на З — пойма р. Дняпро. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Калінкавічы—Гомель. 57 гаспадарак, 131 жыхар (2004 г.).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 19 ст. як сяленне ў Целяшоўскай вол. Гомельскага пав. Магілёўскай губ. Паводле перапісу 1897 г. в. Гранаўка (яна ж Баравая), 47 двароў, 257 жыхароў, школа граматы, вятрак. У 1909 г. 51 двор, 322 жыхары, 270 дзес. зямлі. У 1926 г. 82 двары, 397 жыхароў, паштовы пункт, школа. З 8.12.1926 г. да 30.12.1927 г. цэнтр Гранаўскага с/с Дзятлавіцкага, з 4.8.1927 г. Рэчыцкага р-наў Гомельскай акругі. У 1931 г. арганізаваны калгас. 46 вяскоўцаў загінулі на франтах Вял. Айч. вайны. Паводле перапісу 1959 г. 328 жыхароў. У складзе саўгаса «Баршчоўка» (цэнтр — в. Баршчоўка). Планіровачна складаецца з 2 паралельных паміж сабой прамалінейных вуліц (адна працяглая, другая кароткая), блізкай да мерыдыя-

нальнай арыентацыі. Забудова двухбаковая, няшчыльная, драўляная, сядзібнага тыпу.

**ГІРОЎ** — вёска ў Белабалоцкім с/с, за 5 км на Пн ад раённага цэнтра і чыг. ст. Рэчыца (на лініі Калінкавічы—Гомель), 55 км ад Гомеля, на ўсх. ускраіне — воз. Ляхава. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Рэчыца—Светлагорск. 28 гаспадрак, 40 жыхароў (2004 г.).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 15 ст. як сяленне ў Рэчыцкім пав. Мінскага ваяв. ВКЛ. У 1499 г. уладальнік Гомельскай вол. кн. С.І.Мажайскі перайшоў на бок Масквы, часова прыхапіўшы разам з іншымі і сяло Гіроў. Упамінаецца ў 1526—27 гг. у матэрыялах аб канфліктах паміж Літвой і Маскоўскай дзяржавай. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) у складзе Рас. імперыі. Гаспадар маёнтка Гіроў у 1870 г. меў 1237 дзес. зямлі. З 1880 г. дзейнічаў хлебазапасны магазін. Паводле перапісу 1897 г. 20 двароў, 155 жыхароў, у Чабатовіцкай вол. Гомельскага пав. Магілёўскай губ. У 1909 г. 27 двароў, 181 жыхар, 110 дзес. зямлі. У 1926 г. 43 двары, 251 жыхар, ва Уваравіцкім р-не Гомельскай акругі. У 1931 г. арганізаваны калгас. У 1940 г. 80 двароў, 296 жыхароў. У Вял. Айч. вайну ў чэрв. 1944 г. ням. акупанты спалілі 50 двароў, загубілі 97 жыхароў. 21 вясковец загінуў на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 300 жыхароў. У складзе саўгаса «Рэчыца» (цэнтр — в. Белае Балота). Планіровачна складаецца з 2 мерыдыянальных вуліц. Забудова шчыльная, драўляная, сядзібнага тыпу.

**ГРУДСКАЯ** — пасёлак у Ровенскаслабодскім с/с, за 23 км на ПдЗ ад раённага цэнтра і чыг. ст. Рэчыца (на лініі Калінкавічы—Гомель), 73 км ад Гомеля, на Пн сетка меліярацыйных каналаў. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Светлагорск—Рэчыца. 30 гаспадарак, 46 жыхароў (2004 г.).

Засн. ў пач. 20 ст. перасяленцамі з суседніх вёсак. У 1930 г. 23 двары, 119 жыхароў. У 1931 г. арганізаваны калгас. 13 пасялкоўцаў загінулі на франтах Вял. Айч. вайны. Паводле перапісу 1959 г. 218 жыхароў. У складзе калгаса імя Ф.Э. Дзяржынскага (цэнтр — в. Ровенская Слабада). Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, блізкай да шыротнай арыентацыі і забудаванай двухбакова драўлянымі сял. сядзібамі.

**ДАБРАВОЛЕЦ** — пасёлак у Глыбаўскім с/с, за 16 км на ПнЗ ад раённага цэнтра і чыг. ст. Рэчыца (на лініі Калінкавічы—Гомель), 66 км ад Гомеля. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Светлагорск—Рэчыца. 1 гаспадарка, 2 жыхары (1999 г.).

Засн. ў 1920-х г. перасяленцамі з суседніх вёсак на былых памешчыцкіх землях. У 1930 г. арганізаваны калгас. У 1940 г. 14 двароў, 72 жыхары. У Вял. Айч. вайну ў ліп. 1943 г. ням. акупанты поўнасцю спалілі пасёлак і загубілі жыхара. 10.11.1943 г. каля пасёлка цяжкі бой вяла 17-я танкавая брыгада супраць варожай танкавай групы. Батарэя цяжкіх самаходак на чале з І.В.В'югавым нанесла сакрушальны ўдар па фашысцкіх танках (удастоены звання Героя Сав. Саюза), і пасёлак быў вызвалены. 5 пасялкоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 52 жыхары. У складзе саўгаса «Падалессе» (цэнтр — в. Мілаград). Драўляная сял. сядзіба пастаўлена каля прасёлачнай дарогі.

**ДАБУЖА** — пасёлак у Камсамольскім с/с, за 59 км на ПнЗ ад раённага цэнтра і чыг. ст. Рэчыца (на лініі Калінкавічы—Гомель), 109 км ад Гомеля, на Пн — воз. Дабужскае. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Светлагорск—Рэчыца. 4 гаспадаркі, 6 жыхароў (2004 г.).

Засн. ў 2-й пал. 19 ст. перасяленцамі з суседніх вёсак. Пад 1879 г. пазначана ў Сведскім царк. прыходзе. Паводле перапісу 1897 г. 2 двары, 11 жыхароў. Побач быў аднайменны фальварак. У 1908 г. 3 двары, 17 жыхароў, у Горвальскай вол. Рэчыцкага пав. Мінскай губ. У 1930 г. 7

двароў, 37 жыхароў. У 1931 г. арганізаваны калгас. У Вял. Айч. вайну ў чэрв. 1943 г. ням. акупанты поўнасцю спалілі пасёлак. 4 пасялкоўцы загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 63 жыхары. У складзе саўгаса «Камсамольскі» (цэнтр — в. Камсамольск). Драўляныя сял. сядзібы пастаўлены рэдка, уздоўж прасёлачнай дарогі.

**ДВАРЭЦ** — вёска ў Холмецкім с/с, за 24 км на ПдУ ад раённага цэнтра і чыг. ст. Рэчыца (на лініі Калінкавічы—Гомель), 74 км ад Гомеля, на р. Дняпро. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Лоеў—Рэчыца. 148 гаспадарак, 396 жыхароў (2004 г.).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 19 ст. як сяленне ў Холмецкай вол. Рэчыцкага пав. Мінскай губ. У 1850 г. 28 двароў, уладанне графа Ракіцкага. Пад 1879 г. пазначана ў Холмецкім царк. прыходзе. Паводле перапісу 1897 г. 33 двары, 268 жыхароў. У 1908 г. 52 двары, 338 жыхароў. У 1930 г. 86 двароў, 486 жыхароў, 440 га зямлі. У 1930 г. арганізаваны калгас «Перамога», працавалі кузня і вятрак. 62 вяскоўцы загінулі на франтах Вял. Айч. вайны. Паводле перапісу 1959 г. 391 жыхар. У складзе калгаса імя XXII з'езда КПСС (цэнтр — в. Вышамір). Працуе клуб. Планіровачна складаецца з прамалінейнай, блізкай да мерыдыянальнай арыентацыі вуліцы, забудаванай двухбакова, няшчыльна пераважна драўлянымі сял. сядзібамі. Новая вуліца (100 дамоў), забудаваная ў 1986 г. муравнымі дамамі катэджнага тыпу, заселена перасяленцамі з забруджаных раёнаў...



*Чарнобыльскі пасёлак, в. Дварэц.*

дыяцыйй месц у выніку Чарнобыльскай катастрофы. Радзіма аднаго з кіраўнікоў партыз. руху на Вілейшчыне ў Вял. Айч. вайну П.Я.Сырамахі (быў камандзірам партыз. брыгады імя Г.К.Жукава Вілейскай вобл.).

**ДЗЕМЯХІ** — вёска і чыг. станцыя на лініі Калінкавічы—Гомель, цэнтр Дземяхоўскага с/с, за 14 км на З ад Рэчыцы, 58 км ад Гомеля, на р. Ведрыч (прыток р. Дняпро), на З сетка меліярацыйных каналаў. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Васілевічы—Рэчыца. 133 гаспадаркі, 284 жыхары (2004 г.).

Курганы, якія размяшчаліся паблізу вёскі (зараз не існуюць), сведчылі пра засяленне тутэйшых мясцін з далёкай старажытнасці. Па пісьмовых крыніцах вядома з пач. 16 ст. як сяло Дземяховічы ў Рэчыцкім пав. Мінскага ваяв. ВКЛ, шляхецкая ўласнасць. У 1509 г. кароль Жыгімонт I Стары дараваў сяло дзяку Г.Алексяевічу. Пад 1523 і 1568 гг. упамінаецца ў матэрыялах Літоўскай метрыкі. Дзейнічала Свята-Троіцкая царква (у ёй захоўваліся метрычныя кнігі з 1761). У 1781 г. замест састарэлага ўзведзены новы драўляны будынак царквы. У ёй знаходзіўся абраз Маці Божай, які потым быў перададзены ў царкву в. Салтаноў. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1811 г. ўладанне Салтаноў. У 1840 г. з-за дрэннага стану царква была закрыта. У 1850 г. 27 двароў. Дзейнічала царк.-прыходская школа. У 1864 г. адкрыта нар. вучылішча, але праіснавала толькі год. У 1885 г. 47 двароў, 289 жыхароў. Са здачай у эксплуатацыю 15.2.1886 г. чыгункі Лунінец—Гомель пачаў дзейнічаць чыг. раз'езд,ператвораны пазней у станцыю. Паводле перапісу 1897 г. 86 двароў, 535 жыхароў, хлебазапасны магазін, карчма, паштовае аддз. У 1908 г. 106 двароў, 683 жыхары, у Ровенскаслабодскай вол. Рэчыцкага пав. Мінскай губ. На тэр. чыг. станцыі дзейнічаў вінзавод. З 8.12.1926 г. цэнтр Дземяхоўскага с/с Рэчыцкага

р-на Рэчыцкай, з 9.6.1927 г. Гомельскай (да 26.7.1930) акруг, з 20.2.1938 г. Гомельскай вобл. У 1930 г. 117 двароў. Працаваў спіртзавод. У 1931 г. арганізаваны калгас. У Вял. Айч. вайну 16.11.1942 г. партызаны разграмілі гарнізон, які ням. акупанты стварылі ў вёсцы. У ліст. 1943 г. ў баях каля вёскі загінулі 53 воіны і 2 партызаны (пахаваны ў брацкай магіле ў цэнтры, каля клуба). Вызвалена 15.11. 1943 г. 17.11.1943 г. ў вёсцы адбылася сустрэча камандзіра Рэчыцкай партыз. брыгады імя К.Я.Варашылава М.П. Аніпкі з камандуючым 19-м стралк. корпусам Чырвонай Арміі Д.І.Самарскім, на якой удакладняліся далейшыя дзеянні супраць ням. акупантаў. 52 вяскоўцы загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. ў в. Дземяхі 517, у пасёлку торфазавода — 107, на хутары — 28 жыхароў. У складзе падсобнай гаспадаркі «Дземяхі» с.-г. тэхнікума (цэнтр — в. Салтаноў). Размешчаны 9-гадовая школа, клуб, б-ка, фельч.-акушэрскі пункт, аддз. сувязі, магазін. Планіровачна складаецца з 2 вуліц, да якіх з ПдЗ далучаецца кароткая вуліца. Забудова двухбаковая, драўляная, сядзібнага тыпу. Радзіма бел. паэтэсы В.М.Каўтун (дзявочае прозвішча Новік), засл. настаўніцы БССР М.І.Чарнякевіч. Каля вёскі ёсць залежы жалезняку.

У склад Дземяхоўскага с/с уваходзілі пасёлкі: да 1962 г. — Рымшаўка, да 1987 г. — Новы свет (не існуюць).

**ДЗЯРАЖНЯ** — вёска ў Дземяхоўскім с/с, за 7 км на З ад раённага цэнтра і чыг. ст. Рэчыца (на лініі Калінкавічы—Гомель), 57 км ад Гомеля, на р. Ведрыч (прыток р. Дняпро). Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Светлагорск—Рэчыца. 27 гаспадарак, 48 жыхароў (2004 г.).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 18 ст. як сяленне ў Рэчыцкім пав. Мінскага ваяв. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1795 г. 7 двароў. У 1850 г. 12 двароў, 64 жыхары, уласнасць казны. Пад 1879 г. пазначана ў Рэчыцкім царк. прыходзе. Паводле перапісу 1897 г. 26 двароў, 190 жыхароў. У 1908 г. ў вёсцы 34 двары, 225 жыхароў, на аднайменным хутары 7 двароў, 52 жыхары, у Ровенскаслабодскай вол. Рэчыцкага пав. Мінскай губ. У 1930 г. арганізаваны калгас. 17 вяскоўцаў загінулі на франтах Вял. Айч. вайны. Паводле перапісу 1959 г. 158 жыхароў. У складзе саўгаса «Дземяхі» (цэнтр — в. Салтаноў). Планіровачна складаецца з 2 кароткіх мерыдыянальных вуліц, забудаваных пераважна аднабакова, няшчыльна драўлянымі сял. сядзібамі.

**ДЗЯТЛАЎКА** — вёска ў Вышамірскім с/с, за 41 км на Пд ад раённага цэнтра і чыг. ст. Рэчыца (на лініі Калінкавічы—Гомель), 91 км ад Гомеля. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Хойнікі—Рэчыца. 13 гаспадарак, 19 жыхароў (2004 г.).

Засн. ў пач. 20 ст. перасяленцамі з суседніх вёсак. Найбольш актыўная забудова прыпадае на 1920-я г. У 1930 г. 22 двары, 112 жыхароў. У 1931 г. арганізаваны калгас. У Вял. Айч. вайну ў чэрв. 1943 г. ням. акупанты поўнасцю спалілі вёску і загубілі 4 жыхароў. 4 вяскоўцы загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 92 жыхары. У складзе калгаса імя XXII з'езда КПСС (цэнтр — в. Вышамір). Планіровачна складаецца з кароткай шыротнай вуліцы, забудаванай драўлянымі сял. сядзібамі.

**ДНЕПРЫК** (да 1932 Асветнік) — пасёлак у Дземяхоўскім с/с, за 23 км на ПнЗ ад раённага цэнтра і чыг. ст. Рэчыца (на лініі Калінкавічы—Гомель), 73 км ад Гомеля, на р. Днепрык (прыток р. Ведрыч). Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Светлагорск—Рэчыца. 11 гаспадарак, 16 жыхароў (2004 г.).

Засн. ў пач. 1920-х г. 16 перасяленцамі з суседніх вёсак на былых памешчыцкіх землях. У 1931 г. арганізаваны калгас. У 1940 г. 35 двароў, 171 жыхар. У Вял. Айч. вайну ў чэрв. 1943 г. ням. акупанты поўнасцю спалілі пасёлак і загу-

білі 9 жыхароў. 9 пасялкоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 152 жыхары. У складзе вучгаса СПТВ-178 (цэнтр — в. Старакраснае). Планіровачна складаецца з кароткай прамалінейнай вуліцы, блізкай да мерыдыянальнай арыентацыі і забудаванай рэдка драўлянымі сял. сядзібамі.

**ДНЯПРОВЕЦ** — вёска ў Жмураўскім с/с, за 2 км на Пд ад раённага цэнтра і чыг. ст. Рэчыца (на лініі Калінкавічы—Гомель), 52 км ад Гомеля. Транспартныя сувязі па аўтадарогах, якія адыходзяць ад Рэчыцы. 50 гаспадарак, 107 жыхароў (2004 г.).

Засн. ў пач. 1920-х г. перасяленцамі з суседніх вёсак на былых памешчыцкіх землях. У 1930-х г. 15 двароў, 79 жыхароў. У 1931 г. арганізаваны калгас. Паводле перапісу 1959 г. 188 жыхароў. У складзе калгаса «40 гадоў Кастрычніка» (цэнтр — в. Броннае). Планіровачна складаецца з прамалінейнай шыротнай вуліцы, да якой на З і У далучаюцца завулкі. Жылыя дамы пераважна драўляныя сядзібнага тыпу.

**ДУБРОВА** — вёска, цэнтр Дуброўскага с/с, за 40 км на ПнЗ ад Рэчыцы, 15 км ад чыг. ст. Бабічы (на лініі Калінкавічы—Гомель), 90 км ад Гомеля. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Светлагорск—Рэчыца. 78 гаспадарак, 170 жыхароў (2004 г.).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 19 ст. як сяленне ў Якімаваслабодскай вол. Рэчыцкага пав. Мінскай губ. Пад 1879 г. пазначана ў Какуевіцкім царк. прыходзе. Паводле перапісу 1897 г. 33 двары, 251 жыхар. У 1908 г. 41 двор, 266 жыхароў. З 8.12.1927 г. да 30.8.1927 г. і з 1930 г. цэнтр Дуброўскага с/с Горвальскага, з 4.8.1927 г. Рэчыцкага, з 20.2.1938 г. Васілевіцкага, з 16.9.1959 г. Рэчыцкага р-наў Гомельскай (да 26.7.1930) акругі, з 20.2.1938 г. Палескай, з 8.1.1954 г. Гомельскай абласцей. У 1930 г. арганізаваны калгас імя У.І.Леніна, працавала кузня. У 1940 г. 140 двароў, 651 жыхар. У Вял. Айч. вайну партызаны ў лют. 1943 г. абяззброілі апорны пункт, які стварылі ням. акупанты ў вёсцы. У чэрв. 1943 г. карнікі поўнасцю спалілі вёску і загубілі 36 жыхароў. 82 вяскоўцы загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 382 жыхары. У складзе калгаса «Шлях Леніна» (цэнтр — в. Заходы). Дзейнічаюць Елізаравіцкае лясніцтва, цагельня, 9-гадовая школа, б-ка, фельч.-акушэрскі пункт, клуб. Планіровачна складаецца з дугападобнай вуліцы, блізкай да шыротнай арыентацыі, да якой з З і Пн далучаюцца 3 кароткія прамалінейныя вуліцы. На Пн адасоблены ўчастак забудовы. Жылыя дамы драўляныя сядзібнага тыпу. Радзіма Героя Сав. Саюза А.Р.Корзуна.

У склад Дуброўскага с/с уваходзілі да сярэдзіны 1930-х г. пас. Васход, да 1939 г. — вёскі Бежкаў і Стража, да 1995 г. — пас. Новасвятое (не існуюць).

**ДУНАЙ** — вёска ў Баршчоўскім с/с, за 32 км на У ад Рэчыцы, 10 км ад чыг. ст. Сеназавод (на лініі Калінкавічы—Гомель), 32 км ад Гомеля, побач аўтадарога Калінкавічы—Гомель, на У меліярацыйны канал. 27 гаспадарак, 66 жыхароў (2004 г.).

Засн. ў пач. 1920-х г. перасяленцамі з суседніх вёсак на былых памешчыцкіх землях. У 1932 г. арганізаваны калгас. 9 вяскоўцаў загінулі на франтах Вял. Айч. вайны. У складзе саўгаса «Баршчоўка» (цэнтр — в. Баршчоўка). Планіровачна складаецца з кароткай прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з Пд на ПнУ і забудаванай двухбакова, няшчыльна драўлянымі сял. хатамі.

**ДУХАНАЎКА** — вёска ў Вышамірскім с/с, за 34 км на Пд ад раённага цэнтра і чыг. ст. Рэчыца (на лініі Калінкавічы—Гомель), 84 км ад Гомеля, на У меліярацыйны канал. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Хойнікі—Рэчыца. 40 гаспадарак, 74 жыхары (2004 г.).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 19 ст. як сяленне ў Рэчыцкім пав. Мінскай губ. Найбольш актыўная забудова пры-

падае на 1920-я г. У 1930 г. 38 двароў, 216 жыхароў. У 1931 г. арганізаваны калгас «XIII Кастрычнік», працавалі кузня і ваўначоска. У 1940 г. 54 двары, 295 жыхароў. У Вял. Айч. вайну 28.1.1943 г. ням. акупанты расстралялі 44 жыхароў (пахаваны ў магіле ахвяр фашызму на паўд.-ўсх. ускраіне). У чэрв. 1943 г. карнікі поўнасцю спалілі вёску і загубілі 42 жыхароў. У баях каля вёскі загінулі 32 воіны (пахаваны ў брацкай магіле, за 0,1 км на ПдУ ад вёскі). 17 вяскоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 214 жыхароў. У складзе калгаса імя XXII з'езда КПСС (цэнтр — в. Вышамір). Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ і забудаванай драўлянымі сял. сядзібамі.

**ЕЛІЗАРАВІЧЫ** — вёска ў Дуброўскім с/с, за 41 км на З ад Рэчыцы, 12 км ад чыг. ст. Бабічы (на лініі Калінкавічы—Гомель), 91 км ад Гомеля. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Светлагорск—Рэчыца. 18 гаспадарак, 40 жыхароў (2004 г.).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 16 ст. як вёска ў Рэчыцкім пав. Мінскага ваяв. ВКЛ, у валоданні Патоцкіх, потым Масальскіх. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1795 г. 11 двароў. У 1850 г. 13 двароў, 66 жыхароў, уладанне памешчыка Адамовіча. Пад 1879 г. пазначана ў Какуевіцкім царк. прыходзе. Паводле перапісу 1897 г. 19 двароў, 101 жыхар, у Якімаваслабодскай вол. Рэчыцкага пав. Мінскай губ. У 1931 г. арганізаваны калгас. У 1940 г. 67 двароў, 347 жыхароў. У Вял. Айч. вайну ням. акупанты ўсталявалі тут апорны пункт, які партызаны ў лют. 1943 г. абяззброілі. У крас. 1943 г. ням. карнікі поўнасцю спалілі вёску і загубілі 11 жыхароў. 23 вяскоўцы загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 204 жыхары. У складзе калгаса «12 гадоў Кастрычніка» (цэнтр — в. Васількоў). Планіровачна складаецца з крывалінейнай мерыдыянальнай вуліцы, да цэнтра якой з У далучаецца кароткая прамалінейная вуліца. Забудова двухбаковая, нягшчыльная, драўляная, сядзібнага тыпу.

**ЖМУРАЎКА** — вёска, цэнтр Жмураўскага с/с, за 7 км на Пд ад раённага цэнтра і чыг. ст. Рэчыца (на лініі Калінкавічы—Гомель), 57 км ад Гомеля, на р. Дняпро, побач аўтадарога Лоеў—Рэчыца. 539 гаспадарак, 1362 жыхароў (2004 г.).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 18 ст. як вёска ў Рэчыцкім пав. Мінскага ваяв., уласнасць казны. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1795 г. 13 двароў. У 1850 г. 24 двары, 179 жыхароў. Пад 1879 г. пазначана ў Рэчыцкім царк. прыходзе. Паводле перапісу 1897 г. 59 двароў, 438 жыхароў. У 1908 г. 75 двароў, 504 жыхары, у Заспенскай вол. Рэчыцкага пав. Мінскай губ. З 8.12.1926 г. цэнтр Жмураўскага с/с Рэчыцкага р-на Рэчыцкай, з 9.6.1927 г. Гомельскай (да 26.7.1930) акруг, з 20.2.1938 г. Гомельскай вобл. У 1930 г. 154 двары, 862 жыхары, пач. школа, чырвоны куток, аддз. спажывецкай кааперацыі. У 1931 г. арганізаваны калгас «Жмураўка», працавалі кузня і рамонтна-трактарная майстэрня. У Вял. Айч. вайну ў баях каля вёскі 8.7.1941 і ў ліст. 1943 г. загінулі 18 воінаў і партызан (пахаваны ў брацкай магіле ў цэнтры вёскі). 118 вяскоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 1129 жыхароў. У складзе калгаса «40 гадоў Кастрычніка» (цэнтр — в. Броннае). Размешчаны сярэдняя школа, б-ка, фельч.-акушэрскі пункт, аддз. сувязі, Дом культуры. Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ, да якой з У далучаюцца 2 прамалінейныя, паралельныя паміж сабой шыротныя вуліцы, перакрыжаваныя пад прамым вуглом прамалінейнай вуліцай. Забудова двухбаковая, драўляная, сядзібнага тыпу.

**ЗАВУЖАЛЬ** — вёска ў Холмецкім с/с, за 32 км на ПдУ ад раённага цэнтра і чыг. ст. Рэчыца (на лініі Калінкавічы—Гомель), 82 км ад Гомеля, на р. Дняпро.

Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Лоеў—Рэчыца. 26 гаспадарак, 38 жыхароў (2004 г.).

Выяўленыя археолагамі гарадзішча мілаградскай і зарубінецкай культур і эпохі Кіеўскай Русі (на паўд. ускраіне, на беразе ракі) і курганны могільнік 10—11 ст. (16 насыпаў, 1 км на ПдЗ ад гарадзішча) сведчаць пра засяленне тутэйшых мясцін з далёкай старажытнасці. Па пісьмовых крыніцах вядома з 19 ст. як сяленне ў Холмецкай вол. Рэчыцкага пав. Мінскай губ. У 1850 г. 50 двароў, 220 жыхароў, уладанне графа Ракіцкага. Пад 1879 г. пазначана ў Холмецкім царк. прыходзе. Паводле перапісу 1897 г. 75 двароў, 426 жыхароў, хлебазапасны магазін. У 1908 г. 87 двароў, 506 жыхароў. З 8.12.1926 г. да 30.12.1927 г. цэнтр Завужальскага с/с Холмецкага, з 4.8.1927 г. Рэчыцкага р-наў Рэчыцкай, з 9.6.1927 г. Гомельскай акругі. У 1930 г. 107 двароў. У пач. 1931 г. арганізаваны калгас «Чырвоны маяк», працавала кузня. У 1939—40 гг. у вёску перасяліліся жыхары пас. Зара (не існуе). У Вял. Айч. вайну дзейнічала падп. патрыят. група (кіраўнікі П.Ф.Севераў, М.С.Вайтовіч, М.Ф.Яўланчык). Вызвалена 12.11.1943 г. 50 вяскоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 227 жыхароў. У складзе калгаса імя XXII з'езда КПСС (цэнтр — в. Вышамір). Планіровачна складаецца з прамалінейнай мерыдыянальнай вуліцы, забудаванай двухбакова драўлянымі сял. сядзібамі.

**ЗАКРАШЫНСКІ МОХ** — пасёлак у Васілевіцкім гар. Савеце, за 51 км на ПдЗ ад Рэчыцы, 3 км ад чыг. ст. Васілевічы (на лініі Калінкавічы—Гомель), 101 км ад Гомеля, побач аўтадарога Васілевічы—Рэчыца, на З меліярацыйныя каналы. 32 гаспадаркі, 57 жыхароў (2004 г.).

Засн. ў пач. 20 ст. Тут, непадалёку ад ст. Васілевічы, была арганізавана здабыча торфу на плошчы 500 дзес. У 1920 г. ў час акупацыі польскімі войскамі тарфяная гаспадарка была разбурана. Пасля выгнання акупантаў торфаздабыча аднавілася. У канцы 1920-х г. арцель па здабычы торфу ператварылася ў значнае прадпрыемства, вакол якога фарміраваўся жылы пасёлак. 28 пасялкоўцаў загінулі на франтах Вял. Айч. вайны. Дзейнічаюць фельч.-акушэрскі пункт і клуб. Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, блізкай да мерыдыянальнай арыентацыі і забудаванай драўлянымі сядзібамі.

**ЗАЛЕССЕ** — пасёлак у Свірыдавіцкім с/с, за 12 км на Пд ад раённага цэнтра і чыг. ст. Рэчыца (на лініі Калінкавічы—Гомель), 62 км ад Гомеля. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Хойнікі—Рэчыца. 4 гаспадаркі, 4 жыхары (2004 г.).

Засн. ў пач. 1920-х г. перасяленцамі з суседніх вёсак на былых памешчыцкіх землях. У 1930 г. 20 двароў, 131 жыхар. У 1931 г. арганізаваны калгас. У 1940 г. 25 двароў, 96 жыхароў. У Вял. Айч. вайну ў ліст. 1943 г. ням. акупанты спалілі 22 двары. 14 вяскоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 131 жыхар. У складзе калгаса імя С.М.Кірава (цэнтр — в. Свірыдавічы). Забудова рэдкая, драўляная, сядзібнага тыпу.

**ЗАРА СВАБОДЫ** — пасёлак у Новабарсуцкім с/с, за 36 км на ПдЗ ад раённага цэнтра і чыг. ст. Рэчыца (на лініі Калінкавічы—Гомель), 86 км ад Гомеля. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Хойнікі—Рэчыца. 17 гаспадарак, 36 жыхароў (2004 г.).

Засн. ў пач. 1920-х г. перасяленцамі з суседніх вёсак на былых памешчыцкіх землях. У 1931 г. арганізаваны калгас. У 1940 г. 55 двароў, 275 жыхароў. У Вял. Айч. вайну ў жн. 1943 г. ням. акупанты поўнасцю спалілі пасёлак і загубілі 6 жыхароў. 7 пасялкоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 204 жыхары. У складзе калгаса імя М.В.Фрунзе (цэнтр — в. Новы Барсук). Планіровачна складаецца з кароткай прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ і забудаванай аднабакова, няшчыльна драўлянымі сял. сядзібамі.

**ЗАРЭЧЧА** — гарадскі пасёлак, 1,3 тыс. жыхароў (2004 г.).

2.3.1995 г. Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь прыняў пастанову аб наданні новаму населенаму пункту ў Рэчыцкім р-не назвы Зарэчча і аднясенні яго да катэгорыі гарадскіх пасёлкаў. Размешчаны сярэдняя школа, б-ка, б-ца, дзіцячы сад.

**ЗАСЕЛЛЕ** — вёска ў Баршчоўскім с/с, за 35 км на ПнУ ад Рэчыцы, 11 км ад чыг. ст. Сеназавод (на лініі Калінкавічы—Гомель), 51 км ад Гомеля, вакол лес. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Калінкавічы—Гомель. 27 гаспадарак, 36 жыхароў (2004 г.).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 19 ст. як сяленне ў Целяшоўскай вол. Гомельскага пав. Магілёўскай губ. З 1880 г. дзейнічаў хлебазапасны магазін. Паводле перапісу 1897 г. 38 двароў, 220 жыхароў, хлебазапасны магазін, вятрак, крупарушка. У 1909 г. 50 двароў, 316 жыхароў, 238 дзес. зямлі. У 1926 г. 71 двор, 401 жыхар, ва Уваравіцкім р-не Гомельскай акругі. У 1930 г. арганізаваны калгас, працавалі вятрак і конная крупарушка. У 1940 г. 99 двароў, 312 жыхароў. У Вял. Айч. вайну ў жн. 1943 г. ням. акупанты поўнасцю спалілі вёску і загубілі 41 жыхара. 46 вяскоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 298 жыхароў. Размешчана падсобная гаспадарка Гомельскага з-да пускавых рухавікоў. Планіровачна складаецца з амаль прамалінейнай вуліцы, блізкай да мерыдыянальнай арыентацыі з 2 завулкамі і забудаванай рэдка драўлянымі сял. сядзібамі.

**ЗАСПА** — вёска, цэнтр Заспенскага с/с, за 15 км на Пд ад раённага цэнтра і чыг. ст. Рэчыца (на лініі Калінкавічы—Гомель), 46 км ад Гомеля, побач аўтадарога Лоеў—Рэчыца, на ўсх. ускраіне — старыца і пойма р. Дняпро. 509 гаспадарак, 1317 жыхароў (2004 г.).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 15 ст. як в. Заспічы Рэчыцкага пав. Мінскага ваяв. ВКЛ, на тракце Бабруйск—Чарнігаў. У 1511 г. ва ўладанні кн. Мажайскага. У 1640-х г. пазначана ў інвентары Гомельскага староства. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1811 г. ўладанне Шышковых, у Рэчыцкім пав. Мінскай губ. У 1834 г. 70 двароў, уладанне памешчыка Жудро. У 1850 г. 83 двары, 474 жыхары. Дзейнічалі прыходская (у 1854 згарэла) і прыпісная цэрквы. Цэнтр Заспенскай вол., у якую ў 1885 г. ўваходзілі 12 сяленняў з 3413 дварамі. У 1876 г. дваранін Вальбек меў у сяле 635 дзес. зямлі, а дваранін Каневіч у вёсках Гіпалітаў, Заспа і Свірыдавічы — 1319 дзес. зямлі і вінакурню. У 1885 г. 92 двары, 788 жыхароў, крама. Паводле перапісу 1897 г. 167 двароў, 1229 жыхароў, Троіцкая царква, нар. вучылішча, хлебазапасны магазін, 2 крамы, 2 карчмы. Побач была аднайменная сядзіба. У 1908 г. 193 двары, 1337 жыхароў. 9.5.1923 г. Заспенская вол. ліквідавана, а яе тэрыторыя, у т. л. і в. Заспа, уключаны ў Рэчыцкую вол. З 8.12.1926 г. ў складзе БССР, цэнтр Заспенскага с/с Рэчыцкага р-на Рэчыцкай, з 9.6.1927 г. Гомельскай (да 26.7.1930) акруг, з 20.2.1938 г. Гомельскай вобл. У 1929 г. 998 жыхароў, школа, хата-чытальня, аддз. спажывецкай кааперацыі, паравы млын. У 1929 г. арганізаваны калгас «Савецкая Беларусь», працавалі крухмальны з-д, 2 ветракі, кузня. У Вял. Айч. вайну ням. акупанты ўсталявалі тут свой гарнізон, які партызаны атрада імя К.Я.Варашылава разграмілі ў снеж. 1942 г. У баях за вёску ў ліст. 1943 г. загінулі 13 воінаў (пахаваны ў брацкай магіле на



*Пераможцы рэспубліканскіх спаборніцтваў па ўборцы збожжавых І. і Ф. Герыловічы з вытворча-сельскагаспадарчага кааператыва «Савецкая Беларусь», в. Заспа.*

могілках). 222 вяскоўцы загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 1155 жыхароў. Цэнтр калгаса «Савецкая Беларусь». Дзейнічаюць крухмальны з-д, цагельня, камбінат быт. абслугоўвання, сярэдняя і муз. школы, Дом культуры, б-ка, амбулаторыя, аптэка, аддз. сувязі, дзіцячыя яслі-сад, 2 магазіны. Планіровачна складаецца з крывалінейнай вуліцы, блізкай да мерыдыянальнай арыентацыі, да якой з З далучаюцца 4 кароткія прамалінейныя вуліцы, злучаныя паміж сабой кароткай вуліцай. Забудова двухбаковая, драўляная, сядзібнага тыпу. У 1986 г. пабудавана 100 мураваных, катэджнага тыпу дамоў, у якіх пасяліліся перасяленцы з забруджаных радыяцыяй месц у выніку Чарнобыльскай катастрофы. Радзіма аднаго з кіраўнікоў патрыят. падполля і партыз. руху ў Беластоцкай вобл. ў Вял. Айч. вайну, засл. работніка культуры Беларусі Т.М.Стрыжака і бел. мастака М.А.Блішча.

У склад Заспенскага с/с да сярэдзіны 1930-х г. уваходзілі пасёлкі Гарадок, Нова-Аляксандраўка, да 1962 г. — Красны Бор, да 1980 г. — Чорная Зямля (не існуюць).

**ЗАХОДЫ** — вёска ў Дуброўскім с/с, за 45 км на ПнЗ ад Рэчыцы, 17 км ад чыг. ст. Васілевічы (на лініі Калінкавічы—Гомель), 95 км ад Гомеля, на Пн урочышча Краснаполле. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Светлагорск—Рэчыца. 124 гаспадаркі, 301 жыхар (2004 г.).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 19 ст. як сяленне ў Рэчыцкім пав. Мінскай губ. Дваранін Н.М.Цярэнін меў тут у 1895 г. вял. надзелы зямлі. У 1890-х г. у наваколлі працавала Зах. меліярацыйная экспедыцыя. Дзейнічала лесапільня Равіковіча (паравы рухавік, 80 рабочых). З 8.12.1926 г. да 30.12.1927 г. цэнтр Заходскага с/с Васілевіцкага, з 4.8.1927 г. Рэчыцкага р-наў Рэчыцкай, з 9.6.1927 г. Гомельскай акруг. З 1929 г. арганізаваны калгас «10 гадоў БССР», працавалі паравы млын і кузня. У 1940 г. 89 двароў, 319 жыхароў. У Вял. Айч. вайну ням. акупанты ў чэрв. 1943 г. поўнасцю спалілі вёску і загубілі 23 жыхароў. У баях каля вёскі ў 1941 і 1943 гг. загінулі 59 воінаў і 5 партызан (пахаваны ў брацкай магіле, за 0,5 км на Пн ад вёскі). 71 вясковец загінуў на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 490 жыхароў. Цэнтр калгаса «Шлях Леніна». Працуюць філіял раённага камбіната быт. абслугоўвання, сярэдняя школа, Дом культуры, б-ка, фельч.-акушэрскі і вет. пункты, аддз. сувязі, дзіцячыя яслі-сад, магазін. Планіровачна складаецца з прамалінейнай мерыдыянальнай вуліцы, да якой на Пд далучаюцца 2 кароткія вуліцы. Забудова двухбаковая, драўляная, сядзібнага тыпу.

**ЗАШЧОБ'Е** — вёска і чыг. станцыя на ветцы Васілевічы—Хойнікі ад лініі Калінкавічы—Гомель, падпарадкавана Васілевіцкаму гар. Сав., за 55 км на ПдЗ ад Рэчыцы, 105 км ад Гомеля, на аўтадарозе Калінкавічы—Гомель, на У і З сетка меліярацыйных каналаў, на ПнЗ — урочышча Гарадок. 350 гаспадарак, 1041 жыхар (2004 г.).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 19 ст. як сяленне ў Васілевіцкай вол. Рэчыцкага пав. Мінскай губ. У 1834 г. 18 двароў, у 1858 г. 24 двары, 173 жыхары, уласнасць казны. Паводле перапісу 1897 г. 57 двароў, 359 жыхароў, капліца, хлебазапасны магазін, млын на коннай цязе, кузня. У 1908 г. 95 двароў, 527 жыхароў. Пасля здачы ў эксплуатацыю ў 1911 г. чыгункі Васілевічы—Хойнікі пачала дзейнічаць чыг. станцыя. З 8.12.1926 г. да 30.12.1927 г. цэнтр Зашчобскага с/с Васілевіцкага, з 4.8.1927 г. Хойніцкага р-наў Рэчыцкай, з 9.6.1927 г. Гомельскай акруг. У 1929 г. арганізаваны калгас «Іскра Ільіча», працавалі кузня і вятрак. У 1930 г. 75 двароў, 421 жыхар. У 1936 г. каля вёскі пралягла аўтадарога Калінкавічы—Гомель. У Вял. Айч. вайну ў баях за вызваленне вёскі і наваколля ў ліст. 1943 г. загінулі 139 воінаў (пахаваны ў брацкай магіле ў цэнтры вёскі). Вызвалена 21.11.1943 г. 99 вяскоўцаў загінулі

на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 754 жыхары. Цэнтр саўгаса «Сцяг перамогі». Размешчаны сярэдняя школа, Дом культуры, б-ка, фельч.-акушэрскі пункт, дзіцячыя яслі-сад, аддз. сувязі. Планіровачна складаецца з 2 паралельных паміж сабой вуліц, арыентаваных з ПдУ на ПнЗ, да якіх з Пн і Пд далучаюцца кароткія вуліцы. Забудова двухбаковая, драўляная, сядзібнага тыпу. У 1969—78 гг. збудаваны 44 мураваныя 1—2-кватэрныя дамы.

**ІВАНАЎКА** — вёска ў Жмураўскім с/с, за 7 км на Пд ад раённага цэнтра і чыг. ст. Рэчыца (на лініі Калінкавічы—Гомель), 57 км ад Гомеля, побач аўтадарога Рэчыца—Хойнікі. 28 гаспадарак, 68 жыхароў (2004 г.).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 19 ст. як сяленне ў Ровенскаслабодскай вол. Рэчыцкага пав. Мінскай губ. Памешчык Гедыёнаў меў тут у 1876 г. 436 дзес. зямлі, 2 вадзяныя млыны і сукнавальню. У 1930 г. 16 двароў, 80 жыхароў. Працавалі цагельня і смалакурня. У 1931 г. арганізаваны калгас. 9 вяскоўцаў загінулі на франтах Вял. Айч. вайны. Паводле перапісу 1959 г. 150 жыхароў. У складзе саўгаса «Дземяхі» (цэнтр — в. Салтаноў). Дзейнічае цагельня. Планіровачна складаецца з дугападобнай вуліцы, забудаванай няшчыльна драўлянымі сял. сядзібамі.

**ІВАНІШЧА** — пасёлак у Заспенскім с/с, за 19 км на ПдУ ад раённага цэнтра і чыг. ст. Рэчыца (на лініі Калінкавічы—Гомель), 69 км ад Гомеля, побач аўтадарога Лоеў—Рэчыца. 1 гаспадарка, 4 жыхары (2004 г.).

Засн. ў 1920-х г. перасяленцамі з суседніх вёсак на былых памешчыцкіх землях. У 1930 г. 3 двары, 13 жыхароў. Працавала кузня. У 1931 г. арганізаваны калгас. У Вял. Айч. вайну вызвалены 14.11. 1943 г. 14 пасялкоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 88 жыхароў. У складзе калгаса «50 гадоў Кастрычніка» (цэнтр — в. Левашы). Драўляныя сял. сядзібы пастаўлены каля аўтадарогі.

**КАЗАЗАЕЎКА** — вёска ў Жмураўскім с/с, за 2 км на Пд ад раённага цэнтра і чыг. ст. Рэчыца (на лініі Калінкавічы—Гомель), 52 км ад Гомеля, на р. Дняпро. Транспартныя сувязі па аўтадарогах, якія адыходзяць ад Рэчыцы. 311 гаспадарак, 796 жыхароў (2004 г.).

Выяўленыя археолагамі 2 курганныя могільнікі (побач з вёскай) сведчаць пра засяленне тутэйшых мясцін з глыбокай старажытнасці. Па пісьмовых крыніцах вядома з 18 ст. як сяленне ў Рэчыцкім пав. Мінскага ваяводства. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1795 г. 9 двароў. Пад 1879 г. пазначана ў Рэчыцкім царк. прыходзе. Паводле перапісу 1897 г. 41 двор, 272 жыхары. У 1908 г. 60 двароў, 396 жыхароў, у Заспенскай вол. Рэчыцкага пав. Мінскай губ. У 1930 г. 113 двароў, 557 жыхароў. У 1931 г. арганізаваны калгас. Паводле перапісу 1959 г. 796 жыхароў. 71 вясковец загінуў на фронце. У складзе калгаса «40 гадоў Кастрычніка» (цэнтр — в. Броннае). Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, блізкай да мерыдыяльнай арыентацыі (па абодва бакі аўтадарогі Рэчыца—Лоеў), да якой з У і З далучаюцца кароткія вуліцы. Забудова мураваная і драўляная сядзібнага тыпу.

**КАЗАНАЎКА** — вёска ў Свірыдавіцкім с/с, за 25 км на Пд ад раённага цэнтра і чыг. ст. Рэчыца (на лініі Калінкавічы—Гомель), 75 км ад Гомеля. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Лоеў—Рэчыца. 7 гаспадарак, 10 жыхароў (2004 г.).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 19 ст. як сяленне ў Холмецкай вол. Рэчыцкага пав. Мінскай губ. Паводле перапісу 1897 г. пас. Казанаўка (ён жа Забегайлаўка), 67 жыхароў. У 1909 г. 12 двароў, 72 жыхары. У 1930 г. 14 двароў, 76 жыхароў. У 1932 г. вяскоўцы ўступілі ў калгас, працавала ваўначоска. У 1939—40 гг. у вёску перасяліліся жыхары пас. Новы Сад (не існуе). 11 вяскоўцаў загінулі на франтах Вял. Айч. вайны. Паводле пе-

рапісу 1959 г. 197 жыхароў. У складзе калгаса імя С.М.Кірава (цэнтр — в. Свірыдавічы). Планіровачна складаецца з 2 кароткіх, блізкіх да шыротнай арыентацыі вуліц, забудаваных рэдка драўлянымі сял. сядзібамі.

**КАЛІНІН** — пасёлак у Свірыдавіцкім с/с, за 15 км на Пд ад раённага цэнтра і чыг. ст. Рэчыца (на лініі Калінкавічы—Гомель), 65 км ад Гомеля. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Рэчыца—Хойнікі. 1 гаспадарка, 2 жыхары (2004 г.).

Засн. ў 1920-х г. перасяленцамі з суседніх вёсак на былых памешчыцкіх землях. У 1930 г. 23 двары, 134 жыхары. У 1931 г. арганізаваны калгас. 8 пасялкоўцаў загінулі на франтах Вял. Айч. вайны. У складзе калгаса імя С.М.Кірава (цэнтр — в. Свірыдавічы). Забудова драўляная сядзібнага тыпу.

**КАЛОЧЫН** — вёска ў Холмецкім с/с, за 22 км на ПдУ ад раённага цэнтра і чыг. ст. Рэчыца (на лініі Калінкавічы—Гомель), 72 км ад Гомеля, на р. Дняпро. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Лоеў—Рэчыца. 43 гаспадаркі, 58 жыхароў (2004 г.).

Выяўленыя археолагамі гарадзішчы і селішчы 6—8 ст. (за 0,5 км на Пн і Пд ад вёскі) сведчаць пра засяленне тутэйшых мясцін з далёкай старажытнасці. Ад гэтых археал. помнікаў паходзіць назва Калочынская культура. Па пісьмовых крыніцах вядома з 19 ст. як сяленне ў Холмецкай вол. Рэчыцкага пав. Мінскай губ. У 1850 г. 32 двары, уладанне графа Ракіцкага. Дзейнічаў вадзяны млын. Пад 1879 г. пазначана ў Холмецкім царк. прыходзе. Паводле перапісу 1897 г. 233 жыхары. У 1908 г. 41 двор, 301 жыхар. З 8.12.1926 г. да 4.8.1927 г. цэнтр Калочынскага с/с Холмецкага, з 4.8.1927 г. Рэчыцкага р-наў Рэчыцкай, з 9.6.1927 г. Гомельскай акруг. У 1930 г. 79 двароў, 384 жыхары. У 1931 г. арганізаваны калгас. У 1940 г. 114 двароў, 556 жыхароў. У Вял. Айч. вайну ў чэрв. 1943 г. ням. акупанты поўнасцю спалілі вёску і загубілі 13 жыхароў. Вызвалена 14.11.1943 г. 44 вяскоўцы загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 328 жыхароў. У складзе калгаса імя XXII з'езда КПСС (цэнтр — в. Вышамір). Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ (уздоўж ракі) і забудаванай двухбакова драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**КАМСАМОЛЬСК** (да 1935 Дзюрдзеў) — вёска, цэнтр Камсамольскага с/с, за 35 км на ПнЗ ад Рэчыцы, 20 км ад чыг. ст. Дземяхі (на лініі Калінкавічы—Гомель), 85 км ад Гомеля. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Светлагорск—Рэчыца. 207 гаспадарак, 596 жыхароў (2004 г.).

Па пісьмовых крыніцах вядома з пач. 19 ст. як сяленне ў Горвальскай вол. Рэчыцкага пав. Мінскай губ. Пад 1828 г. пазначана ў Сведскім царк. прыходзе. У 1850 г. 43 двары, у складзе маёнтка Горваль, у валоданні ген.-м. Г.Ф.Менгдэна. Паводле перапісу 1897 г. 63 двары, 328 жыхароў, школа граматы, хлебазапасны магазін, крама, карчма. Побач быў аднайменны фальварак. У 1908 г. 87 двароў, 559 жыхароў. З 8.12.1926 г. цэнтр Дзюрдзеўскага, з 1935 г. Камсамольскага сельсаветаў Горвальскага, з 4.8.1927 г. Рэчыцкага р-наў Рэчыцкай, з 9.6.1927 г. Гомельскай (да 26.7.1930) акруг, з 20.2. 1938 г. Гомельскай вобл. У 1929 г. 721 жыхар, школа, хата-чытальня, аддз. спажывецкай кааперацыі. У 1929 г. арганізаваны калгас «Шлях да сацыялізму», працавалі кузня і ваўначоска. У Вял. Айч. вайну ў 1943 г. ням. акупанты спалілі вёску і загубілі 7 жыхароў. 68 вяскоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 524 жыхары. Цэнтр саўгаса «Камсамольскі». Працуюць сярэдняя школа, Дом культуры, б-ка, фельч.-акушэрскі пункт, дзіцячы сад, швейная майстэрня, аддз. сувязі. Планіровачна складаецца з 2 амаль прамалінейных, паралельных паміж сабой вуліц амаль да мерыдыянальнай арыентацыі, да якіх на Пд далучаецца кароткая прама-

лінейная вуліца з завулкам. Забудова пераважна драўляная сядзібнага тыпу. У 1987 г. пабудавана 50 мураваных, катэджнага тыпу дамоў, у якіх размясціліся перасяленцы з забруджаных радыяцыяй месц у выніку Чарнобыльскай катастрофы. У апошняе дзесяцігоддзе праведзена вял. работа па добраўпарадкаванні вёскі.

**КАПАНЬ** — вёска ў Баршчоўскім с/с, за 10 км на У ад Рэчыцы, 3 км ад чыг. ст. Сеназавод (на лініі Калінкавічы—Гомель), 46 км ад Гомеля, на р. Жарэль (прыток р. Дняпро), на У сетка меліярацыйных каналаў, на Пд і Пн мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Калінкавічы—Гомель. 111 гаспадарак, 252 жыхары (2004 г.).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 19 ст. як сяленне ў Целяшоўскай вол. Гомельскага пав. Магілёўскай губ. У 1847 г. мясц. памешчык меў 1351 дзес. зямлі, пераправу, вадзяны і ветраны млыны. Паводле перапісу 1897 г. 68 двароў, 390 жыхароў, школа граматы, хлебазапасны магазін. У 1909 г. 70 двароў, 471 жыхар, 331 дзес. зямлі. У 1920 г. курсанты школы чырвоных камандзіраў вялі тут бой супраць польскіх войскаў, якія імкнуліся прарвацца да Гомеля. У 1926 г. 124 двары, 572 жыхары, паштовы пункт, школа. З 8.12.1926 г. да 2.4.1959 г. цэнтр Капанскага с/с Дзятлавіцкага, з 4.8.1927 г. Рэчыцкага р-наў Гомельскай (да 26.7. 1930) акругі, з 20.2.1938 г. Гомельскай вобл. У 1930 г. арганізаваны калгас. 72 вяскоўцы загінулі на франтах Вял. Айч. вайны. Паводле перапісу 1959 г. 600 жыхароў. У складзе саўгаса «Баршчоўка» (цэнтр — в. Баршчоўка). Размешчаны пач. школа, б-ка, фельч.-акушэрскі пункт, аддз. сувязі, клуб. Планіровачна складаецца з крывалінейнай вуліцы, блізкай да мерыдыяльнай арыентацыі, да якой з У далучаецца крыху выгнутая вуліца. Забудова няшчыльная, драўляная, сядзібнага тыпу. Вакол вёскі размешчаны Гомельскія і Рэчыцкія садаводчыя кааператывы. Радзіма паэтэсы Н.І.Тулупавай.

У склад Капанскага с/с уваходзілі: да сярэдзіны 1930-х г. хут. Лясная Стража, да 1950-х г. — в. Адверніца (не існуюць).

**КАПАРАЎКА** — вёска, цэнтр Капараўскага с/с, за 17 км на ПдЗ ад Рэчыцы, 9 км ад чыг. ст. Дземяхі (на лініі Калінкавічы—Гомель), 55 км ад Гомеля, побач аўтадарога Калінкавічы—Гомель. 81 гаспадарка, 227 жыхароў (2004 г.).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 19 ст. як сяленне ў Ровенскаслабодскай вол. Рэчыцкага пав. Мінскай губ. У 1850 г. 42 двары, 223 жыхары, у валоданні двараніна Валовіча, які ў 1876 г. меў тут 334 дзес. зямлі. Пад 1879 г. пазначана ў Салтаноўскім царк. прыходзе. Паводле перапісу 1897 г. 87 двароў, 595 жыхароў, капліца, хлебазапасны магазін. Побач была аднайменная сядзіба. Аб значнасці страт, якія нанеслі вёсцы падзеі 1-й сусветнай і грамадз. войнаў, сведчыць тое, што з 510 дзес. раллі ў 1920 г. засявалі толькі 156 дзес. З 8.12.1926 г. цэнтр Капараўскага с/с Рэчыцкага р-на Рэчыцкай, з 9.6.1927 г. Гомельскай (да 26.7.1930) акруг, з 20.2.1938 г. Гомельскай вобл. У 1929 г. 934 жыхары, пач. школа. У 1930 г. 173 двары, 969 жыхароў. У 1930 г. арганізаваны калгас «Завет Леніна», працавала кузня. 79 вяскоўцаў загінулі на франтах Вял. Айч. вайны. Паводле перапісу 1959 г. 592 жыхары. У складзе калгаса «Камунар» (цэнтр — в. Будка). Размешчаны камбінат быт. абслугоўвання, сярэдняя школа, клуб, б-ка, фельч.-акушэрскі пункт, аптэка, аддз. сувязі, магазін. Планіровачна складаецца з прамалінейнай, амаль шыротнай арыентацыі вуліцы, да якой з З далучаецца крывалінейная і з Пд — 2 прамалінейныя, злучаныя паміж сабой кароткай, вуліцы. Забудова двухбаковая, няшчыльная, драўляная, сядзібнага тыпу. Каля вёскі выяўлена радовішча нафты, з якога 17.10.1964 г. здабыты першыя тоны бел. нафты.

У склад Капараўскага с/с да сярэдзіны 1930-х г. уваходзілі пас. Пабядзіцель, хутар Холмскі, да 1984 г. — пас. Ясная Паляна (не існуюць).

**КАРАВАЦІЧЫ** — вёска, цэнтр Караваціцкага с/с, за 30 км на ПдЗ ад Рэчыцы, 12 км ад чыг. ст. Бабічы (на лініі Калінкавічы—Гомель), 66 км ад Гомеля, на р. Катынь (прыток р. Ведрыч), на У сетка меліярацыйных каналаў, у іх ліку канава Цішкоўская, побач аўтадарога Калінкавічы—Гомель. 395 гаспадарак, 836 жыхароў (2004 г.).

Выяўленае археолагамі гарадзішча (за 0,8 км на ПдУ ад вёскі) сведчыць пра засяленне тутэйшых мясцін з далёкай старажытнасці. Па пісьмовых крыніцах вядома з 18 ст. як сяленне ў Рэчыцкім пав. Мінскага ваяв. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1795 г. 20 двароў, у 1858 г. 51 двор, 496 жыхароў, уласнасць казны. Пад 1879 г. пазначана ў Маладушскім царк. прыходзе. У 1886 г. 97 двароў, 675 жыхароў. Паводле перапісу 1897 г. 171 двор, 986 жыхароў, школа граматы, хлебазапасны магазін, крама, карчма. У 1908 г. 226 двароў, 1356 жыхароў, у Маладушскай вол. Рэчыцкага пав. Мінскай губ. З 8.12.1926 г. да 16.7.1954 г. і з 29.11.1962 г. цэнтр Караваціцкага с/с Рэчыцкага, з 20.2.1938 г. Васілевіцкага, з 29.11.1962 г. Рэчыцкага р-наў Рэчыцкай (да 1.7.1930) акругі, з 20.2.1938 г. Палескай, з 8.1.1954 г. Гомельскай абласцей. У 1930 г. 324 двары, 1375 жыхароў, пач. школа, хата-чытальня, аддз. спажывецкай кааперацыі. У 1931 г. арганізаваны калгас «Заветы Леніна», працавала кузня. У Вял. Айч. вайну ням. акупанты ў ліст. 1943 г. часткова спалілі вёску, загубілі 107 жыхароў. 18.11.1943 г. знішчальна-процітанкавая батарэя 41-й асобнай знішчальна-процітанкавай артыл. брыгады, акружаная ворагам каля вёскі, працяглы час вяла няроўны бой і нанесла ворагу вял. страты (камандзір батарэі ст. лейтэнант А.Я.Сухарукаў удастоены звання Героя Сав. Саюза). У баях каля вёскі загінулі 150 воінаў і 2 партызаны (пахаваны ў брацкай магіле на могілках). 316 жыхароў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 2137 жыхароў. У складзе калгаса «XXI з'езд КПСС» (цэнтр — в. Чырвоная Дуброва). Размешчаны камбінат бытавога абслугоўвання, сярэдняя школа, Дом культуры, б-ка, б-ца, аптэка, аддз. сувязі, магазін. Планіровачна складаецца з прамалінейнай працяглай вуліцы амаль шыротнай арыентацыі, да цэнтра якой з Пн далучаецца кароткая прамалінейная вуліца. На Пд і Пн ад галоўнай і амаль паралельна да яе праходзяць крывалінейныя вуліцы. Забудова двухбаковая, пераважна драўляная, сядзібнага тыпу.

У склад Караваціцкага с/с да сярэдзіны 1930-х гг. уваходзіў пас. Красныя Арлы (не існуе).

**КАРОСТАНЬ** — вёска ў Перасвятоўскім с/с, за 14 км на ПдЗ ад раённага цэнтра і чыг. ст. Рэчыца (на лініі Калінкавічы—Гомель), 65 км ад Гомеля, побач аўтадарога Калінкавічы—Гомель. 52 гаспадаркі, 95 жыхароў (2004 г.).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 19 ст. як сяленне ў Ровенскаслабодскай вол. Рэчыцкага пав. Мінскай губ. У 1855 г. дваранка Сікорская мела ў вёсцы 300 дзес. зямлі. Паводле перапісу 1897 г. 29 двароў, 273 жыхары, хлебазапасны магазін. У 1908 г. 45 двароў. У 1930 г. 69 двароў, 357 жыхароў. У 1931 г. арганізаваны калгас. У Вял. Айч. вайну вызвалена ад ням. акупацыі 14.11.1943 г. 32 вяскоўцы загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 347 жыхароў. Размешчаны падсобная гаспадарка вытв. аб'яднання «Беларусьнафта» і клуб. Планіровачна складаецца з прамалінейнай шыротнай вуліцы, забудаванай двухбакова драўлянымі сял. сядзібамі. Каля вёскі ёсць залежы мергелю.

**КІРАВА** — вёска ў Жмураўскім с/с, за 4 км на Пд ад раённага цэнтра і чыг. ст. Рэчыца (на лініі Калінкавічы—Гомель), 54 км ад Гомеля, на аўтадарозе Рэчыца—Лоеў. 25 гаспадарак, 73 жыхары (2004 г.).

Засн. ў 1920-х г. перасяленцамі з суседніх вёсак. У 1932 г. арганізаваны калгас. 4 вяскоўцы загінулі на франтах Вял. Айч. вайны. Паводле перапісу 1959 г. 72 жыхары. У складзе калгаса «40 гадоў Кастрычніка» (цэнтр — в. Броннае). Планіровачна складаецца з прамалінейнай кароткай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ. Забудова драўляная, аднабаковая, сядзібнага тыпу.

**КЛЕНАВІЦА** — пасёлак у Баршчоўскім с/с, за 27 км на У ад Рэчыцы, 7 км ад чыг. ст. Якімаўка (на лініі Калінкавічы—Гомель), 26 км ад Гомеля. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Калінкавічы—Гомель. 9 гаспадарак, 17 жыхароў (2004 г.).

Засн. ў пач. 1920-х г. на былых памешчыцкіх землях перасяленцамі з суседніх вёсак. У 1926 г. 7 двароў, 34 жыхары, ва Уваравіцкім р-не Гомельскай акругі. У 1932 г. арганізаваны калгас. Паводле перапісу 1959 г. 83 жыхары. У складзе саўгаса «Баршчоўка» (цэнтр — в. Баршчоўка). Планіровачна складаецца з кароткай вуліцы, блізкай да шыротнай арыентацыі. Забудова драўляная, няшчыльная, сядзібнага тыпу.

**КОЗЗЕ** — вёска ў Дземяхоўскім с/с, за 19 км на З ад раённага цэнтра і чыг. ст. Рэчыца (на лініі Калінкавічы—Гомель), 70 км ад Гомеля, на р. Ведрыч (прыток р. Дняпро), на З меліярацыйныя каналы. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Васілевічы—Рэчыца. 179 гаспадарак, 426 жыхароў (2004 г.).

Выяўленае археолагамі гарадзішча ранняга жал. веку (за 0,7 км на З ад вёскі, на правым беразе ракі), сведчыць пра засяленне тутэйшых мясцін з далёкай старажытнасці. Па пісьмовых крыніцах вядома з пач. 19 ст. У 1811 г. ў валоданні Солтанаў. У 1850 г. 49 двароў, у валоданні памешчыка Будзіноўскага. Пад 1879 г. пазначана ў Салтаноўскім царк. прыходзе. Паводле перапісу 1897 г. 109 двароў, 677 жыхароў, хлебазапасны магазін, карчма, у Ровенскаслабодскай вол. Рэчыцкага пав. Мінскай губ. З 8.12.1926 г. да 30.12.1927 г. цэнтр Козскага с/с Рэчыцкага р-на Рэчыцкай, з 9.6.1927 г. Гомельскай акруг. У 1930 г. 186 двароў, 914 жыхароў. У 1930 г. арганізаваны калгас «Чырвоны сцяг», працаваў вятрак. 76 вяскоўцаў загінулі на франтах Вял. Айч. вайны. Паводле перапісу 1959 г. 879 жыхароў. У складзе саўгаса «Дземяхі» (цэнтр — в. Салтаноў). Планіровачна складаецца з прамалінейнай мерыдыяльнай вуліцы, да якой з У далучаюцца 3 прамалінейныя, паралельныя паміж сабой вуліцы. Забудова двухбаковая, драўляная, сядзібнага тыпу.

**КРАПІЎНЯ** — вёска ў Камсамольскім с/с, за 49 км на ПнЗ ад раённага цэнтра і чыг. ст. Рэчыца (на лініі Калінкавічы—Гомель), 99 км ад Гомеля. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Светлагорск—Рэчыца. 7 гаспадарак, 8 жыхароў (2004 г.).

Выяўлены археолагамі курганны могільнік (25 насыпаў, за 2 км на ПнУ ад вёскі) сведчыць пра засяленне тутэйшых мясцін з далёкай старажытнасці. Па пісьмовых крыніцах вядома з 19 ст. як сяленне ў Горвальскай вол. Рэчыцкага пав. Мінскай губ. У 1850 г. 4 двары. Уваходзіла ў маёнтак Горваль, валоданне ген.-м. Г.Ф.Менгдэна. Пад 1879 г. пазначана ў Сведскім царк. прыходзе. У 1885 г. мелася паштовая станцыя (10 коней) на тракце Якімава Слабада—Лоеў. Паводле перапісу 1897 г. 8 двароў, 65 жыхароў. У 1908 г. 10 двароў, 191 жыхар. У 1931 г. арганізаваны калгас. У 1940 г. 17 двароў. У Вял. Айч. вайну ў чэрв. 1943 г. акупанты поўнасцю спалілі вёску і загубілі 5 жыхароў. 5 вяскоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 88 жыхароў. У складзе саўгаса «Камсамольскі» (цэнтр — в. Камсамольск). Планіровачна складаецца з кароткай прамалінейнай вуліцы, блізкай да мерыдыяльнай арыентацыі, да цэнтра якой з У далучаецца завулак. Забудова няшчыльная, драўляная, сядзібнага тыпу. Каля вёскі ёсць залежы жалезняку.

**КРАСНАЗЕМ'Е** — вёска ў Жмураўскім с/с, за 9 км на Пд ад раённага цэнтра і чыг. ст. Рэчыца (на лініі Калінкавічы—Гомель), 59 км ад Гомеля, побач аўтадарога Калінкавічы—Гомель. 12 гаспадарак, 23 жыхары (2004 г.).

Засн. ў пач. 20 ст. пераселенцамі з суседніх вёсак. Найбольш актыўная забудова прыпадае на 1920-я г. У 1930 г. 16 двароў, 103 жыхары. У 1931 г. арганізаваны калгас. 13 вяскоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 145 жыхароў. У складзе калгаса «Савецкая Беларусь» (цэнтр — в. Заспа). Планіровачна складаецца з кароткай прамалінейнай вуліцы, блізкай да мерыдыяльнай арыентацыі і забудаванай няшчыльна драўлянымі сял. сядзібамі.

**КРАСНАПОЛЛЕ** — вёска ў Артукоўскім с/с, за 33 км на ПдУ ад раённага цэнтра і чыг. ст. Рэчыца (на лініі Калінкавічы—Гомель), 83 км ад Гомеля. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Лоеў—Рэчыца. 81 гаспадарка, 171 жыхар (2004 г.).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 19 ст. як сяленне ў Холмецкай вол. Рэчыцкага пав. Мінскай губ. У 1818 г. мясц. памешчык меў тут 112 дзес. зямлі. У 1850 г. 26 двароў, 132 жыхары, уладанне графа Ракіцкага. Пад 1879 г. пазначана ў Холмецкім царк. прыходзе. Паводле перапісу 1897 г. 46 двароў, 350 жыхароў, капліца, хлебазапасны магазін. У 1908 г. 63 двары, 388 жыхароў. З 8.12.1926 г. да 30.12.1927 г. цэнтр Краснапольскага с/с Холмецкага, з 4.8.1927 г. Рэчыцкага р-наў Гомельскай акругі. У 1930 г. арганізаваны калгас «Чырвоны сцяг», працавалі кузня і вятрак. 47 вяскоўцаў загінулі на франтах Вял. Айч. вайны. У 1945—46 гг. у вёску перасяліліся жыхары пасёлка Дворышча і Жубавец (не існуюць). Паводле перапісу 1959 г. 457 жыхароў. У складзе калгаса «Чырвоны сцяг» (цэнтр — в. Артукі). Планіровачна складаецца з дугападобнай вуліцы, арыентаванай мерыдыяльна, да якой на Пн і Пд далучаюцца кароткія вуліцы. Забудова няшчыльная, драўляная, сядзібнага тыпу. Радзіма Героя Сац. Працы І.У.Куляша.

**КРАСНАСЕЛЛЕ** — пасёлак у Свірыдавіцкім с/с, за 14 км на Пд ад раённага цэнтра і чыг. ст. Рэчыца (на лініі Калінкавічы—Гомель), 64 км ад Гомеля. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Лоеў—Рэчыца. 9 гаспадарак, 12 жыхароў (2004 г.).

Выяўленыя археолагамі ў наваколлі рэшткі неалітычнага пасялення сведчаць пра засяленне чалавекам тутэйшых месц з глыбокай старажытнасці. Сучасны пасёлак засн. ў пач. 20 ст. перасяленцамі з суседніх вёсак. Найбольш актыўная забудова прыпадае на 1920-я г. У 1930 г. 20 двароў, 115 жыхароў. У 1931 г. арганізаваны калгас. 12 пасялкоўцаў загінулі на франтах Вял. Айч. вайны. Паводле перапісу 1959 г. 124 жыхары. У складзе калгаса імя С.М.Кірава (цэнтр — в. Свірыдавічы). Планіровачна складаецца з кароткай шыротнай вуліцы, забудаванай няшчыльна драўлянымі сял. сядзібамі.

**КРАСНЫ МОСТ** — вёска ў Заспенскім с/с, за 15 км на ПдУ ад раённага цэнтра і чыг. ст. Рэчыца (на лініі Калінкавічы—Гомель), 65 км ад Гомеля, на р. Дняпро, побач аўтадарога Лоеў—Рэчыца. 55 гаспадарак, 112 жыхароў (2004 г.).

Засн. ў пач. 1920-х г. перасяленцамі з суседніх вёсак на былых памешчыцкіх землях. У 1931 г. арганізаваны калгас. Паводле перапісу 1959 г. 211 жыхароў. У складзе калгаса «Савецкая Беларусь» (цэнтр — в. Заспа). Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ, да цэнтра якой з У далучаецца завулак. Забудова двухбаковая, драўляная, няшчыльная, сядзібнага тыпу. Радзіма бел. паэта і літаратуразнаўцы В.У.Яраша.

**КРУЖОК** — пасёлак у Артукоўскім с/с, за 21 км на ПдУ ад раённага цэнтра і чыг. ст. Рэчыца (на лініі Калінкавічы—Гомель), 71 км ад Гомеля, побач аўтадарога Лоеў—Рэчыца. 3 гаспадаркі, 84 жыхары (2004 г.).

Засн. ў 1920-х г. перасяленцамі з суседніх вёсак на былых памешчыцкіх землях. У 1931 г. арганізаваны калгас. 6 пасялкоўцаў загінулі на франтах Вял. Айч. вайны. Паводле перапісу 1959 г. 65 жыхароў. У складзе калгаса «Чырвоны сцяг» (цэнтр — в. Артукі). Забудавана рэдка драўлянымі сял. сядзібамі.

**КРЫНКІ** — вёска ў Ліскаўскім с/с, за 34 км на З ад Рэчыцы, 3 км ад чыг. ст. Наватар (на лініі Калінкавічы—Гомель), 84 км ад Гомеля, побач аўтадарога Васілевічы—Рэчыца, на Пд канава Крапіўня, на У і З меліярацыйныя каналы. 168 гаспадарак, 348 жыхароў (2004 г.).

Выяўленыя археолагамі гарадзішча (за 2 км на З ад вёскі, ва ўрочышчы Гарадок) і курганны могільнік (за 2 км на У ад вёскі, ва ўрочышчы Лоўскае) сведчаць пра засяленне тутэйшых мясцін з глыбокай старажытнасці. Па пісьмовых крыніцах вядома з 19 ст. як сяленне ў Васілевіцкай вол. Рэчыцкага пав. Мінскай губ. У 1850 г. 52 двары, 439 жыхароў, уласнасць казны. Пад 1879 г. пазначана ў Салтаноўскім царк. прыходзе. У 1885 г. 103 двары. 451 жыхар. Паводле перапісу 1897 г. 152 двары, 933 жыхары, капліца, царк.-прыходская школа, хлебазапасны магазін, вятрак, конны млын, кузня, карчма. У 1914 г. для школы ўзведзены будынак. З 8.12.1926 г. да 30.12. 1927 г. цэнтр Крынкаўскага с/с Васілевіцкага, з 4.8.1927 г. Рэчыцкага р-наў Рэчыцкай, з 9.6.1927 г. Гомельскай акругі. У 1931 г. арганізаваны калгас «Піянер», працавала смалакурня. Пач. школа ў 1936 г. рэарганізавана ў 9-гадовую. У 1939 г. першую прадукцыю даў цагельны з-д. У выніку перасялення бліжэйшых хутароў у вёсцы з'явіліся 2 дадатковыя вуліцы — Новая і Махавая. У Вял. Айч. вайну ў снеж. 1942 г. ням. акупанты поўнасцю спалілі вёску і загубілі 165 жыхароў. 230 вяскоўцаў загінулі на франтах. Паводле перапісу 1959 г. 1122 жыхары. Размешчаны падсобная гаспадарка Гомельскага аддз. Бел. чыгункі, 9-гадовая школа, б-ка, фельч.-акушэрскі пункт, клуб. Планіровачна складаецца з 2 прамалінейных, паралельных паміж сабой вуліц, арыентаваных з ПдУ на ПнЗ, да якіх на Пн далучаюцца 2 (прамалінейная і плаўна выгнутая) вуліцы. Забудова двухбаковая, драўляная, сядзібнага тыпу.

У склад Крынкаўскага с/с у 1920-я г. ўваходзілі хутары Будкі, Галы, Гарадзецк, Гарохавае, Глебухаў, Дворышча, Жнілішча, Зваротны, Кляноцкі, Крапіўня, Красны, Лаўскі, Лясная Стража, Селішча-1, Селішча-2, Сланоў, Хутарышча, Язвы, Паўказарма (не існуюць).

**КУЗЬМІНКА** — вёска ў Вышамірскім с/с, за 43 км на Пд ад раённага цэнтра і чыг. ст. Рэчыца (на лініі Калінкавічы—Гомель), 93 км ад Гомеля. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Лоеў—Рэчыца. 1 гаспадарка, 1 жыхар (2004 г.).

Засн. ў пач. 20 ст. перасяленцамі з суседніх вёсак. У 1908 г. 14 двароў, 99 жыхароў, у Холмецкай вол. Рэчыцкага пав. Мінскай губ. У 1930 г. 22 двары, 108 жыхароў. У 1932 г. арганізаваны калгас «Май», працавалі кузня, ваўначоска і вятрак. У 1940 г. 47 двароў, 167 жыхароў. У Вял. Айч. вайну ў чэрв. 1943 г. ням. акупанты поўнасцю спалілі вёску і загубілі жыхара. У баі за вёску 14.11.1943 г. загінуў ст. сяржант Т.Ніязмамедаў (удастоены звання Героя Сав. Саюза). 4 вяскоўцы загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 105 жыхароў. У складзе калгаса імя XXII з'езда КПСС (цэнтр — в. Вышамір). Забудавана аднабакова драўлянымі сял. сядзібамі.

**ЛАБКІ** — пасёлак у Свірыдавіцкім с/с, за 23 км на Пд ад раённага цэнтра і чыг. ст. Рэчыца (на лініі Калінкавічы—Гомель), 73 км ад Гомеля. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Лоеў—Рэчыца. 56 гаспадарак, 156 жыхароў (2004 г.).

Засн. ў пач. 20 ст. перасяленцамі з суседніх вёсак. У 1908 г. ўрочышча, 1 двор, 7 жыхароў, у Заспенскай вол. Рэчыцкага пав. Мінскай губ. У 1930 г. 13 двароў,

85 жыхароў. У 1931 г. арганізаваны калгас. У 1940 г. 32 двары, 168 жыхароў. У Вял. Айч. вайну ў ліст. 1943 г. ням. акупанты спалілі 30 двароў і загубілі жыхара. 14 пасялкоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 82 жыхары. У складзе калгаса імя С.М.Кірава (цэнтр — в. Свірыдавічы). Планіровачна складаецца з выгнутай шыротнай вуліцы, забудаванай няшчыльна драўлянымі сял. сядзібамі.

**ЛАЗАРАЎКА** — вёска ў Капараўскім с/с, за 21 км на ПдЗ ад Рэчыцы, 7 км ад чыг. ст. Дземяхі (на лініі Калінкавічы—Гомель), 71 км ад Гомеля. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Калінкавічы—Гомель. 43 гаспадаркі, 106 жыхароў (2004 г.).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 19 ст. як сяленне ў Ровенскаслабодскай вол. Рэчыцкага пав. Мінскай губ. У 1850 г. 29 двароў. Пад 1879 г. пазначана ў Салтаноўскім царк. прыходзе. Паводле перапісу 1897 г. 57 двароў, 323 жыхары. У 1908 г. 64 двары, 394 жыхары. У 1930 г. 77 гаспадарак, 442 жыхары. Побач быў аднайменны пасёлак. У 1930 г. арганізаваны калгас «Камунар», працавалі кузня і ваўначоска. 63 вяскоўцы загінулі на франтах Вял. Айч. вайны. Паводле перапісу 1959 г. 299 жыхароў. У складзе калгаса «Камунар» (цэнтр — в. Будка). Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ, да якой з Пд далучаецца кароткая вуліца. Забудова драўляная сядзібнага тыпу.

**ЛЕВАШЫ** — вёска ў Заспенскім с/с, за 24 км на ПдУ ад раённага цэнтра і чыг. ст. Рэчыца (на лініі Калінкавічы—Гомель), 55 км ад Гомеля, на р. Дняпро, побач аўтадарога Лоеў—Рэчыца. 175 гаспадарак, 502 жыхары (2004).

Выяўленыя археолагамі гарадзішча мілаградскай культуры (ва ўрочышчы Гарадок), паселішча 1-га тысячагоддзя н.э. і курганны могільнік (150 насыпаў эпохі Кіеўскай Русі) сведчаць пра засяленне тутэйшых мясцін з далёкай старажытнасці. Гэта сцвярджаюць і знойдзеныя ў час раскопак рэчы побыту, упрыгожанні і арабскія манеты 10 ст. Па пісьмовых крыніцах вядома з 16 ст. як в. Левашэвічы, на тракце Бабруйск—Чарнігаў, у Рэчыцкім пав. Мінскага ваяв. ВКЛ. У 1511 г. ва ўладанні кн. Мажайскага. Пад 1525 і 1527 гг. ўпамінаецца ў перапісцы вял. кн. Васіля III і караля Жыгімонта I Старога па пытаннях пагранічных спрэчак. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1834 г. 49 двароў, вадзяны млын і паромная пераправа цераз Дняпро, паштовая станцыя (8 коней) на тракце Якімава Слабада—Чарнігаў. У 1850 г. 51 двор, 314 жыхароў, у Заспенскай вол. Рэчыцкага пав. Мінскай губ. Пад 1879 г. пазначана ў Заспенскім царк. прыходзе. Паводле перапісу 1897 г. 86 двароў, 459 жыхароў, школа граматы, хлебазапасны магазін, крама, карчма. У 1908 г. 104 двары, 813 жыхароў. З 8.12.1926 г. да 30.12. 1927 г. цэнтр Левашоўскага с/с Рэчыцкага р-на Гомельскай акругі. У 1930 г. арганізаваны калгас. У Вял. Айч. вайну ў 1943 г. ням. акупанты часткова спалілі вёску і загубілі 17 жыхароў. У баях за яе вызваленне ў ліст. 1943 г. загінулі 148 воінаў (пахаваны ў брацкай магіле ў цэнтры). 89 вяскоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 546 жыхароў. Цэнтр калгаса «50 гадоў Кастрычніка». Размешчаны 9-гадовая школа, Дом культуры, б-ка, магазін, фельч.-акушэрскі пункт, дзіцячы сад, аддз. сувязі. Планіровачна складаецца з крыху выгнутай вуліцы, блізкай да мерыдыяльнай арыентацыі. Забудова двухбаковая, драўляная, сядзібнага тыпу, няшчыльная. У 1987 г. пабудавана 50 мураваных дамоў катэджнага тыпу, у якіх размясціліся перасяленцы з забруджаных радыяцыяй месц у выніку Чарнобыльскай катастрофы. У апошняе 10-годдзе праведзена вял. работа па добраўпарадкаванні вёскі.

У склад Левашоўскага с/с да сярэдзіны 1930-х г. уваходзіў хут. Уборкі (не існуе).

**ЛЕЦЯШЫН** — вёска ў Вышамірскім с/с, за 42 км на Пд ад раённага цэнтра і чыг. ст. Рэчыца (на лініі Калінкавічы—Гомель), 92 км ад Гомеля, на У, Пн і З меліярацыйныя каналы. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Хойнікі—Рэчыца. 7 гаспадарак, 10 жыхароў (2004 г.).

Засн. ў сярэдзіне 19 ст. сялянамі суседніх вёсак, якія з дапамогай сял. крэдытнага банка купілі тут у памешчыка зямлю. Паводле перапісу 1897 г. 3 двары, 19 жыхароў. У 1908 г. 26 жыхароў, у Холмецкай вол. Рэчыцкага пав. Мінскай губ. У 1930 г. 14 двароў, 65 жыхароў. У 1931 г. арганізаваны калгас. У 1940 г. 92 жыхары. У Вял. Айч. вайну ў чэрв. 1943 г. ням. акупанты поўнасцю спалілі вёску і загубілі 8 жыхароў. 4 вяскоўцы загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 121 жыхар. У складзе калгаса імя XXII з'езда КПСС (цэнтр — в. Вышамір). Планіровачна складаецца з кароткай прамалінейнай вуліцы, блізкай да мерыдыянальнай арыентацыі і забудаванай двухбакова, няшчыльна драўлянымі сял. сядзібамі.

**ЛІСКІ** — вёска, цэнтр Ліскаўскага с/с, за 18 км на ПдЗ ад Рэчыцы, 68 км ад Гомеля, на р. Ведрыч (прыток р. Дняпро) і аўтадарозе Васілевічы—Рэчыца, на З — урочышча Бароўскі Мох, чыг. ст. Наватар на лініі Калінкавічы—Гомель. 260 гаспадарак, 632 жыхары (2004 г.).

Выяўленыя археолагамі курганны могільнік эпохі Кіеўскай Русі (26 насыпаў, за 0,5 км на Пн ад вёскі) і селішча бронз. і ранняга жал. вякоў (у вёсцы, на левым беразе ракі) сведчаць пра засяленне тутэйшых мясцін з глыбокай старажытнасці. Па пісьмовых крыніцах вядома з 19 ст. як сяленне ў Васілевіцкай вол. Рэчыцкага пав. Мінскай губ. У 1850 г. 36 двароў, 282 жыхары, уласнасць казны. Пад 1879 г. пазначана ў Салтаноўскім царк. прыходзе. Калі 15.2.1886 г. пачала працаваць чыгунка Лунінец—Гомель, тут быў зроблены раз'езд з будкай для абслуговага персанала. Паводле перапісу 1897 г. 111 двароў, 718 жыхароў, капліца, царк.-прыходская школа, хлебазапасны магазін, вятрак, карчма. У 1908 г. 138 двароў, 842 жыхары. У пач. 1920-х гг. раз'езд ператвораны ў чыг. станцыю пад назвай Наватар. З 8.12.1926 г. да 16.7.1954 г. і з 29.1.1964 г. цэнтр Ліскаўскага с/с Васілевіцкага, з 4.8.1927 г. Рэчыцкага, з 20.2.1938 г. Васілевіцкага, з 29.1.1964 г. Рэчыцкага р-наў Рэчыцкай, з 9.6.1927 г. Гомельскай (да 26.7.1930) акруг, з 20.2.1938 г. Палескай, з 8.1.1954 г. Гомельскай абласцей. У 1929 г. арганізаваны калгас «КІМ», працавалі кузня, пач. школа (ператворана ў 1930-х г. у 7-гадовую), хата-чытальня, аддз. спажывецкай кааперацыі. У 1930 г. пачаў дзейнічаць торфазавод, які забяспечваў палівам спіртзавод у в. Дземяхі. У 1940 г. 287 двароў, 1100 жыхароў. У Вял. Айч. вайну 19.12.1942 г. ням. акупанты поўнасцю спалілі вёску і загубілі 43 жыхароў. Вызвалена 18.11.1943 г. 171 вясковец загінуў на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 1182 жыхары. Цэнтр калгаса «Новы шлях». Размешчаны лясніцтва, сярэдняя школа, Дом культуры, б-ка, дзіцячы сад, фельч.-акушэрскі пункт, аддз. сувязі, 3 магазіны. Планіровачна складаецца з амаль прамалінейнай вуліцы мерыдыянальнай арыентацыі, да якой з У і З далучаюцца кварталы забудовы рознай канфігурацыі. Жылыя дамы драўляныя і мураваныя сядзібнага тыпу. У 1987 г. пабудавана 50 мураваных дамоў катэджнага тыпу, у якіх размясціліся перасяленцы з забруджаных радыяцыяй месц пасля Чарнобыльскай катастрофы.

У склад Ліскаўскага с/с да 1995 г. ўваходзіў хут. Манькоў (не існуе).

**ЛУНАЧАРСК** — вёска ў Заспенскім с/с, за 16 км на ПдУ ад раённага цэнтра і чыг. ст. Рэчыца (на лініі Калінкавічы—Гомель), 66 км ад Гомеля, на р. Дняпро, побач аўтадарога Лоеў—Рэчыца. 49 гаспадарак, 91 жыхар (2004 г.).

Выяўлены археолагамі курганны могільнік (50 насыпаў, на ўсх. ускраіне вёскі, на правым беразе ракі) сведчыць пра

засяленне тутэйшых мясцін з далёкай старажытнасці. Сучасная вёска засн. ў 1920-х г. перасяленцамі з суседніх вёсак. У 1931 г. вяскоўцы ўступілі ў калгас, працавала цагельна-ганчарная арцель. 19 вяскоўцаў загінулі на франтах Вял. Айч. вайны. Паводле перапісу 1959 г. 321 жыхар. У складзе калгаса «50 гадоў Кастрычніка» (цэнтр — в. Левашы). Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ, да якой з З далучаецца завулак. Забудова двухбаковая, драўляная, сядзібнага тыпу.

**ЛЯСКІ** — пасёлак у Баршчоўскім с/с, за 28 км на У ад Рэчыцы, 3 км ад чыг. ст. Якімаўка (на лініі Калінкавічы—Гомель), 28 км ад Гомеля, на У мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Калінкавічы—Гомель. 7 гаспадарак, 15 жыхароў (2004 г.).

Засн. ў пач. 1920-х г. перасяленцамі з суседніх вёсак на былых памешчыцкіх землях. У 1931 г. арганізаваны калгас. 8 пасялкоўцаў загінулі на франтах Вял. Айч. вайны. Паводле перапісу 1959 г. 56 жыхароў. У складзе саўгаса «Баршчоўскі» (цэнтр — в. Баршчоўка). Планіровачна складаецца з кароткай прамалінейнай вуліцы, блізкай да мерыдыянальнай арыентацыі. Забудова аднабаковая, драўляная, сядзібнага тыпу.

**ЛЯСНОЕ** (да 7.11.1922 Лясны Востраў, да 1946 Чырвоны Востраў) — вёска ў Новабарсуцкім с/с, за 29 км на Пд ад раённага цэнтра і чыг. ст. Рэчыца (на лініі Калінкавічы—Гомель), 79 км ад Гомеля, на паўн. ускраіне канава Маладушская, на У сетка меліярацыйных каналаў. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Хойнікі—Рэчыца. 11 гаспадарак, 17 жыхароў (2004 г.).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 19 ст. як сяленне ў Маладушскай вол. Рэчыцкага пав. Мінскай губ. Засн. перасяленцамі з в. Маладуша і была вядома пад назвай Каласоўскія (па прозвішчу першых перасяленцаў), затым — Лясны Востраў, з 7.11.1922 г. да 1946 г. Чырвоны Востраў. Паводле перапісу 1897 г. 19 двароў, 167 жыхароў. У 1930 г. 50 двароў, 284 жыхары. У 1931 г. арганізаваны калгас. У 1939 г. ў вёску переселены жыхары пас. Баравое. У 1940 г. 60 двароў, 242 жыхары. У Вял. Айч. вайну ў вёсцы і паблізу ў лесе базіраваліся партызаны. У ліст. 1942 г. некаторы час тут размяшчаўся штаб укр. партыз. злучэння Каўпака. 2.1.1943 г. партызаны разграмілі ў вёсцы ням. карны атрад і захапілі вял. трафей. Ням. акупанты поўнасцю спалілі вёску і загубілі 45 жыхароў. 40 вяскоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 206 жыхароў. У складзе калгаса імя М.В.Фрунзе (цэнтр — в. Новы Барсук). Планіровачна складаецца з 3 кароткіх, шчыльна пастаўленых, мерыдыянальнай арыентацыі вуліц, забудаваных драўлянымі сял. сядзібамі.

**ЛЯХАВЕЦ** — пасёлак у Артукоўскім с/с, за 33 км на Пд ад раённага цэнтра і чыг. ст. Рэчыца (на лініі Калінкавічы—Гомель), 83 км ад Гомеля, на З меліярацыйны канал. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Лоеў—Рэчыца. 9 гаспадарак, 14 жыхароў (2004 г.).

Засн. ў пач. 20 ст. перасяленцамі з суседніх вёсак. Найбольш актыўная забудова адносіцца да 1920-х г. У 1930 г. 17 двароў, 112 жыхароў. У 1932 г. арганізаваны калгас. 2 пасялкоўцы загінулі на франтах Вял. Айч. вайны. Паводле перапісу 1959 г. 110 жыхароў. У складзе калгаса «Чырвоны сцяг» (цэнтр — в. Артукі). Планіровачна складаецца з кароткай прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ. Забудова няшчыльная, драўляная, сядзібнага тыпу.

**МАЙ** — вёска ў Заспенскім с/с, за 12 км на Пд ад раённага цэнтра і чыг. ст. Рэчыца (на лініі Калінкавічы—Гомель), 62 км ад Гомеля, побач аўтадарога Лоеў—Рэчыца. 59 гаспадарак, 131 жыхар (2004 г.).

Засн. ў пач. 1920-х г. перасяленцамі з суседніх вёсак на былых памешчыцкіх землях. У 1930 г. 11 двароў, 50 жыхароў. У 1931 г. арганізаваны калгас. 40 вяс-

коўцаў загінулі на франтах Вял. Айч. вайны. Паводле перапісу 1959 г. 295 жыхароў. У складзе калгаса «Савецкая Беларусь» (цэнтр — в. Заспа). Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, блізкай да мерыдыянальнай арыентацыі і забудаванай двухбакова драўлянымі сял. сядзібамі.

**МАКАНАВІЧЫ** — вёска ў Васілевіцкім гарсавеце, за 57 км на ПдЗ ад Рэчыцы, 107 км ад Гомеля, на Пд, У і Пн — сетка меліярацыйных каналаў. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Васілевічы—Рэчыца. 182 гаспадаркі, 717 жыхароў (2004 г.).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 16 ст. як сяленне ў Рэчыцкім пав. Мінскага ваяв. ВКЛ, шляхецкая ўласнасць. У 1509 г. кароль Жыгімонт І Стары дараваў сяло дзяку Г.Алексяевічу. Пад 1523 і 1568 гг. ўпамінаецца ў Літоўскай метрыцы як сяло ў Рэчыцкай вол. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. З 1833 г. дзейнічала Георгіеўская царква. У 1876 г. дваранін Аскерка меў у вёсках Маканавічы і Вадовічы (у Калінкавіцкім р-не) 17 329 дзес. зямлі і карчму. У 1885 г. 42 двары, 266 жыхароў. Паводле перапісу 1897 г. 71 двор, 492 жыхары, царква, царк.-прыходская школа, хлебазапасны магазін, 2 ветракі, конны млын, кузня. Побач быў аднайменны фальварак з вінакурняй. У 1908 г. 121 двор, 812 жыхароў, у Васілевіцкай вол. Рэчыцкага пав. Мінскай губ. З 8.12.1926 г. да 16.7.1954 г. цэнтр Маканавіцкага с/с Васілевіцкага, з 4.8.1927 г. Хойніцкага, з 20.2.1938 г. Васілевіцкага р-наў Рэчыцкай, з 9.6.1927 г. Гомельскай (да 16.7.1930) акруг, з 20.2.1938 г. Палескай, з 8.1.1954 г. Гомельскай абласцей. У 1930 г. 201 двор, 971 жыхар, пач. школа, хата-чытальня. У 1931 г. арганізаваны калгас імя Я.М.Свярдлова, працавалі паравы млын і кузня. У Вял. Айч. вайну ням. акупанты стварылі ў вёсцы апорны пункт, які ў снеж. 1942 г. разграмілі партызаны атрада імя К.Я.Варашылава. У баях каля вёскі ў 1941 і 1943 гг. загінулі 96 воінаў і партызан (пахаваны ў брацкай магіле на могілках). 99 вяскоўцаў загінулі на фронце. У жн. 1945 г. адкрыты дзіцячы дом для дзяцей-сірот. Паводле перапісу 1959 г. 1001 жыхар. У складзе саўгаса «Васілевічы» (цэнтр — г. Васілевічы). Размешчаны дом-інтэрнат для псіханеўралагічных хворых, б-ка, фельч.-акушэрскі пункт, аддз. сувязі, Дом культуры. Планіровачна складаецца з 3 (адна працяглая і дзве кароткія) паралельных паміж сабой вуліц мерыдыянальнай арыентацыі, перакрыжаваных крывалінейнай вуліцай. Забудова двухбаковая, драўляная, сядзібнага тыпу. Непадалёку тарфяныя залежы.

**МАЛАДУША** — вёска ў Новабарсуцкім с/с, за 29 км на ПдЗ ад раённага цэнтра і чыг. ст. Рэчыца (на лініі Калінкавічы—Гомель), 75 км ад Гомеля, побач аўтадарога Хойнікі—Рэчыца, на Пн сетка меліярацыйных каналаў, на З — канава Маладушская. 126 гаспадарак, 272 жыхары (2004 г.).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 2-й пал. 18 ст. як сяленне ў Рэчыцкім пав. Мінскага ваяв. Дзейнічала Свята-Мікалаеўская царква (у ёй захоўваліся метрычныя кнігі з 1800 і евангелле 1773). Замест старога ў 1823 г. быў збудаваны новы драўляны будынак царквы. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1850 г. 18 двароў, 147 жыхароў. У 1870 г. дваранін Пржыбора меў у вёсцы і наваколлі 4785 дзес. зямлі, млын і карчму. Была цэнтрам Маладушскай вол. (да 9.5.1923), у якую ў 1885 г. ўваходзілі 10 сяленняў з 326 дварамі, у Рэчыцкім пав. Мінскай губ. У 1886 г. 26 двароў, 239 жыхароў. Калі ў лют. 1886 г. адкрыўся рух на чыгунцы Лунінец—Гомель, пачала дзейнічаць чыг. станцыя. Паводле перапісу 1897 г. 91 двор, 427 жыхароў, нар. вучылішча, хлебазапасны магазін, крама і карчма. Побач быў выселак Маладуша (ён жа Загарць), 9 двароў, 53 жыхары. Мелася аддз. паштовай сувязі. У 1908 г. 96 двароў, 546 жыхароў. З 8.12.1926 г. ў скла-

дзе БССР, цэнтр Маладушскага с/с (да 1986) Рэчыцкага, з 5.4.1935 г. Хойніцкага, з 16.7.1954 г. Рэчыцкага р-наў Рэчыцкай (да 9.6.1927), затым Гомельскай (да 26.7.1930) акруг, з 20.2.1938 г. Палескай, з 18.7.1954 г. Гомельскай абласцей. У 1920-х г. з вёскі вылучыліся пасёлкі Будзішча (8 двароў, 46 жыхароў), Старое Сяло (50 двароў, 307 жыхароў), Новае Сяло (68 двароў, 361 жыхар), Асінаўка (26 двароў, 141 жыхар) і хутары, якія пазней склалі адзін населены пункт — в. Маладуша. У 1930 г. 165 двароў, 925 жыхароў, пач. школа, хата-чытальня, аддз. спажывецкай кааперацыі. У 1930 г. арганізаваны калгас «Непераможны», працавалі цагельня, паравы млын, кузня. У 1939 г. ў вёску переселена частка жыхароў пас. Касцяная Рука. У 1940 г. 300 двароў, 1457 жыхароў. У Вял. Айч. вайну 15.9.1941 г. ням. акупанты расстралялі 15 жыхароў, у чэрв. 1942 г. поўнасцю спалілі вёску, у снеж. 1942 г. загубілі яшчэ больш як 500 жыхароў з г.п. Хойнікі і навакольных вёсак, 25.12.1942 г. — 44 вяскоўцаў. Вызвалена 15.11.1943 г. У баях каля вёскі загінулі 165 воінаў і партызан (пахаваны ў 2 брацкіх магілах, за 0,3 км на У ад вёскі і на паўн. ускраіне). 91 вясковец загінуў на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 750 жыхароў. У складзе калгаса імя М.В.Фрунзе (цэнтр — в. Новы Барсук). Размешчаны лесапільны з-д, камбінат быт. абслугоўвання, сярэдняя школа, клуб, б-ка, фельч.-акушэрскі пункт, аддз. сувязі, 2 магазіны. Планіровачна складаецца з дугападобнай шыротнай вуліцы, да якой з Пд далучаюцца 2 прамалінейныя вуліцы. Забудова двухбаковая, няшчыльная, драўляная, сядзібнага тыпу. Непадалёку радовішчы гліны.

У склад Маладушскага с/с уваходзілі хутары: да 1922 г. — Лясны Востраў, да канца 1930-х г. — Амелькаўшчына, Баравое, Будзішча, Засяленне, Лясная Старожка, пасёлкі Асіпаўка, Колава Рука, да 1976 г. — в. Грабянёў (не існуюць).

**МАСКАЛІ** — вёска ў Глыбаўскім с/с, за 17 км на ПнЗ ад раённага цэнтра і чыг. ст. Рэчыца (на лініі Калінкавічы—Гомель), 67 км ад Гомеля. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Светлагорск—Рэчыца. 11 гаспадарак, 14 жыхароў (2004 г.).

Засн. ў пач. 20 ст. перасяленцамі з суседніх вёсак. У 1908 г. хут. Маскаль (10 двароў, 57 жыхароў) у Горвальскай вол. Рэчыцкага пав. Мінскай губ. З 8.12.1926 г. да 30.12.1927 г. цэнтр Маскалёўскага с/с Горвальскага, з 4.8.1927 г. Рэчыцкага р-наў Рэчыцкай, з 9.6.1927 г. Гомельскай акруг. У 1930 г. 43 двары, 228 жыхароў. У 1931 г. арганізаваны калгас. У Вял. Айч. вайну тут часта базіраваліся партызаны, пераважна атрада «Бальшавік». У ліп. 1943 г. ням. акупанты поўнасцю спалілі вёску і загубілі 3 жыхароў. 16 вяскоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 141 жыхар. У складзе саўгаса «Падалессе» (цэнтр — в. Мілаград). Складаецца з кароткай прамалінейнай шыротнай вуліцы, забудаванай драўлянымі сял. сядзібамі.

**МАЎЧАНЫ** — вёска ў Перасвятоўскім с/с, за 16 км на ПдЗ ад Рэчыцы, 9 км ад чыг. ст. Дземяхі (на лініі Калінкавічы—Гомель), 67 км ад Гомеля, побач аўтадарога Калінкавічы—Гомель. 51 гаспадарка, 83 жыхары (2004 г.).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 19 ст. як сяленне ў Ровенскаслабодскай вол. Рэчыцкага пав. Мінскай губ. У 1850 г. 21 двор. Пад 1879 г. пазначана ў Салтаноўскім царк. прыходзе. Паводле перапісу 1897 г. 56 двароў, 461 жыхар, хлебазапасны магазін. У 1908 г. 72 двары, 567 жыхароў. З 8.12.1926 г. да 30.12.1927 г. цэнтр Маўчаноўскага с/с. У 1930 г. 93 двары, 452 жыхары. У 1931 г. арганізаваны калгас. 46 вяскоўцаў загінулі на франтах Вял. Айч. вайны. У 1965 г. каля вёскі пачалася прамысловая здабыча нафты. Паводле перапісу 1959 г. 436 жыхароў. У складзе саўгаса «10 гадоў Кастрычніка» (цэнтр — в. Перасвятое). Планіровачна складаецца з крыху выгнутай шыротнай вуліцы, забудаванай двухбакова драўлянымі сял. сядзібамі.

**МІЛАГРАД** — вёска ў Глыбаўскім с/с, за 23 км на Пн ад раённага цэнтра і чыг. ст. Рэчыца (на лініі Калінкавічы—Гомель), 73 км ад Гомеля, на У — р. Дняпро і яе пойма. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Светлагорск—Рэчыца. 233 гаспадаркі, 668 жыхароў (2004 г.).

Выяўленыя археолагамі гарадзішча 4—3 ст. да н.э. — 2 ст. н.э. (за 1 км на Пн ад вёскі, на правым беразе ракі) і селішча (на Пн ад гарадзішча) сведчаць пра засяленне тутэйшых мясцін з далёкай старажытнасці. Ад гарадзішча атрымала назву мілаградская археал. культура. Па пісьмовых крыніцах вядома з 19 ст. як сяленне ў Горвальскай вол. Рэчыцкага пав. Мінскай губ. У 1876 г. памешчык Фітлончык меў у вёсцы 635 дзес. зямлі. Праз вёску праходзіў тракт Якімава Слабада—Чарнігаў, мелася паштовая станцыя (6 экіпажаў). Пад 1879 г. упамінаецца ў Горвальскім царк. прыходзе. У 1918 г. (да 2.12) акупіраваны герм. войскамі. У 1930 г. 16 двароў, 86 жыхароў. У 1931 г. арганізаваны калгас, працавалі паравы млын з лесапільняй. У 1940 г. 111 жыхароў. У Вял. Айч. вайну дзейнічала падп. патрыят. група (кіраўнік З.А.Грабянчук). Ням. акупанты ў ліп. 1943 г. поўнасцю спалілі вёску і загубілі 6 жыхароў. 12 вяскоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 136 жыхароў. Цэнтр саўгаса «Падалессе». Дзейнічаюць дзіцячыя яслі, дом адпачынку, фельч.-акушэрскі пункт, аддз. сувязі, сталовая, швейная майстэрня, магазін. Планіровачна складаецца з кароткай прамалінейнай шыротнай вуліцы, забудаванай двухбакова драўлянымі сял. сядзібамі. У 1987 г. пабудавны 52 мураваныя дамы катэджнага тыпу, у якіх размясціліся перасяленцы з забруджаных радыяцыяй месц у выніку Чарнобыльскай катастрофы.

**НАВАКРАСНАЕ** — вёска ў Дземяхоўскім с/с, за 17 км на З ад Рэчыцы, 6 км ад чыг. ст. Дземяхі (на лініі Калінкавічы—Гомель), 67 км ад Гомеля, побач аўтадарога Светлагорск—Рэчыца. 13 гаспадарак, 20 жыхароў (2004 г.).

Засн. ў пач. 20 ст. перасяленцамі з суседніх вёсак. Найбольш актыўная забудова прыпадае на 1920-я г. У 1930 г. ў в. Новае Краснае 51 двор, 257 жыхароў. У 1930 г. арганізаваны калгас імя Уладзіміра Ільіча, працавала кузня. У Вял. Айч. вайну ў чэрв. 1943 г. ням. акупанты поўнасцю спалілі вёску. 15 вяскоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 175 жыхароў. У складзе вучгаса СПТВ-178 (цэнтр — в. Старакраснае). Планіровачна складаецца з прамалінейнай, блізкай да мерыдыянальнай арыентацыі вуліцы, забудаванай няшчыльна драўлянымі сял. сядзібамі.

**НАДЗВІН** — вёска ў Артукоўскім с/с, за 35 км на Пд ад раённага цэнтра і чыг. ст. Рэчыца (на лініі Калінкавічы—Гомель), 85 км ад Гомеля. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Лоеў—Рэчыца. 52 гаспадаркі, 138 жыхароў (2004 г.).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 19 ст. як сяленне ў Холмецкай вол. Рэчыцкага пав. Мінскай губ. У 1850 г. 28 двароў, 186 жыхароў, уладанне графа Ракіцкага. Пад 1879 г. пазначана ў Холмецкім царк. прыходзе. Паводле перапісу 1897 г. 53 двары, 363 жыхары, капліца, хлебазапасны магазін. У 1908 г. 79 двароў, 481 жыхар. З 8.12.1926 г. да 4.8.1927 цэнтр Надзвінскага с/с Холмецкага, з 4.8.1927 г. Рэчыцкага р-наў Рэчыцкай, з 9.6.1927 г. Гомельскай акруг. У 1930 г. 102 двары, 494 жыхары. У 1931 г. арганізаваны калгас. У 1940 г. 105 двароў. У Вял. Айч. вайну ў маі 1942 г. ням. акупанты спалілі 90 двароў і загубілі 5 жыхароў. Цяжкія баі 11.11.1943 г. вяліся за вызваленне вёскі. 55 вяскоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 419 жыхароў. У складзе калгаса «Шлях да камунізму» (цэнтр — в. Пракісель). Планіровачна складаецца з прамалінейнай, блізкай да мерыдыянальнай арыентацыі вуліцы, якая на Пд перакрыжоўваецца крывалінейнай вуліцай. У цэнтры да яе далучаецца карот-

кая прамалінейная вуліца. Забудова драўляная, сядзібнага тыпу, няшчыльная.

**НОВАСВЯТОЕ** — пасёлак у Дуброўскім с/с, за 43 км ад Рэчыцы, 18 км ад чыг. ст. Бабічы (на лініі Калінкавічы—Гомель), 90 км ад Гомеля. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Светлагорск—Рэчыца.

У 1986 г. пасёлак Святое Нова ў Васількоўскім с/с Рэчыцкага раёна Мінскай акругі, 13 двароў, 59 жыхароў. У Вял. Айч. вайну загінулі 2 жыхары. У 1970 г. ў Дуброўскім с/с, 36 жыхароў. У складзе калгаса «12 гадоў Кастрычніка».

**НОВЫ БАРСУК** — вёска, цэнтр Новабарсуцкага с/с, за 34 км на ПдЗ ад раённага цэнтра і чыг. ст. Рэчыца (на лініі Калінкавічы—Гомель), 71 км ад Гомеля. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Хойнікі—Рэчыца. 193 гаспадаркі, 432 жыхары (2004 г.).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 19 ст. як сяленне ў Маладушскай вол. Рэчыцкага пав. Мінскай губ. Засн. перасяленцамі з бліжэйшых вёсак на выкупленых у памешчыка землях. У 1895 г. пабудавана драўляная Успенская царква. Паводле перапісу 1897 г. 117 двароў, 990 жыхароў, школа граматы, карчма. Апрача земляробства вяскоўцы займаліся вырабам цэглы і калёс. У 1908 г. 166 двароў, 971 жыхар. З 8.12.1926 г. цэнтр Новабарсуцкага с/с Рэчыцкага р-на Рэчыцкай, з 9.6.1927 г. Гомельскай (да 26.7.1930) акруг, з 20.2.1938 г. Гомельскай вобл. У 1929 г. 203 двары, 1220 жыхароў, пач. школа, аддз. спажывецкай кааперацыі. У 1929 г. арганізаваны калгас імя М.В.Фрунзе, працавалі газагенератарны млын і кузня. У 1939 г. ў вёску перасялена частка жыхароў пас. Косава Рука. У Вял. Айч. вайну ў лют. 1942 г. ням. акупанты расстралялі 12, у жн. 1943 г. — 14 жыхароў. У 1942 і 1943 гг. карнікі часткова спалілі вёску, 170 вяскоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 1081 жыхар. Цэнтр калгаса імя М.В. Фрунзе. Размешчаны камбінат быт. абслугоўвання, сярэдняя школа, Дом культуры, б-ка, б-ца, аптэка, аддз. сувязі, магазін, дзіцячы сад. Планіровачна складаецца з прамалінейнай шыротнай вуліцы, якая на У перакрыжоўваецца прамалінейнай вуліцай і на З да яе далучаецца кароткая вуліца. Жылыя дамы драўляныя сядзібнага тыпу.

У склад Новабарсуцкага с/с да сярэдзіны 1930-х г. уваходзілі хут. Буднік, пасёлкі Краснае Знамя, да 1974 г. — Калініна (не існуюць).

**ПАДАЛЕССЕ** — вёска ў Глыбаўскім с/с, за 17 км на ПнЗ ад раённага цэнтра і чыг. ст. Рэчыца (на лініі Калінкавічы—Гомель), 67 км ад Гомеля. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Светлагорск—Рэчыца. 20 гаспадарак, 43 жыхары (2004 г.).

Засн. ў пач. 20 ст. перасяленцамі з суседніх вёсак. Найбольш актыўная забудова прыпадае на 1920-я г. З 30.12.1927 г. да 2.4.1959 г. цэнтр Падалескага с/с Рэчыцкага р-на, з 20.2.1938 г. Гомельскай вобл. У 1930 г. 33 двары, 176 жыхароў. У 1931 г. арганізаваны калгас «Расток сацыялізму», працавала кузня. У Вял. Айч. вайну ў баях каля вёскі загінулі 17 воінаў і партызан (пахаваны ў брацкай магіле на могілках). 12 вяскоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 178 жыхароў. У складзе саўгаса «Падалессе» (цэнтр — в. Мілаград). Планіровачна складаецца з кароткай прамалінейнай вуліцы, блізкай да мерыдыянальнай арыентацыі і забудаванай драўлянымі сял. сядзібамі.

У склад Падалескага с/с да сярэдзіны 1930-х г. уваходзіў хут. Сабічаў (не існуе).

**ПАДМОСЦЕ** — пасёлак у Перасвятоўскім с/с, за 12 км на ПдЗ ад раённага цэнтра і чыг. ст. Рэчыца (на лініі Калінкавічы—Гомель), 62 км ад Гомеля. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Калінкавічы—Гомель. 14 гаспадарак, 27 жыхароў (2004 г.).

Засн. ў пач. 20 ст. перасяленцамі з суседніх вёсак. Найбольш актыўная забу-

дова прыпадае на 1920-я г. У 1930 г. 27 двароў, 143 жыхары. У 1931 г. арганізаваны калгас. 6 пасялкоўцаў загінулі на франтах Вял. Айч. вайны. Паводле перапісу 1959 г. 125 жыхароў. У складзе саўгаса «10 гадоў Кастрычніка» (цэнтр — в. Перасвятое). Складаецца з кароткай прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ і забудаванай рэдка драўлянымі сял. сядзібамі.

**ПАДРОЎНАЕ** — пасёлак у Свірыдавіцкім с/с, за 14 км на Пд ад раённага цэнтра і чыг. ст. Рэчыца (на лініі Калінкавічы—Гомель), 64 км ад Гомеля, на Пд і У меліярацыйныя каналы. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Рэчыца—Хойнікі. 3 гаспадаркі, 3 жыхары (2004 г.).

Засн. ў 1920-х г. на былых памешчыцкіх землях. У 1931 г. арганізаваны калгас. 5 пасялкоўцаў загінулі на франтах Вял. Айч. вайны. Паводле перапісу 1959 г. 99 жыхароў. У складзе калгаса імя С.М.Кірава (цэнтр — в. Свірыдавічы). Забудова няшчыльная, драўляная, сядзібнага тыпу.

**ПАЛЕССЕ** (да 1938 Папоўкі) — пасёлак і чыг. станцыя (на лініі Калінкавічы—Гомель) у Баршчоўскім с/с, за 30 км на У ад Рэчыцы, 41 км ад Гомеля, вакол лес. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Калінкавічы—Гомель. 7 гаспадарак, 14 жыхароў (2004 г.)

Засн. ў 19 ст. Калі ў лют. 1886 г. пачала працаваць чыгунка Лунінец—Гомель, тут быў зроблены раз'езд з будкай для абслуговага персаналу. У пач. 1920-х г. раз'езд ператварыўся ў чыг. станцыю, вакол якой пачаў складвацца пасёлак. У 1930 г. арганізаваны калгас. Паводле перапісу 1959 г. 64 жыхары. У складзе саўгаса «Баршчоўка» (цэнтр — в. Баршчоўка). Планіровачна складаецца з кароткай прамалінейнай мерыдыянальнай вуліцы, забудаванай драўлянымі сял. сядзібамі.

**ПАСЕКА** — пасёлак у Ровенскаслабодскім с/с, за 20 км на Пд ад раённага цэнтра і чыг. ст. Рэчыца (на лініі Калінкавічы—Гомель), 70 км ад Гомеля, на Пд і У меліярацыйныя каналы. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Хойнікі—Рэчыца. 43 гаспадаркі, 77 жыхароў (2004 г.).

Засн. ў пач. 20 ст. перасяленцамі з суседніх вёсак. Найбольш актыўная забудова прыпадае на 1920-я г. У 1930 г. 58 двароў, 296 жыхароў. У 1931 г. арганізаваны калгас. У Вял. Айч. вайну дзейнічала падп. патрыят. група (кіраўнікі Рыгор Іванавіч Васілец і Рыгор Ісакавіч Васілец). 9 пасялкоўцаў загінулі на франтах Вял. Айч. вайны. Паводле перапісу 1959 г. 242 жыхары. У складзе калгаса імя Ф.Э.Дзяржынскага (цэнтр — в. Ровенская Слабада). Планіровачна складаецца з 2 прамалінейных, паралельных паміж сабой вуліц, злучаных на Пд кароткай вуліцай. Забудова двухбаковая, драўляная, сядзібнага тыпу.

**ПЕРАВАЛОКА** — вёска ў Караваціцкім с/с, за 26 км на ПдЗ ад Рэчыцы, 14 км ад чыг. ст. Дземяхі (на лініі Калінкавічы—Гомель), 85 км ад Гомеля, на У і Пн сетка меліярацыйных каналаў і канава Перавалоцкая. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Хойнікі—Рэчыца. 277 гаспадарак, 68 жыхароў (2004 г.).

Выяўленыя археолагамі гарадзішчы (за 2 км на У ад вёскі, ва ўрочышчы Шчыгус і за 2 км на ПдУ ад вёскі, ва ўрочышчы Пажары) сведчаць пра засяленне тутэйшых мясцін з далёкай старажытнасці. Па пісьмовых крыніцах вядома з 19 ст. як сяленне ў Маладушскай вол. Рэчыцкага пав. Мінскай губ. У 1858 г. 30 двароў, 264 жыхары, уласнасць казны. Пад 1879 г. пазначана ў Маладушскім царк. прыходзе. Паводле перапісу 1897 г. 107 двароў, 713 жыхароў, хлебазапасны магазін. У 1908 г. 164 двары, 868 жыхароў. З 8.12.1926 г. да 30.12.1927 г. цэнтр Перавалоцкага с/с Рэчыцкага р-на Рэчыцкай, з 9.6.1927 г. Гомельскай акруг. У 1930 г. ў вёсцы з хутарамі 273 двары, 1238 жыхароў. У 1930 г. арганізаваны калгас «Абарона краіны», працаваў вятрак. 122 вяскоўцы загінулі на франтах

Вял. Айч. вайны. Паводле перапісу 1959 г. 1250 жыхароў. Цэнтр калгаса «Абарона краіны». Размешчаны камбінат быт. абслугоўвання, сярэдняя школа, Дом культуры, б-ка, фельч.-акушэрскі пункт, магазін, дзіцячыя яслі-сад, аддз. сувязі. Планіровачна складаецца з 2 крывалінейных, амаль паралельных паміж сабой вуліц, арыентаваных з ПдУ на ПнЗ. На Пд і Пн — невял. адасобленыя ўчасткі забудовы. Жылыя дамы пераважна драўляныя сядзібнага тыпу.

**ПЕРАСВЯТОЕ** — вёска, цэнтр Перасвятоўскага с/с, за 7 км на ПдЗ ад раённага цэнтра і чыг. ст. Рэчыца (на лініі Калінкавічы—Гомель), 65 км ад Гомеля, на ўсх. ускраіне канава Рабуска. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Васілевічы—Рэчыца. 197 гаспадарак, 556 жыхароў (2004 г.).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 19 ст. як сяленне ў Ровенскаслабодскай вол. Рэчыцкага пав. Мінскай губ. У 1850 г. 34 двары. Побач аднайменны фальварак (6 двароў). У 1876 г. дваранін Солтан меў тут 938 дзес. зямлі. Пад 1879 г. пазначана ў Рэчыцкім царк. прыходзе. Паводле перапісу 1897 г. в. Перасвятое (яна ж Касая Слабада), 88 двароў, 549 жыхароў, царк.-прыходская школа, хлебазапасны магазін. У 1908 г. 114 двароў, 642 жыхары. З 8.12.1926 г. цэнтр Перасвятоўскага с/с Рэчыцкага р-на Рэчыцкай, з 9.6.1927 г. Гомельскай (да 26.7.1930) акруг, з 20.2.1938 г. Гомельскай вобл. У 1930 г. 129 двароў, пач. школа. У 1933 г. арганізаваны калгас імя С.М.Будзённага. У Вял. Айч. вайну з 28.6.1941 г. да 16.11.1943 г. акупіраваны ням. войскамі. У ліст. 1943 г. ў баях каля вёсак Гарывада, Рабусы, Перасвятое, пасёлкаў Жары, Асавец, Бугрымаўка загінулі 99 воінаў і партызан (пахаваны ў брацкай магіле ў цэнтры вёскі). 78 вяскоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 481 жыхар. Цэнтр саўгаса «10 гадоў Кастрычніка». Працуюць швейная майстэрня, сярэдняя школа, Дом культуры, б-ка, фельч.-акушэрскі пункт, аддз. сувязі, магазін, дзіцячы сад. Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ, да якой далучаецца з Пн кароткая вуліца. Забудова двухбаковая, пераважна драўляная, сядзібнага тыпу. У 1987 г. пабудавана 100 мураваных дамоў катэджнага тыпу, у якіх размясціліся перасяленцы з забруджаных радыяцыяй месц у выніку Чарнобыльскай катастрофы.

У склад Перасвятоўскага с/с да сярэдзіны 1930-х г. уваходзілі хутары Астроўскі, Навінка, Новыя Жары, Шэвалга, да 1995 г. — пас. Жары (не існуюць).

**ПЕРАХОД** — вёска ў Белабалоцкім с/с, за 39 км на ПнУ ад Рэчыцы, 15 км ад чыг. ст. Сеназавод (на лініі Калінкавічы—Гомель), 55 км ад Гомеля, на Пд, У і Пн мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Калінкавічы—Гомель. 5 гаспадарак, 7 жыхароў (2004 г.).

Засн. ў пач. 20 ст. перасяленцамі з суседніх вёсак. Найбольш актыўная забудова прыпадае на 1920 г. У 1926 г. 44 двары, 210 жыхароў, ва Уваравіцкім р-не Гомельскай акругі. У 1930 г. арганізаваны калгас «Чырвоны маліннік», працавалі конная крупарушка і вятрак. 5 вяскоўцаў загінулі на франтах Вял. Айч. вайны. Паводле перапісу 1959 г. 124 жыхары. У складзе саўгаса «Рэчыца» (цэнтр — в. Белае Балота). Забудавана рэдка драўлянымі сял. сядзібамі.

**ПЕРШАЕ МАЯ** (да 1938 Пагулянка) — вёска ў Глыбаўскім с/с, за 20 км на ПнЗ ад раённага цэнтра і чыг. ст. Рэчыца (на лініі Калінкавічы—Гомель), 70 км ад Гомеля, на р. Днепрык (прыток р. Ведрыч). Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Светлагорск—Рэчыца. 19 гаспадарак, 31 жыхар (2004 г.).

Засн. ў пач. 20 ст. Найбольш актыўная забудова прыпадае на 1920-я г. У 1930 г. 34 двары, 185 жыхароў. У 1931 г. арганізаваны калгас, працавала смалакурня. З 24.1.1939 г. да 29.11.1962 г. цэнтр Першамайскага с/с Васілевіцка-

га, з 16.9.1959 г. Рэчыцкага р-наў Палескай, з 8.1.1954 г. Гомельскай абласцей. У 1940 г. 46 двароў, 243 жыхары. У Вял. Айч. вайну ў ліп. 1943 г. ням. акупанты поўнасцю спалілі вёску і загубілі 10 жыхароў. 5 вяскоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 193 жыхары. У складзе саўгаса «Падалессе» (цэнтр — в. Мілаград). Планіровачна складаецца з кароткай прамалінейнай мерыдыянальнай вуліцы, забудаванай двухбакова, няшчыльна драўлянымі сял. сядзібамі. Радзіма поўнага кавалера ордэна Славы А.Я.Кастрамы.

**ПЕРШАМАЙСК** (да 1934 Святое) — вёска ў Камсамольскім с/с, за 48 км на ПнЗ ад раённага цэнтра і чыг. ст. Рэчыца (на лініі Калінкавічы—Гомель), 98 км ад Гомеля. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Светлагорск—Рэчыца. 103 гаспадаркі, 227 жыхароў (2004 г.).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 18 ст. як сяленне ў Рэчыцкім пав. Мінскага ваяв., ва ўладанні Патоцкіх, потым Масальскіх. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1795 г. 32 двары. Пад 1828 г. пазначана ў Сведскім царк. прыходзе. Уваходзіла ў склад маёнтка Горваль, ва ўладанні ген.-м. Г.Ф.Менгдэна. Па рэвізскіх матэрыялах 1850 г. 52 двары, 201 жыхар. Паводле перапісу 1897 г. 68 двароў, 463 жыхары, школа граматы, крама. У 1908 г. 78 двароў, 581 жыхар, у Горвальскай вол. Рэчыцкага пав. Мінскай губ. З 8.12.1926 г. да 30.12.1927 г. цэнтр Святоўскага с/с Горвальскага, з 4.8.1927 г. Рэчыцкага р-наў Рэчыцкай, з 9.6.1927 г. Гомельскай акруг. У 1930 г. арганізаваны калгас «1 жніўня», працавалі кузня і вяровачная майстэрня. У 1940 г. 280 двароў, 1500 жыхароў. У Вял. Айч. вайну ў вёсцы часта дыслацыраваліся партызаны, пераважна атрада «Смерць фашызму». 13.5. 1943 г. ням. карнікі поўнасцю спалілі вёску і загубілі 118 жыхароў. 77 вяскоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 686 жыхароў. У складзе саўгаса «Камсамолец» (цэнтр — в. Камсамольск). Размешчаны б-ка, фельч.-акушэрскі пункт, клуб. Планіровачна складаецца з 2 прамалінейных, паралельных паміж сабой мерыдыянальнай арыентацыі вуліц, злучаных у цэнтры кароткай шыротнай вуліцай. Забудова двухбаковая, няшчыльная, драўляная, сядзібнага тыпу.

**ПЕРШАМАЙСК** (да 24.1.1939 Кабылева) — вёска ў Караваціцкім с/с, за 37 км на ПдЗ ад Рэчыцы, 17 км ад чыг. ст. Бабічы (на лініі Калінкавічы—Гомель), 87 км ад Гомеля, на У і Пн сетка меліярацыйных каналаў, на ПдЗ урочышча Яміцкае. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Калінкавічы—Гомель. 84 гаспадаркі, 151 жыхар (2004 г.).

Выяўленае археолагамі гарадзішча (за 3 км на У ад вёскі, ва ўрочышчы Гарадок) сведчыць пра засяленне тутэйшых мясцін з далёкай старажытнасці. Па пісьмовых крыніцах вядома з 18 ст. як сяленне ў Рэчыцкім пав. Мінскага ваяв., у валоданні графа Юдзіцкага. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1795 г. 24 двары. Пад 1825 г. пазначана ў Васілевіцкім царк. прыходзе. У 1858 г. 36 двароў, 374 жыхары, уласнасць казны. Паводле перапісу 1897 г. 108 двароў, 678 жыхароў, капліца, царк.-прыходская школа, хлебазапасны магазін, млын на коннай цязе, кузня. У 1908 г. 141 двор, 908 жыхароў, у Васілевіцкай вол. Рэчыцкага пав. Мінскай губ. З 8.12.1926 г. цэнтр Кабылеўскага, з 24.1.1939 г. да 29.11.1962 г. Першамайскага с/с Васілевіцкага, з 4.8.1927 г. Рэчыцкага, з 5.4.1935 г. Хойніцкага, з 20.2.1938 г. Васілевіцкага, з 16.9.1959 г. Рэчыцкага р-наў Рэчыцкай, з 9.6.1927 г. Гомельскай (да 26.7.1938) акруг, з 20.2.1938 г. Палескай, з 8.1.1954 г. Гомельскай абласцей. У 1929 г. 1068 жыхароў, пач. школа, аддз. спажывецкай кааперацыі. У 1930 г. арганізаваны калгас «12 гадоў Кастрычніка», працавалі конная крупарушка, вятрак, ваўначоска. У 1940 г. 150 двароў. У Вял. Айч. вайну

ням. акупанты ў студз.—маі 1943 г. расстралялі і спалілі 118 жыхароў, а ў чэрв. 1943 г. поўнасцю спалілі вёску. Паводле перапісу 1959 г. 604 жыхары. У складзе калгаса «Абарона краіны» (цэнтр — в. First Перавалока). Размешчаны клуб. Планіровачна складаецца з крывалінейнай мерыдыянальнай вуліцы, да якой на Пд і Пн далучаюцца кароткія прамалінейныя вуліцы. На У невял. адасоблены ўчастак забудовы. Жылыя дамы драўляныя сядзібнага тыпу.

У склад Кабылеўскага с/с да сярэдзіны 1930-х г. уваходзілі хутары Будзішча, Дуброўскі, Навінкі, Леташ, Свабоднае (не існуюць).

**ПЕСКАПОЛЛЕ** — вёска ў Балабалоцкім с/с, за 7 км на Пн ад раённага цэнтра і чыг. ст. Рэчыца (на лініі Калінкавічы—Гомель), 57 км ад Гомеля, побач р. Дняпро і яго пойма. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Рэчыца—Светлагорск. 13 гаспадарак, 20 жыхароў (2004 г.).

Пачатак вёсцы паклаў фальварак Пескаполле (ён жа Чорнае), у якім паводле перапісу 1897 г. было 2 двары, 4 жыхары, цагельня. У 1909 г. 1500 дзес. зямлі. Найбольш актыўная забудова прыпадае на 1920-я г. У 1916 г. 26 двароў, 142 жыхары, у Гомельскай акрузе. У 1930 г. арганізаваны калгас. У 1940 г. 36 двароў, 109 жыхароў. У Вял. Айч. вайну ў ліп. 1943 г. ням. акупанты спалілі 33 двары і загубілі 2 жыхароў. Паводле перапісу 1959 г. 99 жыхароў. У складзе саўгаса «Рэчыца» (цэнтр — в. Белае Балота). Планіровачна складаецца з 2 кароткіх прамалінейных вуліц мерыдыянальнай арыентацыі, уздоўж забалочанай мясцовасці. Забудова рэдкая, жылыя дамы драўляныя сядзібнага тыпу.

**ПРАКІСЕЛЬ** — вёска ў Артукоўскім с/с, за 35 км на ПдУ ад раённага цэнтра і чыг. ст. Рэчыца (на лініі Калінкавічы—Гомель), 67 км ад Гомеля, на Пд сетка меліярацыйных каналаў, адзін з якіх перакрыжоўвае вёску. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Лоеў—Рэчыца. 194 гаспадаркі, 462 жыхары (2004 г.).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 19 ст. як сяленне ў Холмецкай вол. Рэчыцкага пав. Мінскай губ. У 1850 г. 38 двароў. У 1862 г. 112 жыхароў мужчынскага полу, уладанне графа Ракіцкага. Пад 1897 г. пазначана ў Холмецкім царк. прыходзе. Паводле перапісу 1897 г. 79 двароў, 535 жыхароў, капліца, хлебазапасны магазін, карчма. Побач быў выселак Пракісель (ён жа Забалацце), 7 двароў, 48 жыхароў. У 1908 г. 125 двароў, 690 жыхароў. З 8.12.1926 г. да 30.12.1927 г. цэнтр Пракісельскага с/с Холмецкага, з 4.8.1927 г. Рэчыцкага р-наў Гомельскай акругі. У 1930 г. арганізаваны калгас імя М.І.Калініна, дзейнічалі вятрак і ваўначоска. У 1939—40 гг. ў вёску перасялілася частка жыхароў пас. Іскра (не існуе). У Вял. Айч. вайну дзейнічала падп. патрыят. група. У баях каля вёскі загінулі 321 воін і партызан (пахаваны ў брацкай магіле каля будынка праўлення калгаса). Вызвалена 12.11.1943 г. 84 вяскоўцы загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 734 жыхары. Цэнтр калгаса «Шлях да камунізму». Размешчаны 9-гадовая школа, б-ка, фельч.-акушэрскі пункт, дзіцячыя яслі-сад, аддз. сувязі, магазін, Дом культуры. Планіровачна складаецца з прамалінейнай мерыдыянальнай вуліцы, да якой на Пд далучаецца такая ж кароткая вуліца. Забудова пераважна драўляная сядзібнага тыпу.

**ПРУДЗІШЧА** — пасёлак у Капараўскім с/с, за 20 км на ПдЗ ад Рэчыцы, 10 км ад чыг. ст. Дземяхі (на лініі Калінкавічы—Гомель), 70 км ад Гомеля, на Пд сетка меліярацыйных каналаў, на З — канава Іўня-Бонда, побач аўтадарога Калінкавічы—Гомель. 4 гаспадаркі, 5 жыхароў (2004 г.).

Засн. ў пач. 20 ст. перасяленцамі з суседніх вёсак. У 1908 г. ўрочышча, 1 двор, 11 жыхароў, у Карпавіцкай вол. Рэчыцкага пав. Мінскай губ. У 1930 г. 28 двароў, 142 жыхары. У 1931 г. арганізаваны калгас. 12 пасялкоўцаў загінулі на фран-

тах Вял. Айч. вайны. Паводле перапісу 1959 г. 139 жыхароў. У складзе калгаса «Камунар» (цэнтр — в. Будка). Планіровачна складаецца з кароткай шыротнай вуліцы, забудаванай няшчыльна драўлянымі сял. сядзібамі.

**РАБУСА** — вёска ў Перасвятоўскім с/с, за 8 км на З ад раённага цэнтра і чыг. ст. Рэчыца (на лініі Калінкавічы—Гомель), 58 км ад Гомеля, на зах. ускраіне — канава Рабуска. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Васілевічы—Рэчыца. 113 гаспадарак, 256 жыхароў (2004 г.).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 19 ст. як сяленне ў Ровенскаслабодскай вол. Рэчыцкага пав. Мінскай губ. У 1850 г. 22 двары, 197 жыхароў, уласнасць казны. Пад 1879 г. пазначана ў Рэчыцкім царк. прыходзе. Паводле перапісу 1897 г. 91 двор, 512 жыхароў, хлебазапасны магазін. У 1908 г. 608 жыхароў. З 8.12. 1926 г. да 30.12.1927 г. цэнтр Рабусянскага с/с Рэчыцкага р-на Рэчыцкай, з 9.6.1927 г. Гомельскай акруг. У 1930 г. 162 двары, 839 жыхароў. У 1931 г. арганізаваны калгас. У Вял. Айч. вайну 16.11.1943 г. вызвалена ад акупантаў. 82 вяскоўцы загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 566 жыхароў. У складзе саўгаса «10 гадоў Кастрычніка» (цэнтр — в. Перасвятое). Размешчана пач. школа. Планіровачна складаецца з працяглай крывалінейнай мерыдыянальнай вуліцы, якая на Пд раздвойваецца. Забудова двухбаковая, пераважна драўляная, сядзібнага тыпу.

**РАМАНАЎКА** — вёска ў Ровенскаслабодскім с/с, за 27 км на Пд ад раённага цэнтра і чыг. ст. Рэчыца (на лініі Калінкавічы—Гомель), 77 км ад Гомеля. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Хойнікі—Рэчыца. 8 гаспадарак, 12 жыхароў (2004 г.).

Засн. ў 2-й пал. 19 ст. як сяленне ў Маладушскай вол. Рэчыцкага пав. Мінскай губ. У 1908 г. 19 двароў, 164 жыхары. У 1930 г. 36 двароў, 160 жыхароў. У 1931 арганізаваны калгас, працавала кузня. У Вял. Айч. вайну 18.11.1943 г. ў баі каля вёскі вызначыўся камандзір батарэі ст. лейтэнант Ф.А.Трыфанаў (удастоены звання Героя Сав. Саюза). 12 вяскоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 286 жыхароў. У складзе падсобнай гаспадаркі «Аўрора» раённага аб'яднання «Сельгасхімія» (цэнтр — в. Смагарын). Планіровачна складаецца з крыху выгнутай шыротнай вуліцы з завулкамі. Забудова драўляная сядзібнага тыпу.

**РАССВЕТ** (да 1936 Курані) — вёска ў Васілевіцкім гарсавеце, за 57 км на З ад Рэчыцы, 9 км ад чыг. ст. Васілевічы (на лініі Калінкавічы—Гомель), 107 км ад Гомеля, на р. Ведрыч (прыток р. Дняпро), на У, Пн і З меліярацыйныя каналы. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Васілевічы—Рэчыца. 34 гаспадаркі, 61 жыхар (2004 г.).

Выяўленае археолагамі гарадзішча мілаградскай культуры ранняга жал. веку (за 3 км на ПнУ ад вёскі) сведчыць пра засяленне тутэйшых мясцін з далёкай старажытнасці. Па пісьмовых крыніцах вядома з пач. 20 ст. Найбольш актыўная забудова прыпадае на 1920-я г. У 1930 г. арганізаваны калгас. У складзе саўгаса «Ведрыч» (цэнтр — в. Ведрыч). Планіровачна складаецца з 2 кароткіх, паралельных паміж сабой шыротных вуліц, злучаных завулкам. Забудова двухбаковая, няшчыльная, драўляная, сядзібнага тыпу.

**РОВЕНСКАЯ СЛАБАДА** — вёска, цэнтр Ровенскаслабодскага с/с, за 18 км на Пд ад раённага цэнтра і чыг. ст. Рэчыца (на лініі Калінкавічы—Гомель), 68 км ад Гомеля, побач аўтадарога Хойнікі—Рэчыца, на З меліярацыйныя каналы. 301 гаспадарка, 860 жыхароў (2004 г.).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 19 ст. як сяленне ў Рэчыцкім пав. Мінскай губ. Дзейнічала Свята-Мікалаеўская царква (у ёй захоўваліся метрычныя кнігі з 1824). У 1848 г. на месцы састарэлага пабудаваны новы драўляны будынак царквы. У 1834 г. сяло, 52 двары. У 1850





*Гандлёвы цэнтр у в. Ровенская Слабада.*

*Новабудоўлі для спецыялістаў сельскай гаспадаркі ў в. Ровенская Слабада.*

г. 59 двароў, 414 жыхароў. У 1885 г. 74 двары, 579 жыхароў. Цэнтр Ровенскаслабодскай вол. (да 9.5.1923), у якую ў 1885 г. ўваходзілі 20 сяленняў з 665 дварамі. Паводле перапісу 1897 г. 153 двары, 1086 жыхароў, царква, капліца, нар. вучылішча, хлебазапасны магазін, карчма, аддз. сувязі. Летам 1918 г. ў час герм. акупацыі вяскоўцы стварылі партыз. атрад (250 чал.), які вёў баявыя дзеянні супраць герм. войск. З 8.12.1926 г. ў складзе БССР, цэнтр сельсавета Рэчыцкага р-на Рэчыцкай (да 9.6.1927), потым Гомельскай (да 26.7.1930) акруг, з 20.2. 1938 г. Гомельскай вобл. У 1930 г. 170 двароў, пач. школа, хата-чытальня, аддз. спажывецкай каапераці. У 1931 г. арганізаваны калгас імя Ф.Э.Дзяржынскага, працавалі вятрак, кузня, сталярня і шорная майстэрня, паравы млын, ваўначоска. У 1940 г. 220 двароў. У Вял. Айч. вайну дзейнічала падп. патрыят. група (кіраўнікі А.Ц.Дворнік, М.І.Звяртоўскі). У 1942 г. ням. акупанты спалілі 218 двароў і загубілі 40 жыхароў. У баях за вызваленне ў ліст. 1943 г. вёскі Ровенская Слабада, Андрэеўка, Роўнае, Бяузеў, Бярозаўка, пасёлкі Храбры і Стражынскі загінулі 232 воіны (пахаваны ў брацкай магіле ў парку, каля клуба). Вызвалена 14.11.1943 г. 226 вяскоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 647 жыхароў. Цэнтр калгаса імя Ф.Э.Дзяржынскага. Размешчаны цагельня, камбінат быт. абслугоўвання, лясніцтва, лесапільня, млын, сярэдняя і муз. школы, клуб, б-ка, амбулаторыя, дзіцячы сад, вет. ўчастак, аддз. сувязі, магазін, гіст.-мемарыяльны музей «Памяць» (засн. ў снеж. 1985). Планіровачна складаецца з амаль прамалінейнай вуліцы, блізкай да мерыдыянальнай арыентацыі, якую на Пд перакрыжоўвае крывалінейная вуліца. У цэнтры да галоўнай далучаецца кароткая вуліца. Забудова двухбаковая, драўляная, сядзібнага тыпу. У апошняе 10-годдзе праведзена вял. работа па добраўпарадкаванні вёскі. Радзіма засл. настаўніцы Беларусі В.М.Герненкі.

У склад Ровенскаслабодскага с/с да 1932 г. ўваходзілі в. Граматы, пас. Сад (не існуюць).

**РОЎНАЕ** — вёска ў Ровенскаслабодскім с/с, за 14 км на Пд ад раённага цэнтра і чыг. ст. Рэчыца (на лініі Калінкавічы—Гомель), 64 км ад Гомеля, побач аўтадарога Рэчыца—Хойнікі, на У і Пн меліярацыйныя каналы. 57 гаспадарак, 114 жыхароў (2004 г.).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 19 ст. як сяленне ў Ровенскаслабодскай вол. Рэчыцкага пав. Мінскай губ. У 1834 г. 24 двары. У 1850 г. 25 двароў, 175 жыхароў, уласнасць казны. Пад 1879 г. пазначана ў Ровенскаслабодскім царк. прыходзе. Паводле перапісу 1897 г. 66 двароў, 449 жыхароў. У 1908 г. 98 двароў, 552 жыхары. З 8.12.1926 г. да 30.12.1927 г. цэнтр Ровенскага с/с Рэчыцкай, з 9.6. 1927 г. Гомельскай акруг. У 1930 г. арганізаваны калгас «Іскра», працаваў вятрак. У 1940 г. 96 двароў. У Вял. Айч. вайну ў жн. 1942 г. ням. акупанты спалілі 93 двары і загубілі 56 жыхароў. Вызвалена 14.11.1943 г. 48 вяскоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 356

жыхароў. У складзе калгаса імя Ф.Э. Дзяржынскага (цэнтр — в. Ровенская Слабада). Размешчана б-ка. Планіровачна складаецца з 2 кароткіх, блізкіх да шыротнай арыентацыі вуліц, да якіх на У далучаюцца завулкі. Забудова драўляная, няшчыльная, сядзібнага тыпу.

**РУДЗЕЦ** — вёска ў Дуброўскім с/с, за 42 км на ПнЗ ад Рэчыцы, 17 км ад чыг. ст. Васілевічы (на лініі Калінкавічы—Гомель), 92 км ад Гомеля, на Пд канава Нізавая. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Светлагорск—Рэчыца. 43 гаспадаркі, 77 жыхароў (2004 г.).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 19 ст. як сяленне ў Якімаваслабодскай вол. Рэчыцкага пав. Мінскай губ. У 1908 г. 29 двароў, 157 жыхароў. У 1930 г. арганізаваны калгас «Сацыялістычны араты», працавала кузня. У 1940 г. 82 двары, 400 жыхароў. У Вял. Айч. вайну ў чэрв. 1943 г. ням. акупанты поўнасцю спалілі вёску і загубілі 10 жыхароў. 61 вясковец загінуў на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 364 жыхары. У складзе калгаса «Шлях Леніна» (цэнтр — в. Заходы). Планіровачна складаецца з прамалінейнай шыротнай вуліцы, да якой з ПдУ далучаецца крыху выгнутая вуліца з завулкам. Забудова двухбаковая, драўляная, сядзібнага тыпу.

**РУДНЯ** — пасёлак у Азершчынскім с/с, за 6 км на З ад раённага цэнтра і чыг. ст. Рэчыца (на лініі Калінкавічы—Гомель), 56 км ад Гомеля, на р. Ведрыч (прыток р. Дняпро), побач аўтадарога Светлагорск—Рэчыца. 1 гаспадарка, 1 жыхар (2004 г.).

Па пісьмовых крыніцах вядомы з 19 ст. як сяленне ў Ровенскаслабодскай вол. Рэчыцкага пав. Мінскай губ. У 1850 г. 14 двароў, 78 жыхароў, уласнасць казны. Паводле перапісу 1897 г. 35 двароў, 208 жыхароў, хлебазапасны магазін. З 1919 г. працавала смалакурня. у 1930 г. 67 двароў, 321 жыхар. У 1931 г. арганізаваны калгас. Драўляная сял. сядзіба каля аўтадарогі.

**РЭЛЬКІ** — пасёлак у Артукоўскім с/с, за 28 км на Пд ад раённага цэнтра і чыг. ст. Рэчыца (на лініі Калінкавічы—Гомель), 78 км ад Гомеля. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Лоеў—Рэчыца. 12 гаспадарак, 31 жыхар (2004 г.).

Засн. ў пач. 20 ст. перасяленцамі з суседніх вёсак. Найбольш актыўная забудова прыпадае на 1920-я г. У 1930 г. 15 двароў, 78 жыхароў. У 1931 г. арганізаваны калгас. 6 пасялкоўцаў загінулі на франтах Вял. Айч. вайны. Паводле перапісу 1959 г. 62 жыхары. У складзе калгаса «Чырвоны сцяг» (цэнтр — в. Артукі). Забудова рэдкая, драўляная, сядзібнага тыпу.

**РЭПІШЧА** — вёска ў Белабалоцкім с/с, за 38 км на ПнУ ад Рэчыцы, 14 км ад чыг. ст. Сеназавод (на лініі Калінкавічы—Гомель), 54 км ад Гомеля, на Пд і З мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Калінкавічы—Гомель. 5 гаспадарак, 11 жыхароў (2004 г.).

Засн. ў сярэдзіне 19 ст. сялянамі з суседніх вёсак, якія з дапамогай крэдытнага банка купілі тут зямлю. Паводле перапісу 1897 г. 5 двароў, 31 жыхар. У 1926 г. 19 двароў, 100 жыхароў, ва Уваравіцкім р-не Гомельскай акругі. У 1930 г. арганізаваны калгас, 7 вяскоўцаў загінулі на франтах Вял. Айч. вайны. У складзе саўгаса «Рэчыца» (цэнтр — в. Белае Балота). Планіровачна складаецца з кароткай прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ і перакрыжаванай пад прамым вуглом такой жа кароткай вуліцай. Забудова аднабаковая, рэдкая, драўляная, сядзібнага тыпу.

**САЛТАНОЎ** — вёска ў Дземяхоўскім с/с, за 17 км на З ад Рэчыцы, 3 км ад чыг. ст. Дземяхі (на лініі Калінкавічы—Гомель), 64 км ад Гомеля, на р. Ведрыч (прыток р. Дняпро) і аўтадарозе Васілевічы—Рэчыца. 396 гаспадарак, 949 жыхароў (2004 г.).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 19 ст. як сяленне ў Ровенскаслабодскай

вол. Рэчыцкага пав. Мінскай губ. Дзейнічала прыпісная царква, якая ў 1840 г. пасля закрыцця Дземяхоўскай царквы стала прыходскай. У ёй знаходзіўся мясцова шанаваны абраз Маці Божай. У 1850 г. фальварак Салтаноў (ён жа Рудня-Дземяхоўская), 7 двароў. У 1885 г. 34 двары, 222 жыхары, паравы млын. Паводле перапісу 1897 г. сяло, 71 двор, 416 жыхароў, 2 царквы, хлебазапасны магазін. Працаваў спіртаачышчальны з-д А.Ф.Рыка (паравы рухавік, 8 рабочых). З 8.12.1926 г. да 30.12.1927 г. цэнтр Салтаноўскага с/с Рэчыцкай, з 9.6.1927 г. Гомельскай акруг. У 1930 г. 135 двароў. У 1931 г. арганізаваны калгас, працавала кузня. У 1940 г. 280 двароў, 1120 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з ліст. 1941 г. дзейнічала падп. патрыят. група. У маі 1942 г. непадалёку ад вёскі падпольшчыкі ўзарвалі чыг. мост. У чэрв. 1942 г. ням. карнікі поўнасцю спалілі вёску (за час акупацыі загубілі 73 жыхароў). На франтах і ў партыз. барацьбе загінулі 98 вяскоўцаў. Паводле перапісу 1959 г. 1217 жыхароў. У 1962 г. да вёскі далучаны суседні пас. Рымшаўка. Цэнтр саўгаса «Дземяхі». Працуюць спіртзавод, камбінат быт. абслугоўвання, сярэдняя школа, клуб, б-ка, дзіцячыя яслі-сад, фельч.-акушэрскі пункт, аддз. сувязі, сталовая, магазін. Планіровачна складаецца з 2 шчыльна забудаваных крывалінейных вуліц, арыентаваных з ПдЗ на ПнУ (уздоўж ракі), да якіх з З далучаюцца кароткія вуліцы. Жылыя дамы драўляныя сядзібнага тыпу.

У склад Салтаноўскага с/с да сярэдзіны 1930-х г. уваходзіў пас. Ландарбег (не існуе).

**СВЕДСКАЕ** – вёска ў Камсамольскім с/с, за 52 км на ПнЗ ад раённага цэнтра і чыг. ст. Рэчыца (на лініі Калінкавічы–Гомель), 102 км ад Гомеля, на р. Сведзь (прыток р. Бярэзіна). Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Светлагорск–Рэчыца. 120 гаспадарак, 262 жыхары (2004 г.).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 18 ст. як сяленне ў Рэчыцкім пав. Мінскага ваяв. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У пач. 19 ст. пабудавана капліца, у 1920 г. драўляная Ільінская царква. У 1851 г. на сродкі прыхаджан і горвальскай памешчыцы М.Р.Халадоўскай замест састарэлага ўзведзены новы драўляны будынак царквы, у якой знаходзіўся мясцова шанаваны абраз св. прарока Ільі. У 1885 г. 40 двароў, 168 жыхароў, у Горвальскай вол. Рэчыцкага пав. Мінскай губ. Паводле перапісу 1897 г. 57 двароў, 338 жыхароў, царк.-прыходская школа, хлебазапасны магазін. У 1908 г. 69 двароў, 477 жыхароў. З 8.12.1926 г. да 2.4.1959 г. цэнтр Сведскага с/с Горвальскага, з 4.8.1927 г. Рэчыцкага, з 29.2.1938 г. Васілевіцкага, з 24.8.1951 г. Рэчыцкага р-наў Рэчыцкай, з 9.6.1927 г. Гомельскай (да 26.7.1930) акруг, з 20.2.1938 г. Палескай, з 8.1.1954 г. Гомельскай абласцей. У 1930 г. 97 двароў, 509 жыхароў, пач. школа, хата-чытальня, аддз. спажывецкай кааперацыі. У 1931 г. арганізаваны калгас імя У.І.Леніна, працавала кузня і ваўначоска. У 1940 г. 149 двароў, 681 жыхар. У Вял. Айч. вайну ў чэрв. 1943 г. ням. акупанты спалілі 146 двароў і загубілі 7 жыхароў. У баях за вызваленне вёсак Сведскае, Гачай, Крапіўня, Дабужа, Ваколіца, Шоўкавічы загінулі 83 воіны і 3 партызаны (пахаваны ў брацкай магіле ў цэнтры вёскі, каля школы). 92 вяскоўцы загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 665 жыхароў. У складзе саўгаса «Камсамольскі» (цэнтр — в. Камсамольск). Дзейнічаюць 9-гадовая школа, б-ка, фельч.-акушэрскі пункт, аддз. сувязі, клуб. Планіровачна складаецца з дугападобнай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ (уздоўж ракі). На Пн ад яе размешчана шчыльная бессістэмная забудова. Жылыя дамы драўляныя сядзібнага тыпу.

**СВІДАЎКА** – вёска ў Баршчоўскім с/с, за 28 км на ПдУ ад Рэчыцы, 10 км ад чыг. ст. Якімаўка (на лініі Калінкавічы—Гомель), на Пд і З мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Калінкавічы—Гомель. 34 гаспадаркі, 86 жыхароў (2004 г.).

Засн. ў пач. 1920-х г. перасяленцамі з суседніх вёсак на былых памешчыцкіх землях. У 1931 г. арганізаваны калгас. 8 вяскоўцаў загінулі на франтах Вял. Айч. вайны. Паводле перапісу 1959 г. 134 жыхары. У 1962 г. да вёскі далучаны пас. Гарадзішча. У складзе саўгаса «Баршчоўка» (цэнтр — в. Баршчоўка). Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, блізкай да мерыдыянальнай арыентацыі і забудаванай аднабакова, рэдка драўлянымі сял. сядзібамі.

**СВІДЭРА** – вёска ў Глыбаўскім с/с, за 24 км на Пн ад раённага цэнтра і чыг. ст. Рэчыца (на лініі Калінкавічы—Гомель), 74 км ад Гомеля. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Светлагорск—Рэчыца, 21 гаспадарка, 42 жыхары (2004 г.).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 19 ст. як сяленне ў Горвальскай вол. Рэчыцкага пав. Мінскай губ. У 1835 г. памешчыца Халадоўская мела ў вёсцы 300 дзес. зямлі. Пазней ва ўладанні ген.-м. Г.Ф.Менгдэна, дзейнічала лесапільня. Пад 1879 г. упамінаецца ў Горвальскім царк. прыходзе. Паводле перапісу 1897 г. 13 двароў, 94 жыхары. З 8.12.1926 г. да 30.12.1927 г. цэнтр Свідэрскага (Свідэра-Мілаград-Глыбаўскага) с/с Горвальскага, з 4.8.1927 г. Рэчыцкага р-наў Рэчыцкай, з 9.6.1927 г. Гомельскай акруг. У 1930 г. 26 двароў, 118 жыхароў. У 1931 г. арганізаваны калгас «Чырвоная зорка», працавала кузня. У 1940 г. 36 двароў, 135 жыхароў. У Вял. Айч. вайну ў чэрв. 1943 г. ням. акупанты поўнасцю спалілі вёску і загубілі 6 жыхароў. 17 вяскоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 107 жыхароў. У складзе саўгаса «Падалессе» (цэнтр — в. Мілаград). Планіровачна складаецца з прамалінейнай кароткай вуліцы, блізкай да шыротнай арыентацыі. Забудова драўляная сядзібнага тыпу.

**СВІРЫДАВІЧЫ** – вёска, цэнтр Свірыдавіцкага с/с, за 22 км на Пд ад раённага цэнтра і чыг. ст. Рэчыца (на лініі Калінкавічы—Гомель), 72 км ад Гомеля. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Лоеў—Рэчыца. 106 гаспадарак, 273 жыхары (2004 г.).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 16 ст. як вёска ў Рэчыцкім пав. Мінскага ваяв. ВКЛ. Была ў валоданні Патоцкіх, потым Масальскіх. У 1736 г. пабудавана драўляная Успенская царква. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1795 г. 29 двароў. У 1844 г. памешчыца Гумінская мела ў вёсцы 571 дзес. зямлі. У 1868 г. будынак царквы капітальна адрамантаваны, а ў 1889 г. на месцы састарэлага ўзведзены новы драўляны будынак. У 1885 г. 30 двароў, 240 жыхароў, у Заспенскай вол. Рэчыцкага пав. Мінскай губ. Паводле перапісу 1897 г. сяло, 57 двароў, 405 жыхароў, школа граматы, хлебазапасны магазін. Побач былі аднайменныя выселак і сядзіба. У 1908 г. 71 двор, 499 жыхароў. З 8.12.1926 г. цэнтр Свірыдавіцкага с/с Рэчыцкага р-на Рэчыцкай (да 9.6.1927), Гомельскай (да 26.7.1930) акруг, з 20.2.1938 г. Гомельскай вобл. У 1929 г. арганізаваны калгас «Свет», працавалі школа, кузня, нафтавы млын. У Вял. Айч. вайну з кастр. 1941 г. дзейнічала падп. патрыят. група (кіраўнікі А.В.Карбаненка, В.А.Нямкевіч). У баях за вызваленне вёсак Гасцівель, Гарадзішча, Лабкі, Свірыдавічы ў ліст. 1943 г. загінулі 224 воіны (пахаваны ў брацкай магіле на могілках). Вызвалена 14.11. 1943 г. 69 вяскоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 562 жыхары. Цэнтр калгаса імя С.М.Кірава. Працуюць сярэдняя школа, Дом культуры,

б-ка, фельч.-акушэрскі пункт, аддз. сувязі, магазін, дзіцячы сад. Планіровачна складаецца з амаль прамалінейнай мерыдыянальнай вуліцы, да якой з З далучаецца кароткая вуліца. На У ад галоўнай, паралельна да яе, праходзіць кароткая прамалінейная вуліца. Забудова двухбаковая, пераважна драўляная, сядзібнага тыпу. Радзіма аднаго з арганізатараў і кіраўнікоў партыз. руху на Гомельшчыне ў Вял. Айч. вайну П.І.Дзедзіка (быў камісарам партыз. брыгады 1-й Гомельскай). У склад Свірыдавіцкага с/с уваходзілі да сярэдзіны 1930-х г. хутары Барсук, Вярбіцкага, Рапека, Пархоменка, пасёлкі Красны Барэц, Новы Іпаліт, Петрыкаў, да сярэдзіны 1940-х г. — Краснагор'е, да 1950-х г. — Гай, Заводнае, да 1974 г. — Цешаў, да 1977 г. — Чорная Зямля, да 1981 г.— Вясна, да 1989 г. — Зорка, да 1992 г. — Бяроза, да 1995 г. — Волга, Гарадзішча, Зорка (не існуюць).

**СІТНЯКІ** — вёска ў Баршчоўскім с/с, за 28 км на У ад Рэчыцы, 1 км ад чыг. ст. Якімаўка (на лініі Калінкавічы—Гомель), 43 км ад Гомеля, на У — меліярацыйны канал і мяжуе з лесам (урочышча Хмозаў), на З — сетка меліярацыйных каналаў, на Пн — чыгунка. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Калінкавічы—Гомель. 28 гаспадарак, 52 жыхары (2004 г.).

Засн. ў пач. 20 ст. перасяленцамі з суседніх вёсак. Найбольш актыўная забудова прыпадае на 1920-я г. У 1930 г. арганізаваны калгас. 9 вяскоўцаў загінулі на франтах Вял. Айч. вайны. Паводле перапісу 1959 г. 214 жыхароў. У складзе саўгаса «Баршчоўка» (цэнтр — в. Баршчоўка). Планіровачна складаецца з прамалінейнай, блізкай да мерыдыянальнай арыентацыі вуліцы, забудаванай няшчыльна драўлянымі сял. сядзібамі.

**СМАГАРЫН** — вёска ў Ровенскаслабодскім с/с, за 26 км на Пд ад раённага цэнтра і чыг. ст. Рэчыца (на лініі Калінкавічы—Гомель), 67 км ад Гомеля, на Пн меліярацыйныя каналы. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Хойнікі—Рэчыца. 86 гаспадарак, 189 жыхароў (2004 г.).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 19 ст. як сяленне ў Маладушскай вол. Рэчыцкага пав. Мінскай губ. У звестках аб населеных пунктах гэтага рэгіёна ўпамінаецца пад 1869 г. Пад 1879 г. пазначана ў Свірыдавіцкім царк. прыходзе. Паводле перапісу 1897 г. 55 двароў, 397 жыхароў, хлебазапасны магазін. Побач пас. Новы Смагарын (ён жа Раманаўка, Ражнішча), 11 двароў, 68 жыхароў. Апрача земляробства частка вяскоўцаў займалася вырабам калёс і саней. У 1908 г. 79 двароў, 495 жыхароў. З 8.12.1926 г. да 30.12.1927 г. цэнтр Смагарынскага с/с Рэчыцкай, з 9.6.1927 г. Гомельскай акруг. У 1929 г. 135 двароў, 890 жыхароў. У 1930 г. арганізаваны калгас «Аўрора», працавала кузня. Аднайменны пасёлак, што быў побач, далучыўся да вёскі. У Вял. Айч. вайну ў 1942 і 1943 гг. ням. акупанты загубілі 34 жыхароў. У ліст. 1943 г. ў баях за вызваленне вёсак Смагарын, Раманаўка, Новы Барсук загінулі 157 воінаў і партызан (пахаваны ў брацкай магіле ў цэнтры). 61 вясковец загінуў на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 472 жыхары. Цэнтр падсобнай гаспадаркі «Аўрора», аб'яднання «Райсельгасхімія», пач. школа, клуб, б-ка, фельч.-акушэрскі пункт, аддз. сувязі, магазін, дзіцячы сад. Планіровачна складаецца з прамалінейнай мерыдыянальнай вуліцы, да якой з У і З далучаюцца кароткія прамалінейныя вуліцы і на Пн адасоблена размешчана кароткая шыротная вуліца. Забудова двухбаковая, драўляная, сядзібнага тыпу.

**СОКАЛ** — пасёлак у Свірыдавіцкім с/с, за 24 км на Пд ад раённага цэнтра і чыг. ст. Рэчыца (на лініі Калінкавічы—Гомель), 74 км ад Гомеля. Транспартныя

сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Лоеў—Рэчыца. 2 гаспадаркі, 2 жыхары (2004 г.).

Засн. ў пач. 1920-х г. на былых памешчыцкіх землях перасяленцамі з суседніх вёсак. У 1930 г. 7 двароў, 39 жыхароў. У 1931 г. арганізаваны калгас. Паводле перапісу 1959 г. 49 жыхароў. У складзе калгаса імя С.М.Кірава (цэнтр — в. Свірыдавічы). Забудова драўляная сядзібнага тыпу.

**СТАРАКРАСНАЕ** — вёска ў Дземяхоўскім с/с, за 18 км на ПдЗ ад Рэчыцы, 16 км ад чыг. ст. Дземяхі (на лініі Калінкавічы—Гомель), 68 км ад Гомеля, на р. Днепрык (прыток р. Ведрыч). Транспартныя сувязі па аўтадарозе Светлагорск—Рэчыца. 70 гаспадарак, 177 жыхароў (2004 г.).

Выяўленае археолагамі гарадзішча зарубінецкай культуры (за1 км на Пн ад вёскі, ва ўрочышчы Гарадок) сведчыць пра засяленне тутэйшых мясцін з далёкай старажытнасці. Па пісьмовых крыніцах вядома з 19 ст. як сяленне ў Горвальскай вол. Рэчыцкага пав. Мінскай губ. У 1908 г. 49 двароў, 285 жыхароў. З 8.12.1926 г. да 30.12.1927 г. цэнтр Старакрасненскага с/с. У 1930 г. 103 двары, 516 жыхароў. У 1930 г. арганізаваны калгас «Чырвоная зорка», працавалі дрэваапрацоўчая арцель і кузня. У Вял. Айч. вайну ў студз. і чэрв. 1943 г. ням. акупанты поўнасцю спалілі вёску і загубілі 120 жыхароў. У баях каля вёсак Старакраснае і Коззе загінулі 61 воін і 6 партызан (пахаваны ў брацкай магіле, за 1 км на Пн ад вёскі). 35 вяскоўцаў не вярнуліся з фронту. Паводле перапісу 1959 г. 267 жыхароў. Цэнтр вучгаса СПТВ-178. Працуюць клуб, б-ка, фельч.-акушэрскі пункт, аддз. сувязі, магазін. Планіровачна складаецца з працяглай прамалінейнай вуліцы, блізкай да мерыдыянальнай арыентацыі і забудаванай двухбакова, няшчыльна драўлянымі сял. сядзібамі.

**СТАРЫ БАРСУК** — вёска ў Новабарсуцкім с/с, за 32 км на ПдЗ ад раённага цэнтра і чыг. ст. Рэчыца (на лініі Калінкавічы—Гомель), 82 км ад Гомеля. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Хойнікі—Рэчыца. 38 гаспадарак, 72 жыхары (2004 г.).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 18 ст. як сяленне ў Рэчыцкім пав. Мінскага ваяв. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1795 г. в. Барсукі, 12 двароў. У 2-й пал. 19 ст. вёскі Стары Барсук і Новы Барсук. Пад 1879 г. пазначана ў Маладушскім царк. прыходзе. У 1908 г. 56 двароў, 280 жыхароў, у Маладушскай вол. Рэчыцкага пав. Мінскай губ. У 1931 г. арганізаваны калгас «Камінтэрн», працаваў вятрак. У 1940 г. 110 двароў, 660 жыхароў. У Вял. Айч. вайну непадалёку, у лясным масіве, размяшчаўся партыз. атрад «Мсцівец». У ліст. 1942 г. ў вёсцы некаторы час знаходзіўся штаб украінскага партыз. злучэння С.А.Каўпака. 35 вяскоўцаў сталі партызанамі гэтага злучэння. У жн. 1943 г. ням. акупанты поўнасцю спалілі вёску і загубілі 10 жыхароў. 38 вяскоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 252 жыхары. У складзе калгаса імя М.В.Фрунзе (цэнтр — в. Новы Барсук). Планіровачна складаецца з прамалінейнай шыротнай вуліцы, забудаванай няшчыльна драўлянымі сял. сядзібамі.

**СТАРЫНА** — вёска ў Глыбаўскім с/с, за 25 км на Пн ад раённага цэнтра і чыг. ст. Рэчыца (на лініі Калінкавічы—Гомель), 75 км ад Гомеля. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Светлагорск—Рэчыца. 29 гаспадарак, 57 жыхароў (2004 г.).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 19 ст. як сяленне ў Горвальскай вол. Рэчыцкага пав. Мінскай губ. Паводле перапісу 1897 г. 5 двароў, 33 жыхары. У 1932 г. арганізаваны калгас. У 1940 г. 26 двароў, 75 жыхароў. У Вял. Айч. вайну ў ліп.

1943 г. ням. акупанты поўнасцю спалілі вёску і загубілі 3 жыхароў. 24 вяскоўцы загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 120 жыхароў. У складзе саўгаса «Падалессе» (цэнтр — в. Мілаград). Планіровачна складаецца з 2 кароткіх, амаль паралельных паміж сабой вуліц шыротнай арыентацыі. Забудова рэдкая, драўляная, сядзібнага тыпу.

**СТАСЕЎКА** — вёска ў Глыбаўскім с/с, за 12 км на ПнЗ ад раённага цэнтра і чыг. ст. Рэчыца (на лініі Калінкавічы—Гомель), 62 км ад Гомеля. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Светлагорск—Рэчыца. 55 гаспадарак, 137 жыхароў (2004 г.).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 19 ст. як сяленне ў Горвальскай вол. Рэчыцкага пав. Мінскай губ. У 1850 г. 14 двароў, 79 жыхароў. Пад 1879 г. ўпамінаецца ў Горвальскім царк. прыходзе. Паводле перапісу 1897 г. 40 двароў, 190 жыхароў, школа граматы, хлебазапасны магазін. У 1908 г. 214 жыхароў. У 1917 г. 794 жыхары, у Парыцкай вол. Бабруйскага пав. Мінскай губ. З 1921 г. дзейнічала школа. З 8.12.1926 г. да 30.12.1927 г. цэнтр Стасеўскага с/с Горвальскага, з 4.8.1927 г. Рэчыцкага р-наў Рэчыцкай, з 4.8.1927 г. Гомельскай акруг. У 1930 г. 78 двароў, 405 жыхароў. У 1931 г. арганізаваны калгас. У Вял. Айч. вайну ў ліп. 1943 г. ням. акупанты поўнасцю спалілі вёску і загубілі 9 жыхароў. 51 вясковец загінуў на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 360 жыхароў. У складзе саўгаса «Падалессе» (цэнтр — в. Мілаград). Размешчаны фельч.-акушэрскі пункт. Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, блізкай да шыротнай арыентацыі і забудаванай двухбакова драўлянымі сял. сядзібамі. Каля вёскі ёсць залежы гліны.

**СТОЎПНЯ-1** — вёска ў Белабалоцкім с/с, за 37 км на ПнУ ад Рэчыцы, 13 км да чыг. ст. Сеназавод (на лініі Калінкавічы—Гомель), 53 км ад Гомеля, на Пд мяжуе з лесам, на З — р. Кабылеўка (прыток р. Дняпро). Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Калінкавічы—Гомель. 23 гаспадаркі, 31 жыхар (2004 г.).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 19 ст. як сяленне ў Чабатовіцкай вол. Гомельскага пав. Магілёўскай губ. Паводле перапісу 1897 г. хут. Стоўпня (ён жа Паўлаўка), 3 двары, 26 жыхароў. У 1909 г. 61 жыхар. У 1926 г. 8 двароў, 45 жыхароў, ва Уваравіцкім р-не Гомельскай акругі. У 1930 г. арганізаваны калгас. 10 вяскоўцаў загінулі на франтах Вял. Айч. вайны. Паводле перапісу 1959 г. 128 жыхароў. У складзе саўгаса «Рэчыца» (цэнтр — в. Белае Балота). Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, блізкай да мерыдыянальнай арыентацыі і забудаванай рэдка драўлянымі сял. сядзібамі.

**СТОЎПНЯ-2** — вёска ў Белабалоцкім с/с, за 36 км на ПнУ ад Рэчыцы, 12 км ад чыг. ст. Сеназавод (на лініі Калінкавічы—Гомель), 52 км ад Гомеля, на Пд мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Калінкавічы—Гомель. 4 гаспадаркі, 6 жыхароў (2004 г.).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 19 ст. як сяленне ў Чабатовіцкай вол. Гомельскага пав. Магілёўскай губ. Паводле перапісу 1897 г. хут. Стоўпня (ён жа Халімонаўка), 5 двароў, 24 жыхары. У 1909 г. 50 жыхароў. У 1926 г. 11 двароў, 67 жыхароў, ва Уваравіцкім р-не Гомельскай акругі. У 1931 г. арганізаваны калгас. 8 жыхароў загінулі на франтах Вял. Айч. вайны. Паводле перапісу 1959 г. 53 жыхары. У складзе саўгаса «Рэчыца» (цэнтр — в. Белае Балота). Планіровачна складаецца з кароткай прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ. Жылыя дамы драўляныя сядзібнага тыпу.

**СТРАЖЫНСКІ** — пасёлак у Ровенскаслабодскім с/с, за 13 км на Пд ад раённага цэнтра і чыг. ст. Рэчыца (на лініі Калінкавічы—Гомель), 63 км ад Гомеля.

Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Хойнікі—Рэчыца. 15 гаспадарак, 19 жыхароў (2004 г.).

Засн. ў пач. 20 ст. Найбольш актыўная забудова прыпадае на 1920-я г. У 1930 г. 21 двор, 125 жыхароў. У 1931 г. арганізаваны калгас. Паводле перапісу 1959 г. 117 жыхароў. У складзе калгаса імя Ф.Э.Дзяржынскага (цэнтр — в. Ровенская Слабада). Размешчана цагельня. Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ і забудаванай рэдка драўлянымі сял. сядзібамі.

**СЦЯПАНАЎКА** — вёска ў Заспенскім с/с, за 14 км на Пд ад раённага цэнтра і чыг. ст. Рэчыца (на лініі Калінкавічы—Гомель), 64 км ад Гомеля. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Рэчыца—Хойнікі. 21 двор, 32 жыхары (2004 г.).

Выяўлены археолагамі курганны могільнік (70 насыпаў, за 1,5 км на У ад вёскі) сведчыць пра засяленне тутэйшых мясцін з далёкай старажытнасці. Па пісьмовых крыніцах вядома з 18 ст. як сяленне ў Рэчыцкім пав. Мінскага ваяв. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1795 г.— 6, у 1834 г. — 9 двароў. Пад 1879 г. пазначана ў Свірыдавіцкім царк. прыходзе. Паводле перапісу 1897 г. 17 двароў, 107 жыхароў. У 1908 г. 42 двары, 180 жыхароў, у Заспенскай вол. Рэчыцкага пав. Мінскай губ. У 1925 г. 54 двары. У 1930 г. арганізаваны калгас «Новае жыццё», працавалі кузня і вятрак. 31 вясковец загінуў на франтах Вял. Айч. вайны. Паводле перапісу 1959 г. 241 жыхар. У складзе калгаса «Савецкая Беларусь» (цэнтр — в. Заспа). Планіровачна складаецца з прамалінейнай кароткай вуліцы шыротнай арыентацыі, забудаванай няшчыльна драўлянымі сял. сядзібамі.

**СЯМЁНАЎКА** — вёска ў Вышамірскім с/с, за 36 км на Пд ад раённага цэнтра і чыг. ст. Рэчыца (на лініі Калінкавічы—Гомель), 86 км ад Гомеля. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Хойнікі—Рэчыца. 74 гаспадаркі, 134 жыхары (2004 г.).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 19 ст. як сяленне ў Холмецкай вол. Рэчыцкага пав. Мінскай губ. У 1908 г. 78 двароў, 573 жыхары. З 8.12.1926 г. да 16.7. 1954 г. цэнтр Сямёнаўскага с/с Холмецкага, з 4.8.1927 г. Рэчыцкага р-наў Рэчыцкай, з 9.6.1917 г. Гомельскай (да 26.7.1930) акруг, з 20.2.1938 г. Гомельскай вобл. У 1930 г. 212 двароў, 1172 жыхары, школа. У 1929 г. арганізаваны калгас «Украінец», працавалі кузня і ваўначоска. У 1940 г. 330 двароў, 1080 жыхароў. У Вял. Айч. вайну ў чэрв. 1943 г. ням. акупанты поўнасцю спалілі вёску і загубілі 7 жыхароў. Паводле перапісу 1959 г. 654 жыхары. У 1962 г. да вёскі далучаны пас. Грушаўка. У складзе калгаса імя XXII з'езда КПСС (цэнтр — в. Вышамір). Дзейнічаюць б-ка, фельч.-акушэрскі пункт, клуб. Планіровачна складаецца з крывалінейнай працяглай вуліцы, блізкай да шыротнай арыентацыі. На Пн ад яе паралельна праходзіць кароткая прамалінейная вуліца, злучаная з галоўнай завулкам. Забудова двухбаковая, драўляная, сядзібнага тыпу.

**СЯННАЯ** (да 1954 Сеназавод) — вёска і чыг. ст. Сеназавод (на лініі Калінкавічы—Гомель) у Баршчоўскім с/с, за 7 км на У ад Рэчыцы, 38 км ад Гомеля, на Пн — воз. Крывы Гіраў, на З — р. Дняпро і яго пойма. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Калінкавічы—Гомель. 19 гаспадарак, 42 жыхары (2004 г.).

Засн. ў 19 ст. Пасля ўводу ў эксплуатацыю 15.2.1886 г. чыгункі Калінкавічы—Гомель пачаў дзейнічаць раз'езд, потым чыг. ст. Сенапрасавальны завод. Паступова складвалася і вёска. У 1926 г. 30 двароў, 123 жыхары, ва Уваравіцкім р-не Гомельскай акругі. Дзейнічала лугавая гаспадарка, рамонтная майстэрня

і кузня. 4 вяскоўцы загінулі на франтах Вял. Айч. вайны. Паводле перапісу 1959 г. 135 жыхароў. У складзе саўгаса «Рэчыца» (цэнтр — в. Белае Балота). Размешчаны магазін. Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ. Жылыя дамы драўляныя сядзібнага тыпу.

**СЯРГЕЕЎКА** — вёска ў Новабарсуцкім с/с, за 31 км на ПдЗ ад раённага цэнтра і чыг. ст. Рэчыца (на лініі Калінкавічы—Гомель), 81 км ад Гомеля, на Пн канава Маладушская. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Хойнікі—Рэчыца. 3 гаспадаркі, 6 жыхароў (2004 г.).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 19 ст. як сяленне ў Маладушскай вол. Рэчыцкага пав. Мінскай губ. У 1908 г. 26 двароў, 171 жыхар. У 1930 г. 44 двары, 233 жыхары. У 1931 г. арганізаваны калгас. У 1940 г. 53 двары, 190 жыхароў. У Вял. Айч. вайну ў чэрв. 1943 г. ням. акупанты поўнасцю спалілі вёску і загубілі 8 жыхароў. 19 вяскоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 120 жыхароў. У складзе калгаса імя М.В. Фрунзе (цэнтр — в. Новы Барсук). Планіровачна складаецца з амаль прамалінейнай шыротнай вуліцы, забудаванай няшчыльна драўлянымі сял. сядзібамі.

**УБОРКІ** — пасёлак у Баршчоўскім с/с, за 24 км на ПдУ ад Рэчыцы, 6 км ад чыг. ст. Якімаўка (на лініі Калінкавічы—Гомель), 27 км ад Гомеля, побач аўтадарога Калінкавічы—Гомель, на Пд мяжуе з лесам, на Пн меліярацыйны канал. 5 гаспадарак, 6 жыхароў (2004 г.).

Засн. ў пач. 20 ст. перасяленцамі з суседніх вёсак. У 1908 г. 3 двары, 20 жыхароў, у Якімаваслабодскай вол. Рэчыцкага пав. Мінскай губ. У 1932 г. пасялкоўцы ўступілі ў калгас. 5 пасялкоўцаў загінулі на франтах Вял. Айч. вайны. Паводле перапісу 1959 г. 59 жыхароў. У складзе саўгаса «Баршчоўка» (цэнтр — в. Баршчоўка). Забудова драўляная, рэдкая, сядзібнага тыпу.

**УНОРЫЦА** — вёска ў Азершчынскім с/с, за 10 км на Пн ад раённага цэнтра і чыг. ст. Рэчыца (на лініі Калінкавічы—Гомель), 60 км ад Гомеля, на р. Дняпро. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Светлагорск—Рэчыца. 50 гаспадарак, 95 жыхароў (2004 г.).

Выяўленыя археолагамі 2 паселішчы пач. 1-га тысячагоддзя да н.э. (на зах. ускраіне і за 1,5—2 км на Пд ад вёскі) сведчаць пра засяленне тутэйшых мясцін з глыбокай старажытнасці. Па пісьмовых крыніцах вядома з 18 ст. як сяленне ў Рэчыцкім пав. Мінскага ваяв. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1795 г. 7 двароў. У 1850 г. 13 двароў, 89 жыхароў, уласнасць казны. Пад 1879 г. пазначана ў Рэчыцкім царк. прыходзе. Паводле перапісу 1897 г. 41 двор, 238 жыхароў, школа граматы. Апрача земляробства 15 вяскоўцаў займаліся вырабам барак і лодак. У 1908 г. 53 двары, 355 жыхароў, у Горвальскай вол. Рэчыцкага пав. Мінскай губ. 26.4.1910 г. на беразе Дняпра вяскоўцы сустракалі мошчы Прападобнай Ефрасінні, якія на параходзе «Галавачоў» перавозіліся з Кіева ў Полацк. У жн. 1918 г. ў час ням. акупацыі Горвальскі партыз. атрад заняў вёску і аднавіў сав. ўладу. З 8.12.1926 г. да 30.12.1927 г. цэнтр Унорыцкага с/с Рэчыцкага р-на Рэчыцкай, з 9.6.1927 г. Гомельскай акруг. У 1930 г. 60 двароў. У 1930 г. арганізаваны калгас «Чырвоная Беларусь», працаваў вятрак. 37 вяскоўцаў загінулі на франтах Вял. Айч. вайны. Паводле перапісу 1959 г. 262 жыхары. У складзе вучгаса Рэчыцкага сельгастэхнікума (цэнтр — в. Воўчая Гара). Дзейнічае клуб. Планіровачна складаецца з дугападобнай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ уздоўж р. Дняпро і забудаванай двухбакова, няшчыльна драўлянымі сял. сядзібамі.

У склад Унорыцкага с/с у 1920-х г. уваходзіў пас. Амерыка (не існуе).

**ХАЦЕЦКАЕ** — вёска ў Белабалоцкім с/с, за 9 км на Пн ад раённага цэнтра і чыг. ст. Рэчыца (на лініі Калінкавічы—Гомель), 59 км ад Гомеля, на ўсх. ускраіне — воз. Хоцемля. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Рэчыца—Светлагорск. 10 гаспадарак, 14 жыхароў (2004 г.).

Засн. ў пач. 20 ст. перасяленцамі з суседніх вёсак. У 1909 г. хут. Хачэмля, 2 двары, 19 жыхароў, 345 дзес. зямлі, у Чабатовіцкай вол. Гомельскага пав. Магілёўскай губ. У 1926 г. 23 двары, 142 жыхары, ва Уваравіцкім р-не Гомельскай акругі. У 1931 г. арганізаваны калгас. 22 вяскоўцы загінулі на франтах Вял. Айч. вайны. Паводле перапісу 1959 г. 136 жыхароў. У складзе саўгаса «Рэчыца» (цэнтр — в. Белае Балота). Планіровачна складаецца з 2 кароткіх вуліц, блізкіх да мерыдыянальнай арыентацыі. Забудова рэдкая, драўляная, сядзібнага тыпу.

**ХОЛМЕЧ** — вёска, цэнтр Холмецкага с/с, за 29 км на ПдУ ад раённага цэнтра і чыг. ст. Рэчыца (на лініі Калінкавічы—Гомель), 65 км ад Гомеля, на р. Дняпро, побач аўтадарога Лоеў—Рэчыца. 500 гаспадарак, 1232 жыхары (2004 г.).

Выяўленыя археолагамі курганы 11 ст. сведчаць пра засяленне тутэйшых мясцін з далёкай старажытнасці. Па пісьмовых крыніцах вядома з 16 ст. як сяленне ў Рэчыцкім пав. Мінскага ваяв. ВКЛ. Паводле перапісу войска літоўскага 1567 г. ва ўладанні А.Халецкага. Пад 1583 г. пазначана як прыватнаўласніцкае мястэчка на тракце Бабруйск—Чарнігаў. Пазначана ў архіўных матэрыялах пад 1598 г. і на карце ВКЛ 1613 г. У 16—17 ст. належала Валовічам. Меліся ўмацаванні, аб якіх упамінаецца ў сувязі з падзеямі 1649 г. і бітвай атрадаў украінскіх казакаў Падабайлы і Крычэўскага з войскамі гетмана ВКЛ Я.Радзівіла. 4.7.1775 г. тут быў падпісаны акт разме-



*Гандлёвы цэнтр у в. Холмеч.*

жавання бел. зямель пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1795 г. мястэчка, 31 двор, 2 царквы, якія ў 1810 г. згарэлі. У 1811 г. з в. Вятхінь была перанесена ў в. Холмеч драўляная Пакроўская царква, у 1863 г. пачала дзейнічаць царква Аляксандра Неўскага (перабудавана з касцёла). У 1855 г. граф Ракіцкі меў у вёсцы і ваколіцы 6204 дзес. зямлі, вінакурню і 2 карчмы. У 1858 г. 962 жыхары. У 1864 г. адкрыта нар. вучылішча. Дзейнічалі прыстань і паромная пераправа цераз р. Дняпро. У 1885 г. 95 двароў, 22 крамы; цэнтр Холмецкай вол., у якую ў 1885 г. ўваходзілі 18 сяленняў з 808 дварамі. З 1888 г. дзейнічала паштова-тэлеграфнае аддз. Паводле перапісу 1897 г. 284 двары, 2304 жыхары, 2 царквы, капліца, 3 яўр. малітоўныя дамы, нар. вучылішча, паштовая станцыя, прыстань, хлебазапасны магазін, 60 крам, 3 гандл. рады, 2 заезныя дамы, 3 харчэўні, карчма. Побач была сядзіба Холмеч (яна ж Дубровіна). Меліся лесапільня (паравы рухавік, 18 рабочых) і аптэка. З 8.12.1926 г. да 4.8.1927 г. цэнтр Холмецкага р-на Рэчыцкай, з 9.6.1927 г. Гомельскай акруг. У 1930 г. 293 двары, пач. школа, хата-чытальня, б-ца, аддз. спажывецкай кааперацыі, с.-г. крэдытнае таварыства. У 1930 г. арганізаваны калгас «Гігант», працавалі паравы млын і цагельня. У Вял. Айч. вайну ням. акупанты ўсталявалі тут свой гарнізон, які ў снеж. 1942 г. раз-

грамілі партызаны атрада імя К.Я.Варашылава. Дзейнічалі падп. патрыят. групы, якія ўзначальвалі Ф.П.Севераў, М.С.Вайтовіч і М.Ф.Яўлончык. Пры вызваленні вёсак Холмеч і Завужаль 12.11. 1943 г. загінулі 120 воінаў (пахаваны ў брацкай магіле ў цэнтры, каля школы). 140 вяскоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 641 жыхар. Цэнтр калгаса «Іскра». Дзейнічаюць сярэдняя школа, Дом культуры, б-ка, б-ца, аптэка, вет. ўчастак, аддз. сувязі, 4 магазіны, дзіцячы сад. Планіровачна складаецца з 3 прамалінейных, паралельных паміж сабой вуліц, блізкіх да шыротнай арыентацыі, перакрыжаваных 2 кароткімі вуліцамі. Забудова пераважна драўляная сядзібнага тыпу. У 1987—91 гг. пабудавана 348 мураваных дамоў катэджнага тыпу, у якіх размясціліся перасяленцы з забруджаных радыяцыяй месц у выніку Чарнобыльскай катастрофы. У апошняе 10-годдзе праведзена вял. работа па добраўпарадкаванні вёскі. Радзіма ўдзельніка ўстанаўлення сав. улады ў Глускім р-не Магілёўскай вобл., засл. ўрача БССР А.С.Сямёнава (яго імя носіць адна з вуліц г. Глуск).

У склад Холмецкага с/с да сярэдзіны 1930-х г. уваходзілі пасёлкі Гарадок, Зара (не існуюць).

**ХРАБРЫ** — пасёлак у Ровенскаслабодскім с/с, за 14 км на Пд ад раённага цэнтра і чыг. ст. Рэчыца (на лініі Калінкавічы—Гомель), 64 км ад Гомеля. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Хойнікі—Рэчыца. 15 гаспадарак, 31 жыхар (2004 г.).

Выяўленае археолагамі гарадзішча (за 0,6 км на ПдУ ад пасёлка) сведчыць пра засяленне тутэйшых мясцін з далёкай старажытнасці. Засн. ў пач. 1920-х г. перасяленцамі з суседніх вёсак. У 1930 г. 20 двароў, 116 жыхароў. У 1931 г. арганізаваны калгас «Храбры», працавала кузня. Паводле перапісу 1959 г. 116 жыхароў. У складзе калгаса імя Ф.Э.Дзяржынскага (цэнтр — в. Ровенская Слабада). Планіровачна складаецца з кароткай прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ. Забудова драўляная сядзібнага тыпу. Радзіма засл. настаўніцы Беларусі С.К.Кавальчук.

**ЦЕРАБЕЕЎКА** — вёска ў Артукоўскім с/с, за 38 км на ПдУ ад раённага цэнтра і чыг. ст. Рэчыца (на лініі Калінкавічы—Гомель), 88 км ад Гомеля, на р. Брагінка (прыток р. Дняпро). Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Лоеў—Рэчыца. 44 гаспадаркі, 92 жыхары (2004 г.).

Засн. ў 19 ст. перасяленцамі з суседніх вёсак на купленых імі з дапамогай сял. крэдытнага банка землях, у Холмецкай вол. Рэчыцкага пав. Мінскай губ. У 1908 г. 60 двароў, 406 жыхароў. З 8.12.1926 г. да 30.12.1927 г. цэнтр Церабееўскага с/с Холмецкага, з 4.8.1927 г. Лоеўскага р-наў Рэчыцкай, з 9.6.1927 г. Гомельскай акруг. У 1929 г. арганізаваны калгас. У 1939—40 гг. у вёску перасялілася частка жыхароў пас. Іскра (не існуе). У 1940 г. 86 двароў, 215 жыхароў. У Вял. Айч. вайну дзейнічала падп. патрыят. група (кіраўнік С.Д.Малчанаў, закатаваны гітлераўцамі). У маі 1942 г. ням. акупанты спалілі 75 двароў і загубілі 3 жыхароў. 48 вяскоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 291 жыхар. У складзе калгаса «Шлях да камунізму» (цэнтр — в. Пракісель). Планіровачна складаецца з кароткай выгнутай вуліцы, да цэнтра якой далучаецца з Пн кароткая прамалінейная вуліца. Забудова драўляная сядзібнага тыпу.

**ЦІШКАЎКА** — вёска ў Караваціцкім с/с, за 25 км на ПдЗ ад Рэчыцы, 11 км ад чыг. ст. Дземяхі (на лініі Калінкавічы—Гомель), 75 км ад Гомеля, побач аўтадарога Калінкавічы—Гомель, на Пд і З канава Цішкаўская, на У меліярацыйныя каналы. 82 гаспадаркі, 205 жыхароў (2004 г.).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 19 ст. як сяленне ў Маладушскай вол. Рэчыцкага пав. Мінскай губ. Пад 1879 г. пазначана ў Маладушскім царк. прыходзе. Паводле перапісу 1897 г. 35 двароў, 204 жыхары, хлебазапасны магазін. У 1908 г. 41 двор, 296 жыхароў. У 1920—30-х гг. гадах 2 вёскі: Старая Цішкаўка і Новая Цішкаўка, якія затым аб'ядналіся ў адну. У 1930 г. арганізаваны калгас «Пяцігодка», працавала кузня. 53 вяскоўцы загінулі на франтах Вял. Айч. вайны. Паводле перапісу 1959 г. 462 жыхары. У складзе калгаса «XXI з'езд КПСС» (цэнтр — в. Чырвоная Дуброва). Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ. Паралельна да яе на ПнУ праходзіць кароткая вуліца. Забудова двухбаковая, няшчыльная, драўляная, сядзібнага тыпу. Непадалёку Цішкаўскае радовішча нафты.

**ЧАРНЕЙКІ** — вёска ў Камсамольскім с/с, за 56 км на ПнЗ ад раённага цэнтра і чыг. ст. Рэчыца (на лініі Калінкавічы—Гомель), 106 км ад Гомеля, на р. Стоўпіцкая (прыток р. Свéдзь). Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Светлагорск—Рэчыца. 31 гаспадарка, 60 жыхароў (2004 г.).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 18 ст. як сяленне ў Рэчыцкім пав. Мінскага ваяв., ва ўладанні Патоцкіх, потым Масальскіх. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1795 г. 11 двароў. Пад 1879 г. пазначана ў Сведскім царк. прыходзе. Паводле перапісу 1897 г. 24 двары, 196 жыхароў, у Якімаваслабодскай вол. Рэчыцкага пав. Мінскай губ. З 8.12.1926 г. да 30.12.1927 г. цэнтр Чарнейкаўскага с/с Горвальскага, з 4.8.1927 г. Рэчыцкага р-наў Рэчыцкай, з 9.6.1927 г. Гомельскай акруг. У 1930 г. 73 двары, 404 жыхары. У 1931 г. арганізаваны калгас. У Вял. Айч. вайну ў чэрв. 1943 г. ням. акупанты поўнасцю спалілі вёску і загубілі 2 жыхароў. 50 вяскоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 343 жыхары. У складзе саўгаса «Камсамольскі» (цэнтр — в. Камсамольск). Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ і перакрыжаванай 2 завулкамі. Забудова двухбаковая, няшчыльная, драўляная, сядзібнага тыпу.

**ЧОРНАЕ** — вёска ў Белабалоцкім с/с, за 9 км на Пн ад раённага цэнтра і чыг. ст. Рэчыца (на лініі Калінкавічы—Гомель), 59 км да Гомеля, на З — пойма р. Дняпро і воз. Круглае, на У — воз. Хоцемля. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Рэчыца—Светлагорск. 88 гаспадарак, 144 жыхары (2004 г.).

Выяўленае археолагамі гарадзішча мілаградскай і зарубінецкай культур (за 0,5 км на ПнУ ад вёскі, на беразе возера) сведчыць пра засяленне тутэйшых мясцін з глыбокай старажытнасці. Па пісьмовых крыніцах вядома з 16 ст. як сяленне ў Рэчыцкім пав. Мінскага ваяв. ВКЛ. У 1511 г. ў валоданні кн. Мажайскага. Упамінаецца ў матэрыялах 1525, 1526, 1527 гг. аб канфліктах паміж Літвой і Маскоўскай дзяржавай. Пад 1560 г. пазначана як сяленне ў Гомельскім старостве. У 1640-х г. паводле інвентару Гомельскага староства сяло, у валоданні памешчыка Халецкага. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) у складзе Рас. імперыі. У 1841 г. гаспадар фальварка, што быў побач, меў тут 500 дзес. зямлі. У 1847 г. замест састарэлага ўзведзены новы драўляны будынак Пакроўскай царквы. У 1881 г. 120 двароў, 585 жыхароў. У выніку пажару 8.1.1882 г. згарэла мясцовая паркетная ф-ка. У 1886 г. 127 двароў, 791 жыхар, 2 ветракі, лесапільня. З 1864 г. дзейнічала прыстань. Паводле перапісу 1897 г. 178 двароў, 1250 жыхароў, хлебазапасны магазін, школа граматы, карчма. На Дняпры дзейнічала прыстань. У 1909 г. 197 двароў, 1765

жыхароў, у Чабатовіцкай вол. Гомельскага пав. Магілёўскай губ. У 1919 г. ў былым памешчыцкім маёнтку арганізавана аддз. Уваравіцкай камуны. З 8.12.1926 г. да 1986 г. цэнтр Чорненскага с/с Уваравіцкага, з 4.8.1927 г. Рэчыцкага р-наў Гомельскай акругі, з 20.2.1938 г. Гомельскай вобл. У 1931 г. арганізаваны калгас «Чырвоны востраў», працавалі 2 ветракі і пач. школа. У Вял. Айч. вайну ням. акупанты загубілі 15 жыхароў. Пры вызваленні вёскі ў ліст. 1943 г. загінулі 3 воіны і партызан (пахаваны ў брацкай магіле ў цэнтры). На франтах і ў партыз. барацьбе загінулі 340 жыхароў вёсак Белабалоцкага с/с, памяць аб якіх увекавечвае Курган Славы, насыпаны ў 1975 г. ў цэнтры вёскі. Паводле перапісу 1959 г. 739 жыхароў. У складзе саўгаса «Рэчыца» (цэнтр — в. Белае Балота). Размешчаны камбінат быт. абслугоўвання, сярэдняя школа, клуб, б-ка, фельч.-акушэрскі пункт, вет. ўчастак, аддз. сувязі, магазін. Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, блізкай да мерыдыянальнай арыентацыі, да якой з У далучаюцца 2 прамалінейныя і з З — дугападобная вуліцы. Забудова драўляная сядзібнага тыпу. Радзіма бел. пісьменніка і вучонага М.А. Грамыкі.



*М.А.Грамыка.*

У склад Чорненскага с/с да канца 1930-х г. уваходзілі пасёлкі Гарадзішча, Пагарэльцы, хут. Шматы (не існуюць).

**ЧЫЖАЎКА** — вёска ў Баршчоўскім с/с, за 32 км на У ад Рэчыцы, 3 км ад чыг. ст. Якімаўка (на лініі Калінкавічы—Гомель), 40 км ад Гомеля, вакол лес. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Калінкавічы—Гомель. 33 гаспадаркі, 67 жыхароў (2004 г.).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 2-й пал. 19 ст. як сяленне ў Целяшоўскай вол. Гомельскага пав. Магілёўскай губ. У 1909 г. аколіца Чыжаўка (яна ж Андрэеўка), 26 двароў, 147 жыхароў, 336 дзес. зямлі. У 1926 г. 42 двары, 199 жыхароў, ва Уваравіцкім р-не Гомельскай акругі. Побач пасёлкі Старая Чыжаўка (6 двароў, 22 жыхары) і Новая Чыжаўка (9 двароў, 42 жыхары), якія пазней увайшлі ў склад вёскі. У 1930 г. арганізаваны калгас «Чырвоная Чыжаўка», працаваў вятрак. 29 вяскоўцаў загінулі на франтах Вял. Айч. вайны. Паводле перапісу 1959 г. 160 жыхароў. У складзе саўгаса «Баршчоўка» (цэнтр — в. Баршчоўка). Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, блізкай да шыротнай арыентацыі. Забудова драўляная сядзібнага тыпу.

**ЧЫРВОНАЯ ДУБРОВА** — вёска ў Караваціцкім с/с, за 31 км на ПдЗ ад Рэчыцы, 5 км ад чыг. ст. Бабічы (на лініі Калінкавічы—Гомель), 71 км ад Гомеля, на р. Ведрыч (прыток р. Дняпро), на Пд і У меліярацыйныя каналы. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Васілевічы—Рэчыца. 124 гаспадаркі, 321 жыхар (2004 г.).

Выяўленае археолагамі гарадзішча (за 1,5 на ПдЗ ад вёскі) сведчыць пра засяленне тутэйшых мясцін з далёкай старажытнасці. Засн. ў пач. 1920-х г. перасяленцамі з суседніх вёсак на былых памешчыцкіх землях. У 1931 г. арганізаваны калгас. У Вял. Айч. вайну на франтах загінулі 109 жыхароў вёсак Чырвоная Дуброва і Цішкаўка, памяць аб якіх увекавечвае скульптура воіна на пастаменце, пастаўленая ў 1974 г. ў цэнтры вёскі. Паводле перапісу 1959 г. 484 жыхары. Цэнтр калгаса «XXI з'езд КПСС». Дзейнічаюць 9-гадовая школа, б-ка, аддз. сувязі, Дом культуры. Планіровачна складаецца з працяглай прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ і забудаванай двухбакова драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. Каля вёскі ёсць залежы гліны.

**ЧЫРВОНАЯ КВЕТКА** — пасёлак у Дземяхоўскім с/с, за 25 км на З ад Рэчыцы, 9 км ад чыг. ст. Дземяхі (на лініі Калінкавічы—Гомель), 75 км ад Гомеля,

на р. Шыбека (прыток р. Днепрык), побач аўтадарога Светлагорск–Рэчыца. 25 гаспадарак, 55 жыхароў (2004 г.).

Засн. ў 1920-х г. перасяленцамі з суседніх вёсак на былых памешчыцкіх землях. У 1930 г. 2 двары, 16 жыхароў. У 1940 г. 30 двароў, 170 жыхароў. У Вял. Айч. вайну ў чэрв. 1943 г. ням. акупанты поўнасцю спалілі пасёлак. 12 пасялкоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 217 жыхароў. У складзе вучгаса СПТВ-178 (цэнтр – в. Старакраснае). Планіровачна складаецца за 2 кароткіх, паралельных паміж сабой мерыдыянальнай арыентацыі вуліц, да якіх на Пн далучаецца кароткая прамалінейная вуліца. Забудова драўляная, няшчыльная, сядзібнага тыпу.

**ЧЫРВОНАЯ СЛАБОДКА** (да 1925 Адворніца) – пасёлак у Баршчоўскім с/с, за 18 км на У ад Рэчыцы, 9 км ад чыг. ст. Сеназавод (на лініі Калінкавічы–Гомель), 33 км ад Гомеля, на р. Дняпро, побач аўтадарога Калінкавічы–Гомель. 7 гаспадарак, 15 жыхароў (2004 г.).

З 19 ст. тут дзейнічала прыстань, каля якой у пач. 1920-х г. на былых памешчыцкіх землях стаў складвацца пасёлак. У 1932 г. арганізаваны калгас. 9 пасялкоўцаў загінулі на франтах Вял. Айч. вайны. Паводле перапісу 1959 г. 45 жыхароў. У складзе саўгаса «Баршчоўка» (цэнтр – в. Баршчоўка). Драўляныя сял. сядзібы пастаўлены бессістэмна.

**ЧЫРВОНЫ КАСТРЫЧНІК** – пасёлак у Белабалоцкім с/с, за 12 км на Пн ад раённага цэнтра і чыг. ст. Рэчыца (на лініі Калінкавічы–Гомель), 48 км ад Гомеля, на р. Крапіўня (прыток р. Дняпро). Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Рэчыца–Светлагорск. 7 гаспадарак, 10 жыхароў (2004 г.).

Засн. ў пач. 1920-х г. перасяленцамі з суседніх вёсак на былых памешчыцкіх землях. У 1926 г. 24 двары, 135 жыхароў, ва Уваравіцкім р-не Гомельскай акругі. У 1931 г. арганізаваны калгас. 11 пасялкоўцаў загінулі на франтах Вял. Айч. вайны. Паводле перапісу 1959 г. 168 жыхароў. У складзе саўгаса «Рэчыца» (цэнтр – в. Белае Балота). Забудова драўляная, няшчыльная, сядзібнага тыпу каля прасёлачнай дарогі.

**ШОЎКАВІЧЫ** – вёска ў Камсамольскім с/с, за 39 км на ПнЗ ад Рэчыцы, 23 км ад чыг. ст. Бабічы (да лініі Калінкавічы–Гомель), 89 км ад Гомеля. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Светлагорск–Рэчыца. 17 гаспадарак, 22 жыхары (2004 г.).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 18 ст. як сяленне ў Рэчыцкім пав. Мінскага ваяв. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1795 г. 11 двароў. У 1850 г. 13 двароў, у Горвальскай вол. Рэчыцкага пав. Мінскай губ. Пад 1879 г. пазначана ў Сведскім царк. прыходзе. Паводле перапісу 1897 г. 54 жыхары. У 1930 г. 38 двароў, 208 жыхароў. У 1931 г. арганізаваны калгас. У Вял. Айч. вайну ў чэрв. 1943 г. ням. акупанты поўнасцю спалілі вёску і загубілі 10 жыхароў. 25 вяскоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 187 жыхароў. У складзе саўгаса «Камсамольскі» (цэнтр – в. Камсамольск). Планіровачна складаецца з кароткай, блізкай да шыротнай арыентацыі вуліцы. Забудавана рэдка драўлянымі сял. сядзібамі. Радзіма бел. пісьменніка У.С.Ліпскага.

**ЯКІМАЎКА** – вёска ў Баршчоўскім с/с, за 13 км на У ад Рэчыцы, 3 км ад чыг. ст. Якімаўка (на лініі Калінкавічы–Гомель), 40 км ад Гомеля, вакол лес. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Калінкавічы–Гомель. 48 гаспадарак, 110 жыхароў (2004 г.).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 19 ст. як сяленне ў Целяшоўскай вол. Го-



*А.Я.Каваленка.*

мельскага пав. Магілёўскай губ. Паводле перапісу 1897 г. 57 двароў, 333 жыхары, хлебазапасны магазін, школа граматы. У 1909 г. 65 двароў, 387 жыхароў, 400 дзес. зямлі. У 1926 г. 100 двароў, 538 жыхароў. З 8.12.1926 г. да 30.12.1927 г. цэнтр Якімаўскага с/с Уваравіцкага р-на Гомельскай акругі. У 1929 г. арганізаваны калгас. 21 вясковец загінуў на франтах Вял. Айч. вайны. Паводле перапісу 1959 г. 405 жыхароў. У складзе саўгаса «Баршчоўка» (цэнтр — в. Баршчоўка). Працуюць пач. школа, магазін, аддз. сувязі, клуб. Планіровачна складаецца з плаўна выгнутай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ і забудаванай драўлянымі сял. сядзібамі. Радзіма Героя Сав. Саюза А.Я.Каваленкі і бел. мастака В.Р.Асіпенкі.

**ЯКІМАЎКА** — пасёлак і чыг. станцыя ў Баршчоўскім с/с, за 28 км на У ад Рэчыцы, 43 км ад Гомеля, на У, Пн і З мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Калінкавічы—Гомель. 25 гаспадарак, 49 жыхароў (2004 г.).

Засн. ў 2-й пал. 19 ст. Са здачай у эксплуатацыю 15.2.1886 г. чыгункі Лунінец—Гомель тут быў раз'езд, пераўтвораны потым у чыг. станцыю. Меліся вадакачка і тэлеграф. Паступова складваўся і пасёлак. У 1909 г. 65 двароў, 387 жыхароў, у Целяшоўскай вол. Гомельскага пав. Магілёўскай губ. У 1930 г. арганізаваны калгас. 2 пасялкоўцы загінулі на франтах Вял. Айч. вайны. Паводле перапісу 1959 г. 127 жыхароў. У складзе саўгаса «Баршчоўка» (цэнтр — в. Баршчоўка). Планіровачна складаецца з прамалінейнай шыротнай вуліцы (уздоўж чыгункі), забудаванай аднабакова драўлянымі сял. сядзібамі.

**ЯМПАЛЬ** — вёска ў Свірыдавіцкім с/с, за 12 км на Пд ад раённага цэнтра і чыг. ст. Рэчыца (на лініі Калінкавічы—Гомель), 62 км ад Гомеля, на У і З меліярацыйныя каналы. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Калінкавічы—Гомель. 55 гаспадарак, 131 жыхар (2004 г.).

Па пісьмовых крыніцах вядома з пач. 19 ст. як сяленне ў Заспенскай вол. Рэчыцкага пав. Мінскай губ. У 1834 г. 17 двароў. У 1850 г. 18 двароў. Пад 1879 г. пазначана ў Свірыдавіцкім царк. прыходзе. Паводле перапісу 1897 г. 55 двароў, 379 жыхароў, школа граматы, хлебазапасны магазін. У 1908 г. 68 двароў, 482 жыхары. З 8.12.1926 г. да 30.12.1927 г. цэнтр Ямпальскага с/с Рэчыцкага р-на Рэчыцкай, з 9.6.1927 г. Гомельскай акруг. У 1931 г. арганізаваны калгас «Ленінскі шлях», працавала кузня. У 1930 г. 86 двароў, 480 жыхароў. 73 вяскоўцы загінулі на франтах Вял. Айч. вайны. Паводле перапісу 1959 г. 422 жыхары. У складзе калгаса імя С.М.Кірава (цэнтр — в. Свірыдавічы). Дзейнічае б-ка. Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ і забудаванай двухбакова драўлянымі сял. сядзібамі. Радзіма бел. і рус. пісьменніка і журналіста Б.У.Паўлёнка.

**ЯНОЎКА** — вёска ў Свірыдавіцкім с/с, за 28 км на Пд ад раённага цэнтра і чыг. ст. Рэчыца (на лініі Калінкавічы—Гомель), 78 км ад Гомеля. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Лоеў—Рэчыца. 73 гаспадаркі, 226 жыхароў (2004 г.).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 19 ст. як сяленне ў Заспенскай вол. Рэчыцкага пав. Мінскай губ. У 1834 г.— 26, у 1850 г. — 35 двароў. Пад 1879 г. пазначана ў Свірыдавіцкім царк. прыходзе. Паводле перапісу 1897 г. 66 двароў, 434 жыхары, школа граматы, хлебазапасны магазін. Побач аднайменная сядзіба, 3 двары, 27 жыхароў. З 8.12.1926 г. да 30.12. 1927 г. цэнтр Яноўска-Гасцівельскага с/с Рэчыцкага р-на Рэчыцкай, з 9.6.1927 г. Гомельскай акруг. У 1931 г. арганізаваны калгас. У Вял. Айч. вайну 14.11.

1943 г. вызвалена ад ням. акупацыі. 35 вяскоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 251 жыхар. Цэнтр калгаса імя XXIV з'езда КПСС. Размешчаны 8-гадовая школа, Дом культуры, б-ка, фельч.-акушэрскі пункт, магазін, аддз. сувязі. Планіровачна складаецца з выгнутай, блізкай да шыротнай арыентацыі вуліцы, забудаванай драўлянымі сял. сядзібамі.

**КРЫНІЦЫ І ЛІТАРАТУРА**

Дзяржаўны архіў Гомельскай вобласці, ф. 511, воп. 1, спр. 8.
Нацыянальны архіў Рэспублікі Беларусь, ф. 30, воп. 5, спр. 6755; ф. 34, воп. 1, спр. 807; ф. 38, воп. 1, спр. 5065; ф. 42, воп. 1, спр. 658; ф. 48, воп. 1, спр. 5017, 5055, 5056, 5058, 5059, 5061, 5062, 5063, 5064, 5065, 5066, 5067, 5068, 5069, 5070, 5072, 5073, 5081, 5107, 5108, 5109; ф. 49, воп. 1, спр. 5051; ф. 389, кн. 4, л. 163.
Нацыянальны гістарычны архіў Беларусі, ф. 333, воп. 9, спр. 53, 58, 68, 262, 343, 347, 578, 699, 700, 701, 702, 712, 729, 804; ф. 855, воп. 1, спр. 1; ф. 870, воп. 1 спр. 1; ф. 959, воп. 1, спр. 1; ф. 971, воп. 1, спр. 6; ф. 1461, воп. 2, спр. 11; ф. 1781, воп. 27, спр. 375; ф. 2001, воп. 1, спр. 335, 949.
Расійскі дзяржаўны гістарычны архіў, ф. 823, воп. 1, спр. 211; ф. 1290, воп. 1, спр. 1332, 1344.
Бібліятэка АН Літвы, ф. 43, спр. 2088.
Сборник Муханова. № 79. М., 1836.
Военно-статистическое обозрение Российской империи. Т. 8. СПб., 1848.
Географо-статистический словарь Российской империи. СПб.,1863.
Городские поселения Российской империи. СПб., 1863.
Материалы для географии и статистики России. Минская губерния. СПб., 1864.
Труды Минского губернского статистического комитета. Мн., 1870.
Памятная книжка Минской губернии на 1878 год. Мн., 1877.
Список землевладельцев Минской губернии на 1876 год. Мн., 1877.
Памятная книжка Минской губернии на 1879 г. Мн., 1878.
Описание церквей и приходов Минской епархии. Кн. 8. Мн., 1879.
Живописная Россия. СПб.; М., 1882.
Опыт описания Могилевской губернии... Кн. 1—2. Могилев, 1882—83.
Описание имения Горваль-Свидера. СПб., 1884.
Волости и важнейшие селения Европейской России. Вып. 5. СПб., 1886.
Волости и гмины. Кн. 22. СПб., 1890.
Сборник императорского Русского исторического общества. Т. 35. СПб., 1892.
Столетие Минской губернии. Мн., 1893.
Акты Виленской археографической комиссии. Т. 22. Вильна, 1895.
Могилевская старина. Могилев, 1900.
Памятная книжка Минской епархии на 1901 г. Мн., 1900.
Вся Россия. СПб., 1902.
Россия. Полное географическое описание нашего отечества. Т. 9. СПб., 1905.
Обзор Минской губернии за 1908 г. Мн., 1909.
Список населенных мест Минской губернии. Мн., 1909.
Литовская метрика. Ч. 1. СПб., 1910.
Памятная книжка Могилевской губернии на 1911 год. Мн., 1910.
Список населенных мест Могилевской губернии. Могилев, 1910.
Обзор Могилевской губернии за 1911 год. Могилев, 1912.
Российская историческая библиотека. Т. 30, кн. 1. Юрьев, 1914.
Литовская метрика. Петроград, 1915.
Список населенных мест Гомельского округа. Гомель, 1927.
Усе раёны БССР. Мн., 1933.
Спіс прамысловых прадпрыемстваў БССР. Вып. 1—2. Мн., 1935.
Дакументы і матэрыялы па гісторыі Беларусі. Т. 2. Мн., 1940.

Документы и материалы по истории Белоруссии (1900–1917 гг.). Т. 3. Мн., 1953.
Из истории установления советской власти в Белоруссии и образования БССР. Т. 4. Мн., 1954.
Пад сцягам партыі. Гомель, 1959.
Восстановление народного хозяйства Гомельской губернии (1921–1925). Гомель, 1960.
Древности Беларуси. Мн., 1966.
Борьба за Советскую власть в Белоруссии. 1918–1920. Т. 1. Мн., 1968.
В грозные годы. Мн., 1973.
Сборник законов Белорусской ССР. Т. 1. Мн., 1974.
Рябцевич В.Н. О чем рассказывают монеты. Мн., 1977.
Нацистская политика геноцида и «выжженной земли» в Белоруссии 1941–1944. Мн., 1984.
Збор помнікаў гісторыі і культуры Беларусі: Гомельская вобл. Мн., 1985.
Рапановіч Я.Н. Слоўнік назваў населеных пунктаў Гомельскай вобласці. Мн., 1986.
Литовская метрика. Кн. 4 (1522–1530); кн. 5 (1427–1506); кн. 8 (1499–1514). Вильнюс, 1993–97.
Спиридонов М.Ф. Закрепощение крестьянства Беларуси (XV–XVI вв.). Мн., 1993.
Ведамасці Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь. 1995. № 17.
Памяць: Гіст.-дакум. хроніка Рэчыцкага р-на. Мн., 1998.


МАГІЛЁЎСКАЯ ВОБЛАСЦЬ
БАБРУЙСКІ РАЕН
ЖЛОБІНСКІ РАЕН
АКЦЯБРСКІ РАЕН
КАЛІНКАВІЦКІ РАЕН
РЭЧЫЦКІ РАЕН
Бабруйск
Каралева Слабада 1-я
Каралева Слабада 2-я
Васілёўка
Язвінцы
Дражня
Коўцічы 1-я
Малімоны
Краснаўка
Забалоцце
Тумараўка
Міхайлаўка
Нов.Беліца
Коўцічы 2-я
Завічча
52°50'
Крукі
Высокі Полк
Парычы
Даніловўка
Майсееўка
Казлоўка
п. Кастрычнік
Вярхлессе
Скалка
Кнышэвічы
Ліпнікі
Пясчаная Рудня
Прудок
Здудзічы
Гамза
Ельнічкі
Судавіца
Селішчы
Чэрнін
Пагонцы
Ракшын
Лядцы
Сякерычы
Стужкі
Іскра
Жлобін
Мікалаеўка
Раковічы
Дзеднае
Вяжны
Міхайлаўка
Сасноўка
Астроўчыцы
Берлаж
Пятровічы
Чыркавічы
52°40'
Прытыка
Мольча
п. Мядкоў
Мартынаўка
Язвін
Рудня
Бабулін
Дуброва
Вял. Бор
п. Мольча
Расава
Заруччa
СВЕТЛАГОРСК
Якімава Слабада
Бярэзіна
Затон
Печышчы
Аляксандраўка
Медзведаў
Уюнішчы
Палессе
Залле
Самара
Мыслаў Рог
Віша
Асопнае
Стракавічы
Селішчы
Свéдзь
Жэрдзь
Баравікі
29°15'
Мехаўшчына
п. Жардзянскі
Давыдаўка
Яланы
Мармарычы
Загор'е
Вузнаж
Рэчыца
Вял. Людзвінаўка
Прасвет
Шупейкі
Мал. Людзвінаўка
Сасновы Бор
Асінаўка
52°30'
Горкі
Хутар
п. Астанкавічы
Славань
Прыстарань
Карані
Карпавічы
Асташкавічы
Іпа
Пажыхар
Мартынавічы
Высокі Барок
Чкалава
29°45'
Калінкавічы
29°30'
Маштаб 1:370 000



# СВЕТЛАГОРСКІ РАЁН

Утвораны 17.7.1924 г. (да 29.7. 1961 Парыцкі), на Пн вобласці. 20.1.1960 г. далучана частка скасаванага Даманавіцкага р-на. Пл. 1873 км², насельніцтва 94,9 тыс. чалавек (2004 г.). Цэнтр — г. Светлагорск. Мяжуе на Пд з Калінкавіцкім, на У — Рэчыцкім і Жлобінскім, на З — Акцябрскім р-намі Гомельскай, на Пн — з Бабруйскім Магілёўскай абласцей. Да 26.7.1930 г. ў Бабруйскай акрузе, з 20.2.1938 г. ў Палескай, з 20.9.1944 г. ў Бабруйскай, з 8.1.1954 г. ў Гомельскай абласцях. Уключае г. Светлагорск, г.п. Парычы, р.п. Сасновы Бор, 9 сельсаветаў — Асташкавіцкі, Баравікоўскі, Давыдаўскі, Казлоўскі, Краснаўскі, Мікалаеўскі, Палескі, Печышчанскі, Чыркавіцкі. Пасля Чарнобыльскай катастрофы ў раёне размясцілася частка перасяленцаў з забруджаных радыяцыяй мясцін, у т.л. з вёсак Данілоўка, Дзёрнавічы, Ліхоўня, Майдан Нараўлянскага р-на. Па раёне праходзяць чыгунка Жлобін—Калінкавічы, аўтадарогі Бабруйск—Калінкавічы, Бабруйск—Рэчыца і інш. На тэрыторыі раёна размешчаны Асташкавіцкае, Давыдаўскае і Вішанскае радовішчы нафты, Давыдаўскае радовішча каменнай солі, 3 радовішчы цагельнай сыравіны (1,8 млн. м³), 5 радовішчаў буд. пяскоў (8 млн. м³), 125 радовішчаў торфу. Рэкі Бярэзіна (суднаходная) і яе прыток і Ала, Сведзь; Іпа (прыток Прыпяці) і інш. Глебы сельгасугоддзяў дзярнова-падзолістыя, дзярнова-падзолістыя забалочаныя, дзярновыя і дзярнова-карбанатныя забалочаныя, тарфяна-балотныя, алювіяльныя. Па мінеральным складзе глеб 2,9% суглінкавых, 21,8% супясчаных, 75,3% пясчаных. Якасная ацэнка ворных зямель 41 бал, кармавых угоддзяў — 31, усіх сельгасугоддзяў — 36 балаў. Пад лесам 54% тэрыторыі. Асушана 32,9 тыс. га балот і забалочаных зямель.

Прамысловыя прадпрыемствы пераважна ў Светлагорску і Парычах. Значнае месца ў эканоміцы займаюць нафтаздабываючая прамысловасць і торфапрадпрыемства «Светлагорскае». Сельгасвытвор-



*Светлагорск. Цэнтральная плошча.*

*Мемарыяльны знак у гонар 350-годдзя заснавання в. Шацілкі — папярэдніцы Светлагорска.*

*Брацкая магіла савецкіх воінаў у скверы на скрыжаванні вуліц Савецкай і Сацыялістычнай у Светлагорску.*





часць прадстаўляюць 4 СПК, 7 КСУП, птушкафабрыка, агароднінная ф-ка, падсобныя гаспадаркі аграпрамысл. ўпраўлення РУП ВА «Беларусьнафта», ЧСУП «Светлагорскі аграхімсервіс» і інш. Дзейнічаюць індустрыяльны тэхнікум, 2 ПТВ, гімназія, 28 сярэдніх, 1 базавая, 1 школа-сад, 4 музычныя школы, школа-інтэрнат, 147 спартыўных збудаванняў, 22 дашкольныя і 58 клубных устаноў, 39 масавых б-к, 6 бальніц, 4 амбулаторна-лячэбныя ўчасткі, 31 фельч.-акушэрскі пункт, 229 магазінаў і 83 прадпрыемствы грамадскага харчавання.

**СВЕТЛАГОРСК** (да 29.7.1961 Шацілкі) — горад абл. падпарадкавання і чыг. ст. Светлагорск-на-Бярэзіне (на лініі Жлобін—Калінкавічы). Цэнтр Светлагорскага р-на, 110 км ад Гомеля, 220 км ад Мінска. Пл. 25 км², на паўд. і ўсх. ускраінах р. Бярэзіна (прыток р. Дняпро), на Пн, за ракой — воз. Востры Рог і гідралагічны заказнік мясц. значэння «Выдрыца», на У — азёры Глухое і Дзеравянка. Аўтадарогай звязаны з Бабруйскам і Рэчыцай. Прыстань на р. Бярэзіна. 71,7 тыс. жыхароў (2004 г.).

*Панарама Светлагорска.*

*Светлагорск. Алея Герояў.*









*Помнік на брацкай магіле савецкіх воінаў каля сярэдняй школы № 4 у Светлагорску.*

*Праваслаўная царква Праабражэння Гасподняга ў Светлагорску.*

Паводле пісьмовых крыніц вядомы з 15 ст. як в. Шацілавічы ў Бабруйскай вол. Трокскага ваяв. ВКЛ, затым у Мазырскім пав. Мінскага ваяв., на тракце Бабруйск—Чарнігаў, велікакняжацкае ўладанне. У прывілеі 1560 г. на Востраў Шатылінскі пазначаны Раман Шаціла (напэўна ўладальнік тутэйшых абшараў). У 1638 г. за сродкі шляхціча Суляціцкага збудаваны касцёл, які ў 1643 г. падараваны ім ордэну езуітаў. Тут быў адкрыты езуіцкі місіянерскі пункт. У 1639 г. 19 двароў, 11 валок зямлі, з якіх 4 пустыя, у Бабруйскім старостве. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. З 1800 г. ў валоданні адмірала П.Пушчына, 23 двары. З 2-й пал. 19 ст. вядомы пад назвай Шацілкі. Паводле перапісу 1897 г. 62 двары, 406 жыхароў, касцёл, кузня, крупарушка. Побач — гаспадарчая сядзіба. У 1908 г. 70 двароў, 680 жыхароў, у аднайменным фальварку 33 жыхары, у Парыцкай вол. Бабруйскага пав. Са здачай у эксплуатацыю ў 1915 г. чыгункі Жлобін—Калінкавічы пачала працаваць чыг. станцыя,

*Праваслаўная царква святых Пятра і Паўла ў Светлагорску.*

*«Дом з гадзіннікам» на Цэнтральнай плошчы.*







*Каталіцкі касцёл Узвіжання Святога Крыжа ў Светлагорску.*

Бярэзіне ў ліп. 1941 г. З 7.8.1941 г. да 26.11.1943 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. Дзейнічала патрыят. падп. група. У баях за вызваленне сав. воіны паказалі шматлікія прыклады гераізму. У брацкай магіле каля сярэдняй школы пахаваны 75 воінаў, у іх ліку Герой Сав. Саюза П.А.Мірашнічэнка, у скверы на скрыжаванні вуліц Савецкай і Сацыя-



*Новабудоўлі Светлагорска.*

на якой адгружаліся дровы і розныя піламатэрыялы для шахт Данбаса. З 20.8. 1924 г. да 10.3.1960 г. цэнтр Шацілкаўскага с/с Парыцкага р-на. У 1930 г. 155 двароў, 734 жыхары. У 1931 г. арганізаваны калгас імя Ф.Э.Дзяржынскага, працавалі металаапрацоўчая, шавецкая, суднабудаўнічая і лазакрутная майстэрні, паравы млын, лесапільня, кузня. У 1939 г. ў в. Шацілкі былі перасялены хутары Арэхаўка і Зайванеў.

У Вял. Айч. вайну Рэчыцкі знішчальны батальён, які ўступіў тут у бой з варожай калонай, захапіў танк, 8 бронемашын і 7 кулямётаў. У брацкай магіле па вул. С.Лазо, на могілках былой в. Светач пахаваны 8 маракоў, якія вялі баі на лістычнай пахаваны 257 воінаў, у брацкай магіле на вул. Савецкай, на Шацілкаўскіх могілках – 20 воінаў. Двойчы Герой Сав. Саюза генерал арміі П.І.Батаў, войскі якога вызвалялі гэтыя месцы, з'яўляецца ганаровым грамадзянінам Светлагорска. Вёска Шацілкі (6421 жыхар, 714 жылых дамоў, б-ца, амбулаторыя, 2 дзіцячыя сады, клуб, сярэдняя школа, кантора сувязі, 3 гандл. прадпрыемствы) пасля далучэння пасёлкаў Васілевіцкай ДРЭС (2280 жыхароў, клуб, 4 магазіны), суднабудаўнічай верфі (685 жыхароў) і 2-й Парыцкай МТС (290 жыхароў) 30.12. 1956 г. былаператворана ў гарадскі пасёлак. З 9.6.1960 г. цэнтр Парыцкага р-на. 29.7. 1961 г. атрымаў назву Светлагорск.



*Светлагорская сярэдняя школа № 12.*



*Светлагорск. 6-ы мікраraён.*

З 7.3.1963 г. горад абл. падпарадкавання. У 1964 г. даў першую прадукцыю з-д штучнага валакна. У сярэдзіне 1960-х гг. непадалёку ад Светлагорска адкрыта буйнейшае на Палессі Асташкавіцкае радовішча нафты. 1.12.1966 г. да горада далучана чыг. станцыя, якая да гэтага была асобным населеным пунктам у Чыркавіцкім с/с. У 1970 г. — 40,3 тыс. чалавек. 10.7.1975 г. далучана в. Светач (да 4.12.1964 г. — в. Какаль).

Планіровачная структура (ген. план 1961, арх. В.Анікін, Г.Булдаў) вызначаецца напрамкам чыгункі, гіст. забудовай былой в. Шацілкі і забудовай пасёлка Васілевіцкай ДРЭС (план 1954), а таксама напрамкам шашы Бабруйск—Рэчыца і рэчышчам Бярэзіны, якія абмяжоўваюць горад з Пд і Пн. Складаецца з 3 жылых раёнаў (паўн., паўд. і зах.), кожны з якіх аб'ядноўвае некалькі мікрараёнаў і кварталаў. Былыя лясныя масівы паміж раёнамі ператвораны ў паркі. На скрыжаванні гал. магістралей (вул. 50-годдзя Кастрычніка і праспекта Леніна) — грамадскі цэнтр: гал. плошча з адміністрацыйнымі і грамадскімі будынкамі. У 1994 г. на беразе р. Бярэзіна ўзведзены мураваны касцёл Узвіжання Святога Крыжа. Забудова пераважна мураваная, шматпавярховая. Размешчаны РУП «Светлагорскае ВА «Хімвалакно», з-ды жалезабетонных вырабаў і канструкцый, зборнага жалезабетону цэлюлозна-кардонны і домабудаўнічы камбінаты, буд. трэст № 20 і іншыя буд. арганізацыі, вышкамантажнае, аграпрамысловае і будаўнічых работ упраўленні РУП ВА «Беларусьнафта», раённыя вузлы паштовай і электрычнай сувязі, ААЧ «Аграпрамтэхніка», хлебазавод, лясгас, масласырзавод, Светлагорская ЦЭЦ, ф-ка мастацкай інкрустацыі, індустрыяльны тэхнікум, тэхн. вучылішчы хімікаў № 50 і машынабудаўнікоў № 9, гімназія, 11 сярэдніх, музычная і 5 спарт. школ, філіял недзяржаўнага Інстытута кіравання і прадпрымальніцтва, вячэрняя школа, 104 спарт. збудаванні, цэнтр гігіены і эпідэміялогіі, раённы і гарадскі Дамы культуры, Дом школьнікаў, 24 дашкольныя ўстановы, 2 кінатэатры, 6





*Светлагорскі цэлюлозна-кардонны камбінат.*

*Вышкамантажнае ўпраўленне РУП ВА «Беларусьнафта».*





*Светлагорскае аграпрамысловае ўпраўленне ВА «Беларусьнафта».*

*Будынак вакзала чыгуначнай станцыі Светлагорск-на-Бярэзіне.*

масавых б-к, музей гісторыі горада (адкрыты 30.12.1978), карцінная галерэя «Традыцыя», 2 б-цы, 2 аптэкі, 2 паліклінікі, радзільны дом, 6 аддз. сувязі, 2 царквы, касцёл, 115 магазінаў і 51 прадпрыемства грамадскага харчавання. Выходзяць газеты «Светлагорскія навіны» (раённая, з 1.5.1932) і «Химик» (шматтыражная, вытв. аб'яднання «Хімвалакно»), працуе тэлерадыёкампанія «Ранак».

**АЛЯКСАНДРАЎКА** — вёска ў Баравікоўскім с/с, за 5 км на У ад Светлагорска, 6 км ад чыг. ст. Светлагорск-на-Бярэзіне (на лініі Жлобін—Калінкавічы) і прыстані Светлагорск (на р. Бярэзіна), 115 км ад Гомеля, на аўтадарозе Светлагорск—Горваль, на З — урочышча Серадаборак. 7 гаспадарак, 9 жыхароў (2004 г.).

Паводле пісьмовых крыніц вядома з пач. 20 ст. як сяленне ў Парыцкай вол. Бабруйскага пав. Мінскай губ. У 1908 г. 19 двароў, 130 жыхароў. У 1925 г. 29 двароў. У 1930 г. 37 двароў, 194 жыхары. У 1931 г. арганізаваны калгас. Паводле перапісу 1959 г. 76 жыхароў. Размешчана падсобная гаспадарка РУП «Светлагорскае ВА «Хімвалакно». Планіровачна складаецца з крыху выгнутай кароткай вуліцы, арыентаванай амаль мерыдыянальна і забудаванай аднабакова, рэдка, драўлянымі сял. сядзібамі.

**АСІНАЎКА** — вёска ў Асташкавіцкім с/с, за 16 км на ПдЗ ад Светлагорска, 4 км ад чыг. ст. Жэрдзь (на лініі Жлобін—Калінкавічы), 115 км ад Гомеля, на У меліярацыйныя каналы, злучаныя цераз Яланскі канал з р. Сведзь (прыток р. Бярэзіна). Транспартныя сувязі па прасёлачнай, а затым аўтадарозе Сасновы Бор — Светлагорск. 66 гаспадарак, 155 жыхароў (2004 г.).

Паводле пісьмовых крыніц вядома з 18 ст. як сяленне ў Мазырскім пав. Мінскай губ. У 1737 г. ў складзе маёнтка Ліпаў, ва ўладанні Горватаў. У 1834 г. 6 двароў. Пад 1879 г. пазначана як сяленне ў Яўтушкавіцкім царк. прыходзе. Паводле перапісу 1897 г. 20 жыхароў. У 1908 г. 11 двароў, 81 жыхар. У 1925 г. 28 двароў. У 1930 г. 137 жыхароў. У 1931 г. арганізаваны калгас «Чырвоны сцяг», працавала кузня. Паводле перапісу 1959 г. 317 жыхароў. Планіровачна складаецца з прамалінейнай, амаль шыротнай арыентацыі вуліцы, якая на У далучаецца да прамалінейнай кароткай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ. Забудова двухбаковая, няшчыльная, сядзібнага тыпу.

**АСОПНАЕ** — вёска ў Печышчанскім с/с, за 10 км на ПдЗ ад Светлагорска, 11 км ад чыг. ст. Светлагорск-на-Бярэзіне (на лініі Жлобін—Калінкавічы), 120 км ад Гомеля, на Пд, У і Пн меліярацыйныя каналы, злучаныя цераз Мядзведаўскі канал з сеткай каналаў Прыпяцкай сістэмы. Побач аўтадарога Горкі—Светлагорск. 9 гаспадарак, 12 жыхароў (2004 г.).

Паводле пісьмовых крыніц вядома з 19 ст. як сяленне ў Карпавіцкай вол. Рэчыцкага пав. Мінскай губ. Паводле перапісу 1897 г. 12 двароў, 69 жыхароў. У пач. 1930-х гг. вяскоўцы ўступілі ў калгас. Паводле перапісу 1959 г. 119 жыхароў. Планіровачна складаецца з прамалінейнай кароткай, амаль мерыдыянальнай вуліцы. Забудова драўляная, няшчыльная, сядзібнага тыпу.

**АСТАНКАВІЧЫ** — пасёлак і чыг. станцыя, у Асташкавіцкім с/с, за 21 км на ПдЗ ад Светлагорска, 131 км ад Гомеля, на У мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, а затым аўтада-

*Светлагорск. Набярэжная Бярэзіны.*



розе да Светлагорска. 27 гаспадарак, 51 жыхар (2004 г.).

З 1915 г. дзейнічаў чыг. раз'езд, ператорыны пазней у чыг. станцыю. Паступова складваўся і пасёлак. У 1925 г. 10 двароў. У 1932 г. пасялкоўцы ўступілі ў калгас. Паводле перапісу 1959 г. 205 жыхароў. Планіровачна складаецца з прамалінейнай мерыдыянальнай вуліцы, уздоўж чыгункі. Забудова драўляная. Назва пасёлку нададзена 21.1.1969 г. Указам Прэзідыума Вярх. Савета БССР.

**АСТАШКАВІЧЫ** – вёска, цэнтр Асташкавіцкага с/с, за 22 км на ПдЗ ад Светлагорска, 6 км ад чыг. ст. Астанкавічы (на лініі Жлобін–Калінкавічы), 132 км ад Гомеля, на У, Пн і З меліярацыйныя каналы, злучаныя з сеткай каналаў Прыпяцкага басейна. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, а затым аўтадарозе ў напрамку да Светлагорска. 246 гаспадарак, 563 жыхары (2004 г.).

Паводле пісьмовых крыніц вядома з 19 ст. як сяленне ў Карпавіцкай вол. Рэчыцкага пав. Мінскай губ. У 1858 г. 62 двары, 507 жыхароў. Пад 1879 г. пазначана ў ліку сяленняў Славінскага царк. прыхода. У 1885 г. 621 жыхар. Паводле перапісу 1897 г. 951 жыхар, школа граматы, хлебазапасны магазін, карчма. У 1908 г. 204 двары, 1256 жыхароў. У 1919 г. адкрыта школа, якая размяшчалася ў сял. хаце, а ў 1923 г. для яе ўзведзены асобны будынак. У 1925 г. 301 двор. З 5.10.1926 г. цэнтр Асташкавіцкага с/с Азарыцкага, з 8.7.1931 г. Мазырскага, з 12.2.1935 г. Даманавіцкага, з 29.7.1961 г. Светлагорскага р-наў Мазырскай (да 26.7.1930, 21.6.1935 – 20.2.1938) акругі, з 20.2.1938 г. Палескай вобл., з 8.1.1954 г. Гомельскай. У 1929 г. арганізаваны калгас «Камунар», працавалі вятрак і ваўначоска. У 1930 г. 1298 жыхароў. Пачатковая школа ў 1930-я гг. ператворана ў 7-гадовую (у 1935 – 372 вучні). 9 чалавек былі беспадстаўна рэпрэсіраваны. У 1940 г. 350 двароў, 1713 жыхароў. У Вял. Айч. вайну ў жн. 1941 г. фаш. акупанты спалілі 297 двароў і загубілі 120



Помнік на брацкай магіле савецкіх воінаў і партызан у в. Асташкавічы.

жыхароў. Дзейнічала патрыят. падп. група. 9.12.1943 г. ваенсавет 65-й арміі на пасяджэнні, якое адбылося ў вёсцы, заслухаў даклад нач. штаба Мінскага партыз. злучэння аб абстаноўцы ў тыле ворага перад фронтам арміі і вызначыў сумесныя дзеянні сав. войск і партызан. У баях за вёску і наваколле загінулі 1005 сав. воінаў (пахаваны ў брацкай магіле ў цэнтры вёскі), пераважная большасць якіх – воіны 18-га стралк. корпуса 65-й арміі. Паводле перапісу 1959 г. 1161 жыхар. Цэнтр КСУП «Асташкавічы». Размешчаны сярэдняя школа, Дом культуры, б-ка, фельч.-акушэрскі пункт, аддз. сувязі, сталовая, 2 магазіны, дзіцячы сад. Планіровачна складаецца з паўвыгнутай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ і перакрыжаванай вуліцай шыротнай арыентацыі, якая ў сваю чаргу перакрыжавана кароткай прамалінейнай вуліцай. Забудова двухбаковая, пераважна драўляная, сядзібнага тыпу. На У Асташкавіцкае радовішча нафты (адкрыта ў 1965).

У склад Асташкавіцкага с/с да 1939 г. ўваходзіў пас. Прудзішча, жыхары якога перасяліліся ў іншыя месцы (не існуе).

**АСТРОЎЧЫЦЫ** — вёска ў Чыркавіцкім с/с, за 13 км на ПнЗ ад Светлагорска, 14 км ад чыг. ст. Светлагорск-на-Бярэзіне (на лініі Жлобін—Калінкавічы), 123 км ад Гомеля, на Пд і З меліярацыйныя каналы, на ўсх. ускраіне р. Чырка (прыток р. Жардзянка). Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Парычы—Светлагорск. 57 гаспадарак, 124 жыхары (2004 г.).

Паводле пісьмовых крыніц вядома з 18 ст. як сяленне ў Парыцкай вол. Бабруйскага пав. Мінскай губ. У 1800 г. пабудавана драўляная Міхайлаўская царква. З 1885 г. дзейнічала вінакурня. Паводле перапісу 1897 г. 36 двароў, 358 жыхароў. У 1908 г. 54 двары, 387 жыхароў. У 1916 г. 66 двароў. У 1924 г. адкрыта школа, якая размяшчалася ў наёмнай сял. хаце. У 1925 г. 69 двароў, у Ракшынскім с/с Парыцкага р-на Бабруйскай акругі. У 1930 г. арганізаваны калгас «Серп і молат», працавала кузня. У 1940 г. 100 двароў, 500 жыхароў. У Вял. Айч. вайну ў лют. 1944 г. фаш. карнікі спалілі 89 двароў і загубілі 260 жыхароў. Паводле перапісу 1959 г. 183 жыхары. Размешчаны б-ка, клуб. Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ. Забудова двухбаковая, драўляная, сядзібнага тыпу.

**БАРАВІКІ** — вёска, цэнтр Баравікоўскага с/с, за 16 км на ПдУ ад Светлагорска, 15 км ад чыг. ст. Светлагорск-на-Бярэзіне (на лініі Жлобін—Калінкавічы), 95 км ад Гомеля, на аўтадарозе Светлагорск—Рэчыца, на З — канал Баравікоўскі, злучаны з р. Сведзь (прыток р. Бярэзіна), на У сетка меліярацыйных каналаў. 443 двары, 764 жыхары (2004 г.).

Паводле пісьмовых крыніц вядома з 18 ст. як сяленне ў Рэчыцкім пав. Мінскага ваяв., ва ўладанні Патоцкіх, потым Масальскіх. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай з 1793 г. ў складзе Рас. імперыі. У 1795 г. 32 двары. У 1850 г. ва ўладанні памешчыка Адамовіча. Пад 1879 г. пазначана ў ліку сяленняў Якімаваслабодскага царк. прыхода. Паводле перапісу 1897 г. 43 двары, 265 жыхароў, у Якімаваслабодскай вол. Рэчыцкага пав. Мінскай губ. З 8.12.1926 г. цэнтр Баравікоўскага с/с Горвальскага, з 4.8.1927 г. Рэчыцкага р-наў Рэчыцкай, з 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. Гомельскай акруг, з 5.4.1935 г. Парыцкага, з 29.7.1961 г. Светлагорскага р-наў, з 20.2.1938 г. Палескай, з 20.9.1944 г. Бабруйскай, з 8.1.1954 г. Гомельскай абласцей. У 1930 г. арганізаваны калгас «1 Мая», працавала кузня. У 1930-я гг. 11 вяскоўцаў былі неабгрунтавана рэпрэсіраваны. У Вял. Айч. вайну ў 1943 г. ў баях за вызваленне вёскі і наваколля загінулі 513 воінаў (пахаваны ў брацкай магіле ў скверы). Значная іх частка — воіны 18-га стралк. корпуса 65-й арміі. Паводле перапісу 1959 г. 918 жыхароў. Цэнтр КСУП «Баравікі». Размешчаны лясніцтва, камбінат быт. абслугоўвання, сярэдняя школа, Дом культуры, б-ка, фельч.-акушэрскі пункт, дзіцячы сад, аддз. сувязі, сталовая, 2 магазіны. Планіровачна складаецца з 3 прамалінейных паралельных паміж сабой вуліц, арыентаваных з ПдУ на ПнЗ, да якіх на Пд перпендыкулярна далучаюцца прамалінейная вуліца і завулак, на Пн — кароткая прамалінейная вуліца. Забудова двухбаковая, пераважна драўляная, сядзібнага тыпу. Радзіма Героя Сац. Працы І.Ф.Хмаруна.

У склад Баравікоўскага с/с да 1939 г. ўваходзілі пас. Летнеазёрск, хутары Астапаў Хутар, Асташоў Хутар, Барадзічоў Хутар, Барысенкаў Хутар, Бруквялёў Хутар, Галіцкі Востраў, Гарадок, Гаркушаў Хутар, Гіндрыкаў Хутар, Губараў Хутар, Захар'еў Хутар, Кандратаў Хутар, Корбутаў Хутар, Косцікаў Хутар, Красная Ніва, Кудвар, Макараў Хутар, Маўрын Хутар, Мецелеў Хутар, Мішчанкаў Хутар, Надзьма, Пакаёўчыкаў, Пармонаў Хутар, Пастушэнкаў Хутар, Рабы Немец, Раманчыкаў Хутар, Струбец, Сялец, Турдалеў Хутар, Хвядосаў Хутар, Юркаў Хутар. Іх жыхары перасяліліся ў іншыя месцы, і гэтыя пасёлкі і хутары перасталі існаваць.

**БЕРЛАЖ** — вёска ў Мікалаеўскім с/с, за 60 км на З ад Светлагорска і чыг. ст. Светлагорск-на-Бярэзіне, 58 км ад Гомеля, на З меліярацыйныя каналы. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, а затым аўтадарозе Парычы—Азарычы. 5 гаспадарак, 9 жыхароў (2004 г.).

Засн. ў пач. 20 ст. перасяленцамі з суседніх вёсак. Найбольш актыўная забудова прыпадае на 1920-я гг. У 1930 г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У 1940 г. 21 двор, 112 жыхароў. У Вял. Айч. вайну ў чэрв. 1944 г. фаш. акупанты спалілі 19 двароў. Паводле перапісу 1959 г. 78 жыхароў. У складзе калгаса імя К.Маркса. Планіровачна складаецца з кароткай прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ. Забудова няшчыльная, драўляная, сядзібнага тыпу.

**ВАСІЛЁЎКА** — вёска ў Краснаўскім с/с, за 49 км на ПнЗ ад Светлагорска, 26 км ад чыг. ст. Машны (на ветцы Бабруйск—Рабкор ад лініі Асіповічы—Жлобін), 160 км ад Гомеля, на р. Бярэзіна (прыток р. Дняпро). Транспартныя сувязі па прасёлачнай, а затым аўтадарозе Бабруйск—Рэчыца. 111 гаспадарак, 281 жыхар (2004 г.).

Паводле пісьмовых крыніц вядома з 18 ст. як сяленне ў Парыцкай вол. Бабруйскага пав. Мінскай губ. На могілках мелася царква, якая ў 1815 г. згарэла. Пад 1879 г. пазначана ў ліку сяленняў Каралеўскаслабодскага царк. прыхода. Паводле перапісу 1897 г. 74 двары, 433 жыхары, хлебазапасны магазін. У 1908 г. 90 двароў, 680 жыхароў. У 1916 г. 2 вёскі: у адной — 44 двары, 284 жыхары, у другой — 63 двары, 467 жыхароў. З 1920 г. дзейнічала школа, якая размяшчалася ў наёмнай сял. хаце. У 1924 г. замест гэтай была адкрыта школа ў суседняй в. Тумараўка. У 1925 г. 129 двароў. У 1930 г. арганізаваны калгас, працавалі бандарная майстэрня і кузня. У 1940 г. 135 двароў. У Вял. Айч. вайну дзейнічала падп. патрыят. група. У ліст. 1943 г. фаш. акупанты поўнасцю спалілі вёску і загубілі 25 жыхароў. Паводле перапісу 1959 г. 536 жыхароў, у 1970 г. — 126 гаспадарак, 429 жыхароў. Цэнтр падсобнай гаспадаркі ЧСУП «Светлагорскі аграхімсервіс». Размешчаны пач. школа, б-ка, фельч.-акушэрскі пункт, магазін, дзіцячы сад, аддз. сувязі. Планіровачна складаецца з крыху выгнутай вуліцы, блізкай да мерыдыянальнай арыентацыі, да якой з ПнЗ пад вострым вуглом далучаецца кароткая дугападобная вуліца. Забудова двухбаковая, няшчыльная, пераважна драўляная, сядзібнага тыпу. У 1990-я гг. ў вёсцы пасяліліся перасяленцы з забруджаных радыяцыяй пасля Чарнобыльскай катастрофы мясцін, пераважна з в. Ліхаўня Нараўлянскага р-на.

**ВІША** — вёска ў Палескім с/с, за 27 км на ПдЗ ад Светлагорска, 28 км ад чыг. ст. Светлагорск-на-Бярэзіне (на лініі Жлобін—Калінкавічы), 137 км ад Гомеля, на р. Віша (прыток р. Іпа). Аўтадарога звязвае вёску са Светлагорскам і Парычамі. 46 гаспадарак, 71 жыхар (2004 г.).

Паводле пісьмовых крыніц вядома з 2-й пал. 19 ст. як сяленне ў Крукавіцкай вол. Рэчыцкага пав. Мінскай губ. У 1908 г. 32 двары, 146 жыхароў. Побач быў аднайменны маёнтак (15 жыхароў). У 1925 г. вёска (27 двароў), пасёлак (26 двароў) і фальварак (6 двароў). У канцы 1920-х гг. яны аб'ядналіся ў адзін населены пункт. У 1930 г. арганізаваны калгас. У 1939 г. ў вёску сселены пасёлкі Падлясок, Падмежаўшчына, Сяргееўка, хутары Белае Балота і Маргі. У 1940 г. 64 двары, 259 жыхароў. У Вял. Айч. вайну ў лют. 1943 г. фаш. акупанты спалілі 59 двароў і загубілі 100 жыхароў. Паводле перапісу 1959 г. 314 жыхароў. Размешчаны клуб. Планіровачна складаецца з 2 вуліц, якія разыходзяцца ў розных кірунках. Забудавана двухбакова, няшчыльна драўлянымі сял. сядзібамі. Паблізу знаходзіцца радовішча нафты, першы прамысловы прыток якой атрыманы ў 1967 г.

**ВУЗНАЖ** — вёска і чыг. станцыя (на лініі Жлобін—Калінкавічы) у Давыдаў-

скім с/с, за 16 км на ПдЗ ад Светлагорска, 106 км ад Гомеля, на Пн — сетка меліярацыйных каналаў, злучаных цераз канал Яланскі з р. Сведзь (прыток р. Бярэзіна). Аўтадарога злучае вёску са Светлагорскам. 108 гаспадарак, 257 жыхароў (2004 г.).

Паводле пісьмовых крыніц вядома з 18 ст. як сяленне ў Мінскім ваяв. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай з 1793 г. ў складзе Рас. імперыі. У 1795 г. 2 двары. У 1834 г. 12 двароў. Пад 1879 г. пазначана ў ліку сяленняў Яўтушкавіцкага царк. прыхода. Паводле перапісу 1897 г. 14 двароў, 158 жыхароў, хлебазапасны магазін. У 1908 г. 49 двароў, 257 жыхароў, у Карпавіцкай вол. Рэчыцкага пав. Мінскай губ. У 1917 г. адкрыта школа, якая размяшчалася ў наёмнай сял. хаце. У 1925 г. 67 двароў. У 1929 г. арганізаваны калгас. У 1930-я гг. 6 вяскоўцаў былі беспадстаўна рэпрэсіраваны. Паводле перапісу 1959 г. 539 жыхароў. Планіровачна складаецца з прамалінейнай шыротнай вуліцы, якую перасякае чыгунка. На У да галоўнай далучаецца кароткая вуліца, арыентаваная з ПдЗ на ПнУ. Забудова двухбаковая, пераважна драўляная, сядзібнага тыпу.

**ВЫСОКІ БАРОК** — вёска ў Асташкавіцкім с/с, за 26 км на ПдЗ ад Светлагорска, 5 км ад чыг. ст. Астанкавічы (на лініі Жлобін—Калінкавічы), 136 км ад Гомеля, на У і Пн меліярацыйныя каналы. Аўтадарога злучае вёску са Светлагорскам. 23 гаспадаркі, 29 жыхароў (2004 г.).

Засн. ў пач. 20 ст. перасяленцамі з суседніх вёсак. У 1930 г. 20 двароў, 109 жыхароў. У 1931 г. арганізаваны калгас. Паводле перапісу 1959 г. 136 жыхароў. Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ, забудова двухбаковая, драўляная, сядзібнага тыпу.

**ВЫСОКІ ПОЛК** — вёска ў Казлоўскім с/с, за 35 км на ПнЗ ад Светлагорска, 33 км ад чыг. ст. Светлагорск-на-Бярэзіне, 145 км ад Гомеля, на аўтадарозе Бабруйск—Рэчыца, на З мяжуе з лесам. 71 гаспадарка, 145 жыхароў (2004 г.).

Паводле пісьмовых крыніц вядома з 17 ст. як сяленне ў Мінскім ваяв. У інвентары Бабруйскага староства 1638 г. пазначана як в. Высокі Поўк. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай з 1793 г. ў складзе Рас. імперыі. Пад 1879 г. пазначана ў ліку сяленняў Парыцкага царк. прыхода. Паводле перапісу 1897 г. 31 двор, 183 жыхары. У 1908 г. 40 двароў, 379 жыхароў, у Парыцкай вол. Бабруйскага пав. Мінскай губ. У 1917 г. 49 двароў, 296 жыхароў. У 1925 г. 63 двары. У сярэдзіне 1920-х гг. вёска атрымала з Парычаў электраэнергію для асвятлення. У 1930 г. арганізаваны калгас «Бальшавік», працавалі цагельня і кузня. У Вял. Айч. вайну фаш. карнікі расстралялі ў 1941—44 гг. 4200 мірных жыхароў з розных сяленняў (пахаваны ў брацкай магіле на месцы расстрэлу, за 0,8 км на Пн ад вёскі). Паводле перапісу 1959 г. 340 жыхароў. Планіровачна складаецца з прамалінейнай шыротнай вуліцы, да якой з Пд далучаюцца 2 завулкі. Забудова двухбаковая, драўляная, сядзібнага тыпу.

**ВЯЖНЫ** — вёска ў Мікалаеўскім с/с, за 55 км на ПнЗ ад Светлагорска, 52 км ад чыг. ст. Светлагорск-на-Бярэзіне, 165 км ад Гомеля. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, а затым аўтадарозе Бабруйск—Светлагорск. 221 гаспадарка, 529 жыхароў (2004 г.).



*Помнік на магіле ахвяр фашызму ў в. Высокі Полк.*

Паводле пісьмовых крыніц вядома з 19 ст. як сяленне ў Чэрнінскай вол. Бабруйскага пав. Мінскай губ. Пад 1879 г. пазначана ў ліку сяленняў Чэрнінскага царк. прыхода. Паводле перапісу 1897 г. в. Вяжнава (яна ж Вяжна), 70 двароў, 500 жыхароў. У 1908 г. 93 двары, 604 жыхары. У 1921 г. адкрыта школа, якая размяшчалася ў наёмнай сял. хаце. У 1925 г. 147 двароў. У пач. 1929 г. арганізаваны калгас імя К.Маркса, працавала кузня. У 1939 г. ў вёску сселены хутары Бродцы, Заельніцкі мост, Залавішчы, Залессе, Замлынне, Замошша, Захваткі, Масткі, Падбродцы, Радзькоў, Сіліны, Смаловіца і далучаны пас. Гарды. 10 вяскоўцаў былі беспадстаўна рэпрэсіраваны. У Вял. Айч. вайну ў чэрв. 1944 г. фаш. акупанты спалілі 143 двары, загубілі 70 жыхароў. Паводле перапісу 1959 г. 532 жыхары. Цэнтр СПК «Вяжны». Размешчаны сярэдняя школа, клуб, б-ка, фельч.-акушэрскі пункт, вет. ўчастак, аддз. сувязі, 3 магазіны, дзіцячы сад. Планіровачна складаецца з 2 паралельных прамалінейных вуліц, блізкіх да мерыдыянальнай арыентацыі, злучаных 2 кароткімі вуліцамі. На Пд — 2, на У — 1 невял. адасобленыя ўчасткі забудовы. Забудова пераважна драўляная, сядзібнага тыпу, двухбаковая. У 1991—95 гг. узведзена 100 мураваных дамоў, у якіх размясціліся перасяленцы з мясцін, забруджаных радыяцыяй пасля Чарнобыльскай катастрофы.

**ВЯЛІКАЯ ЛЮДЗВІНАЎКА** — вёска ў Давыдаўскім с/с, за 22 км на ПдЗ ад Светлагорска, 7 км ад чыг. ст. Вузнаж (на лініі Жлобін—Калінкавічы), 121 км ад Гомеля, на З меліярацыйныя каналы, злучаныя з р. Іпа (прыток р. Трэмля). Аўтадарога звязвае вёску са Светлагорскам. 70 гаспадарак, 280 жыхароў (2004 г.).

Паводле пісьмовых крыніц вядома з 18 ст. як сяленне ў Мазырскім пав. Мінскага ваяв. У 1737 г. ў складзе маёнтка Ліпаў, ва ўладанні Горватаў. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай з 1793 г. ў складзе Рас. імперыі. Пад 1879 г. пазначана ў ліку сяленняў Яўтушкавіцкага царк. прыхода. Паводле перапісу 1897 г. 16 двароў, 127 жыхароў, хлебазапасны магазін. У 1908 г. 78 двароў, 408 жыхароў, у Карпавіцкай вол. Рэчыцкага пав. Мінскай губ. У 1925 г. 122 двары. У 1929 г. арганізаваны калгас. Паводле перапісу 1959 г. 205 жыхароў. Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ, забудова двухбаковая, драўляная, сядзібнага тыпу.

**ВЯЛІКІ БОР** — вёска ў Палескім с/с, за 17 км на З ад Светлагорска, 9 км ад чыг. ст. Светлагорск-на-Бярэзіне (на лініі Жлобін—Калінкавічы), 118 км ад Гомеля. Аўтадарога звязвае вёску са Светлагорскам. 24 гаспадаркі, 33 жыхары (2004 г.).

Сведчаннем асваення чалавекам гэтых мясцін у далёкай старажытнасці з'яўляюцца выяўленыя археолагамі за 1,5 км на Пд ад вёскі 2 курганы. Паводле пісьмовых крыніц вядома з 19 ст. як сяленне ў Парыцкай вол. Бабруйскага пав. Мінскай губ. У 1866 г. адкрыта нар. вучылішча. Пад 1879 г. пазначана ў ліку сяленняў Дубровенскага царк. прыхода. Паводле перапісу 1897 г. 37 двароў, 212 жыхароў, капліца. У 1908 г. 39 двароў, 311 жыхароў. У ліп. 1908 г. паміж вяскоўцамі і лясной аховай адбылася сутычка з-за жадання памешчыцы Пушчынай атрымаць ад сялян плату за карыстанне зямлёй у лесе. 1 чалавек быў забіты і 1 паранены. У 1917 г. 45 двароў, 321 жыхар. У 1925 г. 59 двароў. 8 вяскоўцаў былі беспадстаўна рэпрэсіраваны. У Вял. Айч. вайну ў 1943—44 гг. у баях за вызваленне вёскі і навакольных населеных пунктаў загінулі 1538 воінаў 65-й і 48-й армій (пахаваны ў брацкай магіле, за 0,1 км на ПдУ ад вёскі). Паводле перапісу 1959 г. 239 жыхароў. Планіровачна складаецца з крывалінейнай шыротнай вуліцы, забудова двухбаковая, драўляная, сядзібнага тыпу.

**ВЯРХЛЕССЕ** — вёска ў Казлоўскім с/с, за 37 км на ПнЗ ад Светлагорска, 34 км ад чыг. ст. Светлагорск-на-Бярэзіне

(на лініі Жлобін—Калінкавічы), 147 км ад Гомеля, на аўтадарозе Акцябрскі—Парычы, на Пд сетка меліярацыйных каналаў. 60 гаспадарак, 174 жыхары (2004 г.).

Выяўлены археолагамі курганны могільнік (за 1 км на Пн ад вёскі, 46 насыпаў) сведчыць аб асваенні чалавекам гэтых мясцін з глыбокай старажытнасці. Паводле пісьмовых крыніц вядома з пач. 20 ст., у 1908 г. 37 жыхароў, фальварак у Парыцкай вол. Бабруйскага пав. Мінскай губ. У 1917 г. 84 жыхары. Найбольш актыўная забудова прыпадае на 1920-я гг. У 1929 г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У 1940 г. 68 двароў, 250 жыхароў. У Вял. Айч. вайну ў ліп. 1941 г. ням.-фаш. акупанты поўнасцю спалілі вёску. Паводле перапісу 1959 г. 210 жыхароў. У складзе КСУП «Залессе» (цэнтр — в. Майсееўка). Планіровачна складаецца з прамалінейнай шыротнай вуліцы, да цэнтра якой з Пн далучаецца кароткая вуліца. Забудова двухбаковая, няшчыльная, драўляная, сядзібнага тыпу.

**ГАМЗА** (да 1925 Сямак) — вёска ў Мікалаеўскім с/с, за 60 км на ПнЗ ад Светлагорска, 58 км ад чыг. ст. Светлагорск-на-Бярэзіне (на лініі Жлобін—Калінкавічы), 170 км ад Гомеля, на Пн сетка меліярацыйных каналаў, на Пд і З мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, а потым аўтадарозе Акцябрскі—Парычы. 40 гаспадарак, 100 жыхароў (2004 г.).

Паводле пісьмовых крыніц вядома з 19 ст. як сяленне ў Чэрнінскай вол. Бабруйскага пав. Мінскай губ. Пад 1879 г. пазначана ў ліку сяленняў Чэрнінскага царк. прыхода. Паводле перапісу 1897 г. 44 двары, 308 жыхароў. У 1925 г. 97 гаспадарак, у Чэрнінскім с/с Парыцкага р-на Бабруйскай акругі. У 1929 г. арганізаваны калгас. У Вял. Айч. вайну вызвалена 24.6.1944 г., у першы дзень наступлення 1-га Беларускага фронту па ажыццяўленні аперацыі «Баграціён». Адразу пасля вызвалення непрацяглы час тут знаходзіўся назіральны пункт камандуючага 65-й арміі П.І.Батава, дзе вечарам 24.6.1944 г. ён дакладваў намесніку Галоўнакамандуючага Г.К.Жукаву і камандуючаму 1-м Беларускім фронтам К.К.Ракасоўскаму аб ходзе наступальнай аперацыі ў зоне дзейнасці яго арміі. Паводле перапісу 1959 г. 272 жыхары. Размешчана падсобная гаспадарка РУП «СВА «Хімвалакно». Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, блізкай да мерыдыянальнай арыентацыі, да якой на Пн далучаецца з З кароткая шыротная вуліца. Забудова двухбаковая, драўляная, сядзібнага тыпу.

**ГОРКІ** — вёска ў Давыдаўскім с/с, за 30 км на ПдЗ ад Светлагорска, 7 км ад чыг. ст. Вузнаж (на лініі Жлобін—Калінкавічы), 140 км ад Гомеля, на Пд, Пн і З меліярацыйныя каналы, злучаныя з р. Сведзь (прыток р. Бярэзіна). Аўтадарога звязвае вёску са Светлагорскам і Парычамі. 31 гаспадарка, 71 жыхар (2004 г.).

Паводле пісьмовых крыніц вядома з 19 ст. як сяленне ў Бабруйскім пав. Мінскай губ. Цэнтр Горацкай вол., у склад якой у 1890 г. ўваходзіла 47 сяленняў з 1193 дварамі. У 1908 г. 112 двароў, 700 жыхароў. У 1930 г. арганізаваны калгас. Паводле перапісу 1959 г. 129 жыхароў. Размешчаны дзіцячыя яслі, швейная майстэрня, 2 магазіны. Планіровачна складаецца з прамалінейнай мерыдыянальнай вуліцы, забудова двухбаковая, драўляная, сядзібнага тыпу.

**ДАВЫДАЎКА** — вёска, цэнтр Давыдаўскага с/с, за 22 км на ПдЗ ад Светлагорска, 5 км ад чыг. ст. Вузнаж (на лініі Жлобін—Калінкавічы), 135 км ад Гомеля. Аўтадарога звязвае вёску са Светлагорскам. 44 гаспадаркі, 68 жыхароў (2004 г.).

Выяўленае археолагамі гарадзішча (за 3 км на ПнУ ад вёскі, ва ўрочышчы Гарадзінка) сведчыць аб асваенні чалавекам гэтых мясцін у глыбокай старажытнасці. Паводле пісьмовых крыніц вядома з 19 ст. як сяленне ў Карпавіцкай вол. Рэчыцкага пав. Мінскай губ. Засн. ў 1847 г. як слабада. Паводле перапісу 1897 г. 68 двароў, 464 жыхары, 2

яўр. малітоўныя школы, крама, карчма. З 20.8.1935 г. цэнтр Давыдаўскага с/с Азарыцкага, з 25.7.1931 г. Парыцкага, з 12.2.1935 г. Даманавіцкага р-наў, Мазырскай (да 26.7.1930 і 21.6.1935 — 20.2.1938) акругі, з 20.1.1960 г. Парыцкага, з 29,7.1961 г. Светлагорскага р-наў, з 20.2.1938 г. Палескай, з 8.1.1954 г. Гомельскай абласцей. Да 24.9.1926 г. вядома пад назвай Слабада Давыдаўка. У 1926 г. далучаны пас. Яўтушкавіцкая Рудня. У 1930 г. арганізаваны калгас, працавала кравецка-шавецкая майстэрня. У Вял. Айч. вайну 8.2.1942 г. фаш. карнікі ўварваліся ў вёску, абрабавалі жыхароў і многіх расстралялі. 129 ахвяр фашызму пахаваны ў магіле за 0,5 км на ПнЗ ад вёскі. Дзейнічала патрыят. падп. група. У баях за вызваленне вёскі і наваколля загінулі 595 воінаў 65-й арміі (пахаваны ў брацкай магіле ў цэнтры вёскі). Паводле перапісу 1959 г. 319 жыхароў. Цэнтр КСУП «Горкі». Размешчаны сярэдняя школа, б-ка, фельч.-акушэрскі пункт, аптэка, аддз. сувязі, магазін, дзіцячы сад. Планіроўачна складаецца з кароткай прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ, забудова двухбаковая, драўляная, сядзібнага тыпу. Радзіма бел. пісьменніка Алеся (Аляксандра Пілілавіча) Наўроцкага.

У склад Давыдаўскага с/с уваходзілі да 1939 г. хутары Вялікі Хутар, Добрае, Загрэбна, Ізбішча, Крупіца, Малы Хутар, Собаліца, да 1962 г. — пас. Новы Быт (не існуюць).

**ДАНІЛОЎКА** — вёска ў Краснаўскім с/с, за 46 км на ПнЗ ад Светлагорска, 43 км ад чыг. ст. Светлагорск-на-Бярэзіне (на лініі Жлобін—Калінкавічы), 149 км ад Гомеля, на Пд і З меліярацыйныя каналы. Побач аўтадарога Пратасы—Парычы. 86 гаспадарак, 183 жыхары (2004 г.).

Паводле пісьмовых крыніц вядома з 19 ст. як сяленне ў Парыцкай вол. Бабруйскага пав. Мінскай губ. Пад 1879 г. пазначана ў ліку сяленняў Каралеўскаслабодскага царк. прыхода. Паводле перапісу 1897 г. 23 двары, 144 жыхары. Побач было другое такой жа назвы сяленне, 5 двароў, 29 жыхароў. У 1917 г. вёска (34 двары, 214 жыхароў) і аднайменная аколіца (7 двароў, 40 жыхароў). У 1925 г. 42 двары, у Коўціцкім с/с Парыцкага р-на Бабруйскай акругі. У 1931 г. арганізаваны калгас «Абарона», працавала кузня. У 1936 г. ў вёску сселены хут. Мехаў. Паводле перапісу 1959 г. 344 жыхары. Размешчаны б-ка, клуб. Планіровачна складаецца з кароткай прамалінейнай мерыдыянальнай вуліцы, да якой з У далучаецца завулак. Забудова драўляная, двухбаковая, сядзібнага тыпу. У 1991—93 гг. узведзена 60 мураваных дамоў, у якіх размясціліся перасяленцы з мясцін, забруджаных радыяцыяй пасля Чарнобыльскай катастрофы. Радзіма мовазнаўцы, акадэміка АН БССР С.М.Некрашэвіча.

**ДЗЕДНАЕ** — вёска ў Чыркавіцкім с/с, за 4 км на Пн ад Светлагорска, 5 км ад чыг. ст. Светлагорск-на-Бярэзіне (на лініі Жлобін—Калінкавічы), 114 км ад Гомеля, на ПнЗ гідралагічны заказнік мясц. значэння «Выдрыца». Транспартныя сувязі па мясцовай, а потым аўтадарогах, якія ідуць ад Светлагорска. 22 гаспадаркі, 33 жыхары (2004 г.).

Паводле пісьмовых крыніц вядома з 19 ст. як сяленне ў Парыцкай вол. Бабруйскага пав. Мінскай губ. Пад 1879 г. пазначана як засценак у Чыркавіцкім царк. прыходзе. Паводле перапісу 1897 г. 3 двары, 7 жыхароў. У 1908 г. 11 двароў. У 1916 г. 42 жыхары. У 1925 г. 28 двароў, у Чыркавіцкім с/с Парыцкага р-на Бабруйскай акругі. Побач быў хут. Рог-Дзеднае (5 двароў). У 1931 г. арганізаваны калгас імя Варашылава, працавала кузня. Паводле перапісу 1959 г. 164 жыхары. У складзе КСУП «Бярэзіна» (цэнтр — в. Чыркавічы). Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ і забудаванай двухбакова, няшчыльна драўлянымі сял. сядзібамі.

**ДРАЖНЯ** — вёска ў Краснаўскім с/с, за 47 км на ПнЗ ад Светлагорска, за 24 км ад чыг. ст. Мошны (на ветцы Бабруйск—Рабкор ад лініі Асіповічы—Жлобін), 117 км ад Гомеля, на аўтадарозе Бабруйск—Рэчыца. 10 гаспадарак, 13 жыхароў (2004 г.).

Выяўленае археолагамі селішча за 0,5 км на З ад вёскі, на левым беразе безназоўнай ракі (прыток р. Бярэзіна), ва ўрочышчы Ліпавы Бугор, сведчыць, што яго жыхары знаходзіліся ў зоне кантактаў з плямёнамі зарубінецкай і штрыхаванай керамікі культур. Сучасная вёска паводле пісьмовых крыніц вядома з 19 ст. як сяленне ў Парыцкай вол. Бабруйскага пав. Мінскай губ. Пад 1879 г. пазначана ў ліку сяленняў Каралеўскабудскага царк. прыхода. Паводле перапісу 1897 г. 34 двары, 236 жыхароў. У 1917 г. 250 жыхароў, нар. вучылішча. У 1925 г. 47 двароў. З 24.9.1926 г. да 16.7.1954 г. цэнтр Каралеўскабудскага с/с Парыцкага р-на Бабруйскай акругі (да 26.7.1930), з 20.2.1938 г. Палескай, з 8.1.1954 г. Гомельскай абласцей. У 1930 г. арганізаваны калгас. У 1940 г. 52 двары. У Вял. Айч. вайну ў ліст. 1943 г. фаш. акупанты поўнасцю спалілі вёску і загубілі 27 жыхароў. Паводле перапісу 1959 г. 148 жыхароў. Планіровачна складаецца з кароткай прамалінейнай шыротнай вуліцы, забудаванай двухбакова драўлянымі сял. сядзібамі.





*М.П.Цеплякоў.*

*С.Г.Чыгладзе.*

**ДУБРОВА** — вёска ў Палескім с/с, за 23 км на З ад Светлагорска, 24 км ад чыг. ст. Светлагорск-на-Бярэзіне (на лініі Жлобін—Калінкавічы), 124 км ад Гомеля, на р. Іпа (прыток р. Прыпяць) і аўтадарозе Парычы—Светлагорск, на ПдЗ меліярацыйныя каналы. 252 гаспадаркі, 587 жыхароў (2004 г.).

Паводле пісьмовых крыніц вядома з 19 ст. як сяленне ў Чэрнінскай вол. Бабруйскага пав. Мінскай губ. У 1850 г. 24 двары, ва ўладанні памешчыка Адамовіча. У 1872 г. памешчыца І.Лазоўская мела тут 149 дзес. зямлі. У 1885 г. 65 двароў, 515 жыхароў, царква (у ёй захоўваліся копіі метрычных кніг з 1835 і спісы прыхаджан з 1841). Паводле перапісу 1897 г. сяло Дуброва (яно ж Дамброва), 115 двароў, 753 жыхары, хлебазапасны магазін, заезны двор. У гэтым жа годзе ўзведзены будынак школы і пачаліся ў ёй заняткі. У выніку эпідэміі халеры ў 1910 г. памерлі 2 жыхары. З 20.8.1924 г. да 16.7.1954 г. цэнтр Дуброўскага с/с. У 1925 г. 181 двор. У 1929 г. арганізаваны калгас «Чырвоная Дуброва», працавалі вадзяны млын і кузня. 22 вяскоўцы былі беспадстаўна рэпрэсіраваны. У 1940 г. 211 двароў, 795 жыхароў. У Вял. Айч. вайну ў студз. 1943 г. фаш. акупанты спалілі 181 двор, загубілі 110 жыхароў. У баях за вёску і вакол яе загінуў 1191 воін, у іх ліку Героі Сав. Саюза М.П.Цеплякоў і С.Г.Чыгладзе (пахаваны ў брацкай магіле ў цэнтры вёскі). На зах. ускраіне, на скрыжаванні дарог Парычы—Калінкавічы і Дуброва—Гарохавішчы, пастаўлена ў 1965 г. стэла ў гонар воінаў 28-й арміі, якія 23.6.1944 г. з гэтых рубяжоў пачалі наступленне ў напрамку Бабруйск—Слуцк. Паводле перапісу 1959 г. 543 жыхары. Размешчаны цэнтральная сядзіба філіяла «Дуброва-агра» РУП «Гомельэнерга». Сярэдняя школа, Дом культуры, б-ка, дзіцячыя яслі-сад, амбулаторыя, аддз. сувязі, шавецкая майстэрня, магазін. Планіровачна складаецца з працяглай дугападобнай, амаль мерыдыянальнай вуліцы, забудаванай двухбакова, пераважна драўлянымі сял. сядзібамі. У 1986 г. ўзведзена 55 мураваных, катэджнага тыпу дамоў, у якіх пасля Чарнобыльскай катастрофы размясціліся перасяленцы з забруджаных радыяцыяй мясцін. Радзіма Героя Сац. Працы П.П.Дайнекі.

**ЕЛЬНІЧКІ** (да 1.4.1925 Маргі) — вёска ў Казлоўскім с/с, за 20 км на ПнЗ ад Светлагорска, 21 км ад чыг. ст. Светлагорск-на-Бярэзіне (на лініі Жлобін—Калінкавічы), 130 км ад Гомеля, на З мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, а потым аўтадарозе Парычы—Светлагорск. 24 гаспадаркі, 42 жыхары (2004 г.).

Засн. ў пач. 20 ст. перасяленцамі з суседніх вёсак. Найбольш актыўная забудова прыпадае на 1920-я гг. У 1930 г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У 1940 г. 43 двары, 200 жыхароў. У Вял. Айч. вайну ў чэрв. 1944 г. фаш. акупанты поўнасцю спалілі вёску. Паводле перапісу 1959 г. 173 жыхары. Планіровачна складаецца з прамалінейнай шыротнай вуліцы. Забудова двухбаковая, няшчыльная, драўляная, сядзібнага тыпу.

**ЖАРДЗЯНСКІ** — пасёлак і чыг. ст. Жэрдзь (на лініі Жлобін—Калінкавічы), у Печышчанскім с/с, за 11 км на ПдЗ ад Светлагорска, за 95 км ад Гомеля. Побач аўтадарога Светлагорск—Сасновы Бор. 33 гаспадаркі, 57 жыхароў (2004 г.).

З 1915 г. раз'езд, пазней чыг. станцыя, вакол якой паступова складваўся пасёлак. Паводле перапісу 1959 г. 145 жыхароў. Назва пасёлка вызначана Указам Прэзідыума Вярх. Савета БССР ад 21.1. 1969 г. Працуюць асфальтавы з-д, магазін. Жылыя дамы і станцыйныя забудовы ўздоўж чыгункі.

**ЖЭРДЗЬ** — вёска ў Печышчанскім с/с, за 12 км на ПдЗ ад Светлагорска, 13 км ад чыг. ст. Светлагорск-на-Бярэзіне (на лініі Жлобін—Калінкавічы), 122 км ад Гомеля, на р. Жэрдзянка (прыток р. Сведзь). Аўтадарога звязвае вёску са Светлагорскам. 20 гаспадарак, 26 жыхароў (2004 г.).

Паводле пісьмовых крыніц вядома з 18 ст. як сяленне ў Мазырскім пав. Мінскага ваяв. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай з 1793 г. ў складзе Рас. імперыі. Дваранка Вольская мела тут у 1876 г. 785 дзес. зямлі. Праз вёску праходзіў тракт з Рагачова на Валынь, мелася паштовая станцыя (8 перавозчыкаў). Паводле перапісу 1897 г. фальварак, 3 двары, 20 жыхароў, у Карпавіцкай вол. Рэчыцкага пав. Мінскай губ. У 1925 г. 8 гаспадарак. У 1930 г. 11 двароў, 55 жыхароў. У 1931 г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. Паводле перапісу 1959 г. 163 жыхары. Планіровачна складаецца з дугападобнай кароткай, амаль шыротнай вуліцы, да якой на Пн далучаецца завулак. Забудова двухбаковая, няшчыльная, драўляная, сядзібнага тыпу.

**ЗАБАЛОЦЦЕ** — вёска ў Краснаўскім с/с, за 52 км на ПнЗ ад Светлагорска, 12 км ад чыг. ст. Мошны (на ветцы Бабруйск—Рабкор ад лініі Асіповічы—Жлобін), 122 км ад Гомеля, на У і Пн сетка меліярацыйных каналаў, на З мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Бабруйск—Рэчыца. 22 гаспадаркі, 34 жыхары (2004 г.).

Паводле пісьмовых крыніц вядома з 19 ст. як сяленне ў Ляскавіцкай вол. Бабруйскага пав. Мінскай губ. Значыцца на карце Зах. меліярацыйнай экспедыцыі, якая дзейнічала ў гэтых мясцінах у 1890-я гг. Пад 1879 г. пазначана ў ліку сяленняў Каралеўскаслабодскага царк. прыхода. У 1909 г. 44 двары, 359 жыхароў. У 1929 г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. Паводле перапісу 1959 г. 181 жыхар. Планіровачна складаецца з кароткай прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ, да цэнтра якой з Пн далучаецца завулак. Забудова двухбаковая, драўляная, сядзібнага тыпу.

**ЗАВІЧЧА** — вёска ў Краснаўскім с/с, за 43 км на ПнЗ ад Светлагорска, за 40 км ад чыг. ст. Светлагорск-на-Бярэзіне (на лініі Жлобін—Калінкавічы), 146 км да Гомеля, на Пд і У меліярацыйныя каналы, на З мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, а потым аўтададарозе Бабруйск—Рэчыца. 11 гаспадарак, 16 жыхароў (2004 г.).

Паводле пісьмовых крыніц вядома з 19 ст. як сяленне ў Парыцкай вол. Бабруйскага пав. Мінскай губ. Паводле перапісу 1897 г. 36 двароў, 191 жыхар. У 1917 г. 200 жыхароў. У 1930 г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У 1936 г. да вёскі далучаны пасёлкі Ключы 1-я і Ключы 2-я, у 1937 г. — пасёлкі Каробішча і Мядзведня, у 1950 г. — в. Смаляніца. Паводле перапісу 1959 г. 206 жыхароў. Планіровачна складаецца з 2 кароткіх паралельных вуліц, арыентаваных з ПдУ на ПнЗ. Забудова двухбаковая, рэдкая, драўляная,



П.П.Дайнека.

сядзібнага тыпу. Паблізу знаходзіцца радовішча цагельнай сыравіны.

**ЗАГОР'Е** — вёска ў Давыдаўскім с/с, за 20 км на ПдЗ ад Светлагорска, 5 км ад чыг. ст. Вузнаж (на лініі Жлобін—Калінкавічы), 121 км ад Гомеля. Аўтадарога звязвае вёску са Светлагорскам. 98 гаспадарак, 290 жыхароў (2004 г.).

Паводле пісьмовых крыніц вядома з 19 ст. як сяленне ў Карпавіцкай вол. Рэчыцкага пав. Мінскай губ. Пад 1879 г. пазначана ў складзе Яўтушкавіцкага царк.прыхода. Паводле перапісу 1897 г. 10 двароў, 75 жыхароў, хлебазапасны магазін. У 1908 г. 31 двор, 170 жыхароў. У 1925 г. 43 двары. У 1930 г. арганізаваны калгас «Ударнік», працавала кузня. Паводле перапісу 1959 г. 276 жыхароў. Планіровачна складаецца з прамалінейнай мерыдыянальнай вуліцы, да якой з ПдУ далучаецца кароткая вуліца. Забудова двухбаковая, драўляная, сядзібнага тыпу.

**ЗАЛЛЕ** — вёска ў Давыдаўскім с/с, за 27 км на З ад Светлагорска, 15 км ад чыг. ст. Вузнаж (на лініі Жлобін—Калінкавічы), 137 км ад Гомеля. Аўтадарога звязвае вёску са Светлагорскам і Калінкавічамі. 79 гаспадарак, 125 жыхароў (2004 г.).

Выяўлены археолагамі за 1,2 км на ПдЗ ад вёскі курганны могільнік (26 насыпаў) сведчыць аб засяленні чалавекам гэтых мясцін з глыбокай старажытнасці. Сучасная вёска вядома паводле пісьмовых крыніц з 19 ст. як сяленне ў Карпавіцкай вол. Рэчыцкага пав. Мінскай губ. Пад 1879 г. пазначана ў складзе Яўтушкавіцкага царк. прыхода. Паводле перапісу 1897 г. 20 двароў, 250 жыхароў, хлебазапасны магазін. У 1908 г. 54 двары, 334 жыхары. У 1925 г. 85 двароў. У пач. 1930-х гг. арганізаваны калгас «Перамога», працавала кузня. Паводле перапісу 1959 г. 471 жыхар. Размешчаны б-ка, клуб. Планіровачна складаецца з прамалінейнай, амаль мерыдыянальнай вуліцы. Забудова двухбаковая, няшчыльная, драўляная, сядзібнага тыпу.

**ЗАРЭЧЧА** — вёска ў Палескім с/с, за 22 км на У ад Светлагорска, 23 км ад чыг. ст. Светлагорск-на-Бярэзіне (на лініі Жлобін—Калінкавічы), 123 км ад Гомеля, на р. Іпа (прыток р. Трэмля), на З меліярацыйныя каналы. Аўтадарога звязвае вёску са Светлагорскам і Парычамі. 51 гаспадарка, 113 жыхароў (2004 г.).

Паводле пісьмовых крыніц вядома з 18 ст. як сяленне ў Мінскім ваяв. У 1737 г. ў складзе маёнтка Ліпаў, ва ўладанні Горватаў. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1834 г. 14 двароў. Пад 1879 г. пазначана ў ліку сяленняў Дуброўскага царк. прыхода. Паводле перапісу 1897 г. 45 двароў, 278 жыхароў, у Чэрнінскай вол. Бабруйскага пав. Мінскай губ. У 1924 г. адкрыта школа, якая размяшчалася ў наёмнай сял. хаце. У 1925 г. 75 двароў, у Дуброўскім с/с Парыцкага р-на Бабруйскай акругі. У 1930 г. арганізаваны калгас «Чырвонае Зарэчча», працавалі ветраны млын, кузня і ваўначоска. 10 вяскоўцаў былі беспадстаўна рэпрэсіраваны. У 1940 г. 77 двароў, 280 жыхароў. У Вял. Айч. вайну ў студз. 1943 г. фаш. акупанты поўнасцю спалілі вёску і загубілі 24 жыхароў. Паводле перапісу 1959 г. 236 жыхароў. Планіровачна складаецца з прамалінейнай мерыдыянальнай вуліцы. Забудова двухбаковая, драўляная, сядзібнага тыпу.

**ЗАТОН** — вёска ў Баравікоўскім с/с, за 6 км на У ад Светлагорска, 7 км ад чыг. ст. Светлагорск-на-Бярэзіне (на лініі Жлобін—Калінкавічы), 147 км ад Гомеля, на паўн. ускраіне — воз. Затонскае, на Пд мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Парычы—Рэчыца. 13 гаспадарак, 19 жыхароў (2004 г.).

Выяўленае археолагамі за 1,2 км на ПдУ ад вёскі паселішча сведчыць аб дзейнасці чалавека ў гэтых мясцінах яшчэ ў эпоху неаліту. Сучасная вёска вядома паводле пісьмовых крыніц з 19 ст. як сяленне ў Якімаваслабодскай вол. Рэ-

чыцкага пав. Мінскай губ. Паводле перапісу 1897 г. 5 двароў, 39 жыхароў. У 1908 г. 12 двароў, 80 жыхароў. З 8.12.1926 г. цэнтр Затонскага с/с Горвальскага, з 4.8.1927 г. да 30.12.1927 г. Рэчыцкага раёнаў Гомельскай акругі. У 1930 г. арганізаваны калгас «Чырвоны маяк», працавала кузня. Паводле перапісу 1959 г. 117 жыхароў. Драўляныя сялянскія сядзібы пастаўлены рэдка, бессістэмна.

**ЗДУДЗІЧЫ** — вёска ў Чыркавіцкім с/с, за 10 км на ПнЗ ад Светлагорска, 11 км ад чыг. ст. Светлагорск-на-Бярэзіне (на лініі Жлобін—Калінкавічы), 120 км ад Гомеля, на Бярэзіне (прыток р. Дняпро). На У гідралагічны заказнік мясц. значэння «Выдрыца». Транспартныя сувязі па прасёлачнай, а потым аўтадарозе Парычы—Светлагорск. 123 гаспадаркі, 222 жыхары (2004 г.).

Выяўлены археолагамі за 1 км на Пн ад вёскі курган сведчыць аб дзейнасці чалавека ў гэтых мясцінах з далёкай старажытнасці. Паводле пісьмовых крыніц вядома з 16 ст. як в. Рэчыцкага пав. Мінскага ваяв. ВКЛ, на тракце Бабруйск—Чарнігаў. Па інвентары Бабруйскага староства 1639 г. 33 валокі зямлі, з якіх 21 пустая. Пад 1879 г. пазначана ў ліку сялянняў Чыркавіцкага царк. прыхода. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1885 г. 76 двароў, 556 жыхароў. Паводле перапісу 1897 г. 148 двароў, 826 жыхароў, хлебазапасны магазін, капліца. У 1908 г. 160 двароў, 1193 жыхары, у Парыцкай вол. Бабруйскага пав. Мінскай губ. У кастр. 1913 г. паміж вяскоўцамі і памешчыкам Пушчыным адбыўся вялікі канфлікт у сувязі з касьбой сенакосу на ўчастку, які кожны бок лічыў сваім. У 1916 г. 179 двароў, 928 жыхароў. З 1921 г. дзейнічала школа. У 1925 г. 192 двары, у Ракшынскім с/с Парыцкага р-на Бабруйскай акругі. У 1929 г. арганізаваны калгас «Чырвоны барацьбіт», працавалі ветраны млын і кузня. У 1940 г. 215 двароў. У Вял. Айч. вайну ў чэрв. 1944 г. фаш. акупанты поўнасцю спалілі вёску і загубілі 57 жыхароў. У вызваленні вёскі ў 1944 г. ўдзельнічалі караблі Дняпроўскай ваен. флатыліі. Паводле перапісу 1959 г. 768 жыхароў. Размешчаны б-ка, фельч.-акушэрскі пункт, клуб, аддз. сувязі. Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ, да цэнтра якой далучаецца завулак. Забудова двухбаковая, пераважна драўляная, сядзібнага тыпу.

**ІСКРА** — вёска ў Чыркавіцкім с/с, за 5 км на Пн ад Светлагорска, 6 км ад чыг. ст. Светлагорск-на-Бярэзіне, 115 км ад Гомеля, у межах гідралагічнага заказніка мясц. значэння «Выдрыца». Транспартныя сувязі па прасёлачнай, а потым аўтадарогах, якія адыходзяць ад Светлагорска. 49 гаспадарак, 72 жыхары (2004 г.).

Засн. ў пач. 1920-х гг. перасяленцамі з суседніх вёсак на былых памешчыцкіх землях. У 1930 г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. Паводле перапісу 1959 г. 374 жыхары. Размешчаны падсобная гаспадарка ААТ «Светлагорскі цэлюлозна-кардонны камбінат», фельч.-акушэрскі пункт, клуб. Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ. Забудова двухбаковая, драўляная, сядзібнага тыпу.

**КАЗЛОЎКА** — вёска, цэнтр Казлоўскага с/с, за 33 км на ПнЗ ад Светлагорска, 30 км ад чыг. ст. Светлагорск-на-Бярэзіне, 143 км ад Гомеля. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, а потым аўтадарозе Парычы—Азарычы. 314 гаспадарак, 738 жыхароў (2004 г.).

Паводле пісьмовых крыніц вядома з 19 ст. як сяленне ў Парыцкай вол. Бабруйскага пав. Мінскай губ. Пад 1879 г. пазначана ў ліку сялянняў Парыцкага царк. прыхода. Паводле перапісу 1897 г. 98 двароў, 570 жыхароў, капліца, хлебазапасны магазін. У 1908 г. 215 двароў, 800 жыхароў. У 1917 г. 834 жыхары. З 1931 г. цэнтр Казлоўскага с/с Парыцкага, з 29.7.1961 г. Светлагорскага р-наў Бабруйскай акругі (да 26.7.1930), з 20.2.1938 г. Палескай, з 20.9.1944 г. Баб-

руйскай, з 8.1.1954 г. Гомельскай абласцей. У 1930 г. арганізаваны калгас «2-я пяцігодка», працавала кузня. 13 вяскоўцаў былі беспадстаўна рэпрэсіраваны. У Вял. Айч. вайну фаш. акупанты ў 1944 г. часткова спалілі вёску. Паводле перапісу 1959 г. 770 жыхароў. Цэнтр КСУП «Парычы». Размешчаны пач. школа, клуб, фельч.-акушэрскі пункт, б-ка, дзіцячы сад, аддз. сувязі, сталовая, магазін. Планіровачна складаецца з прамалінейнай шыротнай вуліцы, да якой з Пд пад прамым вуглом далучаецца другая вуліца. Забудова двухбаковая, драўляная, сядзібнага тыпу. У 1986—92 гг. узведзена 105 мураваных дамоў, у якіх размясціліся перасяленцы з мясцін, забруджаных радыяцыяй пасля Чарнобыльскай катастрофы. Радзіма выдатніка аховы здароўя БССР Д.І.Літвіновіча.

У склад Казлоўскага с/с да 1935 г. ўваходзілі хутары Ваганішчы, Майданаў, Рудабельцаў, Свінакракаў, Уручча, да 1936 г. — хутары Дубкі, Прудзішчы, Старына, Улоссе, Цыганскія Горы, да 1937 г. — пас. Чарвякоў, хутары Высокае, Вярхлессе, Гарадзец, Гаршыполе, Гарэлае Балота, Ґушчаў, Дзяружніца, Залаўе, Камунар, Камянец, Каробішча, Курылаў, Маеўскі, Мядзведня, Паплаўцы, Першамайскі, да 1939 г.— хутары Зубрэц, Сімены, да 1945 г. — Ворацень, да 1950 г. — в. Смаляніца, да 1992 г. — в. Старая Беліца (не існуюць).





*К.Л.Камынін.*

*А.І.Яршоў.*

**КАРАЛЕВА СЛАБАДА I** (Каралёва Слабада I) — вёска ў Краснаўскім с/с, за 53 км на ПнЗ ад Светлагорска, 23 км ад чыг. ст. Светлагорск-на-Бярэзіне (на лініі Жлобін—Калінкавічы), 163 км ад Гомеля, на р. Бярэзіна (прыток р. Дняпро). Транспартныя сувязі па прасёлачнай, а потым аўтадарозе Бабруйск—Калінкавічы. 22 гаспадаркі, 48 жыхароў (2004 г.).

Выяўленыя археолагамі паселішчы каменнага веку (за 0,25 км на ПдУ ад вёскі) і ранняга мезаліту (8—6-е тысячагоддзі да н.э., за 0,5 км на ПдУ ад вёскі, на другой надпоймавай тэрасе правага берага Бярэзіны) сведчаць аб дзейнасці тут чалавека з глыбокай старажытнасці. Сучасная вёска паводле пісьмовых крыніц вядома з 18 ст. як сяленне ў Парыцкай вол. Бабруйскага пав. Мінскай губ. Дзейнічала Благавешчанская царква (драўляная, на каменным падмурку, у ёй захоўваліся метрычныя кнігі з 1823, перабудавана ў 1869). Паводле перапісу 1897 г. 42 двары, 234 жыхары, карчма. У 1902 г. ўзведзены будынак і пачаліся заняткі ў царк.-прыходскай школе. У 1908 г. сяло Слабада Каралеўская, 47 двароў, 379 жыхароў. У 1921 г. пачала дзейнічаць пач. школа. У 1925 г. 79 двароў. З 20.8.1924 г. да 24.9.1926 г. цэнтр Каралеваслабодскага с/с Парыцкага р-на. У 1930 г. арганізаваны калгас «Жнівень», працавалі кузня і ваўначоска. Паводле перапісу 1959 г. 208 жыхароў. Размешчаны базавая школа, клуб, магазін. Планіровачна складаецца з прамалінейнай мерыдыянальнай вуліцы, да якой на Пн далучаецца завулак. Забудова драўляная, двухбаковая, сядзібнага тыпу. Радзіма актыўнага ўдзельніка партыз. руху на Міншчыне ў Вял. Айч. вайну М.І.Каўпакова (загінуў у баі). Яго імя носіць адна з вуліц в. Коўцічы I.

**КАРАЛЕВА СЛАБАДА II** (Каралёва Слабада II) — вёска ў Краснаўскім с/с, за 27 км на ПнЗ ад Светлагорска, 164 км ад Гомеля, 24 км ад чыг. ст. Светлагорск-на-Бярэзіне (на лініі Жлобін—Калінкавічы). Транспартныя сувязі па прасёлачнай, а затым аўтадарозе Бабруйск—Калінкавічы. 62 гаспадаркі, 141 жыхар (2004 г.).

Паводле пісьмовых крыніц вядома з 19 ст. як сяленне ў Парыцкай вол. Бабруйскага пав. Мінскай губ. Буйным землеўладальнікам у вёсцы ў 1872 г. быў памешчык С.Прушаноўскі. У 1885 г. 13 двароў, 108 жыхароў, царква. Паводле перапісу 1897 г. 22 двары, 146 жыхароў. У 1908 г. 26 двароў, 178 жыхароў. У 1917 г. 189 жыхароў. У 1925 г. 39 двароў. У 1931 г. арганізаваны калгас. У Вял. Айч. вайну дзейнічала падп. патрыят. група.

Паводле перапісу 1959 г. 344 жыхары. Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, блізкай да мерыдыянальнай арыентацыі, забудова двухбаковая, драўляная.

**КАРАНІ** — вёска ў Давыдаўскім с/с, за 30 км на ПдЗ ад Светлагосрка, 10 км ад чыг. ст. Астанкавічы (на лініі Жлобін—Калінкавічы), 143 км ад Гомеля, на р. Іпа (прыток р. Трэмля), на 3 меліярацыйныя каналы. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Калінкавічы—Бабруйск. 216 гаспадарак, 525 жыхароў (2004 г.).

Паводле пісьмовых крыніц вядома з 18 ст. як сяленне ў Мазырскім пав. Мінскага ваяв. У 1737 г. ў складзе маёнтка Ліпаў, ва ўладанні Горватаў. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1834 г. 197 жыхароў. Праз вёску праходзіў тракт з Рагачова на Валынь, мелася паштовая станцыя (8 экіпажаў). У 1850 г. 42 двары. Пад 1879 г. пазначана ў ліку сяленняў Ліпаўскага царк. прыхода. У 1885 г. 267 жыхароў. Паводле перапісу 1897 г. 420 жыхароў, царква, капліца, школа граматы, хлебазапасны магазін, крама. Побач былі аднайменныя пасёлак (7 двароў, 40 жыхароў) і фальварак. У 1908 г. 93 двары, 455 жыхароў, у Карпавіцкай вол. Рэчыцкага пав. Дзейнічала царк.-прыходская школа (размяшчалася ў наёмнай сял. хаце). З 20.8.1924 г. да 5.10.1926 г. цэнтр Каранеўскага с/с Азарыцкага р-на Мазырскай акругі. Дзейнічала пач. школа, у якой у 1935 г. навучаліся 97 хлопчыкаў і дзяўчынак. У 1930 г. арганізаваны калгас «Дзень ураджаю», працаваў ветраны млын. У 1930-я гг. 7 вяскоўцаў былі беспадстаўна рэпрэсіраваны. У Вял. Айч. вайну ў баях каля вёскі загінулі 649 сав. воінаў, у іх ліку Героі Сав. Саюза К.Л.Камынін і А.І.Яршоў (пахаваны ў брацкай магіле на паўн. ускраіне). У 1949 г. разведачная свідравіна засведчыла наяўнасць нафты ў гэтых мясцінах. Паводле перапісу 1959 г. 476 жыхароў. Размешчаны пач. школа, б-ка, фельч.-акушэрскі пункт, Дом культуры, аддз. сувязі. Планіровачна складаецца з працяглай прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ, забудова двухбаковая, пераважна драўляная. У 1990—91 гг. узведзены 171 мураваны, катэджнага тыпу дом, у якіх размясціліся перасяленцы з мясцін, забруджаных радыяцыяй пасля Чарнобыльскай катастрофы, пераважна з Кармянскага р-на. Радзіма аднаго з кіраўнікоў Мінскага падполля ў Вял. Айч. вайну В.С.Жудро. Яго імя носіць вуліца ў Мінску.



*Школа-сад у в. Карані.*



*Помнік на брацкай магіле савецкіх воінаў і партызан у в. Карані.*

**КАРПАВІЧЫ** — вёска ў Асташкавіцкім с/с, за 25 км на ПдЗ ад Светлагорска, 3 км ад чыг. ст. Астанкавічы (на лініі Жлобін—Калінкавічы), 135 км ад Гомеля, на У і Пд меліярацыйныя каналы. Аўтадарога звязвае вёску са Светлагорскам. 98 гаспадарак, 174 жыхары (2004 г.).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 16 ст. як сяленне ў Рэчыцкім пав. Мінскага ваяв. ВКЛ. Упамінаецца ў 1526—27 гг. у

матэрыялах аб канфліктах паміж Літвой і Маскоўскай дзяржавай. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1795 г. 23 двары. Пад 1879 г. пазначана ў ліку сяленняў Ліпаўскага царк. прыхода. У 1885 г. 38 двароў, 192 жыхары. На сядзібе Ворсічы, што была побач, дзейнічалі вінакурня, вадзяны млын, на сядзібеПератрутавічы — царква. Была цэнтрам воласці, у склад якой у 1885 г. ўваходзіла 21 сяленне з 511 дварамі. Паводле перапісу 1897 г. 381 жыхар, школа граматы, хлебазапасны магазін. З 1911 г. дзейнічаў фельч. пункт. З 20.8.1924 г. да 5.10.1926 г. цэнтр Карпавіцкага с/с Азарыцкага р-на Мазырскай акругі. У 1929 г. арганізаваны калгас. У 1930 г. 96 двароў, 508 жыхароў. Працавала пачатковая школа (у 1935 г. — 143 вучні). У 1930-я гг. 5 вяскоўцаў былі неабгрунтавана рэпрэсіраваны. Паводле перапісу 1959 г. 64 жыхары. Размешчаны б-ка, фельч.-акушэрскі пункт, Дом культуры, цагельны з-д. Планіровачна складаецца з амаль прамалінейнай шыротнай вуліцы, забудова двухбаковая, драўляная. Радзіма бел. мастака П.С.Захарава.



*С.М.Дзікун.*

**КАСТРЫЧНІК** — пасёлак у Казлоўскім с/с, за 32 км на ПнЗ ад Светлагорска, 30 км ад чыг. ст. Светлагорск-на-Бярэзіне (на лініі Жлобін—Калінкавічы), 142 км ад Гомеля, на Пд меліярацыйныя каналы. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Парычы—Азарычы. 33 гаспадаркі, 63 жыхары (2004 г.).

Заснавны ў пач. 1920-х гг. перасяленцамі з суседніх вёсак на былых памешчыцкіх землях. У 1931 г. пасялкоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну дзейнічала патрыят. падп. група. Паводле перапісу 1959 г. 172 жыхары. Забудова кампактная, драўляная.

**КНЫШЭВІЧЫ** — вёска ў Казлоўскім с/с, за 40 км на ПнЗ ад Светлагорска, 37 км ад чыг. ст. Светлагорск-на-Бярэзіне (на лініі Жлобін—Калінкавічы), 150 км ад Гомеля, на р. Рудзянка (прыток р. Нератоўка) і аўтадарозе Акцябрскі—Парычы, на Пд і З меліярацыйныя каналы. 68 гаспадарак, 109 жыхароў (2004 г.)

Паводле пісьмовых крыніц вядома з 16 ст. як сяленне ў Рэчыцкім пав. Мінскага ваяв. ВКЛ. Па інвентары Бабруйскага староства 1639 г. 29 дымоў, 30 валок зямлі, з якіх 15 пустыя. У валоданні езуітаў, казны, а ў 1777 г. прададзена біскупу віленскаму І.Масальскаму. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1795 г. 40 двароў. Пад 1879 г. пазначана ў ліку сяленняў Парыцкага царк. прыхода. Паводле перапісу 1897 г. 74 двары, 477 жыхароў, хлебазапасны магазін, капліца, заезны двор. У 1900 г. адкрыта школа, якая размяшчалася ў наёмнай сял. хаце. У 1908 г. 83 двары, 439 жыхароў, у Парыцкай вол. Бабруйскага пав. Мінскай губ. У 1917 г. 101 двор, 665 жыхароў. У 1925 г. 142 двары. У 1931 г. арганізаваны калгас «Ленінская іскра», працавала кузня. У Вял. Айч. вайну вызвалена ад ням.-фаш. акупантаў 24.6.1944 г., у першы дзень наступлення сав. войск на гэтым участку ў час аперацыі «Баграціён». Паводле перапісу 1959 г. 581 жыхар. Размешчаны б-ка, клуб. Планіровачна складаецца з 2 прамалінейных паралельных вуліц, арыентаваных з ПдУ на ПнЗ і злучаных завулкам. Забудова двухбаковая, драўляная, сядзібнага тыпу. Радзіма Героя Сац. Працы С.М.Дзікуна. Яго імя носіць адна з вуліц Шклова.

**КОЎЦІЧЫ I** — вёска ў Краснаўскім с/с, за 53 км на ПнЗ ад Светлагорска, 12 км ад чыг. ст. Мошны (на ветцы Бабруйск—Рабкор ад лініі Асіповічы—Жлобін), 163 км ад Гомеля, на У і З мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Бабруйск—Рэчыца. 60 гаспадарак, 138 жыхароў (2004 г.).

Паводле пісьмовых крыніц вядома з 16 ст. як вёска ў Рэчыцкім пав. Мінскага ваяв. ВКЛ. У 1-й трэці 17 ст. 12 службаў, 40 валок зямлі. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас.

імперыі. Значыцца на карце 1866 г., якой карысталася Зах. меліярацыйная экспедыцыя, што працавала ў гэтых мясцінах у 1890-я гг. Пад 1879 г. пазначана ў ліку сяленняў Каралеўскаслабодскага царк. прыхода. У 1908 г. 59 двароў, 373 жыхары, у Брожскай вол. Бабруйскага пав. Мінскай губ. У гэтым жа годзе адкрыта школа, якая размяшчалася ў наёмнай сял. хаце. У 1925 г. 78 двароў. У 1930 г. арганізаваны калгас імя Леніна, працавалі паравы млын, 2 кузні. У Вял. Айч. вайну 11.4.1942 г. ў баі каля вёскі загінулі 9 партызан (пахаваны ў брацкай магіле на могілках). Паводле перапісу 1959 г. 521 жыхар. Размешчаны фельч.-акушэрскі пункт. Планіровачна складаецца з дугападобнай шыротнай вуліцы, да якой на У і З далучаюцца 3 завулкі. Забудова двухбаковая, драўляная, сядзібнага тыпу. Адна з вуліц носіць імя М.І.Каўпакова — ураджэнца в. Каралеўская Слабада I, актыўнага ўдзельніка партыз. руху ў Мінскай вобл.

**КОЎЦІЧЫ II** — вёска ў Краснаўскім с/с, за 53 км на ПнЗ ад Светлагорска, 13 км ад чыг. ст. Мошны (на ветцы Бабруйск—Рабкор ад лініі Асіповічы—Жлобін), 163 км ад Гомеля, на У мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Бабруйск—Рэчыца. 113 гаспадарак, 248 жыхароў (2004 г.).

Выяўлены археолагамі на паўн.-зах. ускраіне, ва ўрочышчы Курганне курганны могільнік (228 моцна апоўзлых насыпаў) сведчыць аб дзейнасці чалавека ў гэтых мясцінах з глыбокай старажытнасці. Сучасная вёска вядома паводле пісьмовых крыніц з 19 ст. як сяленне ў Брожскай вол. Бабруйскага пав. Мінскай губ. У 1885 г. 24 двары, 448 жыхароў. У 1908 г. 96 двароў, 671 жыхар. У 1919 г. адкрыта школа, для якой быў выдзелены нацыяналізаваны будынак. У 1925 г. 118 двароў. З 20.8.1924 г. да 16.7.1954 г. цэнтр Коўціцкага с/с Парыцкага (з 29.7.1961 Светлагорскага) р-на Бабруйскай (да 26.7.1930) акругі, з 20.2.1938 г. Палескай, з 8.1.1954 г. Гомельскай абласцей. У 1929 г. арганізаваны калгас. У Вял. Айч. вайну фаш. карнікі 19.1.1942 г. загубілі 318 жыхароў. У баях супраць акупантаў у снеж. 1943 г. загінулі 190 воінаў 37-й гв. стралк. дывізіі і партызан атрада імя С.М.Кірава 37-й партыз. брыгады імя Пархоменкі (пахаваны ў брацкай магіле на паўн.-зах. ускраіне). У 1944 г. да вёскі далучаны в. Баранні Рог і пас. Прудзішчы. Паводле перапісу 1959 г. 459 жыхароў. Размешчаны лясніцтва, шавецкая майстэрня, сярэдняя школа, Дом культуры, б-ка, фельч.-акушэрскі пункт, аддз. сувязі, магазін, дзіцячы сад. Планіровачна складаецца з дугападобнай шыротнай вуліцы, да якой з Пд далучаецца кароткая вуліца. Забудова двухбаковая, пераважна драўляная, сядзібнага тыпу. Радзіма бел. мастака В.І.Баранава.

**КРАСНАЎКА** — вёска, цэнтр Краснаўскага с/с, за 45 км на ПнЗ ад Светлагорска, 22 км ад чыг. ст. Мошны (на ветцы Бабруйск—Рабкор ад лініі Асіповічы—Жлобін), 115 км ад Гомеля, на р. Бярэзіна (прыток р. Дняпро). Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Бабруйск—Светлагорск. 100 гаспадарак, 212 жыхароў (2004 г.).

Выяўленыя археолагамі паселішчы эпохі мезаліту, што датуюцца 8—5 тысячагоддзямі да н.э. (100 м на ПнЗ і 250 м на ПдУ ад вёскі, на першай надпоймавай тэрасе правага берага Бярэзіны) сведчаць аб дзейнасці чалавека ў гэтых мясцінах з глыбокай старажытнасці. Паводле пісьмовых крыніц вядома з 18 ст. як сяленне ў Рэчыцкім пав. Мінскай губ. У 1811 г. ва ўладанні памешчыка Гольста. Пад 1879 г. пазначана ў ліку сяленняў Каралеўскаслабодскага царк. прыхода. Працавала лесапільня Паўднёварускага лесапрамысловага таварыства. У 1908 г. 68 двароў, 314 жыхароў, у Парыцкай вол. Бабруйскага пав. У 1910 г. адкрыта школа, якая размяшчалася ў наёмнай сял. хаце, у 1914 г. яна займела ўласны будынак. У 1917 г. 386 жыхароў. У 1925 г. 81 двор. У 1930 г. арганізаваны



Школа ў Краснаўцы.



Крама ў Краснаўцы.

калгас «Культура», працаваў ветраны млын. У 1939 г. ў вёску сселены хут. Запруддзе. З 16.7.1954 г. цэнтр Краснаўскага с/с Парыцкага, з 29.7.1961 г. Светлагорскага р-наў. Паводле перапісу 1959 г. 308 жыхароў. Размешчаны сярэдняя школа, клуб, б-ка, фельч.-акушэрскі пункт, аддз. сувязі, магазін. Планіровачна складаецца з амаль прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ. Забудова двухбаковая, няшчыльная, драўляная, сядзібнага тыпу. У 1987 г. ўзведзена 50 мураваных дамоў, у якіх размясціліся перасяленцы з мясцін, забруджаных радыяцыяй пасля Чарнобыльскай катастрофы.

На тэр. Краснаўскага с/с знаходзіліся: да 1933 г. — в. Журын, якая пасля пераезду жыхароў у в. Казакова Вішнёўскага с/с Бабруйскага р-на перастала існаваць, да 1935 г. — хут. Коласаў, да 1936 г. — хут. Мехаў, пас. Сялец, да 1939 г. — пас. Будзішчы, хутары Запруддзе і Стражы, у Вял. Айч. вайну спалена акупантамі і не аднавілася в. Козы, да 1944 г. — в. Баранні Рог, пас. Прудзішчы (не існуюць).

**КРУКІ** — вёска ў Краснаўскім с/с, за 58 км на ПнЗ ад Светлагорска, 9 км ад чыг. ст. Мошны (на ветцы Бабруйск—Рабкор ад лініі Асіповічы—Жлобін), 201 км ад Гомеля, вакол лес. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Пратасы—Парычы. 48 гаспадарак, 74 жыхары (2004 г.).

Паводле пісьмовых крыніц вядома з 19 ст. як сяленне ў Брожскай вол. Бабруйскага пав. Мінскай губ. Пазначана на карце 1866 г., якой карысталася Зах. меліярацыйная экспедыцыя, што працавала ў гэтых месцах у 1890-я гг. Пад 1879 г. пазначана ў ліку сяленняў Каралеўскаслабодскага царк. прыхода. У 1908 г. 51 двор, 331 жыхар, фельч. пункт. У 1924 г. адкрыта школа, якая размяшчалася ў наёмнай сял. хаце. У 1925 г. 77 двароў, у Коўціцкім с/с Парыцкага р-на Бабруйскай акругі. У 1930 г. арганізаваны калгас. Паводле перапісу 1959 г. 485 жыхароў. Планіровачна складаецца з дугападобнай вуліцы, блізкай да мерыдыянальнай арыентацыі. Забудова двухбаковая, няшчыльная, драўляная, сядзібнага тыпу.

**ЛІПНІКІ** — вёска ў Казлоўскім с/с, за 36 км на ПнЗ ад Светлагорска, 34 км ад чыг. ст. Светлагорск-на-Бярэзіне (на лініі Жлобін—Калінкавічы), 146 км ад Гомеля, на У сетка меліярацыйных каналаў, на Пн мяжуе з лесам. Побач аўтадарога Парычы—Азарычы. 14 гаспадарак, 18 жыхароў (2004 г.).

Выяўлены археолагамі курганны могільнік (16 насыпаў, за 0,3 км на Пн ад вёскі) сведчыць аб дзейнасці тут чалавека з далёкай старажытнасці. Сучасная вёска вядома з 19 ст. як сяленне ў Парыцкай вол. Бабруйскага пав. Мінскай губ. Паводле перапісу 1897 г. засценак, 26 двароў, 189 жыхароў. У 1908 г. 30 двароў. У 1917 г. 34 гаспадаркі, 216 жыхароў. У 1921 г. адкрыта школа. У 1925 г. 50 двароў. У 1931 г. арганізаваны калгас «Орка», працавала кузня. 16 вяскоўцаў былі беспадстаўна рэпрэсіраваны. У 1940 г. 66 двароў. У Вял. Айч. вайну ў лют. 1943 г. фаш. акупанты поўнасцю

спалілі вёску і загубілі 11 жыхароў. Паводле перапісу 1959 г. 186 жыхароў. У складзе КСУП «Парычы» (цэнтр — в. Казлоўка). Планіровачна складаецца з кароткай прамалінейнай вуліцы, блізкай да мерыдыянальнай арыентацыі. Забудова двухбаковая, няшчыльная, драўляная, сядзібнага тыпу. Радзіма бел. мастака І.А.Кісялеўскага.

**ЛЯДЦЫ** — вёска ў Мікалаеўскім с/с, за 62 км на З ад Светлагорска, 60 км ад чыг. ст. Светлагорск-на-Бярэзіне (на лініі Жлобін—Калінкавічы), 172 км ад Гомеля, на З сетка меліярацыйных каналаў, на У мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Глуск—Палессе. 63 гаспадаркі, 102 жыхары (2004 г.).

Паводле пісьмовых крыніц вядома з 18 ст. як сяленне ў Мазырскім пав. Мінскага ваяв. У 1737 г. ў складзе маёнтка Ліпаў, ва ўладанні Горватаў. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1795 г. 12 двароў. У 1850 г. 18 двароў. У 1872 г. памешчыца П.Васькова мела тут 2136 дзес. ворыва і лесу, а таксама 1019 дзес. рознай зямлі, якая не апрацоўвалася. У 1930 г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У 1939 г. да вёскі былі далучаны пасёлкі Бліжняе Грыздоўе, Высокі Дуб, Гарадзец, Густая Дуброва, Дальняе Грыздоўе, Карма, Панскія Глевы і хут. Глеўскі Востраў, а ў 1950 г. — пасёлкі Малыя Лядцы і Падстарышчы. Паводле перапісу 1959 г. 489 жыхароў. Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ, да якой пад прамым вуглом далучаецца кароткая прамалінейная вуліца. На Пд ад гал. вуліцы размешчаны невялікі адасоблены ўчастак забудовы. Будынкі драўляныя, сядзібнага тыпу, пастаўлены двухбакова, няшчыльна.

**МАЙСЕЕЎКА** — вёска ў Казлоўскім с/с, за 40 км на ПнЗ ад Светлагорска, 37 км ад чыг. ст. Светлагорск-на-Бярэзіне (на лініі Жлобін—Калінкавічы), 143 км ад Гомеля, на Пд мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Бабруйск—Светлагорск. 115 гаспадарак, 245 жыхароў (2004 г.).

Паводле пісьмовых крыніц вядома з 19 ст. як сяленне ў Парыцкай вол. Бабруйскага пав. Мінскай губ. Маёнтак Майсееўка ў 1872 г. ў валоданні памешчыцы В.Ваяводскай. Пад 1879 г. пазначана ў ліку сяленняў Каралеўскаслабодскага царк. прыхода. У 1908 г. 29 двароў, 211 жыхароў. У 1910 г. адкрыта школа, якая размяшчалася ў наёмнай сял. хаце. У 1917 г. 42 двары, 306 жыхароў. Побач была аднайменная аколіца, 31 двор, 143 жыхары. У 1925 г. ў вёсцы і аколіцы 69 двароў. У 1931 г. арганізаваны калгас «Звязда», працавала кузня. 13 вяскоўцаў былі беспадстаўна рэпрэсіраваны. Паводле перапісу 1959 г. 453 жыхары. Цэнтр КСУП «Залессе». Размешчаны сярэдняя школа, Дом культуры, б-ка, фельч.-акушэрскі пункт, аддз. сувязі, сталовая, магазін. Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ, на У якой далучаецца прамалінейная вуліца, блізкай да мерыдыянальнай арыентацыі. Забудова двухбаковая, драўляная, сядзібнага тыпу.

**МАЛАЯ ЛЮДЗВІНАЎКА** — вёска ў Давыдаўскім с/с, за 22 км на ПдЗ ад Светлагорска, 6 км ад чыг. ст. Вузнаж (на лініі Жлобін—Калінкавічы), 119 км ад Гомеля, на У меліярацыйныя каналы, злучаныя з р. Сведзь (прыток р. Бярэзіна). Аўтадарога звязвае вёску са Светлагорскам і Парычамі. 42 гаспадаркі, 71 жыхар (2004 г.).

Паводле пісьмовых крыніц вядома з 18 ст. як сяленне ў Мазырскім пав. Мінскага ваяв. У 1737 г. ў складзе маёнтка Ліпаў, ва ўладанні Горватаў. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. Паводле перапісу 1897 г. 12 двароў, 127 жыхароў, у Карпавіцкай вол. Рэчыцкага пав. Мінскай губ. Побач была сядзіба Людзвінаўка. У 1929 г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. Паводле перапісу 1959 г. 156 жыхароў. У 1962 г. да вёскі далучаны пас. Новы Быт. Планіровач-

на складаецца з прамалінейнай мерыдыянальнай вуліцы, забудова двухбаковая, драўляная, сядзібнага тыпу.

**МАЛІМОНЫ** — вёска ў Краснаўскім с/с, за 48 км на ПнЗ ад Светлагорска, 25 км ад чыг. ст. Мошны (на ветцы Бабруйск—Рабкор ад лініі Асіповічы—Жлобін), 118 км ад Гомеля, вакол лес. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Бабруйск—Рэчыца. 15 гаспадарак, 19 жыхароў (2004 г.).

Паводле пісьмовых крыніц вядома з 19 ст. як сяленне ў Парыцкай вол. Бабруйскага пав. Мінскай губ. Буйным землеўладальнікам у вёсцы ў 1872 г. быў памешчык С.Прушаноўскі. Паводле перапісу 1897 г. 28 двароў, 189 жыхароў. У 1917 г. 45 двароў, 235 жыхароў. У 1925 г. 50 двароў. У 1929 г. арганізаваны калгас. У 1939 г. ў вёску быў сселены хут. Стражы. У 1940 г. 62 двары, 201 жыхар. У Вял. Айч. вайну фаш. карнікі ў ліст. 1943 г. загубілі 118 жыхароў (пахаваны ў магіле на паўн. ускраіне) і поўнасцю спалілі вёску. Паводле перапісу 1959 г. 206 жыхароў. Планіровачна складаецца з кароткай прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ. Забудова двухбаковая, драўляная, сядзібнага тыпу.

**МАРМАРЫЧЫ** — вёска ў Давыдаўскім с/с, за 23 км на ПдЗ ад Светлагорска, 124 км ад Гомеля, 8 км ад чыг. ст. Вузнаж (на лініі Жлобін—Калінкавічы). Аўтадарога звязвае вёску са Светлагорскам і Калінкавічамі. 74 гаспадаркі, 122 жыхары (2004 г.).

Паводле пісьмовых крыніц вядома з 16 ст. як сяленне ў Мазырскім пав. Мінскага ваяв. ВКЛ, шляхецкая ўласнасць. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1795 г. 4 двары. У 1834 г. 27 двароў, 157 жыхароў. Пад 1879 г. пазначана як сяленне ў Яўтушкавіцкім царк. прыходзе. Паводле перапісу 1897 г. 261 жыхар, хлебазапасны магазін. У 1908 г. 54 двары, 351 жыхар, у Карпавіцкай вол. Рэчыцкага пав. Мінскай губ. У 1917 г. адкрылася земская школа, размешчаная ў наёмнай сял. хаце. У 1925 г. 100 двароў. У 1930 г. арганізаваны калгас імя В.В.Вароўскага, працавала кузня. У Вял. Айч. вайну ў баях у 1943—44 гг. за вёску і наваколле загінуў 951 воін і партызан (пахаваны ў брацкай магіле на паўн. ускраіне). Паводле перапісу 1959 г. 557 жыхароў. Размешчаны б-ка, фельч.-акушэрскі пункт, клуб. Планіровачна складаецца з крывалінейнай, рэдка забудаванай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ, да якой далучаюцца 2 прамалінейныя паралельныя вуліцы. Забудова драўляная, сядзібнага тыпу.

**МАРТЫНАВІЧЫ** — вёска ў Давыдаўскім с/с, за 33 км на ПдЗ ад Светлагорска, 8 км ад чыг. ст. Астанкавічы (на лініі Жлобін—Калінкавічы), 110 км ад Гомеля, на р. Іпа (прыток р. Трэмля), на З меліярацыйныя каналы. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Калінкавічы—Бабруйск. 28 гаспадарак, 50 жыхароў (2004 г.).

Паводле пісьмовых крыніц вядома з 19 ст. як сяленне ў Карпавіцкай вол. Рэчыцкага пав. Мінскай губ. У 1834 г. 16 двароў, 109 жыхароў. Пад 1879 г. пазначана як сяленне ў Ліпаўскім царк. прыходзе. Паводле перапісу 1897 г. 19 двароў, 150 жыхароў, хлебазапасны магазін. У 1908 г. 33 двары, 208 жыхароў. З 5.10.1926 г. да 1939 г. цэнтр Мартынавіцкага с/с Азарыцкага, з 8.7.1931 г. Мазырскага, з 12.2.1935 г. Даманавіцкага р-наў Мазырскай (да 26.7.1930 і 21.6.1935—20.2.1938) акругі, з 20.2.1938 г. Палескай вобл. У 1931 г. арганізаваны калгас «Чырвоны шлях», працавалі вятрак і конная крупарушка. Дзейнічала пач. школа, у якой у 1935 г. навучаліся 75 дзяцей. У 1940 г. 50 двароў. У Вял. Айч. вайну ў студз. 1943 г. фаш. акупанты спалілі 47 двароў і загубілі 15 жыхароў. Паводле перапісу 1959 г. 272 жыхары. Планіровачна складаецца з кароткай прамалінейнай шыротнай вуліцы, забудова няшчыльная, драўляная, сядзібнага тыпу.

**МАРТЫНАЎКА** (да 1925 Гумнішча) — вёска ў Палескім с/с, за 25 км на

У ад Светлагорска, 26 км ад чыг. ст. Светлагорск-на-Бярэзіне (на лініі Жлобін—Калінкавічы), 126 км ад Гомеля, на Пд, Пн і З меліярацыйныя каналы. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Парычы—Палессе. 9 гаспадарак, 13 жыхароў (2004 г.).

Паводле пісьмовых крыніц вядома з 19 ст. як сяленне ў Чэрнінскай вол. Бабруйскага пав. Мінскай губ. У 1850 г. 2 двары, 14 жыхароў, у складзе казённага маёнтка. Пад 1879 г. пазначана ў ліку сяленняў Дуброўскага царк. прыхода. Паводле перапісу 1897 г. хут. Гумнішча (ён жа Мартынаўка), 4 двары, 41 жыхар. У 1909 г. 8 двароў, 60 жыхароў. У 1925 г. 15 двароў. У 1931 г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. Паводле перапісу 1959 г. 66 жыхароў. Складаецца з кароткай вуліцы, блізкай да шыротнай арыентацыі. Забудова драўляная, сядзібнага тыпу.

**МЕДЗВЕДАЎ** — вёска ў Печышчанскім с/с, за 9 км на ПдЗ ад Светлагорска, 10 км ад чыг. ст. Светлагорск-на-Бярэзіне (на лініі Жлобін—Калінкавічы), 119 км ад Гомеля, вакол меліярацыйныя каналы, якія цераз канал Медзведаўскі, злучаны з р. Віша. Побач аўтадарога Горкі—Светлагорск. 67 гаспадарак, 223 жыхары (2004 г.).

Засн. ў пач. 20 ст. перасяленцамі з суседніх вёсак. У 1908 г. 2 двары, 22 жыхары, у Карпавіцкай вол. Рэчыцкага пав. Мінскай губ. У 1931 г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. Паводле перапісу 1959 г. 139 жыхароў. Размешчаны пач. школа і фельч.-акушэрскі пункт. Планіровачна складаецца з кароткай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ, якая перакрыжоўваецца другой кароткай вуліцай. Забудова драўляная, сядзібнага тыпу.

**МЕХАЎШЧЫНА** — вёска ў Палескім с/с, за 22 км на ПдЗ ад Светлагорска, 23 км ад чыг. ст. Светлагорск-на-Бярэзіне (на лініі Жлобін—Калінкавічы), 132 км ад Гомеля, на У меліярацыйныя каналы. Аўтадарога звязвае вёску са Светлагорскам і Парычамі. 15 гаспадарак, 18 жыхароў (2004 г.).

Паводле пісьмовых крыніц вядома з 18 ст. як сяленне ў Мазырскім пав. Мінскага ваяв. Пад 1778 г. пазначана як сяленне ў Азарыцкай царк. парафіі. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1795 г. 23 двары. У 1917 г. 64 двары, 423 жыхары, у Азарыцкай вол. Мазырскага пав. Мінскай губ. У 1919 г. адкрыта школа, якая размяшчалася ў наёмнай сял. хаце. У 1925 г. 86 гаспадарак. У 1929 г. арганізаваны калгас. У 1940 г. 90 двароў. У Вял. Айч. вайну ў студз. 1943 г. фаш. акупанты спалілі 87 двароў і загубілі 51 жыхара. Паводле перапісу 1959 г. 239 жыхароў. Планіровачна складаецца з кароткай дугападобнай вуліцы, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ, забудова двухбаковая, няшчыльная, драўляная, сядзібнага тыпу.

**МІКАЛАЕЎКА** (да 1925 Кадаш) — вёска, цэнтр Мікалаеўскага с/с, за 50 км на З ад Светлагорска, 48 км ад чыг. ст. Светлагорск-на-Бярэзіне (на лініі Жлобін—Калінкавічы), 160 км ад Гомеля. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Парычы—Азарычы. 123 гаспадаркі, 343 жыхары (2004 г.).

Паводле пісьмовых крыніц вядома з 19 ст. як сяленне ў Парыцкай вол. Бабруйскага пав. Мінскай губ. Паводле перапісу 1897 г. в. Мікалаеўка (яна ж Кадаш), 46 двароў, 287 жыхароў. У 1930 г. арганізаваны калгас «Пралетарый», працавала кузня. У 1940 г. 70 двароў. У Вял. Айч. вайну дзейнічала падп. патрыят. група. У чэрв. 1944 г. фаш. акупанты спалілі 68 двароў і загубілі 65 жыхароў. Вызвалена 24.6.1944 г., у першы дзень наступлення 65-й арміі ў час аперацыі «Баграціён». З 12.7.1973 г. цэнтр Мікалаеўскага с/с Светлагорскага р-на Гомельскай вобл. Паводле перапісу 1959 г. 241 жыхар. Размешчаны сярэдняя школа, Дом культуры, б-ка, сталовая, магазін, фельч.-акушэрскі пункт, дзіцячы сад, аддз. сувязі. Планіровачна складаецца з прамалінейнай шыротнай вуліцы, да якой на З далучаецца кароткая мерыдыянальная вуліца. Забудова двухбако-

вая, няшчыльная, драўляная, сядзібнага тыпу. У 1987 г. ўзведзены 54 мураваныя, катэджнага тыпу дамы, у якіх размясціліся перасяленцы з мясцін, забруджаных радыяцыяй пасля Чарнобыльскай катастрофы.

На тэр. Мікалаеўскага с/с знаходзіліся да 1939 г. пасёлкі Бліжняе Грыздоўе, Бяльчо, Вітаў Брод, Высокі Дуб, Гварадзец, Гарды, Густая Дуброва, Дальняе Грыздоўе, Карма, Масцішча, Падстарышчы, Польскія Глевы, Радзін, Сецішчы, Шчацін, хутары Амяллянаў Хутар, Андрэеў Луг, Асінаўка, Баўкуноўка, Брышчы, Восаў, Глажань, Глеўскі Востраў, Доўгая Ніва, Драчы, Заброддзе, Заельніцкі, Займішчы, Залавішчы, Залессе, Залужжа, Замятынне, Замосце, Замошша, Заполле, Захар'ін Хутар, Захваткі, Заход, Еськаўшчына, Крукава, Паляна, Майдан, Маркаў Хутар, Масткі, Мецішчы, Ніўкі, Пагацце, Падбродцы, Падклетка, Падмлынне, Падраманішчы, Радзькоў, Сесін, Сіліны, У Дуба, Унукава Паляна, да 1950 г. — хут. Малыя Лядцы (не існуюць).

**МІХАЙЛАЎКА** — вёска ў Краснаўскім с/с, за 42 км на ПнЗ ад Светлагорска, 39 км ад чыг. ст. Светлагорск-на-Бярэзіне (на лініі Жлобін—Калінкавічы), 152 км ад Гомеля, на р. Бярэзіна (прыток р. Дняпро), на Пд мяжуе з лесам. Побач аўтадарога Бабруйск—Рэчыца. 108 гаспадарак, 277 жыхароў (2004 г.).

Выяўленае археолагамі паселішча эпохі мезаліту (8—5-е тысячагоддзі да н.э., за 250 м на ПдУ ад вёскі, на надпоймавай тэрасе правага берага Бярэзіны) сведчыць аб дзейнасці чалавека ў гэтых мясцінах з глыбокай старажытнасці. Паводле пісьмовых крыніц сучасная вёска вядома з 18 ст. як сяленне ў Бабруйскім пав. Мінскага ваяв. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1795 г. 2 двары. Пад 1879 г. пазначана ў ліку сяленняў Каралеўска-слабодскага царк. прыхода. Паводле перапісу 1897 г. 31 двор, 209 жыхароў, у Парыцкай вол. Бабруйскага пав. Мінскай губ. У 1917 г. 43 двары, 286 жыхароў. У 1925 г. 56 двароў. У 1930 г. арганізаваны калгас «Новая ніва», працавала кузня. У 1940 г. 85 двароў, 480 жыхароў. У Вял. Айч. вайну ў ліст. 1943 г. фаш. акупанты поўнасцю спалілі вёску і загубілі 3 жыхароў. Паводле перапісу 1959 г. 359 жыхароў. Размешчаны Дом культуры, б-ка, швейная майстэрня, магазін, аддз. сувязі. Планіровачна складаецца з крыху выгнутай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ, да якой далучаецца завулак. Забудова двухбаковая, драўляная, сядзібнага тыпу.

**МІХАЙЛАЎКА** (да 1921 Полашаў) — вёска ў Мікалаеўскім с/с, за 50 км на З ад Светлагорска, 48 км ад чыг. ст. Светлагорск-на-Бярэзіне (на лініі Жлобін—Калінкавічы), 160 км ад Гомеля. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Парычы—Азарычы. 9 гаспадарак, 16 жыхароў (2004 г.).

Паводле пісьмовых крыніц вядома з 18 ст. як сяленне ў Бабруйскім пав. Мінскага ваяв. Інвентар Бабруйскага староства называе в. Полашаў у 1765 г. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1925 г. 13 двароў. У 1932 г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. Паводле перапісу 1959 г. 105 жыхароў. Размешчаны дзіцячы сад. Складаецца з кароткай прамалінейнай, блізкай да шыротнай арыентацыі вуліцы. Забудова драўляная, сядзібнага тыпу.

**МОЛЬЧА** — вёска ў Чыркавіцкім с/с, за 7 км на З ад Светлагорска, 8 км ад чыг. ст. Светлагорск-на-Бярэзіне (на лініі Жлобін—Калінкавічы), 117 км ад Гомеля. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Вялікі Бор — Светлагорск. 51 гаспадарка, 80 жыхароў (2004 г.).

Паводле пісьмовых крыніц вядома з 19 ст. як сяленне ў Парыцкай вол. Бабруйскага пав. Мінскай губ. У 1872 г. памешчык П.Пушчын меў тут 6067 дзес. зямлі. Пад 1879 г. пазначана ў ліку сяленняў Чыркавіцкага царк. прыхода. Паводле перапісу 1897 г. 36 двароў, 214 жы-

pароў, капліца. Побач быў аднайменны фальварак. У 1908 г. 42 гаспадаркі, 393 жыхары. У 1916 г. 56 двароў. У 1925 г. 67 двароў. У 1929 г. арганізаваны калгас. Паводле перапісу 1959 г. 385 жыхароў. Размешчаны фельч.-акушэрскі пункт. Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ, да якой з Пн далучаецца больш кароткая прамалінейная вуліца. Забудова двухбаковая, няшчыльная, драўляная, сядзібнага тыпу.

**МОЛЬЧА** — пасёлак у Чыркавіцкім с/с, за 11 км на ПнЗ ад Светлагорска, 12 км ад чыг. ст. Светлагорск-на-Бярэзіне (на лініі Жлобін—Калінкавічы), 121 км ад Гомеля, на Пн і У меліярацыйныя каналы, злучаныя з р. Чырка (прыток р. Жардзянка). Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Парычы—Светлагорск. 37 гаспадарак, 55 жыхароў (2004 г.).

Засн. ў пач. 20 ст. Найбольш актыўная забудова прыпадае на 1920-я гг. У 1925 г. 24 двары, у Чыркавіцкім с/с Парыцкага р-на Бабруйскай акругі. У 1930 г. 34 двары, 184 жыхары. У 1931 г. арганізаваны калгас «Перамога», працавала кузня. Паводле перапісу 1959 г. 261 жыхар. Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ. Забудова двухбаковая, драўляная, сядзібнага тыпу.

**МЫСЛАЎ РОГ** — вёска ў Палескім с/с, за 29 км на У ад Светлагорска, 30 км ад чыг. ст. Светлагорск-на-Бярэзіне (на лініі Жлобін—Калінкавічы), 139 км ад Гомеля. Аўтадарога звязвае вёску са Светлагорскам і Парычамі. 30 гаспадарак, 40 жыхароў (2004 г.).

Паводле пісьмовых крыніц вядома з 19 ст. як сяленне ў Бабруйскім пав. Мінскай губ. Пад 1778 г. пазначана як сяленне ў Азарыцкай царк. парафіі. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. Паводле перапісу 1897 г. 40 двароў, 291 жыхар, хлебазапасны магазін, карчма. У 1908 г. 62 двары, 418 жыхароў. У 1917 г. 536 жыхароў. У 1919 г. адкрыта школа, якая размяшчалася ў наёмнай сял. хаце. У 1925 г. 96 двароў. У 1930 г. арганізаваны калгас «Чырвоны барацьбіт», працавалі 2 ветраныя млыны, кузня. У 1939 г. ў вёску сселены пас. Залессе. 11 вяскоўцаў былі беспадстаўна рэпрэсіраваны. У 1940 г. 123 двары, 485 жыхароў. У Вял. Айч. вайну партызаны атрада І.С.Губіна ў лют. 1942 г. разграмілі створаны акупантамі паліцэйскі ўчастак. У лют. 1943 г. фаш. карнікі поўнасцю спалілі вёску і загубілі 102 жыхароў. Паводле перапісу 1959 г. 355 жыхароў. Размешчаны б-ка, клуб. Планіровачна складаецца з кароткай прамалінейнай мерыдыянальнай вуліцы, да якой на Пн далучаюцца 2 амаль паралельныя паміж сабой шыротныя вуліцы. Забудова двухбаковая, драўляная, сядзібнага тыпу.

**МЯДКОЎ** — пасёлак у Чыркавіцкім с/с, за 3 км на ПнЗ ад Светлагорска, 3 км ад чыг. ст. Светлагорск-на-Бярэзіне (на лініі Жлобін—Калінкавічы), 113 км ад Гомеля, на р. Жардзянка (прыток р. Бярэзіна) і аўтадарозе Парычы—Светлагорск. 384 гаспадаркі, 1052 жыхары (2004 г.).

У 1960-я гг. каля Светлагорскага масласырзавода інтэнсіўна складваўся жылы пасёлак. 21.1.1969 г. Прэзідыум Вярх. Савета БССР зацвердзіў яго назву. Жыхары пасёлка працуюць на масласырзаводзе, займаюцца сельскай гаспадаркай, і многія заняты на прадпрыемствах у Светлагорску. Ёсць клуб, фельч.-акушэрскі пункт, магазін. Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ. Забудова двухбаковая, мураваная, шматпавярховая і драўляная, пераважна сядзібнага тыпу. У 1991—93 гг. узведзена 98 мураваных, катэджнага тыпу дамоў, у якіх размясціліся перасяленцы з мясцін, забруджаных радыяцыяй пасля Чарнобыльскай катастрофы.

**НОВАЯ БЕЛІЦА** — вёска ў Краснаўскім с/с, за 37 км на ПнЗ ад Светлагорска, 35 км ад чыг. ст. Светлагорск-на-Бя-

рэзіне (на лініі Жлобін—Калінкавічы), 147 км ад Гомеля, на р. Бярэзіна (прыток р. Дняпро), на У мяжуе з лесам. Побач аўтадарога Бабруйск—Рэчыца. 31 гаспадарка, 65 жыхароў (2004 г.).

Выяўленае археолагамі паселішча эпохі неаліту, якое датуецца 4—2-м тысячагоддзямі да н.э. (за 100 м ад гаспадарчых пабудоў, на першай надпоймавай тэрасе правага берага Бярэзіны), сведчыць аб дзейнасці чалавека ў гэтых мясцінах з глыбокай старажытнасці. Сучасная вёска паводле пісьмовых крыніц вядома з 19 ст. як сяленне ў Парыцкай вол. Бабруйскага пав. Мінскай губ. У 1917 г. 152 жыхары. У 1925 г. 26 двароў. У 1931 г. арганізаваны калгас «Чырвоная Бярэзіна», працавала кузня. Паводле перапісу 1959 г. 148 жыхароў. Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, блізкай да мерыдыянальнай арыентацыі, уздоўж ракі. Забудова двухбаковая, няшчыльная, драўляная, сядзібнага тыпу. Радзіма аднаго з кіраўнікоў партыз. руху на Магілёўшчыне ў Вял. Айч. вайну Дз.А.Ляпёшкіна (камісара 1-й Бабруйскай партыз. брыгады). Паблізу ёсць залежы гліны.

**ПАГОНЦЫ** — вёска ў Казлоўскім с/с, за 18 км на ПнЗ ад Светлагорска, 18 км ад чыг. ст. Светлагорск-на-Бярэзіне (на лініі Жлобін—Калінкавічы), 129 км ад Гомеля, на Пд і Пн меліярацыйныя каналы, злучаныя з р. Чырка (прыток р. Жардзянка), на З мяжуе з лесам (урочышча Азерскі Мох). Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Парычы—Светлагорск. 36 гаспадарак, 50 жыхароў (2004 г.).

Паводле пісьмовых крыніц вядома з 17 ст. як сяленне ў Парыцкай вол. Бабруйскага пав. Мінскага ваяв. Па інвентары 1639 г. 34 дымы, 27 валок зямлі, з якіх 11 пустыя. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. Пад 1879 г. пазначана ў ліку сяленняў Парыцкага царк. прыхода. Паводле перапісу 1897 г. 173 жыхары, капліца, карчма. У 1917 г. 45 двароў, 289 жыхароў. У 1925 г. 58 двароў, у Ракшынскім с/с Парыцкага р-на Бабруйскай акругі. У 1930 г. арганізаваны калгас. Паводле перапісу 1959 г. 269 жыхароў. Планіровачна складаецца з крыху скрыўленай вуліцы, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ, забудова драўляная, сядзібнага тыпу.

**ПАЖЫХАР** — вёска ў Баравікоўскім с/с, за 23 км на Пд ад Светлагорска, 24 км ад чыг. ст. Светлагорск-на-Бярэзіне (на лініі Жлобін—Калінкавічы), 95 км ад Гомеля, вакол сетка меліярацыйных каналаў, у іх ліку канал Пажыхарскі. Аўтадарога звязвае вёску са Светлагорскам. 18 гаспадарак, 31 жыхар (2004 г.).

Засн. ў пач. 20 ст. перасяленцамі з суседніх вёсак. Найбольш актыўная забудова прыпадае на 1920-я гг. У 1930 г. 19 двароў, 111 жыхароў. У 1931 г. арганізаваны калгас. У 1940 г. 26 двароў, 142 жыхары. У Вял. Айч. вайну ў чэрв. 1943 г. фаш. карнікі спалілі 24 двары і загубілі 3 жыхароў. Паводле перапісу 1959 г. 148 жыхароў. У складзе калгаса імя Чкалава (цэнтр — в. Чкалава). Планіровачна складаецца з прамалінейнай шыротнай вуліцы. Забудова двухбаковая, няшчыльная, сядзібнага тыпу. Радзіма бел. пісьменніка В.Ц.Якавенкі.

**ПАЛЕССЕ** (да 20.4.1939 Кабыльшчына) — вёска, цэнтр Палескага с/с, за 34 км на ПдЗ ад Светлагорска, 20 км ад чыг. ст. Астанкавічы (на лініі Жлобін—Калінкавічы), 144 км ад Гомеля, на У меліярацыйныя каналы, злучаныя з р. Іпа (прыток р. Трэмля), на Пд мяжуе з лесам (урочышча Дурны Мох). Аўтадарога звязвае вёску са Светлагорскам і Парычамі. 202 гаспадаркі, 529 жыхароў (2004 г.).

Паводле пісьмовых крыніц вядома з 18 ст. як сяленне ў Мазырскім пав. Мінскага ваяв. Пад 1778 г. пазначана як сяленне ў Азарыцкай царк. парафіі. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1795 г. 27 двароў. Паводле перапісу 1897 г. 45 двароў, 319 жыхароў, царк.-прыходская школа,



*Помнік на брацкай магіле савецкіх воінаў і партызан у в. Палессе.*

карчма. У 1908 г. 64 двары, 422 жыхары, у Азарыцкай вол. Бабруйскага пав. Мінскай губ. У гэтым жа годзе адкрыта школа, якая размяшчалася ў наёмнай сял. хаце. У 1917 г. 71 двор, 494 жыхары. У 1925 г. 111 двароў. У 1930 г. арганізаваны калгас «Чырвоная змена», працавалі ветраны млын і кузня. З 20.8.1924 г. цэнтр Кабыльшчынскага (з 20.4.1939 Палескага) с/с Азарыцкага, з 8.7.1931 г. Парыцкага, з 12.2.1935 г. Даманавіцкага, з 20.1.1960 г. Парыцкага, з 29.7.1961 г. Светлагорскага р-наў, у складзе Мазырскай (да 26.7.1930 і 21.6.1935—20.2.1938) акругі, з 20.2.1938 г. Палескай, з 8.1.1954 г. Гомельскай абласцей. 10 вяскоўцаў былі беспадстаўна рэпрэсіраваны. У 1940 г. 127 двароў, 635 жыхароў. У Вял. Айч. вайну ў студз. 1943 г. фаш. карнікі спалілі 110 двароў і загубілі 220 жыхароў. У баях за вёску загінулі 1313 воінаў і партызан (пахаваны ў брацкіх магілах у цэнтры вёскі і каля дарогі Парычы—Калінкавічы). Паводле перапісу 1959 г. 308 жыхароў. Цэнтр КСУП «Палессе». Размешчаны сярэдняя школа, Дом культуры, б-ка, фельч.-акушэрскі пункт, дзіцячы сад, аддз. сувязі, сталовая, камбінат быт. абслугоўвання, магазін. Планіровачна складаецца з 2 частак: паўд. (да прамалінейнай вуліцы, арыентаванай амаль мерыдыянальна, далучаецца з У кароткая прамалінейная вуліца) і паўн. (кароткая прамалінейная мерыдыянальная вуліца з завулкам). Забудова двухбаковая, няшчыльная, пераважна драўляная, сядзібнага тыпу. У 1987 г. ўзведзены 56 мураваных, катэджнага тыпу дамоў, у якіх размясціліся перасяленцы з мясцін, забруджаных радыяцыяй пасля Чарнобыльскай катастрофы, пераважна з в. Бярозаўка Нараўлянскага р-на.

У склад Палескага с/с да 1939 г. ўваходзілі пасёлкі Залессе, Падлясок, Падмохаўшчына, Сяргееўка, хутары Белае Балота, Залессе, Маргі (не існуюць).

**ПАРЫЧЫ** — гарадскі пасёлак, за 32 км на ПнЗ ад Светлагорска, 31 км ад чыг. ст. Светлагорск-на-Бярэзіне (на лініі Жлобін—Калінкавічы), 143 км ад Гомеля, на р. Бярэзіна (прыток р. Дняпро) і аўтадарогах Бабруйск—Рэчыца і Парычы—Азарычы. 2,4 тыс. жыхароў (2004 г.).

Выяўленае археолагамі паселішча эпохі неаліту (датуецца 5—3-м тысячагоддзямі да н.э., за 0,5 км на ПнЗ ад пасёлка, на першай надпоймавай тэрасе правага берага Бярэзіны) сведчыць аб дзейнасці чалавека ў гэтых мясцінах з глыбокай старажытнасці. Паводле пісьмовых крыніц вядомы з 15 ст. як сяленне ў Бабруйскай вол. Трокскага ваяв. ВКЛ, у валоданні князей Гальшанскіх. У 1480 г. Парыцкая вол. аддадзена Кіева-Пячорскаму манастыру. У 1639 г. 43 дымы, 239 жыхароў, 20 валок зямлі, на тракце Бабруйск—Чарнігаў. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі, ва ўладанні адмірала П.І.Пушчына. У Айч. вайну 1812 г. каля Парычаў адбываліся сутычкі рус. войск ген. Ф.Ф.Эртэля з франц. войскамі (галоўным чынам, з польскім корпусам Я.Дамброўскага). Некаторы час тут размяшчаўся 4-ы кав. полк франц. войск. У 1819 г. сенатарам І.Пушчыным замест састарэлага збудаваны драўляны

на каменным падмурку будынак Свята-Духаўскай царквы (у ёй захоўваліся метрычныя кнігі з 1801). З 1822 г. дзейнічала жаночае духоўнае вучылішча, а ў 1839 г. адкрыта «прыходская вучэльня» для сял. дзяцей. У 1845 г. наладжана вытвсць цукру. У 1848 г. 250 двароў, у 1866 г. — 265. Аб высокай гандл. актыўнасці ў Парычах сведчыць тое, што ў 1861 г. на кірмашы было прададзена тавараў на 54 250 рублёў, што значна перавышала паказчыкі многіх іншых мястэчак і гарадоў. У 1845 г. пачаў працаваць спіртзавод, у 1865 г. — прадпрыемства па вырабе канатаў, у 1883 г. — па вырабе дзёгцю. Памешчыца М.Пушчына ў 1872 г. мела тут 13 918 дзес. зямлі. У 1881 г. ўзведзены мураваны будынак жаночага вучылішча, крыху пазней — драўляны будынак бальніцы. У Парыцкую вол. у 1885 г. ўваходзілі 28 сяленняў з 683 дварамі. У 1863 г. збудавана царква ў імя Марыі Магдаліны (мураваная). У 1886 г. пачала дзейнічаць царк.-прыходская школа і ўзведзены будынак для яе. Меліся 2 царквы, 6 яўр. малітоўных дамоў, б-ца, школа, паштовая станцыя, гарбарная майстэрня, вінакурня, 2 вадзяныя млыны, 101 крама. Паводле перапісу 1897 г. 442 двары, 3584 жыхары, 2 капліцы, 5 яўр. малітоўных школ, 75 крам, аптэка, 2 заезныя двары, карчма, харчэўня, 2 нар. вучылішчы, духоўнае вучылішча, сельская лячэбніца. У фальварку былі вінакурня, 91 жыхар. Дзейнічалі паштова-тэлегр. кантора і пазыка-ашчаднае т-ва. Асн. прадметам гандлю ў мястэчку быў лес. На Бярэзіне дзейнічала прыстань. У 1908 г. 520 двароў, 4485 жыхароў. У снеж. 1917 г. польскі афіцэр Гольц (у час мяцяжу корпуса Доўбар-Мусніцкага) без суда і следства павесіў некалькі сялян. Летам 1918 г. ў час ням. акупацыі мястэчкоўцы стварылі партыз. атрад (кіраўнік В.Кабановіч). У фальварку ў пач. 1920-х гг. быў арганізаваны саўгас «Чырвоны сцяг». У 1925 г. 643 гаспадаркі. Пераважную частку жыхароў складала яўр. насельніцтва (у 1926 — 71,4%).



Н.А.Лявухін.



*Праваслаўная царква Роўнаапостальнай Марыі Магдаліны ў Парычах.*

З 17.7.1924 г. да 9.6.1960 г. цэнтр Парыцкага р-на. Працавалі 2 паравыя млыны, электрастанцыя, якая давала энергію для асвятлення мястэчка, тэлеф. станцыя, 7-гадовая школа. Калі ў 1932 г. адкрылася першая ў Беларусі транспартная авіялінія Мінск—Глуск—Парычы—Мазыр, мястэчка стала прымаць транспартныя самалёты. У 1929 г. арганізаваны калгас «Кастрычнік», працавалі маслазавод (з 1932), друкарня, паравы млын, лесапільня, металаапрацоўчая, трыкатажная (у 1932 — 36 рабочых), кравецкая, шавецкая і мэблевая (у 1932 — 54 рабочыя) майстэрні, смалярня, крухмальны з-д, кузня, прамкамбінат. Выдавалася раённая газета (з 1932). З 27.9.1938 г. гарадскі пасёлак. У Вял. Айч. вайну 24.6.1941 г. створаны знішчальны батальён (камандзір М.І.Траян), які 28.6.1941 г. знішчыў групу дыверсантаў, спрабаваўшых спаліць мост цераз р. Бярэзіна. У пач. ліп. 1941 г. ням. захопнікі ўварваліся ў Парычы, але мясцовы і Рэчыцкі знішчальны атрады разам з падраздзяленнямі Чырв. Арміі 12.7.1941 г. выбілі ворага і ўтрымлівалі пасёлак да канца ліпеня. 18.10.1941 г. ням. акупанты расстралялі 872 жыхары (пахаваны ў магіле ахвяр фашызму, за 1,5 км ад Парычаў), а ўсяго гітлераўцы за час свайго

«гаспадарання» загубілі 1700 чалавек. Дзейнічала патрыят. падполле (кіраўнік І.І.Еўдакімаў). Партызаны ў жн. 1943 г. знішчылі ў пасёлку склад з ільновалакном. Вызвалены 26.6.1944 г. часцямі 105-га стралк. корпуса пры падтрымцы 17-й танк. брыгады 1-га танк. корпуса і Дняпроўскай ваен. флатыліі з удзелам партызан. У баях за вызваленне Парычаў і навакольных вёсак загінулі ў 1943—44 гг. 877 воінаў, у іх ліку Герой Сав. Саюза Н.А.Лявухін (пахаваны ў брацкай магіле, у скверы на беразе р. Бярэзіна). У 1999 г. 780 двароў, 2,8 тыс. жыхароў. Размешчаны прамысловы камбінат, кансервавы з-д, камбінат будматэрыялаў, цагельны, пладова-агароднінны з-ды, цэх раённага камбіната быт. абслугоўвання, ЧСУП «Светлагорскі аграхімсервіс» і ААЧ «Аграпрамтэхніка», аграхімлабараторыя, 3 малыя прадпрыемствы, лясніцтва, сярэдняя і музычная школы, 3 дашкольныя ўстановы, Дом піянераў, Дом культуры, 2 б-кі, б-ца, аддз. сувязі. Вакол угоддзі КСУП «Парычы» (цэнтр — в. Казлоўка). Планіроўка шчыльная, квартальная. Арыентацыя вуліц: з ПдУ на ПнЗ і з ПдЗ на ПнУ. На Пд адасоблена размешчаны 2 кароткія вуліцы, блізкія да шыротнай арыентацыі. Частка забудовы мураваная, шматпавярховая. Радзіма бел. рэжысёра, засл. дзеяча мастацтваў БССР М.А.Міцкевіча, вуліцы ў Парычах носяць імёны славутых землякоў — удзельніка рэв. руху на Беларусі, парт. і дзярж. дзеяча Р.Я. Шклоўскага, чл.-кар. АН СССР С.З.Рагінскага, актыўнага ўдзельніка грамадзянскай і Вял. Айч. войнаў М.А.Трызны. Паблізу ёсць залежы гліны.

**ПЕЧЫШЧЫ** — вёска, цэнтр Печышчанскага с/с, за 12 км на ПдЗ ад Светлагорска, 13 км ад чыг. ст. Светлагорск-на-Бярэзіне (на лініі Жлобін—Калінкавічы), 122 км ад Гомеля, на Пд і Пн меліярацыйныя каналы, злучаныя з р. Жардзянка (прыток р. Бярэзіна), што на ўсх. ускраіне. Аўтадарога звязвае вёску са Светлагорскам. 151 гаспадарка, 408 жыхароў (2004 г.).

Паводле пісьмовых крыніц вядома з 19 ст. як сяленне ў Парыцкай вол. Бабруйскага пав. Мінскай губ. Пад 1879 г. пазначаны ў вёсцы яўр. малітоўны дом. Паводле перапісу 1897 г. 46 двароў, 398 жыхароў. У 1908 г. 78 двароў, 871 жыхар. У 1924 г. адкрыта школа, якая размяшчалася ў наёмнай сял. хаце. У 1925 г. 79 двароў, у Шацілкаўскім с/с Парыцкага р-на Бабруйскай акр. У 1929 г. арганізаваны калгас. У Вял. Айч. вайну 10.2.1942 г. фаш. карнікі ўварваліся ў вёску, спалілі яе і расстралялі 120 чалавек (пахаваны ў магіле ахвяр фашызму, за 1 км ад вёскі, насупраць могілак). Камандзір узвода разведкі 170-й Рэчыцкай стралк. дывізіі П.А.Мірашнічэнка ў баі за вёску 1.1.1944 г. закрыў сваім целам амбразуру дзота (3.6.1944 г. ўдастоены звання Героя Сав. Саюза). На будынку клуба на ўшанаванне яго памяці ўстаноўлена ў 1967 г. мемарыяльная дошка. У баях каля вёскі загінулі 913 воінаў і 4 партызаны (пахаваны ў брацкай магіле, у цэнтры вёскі). Паводле перапісу 1959 г. 232 жыхары. Цэнтр СПК «Калгас «Прагрэс». Размешчаны швейная майстэрня, млын, лесапільня, сярэдняя школа, Дом культуры, б-ка, фельч.-акушэрскі пункт, вет. ўчастак,



*П.А.Мірашнічэнка.*



*На палетках СПК «Калгас «Прагрэс».*

аддз. сувязі, магазін, дзіцячы сад. Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ, да цэнтра якой далучаецца кароткая прамалінейная вуліца. Забудова драўляная, сядзібнага тыпу.

**ПРАСВЕТ** (да 1.1.1926 Яўтушкавічы) — вёска ў Давыдаўскім с/с, за 21 км на ПдЗ ад Светлагорска, 5 км ад чыг. ст. Вузнаж (на лініі Жлобін—Калінкавічы), 122 км ад Гомеля, на З меліярацыйныя каналы, злучаныя з р. Іпа (прыток р. Трэмля). Аўтадарога звязвае вёску са Светлагорскам. 52 гаспадаркі, 125 жыхароў (2004 г.).

Паводле пісьмовых крыніц вядома з 16 ст. як вёска ў Рэчыцкім пав. Мінскага ваяв. ВКЛ. У 1737 г. ў складзе маёнтка Ліпаў, ва ўладанні Горватаў. У 1753 г. на сродкі ўладальніка в. Корсакава пабудавана драўляная Раства-Багародзіцкая царква. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1795 г. мястэчка, паштовая станцыя, 12 двароў. У 1834 г. 17 двароў, цэнтр Яўтушкавіцкага маёнтка, які ў розныя гады належаў Горватам, Баліцкім, Палянскім. Памешчык Горват у 1843 г. валодаў у вёсках Ліпаў і Яўтушкавічы 15 820 дзес. зямлі, вадзяным млыном, вінакурняй і карчмой. Становішча сялян паручык Звераў, які бываў у гэтых месцах у 1861 г., характарызаваў як вельмі цяжкае. Адміністрацыя маёнтка адабрала ў вяскоўцаў валоў, пазбавіла іх права карыстання лесам, прымушала да выканання вялікіх павіннасцей. Памешчык Палянскі меў тут у 1859 г. 280 дзес. зямлі, а памешчык Баліцкі ў 1868 г. — 1491 дзес. зямлі і карчму. Дзейнічала царк.-прыходская школа. З 20.8.1924 г. да 5.10.1926 г. цэнтр Яўтушкавіцкага с/с Азарыцкага р-на Мазырскай акругі. У 1930 г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну ў раёне вёскі ў пач. чэрв. 1944 г. маршал Г.К.Жукаў і камандуючы 1-м Бел. фронтам генерал арміі К.К.Ракасоўскі знаёміліся на перадавых пазіцыях з варожай абаронай для вызначэння характару будучых дзеянняў сав. войск. Паводле перапісу 1959 г. 263 жыхары. Размешчаны Дом культуры. Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы з 2 завулкамі, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ, забудова двухбаковая, драўляная, сядзібнага тыпу.

**ПРУДОК** — вёска ў Казлоўскім с/с, за за 19 км на ПнЗ ад Светлагорска, 20 км ад чыг. ст. Светлагорск-на-Бярэзіне (на лініі Жлобін—Калінкавічы), 129 км ад Гомеля, на У і Пд меліярацыйныя каналы, злучаныя з р. Бярэзіна. Побач аўтадарога Парычы—Светлагорск. 128 гаспадарак, 272 жыхары (2004 г.).

Выяўленае археолагамі селішча 2-й пал. 1-га тысячагоддзя да н.э. — пач. 2-га тысячагоддзя н.э. (за 2,5 км на У ад вёскі, каля старыцы правага берага Бярэзіны) сведчыць аб дзейнасці чалавека ў гэтых мясцінах з глыбокай старажытнасці. Сучасная вёска паводле пісьмовых крыніц вядома з 19 ст. як сяленне ў Парыцкай вол. Бабруйскага пав. Мінскай губ. Пад 1879 г. пазначана ў ліку сяленняў Парыцкага царк. прыхода. Паводле перапісу 1897 г. 39 двароў, 248 жыхароў, капліца, карчма. У 1908 г. 46 двароў, 318 жыхароў. У 1917 г. 65 двароў, 406 жыхароў. У 1921 г. адкрыта школа, якая размяшчалася ў наёмнай сял. хаце. У 1925 г. 93 двары, у Ракшынскім с/с Парыцкага р-на Бабруйскай акругі. У 1929 г. арганізаваны калгас імя Калініна, працавала кузня. У Вял. Айч. вайну фаш. акупанты спалілі вёску. Паводле перапісу 1959 г. 432 жыхары. Цэнтр СПК «Прудок-Агра». Размешчана межгасп. прадпрыемства «Прудок», базавая школа, Дом культуры, б-ка, фельч.-акушэрскі пункт, аддз. сувязі, сталовая, магазін. Планіровачна складаецца з прамалінейных працяглай і паралельнай да яе кароткай вуліц, арыентаваных з ПдЗ на ПнУ. Забудова двухбаковая, драўляная, сядзібнага тыпу.

**ПРЫСТАРАНЬ** — вёска ў Баравікоўскім с/с, за 18 км на Пд ад Светлагорска, 19 км ад чыг. ст. Светлагорск-на-Бярэзіне (на лініі Жлобін—Калінкавічы), 122 км ад Гомеля, на З і Пн меліярацыйныя каналы, злучаныя з каналам Пажыхарскі. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Мармарычы—Рэчыца. 43 гаспадаркі, 67 жыхароў (2004 г.).

Засн. ў пач. 20 ст. перасяленцамі з суседніх вёсак. Найбольш актыўная забудова прыпадае на 1920-я гг. У 1930 г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У 1940 г. 61 двор, 254 жыхары. У Вял. Айч. вайну ў чэрв. 1942 г. фаш. акупанты поўнасцю спалілі вёску. Паводле перапісу 1959 г. 279 жыхароў. Планіровачна складаецца з прамалінейнай мерыдыянальнай вуліцы, да якой на Пн далучаецца рэдка забудаваная кароткая вуліца. Забудова драўляная, сядзібнага тыпу.

**ПРЫТЫКА** (да 1925 г. Замлынне) — вёска ў Палескім с/с, за 32 км на У ад Светлагорска, 29 км ад чыг. ст. Светлагорск-на-Бярэзіне (на лініі Жлобін—Калінкавічы), 140 км ад Гомеля, на аўтадарозе Парычы—Азарычы, на У мяжуе з лесам. 7 гаспадарак, 7 жыхароў (2004 г.).

Паводле пісьмовых крыніц вядома з 19 ст. як сяленне ў Чэрнінскай вол. Бабруйскага пав. Мінскай губ. Пад 1879 г. пазначана ў ліку селенняў Дуброўскага царк. прыхода. Паводле перапісу 1897 г. в. Прытыка (яна ж Замлынне), 11 двароў, 90 жыхароў. У 1925 г. 28 двароў, у Дуброўскім с/с Парыцкага р-на Бабруйскай акругі. У 1931 г. арганізаваны калгас «Чырвоная Прытыка», працаваў ветраны млын. У 1940 г. 37 двароў, 143 жыхары. У Вял. Айч. вайну ў студз. 1943 г. фаш. акупанты поўнасцю спалілі вёску і загубілі 53 жыхароў. Паводле перапісу 1959 г. 96 жыхароў. У складзе калгаса «Дуброва» (цэнтр — в. Дуброва). Складаецца з 2 кароткіх вуліц (мерыдыянальнай і шыротнай арыентацыі). Будынкі драўляныя, сядзібнага тыпу.

**ПЯСЧАНАЯ РУДНЯ** — вёска ў Казлоўскім с/с, за 29 км на ПнЗ ад Светлагорска, 26 км ад чыг. ст. Светлагорск-на-Бярэзіне (на лініі Жлобін—Калінкавічы), 139 км ад Гомеля, на р. Пясчанка (прыток р. Рудзянка), на Пд мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Парычы—Азарычы. 18 гаспадарак, 26 жыхароў (2004 г.).

Паводле пісьмовых крыніц вядома з 19 ст. як сяленне ў Парыцкай вол. Бабруйскага пав. Мінскай губ. Пад 1879 г. пазначана ў ліку селенняў Парыцкага царк. прыхода. Паводле перапісу 1897 г. 18 двароў, 116 жыхароў, карчма, вадзяны млын, сукнавальня. У 1908 г. 19 гаспадарак, 201 жыхар. У 1916 г. 23 двары, 159 жыхароў. У 1925 г. 39 двароў. У 1921 г. адкрыта школа. У 1929 г. арганізаваны калгас. У 1940 г. 58 двароў, 240 жыхароў. У Вял. Айч. вайну дзейнічала падп. патрыят. група (кіраўнік І.С.Караткевіч). У ліп. 1941 г. фаш. акупанты поўнасцю спалілі вёску і загубілі 8 жыхароў. Паводле перапісу 1959 г. 270 жыхароў. Планіровачна складаецца з кароткай прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ. Забудова драўляная, сядзібнага тыпу.

**ПЯТРОВІЧЫ** (да 1925 Сіняўка) — вёска ў Мікалаеўскім с/с, за 34 км на У ад Светлагорска, 31 км ад чыг. ст. Светлагорск-на-Бярэзіне (на лініі Жлобін—Калінкавічы), 142 км ад Гомеля, на З — воз. Сіняе і мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Парычы—Азарычы. 49 гаспадарак, 101 жыхар (2004 г.).

Паводле пісьмовых крыніц вядома з 19 ст. як сяленне ў Чэрнінскай вол. Бабруйскага пав. Мінскай губ. Паводле перапісу 1897 г. в. Слабада Пятровічы (яна ж Сіняўка), 47 двароў, 284 жыхары. У 1921 г. адкрыта школа, якая размяшчалася ў наёмнай сял. хаце. У 1931 г. арга-

нізаваны калгас «Новая ніва», працавалі паравы і ветраны млыны, кузня. У 1940 г. 130 двароў, 397 жыхароў. У Вял. Айч. вайну ў чэрв. 1944 г. ням. акупанты спалілі 126 двароў і загубілі 41 жыхара. Вызвалена 24.6.1944 г., у першы дзень наступлення 65-й арміі 1-га Бел. фронту ў час аперацыі «Баграціён». Паводле перапісу 1959 г. 335 жыхароў. Размешчаны клуб. Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы амаль мерыдыянальнай арыентацыі, да якой на Пд далучаецца кароткая шыротная вуліца. Забудова двухбаковая, драўляная, сядзібнага тыпу.

**РАКОВІЧЫ** (да 1925 Задвор'е) — вёска ў Мікалаеўскім с/с, за 49 км на З ад Светлагорска, 47 км ад чыг. ст. Светлагорск-на-Бярэзіне (на лініі Жлобін—Калінкавічы), 159 км ад Гомеля. Побач аўтадарога Парычы—Азарычы. 38 гаспадарак, 77 жыхароў (2004 г.).

Паводле пісьмовых крыніц вядома з 19 ст. як сяленне ў Чэрнінскай вол. Бабруйскага пав. Мінскай губ. Паводле перапісу 1897 г. в. Раковічы (яна ж Турок, Задвор'е), 21 двор, 150 жыхароў. У 1928 г. 48 двароў. У 1930 г. арганізаваны калгас «Колас», працавалі кузня і ваўначоска. У 1940 г. 75 двароў, 275 жыхароў. У Вял. Айч. вайну ў чэрв. 1944 г. ням. акупанты спалілі 75 двароў і загубілі 95 жыхароў. Вызвалена 24.6.1944 г., у першы дзень наступлення 65-й арміі 1-га Бел. фронту ў час аперацыі «Баграціён». Паводле перапісу 1959 г. 239 жыхароў. Планіровачна складаецца з прамалінейнай мерыдыянальнай вуліцы, забудова двухбаковая, драўляная, сядзібнага тыпу.

**РАКШЫН** — вёска ў Чыркавіцкім с/с, за 14 км на ПнЗ ад Светлагорска, 15 км ад чыг. ст. Светлагорск-на-Бярэзіне (на лініі Жлобін—Калінкавічы), 124 км ад Гомеля, на аўтадарозе Парычы—Светлагорск, на З меліярацыйныя каналы, злучаныя з р. Чырка (прыток р. Жардзянка). 39 гаспадарак, 62 жыхары (2004 г.).

Паводле пісьмовых крыніц вядома з 19 ст. сяленне ў Парыцкай вол. Бабруйскага пав. Мінскай губ. Пад 1879 г. пазначана ў ліку сяленняў Чыркавіцкага царк. прыхода. У 1888 г. збудавана драўляная царква. Паводле перапісу 1897 г. 34 двары, 223 жыхары, царква, хлебазапасны магазін, капліца, карчма. У 1908 г. 45 двароў, 346 жыхароў. У 1910 г. адкрыта школа, якая размяшчалася ў наёмнай сял. хаце, а ў пач. 1920-х гг. ёй быў выдзелены нацыяналізаваны будынак. У 1916 г. 49 двароў. У 1925 г. 57 двароў. З 20.8.1924 г. да 16.7.1954 г. цэнтр Ракшынскага с/с Парыцкага р-на Бабруйскай (да 26.7.1930) акругі, з 20.2.1938 г. Палескай, з 8.1.1954 г. Гомельскай вобласцей. У 1930 г. арганізаваны калгас. У 1940 г. 65 двароў, 390 жыхароў. У Вял. Айч. вайну ў маі 1944 г. ням. акупанты поўнасцю спалілі вёску і загубілі 32 жыхароў. Паводле перапісу 1959 г. 260 жыхароў. Размешчаны фельч.-акушэрскі пункт. Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ. Забудова двухбаковая, драўляная, сядзібнага тыпу.

**РАСАВА** — вёска ў Чыркавіцкім с/с, за 3 км на З ад Светлагорска, 4 км ад чыг. ст. Светлагорск-на-Бярэзіне (на лініі Жлобін—Калінкавічы), 113 км ад Гомеля, на Пд і У меліярацыйныя каналы, злучаныя з р. Бярэзіна (прыток р. Дняпро). Транспартныя сувязі па прасёлачнай, а затым аўтадарогах, якія адыходзяць ад Светлагорска. 69 гаспадарак, 92 жыхары (2004 г.).

Паводле пісьмовых крыніц вядома з 19 ст. як сяленне ў Парыцкай вол. Бабруйскага пав. Мінскай губ. Памешчык Сёмаў меў у вёсцы ў 1870 г. 94 дзес. зямлі. Пад 1879 г. пазначана ў ліку сяленняў Чыркавіцкага царк. прыхода. Паводле перапісу 1897 г. 21 двор, 115 жыхароў, карчма. У 1917 г. 37 двароў, 260 жыхароў. У 1921 г. адкрыта школа. У 1925 г. 50 гаспадарак. У 1930 г. 55 два-

роў, 314 жыхароў. У 1930 г. арганізаваны калгас «3-і рашаючы», працавала кузня. У Вял. Айч. вайну ў 1943—44 гг. у баях за вёску і наваколле загінулі 225 сав. воінаў (пахаваны ў брацкай магіле на паўд. ускраіне). Паводле перапісу 1959 г. 272 жыхары. Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы амаль мерыдыянальнай арыентацыі, да якой з З далучаецца кароткая прамалінейная вуліца, з У — завулак. Забудова двухбаковая, драўляная, сядзібнага тыпу. Радзіма кавалера 3 крыжоў св. Георгія І.Н.Усціменкі.

**РУДНЯ** — вёска ў Чыркавіцкім с/с, за 1 км на З ад Светлагорска, 2 км ад чыг. ст. Светлагорск-на-Бярэзіне (на лініі Жлобін—Калінкавічы), 111 км ад Гомеля, на аўтадарозе Светлагорск—Парычы. 54 гаспадаркі, 101 жыхар (2004 г.).

Паводле пісьмовых крыніц вядома з 18 ст. як сяленне ў Мазырскім пав. Мінскага ваяв. У 1737 г. ў складзе маёнтка Ліпаў, ва ўладанні Горватаў. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. Пад 1879 г. пазначана ў ліку сяленняў Чыркавіцкага царк. прыхода. Паводле перапісу 1897 г. в. Чыркавіцкая Рудня, 39 двароў, 209 жыхароў, капліца, карчма. У 1908 г. 255 жыхароў. У 1917 г. 44 двары, у Парыцкай вол. Бабруйскага пав. Мінскай губ. У 1925 г. 57 двароў, у Чыркавіцкім с/с Парыцкага р-на Бабруйскай акругі. У 1930 г. 61 двор, 299 жыхароў. У 1931 г. арганізаваны калгас. Паводле перапісу 1959 г. 258 жыхароў. Планіровачна складаецца з прамалінейнай, амаль шыротнай арыентацыі вуліцы, якую ў цэнтры перакрыжоўвае крыху выгнутая вуліца. Забудова двухбаковая, драўляная, сядзібнага тыпу.

**САМАРАЖ** — вёска ў Баравікоўскім с/с, за 12 км на ПдУ ад Светлагорска, 13 км ад чыг. ст. Светлагорск-на-Бярэзіне (на лініі Жлобін—Калінкавічы), 102 км ад Гомеля, на аўтадарозе Светлагорск—Горваль, на ПнУ — воз. Вялікае, на У — урочышча Чырвоная ніва. 11 гаспадарак, 12 жыхароў (2004 г.).

Засн. ў пач. 1920-х гг. перасяленцамі з суседніх вёсак. У 1931 г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. Паводле перапісу 1959 г. 106 жыхароў. Планіровачна складаецца з крыху скрыўленай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ, да цэнтра якой далучаецца невял. крывалінейная вуліца. Забудова двухбаковая, драўляная, сядзібнага тыпу.

**САСНОВЫ БОР** (да 3.7.1959 Пасёлак торфапрадпрыемства «Васілевічы II») — рабочы пасёлак, каля чыг. ст. Вузнаж (на лініі Жлобін—Калінкавічы), за 17 км на ПдЗ ад Светлагорска, 125 км ад Гомеля, на У меліярацыйныя каналы, злучаныя цераз канал Яланскі з р. Сведзь (прыток р. Бярэзіна). Аўтадарога звязвае рабочы пасёлак са Светлагорскам. 2,6 тыс. жыхароў (2004 г.).

Выяўленае археолагамі селішча (за 1,5 км на Пд ад вёскі) сведчыць аб дзейнасці чалавека ў гэтых мясцінах з далёкай старажытнасці. Сучасны пасёлак узнік у 1950-я гг. ў сувязі з будаўніцтвам торфапрадпрыемства «Васілевічы II» (з 1959 «Светлагорскае»). З 3.7.1959 г. рабочы пасёлак у Даманавіцкім, з 17.11. 1959 г. ў Парыцкім, з 27.1.1965 г. ў Светлагорскім р-нах. У Вял. Айч. вайну ў баях, што адбываліся ў 1943—44 гг. у гэтых мясцінах, загінулі 137 воінаў і 2 партызаны (пахаваны ў брацкай магіле ў цэнтры пасёлка). Паводле перапісу 1959 г. 1897 жыхароў. Размешчаны сумеснае



*Дом для мнагадзетнай сям'і ў пас. Сасновы Бор.*



*Вуліца Сасновага Бору.*



*Школа ў пас. Сасновы Бор.*

бел.-герм. прадпрыемства па дрэваапрацоўцы, торфапрадпрыемства «Светлагорскае», з-д «Светлагорсккорммаш», камбінат быт. абслугоўвання, сярэдняя і музычная школы, 2 дзіцячыя сады, 2 масавыя б-кі, Дом культуры, б-ца, паліклініка, аптэка, спарткомплекс, магазін, аддз. сувязі. Планіроўка квартальная, якую ўтвараюць 3 прамалінейныя паралельныя вуліцы, арыентаваныя з ПдЗ на ПнУ і перакрыжаваныя 5 кароткімі вуліцамі. Забудова мураваная і драўляная, пераважна сядзібнага тыпу.

**САСНОЎКА** — вёска ў Чыркавіцкім с/с, за 14 км на ПнЗ ад Светлагорска, 15 км ад чыг. ст. Светлагорск-на-Бярэзіне (на лініі Жлобін—Калінкавічы), 124 км ад Гомеля, на Пн меліярацыйныя каналы. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Парычы—Светлагорск. 20 гаспадарак, 30 жыхароў (2004 г.).

Засн. ў 1873 г. перасяленцамі з суседніх вёсак, у Парыцкай вол. Бабруйскага пав. Мінскай губ. Пад 1879 г. пазначана ў ліку сяленняў Чыркавіцкага царк. прыхода. Паводле перапісу 1897 г. 20 двароў, 129 жыхароў, капліца. У 1908 г. 158 жыхароў. У 1917 г. 30 двароў. У 1925 г. 34 двары, у Ракшынскім с/с Парыцкага р-на Бабруйскай акругі. У 1930 г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. Паводле перапісу 1959 г. 171 жыхар. Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ, забудова драўляная, сядзібнага тыпу.

**СЕЛІШЧЫ** — вёска ў Баравікоўскім с/с, за 14 км на ПдУ ад Светлагорска, 15 км ад чыг. ст. Светлагорск-на-Бярэзіне (на лініі Жлобін—Калінкавічы), 100 км ад Гомеля, на аўтадарозе Светлагорск—Горваль. 40 гаспадарак, 65 жыхароў (2004 г.).

Выяўленае археолагамі гарадзішча (за 1,5 км на Пд ад вёскі) сведчыць аб дзейнасці чалавека ў гэтых мясцінах з далёкай старажытнасці. Сучасная вёска паводле пісьмовых крыніц вядома з 19 ст. як сяленне ў Якімаваслабодскай вол. Рэчыцкага пав. Мінскай губ. Дваранін Крукоўскі меў тут у 1869 г. 160 дзес. зямлі. Пад 1879 г. пазначана ў ліку сяленняў Парыцкага царк. прыхода. Паводле перапісу 1897 г. 21 двор, 163 жыхары. З 8.12.1926 г. да 30.12.1927 г. цэнтр Селішчанскага с/с Горвальскага, з 4.8.1927 г. Рэчыцкага р-наў Рэчыцкай, з 9.6.1927 г. Гомельскай акруг. У 1931 г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У 1940 г. 87 двароў, 271 жыхар. У Вял. Айч. вайну ў чэрв. 1942 г. фаш. акупанты поўнасцю спалілі вёску і загубілі 5 жыхароў. Паводле перапісу 1959 г. 381 жыхар. Размешчаны фельч.-акушэрскі пункт, клуб. Планіровачна складаецца з дугападобнай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ, забудова двухбаковая, драўляная, сядзібнага тыпу.

**СЕЛІШЧЫ** — вёска ў Казлоўскім с/с, за 52 км на ПнЗ ад Светлагорска, 50 км ад чыг. ст. Светлагорск-на-Бярэзіне (на лініі Жлобін—Калінкавічы), 162 км ад Гомеля, на аўтадарозе Парычы—Азары-

чы, на У сетка меліярацыйных каналаў, на З мяжуе з лесам. 45 гаспадарак, 84 жыхары (2004 г.).

Паводле пісьмовых крыніц вядома з 18 ст. як сяленне ў Мінскім ваяв., ва ўладанні Патоцкіх, потым Масальскіх. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1795 г. 22 двары. Паводле перапісу 1897 г. 33 двары, 231 жыхар, капліца, у Парыцкай вол. Бабруйскага пав. Мінскай губ. У 1917 г. 42 двары, 253 жыхары. У 1921 г. адкрыта школа, якая размяшчалася ў наёмнай сял. хаце. У 1925 г. 54 двары. У 1930 г. арганізаваны калгас «Чырвоны барэц», працаваў паравы млын. У 1930-я гг. 4 вяскоўцы былі неабгрунтавана рэпрэсіраваны. У 1940 г. 78 двароў, 320 жыхароў. У Вял. Айч. вайну ў лют. 1943 г. фаш. акупанты поўнасцю спалілі вёску і загубілі 46 жыхароў. Паводле перапісу 1959 г. 246 жыхароў. Размешчаны клуб. Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы мерыдыянальнай арыентацыі, забудова двухбаковая, драўляная, сядзібнага тыпу.

**СКАЛКА** — вёска ў Казлоўскім с/с, за 22 км на ПнЗ ад Светлагорска, 23 км ад чыг. ст. Светлагорск-на-Бярэзіне (на лініі Жлобін—Калінкавічы), 132 км ад Гомеля, на р. Рудзянка (прыток р. Бярэзіна) і аўтадарозе Парычы—Светлагорск. 63 гаспадаркі, 121 жыхар (2004 г.).

Паводле пісьмовых крыніц вядома з 19 ст. як сяленне ў Парыцкай вол. Бабруйскага пав. Мінскай губ. Пад 1879 г. пазначана ў ліку сяленняў Парыцкага царк. прыхода. Паводле перапісу 1897 г. 34 двары, 184 жыхары, капліца, вадзяны млын. У 1908 г. 40 гаспадарак, 323 жыхары. У 1917 г. 49 двароў. У 1918 г. адкрыта школа, якая размяшчалася ў будынку б. Парыцкай эканоміі. У 1925 г. 64 двары. У 1929 г. арганізаваны калгас. 10 вяскоўцаў былі беспадстаўна рэпрэсіраваны. У 1940 г. 116 двароў, 330 жыхароў. У Вял. Айч. вайну ў чэрв. 1944 г. фаш. акупанты поўнасцю спалілі вёску і загубілі 3 жыхароў. Паводле перапісу 1959 г. 378 жыхароў. Размешчаны клуб. Планіровачна складаецца з прамалінейнай мерыдыянальнай вуліцы, да якой далучаюцца 2 завулкі. Забудова двухбаковая, драўляная, сядзібнага тыпу.

**СЛАВАНЬ** — вёска ў Асташкавіцкім с/с, за 19 км на ПдЗ ад Светлагорска, 6 км ад чыг. ст. Астанкавічы (на лініі Жлобін—Калінкавічы), 129 км ад Гомеля, на р. Жардзянка (прыток р. Сведзь). Аўтадарога звязвае вёску са Светлагорскам. 158 гаспадарак, 343 жыхары (2004 г.).

Выяўлены археолагамі курганны могільнік (за 2 км на З ад вёскі, ва ўрочышчы Гуслішча, 22 насыпы) сведчыць аб дзейнасці чалавека ў гэтых мясцінах з далёкай старажытнасці. Паводле пісьмовых крыніц вядома з 16 ст. як сяленне ў Рэчыцкім пав. Мінскага ваяв. ВКЛ, велікакняжацкая ўласнасць. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. Са старажытных часоў дзейнічала Мікалаеўская царква (пазначана пад 1796 г., а ў 1803 г. характарызавалася як састарэлая). У 1853 г. ўзведзены новы будынак царквы, у архіве якой захоўваліся метрычныя кнігі з 1795 г. У 1863 г. адкрыта школа, якая размяшчалася ў наёмнай сял. хаце, у 1914 г. ўзведзены асобны школьны будынак. У 1885 г. 59 двароў. Паводле перапісу 1897 г. 66 двароў, 518 жыхароў, хлебазапасны магазін, карчма, у Карпавіцкай вол. Рэчыцкага пав. Мінскай губ. У 1925 г. 189 двароў. У 1930 г. 217 двароў, 1090 жыхароў. У 1931 г. арганізаваны калгас, працавалі паравы млын, пач. школа (у 1935 г. — 133 вучні). У 1930-я гг. 12 вяскоўцаў былі неабгрунтавана рэпрэсіраваны. У 1940 г. 227 двароў. У Вял. Айч. вайну ў жн. 1941 г. фаш. акупанты спалілі 212 двароў і загубілі 72 жыхароў. У баях у 1943—44 гг. каля вёскі загінуў 181 воін (пахаваны ў брацкіх магілах на вясковых могілках). Паводле перапісу 1959 г. 1013

жыхароў. Размешчаны б-ка, фельч.-акушэрскі пункт, клуб. Планіровачна складаецца з 2 частак: паўн. (да прамалінейнай вуліцы амаль мерыдыянальнай арыентацыі далучаецца з 3 кароткая вуліца) і паўд. (да цэнтра прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ, далучаюцца 3 кароткія вуліцы). Забудова двухбаковая, пераважна драўляная, сядзібнага тыпу.

**СТРАКАВІЧЫ** — вёска ў Печышчанскім с/с, за 7 км на Пд ад Светлагорска, 8 км ад чыг. ст. Светлагорск-на-Бярэзіне (на лініі Жлобін—Калінкавічы), 103 км ад Гомеля, на аўтадарозе Светлагорск—Сасновы Бор, на У сетка меліярацыйных каналаў, у іх ліку канал Баравікоўскі, злучаныя з р. Сведзь (прыток р. Бярэзіна). 140 гаспадарак, 349 жыхароў (2004 г.).

Паводле пісьмовых крыніц вядома з 19 ст. як сяленне ў Якімаваслабодскай вол. Рэчыцкага пав. Мінскай губ. У 1858 г. 12 двароў, 78 жыхароў, уласнасць казны. Пад 1879 г. пазначана ў ліку сяленняў Славінскага царк. прыхода. Паводле перапісу 1897 г. 23 двары, 140 жыхароў. У 1908 г. 40 двароў, 235 жыхароў. У 1925 г. 60 двароў. У 1929 г. арганізаваны калгас. У 1930 г. 68 двароў, 349 жыхароў. Побач быў выселак Чарцёж (7 двароў, 37 жыхароў), утвораны жыхарамі в. Стракавічы, пазней далучаны да вёскі. Паводле перапісу 1959 г. 428 жыхароў. Размешчаны базавая школа, б-ка, фельч.-акушэрскі пункт. Планіровачна складаецца з крыху выгнутай, амаль шыротнай арыентацыі вуліцы, да якой з Пн далучаецца кароткая прамалінейная вуліца. Забудова двухбаковая, драўляная, сядзібнага тыпу.

**СТУЖКІ** — вёска ў Чыркавіцкім с/с, за 7 км на ПнЗ ад Светлагорска, 8 км ад чыг. ст. Светлагорск-на-Бярэзіне (на лініі Жлобін—Калінкавічы), 117 км ад Гомеля, на р. Бярэзіна (прыток р. Дняпро), на тэр. гідралагічнага заказніка мясц. значэння «Выдрыца». Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Парычы—Светлагорск. 50 гаспадарак, 91 жыхар (2004 г.).

Паводле пісьмовых крыніц вядома з 2-й пал. 19 ст. як фальварак. У 1872 г. памешчыкі Пушчыны мелі тут 6895 дзес. зямлі. У 1908 г. 117 жыхароў, у Парыцкай вол. Бабруйскага пав. Мінскай губ. У 1925 г. 11 двароў. У 1932 г. вяскоўцы ўступілі ў калгас, працавала кузня. У 1940 г. 45 двароў, 215 жыхароў. У Вял. Айч. вайну ў лют. 1944 г. фаш. акупанты спалілі 37 двароў і загубілі 18 жыхароў. Паводле перапісу 1959 г. 207 жыхароў. Планіровачна складаецца з амаль прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ, да цэнтра якой далучаецца невялікі завулак. Забудова няшчыльная, драўляная, сядзібнага тыпу.

**СУДАВІЦА** — вёска ў Казлоўскім с/с, за 12 км на ПнЗ ад Светлагорска, 13 км ад чыг. ст. Светлагорск-на-Бярэзіне (на лініі Жлобін—Калінкавічы), 122 км ад Гомеля, на р. Бярэзіна (прыток р. Дняпро). Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Парычы—Светлагорск. 160 гаспадарак, 437 жыхароў (2004 г.).

Паводле пісьмовых крыніц вядома з 19 ст. як сяленне ў Парыцкай вол. Бабруйскага пав. Мінскай губ. Пад 1879 г. пазначана ў ліку сяленняў Парыцкага царк. прыхода. Паводле перапісу 1897 г. 39 двароў, 192 жыхары, 2 капліцы. У 1908 г. 40 двароў, 338 жыхароў. У 1917 г. 50 двароў. У 1925 г. 62 двары, у Ракшынскім с/с Парыцкага р-на Бабруйскай акругі. У 1930 г. арганізаваны калгас. У 1940 г. 70 двароў. У Вял. Айч. вайну 26.7.1941 г. паблізу вёскі адбыўся жорсткі бой манітора «Смаленск» Пінскай ваен. флатыліі, які падтрымліваў баявыя дзеянні 21-й арміі Зах. фронту, супраць ням. артылерыі і танкаў. У баі загінула палова экіпажу, карабель быў пашкоджаны і сеў на мель. Але маракі ліквіда-

валі пашкоджанні і манітор пад прыкрыццём бранякатэраў адышоў да в. Здудзічы, дзе былі часці Чырв. Арміі. У чэрв. 1944 г. фаш. акупанты поўнасцю спалілі вёску. Паводле перапісу 1959 г. 271 жыхар. Размешчаны амбулаторыя і дзіцячы сад. Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ, забудова двухбаковая, сядзібнага тыпу. У 1990 г. ўзведзены 53 мураваныя, катэджнага тыпу дамы, у якіх размясціліся перасяленцы з мясцін, забруджаных радыяцыяй пасля Чарнобыльскай катастрофы.

**СЯКЕРЫЧЫ** — вёска ў Мікалаеўскім с/с, за 57 км на ПнЗ ад Светлагорска, 54 км ад чыг. ст. Светлагорск-на-Бярэзіне (на лініі Жлобін—Калінкавічы), 167 км ад Гомеля, на Пн сетка меліярацыйных каналаў. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Парычы—Азарычы. 49 гаспадарак, 86 жыхароў (2004 г.).

Паводле пісьмовых крыніц вядома з 16 ст. як сяленне ў Рэчыцкім пав. Мінскага ваяв. ВКЛ, велікакняжацкая ўласнасць. Паводле інвентару Бабруйскага староства 1639 г. 60 валок зямлі, 30 з якіх пустыя. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. Пад 1879 г. пазначана ў ліку сяленняў Чэрнінскага царк. прыхода. Паводле перапісу 1897 г. 80 двароў, 541 жыхар, хлебазапасны магазін, у Чэрнінскай вол. Бабруйскага пав. Мінскай губ. У 1910 г. адкрыта школа, якая размяшчалася ў наёмнай сял. хаце, а ў пач. 1920-х гг. для яе быў выдзелены нацыяналізаваны будынак. У 1930 г. арганізаваны калгас «1 Мая», працавала кухня. У Вял. Айч. вайну ў чэрв. 1944 г. фаш. акупанты спалілі 76 двароў і загубілі 10 жыхароў. Вызвалена 24.6.1944 г., у першы дзень наступлення 1-га Бел. фронту ў час аперацыі «Баграціён». Паводле перапісу 1959 г. 393 жыхары. Планіровачна складаецца з прамалінейнай шыротнай вуліцы, да якой з Пд далучаецца завулак. Забудова двухбаковая, драўляная, сядзібнага тыпу.

**ТУМАРАЎКА** — вёска ў Краснаўскім с/с, за 45 км на ПнЗ ад Светлагорска, 42 км ад чыг. ст. Светлагорск-на-Бярэзіне (на лініі Жлобін—Калінкавічы), 148 км ад Гомеля, вакол лес. Транспартныя сувязі на прасёлачнай, потым аўтадарозе Бабруйск—Рэчыца. 33 гаспадаркі, 53 жыхары (2004 г.).

Паводле пісьмовых крыніц вядома з 19 ст. як сяленне ў Парыцкай вол. Бабруйскага пав. Мінскай губ. Пазначана на карце 1866 г., якой карысталася Зах. экспедыцыя па асушэнні балот. Пад 1879 г. пазначана ў ліку сяленняў Каралеўскаслабодскага царк. прыхода. Паводле перапісу 1897 г. 34 двары, 262 жыхары. У 1908 г. 45 двароў, 314 жыхароў. У 1917 г. 388 жыхароў. У 1924 г. адкрыта школа (замест школы ў в. Васілёўка), размяшчалася яна ў наёмнай сял. хаце. У 1925 г. 76 двароў. У 1931 г. арганізаваны калгас імя Варашылава, працавала кузня. У 1936 г. ў вёску быў сселены пас. Сялец. Паводле перапісу 1959 г. 366 жыхароў. Размешчаны клуб. Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, блізкай да мерыдыянальнай арыентацыі. Забудова двухбаковая, драўляная, сядзібнага тыпу. Радзіма аднаго з арганізатараў партыз. руху на Гомельшчыне ў Вял. Айч. вайну М.М.Какоўскага (камісара партыз. атрада «Смерць фашызму» 123-й Акцябрскай брыгады імя 25-годдзя БССР, потым атрада імя С.М.Кірава).

**УЮНІШЧЫ** — вёска ў Палескім с/с, за 30 км на ПдЗ ад Светлагорска, 31 км ад чыг. ст. Светлагорск-на-Бярэзіне (на лініі Жлобін—Калінкавічы), 140 км ад Гомеля, на Пд — р. Вісла (прыток р. Віша). Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Парычы—Азарычы. 11 гаспадарак, 16 жыхароў (2004 г.).

Паводле пісьмовых крыніц вядома з 19 ст. як сяленне ў Чэрнінскай вол. Бабруйскага пав. Мінскай губ. У 1850 г. 17



Помнік воінам-землякам у в. Хутар.

двароў, 102 жыхары, у складзе казённага маёнтка. Пад 1879 г. пазначана ў ліку сяленняў Дубровенскага царк. прыхода. Паводле перапісу 1897 г. 33 двары, 266 жыхароў, капліца. У 1917 г. адкрыта земская школа, якая размяшчалася ў наёмнай сял. хаце. У 1925 г. 81 двор. У 1929 г. арганізаваны калгас. У 1940 г. 102 двары, 429 жыхароў. У Вял. Айч. вайну партызаны разграмілі апорны пункт, створаны ў вёсцы акупантамі. У лют. 1943 г. фаш. карнікі поўнасцю спалілі вёску і загубілі 57 жыхароў. Паводле перапісу 1959 г. 165 жыхароў. Планіровачна складаецца з кароткай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ. Забудова двухбаковая, няшчыльная, драўляная, сядзібнага тыпу.

**ХУТАР** — вёска ў Баравікоўскім с/с, за 20 км на Пд ад Светлагорска, 21 км ад чыг. ст. Светлагорск-на-Бярэзіне (на лініі Жлобін—Калінкавічы), 100 км ад Гомеля, на аўтадарозе Мармарычы—Рэчыца, на З меліярацыйныя каналы, злучаныя з р. Жардзянка (прыток р. Бярэзіна). 290 гаспадарак, 659 жыхароў (2004 г.).

Паводле пісьмовых крыніц вядома з 19 ст. як сяленне ў Якімаваслабодскай вол. Рэчыцкага пав. Мінскай губ. У 1858 г. ўласнасць казны, 25 двароў, 143 жыхары. Пад 1879 г. пазначана ў ліку сяленняў Славінскага царк. прыхода. Паводле перапісу 1897 г. 43 двары, 295 жыхароў, крама. У 1930 г. 129 двароў, 714 жыхароў. У 1930 г. арганізаваны калгас «Лепшая доля», працавалі 3 ветраныя млыны, кузня. У 1940 г. 195 двароў, 772 жыхары. У Вял. Айч. вайну 14.6.1942 г. фаш. акупанты поўнасцю спалілі вёску і расстралялі 36 жыхароў (пахаваны на вясковых могілках). Паблізу базіраваўся Парыцкі падп. РК КП(б)Б і асобны Парыцкі партыз. атрад імя Кірава. У вызваленні вёскі разам з сав. воінамі ўдзельнічалі партызаны. Паводле перапісу 1959 г. 966 жыхароў. Размешчаны падсобная гаспадарка аграпрамысл. ўпраўлення РУП ВА «Беларусьнафта», лесапільня, млын, мех. і швейная майстэрні, сярэдняя школа, Дом культуры, б-ка, амбулаторыя, аптэка, вет. ўчастак, аддз. сувязі, сталовая, магазін, дзіцячы сад. Планіровачна складаецца з мерыдыянальнай вуліцы, якая на Пн паварочваецца на У, на Пд — на З і двойчы перакрыжоўваецца кароткімі шыротнымі вуліцамі. Забудова няшчыльная, драўляная, сядзібнага тыпу. У 1987 г. ўзведзены 55 мураваных, катэджнага тыпу дамоў, у якіх размясціліся перасяленцы з мясцін, забруджаных радыяцыяй пасля Чарнобыльскай катастрофы.

**ЦЕРАБУЛІН** — вёска ў Палескім с/с, за 27 км на У ад Светлагорска, 28 км ад чыг. ст. Светлагорск-на-Бярэзіне (на лініі Жлобін—Калінкавічы), 128 км ад Гомеля, на Пд, У і З меліярацыйныя каналы, злучаныя з р. Іпа (прыток р. Трэмля). Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Парычы—Азарычы. 3 гаспадаркі, 4 жыхары (2004 г.).

Паводле пісьмовых крыніц вядома з 19 ст. як сяленне ў Чэрнінскай вол. Бабруйскага пав. Мінскай губ. У 1850 г. хутар, 2 двары, 24 жыхары. Пад 1879 г. паз-

начана ў ліку сяленняў Дубровенскага царк. прыхода. Паводле перапісу 1897 г. 7 двароў, 25 жыхароў. У 1908 г. 9 двароў, 54 жыхары, у 1925 г. 12 двароў. У 1930 г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У 1940 г. 17 двароў, 67 жыхароў. У Вял. Айч. вайну ў студз. 1943 г. фаш. акупанты поўнасцю спалілі вёску і загубілі 29 жыхароў. Складаецца з кароткай вуліцы. Забудова драўляная, сядзібнага тыпу.

**ЧКАЛАВА** (да 20.4.1939 Какуевічы) — вёска ў Баравікоўскім с/с, за 35 км на Пд ад Светлагорска, 36 км ад чыг. ст. Светлагорск-на-Бярэзіне (на лініі Жлобін—Калінкавічы), 100 км ад Гомеля, на З сетка меліярацыйных каналаў. Побач аўтадарога Васілевічы—Горваль. 167 гаспадарак, 392 жыхары (2004 г.).

Паводле пісьмовых крыніц вядома з 18 ст., калі с. Какуевічы было ў валоданні Патоцкіх, а затым Масальскіх. З 1791 г. дзейнічала Раства-Багародзіцкая царква. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1795 г. 27 двароў. У 1850 г. 35 двароў, уладанне памешчыка Адамовіча. У 1885 г. 54 двары, 270 жыхароў. У 1886 г. ўзведзены новы драўляны будынак царквы (у ёй захоўваліся метрычныя кнігі з 1814). У 1908 г. 88 двароў, 551 жыхар, у Якімаваслабодскай вол. Рэчыцкага пав. Мінскай губ. У 1900 г. адкрыта школа, якая размяшчалася ў наёмнай сял. хаце, у пач. 1920-х гг. ёй выдзелены нацыяналізаваны будынак. З 20.8.1924 г. да 16.7.1954 г. цэнтр Какуевіцкага (з 20.4.1939 Чкалаўскага) с/с Калінкавіцкага, з 27.9.1930 г. Мазырскага, з 5.2.1931 г. Рэчыцкага, з 20.2.1938 г. Васілевіцкага р-наў Мазырскай (да 27.9.1930 і 21.6.1935—20.2.1938) акругі, з 20.2.1938 г. Палескай, з 8.1.1954 г. Гомельскай абласцей. У 1930 г. 149 двароў, 821 жыхар. У 1931 г. арганізаваны калгас «13-ы Чырвоны Кастрычнік». У 1940 г. 123 двары, 738 жыхароў. У Вял. Айч. вайну ням. карнікі 17.1.1943 г. спалілі вёску і загубілі 23 жыхароў (пахаваны ў цэнтры вёскі). Паводле перапісу 1959 г. 535 жыхароў. На ўшанаванне памяці 69 землякоў, якія загінулі на франтах і ў партыз. барацьбе, каля будынка школы, што ў цэнтры вёскі, у 1965 г. пастаўлена скульптура воіна. Цэнтр СПК «Чкалава-Агра». Размешчаны камбінат быт. абслугоўвання, мех. майстэрня, лесапільня, млын, базавая школа, Дом культуры, б-ка, фельч.-акушэрскі пункт, аддз. сувязі, сталовая, магазін. Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы амаль мерыдыянальнай арыентацыі, да якой на Пд далучана дугападобная шыротная вуліца. Забудова двухбаковая, драўляная, сядзібнага тыпу. Радзіма засл. настаўніка БССР В.Л.Навіцкага.

**ЧЫРКАВІЧЫ** — вёска, цэнтр Чыркавіцкага с/с, за 10 км на ПнЗ ад Светлагорска, 10 км ад чыг. ст. Светлагорск-на-Бярэзіне (на лініі Жлобін—Калінкавічы), 120 км ад Гомеля, на р. Чырка (прыток р. Жардзянка) і аўтадарозе Парычы—Светлагорск. 434 гаспадаркі, 1101 жыхар (2004 г.).

Паводле пісьмовых крыніц вядома з 16 ст. як вёска ў Рэчыцкім пав. Мінскага ваяв. ВКЛ, велікакняжацкая ўласнасць. Паводле інвентару Бабруйскага староства 1639 г. сяло, 26 дымоў, з якіх толькі 15 заселеныя, 40 валок зямлі, з якіх 25 пустыя. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У



*Помнік маракам Дняпроўскай ваеннай флатыліі каля в. Чыркавічы.*

1840 г. на сродкі памешчыка П.П.Пушчына збудаваны замест састарэлага новы драўляны будынак Петра-Паўлаўскай царквы (у яе архіве захоўваліся метрычныя кнігі і прыходскія спісы з 1799). У выданні «Живописная Россия» ўзгадваецца як мястэчка. У 1885 г. 92 двары, 611 жыхароў, 2 царквы, школа. Паводле перапісу 1897 г. 149 двароў, 858 жыхароў, хлебазапасны магазін, карчма. У 1908 г. 165 двароў, 999 жыхароў, фельч. пункт, у Парыцкай вол. Бабруйскага пав. Мінскай губ. У 1917 г. 208 двароў, 1194 жыхары. У 1925 г. 220 двароў. З 20.8.1924 г. цэнтр Чыркавіцкага с/с Парыцкага, з 29.7.1961 г. Светлагорскага р-наў Бабруйскай (да 26.7.1930) акругі, з 20.2.1938 г. Палескай, з 8.1.1954 г. Гомельскай абласцей. У 1929 г. арганізаваны калгас «Новы мір», працавала кузня. У Вял. Айч. вайну фаш. акупанты часткова спалілі вёску. У ліст. 1943 г. часці 65-й арміі вызвалілі вёску, але ў снежні, сканцэнтраваўшы на гэтым участку буйныя сілы, фашысты пачалі наступленне і нашы войскі вымушаны былі адысці. На дапамогу прыйшла 194-я стралк. дывізія 48-й арміі, і варожае наступленне было спынена. У ходзе баёў загінулі 2275 сав. воінаў (пахаваны на паўд. ускраіне). Паводле перапісу 1959 г. 883 жыхары. Цэнтр КСУП «Бярэзіна». Размешчаны швейная майстэрня, лясніцтва, сярэдняя і музычная школы, Дом культуры, б-ка, дзіцячы сад, фельч.-акушэрскі пункт, аддз. сувязі, аэраклуб, магазін. Планіравачна складаецца з прамалінейнай шыротнай вуліцы, да цэнтра якой з Пд далучаецца завулак, а на У перакрыжоўваецца кароткай вуліцай. На Пн, паралельна да галоўнай праходзіць кароткая прамалінейная вуліца. Забудова драўляная, сядзібнага тыпу. Радзіма Героя Сав. Саюза, ген.-м. авіяцыі П.М.Стафаноўскага. Ён першы ў свеце выканаў вышэйшы пілатаж на рэактыўным самалёце.

*Школа ў Чыркавічах.*



У склад Чыркавіцкага с/с уваходзілі да 1939 г. пасёлкі Аляксандраўка, Куннае і Саломенка, хутары Арэхаўка, Вежка, Дуброва, За Бродам, Зарожжа, Звязда, Зайванеў, Заклетнае, Кіжын, Конская Старана, Крамены, Красная, Карма, Краўчая, Куннае, Лужкі, Млынок, Нігічоў, Пакроўка, Сердаў, Стража, Чырвоны Рог, Чырчаны, Язвы (не існуюць). 14.1.1944 г. фаш. акупанты спалілі в. Ала разам з жыхарамі (34 двары, 168 чалавек, не адрадзілася, увекавечана ў мемарыяльным комплексе Хатынь). Не існуюць з 1967 г. в. Старына, з 1975 г. — в. Светач (да 1964 — Какаль, увайшла ў межы Светлагорска) і з 1995 г. — хут. Мікалаеўка.

**ЧЭРНІН** — вёска ў Мікалаеўскім с/с, за 52 км на З ад Светлагорска, 50 км ад чыг. ст. Светлагорск-на-Бярэзіне (на лініі Жлобін—Калінкавічы), 162 км ад Гомеля, на Пд сетка меліярацыйных каналаў, на Пн мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Парычы—Азарычы. 57 гаспадарак, 107 жыхароў (2004 г.).

Паводле пісьмовых крыніц вядома з 16 ст. як вёска ў Рэчыцкім пав. Мінскага ваяв. ВКЛ, велікакняжацкая ўласнасць. У матэрыялах зямельнай памеры ў Бабруйскім старостве ў 1-й трэці 17 ст. пазначана як с. Чэрніна, 3 службы, 22 валокі зямлі. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1863 г. адкрыта школа, якая размяшчалася ў наёмнай сял. хаце, у 1878 г. для яе ўзведзены асобны будынак. На месцы

састарэлай у 1868 г. ўзведзена новая, на мураваным падмурку, драўляная Георгіеўская царква, у архіве якой захоўваліся метрычныя кнігі і прыходскія рэестры з 1801 г. У 1885 г. 53 двары, 514 жыхароў, 2 млыны. Цэнтр воласці (да 17.7. 1924), у якую ў 1885 г. ўваходзілі 23 сяленні з 442 дварамі. Паводле перапісу 1897 г. 76 двароў, 463 жыхары, хлебазапасны магазін, заезны двор. У 1908 г. 79 двароў, 530 жыхароў. У 1925 г. 136 двароў. З 20.8.1924 г. да 12.7.1973 г. цэнтр Чэрнінскага с/с Парыцкага, з 29.7.1961 г. Светлагорскага р-наў Бабруйскай (да 26.7.1930) акругі, з 20.2.1938 г. Палескай, з 20.9.1944 г. Бабруйскай, з 8.1.1954 г. Гомельскай абласцей. У 1930 г. арганізаваны калгас «Чырвоная зорка», працавала кузня. У 1940 г. 165 двароў, 672 жыхары. У Вял. Айч. вайну фаш. акупанты стварылі ў вёсцы свой апорны пункт, які партызаны разграмілі ў 1943 г. У чэрв. 1944 г. карнікі спалілі 162 двары, загубілі 61 жыхара. Вызвалена ад акупацыі 24.6.1944 г., у першы дзень наступлення 65-й арміі 1-га Бел. фронту ў час аперацыі «Баграціён». У баях за вёску і ў ваколіцах загінулі 879 воінаў і партызан (пахаваны ў брацкай магіле ў цэнтры вёскі). Сярод пахаваных экіпаж самалёта Героя Сав. Саюза ст. лейтэнанта С.Л.Краснапарава. Паводле перапісу 1959 г. 516 жыхароў. Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ, да якой з Пн далучаюцца 2 завулкі, з Пд — кароткая вуліца. Забудова двухбаковая, драўляная, сядзібнага тыпу. Радзіма аднаго з арганізатараў партыз. руху на Гомельшчыне ў Вял. Айч. вайну К.А.Дудко (камісара партыз. атрада імя Кірава, сакратара Парыцкага падп. РК КП(б)Б.

**ШУПЕЙКІ** — вёска ў Баравікоўскім с/с, за 12 км на ПдУ ад Светлагорска, 13 км ад чыг. ст. Светлагорск-на-Бярэзіне (на лініі Жлобін—Калінкавічы), 135 км ад Гомеля, на Пн — канал Яланскі, на У — канава Нізавая, злучаная з р. Сведзь (прыток р. Бярэзіна). Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Светлагорск—Рэчыца. 103 гаспадаркі, 225 жыхароў (2004 г.).

Паводле пісьмовых крыніц вядома з 16 ст. У 1510 г. зямля Шупейкаўшчына, якая пуставала, была падаравана каралём Жыгімонтам шляхціцу, намесніку Горвальскаму Б.Грыгарэвічу. Потым у валоданні Патоцкіх і Масальскіх. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1850 г. 38 двароў, уладанне памешчыка Адамовіча. Пад 1879 г. пазначана як сяленне ў Какуевіцкім царк. прыходзе. Паводле перапісу 1897 г. 63 двары, 417 жыхароў. У 1908 г. 84 двары, 511 жыхароў, школа, у Якімаваслабодскай вол. Рэчыцкага пав. Мінскай губ. З 8.12.1926 г. да 30.12.1927 г. цэнтр Шупейкаўскага с/с Горвальскага, з 4.8.1927 г. Рэчыцкага р-наў Рэчыцкай, з 9.6.1927 г. Гомельскай акруг. У 1930 г. арганізаваны калгас, працаваў ветраны млын. У 1940 г. 124 двары. У Вял. Айч. вайну ў чэрв. 1942 г. фаш. акупанты поўнасцю спалілі вёску і загубілі 3 жыхароў. Паводле перапісу 1959 г. 504 жыхары. Размешчаны клуб. Планіровачна складаецца з крывалінейнай, амаль шыротнай вуліцы, да якой з Пд далучаюцца 2 кароткія вуліцы. Забудова двухбаковая, няшчыльная, драўляная, сядзібнага тыпу.

**ЯЗВІН** — вёска ў Палескім с/с, за 20 км на З ад Светлагорска, 22 км ад чыг. ст. Светлагорск-на-Бярэзіне (на лініі Жлобін—Калінкавічы), 121 км ад Гомеля, вакол лес. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Парычы—Азарычы. 26 гаспадарак, 36 жыхароў (2004 г.).

Паводле пісьмовых крыніц вядома з 19 ст. як сяленне ў Парыцкай вол. Бабруйскага пав. Мінскай губ. Пад 1879 г. пазначана ў ліку сяленняў Парыцкага царк. прыхода. Паводле перапісу 1897 г.



*П.М.Стафаноўскі.*

33 двары, 212 жыхароў, капліца, карчма. У 1908 г. 43 двары, 295 жыхароў. У 1917 г. 332 жыхары. З 1921 г. пачала працаваць школа. У 1925 г. 57 двароў. У 1929 г. арганізаваны калгас. У 1940 г. 70 двароў. У Вял. Айч. вайну ў студз. 1943 г. фаш. акупанты поўнасцю спалілі вёску і загубілі 14 жыхароў. У баях за вёску загінулі 1043 сав. воіны, большасць з іх — са 194-й стралк. дывізіі 48-й арміі (пахаваны ў брацкай магіле на могілках). Паводле перапісу 1959 г. 238 жыхароў. Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ, забудова двухбаковая, няшчыльная, драўляная, сядзібнага тыпу.

**ЯЗВІНЦЫ** — вёска ў Краснаўскім с/с, за 57 км на ПнЗ ад Светлагорска, 10 км ад чыг. ст. Мошны (на ветцы Бабруйск—Рабкор ад лініі Асіповічы—Жлобін), 167 км ад Гомеля, вакол лес. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Бабруйск—Рэчыца. 19 гаспадарак, 32 жыхары (2004 г.).

Паводле пісьмовых крыніц вядома з 19 ст. як сяленне ў Брожскай вол. Бабруйскага пав. Мінскай губ. Пазначана на карце 1866 г., якой карысталася Зах. меліярацыйная экспедыцыя, якая працавала ў гэтых мясцінах у 1890-я гг. У 1908 г. 31 двор, 179 жыхароў. У 1925 г. 45 двароў. У 1930 г. арганізаваны калгас. У 1940 г. 65 двароў, 229 жыхароў. У Вял. Айч. вайну ў ліст. 1943 г. фаш. акупанты поўнасцю спалілі вёску і загубілі 6 жыхароў. Паводле перапісу 1959 г. 243 жыхары. Планіровачна складаецца з кароткай прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ, да якой на Пн далучаецца кароткая прамалінейная вуліца. Забудова двухбаковая, драўляная, сядзібнага тыпу.

**ЯКІМАВА СЛАБАДА** — вёска ў Баравікоўскім с/с, за 2 км на У ад Светлагорска, 3 км ад чыг. ст. Светлагорск-на-Бярэзіне (на лініі Жлобін—Калінкавічы), 112 км ад Гомеля, на аўтадарозе Светлагорск—Горваль, на З — пойма р. Бярэзіна, азёры Крывое і Глушэц. 446 гаспадарак, 1057 жыхароў (2004 г.).

Выяўленыя археолагамі паселішчы эпохі неаліту, 4—2 тысячагоддзі да н.э. (за 1 км на У і 1,5 км на ПдУ ад вёскі, абодва на правым беразе Бярэзіна), сведчаць аб дзейнасці чалавека ў гэтых мясцінах з глыбокай старажытнасці. Паводле пісьмовых крыніц вёска вядома з 18 ст. як сяленне ў Рэчыцкім пав. Мінскага ваяв. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. Дзейнічала Свята-Мікалаеўская царква (у ёй захоўваліся метрычныя кнігі з 1796). У 1850 г. 46 двароў, уладанне памешчыка Адамовіча. Замест старой у 1854 г. збудавана новая драўляная царква. У 1863 г. ўзведзены будынак школы і пачаліся ў ёй заняткі. Праз вёску праходзіў тракт з Рагачова на Валынь і ў Чарнігаў. Мелася паштовая станцыя (14 экіпажаў), на Бярэзіне паромная пераправа. Пазначана на карце 1866 г., якой карысталася Зах. экспедыцыя па асушэнні балот, якая працавала ў гэтых мясцінах у 1890-я гг. Цэнтр воласці, у склад якой у 1885 г. ўваходзілі 20 сяленняў з 580 дварамі. У 1886 г. адкрыта нар. вучылішча, 58 двароў, 310 жыхароў, царква. Паводле перапісу 1897 г. 73 двары, 462 жыхары, царква, нар. вучылішча, 4 крамы, карчма. Побач аднайменны фальварак. У 1908 г. 114 двароў, 668 жыхароў, аддз. паштовай сувязі, у Рэчыцкім пав. Мінскай губ. У выніку эпідэміі халеры ў 1910 г. памерлі 4 жыхары. Дзейнічаў амбулаторна-лячэбны пункт. У жн. 1918 г., у час ням. акупацыі, Горвальскі партыз. атрад заняў вёску і аднавіў у ёй сав. ўладу. З 20.8.1924 г. да 1928 г. цэнтр Якімаваслабодскага с/с Парыцкага р-на Бабруйскай акругі. У 1925 г. 185 двароў. У 1929 г. арганізаваны калгас. У 1930 г. 194 двары, 1077 жыхароў. У 1930-я гг. 8 вяскоўцаў былі неабгрунтавана рэпрэсіраваны. Паводле перапісу 1959 г. 1011 жыхароў. Размешчаны Светлагорская агарод-

нінная ф-ка і птушкафабрыка, сярэдняя школа, б-ка, фельч.-акушэрскі пункт, дзіцячы сад, Дом культуры, аддз. сувязі. Планіровачна складаецца з крыху выгнутай працяглай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ, да якой з З далучаюцца 3 вуліцы. Жылая забудова мураваная і драўляная, сядзібнага тыпу.

**ЯЛАНЫ** — вёска ў Баравікоўскім с/с, за 9 км на Пд ад Светлагорска, 10 км ад чыг. ст. Светлагорск-на-Бярэзіне (на лініі Жлобін—Калінкавічы), 93 км ад Гомеля, на р. Сведзь (прыток р. Бярэзіна) і аўтадарозе Светлагорск—Чкалава. 116 гаспадарак, 167 жыхароў (2004 г.).

Паводле пісьмовых крыніц вядома з 19 ст. як сяленне ў Якімаваслабодскай вол. Рэчыцкага пав. Мінскай губ. У 1858 г. 21 двор, 141 жыхар, уласнасць казны. Пад 1879 г. пазначана ў ліку сяленняў Славінскага царк. прыхода. Паводле перапісу 1897 г. 45 двароў, 270 жыхароў, хлебазапасны магазін, крама. У 1908 г. 59 двароў, 340 жыхароў, школа. У 1925 г. 102 двары. З 20.8.1924 г. да 8.10.1924 г. цэнтр Яланскага с/с Азарыцкага р-на Мазырскай акругі. У 1930 г. 106 двароў, 574 жыхары, арганізаваны калгас. Паводле перапісу 1959 г. 602 жыхары. Размешчаны клуб. Планіровачна складаецца з крывалінейнай, амаль шыротнай вуліцы. Забудова двухбаковая, шчыльная, драўляная, сядзібнага тыпу. Паблізу знаходзіцца радовішча буд. пяскоў.

## КРЫНІЦЫ І ЛІТАРАТУРА


Нацыянальны архіў Рэспублікі Беларусь, ф. 30, воп. 4, спр. 167, воп. 5, спр. 6755; ф. 31, воп. 1, спр. 856; ф. 34, воп. 1, спр. 397; ф. 42, воп. 1, спр. 658, воп. 2, спр. 143, 145, 146, 148, 150—153, 1420, 1421, 1984, 2014, 2016, 2282, 2283, 2287, 2289, 2293, 2294, 2297—2299, 2303, 2304, 2309, 2314, 2315, 2319; ф. 48, воп. 1, спр. 5052—5055, 5059.

Нацыянальны гістарычны архіў Беларусі, ф. 333, воп. 1, спр. 3601, воп. 9, спр. 47, 54, 56, 58, 262, 347, 703, 729, 732, 804, 3601; ф. 490, воп. 1, спр. 1; ф. 1174, воп. 1, спр. 1; ф. 1461, воп. 2, спр. 19; ф. 1892, воп. 2, спр. 9.

Расійскі дзяржаўны гістарычны архіў, ф. 1290, воп. 2, спр. 1290, 1294, 1330, 1332.

Акты, относящиеся к истории Западной России. Т. 1 (1340—1506). СПб., 1846.

Военно-историческое обозрение Российской империи. Т. 9, ч. 4. Минская губерния. СПб., 1848.

Материалы для географии и статистики России. Минская губерния. Т. 1. СПб., 1864.

Архимандрит Николай. Историко-статистические сведения о церквах Минской епархии. СПб., 1864.

Список землевладельцев Минской губернии за 1876 г. Мн., 1877.

Памятная книжка Минской губернии. Ч. 2. Мн., 1878.

Описание церквей и приходов Минской епархии. Вып. 7. Бобруйский уезд. Вып. 8. Речицкий уезд. Мн., 1879.

Живописная Россия. СПб. — М., 1882.

Волости и важнейшие селения Европейской России. Вып. 5. СПб., 1886.

Указатель фабрик и заводов Европейской России и Царства Польского. СПб., 1887.

Волости и гмины. Т. 22. Минская губерния. СПб., 1890.

Сборник императорского Русского исторического общества. Т. 35, ч. 1. СПб., 1892.

Памятная книжка Минской епархии на 1901 г. Мн., 1901.

Список населенных мест Минской губернии. Мн., 1909.

Список населенных мест БССР б. Минской губернии. Мн., 1924.

Львоўскі Э. Пад ботам легіянераў Доўбар-Мусніцкага. Мн., 1930.

Спіс прамысловых прадпрыемстваў БССР. Вып. 1—2. Мн., 1935.

Гісторыя Беларусі ў дакументах і матэрыялах. Т. 1. Мн., 1936.

Документы и материалы по истории Белоруссии (1900—1917 гг.). Т. 3. Мн., 1953.

Крестьянское движение в Белоруссии после отмены крепостного права (1861—1862). Мн., 1959.
Пад сцягам партыі. Гомель, 1959.
Полки идут на запад. М., 1964.
Болбас М.Ф. Развитие промышленности в Белоруссии (1795—1861 гг.). Мн., 1966.
Освобождение Белоруссии. 1944. М., 1970.
В.Кардашов. Рокоссовский. М., 1972.
Сборник законов Белорусской ССР. Т. 1. Мн., 1974.
Нацистская политика геноцида и «выжженной земли» в Белоруссии. 1941—1944. Мн., 1984.
Помнікі гісторыі і культуры Беларусі: Гомельская вобл. Мн., 1985.
Всенародная борьба в Белоруссии против немецко-фашистских захватчиков. Т. 3. Мн., 1985.
Павлов Я.С. В суровом сорок первом. Мн., 1985.
Рапановіч Я.Н. Слоўнік назваў населеных пунктаў Гомельскай вобласці. Мн., 1986.
Белоруссия в эпоху капитализма. Т. 2. Мн., 1990.
Спиридонов М.Ф. Закрепощение крестьянства Беларуси (XV—XVI вв.). Мн., 1993.
Энцыклапедыя гісторыі Беларусі. Т. 1—2. Мн., 1993—94.
Долготович Б.Д. Беларусь в годы Великой Отечественной войны. Мн., 1994.
Литовская метрика. Кн. 8 (1499—1514). Вильнюс, 1995.
Пинчуков В.П., Староверов М.И. Гомельщина многонациональная (20—30-е годы XX века). Вып. 1. Гомель, 1999.
Памяць: Гіст.-дак. хроніка Калінкавіцкага р-на. Мн., 1999.
Памяць: Гіст.-дак. хроніка Светлагорска і Светлагорскага р-на. Кн. 1. Мн., 2000.





РЭЧЫЦКІ РАЁН
КАЛІНКАВІЦКІ РАЁН
НАРАЎЛЯНСКІ РАЁН
БРАГІНСКІ РАЁН
ЛОЕЎСКІ Р-Н
МАЗЫРСКІ Р-Н
ХОЙНІКІ
Ізбынь
п. Хвойная Паляна
Дубровіца
Амелькаўшчына*
Рашаў*
Партызанская
Вялікі Бор
Восаў
Моклішча
Старч*
Берасneйка*
Рудзенька*
Гарошкаў*
Нарыманаў*
Хвойнае
Каранёўка
Куравое
Глінішча
Алексічы
Небытаў
Будаўнік
Калінкавічы
Грачыхіна
Загальская Слабада
Карчовае
Засценак*
п. Дуброва
п. Чырв. Араты*
Тунеўшчына
п. Рабец
Слабажанка
Клівы
Загалле
п. Кастрычнік
Паташня
Казялужжа
Віць
Малішаў
Карпілаўка
Судкова
Веляцін
Барысаўшчына
Езапоў
Паселічы
Пудакоў
Храпкава
Людзвін
Мархлейск
Дварышча
п. Смірноў*
Лісцвін
п. Каралін*
Буда*
Руднае
Берасцечка
Пятраш
п. Чырв. Зара*
Ломыш
Стралічава
п. Сокал*
Губарэвічы
Высокае
Звяняцкае
Навасёлкі
п. Пікуліха
Чырв. Рог*
Чырв. Возера*
Рудакоў
п. Іванаўка
п. Леніна*
Мокіш*
Чэхі*
Плоскае*
Тульгавічы
Бабчын*
Рудыя*
Прыпяць
Варацец*
Новы Пакроўск*
Кажушкаўскі кан.
Ломачы*
Кажушкі*
Новакухнаўшчына*
ПАЛЕСКІ
Слабада*
п. Гнездзенка*
Дронькі*
Хвашчоўка*
п. Града*
Пагоннае*
Пагонянскі кан.
РАДЫЯЦЫЙНА-ЭКАЛАГІЧНЫ
Аравічы*
Лясок*
Радзін*
Малочкі*
Сінцы*
Краснаселле*
Аляксандраўка
ЗАПАВЕДНІК
Баршчоўка*
Уласы*
Масаны*
Чамкоў*
Рэчыца
Васілевічы
кан. Бон-За
КІЕЎСКАЯ ВОБЛ.
УКРАІНА
Маштаб 1:360 000
30°00'
30°15'
29°45'
52°00'
51°50'
51°40'
51°30'



# ХОЙНІЦКІ РАЁН

Утвораны 8.12.1926 г. ў складзе Рэчыцкай акругі (да 12.4.1927). У чэрв. 1927 г. — ліп. 1930 г. ў Гомельскай акрузе, з 20.2.1938 г. ў Палескай вобл. З 8.1.1954 г. ў Гомельскай вобл. Знаходзіцца на левабярэжжы Прыпяці. 25.12.1962 г. ў сувязі з узбуйненнем сельскіх раёнаў у склад Хойніцкага р-на ўключаны Баршчоўскі і Радзінскі сельсаветы Камарынскага р-на. Уключае горад і 7 сельскіх саветаў. Частку тэрыторыі займае Палескі дзяржаўны радыяцыйна-экалагічны запаведнік. У сувязі з радыяцыйным забруджаннем пасля катастрофы на Чарнобыльскай АЭС на працягу 1991—97 гг. пераселены ў чыстыя месцы 1145 сямей (2505 чалавек). Пл. 2027 км$^2$. Насельніцтва 24,6 тыс. чалавек (2004 г.). Мяжуе на Пд з Кіеўскай вобл. Украіны, на У — з Брагінскім і Лоеўскім, на Пн — Рэчыцкім, на З — Калінкавіцкім, Мазырскім і Нараўлянскім р-намі. Праходзяць чыгунка Васілевічы—Хойнікі (ад лініі Калінкавічы—Гомель), аўтадарогі Калінкавічы—Камарын, Рэчыца—Аляксандраўка. Па Прыпяці вядзецца суднаходства. Карысныя выкапні: 2 радовішчы торфу з агульнымі запасамі 53 млн. т, 2 радовішчы цагельнай сыравіны. Па тэрыторыі раёна цячэ р. Прыпяць з прытокамі Віць і Тур'я. Глебы сельгасугоддзяў дзярнова-падзолістыя, дзярнова-падзолістыя забалочаныя, тарфяна-балотныя. З мінеральных глеб 40,2% пясчаных, 28,7% суглінкавых. Асушана 43,9 тыс. га забалочаных зямель. Якасная ацэнка с.-г. угоддзяў 34 балы. Лясы займаюць 42% тэрыторыі. Дзейнічаюць 10 сярэдніх, 3 дзевяцігадовыя школы, прафтэхвучылішча механізацыі сельскай гаспадаркі, дзіцячы дом, 15 дашкольных, 36 клубных устаноў, 27 масавых бібліятэк, 61 спарт. збудаванне, 3 б-цы, 26 фельч.-акушэрскіх пунктаў, 101 магазін і 39 прадпрыемстваў грамадскага харчавання.



*Рака Прыпяць у Хойніцкім раёне.*

**ХОЙНІКІ** — горад раённага падпарадкавання і чыг. станцыя (на ветцы Васілевічы—Хойнікі ад лініі Калінкавічы—Гомель), цэнтр Хойніцкага р-на, за 103 км на ПдЗ ад Гомеля, 340 км ад Мінска. 14,2 тыс. жыхароў (2004 г.).

Выяўленае археолагамі гарадзішча жал. веку (за 2 км на Пн ад чыг. станцыі) сведчыць аб засяленні гэтых мясцін з глыбокай старажытнасці. Паводле пісьмовых крыніц вядомы з 16 ст. як сяленне ў Рэчыцкім пав. Мінскага ваяв. ВКЛ, шляхецкая ўласнасць. У 1512 г.

*Пры ўездзе ў г. Хойнікі.*

*Плошча Леніна ў г. Хойнікі.*





пазначаны як вёска. Пад 1528 г. ўпамінаюцца ў пісьме намесніку Рэчыцкаму С.Палазовічу і намесніку Горвальскаму Б.Шалуху аб спрэчных землях паміж Рудабельцамі і Хвайнічанамі. Уваходзілі да канца 17 ст. ў склад Брагінскай вол., у валоданні князей Вішнявецкіх, Шуйскіх, а затым Прозаравых. У 1705 г. на сродкі кн. Шуйскага збудавана царква і даравана ім богаслужбовая кніга з запісам, пазначаным гэтым годам. У 1-й пал. 17 ст. Вішнявецкія ўзвялі тут замак, які пазней перайшоў да Прозараў. З 1698 г. ўладанне Служкі, у якога ў 1721 г. біскуп Юзаф Парышэвіч выкупіў замак. Жыццё ў замку спынілася ў 18 ст. У 1763 г. замест састарэлага ўзведзены новы будынак царквы. У канцы 18 ст. І.Прозар пабудаваў палац, дзе захоўваўся архіў уладальнікаў Брагіншчыны. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. Па інвентары 1844 г. належала Прозару. У 1858 г. мястэчка, 88 двароў, 449 жыхароў. У 1863 г. на месцы старой драўлянай збудавана мураваная Пакроўская царква. Імператар Аляксандр II падараваў царкве ў 1869 г. абраз Божай Маці ў срэбранай рызе, а імператрыца Марыя Аляксандраўна — шэраг сярэбраных рэчаў, неабходных для царк. службы. Прозар у Хойніках і наваколлі меў у 1876 г. 43 522 дзес. зямлі, 2 смалярні, 2 ветракі, 3 млыны, 2 карчмы. У 1864 г. адкрыта нар. вучылішча. У 1885 г. 580 жыхароў, царква, 3 сінагогі, 26 крам, конны млын. Цэнтр вол., у якую ў

*Будынак райвыканкома ў г. Хойнікі.*



*Скульптура «Маці з дзіцем» перад уездам у г. Хойнікі на шашы Гомель Хойнікі.*



1885 г. ўваходзілі 24 сяленні з 859 дварамі, а ў 1890 г. 36 сяленняў з 1567 дварамі. Тракт звязваў Хойнікі з в. Барбароў. Паводле перапісу 1897 г. 335 двароў, 2596 жыхароў, 5 яўр. малітоўных школ, паштова-тэлегр. аддзел, хлебазапасны магазін, 48 крам, заезны двор, карчма. На рубяжы 19—20 ст. у цэнтры мястэчка ўзведзена сядзіба — двухпавярховы, прамавугольны ў плане мураваны дом і парк. У выніку пажару 25.7.1901 г. згарэла вінакурня. Дзейнічалі жалезаробчы з-д, 2 вадзяныя млыны, 2 школы, б-ца,





Гарадскі парк у Хойніках.

Будынкі раённага Дома культуры і бібліятэкі ў г. Хойнікі.

аптэка, паштовая станцыя, царква і касцёл. Сяляне Хойнікаў у чэрв. 1905 г. прайгралі ў судзе справу аб спрэчных землях з памешчыкам Курындзіным. Абурыўшыся несправядлівым рашэннем суда, яны вырашылі не аддаваць зямлю памешчыку. Праз 4 гады гэта спрэчка набыла асаблівую вастрыню. Памешчык выклікаў 2 роты салдат, якія, аднак, адмовіліся абараняць інтарэсы памешчыка. На змену салдатам прыбылі казакі, якія дзейнічалі на карысць уладаў. У 1908 г. 338 двароў, 2891 жыхар.



Будынак раённага Дома культуры ў г. Хойнікі.

Больш шырокія памеры эканамічнае жыццё рэгіёна набыло са здачай у эксплуатацыю 23.9.1911 г. чыг. веткі Васілевічы—Хойнікі працягласцю 41,1 вярсты, прызначанай галоўным чынам для вывазу лесу. Распачала сваю дзейнасць чыг. станцыя. З 26.4.1919 г. да 8.12.1926 г. цэнтр вол. Рэчыцкага пав. Гомельскай губ. РСФСР. У выніку пагрому, які 9.11.1920 г. ўчынілі банды Булак-Балаховіча, загінулі 48 жыхароў. З 8.12.1926 г. цэнтр Хойніцкага р-на Рэчыцкай, з 9.6.1927 г. Гомельскай (да 26.7.1930) акругі, з 20.2.1938 г. Палескай, з 8.1.1954 г. Гомельскай абласцей. З 8.12.1926 г. да 30.12.1927 г. цэнтр Хойніцкага с/с. У 1930 г. 560 двароў, арганізаваны калгас, працавалі лесапільня (з 1912), маслазавод (з 1930), шпаларэзны з-д (з 1932), кравецкая і шавецкая майстэрні (з 1928), паравы млын, маслабойня, хлебапякарня (з 1929), смалакурня, пач. і 7-гадовая школы, хата-чытальня, аддз. спажывецкай кааперацыі, машынна-трактарная станцыя (з 1932). 15.7.1935 г. пастановай ЦВК і СНК БССР пацверджаны статут Хойнікаў як мястэчка, а 27.9.1938 г. аднесены да катэгорыі гарадскога пасёлка.

У Вял. Айч. вайну з ліст. 1941 г. і да дня вызвалення — 24.11.1943 г. дзейнічала патрыят. падполле (арганізаваў і ўзначальваў Я.І.Казачук). У ноч на 15.11.1942 г. партызаны напалі на варожы гарнізон у Хойніках і адначасова ўварваліся на чыг. станцыю. Бой працягваўся 14 гадзін, былі захоплены вялікія



Уезд у зону адсялення пасля аварыі на Чарнобыльскай АЭС.



*Помнік землякам, якія загінулі ў Афганістане, у г. Хойнікі.*



*«Помнік Смутку» (адселеным вёскам Хойніцкага раёна, якія пацярпелі ад выбуху на Чарнобыльскай АЭС) у Хойніках.*

трафеі. У баях за гар. пасёлак у ліст. 1943 г. загінулі 486 воінаў і партызан (пахаваны ў брацкай магілах па вул. Савецкай, на могілках і на зах. ускраіне. У ліку пахаваных Героі Сав. Саюза М.А.Грачыхін і У.Р.Калеснік). З 15.11.1943 г. да 15.1.1944 г. ў Хойніках размяшчаліся кіруючыя органы Палескай вобл. 274 жыхары горада загінулі на фронце. З 10.11. 1967 г. горад раённага падпарадкавання. У 1972 г. да горада далучаны вёскі Валокі, Першамайск, Забалацце, пасёлкі Калініна, у 1989 г. — Насолле, Чырвоная Ніва. Цэнтр калгаса імя М.І.Калініна. Размешчаны з-ды: жалезабетонных вырабаў, торфабрыкетны, камбікормавы, кансервавы, рамонтны, гідраапаратуры, дрэваапрацоўчы, сыраробчы і прамкамбінат, хлебакамбінат, «Аграпрамтэхніка», камбінат быт. абслугоўвання, раённыя вузлы электрычнай і паштовай сувязі, «Сельгасхімія», аптэка, цэнтр гігіены і эпідэміялогіі, лясгас. Здаўна ў Хойніках былі развіты мастацкае ткацтва, вышыўка, пляценне з лазы, карэнняў, лыку, бяросты і іншыя промыслы. У 1920-х гг. створана арцель «Чырвонае Палессе», на базе якой затым узнікла фабрыка мастацкіх вырабаў. Дзейнічаюць 4 сярэднія і мастацкая школы, музычная і дзіцячая спартыўная школы, Дом піянераў, 6 дашкольных устаноў, раённы Дом культуры і гарадскі клуб, 5 масавых бібліятэк, краязнаўчы музей, 3



*Царква Пакроўскага жаночага манастыра ў Хойніках.*



*Масласырзавод у г. Хойнікі.*





Сядзіба 19—пачатку 20 ст. у гарадскім парку Хойнікаў.

Сярэдняя школа № 3 у г. Хойнікі.



А.В.Бераснеў.

сувязі, дыспансер. Выходзіць раённая газета «Ленінскі сцяг» (з 5.12.1931). Планіровачна складаецца з паўн. і паўд. частак. Забудова квартальная. Агульная накіраванасць вуліц паўд. часткі блізкая да шыротнай, паўн. — блізкая да мерыдыянальнай, абапал чыгункі. Забудова мураваная, шматпавярховая, але значную частку складаюць аднапавярховыя драўляныя будынкі. У 1986—95 гг. пабудаваны мураваныя дамы на 206 кватэр, у якіх размясціліся перасяленцы з забруджаных радыяцыяй месц пасля Чарнобыльскай катастрофы. Радзіма Героя Сац. Працы М.Х.Качароўскага, чл.-кар. НАН Беларусі, засл. дзеяча навукі Рэспублікі Беларусь, доктара тэхн. навук, праф. А.В. Бераснева, аднаго з кіраўнікоў патрыят. падполля на тэрыторыі Палескай вобл. ў Вял. Айч. вайну Я.І.Казачука, засл. настаўніка БССР Л.А.Маўчанюк (былая в. Валокі). Паблізу ёсць жалезарудныя і тарфяныя залежы.

У склад Хойніцкага гарсавета да 1995 г. ўваходзілі вёскі Чырвоная Ніва (да 1930 Ліхтэрня), Будаўнік (да 1930 Паўлаўскае і Юр'еўскае), Настолле, Пальміра (не існуюць).

**АЛЕКСІЧЫ** — вёска ў Алексіцкім с/с, за 18 км на ПнЗ ад раённага цэнтра і чыг. ст. Хойнікі (на ветцы Васілевічы—Хойнікі ад лініі Калінкавічы—Гомель), за 121 км ад Гомеля, на У, Пн і З меліярацыйныя каналы, злучаныя з р. Прыпяць. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, а затым аўтадарозе Юравічы—Хойнікі. 52 гаспадаркі, 93 жыхары (2004 г.).

Паводле пісьмовых крыніц вядома з 16 ст. як сяленне ў Мазырскім пав. Мінскага ваяв. ВКЛ. У 1552 г. сяленне плаціла даніну на збудаванне Мазырскага замка. У 1568 г. 19 двароў, у валоданні Ф.С.Кміты. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. Маёнтак Алексічы пазначаны пад 1798 г. ў Рэчыцкім пав. У 1834 г. 22 двары. У 1850 г. 25 двароў, уладанне памешчыцы Сушынскай. У 1871 г. збудавана драўляная Свята-Мікалаеўская царква. Аб папярэдняй дзейнасці царквы сведчаць метрычныя кнігі, якія захоўваліся з 1796 г. У 1885 г. 31 двор, 211 жыхароў. Паводле перапісу 1897 г. 67 двароў, 475 жыхароў, царква, царк.-прыходская школа, хлебазапасны магазін, 3 ветракі. У 1908 г. 76 двароў, 587 жыхароў, у Юравіцкай вол. Рэчыцкага пав. Мінскай губ. З 8.12.1926 г. цэнтр Алексіцкага с/с Юравіцкага, з 8.7.1931 г. Хойніцкага р-наў Рэчыцкай, з 9.6.1927 г. Мазырскай (да 26.7.1930) акруг, з 20.2.1938 г. Палескай, з 8.1.1954 г. Гомельскай абласцей. У 1930 г. 99 двароў, 480 жыхароў. У 1931 г. арганізаваны калгасы «Камунар» і



Помнік танкістам-вызваліцелям у г. Хойнікі.

«Пралетарый», працавалі 2 ветракі, 3 кузні. У Вял. Айч. вайну ням. акупанты спалілі 123 будынкі і ў жн. 1943 г. расстралялі 790 жыхароў (пахаваны ў магіле ахвяр фашызму на могілках). 58 вяскоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 390 жыхароў. У складзе калгаса «Ленінскі шлях» (цэнтр — в. Глінішча). Размешчаны пач. школа, клуб, б-ка, б-ца, аптэка, аддз. сувязі, магазін. Планіровачна складаецца з крыху выгнутай вуліцы, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ і забудаванай двухбакова драўлянымі сял. сядзібамі. Побач ёсць залежы торфу. У склад Алексіцкага с/с да 1995 г. ўваходзілі пасёлкі Засценак, Нарыманаў (да 1929 Міхалёва) — не існуюць.

**АМЕЛЬКАЎШЧЫНА** — вёска ў Хойніцкім гарсавеце, за 20 км на ПнУ ад раённага цэнтра і чыг. ст. Хойнікі (на ветцы Васілевічы—Хойнікі ад лініі Калінкавічы—Гомель), 97 км ад Гомеля. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, а затым аўтадарозе Ровенская Слабада—Хойнікі. У сувязі з радыяцыйным забруджаннем пасля Чарнобыльскай катастрофы жыхары (173 сям'і) перaселены ў чыстыя месцы.

Паводле пісьмовых крыніц вядома з пач. 19 ст. як сяленне ў Маладушскай вол. Рэчыцкага пав. Мінскай губ. У 1811 г. ў валоданні Ракіцкіх. У 1850 г. 15 двароў, 117 жыхароў. Пад 1879 г. пазначана ў ліку сяленняў Маладушскага царк. прыхода. Паводле перапісу 1897 г. 43 двары, 216 жыхароў, хлебазапасны магазін. Побач быў аднайменны фальварак (2 двары, 30 жыхароў). У 1908 г. 46 двароў, 315 жыхароў. З 8.12.1926 г. да 1986 г. цэнтр Амелькаўшчынскага с/с Хойніцкага р-на Рэчыцкай, з 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. Гомельскай акруг, з 20.2.1938 г. Палескай, з 8.1.1954 г. Гомельскай абласцей. У 1930 г. 79 двароў, 411 жыхароў, пач. школа, аддзяленне спажывецкай кааперацыі. У 1931 г. арганізаваны калгас «Шлях Леніна», працавалі паравы млын (з 1913) і лесапільня. У 1940 г. 139 двароў, 608 жыхароў. У Вял. Айч. вайну ў вёсцы і навакольных лясах базіраваўся асобны партыз. атрад імя А.В. Суворава. У студз. 1943 г. ў раёне вёскі партызаны вялі цяжкія баі супраць карнікаў. У чэрв. 1943 г. ням. акупанты спалілі 135 двароў і загубілі 54 жыхароў. На франтах і ў партыз. барацьбе загінулі 252 жыхары з вёсак Амелькаўшчынскага с/с, памяць аб якіх увекавечвае скульптура воіна, пастаўленая ў 1970 г. ў цэнтры вёскі. Паводле перапісу 1959 г. ў вёсцы 376, на хутары 149 жыхароў. У 1968 г. да вёскі далучаны пас. Амелькаўшчына. Была цэнтрам калгаса «Шлях Леніна», дзейнічала аддз. сувязі. Планіровачна складаецца з 2 паралельных паміж сабой вуліц шыротнай арыентацыі, забудаваных двухбакова драўлянымі сядзібамі. У 1930-х гг. паблізу вёскі выяўлены жалезарудныя залежы.

**АРАВІЧЫ** — вёска ў Стралічаўскім с/с, за 40 км на ПдЗ ад раённага цэнтра і чыг. ст. Хойнікі (на ветцы Васілевічы—Хойнікі ад лініі Калінкавічы—Гомель), 143 км ад Гомеля, на тэрыторыі Палескага радыяцыйна-экалагічнага запаведніка, на У меліярацыйны канал, злучаны з р. Прыпяць (прыток р. Дняпро). Транспартныя сувязі па прасёлачнай, а затым аўтадарозе Даўляды—Хойнікі. У сувязі з радыяцыйным забруджаннем пасля Чарнобыльскай катастрофы жыхары (222 сям'і) перaселены ў чыстыя месцы, пераважна ў в. Кароткавічы Жлобінскага р-на.

Выяўленыя археолагамі паселішча неалітычнага часу (за 1 км на ПдЗ ад вёскі) і неалітычнае паселішча, што за 2 км на З ад вёскі, сведчаць аб засяленні тутэйшых мясцін з глыбокай старажытнасці. Паводле пісьмовых крыніц вядома з 16 ст. як сяленне Арэвічы ў Кіеўскім ваяв. У 1570—80 гг. належала Златаверхаму (Міхайлаўскаму) манастыру ў Кіеве. У 1777 г. забудавана драўляная Раства-Багародзіцкая царква. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1834 г. 53 двары, уладанне Горвата, у Рэчыцкім пав. Мін-

скай губ. У 1850 г. 66 двароў. У 1885 г. 334 жыхары. Дзейнічала царк.-прыходская школа. Паводле перапісу 1897 г. 87 двароў, 513 жыхароў, хлебазапасны магазін, карчма. У 1908 г. 115 двароў, 774 жыхары, у Дзярновіцкай вол. Рэчыцкага пав. З 8.12.1926 г. да 1986 г. цэнтр Аравіцкага с/с Хойніцкага р-на Рэчыцкай, з 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. Гомельскай акруг, з 20.2.1938 г. Палескай, з 8.1.1954 г. Гомельскай абласцей. У 1930 г. арганізаваны калгасы «Камунар» і «Перамога сацыялізму», працавалі вятрак, кузня, ваўначоска, пач. школа, хата-чытальня, аддз. спажывецкай кааперацыі. У Вял. Айч. вайну ў крас.—маі 1943 г. ў вёсцы базіраваўся Пуцілаўскі партыз. атрад і штаб злучэння С.А.Каўпака. Каля вёскі партызаны разграмілі ням. флатылію на Прыпяці. 81 вясковец загінуў на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 923 жыхары. Была цэнтрам саўгаса «Аравічы». Размяшчаліся сярэдняя школа, клуб, б-ка, дзіцячы сад-яслі, б-ца, аптэка, аддз. сувязі, магазін, сталовая. Планіровачна складаецца з дугападобнай вуліцы, арыентаванай амаль шыротна, да цэнтра якой з ПдЗ далучаецца кароткая прамалінейная вуліца. Забудова двухбаковая, драўляная, сядзібнага тыпу. Радзіма засл. работніка сельскай гаспадаркі Беларусі А.М.Антоненкі.

**БАБЧЫН** — вёска ў Стралічаўскім с/с, за 12 км на Пд ад раённага цэнтра і чыг. ст. Хойнікі (на ветцы Васілевічы—Хойнікі ад лініі Калінкавічы—Гомель), за 122 км ад Гомеля, на тэрыторыі Палескага радыяцыйна-экалагічнага запаведніка, на Пд і З меліярацыйныя каналы, злучаныя з Паганянскім каналам. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, а затым аўтадарозе Хойнікі—Брагін. У сувязі з радыяцыйным забруджаннем пасля Чарнобыльскай катастрофы жыхары (194 сям'і) пераселены ў чыстыя месцы.

Паводле пісьмовых крыніц вядома з 16 ст. як вёска ў Кіеўскім ваяв. У 1740 г. паблізу месца, дзе раней размяшчаўся замак уладальніка мястэчка Вішнявецкага, збудавана Крыжаўзвіжанская драўляная царква. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1811 г. сяло, ва ўладанні Ракіцкіх. У 1834 г. 53 двары. У 1844 г. уладанне Аскеркаў. У 1850 г. 315 жыхароў. У 1885 г. 56 двароў, 357 жыхароў, вінакурня, млын. Паводле перапісу 1897 г. сяло (92 двары, 523 жыхары, царква, капліца, 2-класная царк.-прыходская школа, крама, вятрак) і фальварак (2 двары, 51 жыхар), у Мікуліцкай вол. Рэчыцкага пав. Мінскай губ. У 1905 г. створаны сял. саюз. У 1908 г. 120 двароў, 713 жыхароў. З 8.12.1926 г. да 16.7.1954 г. цэнтр Бабчынскага с/с Хойніцкага р-на Палескай вобл. У 1930 г. арганізаваны калгасы «Камінтэрн» і «Кастрычнік», працавалі 2 ветракі, 4 кузні. У Вял. Айч. вайну ням. акупанты 17.5.1943 г. расстралялі 21 жыхара (пахаваны ў 4 магілах ахвяр фашызму, за 3 км на Пд ад вёскі). На франтах і ў партыз. барацьбе загінулі 294 землякі — жыхары вёсак былога калгаса «Кастрычнік», памяць аб якіх увекавечвае скульптурная кампазіцыя, пастаўленая ў 1970 г. ў цэнтры вёскі, у скверы. Паводле перапісу 1959 г. 839 жыхароў. Была цэнтрам калгаса «Кастрычнік». Размяшчаліся лясніцтва, сярэдняя школа (імя засл. дзеяча культуры БССР В.П.Палескага, ураджэнца в. Астрагляды Брагінскага р-на), Дом культуры, б-ка, фельч.-акушэрскі пункт,



*Пакінутая вёска Бабчын у зоне адсялення пасля аварыі на Чарнобыльскай АЭС.*

аддз. сувязі, магазін. Планіровачна складаецца з крыху скрыўленай вуліцы, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ, да якой у цэнтры далучаецца кароткая прамалінейная мерыдыянальная і на Пн — крыху выгнутая мерыдыянальная вуліцы. На зах. ускраіне — два невял. адасобленыя ўчасткі. Забудова двухбаковая, пераважна драўляная, сядзібнага тыпу. Радзіма польскага і бел. этнографа і фалькларыста Ч.Пяткевіча, ген.-м. Ф.П.Кірычэнкі і бел. паэта М.М.Мятліцкага. Непадалёку ад вёскі ёсць тарфяныя залежы.



*М.М.Мятліцкі.*

**БАРЫСАЎШЧЫНА** – вёска, цэнтр Барысаўшчынскага с/с, за 12 км на З ад раённага цэнтра і чыг. ст. Хойнікі (на ветцы Васілевічы—Хойнікі ад лініі Калінкавічы—Гомель), за 122 км ад Гомеля, на зах. ускраіне р. Вуць (прыток р. Прыпяць), на Пн меліярацыйныя каналы. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, а затым аўтадарозе Юравічы—Хойнікі. 134 гаспадаркі, 340 жыхароў (2004 г.).

Выяўленыя археолагамі гарадзішча ранняга жалез. веку (за 2 км на Пд ад вёскі, ва ўрочышчы Палосы) і паселішча эпохі неаліту і мезаліту (за 0,5 км на Пд ад вёскі) сведчаць аб засяленні тутэйшых мясцін з глыбокай старажытнасці. Паводле пісьмовых крыніц вядома з 16 ст. як сяленне ў Мазырскім пав. Мінскага ваяв. ВКЛ. Па звестках 1567 г. маёнтак Барысаўшчына павінен быў выдзяляць сваіх апалчэнцаў для фарміравання ўзброеных атрадаў ВКЛ. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1850 г. 44 двары, 288 жыхароў, уладанне Ястрэжэмскіх. Памешчык меў у вёсцы і ваколіцах у 1876 г. 773 дзес. зямлі. Пад 1879 г. пазначана ў ліку сяленняў Загальскага царк. прыхода. У 1885 г. 359 жыхароў. Паводле перапісу 1897 г. 88 двароў, 552 жыхары, царква, хлебазапасны магазін, у Хойніцкай вол. Рэчыцкага пав. Мінскай губ. Побач быў аднайменны фальварак з вінакурняй. У 2-й пал. 19 — пач. 20 ст. на паўн. ускраіне, на беразе ракі, была закладзена сядзіба — мураваны сядзібны дом (не збярогся), жылыя і гаспадарчыя будынкі, парк. У 1890 г. дваранін М.В. Ястрэжэльскі заснаваў вінакурню. З 1896 г. працавалі паравы млын і маслабойня. У 1908 г. 95 двароў, 611 жыхароў. У пач. 1920-х гг. створаны саўгас «Барысаўшчына». З 8.12.1926 г. цэнтр Барысаўшчынскага с/с Хойніцкага р-на Рэчыцкай, з 9.6.1927 г. Гомельскай (да 26.7. 1930) акруг, з 20.2.1938 г. Палескай, з 8.1.1954 г. Гомельскай абласцей. У 1930 г. 138 двароў, 741 жыхар, пач. школа, хата-чытальня, аддз. спажывецкай кааперацыі. У Вял. Айч. вайну 88 вяскоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. — 982, у 1970 г. — 299 жыхароў. Цэнтр саўгаса «Барысаўшчына». Размешчаны пач. школа, Дом культуры, б-ка, дзіцячыя яслі, фельч.-акушэрскі пункт, сталовая, 2 магазіны, швейная майстэрня, аддз. сувязі. Планіровачна складаецца з прамалінейнай, амаль мерыдыянальнай уздоўж ракі вуліцы, да абодвух канцоў якой з У далучаюцца больш працяглыя, прамалінейныя вуліцы і завулак. Забудова двухбаковая, драўляная, сядзібнага тыпу. У 1986—87 гг. пабудаваны мураваныя дамы на 50 кватэр, у якіх размясціліся перасяленцы з забруджаных радыяцыяй месц пасля Чарнобыльскай катастрофы. Радзіма бел. скульптара І.У.Краўчанкі. Паблізу вёскі ў 1930-х гг. выяўлены жалезарудныя залежы.

**БАРШЧОЎКА** – вёска ў Стралічаўскім с/с, за 50 км на Пд ад раённага цэнтра і чыг. ст. Хойнікі (на ветцы Васілевічы—Хойнікі ад лініі Калінкавічы—Гомель), за 168 км ад Гомеля, на тэрыторыі Палескага радыяцыйна-экалагічнага запаведніка, на У і Пн меліярацыйныя каналы, злучаныя з р. Прыпяць (прыток р. Дняпро). Транспартныя сувязі па прасёлачнай, а затым аўтадарозе Даўляды—Хойнікі. У сувязі з радыяцыйным забруджаннем пасля Чарнобыльскай катастрофы жыхары (124 сям'і) перасёлены ў чыстыя месцы.

Паводле пісьмовых крыніц вядома з 16 ст. як сяленне ў Рэчыцкім павеце Мінскага ваяв. ВКЛ. У 1570—80 гг. належала Златаверхаму (Міхайлаўскаму) манастыру ў Кіеве. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1811 г. 7 двароў. У 1876 г. памешчык Грудзевіч меў у вёсцы 135 дзес. зямлі. У 1885 г. 29 двароў, 178 жыхароў, вадзяны млын, у Дзёрнавіцкай вол. Рэчыцкага пав. Мінскай губ. Паводле перапісу 1897 г. 47 двароў, 276 жыхароў, царква, царк.-прыходская школа, хлебазапасны магазін, карчма. Побач быў аднайменны фальварак. У 1908 г. 67 двароў, 425 жыхароў. З 8.12.1926 г. да 20.2.1964 г. цэнтр Баршчоўскага с/с Камарынскага, з 25.12.1962 г. Хойніцкага р-наў Рэчыцкай, з 9.6.1927 г. Гомельскай (да 26.7.1930) акруг, з 20.2.1938 г. Палескай, з 8.1.1954 г. Гомельскай абласцей. У 1929 г. арганізаваны калгас. У 1940 г. 105 двароў. У Вял. Айч. вайну ў маі 1943 г. ням. карнікі поўнасцю спалілі вёску і загубілі 4 жыхароў. На франтах і ў партыз. барацьбе загінулі 88 жыхароў з вёсак Малочкі і Баршчоўка, памяць аб якіх увекавечваюць абеліск і скульптура партызана, пастаўленыя ў 1970 г. каля Дома культуры. Паводле перапісу 1959 г. 411 жыхароў. Была цэнтрам калгаса «1 Мая». Размяшчаліся 8-гадовая школа, клуб, б-ка, фельч.-акушэрскі пункт, вет. ўчастак, аддз. сувязі, магазін. Планіровачна складаецца з крывалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ і разгалінаванай у яе цэнтр. частцы. Забудова пераважна аднабаковая, драўляная, сядзібнага тыпу. Радзіма нар. артысткі БССР Р.М.Кашэльнікавай.

**БЕРАСНЁЎКА** — вёска ў Велікаборскім с/с. У сувязі з радыяцыйным забруджаннем пасля Чарнобыльскай катастрофы жыхары пераселены ў чыстыя месцы.

У 1897 г. фальварак Берасьнёўка (Буда), 9 жыхароў, уладанне Аскеркаў у Аўцюцевіцкай вол. Рэчыцкага пав. Мінскай губ. Пры фальварку існавала аднайменная слабодка (пасёлак), 5 гаспадарак, 34 жыхары. У 1909 г. ў маёнтку 106 жыхароў. У 1917 г. 809 дзес. зямлі, 5 жыхароў. У 1920-я гг. на месцы былога маёнтка ўтвораны хутары, 8 гаспадарак, 54 жыхары (у 1926). З 8.12.1926 г. ў Муціжарскім с/с Юравіцкага р-на Рэчыцкай, з 9.6.1927 г. Мазырскай акруг, з 10.11.1927 г. ў Хобненскім с/с. У 1927 г. 12 гаспадарак, 60 жыхароў. У 1959 г. вёска ў Велікаборскім с/с, 60 жыхароў, у 1970 г. — 50 жыхароў.

**БЕРАСЦЕЧКА** — вёска ў Паселіцкім с/с, за 7 км на ПдУ ад раённага цэнтра і чыг. ст. Хойнікі (на ветцы Васілевічы—Хойнікі ад лініі Калінкавічы—Гомель), за 110 км ад Гомеля. На паўд. ускраіне меліярацыйны канал, злучаны з р. Прыпяць (прыток р. Дняпро). Побач аўтадарога Хойнікі—Брагін. 3 гаспадаркі, 5 жыхароў (2004 г.).

Паводле пісьмовых крыніц вядома з 2-й пал. 19 ст. як сяленне ў Хойніцкай вол. Рэчыцкага пав. Мінскай губ. Паводле перапісу 1897 г. 18 двароў, 126 жыхароў. У 1930 г. 38 двароў, 206 жыхароў. 96% жыхароў складалі польскія сем'і. У 1931 г. арганізаваны калгас імя П.Л.Войкава, працавала кузня. 20 вяскоўцаў загінулі на франтах Вял. Айч. вайны. Паводле перапісу 1959 г. 151 жыхар. У складзе калгаса «Світанне» (цэнтр — в. Паселічы). Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ і забудаванай двухбакова драўлянымі сял. сядзібамі. Радзіма засл. ўрача БССР В.І.Ляшчынскага.

**БУДА** — вёска ў Дварышчанскім с/с, за 25 км на З ад раённага цэнтра і чыг. ст. Хойнікі (на ветцы Васілевічы—Хойнікі ад лініі Калінкавічы—Гомель), за 128 км ад Гомеля, на тэрыторыі Палескага радыяцыйна-экалагічнага запаведніка. На ўсх. ускраіне меліярацыйныя каналы, злучаныя з р. Прыпяць (прыток р. Дняпро). Транспартныя сувязі па прасёлачнай, а затым аўтадарозе Баршчоўка—Нароўля. У сувязі з радыяцыйным забруджаннем пасля Чарнобыльскай ка-



*Р.М.Кашэльнікава.*

тастрофы жыхары (56 сямей) пераселены ў чыстыя месцы.

Паводле пісьмовых крыніц вядома з 19 ст. як сяленне ў Юравіцкай вол. Рэчыцкага пав. Мінскай губ. Пад 1879 г. пазначана як сяленне ў Тульгавіцкім царк. прыходзе. Паводле перапісу 1897 г. 13 двароў. У 1908 г. 25 двароў, 137 жыхароў. У 1930 г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У 1940 г. 42 двары, 206 жыхароў. У Вял. Айч. вайну ў маі 1943 г. ням. акупанты поўнасцю спалілі вёску. 30 вяскоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 267 жыхароў. Уваходзіла ў склад калгаса імя А.А.Жданава (цэнтр — в. Тульгавічы). Планіровачна складаецца з 2 прамалінейных (мерыдыянальнай і шыротнай арыентацыі) вуліц. Забудова двухбаковая, драўляная, сядзібнага тыпу. Паблізу ёсць залежы жалезняку.

**БУДАЎНІК** (да 1930 Паўлаўскае і Юр'еўскае) — вёска Хойніцкага райсавета. 1 гаспадарка, 2 жыхары (2004 г.).

У 1943 г. Будаўнік — пасёлак у Хойніцкім местачковым (з 27.9.1938 гарпасялковым) Савеце Хойніцкага раёна. Існаваў калгас «Будаўнік», які налічваў 8 сем'яў калгаснікаў, 102 га зямлі. З 20.2.1938 г. ў Палескай, з 8.1.1954 г. ў Гомельскай абласцях, з 10.11.1967 г. ў падпарадкаванні Хойніцкага райсавета. У 1959 г. ў пасёлку 188, у 1970 г. — 185 жыхароў.

**ВАРАЦЕЦ** — вёска ў Стралічаўскім с/с, за 18 км на ПдУ ад раённага цэнтра і чыг. ст. Хойнікі (на ветцы Васілевічы—Хойнікі ад лініі Калінкавічы—Гомель), за 121 км ад Гомеля, на У меліярацыйныя каналы, злучаныя з р. Прыпяць (прыток р. Дняпро). Транспартныя сувязі па прасёлачнай, а затым аўтадарозе Брагін—Хойнікі. У сувязі з радыяцыйным забруджаннем пасля Чарнобыльскай катастрофы жыхары (55 сямей) пераселены ў чыстыя месцы.

Паводле пісьмовых крыніц вядома з 17 ст. як сяленне ў Рэчыцкім пав. Мінскага ваяв. У 1687 г. хутар, у складзе маёнтка памешчыка Я.Канецпольскага. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. Як сведчыць інвентар 1844 г., уваходзіла ў склад маёнтка Хойнікі, які належаў В.К.Прозару. У 1850 г. вёскі Варацец-І (15 двароў, 102 жыхары) і Варацец-ІІ (10 двароў, 53 жыхары), у Мікуліцкай вол. Рэчыцкага пав. Мінскай губ. Пад 1879 г. пазначана ў ліку сяленняў Астраглядскага царк. прыхода. Паводле перапісу 1897 г. ў в. Варацец-І 27 двароў, 179 жыхароў, у в. Варацец-ІІ 17 двароў, 149 жыхароў. З 8.12.1926 г. да 30.12.1927 г. цэнтр Варацецкага с/с Хойніцкага р-на Рэчыцкай, з 9.6.1927 г. Гомельскай акруг. У 1931 г. арганізаваны калгас. 54 вяскоўцы загінулі на франтах Вял. Айч. вайны. Паводле перапісу 1959 г. 615 жыхароў. Уваходзіла ў склад калгаса «Кастрычнік» (цэнтр — в. Бабчын). Планіровачна складаецца з амаль прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ. Забудова двухбаковая, драўляная, сядзібнага тыпу. Радзіма Героя Сац. Працы Л.В.Сакалоўскага і Героя Сац. Працы, засл. механізатара БССР У.П.Кота. У пач. 1930-х гг. паблізу выяўлены залежы жалезных руд і мергелю.

**ВЕЛЯЦІН** — вёска ў Паселіцкім с/с, за 11 км на ПдУ ад раённага цэнтра і чыг. ст. Хойнікі (на ветцы Васілевічы—Хойнікі ад лініі Калінкавічы—Гомель), за 114 км ад Гомеля, на Пн меліярацыйныя каналы, злучаныя з р. Прыпяць (прыток р. Дняпро). Транспартныя сувязі па прасёлачнай, а затым аўтадарозе Хойнікі—Брагін. 175 гаспадарак, 429 жыхароў (2004 г.).

Паводле пісьмовых крыніц вядома з 17 ст. як сяленне ў Рэчыцкім пав. Мінскага ваяв. У 1687 г. сяло, у складзе маёнтка памешчыка Я.Канецпольскага. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1850 г. 602 жыхары. 29.5.1881 г. ў выніку пажару згарэла 57 двароў. З 8.12.1926 г. да 30.12.1927 г. цэнтр Веляцінскага с/с Хойніцкага р-на Рэчыцкай, з 9.6.1927 г.

Гомельскай акруг. У 1930 г. 88 двароў. У пач. 1930 г. арганізаваны калгас «Бальшавік», працавалі вятрак, кузня. У Вял. Айч. вайну на франтах і ў партыз. барацьбе загінулі 99 вяскоўцаў, памяць аб якіх увекавечвае скульптура воіна, пастаўленая ў 1969 г. каля школы. Паводле перапісу 1959 г. 862 жыхары. Цэнтр калгаса «Бальшавік». Размешчаны 9-гадовая школа, Дом культуры, б-ка, фельч.-акушэрскі пункт, дзіцячы сад, аддз. сувязі, магазін, швейная майстэрня. Планіровачна складаецца з крыху скрыўленай працяглай вуліцы, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ, да якой з Пн далучаюцца кароткія вуліцы. Забудавана двухбакова, пераважна драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. У 1986—94 гг. узведзены мураваныя дамы на 50 кватэр, у якіх размясціліся перасяленцы з забруджаных радыяцыяй месц пасля Чарнобыльскай катастрофы. Радзіма засл. работніка прамысловасці Рэспублікі Беларусь В.А.Найдзенкі.

**ВІЦЬ** (да 30.7.1964 Гноеў) — вёска ў Барысаўшчынскім с/с, за 16 км на З ад раённага цэнтра і чыг. ст. Хойнікі (на ветцы Васілевічы—Хойнікі ад лініі Калінкавічы—Гомель), 119 км ад Гомеля, на ўсх. ускраіне р. Віць (прыток р. Прыпяць). Транспартныя сувязі па прасёлачнай, а затым аўтадарозе Юравічы—Хойнікі. 235 гаспадарак, 652 жыхары (2004 г.).

Паводле пісьмовых крыніц вядома з 19 ст. як сяленне ў Хойніцкай вол. Рэчыцкага пав. Мінскай губ. У 1850 г. 39 двароў, 239 жыхароў, уладанне казны. Пад 1879 г. пазначана як сяленне ў Загальскім царк. прыходзе. Паводле перапісу 1897 г. 110 двароў, 546 жыхароў, хлебазапасны магазін. У 1908 г. 121 двор, 704 жыхары. З 8.12.1926 г. да 30.12.1927 г. цэнтр Гноеўскага с/с Хойніцкага р-на Рэчыцкай, з 9.6.1927 г. Гомельскай акруг. У 1930 г. 194 двары, 938 жыхароў, арганізаваны калгас «Чырвоная зорка», працавалі вятрак і кузня. У Вял. Айч. вайну 102 вяскоўцы загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 1194 жыхары. У складзе саўгаса «Барысаўшчына» (цэнтр — в. Барысаўшчына). Размешчана сярэдняя школа. Планіровачна складаецца з 2 прамалінейных, паралельных паміж сабой мерыдыянальнай арыентацыі вуліц, злучаных завулкамі. На У — кароткая прамалінейная вуліца. Забудова двухбаковая, драўляная, сядзібнага тыпу.

**ВОСАЎ** — вёска ў Велікаборскім с/с, за 15 км на Пн ад раённага цэнтра і чыг. ст. Хойнікі (на ветцы Васілевічы—Хойнікі ад лініі Калінкавічы—Гомель), за 118 км ад Гомеля. На Пд і З меліярацыйныя каналы, злучаныя з р. Прыпяць (прыток р. Дняпро), на У праходзіць чыгунка. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, а затым аўтадарозе Хойнікі—Рэчыца. 33 гаспадаркі, 76 жыхароў (2004 г.).

Выяўленае археолагамі гарадзішча ранняга жал. веку (за 0,8 км на З ад вёскі, ва ўрочышчы Зайцава) сведчыць аб засяленні тутэйшых мясцін з глыбокай старажытнасці. Паводле пісьмовых крыніц вядома з пач. 20 ст. як сяленне ў Хойніцкай вол. Рэчыцкага пав. Мінскай губ. У 1908 г. ўрочышча, 1 двор, 3 жыхары. У 1930 г. 40 двароў, 188 жыхароў. У 1940 г. 75 двароў, 267 жыхароў. У Вял. Айч. вайну ў чэрв. 1943 г. ням. акупанты спалілі вёску і загубілі 16 жыхароў. 19 вяскоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 334 жыхары. У складзе саўгаса «Велікаборскі» (цэнтр — в. Вялікі Бор). Планіровачна складаецца з крывалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ, да якой далучаюцца кароткія вуліцы. Забудавана няшчыльна, двухбакова драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**ВЫСОКАЕ** — вёска ў Стралічаўскім с/с, за 8 км на ПдУ ад раённага цэнтра і чыг. ст. Хойнікі (на ветцы Васілевічы—Хойнікі ад лініі Калінкавічы—Гомель), за 111 км ад Гомеля. Побач аўтадарога Хойнікі—Брагін. 17 гаспадарак, 51 жыхар (2004 г.).

Паводле пісьмовых крыніц вядома з 18 ст. як сяленне ў Рэчыцкім пав. Мін-

скага ваяв. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1795 г. 6 двароў. У 1850 г. 13 двароў, 102 жыхары, уладанне графіні Ракіцкай, у Мікуліцкай вол. Рэчыцкага пав. Мінскай губ. У 1866 г. 39 двароў, 272 жыхары. 9494 дзес. зямлі меў тут у 1889 г. граф О.Д.Тышкевіч. Паводле перапісу 1897 г. 45 двароў, 294 жыхары, школа граматы, вятрак. У 1908 г. 58 двароў, 377 жыхароў. З 8.12.1926 г. да 30.12.1927 г. цэнтр Высоцкага с/с Хойніцкага р-на Гомельскай акругі. У 1929 г. арганізаваны калгас «Чырвоная перамога», працавалі 2 ветракі і кузня. У 1939 г. 66 двароў, 393 жыхары. 59 вяскоўцаў загінулі на франтах Вял. Айч. вайны. Паводле перапісу 1959 г. 518 жыхароў. У складзе саўгаса «Стралічава» (цэнтр — в. Стралічава). Планіровачна складаецца з дугападобнай вуліцы, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ, да якой з Пд далучаюцца завулкі. Забудова двухбаковая, драўляная, сядзібнага тыпу.

**ВЯЛІКІ БОР** — вёска ў Велікаборскім с/с, за 22 км на Пн ад Хойнікаў, 6 км ад чыг. ст. Аўрамаўская (на ветцы Васілевічы—Хойнікі ад лініі Калінкавічы—Гомель), за 99 км ад Гомеля. Праз вёску праходзіць меліярацыйны канал, злучаны з р. Прыпяць (прыток р. Дняпро). Транспартныя сувязі па прасёлачнай, а затым аўтадарозе Хойнікі—Рэчыца. 375 гаспадарак, 1052 жыхары (2004 г.).

Выяўленае археолагамі гарадзішча ранняга жал. веку (за 0,8 км на Пд ад вёскі, ва ўрочышчы Семеч) сведчыць аб засяленні тутэйшых мясцін з глыбокай старажытнасці. Паводле пісьмовых крыніц вядома з 16 ст. як сяленне ў Кіеўскім ваяв. Па інвентары 1721 г. 27 двароў. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1811 г. ўладанне Прозара. Па інвентару 1844 г. ў складзе маёнтка Хойнікі. У 1850 г. 69 двароў, 441 жыхар. Дзейнічала Раства-Багародзіцкая царква (захоўваліся метрычныя кнігі з 1865). Замест састарэлага ў 1871 г. збудаваны новы драўляны будынак царквы. У 1885 г. 527 жыхароў. Паводле перапісу 1897 г. 162 двары, 795 жыхароў, нар. вучылішча, хлебазапасны магазін, карчма. У 1908 г. 184 двары, 989 жыхароў, у Хойніцкай вол. Рэчыцкага пав. Мінскай губ. З 8.12.1926 г. да 1986 г. цэнтр Велікаборскага с/с Хойніцкага р-на Рэчыцкай, з 9.6.1927 г. Гомельскай (да 26.7.1930) акруг, з 20.2.1938 г. Палескай, з 8.1.1954 г. Гомельскай абласцей. У 1930 г. 211 двароў, 1200 жыхароў, школа, аддзяленне спажывецкай кааперацыі. У 1930 г. арганізаваны калгас «Чырвоны Бор», працавалі цагельня, кузня, вятрак, стальмашня. У 1940 г. 420 двароў, 1800 жыхароў. У Вял. Айч. вайну 3.6. 1943 г. ням. акупанты загубілі 265 жыхароў (пахаваны ў магіле ахвяр фашызму каля школы), спалілі 262 двары. 118 вяскоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 988 жыхароў. Цэнтр саўгаса «Велікаборскі». Размешчаны 9-гадовая школа, Дом культуры, б-ка, 2 магазіны, аддз. сувязі, дзіцячы сад. Планіровачна складаецца з крывалінейнай з завулкамі вуліцы, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ і перакрыжаванай прамалінейнай кароткай вуліцай. Забудова двухбаковая, пераважна драўляная, сядзібнага тыпу. У 1986—92 гг. узведзены мураваныя дамы на 68 кватэр, у якіх размясціліся перасяленцы з забруджаных радыяцыяй месц пасля Чарнобыльскай катастрофы. Радзіма бел. пісьменнікаў лаўрэата Дзярж. прэміі БССР Б.І.Сачанкі, З.А.Бяспалага, А.К.Шлега і доктара гіст. навук, праф., засл. журналіста Рэспублікі Беларусь І.І.Сачанкі. У



*У музеі Барыса Сачанкі ў в. Вялікі Бор.*



*Б.І.Сачанка.*



*З.А.Бяспалы.*

склад Велікаборскага с/с да 1995 г. ўваходзілі вёскі Бераснёў, Рудзенка, Старч (не існуюць).

**ГАРОШКАЎ** — вёска ў Паселіцкім с/с. У сувязі з радыяцыйным забруджаннем пасля Чарнобыльскай катастрофы жыхары пераселены ў чыстыя месцы.

У 1844 г. Гарошкаў — вёска фальварка Волацкі ці Хойніцкі маёнтка Хойнікі, 18 двароў, 126 жыхароў, уладанне Уладзіслава Карлавіча Прозара; у Рэчыцкім пав. Мінскай губ. У 1870 г. вёска ў складзе Хойніцкай вол. таго ж пав. і губерні, 57 рэвізскіх душ сялян. У 1897 г. 35 двароў, 245 жыхароў, капліца, хлебазапасны магазін. У 1909 г. 40 двароў, 253 жыхары. У 1917 г. 52 двары, 307 жыхароў. З 8.12.1926 г. вёска — цэнтр Гарошкаўскага с/с Хойніцкага р-на Рэчыцкай, з 9.6.1927 г. Гомельскай акруг, з 30.12.1927 г. ў Карчоўскім с/с таго ж раёна і акругі (да 26.7.1930), з 20.2.1938 г. ў Палескай, з 8.1.1954 г. ў Гомельскай абласцях. У 1926 г. вёска налічвала 76 двароў, 364 жыхары. У 1959 г. вёска, у Забалацкім с/с, 191 жыхар; у 1970 г. — у Паселіцкім с/с, 154 жыхары.

**ГЛІНІШЧА** — вёска, цэнтр Алексіцкага с/с, за 26 км на З ад раённага цэнтра і чыг. ст. Хойнікі (на ветцы Васілевічы—Хойнікі ад лініі Калінкавічы—Гомель), за 133 км ад Гомеля, на Пн меліярацыйныя каналы, злучаныя з р. Прыпяць (прыток р. Дняпро). Транспартныя сувязі па прасёлачнай, а затым аўтадарозе Хойнікі—Мазыр. 226 гаспадарак, 592 жыхары (2004 г.).

Паводле пісьмовых крыніц вядома з 18 ст. як сяленне ў Рэчыцкім пав. Мінскага ваяв. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1795 г. 26 двароў, 138 жыхароў. У 1811 г. 36 двароў, уладанне Аскеркаў. Пад 1879 г. ўпамінаецца ў ліку сяленняў Алексіцкага царк. прыхода. Паводле перапісу 1897 г. 61 двор, 270 жыхароў, школа граматы, хлебазапасны магазін, карчма, у Юравіцкай вол. Рэчыцкага пав. Мінскай губ. З 8.12.1926 г. да 10.11.1927 г. цэнтр Глінішчанскага с/с Юравіцкага р-на Рэчыцкай, з 9.6.1927 г. Мазырскай акруг. У 1930 г. 159 двароў, 903 жыхары. У 1931 г. арганізаваны калгас «Рассвет», працавалі вятрак і кузня. У Вял. Айч. вайну ў 1941 г. ням. акупанты спалілі вёску. На франтах і ў партыз. барацьбе загінулі 152 жыхары з вёсак Алексіцкага с/с, памяць аб якіх увекавечваюць скульптура воіна і стэла, пастаўленыя ў 1975 г. ў цэнтры вёскі. Паводле перапісу 1959 г. 878 жыхароў. З 1986 г. цэнтр Алексіцкага с/с. Цэнтр калгаса «Ленінскі шлях». Размешчаны сярэдняя школа, Дом культуры, б-ка, б-ца, магазін, аддз. сувязі, мемарыяльны музей народнага пісьменніка БССР І.П.Мележа (з 1983), дзіцячы сад. Планіровачна складаецца з крывалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ, ад якой на Пн амаль у такім жа кірунку размешчана кароткая прамалінейная вуліца. Забудавана двухбакова драўлянымі сял. сядзібамі. У 1986—90 гг. пабудаваны мураваныя дамы на 50 кватэр, у якіх размясціліся перасяленцы з забруджаных радыяцыяй месц пасля Чарнобыльскай катастрофы. Радзіма нар. пісь-



*І.П.Мележ.*



*У музеі Івана Мележа ў в. Глінішча.*



*Дом-музей Івана Мележа ў в. Глінішча.*

меннікa Беларусі, лаўрэата Ленінскай прэміі І.П.Мележа. Яго імя носіць вясковая сярэдняя школа, у 1980 г. ўстаноўлена літаратурная прэмія Саюза пісьменнікаў БССР імя І.П.Мележа. Непадалёку ад вёскі залежы гліны.

**ГНЕЗДЗЕНКА** — пасёлак у Стралічаўскім с/с, за 35 км на ПдЗ ад раённага цэнтра і чыг. ст. Хойнікі (на ветцы Васілевічы—Хойнікі ад лініі Калінкавічы—Гомель), за 138 км ад Гомеля. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, а затым аўтадарозе Даўляды—Хойнікі. У сувязі з радыяцыйным забруджаннем пасля Чарнобыльскай катастрофы жыхары (2 сям'і) перасelены ў чыстыя месцы.

Выяўленае археолагамі паселішча эпохі неаліту (побач з пасёлкам) сведчыць аб засяленні тутэйшых мясцін з глыбокай старажытнасці. Сучасны пасёлак засн. ў пач. 1920-х гг. перасяленцамі з суседніх вёсак на былых памешчыцкіх землях. У 1931 г. пасялкоўцы ўступілі ў калгас. Паводле перапісу 1959 г. 48 жыхароў. Быў у складзе саўгаса «Аравічы» (цэнтр — в. Аравічы). Забудова драўляная сядзібнага тыпу.

**ГРАДА** — пасёлак у Стралічаўскім с/с. У сувязі з радыяцыйным забруджаннем пасля Чарнобыльскай катастрофы жыхары перасelены ў чыстыя месцы.

У 1844 г. Града (Грады) — вёска аднайменнага маёнтка (уваходзіла толькі в. Грады), 21 двор, 150 жыхароў, уласнасць памешчыцы Юліі Кулішынай, у Рэчыцкім пав. Мінскай губ. У сваім карыстанні вяскоўцы мелі 340 дзес. ворыва, 99 дзес. сенажаці; 70 валоў, 35 кароў, 222 авечкі, 102 свінні, іншую жывёлу. У 1870 г. вёска, 56 рэвізскіх душ сялян, і маёнтак, уладанне Яжоўскіх, у Юравіцкай вол. таго ж пав. У 1880 г. ў Юравіцкай вол. існавалі 2 маёнткі Града: уладанне Яжоўскай Юліі Іванаўны, 436 дзес. зямлі, і ўласнасць Куліша Міхаіла Феліксавіча, 506 дзес. зямлі. У 1897 г. вёска, 34 двары, 208 жыхароў, школа граматы, сельскі хлебазапасны магазін, ветравы млын, і маёнтак з 3 жыхарамі (пабудовы маёнтка размяшчаліся побач з вёскай). У 1909 г. ў вёсцы 40 двароў, 275 жыхароў, і фальварку (маёнтку) 12 жыхароў. У 1917 г. вёска налічвала 63 гаспадаркі, 314 жыхароў. Пры яе землеўпарадкаванні ў 1920-я гг. быў таксама створаны пас. Калініна, 22 двары, 106 жыхароў (на 1926). З 8.12.1926 г. да 10.11.1927 г. вёска — цэнтр Градскага с/с Юравіцкага р-на Рэчыцкай, з 9.6.1927 г. Мазырскай акруг (да 26.7.1930), з 8.7.1931 г. ў Хойніцкім р-не, з 20.2.1938 г. ў Палескай, з 8.1.1954 г. ў Гомельскай абласцях. У 1926 г. 84 двары, 390 жыхароў. У 1931 г. ў вёсцы адчынены яслі, школа, існаваў калгас «Працоўная пчала». У 1959 г. Града — пасёлак Аравіцкага с/с, 209 жыхароў, у 1970 г. — 111 жыхароў.

**ГРАЧЫХІНА** (да 24.6.1977 Багуславец) — вёска ў Алексіцкім с/с, за 15 км на ПнЗ ад раённага цэнтра і чыг. ст. Хойнікі (на ветцы Васілевічы—Хойнікі ад лініі Калінкавічы—Гомель), за 118 км ад Гомеля, на У меліярацыйны канал, злучаны з р. Прыпяць (прыток р. Дняпро). Транспартныя сувязі па прасёлачнай, а затым аўтадарозе Хойнікі—Мазыр. 22 гаспадаркі, 44 жыхары (2004 г.).

Паводле пісьмовых крыніц вядома з 19 ст. як сяленне ў Юравіцкай вол. Рэчыцкага пав. Мінскай губ. У 1834 г. — 5, у 1850 г. — 6 двароў. Паводле перапісу 1897 г. 10 двароў, 55 жыхароў. У 1908 г. 14 двароў. У 1930 г. 23 двары, 109 жыхароў. У 1931 г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну ў баі каля вёскі

20.11.1943 г. загінуў Герой Сав. Саюза М.А.Грачыхін. У памяць аб ім вёска названа яго імем. 28 вяскоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 176 жыхароў. У складзе калгаса «Бальшавіцкая перамога» (цэнтр — в. Слабажанка). Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ і забудаванай двухбакова драўлянымі сял. сядзібамі. У 1930-х гг. паблізу вёскі выяўлены жалезарудныя залежы.

**ГУБАРЭВІЧЫ** — вёска ў Стралічаўскім с/с, за 8 км на Пд ад раённага цэнтра і чыг. ст. Хойнікі (на ветцы Васілевічы—Хойнікі ад лініі Калінкавічы—Гомель), за 111 км ад Гомеля. На Пд меліярацыйны канал, злучаны з р. Прыпяць (прыток р. Дняпро). Транспартныя сувязі па прасёлачнай, а затым аўтадарозе Хойнікі—Брагін. 24 гаспадаркі, 70 жыхароў (2004 г.).

Паводле пісьмовых крыніц вядома з 16 ст. як в. Губаровічы ў Кіеўскім ваяв. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1811 г. сяло, ва ўладанні Ракіцкіх. У 1850 г. 38 двароў, 296 жыхароў. Пад 1879 г. пазначана ў ліку сяленняў Стралічаўскага царк. прыхода. У 1885 г. 68 двароў, 270 жыхароў, Раства-Багародзіцкая царква. Паводле перапісу 1897 г. 103 двары, 650 жыхароў, царква, школа граматы, 2 ветракі і аднайменны фальварак. У 1908 г. 130 двароў, 830 жыхароў, у Мікуліцкай вол. Рэчыцкага пав. Мінскай губ. З 8.12.1926 г. да 30.12.1927 г. цэнтр Губарэвіцкага с/с Хойніцкага р-на Рэчыцкай, з 9.6.1927 г. Гомельскай акруг. У 1930 г. арганізаваны калгас «Хваля рэвалюцыі», працавала кузня. 104 вяскоўцы загінулі на франтах Вял. Айч. вайны. Паводле перапісу 1959 г. 756 жыхароў. У складзе саўгаса «Стралічаў» (цэнтр — в. Стралічаў). Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ. Забудова двухбаковая, драўляная, сядзібнага тыпу. Радзіма поўнага кавалера ордэна Славы У.М.Марчанкі.

**ДУБРОВІЦА** — вёска ў Хойніцкім гарсавеце, за 15 км на ПнУ ад раённага цэнтра і чыг. ст. Хойнікі (на ветцы Васілевічы—Хойнікі ад лініі Калінкавічы—Гомель), за 118 км ад Гомеля. Транспартныя сувязі па аўтадарозе Хойнікі—Рэчыца. 81 гаспадарка, 211 жыхароў (2004 г.).

У 19 ст. сяленне ў Хойніцкай вол. Рэчыцкага пав. Мінскай губ. Па інвентары 1844 г. ў складзе маёнтка Хойнікі, належала В.К.Прозару. У 1850 г. 12 двароў. Пад 1876 г. ўпамінаецца ў ліку сяленняў Велікаборскага царк. прыхода. Паводле перапісу 1897 г. 32 двары, 224 жыхары, хлебазапасны магазін. У 1908 г. 35 двароў, 245 жыхароў. З 8.12.1926 г. да 30.12.1927 г. цэнтр Дубровіцкага с/с Хойніцкага р-на Рэчыцкай, з 9.6.1927 г. Гомельскай акруг. У 1930 г. 58 двароў, 344 жыхары. У 1931 г. арганізаваны калгас. У 1940 г. 88 двароў, 457 жыхароў. У Вял. Айч. вайну ням. акупанты ў маі 1942 г. расстралялі 48 жыхароў (пахаваны ў магіле ахвяр фашызму на могілках), а ў чэрв. 1943 г. поўнасцю спалілі вёску і загубілі 52 жыхароў. 40 вяскоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 393 жыхары. Цэнтр падсобнай гаспадаркі «Дубровіца» райсельгасхіміі. Размешчаны клуб, б-ка, фельч.-акушэрскі пункт. Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ, якая перакрыжоўваецца другой вуліцай. Жылыя дамы драўляныя, сядзібнага тыпу, пастаўлены пераважна двухбакова. Паблізу ёсць залежы жалезняку і торфу.



*У.М.Марчанка.*

**ДВОРЫШЧА** — вёска, цэнтр Дварышчанскага с/с, за 5 км на ПдЗ ад раённага цэнтра і чыг. ст. Хойнікі (на ветцы Васілевічы—Хойнікі ад лініі Калінкавічы—Гомель), за 108 км ад Гомеля. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, а затым аўтадарогах, якія ідуць ад Хойнікаў. 182 гаспадаркі, 436 жыхароў (2004 г.).

Паводле пісьмовых крыніц вядома з 18 ст. як сяленне ў Рэчыцкім пав. Мінскага ваяв. Пазначана як вёска ў інвен-

тары 1721 г. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1811 г. ўладанне памешчыка Прозара. У 1850 г. 80 двароў, 520 жыхароў. Пад 1879 г. пазначана ў ліку сяленняў Хойніцкага царк. прыхода. У 1885 г. 620 жыхароў. Паводле перапісу 1897 г. 150 двароў, 918 жыхароў, капліца, школа граматы, хлебазапасны магазін, у Хойніцкай вол. Рэчыцкага пав. Мінскай губ. У 1908 г. 183 двары, 1088 жыхароў. З 8.12.1926 г. цэнтр Дворышчанскага с/с Хойніцкага р-на Рэчыцкай, з 9.6.1927 г. Гомельскай (да 26.7.1930) акруг, з 20.2. 1938 г. Палескай, з 8.1.1954 г. Гомельскай абласцей. У 1930 г. 247 двароў, 1338 жыхароў, арганізаваны калгасы «Свабода» і імя К.Я.Варашылава, працавалі 2 кузні, ваўначоска. У Вял. Айч. вайну на франтах і ў партыз. барацьбе загінулі 173 жыхары, памяць аб якіх увекавечвае абеліск з імёнамі загінуўшых, устаноўлены ў 1975 г. каля сярэдняй школы. Паводле перапісу 1959 г. 1700 жыхароў. У складзе саўгаса «Судкова» (цэнтр — в. Судкова). Размешчаны аддз. сельгастэхнікі, камбінат быт. абслугоўвання, сярэдняя школа, Дом культуры, б-ка, фельч.-акушэрскі пункт, аддз. сувязі, магазін. Планіровачна складаецца з працяглай, двухбакова забудаванай вуліцы, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ. На У 5 кароткіх прамалінейных вуліц з аднабаковай забудовай. Жылыя дамы пераважна драўляныя, сядзібнага тыпу.

Да Вял. Айч. вайны ў склад Дворышчанскага с/с уваходзіла в. Зялёны Гай, якую ў чэрв. 1943 г. ням. акупанты спалілі (25 двароў, загубілі 102 жыхароў), не адрадзілася, увекавечана ў мемарыяльным комплексе «Хатынь».

**ДРОНЬКІ** — вёска ў Стралічаўскім с/с, за 35 км на ПдЗ ад раённага цэнтра і чыг. ст. Хойнікі (на ветцы Васілевічы—Хойнікі, ад лініі Калінкавічы—Гомель), за 138 км ад Гомеля, на тэрыторыі Палескага радыяцыйна-экалагічнага запаведніка. На Пд меліярацыйныя каналы, злучаныя з р. Прыпяць (прыток р. Дняпро). Побач аўтадарога Даўляды—Хойнікі. У сувязі з радыяцыйным забруджаннем пасля Чарнобыльскай катастрофы жыхары (92 сям'і) пераселены ў чыстыя месцы.

Паводле пісьмовых крыніц вядома з 18 ст. як сяленне ў Рэчыцкім пав. Мінскага ваяв. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1795 г. 19 двароў. Пад 1879 г. пазначана ў ліку сяленняў Аравіцкага царк. прыхода. Паводле перапісу 1897 г. 54 двары, 356 жыхароў. З 8.12.1926 г. да 30.12.1927 г. цэнтр Дронькаўскага с/с Хойніцкага р-на Рэчыцкай, з 9.6.1927 г. Гомельскай акруг. У 1929 г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну 55 вяскоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 361 жыхар. Уваходзіла ў склад саўгаса «Аравічы» (цэнтр — в. Аравічы). Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ, да якой з Пд і Пн далучаюцца завулкі. Жылыя дамы драўляныя, сядзібнага тыпу. Побач ёсць невял. радовішча жалезных руд палескага тыпу.

**ДУБРОВА** — пасёлак у Алексіцкім с/с, за 13 км на ПнЗ ад раённага цэнтра і чыг. ст. Хойнікі (на ветцы Васілевічы—Хойнікі ад лініі Калінкавічы—Гомель), за 116 км ад Гомеля, на Пд меліярацыйныя каналы, злучаныя з р. Прыпяць (прыток р. Дняпро). Побач аўтадарога Хойнікі—Мазыр. 33 гаспадаркі, 77 жыхароў (2004 г.).

Паводле пісьмовых крыніц вядомы з 19 ст. як сяленне ў Дзёрнавіцкай вол. Рэчыцкага пав. Мінскай губ. У 1908 г. 22 двары, 95 жыхароў. У 1929 г. пасялкоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну 40 пасялкоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 200 жыхароў. У складзе «Ленінскі шлях» (цэнтр — в. Глінішча). Планіровачна складаецца з прамалінейнай мерыдыянальнай вуліцы, забудаванай двухбакова драўлянымі сял. сядзібамі.

**ЕЗАПОЎ** — вёска, падпарадкаваная Хойніцкаму гарадскому Савету, за 2 км

на Пд ад раённага цэнтра і чыг. ст. Хойнікі (на ветцы Васілевічы—Хойнікі ад лініі Калінкавічы—Гомель), за 104 км ад Гомеля. Транспартныя сувязі па аўтадарогах, якія адыходзяць ад Хойнікаў. 61 гаспадарка, 180 жыхароў (2004 г.).

Засн. ў пач. 1920-х гг. перасяленцамі з суседніх вёсак на былых памешчыцкіх землях. У 1930 г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. 16 вяскоўцаў загінулі на франтах Вял. Айч. вайны. Паводле перапісу 1959 г. 240 жыхароў. У складзе калгаса імя М.І.Калініна (цэнтр — в. Хойнікі). Планіровачна складаецца з бессістэмнай забудовы, каля аўтадарогі, пераважна драўляных сял. сядзіб.

**ЗАГАЛЛЕ** — вёска ў Казялужскім с/с, за 10 км на З ад раённага цэнтра і чыг. ст. Хойнікі (на ветцы Васілевічы—Хойнікі ад лініі Калінкавічы—Гомель), за 113 км ад Гомеля. Транспартныя сувязі па аўтадарозе Хойнікі—Мазыр, на Пн і Пд меліярацыйныя каналы, злучаныя з р. Віць (прыток р. Прыпяць), што на зах. ускраіне. 24 гаспадаркі, 43 жыхары (2004 г.).

Паводле пісьмовых крыніц вядома з 16 ст. як сяленне ў Рэчыцкім пав. Мінскага ваяв. ВКЛ, шляхецкая ўласнасць. Паводле перапісу войска літоўскага, маёнтак Загалле пазначаны пад 1567 г. У 1649 г. для процідзеяння набегам казакаў у вёсцы некаторы час размяшчаўся полк Валовіча, які ўваходзіў у склад войска Я.Радзівіла. У інвентарах 18 ст. пазначана як мястэчка. У 1792 г. збудавана драўляная Вазнясенская царква. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1795 г. 31 двор. У канцы 18 ст. пачала дзейнічаць рудня па выплаўцы жалеза для мясцовых патрэб. У 1824 г. на месцы старога ўзведзены новы драўляны будынак царквы. У 1858 г. 141 жыхар, уласнасць казны. У 1885 г. 150 жыхароў. Паводле перапісу 1897 г. 35 двароў, 221 жыхар, хлебазапасны магазін, нар. вучылішча, у Хойніцкай вол. Рэчыцкага пав. Мінскай губ. У 1898 г. ўзведзены новы будынак царквы. У 1930 г. арганізаваны калгас. З 23.8.1937 г. да 6.7.1954 г. цэнтр Загальскага с/с Хойніцкага р-на, з 20.2.1938 г. Палескай, з 8.1.1954 г. Гомельскай абласцей. Палову жыхароў складалі польскія сем'і. У Вял. Айч. вайну восенню 1943 г. партызаны разграмілі гарнізон, які ням. акупанты стварылі ў вёсцы. 25 вяскоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 175 жыхароў. У складзе саўгаса «Хойнікі» (цэнтр — в. Казялужжа). Размешчана аддз. сувязі. Планіровачна складаецца з рэдка забудаванай кароткай вуліцы (па абодва бакі аўтадарогі), да якой з Пд далучаецца другая кароткая вуліца. Жылыя дамы драўляныя, сядзібнага тыпу. Паблізу ў пач. 1930-х гг. выяўлены залежы жалезных руд. Ёсць таксама тарфяныя залежы.

**ЗАГАЛЬСКАЯ СЛАБАДА** — вёска ў Казялужскім с/с, за 12 км на З ад раённага цэнтра і чыг. ст. Хойнікі (на ветцы Васілевічы—Хойнікі ад лініі Калінкавічы—Гомель), за 115 км ад Гомеля, на У, Пн і З меліярацыйныя каналы, злучаныя з р. Віць (прыток р. Прыпяць). Транспартныя сувязі па прасёлачнай, а затым аўтадарозе Хойнікі—Мазыр. 7 гаспадарак, 9 жыхароў (2004 г.).

Паводле пісьмовых крыніц вядома з 19 ст. як сяленне ў Хойніцкай вол. Рэчыцкага пав. Мінскай губ. У 1850 г. 5 двароў, 35 жыхароў, уласнасць казны. Пад 1879 г. пазначана ў ліку сяленняў Загальскага царк. прыхода. Паводле перапісу 1897 г. 23 двары, 135 жыхароў. У 1908 г. 165 жыхароў. У 1930 г. 27 двароў. У 1931 г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. 14 вяскоўцаў загінулі на франтах Вял. Айч. вайны. Паводле перапісу 1959 г. 168 жыхароў. У складзе саўгаса «Хойнікі» (цэнтр — в. Казялужжа). Планіровачна складаецца з кароткай прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ. Забудова двухбаковая, драўляная, сядзібнага тыпу. Побач ёсць залежы жалезных руд і торфу.

**ЗАСЦЕНАК** — пасёлак у Алексіцкім с/с. У сувязі з радыяцыйным забруджаннем пасля Чарнобыльскай ката-

строфы жыхары пераселены ў чыстыя месцы.

У 1880 г. Засценак — маёнтак Юравіцкай вол. Рэчыцкага пав. Мінскай губ., 1795 дзес. зямлі, уладанне А.К. Абуховіча. У 1897 г. ў маёнтку было 15 жыхароў. У 1909 г. фальварак, 16 жыхароў. У 1926 г. хут. Засценак, 6 гаспадарак, 30 жыхароў. З 8.12.1926 г. ў складзе Глінішчанскага с/с Юравіцкага р-на Рэчыцкай, з 9.6.1927 г. Мазырскай акруг, з 10.11.1927 г. ў Алексіцкім с/с таго ж раёна і акругі (да 26.7.1930), з 8.7.1931 г. ў Хойніцкім р-не, з 20.2.1938 г. ў Палескай, з 8.1.1954 г. ў Гомельскай абласцях. Пры землеўпарадкаванні былога маёнтка ў 1920-я гг. былі створаны таксама сад Засценак (у 1917 — 3 двары, 20 жыхароў, 153 дзес. зямлі; у 1926 — 13,40 дзес. зямлі) і аднайменны саўгас. У 1959 г. пасёлак налічваў 92, у 1970 г. — 53 жыхары.

**ЗБЫНЬ** — вёска ў Велікаборскім с/с, за 20 км на Пн ад Хойнікаў, за 7 км ад чыг. ст. Аўрамаўская (на ветцы Васілевічы—Хойнікі ад лініі Калінкавічы—Гомель), за 118 км ад Гомеля, на У, Пн і З меліярацыйныя каналы. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, а затым аўтадарозе Хойнікі—Рэчыца. 35 гаспадарак, 53 жыхары (2004 г.).

Паводле пісьмовых крыніц вядома з 19 ст., калі перасяленцы з суседніх вёсак пачалі будаваць тут свае сядзібы. Найбольш актыўная забудова прыпадае на 1920-я гг. У 1930 г. 182 двары, 829 жыхароў. У Вял. Айч. вайну ў чэрв. 1943 г. ням. акупанты спалілі вёску і загубілі 26 жыхароў. На франтах і ў партыз. барацьбе загінулі 79 вяскоўцаў, памяць аб якіх увекавечвае стэла, пастаўленая ў 1975 г. ў цэнтры вёскі. У складзе саўгаса «Велікаборскі» (цэнтр — в. Вялікі Бор). Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, блізкай да мерыдыянальнай арыентацыі, да якой на Пд далучаецца кароткая прамалінейная вуліца. Забудова драўляная, сядзібнага тыпу.

**ЗВЯНЯЦКАЕ** — вёска ў Паселіцкім с/с, за 13 км на ПдУ ад раённага цэнтра і чыг. ст. Хойнікі (на ветцы Васілевічы—Хойнікі ад лініі Калінкавічы—Гомель), за 116 км ад Гомеля. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, а затым аўтадарозе Хойнікі—Брагін. 86 гаспадарак, 166 жыхароў (2004 г.).

Паводле пісьмовых крыніц вядома з 19 ст. як сяленне ў Мікуліцкай вол. Рэчыцкага пав. Мінскай губ. У 1850 г. 31 двор, 241 жыхар. Пад 1879 г. пазначана ў ліку сяленняў Мікуліцкага царк. прыхода. У 1908 г. 102 двары, 553 жыхары. З 8.12.1926 г. да 30.12.1927 г. цэнтр Звяняцкага с/с Хойніцкага р-на Рэчыцкай акругі. У 1930 г. 620 жыхароў. У 1931 г. арганізаваны калгасы «Колас» і «Бальшавік», працавалі 3 ветракі і кузня. 118 вяскоўцаў загінулі на франтах Вял. Айч. вайны. Паводле перапісу 1959 г. 878 жыхароў. У складзе калгаса «Бальшавік» (цэнтр — в. Веляцін). Размешчаны клуб, б-ка, фельч.-акушэрскі пункт, аддз. сувязі. Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы амаль шыротнай арыентацыі, да якой з Пн далучаюцца дзве кароткія вуліцы. Забудавана двухбакова драўлянымі сял. сядзібамі.

**ІВАНАЎКА** — пасёлак у Стралічаўскім с/с, за 10 км на Пд ад раённага цэнтра і чыг. ст. Хойнікі (на ветцы Васілевічы—Хойнікі ад лініі Калінкавічы—Гомель), за 113 км ад Гомеля. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, а затым аўтадарозе Хойнікі—Даўляды. 5 гаспадарак, 8 жыхароў (2004 г.).

Засн. ў пач. 20 ст. перасяленцамі з суседніх вёсак. Найбольш актыўная забудова прыпадае на 1920-я гг. У 1930 г. 59 двароў, 309 жыхароў. У 1931 г. пасялкоўцы ўступілі ў калгас. 43 пасялкоўцы загінулі на франтах Вял. Айч. вайны. Паводле перапісу 1959 г. 406 жыхароў. У складзе саўгаса «Стралічава» (цэнтр — в. Стралічава). Складаецца з крыху выгнутай кароткай вуліцы, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ. Забудова рэдкая, драўляная, сядзібнага тыпу.

**КАЖУШКІ** — вёска ў Дварышчанскім с/с, за 28 км на ПдЗ ад раённага цэнтра і чыг. ст. Хойнікі (на ветцы Васілевічы—Хойнікі ад лініі Калінкавічы—Гомель), за 133 км ад Гомеля. На тэр. Палескага радыяцыйна-экалагічнага запаведніка. На Пн меліярацыйныя каналы, злучаныя з р. Прыпяць (прыток р. Дняпро). Транспартныя сувязі па аўтадарозе, якая звязвае вёску з в. Ломачы. У сувязі з радыяцыйным забруджаннем пасля Чарнобыльскай катастрофы жыхары (214 сямей) пераселены ў чыстыя месцы.

Паводле пісьмовых крыніц вядома з 16 ст. як в. Кажушкаўцы ў Мінскім ваяв. ВКЛ. У 1570—80 гг. належала Кіеўскай мітраполіі. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1811 г. сяло, уладанне Горвата. У 1885 г. 41 двор, 210 жыхароў, Свята-Троіцкая царква, млын. Паводле перапісу 1897 г. 89 двароў, 334 жыхары, школа граматы, хлебазапасны магазін, вятрак. Побач быў аднайменны фальварак, 57 жыхароў. З 8.12.1926 г. да 1986 г. цэнтр Кажушкаўскага с/с Юравіцкага, з 8.7. 1931 г. Хойніцкага р-наў Рэчыцкай, з 9.6.1927 г. Мазырскай (да 26.7.1930 і з 21.6.1935 — 20.2.1938) акруг, з 20.2.1938 г. Палескай, з 8.1.1954 г. Гомельскай абласцей. У 1930 г. 218 двароў, 1010 жыхароў. У 1931 г. арганізаваны калгас імя А.Р.Чарвякова, працавалі паравы млын, 2 кузні. У 1940 г. 230 двароў. У Вял. Айч. вайну ў маі 1943 г. ням. акупанты поўнасцю спалілі вёску і загубілі 92 жыхароў. На франтах і ў партыз. барацьбе загінулі 98 вяскоўцаў, памяць аб якіх увекавечвае стэла, пастаўленая ў 1975 г. ў цэнтры вёскі. Паводле перапісу 1959 г. 869 жыхароў. Была цэнтрам калгаса імя XXII з'езда КПСС. Размяшчаліся 8-гадовая школа, клуб, б-ка, фельч.-акушэрскі пункт, аддз. сувязі, магазін. Планіровачна складаецца з працяглай крывалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ, да цэнтра якой з Пн далучаецца кароткая вуліца. Забудова двухбаковая, драўляная, сядзібнага тыпу. У пач. 1930-х гг. непадалёку выяўлены залежы торфу і жалезных руд палескага тыпу.

**КАЗЯЛУЖЖА** — вёска, цэнтр Казялужскага с/с, за 3 км на З ад раённага цэнтра і чыг. ст. Хойнікі (на ветцы Васілевічы—Хойнікі ад лініі Калінкавічы—Гомель), за 106 км ад Гомеля, на аўтадарозе Хойнікі—Мазыр. 235 гаспадарак, 586 жыхароў (2004 г.).

Паводле пісьмовых крыніц вядома з 19 ст. як сяленне ў Хойніцкай вол. Рэчыцкага пав. Мінскай губ. У 1850 г. 31 двор, 187 жыхароў, уласнасць казны. Пад 1879 г. пазначана ў ліку сяленняў Загальскага царк. прыхода. Паводле перапісу 1897 г. 92 двары, 548 жыхароў, капліца, хлебазапасны магазін. У 1908 г. 103 двары, 575 жыхароў. З 8.12.1926 г. да 30.12.1927 г. і з 30.6.1966 г. цэнтр Казялужскага с/с Хойніцкага р-на. У 1930 г. 147 двароў, 689 жыхароў. У 1931 г. арганізаваны калгас. У Вял. Айч. вайну ням. акупанты часткова спалілі вёску. 78 вяскоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 900 жыхароў. Цэнтр саўгаса «Хойнікі». Размешчаны сярэдняя школа (у 1997 узведзены новы мураваны будынак), Дом культуры, б-ка, фельч.-акушэрскі пункт, аддз. сувязі, магазін. Планіровачна складаецца з крыху выгнутай, амаль мерыдыянальнай вуліцы, да якой на Пд далучаецца кароткая прамалінейная вуліца. Забудова двухбаковая, драўляная, сядзібнага тыпу. У 1986—87 гг. пабудаваны мураваныя дамы на 50 кватэр, у якіх пасяліліся перасяленцы з забруджаных радыяцыяй месц пасля Чарнобыльскай катастрофы.

**КАРАЛІН** — пасёлак у Паселіцкім с/с, за 11 км на ПдУ ад раённага цэнтра і чыг. ст. Хойнікі (на ветцы Васілевічы—Хойнікі ад лініі Калінкавічы—Гомель), за 114 км ад Гомеля. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, а затым аўтадарозе Хойнікі—Брагін. У сувязі з радыяцыйным забруджаннем пасля Чарнобыльскай катастрофы жыхары (11 сямей) пераселены ў чыстыя месцы.

Засн. ў пач. 20 ст. У 1908 г. фальварак, 39 жыхароў, у Юравіцкай вол. Рэчыцкага пав. Мінскай губ. Найбольш актыўная забудова адносіцца да 1920-х гг. У 1930 г. 16 двароў, 108 жыхароў. У 1931 г. пасялкоўцы ўступілі ў калгас. 24 пасялкоўцы загінулі на франтах Вял. Айч. вайны. Паводле перапісу 1959 г. 118 жыхароў. Уваходзіла ў склад калгаса «Світанне» (цэнтр — в. Паселічы). Планіровачна складаецца з прамалінейнай шыротнай вуліцы, забудаванай двухбакова драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**КАРАНЁЎКА** — вёска ў Алексіцкім с/с, за 20 км на ПнЗ ад раённага цэнтра і чыг. ст. Хойнікі (на ветцы Васілевічы—Хойнікі ад лініі Калінкавічы—Гомель), за 123 км ад Гомеля, на У, Пд і Пн меліярацыйныя каналы, злучаныя з р. Прыпяць (прыток р. Дняпро). Транспартныя сувязі па прасёлачнай, а затым аўтадарозе Хойнікі—Мазыр. 8 гаспадарак, 11 жыхароў (2004 г.).

Паводле пісьмовых крыніц вядома з 19 ст. як сяленне ў Юравіцкай вол. Рэчыцкага пав. Мінскай губ. Пад 1879 г. ўпамінаецца ў ліку сяленняў Алексіцкага царк. прыхода. Паводле перапісу 1897 г. 17 двароў, 95 жыхароў. У 1930 г. 36 двароў, 175 жыхароў. У 1931 г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну ў чэрв. 1943 г. ням. акупанты поўнасцю спалілі вёску і загубілі 2 жыхароў. 10 вяскоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 116 жыхароў. У складзе калгаса «Ленінскі шлях» (цэнтр — в. Глінішча). Планіровачна складаецца з кароткай прамалінейнай мерыдыянальнай вуліцы. Забудова аднабаковая, драўляная, сядзібнага тыпу.

**КАРПІЛАЎКА** — пасёлак у Паселіцкім с/с, за 8 км на У ад раённага цэнтра і чыг. ст. Хойнікі (на ветцы Васілевічы—Хойнікі ад лініі Калінкавічы—Гомель), за 111 км ад Гомеля. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, а затым аўтадарозе Хойнікі—Брагін. 21 гаспадарка, 55 жыхароў (2004 г.).

Паводле пісьмовых крыніц вядомы з 19 ст. як сяленне ў Мікуліцкай вол. Рэчыцкага пав. Мінскай губ. У 1850 г. 4 двары, 46 жыхароў. Пад 1879 г. пазначана ў ліку сяленняў Мікуліцкага царк. прыхода. Паводле перапісу 1897 г. 15 двароў, 96 жыхароў, вятрак. У 1930 г. 18 двароў, 122 жыхары. У 1931 г. пасялкоўцы ўступілі ў калгас. У 1940 г. 32 двары, 154 жыхары. У Вял. Айч. вайну ў чэрв. 1943 г. ням. акупанты поўнасцю спалілі вёску і загубілі жыхара. 11 пасялкоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 140 жыхароў. У складзе калгаса «Бальшавік» (цэнтр — в. Веляцін). Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ, да якой з Пн далучаецца кароткая прамалінейная вуліца. Забудова двухбаковая, драўляная, сядзібнага тыпу.

**КАРЧОВАЕ** — вёска ў Паселіцкім с/с, за 2 км на У ад раённага цэнтра і чыг. ст. Хойнікі (на ветцы Васілевічы—Хойнікі ад лініі Калінкавічы—Гомель), за 105 км ад Гомеля, на У і Пд меліярацыйныя каналы, злучаныя з р. Прыпяць (прыток р. Дняпро). Транспартныя сувязі па прасёлачнай, а затым аўтадарогах, якія ідуць ад Хойнікаў. 64 гаспадаркі, 116 жыхароў (2004 г.).

Паводле пісьмовых крыніц вядома з 19 ст. як сяленне ў Хойніцкай вол. Рэчыцкага пав. Мінскай губ. Па інвентары 1844 г. ў складзе маёнтка Хойнікі, у валоданні В.К.Прозара. У 1850 г. 22 двары, 144 жыхары. Пад 1879 г. пазначана ў ліку сяленняў Хойніцкага царк. прыхода. Паводле перапісу 1897 г. 46 двароў, 331 жыхар, школа граматы, хлебазапасны магазін. З 8.12.1926 г. да 16.7.1954 г. цэнтр Карчоўскага с/с Хойніцкага р-на Рэчыцкай, з 9.6.1926 г. Гомельскай (да 26.7.1930) акруг, з 20.2.1938 г. Палескай, з 8.1.1954 г. Гомельскай абласцей. У 1930 г. 56 двароў, 296 жыхароў. У 1930 г. арганізаваны калгас «Сацыялізм», працавала кузня. У Вял. Айч. вайну дзейнічала патрыят. падполле (кіраўнік М.А.Колас). Паводле перапісу 1959 г. 386 жы-

хароў. У складзе калгаса «Світанне» (цэнтр — в. Паселічы). Размешчаны клуб, б-ка, фельч.-акушэрскі пункт. Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ, забудаванай двухбакова драўлянымі сял. сядзібамі.

**КАСТРЫЧНІК** (да 1920 Лапоўшчына) — пасёлак у Паселіцкім с/с, за 2 км ад У ад раённага цэнтра і чыг. ст. Хойнікі (на ветцы Васілевічы—Хойнікі ад лініі Калінкавічы—Гомель), за 104 км ад Гомеля, на Пн меліярацыйны канал, злучаны з р. Прыпяць (прыток р. Дняпро). Транспартныя сувязі па аўтадарогах, якія адыходзяць ад Хойнікаў. 38 гаспадарак, 95 жыхароў (2004 г.).

Засн. ў пач. 20 ст. перасяленцамі з суседніх вёсак. Найбольш актыўная забудова прыпадае на 1920-я гг. У 1930 г. 18 двароў, 108 жыхароў. У 1931 г. пасялкоўцы ўступілі ў калгас. Паводле перапісу 1959 г. 177 жыхароў. У складзе калгаса «Світанне» (цэнтр — в. Паселічы). Планіровачна складаецца з кароткай прамалінейнай вуліцы амаль шыротнай арыентацыі, забудаванай двухбакова драўлянымі сял. сядзібамі.

**КЛІВЫ** — вёска ў Казялужскім с/с, за 9 км на З ад раённага цэнтра і чыг. ст. Хойнікі (на ветцы Васілевічы—Хойнікі ад лініі Калінкавічы—Гомель), за 112 км ад Гомеля, на Пд, Пн і З сетка меліярацыйных каналаў, злучаных з р. Прыпяць (прыток р. Дняпро). Побач аўтадарога Хойнікі—Мазыр. 104 гаспадаркі, 236 жыхароў (2004 г.).

Выяўленае археолагамі гарадзішча ранняга жал. веку (за 0,5 км на У ад вёскі) сведчыць аб засяленні тутэйшых мясцін з далёкай старажытнасці. Паводле пісьмовых крыніц вядома з 19 ст. як сяленне ў Хойніцкай вол. Рэчыцкага пав. Мінскай губ. У 1850 г. 20 двароў, 136 жыхароў, уласнасць казны. Пад 1879 г. пазначана ў ліку сяленняў Загальскага царк. прыхода. Паводле перапісу 1897 г. 58 двароў, 298 жыхароў. У 1908 г. 61 двор, 362 жыхары. З 8.12.1926 г. да 23.8.1937



*У.Ц.Гардзеенка.* *Чырвоныя дрэвы. 1995 г.*

г. цэнтр Кліўскага с/с Хойніцкага р-на Рэчыцкай, з 9.6.1927 г. Гомельскай (да 26.7.1930) акруг. У 1930 г. 103 двары, 543 жыхары. У 1931 г. арганізаваны калгас «Баявік», працавалі торфараспрацоўчая арцель (з 1926) і кузня. У Вял. Айч. вайну на франтах і ў партызан. барацьбе загінулі 214 жыхароў вёсак Загалле, Загальская Слабада, Клівы і Паташня, памяць аб якіх увекавечвае абеліск, пастаўлены ў 1969 г. ў цэнтры вёскі. Паводле перапісу 1959 г. 600 жыхароў. У складзе саўгаса «Хойніцкі» (цэнтр — в. Казялужжа). Размешчаны клуб, б-ка, фельч.-акушэрскі пункт. Планіровачна складаецца з прамалінейнай, амаль мерыдыянальнай арыентацыі вуліцы, да якой з З далучаюцца 2 кароткія вуліцы. Забудова двухбаковая, драўляная, сядзібнага тыпу. Радзіма бел. мастака У.Ц.Гардзеенкі.

**КРАСНАСЕЛЛЕ** — вёска ў Стралічаўскім с/с, за 45 км на ПдЗ ад раённага цэнтра і чыг. ст. Хойнікі (на ветцы Васілевічы—Хойнікі ад лініі Калінкавічы—Гомель), за 148 км ад Гомеля. На Пн і У да вёскі прымыкае лес, на З — пойма р. Прыпяць. Побач аўтадарога Даўляды—Хойнікі. У сувязі з радыяцыйным забруджаннем пасля Чарнобыльскай катастрофы (97 сямей) перaселены ў чыстыя месцы, пераважна ў в. Антонаўка Жлобінскага р-на.

Выяўленыя археолагамі паселішча (за 2 км на Пн ад вёскі), паселішча (за

0,5—1 км на ПнУ ад цэнтра вёскі) і паселішча (за 1,5 км на У ад вёскі, ва ўрочышчы Царкавішча) сведчаць аб засяленні тутэйшых мясцін з глыбокай старажытнасці. Паводле пісьмовых крыніц вядома з 18 ст. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1811 г. 19 двароў. У 1850 г. 34 двары, 181 жыхар. Пад 1879 г. пазначана ў ліку сяленняў Аравіцкага царк. прыхода. Паводле перапісу 1897 г. 63 двары, 360 жыхароў, хлебазапасны магазін. Побач быў аднайменны фальварак. У 1908 г. 70 двароў, 451 жыхар, у Дзёрнавіцкай вол. Рэчыцкага пав. Мінскай губ. З 8.12.1926 г. да 9.6.1927 г. цэнтр Красасельскага с/с Хойніцкага р-на Рэчыцкай акругі. У 1940 г. 110 двароў, 338 жыхароў. У Вял. Айч. вайну ў маі 1943 г. ням. акупанты спалілі 82 двары і загубілі 18 жыхароў (пахаваны ў магіле ахвяр фашызму ў цэнтры вёскі). У 1941—43 гг. каля вёскі загінулі 3 воіны і 3 партызаны (пахаваны ў брацкай магіле ў цэнтры). 50 вяскоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 375 жыхароў. Уваходзіла ў склад саўгаса «Аравічы» (цэнтр — в. Аравічы). Планіровачна складаецца з кароткіх вуліц шыротнай і мерыдыянальнай арыентацый, якія перакрыжоўваюцца і ўтвараюць кварталы. Жылыя дамы драўляныя, сядзібнага тыпу.

**КУРАВОЕ** — вёска ў Казялужскім с/с, за 8 км на ПнЗ ад раённага цэнтра і чыг. ст. Хойнікі (на ветцы Васілевічы—Хойнікі ад лініі Калінкавічы—Гомель), за 111 км ад Гомеля, на аўтадарозе Хойнікі—Вялікі Бор, на Пн меліярацыйны канал, злучаны з р. Прыпяць (прыток р. Дняпро). 27 гаспадарак, 66 жыхароў (2004 г.).

Паводле пісьмовых крыніц вядома з 19 ст. як сяленне ў Хойніцкай вол. Рэчыцкага пав. Мінскай губ. У 1850 г. 8 двароў, 45 жыхароў. Пад 1879 г. пазначана ў ліку сяленняў Хойніцкага царк. прыхода. Паводле перапісу 1897 г. 11 двароў, 82 жыхары. У 1908 г. 14 двароў, 110 жыхароў. У 1929 г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У 1940 г. 33 двары, 132 жыхары. У Вял. Айч. вайну ў чэрв. 1943 г. ням. акупанты поўнасцю спалілі вёску і загубілі 13 жыхароў. З вяскоўцы загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 113 жыхароў. У складзе калгаса імя М.І.Калініна (цэнтр — г. Хойнікі). Планіровачна складаецца з кароткай шыротнай вуліцы, да якой на З далучаецца кароткая мерыдыянальная вуліца. Забудова драўляная, няшчыльная, сядзібнага тыпу.

**ЛЕНІНА** (да 1940 Смалоў) — пасёлак у Стралічаўскім с/с, за 9 км на ПдЗ ад раённага цэнтра і чыг. ст. Хойнікі (на ветцы Васілевічы—Хойнікі ад лініі Калінкавічы—Гомель), за 112 км ад Гомеля, побач аўтадарога Даўляды—Хойнікі. У сувязі з радыяцыйным забруджаннем пасля Чарнобыльскай катастрофы жыхары (36 сямей) пераселены ў чыстыя месцы.

Засн. ў пач. 20 ст. перасяленцамі з суседніх вёсак. Найбольш актыўная забудова прыпадае на 1920-я гг. У 1930 г. 23 двары, 132 жыхары. У 1931 г. пасялкоўцы ўступілі ў калгас. Паводле перапісу 1959 г. 320 жыхароў. Уваходзіў у склад саўгаса «Стралічава» (цэнтр — в. Стралічава). Размяшчаўся ўчастак Мазырскага доследнага лясгаса. Планіровачна складаецца з крыху выгнутай мерыдыянальнай вуліцы, забудаванай двухбакова драўлянымі сял. сядзібамі.

**ЛІСЦВІН** — вёска ў Паселіцкім с/с, за 6 км на ПдУ ад раённага цэнтра і чыг. ст. Хойнікі (на ветцы Васілевічы—Хойнікі ад лініі Калінкавічы—Гомель), за 109 км ад Гомеля, на З меліярацыйны канал, злучаны з р. Прыпяць (прыток р. Дняпро). Транспартныя сувязі па прасёлачнай, а затым аўтадарозе Хойнікі—Брагін. 74 гаспадаркі, 194 жыхары (2004 г.).

Выяўленыя археолагамі ў наваколлі вёскі прадметы познанеалітычнага часу сведчаць аб дзейнасці чалавека ў гэтых месцах з глыбокай старажытнасці. Паводле пісьмовых крыніц вядома з 16 ст. як сяленне ў Кіеўскім ваяв. У 1687 г. сяло, у маёнтку Я.Канецпольскага. Пасля

2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1850 г. 28 двароў, 198 жыхароў, уладанне графіні Ракіцкай. Паводле перапісу 1897 г. вёска (61 двор, 400 жыхароў, школа граматы, вятрак), аколіца (25 двароў, 150 жыхароў) і фальварак (2 двары, 17 жыхароў), у Мікуліцкай вол. Рэчыцкага пав. Мінскай губ. У 1908 г. вёска (82 двары, 498 жыхароў), аколіца (42 двары, 210 жыхароў) і фальварак (8 жыхароў). У 1930 г. арганізаваны калгас імя В.М.Молатава, працаваў вятрак. 54 вяскоўцы загінулі на франтах Вял. Айч. вайны. Паводле перапісу 1959 г. 684 жыхары. У складзе калгаса «Світанне» (цэнтр — в. Паселічы). Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ, да якой з З далучаецца кароткая вуліца. Забудова двухбаковая, драўляная, сядзібнага тыпу.

**ЛОМАЧЫ** — вёска ў Дварышчанскім с/с, за 30 км на З ад раённага цэнтра і чыг. ст. Хойнікі (на ветцы Васілевічы—Хойнікі ад лініі Калінкавічы—Гомель), за 133 км ад Гомеля, на У меліярацыйныя каналы, злучаныя з р. Прыпяць (прыток р. Дняпро), на паўд.-зах. ускраіне — воз. Ломыш, на тэр. Палескага радыяцыйна-экалагічнага запаведніка. Транспартныя сувязі па аўтадарозе, якая звязвае вёску з Хойнікамі. У сувязі з радыяцыйным забруджаннем пасля Чарнобыльскай катастрофы жыхары (38 сямей) пераселены ў чыстыя месцы.

Выяўленае археолагамі паселішча ранняга і сярэдняга неаліту (за 1,5 км на ПдУ ад вёскі) сведчыць аб засяленні тутэйшых мясцін з глыбокай старажытнасці. Па пісьмовых крыніцах вядома з 18 ст. як сяленне ў Рэчыцкім пав. Мінскага ваяв. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1795 г. 9 двароў, 43 жыхары. У 1811 г. ва ўладанні Гольста. Паводле перапісу 1897 г. 16 двароў, 113 жыхароў. У 1908 г. 70 двароў, 361 жыхар, у Юравіцкай вол. Рэчыцкага пав. Мінскай губ. У 1914 г. мясц. ўлады спрабавалі прымусова рассяліць вяскоўцаў на хутары. Але пасля рашучага адпору з боку сяльчан рассяленне было адменена. У 1930 г. арганізаваны калгасы «Чырвоная Прыпяць» і «Чырвоны Майск», працавалі 2 кузні. 22 вяскоўцы загінулі на франтах Вял. Айч. вайны. Паводле перапісу 1959 г. 177 жыхароў. Уваходзіла ў склад калгаса імя А.А.Жданава (цэнтр — в. Тульгавічы). Планіровачна складаецца з 2 (працяглай і кароткай) паралельных паміж сабой вуліц, арыентаваных з ПдУ на ПнЗ. Забудова двухбаковая, драўляная, сядзібнага тыпу. Радзіма бел. пісьменніка А.Л.Кандрусевіча і засл. настаўніка Беларусі С.А.Мілуца.



*А.Л.Кандрусевіч.*

**ЛОМЫШ** — вёска ў Дварышчанскім с/с. У сувязі з радыяцыйным забруджаннем пасля Чарнобыльскай катастрофы жыхары перасялены ў чыстыя месцы. Помнікі археалогіі — 2 паселішчы ранняга і сярэдняга неаліту, якія знаходзяцца за 1,5 і 2 км на ПдУ ад вёскі, сведчаць аб засяленні тэрыторыі сучаснай вёскі ў старажытнасці.

Паводле пісьмовых крыніц 19 ст. ў 1831 г. Ломыш (ці Антонава) — вёска, 16 двароў, 81 жыхар, і фальварак (меліся жылыя і гаспадарчыя пабудовы, млын), уладанне Пятра Александровіча. Непадалёку знаходзілася в. Новы Ломыш, 11 двароў, 72 жыхары (дадзеныя за 1835), якая ўваходзіла (разам з в. Буды) у склад фальварка Мар'янова, уласнасць Канстанціна Александровіча; у Рэчыцкім пав. Мінскай губ. У 1844—45 гг. 2 маёнткі: Ломыш (уваходзілі частка вёскі Новы Ломыш і в. Антонава), 19 двароў, 98 жыхароў (з іх 47 працаздольных), ворыўнай зямлі 400 дзес., сенажаці 575 дзес., лесу 750 дзес.; уладанне Пятра Александровіча, і Новы Ломыш (уваходзілі вёскі Слабодка і Буды), 15 двароў, 109 жыхароў, 5 дваровых, 1096 $^{2}/_{3}$ дзес. зямлі; уладанне Канстанціна Александровіча. У 1870 г. Ломыш — маёнтак Юравіцкай вол. таго ж пав. і губерні, уладанне Александровічаў. У склад маёнтка ўваходзілі вёскі: Стары Ломыш (наліч-

вала 43 рэвізскія душы сялян), Новы Ломыш (34 рэвізскія душы сялян), Буды (17 рэвізскіх душ. сялян). У 1880 г. ў Юравіцкай вол. існавалі маёнткі Стары Ломыш — 2300 дзес. зямлі, уласнасць Еўпловай Ганны Пятроўны, і Новы Ломыш — 2700 дзес. зямлі, уласнасць купца Мысліна Дзмітрыя Трафімавіча. У 1897 г. ў в. Стары Ломыш 27 двароў, 217 жыхароў, хлебазапасны магазін, ветравы млын; у в. Новы Ломыш — 29 двароў, 154 жыхары, ветравы млын. У 1917 г. ў в. Стары Ломыш — 53 двары, 30 жыхароў, у в. Новы Ломыш — 48 двароў, 297 жыхароў. У 1909 г. в. Ломыш той жа вол. налічвала 70 двароў, 361 жыхара. З 8.12. 1926 г. в. Ломыш (150 гаспадарак, 771 жыхар) — цэнтр Ломышскага с/с Юравіцкага р-на Рэчыцкай, з 9.6.1927 г. Мазырскай акруг, з 10.11.1927 г. ў Тульгавіцкім с/с (ліквідаваны ў 1986) таго ж раёна і акругі (да 26.7.1930), з 8.7.1931 г. ў Хойніцкім раёне, з 20.2.1938 г. ў Палескай, з 8.1.1954 г. ў Гомельскай абласцях. У 1959 г. — 844, у 1970 г. — 862 жыхары.

**ЛЮДЗВІН** — вёска ў Дварышчанскім с/с, за 3 км на Пд ад раённага цэнтра і чыг. ст. Хойнікі (на ветцы Васілевічы—Хойнікі ад лініі Калінкавічы—Гомель), за 106 км ад Гомеля. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, а затым аўтадарогах, якія адыходзяць ад Хойнікаў. 1 гаспадарка, 1 жыхар (2004 г.).

Паводле пісьмовых крыніц вядома з 19 ст. як сяленне ў Хойніцкай вол. Рэчыцкага пав. Мінскай губ. Пад 1879 г. пазначана ў ліку сяленняў Хойніцкага царкоўнага прыхода. У 1908 г. 37 двароў, 226 жыхароў. У 1930 г. арганізаваны калгас «Чырвоны шлях», працавала кузня. У Вял. Айч. вайну 53 вяскоўцы загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 244 жыхары. У складзе калгаса імя XXI з'езда КПСС (цэнтр — в. Руднае). Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ, да якой з Пн далучаецца завулак. Забудова двухбаковая, драўляная, сядзібнага тыпу.

**ЛЯСОК** — вёска ў Стралічаўскім с/с, за 43 км на Пд ад раённага цэнтра і чыг. ст. Хойнікі (на ветцы Васілевічы—Хойнікі ад лініі Калінкавічы—Гомель), за 146 км ад Гомеля, на тэр. Палескага радыяцыйна-экалагічнага запаведніка. На Пн меліярацыйныя каналы, злучаныя з р. Прыпяць (прыток р. Дняпро). Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Даўляды—Хойнікі. У сувязі з радыяцыйным забруджаннем пасля Чарнобыльскай катастрофы жыхары (9 сямей) пераселены ў чыстыя месцы.

Засн. ў пач. 1920-х гг. перасяленцамі з суседніх вёсак на былых памешчыцкіх землях. У 1931 г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У 1940 г. 18 двароў, 61 жыхар. У Вял. Айч. вайну ў маі 1943 г. нямецкія акупанты поўнасцю спалілі вёску і загубілі 5 жыхароў. 10 вяскоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 96 жыхароў. Уваходзіла ў склад калгаса «Новае жыццё» (цэнтр — в. Радзін). Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы (абапал прасёлачнай дарогі), забудаванай рэдка драўлянымі сял. сядзібамі.

**МАЛІШАЎ** — вёска ў Хойніцкім гарадскім Савеце, за 6 км на У ад раённага цэнтра і чыг. ст. Хойнікі (на ветцы Васілевічы—Хойнікі ад лініі Калінкавічы—Гомель), за 104 км ад Гомеля, на аўтадарозе Хойнікі—Брагін. 206 гаспадарак, 436 жыхароў (2004 г.).

Паводле пісьмовых крыніц вядома з 15 ст. як вёска ў Мінскім ваяв.ВКЛ. У 1447 г. кароль Казімір пажалаваў вёску Алёхну. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. Па інвентары 1844 г. ў складзе маёнтка Хойнікі, належала В.К.Прозару. Пад 1879 г. пазначана ў ліку сяленняў Хойніцкага царк. прыхода. Паводле перапісу 1897 г. 69 двароў, 454 жыхары, у Хойніцкай вол. Рэчыцкага павета Мінскай губ. З 8.12.1926 г. да 30.12.1927 г. цэнтр Малішаўскага с/с Рэчыцкага, з 9.6.1927 г. Хойніцкага р-наў Гомельскай акругі. У 1930 г. арганізаваны калгас «Чырво-

ны світанец», працавалі вятрак і кузня. У 1939 г. ў вёску перасялены жыхары пас. Новы Шлях. 71 вясковец загінуў на франтах Вял. Айч. вайны. Паводле перапісу 1959 г. 936 жыхароў. У складзе калгаса імя М.І.Калініна (цэнтр — в. Хойнікі). Размешчаны клуб, б-ка, фельч.-акушэрскі пункт, аддз. сувязі. Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ, да якой з Пн і Пд далучаюцца завулкі. Забудова двухбаковая, драўляная, сядзібнага тыпу.

**МАЛОЧКІ** — вёска ў Сгралічаўскім с/с, за 47 км на Пд ад раённага цэнтра і чыг. ст. Хойнікі (на ветцы Васілевічы—Хойнікі ад лініі Калінкавічы—Гомель), за 150 км ад Гомеля, на Пд меліярацыйныя каналы, злучаныя з р. Прыпяць (прыток р. Дняпро). Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Даўляды—Хойнікі. У сувязі з радыяцыйным забруджаннем пасля Чарнобыльскай катастрофы жыхары (49 сямей) перасёлены ў чыстыя месцы.

Паводле пісьмовых крыніц вядома з 18 ст., калі вёска належала Оўруцкаму каталіцкаму абацтву. У 1786 г. паблізу, у балоце, знойдзена пярэдняя частка вял. рачнога карабля, акаванага жалезам. Даўжыня жалеза дасягала 13 аршынаў (вывезена ва Оўруцкі кляштар). Гэта знаходка сведчыць не толькі аб існаванні тут, на месцы сучасных балот, возера, але і аб пэўных гандл. сувязях рэгіёна. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1795 г. 20 двароў. У 1850 г. 178 жыхароў, уласнасць казны, у Дзярновіцкай вол. Рэчыцкага пав. Мінскай губ. Заходняя экспедыцыя пад кіраўніцтвам Жылінскага праводзіла каля вёскі ў 1894 г. меліярацыйныя работы. Паводле перапісу 1897 г. 46 двароў, 288 жыхароў, хлебазапасны магазін. У 1908 г. 62 двары, 445 жыхароў. З 8.12.1926 г. да 30.12.1927 г. цэнтр Малочкаўскага с/с Камарынскага р-на Рэчыцкай, з 9.6.1927 г. Гомельскай акруг. У 1920-х гг. адкрыта пач. школа. У 1929 г. арганізаваны калгас. У 1940 г. 70 двароў. У Вял. Айч. вайну ў маі 1943 г. ням. акупанты поўнасцю спалілі вёску і загубілі 9 жыхароў. 43 вяскоўцы загінулі на франтах Вял. Айч. вайны. Паводле перапісу 1959 г. 278 жыхароў. Уваходзіла ў склад калгаса «1 Мая» (цэнтр — в. Баршчоўка). Планіровачна складаецца з прамалінейнай, амаль мерыдыянальнай арыентацыі вуліцы, забудаванай двухбакова драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**МАРХЛЕЎСК** (да 1925 Лісцвінская Слабада) — вёска ў Паселіцкім с/с, за 6 км на ПдУ ад раённага цэнтра і чыг. ст. Хойнікі (на ветцы Васілевічы—Хойнікі ад лініі Калінкавічы—Гомель), за 109 км ад Гомеля. Названа ў памяць дзеяча польскага і міжнар. рабочага руху Ю.Б. Мархлеўскага. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Хойнікі—Брагін. 22 гаспадаркі, 53 жыхары (2004 г.).

Засн. ў пач. 20 ст. перасяленцамі з суседніх вёсак. Найбольш актыўная забудова прыпадае на 1920-я гг. З 18.12.1926 г. да 30.12.1927 г. цэнтр Мархлеўскага с/с Хойніцкага р-на Рэчыцкай, з 9.6.1927 г. Гомельскай акруг. У 1930 г. 41 двор, 204 жыхары. 82% жыхароў складалі польскія сем'і. У 1930 г. арганізаваны калгас імя Ю.Б.Мархлеўскага, працавала кузня. 14 вяскоўцаў загінулі на франтах Вял. Айч. вайны. Паводле перапісу 1959 г. 233 жыхары. У складзе калгаса «Світанне» (цэнтр — в. Паселічы). Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, блізкай да мерыдыянальнай арыентацыі. Забудова драўляная, двухбаковая, сядзібнага тыпу.

**МАСАНЫ** — вёска ў Стралічаўскім с/с, за 44 км на Пд ад раённага цэнтра і чыг. ст. Хойнікі (на ветцы Васілевічы—Хойнікі ад лініі Калінкавічы—Гомель), за 147 км ад Гомеля, на тэр. Палескага радыяцыйна-экалагічнага запаведніка, недалёка ад дзярж. мяжы з Украінай. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Даўляды—Хойнікі. У сувязі

з радыяцыйным забруджаннем пасля Чарнобыльскай катастрофы жыхары (21 сям'я) перaселены ў чыстыя месцы.

Выяўленыя археолагамі стаянка сярэдняга неаліту (за 0,5 км на Пн ад вёскі) і стаянка эпохі мезаліту (за 2 км на ПдУ ад вёскі) сведчаць аб засяленні тутэйшых мясцін з глыбокай старажытнасці. Паводле пісьмовых крыніц вядома з 16 ст. У 1570—80 гг. належала Златаверхаму (Міхайлаўскаму) манастыру ў Кіеве. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1834 г. 5 двароў. У 1850 г. 36 жыхароў. Памешчык Рудзевіч у 1976 г. валодаў у вёсцы і наваколлі 262 дзес. зямлі, дваранін Стравінскі — 380 дзес., дваранін Ляшкевіч — 152 дзес. зямлі. Паводле перапісу 1897 г. 21 двор, 146 жыхароў. На аднайменным хутары — 8 двароў, 43 жыхары, у Дзёрнавіцкай вол. Рэчыцкага пав. Мінскай губ. З 8.12.1926 г. да 30.12.1927 г. цэнтр Масаноўскага с/с Камарынскага р-на Рэчыцкай, з 9.6.1927 г. Гомельскай акруг. У 1930 г. арганізаваны калгас «Ударнік», працавалі кузня, вятрак, конная крупарушка. У 1940 г. 72 двары, 385 жыхароў. У Вял. Айч. вайну ням. акупанты 22.5.1943 г. загубілі 170 вяскоўцаў і 23.5.1943 г. 34 жыхароў пас. Перавессе (пахаваны ў магілах ахвяр фашызму на могілках, за 1 км на ПнЗ ад вёскі), поўнасцю спалілі вёску. 29 вяскоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 160 жыхароў. Уваходзіла ў склад калгаса «Новае жыццё» (цэнтр — в. Радзін). Планіровачна складаецца з крыху выгнутай вуліцы, блізкай да мерыдыянальнай арыентацыі, да якой з ПдУ далучаецца прамалінейная вуліца. Забудавана двухбакова, няшчыльна драўлянымі сял. сядзібамі.

**МОКІШ** — вёска ў Стралічаўскім с/с. У сувязі з радыяцыйным забруджаннем пасля Чарнобыльскай катастрофы жыхары перaселены ў чыстыя месцы.

У 1844 г. Мокіш — вёска, 27 двароў, 173 жыхары і аднайменны фальварак маёнтка Рудакоў, уласнасць малалетніх Генрыха, Аляксандра і Сафіі Аскеркаў, у Рэчыцкім пав. Мінскай губ. Маёнтак знаходзіўся ў арэндзе ў Міхаіла Ігнатавіча Быкава. У 1870 г. ў вёсцы 101 сял.рэвізская душа, 3 аднадворцы. У 1880 г. фальварак і маёнтак Рудакоў (7162 дзес. зямлі) належалі Ваньковіч Алене Генрыхаўне. У 1897 г. вёска, 57 двароў, 367 жыхароў, царк.-прыходская школа, конны млын і фальварак, 24 жыхары; у Мікуліцкай вол. таго ж павета. У 1909 г. ў вёсцы 70 двароў, 435 жыхароў, ў фальварку 10 жыхароў. У 1917 г. вёска налічвала 84 гаспадаркі, 513 жыхароў. З 9.5.1923 г. ў складзе Хойніцкай вол. Гомельскай губ., з 8.12.1926 г. цэнтр Мокішскага с/с Хойніцкага р-на Рэчыцкай, з 9.6.1927 г. Гомельскай акруг, з 30.12.1927 г. ў складзе Бабчынскага с/с таго ж раёна і акругі (да 26.7.1930), з 20.2.1938 г. ў Палескай, з 8.1.1954 г. ў Гомельскай абласцях. У 1926 г. вёска налічвала 114 гаспадарак, 664 жыхары, на 15.11.1927 г. — 713 жыхароў. У 1959 г. вёска ў Рудакоўскім с/с, 677 жыхароў, у 1970 г. — 574 жыхары.

**МОКЛІШЧА** — вёска ў Алексіцкім с/с, за 28 км на ПнЗ ад раённага цэнтра і чыг. ст. Хойнікі (на ветцы Васілевічы—Хойнікі ад лініі Калінкавічы—Гомель), за 131 км ад Гомеля, на З сетка меліярацыйных каналаў, злучаная з р. Прыпяць (прыток р. Дняпро). Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Хойнікі—Мазыр. 3 гаспадаркі, 19 жыхароў (2004 г.).

Паводле пісьмовых крыніц вядома з 19 ст. як сяленне ў Юравіцкай вол. Рэчыцкага пав. Мінскай губ. У 1850 г. 29 двароў, 85 жыхароў. Паводле перапісу 1897 г. 26 двароў, 225 жыхароў, хлебазапасны магазін. У 1908 г. 46 двароў, 245 жыхароў. З 8.12.1926 г. да 10.11.1927 г. цэнтр Мокліщчанскага с/с Юравіцкага р-на Рэчыцкай, з 9.6.1927 г. Мазырскай акруг. У 1930 г. 65 двароў, 342 жыхары. У 1931 г. арганізаваны калгас. У Вял. Айч. вайну ў лясах паблізу вёскі базіравалася 2-я Калінкавіцкая партыз. брыгада імя М.В.Фрунзе. У чэрв. 1943 г. ням.

карнікі спалілі вёску і загубілі 3 жыхароў. 38 вяскоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 230 жыхароў. У складзе калгаса «Ленінскі шлях» (цэнтр — в. Глінішча). Планіровачна складаецца з крыху выгнутай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ. Забудова двухбаковая, драўляная, сядзібнага тыпу.

**НАВАКУХНАЎШЧЫНА** — вёска ў Дварышчанскім с/с, за 32 км на ПдЗ ад раённага цэнтра і чыг. ст. Хойнікі (на ветцы Васілевічы—Гомель ад лініі Калінкавічы—Гомель), за 135 км ад Гомеля, на тэр. Палескага радыяцыйна-экалагічнага запаведніка, на Пн меліярацыйныя каналы, злучаныя з р. Прыпяць (прыток р. Дняпро). Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Кажушкі—Ломаш. У сувязі з радыяцыйным забруджаннем пасля Чарнобыльскай катастрофы жыхары (13 сямей) пераселены ў чыстыя месцы.

Засн. ў пач. 20 ст. перасяленцамі з суседніх вёсак. У 1908 г. ўрочышча Кухнаўшчызна (10 жыхароў), у Юравіцкай вол. Рэчыцкага пав. Мінскай губ. Найбольш актыўная забудова прыпадае на 1920-я гг. У 1931 г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У 1940 г. 38 двароў, 110 жыхароў. У Вял. Айч. вайну ў маі 1943 г. ням. акупанты поўнасцю спалілі вёску і загубілі жыхара. Паводле перапісу 1959 г. 135 жыхароў. Уваходзіла ў склад калгаса імя XXII з'езда КПСС (цэнтр — в. Кажушкі). Планіровачна складаецца з 2 дугападобных, паралельных вуліц, арыентаваных амаль мерыдыянальна. Забудова рэдкая, драўляная, сядзібнага тыпу.

**НАВАСЁЛКІ** — вёска ў Дварышчанскім с/с, за 7 км на ПдЗ ад раённага цэнтра і чыг. ст. Хойнікі (на ветцы Васілевічы—Хойнікі ад лініі Калінкавічы—Гомель), за 110 км ад Гомеля, на аўтадарозе Хойнікі—Ломачы. 74 гаспадаркі, 156 жыхароў (2004 г.).

Паводле пісьмовых крыніц вядома з 16 ст. як сяло, пажалаванае польскім каралём пісару Ф.Святошу. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1834 г. 45 двароў. У 1850 г. 68 двароў, 494 жыхары. З 1873 г. вялікі зямельны надзел ва ўладанні купца 1-й гільдыі Канапаліна. Пад 1879 г. пазначана ў ліку сяленняў Стралічаўскага царк. прыхода. Паводле перапісу 1897 г. 135 двароў, 819 жыхароў, капліца, школа граматы, хлебазапасны магазін. З 8.12.1926 г. да 16.7.1954 г. цэнтр Навасёлкаўскага с/с Хойніцкага р-на Рэчыцкай, з 9.6.1927 г. Гомельскай (да 26.7. 1930) акруг, з 20.2.1938 г. Палескай, з 8.1.1954 г. Гомельскай абласцей. У 1930 г. 197 двароў, 1008 жыхароў, школа, аддз. спажывецкай кааперацыі. У 1930 г. арганізаваны калгас «Чырвоны араты», працавала кузня. У 1940 г. 280 двароў, 1100 жыхароў. У Вял. Айч. вайну ў чэрв. 1954 г. ням. акупанты спалілі 205 двароў і загубілі 38 двароў. На франтах і ў партыз. барацьбе загінулі 210 вяскоўцаў, памяць аб якіх увекавечваюць 2 стэлы і 5 мармуровых пліт з імёнамі загінуўшых, пастаўленыя ў 1981 г. каля будынка Дома культуры. Паводле перапісу 1959 г. 1326 жыхароў. У складзе калгаса імя XXI з'езда КПСС (цэнтр — в. Руднае). Размешчаны аддз. сувязі, Дом культуры, б-ка, фельч.-акушэрскі пункт. Планіровачна складаецца з працяглай прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ, да якой далучаюцца 2 кароткія вуліцы. На Пд — адасоблены ўчастак забудовы ў выглядзе кароткай прамалінейнай вуліцы, блізкай да шыротнай арыентацыі. Забудова двухбаковая, пераважна драўляная, сядзібнага тыпу. Радзіма Героя Сац. Працы А.Я.Вяргейчык. Паблізу ёсць залежы жалезняку.

**НАРЫМАНАЎ** (да 1929 Міхалёва) — пасёлак у Алексіцкім с/с. У сувязі з радыяцыйным забруджаннем пасля Чарнобыльскай катастрофы жыхары пераселены ў чыстыя месцы. У 1870 г. Міхалёва — маёнтак Юравіцкай вол. Рэчыцкага пав. Мінскай губ., уласнасць Александровічаў, 40 рэвізскіх душ сялян. У 1880 г. маёнтак, 3704 дзес. зямлі,

уладанне Баглей Марыі Аляксандраўны. У 1897 г. ў маёнтку налічвалася 14 жыхароў. У 1909 г. фальварак той жа воласці і павета, 16 жыхароў. У 1926 г. Міхалёва ці Нарыманаў-Міхалёўскі — пасёлак, 11 гаспадарак, 44 жыхары, у Моклішчанскім с/с Юравіцкага р-на Рэчыцкай, з 9.6.1927 г. Мазырскай акруг, з 10.11.1927 г. ў Алексіцкім с/с таго ж раёна і акругі (да 26.7.1930), з 8.7.1931 г. ў Хойніцкім раёне, з 20.2.1938 г. ў Палескай, з 8.1.1954 г. Гомельскай абласцях. У 1932 г. існаваў калгас «Нарыманаў», у якім было 7 сем'яў калгаснікаў, 131 га зямлі. У 1959 г. пасёлак налічваў 106, у 1970 г. — 101 жыхара.



А.І.Канапелька.

**НЕБЫТАЎ** — вёска ў Казялужскім с/с, за 4 км на ПнЗ ад раённага цэнтра і чыг. ст. Хойнікі (на ветцы Васілевічы—Хойнікі ад лініі Калінкавічы—Гомель), за 127 км ад Гомеля. На Пн меліярацыйны канал, злучаны з р. Прыпяць (прыток р. Дняпро). Транспартныя сувязі па прасёлачнай, а затым па аўтадарогах, якія адыходзяць ад Хойнікаў. 114 гаспадарак, 215 жыхароў (2004 г.).

Выяўленае археолагамі гарадзішча (за 0,8 км на ПдЗ ад вёскі, ва ўрочышчы Гарадок) сведчыць аб засяленні тутэйшых мясцін з далёкай старажытнасці. Паводле пісьмовых крыніц вядома з 18 ст. як сяленне ў Рэчыцкім пав. Мінскага ваяв. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1795 г. 13 двароў. У 1834 г. 18 двароў, 90 жыхароў. У 1850 г. 21 двор, 124 жыхары, уласнасць казны. Пад 1879 г. пазначана ў ліку сяленняў Хойніцкага царк. прыхода. Паводле перапісу 1897 г. 57 двароў, 284 жыхары, капліца, хлебазапасны магазін, у Хойніцкай вол. Рэчыцкага пав. Мінскай губ. У 1908 г. 61 двор, 407 жыхароў. Побач быў аднайменны фальварак са смалакурняй. З 8.12.1926 г. да 16.7.1954 г. і з 16.4.1959 г. да 30.6.1966 г. цэнтр Небытаўскага с/с Хойніцкага р-на Рэчыцкай, з 9.6.1927 г. Гомельскай (да 26.7.1930) акруг, з 20.2.1938 г. Палескай, з 8.1.1954 г. Гомельскай абласцей. У 1930 г. 102 двары, 661 жыхар. У 1931 г. арганізаваны калгас «Чырвоная змена», працавала кузня. 62 вяскоўцы загінулі на франтах Вял. Айч. вайны. Паводле перапісу 1959 г. 763 жыхары. У складзе саўгаса «Хойнікі» (цэнтр — в. Казялужжа). Размешчаны аддз. сувязі, клуб, б-ка, фельч.-акушэрскі пункт. Пларіровачна складаецца з прамалінейнай шыротнай вуліцы, да ўсх. часткі якой далучаецца кароткая вуліца. Забудова двухбаковая, драўляная, сядзібнага тыпу. Радзіма бел. паэтэсы А.І.Канапелькі.

**НОВЫ ПАКРОЎСК** — вёска ў Дварышчанскім с/с, за 27 км на З ад раённага цэнтра і чыг. ст. Хойнікі (на ветцы Васілевічы—Хойнікі ад лініі Калінкавічы—Гомель), за 130 км ад Гомеля. На тэр. Палескага радыяцыйна-экалагічнага запаведніка. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, а затым аўтадарозе Ломачы—Хойнікі. У сувязі з радыяцыйным забруджаннем пасля Чарнобыльскай катастрофы жыхары (29 сямей) пераселены ў чыстыя месцы.

Засн. ў пач. 20 ст. перасяленцамі з суседніх вёсак. Найбольш актыўная забудова адносіцца да 1920-х гг. У 1930 г. арганізаваны калгас Р.І.Пятроўскага, працавала кузня. У 1940 г. 35 двароў, 122 жыхары. У Вял. Айч. вайну ў маі 1943 г. ням.-фаш. акупанты поўнасцю спалілі вёску. 15 вяскоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 176 жыхароў. Уваходзіла ў склад калгаса імя XXII з'езда КПСС (цэнтр — в. Кажушкі). Планіровачна складаецца з кароткай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ. На Пн — паўкальцавая забудова. Жылыя дамы пастаўлены рэдка, драўляныя, сядзібнага тыпу.

**ПАГОННАЕ** — вёска ў Стралічаўскім с/с, за 48 км на ПдЗ ад раённага цэнтра і чыг. ст. Хойнікі (на ветцы Васілевічы—Хойнікі ад лініі Калінкавічы—Гомель), за 150 км ад Гомеля, на тэр. Палескага радыяцыйна-экалагічнага запаведніка, на Пн і У сетка меліярацыйных каналаў, злучаных з р. Прыпяць

(прыток р. Дняпро). Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Даўляды—Хойнікі. У сувязі з радыяцыйным забруджаннем пасля Чарнобыльскай катастрофы жыхары (421 сям'я) пераселены ў чыстыя месцы, пераважна ў Жлобінскі р-н.

Паводле пісьмовых крыніц вядома з 18 ст. як сяленне ў Рэчыцкім пав. Мінскага ваяв. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1795 г. 11 двароў. У 1850 г. 16 двароў, 123 жыхары, уласнасць казны. Пад 1879 г. пазначана ў ліку сяленняў Аравіцкага царк. прыхода. Уваходзіла ў склад аднайменнага маёнтка памешчыка Яльніцкага, які ў 1870 г. меў тут 123 дзес. зямлі. У 1885 г. 23 двары, 174 жыхары. Заходняя экспедыцыя пад кіраўніцтвам Жылінскага праводзіла каля вёскі ў 1894 г. меліярацыйныя работы. Паводле перапісу 1897 г. 47 двароў, 290 жыхароў, нар. вучылішча, хлебазапасны магазін, у Дзёрнавіцкай вол. Рэчыцкага пав. Мінскай губ. У 1908 г. 64 двары, 533 жыхары. З 8.12.1926 г. да 30.12.1927 г. цэнтр Пагонненскага с/с Хойніцкага р-на Рэчыцкай, з 9.6.1927 г. Гомельскай акруг. У 1939 г. арганізаваны калгас. У 1940 г. 80 двароў. У Вял. Айч. вайну ў маі 1943 г. ням.-фаш. акупанты поўнасцю спалілі вёску і загубілі 13 жыхароў. На франтах і ў партыз. барацьбе загінулі 89 жыхароў з вёсак саўгаса «Перамога сацыялізму», памяць аб якіх увекавечвае скульптурная кампазіцыя, пастаўленая ў 1971 г. ў цэнтры вёскі. Паводле перапісу 1959 г. 1322 жыхары. У 1976 г. ў вёску перасяліліся жыхары суседняга пас. Баравіца. Была цэнтрам саўгаса «Перамога сацыялізму». Размяшчаліся лесапільня, млын, мех. майстэрня, павільён раённага камбіната быт. абслугоўвання, сярэдняя школа, Дом культуры, б-ка, дзіцячыя яслі-сад, б-ца, аддз. сувязі, сталовая, 3 магазіны. Планіровачна складаецца з 6 паралельных паміж сабой вуліц, арыентаваных з ПдУ на ПнЗ. Забудова пераважна драўляная, сядзібнага тыпу.

**ПАРТЫЗАНСКАЯ** (да 30.7.1964 Аўрамаўская) — вёска, цэнтр Велікаборскага с/с, чыг. ст. Аўрамаўка (на ветцы Васілевічы—Хойнікі ад лініі Калінкавічы—Гомель), за 18 км ад Хойнікаў, 93 км ад Гомеля, на З, Пд і У сетка меліярацыйных каналаў, злучаных з р. Прыпяць (прыток р. Дняпро). Транспартныя сувязі па прасёлачнай, а затым аўтадарозе Хойнікі—Рэчыца. 149 гаспадарак, 302 жыхары (2004 г.).

Засн. ў 19 ст. перасяленцамі з суседніх вёсак, у Рэчыцкім пав. Мінскай губ. Пасля здачы ў эксплуатацыю 23.9.1911 г. чыгункі Васілевічы—Хойнікі пачаў дзейнічаць раз'езд, а затым чыг. ст. Аўрамаўская. З 1912 г. працуе лесапільня (у 1932 — 140 рабочых). У Вял. Айч. вайну партызаны 19.11.1943 г. разграмілі на чыг. станцыі варожы гарнізон. 48 вяскоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 1289 жыхароў. У складзе саўгаса «Велікаборскі» (цэнтр — в. Вялікі Бор). Размешчаны дрэваапрацоўчы цэх Хойніцкага прамкамбіната, абознаколавы з-д, лясніцтва, швейная і шавецкая майстэрні, участак лясгаса, сярэдняя школа, Дом культуры, б-ка, дзіцячы сад і яслі, б-ца, аптэка, інтэрнат для састарэлых і інвалідаў, аддз. сувязі, сталовая, 6 магазінаў. Планіровачна складаецца з 2 крывалінейных вуліц на З ад чыгункі і арыентаваных з ПдЗ на ПнУ. На У — адасоблены ўчастак забудовы. Жылыя дамы пераважна драўляныя, сядзібнага тыпу. Радзіма бел. пісьменніка А.Г.Сопата.



*А.С.Сопат.*

**ПАСЕЛІЧЫ** — вёска, цэнтр Паселіцкага с/с, за 7 км на ПдУ ад раённага цэнтра і чыг. ст. Хойнікі (на ветцы Васілевічы—Хойнікі ад лініі Калінкавічы—Гомель), за 110 км ад Гомеля, на Пн мяжуе з урочышчам Каменная Гара. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, а затым аўтадарогах, якія адыходзяць ад Хойнікаў. 105 гаспадарак, 292 жыхары (2004 г.).

Паводле пісьмовых крыніц вядома з 19 ст. як сяленне ў Хойніцкай вол. Рэчыцкага пав. Мінскай губ. Па інвентары 1844 г. ў складзе маёнтка Хойнікі, нале-

жала В.К.Прозару. У 1850 г. 22 двары. Пад 1879 г. пазначана ў ліку сяленняў Хойніцкага царк. прыхода. Паводле перапісу 1897 г. 60 двароў, 396 жыхароў, капліца, школа граматы, хлебазапасны магазін. Побач быў аднайменны фальварак. З 8.12.1926 г. цэнтр Паселіцкага с/с Хойніцкага р-на Рэчыцкай, з 9.6.1927 г. Гомельскай (да 26.7.1930) акруг, з 20.2. 1938 г. Палескай, з 8.1.1954 г. Гомельскай абласцей. У 1929 г. арганізаваны калгас «3-і год пяцігодкі», працавала кузня. У 1930 г. 119 двароў, 651 жыхар. Дзейнічала пач. школа. 60 вяскоўцаў загінулі на франтах Вял. Айч. вайны. Паводле перапісу 1959 г. 559 жыхароў. Цэнтр калгаса «Світанне». Размешчаны камбінат быт. абслугоўвання, базавая школа, Дом культуры, б-ка, дзіцячы сад, фельч.-акушэрскі пункт, вет. участак, аддз. сувязі, сталовая, 3 магазіны. Планіровачна складаецца з 2 паралельных паміж сабой вуліц, арыентаваных з ПдЗ на ПнУ. Забудова двухбаковая, пераважна драўляная, сядзібнага тыпу. У 1986—87 гг. збудаваны мураваныя дамы на 50 кватэр, у якіх размясціліся перасяленцы з забруджаных радыяцыяй месц пасля Чарнобыльскай катастрофы.

У склад Паселіцкага с/с да 1995 г. ўваходзілі в. Гарошкаў і пас. Чырвоны Араты (да 1920 Двор), якія зараз не існуюць.

**ПАТАШНЯ** — вёска ў Казялужскім с/с, за 11 км на З ад раённага цэнтра і чыг. ст. Хойнікі (на ветцы Васілевічы—Хойнікі ад лініі Калінкавічы—Гомель), за 114 км ад Гомеля, на зах. ускраіне — р. Віць (прыток р. Прыпяць), на Пн і Пд меліярацыйныя каналы, злучаныя з р. Віць. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Хойнікі—Мазыр. 37 гаспадарак, 88 жыхароў (2004 г.).

Паводле пісьмовых крыніц вядома з 19 ст. як сяленне ў Хойніцкай вол. Рэчыцкага пав. Мінскай губ. Паводле перапісу 1897 г. 36 двароў, 212 жыхароў. З 8.12.1926 г. да 23.8.1937 г. цэнтр Паташненскага с/с Хойніцкага р-на Рэчыцкай, з 9.6.1927 г. Гомельскай (да 26.7.1930) акруг. У 1920—30-х гг. вёскі Паташня і Новая Паташня. У 1930 г. 41 двор, 180 жыхароў. Пераважную частку жыхароў складалі польскія сем'і. Меліся школа, хата-чытальня. У 1931 г. арганізаваны калгас «Асаавіяхім», працавала кузня. У Вял. Айч. вайну дзейнічала патрыят. падполле (кіраўнік Ю.М.Цішкевіч). 26 вяскоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 416 жыхароў. У складзе саўгаса «Хойніцкі» (цэнтр в. Казялужжа). Планіровачна складаецца з прамалінейнай шыротнай вуліцы, на З да якой далучаецца кароткая прамалінейная вуліца. Забудова двухбаковая, няшчыльная, драўляная, сядзібнага тыпу.

**ПІКУЛІХА** — пасёлак у Дварышчанскім с/с, за 6 км на ПдЗ ад раённага цэнтра і чыг. ст. Хойнікі (на ветцы Васілевічы—Хойнікі ад лініі Калінкавічы—Гомель), за 109 км ад Гомеля, на Пн меліярацыйны канал, злучаны з р. Прыпяць (прыток р. Дняпро). Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Хойнікі—Ломачы. 5 гаспадарак, 8 жыхароў (2004 г.).

Засн. ў пач. 20 ст. Найбольш актыўная забудова прыпадае на 1920-я гг. У 1932 г. пасялкоўцы ўступілі ў калгас. Паводле перапісу 1959 г. 163 жыхары. У складзе калгаса імя XXI з'езда КПСС (цэнтр — в. Руднае). Забудова рэдкая, драўляная, сядзібнага тыпу.

**ПЛОСКАЕ** — вёска ў Стралічаўскім с/с, за 15 км на ПдУ ад раённага цэнтра і чыг. ст. Хойнікі (на ветцы Васілевічы—Хойнікі ад лініі Калінкавічы—Гомель), за 118 км ад Гомеля. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Хойнікі—Брагін. У сувязі з радыяцыйным забруджаннем пасля Чарнобыльскай катастрофы жыхары (52 сям'і) перaселены ў чыстыя месцы.

Паводле пісьмовых крыніц вядома з 19 ст. як сяленне ў Мікуліцкай вол. Рэчыцкага пав. Мінскай губ. Па інвентары 1844 г. ў складзе маёнтка Хойнікі, які належаў В.К.Прозару. У 1850 г. 12 двароў,

77 жыхароў. Пад 1879 г. пазначана ў ліку сяленняў Астраглядскага царк. прыхода. Паводле перапісу 1897 г. 23 двары, 133 жыхары, вятрак. У 1908 г. 90 двароў, 689 жыхароў. З 8.12.1926 г. да 30.12.1927 г. цэнтр Плоскаўскага с/с Хойніцкага р-на Рэчыцкай, з 9.6.1927 г. Гомельскай акруг. У 1930 г. арганізаваны калгас «Камсамолец», працавалі вятрак і кузня. У Вял. Айч. вайну ў маі 1943 г. ням. акупанты поўнасцю спалілі вёску і загубілі 2 жыхароў. 33 вяскоўцы загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 263 жыхары. Уваходзіла ў склад калгаса «Кастрычнік» (цэнтр — в. Бабчын). Планіровачна складаецца з прамалінейнай шыротнай вуліцы, да якой на У далучаецца завулак. Забудова двухбаковая, няшчыльная, драўляная, сядзібнага тыпу.

**ПУДАКОЎ** — вёска ў Паселіцкім с/с, за 10 км на У ад раённага цэнтра і чыг. ст. Хойнікі (на ветцы Васілевічы—Хойнікі ад лініі Калінкавічы—Гомель), за 113 км ад Гомеля. Побач аўтадарога Хойнікі—Брагін. 31 гаспадарка, 74 жыхары (2004 г.).

Паводле пісьмовых крыніц вядома з 19 ст. як сяленне ў Мікуліцкай вол. Рэчыцкага пав. Мінскай губ. У 1850 г. 19 двароў. Пад 1879 г. пазначана ў ліку сяленняў Мікуліцкага царк. прыхода. Паводле перапісу 1897 г. 71 двор, 458 жыхароў, капліца, вятрак. З 8.12.1926 г. да 30.12.1927 г. цэнтр Пудакоўскага с/с Хойніцкага р-на Рэчыцкай, з 9.6.1927 г. Гомельскай акруг. У 1930 г. арганізаваны калгас «Чырвоны прамень», працавалі вятрак і кузня. 67 вяскоўцаў загінулі на франтах Вял. Айч. вайны. Паводле перапісу 1959 г. 528 жыхароў. У складзе калгаса «Бальшавік» (цэнтр — в. Веляцін). Размешчаны фельч.-акушэрскі пункт. Планіровачна складаецца з кароткай прамалінейнай мерыдыянальнай вуліцы, да якой з У далучаецца другая прамалінейная вуліца. Забудова двухбаковая, няшчыльная, драўляная.

**ПЯТРАШ** — вёска ў Паселіцкім с/с, за 11 км на ПдУ ад раённага цэнтра і чыг. ст. Хойнікі (на ветцы Васілевічы—Хойнікі ад лініі Калінкавічы—Гомель), за 114 км ад Гомеля. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Хойнікі—Брагін. 1 гаспадарка, 1 жыхар (2004 г.).

Засн. ў 1920-х гг. перасяленцамі з суседніх вёсак на былых памешчыцкіх землях. У 1930 г. 15 двароў, 97 жыхароў. У 1932 г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. 9 вяскоўцаў загінулі на франтах Вял. Айч. вайны. Паводле перапісу 1959 г. 153 жыхары. У складзе калгаса «Світанне» (цэнтр — в. Паселічы). Забудова драўляная, сядзібнага тыпу.

**РАБЕЦ** — пасёлак у Алексіцкім с/с, за 16 км на ПнЗ ад раённага цэнтра і чыг. ст. Хойнікі (на ветцы Васілевічы—Хойнікі ад лініі Калінкавічы—Гомель), за 119 км ад Гомеля. На Пд і У сетка меліярацыйных каналаў, злучаных з р. Прыпяць (прыток р. Дняпро). Побач аўтадарога Хойнікі—Мазыр. 16 гаспадарак, 35 жыхароў (2004 г.).

Засн. ў пач. 20 ст. перасяленцамі з суседніх вёсак. Найбольш актыўная забудова прыпадае на 1920-я гг. У 1930 г. 26 двароў, 147 жыхароў. У 1931 г. пасялкоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну 10 пасялкоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 182 жыхары. У складзе калгаса «Ленінскі шлях» (цэнтр — в. Глінішча). Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, арыентаванай мерыдыянальна і забудаванай двухбакова, няшчыльна драўлянымі сял. сядзібамі.

**РАДЗІН** — вёска ў Стралічаўскім с/с, за 50 км на Пд ад раённага цэнтра і чыг. ст. Пасудава (на ветцы Васілевічы—Хойнікі ад лініі Калінкавічы—Гомель), за 153 км ад Гомеля, на тэр. Палескага радыяцыйна-экалагічнага запаведніка, на Пн сетка меліярацыйных каналаў, злучаных з р. Прыпяць (прыток р. Дняпро). Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Даўляды—Хойнікі. У сувязі з радыяцыйным забруджаннем пасля Чарнобыльскай катастрофы жыхары (306 сямей) пераселены ў чыстыя месцы.

Паводле пісьмовых крыніц вядома з пач. 19 ст. як сяленне ў Дзёрнавіцкай вол. Рэчыцкага пав. Мінскай губ. У 1834 г. 42 двары, уладанне А.І.Горвата. У 1885 г. 50 двароў, 270 жыхароў. Паводле перапісу 1897 г. 68 двароў, 457 жыхароў, капліца, хлебазапасны магазін. Побач быў аднайменны фальварак. З пач. 20 ст., калі памешчык высяляў з в. Фізінкі Нараўлянскага р-на латышскія сем'і, у вёску перасяліліся 15 латышскіх сямей. У 1908 г. вёскі Радзін (96 двароў, 603 жыхары) і Новы Радзін (87 двароў, 501 жыхар). З 8.12.1926 г. да 1986 г. цэнтр Радзінскага (Новарадзінскага) с/с Камарынскага, з 25.12.1962 г. Хойніцкага р-наў Рэчыцкай, з 9.6.1927 г. Гомельскай (да 26.7. 1930) акруг, з 20.2.1938 г. Палескай, з 8.1.1954 г. Гомельскай абласцей. З 1920-х гг. у в. Новы Радзін дзейнічала школа. У 1930 г. арганізаваны калгас імя С.М.Будзённага (в. Стары Радзін) і калгас «Новая праца» (в. Новы Радзін), працавалі 2 кузні, ваўначоска, ветраны і паравы млыны. У 1940 г. 187 двароў. У Вял. Айч. вайну ў маі 1943 г. ням. акупанты поўнасцю спалілі вёску і загубілі 37 жыхароў (пахаваны ў магіле ахвяр фашызму на могілках). У баях каля вёскі загінулі 20 воінаў (пахаваны ў брацкай магіле на могілках). 73 вяскоўцы загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. ў в. Новы Радзін — 37, у в. Стары Радзін — 409 жыхароў. Была цэнтрам калгаса «Новае жыццё». Размяшчаліся камбінат быт. абслугоўвання, лесапільня, млын, сярэдняя школа, клуб, б-ка, фельч.-акушэрскі пункт, аддз. сувязі, магазін. Планіровачна складаецца з працяглай крывалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ і забудаванай двухбакова драўлянымі сял. сядзібамі. Радзіма бел. мастака Ю.П.Сергіенкі.

Да Вял. Айч. вайны ў склад Радзінскага с/с уваходзіла в. Перавессе, якую ням. акупанты 23.5.1943 г. спалілі (18 двароў) і загубілі 34 жыхароў, не адрадзілася, увекавечана ў мемарыяльным комплексе «Хатынь».

**РАШАЎ** — вёска ў складзе Хойніцкага гарсавета, за 16 км на ПнУ ад раённага цэнтра і чыг. ст. Хойнікі (на ветцы Васілевічы—Хойнікі ад лініі Калінкавічы—Гомель), за 119 км ад Гомеля, на Пн і У меліярацыйныя каналы. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Хойнікі—Рэчыца. У сувязі з радыяцыйным забруджаннем пасля Чарнобыльскай катастрофы жыхары (35 сямей) перасялены ў чыстыя месцы.

Паводле пісьмовых крыніц вядома з пач. 19 ст. як сяленне ў Маладушскай вол. Рэчыцкага пав. Мінскай губ. У 1816 г. 28 двароў. У 1950 г. 64 жыхары. Пад 1879 г. пазначана ў складзе Маладушскага царк. прыхода. Паводле перапісу 1897 г. 165 жыхароў, хлебазапасны магазін. У 1930 г. 46 двароў, 247 жыхароў. У 1931 г. арганізаваны калгас. У 1940 г. 51 двор, 259 жыхароў. У Вял. Айч. вайну ў чэрв. 1943 г. ням. акупанты поўнасцю спалілі вёску і загубілі 11 жыхароў. 27 вяскоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 220 жыхароў. Уваходзіла ў склад калгаса «Шлях Леніна» (цэнтр — в. Глінішча). Планіровачна складаецца з прамалінейнай мерыдыянальнай вуліцы, да якой на Пд далучаецца крыху скрыўленая вуліца. Забудавана двухбакова драўлянымі сял. сядзібамі. Паблізу ёсць залежы жалезняку.

**РУДАКОЎ** — вёска ў Стралічаўскім с/с, за 12 км на ПдУ ад раённага цэнтра і чыг. ст. Хойнікі (на ветцы Васілевічы—Хойнікі ад лініі Калінкавічы—Гомель), за 115 км ад Гомеля. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Хойнікі—Брагін. 33 гаспадаркі, 103 жыхары (2004 г.).

Паводле пісьмовых крыніц вядома з 18 ст. як сяленне ў Рэчыцкім пав. Мінскага ваяв. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1973) у складзе Рас. імперыі. У 1811 г. ва ўладанні Ракіцкіх. У 1834 г. 46

двароў. Па звестках 1844 г. цэнтр аднайменнага маёнтка, уладанне двараніна У.Аскеркі, які меў тут і ў наваколлі ў 1876 г. 7416 дзес. зямлі і 2 млыны. У 1850 г. 235 жыхароў. Паводле перапісу 1897 г. вёска (66 двароў, 381 жыхар, школа граматы) і фальварак (6 двароў, 135 жыхароў, вінакурня), у Мікуліцкай вол. Рэчыцкага пав. Мінскай губ. У 1908 г. 87 двароў, 484 жыхары. З 8.12.1926 г. да 1986 г. цэнтр Рудакоўскага с/с Хойніцкага р-на Рэчыцкай, з 9.6.1927 г. Гомельскай (да 26.7.1930) акруг, з 20.2.1938 г. Палескай, з 8.1.1954 г. Гомельскай вобл. У 2-й пал. 1920-х гг. створаны саўгас «Рудакоў». У 1929 г. арганізаваны калгас, працавалі 2 ветракі, маслазавод (з 1928), стальмашня, 2 кузні. У 1930 г. 76 двароў, 412 жыхароў, пач. школа, аддз. спажывецкай кааперацыі. У 1930-х гг. пачала працаваць Рудакоўская машынна-трактарная станцыя, якая абслугоўвала амаль палавіну калгасаў раёна. У Вял. Айч. вайну ням. акупанты загубілі 10 жыхароў. 109 вяскоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 936 жыхароў. У складзе саўгаса «Стралічава» (цэнтр — в. Стралічава). Размешчаны сельскае прафес.-тэхн. вучылішча механізацыі меліярацыйных работ, 8-гадовая школа, якая носіць імя аднаго з арганізатараў партыз. руху на Беларусі ў гады Вял. Айч. вайны Н.М.Андросава, клуб, б-ка, фельч.-акушэрскі пункт, аддз. сувязі, швейная і шавецкая майстэрні, сталовая, 3 магазіны. Планіровачна складаецца з 2-х крывалінейных, амаль паралельных паміж сабой вуліц, арыентаваных з ПдУ на ПнЗ. Забудова двухбаковая, драўляная, сядзібнага тыпу. Каля вёскі ёсць залежы жалезняку.

**РУДЗЕНЬКА** — вёска ў Велікаборскім с/с. У сувязі з радыяцыйным забруджаннем пасля Чарнобыльскай катастрофы жыхары пераселены ў чыстыя месцы.

У 1844 г. Рудзенькі — вёска фальварка Гудава маёнтка Хойнікі, 3 двары, 19 жыхароў, уласнасць Уладзіслава Карлавіча Прозара, у Рэчыцкім пав. Мінскай губ. У 1897 г. вёска, 7 двароў, 55 жыхароў, у Хойніцкай вол. таго ж павета. У 1909 г. тут 10 двароў, 70 жыхароў. У 1917 г. — 15 гаспадарак, 96 жыхароў. З 8.12. 1926 г. ў складзе Велікаборскага с/с Хойніцкага р-на Рэчыцкай, з 9.6.1927 г. Гомельскай акруг (да 26.7.1930), з 20.2. 1938 г. ў Палескай, з 8.1.1954 г. ў Гомельскай абласцях. У 1926 г. вёска налічвала 19 гаспадарак, 100 жыхароў. У 1959 г. — 37, у 1970 г. — 23 жыхары.

**РУДНАЕ** — вёска ў Дворышчанскім с/с, за 5 км на ПдЗ ад раённага цэнтра і чыг. ст. Хойнікі (на ветцы Васілевічы—Хойнікі ад лініі Калінкавічы—Гомель), за 110 км ад Гомеля, на Пд меліярацыйныя каналы, злучаныя з р. Прыпяць (прыток р. Дняпро). Транспартныя сувязі па прасёлачнай, а потым аўтадарогах, якія ідуць ад Хойнікаў. 12 гаспадарак, 19 жыхароў (2004 г.).

Паводле пісьмовых крыніц вядома з 19 ст. як сяленне ў Хойніцкай вол. Рэчыцкага пав. Мінскай губ. Пад 1879 г. пазначана ў ліку сяленняў Стралічаўскага царк. прыхода. Паводле перапісу 1897 г., 82 двары, 525 жыхароў, капліца, хлебазапасны магазін. У 1908 г. 96 двароў, 592 жыхары. З 8.12.1926 г. да 30.12.1927 г. цэнтр Рудненскага с/с Рэчыцкай, з 9.6.1927 г. Гомельскай акруг. У 1930 г. вяскоўцы ўступілі ў калгас, працавалі кузня, 2 стальмашні, 2 ветракі. У Вял. Айч. вайну ням. акупанты часткова спалілі вёску і загубілі 10 жыхароў. 116 вяскоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 745 жыхароў. Цэнтр калгаса імя XXI з'езда КПСС. Размешчаны пач. школа, клуб, б-ка, фельч.-акушэрскі пункт, вет. ўчастак, аддз. сувязі, магазін. Планіровачна складаецца з паўвыгнутай вуліцы, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ, да якой далучаюцца 2 завулкі. Забудова двухбаковая, драўляная, сядзібнага тыпу. Радзіма засл. настаўніцы БССР

М.У.Назаранкі. У пач. 1930-х гг. паблізу вёскі выяўлены залежы жалезных руд.

**РУДЫЯ** — вёска ў Стралічаўскім с/с, за 16 км на ПдУ ад Хойнікаў, 19 км ад чыг. ст. Хойнікі (на ветцы Васілевічы—Хойнікі ад лініі Калінкавічы—Гомель), 119 км ад Гомеля, на У прымыкае да лесу. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, а потым аўтадарозе Хойнікі—Брагін. У сувязі з радыяцыйным забруджаннем пасля Чарнобыльскай катастрофы жыхары (40 сямей) перасяленыя ў чыстыя месцы.

Паводле пісьмовых крыніц вядома з 18 ст. як сяленне ў Рэчыцкім пав. Мінскага ваяв. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Расійскай імперыі. У 1811 г. ва ўладанні Ракіцкіх. У 1834 г. 18 двароў. У 1844 г. ўладанне У.Аскеркі. У 1850 г. 94 жыхары. Паводле перапісу 1897 г. 37 двароў, 227 жыхароў, вятрак, у Мікуліцкай вол. Рэчыцкага пав. Мінскай губ. У 1931 г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. 25 вяскоўцаў загінулі на франтах Вял. Айч. вайны. Паводле перапісу 1959 г. 245 жыхароў. Уваходзіла ў склад калгаса «Кастрычнік» (цэнтр — в. Бабчын). Планіровачна складаецца з 4 кароткіх вуліц, якія ўтвараюць канфігурацыю квадрата. Забудова двухбаковая, драўляная, сядзібнага тыпу.

**СІНЦЫ** — вёска ў Стралічаўскім с/с, за 39 км на Пд ад раённага цэнтра і чыг. ст. Хойнікі (на ветцы Васілевічы—Хойнікі ад лініі Калінкавічы—Гомель), 142 км ад Гомеля, на тэр. Палескага радыяцыйна-экалагічнага запаведніка. На Пн меліярацыйныя каналы, злучаныя з р. Прыпяць (прыток р. Дняпро). Побач аўтадарога Малочкі—Крукі. У сувязі з радыяцыйным забруджаннем пасля Чарнобыльскай катастрофы жыхары (13 сямей) перасяленыя ў чыстыя месцы.

Засн. ў пач. 20 ст. перасяленцамі з суседніх вёсак. Найбольш актыўная забудова прыпадае на 1920-я гг. У 1940 г. 35 двароў, 170 жыхароў. У Вял. Айч. вайну ў маі 1943 г. ням. акупанты поўнасцю спалілі вёску і загубілі 6 жыхароў. 5 вяскоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 93 жыхары. Уваходзіла ў склад калгаса «Новае жыццё» (цэнтр — в. Радзін). Планіровачна складаецца з кароткай шыротнай вуліцы, забудаванай рэдка драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**СЛАБАДА** — вёска ў Дворышчанскім с/с, за 32 км на ПдЗ ад раённага цэнтра і чыг. ст. Хойнікі (на ветцы Васілевічы—Хойнікі ад лініі Калінкавічы—Гомель), за 135 км да Гомеля. На тэр. Палескага радыяцыйна-экалагічнага запаведніка. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, а затым аўтадарозе Кажушкі—Ломачы. У сувязі з радыяцыйным забруджаннем пасля Чарнобыльскай катастрофы жыхары (20 сямей) перасяленыя ў чыстыя месцы.

Паводле пісьмовых крыніц вядома з 19 ст. як сяленне ў Юравіцкай вол. Рэчыцкага пав. Мінскай губ. Паводле перапісу 1897 г. 16 двароў, 107 жыхароў. У 1930 г. 21 двор, 101 жыхар. У 1931 г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. Уваходзіла ў склад калгаса імя XXII з'езда КПСС (цэнтр — в. Кажушкі). Планіровачна складаецца з кароткай прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ. Забудова драўляная, сядзібнага тыпу.

**СЛАБАЖАНКА** (да 30.7.1964 Княжыца) — вёска ў Алексіцкім с/с, за 20 км на ПнЗ ад раённага цэнтра і чыг. ст. Хойнікі (на ветцы Васілевічы—Хойнікі ад лініі Калінкавічы—Гомель), 127 км ад Гомеля. Побач аўтадарога Хойнікі—Мазыр. 158 гаспадарак, 432 жыхары (2004 г.).

Паводле пісьмовых крыніц вядома з 19 ст. як сяленне ў Юравіцкай вол. Рэчыцкага пав. Мінскай губ. У 1850 г. 12 двароў, 96 жыхароў, уласнасць казны. Паводле перапісу 1897 г. в. Слабада Княжына, 27 двароў, 285 жыхароў, хлебазапасны магазін, ветравы і конны млыны. У 1908 г. 61 двор, 345 жыхароў. З 8.12. 1926 г. да 10.11.1927 г. цэнтр Княжыц-

кага с/с Юравіцкага р-на Рэчыцкай, з 9.6.1927 г. Мазырскай акруг. У 1930 г. в. Княжыцкая Слабада, 98 двароў, 497 жыхароў. У 1931 г. арганізаваны калгас. У Вял. Айч. вайну на франтах і ў партыз. барацьбе загінулі 169 жыхароў з вёсак калгаса «Бальшавіцкая перамога», памяць аб якіх увекавечвае абеліск, пастаўлены ў 1958 г. ў цэнтры вёскі. Паводле перапісу 1959 г. 568 жыхароў. Цэнтр калгаса «Бальшавіцкая перамога». Размешчаны мех. майстэрня, базавая школа, Дом культуры, фельч.-акушэрскі пункт, б-ка, аддз. сувязі. Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ, да якой на Пд і Пн далучаюцца 2 прамалінейныя вуліцы. Забудова двухбаковая, драўляная, сядзібнага тыпу. У 1987 г. збудаваны мураваныя дамы на 50 кватэр, у якіх размясціліся перасяленцы з забруджаных радыяцыяй месц пасля Чарнобыльскай катастрофы.

**СМІРНОЎ** — пасёлак у Дворышчанскім с/с, за 4 км на Пд ад раённага цэнтра і чыг. ст. Хойнікі (на ветцы Хойнікі—Васілевічы ад лініі Калінкавічы—Гомель), 107 км ад Гомеля. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарогах, якія адыходзяць ад Хойнікаў. У сувязі з радыяцыйным забруджаннем пасля Чарнобыльскай катастрофы жыхары (22 сям'і) пераселены ў чыстыя месцы.

Засн. ў 1920-я гг. перасяленцамі з суседніх вёсак на былых памешчыцкіх землях. У 1931 г. пасялкоўцы ўступілі ў калгас. Паводле перапісу 1959 г. 86 жыхароў. Уваходзіў у склад калгаса імя XXI з'езда КПСС (цэнтр — в. Руднае). Планіровачна складаецца з кароткай прамалінейнай вуліцы, блізкай да мерыдыянальнай арыентацыі і забудаванай драўлянымі сял. сядзібамі.

**СОКАЛ** — пасёлак у Паселіцкім с/с, за 13 км на ПдУ ад раённага цэнтра і чыг. ст. Хойнікі (на ветцы Хойнікі—Васілевічы ад лініі Калінкавічы—Гомель), за 116 км ад Гомеля. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Хойнікі—Брагін. У сувязі з радыяцыйным забруджаннем пасля Чарнобыльскай катастрофы жыхары (4 сям'і) пераселены ў чыстыя месцы.

Засн. ў 1920-я гг. перасяленцамі з суседніх вёсак на былых памешчыцкіх землях. У 1930 г. 13 двароў, 80 жыхароў. У 1932 г. пасялкоўцы ўступілі ў калгас. 2 пасялкоўцы загінулі ў Вял. Айч. вайну на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 79 жыхароў. Уваходзіў у склад калгаса «Світанне» (цэнтр — в. Паселічы). Планіровачна складаецца з кароткай вуліцы, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ і забудаванай драўлянымі сял. сядзібамі.

**СТАРЧ** — вёска ў Велікаборскім с/с. У сувязі з радыяцыйным забруджаннем пасля Чарнобыльскай катастрофы жыхары пераселены ў чыстыя месцы.

У 1897 г. на месцы сучаснай вёскі існавалі: фальварак Старча (Муціжар), 14 жыхароў, уласнасць Аскеркаў, і слабада Старча на зямлі Аскеркаў, 9 двароў, 72 жыхары, у складзе Аўцюцевіцкай вол. Рэчыцкага пав. Мінскай губ. У 1909 г. Старч — маёнтак, 3 жыхары, і хутары, 23 гаспадаркі, 199 жыхароў. У 1917 г. хутары на месцы былога маёнтка налічвалі 12 гаспадарак, 68 жыхароў; 28,5 дзес. зямлі. З 8.12.1926 г. вёска (паводле іншых крыніц, хутары) знаходзіліся ў складзе Муціжарскага с/с Юравіцкага р-на Рэчыцкай, з 9.6.1927 г. Мазырскай акруг, з 10.11.1927 г. ў Хобненскім с/с таго ж раёна і акругі. У 1926 г. 21 двор, 105 жыхароў. У 1931 г. ў вёсцы адчынена школа і створаны калгас «Новы Старч». У 1932 г. калгас налічваў 38 сем'яў калгаснікаў, 146 га зямлі. У 1959 г. вёска, у Велікаборскім с/с, 88 жыхароў, у 1970 г. — 67 жыхароў.

**СТРАЛІЧАВА** — вёска, цэнтр Стралічаўскага с/с, за 8 км на Пд ад раённага цэнтра і чыг. ст. Хойнікі (на ветцы Хойнікі—Васілевічы ад лініі Калінкавічы—



*У.Л.Зінкевіч. Светлы дзень. 1982 г.*

Гомель), 111 км ад Гомеля. Транспартныя сувязі па прасёлачнай а затым аўтадарозе Брагін—Хойнікі. 320 гаспадарак, 948 жыхароў (2004 г.).

Паводле пісьмовых крыніц вядома з 18 ст. як сяленне ў Рэчыцкай вол. Мінскага ваяв. Дзейнічала драўляная царква ў імя св. Міхаіла (у архівах царквы знаходзіліся метрычныя кнігі з 1792). Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1795 г. на месцы састарэлай узведзена новая драўляная царква. Па інвентары 1844 г. ў складзе маёнтка Хойнікі, належала В.К.Прозару. У 1850 г. 70 двароў, 290 жыхароў. У 1885 г. 537 жыхароў, вадзяны і конны млыны. Паводле перапісу 1897 г. 139 двароў, 848 жыхароў, царк.-прыходская школа, хлебазапасны магазін. Побач быў аднайменны фальварак. Вясной 1905 г. адбыліся сутычкі вяскоўцаў з паліцыяй у сувязі з канфліктам сялян з мясц. памешчыкам Аўрамавым аб выкарыстанні пашы. У 1908 г. 162 двары, 1036 жыхароў, у Хойніцкай вол. Рэчыцкага пав. Мінскай губ. З 8.12.1926 г. цэнтр Стралічаўскага с/с Хойніцкага р-на Рэчыцкай, з 9.6.1927 г. Гомельскай (да 26.7.1930) акруг, з 20.2.1938 г. Палескай, з 8.1.1954 г. Гомельскай абласцей. У 1920-х гг. арганізаваны саўгас «Стралічава». У 1930 г. 175 двароў, 1072 жыхары, пач. школа. У 1930 г. арганізаваны калгас «Пралетарый», працавалі вінакурня (з 1912), вятрак, 2 кузні, цагельня, стальмашня і шорная майстэрня. У Вял. Айч. вайну дзейнічала патрыят. падполле (кіраўнік У.І.Табачны). У вер.—кастр. 1942 г. многія падпольшчыкі былі арыштаваны і пасля катаванняў расстраляны. 200 вяскоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 1828 жыхароў. Цэнтр саўгаса «Стралічава». Размешчаны аддз. сувязі, Дом культуры, б-ка, амбулаторыя, дзіцячы сад, сярэдняя школа. Планіровачна складаецца з 3 кароткіх, амаль паралельных паміж сабой вуліц, блізкіх да мерыдыянальнай арыентацыі. Забудова пераважна драўляная, сядзібнага тыпу. Радзіма Героя Сац. Працы М.П.Хаванскага і бел. мастака У.Л.Зінкевіча. У склад Стралічаўскага с/с да 1995 г. ўваходзілі пасёлкі Града, Леніна, Чырвоны Рог (да 1940 Данілаў Рог) і в. Мокіш (не існуюць).

**СУДКОВА** — вёска ў Дварышчанскім с/с, за 3 км на З ад раённага цэнтра і чыг. ст. Хойнікі (на ветцы Хойнікі—Васілевічы ад лініі Калінкавічы—Гомель), 107 км ад Гомеля. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, а затым аўтадарогах, якія адыходзяць ад Хойнікаў. 244 гаспадаркі, 639 жыхароў (2004 г.).

Паводле пісьмовых крыніц вядома з 18 ст. як сяленне ў Рэчыцкім пав. Мінскага ваяв. Упамінаецца ў інвентары 1721 г. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. Памешчык Сараеў меў у 1869 г. ў вёсцы 437 дзес. зямлі. Па рэвізскіх матэрыялах 1850 г. 17 двароў, у Рэчыцкім пав. Мінскай губ. Побач быў фальварак, у якім у выніку пажару 21.5.1907 г. згарэлі вінакурны з-д і 3 двары. У 1920-я гг. арганізаваны саўгас «Судкова», працавалі крухмальны з-д (з 1912), стальмашня, кузня, рымарская майстэрня. У Вял. Айч. вайну партызаны разграмілі буйную гаспадарку, створаную тут акупантамі. На франтах і ў партыз. барацьбе загінулі 194 землякі — жыхары Дварышчанскага с/с, памяць аб якіх увекавечвае стэла, пастаўленая ў цэнтры вёскі.

Цэнтр саўгаса «Судкова». Размешчаны сярэдняя школа, Дом культуры, б-ка, дзіцячыя яслі, амбулаторыя, аддз. сувязі, швейная майстэрня, сталовая, магазін, дзіцячы сад. Планіровачна складаецца з 2 прамалінейных шыротнай арыентацыі і паралельных паміж сабой вуліц. Забудова двухбаковая, драўляная, сядзібнага тыпу. У 1986 г. пабудаваны мураваныя дамы на 50 кватэр, у якіх размясціліся перасяленцы з забруджаных радыяцыяй месц пасля Чарнобыльскай катастрофы. Паблізу знаходзяцца залежы суглінкаў і жалезняку.

**ТУЛЬГАВІЧЫ** — вёска ў Дварышчанскім с/с, за 30 км на ПдЗ ад раённага цэнтра і чыг. ст. Хойнікі (на ветцы Хойнікі—Васілевічы ад лініі Калінкавічы—Гомель), 133 км ад Гомеля, на р. Віць (прыток р. Прыпяць). Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Хойнікі—Ломачы. 8 гаспадарак, 9 жыхароў (2004 г.).

Паводле пісьмовых крыніц вядома з 15 ст. Пад 1506 г. пазначана як сяло, якое польскі кароль Сігізмунд пажалаваў царк. служачаму. 15 сяльчан у 1552 г. ўдзельнічалі ў будаўніцтве Мазырскага замка. Згодна попісу 1567 г. маёнтак Тульгавічы павінен быў выдзяляць сваіх апалчэнцаў для фарміравання ўзброеных атрадаў ВКЛ. У 1680-я гг. тут актыўна дзейнічалі езуіты, якія падпарадкавалі сабе значную частку зямельных угоддзяў. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1795 г. 58 двароў, 380 жыхароў, драўляная Георгіеўская царква, рудня па выплаўцы жалеза. У 1873 г. замест старой пабудавана новая драўляная царква, але ў наступным годзе яна згарэла. Дваранін Солтан меў у сяле і наваколлі ў 1876 г. 1468 дзес. зямлі. У 1885 г. 63 двары, 329 жыхароў. Паводле перапісу 1897 г. 87 двароў, 630 жыхароў, царк.-прыходская школа, хлебазапасны магазін, ветраны і конны млыны, карчма. Побач была в. Тульгавіцкая Рудня, 26 двароў, 87 жыхароў. У выніку пажару 8.5.1899 г. згарэў 51 двор. У 1908 г. 123 двары, 833 жыхары, у Юравіцкай вол. Рэчыкага пав. Мінскай губ. З 8.12.1926 г. да 1986 г. цэнтр Тульгавіцкага с/с Юравіцкага, з 8.7.1931 г. Хойніцкага р-наў Рэчыцкай, з 9.6.1927 г. Мазырскай (да 26.7.1930) акруг, з 20.2.1938 г. Палескай, з 8.1.1954 г. Гомельскай абласцей. У 1930 г. арганізаваны калгасы «Чырвонамайск» і «Чырвоны Кастрычнік», працавалі паравы млын, кузня і стальмашня. У Вял. Айч. вайну каля вёскі ў маі 1943 г. партызаны вялі цяжкі бой супраць карнікаў і нанеслі ім вялікія страты, а ў чэрв. 1943 г. партызаны разграмілі гарнізон, які акупанты стварылі ў вёсцы. Карнікі часткова спалілі вёску і загубілі 22 жыхароў. 186 вяскоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 1134 жыхары. Цэнтр калгаса імя А.С.Жданава. Размешчаны камбінат быт. абслугоўвання, лясніцтва, сярэдняя школа, клуб, б-ка, б-ца, вет. ўчастак, аддз. сувязі, 3 магазіны. Планіровачна складаецца з дугападобнай вуліцы, блізкай да шыротнай арыентацыі, да цэнтра якой з Пд далучаюцца 2 прамалінейныя, паралельныя паміж сабой мерыдыяльнай арыентацыі вуліцы. Забудова драўляная, сядзібнага тыпу. У пач. 1930-х гг. каля вёскі было выяўлена радовішча жалезных руд палескага характару. У склад Тульгавіцкага с/с да Вял. Айч. вайны ўваходзілі пас. Чырвонаармейск, які ням. акупанты ў маі 1943 г. спалілі (28 двароў, не адрадзіўся), да 1995 г. — в. Ломаш (не існуе).

**ТУНЕЎШЧЫНА** — вёска ў Алексіцкім с/с, за 26 км на З ад раённага цэнтра і чыг. ст. Хойнікі (на ветцы Хойнікі—Васілевічы ад лініі Калінкавічы—Гомель), за 129 км ад Гомеля. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Хойнікі—Мазыр. 58 гаспадарак, 105 жыхароў (2004 г.).

Паводле пісьмовых крыніц вядома з 19 ст. як сяленне ў Юравіцкай вол. Рэчыцкага пав. Мінскай губ. У 1834 г. — 6, у 1850 г. —8 двароў. Паводле перапісу 1897 г. 15 двароў, 96 жыхароў. У 1908 г. 17 двароў, 143 жыхары. У 1930 г. 31 двор, 161 жыхар. Вяскоўцы ў 1931 г. ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну 54 вяскоўцы загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 446 жыхароў. У складзе калгаса «Ленінскі шлях» (цэнтр — в. Глінішча). Размешчаны клуб. Планіровачна складаецца з крыху выгнутай вуліцы, блізкай да шыротнай арыентацыі, да цэнтра якой далучаецца кароткая прамалінейная вуліца з завулкам. Забудова драўляная, сядзібнага тыпу.

**УЛАСЫ** — вёска ў Стралічаўскім с/с, за 62 км на Пд ад Хойнікаў, 32 км ад чыг. ст. Пасудава (на ветцы Хойнікі—Васілевічы ад лініі Калінкавічы—Гомель), за 148 км ад Гомеля, на Пд меліярацыйныя каналы і мяжуе з урочышчам Тужыр. Транспартныя сувязі па прасёлачнй, потым аўтадарозе Даўляды—Хойнікі. У сувязі з радыяцыйным забруджаннем пасля Чарнобыльскай катастрофы жыхары (69 сямей) пераселены ў чыстыя месцы.

Паводле пісьмовых крыніц вядома з 19 ст. як сяленне ў Дзёрнавіцкай вол. Рэчыцкага пав. Мінскай губ. У 1850 г. 20 двароў, 130 жыхароў. Пад 1879 г. пазначана ў ліку сяленняў Баршчоўскага царк. прыхода. Паводле перапісу 1897 г. 43 жыхары, 158 жыхароў, хлебазапасны магазін. У 1908 г. 55 двароў, 396 жыхароў. З 8.12.1926 г. да 30.12.1927 г. цэнтр Уласаўскага с/с Камарынскага р-на Рэчыцкай, з 9.6.1927 г. Гомельскай акруг. У 1930 г. арганізаваны калгас імя М.І.Калініна, працавала ваўначоска. У 1940 г. 120 двароў, 432 жыхары. У Вял. Айч. вайну ням. акупанты 22.5.1943 г. поўнасцю спалілі вёску і расстралялі 141 жыхара (пахаваны ў магіле ахвяр фашызму ў цэнтры вёскі). На наступны дзень карнікі расстралялі яшчэ 16 жыхароў (пахаваны ў магіле ахвяр фашызму на ўсх. ускраіне). 70 вяскоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 267 жыхароў. Уваходзіла ў склад калгаса «Новае жыццё» (цэнтр — в. Радзін). Размяшчаліся пач. школа, клуб, б-ка, фельч.-акушэрскі пункт, швейная і шавецкая майстэрні, магазін. Планіровачна складаецца з 2 прамалінейных, паралельных паміж сабой вуліц, арыентаваных з ПдУ на ПнЗ. Забудова аднабаковая, драўляная, сядзібнага тыпу.

**ХВАШЧОЎКА** — вёска ў Стралічаўскім с/с, за 36 км на ПдЗ ад раённага цэнтра і чыг. ст. Хойнікі (на ветцы Хойнікі—Васілевічы ад лініі Калінкавічы—Гомель), за 140 км ад Гомеля, на З — воз. Гнезнае. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Даўляды—Хойнікі. У сувязі з радыяцыйным забруджаннем пасля Чарнобыльскай катастрофы жыхары (26 сямей) пераселены ў чыстыя месцы.

Выяўленыя археолагамі бескурганны могільнік эпохі неаліту (за 0,7 км на Пд ад вёскі, ва ўрочышчы Пясчаніца) і паселішча эпохі неаліту (за 0,5 км на ПнЗ ад вёскі) сведчаць аб засяленні тутэйшых мясцін з глыбокай старажытнасці. Сучасная вёска засн. ў пач. 20 ст. Найбольш актыўная забудова прыпадае на 1920-я гг. У 1930 г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну 5 вяскоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 128 жыхароў. Уваходзіла ў склад саўгаса «Аравічы» (цэнтр — в. Аравічы). Планіровачна складаецца з 2 кароткіх, паралельных паміж сабой, прамалінейных вуліц шыротнай арыентацыі, злучаных 2 завулкамі. Забудова двухбаковая, драўляная, сядзібнага тыпу.

**ХВОЙНАЕ**— вёска ў Алексіцкім с/с, за 15 км на ПнЗ ад раённага цэнтра і чыг. ст. Хойнікі (на ветцы Хойнікі—Васілевічы ад лініі Калінкавічы—Гомель), 118 км ад Гомеля, на У меліярацыйныя каналы і р. Віць (прыток р. Прыпяць).

Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Хойнікі—Калінкавічы. 56 гаспадарак, 105 жыхароў (2004 г.).

Выяўленае археолагамі гарадзішча ранняга сярэднявечча (за 2 км на У ад вёскі) сведчыць аб засяленні тутэйшых мясцін з далёкай старажытнасці. Паводле пісьмовых крыніц вядома з 19 ст. як сяленне ў Юравіцкай вол. Рэчыцкага пав. Мінскай губ. У 1850 г. 31 двор, 171 жыхар, уласнасць казны. Пад 1879 г. упамінаецца ў ліку сяленняў Алексіцкага царк. прыхода. Паводле перапісу 1897 г. 56 двароў, 292 жыхары, школа граматы, хлебазапасны магазін, вятрак. У 1908 г. 69 двароў, 350 жыхароў. З 8.12.1926 г. да 10.11.1927 г. цэнтр Хвойненскага с/с Юравіцкага р-на Рэчыцкай, з 9.6.1927 г. Мазырскай акруг. Дзейнічаў саўгас «Хвойнае». У 1929 г. арганізаваны калгас. У 1930 г. 113 двароў, 554 жыхары. У Вял. Айч. вайну ў чэрв. 1943 г. ням. акупанты поўнасцю спалілі вёску і загубілі 17 жыхароў. 61 вясковец загінуў на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 515 жыхароў. У складзе калгаса «Бальшавіцкая перамога» (цэнтр — в. Слабажанка). Размешчаны клуб, б-ка, фельч.-акушэрскі пункт. Планіровачна складаецца з амаль прамалінейнай вуліцы, блізкай да мерыдыянальнай арыентацыі, забудаванай драўлянымі сялянскімі сядзібамі. Паблізу тарфяныя і жалезарудныя залежы.

**ХВОЙНАЯ ПАЛЯНА** (да 30.7.1964 Аўрамаўскі) — пасёлак у Велікаборскім с/с, за 25 км на Пн ад Хойнікаў, 7 км ад чыг. ст. Аўрамаўская (на ветцы Хойнікі—Васілевічы ад лініі Калінкавічы—Гомель), за 124 км ад Гомеля. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Хойнікі—Рэчыца. 56 гаспадарак, 105 жыхароў (2004 г.).

Засн. ў пач. 1920-х гг. перасяленцамі з суседніх вёсак на былых памешчыцкіх землях. У 1931 г. пасялкоўцы ўступілі ў калгас. Паводле перапісу 1959 г. 167 жыхароў. У складзе саўгаса «Велікаборскі» (цэнтр — в. Вялікі Бор). Размешчаны аддз. сувязі, б-ка, фельч.-акушэрскі пункт. Планіровачна складаецца з 3 кароткіх прамалінейных вуліц, блізкіх да мерыдыянальнай арыентацыі і забудаваных драўлянымі сял. сядзібамі.

**ХРАПКАВА** — вёска ў Дварышчанскім с/с, за 7 км на З ад раённага цэнтра і чыг. ст. Хойнікі (на ветцы Хойнікі—Васілевічы ад лініі Калінкавічы—Гомель), 110 км ад Гомеля. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, а затым аўтадарогах, якія адыходзяць ад Хойнікаў. 183 гаспадаркі, 431 жыхар (2004 г.).

Выяўлены археолагамі курганны могільнік (11 насыпаў, за 1 км на Пн ад вёскі) сведчыць аб засяленні тутэйшых мясцін з далёкай старажытнасці. Паводле пісьмовых крыніц вядома з 18 ст. Па інвентары 1721 г. 8 дымоў. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1811 г. ўладанне Прозара. У 1850 г. 46 двароў, 292 жыхары. Пад 1879 г. пазначана ў ліку сяленняў Загальскага царк. прыхода. Паводле перапісу 1897 г. 78 двароў, 541 жыхар, школа граматы, хлебазапасны магазін. У 1908 г. 95 двароў, 527 жыхароў, у Хойніцкай вол. Рэчыцкага пав. Мінскай губ. З 8.12.1926 г. да 30.12.1927 г. цэнтр Храпкаўскага с/с Хойніцкага р-на Рэчыцкай, з 9.6.1927 г. Гомельскай акруг. У 1930 г. 127 двароў, 611 жыхароў, арганізаваны калгас, працавалі вятрак і кузня. Пераважную частку жыхароў складалі польскія сем'і. 100 вяскоўцаў загінулі на франтах Вял. Айч. вайны. Паводле перапісу 1959 г. 930 жыхароў. У складзе саўгаса «Судкова» (цэнтр — в. Судкова). Размешчаны аддз. сувязі, клуб, б-ка, фельч.-акушэрскі пункт. Планіровачна складаецца з 2 амаль прамалінейных, паралельных паміж сабой вуліц шыротнай арыентацыі, да якіх на З далучаецца кароткая прамалінейная вуліца. Забудова двухбаковая, пераважна драўляная, сядзібнага тыпу.

**ЧАМКОЎ** — вёска ў Стралічаўскім с/с, за 47 км на Пд ад раённага цэнтра і чыг. ст. Хойнікі (на ветцы Хойнікі — Васілевічы ад лініі Калінкавічы—Гомель), 152 км ад Гомеля, на тэр. Палескага радыяцыйна-экалагічнага запаведніка, за 0,5 км ад дзярж. мяжы з Украінай. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Даўляды—Хойнікі. У сувязі з радыяцыйным забруджаннем пасля Чарнобыльскай катастрофы жыхары (21 сям'я) перaселены ў чыстыя месцы.

Паводле пісьмовых крыніц вядома з 19 ст. як сяленне ў Рэчыцкім пав. Мінскай губ. Гаспадар маёнтка дваранін Васілеўскі ў 1876 г. меў 100 дзес. зямлі. У 1931 г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У 1940 г. 37 двароў, 119 жыхароў. У Вял. Айч. вайну ў маі 1943 г. ням. акупанты поўнасцю спалілі вёску і загубілі 19 жыхароў. 23 вяскоўцы загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 138 жыхароў. Уваходзіла ў склад калгаса «Новае жыццё» (цэнтр — в. Радзін). Планіровачна складаецца з прамалінейнай, блізкай да мерыдыянальнай арыентацыі вуліцы. Забудова драўляная, сядзібнага тыпу.

**ЧЭХІ** — вёска ў Стралічаўскім с/с, за 15 км на ПдУ ад раённага цэнтра і чыг. ст. Хойнікі (на ветцы Хойнікі—Васілевічы ад лініі Калінкавічы—Гомель), за 118 км ад Гомеля. Побач аўтадарога Камарын—Хойнікі. У сувязі з радыяцыйным забруджаннем пасля Чарнобыльскай катастрофы жыхары (45 сямей) перaселены ў чыстыя месцы.

Паводле пісьмовых крыніц вядома з 19 ст. як сяленне ў Мікуліцкай вол. Рэчыцкага пав. Мінскай губ. У 1850 г. 12 двароў, 86 жыхароў. У 1908 г. 32 двары, 121 жыхар. У 1930 г. 53 двары. У 1931 г. арганізаваны калгас. 29 вяскоўцаў загінулі на франтах Вял. Айч. вайны. Паводле перапісу 1959 г. 217 жыхароў. Уваходзіла ў склад калгаса «Кастрычнік» (цэнтр — в. Бабчын). Планіровачна складаецца з прамалінейнай шыротнай вуліцы, забудаванай двухбакова драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**ЧЫРВОНАЕ ВОЗЕРА** (да 1930 Кліндупаўка) — вёска ў Стралічаўскім с/с, за 11 км на Пд ад раённага цэнтра і чыг. ст. Хойнікі (на ветцы Хойнікі—Васілевічы ад лініі Калінкавічы—Гомель), 119 км ад Гомеля, на паўн. ускраіне меліярацыйны канал. Побач аўтадарога Даўляды—Хойнікі. У сувязі з радыяцыйным забруджаннем пасля Чарнобыльскай катастрофы жыхары (58 сямей) перaселены ў чыстыя месцы.

Засн. ў канцы 19 ст. перасяленцамі з суседніх вёсак. Найбольш актыўная забудова прыпадае на 1920-я гг. У 1930 г. 23 двары, 128 жыхароў. У 1931 г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. 27 вяскоўцаў загінулі на франтах Вял. Айч. вайны. Паводле перапісу 1959 г. 239 жыхароў. Уваходзіла ў склад саўгаса «Стралічава» (цэнтр — в. Стралічава). Планіровачна складаецца з выгнутай шыротнай вуліцы, да якой з Пн далучаецца кароткая прамалінейная вуліца. Забудова драўляная, сядзібнага тыпу.

**ЧЫРВОНАЯ ЗАРА** — пасёлак у Паселіцкім с/с, за 13 км на ПдУ ад раённага цэнтра і чыг. ст. Хойнікі (на ветцы Хойнікі—Васілевічы ад лініі Калінкавічы—Гомель), 116 км ад Гомеля. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Хойнікі—Брагін. У сувязі з радыяцыйным забруджаннем пасля Чарнобыльскай катастрофы жыхары перaселены ў чыстыя месцы.

Засн. ў пач. 1920-х гг. перасяленцамі з суседніх вёсак на былых памешчыцкіх землях. У 1930 г. пасялкоўцы ўступілі ў калгас. Паводле перапісу 1959 г. 52 жыхары. У складзе калгаса «Бальшавік» (цэнтр — в. Веляцін). Забудова драўляная, сядзібнага тыпу.

**ЧЫРВОНЫ АРАТЫ** — пасёлак у Паселіцкім с/с. У сувязі з радыяцыйным забруджаннем пасля Чарнобыльс-

кай катастрофы жыхары пераселены ў чыстыя месцы.

Створаны ў 1920-я г. пры землеўпарадкаванні с. Губарэвічы Хойніцкай (раней Мікуліцкай) вол. Рэчыцкага пав. З 8.12.1926 г. ў Губарэвіцкім с/с Хойніцкага р-на Рэчыцкай, з 9.6.1927 г. Гомельскай акруг, з 30.12.1927 г. ў Стралічаўскім с/с таго ж раёна і акругі (да 26.7.1930), з 20.2.1938 г. ў Палескай, з 8.1.1954 г. ў Гомельскай абласцях. У 1926 г. 15 гаспадарак, 75 жыхароў. У 1959 г. пасёлак, у Забалоцкім с/с таго ж раёна, 86 жыхароў, у 1970 г. — у Паселіцкім с/с, 70 жыхароў.

**ЧЫРВОНЫ РОГ** — пасёлак у Стралічаўскім с/с. У сувязі з радыяцыйным забруджаннем пасля Чарнобыльскай катастрофы жыхары пераселены ў чыстыя месцы.

Створаны ў 1920-я гг. пры землеўпарадкаванні с. Губарэвічы Хойніцкай (раней Мікуліцкай) вол. Рэчыцкага пав. Да 1940 г. таксама меў назву Данілаў Рог. З 8.12.1926 г. ў Губарэвіцкім с/с Хойніцкага р-на Рэчыцкай, з 9.6.1927 г. Гомельскай акруг, з 30.12.1927 г. ў Стралічаўскім с/с таго ж раёна і акругі (да 26.7.1930), з 20.2.1938 г. ў Палескай, з 8.1.1954 г. ў Гомельскай абласцях. У 1926 г. 11 гаспадарак, 61 жыхар (паводле іншых крыніц — 10 двароў, 65 жыхароў). У 1932 г. ў пасёлку існаваў калгас «Чырвоны Рог», які налічваў 13 сем'яў калгаснікаў, 166 га зямлі. У 1959 г. пасёлак, 60 жыхароў, у 1970 г. — 75 жыхароў.

**КРЫНІЦЫ І ЛІТАРАТУРА**


Нацыянальны гістарычны архіў Беларусі, ф. 142, воп. 1, спр. 1414, 1465, 1475; ф. 147, воп. 3, спр. 20 559; ф. 333, воп. 9, спр. 47, 58, 60, 63, 262, 347, 377, спр. 434, 554, 699, 700, 701-а, 702, 703, 715, 717; ф. 834, воп. 1, спр. 3.

Нацыянальны архіў Рэспублікі Беларусь, ф. 6, воп. 1, спр. 1435, 2562; ф. 30, воп. 1, спр. 5084; воп. 2, спр. 1771, 6049, 6051, 6100; воп. 5, спр. 6755; воп. 9, спр. 2389; ф. 48, воп. 1, спр. 5075—5078, 5080, 5083, 5110, 5112, 5114—5118; ф. 141, воп. 1, спр. 206; ф. 338, воп. 1, спр. 322.

Расійскі дзяржаўны гістарычны архіў, ф. 1290, воп. 11, спр. 1332.

Военно-статистическое обозрение Российской империи. Т. 9, ч. 4. Минская губерния. СПб., 1848.

Без-Корнилович М.О. Исторические сведения о примечательнейших местах в Белоруссии с присовокуплением и других сведений, к ней же относящихся. СПб., 1855.

Список волостей, обществ и селений Минской губернии на 1.1.1870 г. Мн., 1870.

Труды Минского губернского статистического комитета. Вып. 1. Мн., 1877.

Список земледельцев Минской губернии за 1876 г. Мн., 1877.

Описание церквей и приходов Минской епархии. Кн. 8. Мн., 1879.

Список земледельцев Минской губернии. Мн., 1880.

Волости и важнейшие селения Европейской России. Вып. 5. СПб., 1886.

Волости и гмины. Кн. 22. СПб., 1890.

Любавский М.К. Областное деление и местное управление Литовско-Русского государства ко времени издания первого Литовского статута. М., 1892.

Памятная книжка Минской епархии на 1901 г. Мн., 1901.

Обзор Минской губернии за 1901 г. Мн., 1901.

Довнар-Запольский М. Очерки по организации Западно-русского крестьянства в XVI веке. Киев, 1905.

Россия. Полное географическое описание. Т. 9. СПб., 1905.

Ярмолович В.С. Список населенных мест Минской губернии. Мн., 1909.

Акты Виленской археографической комиссии. Т. 38. Вильна, 1914.

Список населенных мест Минской губернии в алфавитном порядке по каждой волости. Мн., 1912.
Литовская метрика. Книга публичных дел. Пг., 1915.
Очерк истории Литовско-Русского государства. М., 1915.
Список населенных мест бывшей Минской губернии. Мн., 1924.
Спіс прамысловых прадпрыемстваў БССР. Вып. 1—2. Мн., 1935.
Гісторыя Беларусі ў дакументах і матэрыялах. Т. 1. Мн., 1936.
Документы и материалы по истории Белоруссии (1900—1917 гг.). Мн., 1953.
Белоруссия в эпоху феодализма. Т. 1. Мн., 1959.
Из истории партизанского движения Белоруссии (1941—1944 гг.). Мн., 1961.
Древности Белоруссии. Мн., 1966.
Болбас М.Ф. Развитие промышленности в Белоруссии (1795—1861 гг.). Мн., 1966.
В грозные годы. Мн., 1973.
Всенародная борьба в Белоруссии против немецко-фашистских захватчиков в годы Великой Отечественной войны. Т. 2. Мн., 1984.
Нацистская политика геноцида и «выжженной земли» в Белоруссии, 1941—1944. Мн., 1984.
Збор помнікаў гісторыі і культуры Беларусі: Гомельская вобл. Мн., 1985.
Рапановіч Я.Н. Слоўнік назваў населеных пунктаў Беларусі: Гомельская вобл. Мн., 1985.
Спиридонов М.Ф. Закрепощение крестьянства Беларуси (XV—XVI вв.). Мн., 1993.
Памяць: Гіст.-дак. хроніка Хойніцкага р-на. Мн., 1993.
Литовская метрика. Кн. 8 (1499—1514); кн. 51 (1566—1574). Вильнюс, 1995—2000.
Пинчуков В.П., Старовойтов М.И. Гомельщина многонациональная (20—30-е годы XX века). Вып. 1. Гомель, 1999.





МАГІЛЁЎСКАЯ ВОБЛАСЦЬ
КРАСНАПОЛЬСКІ РАЕН
КАРМЯНСКІ РАЕН
БУДА-КАШАЛЁЎСКІ РАЕН
ВЕТКАЎСКІ РАЕН
БРАНСКАЯ ВОБЛ.
РАСІЯ
РАЕН
ЧАЧЭРСК
РЭСПУБЛІКАНСКІ БІЯЛАГІЧНЫ ЗАКАЗНІК
п. Асінаўская Гута*
п. Камунар
п. Бязбожнік
п. Калініна
Асінаўка*
п. Заручча
п. Барсукі
Палессе
п. Новая Вёска
Балсуны
Салтанаўка*
Слабодка*
п. Дзяржынскі
п. Перадавік
п. Палам*
п. Закрынічча*
Сідаравічы
Рудня Барталамееўская
Загор'е*
п. Баброўскі*
Турышчавічы
Валосавічы
Будзішча
п. Акцябр
п. Чырв. Дварэц
п. Ключавы
п. Каробка
Бяляеўка
п. Пехцерава
п. Томіна
п. Гаёк
п. Высокая Грыва
Нов. Яцкаўшчына
п. Васход
Отар
п. Яміцкі
п. Брылёва
Каменка
Нісімкавічы
п. Чырв. Бор
Іналітаўка
п. Чырв. Бераг
п. Падыгрушка*
п. Пакроўскі
Нісімкавіцкая*
п. Гацкое
Глыбочыца
п. Адзінства
п. Сычаўка-Рудніцкая
п. Усошнае
п. Гарадок
Рудня Нісімкавіцкая
п. Заложжа
Сапрыкі
п. Юны
п. Іванаўка
п. Рэпішча
п. Ржавец
Кукліцы
Матнявічы
Куракі
Залессе
Нов. Малынічы
п. Вазнясенскі
Добрынь
Покаць
п. Макаўе
Бабічы
п. Азярышча
п. Міхайлаўскі
п. Мікольск
п. Падазер'е
Сярэдн. Малынічы
п. Гольч
Караблішча
Дружбічы
Нікі
Стар. Малынічы
Гарадоўка
п. Новазалессе
п. Любімае
Роўкавічы
Бердыж
Залаўе
п. Чарняўскія Малынічы
Падасоўе*
п. Максімаўка*
Крутое
Мядзвежжа
Падлужжа
п. Іванаўка
Аляксееўка
Наўхавічы
п. Новахалочча*
п. Брацтва*
п. Зара*
Новазарэчча*
п. Болтава*
Дубраўка*
Сябравічы*
Шапатавіцкія Паплавы*
п. Канавы
Халочча
п. Паскубаўка*
Шапатавічы
п. Краснае*
Рудня Дудзіцкая
п. Ясная Паляна*
Дудзічы*
Шылавічы
Іскра
Меркулавічы
Башыца
п. Красніца
п. Алёс
Бацвінава
Вецвіца
Прычалесся
Сож
Карма
Мільчанка
Вецка-Гомель
Буда-Кашалева
53°00'
52°50'
31°00'
31°15'
30°45'
1. Стар.Яцкаўшчына
2. п.Новазахарполле
3. п.Кавалёў Рог
4. п.Сойкі
5. п.Беліца*
6. Самсонаўка*
7. п.Вольск*
8. Лукомскія Паплавы
9. Слабодка*
10. п.Новы Шлях*
Маштаб 1:340 000



# ЧАЧЭРСКІ РАЁН



Чачэрскі краявід. Рака Сож у межах раёна.

Размешчаны на ПнУ Гомельскай вобл. Утвораны 8.12.1926 г. Да 26.7.1930 г. ў Гомельскай акрузе, з 20.2.1938 г. ў Гомельскай вобл. 5.4.1936 г. да раёна далучаны Меркулавіцкі с/с Рагачоўскага р-на, 17.12.1956 г. — 3 сельсаветы скасаванага Свяцілавіцкага р-на. 25.12.1962 г. скасаваны, 6.1.1965 г. адноўлены. На Пд мяжуе з Веткаўскім, на З — з Рагачоўскім і Буда-Кашалёўскім р-намі, на У — з Бранскай вобл. Расіі, на Пн — з Кармянскім р-нам, Краснапольскім р-нам Магілёўскай вобл. Цэнтр — г. Чачэрск. Уключае 124 нас. пункты (жыхары 26 адселены ў 1990-х гг. у чыстыя месцы ў выніку катастрофы на Чарнобыльскай АЭС і радыяцыйнага забруджання), 7 сельсаветаў: Залескі, Ленінскі, Меркулавіцкі, Нісімкавіцкі, Палескі, Роўкавіцкі, Чачэрскі. Пл. 1231 км$^2$, насельніцтва 17,2 тыс. чал. (2004 г.). Раён значна пацярпеў ад катастрофы на Чарнобыльскай АЭС. Тэр. пераважна забруджана радыенуклідамі 5—15 Кu/км$^2$, невял. ўчасткі на У і Пд маюць забруджанасць больш за 40 Кu/км$^2$. У выніку міграцыі ў 1986—92 гг. насельніцтва зменшылася на 9,9 тыс. чал. (27 нас. пунктаў). Тэрыторыя раёна ў межах Чачорскай раўніны. Паверхня раўнінная, месцамі дробнаўзгорыстая. Карысныя выкапні: торф, мел і мергель, пяскі, гліны і суглінкі. Найб. р. Сож з прытокамі Покаць, Чачора, Ліпа; на ПнУ — р. Каўпіта (прыток Беседзі). Азёры: Коўпіна, Старое, Стаячае, Святое; шмат азёр-старыц, у т.л. Вілія, Вір, Асіннае, Старасожжа. Вадасховішча Меркулавічы на р. Чачора. Меліярац. каналы: Навухава-Малыніцкі, Рэзкі-Пола, Сычаўка і інш. Глебы с.-г. угоддзяў: дзярнова-падзолістыя, дзярнова-падзолістыя забалочаныя, тарфяна-балотныя, поймавыя і інш. Пад лесам 46%, пад балотамі 3% тэрыторыі раёна. У межах раёна біял. заказнік рэсп. значэння. Пад с.-г. ўгоддзямі 44,5 тыс. га. На З раёна праходзіць аўтастрада С.-Пецярбург—Адэса; з Чачэрска аўтадарогі ідуць на Магілёў, Гомель, Буда-Кашалёва, Карму, Краснаполле, Ветку і інш. Развіты харчовая, будаўнічая, лесахімічная і лесанарыхтоўчая прамысловасці. У раёне 8 сярэдніх, 6 васьмігадовых, 2 пач. школы, 89 спарт. збудаванняў, 35 клубных



Узор народнага дойлідства ў Чачэрскім раёне.



*Цэнтральная плошча ў Чачэрску.*

устаноў, 18 б-к, 2 б-цы, 20 фельч.-акушэрскіх пунктаў, 75 магазінаў. Раённы гісторыка-этнагр. музей.

**ЧАЧЭРСК** — горад раённага падпарадкавання, за 37 км ад чыг. ст. Буда-Кашалёўская (на лініі Жлобін—Гомель), 65 км на Пн ад Гомеля, 300 км ад Мінска, на р. Сож і яе прытоку р. Чачора, на Пд найб. вышыня ў раёне — г. Лысая (176,9 м над узроўнем мора), паблізу воз. Святое. Аўтадарогі злучаюць горад з Меркулавічамі, Буда-Кашалёвам, Краснаполлем і Свяцілавічамі. 7,7 тыс. жыхароў (2004 г.). У сувязі з радыяцыйным забруджаннем пасля катастрофы на Чарнобыльскай АЭС праведзена дэзактывацыя, а тыя з жыхароў, якія выказалі жаданне (1411 сямей), перасελены ў іншыя месцы.

Выяўленыя археолагамі стаянка эпохі неаліту і бронз. веку (за 0,5 км на ПнУ ад горада, ва ўрочышчы Няшын) і гарадзішча Замкавая Гара эпохі Кіеўскай Русі (на паўн.-ўсх. ускраіне горада) сведчаць пра засяленне тутэйшых мясцін з глыбокай старажытнасці. Паводле археал. раскопак тут існавала ўмацаванае паселішча мілаградскай і зарубінецкай культур, а з канца 10—11 ст. размяшчаўся невял. славянскі г. Ч и ч е р с к. Упершыню ўпамінаецца ў Іпацьеўскім летапісе пад 1159 г. як горад радзімічаў, які кіеўскі кн. Ізяслаў Давыдавіч вярнуў чарнігаўскаму кн. Святаславу Ольгавічу. У 12—13 ст. уваходзіў у Чарнігаўскае княства. З сярэдзіны 14 ст. ў ВКЛ. Пазначаны ў спісе рус. гарадоў дальніх і блізкіх за 1406 г. У ліку іншых гарадоў пазначаны ў акце ўзвядзення Свідрыгайлы на літоўскі трон у 1430 г. У кнізе запісаў Вялікіх князей Літоўскіх пазначаны пад 1447 г. Упамінаецца ў грамаце караля Польскага Казіміра IV ад 5.5. 1480 г. аб дазволе купцу Цярэшкавічу на бяспошлінны гандаль у гарадах ВКЛ. З 1500 г. ў Рэчыцкім пав. Мінскага ваяв. ВКЛ. У 1501 г. адпісаны Алене Іванаўне, жонцы вял. кн. Аляксандра. У 1503 г. пазначаны ў дакументах аб спрэчных землях паміж Літвой і Маскоўскай дзяржавай. Праз Чачэрск праходзіў тракт Рагачоў—Гомель. У 1506 г. крымскія татары трымалі ў аблозе горад. Вытрымаў Чачэрск у тым жа годзе і аблогу рус. войск. У 1508 г. ўпамінаецца ў перапісе паміж вял. кн. маскоўскім Васілём і каралём польскім і вял. кн. літоўскім Жы-



*Дзіцячы сад № 3 г. Чачэрск.*



*Майстар саломапляцення з г. Чачэрск У.Казлоў і яго вырабы.*

гімонтам І Старым. З 1509 г. мястэчка, велікакняжацкая ўласнасць, меў правы гар. самакіравання. 29.12.1518 г. Жыгімонт ІІ Стары дараваў Чачэрскую вол. на пажыццёвае валоданне кн. Чартарыйскаму, з 1529 г. ўладальнікам Чачэрска і воласці стаў Ф.Вішнявецкі. У 1523 г. і 1562 г. рус. войскі зноў трымалі Чачэрск у аблозе. Ва «Уставе на валокі» 1557 г. значыцца ў ліку валасцей Мінскага ваяв. У 1572 г. кароль польскі і вял. кн. літоўскі Жыгімонт ІІ Аўгуст даў прывілей К.Зіноўевічу на староства Чачэрскае. Пад 1600 г. Чачэрск пазначаны ў Баркулабаўскім летапісе. У 1609 г. Жыгімонт ІІ Аўгуст накіраваў Чачэрскаму і Прапойскаму старостам грамату аб неабходнасці прыняцця мер супраць нападаў і разбурэнняў маёнткаў мясц. жыхарамі і салдатамі, якія збеглі з войска. У 1621 г. кароль польскі і вял. кн. літоўскі Жыгімонт ІІІ Ваза дараваў Чачэрскае староства А.Сапегу. З 1629 г. мястэчка атрымала ад Жыгімонта ІІІ Вазы прывілей на штотыднёвы гандаль і двухтыднёвыя кірмашы штогод. У 1649 г. казацкае войска на чале з Гаркушам і Падабайлам пацярпела пад Чачэрскам паражэнне. 150 жыхарам былі адсечаны рукі да запясця, 50 чал. пасадзілі на калы, казакаў, іх жонак і дзяцей пасеклі. У 1654 г. мястэчка занялі казацкія атрады І.Залатарэнкі, і да 1659 г. яно было ў складзе гетманскіх казацкіх уладанняў на Беларусі. Упамінаецца ў дакументах аб вызначэнні складу і межаў новых паветаў ВКЛ, створаных згодна рэформ 1565—68 гг. У 14—18 ст. на дзядзінцы летапіснага Чачэрска існаваў замак, пабудаваны ў гатычным стылі, абкружаны ровам з навяснымі мастамі. У 17 ст. мелася 8 замкавых вежаў. У 1704 г. ў мястэчку 7 вуліц, карчма, 3 крамы, млын, 4 правасл. храмы і касцёл, 542 дамы, мытня. У 1754 г. ў Чачэрску пачала дзейнічаць езуіцкая місія. У 1765 г. Чачэрскае староства аб'ядноўвала 41 вёску з 1028 дварамі. Чачэрск у гэты час належаў памешчыку Шалюту.



У час рэспубліканскага фестывалю «Беларуская полька» ў Чачэрску.

Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) у складзе Рас. імперыі. У 1773 г. ў староства ўваходзіла 4212 гаспадарак, уладанне Агінскіх. З 22.7.1773 г. да 22.3.1777 г. павятовы горад Рагачоўскай правінцыі, затым мястэчка, цэнтр воласці Рагачоўскага пав. Магілёўскай губ. Па ўказу ад 22.9.1773 г. Кацярына ІІ дара-



Спаса-Праабражэнская царква ў Чачэрску.



Сядзібны дом у Чачэрску.

вала Чачэрск і староства (650 двароў, 5070 жыхароў) ген.-губернатару графу З.Р.Чарнышову, які шмат зрабіў для развіцця Чачэрска і воласці. Праз Чачэрск праходзілі дарогі Рагачоў—Чарнігаў і Вялікія Лукі—Кіеў. Мелася паштовая кантора. У 1780 г. пачала працаваць шкляная мануфактура, у пач. 1788 г. — паштовая кантора, з 1796 г. — цагельня. У студз. 1787 г. асвячона новая Раства-Багародзіцкая царква, дзе захаваўся зроблены пазней запіс імператара Аляксандра I з падзякай графіні Чарнышовай за зробленае ёй дараванне хлеба рус. арміі ў Айч. вайну 1812 г. У 2-й пал. 18 ст. ўзведзена ратуша — строга сіметрычны па кампазіцыі, квадратны ў плане 4-павярховы (два мураваныя і два драўляныя паверхі) будынак у стылі класіцызму з элементамі псеўдаготыкі з 5 драўлянымі вежамі (4 па вуглах і 5-я пасярэдзіне). Аднначасова быў пасаджаны парк. Дзейнічалі прыгонны тэатр, прыстань на р. Сож. На паўн.-зах. ускраіне Чачэрска, каля Захарпольскай Слабады (зараз у межах Чачэрска), на месцы земляных умацаванняў старога замка, у 1802 г. ўзведзены палац. Ён быў вытрыманы ў гатычным стылі, меў форму паўкруга, у межах пейзажнага парку. Да пач. 20 ст. палац прыйшоў у запусценне, а парк знішчаны ў Айч. вайну 1812 г. За 300 м ад палаца на месцы езуіцкага касцёла па праекту арх. Растрэлі быў пабудаваны



*Чачэрская ратуша. Помнік архітэктуры 18 ст.*

мураваны ў імя Святой Тройцы касцёл. У 1783 г. ў цэнтр. частцы мястэчка ўзведзена мураваная Праабражэнская царква, у стылі класіцызму, круглая ў плане, двух'ярусная, з сіметрычна пастаўленай па восі алтарнай часткай. На сродкі графа З.Р.Чарнышова езуіты мелі ў Чачэрску сваю рэзідэнцыю і з 1788 г. вучылішча. У 1826 г. 888 жыхароў, у 1838 г. 273 двары, у Рагачоўскім пав. Магілёўскай губ. З 1848 г. працаваў дзягцярны з-д. У 1849 г. пабудаваны шклозавод.

Праз Чачэрск праходзіў паштовы тракт, які звязваў Пецярбург з Пд Расіі. Летам 1850 г. Чачэрск наведаў імператар Мікалай I, 10.10.1857 г. — імператар Аляксандр II. Граф І.І.Чарнышоў-Круглікаў меў тут 73 359 дзес. зямлі, 17 вадзяных млыноў, 2 ветракі, 9 корчмаў, вапнавы і дзягцярны з-ды. У 1885 г. засн. метэаралагічная станцыя, дзейнічалі прыстань, 4 царквы, касцёл, 3 яўр. малітоўныя дамы, 2 вадзяныя млыны, нар. вучылішчы для хлопчыкаў (з 1842) і дзяўчынак (з 1865). Працавалі 2 вінакурныя з-ды, пабудаваныя ў 1877 і 1892 гг. Цэнтр Чачэрскай вол., у склад якой уваходзілі 25 сяленняў з агульнай колькасцю 990 двароў. Паводле перапісу 1897 г. ў Чачэрску 328 двароў, 2325 жыхароў, 4 царквы (3 з іх мураваныя), 6 малітоўных школ, лячэбніца, аптэка, паштова-тэлегр. аддзел, паштовая станцыя, скураапрацоўчы з-д, 5 крупарушак, 80 крам, карчма (з 1832). У 1908 г. 369 двароў, 3190 жыхароў. Дзейнічала пазыка-ашчадная каса. Паблізу Чачэрска вялася распрацоўка вапнякоў. У 1911 г. пры мужчынскім і жаночым вучылішчах працавалі бібліятэкі, адкрыта крэдытнае, у 1913 г. спажывецкае т-вы. З 1.3.1918 г. да 14.1.1919 г. акупіравана герм. войскамі. У пач. 1918 г. герм. камандаванне перадала Чачэрск, як і ўвесь Гомельскі пав., Украіне. У гэтыя мясціны ўступілі гайдамакі гетмана Скарапацкага. З выгнаннем немцаў 19.11.1918 г. былі выгнаны і гайдамакі. З 26.4.1919 г. ў Гомельскай губ. РСФСР, са снеж. 1926 г. ў складзе

БССР. У 1929 г. арганізаваны калгас «Адзінства», дзейнічалі прыстань, 9-гадовая і пач. школы, заатэхнікум (з 1931), раённая б-ка, урачэбны і вет. ўчасткі, паштова-тэлеграфна-тэлеф. кантора, аддз. спажывецкай кааперацыі, лесапільня (з 1900), калёсна-слясарная майстэрня (з 1933), плодавінаробчы з-д (з 1930), маслазавод (з 1931), майстэрня па вырабе буд. дэталей (з 1932), друкарня (з 1932), кравецкая і шавецкая майстэрні (з 1928), лесапільня, цагельня, маслабойня, 2 ветракі, 2 крупарушкі, кузня. 2.7.1936 г. створаны Чачэрскі лясгас (8 лясніцтваў), гал. мэтай якога з'яўлялася ахова лесу. З 27.9.1938 г. гар. пасёлак. З 8.12.1926 г. да 25.12.1962 г. і з 6.1.1965 г. цэнтр Чачэрскага р-на. У Вял. Айч. вайну 1.8.1941 г. створаны знішчальны батальён (298 чалавек, кіраўнік Ляўковіч), асн. прызначэннем якога былі барацьба з варожымі дэсантамі, ахова важных аб'ектаў і барацьба са злачыннасцю. 14.8.1941 г. ням. акупанты занялі Чачэрск, у снеж. 1941 г. і ў крас. 1942 г. загубілі больш за 1400 жыхароў (пахаваны ў 2 магілах ахвяр фашызму, за 3 км і 2 км на З ад горада). 27.11.1943 г. ў баях за вызваленне горада загінулі 306 воінаў і 7 партызан (пахаваны ў брацкай магіле на Замкавай Гары). Акупанты разбурылі ўсю прамысловасць, спалілі 323 дамы. У Спаса-Праабражэнскай і Георгіеўскай цэрквах яны стварылі лагер ваеннапалонных. 835 жыхароў Чачэрска загінулі на фронце. З 3.11.1971 г. горад раённага падпарадкавання. У 1968 г. да горада далучана в. Захарполле і пас. Ганнаполле, у 1971 г. ў Чачэрск пераселена частка жыхароў пас. Пціч (не існуе). Планіровачна складаецца з прамавугольнай сеткі вуліц, забудова пераважна драўляная, 1-павярховая. У новых кварталах, што ў цэнтры горада, узведзены шматпавярховыя мураваныя дамы. Адм. грамадскі і гандл. цэнтр у паўн. частцы горада. Цэнтр калгаса «Сцяг камунізму». Размешчаны вытв. аб'яднанні «Райаграпрамтэхніка», «Сельгасхімія», «Райаграпрамэнерга», вінзавод, хлебакамбінат, камбінат быт. абслугоўвання, лясгас, ПМК-118, ДЭУ-115, раённыя вузлы паштовай і электрасувязі, аптэка, санэпідэмстанцыя, гідраметэастанцыя, 3 б-кі, раённая б-ца, гіст.-этнагр. музей, школа мастацтваў, 2 сярэднія, муз. і спарт. школы, 4 яслі-сады, прафес.-тэхн. вучылішча № 186 (з 1976), падсобная гаспадарка «Райаграпрамтэхніка», аддз. сувязі, 15 дашкольных устаноў. Горад і наваколле здаўна славіліся рознымі маст. рамёствамі, на базе якіх у 1937 г. створана вышывальная арцель, у 1950-я гг. — арцелі іншых рамёстваў, а затым — ф-ка мастацкіх вырабаў. Выходзіць раённая газ. «Чачэрскі веснік» (з 7.11. 1930). Радзіма дзярж. дзеяча Я.Н. Кагана, засл. дзеяча мастацтваў Беларусі У.А.Караткевіча, майстра спорту па грэка-рымскай і вольнай барацьбе В.С.Секунова, майстра спорту па вольнай барацьбе І.В.Сотнікава і майстра спорту па шашэйных трэкавых велагонках У.Я.Сярогава, майстра спорту па барацьбе самба А.М.Індзюкова, бел. мастачкі Н.Я. Паплаўскай, нар. артысткі БССР Л.К. Корхавай, засл. настаўнікаў Беларусі Л.М.Вінцэўскай і Г.І.Мусакова.



*Л.К.Корхава.*

У склад Чачэрскага с/с уваходзілі да 1962 г. пасёлкі Мяжэлішча, Першамайск, да 1968 г. — пасёлкі Ганнаполле, Захарполле, да 1971 г. — г.п. Пціч, да 1992 г. — г.п. Дварэц (не існуюць).

**АДЗІНСТВА** — пасёлак у Чачэрскім с/с, за 2 км на ПнЗ ад Чачэрска, 39 км ад чыг. ст. Буда-Кашалёўская (на лініі Гомель—Жлобін), 67 км ад Гомеля, побач аўтадарога Меркулавічы—Чачэрск. 26 гаспадарак, 58 жыхароў (2004 г.).

Засн. ў пач. 1920-х гг. на былых памешчыцкіх землях перасяленцамі з суседніх вёсак. У 1926 г. с.-г. арцель, 6 гаспадарак, 41 жыхар, паштовы пункт, у Чачэрскім с/с Чачэрскага р-на Гомельскай аркугі. 25 пасялкоўцаў загінулі на франтах Вял. Айч. вайны. Паводле перапісу 1959 г. 148 жыхароў. У складзе калгаса «Сцяг камунізму» (цэнтр — г. Чачэрск).

Размешчаны клуб. Планіровачна складаецца з кароткай вуліцы, забудаванай двухбакова драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**АЗЯРЫШЧА** — пасёлак у Ленінскім с/с, за 4 км на Пд ад Чачэрска, 41 км ад чыг. ст. Буда-Кашалёўская (на лініі Гомель—Жлобін), 69 км ад Гомеля, на паўд. ускраіне — воз. Стаячае. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарогах, якія ідуць ад Чачэрска. Ніхто не жыве.

Засн. ў пач. 20 ст. перасяленцамі з суседніх вёсак. У 1926 г. 11 двароў, 59 жыхароў. У 1930 г. арганізаваны калгас. 9 пасялкоўцаў загінулі на франтах Вял. Айч. вайны. Паводле перапісу 1959 г. 57 жыхароў. У складзе калгаса імя У.І.Леніна (цэнтр — пас. Вазнясенскі). Забудова драўляная, сядзібнага тыпу.

**АКЦЯБР** — пасёлак у Чачэрскім с/с, за 8 км на Пн ад Чачэрска, 45 км ад чыг. ст. Буда-Кашалёўская (на лініі Гомель—Жлобін), 73 км ад Гомеля, на аўтадарозе Карма—Чачэрск, на У мяжуе з лесам, на З меліярацыйны канал, злучаны з р. Чачора (прыток р. Сож). 24 гаспадаркі, 43 жыхары (2004 г.).

Засн. ў пач. 20 ст. як хутар. У 1926 г. 18 двароў, 94 жыхары, паштовы пункт, у Отарскім с/с Чачэрскага р-на Гомельскай акругі. У 1929 г. арганізаваны калгас. 13 пасялкоўцаў загінулі на франтах Вял. Айч. вайны. Паводле перапісу 1959 г. 168 жыхароў. У складзе калгаса «50 гадоў БССР» (цэнтр — в. Отар). Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ і забудаванай двухбакова драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**АЛЁС** — пасёлак у Меркулавіцкім с/с, за 16 км на ПнЗ ад Чачэрска, 70 км ад Гомеля, 42 км ад чыг. ст. Буда-Кашалёўская (на лініі Гомель—Жлобін). Побач аўтадарога Меркулавічы—Чачэрск, на У і Пд — меліярацыйныя каналы, злучаныя з р. Чачора (прыток р. Сож). 1 гаспадарка, 1 жыхар (2004 г.).

Засн. ў пач. 1920-х гг. перасяленцамі з суседніх вёсак на былых памешчыцкіх землях. У 1931 г. арганізаваны калгас. 11 пасялкоўцаў загінулі на франтах Вял. Айч. вайны. Паводле перапісу 1959 г. 71 жыхар. У складзе саўгаса «Бацвінава» (цэнтр — в. Бацвінава). Забудова драўляная, сядзібнага тыпу.

**АЛЯКСЕЕЎКА** — вёска ў Роўкавіцкім с/с, за 12 км на ПдЗ ад Чачэрска, 30 км ад чыг. ст. Буда-Кашалёўская (на лініі Гомель—Жлобін), 58 км ад Гомеля, на ПдЗ — невял. вадаём. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Чачэрск—Забалоцце. 1 гаспадарка, 2 жыхары (2004 г.).

Засн. ў пач. 20 ст. перасяленцамі з суседніх вёсак. Найбольш актыўная забудова прыпадае на 1920-я гг. У 1926 г. 14 двароў, 77 жыхароў, паштовы пункт, школа, у Наўхавіцкім с/с Чачэрскага р-на Гомельскай акругі. У 1931 г. арганізаваны калгас. 9 вяскоўцаў загінулі на франтах Вял. Айч. вайны. Паводле перапісу 1959 г. 40 жыхароў. У складзе калгаса імя С.М.Кірава (цэнтр — в. Крутое). Жылыя дамы драўляныя, сядзібнага тыпу.

**АСІНАЎКА** — вёска ў Палескім с/с, за 30 км на ПнУ ад Чачэрска, 67 км ад чыг. ст. Буда-Кашалёўская (на лініі Гомель—Жлобін), 95 км ад Гомеля, на р. Проня, на Пд — Чачэрскі біял. заказнік. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Рудня-Барталамееўская—Чачэрск. У выніку катастрофы на Чарнобыльскай АЭС і радыяцыйнага забруджання жыхары (97 сямей) перасялены ў 1992 г. ў чыстыя месцы.

Выяўленыя археолагамі гарадзішча ранняга жал. веку (за 1,5 км на У ад вёскі) і могільнікі (13 і 5 насыпаў, за 1,4 км на У, ва ўрочышчы Сутокі) сведчаць пра засяленне тутэйшых мясцін з далёкай старажытнасці. Паводле пісьмовых крыніц вядома з 18 ст. як сяленне ў Рэчыцкім пав. Мінскага ваяв. Паводле інвентару Меркулавіцкага староства 1820 г. сяло. У 1863 г. памешчык Сенажэцкі меў у вёсках Асінаўка, Шэрахаў і Салтанаўка 616 дзес. зямлі, а таксама карчму, крупарушку і вятрак. У 1881 г. 52 двары, 317

жыхароў, хлебазапасны магазін. Паводле перапісу 1897 г. вёска (65 двароў, 478 жыхароў, школа граматы, хлебазапасны магазін, 2 ветракі) і фальварак (2 двары, 6 жыхароў). У 1909 г. 77 двароў, 524 жыхары, 800 дзес. зямлі. У 1926 г. 89 двароў, паштовы пункт, школа. З 8.12.1926 г. да 30.12.1927 г. цэнтр Асінаўскага с/с Чачэрскага р-на Гомельскай акругі. У 1930 г. арганізаваны калгас «Пераможца», працавалі кузня і смалакурня. У 1940 г. 118 двароў, 617 жыхароў. У Вял. Айч. вайну ням. акупанты стварылі ў вёсцы свой апорны пункт, які партызаны разграмілі. У ліст. 1942 г. карнікі спалілі вёску і загубілі 36 жыхароў. 64 вяскоўцы загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 468 жыхароў. Уваходзіла ў склад саўгаса «Сож» (цэнтр — в. Сідаравічы). Планіровачна складаецца з выгнутай, амаль мерыдыянальнай вуліцы, якая перакрыжоўваецца невял. прамалінейнай вуліцай. Забудова рэдкая, драўляная, сядзібнага тыпу.

**АСІНАЎКА** — вёска ў Меркулавіцкім с/с, за 26 км на ПнЗ ад Чачэрска, 53 км ад чыг. ст. Буда-Кашалёўская (на лініі Гомель—Жлобін), 77 км ад Гомеля, на р. Глінка (прыток р. Дулепа), побач аўтадарога Рыскова—Чачэрск. 57 гаспадарак, 89 жыхароў (2004 г.).

Паводле пісьмовых крыніц вядома з 19 ст. як сяленне ў Меркулавіцкай вол. Рагачоўскага пав. Магілёўскай губ. Паводле рэвізскіх матэрыялаў 1858 г. ў складзе Чачэрскага маёнтка графа І.І. Чарнышова-Круглікава. У 1857 г. паблізу пачаў працаваць бяростава-дзягцярны з-д, у 1874 г. — яшчэ адзін. Паводле перапісу 1897 г. 40 двароў, 323 жыхары, царк.-прыходская школа, хлебазапасны магазін. Побач быў аднайменны фальварак (4 двары, 25 жыхароў). У 1909 г. 46 двароў, 392 жыхары. У 1925 г. ў вёсцы 86, на хутары 15 двароў. У 1929 г. арганізаваны калгас. 111 вяскоўцаў загінулі на франтах Вял. Айч. вайны. Паводле перапісу 1959 г. 507 жыхароў. У складзе эксперыментальнай базы «Меркулавічы» (цэнтр — в. Меркулавічы). Размешчаны клуб. Планіровачна складаецца з працяглай, крыху выгнутай вуліцы, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ і перакрыжаванай у цэнтры кароткай прамалінейнай вуліцай. Жылыя дамы драўляныя, сядзібнага тыпу.

**АСІНАЎСКАЯ ГУТА** — пасёлак у Палескім с/с (да 1991 у Сідаравіцкім с/с), за 33 км на ПнУ ад Чачэрска, 70 км ад чыг. ст. Буда-Кашалёўская (на лініі Гомель—Жлобін), 98 км ад Гомеля, на тэр. Чачэрскага біял. заказніка, на ПнУ пачынаецца ручай Сенажэцкі (прыток р. Пакотка). Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Рудня-Барталамееўская—Чачэрск. У выніку катастрофы на Чарнобыльскай АЭС і радыяцыйнага забруджання жыхары (17 сямей) пераселены ў 1992 г. ў чыстыя месцы.

Засн. ў пач. 20 ст. Найбольш актыўная забудова прыпадае на 1920-я гг. У 1926 г. 22 двары, 125 жыхароў, у Асінаўскім с/с Чачэрскага р-на Гомельскай акругі. У 1929 г. арганізаваны калгас. У 1940 г. 30 двароў, 143 жыхары. У Вял. Айч. вайну ням. карнікі ў ліст. 1942 г. спалілі пасёлак і загубілі 20 жыхароў. Уваходзіў у склад саўгаса «Сож» (цэнтр — в. Сідаравічы). Планіровачна складаецца з кароткай прамалінейнай мерыдыянальнай вуліцы, да якой на Пн далучаецца невялікая, выгнутая вуліца, утвараючы Т-падобную канфігурацыю. Жылыя дамы драўляныя, сядзібнага тыпу.

**БАБІЧЫ** — вёска ў Нісімкавіцкім с/с, за 20 км на У ад Чачэрска, 57 км ад чыг. ст. Буда-Кашалёўская (на лініі Гомель—Жлобін), 85 км ад Гомеля. На ПнУ і ПдЗ мяжуе з лесам, на З (1 км) р. Покаць (прыток р. Сож), на У меліярацыйныя каналы, злучаныя з р. Беседзь. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Свяцілавічы—Залессе. 201 гаспадарка, 499 жыхароў (2004 г.).

Выяўлены археолагамі курганны могільнік (8 насыпаў, за 0,9 км на ПдЗ ад вёскі) сведчыць пра засяленне тутэйшых



Этнаграфічны ансамбль народнага танца, музыкі і песні «Лёс» з в. Бабічы.

мясцін з далёкай старажытнасці. Паводле пісьмовых крыніц вядома з пач. 16 ст. як сяленне на памежжы ВКЛ і Маскоўскай дзяржавы. Упамінаецца ў 1503, 1525, 1526, 1527 гг. у матэрыялах аб канфліктах паміж Літвой і Маскоўскай дзяржавай. Пазначана ў інвентары Чачэрскага староства 1704 г. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) у складзе Рас. імперыі. У 1848 г. 112 двароў, паводле рэвізіі 1858 г. 121 двор, 796 жыхароў, у валоданні І.Ф.Шарай, у 1886 г. 164 двары, 898 жыхароў, 2 ветракі. Дзейнічаў хлебазапасны магазін. Вяскоўцы апрача земляробства займаліся рыбалоўствам, рознымі промысламі. У вёсцы жыў майстар жывапісу, які пісаў абразы. Паводле перапісу 1897 г. 232 двары, 1528 жыхароў, царк.-прыходская школа, хлебазапасны магазін, 5 ветракоў, 2 кузні, крупарушка, 2 маслабойні, крама, карчма. У 1909 г. 281 двор, 1965 жыхароў, 3424 дзес. зямлі, школа (у 1907 — 121 вучань), млын, у Пакоцкай вол. Гомельскага пав. Магілёўскай губ. З 8.12.1926 г. да 16.7. 1954 г. цэнтр Бабіцкага с/с Свяцілавіцкага, з 4.8.1927 г. Чачэрскага, з 12.2.1935 г. Свяцілавіцкага р-наў Гомельскай (да 26.7.1930) акругі, з 20.2.1938 г. Гомельскай вобл. У 1929 г. дзейнічалі пач. школа, аддз. спажывецкай кааперацыі. У 1930 г. арганізаваны калгас «Ленінскі шлях», працавалі вадзяны млын, вятрак, крупарушка, кузня і ваўначоска. У 1940 г. 257 двароў, 917 жыхароў. У Вял. Айч. вайну ў лют. 1943 г. ням. карнікі спалілі 216 двароў і загубілі 15 жыхароў (пахаваны ў магіле ахвяр фашызму, за 1 км на ПдУ ад вёскі на могілках). У баях каля вёскі загінулі 7 воінаў і 5 партызан (пахаваны ў брацкай магіле ў цэнтры вёскі). 121 вясковец загінуў на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 892 жыхары. У складзе саўгаса «Нісімкавічы» (цэнтр — в. Нісімкавічы). Размешчаны аддз. сувязі, сярэдняя школа, б-ка, фельч.-акушэрскі пункт, клуб. Вялікай папулярнасцю карыстаецца мясц. этнаграфічны ансамбль «Лёс». Планіровачна складаецца з 3 амаль паралельных вуліц, блізкіх да шыротнай арыентацыі і па цэнтры перакрыжаваных прамалінейнай вуліцай. Да іх з У далучаецца крыху выгнутая вуліца. Забудова двухбаковая, пераважна драўляная, сядзібнага тыпу. Радзіма аднаго з арганізатараў і кіраўнікоў Мінскага патрыят. падполля ў Вял. Айч. вайну І.К.Кавалёва, Героя Сац. Працы С.Дз.Фешчанкі, засл. настаўніцы Беларусі Н.М.Жаранавай. На Пн ад вёскі размешчана Каладнянскае радовішча мелу (1,56 млн. т).



Чачэрскі ручнік (1920-я гг.) з в. Бабічы.

**БАБРОЎСКІ** — пасёлак у Залескім с/с, за 15 км на ПнУ ад Чачэрска, 52 км ад чыг. ст. Буда-Кашалёўская (на лініі Гомель—Жлобін), 80 км ад Гомеля, на р.

Бабёр (прыток р. Вець), на тэр. Чачэрскага біял. заказніка. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Сідаравічы—Чачэрск. У выніку катастрофы на Чарнобыльскай АЭС і радыяцыйнага забруджання жыхары (31 сям'я) пераселены ў 1992 г. ў чыстыя месцы.

Засн. ў пач. 20 ст. перасяленцамі з суседніх вёсак. У 1926 г. 18 двароў, 102 жыхары, у Загор'еўскім с/с Чачэрскага р-на Гомельскай акругі. У 1930 г. арганізаваны калгас. Уваходзіў у склад саўгаса «Бяляеўскі» (цэнтр — в. Бяляеўка). 5 пасялкоўцаў загінулі на франтах Вял. Айч. вайны. Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ, да якой з Пн далучаецца кароткая выгнутая вуліца. Забудова двухбаковая, драўляная, сядзібнага тыпу.

**БАЛСУНЫ** — вёска ў Палескім с/с, за 32 км на ПнУ ад Чачэрска, 69 км ад чыг. ст. Буда-Кашалёўская (на лініі Гомель—Жлобін), 97 км ад Гомеля, на р. Каўпіта (прыток р. Беседзь), мяжуе з Чачэрскім біял. заказнікам, на У — меліярацыйныя каналы. Побач аўтадарога Палессе—Чачэрск. 121 гаспадарка, 264 жыхары (2004 г.).

Паводле пісьмовых крыніц вядома з 19 ст. як сяленне ў Палескай вол. Гомельскага пав. Магілёўскай губ. З 1840 г. дзейнічалі сукнавальня, млын, хлебазапасны магазін. У 1881 г. 84 двары, 422 жыхары. Паводле перапісу 1897 г. 104 двары, 877 жыхароў, школа граматы, хлебазапасны магазін, 4 ветракі. У вясковай школе ў 1907 г. было 50 вучняў. У 1909 г. 133 двары, 1079 жыхароў, 957 дзес. зямлі. У 1926 г. дзейнічалі хата-чытальня, аддз. спажывецкай кааперацыі, паштовы пункт, пач. школа, у Палескім с/с Чачэрскага р-на Гомельскай акругі. У 1929 г. арганізаваны калгас «Камунар», працаваў вятрак. 167 вяскоўцаў загінулі на франтах Вял. Айч. вайны. Паводле перапісу 1959 г. 537 жыхароў. У складзе калгаса «Камунар» (цэнтр — в. Палессе). Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, арыентаванай амаль мерыдыянальна, да якой у цэнтры далучаюцца 2 завулкі. На Пд адасоблены ўчастак забудовы. Жылыя дамы драўляныя, сядзібнага тыпу, па абодва бакі вуліцы.

**БАРСУКІ** — пасёлак у Палескім с/с, за 35 км на ПнУ ад Чачэрска, 70 км ад чыг. ст. Буда-Кашалёўская (на лініі Гомель—Жлобін), 99 км ад Гомеля, на р. Каўпіта (прыток р. Беседзь), каля ўсх. ускраіны дзярж. мяжа з Рас. Федэрацыяй. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Палессе—Чачэрск. 26 гаспадарак, 50 жыхароў (2004 г.).

Засн. ў пач. 20 ст. перасяленцамі з суседніх вёсак. Найбольш актыўная забудова прыпадае на 1920-я гг. У 1926 г. 32 двары, 165 жыхароў, паштовы пункт, у Палескім с/с Чачэрскага р-на Гомельскай акругі. У 1930 г. арганізаваны калгас. 13 пасялкоўцаў загінулі на франтах Вял. Айч. вайны. Паводле перапісу 1959 г. 242 жыхары. У складзе калгаса «Камунар» (цэнтр — в. Палессе). Планіровачна складаецца з кароткай прамалінейнай, шыротнай вуліцы, да якой з паўд.-зах. боку далучаецца невял. вуліца. Забудова двухбаковая, шчыльная, драўляная, сядзібнага тыпу.

**БАЦВІНАВА** — вёска ў Меркулавіцкім с/с, за 18 км на ПнЗ ад Чачэрска, 31 км ад чыг. ст. Буда-Кашалёўская (на лініі Гомель—Жлобін), за 63 км ад Гомеля, на аўтадарозе Чачэрск—Меркулавічы, на паўн., зах. і паўд. ускраінах — меліярацыйны канал, злучаны з р. Чачора (прыток р. Сож). 211 гаспадарак, 580 жыхароў (2004 г.).

Каля вёскі выяўлены курганны могільнік 11—12 ст., які сведчыць пра засяленне тутэйшых мясцін з далёкай старажытнасці. Паводле пісьмовых крыніц вядома з 19 ст. як сяленне ў Меркулавіцкай вол. Рагачоўскага пав. Магілёўскай губ. Паводле рэвізскіх матэрыялаў 1859 г. вёска ва ўладанні памешчыка А.І.Жукоўскага. У 1880 г. 56 двароў, 368 жыхароў. Апрача земляробства ў 2 гаспадарках займаліся кушнерскім про-

мыслам. Дзейнічаў хлебазапасны магазін. У 1896 г. 74 гаспадаркі, школа, млын. У 1909 г. 93 двары, 544 жыхары, 936 дзес. зямлі. У 1925 г. 123 двары. У 1930 г. арганізаваны калгас «Зара камуны», працавалі конная крупарушка, 2 ветракі. 89 вяскоўцаў загінулі на франтах Вял. Айч. вайны. Паводле перапісу 1959 г. 685 жыхароў. Цэнтр саўгаса «Бацвінава». Размешчаны 9-гадовая школа, б-ка, фельч.-акушэрскі пункт, дзіцячы сад, аддз. сувязі, магазін, клуб. Планіровачна складаецца з 2 вуліц, арыентаваных з ПдУ на ПнЗ і злучаных 2 завулкамі. Забудова двухбаковая, шчыльная, пераважна драўляная, сядзібнага тыпу. У 1989 г. збудавана 100 мураваных, катэджнага тыпу дамоў, у якіх размясціліся перасяленцы з забруджаных радыяцыяй месц пасля Чарнобыльскай катастрофы (пераважна з в. Карпавічы Нараўлянскага р-на). Радзіма акадэміка НАН Беларусі і акадэміка Рас. акадэміі с.-г. навук, доктара с.-г. навук, праф., засл. дзеяча навукі БССР С.Г.Скарапанава.



*С.Г.Скарапанаў.*

**БАШЫЦА** — вёска ў Меркулавіцкім с/с, за 23 км на ПнЗ ад Чачэрска, 41 км ад чыг. ст. Буда-Кашалёўская (на лініі Гомель—Жлобін), 69 км ад Гомеля. Побач аўтадарога Рыскова—Чачэрск, каля ўсх. ускраіны — меліярацыйны канал, злучаны з р. Чачора (прыток р. Сож). 40 гаспадарак, 60 жыхароў (2004 г.).

Паводле пісьмовых крыніц вядома з 19 ст. як сяленне ў Меркулавіцкай вол. Рагачоўскага пав. Магілёўскай губ. З 1880 г. дзейнічаў хлебазапасны магазін. Паводле перапісу 1897 г. 58 двароў, 404 жыхары, млын, хлебазапасны магазін. У 1909 г. 61 двор, 437 жыхароў, 512 дзес. зямлі. У 1930 г. арганізаваны калгас імя У.І.Леніна, працавала кузня. 61 вясковец загінуў на франтах Вял. Айч. вайны. Паводле перапісу 1959 г. 371 жыхар. У складзе эксперыментальнай базы «Меркулавічы» (цэнтр — в. Меркулавічы). Планіровачна складаецца з працяглай прамалінейнай і паралельнай да яе кароткай вуліц, арыентаваных з ПдУ на ПнЗ. Забудова двухбаковая, драўляная, сядзібнага тыпу.

**БЕЛІЦА** — пасёлак у Роўкавіцкім с/с, за 11 км на Пд ад Чачэрска, 31 км ад чыг. ст. Буда-Кашалёўская (на лініі Гомель—Жлобін), 59 км ад Гомеля. Побач аўтадарога Наўхавічы—Роўкавічы. У выніку катастрофы на Чарнобыльскай АЭС і радыяцыйнага забруджання жыхары адселены.

Засн. ў 1920-я гг. пад назвай Новая Беліца. У 1926 г. 13 двароў, 87 жыхароў, у Наўхавіцкім с/с Чачэрскага р-на Гомельскай акругі (з 20.2.1938 Гомельскай вобл.). У 1959 г. 69 жыхароў. З 1962 г. ў Буда-Кашалёўскім, з 1965 г. ў Крутоўскім, з 1966 г. ў Роўкавіцкім сельсаветах. Паводле перапісу 1970 г. 49 жыхароў.

**БЕРДЫЖ** — вёска ў Ленінскім с/с, за 7 км на Пд ад Чачэрска, 47 км ад чыг. ст. Буда-Кашалёўская (на лініі Гомель—Жлобін), 60 км ад Гомеля, на р. Бердыжка (прыток р. Сож). Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарогах, якія адыходзяць ад Чачэрска. 18 гаспадарак, 39 жыхароў (2004 г.).

Выяўленыя археолагамі курганны могільнік (50 насыпаў, за 0,1 км на З ад вёскі) і паселішча эпохі неаліту і бронз. веку (за 0,5 км на Пн ад вёскі, ва ўрочышчы Кокаўня) сведчаць пра засяленне тутэйшых мясцін з глыбокай старажытнасці. Паводле пісьмовых крыніц вядома з 16 ст. У 1510 г. ўпамінаецца як востраў Бердыж, у валоданні двараніна Пішчыкава. У 1765 г. ўладанне Шалюты. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) у складзе Рас. імперыі. У 1816 г. сяльцо, ва ўладанні памешчыка Хацкевіча. У 1847 г. вёска (64 жыхары) і фальварак, які з 1837 г. быў у валоданні двараніна В.М.Міцкевіча. Гаспадар другога фальварка валодаў тут у 1871 г. 187 дзес. зямлі. Дзейнічаў хлебазапасны магазін. У 1884 г. 28 двароў, 131 жыхар. Паводле перапісу 1897 г. 44 двары, 274 жыхары, 2 ветракі. Побач былі 3 аднайменныя фальваркі, у Чачэрскай вол. Гомельскага пав. Магілёўскай губ. У 1921 г. адкры-

та хата-чытальня. У 1926 г. 82 двары, 371 жыхар, паштовае аддз., школа. З 8.12. 1926 г. да 9.6.1927 г. цэнтр Бердыжскага с/с Гомельскай акругі. У 1930 г. арганізаваны калгас У.І.Леніна, працавалі кузня і ваўначоска. У 1940 г. 86 двароў, 426 жыхароў. У Вял. Айч. вайну ў жн.—вер. 1943 г. ням. карнікі спалілі 80 двароў і загубілі 8 жыхароў. 26 вяскоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 191 жыхар. У 1962 г. да вёскі далучаны пас. Прагрэс. У складзе калгаса імя У.І.Леніна (цэнтр — пас. Вазнясенскі). Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, арыентаванай амаль мерыдыянальна і забудаванай рэдка драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. Радзіма бел. паэта Л.Р.Гаўрылава. Каля вёскі ёсць залежы пяскоў.

**БОЛТАВА** — пасёлак у Роўкавіцкім с/с, за 17 км на ПдЗ ад Чачэрска, 18 км ад чыг. ст. Буда-Кашалёўская (на лініі Гомель—Жлобін), 41 км ад Гомеля. Транспартныя сувязі па прасёлачнай дарозе, потым па шашы Доўск—Гомель. У выніку катастрофы на Чарнобыльскай АЭС і радыяцыйнага забруджання жыхары (30 сямей) у 1992 г. перaселены ў чыстыя месцы.

Засн. ў пач. 20 ст. перасяленцамі з суседніх вёсак. Найбольш актыўная забудова прыпадае на 1920-я гг. У 1921 г. створана калектыўная гаспадарка «Рассвет». У 1926 г. 15 двароў, 84 жыхары, у Халоцкім с/с Чачэрскага р-на Гомельскай акругі. У 1931 г. арганізаваны калгас. 13 пасялкоўцаў загінулі на франтах Вял. Айч. вайны. Паводле перапісу 1959 г. 95 жыхароў. Уваходзіў у склад калгаса імя А.А.Жданава (цэнтр — в. Халочча). Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ і забудаванай двухбакова драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**БРАЦТВА** — пасёлак у Роўкавіцкім с/с, за 16 км на ПдЗ ад Чачэрска, 19 км ад чыг. ст. Буда-Кашалёўская (на лініі Гомель—Жлобін), 42 км ад Гомеля. Транспартныя сувязі па прасёлачнай дарозе, потым па шашы Доўск—Гомель. У выніку катастрофы на Чарнобыльскай АЭС і радыяцыйнага забруджання жыхары (4 сям'і) у 1992 г. перaселены ў чыстыя месцы.

Засн. ў пач. 20 ст. як хутар. Найбольш актыўная забудова тут, на былых памешчыцкіх землях, прыпадае на 1920-я гг. У 1926 г. 14 двароў, 73 жыхары, паштовы пункт, у Наўхавіцкім с/с Чачэрскага р-на Гомельскай акругі. У 1929 г. арганізаваны калгас. 7 пасялкоўцаў загінулі на франтах Вял. Айч. вайны. Паводле перапісу 1959 г. 75 жыхароў. Уваходзіў у склад калгаса імя С.М.Кірава (цэнтр — в. Крутое). Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ і забудаванай двухбакова, рэдка драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**БРЫЛЁВА** — пасёлак у Чачэрскім с/с, за 7 км на ПнЗ ад Чачэрска, 44 км ад чыг. ст. Буда-Кашалёўская (на лініі Гомель—Жлобін), 72 км ад Гомеля, на аўтадарозе Чачэрск—Рыскова. На Пд — меліярацыйны канал, злучаны з р. Чачора (прыток р. Сож). 19 гаспадарак, 33 жыхары (2004 г.).

Засн. ў пач. 1920-х гг. перасяленцамі з суседніх вёсак на былых памешчыцкіх землях. У 1930 г. арганізаваны калгас. Паводле перапісу 1959 г. 189 жыхароў. У складзе калгаса «50 гадоў БССР» (цэнтр — в. Отар). Планіровачна скла-

*Стаянка Бердыж.*



даецца з кароткай прамалінейнай шыротнай вуліцы, забудаванай двухбакова драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**БУДЗІШЧА** (да 1939 Будзішча Палескае) — вёска ў Палескім с/с, за 27 км на ПнУ ад Чачэрска, 92 км ад Гомеля, 62 км ад чыг. ст. Буда-Кашалёўская (на лініі Гомель—Жлобін), на р. Каўпіта (прыток р. Беседзь), на З мяжуе з Чачэрскім біял. заказнікам, каля дзярж. мяжы з Рас. Федэрацыяй. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Сідаравічы—Чачэрск. 10 гаспадарак, 13 жыхароў (2004 г.).



*Я.І.Афанасенка.*

Паводле пісьмовых крыніц вядома з пач. 18 ст. як сяленне ў Рэчыцкім пав. Мінскага ваяв. Перасяленцы з суседніх вёсак размяшчаліся тут на распрацаваных імі ж землях. У 1726 г. пазначана ў інвентары Чачэрскага староства. Паводле вопісу 1765 г. 19 дымоў. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) у складзе Рас. імперыі. Паводле рэвізіі 1816 г. 54 двары, у Рагачоўскім пав. Магілёўскай губ. У 1850 г. 27 двароў, 187 жыхароў, уласнасць казны. З 1880 г. дзейнічаў хлебазапасны магазін. У 1884 г. 97 двароў, 614 жыхароў, 2 ветракі. Паводле перапісу 1897 г. в. Будзішча (яна ж Буда-Нісімкавіцкая), 133 двары, 1052 жыхары, школа граматы, маслабойня, 3 ветракі, у Палескай вол. Гомельскага пав. Магілёўскай губ. У вясковай школе ў 1907 г. 67 вучняў. У 1909 г. 161 двор, 1267 жыхароў, 1408 дзес. зямлі. З 8.12.1927 г. да 29.10.1959 г. цэнтр Будзішчапалескага с/с Свяцілавіцкага, з 4.8.1927 г. Чачэрскага р-наў Гомельскай (да 26.7.1930) акругі, з 20.2.1938 г. Гомельскай вобл. У 1930 г. арганізаваны калгас, працавалі вятрак і кузня. У Вял. Айч. вайну акупанты стварылі тут свой апорны пункт, які партызаны разграмілі. У баі каля вёскі ў 1942 г. загінула партызанка, спец. карэспандэнт газ. «Комсомольская правда» Л.А.Карастаянава. 9.2.1943 г. карнікі спалілі жывымі 26 жыхароў (пахаваны ў магіле ахвяр фашызму ў цэнтры вёскі), у крас. 1943 г. загубілі яшчэ 6 чалавек. 7 вяскоўцаў былі вывезены ў Германію, 91 — загінуў на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 780 жыхароў. У складзе саўгаса «Сож» (цэнтр —в. Сідаравічы). Планіровачна складаецца з 2 паралельных паміж сабой вуліц, арыентаваных з ПдЗ на ПнУ і злучаных 2 завулкамі. Да паўд. вуліцы далучаецца кароткая выгнутая вуліца. Забудавана двухбакова драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. Радзіма бел. паэта В.В.Карпечанкі, актыўнага ўдзельніка партыз. руху на Гомельшчыне ў Вял. Айч. вайну С.К.Цярэшчанкі, дзярж. дзеяча, былога міністра асветы РСЯФС (1954—63) Я.І.Афанасенка.

**БЯЗБОЖНІК** — пасёлак у Палескім с/с, за 35 км на ПнУ ад Чачэрска, 72 км ад чыг. ст. Буда-Кашалёўская (на лініі Гомель—Жлобін), 100 км ад Гомеля, на Пн мяжуе з Чачэрскім біял. заказнікам, на Пд і З — меліярацыйныя каналы, злучаныя з р. Каўпіта (прыток р. Сож). Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Палессе—Чачэрск. 3 гаспадаркі, 4 жыхары (2004 г.).

Засн. ў пач. 1920-х гг. на былых памешчыцкіх землях перасяленцамі з суседніх вёсак. У 1926 г. 18 двароў, 102 жыхары, у Палескім с/с Чачэрскага р-на Гомельскай акругі. У 1929 г. арганізаваны калгас. 8 пасялкоўцаў загінулі на франтах Вял. Айч. вайны. Паводле перапісу 1959 г. 91 жыхар. У складзе калгаса «Камунар» (цэнтр — в. Палессе). Драўляныя сял. хаты пастаўлены хаатычна каля прасёлачнай дарогі.

**БЯЛЯЕЎКА** — вёска ў Залескім с/с, за 9 км на ПнУ ад Чачэрска, 44 км ад чыг. ст. Буда-Кашалёўская (на лініі Гомель—Жлобін), 75 км ад Гомеля, на ўсх. ускраіне пачынаецца і праз вёску цячэ р. Бяляеўка (прыток р. Сож), побач аўтадарога Палессе—Чачэрск, на Пд, З і Пн мяжуе з Чачэрскім біял. заказнікам. 181 гаспадарка, 404 жыхары (2004 г.).

Выяўленыя археолагамі курганны могільнік (28 насыпаў, за 1,5 км на ПнЗ ад вёскі) і стаянка эпохі мезаліту (за 3 км на Пн ад вёскі) сведчаць пра засялен-

не тутэйшых мясцін з глыбокай старажытнасці. Паводле пісьмовых крыніц вядома з 18 ст. як сяленне ў Рэчыцкім пав. Мінскага ваяв. У 1765 г. 24 гаспадаркі, млын. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) у складзе Рас. імперыі. Паводле рэвізскіх матэрыялаў 1859 г. ў валоданні графа Чарнышова-Круглікава. У 1871 г. вяскоўцы захапілі 500 дзес. памешчыцкага лесу, аб чым граф І.І.Чарнышоў-Круглікаў паведамляў міністру ўнутр. спраў. З 1880 г. дзейнічаў хлебазапасны магазін. Паводле перапісу 1897 г. 87 двароў, 664 жыхары, школа граматы, хлебазапасны магазін, кузня, у Покацкай вол. Гомельскага пав. Магілёўскай губ. У 1909 г. 99 двароў, 756 жыхароў, 787 дзес. зямлі, школа, млын. У 1926 г. 172 двары, 951 жыхар, паштовае аддз. З 8.12.1926 г. да 1987 г. цэнтр Бяляеўскага с/с Чачэрскага, з 25.12.1962 г. Буда-Кашалёўскага, з 6.1.1965 г. Чачэрскага р-наў Гомельскай (да 26.7.1930) акругі, з 20.2.1938 г. Гомельскай вобл. У 1930 г. арганізаваны калгас «Ленінскі шлях», працавалі кузня і сталярня. У 1940 г. 180 двароў. У Вял. Айч. вайну ням. акупанты ў крас. 1943 г. загубілі 18 жыхароў, а 26—27.11.1943 г. спалілі 175 двароў і загубілі 4 жыхароў. 38 вяскоўцаў былі вывезены ў Германію на прымусовыя работы. 101 вясковец загінуў на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 814 жыхароў. У 1970 г. 205 двароў, 801 жыхар. Цэнтр саўгаса «Бяляеўскі». Размешчаны 9-гадовая школа, Дом культуры, б-ка, фельч.-акушэрскі пункт, аддз. сувязі, магазін. Планіровачна складаецца з 2 падзеленых ракой і злучаных мостам частак: паўн. (выгнутая, амаль шыротная вуліца з завулкамі) і паўд. (дугападобная, амаль паралельная да першай вуліца, уздоўж ракі). Забудова двухбаковая, драўляная, сядзібнага тыпу.

**ВАЗНЯСЕНСКІ** — пасёлак, цэнтр Ленінскага с/с, за 6 км на Пд ад Чачэрска, 37 км ад чыг. ст. Буда-Кашалёўская (на лініі Гомель—Жлобін), 65 км ад Гомеля, на р. Сож (прыток р. Дняпро). Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарогах, якія ідуць ад Чачэрска. 150 гаспадарак, 429 жыхароў (2004 г.).

Засн. ў пач. 20 ст. перасяленцамі з суседніх вёсак. У 1926 г. 16 двароў, 65 жыхароў, паштовае аддз., у Бердыжскім с/с Чачэрскага р-на Гомельскай акругі. У 1930 г. арганізаваны калгас. У 1940 г. 25 двароў, 115 жыхароў. У Вял. Айч. вайну ў жн.—вер. 1943 г. ням. акупанты спалілі 22 двары і загубілі 11 жыхароў. 32 пасялкоўцы загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 131 жыхар. У 1962 г. далучаны пас. Шохаўка. У 1970 г. 50 двароў, 96 жыхароў. Цэнтр калгаса імя У.І.Леніна. Размешчаны маслазавод, 9-гадовая школа, клуб, б-ка, магазін. Планіровачна складаецца з прамалінейнай мерыдыянальнай вуліцы, забудаванай пераважна аднабакова драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**ВАЛОСАВІЧЫ** — вёска ў Палескім с/с, за 21 км на ПнУ ад Чачэрска, 58 км ад чыг. ст. Буда-Кашалёўская (на лініі Гомель—Жлобін), 86 км ад Гомеля, на р. Покаць, на У і Пд мяжуе з Чачэрскім біял. заказнікам. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Палессе—Чачэрск. 135 гаспадарак, 270 жыхароў (2004 г.).

Выяўлены археолагамі курганны могільнік (43 насыпы, за 0,7 км на ПнЗ ад вёскі) сведчыць пра засяленне тутэйшых мясцін з глыбокай старажытнасці. Паводле пісьмовых крыніц вядома з 15 ст. як сяленне ў ВКЛ. У 1483 г. каралеўскай суднай граматай даравана кн. Мажайскаму. З 1492 г. ў валоданні А.Багданавай. Упамінаецца ў матэрыялах аб канфліктах паміж Літвой і Маскоўскай дзяржавай у 1526—27 гг. Паводле інвентару 1704 г. в. Валосавічы (яна ж Сідаравічы), 16 дымоў, у 1726 г. 18 дымоў, цэнтр войтаўства ў Чачэрскім старостве Рэчыцкага пав. Мінскага ваяв. Паводле апісання 1765 г. ў Чачэрскім старостве 19 дымоў, уладанне Быкоўскіх. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) у складзе Рас. імперыі, ва ўладанні Бяліц-

кіх. У 1881 г. 76 двароў, 440 жыхароў, хлебазапасны магазін, 2 ветракі, у Палескай вол. Гомельскага пав. Магілёўскай губ. У вясковай школе ў 1907 г. 54 вучні. У 1909 г. 125 двароў, 918 жыхароў, 1169 дзес. зямлі, млын. У 1926 г. 226 двароў, 1234 жыхары, паштовае аддз., школа. З 8.12.1926 г. да 30.12.1927 г. цэнтр Валосавіцкага с/с Чачэрскага р-на Гомельскай акругі. У 1929 г. арганізаваны калгас «Чырвоная зорка», працавалі 2 кузні, ваўначоска. У 1940 г. 227 двароў. У Вял. Айч. вайну ням. акупанты стварылі ў вёсцы свой апорны пункт, які партызаны разграмілі. У кастр. 1943 г. карнікі спалілі 176 двароў і загубілі 24 жыхароў. 94 вяскоўцы загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 1003 жыхары. У складзе саўгаса «Сож» (цэнтр — в. Сідаравічы). Размешчаны аддз. сувязі і клуб. Планіровачна складаецца з падзеленых ракой 2 частак: зах. (2 паралельныя паміж сабой мерыдыянальныя вуліцы, злучаныя завулкамі) і ўсх. (крывалінейная вуліца амаль мерыдыянальнай арыентацыі). Забудавана двухбакова пераважна драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. На вул. Крынічнай (ранейшае найменне Масцішчы) ёсць вядомая ў гэтых месцах крыніца. Калі не было водаправода, з яе бралі ваду амаль усе вяскоўцы. Радзіма засл. работніка гандлю і грамадскага харчавання Беларусі А.Я.Буслава.

**ВАСХОД** — пасёлак у Чачэрскім с/с, за 5 км на ПнЗ ад Чачэрска, 42 км ад чыг. ст. Буда-Кашалёўская (на лініі Гомель—Жлобін), 70 км ад Гомеля, на У, Пн і З — меліярацыйныя каналы, злучаныя з р. Чачора (прыток р. Сож). Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Карма—Чачэрск. Ніхто не жыве.

Засн. ў пач. 20 ст. перасяленцамі з суседніх вёсак. У 1926 г. 17 двароў, 95 жыхароў, паштовы пункт, у Іпалітаўскім с/с Чачэрскага р-на Гомельскай акругі. У 1929 г. арганізаваны калгас. Паводле перапісу 1959 г. 55 жыхароў. У складзе калгаса «50 гадоў БССР» (цэнтр — в. Отар). Драўляная сял. сядзіба пастаўлена каля прасёлачнай дарогі.

**ВЕЦВІЦА** — вёска ў Меркулавіцкім с/с, за 14 км на ПнЗ ад Чачэрска, 55 км ад чыг. ст. Буда-Кашалёўская (на лініі Гомель—Жлобін), 82 км ад Гомеля, на аўтадарозе Рыскова—Чачэрск, на З і Пд — меліярацыйныя каналы, злучаныя з р. Чачора (прыток р. Сож). 39 гаспадарак, 73 жыхары (2004 г.).

Паводле пісьмовых крыніц вядома з 19 ст. як сяленне ў Меркулавіцкай вол. Рагачоўскага пав. Магілёўскай губ. З 1880 г. дзейнічаў хлебазапасны магазін. Паводле перапісу 1897 г. 46 двароў, 323 жыхары, хлебазапасны магазін, крама. У 1909 г. 55 двароў, 404 жыхары, 563 дзес. зямлі, школа, млын. У 1926 г. 62 двары, 334 жыхары, хата-чытальня (з 1921), паштовае аддз. З 8.12.1926 г. да 30.12. 1927 г. цэнтр Вецвіцкага с/с Чачэрскага р-на Гомельскай акругі. У 1930 г. арганізаваны калгас «Непераможны», працаваў ветраны млын. 53 вяскоўцы загінулі на франтах Вял. Айч. вайны. Паводле перапісу 1959 г. 243 жыхары. У складзе саўгаса «Бацвінава» (цэнтр — в. Бацвінава). Планіровачна складаецца з кароткай прамалінейнай, амаль мерыдыянальнай вуліцы, да якой па цэнтры далучаецца другая кароткая вуліца. Забудова двухбаковая, драўляная, сядзібнага тыпу.

**ВОЛЬСК** — пасёлак у Роўкавіцкім с/с, за 13 км на ПдЗ ад Чачэрска, 42 км ад чыг. ст. Буда-Кашалёўская (на лініі Гомель—Жлобін), 70 км ад Гомеля. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Чачэрск—Буда-Кашалёва. У выніку катастрофы на Чарнобыльскай АЭС і радыяцыйнага забруджання жыхары (28 сямей) у 1992 г. пераселены ў чыстыя месцы.

Засн. ў пач. 20 ст. перасяленцамі з суседніх вёсак. Найбольш актыўная забудова прыпадае на 1920-я гг. У 1926 г. 31 двор, 173 жыхары, паштовы пункт, у Наўхавіцкім с/с Чачэрскага р-на Гомельскай акругі. У 1930 г. арганізаваны

калгас «Чырвоны араты», працаваў ветраны млын. З 1931 г. да 1939 г. цэнтр Наўхавіцкага с/с Чачэрскага р-на, з 26.2.1938 г. Гомельскай вобл. 7 пасялкоўцаў загінулі на франтах Вял. Айч. вайны. Паводле перапісу 1959 г. 165 жыхароў. Уваходзіў у склад калгаса імя С.М.Кірава (цэнтр — в. Крутое). Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ і забудаванай двухбакова драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**ВЫСОКАЯ ГРЫВА** — пасёлак у Палескім с/с, за 25 км на У ад Чачэрска, 63 км ад чыг. ст. Буда-Кашалёўская (на лініі Гомель—Жлобін), 90 км ад Гомеля, на З — Чачэрскі біял. заказнік, на Пд — меліярацыйны канал, злучаны з р. Азерышчанская (прыток р. Беседзь). Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Свяцілавічы—Залессе. 15 гаспадарак, 21 жыхар (2004 г.).

Засн. ў пач. 20 ст. перасяленцамі з суседніх вёсак. Найбольш актыўная забудова тут, на былых памешчыцкіх землях, прыпадае на 1920-я гг. У 1926 г. 59 двароў, 397 жыхароў, паштовы пункт, у Будзішчапалескім с/с Свяцілавіцкага р-на Гомельскай акругі. У 1929 г. арганізаваны калгас. У 1940 г. 82 двары, 411 жыхароў. У Вял. Айч. вайну ў жн. 1943 г. ням. акупанты спалілі вёску і загубілі 8 жыхароў. 36 пасялкоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 343 жыхары. У складзе саўгаса «Сож» (цэнтр — в. Сідаравічы). Планіровачна складаецца з 2 паралельных паміж сабой кароткіх вуліц амаль шыротнай арыентацыі, забудаваных двухбакова, няшчыльна драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**ГАЁК** — пасёлак у Нісімкавіцкім с/с, за 18 км на ПнУ ад Чачэрска, 55 км ад чыг. ст. Буда-Кашалёўская (на лініі Жлобін—Гомель), 83 км ад Гомеля, на р. Покаць (прыток р. Сож). Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Палессе—Чачэрск. 11 гаспадарак, 26 жыхароў (2004 г.).

Засн. ў пач. 20 ст. перасяленцамі з суседніх вёсак. Найбольш актыўная забудова прыпадае на 1920-я гг. У 1926 г. 28 двароў, 158 жыхароў, у Нісімкавіцкім с/с Свяцілавіцкага р-на Гомельскай акругі. У 1930 г. арганізаваны калгас, працаваў вятрак. У Вял. Айч. вайну ў жн. 1943 г. ням. акупанты спалілі пасёлак. 13 пасялкоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 63 жыхары. У складзе саўгаса «Нісімкавічы» (цэнтр — в. Нісімкавічы). Складаецца з кароткай прамалінейнай, блізкай да мерыдыянальнай арыентацыі вуліцы. Забудова драўляная, няшчыльная, сядзібнага тыпу.

**ГАРАДОК** — пасёлак у Чачэрскім с/с, за 3 км на ПнЗ ад Чачэрска, 40 км ад чыг. ст. Буда-Кашалёўская (на лініі Гомель—Жлобін), 68 км ад Гомеля, на аўтадарозе Рыскова—Чачэрск, на З і Пн — меліярацыйныя каналы, злучаныя з р. Чачора (прыток р. Сож). 19 гаспадарак, 48 жыхароў (2004 г.).

Засн. ў пач. 20 ст. перасяленцамі з суседніх вёсак. Найбольш актыўная забудова прыпадае на 1920-я гг. У 1926 г. 13 двароў, 86 жыхароў, паштовае аддз., у Глыбочыцкім с/с Чачэрскага р-на Гомельскай акругі. У 1930 г. арганізаваны калгас. 12 пасялкоўцаў загінулі ў Вял. Айч. вайну. Паводле перапісу 1959 г. 100 жыхароў. У складзе калгаса «Сцяг камунізму» (цэнтр — г. Чачэрск). Планіровачна складаецца з кароткай прамалінейнай, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ вуліцы, забудаванай няшчыльна драўлянымі сял. сядзібамі.

**ГАРАДОЎКА** — вёска ў Залескім с/с, за 9 км на ПдУ ад Чачэрска, 49 км ад чыг. ст. Буда-Кашалёўская (на лініі Гомель—Жлобін), 63 км ад Гомеля, на р. Сож (прыток р. Дняпро), на У і Пд мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Свяцілавічы—Залессе. 5 гаспадарак, 7 жыхароў (2004 г.).

Выяўленыя археолагамі курганны могільнік (13 насыпаў, за 0,5 км на Пд ад вёскі, курган (за 2 км на Пд ад вёскі) і стаянка эпохі неаліту (на паўд. ускраі-

не) сведчаць пра засяленне тутэйшых мясцін з глыбокай старажытнасці. Паводле пісьмовых крыніц вядома з 19 ст. як сяленне ў Покацкай вол. Рагачоўскага пав. Магілёўскай губ. Паводле перапісу 1897 г. 9 двароў, 51 жыхар. У 1909 г. 12 двароў, 78 жыхароў, 230 дзес. зямлі. У 1926 г. 18 двароў, 87 жыхароў, паштовы пункт, у Падасоўскім с/с Свяцілавіцкага р-на Гомельскай акругі. У 1930 г. арганізаваны калгас. Паводле перапісу 1959 г. 114 жыхароў. У складзе калгаса «Звязда» (цэнтр — в. Залессе). Драўляныя сял. сядзібы пастаўлены каля прасёлачнай дарогі.

**ГАЦКОЕ** — пасёлак у Нісімкавіцкім с/с, за 22 км на У ад Чачэрска, 59 км ад чыг. ст. Буда-Кашалёўская (на лініі Гомель—Жлобін), 87 км ад Гомеля, на У, Пн і З мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Свяцілавічы—Залессе. 22 гаспадаркі, 49 жыхароў (2004 г.).

Засн. ў пач. 1920-х гг. на былых памешчыцкіх землях перасяленцамі з суседніх вёсак. У 1926 г. 9 двароў, 65 жыхароў, у Рудня-Нісімкавіцкім с/с Свяцілавіцкага р-на Гомельскай акругі. У 1930 г. арганізаваны калгас. 20 пасялкоўцаў загінулі на франтах Вял. Айч. вайны. Паводле перапісу 1959 г. 187 жыхароў. У складзе саўгаса «Нісімкавічы» (цэнтр — в. Нісімкавічы). Планіровачна складаецца з кароткай прамалінейнай, амаль мерыдыянальнай вуліцы, забудаванай двухбакова драўлянымі сял. сядзібамі.

**ГЛЫБОЧЫЦА** — вёска ў Чачэрскім с/с, за 4 км на ПнЗ ад Чачэрска, 41 км ад чыг. ст. Буда-Кашалёўская (на лініі Гомель—Жлобін), 69 км ад Гомеля, на аўтадарозе Чачэрск—Рыскова, на Пн і У — меліярацыйныя каналы, злучаныя з р. Чачора (прыток р. Сож). 68 гаспадарак, 110 жыхароў (2004 г.).

Выяўленыя археолагамі могільнік (75 насыпаў, за 1 км на Пд ад вёскі) і могільнік (30 насыпаў, за 1,5 км на Пд ад вёскі, ва ўрочышчы Школьная лінія) сведчаць пра засяленне тутэйшых мясцін з далёкай старажытнасці. Паводле пісьмовых крыніц вядома з пач. 15 ст. У 1493 г. пазначана як сяленне ў Мінскім ваяв. У 1704 г. 2 дымы, у 1726 г. 5 дымоў, у Отарскім войтаўстве Чачэрскага староства. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) у складзе Рас. імперыі. Паводле рэвізіі 1858 г. 30 двароў,133 жыхары, у Чачэрскай вол. Гомельскага пав. Магілёўскай губ. З 1880 г. дзейнічаў хлебазапасны магазін. Паводле перапісу 1897 г. 51 двор, 377 жыхароў, хлебазапасны магазін, 2 ветракі, карчма. У 1909 г. 61 двор, 438 жыхароў, 461 дзес. зямлі. У час герм. акупацыі правабярэжжа Сажа ў 1918 г. ў вёсцы быў створаны Новачачэрскі краявы Савет сял. і салдацкіх дэпутатаў. У 1926 г. 65 двароў, паштовае аддз., школа. З 8.12.1926 г. да 25.5.1961 г. цэнтр Глыбочыцкага с/с Чачэрскага р-на Гомельскай (да 26.7.1930) акругі, з 20.2. 1938 г. Гомельскай вобл. У 1929 г. арганізаваны калгас. 61 вясковец загінуў на франтах Вял. Айч. вайны. Паводле перапісу 1959 г. 506 жыхароў. У 1971 г. ў вёску пераселена частка жыхароў пас. Пціч (не існуе). У складзе калгаса «Сцяг камунізму» (цэнтр — г. Чачэрск). Размешчаны Дом культуры, аддз. сувязі, б-ка, фельч.-акушэрскі пункт. Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ (абапал аўтадарогі) і забудаванай пераважна драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**ГОЛЬЧ** — пасёлак у Роўкавіцкім с/с, за 21 км на ПдЗ ад Чачэрска, 18 км ад чыг. ст. Буда-Кашалёўская (на лініі Гомель—Жлобін), 46 км ад Гомеля, побач шаша Доўск—Гомель, на Пд і З — меліярацыйныя каналы, злучаныя з р. Любіча (прыток р. Чачора). 18 гаспадарак, 24 жыхары (2004 г.).

Засн. ў пач. 20 ст. перасяленцамі з суседніх вёсак. У 1926 г. 19 двароў, 108 жыхароў, паштовы пункт, у Караблішчанскім с/с Чачэрскага р-на Гомельскай акругі. У 1929 г. арганізаваны калгас. 12 пасялкоўцаў загінулі на франтах Вял. Айч.

вайны. Паводле перапісу 1959 г. 169 жыхароў. У складзе падсобнай гаспадаркі раённага вытв. аб'яднання «Сельгасхімія» імя А.В.Суворава (цэнтр — в. Роўкавічы). Планіровачна складаецца з кароткай прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ і забудаванай двухбакова, няшчыльна драўлянымі сял. сядзібамі.

**ДЗЯРЖЫНСКІ** — пасёлак у Палескім с/с, за 25 км на ПнУ ад Чачэрска, 62 км ад чыг. ст. Буда-Кашалёўская (на лініі Гомель—Жлобін), 80 км ад Гомеля, на р. Покаць (прыток р. Сож), на З, Пн і У мяжуе з Чачэрскім біял. заказнікам. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Палессе—Чачэрск. 11 гаспадарак, 23 жыхары (2004 г.).

Засн. ў пач. 1920-х гг. на былых памешчыцкіх землях перасяленцамі з суседніх вёсак. У 1930 г. арганізаваны калгас. 4 пасялкоўцы загінулі на франтах Вял. Айч. вайны. Паводле перапісу 1959 г. 63 жыхары. У складзе саўгаса «Сож» (цэнтр — в. Сідаравічы). Планіровачна складаецца з кароткай прамалінейнай мерыдыянальнай вуліцы, забудаванай драўлянымі сял. сядзібамі.

**ДОБРЫНЬ** — вёска ў Залескім с/с, за 9 км на ПдУ да Чачэрска, 46 км ад чыг. ст. Буда-Кашалёўская (на лініі Гомель—Жлобін), 74 км ад Гомеля. Праз вёску праходзіць меліярацыйны канал, злучаны з р. Покаць (прыток р. Сож). Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Свяцілавічы—Залессе. 7 гаспадарак, 10 жыхароў (2004 г.).

Засн. ў 2-й пал. 19 ст. У 1926 г. 73 двары, 422 жыхары, паштовы пункт, у Залескім с/с Чачэрскага р-на Гомельскай акругі. У 1929 г. арганізаваны калгас. У 1940 г. 86 двароў, 350 жыхароў. У Вял. Айч. вайну ў вер. 1942 г. ням. акупанты расстралялі 32 жыхароў (пахаваны ў магіле ахвяр фашызму на паўн. ускраіне), а 9.10.1943 г. спалілі вёску і загубілі яшчэ 4 жыхароў. 42 вяскоўцы загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 362 жыхары. У складзе калгаса «Звязда» (цэнтр — в. Залессе). Планіровачна складаецца з 2 падзеленых меліярацыйным каналам частак: паўн. (кароткая вуліца, арыентаваная з ПдУ на ПнЗ) і паўд. (2 кароткія вуліцы). Забудова няшчыльная, драўляная, сядзібнага тыпу.

**ДРУЖБІЧЫ** (да 30.7.1964 вёскі Курганне і Макрэнь) — вёска ў Роўкавіцкім с/с, за 12 км на ПдЗ ад Чачэрска, 25 км ад чыг. ст. Буда-Кашалёўская (на лініі Гомель—Жлобін), 53 км ад Гомеля. Побач аўтадарога Чачэрск—Буда-Кашалёва. 15 гаспадарак, 28 жыхароў (2004 г.).

Паводле пісьмовых крыніц вядома з 19 ст. як сяленне ў Меркулавіцкай вол. Рагачоўскага пав. Магілёўскай губ. У 1816 г. ў слабадзе Макрэнь 12 двароў, 115 жыхароў. Паводле рэвізскіх матэрыялаў 1859 г. ў валоданні памешчыка Даманскага. З 1880 г. дзейнічаў хлебазапасны магазін. Паводле перапісу 1897 г. ў в. Макрэнь 34 двары, 190 жыхароў, хлебазапасны магазін. У 1909 г. ў в. Курганне — 17 двароў, 92 жыхары, 95 дзес. зямлі, у в. Макрэнь — 246 жыхароў, 251 дзес. зямлі. У 1926 г. в. Макрэнь (20 двароў, 103 жыхары, паштовы пункт, школа) і в. Курганне (15 двароў, 91 жыхар) у Залаўскім с/с Чачэрскага р-на Гомельскай акругі. У 1930 г. арганізаваны калгас імя К.Я.Варашылава, працавалі вятрак і кузня. Паводле перапісу 1959 г. 95 жыхароў. У складзе падсобнай гаспадаркі «Сельгасхімія» імя А.В.Суворава (цэнтр — в. Роўкавічы). Планіровачна складаецца з кароткай прамалінейнай, а на У крыху выгнутай шыротнай вуліц. Забудова драўляная, сядзібнага тыпу.

**ДУБРАЎКА** — вёска ў Роўкавіцкім с/с, за 13 км на Пд ад Чачэрска, 35 км ад чыг. ст. Буда-Кашалёўская (на лініі Гомель—Жлобін), 52 км ад Гомеля, на Пд мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па прасёлачнай дарозе, потым шашы Доўск—Гомель. У выніку катастрофы на Чарнобыльскай АЭС і радыяцыйнага забруджання жыхары (34 сям'і) перасѐлены ў 1992 г. ў чыстыя месцы.

Паводле пісьмовых крыніц вядома з 19 ст. як сяленне ў Дудзіцкай вол. Рагачоўскага пав. Магілёўскай губ. У 1880 г. 19 двароў, 143 жыхары. Паводле перапісу 1897 г. 31 двор, 164 жыхары, вятрак. У 1909 г. 24 двары, 151 жыхар, 232 дзес. зямлі. У 1926 г. 25 двароў, паштовы пункт, у Новазарэцкім с/с Чачэрскага р-на Гомельскай акругі. У 1930 г. арганізаваны калгас. 36 вяскоўцаў загінулі на франтах Вял. Айч. вайны. Паводле перапісу 1959 г. 175 жыхароў. Уваходзіла ў склад калгаса імя С.М.Кірава (цэнтр — в. Крутое). Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ, да якой з Пд і Пн далучаюцца па адным завулку. Забудова драўляная, няшчыльная, сядзібнага тыпу. Часткова згарэла.

**ДУДЗІЧЫ** — вёска ў Роўкавіцкім с/с, за 18 км на ПдЗ ад Чачэрска, 24 км ад чыг. ст. Буда-Кашалёўская (на лініі Гомель—Жлобін), 49 км ад Гомеля, на Пн, У і Пд — меліярацыйныя каналы, злучаныя з р. Ліпа (прыток р. Сож). Транспартныя сувязі па прасёлачнай дарозе, потым па шашы Доўск—Гомель. У выніку катастрофы на Чарнобыльскай АЭС і радыяцыйнага забруджання жыхары пераселены ў чыстыя месцы.

Паводле пісьмовых крыніц вядома з 16 ст. як сяленне ў Рэчыцкім пав. Мінскага ваяв. ВКЛ. Пазначана ў інвентары Гомельскага староства 1640 г. Паводле інвентару 1704 г. 3 дымы, у 1726 г. 8 дымоў, млын і рудня, сукнавальня і крупарушка, у Сябровіцкім войтаўстве Чачэрскага староства. Пад 1752 г. упамінаецца ў актах Гал. літоўскага трыбунала. Паводле вопісу 1765 г. 35 дымоў, карчма, 2 млыны, сукнавальня. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) у складзе Рас. імперыі. У 1867 г. адкрыта нар. вучылішча (у 1889 г. — 38 вучняў). З 1870 г. дзейнічала Мікалаеўская царква. У 1874 г. засн. сукнавальня з млыном. У 1880 г. 63 двары, 309 жыхароў, вадзяны млын, паштовая станцыя, хлебазапасны магазін. Цэнтр Дудзіцкай вол., у якую ў 1885 г. ўваходзілі 26 сяленняў з 991 двαром. Паводле перапісу 1897 г. сяло (84 двары, 561 жыхар, царква, нар. вучылішча, хлебазапасны магазін, 2 ветракі) і фальварак (3 двары, 13 жыхароў). У 1909 г. 91 двор, 636 жыхароў, 798 дзес. зямлі, вінная крама, млын. Пры школе з 1911 г. дзейнічала бібліятэка. У 1912 г. адкрыта крэдытнае т-ва. У 1921 г. ў Дудзіцкую вол. уваходзілі 18 сельсаветаў, 12 192 жыхары. У 1926 г. ў вёсцы 121 двор, паштовае аддз., б-ка, школа, лячэбны і вет. пункты. З 8.12.1926 г. да 16.7. 1954 г. цэнтр Дудзіцкага с/с Чачэрскага р-на Гомельскай (да 26.7.1930) акругі, з 20.2.1938 г. Гомельскай вобл. У 1929 г. арганізаваны калгас «Росквіт», працавалі цагельня, 2 ветракі, 2 кузні, ваўначоска. У Вял. Айч. вайну на франтах і ў партыз. барацьбе загінуў 81 вясковец, памяць аб якіх увекавечвае абеліск, пастаўлены ў 1967 г. ў цэнтры вёскі. Паводле перапісу 1959 г. 491 жыхар. Уваходзіла ў склад калгаса імя А.А.Жданава (цэнтр — в. Халочча). Планіровачна складаецца з крывалінейнай вуліцы, да якой далучаецца кароткая вуліца. Забудова двухбаковая, няшчыльная, драўляная, сядзібнага тыпу. Радзіма дзярж. дзеяча, выдатніка аховы здароўя, былога міністра аховы здароўя (1994—97) Рэспублікі Беларусь І.М.Драбышэўскай.



*Свята-Мікалаеўская царква ў в. Дудзічы.*

**ЗАГОР'Е** — вёска ў Залескім с/с, за 15 км на ПнУ ад Чачэрска, 52 км ад чыг.

ст. Буда-Кашалёўская (на лініі Гомель—Жлобін), 80 км ад Гомеля, на р. Бабёр (прыток р. Сож), на Пн, У і Пд мяжуе з Чачэрскім біял. заказнікам. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Палессе—Чачэрск. У выніку катастрофы на Чарнобыльскай АЭС і радыяцыйнага забруджання жыхары перасёлены ў чыстыя месцы.

Паводле пісьмовых крыніц вядома з 18 ст. як сяленне ў Рэчыцкім пав. Мінскага ваяв. Паводле вопісу 1765 г. 18 дымоў, млын. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) у складзе Рас. імперыі. У 1871 г. вяскоўцы захапілі вялікі ўчастак лясной дачы, якая належала памешчыку, аб чым граф І.І.Чарнышоў-Круглікаў паведамляў міністру ўнутр. спраў. З 1880 г. дзейнічаў хлебазапасны магазін. Паводле перапісу 1897 г. 49 двароў, 266 жыхароў, школа граматы, 2 ветракі, у Палескай вол. Гомельскага пав. Магілёўскай губ. Побач быў фальварак Старое Загор'е. У 1909 г. 67 двароў, 464 жыхары, 385 дзес. зямлі, лясная старожка. У 1926 г. 72 двары, паштовы пункт, пач. школа. З 8.12.1926 г. да 30.12.1927 г. цэнтр Загорскага, з 1939 г. да 29.10.1959 г. Закрыніцкага с/с Чачэрскага р-на Гомельскай (да 26.7.1930) акругі, з 20.2. 1938 г. Гомельскай вобл. У 1930 г. арганізаваны калгас «Юны ленінец», працавалі смалакурня (з 1933), 2 ветракі, загорскае лясніцтва. 108 вяскоўцаў загінулі на франтах Вял. Айч. вайны. Паводле перапісу 1959 г. 536 жыхароў. Планіровачна складаецца з крыху скрыўленай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ, да якой на Пд далучаецца кароткая вуліца. Забудова двухбаковая, драўляная, сядзібнага тыпу. Побач радовішча мелу.

**ЗАКРЫНІЧЧА** — пасёлак у Залескім с/с, за 18 км на Пн ад Чачэрска, 55 км ад чыг. ст. Буда-Кашалёўская (на лініі Гомель—Жлобін), 83 км ад Гомеля. У выніку катастрофы на Чарнобыльскай АЭС і радыяцыйнага забруджання адселены.

З 8.12.1926 г. пасёлак, у Загорскім с/с Чачэрскага р-на Гомельскай акругі, 24 двары, 120 жыхароў. З 30.12.1927 г. цэнтр Закрыніцкага с/с. У час Вял. Айч. вайны ўваходзіў у партыз. зону. З 29.10.1959 г. ў Бяляеўскім с/с. У 1990 г. 3 двары, 7 жыхароў, з ліст. 1991 г. ў Залескім с/с.

**ЗАЛАЎЕ** — вёска ў Ленінскім с/с, за 10 км на ПдЗ ад Чачэрска, 27 км ад чыг. ст. Буда-Кашалёўская (на лініі Гомель—Жлобін), 55 км ад Гомеля. Побач аўтадарога Чачэрск—Буда-Кашалёва. На Пн і У меліярацыйны канал, злучаны з р. Сож. 39 гаспадарак, 82 жыхары (2004 г.).

Паводле пісьмовых крыніц вядома з 19 ст. як сяленне ў Чачэрскай вол. Рагачоўскага пав. Магілёўскай губ. Паводле рэвізіі 1816 г. сяльцо, 3 двары. Паводле інвентару 1842 г. 160 дзес. зямлі. Паводле рэвізскіх матэрыялаў 1859 г. ў валоданні памешчыка Марачэўскага. З 1880 г. дзейнічаў хлебазапасны магазін. Паводле перапісу 1897 г. 42 двары, 290 жыхароў, хлебазапасны магазін, 2 ветракі. Побач аднайменны фальварак. У 1909 г. 47 двароў, 324 жыхары, 240 дзес. зямлі. У 1926 г. 75 двароў, 401 жыхар, паштовы пункт. З 8.12.1926 г. да 30.12.1927 г. цэнтр Залаўскага с/с Чачэрскага р-на Гомельскай акругі. У 1930 г. арганізаваны калгас. 37 вяскоўцаў загінулі на франтах Вял. Айч. вайны. Паводле перапісу 1959 г. 226 жыхароў. У 1962 г. да вёскі далучаны пас. Лебядзінае. У складзе калгаса імя У.І.Леніна (цэнтр — пас. Вазнясенскі). Планіровачна складаецца з выгнутай вуліцы, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ і забудаванай двухбакова драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. Каля вёскі ёсць залежы гліны.

**ЗАЛЕССЕ** — вёска, цэнтр Залескага с/с, за 7 км на ПдУ ад Чачэрска, 42 км ад чыг. ст. Буда-Кашалёўская (на лініі Гомель—Жлобін), 72 км ад Гомеля, на р. Сож, на Пн мяжуе з Чачэрскім біял. заказнікам. Аўтадарога звязвае вёску са Свяцілавічамі. 202 гаспадаркі, 461 жыхар (2004 г.).



*І.М.Драбышэўская.*

Выяўленыя археолагамі паселішча 3-га тысячагоддзя да н.э. (за 0,5 км на ПнЗ ад вёскі) і паселішча эпохі неаліту і бронз. веку (за 2 км на Пн ад вёскі, ва ўрочышчы Карэнік) сведчаць пра засяленне тутэйшых мясцін з глыбокай старажытнасці. Паводле пісьмовых крыніц вядома з пач. 16 ст. як сяленне ў Рэчыцкім пав. Мінскага ваяв. ВКЛ. У 1503, 1525, 1526—27 гг. упамінаецца ў матэрыялах аб канфліктах паміж Літвой і Маскоўскай дзяржавай. Паводле інвентару 1704 г. — 18, у 1726 г. — 28 дымоў, цэнтр войтаўства Чачэрскага староства. Паводле апісання Чачэрскай вол. 1765 г. 65 дымоў, карчма, уладанне Шалюты і Збарамірскіх. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) у складзе Рас. імперыі. З 1816 г. дзейнічала Васільеўская царква, з 1832 г. — карчма. Апрача земляробства вяскоўцы займаліся рыбнай лоўляй. Праз вёску праходзіла паштовая дарога з Неглюбкі ў Рагачоў. З 1879 г. працаваў цукровы з-д, з 1880 г. — хлебазапасны магазін. У 1886 г. 121 двор, 654 жыхары, вятрак. Паводле перапісу 1897 г. 181 двор, 1192 жыхары, царк.-прыходская школа, 5 ветракоў, вадзяны млын, кузня, карчма. У 1909 г. 223 двары, 1454 жыхары, 1907 дзес. зямлі, вінная крама, у Покацкай вол. Гомельскага пав. Магілёўскай губ. У 1926 г. адкрыта хата-чытальня. З 8.12.1926 г. цэнтр Залескага с/с Чачэрскага, з 25.12.1962 г. Буда-Кашалёўскага, з 6.1.1965 г. Чачэрскага р-наў Гомельскай (да 26.7.1930) акругі, з 20.2. 1938 г. Гомельскай вобл. У 1929 г. арганізаваны калгас «Звязда», працавала кузня. У 1935 г. створаны вясковы нар. хор, які карыстаўся папулярнасцю далёка за межамі раёна. У 1940 г. 280 двароў, 1350 жыхароў. У Вял. Айч. вайну ням. акупанты стварылі ў вёсцы свой гарнізон, які ў 1943 г. партызаны разграмілі. 25.8.1943 г. карнікі спалілі вёску і загубілі 39 жыхароў. Паводле перапісу 1959 г. 1004 жыхары. 149 вяскоўцаў загінулі на фронце. Цэнтр калгаса «Звязда». Размешчаны дзіцячы сад, Дом культуры, аддз. сувязі, 9-гадовая школа, фельч.-акушэрскі пункт. Планіровачна складаецца з прамалінейнай мерыдыянальнай вуліцы з 4 завулкамі. На Пн паралельна да яе праходзіць кароткая Т-падобная вуліца. Забудова двухбаковая, пераважна драўляная, сядзібнага тыпу. Радзіма Героя Сав. Саюза М.К.Круглікава (яго імем названа вуліца ў Чачэрску), ген.-м. Я.Я.Кашчэева і ген.-м. М.Е.Вербавікова.



*М.К.Круглікаў.*

У склад Залескага с/с да 1974 г. ўваходзіў пас. Свабода, да 1999 г. — пасёлкі Дубок, Закрынічча (не існуюць).

**ЗАЛОЖЖА** — пасёлак у Роўкавіцкім с/с, за 7 км на З ад Чачэрска, 44 км ад чыг. ст. Буда-Кашалёўская (на лініі Гомель—Жлобін), 72 км ад Гомеля, на Пн мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Чачэрск—Рыскова. Ніхто не жыве.

Засн. ў пач. 20 ст. перасяленцамі з суседніх вёсак. У 1926 г. 13 двароў, 65 жыхароў, у Матнявіцкім с/с Чачэрскага р-на Гомельскай акругі. У 1929 г. пасялкоўцы ўступілі ў калгас. У 1940 г. 22 двары, 107 жыхароў. У Вял. Айч. вайну ням. акупанты 14.10.1943 г. спалілі пасёлак. 12 пасялкоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 67 жыхароў. У складзе калгаса «Юбілейны» (цэнтр — в. Матнявічы). Драўляная сял. сядзіба пастаўлена каля прасёлачнай дарогі.

**ЗАРА** — пасёлак у Роўкавіцкім с/с, за 15 км на Пд ад Чачэрска, 32 км ад чыг. ст. Буда-Кашалёўская (на лініі Гомель—Жлобін), 60 км ад Гомеля. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Наўхавічы—Роўкавічы. У выніку катастрофы на Чарнобыльскай АЭС і радыяцыйнага забруджання жыхары (16 сямей) у 1992 г. перaселены ў чыстыя месцы.

Засн. ў пач. 20 ст. перасяленцамі з суседніх вёсак. Найбольш актыўная забудова прыпадае на 1920-я гг. У 1926 г. 25 двароў, 149 жыхароў, у Наўхавіцкім с/с Чачэрскага р-на Гомельскай акругі. У 1931 г. арганізаваны калгас «Чырвоны араты», працаваў вятрак. 11 пасялкоў-

цаў загінулі на франтах Вял. Айч. вайны. Паводле перапісу 1959 г. 115 жыхароў. Уваходзіў у склад калгаса імя С.М.Кірава (цэнтр — в. Крутое). Планіровачна складаецца з прамалінейнай мерыдыянальнай вуліцы, забудаванай драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**ЗАРУЧЧА** — пасёлак у Палескім с/с, за 34 км на ПнУ ад Чачэрска, 72 км ад чыг. ст. Буда-Кашалёўская (на лініі Гомель—Жлобін), 75 км ад Гомеля, на паўд. ускраіне меліярацыйны канал, злучаны з р. Каўпіта (прыток р. Сож). Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Палессе—Чачэрск. 8 гаспадарак, 10 жыхароў (2004 г.).

Выяўлены археолагамі курганны могільнік (12 насыпаў, за 1,5 км на ПнУ ад вёскі) сведчыць пра засяленне тутэйшых мясцін з глыбокай старажытнасці. Сучасны пасёлак засн. ў пач. 20 ст. перасяленцамі з суседніх вёсак. Найбольш актыўная забудова прыпадае на 1920-я гг. У 1926 г. 40 двароў, 251 жыхар, паштовы пункт, у Палескім с/с Чачэрскага р-на Гомельскай акругі. У 1929 г. арганізаваны калгас. 27 пасялкоўцаў загінулі на франтах Вял. Айч. вайны. Паводле перапісу 1959 г. 151 жыхар. У складзе калгаса «Камунар» (цэнтр — в. Палессе). Планіровачна складаецца з прамалінейнай, амаль мерыдыянальна арыентаванай вуліцы, забудаванай двухбакова, рэдка драўлянымі сял. сядзібамі.

**ЗЯЛЁНАЯ ПАЛЯНА** — вёска ў Меркулавіцкім с/с, за 29 км на ПнЗ ад Чачэрска, 49 км ад чыг. ст. Буда-Кашалёўская (на лініі Гомель—Жлобін), 76 км ад Гомеля, на шашы Доўск—Гомель, на У мяжуе з лесам, на З меліярацыйныя каналы, злучаныя з р. Глінка (прыток р. Дулепа). 25 гаспадарак, 44 жыхары (2004 г.).

Засн. ў пач. 20 ст. перасяленцамі з суседніх вёсак. У 1930 г. арганізаваны калгас. У 1940 г. 33 двары, 159 жыхароў. У Вял. Айч. вайну ў чэрв. 1943 г. ням. акупанты спалілі вёску. Паводле перапісу 1959 г. 163 жыхары. У складзе эксперыментальнай базы «Меркулавічы» (цэнтр — в. Меркулавічы). Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ і забудаванай аднабакова, уздоўж шашы, пераважна драўлянымі сял. сядзібамі.

**ІВАНАЎКА** — пасёлак у Ленінскім с/с, за 10 км на Пд ад Чачэрска, 33 км ад чыг. ст. Буда-Кашалёўская (на лініі Гомель—Жлобін), 56 км ад Гомеля, на У — пойма р. Сож, на З меліярацыйныя каналы. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарогах Наўхавічы—Роўкавічы і Чачэрск—Буда-Кашалёва. 5 гаспадарак, 8 жыхароў (2004 г.).

Засн. ў пач. 20 ст. перасяленцамі з суседніх вёсак. У 1926 г. 17 двароў, 97 жыхароў, у Чачэрскім р-не Гомельскай акругі. У 1929 г. арганізаваны калгас. 12 пасялкоўцаў загінулі на франтах Вял. Айч. вайны. Паводле перапісу 1959 г. 110 жыхароў. У складзе калгаса імя У.І.Леніна (цэнтр — пас. Вазнясенскі). Планіровачна складаецца з кароткай прамалінейнай, амаль мерыдыянальнай арыентацыі вуліцы, забудаванай драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**ІВАНАЎКА** — пасёлак у Нісімкавіцкім с/с, за 15 км на У ад Чачэрска, 52 км ад чыг. ст. Буда-Кашалёўская (на лініі Гомель—Жлобін), 80 км ад Гомеля, вакол лес. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Свяцілавічы—Залессе. 6 гаспадарак, 9 жыхароў (2004 г.).

Засн. ў 1920 г. перасяленцамі з суседніх вёсак на былых памешчыцкіх землях. У 1931 г. арганізаваны калгас. 12 пасялкоўцаў загінулі на франтах Вял. Айч. вайны. Паводле перапісу 1959 г. 64 жыхары. У складзе саўгаса «Нісімкавічы» (цэнтр — в. Нісімкавічы). Складаецца з кароткай прамалінейнай мерыдыянальнай вуліцы. Забудова няшчыльная, драўляная, сядзібнага тыпу.

**ІПАЛІТАЎКА** — вёска ў Чачэрскім с/с, за 3 км на Пн ад Чачэрска, 40 км ад чыг. ст. Буда-Кашалёўская (на лініі Гомель—Жлобін), 68 км ад Гомеля. Побач аўтадарога Карма—Чачэрск, на ўсх. і

паўд. ускраінах — меліярацыйныя каналы і пойма р. Сож. 48 гаспадарак, 104 жыхары (2004 г.).

Паводле пісьмовых крыніц вядома з 19 ст. як сяленне ў Чачэрскай вол. Рагачоўскага пав. Магілёўскай губ. У 1871 г. вяскоўцы захапілі вял. суседні з вёскай участак памешчыцкага лесу, аб чым граф І.І.Чарнышоў-Круглікаў паведамляў міністру ўнутр. спраў. З 1880 г. дзейнічаў хлебазапасны магазін. Паводле перапісу 1897 г. в. Іпалітаўка (яна ж Аляксандраўка), 52 двары, 336 жыхароў, млын. У 1909 г. 59 двароў, 425 жыхароў, 397 дзес. зямлі. З 1921 г. працавала хата-чытальня. У 1926 г. 86 двароў, 453 жыхары, паштовы пункт, школа. З 8.12.1926 г. да 30.12.1927 г. цэнтр Іпалітаўскага с/с Чачэрскага р-на Гомельскай акругі. У 1929 г. арганізаваны калгас. 49 вяскоўцаў загінулі ў гады Вял. Айч. вайны. Паводле перапісу 1959 г. 435 жыхароў. У складзе калгаса «50 гадоў БССР» (цэнтр — в. Отар). Планіровачна складаецца з амаль прамалінейнай мерыдыянальнай вуліцы, паралельна да якой на Пд праходзіць кароткая вуліца. Забудова двухбаковая, драўляная, сядзібнага тыпу.

**ІСКРА** — вёска ў Меркулавіцкім с/с, за 25 км на ПнЗ ад Чачэрска, 52 км ад чыг. ст. Буда-Кашалёўская (на лініі Гомель—Жлобін), 76 км ад Гомеля, на аўтадарозе Рыскова—Чачэрск, на У меліярацыйны канал, злучаны з р. Чачора (прыток р. Сож). 39 гаспадарак, 72 жыхары (2004 г.).

Засн. ў 1920-х гг. перасяленцамі з суседніх вёсак на былых памешчыцкіх землях. У 1931 г. арганізаваны калгас. У Вял. Айч. вайну ў баях за вызваленне вёскі і наваколля загінуў 131 воін (пахаваны ў брацкай магіле ў цэнтры). 35 вяскоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 281 жыхар. У складзе эксперыментальнай базы «Меркулавічы» (цэнтр — в. Меркулавічы). Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ, да цэнтра якой з Пд далучаецца невял. завулак. Забудова пераважна двухбаковая, драўляная, сядзібнага тыпу.

**КАВАЛЁЎ РОГ** — пасёлак у Чачэрскім с/с, за 1 км на З ад Чачэрска, 38 км ад чыг. ст. Буда-Кашалёўская (на лініі Гомель—Жлобін), 66 км ад Гомеля, на р. Чачора (прыток р. Сож), на аўтадарозе Чачэрск—Рыскова, на З — меліярацыйны канал. 24 гаспадаркі, 42 жыхары (2004 г.).

Засн. ў пач. 20 ст. перасяленцамі з суседніх вёсак. Найбольш актыўна забудова вялася ў 1920-я гг. У 1926 г. 22 двары, 105 жыхароў, у Чачэрскім с/с Чачэрскага р-на Гомельскай акругі. У 1930 г. арганізаваны калгас. 14 пасялкоўцаў загінулі на франтах Вял. Айч. вайны. Паводле перапісу 1959 г. 169 жыхароў. У складзе калгаса «Сцяг камунізму» (цэнтр — г. Чачэрск). Планіровачна складаецца з кароткай, амаль шыротнай прамалінейнай вуліцы, да якой з Пд далучаецца кароткая дугападобная вуліца. Забудова двухбаковая, драўляная, сядзібнага тыпу.

**КАЛІНІНА** (да 1924 Пясчаная) — пасёлак у Палескім с/с, за 38 км на ПнУ ад Чачэрска, 73 км ад чыг. ст. Буда-Кашалёўская (на лініі Гомель—Жлобін), 102 км ад Гомеля, на р. Каўпіта (прыток р. Беседзь). 6 гаспадарак, 11 жыхароў (2004 г.).

Засн. ў пач. 20 ст. перасяленцамі з суседніх вёсак. У 1926 г. 19 двароў, 112 жыхароў, паштовы пункт, у Палескім с/с Чачэрскага р-на Гомельскай акругі. У 1931 г. арганізаваны калгас. 9 пасялкоўцаў загінулі ў Вял. Айч. вайну. Паводле перапісу 1959 г. 137 жыхароў. У складзе калгаса «Камунар» (цэнтр — в. Палессе). Складаецца з кароткай прамалінейнай, амаль шыротнай вуліцы, забудаванай двухбакова, рэдка драўлянымі сял. сядзібамі.

**КАМЕНКА** — вёска ў Залескім с/с, за 11 км на ПнУ ад Чачэрска, 48 км ад чыг. ст. Буда-Кашалёўская (на лініі Гомель—Жлобін), 76 км ад Гомеля, на р. Молінка (прыток р. Покаць). Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аў-

тадарозе Палессе—Чачэрск. 86 гаспадарак, 176 жыхароў (2004 г.).

Паводле пісьмовых крыніц вядома з 19 ст. як сяленне ў Покацкай вол. Гомельскага пав. Магілёўскай губ. З 1832 г. дзейнічала карчма, з 1880 г. — хлебазапасны магазін. У 1871 г. вяскоўцы захапілі памешчыцкі лес, аб чым граф І.І.Чарнышоў-Круглікаў паведамляў міністру ўнутр. спраў. Паводле перапісу 1897 г. 67 двароў, 486 жыхароў, школа граматы. У 1909 г. в. Каменка Малінская, 88 двароў, 640 жыхароў, 619 дзес. зямлі, млын. У 1926 г. 143 двары, 840 жыхароў, паштовы пункт, пач. школа. З 8.12.1926 г. да 30.12.1927 г. цэнтр Каменскага с/с Чачэрскага р-на Гомельскай акругі. У 1930 г. арганізаваны калгас «Пралетарскі шлях», працаваў паравы млын. У Вял. Айч. вайну ням. карнікі загубілі 6 вяскоўцаў і вывезлі 21 вяскоўца ў Германію на прымусовыя работы. Паводле перапісу 1959 г. 576 жыхароў. У 1969 г. ў вёску перасяліліся жыхары пас. Чапаева. У складзе саўгаса «Бяляеўскі» (цэнтр — в. Бяляеўка). Размешчаны клуб. Планіровачна складаецца з 2 амаль паралельных паміж сабой шыротных вуліц, да якіх на З далучаецца мерыдыянальная вуліца. Забудова двухбаковая, няшчыльная, драўляная, сядзібнага тыпу. Радзіма засл. артысткі Беларусі В.В.Пархоменка, засл. майстра спорту міжнар. класа па класічнай барацьбе М.М. Кандраценкі, доктара пед. навук, праф. У.П.Пархоменкі. Побач Каменкаўскае радовішча мелу (56,6 млн. т).

**КАМУНАР** — пасёлак у Палескім с/с, за 11 км на ПнУ ад Чачэрска, 48 км ад чыг. ст. Буда-Кашалёўская (на лініі Гомель—Жлобін), 76 км ад Гомеля, на Пд — меліярацыйныя каналы, злучаныя з р. Каўпіта (прыток р. Беседзь), на З мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Палессе—Чачэрск. 3 гаспадаркі, 4 жыхары (2004 г.).

Засн. ў 1920-я гг. перасяленцамі з суседніх вёсак на былых памешчыцкіх землях. У 1930 г. арганізаваны калгас. 7 пасялкоўцаў загінулі на франтах Вял. Айч. вайны. Паводле перапісу 1959 г. 92 жыхары. У складзе калгаса «Камунар» (цэнтр — в. Палессе). Планіровачна складаецца з прамалінейнай мерыдыянальнай вуліцы, да якой далучаецца завулак. Забудова двухбаковая, драўляная, сядзібнага тыпу.

**КАНАВЫ** — пасёлак у Роўкавіцкім с/с, за 20 км на ПдЗ ад Чачэрска, 18 км ад чыг. ст. Буда-Кашалёўская (на лініі Гомель—Жлобін), 38 км ад Гомеля. Побач шаша Доўск—Гомель. Ніхто не жыве.

Засн. ў пач. 20 ст. перасяленцамі з суседніх вёсак. У 1926 г. 25 двароў, 146 жыхароў, паштовы пункт, у Халоцкім с/с Чачэрскага р-на Гомельскай акругі. У 1931 г. арганізаваны калгас. 17 пасялкоўцаў загінулі на франтах Вял. Айч. вайны. Паводле перапісу 1959 г. 188 жыхароў. У складзе вытв. фірмы «Адраджэнне» (цэнтр — в. Халочча). Забудова драўляная, сядзібнага тыпу.

**КАРАБЛІШЧА** — вёска ў Роўкавіцкім с/с, за 19 км на ПдЗ ад Чачэрска, 18 км ад чыг. ст. Буда-Кашалёўская (на лініі Гомель—Жлобін), 46 км ад Гомеля, побач шаша Доўск—Гомель. 25 гаспадарак, 57 жыхароў (2004 г.).

Засн. ў пач. 20 ст. перасяленцамі з суседніх вёсак. У 1926 г. 25 двароў, 135 жыхароў, паштовы пункт. Побач быў аднайменны хутар (1 двор, 7 жыхароў). З 8.12.1926 г. да 30.12.1927 г. цэнтр Караблішчанскага с/с Чачэрскага р-на Гомельскай акругі. У 1930 г. арганізаваны калгас «13 гадоў Кастрычніка», працавала кузня. У Вял. Айч. вайну ў баях за вёску і наваколле ў ліст. 1943 г. загінулі 47 воінаў (пахаваны ў брацкай магіле на паўд.-ўсх. ускраіне). 24 вяскоўцы загінулі ў гады Вял. Айч. вайны. Паводле перапісу 1959 г. 231 жыхар. У складзе падсобнай гаспадаркі раённага вытв. аб'яднання «Сельгасхімія» імя А.В.Суворава (цэнтр — в. Роўкавічы). Планіровачна складаецца з прамалінейнай, амаль шыротнай арыентацыі вуліцы, забудаванай

двухбакова, пераважна драўлянымі сял. сядзібамі. Побач залежы гліны.

**КАРОБКА** — пасёлак у Чачэрскім с/с, за 5 км на Пн ад Чачэрска, 42 км ад чыг. ст. Буда-Кашалёўская (на лініі Гомель—Жлобін), 70 км ад Гомеля, на аўтадарозе Карма—Чачэрск, на З і Пд меліярацыйныя каналы, злучаныя з р. Чачора (прыток р. Сож). 2 гаспадаркі, 2 жыхары (2004 г.).

Засн. ў пач. 20 ст. перасяленцамі з суседніх вёсак. У 1926 г. 13 двароў, 86 жыхароў, у Іпалітаўскім с/с Чачэрскага р-на Гомельскай акругі. У 1930 г. арганізаваны калгас. 11 пасялкоўцаў загінулі на франтах Вял. Айч. вайны. Паводле перапісу 1959 г. 78 жыхароў. У складзе калгаса «50 гадоў БССР» (цэнтр — в. Отар). Забудаваны драўлянымі сял. сядзібамі.

**КЛЮЧАВЫ** — пасёлак у Нісімкавіцкім с/с, за 19 км на ПнУ ад Чачэрска, 56 км ад чыг. ст. Буда-Кашалёўская (на лініі Гомель—Жлобін), 84 км ад Гомеля, на р. Покаць (прыток р. Сож), мяжуе з Чачэрскім біял. заказнікам. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Палессе—Чачэрск. 13 гаспадарак, 33 жыхары (2004 г.).

Засн. ў пач. 20 ст. перасяленцамі з суседніх вёсак. У 1926 г. 15 двароў, 60 жыхароў, у Нісімкавіцкім с/с Свяцілавіцкага р-на Гомельскай акругі. У 1930 г. арганізаваны калгас. У 1940 г. 48 двароў, 168 жыхароў. У Вял. Айч. вайну ў жн. 1943 г. ням. акупанты спалілі пасёлак. 15 пасялкоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 136 жыхароў. У складзе саўгаса «Нісімкавічы» (цэнтр — в. Нісімкавічы). Планіровачна складаецца з кароткай прамалінейнай вуліцы, забудаванай з аднаго боку шчыльна, з другога — рэдка. Жылыя дамы драўляныя, сядзібнага тыпу.

**КРАСНАЕ** — пасёлак у Роўкавіцкім с/с, за 23 км на ПдЗ ад Чачэрска, 21 км ад чыг. ст. Буда-Кашалёўская (на лініі Гомель—Жлобін), 37 км ад Гомеля, побач шаша Доўск—Гомель, на паўн. ускраіне меліярацыйны канал, злучаны з р. Прудоўка (прыток р. Ліпа). У выніку катастрофы на Чарнобыльскай АЭС і радыяцыйнага забруджання жыхары (14 сямей) у 1992 г. пераселены ў чыстыя месцы.

Засн. ў пач. 1920-х гг. перасяленцамі з суседніх вёсак на былых памешчыцкіх землях. У 1926 г. 2 двары, 7 жыхароў, у Свяцілавіцкім р-не Гомельскай акругі. У 1931 г. арганізаваны калгас. 6 пасялкоўцаў загінулі на франтах Вял. Айч. вайны. Паводле перапісу 1959 г. 93 жыхары. Уваходзіў у склад калгаса імя А.А. Жданава (цэнтр — в. Халочча). Планіровачна складаецца з кароткай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ і забудаванай драўлянымі сял. сядзібамі.

**КРАСНІЦА** — пасёлак у Меркулавіцкім с/с, за 14 м на ПнЗ ад Чачэрска, 42 км ад чыг. ст. Буда-Кашалёўская (на лініі Гомель—Жлобін), 70 км ад Гомеля. Побач аўтадарога Чачэрск—Рыскова, на Пд і У — меліярацыйныя каналы, злучаныя з р. Чачора (прыток р. Сож). 13 гаспадарак, 16 жыхароў (2004 г.).

Засн. ў пач. 20 ст. перасяленцамі з суседніх вёсак. У 1926 г. 18 двароў, 89 жыхароў, у Вецвіцкім с/с Чачэрскага р-на Гомельскай акругі. У 1931 г. арганізаваны калгас. 15 пасялкоўцаў загінулі на франтах Вял. Айч. вайны. Паводле перапісу 1959 г. 125 жыхароў. У складзе саўгаса «Бацвінава» (цэнтр — в. Бацвінава). Планіровачна складаецца з амаль прамалінейнай мерыдыянальнай вуліцы, забудаванай двухбакова драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**КРУТОЕ** — вёска ў Роўкавіцкім с/с, за 15 км на ПдЗ ад Чачэрска, 28 км ад чыг. ст. Буда-Кашалёўская (на лініі Гомель—Жлобін), 62 км ад Гомеля, на аўтадарозе Наўхавічы—Роўкавічы, на паўд. ускраіне балоцістая мясцовасць і невял. вадаём. 49 гаспадарак, 107 жыхароў (2004 г.).

Засн. ў 18 ст. перасяленцамі з суседніх вёсак. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) у складзе Рас. імперыі. Маёнтак Крутое быў уладаннем Жукоў-

скіх, якія мелі тут 1130 дзес. зямлі. У выніку пажару 24.7.1911 г. згарэлі 67 двароў. Найбольш актыўная забудова прыпадае на 1920-я гг. У 1931 г. арганізаваны калгас, працавала кузня. З 1939 г. цэнтр Наўхавіцкага, з 30.6.1966 г. да 1986 г. Крутоўскага сельсаветаў Чачэрскага, з 25.12.1962 г. Буда-Кашалёўскага, з 6.1.1965 г. Чачэрскага р-наў Гомельскай вобл. У Вял. Айч. вайну ням. акупанты загубілі 22 жыхароў. На франтах і ў партыз. барацьбе загінулі 290 землякоў з вёсак Крутоўскага с/с, памяць аб якіх увекавечвае стэла, пастаўленая ў 1966 г. ў цэнтры вёскі. Паводле перапісу 1959 г. 170 жыхароў. Цэнтр калгаса імя С.М.Кірава. Размешчаны сярэдняя школа, Дом культуры, фельч.-акушэрскі пункт, сталовая, аддз. сувязі, швейная майстэрня, 2 магазіны. Планіровачна складаецца з невял. прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ уздоўж дарогі, да якой з Пд далучаецца працяглая прамалінейная вуліца. Забудова пераважна двухбаковая, у асноўным драўляная, сядзібнага тыпу. Адна з вуліц носіць імя Героя Сав. Саюза М.К.Круглікава.

У склад Крутоўскага с/с уваходзілі да 1962 г. пас. Лебядзінае, да 1999 г. — вёскі Беліца, Рассвет (да 1971 Шапрудаўка), якія зараз не існуюць.

**КУКЛІЧЫ** — вёска ў Залескім с/с, за 9 км на У ад Чачэрска, 46 км ад чыг. ст. Буда-Кашалёўская (на лініі Гомель—Жлобін), 74 км ад Гомеля, на р. Молінка (прыток р. Покаць), на Пн і З мяжуе з Чачэрскім біял. заказнікам. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Свяцілавічы—Залессе. 62 гаспадаркі, 109 жыхароў (2004 г.).

Паводле пісьмовых крыніц вядома з пач. 18 т. як сяленне ў Рэчыцкім пав. Мінскага ваяв. Паводле інвентару 1704 г. 2 дымы, у 1726 г. іх колькасць падвоілася, у Залескім войтаўстве Чачэрскага староства. Паводле апісання Чачэрскай вол. 1765 г. 9 дымоў, уладанне памешчыка Шалюты. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) у складзе Рас. імперыі. Паводле рэвізскіх матэрыялаў 1859 г. ў валоданні графа Чарнышова-Круглікава. З 1880 г. працаваў хлебазапасны магазін. Паводле перапісу 1897 г. 31 двор, 243 жыхары. У 1909 г. 47 двароў, 320 жыхароў, 303 дзес. зямлі, млын, у Покацкай вол. Гомельскага пав. Магілёўскай губ. У 1926 г. дзейнічалі паштовы пункт, школа, у Залескім с/с Чачэрскага р-на Гомельскай акругі. У 1932 г. арганізаваны калгас, працаваў паравы млын. 59 вяскоўцаў загінулі на франтах Вял. Айч. вайны. Паводле перапісу 1959 г. 515 жыхароў. У складзе калгаса «Звязда» (цэнтр — в. Залессе). Планіровачна складаецца з 2 частак: паўд. (2 мерыдыянальныя вуліцы злучаны на Пн кароткай, амаль шыротнай вуліцай) і паўн. (да шыротнай вуліцы перпендыкулярна далучаецца на У кароткая вуліца). Забудова пераважна двухбаковая, жылыя дамы драўляныя, сядзібнага тыпу.

**КУРАКІ** — вёска ў Роўкавіцкім с/с, за 5 км на З ад Чачэрска, 42 км ад чыг. ст. Буда-Кашалёўская (на лініі Гомель—Жлобін), 70 км ад Гомеля, на р. Чачора (прыток р. Сож). Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Чачэрск—Рыскова і аўтадарогах, якія адыходзяць ад Чачэрска. 12 гаспадарак, 19 жыхароў (2004 г.).

Паводле пісьмовых крыніц вядома з пач. 18 ст. як сяленне ў Рэчыцкім пав. Мінскага ваяв. У 1704 г. паводле інвентару Чачэрскага староства 4 дымы, баярскі пасёлак. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) у складзе Рас. імперыі. У 1858 г. аколіца. У 1868 г. 25 двароў, 141 жыхар. Паводле перапісу 1897 г. 43 двары, 253 жыхары, 3 ветракі, заезны двор, млын, у Чачэрскай вол. Гомельскага пав. Магілёўскай губ. З 1921 г. дзейнічала хата-чытальня. У 1926 г. 55 двароў, паштовы пункт, школа. У ліку жыхароў было 30 польскіх сямей. З 8.12.1926 г. да 30.12.1927 г. цэнтр Куракаўскага с/с Чачэрскага р-на Гомельскай акругі. У 1929 г. арганізаваны калгас «Ударнік», працавалі вятрак і кузня. 21

вясковец загінуў на франтах Вял. Айч. вайны. Паводле перапісу 1959 г. 184 жыхары. У складзе калгаса «Юбілейны» (цэнтр — в. Матнявічы). Планіровачна складаецца з кароткай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ. На ПнУ — другая кароткая вуліца. Забудова няшчыльная, драўляная, сядзібнага тыпу.

**ЛУКОМСКІЯ ПАПЛАВЫ** — вёска ў Роўкавіцкім с/с, за 13 км на ПдЗ ад Чачэрска, 81 км ад чыг. ст. Буда-Кашалёўская (на лініі Гомель—Жлобін), 59 км ад Гомеля, на ПнУ — невял. вадаём. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарогах Слабодка—Роўкавічы і Чачэрск—Буда-Кашалёва. 2 гаспадаркі, 3 жыхары (2004 г.). Значная частка жыхароў адселена ў чыстыя месцы пасля катастрофы на Чарнобыльскай АЭС.

Паводле пісьмовых крыніц вядома з 19 ст. як сяленне ў Дудзіцкай вол. Рагачоўскага пав. Магілёўскай губ. Мясц. памешчык меў тут у 1876 г. 893 дзес. зямлі, карчму і млын. Паводле перапісу 1897 г. аколіца, 7 двароў, 48 жыхароў, капліца, вятрак. У 1909 г. 10 двароў, 41 жыхар, млын. У 1926 г. 59 жыхароў, паштовы пункт, у Наўхавіцкім с/с Чачэрскага р-на Гомельскай акругі. У 1931 г. арганізаваны калгас. 30 вяскоўцаў загінулі на франтах Вял. Айч. вайны. Паводле перапісу 1959 г. 246 жыхароў. У складзе калгаса імя С.М.Кірава (цэнтр — в. Крутое). Забудова драўляная, рэдкая, сядзібнага тыпу.

**ЛЮБІМАЕ** — пасёлак у Роўкавіцкім с/с, за 18 км на ПдЗ ад Чачэрска, 19 км ад чыг. ст. Буда-Кашалёўская (на лініі Гомель—Жлобін), 47 км ад Гомеля. Транспартныя сувязі па прасёлачнай дарозе, потым па шашы Доўск—Гомель. 7 гаспадарак, 11 жыхароў (2004 г.).

Засн. ў пач. 20 ст. перасяленцамі з суседніх вёсак. У 1926 г. 19 двароў, 107 жыхароў, паштовы пункт, у Караблішчанскім с/с Чачэрскага р-на Гомельскай акругі. У 1931 г. арганізаваны калгас. 16 пасялкоўцаў загінулі на франтах Вял. Айч. вайны. Паводле перапісу 1959 г. 105 жыхароў. У складзе падсобнай гаспадаркі раённага вытв. аб'яднання «Сельгасхімія» імя А.В.Суворава (цэнтр — в. Роўкавічы). Складаецца з прамалінейнай мерыдыянальнай вуліцы, забудаванай драўлянымі сял. сядзібамі.

**МАКАЎЕ** — пасёлак у Нісімкавіцкім с/с, за 23 км на У ад Чачэрска, 60 км ад чыг. ст. Буда-Кашалёўская (на лініі Гомель—Жлобін), 88 км ад Гомеля. На У, Пд і З — меліярацыйныя каналы, злучаныя з р. Зборхаў (прыток р. Сож). Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Бабічы—Свяцілавічы. Ніхто не жыве.

Засн. ў пач. 1920-х г. перасяленцамі з суседніх вёсак на былых памешчыцкіх землях. У 1931 г. арганізаваны калгас. 7 пасялкоўцаў загінулі на франтах Вял. Айч. вайны. Паводле перапісу 1959 г. 60 жыхароў. У складзе саўгаса «Нісімкавічы» (цэнтр — в. Нісімкавічы). 2 гаспадаркі, 2 жыхары (1999). Драўляныя сял. сядзібы пастаўлены каля прасёлачнай дарогі.

**МАКСІМАЎКА** — пасёлак у Роўкавіцкім с/с, за 12 км на Пд ад Чачэрска, 23 км ад чыг. ст. Буда-Кашалёўская (на лініі Гомель—Жлобін), 51 км ад Гомеля. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Чачэрск—Буда-Кашалёва. У выніку катастрофы на Чарнобыльскай АЭС і радыяцыйнага забруджання жыхары (10 сямей) у 1992 г. пераселены ў чыстыя месцы.

Засн. ў пач. 20 ст. перасяленцамі з суседніх вёсак. У 1926 г. 17 двароў, 89 жыхароў, у Роўкавіцкім с/с Чачэрскага р-на Гомельскай акругі. Побач быў аднайменны хутар, 8 двароў, 51 жыхар. У 1931 г. арганізаваны калгас. 6 пасялкоўцаў загінулі на франтах Вял. Айч. вайны. Паводле перапісу 1959 г. 79 жыхароў. Уваходзіў у склад калгаса імя А.В.Суворава (цэнтр — в. Роўкавічы). Планіровачна складаецца з кароткай прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ і забудаванай двухбакова драўлянымі сял. сядзібамі.

**МАТНЯВІЧЫ** — вёска ў Роўкавіцкім с/с, за 9 км на ПдЗ ад Чачэрска, 27 км ад чыг. ст. Буда-Кашалёўская (на лініі Гомель—Жлобін), 56 км ад Гомеля, на З мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Чачэрск—Рыскова і дарогах, якія адыходзяць ад Чачэрска. 142 гаспадаркі, 396 жыхароў (2004 г.).

Паводле пісьмовых крыніц вядома з пач. 18 ст. як сяленне ў Рэчыцкім пав. Мінскага ваяв. Паводле інвентару 1704 г. с. Мутневічы, 2 дымы, 3 службы, у 1726 г. 5 дымоў, 2 службы, у Отарскім войтаўстве Чачэрскага староства. Паводле вопісу 1765 г. 28 дымоў. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) у складзе Рас. імперыі. З 1832 г. дзейнічала карчма. Паводле рэвізіі 1858 г. 73 двары, 366 жыхароў, у Чачэрскай вол. Рагачоўскага пав. Магілёўскай губ. У 1875 г. засн. смалярны з-д, у 1880 г. адкрыты хлебазапасны магазін. У 1886 г. 86 двароў, 506 жыхароў, вятрак, вадзяны млын. Паводле перапісу 1897 г. 112 двароў, 787 жыхароў, 4 ветракі. У 1907 г. ў нар. вучылішчы 134 вучні. У 1909 г. 130 двароў, 914 жыхароў, 1027 дзес. зямлі. Дзейнічала б-ка. У 1925 г. адкрыта хата-чытальня. З 8.12.1926 г. да 29.10.1959 г. цэнтр Матнявіцкага с/с Чачэрскага р-на Гомельскай (да 26.7.1930) акругі, з 20.2.1938 г. Гомельскай вобл. З 1929 г. дзейнічала пач. школа. У 1929 г. арганізаваны калгас «Молат», працавалі цагельня, вятрак, кузня. У Вял. Айч. вайну ў баях за вызваленне вёскі і наваколля ў ліст. 1943 г. загінулі 33 воіны (пахаваны ў брацкай магіле на могілках). 103 вяскоўцы загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 605 жыхароў. Цэнтр калгаса «Юбілейны». Размешчаны 9-гадовая школа, клуб, б-ка, фельч.-акушэрскі пункт, дзіцячы сад, аддз. сувязі, швейная майстэрня, 2 магазіны. Планіровачна складаецца з 2 паралельных паміж сабой вуліц, арыентаваных з ПдУ на ПнЗ. На Пд да іх далучаюцца 2 кароткія вуліцы. Забудова двухбаковая, драўляная, сядзібнага тыпу.

**МЕРКУЛАВІЧЫ** — вёска, цэнтр Меркулавіцкага с/с, за 22 км на ПнЗ ад Чачэрска, 37 км ад чыг. ст. Буда-Кашалёўская (на лініі Гомель—Жлобін), 60 км ад Гомеля, на шашы Доўск—Гомель. На У — невял. вадаём на р. Чачора (прыток р. Сож). 230 гаспадарак, 576 жыхароў (2004 г.).

Паводле пісьмовых крыніц вядома з 16 ст. ст. як сяленне Міркулавічы ў Рэчыцкім пав. Мінскага ваяв. ВКЛ. Паводле інвентару 1720 г. 7 дымоў, 7 валок зямлі, вадзяны млын, цэнтр Меркулавіцкага староства. У 18 ст. дзяржава, якая ў 1765 г. аб'ядноўвала 4 вёскі з 141 дваром. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) у складзе Рас. імперыі. Праз вёску праходзіла паштовая дарога з Неглюбкі ў Рагачоў. У 1867 г. адкрыта нар. вучылішча (у 1889—32 вучні). У 1872 г. памешчык Забела меў тут 582 дзес. зямлі, вадзяны і ветраны млыны. У 1884 г. 32 двары, 321 жыхар, Вазнясенская царква, б-ка, школа, вятрак, вадзяны млын, хлебазапасны магазін. Цэнтр воласці (да 9.5.1923), у якую ў 1890 г. ўваходзілі 36 сяленняў, 1063 двары. Паводле перапісу 1897 г. сяло (69 двароў, 479 жыхароў, нар. вучылішча з б-кай (1903), прыёмны пакой, хлебазапасны магазін, крама, карчма) і аднайменны фальварак (2 двары, 26 жыхароў), у Рагачоўскім пав. Магілёўскай губ. У 1911 г. адкрыта крэдытнае т-ва. У 1925 г. ў сяле 91, на хутары 12 двароў. У 1929 г. арганізаваны калгас «Чырвоны сцяг», працаваў вятрак. З 20.8.1924 г. цэнтр Меркулавіцкага с/с Гарадзецкага, з 4.8.1927 г. Рагачоўскага, з 5.4.1936 г. Чачэрскага, з 25.12.1962 г. Буда-Кашалёўскага, з 6.1.1965 г. зноў Чачэрскага р-наў Бабруйскай (да 26.7.1930) акругі, з 20.2.1938 г. Гомельскай вобл. У 1931 г. адкрыта хата-чытальня. У Вял. Айч. вайну ням. акупанты 13.8.1941 г. занялі вёску, стварылі тут свой апорны пункт, які партызаны неаднаразова грамілі. 91 вясковец загінуў на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 526 жыхароў. Цэнтр эксперыментальнай ба-

зы «Меркулавічы». Размешчаны цагельня, млын, лесапільня, швейная майстэрня, сярэдняя школа, Дом культуры, б-ка, дзіцячы сад, б-ца, амбулаторыя, аптэка, аддз. сувязі, сталовая, магазін. Вял. папулярнасцю ў раёне карыстаецца вясковы самадзейны ансамбль «Усмешка». Планіровачна складаецца з працяглай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ, уздоўж шашы, якую перакрыжоўвае вуліца з завулкамі. Забудова двухбаковая, у асноўным драўляная, сядзібнага тыпу. У 1989 г. пабудавана 100 мураваных, катэджнага тыпу дамоў, у якіх размясціліся перасяленцы з месц, забруджаных радыяцыяй пасля катастрофы на Чарнобыльскай АЭС (пераважна з в. Карпілавічы Нараўлянскага р-на).

У склад Меркулавіцкага с/с уваходзілі да 1962 г. пас. Леніна, да 1987 г. — пас. Шэрахаў (не існуюць).

**МІКОЛЬСК** — пасёлак у Роўкавіцкім с/с, за 20 км на З ад Чачэрска, 21 км ад чыг. ст. Буда-Кашалёўская (на лініі Гомель—Жлобін), 49 км ад Гомеля. На Пн меліярацыйны канал, злучаны з р. Чачора (прыток р. Сож), побач шаша Доўск—Гомель, на У мяжуе з лесам. 8 гаспадарак, 16 жыхароў (2004 г.).

Засн. ў пач. 1920-х гг. на былых памешчыцкіх землях перасяленцамі з суседніх вёсак. У 1926 г. 5 двароў, 31 жыхар, паштовы пункт, у Караблішчанскім с/с Чачэрскага р-на Гомельскай акругі. У 1931 г. арганізаваны калгас. 9 пасялкоўцаў загінулі на франтах Вял. Айч. вайны. Паводле перапісу 1959 г. 84 жыхары. У складзе падсобнай гаспадаркі раённага вытв. аб'яднання «Сельгасхімія» імя А.В.Суворава (цэнтр — в. Роўкавічы). Складаецца з кароткай мерыдыянальнай вуліцы, забудаванай драўлянымі сял. сядзібамі.

**МІХАЙЛАЎСКІ** — пасёлак у Ленінскім с/с, за 7 км на Пд ад Чачэрска, 42 км ад чыг. ст. Буда-Кашалёўская (на лініі Гомель—Жлобін), 66 км ад Гомеля, на р. Сож (прыток р. Дняпро). Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарогах, якія ідуць ад Чачэрска. 9 гаспадарак, 22 жыхары (2004 г.).

Засн. ў пач. 20 ст. перасяленцамі з суседніх вёсак. У 1926 г. 22 двары, 116 жыхароў, паштовае аддз. ў Бердыжскім с/с Чачэрскага р-на Гомельскай акругі. У 1931 г. арганізаваны калгас. У 1940 г. 22 двары, 89 жыхароў. У Вял. Айч. вайну ў жн.—вер. 1943 г. ням. акупанты спалілі 21 двор. Паводле перапісу 1959 г. 46 жыхароў. У складзе калгаса імя У.І.Леніна (цэнтр — пас. Вазнясенскі). Складаецца з кароткай прамалінейнай мерыдыянальнай вуліцы, забудаванай драўлянымі сял. сядзібамі.

**МЯДЗВЕЖЖА** — вёска ў Роўкавіцкім с/с, за 13 км на ПдЗ ад Чачэрска, 29 км ад чыг. ст. Буда-Кашалёўская (на лініі Гомель—Жлобін), 57 км ад Гомеля. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Наўхавічы—Роўкавічы. 10 гаспадарак, 18 жыхароў (2004 г.).

Засн. ў пач. 20 ст. перасяленцамі з суседніх вёсак. Найбольш актыўная забудова прыпадае на 1920-я гг. У 1926 г. 37 двароў, 172 жыхары, паштовы пункт, у Наўхавіцкім с/с Чачэрскага р-на Гомельскай акругі. У 1930 г. арганізаваны калгас. Паводле перапісу 1959 г. 180 жыхароў. У складзе калгаса імя С.М.Кірава (цэнтр — в. Крутое). Планіровачна складаецца з кароткай вуліцы, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ, да якой на Пн далучаецца завулак. Забудова драўляная, сядзібнага тыпу.

**НАЎХАВІЧЫ** — вёска ў Роўкавіцкім с/с, за 10 км на Пд ад Чачэрска, 34 км ад чыг. ст. Буда-Кашалёўская (на лініі Гомель—Жлобін), 62 км ад Гомеля, на У і Пн — меліярацыйныя каналы, злучаныя з р. Сож (прыток р. Дняпро). Аўтадарога злучае вёску з в. Роўкавічы. 1 гаспадарка, 2 жыхары (2004 г.).

Паводле пісьмовых крыніц вядома з 2-й пал. 18 ст. як сяленне ў Рэчыцкім пав. Мінскага ваяв. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) у складзе Рас. імперыі, у Дудзіцкай вол. Рагачоўскага пав.

Магілёўскай губ. Паводле рэвізіі 1816 г. 52 двары, 339 жыхароў. У 1880 г. 105 двароў, 589 жыхароў, хлебазапасны магазін, 2 ветракі, вадзяны млын. Паводле перапісу 1897 г. 154 двары, 1104 жыхары, 4 ветракі, карчма. У 1909 г. 183 двары, 1205 дзес. зямлі, школа. У 1918 г. ў вёсцы створаны баявы атрад, які вёў актыўныя дзеянні супраць польскіх легіянераў і герм. войск. З 8.12.1926 г. да 1931 г. цэнтр Наўхавіцкага с/с Чачэрскага р-на Гомельскай (да 26.7.1930) акругі, з 20.2. 1938 г. Гомельскай вобл. У 1929 г. дзейнічалі пач. школа, спажывецкая кааперацыя. У 1930 г. арганізаваны калгас. 49 вяскоўцаў загінулі на франтах Вял. Айч. вайны. Паводле перапісу 1959 г. 278 жыхароў. У складзе калгаса імя С.М.Кірава (цэнтр — в. Крутое). Планіровачна складаецца з паўвыгнутай мерыдыянальнай вуліцы, забудаванай двухбакова драўлянымі сял. сядзібамі.

**НІСІМКАВІЧЫ** — вёска, цэнтр Нісімкавіцкага с/с, за 22 км на ПнУ ад Чачэрска, 87 км ад Гомеля, 57 км ад чыг. ст. Буда-Кашалёўская (на лініі Гомель—Жлобін), на р. Покаць (прыток р. Сож), у якую на Пн упадае р. Хмялёўка, на У мяжуе з Чачэрскім біял. заказнікам. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Палессе—Чачэрск. 145 гаспадарак, 340 жыхароў (2004 г.).

Выяўленыя археолагамі гарадзішча 2 ст. да н.э. — 5 ст. н.э. (за 0,5 км на Пд ад вёскі), могільнік 13 ст. (16 насыпаў, побач з гарадзішчам) і могільнік 10—13 ст. (27 насыпаў, насупраць гарадзішча), селішча жал. веку і эпохі Кіеўскай Русі (за 0,5 км на Пн ад вёскі) сведчаць пра засяленне тутэйшых мясцін з глыбокай старажытнасці. Паводле пісьмовых крыніц вядома з 16 ст. як сяленне ў Рэчыцкім пав. Мінскага ваяв. ВКЛ. Пад 1525 г. пазначана ў матэрыялах аб адносінах паміж Масквой і ВКЛ. У 1572 г. с. Анісімкавічы значыцца ў перапісе ВКЛ і Маскоўскай дзяржавы аб уладкаванні пагранічных спрэчак. Паводле інвентару 1704 г. 7 дымоў, 2 службы, у 1726 г. колькасць дымоў павялічылася да 12, дзейнічалі млын, сукнавальня і крупарушка, у Залескім войтаўстве Чачэрскай вол. Паводле апісання Чачэрскага староства 1765 г. 25 дымоў, карчма, 2 млыны, 3 сукнавальні. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) у складзе Рас. імперыі. З 1832 г. працавала карчма. У 1824 г. збудавана драўляная Свята-Георгіеўская царква. У 1848 г. 50 двароў. Паводле рэвізскіх матэрыялаў 1859 г. ў складзе Чачэрскага маёнтка графа І.І.Чарнышова-Круглікава. У 1864 г. адкрыта нар. вучылішча (у 1889 — 30 вучняў). З 1866 г. дзейнічалі млын і сукнавальня. У 1881 г. 128 двароў. Апрача земляробства вяскоўцы займаліся вырабам бочачак розных памераў, якія карысталіся шырокім попытам, і іх узоры экспанаваліся ў Ма-





*Пацеркі і касцяныя «качачкі» з курганнага могільніка каля в. Нісімкавічы.*

гілёўскім губернскім музеі. Меўся хлебазапасны магазін.

Паводле перапісу 1897 г. 171 двор, 1171 жыхар, вадзяны млын, вятрак, кузня, у Покацкай вол. Гомельскага пав. Магілёўскай губ. У 1909 г. 185 двароў, 1325 жыхароў, 1706 дзес. зямлі, царква, касцёл, школа, вінная крама, млын. У 1926 г. 235 двароў, паштовы пункт. На аднайменных хутарах, што былі побач, 7 двароў. Меліся пач. школа, урачэбны ўчастак, аддз. спажывецкай кааперацыі. З 8.12.1926 г. цэнтр Нісімкавіцкага с/с Свяцілавіцкага, з 4.8.1927 г. Чачэрскага, з 25.12.1962 г. Буда-Кашалёўскага, з 6.1.1965 г. зноў Чачэрскага р-наў Гомельскай (да 26.7.1930) акругі, з 20.2.1938 г. Гомельскай вобл. У 1930 г. арганізаваны калгас «Чырвоная зорка», працавалі крэйдавапнавы з-д, смалакурня (з 1931), вадзяны і ветраны млыны, кузня. У 1932 г. адкрыта хата-чытальня. Дзейнічала Нісімкавіцкае лясніцтва. У Вял. Айч. вайну непадалёку базіраваліся Чачэрскі падп. райком КП(б)Б і 1-я Гомельская партыз. брыгада. У вер. 1943 г. акупанты спалілі вёску. 89 вяскоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 659 жыхароў. У 1979 г. ў вёску пераселены жыхары пас. Карма. Цэнтр саўгаса «Нісімкавічы». Размешчаны камбінат быт. абслугоўвання, лесапільня, лясніцтва, хлебапякарня, сярэдняя школа, Дом культуры, б-ка, дзіцячы сад, б-ца, аптэка, аддз. сувязі, сталовая, 2 магазіны. Шырока вядомы за межамі раёна Нісімкавіцкі фалькл. калектыў нар. песні. Планіровачна складаецца з 2 падзеленых ракой і злучаных мостам частак: усх. (да прамалінейнай вуліцы амаль мерыдыянальнай арыентацыі, уздоўж ракі, далучаецца з У завулак) і зах. (прамалінейная вуліца, арыентаваная з ПдУ на ПнЗ з завулкамі). Забудова двухбаковая, драўляная, сядзібнага тыпу. Радзіма П.А.Балыкова, аднаго з кіраўнікоў партыз. руху ў Гомельскай вобл. ў Вял. Айч. вайну, ганаровага грамадзяніна Чачэрска (яго імем названа адна з вуліц г. Чачэрск). Побач з вёскай, у даліне р. Покаць, знаходзіцца радовішча мелу (30 млн. т).

У склад Нісімкавіцкага с/с уваходзілі да 1979 г. пас. Карма, да 1987 г. — гар. пасёлкі Гудок, Мікольск, Ніўкі, Новы Мікольск, Ясная Рошча (не існуюць).

**НІЎКІ** — вёска ў Ленінскім с/с, за 9 км на ПдЗ ад Чачэрска, 30 км ад чыг. ст. Буда-Кашалёўская (на лініі Гомель—Жлобін), 65 км ад Гомеля, на Пд меліярацыйны канал, злучаны з р. Сож, побач аўтадарога Чачэрск—Буда-Кашалёва. 22 гаспадаркі, 32 жыхары (2004 г.).

Паводле пісьмовых крыніц вядома з 19 ст. як сяленне ў Чачэрскай вол. Рагачоўскага пав. Магілёўскай губ. У 1868 г. сяльцо, 1 двор, 7 жыхароў. У 1909 г. фальварак, 244 дзес. зямлі. У 1926 г. 6 двароў, 28 жыхароў, паштовы пункт, у





*Бронзавыя вітыя бранзалеты з завязанымі канцамі (злева), пазалочаныя шкляныя пацеркі з сердалікам з курганнага могільніка каля в. Нісімкавічы.*

Новамалыніцкім с/с Чачэрскага р-на Гомельскай акругі. У 1931 г. вяскоўцы ўступілі ў калгас, працавала кузня. З 1939 г. да 16.7.1954 г. цэнтр Новамалыніцкага с/с Чачэрскага р-на Гомельскай акругі, з 20.2.1938 г. Гомельскай вобл. 9 вяскоўцаў загінулі на франтах Вял. Айч. вайны. Паводле перапісу 1959 г. 130 жыхароў. У складзе калгаса імя У.І.Леніна (цэнтр — пас. Вазнясенскі). Размешчаны пач. школа, фельч.-акушэрскі пункт, аддз. сувязі. Планіровачна складаецца з кароткай шыротнай вуліцы, забудаванай двухбакова, рэдка драўлянымі сял. сядзібамі.

**НОВАЗАЛЕССЕ** — пасёлак у Нісімкавіцкім с/с, за 19 км на У ад Чачэрска, 56 км ад чыг. ст. Буда-Кашалёўская (на лініі Гомель—Жлобін), 84 км ад Гомеля, на Пн, у забалочаным месцы, пачынаецца р. Пагарычка (прыток р. Покаць). Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Свяцілавічы—Залессе. 12 гаспадарак, 22 жыхары (2004 г.).

Засн. ў пач. 1920-х гг. перасяленцамі з суседніх вёсак на былых памешчыцкіх землях. У 1931 г. арганізаваны калгас. 14 пасялкоўцаў загінулі на франтах Вял. Айч. вайны. Паводле перапісу 1959 г. 126 жыхароў. У складзе саўгаса «Нісімкавічы» (цэнтр — в. Нісімкавічы). Планіровачна складаецца з кароткай вуліцы амаль шыротнай арыентацыі. Драўляныя сял. сядзібы пастаўлены ўздоўж прасёлачнай дарогі.

**НОВАЗАРЭЧЧА** — вёска ў Ленінскім с/с, за 11 км на Пд ад Чачэрска, 35 км ад чыг. ст. Буда-Кашалёўская (на лініі Гомель—Жлобін), 63 км ад Гомеля, на У — меліярацыйны канал, злучаны з р. Сож. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Наўхавічы—Роўкавічы. У выніку катастрофы на Чарнобыльскай АЭС і радыяцыйнага забруджання жыхары (30 сямей) у 1992 г. пераселены ў чыстыя месцы.

Засн. ў пач. 20 ст. перасяленцамі з суседніх вёсак. У 1926 г. 29 двароў, 460 жыхароў, у Чачэрскім р-не Гомельскай акругі. З 8.12.1926 г. да 1931 г. цэнтр Новазарэцкага с/с Чачэрскага р-на Гомельскай (да 26.7.1930) акругі. У 1931 г. арганізаваны калгас. Паводле перапісу 1959 г. 179 жыхароў. Уваходзіла ў склад калгаса «XXIV партз'езд» (цэнтр — в. Сябровічы). Планіровачна складаецца з кароткай прамалінейнай мерыдыянальнай вуліцы, забудаванай двухбакова, няшчыльна драўлянымі сял. сядзібамі.

**НОВАЗАХАРПОЛЛЕ** — пасёлак у Чачэрскім с/с, за 1 км на ПнЗ ад Чачэрска, 38 км ад чыг. ст. Буда-Кашалёўская (на лініі Гомель—Жлобін), 66 км ад Гомеля, на аўтадарозе Карма—Чачэрск, на У і З — меліярацыйныя каналы, злучаныя з р. Чачора (прыток р. Сож). 84 гаспадаркі, 193 жыхары (2004 г.).

Засн. ў канцы 19 ст. перасяленцамі з в. Захарполле (цяпер у складзе г. Чачэрск). У 1926 г. 54 двары, 316 жыхароў, паштовы пункт, у Чачэрскім с/с Чачэрскага р-на Гомельскай акругі. У 1929 г. арганізаваны калгас. У 1940 г. 83 двары, 249 жыхароў. У Вял. Айч. вайну 3.10. 1943 г. ням. акупанты спалілі 15 двароў і загубілі 70 жыхароў. 25 пасялкоўцаў загінулі ў гады Вял. Айч. вайны. Паводле перапісу 1959 г. 431 жыхар. У складзе калгаса «Сцяг камунізму» (цэнтр — г. Чачэрск). Планіровачна складаецца з працяглай паўвыгнутай вуліцы, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ і забудаванай двухбакова, няшчыльна драўлянымі сял. сядзібамі.

**НОВАХАЛОЧЧА** — пасёлак у Роўкавіцкім с/с, за 14 км на ПдЗ ад Чачэрска, 17 км ад чыг. ст. Буда-Кашалёўская (на лініі Гомель—Жлобін), 40 км ад Гомеля. Транспартныя сувязі па прасёлачнай дарозе, потым па шашы Доўск—Гомель. У выніку катастрофы на Чарнобыльскай АЭС і радыяцыйнага забруджання жыхары (16 сямей) у 1992 г. пераселены ў чыстыя месцы.

Паводле пісьмовых крыніц вядомы з пач. 20 ст., калі тут былі фальварак Халочча і хутар. У 1926 г. 19 двароў, 110 жы-

хароў, паштовы пункт, у Халоцкім с/с Чачэрскага р-на Гомельскай акругі. У 1931 г. арганізаваны калгас. 7 пасялкоўцаў загінулі на франтах Вял. Айч. вайны. Паводле перапісу 1959 г. 80 жыхароў. Уваходзіў у склад калгаса імя А.А.Жданава (цэнтр — в. Халочча). Планіровачна складаецца з кароткай прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ і забудаванай двухбакова, няшчыльна драўлянымі сял. сядзібамі.

**НОВАЯ ВЁСКА** (да 1924 Пад'яўменне) — пасёлак у Палескім с/с, за 37 км на ПнУ ад Чачэрска, 72 км ад чыг. ст. Буда-Кашалёўская (на лініі Гомель—Жлобін), 101 км ад Гомеля, 1 км ад дзярж. мяжы з Расіяй, на р. Каўпіта (прыток р. Беседзь). Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Палессе—Чачэрск. 6 гаспадарак, 10 жыхароў (2004 г.).

Засн. ў пач. 1920-х гг. перасяленцамі з суседніх вёсак на былых памешчыцкіх землях. У 1926 г. 11 двароў, 68 жыхароў, паштовы пункт, у Палескім с/с Чачэрскага р-на Гомельскай акругі. У 1931 г. арганізаваны калгас. У 1940 г. 17 двароў, 68 жыхароў. У Вял. Айч. вайну ням. акупанты ў жн. 1942 г. спалілі пасёлак. 6 пасялкоўцаў загінулі на франтах Вял. Айч. вайны. Паводле перапісу 1959 г. 98 жыхароў. У складзе калгаса «Камунар» (цэнтр — в. Палессе). Планіровачна складаецца з кароткай, амаль шыротнай арыентацыі вуліцы, забудаванай драўлянымі сял. сядзібамі.

**НОВАЯ ЯЦКАЎШЧЫНА** — вёска ў Чачэрскім с/с, за 8 км на ПнЗ ад Чачэрска, 45 км ад чыг. ст. Буда-Кашалёўская (на лініі Гомель—Жлобін), 73 км ад Гомеля. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Чачэрск—Рыскова. 48 гаспадарак, 93 жыхары (2004 г.).

Засн. ў пач. 20 ст. перасяленцамі з в. Яцкаўшчына, якая стала называцца Старая Яцкаўшчына. У 1926 г. 33 двары, 196 жыхароў, паштовы пункт, у Яцкаўшчынскім с/с Чачэрскага р-на Гомельскай акругі. У 1929 г. арганізаваны калгас. 46 вяскоўцаў загінулі на франтах Вял. Айч. вайны. Паводле перапісу 1959 г. 314 жыхароў. У 1971 г. ў вёску пераселена частка жыхароў пас. Пціч (не існуе). У складзе калгаса «50 гадоў БССР» (цэнтр — в. Отар). Планіровачна складаецца з прамалінейнай, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ вуліцы. Забудова двухбаковая, драўляная, сядзібнага тыпу.

**НОВЫ ШЛЯХ** — пасёлак у Роўкавіцкім с/с, за 18 км на ПдЗ ад Чачэрска, 26 км ад чыг. ст. Буда-Кашалёўская (на лініі Гомель—Жлобін), 54 км ад Гомеля, на Пн — меліярацыйны канал, злучаны з р. Прудоўка (прыток р. Ліпа). Транспартныя сувязі па прасёлачнай дарозе і шашы Доўск—Гомель. У выніку катастрофы на Чарнобыльскай АЭС і радыяцыйнага забруджання жыхары (10 сямей) у 1992 г. пераселены ў чыстыя месцы.

Засн. ў пач. 1920-х гг. на былых памешчыцкіх землях перасяленцамі з суседніх вёсак. У 1926 г. 10 двароў, 56 жыхароў, паштовае аддз., у Дудзіцкім с/с Чачэрскага р-на Гомельскай акругі. У 1931 г. арганізаваны калгас. 4 пасялкоўцы загінулі на франтах Вял. Айч. вайны. Паводле перапісу 1959 г. 74 жыхары. Уваходзіў у склад калгаса імя А.А.Жданава (цэнтр — в. Халочча). Сял. драўляныя сядзібы пастаўлены ўздоўж вясковай дарогі, арыентаванай амаль шыротна.

**НОВЫЯ МАЛЫНІЧЫ** — вёска ў Ленінскім с/с, за 8 км на Пд ад Чачэрска, 40 км ад чыг. ст. Буда-Кашалёўская (на лініі Гомель—Жлобін), 68 км ад Гомеля, на Пн мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Чачэрск—Буда-Кашалёва. 24 гаспадаркі, 50 жыхароў (2004 г.).

Паводле пісьмовых крыніц вядома з 19 ст., калі перасяленцы з в. Малынічы засн. тут сяленне і назвалі яго Новыя Малынічы. У 1859 г. ва ўладанні памешчыцы В.Дабравольскай. Паводле перапісу 1897 г. 17 двароў, 135 жыхароў, у Чачэрскай вол. Гомельскага пав. Магілёў-

скай губ. У 1926 г. 42 двары, 170 жыхароў, хата-чытальня (з 1921), паштовы пункт. У ліку жыхароў 20 польскіх сямей. З 8.12.1926 г. да 1939 г. цэнтр Новамалыніцкага с/с Чачэрскага р-на Гомельскай (да 26.7.1930) акругі, з 20.2. 1938 г. Гомельскай вобл. У 1930 г. арганізаваны калгас, дзейнічала пач. школа. 20 вяскоўцаў загінулі на франтах Вял. Айч. вайны. Паводле перапісу 1959 г. 150 жыхароў. У складзе калгаса імя У.І.Леніна (цэнтр — пас. Вазнясенскі). Планіровачна складаецца з амаль прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ і забудаванай пераважна аднабакова, драўлянымі сял. сядзібамі.

**ОТАР** — вёска ў Чачэрскім с/с, за 5 км на Пн ад Чачэрска, 42 км ад чыг. ст. Буда-Кашалёўская (на лініі Гомель—Жлобін), 70 км ад Гомеля, на р. Сож (прыток р. Дняпро), побач аўтадарога Карма—Чачэрск. 137 гаспадарак, 382 жыхары (2004 г.).

Паводле пісьмовых крыніц вядома з 15 ст. як сяленне ў Рэчыцкім пав. Мінскага ваяв. ВКЛ. У 1473 г. аддадзена ў валоданне Ф.Глябовічу. Паводле інвентару 1704 г. 2, а ў 1726 г. — 7 дымоў, цэнтр Отарскага войтаўства Чачэрскага староства. Паводле вопісу Чачэрскага староства 1765 г. 21 дым. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) у складзе Рас. імперыі. З 1876 г. дзейнічала цагельня, з 1880 г. — хлебазапасны магазін. Апрача земляробства значную частку заняткаў вяскоўцаў займала рыбная лоўля. Паводле перапісу 1897 г. 49 двароў, 350 жыхароў, школа, млын, 2 ветракі. У 1909 г. 67 двароў, 419 жыхароў, 456 дзес. зямлі, у Чачэрскай вол. Рагачоўскага пав. Магілёўскай губ. З 1921 г. працавала хата-чытальня. У 1926 г. 92 двары, 484 жыхары, паштовы пункт, пач. школа. З 8.12.1926 г. да 16.7.1954 г. цэнтр Отарскага с/с Чачэрскага р-на Гомельскай (да 26.7.1930) акругі, з 20.2.1938 г. Гомельскай вобл. У 1930 г. арганізаваны калгас імя А.Р.Чарвякова, працаваў вятрак. У Вял. Айч. вайну на франтах і ў партыз. барацьбе загінулі 469 землякоў з вёсак калгаса «50 гадоў БССР», памяць аб якіх увекавечваюць курган і 2 стэлы з імёнамі загінуўшых, пастаўленыя ў 1975 г. за 1,5 км на З ад вёскі. Паводле перапісу 1959 г. 548 жыхароў. Цэнтр калгаса «50 гадоў БССР». Размешчаны 9-гадовая школа, Дом культуры, б-ка, фельч.-акушэрскі пункт, дзіцячы сад, аддз. сувязі, магазін. Планіровачна складаецца з амаль прамалінейнай вуліцы мерыдыянальнай арыентацыі, паралельна да якой праходзіць кароткая вуліца. Забудова двухбаковая, пераважна драўляная, сядзібнага тыпу. Радзіма майстра спорту па скачках з парашутам У.У.Паплаўскага.



*Помнік землякам, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у в. Отар.*

**ПАДАЗЕР'Е** — пасёлак у Роўкавіцкім с/с, за 13 км на ПдЗ ад Чачэрска, 24 км ад чыг. ст. Буда-Кашалёўская (на лініі Гомель—Жлобін), 52 км ад Гомеля, на р. Любіча (прыток р. Чачора). Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Чачэрск—Буда-Кашалёва. 13 гаспадарак, 25 жыхароў (2004 г.).

Засн. ў пач. 20 ст. перасяленцамі з суседніх вёсак. У 1926 г. 19 двароў, 104 жыхары, паштовы пункт, у Роўкавіцкім с/с Чачэрскага р-на Гомельскай акругі. У 1930 г. арганізаваны калгас. 6 пасялкоўцаў загінулі на франтах Вял. Айч. вайны. Паводле перапісу 1959 г. 77 жыхароў. У складзе падсобнай гаспадаркі раённага вытв. аб'яднання «Сельгасхімія» імя А.В.Суворава (цэнтр — в. Роўкаві-

чы). Да кароткай вуліцы, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ, далучаецца перпендыкулярна другая кароткая вуліца. Забудова няшчыльная, жылыя дамы драўляныя, сядзібнага тыпу.

**ПАДАСОЎЕ** — вёска ў Залескім с/с, за 11 км на ПдУ ад Чачэрска, 48 км ад чыг. ст. Буда-Кашалёўская (на лініі Гомель—Жлобін), 76 км ад Гомеля, на паўд. ускраіне — р. Покаць (прыток р. Сож), на З мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Свяцілавічы—Залессе. У выніку катастрофы на Чарнобыльскай АЭС і радыяцыйнага забруджання жыхары (29 сямей) у 1992 г. перасელены ў чыстыя месцы.

Паводле пісьмовых крыніц вядома з пач. 19 ст. як сяленне ў Покацкай вол. Беліцкага пав. Магілёўскай губ. Паводле рэвізіі 1816 г. 12 двароў, 38 жыхароў. Інвентар 1848 г. сведчыць, што вёска ўваходзіла ў склад памешчыцкага маёнтка. У 1868 г. 16 двароў, 134 жыхары. У 1881 г. 20 двароў. Паводле перапісу 1897 г. вёска (23 двары, 145 жыхароў, хлебазапасны магазін, кузня) і аколіца (23 двары, 153 жыхары). У 1926 г. 56 двароў, паштовы пункт, школа. З 8.12.1926 г. да 29.10.1934 г. цэнтр Падасоўскага с/с Свяцілавіцкага, з 4.8.1927 г. Чачэрскага р-наў Гомельскай (да 26.7.1930) акругі. У 1930 г. арганізаваны калгас. 27 вяскоўцаў загінулі на франтах Вял. Айч. вайны. Паводле перапісу 1959 г. 257 жыхароў. У складзе калгаса «Звязда» (цэнтр — в. Залессе). Планіровачна складаецца з кароткай вуліцы амаль мерыдыянальнай арыентацыі, да якой на Пд далучаецца завулак. Забудова двухбаковая, няшчыльная, жылыя дамы драўляныя, сядзібнага тыпу. Радзіма засл. настаўніка А.П.Гавароўскай.

**ПАДЛУЖЖА** — вёска ў Ленінскім с/с, за 10 км на Пд ад Чачэрска, 47 км ад чыг. ст. Буда-Кашалёўская (на лініі Гомель—Жлобін), 75 км ад Гомеля, на аўтадарозе Чачэрск—Сябровічы, на У — пойма і р. Сож (прыток р. Дняпро). Ніхто не жыве.

Выяўленыя археолагамі паселішча верхняга палеаліту (за 0,5 км на Пд ад вёскі, ва ўрочышчы Калодзежкі) і паселішча сярэдняга палеаліту (за 3,1 км на ПнЗ ад вёскі) сведчаць пра засяленне тутэйшых мясцін з глыбокай старажытнасці. Паводле пісьмовых крыніц вядома з пач. 20 ст. як сяленне ў Чачэрскай вол. Гомельскага пав. Магілёўскай губ. У 1926 г. 23 двары, 130 жыхароў, у Чачэрскім р-не Гомельскай акругі. У 1931 г. арганізаваны калгас. У 1940 г. 30 двароў, 181 жыхар. У Вял. Айч. вайну ў жн.—вер. 1943 г. ням. акупанты спалілі 26 двароў. 16 вяскоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 105 жыхароў. У 1999 г. 3 гаспадаркі, 6 жыхароў. У складзе калгаса імя У.І.Леніна (цэнтр — пас. Вазнясенскі). Драўляныя сял. сядзібы пастаўлены рэдка, побач з дарогай.

**ПАДЫГРУШКА** — пасёлак у Залескім с/с, за 12 км на У ад Чачэрска, 49 км ад чыг. ст. Буда-Кашалёўская (на лініі Гомель—Жлобін), 77 км ад Гомеля. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Палессе—Чачэрск. У выніку катастрофы на Чарнобыльскай АЭС і радыяцыйнага забруджання жыхары (34 сям'і) у 1992 г. перасელены ў чыстыя месцы.

Засн. ў пач. 1920-х гг. на былых памешчыцкіх землях перасяленцамі з суседніх вёсак. У 1930 г. арганізаваны калгас. У 1940 г. 30 двароў, 90 жыхароў. У Вял. Айч. вайну 4.11.1942 г. ням. акупанты спалілі пасёлак. 13 пасялкоўцаў загінулі ў гады Вял. Айч. вайны. Паводле перапісу 1959 г. 126 жыхароў. Уваходзіў у склад саўгаса «Бяляеўскі» (цэнтр — в. Бяляеўка). Планіровачна складаецца з кароткай шыротнай вуліцы, забудаванай двухбакова драўлянымі сял. сядзібамі.

**ПАКРОЎСКІ** — пасёлак у Чачэрскім с/с, за 4 км на ПнЗ ад Чачэрска, 41 км ад чыг. ст. Буда-Кашалёўская (на лініі Гомель—Жлобін), 69 км ад Гомеля. На З — меліярацыйны канал, злучаны з р. Ча-

чора (прыток р. Сож), побач аўтадарога Чачэрск—Рыскова. 17 гаспадарак, 51 жыхар (2004 г.).

Засн. ў пач. 1920-х гг. перасяленцамі з суседніх вёсак на былых памешчыцкіх землях. У 1930 г. арганізаваны калгас. 15 пасялкоўцаў загінулі на франтах Вял. Айч. вайны. Паводле перапісу 1959 г. 140 жыхароў. У складзе калгаса «Сцяг камунізму» (цэнтр — г. Чачэрск). Планіроўка складаецца з кароткай прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ і забудаванай двухбакова драўлянымі сял. сядзібамі.

**ПАЛАМ** — пасёлак у Палескім с/с, за 34 км на ПнУ ад Чачэрска, 71 км ад чыг. ст. Буда-Кашалёўская (на лініі Гомель—Жлобін), 99 км ад Гомеля, 1 км ад дзярж. мяжы з Рас. Федэрацыяй, на паўн. ускраіне — меліярацыйны канал, злучаны з р. Каўпіта (прыток р. Беседзь), на З мяжуе з Чачэрскім біял. заказнікам. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Палессе—Чачэрск. У выніку катастрофы на Чарнобыльскай АЭС і радыяцыйнага забруджання жыхары (2 сям'і) пераселены ў чыстыя месцы.

Засн. ў пач. 20 ст. перасяленцамі з суседніх вёсак. У 1926 г. 31 двор, 190 жыхароў, паштовы пункт, у Палескім с/с Чачэрскага р-на Гомельскай акругі. У 1931 г. арганізаваны калгас. 16 пасялкоўцаў загінулі на франтах Вял. Айч. вайны. Паводле перапісу 1959 г. 153 жыхары. Уваходзіў у склад калгаса «Камунар» (цэнтр — в. Палессе). Драўляныя сял. сядзібы пастаўлены каля прасёлачнай дарогі.

**ПАЛЕССЕ** — вёска, цэнтр Палескага с/с, за 35 км на ПнУ ад Чачэрска, 72 км ад чыг. ст. Буда-Кашалёўская (на лініі Гомель—Жлобін), 100 км ад Гомеля, на р. Каўпіта (прыток р. Беседзь) і аўтадарозе Палессе—Чачэрск, на З — меліярацыйныя каналы, злучаныя з р. Покаць (прыток р. Сож), і мяжуе з Чачэрскім біял. заказнікам. 194 гаспадаркі, 504 жыхары (2004 г.).

Паводле пісьмовых крыніц вядома з 16 ст. як сяленне ў Рэчыцкім пав. Мінскага ваяв. ВКЛ. Паводле інвентару 1704 г. 9 дымоў, цэнтр войтаўства ў Чачэрскім старостве. Паводле апісання Чачэрскага староства 1765 г. 21 дым, карчма, 2 млыны, сукнавальня, у валоданні памешчыкаў Маліноўскага і Быкоўскага. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) у складзе Рас. імперыі. З 1817 г. дзейнічала Мікалаеўская драўляная царква, з 1832 г. — карчма. У 1848 г. 37 двароў. Паводле рэвізскіх матэрыялаў 1859 г. ў складзе Чачэрскага маёнтка графа І.І.Чарнышова-Круглікава. У 1864 г. адкрыта нар. вучылішча (у 1889 — 41 вучань). У 1886 г. 86 двароў, 503 жыхары, 3 ветракі. Цэнтр воласці (да 9.5.1923), у склад якой у 1890 г. ўваходзілі 17 сяленняў з агульнай колькасцю 998 двароў. Паводле перапісу 1897 г. 116 двароў, 923 жыхары, хлебазапасны магазін, прыёмны пакой, маслабойня, 4 ветракі, крама, заезны двор, у Гомельскім пав. Магілёўскай губ. У 1909 г. 152 двары, 1169 дзес. зямлі. У склад Палескай вол. ў 1921 г. ўваходзілі 12 сельсаветаў (9812 жыхароў). З 8.12.1926 г. ў складзе БССР, цэнтр Палескага с/с Чачэрскага, з 25.12. 1962 г. Буда-Кашалёўскага, з 6.1.1965 г. Чачэрскага р-наў Гомельскай (да 26.7. 1930) акругі, з 20.2.1938 г. Гомельскай вобл. У 1929 г. арганізаваны калгас «Камунар», працавалі пач. школа, хата-чытальня, фельч.-акушэрскі пункт, паравы і ветраны млыны, тэлефонная сувязь. Дзейнічала Палескае лясніцтва. У Вял. Айч. вайну ням. карнікі ў крас. 1942 г. спалілі 135 двароў, загубілі 11 жыхароў. Партызаны разграмілі створаны акупантамі апорны пункт. На франтах і ў партыз. барацьбе загінулі 178 землякоў — жыхароў Палескага с/с, памяць аб якіх ушаноўвае абеліск, пастаўлены ў цэнтры вёскі. Паводле перапісу 1959 г. 670 жыхароў. У 1962 г. да вёскі далучаны пас. Пралетарскі. Цэнтр калгаса «Камунар». Размешчаны сярэдняя школа, Дом культуры, б-ка, амбулаторыя, аптэка, школа-

сад, швейная майстэрня, аддз. сувязі, 3 магазіны. Планіровачна складаецца з 2 паралельных паміж сабой вуліц, злучаных завулкамі і арыентаваных з ПдЗ на ПнУ. Забудова двухбаковая, пераважна драўляная, сядзібнага тыпу. Радзіма засл. дзеяча навукі, лаўрэата Дзярж. прэміі Украіны, доктара тэхн. навук, праф. Л.А.Сасноўскага і засл. настаўніцы Беларусі Г.В.Пуплікавай.

У склад Палескага с/с уваходзілі да 1962 г. пас. Пралетарскі, да 1987 г. — пасёлкі Гута і Новая Ніва (не існуюць).

**ПАСКУБАЎКА** — пасёлак у Роўкавіцкім с/с, за 22 км на ПдЗ ад Чачэрска, 22 км ад чыг. ст. Буда-Кашалёўская (на лініі Гомель—Жлобін), 38 км ад Гомеля, на У, Пд і З — меліярацыйны канал, злучаны з р. Прудоўка (прыток р. Ліпа). Транспартныя сувязі па прасёлачнай дарозе, потым па шашы Доўск—Гомель. У выніку катастрофы на Чарнобыльскай АЭС і радыяцыйнага забруджання жыхары (10 сямей) у 1992 г. пераселены ў чыстыя месцы.

Засн. ў пач. 20 ст. перасяленцамі з суседніх вёсак. У 1926 г. 11 двароў, 56 жыхароў, паштовае аддз., у Дудзіцкім с/с Чачэрскага р-на Гомельскай акругі. У 1932 г. арганізаваны калгас. 6 пасялкоўцаў загінулі на франтах Вял. Айч. вайны. Паводле перапісу 1959 г. 74 жыхары. Уваходзіў у склад калгаса імя А.А. Жданава (цэнтр — в. Халочча). Планіровачна складаецца з кароткай прамалінейнай шыротнай вуліцы, забудаванай двухбакова, няшчыльна драўлянымі сял. сядзібамі.

**ПЕРАДАВІК** — пасёлак у Палескім с/с, за 24 км на ПнУ ад Чачэрска, 61 км ад чыг. ст. Буда-Кашалёўская (на лініі Гомель—Жлобін), 89 км ад Гомеля. На З — р. Покаць (прыток р. Сож), на У мяжуе з лесам, побач аўтадарога Палессе—Чачэрск. 9 гаспадарак, 15 жыхароў (2004 г.).

Засн. ў пач. 1920-х гг. перасяленцамі з суседніх вёсак на былых памешчыцкіх землях. У 1931 г. арганізаваны калгас. 10 пасялкоўцаў загінулі на франтах Вял. Айч. вайны. Паводле перапісу 1959 г. 130 жыхароў. У складзе саўгаса «Сож» (цэнтр — в. Сідаравічы). Складаецца з невял. Т-падобнай, драўлянай, сядзібнага тыпу забудовы.

**ПЕРШАМАЙСКІ** — пасёлак у Меркулавіцкім с/с, за 22 км на ПнЗ ад Чачэрска, 44 км ад чыг. ст. Буда-Кашалёўская (на лініі Гомель—Жлобін), 73 км ад Гомеля, на У меліярацыйны канал, злучаны з р. Чачора (прыток р. Сож). Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Чачэрск—Рыскова. 12 гаспадарак, 15 жыхароў (2004 г.).

Засн. ў пач. 1920-х гг. перасяленцамі з суседніх вёсак на былых памешчыцкіх землях. У 1931 г. арганізаваны калгас. Паводле перапісу 1959 г. 87 жыхароў. У складзе саўгаса «Бацвінава» (цэнтр — в. Бацвінава). Драўляныя сял. сядзібы пастаўлены ўздоўж кароткай шыротнай вуліцы.

**ПЕХЦЕРАВА** — пасёлак у Залескім с/с, за 12 км на У ад Чачэрска, 49 км ад чыг. ст. Буда-Кашалёўская (на лініі Гомель—Жлобін), 77 км ад Гомеля, на У пачынаецца і праз пасёлак цячэ р. Молінка (прыток р. Покаць), на Пн мяжуе з Чачэрскім біял. заказнікам, побач аўтадарога Палессе—Чачэрск. 16 гаспадарак, 28 жыхароў (2004 г.).

Засн. ў пач. 20 ст. перасяленцамі з суседніх вёсак. У 1930 г. арганізаваны калгас. У Вял. Айч. вайну ням. акупанты вывезлі ў Германію 6 жыхароў. 11 пасялкоўцаў загінулі ў гады Вял. Айч. вайны. Паводле перапісу 1959 г. 119 жыхароў. У складзе саўгаса «Бяляеўскі» (цэнтр — в. Бяляеўка). Планіровачна складаецца з кароткай, крыху скрыўленай мерыдыянальнай вуліцы, забудаванай двухбакова, рэдка драўлянымі сял. сядзібамі.

**ПОКАЦЬ** — вёска ў Залескім с/с, за 12 км на ПдУ ад Чачэрска, 49 км ад чыг. ст. Буда-Кашалёўская (на лініі Гомель—Жлобін), 77 км ад Гомеля, на р. Покаць (прыток р. Сож) і аўтадарозе Свяцілавічы—Залессе. 86 гаспадарак, 177 жыхароў (2004 г.).

Засн. на нанава распрацаваных землях у пач. 18 ст., у Рэчыцкім пав. Мінскага ваяв. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) у складзе Рас. імперыі. Пад 1838 г. пазначана ў дакументах Рас. ваен. ведамства як сяленне ў Рагачоўскім пав. Магілёўскай губ. У 1848 г. 59 двароў, капліца. Паводле рэвізскіх матэрыялаў 1859 г. ў валоданні графа І.І.Чарнышова-Круглікава. У 1880 г. 141 двор, хлебазапасны магазін. Праз вёску праходзіла паштовая дарога з Неглюбкі ў Рагачоў. У 1877 г. адкрыта нар. вучылішча, у якім у 1889 г. навучаліся 29 хлопчыкаў і дзяўчынка. Цэнтр воласці (да 9.5.1923), у склад якой у 1890 г. ўваходзілі 32 сяленні з агульнай колькасцю 1700 двароў. У 1886 г. 135 двароў, 716 жыхароў, капліца, вятрак. Паводле перапісу 1897 г. 190 двароў, 1274 жыхары, хлебазапасны магазін, 3 ветракі, кузня, заезны двор. У 1909 г. 216 двароў, 1511 жыхароў, 1836 дзес. зямлі, стараверская царква, школа, лячэбны пакой, млын, у Гомельскім пав. Магілёўскай губ. У 1921 г. ў Покацкую вол. уваходзілі 18 сельсаветаў (16 510 жыхароў). У 1926 г. 218 двароў, 1081 жыхар, паштовы пункт, пач. школа. З 8.12.1926 г. да 23.1.1961 г. цэнтр Покацкага с/с Свяцілавіцкага, з 4.8.1927 г. Чачэрскага, з 12.2.1935 г. Свяцілавіцкага, з 17.12.1986 г. Чачэрскага р-наў Гомельскай (да 26.7.1930) акругі, з 20.2. 1938 г. Гомельскай вобл. У 1929 г. 1132 жыхары, аддз. спажывецкай кааперацыі. У 1930 г. арганізаваны калгас «Чырвоная Беларусь», працавалі вадзяны млын, хата-чытальня. У 1940 г. 320 двароў, 1280 жыхароў. У Вял. Айч. вайну 21.7.1942 г. партызаны вялі каля вёскі бой з акупантамі і нанеслі ім цяжкія страты, а ў верасні разграмілі створаны ў вёсцы варожы гарнізон. У жн.—вер. 1941 г. і вер. 1943 г. ням. акупанты спалілі 250 двароў, загубілі 29 жыхароў. У баях каля вёскі загінулі 7 воінаў і партызан (пахаваны ў брацкай магіле ў цэнтры). 126 вяскоўцаў загінулі ў гады Вял. Айч. вайны. Паводле перапісу 1959 г. 894 жыхары. З 1960 г. дзейнічае Покацкае лясніцтва. У складзе калгаса «Звязда» (цэнтр — в. Залессе). Размешчаны аддз. сувязі, клуб. Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ, уздоўж аўтадарогі, да якой з Пн далучаюцца 3 завулкі і з Пд кароткая вуліца. Забудова няшчыльная, пераважна драўляная, сядзібнага тыпу, двухбаковая. Радзіма Героя Сав. Саюза М.С.Байкова.

**ПРАГРЭС** — вёска ў Меркулавіцкім с/с, за 25 км на ПнЗ ад Чачэрска, 62 км ад чыг. ст. Буда-Кашалёўская (на лініі Гомель—Жлобін), 90 км ад Гомеля, на шашы Доўск—Гомель, на ПдУ меліярацыйны канал, злучаны з р. Чачора (прыток р. Сож). 29 гаспадарак, 51 жыхар (2004 г.).



*М.С.Байкоў.*

Засн. ў пач. 1920-х гг. перасяленцамі з суседніх вёсак на былых памешчыцкіх землях. У 1930 г. арганізаваны калгас. 18 вяскоўцаў загінулі на франтах Вял. Айч. вайны. У складзе эксперыментальнай базы «Меркулавічы» (цэнтр — в. Меркулавічы). Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ (абапал шашы) і забудаванай двухбакова, рэдка драўлянымі сял. сядзібамі.

**ПРЫЧАЛЕСНЯ** — вёска ў Меркулавіцкім с/с, за 14 км на ПнЗ ад Чачэрска, 40 км ад чыг. ст. Буда-Кашалёўская (на лініі Гомель—Жлобін), 68 км ад Гомеля, на У, Пн і З — меліярацыйныя каналы, злучаныя з р. Чачора (прыток р. Сож). Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым па шашы Доўск—Гомель. 81 гаспадарка, 102 жыхары (2004 г.).

Паводле пісьмовых крыніц вядома з 19 ст. як сяленне ў Журавіцкай вол. Рагачоўскага пав. Магілёўскай губ. Паводле рэвізіі 1858 г. в. Прычалесніца, 24 двары. У 1871 г. вяскоўцы захапілі ўчастак памешчыцкага лесу, аб чым граф І.І.Чарнышоў-Круглікаў паведамляў міністру ўнутр. спраў. У 1880 г. 45 двароў, 260 жыхароў, хлебазапасны магазін. Паводле перапісу 1897 г. 57 двароў, 444 жыхары, хлебазапасны магазін, вінная крама. У

1909 г. 103 двары, 644 жыхары, 481 дзес. зямлі, млын. У 1930 г. арганізаваны калгас імя С.М.Будзённага, працавалі вятрак, паравы млын і кузня. У 1940 г. 109 двароў. У Вял. Айч. вайну 24.11.1943 г. ням. акупанты спалілі вёску і загубілі 54 жыхароў. 40 вяскоўцаў загінулі на франтах Вял. Айч. вайны. Паводле перапісу 1959 г. 314 жыхароў. У 1962 г. да вёскі далучаны пас. Леніна. У складзе саўгаса «Бацвінава» (цэнтр — в. Бацвінава). Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ, уздоўж канала, і забудаванай двухбакова драўлянымі сял. сядзібамі.

**РЖАВЕЦ** — пасёлак у Роўкавіцкім с/с, за 6 км на З ад Чачэрска, 44 км ад чыг. ст. Буда-Кашалёўская (на лініі Гомель—Жлобін), 72 км ад Гомеля. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Чачэрск—Буда-Кашалёва. 9 гаспадарак, 12 жыхароў (2004 г.).

Засн. ў пач. 1920-х гг. перасяленцамі з суседніх вёсак на былых памешчыцкіх землях. У 1926 г. 6 двароў, 35 жыхароў, паштовы пункт, у Матнявіцкім с/с Чачэрскага р-на Гомельскай акругі. У 1931 г. арганізаваны калгас. 5 пасялкоўцаў загінулі на франтах Вял. Айч. вайны. Паводле перапісу 1959 г. 107 жыхароў. У складзе калгаса «Юбілейны» (цэнтр — в. Матнявічы). Складаецца з кароткай прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ. Забудова рэдкая, двухбаковая, драўляная, сядзібнага тыпу.

**РОЎКАВІЧЫ** — вёска, цэнтр Роўкавіцкага с/с, за 13 км на ПдЗ ад Чачэрска, 23 км ад чыг. ст. Буда-Кашалёўская (на лініі Гомель—Жлобін), 52 км ад Гомеля, на р. Любіча (прыток р. Чачора), побач аўтадарога Чачэрск—Буда-Кашалёва. 131 гаспадарка, 347 жыхароў (2004 г.).

Выяўлены археолагамі курганны могільнік (30 насыпаў, за 1 км на Пн ад вёскі, ва ўрочышчы Курганне) сведчыць пра засяленне тутэйшых мясцін з далёкай старажытнасці. Паводле пісьмовых крыніц вядома з пач. 19 ст. як сяленне ў Чачэрскай вол. Рагачоўскага пав. Магілёўскай губ. Паводле рэвізіі 1816 г. 36 двароў, 231 жыхар. Дваранін Дзерналовіч валодаў тут у 1839 г. маёнткам (1686 дзес. зямлі, вятрак, карчма). Паводле рэвізскіх матэрыялаў 1859 г. ўладанне памешчыкаў Сцяпанавых. З 1880 г. дзейнічалі вінакурны з-д № 98 (9 рабочых) і хлебазапасны магазін. У 1886 г. 69 двароў, 401 жыхар, Свята-Троіцкая царква (драўляная), вятрак. Паводле перапісу 1897 г. 113 двароў, 724 жыхары, царк.-прыходская школа, 2 ветракі, піцейны дом. У аднайменным фальварку 4 двары, 25 жыхароў. У 1909 г. дзейнічалі вінная крама, млын. У студз. 1918 г. ў вёсцы сфарміраваны баявы атрад па барацьбе супраць легіянераў Доўбар-Мусніцкага і ў хуткім часе тут адбыўся з'езд партызан Чачэрскай вол., на якім была ўдакладнена праграма дзейнасці і створаны аб'яднаны партыз. штаб, які падтрымліваў сувязь са штабам Чырв. Арміі. У 1926 г. 151 двор, 730 жыхароў, хата-чытальня (з 1921), паштовы пункт, школа. З 8.12.1926 г. цэнтр Роўкавіцкага с/с Чачэрскага, з 25.12.1962 г. Буда-Кашалёўскага, з 6.1.1965 г. Чачэрскага р-наў Гомельскай (да 26.7.1930) акругі, з 20.2.1938 г. Гомельскай вобл. У 1929 г. арганізаваны калгас «Воля», працавалі смалакурня, 3 ветракі, кузня, паравы млын, ваўначоска, сукнавальня. 73 вяскоўцы загінулі на франтах Вял. Айч. вайны. Паводле перапісу 1959 г. 427 жыхароў. З 1960 г. дзейнічае Роўкавіцкае лясніцтва. У 1962 г. да вёскі далучаны пас. Малы Лес. Ураджэнка Роўкавіч К.В. Казлоўская ў лют. 1998 г. адзначыла свой 106-гадовы юбілей. Цэнтр падсобнай гаспадаркі раённага вытв. аб'яднання «Сельгасхімія» імя А.В.Суворава. Размешчаны дзіцячы сад, камбінат быт. абслугоўвання, сярэдняя школа, Дом культуры, б-ка, амбулаторыя, вет. ўчастак, аддз. сувязі, сталовая, магазін. Планіровачна складаецца з дугападобнай вуліцы, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ, паралельна да цэнтра якой праходзіць кароткая вуліца. На Пн да асн. вуліцы

падыходзіць другая кароткая вуліца. Забудова пераважна драўляная, двухбаковая, сядзібнага тыпу. Радзіма ўдзельніка рэв. руху і грамадз. вайны ў Беларусі І.М.Якубава (яго імя носіць адна з вуліц Гомеля) і засл. настаўніка Беларусі Г.І.Герасімава.

У склад Роўкавіцкага с/с уваходзілі да 1962 г. пас. Малы Лес, да 1999 г. — гар. пасёлкі Зялёны Мох, Макееўка, Пралетарскі, Ракаў Лог (не існуюць).

**РУДНЯ-БАРТАЛАМЕЕЎСКАЯ** (Бутрамееўская Рудня) — вёска ў Палескім с/с, за 27 км на ПнУ ад Чачэрска, 62 км ад чыг. ст. Буда-Кашалёўская (на лініі Гомель—Жлобін), 92 км ад Гомеля, на р. Покаць (прыток р. Сож), на Пн мяжуе з Чачэрскім біял. заказнікам, на Пд меліярацыйны канал. Аўтадарога злучае вёску з Чачэрскам. 52 гаспадаркі, 94 жыхары (2004 г.).

Паводле пісьмовых крыніц вядома з 19 ст. як сяленне ў Палескай вол. Гомельскага пав. Магілёўскай губ. У 1881 г. 50 двароў, 287 жыхароў, хлебазапасны магазін. У 1885 г. пачалі дзейнічаць млын і сукнавальня. Паводле перапісу 1897 г. 68 двароў, 493 жыхары, школа граматы, хлебазапасны магазін, 2 ветракі, вадзяны млын, сукнавальня, маслабойня. У 1909 г. 71 двор, 557 жыхароў, 646 дзес. зямлі, касцёл і млын. У 1926 г. 126 двароў, 676 жыхароў, паштовы пункт, школа. З 8.12.1926 г. да 11.6.1980 г. цэнтр Рудня-Барталамееўскага с/с Чачэрскага, з 25.12.1962 г. Буда-Кашалёўскага, з 6.1.1965 г. Чачэрскага р-наў Гомельскай (да 26.7.1930) акругі, з 20.2. 1938 г. Гомельскай вобл. У 1930 г. арганізаваны калгас «Хваля рэвалюцыі», працаваў вятрак. У Вял. Айч. вайну ням. акупанты стварылі ў вёсцы свой апорны пункт, які партызаны разграмілі. Карнікі загубілі 95 жыхароў. 85 вяскоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 609 жыхароў. З 1960 г. дзейнічае Рудня-Барталамееўскае лясніцтва. У складзе саўгаса «Сож» (цэнтр — в. Сідаравічы). Размешчаны лясніцтва, лесапільня, швейная майстэрня, 8-гадовая школа, клуб, б-ка, фельч.-акушэрскі пункт, аддз. сувязі, 2 магазіны, сталовая. Планіровачна складаецца з 2 падзеленых ракой частак: паўн. (да невял. дугападобнай, амаль шыротнай вуліцы далучаюцца 2 кароткія прамалінейныя вуліцы) і паўд. (да прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ, далучаюцца з Пд 2 кароткія вуліцы). Забудова двухбаковая, пераважна драўляная, няшчыльная, сядзібнага тыпу. Радзіма засл. работніка сельскай гаспадаркі І.С.Ключынскага.



*Дзяўчына ў саяне, в. Рудня-Барталамееўская.*

**РУДНЯ-ДУДЗІЦКАЯ** — вёска ў Роўкавіцкім с/с, за 19 км на ПнЗ ад Чачэрска, 25 км ад чыг. ст. Буда-Кашалёўская (на лініі Гомель—Жлобін), 50 км ад Гомеля. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым па шашы Доўск—Гомель. 3 гаспадаркі, 4 жыхары (2004 г.).

Паводле пісьмовых крыніц вядома з 19 ст. як сяленне ў Дудзіцкай вол. Рагачоўскага пав. Магілёўскай губ. Паводле перапісу 1897 г. в. Дудзіцкая Рудня (яна ж Рудня), 34 двары, 256 жыхароў, хлебазапасны магазін, вятрак. У 1926 г. 62 двары, 346 жыхароў, паштовае аддз., у Дудзіцкім с/с Чачэрскага р-на Гомельс-

кай акругі. 50% жыхароў складалі польскія сем'і. У 1930 г. арганізаваны калгас. 29 вяскоўцаў загінулі на франтах Вял. Айч. вайны. Паводле перапісу 1959 г. 296 жыхароў. У складзе вытв. фірмы «Адраджэнне» (цэнтр — в. Халочча). Драўляныя сял. сядзібы пастаўлены ўздоўж прасёлачнай дарогі.

**РУДНЯ-НІСІМКАВІЦКАЯ** — вёска ў Нісімкавіцкім с/с, за 18 км на У ад Чачэрска, 55 км ад чыг. ст. Буда-Кашалёўская (на лініі Гомель—Жлобін), 83 км ад Гомеля, на р. Покаць (прыток р. Сож), на У мяжуе з Чачэрскім біял. заказнікам. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Свяцілавічы—Залессе. 43 гаспадаркі, 59 жыхароў (2004 г.).

Паводле пісьмовых крыніц вядома з 19 ст. як сяленне ў Покацкай вол. Гомельскага пав. Магілёўскай губ. Паводле рэвізскіх матэрыялаў 1859 г. ў складзе Чачэрскага маёнтка графа І.І.Чарнышова-Круглікава. У 1871 г. вяскоўцы захапілі 150 дзес. памешчыцкага лесу, аб чым граф І.І.Чарнышоў-Круглікаў паведамляў міністру ўнутр. спраў. У 1881 г. 76 двароў, хлебазапасны магазін. Паводле перапісу 1897 г. 108 двароў, 804 жыхары, капліца, хлебазапасны магазін, 2 ветракі, кузня. У 1909 г. 117 двароў, 830 жыхароў, 1371 дзес. зямлі. У 1926 г. 152 двары, 856 жыхароў, паштовы пункт, пач. школа. 78% жыхароў складалі польскія сем'і. З 8.12.1926 г. да 29.10. 1934 г. цэнтр Нісімкавіцкаруднянскага с/с Свяцілавіцкага, з 4.8.1927 г. Чачэрскага р-наў Гомельскай (да 26.7.1930) акругі. У 1930 г. арганізаваны калгас «Чырвоны сцяг», працавалі вятрак, кузня і ваўначоска. 59 вяскоўцаў загінулі на франтах Вял. Айч. вайны. Паводле перапісу 1959 г. 393 жыхары. У складзе саўгаса «Нісімкавічы» (цэнтр — в. Нісімкавічы). Планіровачна складаецца з 2 падзеленых ракой і аб'яднаных мостам частак: усх. (кароткая мерыдыянальная вуліца) і зах. (да вуліцы амаль мерыдыянальнай арыентацыі далучаецца на Пд кароткая вуліца, арыентаваная з ПдЗ на ПнУ). Забудова двухбаковая, драўляная, сядзібнага тыпу.

**РЭПІШЧА** — пасёлак у Роўкавіцкім с/с, за 10 км на З ад Чачэрска, 47 км ад чыг. ст. Буда-Кашалёўская (на лініі Гомель—Жлобін), 75 км ад Гомеля, на паўд. ускраіне — невял. вадасховішча. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Чачэрск—Буда-Кашалёва. 19 гаспадарак, 51 жыхар (2004 г.).

Засн. ў пач. 20 ст. перасяленцамі з суседніх вёсак. У 1926 г. 19 двароў, 85 жыхароў, у Матнявіцкім с/с Чачэрскага р-на Гомельскай акругі. У 1930 г. арганізаваны калгас. У 1940 г. 28 двароў, 144 жыхары. У Вял. Айч. вайну 14.10. 1943 г. ням. акупанты спалілі пасёлак і загубілі 37 жыхароў. Паводле перапісу 1959 г. 139 жыхароў. У складзе калгаса «Юбілейны» (цэнтр — в. Матнявічы). Планіровачна складаецца з кароткай прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ і забудаванай драўлянымі сял. сядзібамі.

**САЛТАНАЎКА** — вёска ў Залескім с/с, за 14 км на ПнУ ад Чачэрска, 51 км ад чыг. ст. Буда-Кашалёўская (на лініі Гомель—Жлобін), 79 км ад Гомеля, на р. Дзявіца (прыток р. Сож), на тэр. Чачэрскага біял. заказніка. Транспартня сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Палессе—Чачэрск. У выніку катастрофы на Чарнобыльскай АЭС і радыяцыйнага забруджання жыхары (48 сямей) у 1992 г. пераселены ў чыстыя месцы.

Паводле пісьмовых крыніц вядома з пач. 19 ст. як сяленне ў Палескай вол. Беліцкага пав. Магілёўскай губ. У 1816 г. 23 двары. У 1881 г. 31 двор, 183 жыхары, хлебазапасны магазін. Паводле перапісу 1897 г. 45 двароў, 333 жыхары, хлебазапасны магазін, вятрак. У 1907 г. ў вясковай школе 35 вучняў. У 1909 г. 51 двор, 426 жыхароў, 392 дзес. зямлі. Побач быў аднайменны фальварак. У 1926 г. 57 двароў, паштовы пункт, школа. З 8.12.1926 г. да 30.12.1927 г. цэнтр Салтанаўскага, у 1931—39 гг. Закрыніцкага сельсаветаў Чачэрскага р-на Гомельскай (да 26.7.

1930) акрузі, з 20.2.1938 г. Гомельскай вобл. У 1930 г. арганізаваны калгас «Юны ленінец», працавалі кузня і ваўначоска». 69 вяскоўцаў загінулі на франтах Вял. Айч. вайны. Паводле перапісу 1959 г. 379 жыхароў. Уваходзіла ў склад саўгаса «Бяляеўскі» (цэнтр — в. Бяляеўка). Планіровачна складаецца з крывалінейнай мерыдыянальнай вуліцы, забудаванай двухбакова драўлянымі сял. сядзібамі. Радзіма Героя Сав. Саюза Ц.П.Новікава.

**САМСОНАЎКА** — вёска ў Роўкавіцкім с/с, за 16 км на ПдЗ ад Чачэрска, 19 км ад чыг. ст. Буда-Кашалёўская (на лініі Гомель—Жлобін), 42 км ад Гомеля, на У невял. вадаём. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Чачэрск—Буда-Кашалёва. У выніку катастрофы на Чарнобыльскай АЭС і радыяцыйнага забруджання жыхары (25 сямей) у 1992 г. пераселены ў чыстыя месцы.

Засн. ў пач. 20 ст. перасяленцамі з суседніх вёсак. У 1926 г. 28 двароў, 144 жыхары, паштовы пункт, у Наўхавіцкім с/с Чачэрскага р-на Гомельскай акругі. У 1930 г. арганізаваны калгас. 17 вяскоўцаў загінулі на франтах Вял. Айч. вайны. Паводле перапісу 1959 г. 198 жыхароў. У складзе калгаса імя С.М.Кірава (цэнтр — в. Крутое). Планіровачна складаецца з кароткай прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ, да якой на Пн далучаецца другая кароткая вуліца. Забудова двухбаковая, няшчыльная, драўляная, сядзібнага тыпу.

**САПРЫКІ** — вёска ў Чачэрскім с/с, за 3 км на З ад Чачэрска, 40 км ад чыг. ст. Буда-Кашалёўская (на лініі Гомель—Жлобін), 68 км ад Гомеля, на р. Чачора (прыток р. Сож). Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарогах, якія ідуць ад Чачэрска. 62 гаспадаркі, 164 жыхары (2004 г.).

Выяўлены археолагамі курганны могільнік 10—13 ст. (104 насыпы, за 1,5 км на З ад вёскі, ва ўрочышчы Сапрыцкі Кардон) сведчыць пра засяленне тутэйшых мясцін з далёкай старажытнасці. Сучасная вёска засн. на зноў распрацаваных землях у 2-й пал. 17 ст., у Рэчыцкім пав. Мінскага ваяв. Пазначана ў інвентары Чачэрскага староства 1704 г. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) у складзе Рас. імперыі. Паводле рэвізіі 1858 г. 27 двароў, 118 жыхароў, у Чачэрскай вол. Рагачоўскага пав. Магілёўскай губ. Дзейнічалі хлебазапасны магазін, школа, цагельны з-д. Паводле перапісу 1897 г. 39 двароў, 251 жыхар, вятрак. У 1909 г. 40 двароў, 276 жыхароў, 422 дзес. зямлі. З 1921 г. працавала хата-чытальня. У 1926 г. 66 двароў, 350 жыхароў, паштовы пункт, школа. З 8.12.1926 г. да 30.12.1927 г. цэнтр Сапрыкаўскага с/с Чачэрскага р-на Гомельскай акругі. У 1931 г. арганізаваны калгас «Пяцігодка», працавала кузня. 43 вяскоўцы загінулі на франтах Вял. Айч. вайны. Паводле перапісу 1959 г. 339 жыхароў. У 1962 г. да вёскі далучаны пас. Мяжэлішча. У складзе калгаса «Сцяг камунізму» (цэнтр — г. Чачэрск). Размешчана пач. школа. Планіровачна складаецца з 3 кароткіх, паралельных паміж сабой вуліц, арыентаваных з ПдУ на ПнЗ. Забудова пераважна двухбаковая, сядзібнага тыпу, драўляная.



*Ц.П.Новікаў.*

**СІДАРАВІЧЫ** — вёска ў Палескім с/с, за 23 км на ПнУ ад Чачэрска, 60 км ад чыг. ст. Буда-Кашалёўская (на лініі Гомель—Жлобін), 78 км ад Гомеля, на р. Покаць, на У і Пн — яе прыток р. Пакотка, на аўтадарозе Палессе—Чачэрск, на Пд і З мяжуе з Чачэрскім біял. заказнікам. 131 гаспадарка, 340 жыхароў (2004 г.).

Выяўленыя археолагамі гарадзішча (за 3 км на З ад вёскі) і селішча (на паўн. краі гарадзішча) сведчаць пра засяленне тутэйшых мясцін з далёкай старажытнасці. Паводле пісьмовых крыніц вядома з 16 ст. як сяленне ў Рэчыцкім пав. Мінскага ваяв. ВКЛ. Паводле апісання Чачэрскага староства 1765 г. 15 дымоў, уладанне Быкоўскіх. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) у складзе Рас. імперыі. Паводле рэвізскіх матэры-

ялаў 1859 г. ў складзе Чачэрскага маёнтка графа І.І.Чарнышова-Круглікава. У 1857 г. паблізу пачаў працаваць бяроста-дзягцярны з-д. У 1881 г. 44 двары, 291 жыхар, хлебазапасны магазін. Паводле перапісу 1897 г. 62 двары, 497 жыхароў, 2 ветракі. Паштовае аддз. ў 1907 г. пачало прымаць тэлеграмы, у вясковай школе 35 вучняў. У 1909 г. 69 двароў, 502 жыхары, 844 дзес. зямлі, млын, у Палескай вол. Гомельскага пав. Магілёўскай губ. У 1926 г. 115 двароў, 623 жыхары. З 8.12.1926 г. да 30.12.1927 г. і з 11.6.1980 г. да 1986 г. цэнтр Сідаравіцкага с/с Чачэрскага р-на Гомельскай (да 26.7.1930) акругі, з 20.2.1938 г. Гомельскай вобл. У 1930 г. арганізаваны калгас «Чырвоны Кастрычнік», працавалі вятрак, 3 кузні, ваўначоска. 76 вяскоўцаў загінулі на франтах Вял. Айч. вайны. Паводле перапісу 1959 г. 731 жыхар. Цэнтр саўгаса «Сож». Размешчаны аддз. сувязі, сярэдняя школа, б-ка, фельч.-акушэрскі пункт, дзіцячы сад, клуб. Планіровачна складаецца з крыху скрыўленай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ, да якой з Пд далучаюцца 4 кароткія, паралельныя паміж сабой вуліцы. Забудова пераважна двухбаковая, драўляная, жылыя дамы сядзібнага тыпу. Радзіма Героя Сац. Працы П.Ф.Казловай.

**СЛАБОДКА** — вёска ў Роўкавіцкім с/с, за 15 км на Пд ад Чачэрска, 32 км ад чыг. ст. Буда-Кашалёўская (на лініі Гомель—Жлобін), 60 км ад Гомеля. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Наўхавічы—Роўкавічы. У выніку катастрофы на Чарнобыльскай АЭС і радыяцыйнага забруджання жыхары (13 сямей) у 1992 г. пераселены ў чыстыя месцы.

Паводле пісьмовых крыніц вядома з 19 ст. як сяленне ў Палескай вол. Гомельскага пав. Магілёўскай губ. З 1880 г. дзейнічаў хлебазапасны магазін. У 1909 г. 19 двароў, 169 жыхароў, 199 дзес. зямлі. У 1926 г. 25 двароў, у Наўхавіцкім с/с Чачэрскага р-на Гомельскай акругі. У 1930 г. арганізаваны калгас. 17 вяскоўцаў загінулі на франтах Вял. Айч. вайны. Паводле перапісу 1959 г. 68 двароў. Уваходзіла ў склад калгаса імя С.М.Кірава (цэнтр — в. Крутое). Планіровачна складаецца з кароткай прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ. Забудова двухбаковая, драўляная, сядзібнага тыпу.

**СЛАБОДКА** — вёска ў Залескім с/с, за 15 км на ПнУ ад Чачэрска, 52 км ад чыг. ст. Буда-Кашалёўская (на лініі Гомель—Жлобін), 80 км ад Гомеля, на р. Дзявіца (прыток р. Сож), на тэр. Чачэрскага біял. заказніка. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Палессе—Чачэрск. У выніку катастрофы на Чарнобыльскай АЭС і радыяцыйнага забруджання жыхары (16 сямей) у 1992 г. пераселены ў чыстыя месцы.

Паводле пісьмовых крыніц вядома з пач. 19 ст. як сяленне ў Палескай вол. Рагачоўскага пав. Магілёўскай губ. У 1816 г. 18 двароў, ва ўладанні памешчыка Маліноўскага. З 1880 г. дзейнічаў хлебазапасны магазін. Паводле перапісу 1897 г. 24 двары, 152 жыхары, хлебазапасны магазін, вятрак. У 1926 г. 39 двароў, 213 жыхароў, паштовы пункт, у Салтанаўскім с/с Чачэрскага р-на Гомельскай акругі. У 1929 г. арганізаваны калгас. У Вял. Айч. вайну ў жн. 1943 г. ням. акупанты спалілі 13 двароў, загубілі 2 жыхароў. 16 вяскоўцаў загінулі на франтах Вял. Айч. вайны. Паводле перапісу 1959 г. 131 жыхар. Уваходзіла ў склад саўгаса «Бяляеўскі» (цэнтр — в. Бяляеўка). Планіровачна складаецца з кароткай вуліцы, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ і забудаванай нешчыльна драўлянымі сял. сядзібамі.

**СОЙКІ** — пасёлак у Роўкавіцкім с/с, за 12 км на Пд ад Чачэрска, 32 км ад чыг. ст. Буда-Кашалёўская (на лініі Гомель—Жлобін), 60 км ад Гомеля, на У меліярацыйны канал, злучаны з р. Сож (прыток р. Дняпро), побач аўтадарога Наўхавічы—Роўкавічы. 2 гаспадаркі, 3 жыхары (2004 г.).

Засн. ў пач. 20 ст. перасяленцамі з суседніх вёсак. Найбольш актыўны час за-

будовы прыпадае на 1920-я гг. У 1926 г. 26 двароў, 138 жыхароў, у Наўхавіцкім с/с Чачэрскага р-на Гомельскай акругі. У 1929 г. арганізаваны калгас. 5 пасялкоўцаў загінулі на франтах Вял. Айч. вайны. Паводле перапісу 1959 г. 98 жыхароў. У складзе калгаса імя С.М.Кірава (цэнтр — в. Крутое). Планіровачна складаецца з кароткай, амаль мерыдыянальнай вуліцы, забудаванай драўлянымі сял. сядзібамі.

**СТАРАЯ ЯЦКАЎШЧЫНА** — вёска ў Чачэрскім с/с, за 7 км на ПнЗ ад Чачэрска, 44 км ад чыг. ст. Буда-Кашалёўская (на лініі Гомель—Жлобін), 72 км ад Гомеля, на паўн. і ўсх. ускраінах — меліярацыйны канал, злучаны з р. Чачора (прыток р. Сож). Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарогах, якія адыходзяць ад Чачэрска. 53 гаспадаркі, 109 жыхароў (2004 г.).

Засн. ў 19 ст. як сяленне Яцкаўшчына ў Чачэрскай вол. Гомельскага пав. Магілёўскай губ. Пасля заснавання ў пач. 20 ст. в. Новая Яцкаўшчына стала звацца Старая Яцкаўшчына. У 1907 г. ў вясковай школе 46 вучняў. З 1921 г. дзейнічала хата-чытальня. У 1931 г. арганізаваны калгас. Паводле перапісу 1959 г. 492 жыхары. У складзе калгаса «50 гадоў БССР» (цэнтр — в. Отар). Размешчаны клуб. Планіровачна складаецца з крывалінейнай працяглай і паралельнай да яе кароткай вуліц, арыентаваных з ПдУ на ПнЗ. Забудова пераважна двухбаковая, драўляная, сядзібнага тыпу.

**СТАРЫЯ МАЛЫНІЧЫ** — вёска ў Ленінскім с/с, за 6 км на Пд ад Чачэрска, 43 км ад чыг. ст. Буда-Кашалёўская (на лініі Гомель—Жлобін), 71 км ад Гомеля, на паўд. ускраіне — воз. Старое, на З — меліярацыйныя каналы, злучаныя з возерам і р. Сож. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Чачэрск—Буда-Кашалёва. 24 гаспадаркі, 39 жыхароў (2004 г.).

Паводле пісьмовых крыніц вядома з пач. 18 ст. як в. Малінічы. Некаторы час была ў валоданні памешчыка Шалюты. Дзейнічала Петра-Паўлаўская царква, якая ў 1863—67 гг. капітальна рамантавалася. У сярэдзіне 19 ст. перасяленцы з вёскі заснавалі непадалёку сяленне Новыя Малынічы, а в. Малынічы стала звацца Старыя Малынічы. Непадалёку мелася і в. Сярэднія Малынічы. У 1858 г. 7 двароў, уладанне памешчыка Мілеўскага. У фальварку ў 1870 г. 766 дзес. зямлі. З 1880 г. дзейнічаў хлебазапасны магазін. У 1884 г. 37 двароў, 193 жыхары, Петра-Паўлаўская царква, вятрак. Паводле перапісу 1897 г. 41 двор, 277 жыхароў, хлебазапасны магазін, 2 ветракі. Побач былі 2 фальваркі, 4 двары, 9 жыхароў. У 1909 г. 46 двароў, 201 дзес. зямлі, школа, вінная крама, млын, у Чачэрскай вол. У 1926 г. 64 двары, 304 жыхары, паштовы пункт, школа, у Сярэднемалыніцкім с/с Чачэрскага р-на Гомельскай акругі. У ліку жыхароў былі 23 польскія сям'і. У 1930 г. арганізаваны калгас «Пралетарскі», працаваў паравы млын. 37 вяскоўцаў загінулі на франтах Вял. Айч. вайны. Паводле перапісу 1959 г. 156 жыхароў. У складзе калгаса імя У.І.Леніна (цэнтр — пас. Вазнясенскі). Планіровачна складаецца з прамалінейнай, амаль шыротнай вуліцы, забудаванай двухбакова драўлянымі сял. сядзібамі. Радзіма засл. работніка прамысловасці БССР П.Р.Балдоўскага і 4-разовага чэмпіёна Беларусі, неаднаразовага прызёра і пераможцы Усесаюзных спаборніцтваў па веласпорце М.І.Зорына.

**СЫЧАЎКА-НІСІМКАВІЦКАЯ** — пасёлак у Нісімкавіцкім с/с, за 18 км на ПдЗ ад Чачэрска, 83 км ад Гомеля, 53 км ад чыг. ст. Буда-Кашалёўская (на лініі Гомель—Жлобін), на р. Покаць. Не існуе.

Засн. ў 1920-я гг. жыхарамі в. Нісімкавічы і навакольных хутароў. З 8.12. 1926 г. ў Нісімкавіцкім с/с Свяцілавіцкага, з 4.8.1927 г. Чачэрскага р-наў Гомельскай акругі. Уваходзіў у склад калгаса «Савецкая Беларусь». У 1991 г. 21 двор, 31 жыхар.

**СЫЧАЎКА-РУДНІЦКАЯ** — пасёлак у Нісімкавіцкім с/с, за 15 км на У ад

Чачэрска, 49 км ад чыг. ст. Буда-Кашалёўская (на лініі Гомель—Жлобін), 77 км ад Гомеля. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Свяцілавічы—Залессе. 1 гаспадарка, 1 жыхар (2004 г.).

Засн. ў пач. 1920-х гг. перасяленцамі з суседніх вёсак на былых памешчыцкіх землях. У 1930 г. арганізаваны калгас. 22 пасялкоўцы загінулі на франтах Вял. Айч. вайны. Паводле перапісу 1959 г. 84 жыхары. У складзе саўгаса «Нісімкавічы» (цэнтр — в. Нісімкавічы). Забудова драўляная, сядзібнага тыпу, каля прасёлачнай дарогі.

**СЯБРОВІЧЫ** — вёска ў Ленінскім с/с, за 15 км на Пд ад Чачэрска, 46 км ад чыг. ст. Буда-Кашалёўская (на лініі Гомель—Жлобін), 79 км ад Гомеля, на аўтадарозе Чачэрск—Прысно, на ўсх. ускраіне — старыца р. Сож, на Пд — меліярацыйны канал, злучаны з р. Сож. У выніку катастрофы на Чарнобыльскай АЭС і радыяцыйнага забруджання жыхары (128 сямей) у 1992 г. пераселены ў чыстыя месцы.

Выяўленыя археолагамі паселішча 3-га тысячагоддзя да н.э. (за 1 км на ПнУ ад вёскі, ва ўрочышчы Ліпаў Брод), бескурганны могільнік 1-й пал. 2-га тысячагоддзя да н.э. (на ПнУ ад вёскі), гарадзішча 7—3 ст. да н.э. (на паўд. ускраіне), курганны могільнік 9—12 ст. (4 насыпы, на паўн. ускраіне) і селішча 7—3 ст. да н.э. (за 0,5 км на У) сведчаць пра засяленне тутэйшых мясцін з глыбокай старажытнасці. Паводле пісьмовых крыніц вядома з 16 ст. як сяленне ў Рэчыцкім пав. Мінскага ваяв. ВКЛ. Паводле інвентару 1704 г. 5, у 1726 г. 13 дымоў, цэнтр войтаўства, у Чачэрскім старостве, на тракце Рагачоў—Гомель. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) у складзе Рас. імперыі. З 1832 г.дзейнічалі карчма і перавоз цераз р. Сож. Паводле рэвізскіх матэрыялаў 1859 г. ў Чачэрскай вол., у валоданні графа І.І.Чарнышова-Круглікава. З 1880 г. працаваў хлебазапасны магазін. Паводле перапісу 1897 г. 84 двары, 552 жыхары, хлебазапасны магазін, 2 ветракі, у Дудзіцкай вол. Рагачоўскага пав. Магілёўскай губ. Створаны ў 1918 г. ў вёсцы баявы атрад вёў актыўныя дзеянні супраць польскіх легіянераў і герм. войск. З 8.12.1926 г. да 16.7.1954 г. цэнтр Новазарэцкага с/с Чачэрскага р-на Гомельскай (да 26.7.1930) акругі, з 20.2.1938 г. Гомельскай вобл. У 1929 г. арганізаваны калгас «Камінтэрн», працавалі кузня і 2 ветракі. У 1931 г. адкрыта хата-чытальня. У Вял. Айч. вайну ням. акупанты загубілі 40 жыхароў. 72 вяскоўцы загінулі на франтах Вял. Айч. вайны. Паводле перапісу 1959 г. 490 жыхароў. У 1979 г. ў вёску перасяліліся жыхары суседняга пас. Ляскі. Была цэнтрам калгаса «XXIV партз'езд». Размяшчаліся камбінат быт. абслугоўвання, 8-гадовая школа, Дом культуры (мураваны будынак узведзены ў 1960), фельч.-акушэрскі пункт, вет. ўчастак, аддз. сувязі, 2 магазіны. Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ. Забудова двухбаковая, драўляная, сядзібнага тыпу. Часткова згарэла. Радзіма ўдзельніка партыз. руху ў Вял. Айч. вайну Р.Н.Падабедава (закатаваны акупантамі, яго імя носіць вуліца і дзіцячая б-ка ў Чачэрску) і засл. работніка прамысловасці Беларусі А.Н.Падабедава. Каля вёскі ёсць залежы пяскоў.

**СЯРЭДНІЯ МАЛЫНІЧЫ** — вёска ў Ленінскім с/с, за 5 км на Пд ад Чачэрска, 42 км ад чыг. ст. Буда-Кашалёўская (на лініі Гомель—Жлобін), 70 км ад Гомеля, на У — воз. Стаячае. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Чачэрск—Буда-Кашалёва. 24 гаспадаркі, 39 жыхароў (2004 г.).

Паводле пісьмовых крыніц вядома з 19 ст. як сяленне ў Чачэрскай вол. Рагачоўскага пав. Магілёўскай губ. У 1847 г. вёска (214 дзес. зямлі) у складзе маёнтка Бердыш. У 1850 г. памешчык валодаў тут 118 дзес. зямлі, вадзяным млыном і карчмой. Паводле рэвізіі 1858 г. 3 двары. У 1868 г. 8 двароў, 74 жыхары. Па-

водле перапісу 1897 г. 47 двароў, 333 жыхары, хлебазапасны магазін, 2 ветракі, вінная крама. У 1909 г. 55 двароў, 455 дзес. зямлі. У 1926 г. паштовы пункт, пач. школа. З 8.12.1926 г. да 1930 г. цэнтр Сярэднемалыніцкага с/с Чачэрскага р-на Гомельскай (да 26.7.1930) акругі. У 1929 г. арганізаваны калгас. 7 вяскоўцаў загінулі на франтах Вял. Айч. вайны. Паводле перапісу 1959 г. 163 жыхары. У складзе калгаса імя У.І.Леніна (цэнтр — пас. Вазнясенскі). Дзейнічае б-ка. Планіровачна складаецца з прамалінейнай мерыдыянальнай вуліцы, забудаванай двухбакова драўлянымі сял. сядзібамі. Радзіма доктара с.-г. навук, праф. А.Л.Новікава. Каля вёскі ёсць залежы жалезняку.

**ТОМІНА** — пасёлак у Залескім с/с, за 13 км на У ад Чачэрска, 50 км ад чыг. ст. Буда-Кашалёўская (на лініі Гомель—Жлобін), 78 км ад Гомеля, на Пн мяжуе з Чачэрскім біял. заказнікам. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, а затым аўтадарозе Палессе—Чачэрск. 21 гаспадарка, 33 жыхары (2004 г.).

Засн. ў пач. 1920-х гг. перасяленцамі з суседніх вёсак на былых памешчыцкіх землях. У 1931 г. арганізаваны калгас. У Вял. Айч. вайну ням. акупанты вывезлі ў Германію на прымусовыя работы 5 жыхароў. 16 пасялкоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 182 жыхары. У складзе саўгаса «Бяляеўскі» (цэнтр — в. Бяляеўка). Планіровачна складаецца з кароткай прамалінейнай мерыдыянальнай вуліцы, перакрыжаванай завулкам. Забудова двухбаковая, нязшчыльная, драўляная, сядзібнага тыпу.

**ТУРЫШЧАВІЧЫ** — вёска ў Чачэрскім с/с, за 7 км на Пн ад Чачэрска, 44 км ад чыг. ст. Буда-Кашалёўская (на лініі Гомель—Жлобін), 72 км ад Гомеля, на Пд меліярацыйны канал, на ўсх. ускраіне — р. Сож (прыток р. Дняпро), на Пн мяжуе з лесам (урочышча Тарфянае). Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Карма—Чачэрск. 12 гаспадарак, 29 жыхароў (2004 г.).

Паводле пісьмовых крыніц вядома з 16 ст. як сяленне ў Чачэрскім старостве Рэчыцкага пав. Мінскага ваяв. ВКЛ. 12.10.1510 г. кароль Жыгімонт I Стары дараваў сяло двараніну К.Пішчыкаву. Паводле інвентару 1704 г. 5, у 1726 г. 11 дымоў, у Отарскім войтаўстве Чачэрскага староства. Паводле вопісу 1765 г. 22 дымы. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) у складзе Рас. імперыі. Паводле рэвізскіх матэрыялаў 1859 г. ў Чачэрскай вол., у валоданні графа І.І.Чарнышова-Круглікава. У 1871 г. вяскоўцы захапілі 77 дзес. памешчыцкага лесу і прадавалі найбольш каштоўную драўніну, аб чым Чарнышоў-Круглікаў паведамляў міністру ўнутр. спраў. З 1880 г. дзейнічаў хлебазапасны магазін. Паводле перапісу 1897 г. 30 двароў, 198 жыхароў, хлебазапасны магазін. У 1909 г. 35 двароў, 249 жыхароў, 351 дзес. зямлі. З 1921 г. працавала хата-чытальня. У 1926 г. паштовы пункт, пач. школа ў Отарскім с/с Чачэрскага р-на Гомельскай акругі. У 1931 г. арганізаваны калгас. 35 вяскоўцаў загінулі на франтах Вял. Айч. вайны. Паводле перапісу 1959 г. 192 жыхары. У складзе калгаса «50 гадоў БССР» (цэнтр — в. Отар). Планіровачна складаецца з кароткай вуліцы, арыентаванай мерыдыянальна, уздоўж Сажа. На Пд, з зах. боку, паралельна праходзіць другая кароткая вуліца. Забудова двухбаковая, рэдкая, драўляная, сядзібнага тыпу. Радзіма засл. настаўнікаў Беларусі А.П. і М.П. Курчанскіх і В.Е.Саўчанкі.

**ХАЛОЧЧА** — вёска ў Роўкавіцкім с/с, за 23 км на ПдЗ ад Чачэрска, 27 км ад чыг. ст. Буда-Кашалёўская (на лініі Гомель—Жлобін), 42 км ад Гомеля, на шашы Доўск—Гомель, на З і Пд — меліярацыйныя каналы, злучаныя з р. Прудоўка (прыток р. Ліпа). 5 гаспадарак, 14 жыхароў (2004 г.).

Паводле пісьмовых крыніц вядома з пач. 19 ст. як сяленне ў Дудзіцкай вол. Рагачоўскага пав. Магілёўскай губ. Паводле рэвізіі 1816 г. 40 двароў, 292 жыхары. Паводле рэвізскіх матэрыялаў

1859 г. ў валоданні памешчыка Дзерналовіча. У 1880 г. адкрыты хлебазапасны магазін. Паводле перапісу 1897 г. 84 двары, 562 жыхары, хлебазапасны магазін, 3 ветракі. Побач аднайменны фальварак. У 1909 г. 91 двор, 677 жыхароў, 721 дзес. зямлі, школа (у 1907 — 46 вучняў), вінная крама, млын. У фальварку 135 дзес., на хутары 16 дзес. зямлі. З 8.12.1926 г. да 1986 г. цэнтр Халоцкага с/с Чачэрскага, з 25.12.1962 г. Буда-Кашалёўскага, з 6.1.1965 г. Чачэрскага р-наў Гомельскай (да 26.7.1930) акругі, з 20.2.1938 г. Гомельскай вобл. У 1930 г. арганізаваны калгас «1 Мая», працавалі 4 ветракі, кузня, маслабойня. У Вял. Айч. вайну на франтах загінулі 94 вяскоўцы, памяць аб якіх увекавечваюць скульптура воіна і дошкі з імёнамі загінуўшых, пастаўленыя ў 1959 г. ў цэнтры. Паводле перапісу 1959 г. 471 жыхар. Цэнтр с.-г. вытв. фірмы «Адраджэнне». Размешчаны камбінат быт. абслугоўвання, мех. майстэрня, млын, лесапільня, сярэдняя школа, Дом культуры, б-ка, фельч.-акушэрскі пункт, аддз. сувязі, сталовая, магазін. Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ, абапал шашы. Забудова драўляная, сядзібнага тыпу.

У склад Халоцкага с/с да 1987 г. ўваходзілі пасёлкі Дубавіца, Усход (не існуюць).

**УСОШНАЕ** — пасёлак у Нісімкавіцкім с/с, за 23 км на У ад Чачэрска, 60 км ад чыг. ст. Буда-Кашалёўская (на лініі Гомель—Жлобін), 88 км ад Гомеля, на У пачынаецца р. Калодня (прыток р. Покаць). Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Свяцілавічы—Залессе. 14 гаспадарак, 28 жыхароў (2004 г.).

Засн. ў пач. 20 ст. перасяленцамі з суседніх вёсак. У 1926 г. 18 двароў, 110 жыхароў, у Рудня-Нісімкавіцкім с/с Свяцілавіцкага р-на Гомельскай акругі. У 1931 г. арганізаваны калгас. 17 пасялкоўцаў загінулі на франтах Вял. Айч. вайны. Паводле перапісу 1959 г. 109 жыхароў. У складзе саўгаса «Нісімкавічы» (цэнтр — в. Нісімкавічы). Планіровачна складаецца з кароткай, амаль мерыдыянальнай вуліцы, забудаванай двухбакова, няшчыльна драўлянымі сял. сядзібамі.

**ЧАРНЯЎСКІЯ МАЛЫНІЧЫ** — пасёлак у Ленінскім с/с, за 7 км на Пд ад Чачэрска, 44 км ад чыг. ст. Буда-Кашалёўская (на лініі Гомель—Жлобін), 72 км ад Гомеля, на Пн — воз. Старое, на З — меліярацыйныя каналы, злучаныя з р. Сож (прыток р. Дняпро). Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Чачэрск—Прысно. 8 гаспадарак, 13 жыхароў (2004 г.).

Засн. ў пач. 20 ст. перасяленцамі з суседніх вёсак, пераважна з вёсак Старыя Малынічы, Новыя Малынічы і Сярэдмія Малынічы. У 1930 г. арганізаваны калгас. У Вял. Айч. вайну на франтах і ў партыз. барацьбе загінулі 34 пасялкоўцы, памяць аб якіх увекавечвае абеліск, пастаўлены ў 1974 г. ў цэнтры вёскі. Паводле перапісу 1959 г. 190 жыхароў. У складзе калгаса імя У.І.Леніна (цэнтр — пас. Вазнясенскі). Планіровачна складаецца з кароткай, амаль мерыдыянальнай вуліцы, да якой на З і У далучаюцца 2 кароткія вуліцы. Забудова двухбаковая, драўляная, няшчыльная, сядзібнага тыпу.

**ЧЫРВОНЫ БЕРАГ** — пасёлак, падпарадкаваны Чачэрскаму гарадскому Савету, за 3 км на ПнУ ад Чачэрска, 40 км ад чыг. ст. Буда-Кашалёўская (на лініі Гомель—Жлобін), 68 км ад Гомеля, на р. Сож (прыток р. Дняпро) і аўтадарозе Палессе—Чачэрск, на Пн — яе прыток р. Молінка, на З мяжуе з Чачэрскім біял. заказнікам. 64 гаспадаркі, 171 жыхар (2004 г.).

Засн. ў пач. 1920-х гг. на былых памешчыцкіх землях перасяленцамі з суседніх вёсак. У 1930 г. арганізаваны калгас. Дзейнічала Чырвонабярэжскае лясніцтва. 4 пасялкоўцы загінулі на франтах Вял. Айч. вайны. Размешчаны лясгас, пач. школа, клуб. Пераважна драўляныя сял. сядзібы забудаваны ўздоўж аўтада-

рогі. На У размешчаны залежы пяскоў (14 млн. $м^3$).

**ЧЫРВОНЫ БОР** — пасёлак у Чачэрскім с/с, за 3 км на ПнЗ ад Чачэрска, 40 км ад чыг. ст. Буда-Кашалёўская (на лініі Гомель—Жлобін), 68 км ад Гомеля. На З меліярацыйны канал, злучаны з р. Чачора (прыток р. Сож), на Пн меліярацыйны канал, злучаны з р. Сож. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарогах, якія адыходзяць ад Чачэрска. 35 гаспадарак, 77 жыхароў (2004 г.).

Засн. ў пач. 1920-х гг. на былых памешчыцкіх землях перасяленцамі з суседніх вёсак. У 1926 г. 20 двароў, 102 жыхары. У 1930 г. арганізаваны калгас «Чырвоны Бор», працавала кузня. 29 пасялкоўцаў загінулі на франтах Вял. Айч. вайны. Паводле перапісу 1959 г. 140 жыхароў. У 1962 г. далучаны пас. Першамайск. У складзе калгаса «50 гадоў БССР» (цэнтр — в. Отар). Размешчаны фельч.-акушэрскі пункт. Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ, да якой на Пн далучаецца зігзагападобная вуліца. Забудова няшчыльная, двухбаковая, драўляная.

**ЧЫРВОНЫ ДВАРЭЦ** — пасёлак у Чачэрскім с/с, за 8 км на Пн ад Чачэрска, 45 км ад чыг. ст. Буда-Кашалёўская (на лініі Гомель—Жлобін), 73 км ад Гомеля, на р. Сож (прыток р. Дняпро), побач аўтадарога Карма—Чачэрск. 10 гаспадарак, 15 жыхароў (2004 г.).

Засн. ў пач. 1920-х гг. перасяленцамі з суседніх вёсак на былых памешчыцкіх землях. У 1926 г. 13 двароў, 64 жыхары. У 1930 г. арганізаваны калгас. Складаецца з кароткай, амаль шыротнай вуліцы. Забудова драўляная, сядзібнага тыпу. Радзіма акадэміка НАН Беларусі, доктара мед. навук, праф. М.Я.Саўчанкі.

**ШАПАТОВІЦКІЯ ПАПЛАВЫ** — вёска ў Ленінскім с/с, за 14 км на Пд ад Чачэрска, 38 км ад чыг. ст. Буда-Кашалёўская (на лініі Гомель—Жлобін), 66 км ад Гомеля, на У меліярацыйны канал, злучаны з р. Сож. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Чачэрск—Прысно. У выніку катастрофы на Чарнобыльскай АЭС і радыяцыйнага забруджання жыхары (17 сямей) у 1992 г. пераселены ў чыстыя месцы.

Паводле пісьмовых крыніц вядома з 19 ст. як сяленне ў Дудзіцкай вол. Рагачоўскага пав. Магілёўскай губ. Паводле перапісу 1897 г. 56 двароў, 351 жыхар, крупарушка, 2 ветракі, 3 маслабойні. У 1909 г. 349 жыхароў, 606 дзес. зямлі. У 1930 г. арганізаваны калгас, працаваў вятрак. Паводле перапісу 1959 г. 146 жыхароў. Уваходзіла ў склад калгаса «XXIV партз'езд» (цэнтр — в. Сябровічы). Планіровачна складаецца з кароткай крывалінейнай, амаль мерыдыянальнай арыентацыі вуліцы, забудаванай двухбакова драўлянымі сял. сядзібамі. Часткова згарэла.

**ШАПАТОВІЧЫ** — вёска ў Ленінскім с/с, за 13 км на Пд ад Чачэрска, 37 км ад чыг. ст. Буда-Кашалёўская (на лініі Гомель—Жлобін), 65 км ад Гомеля, на аўтадарозе Чачэрск—Прысно, на У — меліярацыйныя каналы і пойма р. Сож. У выніку катастрофы на Чарнобыльскай АЭС і радыяцыйнага забруджання жыхары (84 сям'і) у 1992 г. перасelены ў чыстыя месцы.

Выяўленыя археолагамі 2 гарадзішчы 2 ст. да н.э. — 5 ст. н.э. (за 0,5 км на У і ПдУ ад вёскі), 2 паселішчы 3-га тысячагоддзя да н.э. (за 0,5 км на У ад вёскі) сведчаць пра засяленне тутэйшых мясцін з глыбокай старажытнасці. Паводле пісьмовых крыніц вядома з 16 ст. як сяленне ў Рэчыцкім пав. Мінскага ваяв. ВКЛ. Упамінаецца ў інвентары Чачэрскага староства 1726 г. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) у складзе Рас. імперыі. З 1832 г. дзейнічала карчма. У 1848 г. 35 двароў. У 1872 г. памешчык Драбышэўскі валодаў тут 176 дзес. зямлі, якія дасталіся яму па спадчыне. У 1868 г. 63 двары, 375 жыхароў. У 1880 г. 83 двары, 521 жыхар. Паводле перапісу 1897 г. 112 двароў, 714 жыхароў, царква, 4 ветракі, крупарушка, 2 маслабой-

ні. У 1909 г. 750 жыхароў, школа, вінная крама, у Дудзіцкай вол. Рагачоўскага пав. Магілёўскай губ. У 1926 г. 122 двары, паштовы пункт, пач. школа. З 8.12. 1926 г. да 30.12.1927 г. цэнтр Шапатовіцкага с/с Чачэрскага р-на Гомельскай акругі. Паблізу размяшчаўся запаведнік баброў. У 1931 г. арганізаваны калгас «Камінтэрн», працавалі крупарушка, вятрак і кузня. 69 вяскоўцаў загінулі на франтах Вял. Айч. вайны. Паводле перапісу 1959 г. 343 жыхары. Уваходзіла ў склад калгаса «XXIV партз'езд» (цэнтр — в. Сябровічы). Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, арыентаванай амаль мерыдыянальна і забудаванай двухбакова, уздоўж дарогі, драўлянымі сял. сядзібамі. Часткова згарэла.

**ШЫЛАВІЧЫ** — вёска ў Меркулавіцкім с/с, за 23 км на ПнЗ ад Чачэрска, 41 км ад чыг. ст. Буда-Кашалёўская (на лініі Гомель—Жлобін), 69 км ад Гомеля, на зах. ускраіне — вадаём, на р. Чачора (прыток р. Сож). Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Чачэрск—Рыскова. 7 гаспадарак, 12 жыхароў (2004 г.).

Паводле пісьмовых крыніц вядома з 18 ст. як сяленне ў Рэчыцкім пав. Мінскага ваяв. Упамінаецца ў інвентары Чачэрскага староства 1726 г. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) у складзе Рас. імперыі. У канцы 18 ст. ў валоданні Усціновічаў. У 1838 г. 108 двароў. У 1868 г. 113 двароў, 723 жыхары, малітоўны дом, школа, млын, у Меркулавіцкай вол. Рагачоўскага пав. Магілёўскай губ. Паводле перапісу 1897 г. 138 двароў, 731 жыхар, 3 ветракі, 3 крамы, карчма. У 1909 г. 774 жыхары, 1214 дзес. зямлі. У 1930 г. арганізаваны калгас, працавалі вятрак і кузня. У Вял. Айч. вайну ў баях каля вёскі ў ліст. 1943 г. загінулі 168 воінаў (пахаваны ў брацкай магіле на зах. ускраіне). На франтах і ў партыз. барацьбе загінулі 60 вяскоўцаў, памяць аб якіх увекавечвае скульптура воіна, пастаўленая ў 1959 г. на зах. ускраіне. Паводле перапісу 1959 г. 325 жыхароў. У складзе калгаса «Бацвінава» (цэнтр — в. Бацвінава). Планіровачна складаецца з кароткай, дугападобнай вуліцы, каля вадаёма. Забудова пераважна двухбаковая, няшчыльная, драўляная, сядзібнага тыпу. Радзіма засл. артыста Беларусі, спевака (лірычны тэнар), праф. Л.І.Івашкова.

**ШЫРОКАЕ** — вёска ў Меркулавіцкім с/с, за 22 км на ПнЗ ад Чачэрска, 44 км ад чыг. ст. Буда-Кашалёўская (на лініі Гомель—Жлобін), 73 км ад Гомеля, на У — меліярацыйны канал, злучаны з р. Чачора (прыток р. Сож). Транспартныя сувязі па прасёлачнай, а затым аўтадарозе Чачэрск—Рыскова. 19 гаспадарак, 26 жыхароў (2004 г.).

Паводле пісьмовых крыніц вядома з 19 ст. як сяленне ў Меркулавіцкай вол. Рагачоўскага пав. Магілёўскай губ. Паводле перапісу 1897 г. 41 двор, 280 жыхароў, хлебазапасны магазін. У 1909 г. 344 жыхары, 536 дзес. зямлі, млын. У 1929 г. арганізаваны калгас. 40 вяскоўцаў загінулі на франтах Вял. Айч. вайны. Паводле перапісу 1959 г. 267 жыхароў. У складзе саўгаса «Бацвінава» (цэнтр — в. Бацвінава). Дзейнічае б-ка. Планіровачна складаецца з кароткай прамалінейнай, амаль шыротнай вуліцы, забудаванай двухбакова, няшчыльна драўлянымі сял. сядзібамі. Непадалёку ёсць залежы крэйды.

**ЮНЫ** — пасёлак у Чачэрскім с/с, за 3 км на З ад Чачэрска, 40 км ад чыг. ст. Буда-Кашалёўская (на лініі Гомель—Жлобін), 68 км ад Гомеля, на У — меліярацыйны канал, злучаны з р. Чачора, што цячэ побач. Транспартныя сувязі па мясцовай, потым аўтадарогах, якія адыходзяць ад Чачэрска. 6 гаспадарак, 7 жыхароў (2004 г.).

Засн. ў пач. 1920-х гг. перасяленцамі з суседніх вёсак на былых памешчыцкіх землях. У 1926 г. 2 двары, 7 жыхароў, у Сапрыкаўскім с/с Чачэрскага р-на Гомельскай акругі. У 1931 г. арганізаваны калгас. 7 пасялкоўцаў загінулі на франтах Вял. Айч. вайны. Паводле перапісу 1959 г. 63 жыхары. У складзе калгаса «Сцяг камунізму» (цэнтр — г. Чачэрск).

Забудова драўляная, сядзібнага тыпу, рэдкая, уздоўж прасёлачнай дарогі.

**ЯМІЦКІ** – пасёлак у Нісімкавіцкім с/с, за 22 км на У ад Чачэрска, 59 км ад чыг. ст. Буда-Кашалёўская (на лініі Гомель–Жлобін), 88 км ад Гомеля, на ПнЗ – невял. вадасховішча і пачынаецца р. Хмелеўка (прыток р. Покаць). 13 гаспадарак, 15 жыхароў (2004 г.).

Засн. ў пач. 1920-х гг. перасяленцамі з суседніх вёсак на былых памешчыцкіх землях. У 1931 г. арганізаваны калгас. У Вял. Айч. вайну ў лясах паблізу вёскі базіраваліся Чачэрскі падп. райком КП(б)Б і 1-я Гомельская партыз. брыгада. 22 пасялкоўцы загінулі на франтах Вял. Айч. вайны. Паводле перапісу 1959 г. 153 жыхары. У складзе саўгаса «Нісімкавічы» (цэнтр – в. Нісімкавічы). Складаецца з прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ. Забудова драўляная, сядзібнага тыпу.

**ЯСНАЯ ПАЛЯНА** – пасёлак у Роўкавіцкім с/с, за 18 км на ПдЗ ад Чачэрска, 26 км ад чыг. ст. Буда-Кашалёўская (на лініі Гомель–Жлобін), 54 км ад Гомеля, на Пд мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па прасёлачнай дарозе, потым па шашы Доўск–Гомель. У выніку катастрофы на Чарнобыльскай АЭС і радыяцыйнага забруджання жыхары (9 сямей) у 1992 г. пераселены ў чыстыя месцы.

Засн. ў пач. 20 ст. перасяленцамі з суседніх вёсак. У 1926 г. 12 двароў, 60 жыхароў, паштовы пункт, у Дудзіцкім с/с Чачэрскага р-на Гомельскай акругі. У 1931 г. арганізаваны калгас. 15 пасялкоўцаў загінулі на франтах Вял. Айч. вайны. Паводле перапісу 1959 г. 47 жыхароў. Уваходзіў у склад калгаса імя А.А.Жданава (цэнтр – в. Халочча). Драўляныя сял. сядзібы пастаўлены ўздоўж вясковай дарогі.

**КРЫНІЦЫ І ЛІТАРАТУРА**


Дзяржаўны архіў Мінскай вобласці, ф. 694, воп. 4, спр. 1556.

Нацыянальны архіў Рэспублікі Беларусь, ф. 30, воп. 4, спр. 167; воп. 5, спр. 6755; ф. 34, воп. 1, спр. 807.

Нацыянальны гістарычны архіў Беларусі, ф. 1251, воп. 1, спр. 65, 163; ф. 1297, воп. 1, спр. 6417, 10446, 18715; ф. 2001, воп. 1, спр. 17, 81, 731, 922; ф. 2151, воп. 1, спр. 126, 159, 161, 164; ф. 2254, воп. 4, спр. 14; ф. 2943, воп. 1, спр. 1; ф. 2961, воп. 1, спр. 1; ф. 3014, воп. 1, спр. 20; ф. 3363, воп. 1, спр. 438.

Расійскі дзяржаўны гістарычны архіў, ф. 1290, воп. 2, спр. 1366.

Военно-статистическое обозрение Российской империи. Т. 8. Ч. 3.

Могилевская губерния. СПб., 1848.

Акты, относящиеся к истории Западной России. Т. 1 (1340–1506). СПб., 1846; То же. Т. 5 (1633–1699). СПб., 1855.

Без-Корнилович М.О. Исторические сведения о примечательнейших местах в Белоруссии с присовокуплением и других сведений, к ней же относящихся. СПб., 1855.

Опыт описания Могилевской губернии. Кн. 1–3. Могилев, 1882–84.

Акты Виленской археографической комиссии. Т. 13. Вильна, 1886; То же. Т. 38–39. Вильна, 1914.

Волости и важнейшие селения Европейской России. Вып. 5. СПб., 1886.

Волости и гмины. Могилевская губерния. Ч. 23. СПб., 1890.

Памятная книжка Могилевской дирекции народных училищ на 1889/90 учеб. год. Могилев, 1890.

Любавский М. Областное деление и местное управление Литовско-Русского государства ко времени издания первого Литовского Статута. М., 1892.

Сборник императорского Русского исторического общества. Т. 35. Ч. 1. СПб., 1892.

Россия. Полное географическое описание нашего Отечества. Т. 9. СПб., 1905.

Историко-юридические материалы. Вып. 28. Витебск, 1900.
Могилевская старина. Вып. 1. Могилев, 1900.
Памятная книжка Могилевской дирекции народных училищ на 1907/08 учеб. год. Могилев, 1908.
Русская историческая библиотека. Т. 27. Литовская метрика. Отд. 1. Ч. 1. Книга записей. Т. 1. СПб., 1910.
Список населенных мест Могилевской губернии. Могилев, 1910.
Обзор Могилевской губернии за 1911 год
Литовская метрика. Т. 1. Кн. 1. Юрьев, 1914.
Статистический обзор Могилевской губернии по 1914 год. Могилев, 1915.
Список населенных мест Гомельского округа. Гомель, 1927.
Спіс прамысловых прадпрыемстваў БССР. Вып. 1—2. Мн., 1935.
Дакументы і матэрыялы па гісторыі Беларусі. Т. 2. Мн., 1940.
Белоруссия в эпоху феодализма. Т. 1. Мн., 1959.
Пад сцягам партыі. Гомель, 1959.
Полное собрание русских летописей. Т. 2. М., 1962.
Болбас М.Ф. Развитие промышленности в Белоруссии (1795—1861 гг.). Мн., 1966.
Сборник законов Белорусской ССР. Мн., 1974.
Мелешко В.И. Очерки аграрной истории восточной Белоруссии. Мн., 1975.
Нацистская политика геноцида и «выжженной земли» в Белоруссии, 1941—1944. Мн., 1984.
Збор помнікаў гісторыі і культуры Беларусі: Гомельская вобл. Мн., 1985.
Археалогія і нумізматыка Беларусі: Энцыкл. Мн., 1993.
Спиридонов М.Ф. Закрепощение крестьянства Беларуси (XV—XVI вв.). Мн., 1993.
Литовская метрика. Кн. 5 (1427—1506). Вильнюс, 1994.
То же. Кн. 6 (1528—47), кн. 8 (1499—1514). Вильнюс, 1995.
То же. Кн. 10 (1440—1523). Вильнюс, 1997.
Памяць: Гіст.-дак. хроніка Чачэрскага р-на. Мн., 2000.

## ЗМЕСТ

Даведачнае выданне

**ГАРАДЫ І ВЁСКІ БЕЛАРУСІ**

**Энцыклапедыя**

**Том 2**

**Кніга 2**

**Марцэлеў Станіслаў Віктаравіч**

**ГОМЕЛЬСКАЯ ВОБЛАСЦЬ**

Рэдактары: *Ю.В.Бажэнаў, Ю.Я.Гаева, В.В.Грынявецкі, Н.А.Дзянісава, І.Б.Клепікаў, М.Г.Нікіцін, А.В.Скараход, Л.У.Языковіч*

Мастацкае афармленне *Н.У.Кузьмянковай* пры ўдзеле *Р.У.Кондрада*

Мастацкі рэдактар *В.Г.Паўлавец*

Літаратурны рэдактар *В.М.Лапцева*

Тэхнічны рэдактар *Н.М.Шэвель*

Карэктары: *В.М.Чудакова* (заг. карэктарскага аддзела), *І.І.Касабуцкая, В.А.Кульбіцкая*

Камп'ютэрны набор: *Р.У.Дзявочка, Н.М.Зубкевіч, І.А.Новікава, Н.У.Мітраховіч, Т.М.Саленік, Н.А.Стасевіч*

Камп'ютэрная вёрстка: *А.Л.Шалканаўцава*

У томе змешчаны фотаздымкі А.П.Дрыбаса, А.В.Кляшчука, А.Ф.Крэнця, з архіва БелЭн, БелТА, Дзяржаўнага геральдычнага рэгістра Рэспублікі Беларусь, Музея старажытнабеларускай культуры Інстытута мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору Нацыянальнай АН Беларусі, Бел НДІП горадабудаўніцтва, раённых выканаўчых камітэтаў Гомельскай вобласці.

При падрыхтоўцы кнігі ў зборы статыстычных матэрыялаў прымалі ўдзел Г.І.Дулеба, В.М.Князева, В.М.Удальцоў; у напісанні асобных нарысаў па гісторыі населеных пунктаў Гомельскай вобласці ўдзельнічалі У.У.Бянько (Нараўлянскі, Рагачоўскі, Рэчыцкі раёны), В.М.Князева (Лоеўскі, Хойніцкі раёны).

Падпісана да друку 30.06.2005. Фармат 84×108 $^1/_{16}$. Гарнітура Пецярбург. Папера афсетная. Друк афсетны. Ум. друк. арк. 54,6. Ум. фарб.-адб. 219,24. Ул.-выд. арк. 47,84. Тыраж 4000. Заказ 87.

Рэспубліканскае унітарнае прадпрыемства «Выдавецтва «Беларуская Энцыклапедыя» імя Петруся Броўкі» Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь. ЛИ №02330/0056830 ад 02.03.2004 г. Рэспубліка Беларусь. 220072, г. Мінск, вул. Акадэмічная, 15а.

Надрукавана з арыгінала-макета заказчыка на Рэспубліканскім унітарным прадпрыемстве «Мінская фабрыка каляровага друку». Рэспубліка Беларусь. 220024, г. Мінск, вул. Каржанеўскага, 20.

ISBN 985-11-0330-6

9 789851 103030